Выдаецца пры дапамозе
Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк)
і Беларускага дабрачыннага фонду (Лёндан)

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных — у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) да 24-га (1999) тому ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. Ад 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёрска-менскі праект.

ISBN 979-8-218-02551-9

ADDRESS
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166—34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A
zapisybinim@gmail.com

## ЗЬМЕСТ

**In memoriam**

Янка Запруднік (1926—2022) . . . . . . . . . . . 9

**Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны**

***Інтэрвію***

Айцец Сяргей Стасевіч: “У бібліятэцы мне быў найбольш цікавы айцец Аляксандар” . . . . . . . . . . . . . . . . . 12

Пра Скарынаўскую бібліятэку раней, цяпер і ў пэрспэктыве [Інтэрвію з удзельніцай Апякунскай рады др. Каралінай Мацкевіч] . . . . . . . . . . . . . . 19

***Эміграцыйны эпісталярый***

*Натальля ГАРДЗІЕНКА* Эпісталярны архіў айца Лява Гарошкі . . 32

Эпісталярная спадчына айца Лява Гарошкі . . . . . . . . . . . . . . . . . 44
— Язэп Гладкі
— Аляксандар Калодка
— Уладзімер Клішэвіч
— Часлаў Сіповіч
— Уладзімер Цьвірка
— Мікола Цэлеш
— Янка Чарнэцкі
— Айцец Францішак Чарняўскі

Айчынныя “пэрсыдзкія” лісты [Язэп Буко й Яўхім Скурат] . . . . . . . . . . . 136

Ліставаньне Антона Аніськовіча й а. Часлава Сіповіча (Шанхай — Лёндан, 1947) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 160

Юзэфа Брэчка-Найдзюк . . . . . . . . . . . . . 170

Беларус у Новай Зэляндыі . . . . . . . . . . . 189

Гэта было ў Мадрыдзе . . . . . . . . . . . . . . . 209

Маскі Сяргея Хмары . . . . . . . . . . . . . . . 243

Quo vadis? [Аляксандар Надсан і а. Леў Гарошка] . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 264

Ліставаньне Антона Адамовіча з Чаславам Сіповічам . . . . . . . . . . . . . . 280

Лісты як дадаткі да біяграмы: Кадушка-Амор-Спаліч . . . . . . . . . . . . . . 294

"Я — бяздомны, але ідэйны беларускі сабака" [Кастусь Акула й Юзэфа Найдзюк] . . . . . . . . . . . . . . . . 322

Беларускія гаргульлі й хімэры . . . . . . . . 326

**Тэма нумару: Царква на эміграцыі**

*Аляксандар СЬЛЕСАРАЎ* Гісторыя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў 1944—1991 гг. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 335

*Юры ГРЫБОЎСКІ* Беларусы й Польская праваслаўная царква на чужыне падчас Другой сусьветнай вайны і ў паваенны час . . . . 426

*Аляксандар СЬЛЕСАРАЎ* Пытаньне арганізацыі рэлігійнага жыцьця праваслаўных беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў 1949 г. . . . . . . . . . 469

*Натальля ГАРДЗІЕНКА* Беларускае праваслаўнае жыровіцкае брацтва на чужыне й ягоныя выданьні . . . . . . . . . . . . . . 476

*Аляксандар СЬЛЕСАРАЎ* Рэлігійная дзейнасьць беларускіх патрыярхаў Пятра Журавецкага і Ўладзіслава Рыжага-Рыскага . . . . . . . . 484

Лісты архімандрыта Язэпа (Строка) да рэдактара газэты "Беларускі Голас" Сяргея Хмары (1969—1981 гг.) . . . . . . . . 499

*Надзея ДРОБІНА* Уладыка Мікалай (Мацукевіч) . . . . . . . . 510

## Архівы

*Натальля ГАРДЗІЕНКА,*
*Лявон ЮРЭВІЧ* Архіў Антона Адамовіча . . . . . . . . . . . . . . 513
— *“Письма националисту Адамовичу от националистов из Берлина, Праги и Вильно”*
— Унікальныя сьведчаньні гісторыі

*Лявон ЮРЭВІЧ* Паэт Рыгор Данілеўскі . . . . . . . . . . . . . . . 544

Герасім Галожын: Беларус адкрывае для сябе Канаду . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 551

Лісты Ўладзімера Сядуры да Лява Акіншэвіча . . . . . . . . . . . . . . 571

Невялічкі ўрок гісторыі ад Вітаўта Кіпеля . . . . . . . . . . . . . . . . . . 579

## Публікацыі

*Вольга ЗУБКО* Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславаччыне: “Залатыя 1920-я” й навукова-тэхнічны прагрэс . . . . . . . . . 580

*Юры ГРЫБОЎСКІ* Беларусы Латвіі ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму Карліса Улманіса (1934—1940 гг.) . . . . . 589

*Лявон ЮРЭВІЧ* Колькі слоў пра палітру й вагу “Лістоў у Рэдакцыю” . . . . . . . . . . . 622

*Натальля ГАРДЗІЕНКА,*
*Лявон ЮРЭВІЧ* 1956 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 629

*Генадзь САГАНОВІЧ* Вяртаньне да гарвардзкай кнігі пра Беларусь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 656

*Лявон ЮРЭВІЧ,*
*Натальля ГАРДЗІЕНКА* Леанід Галяк . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 672

*Лявон ЮРЭВІЧ* Уладзімер Караткевіч і Ўошынгтан Ірвінг . . . . . . . . . . . . . . . . 686

*Лявон ЮРЭВІЧ* Mortui vivos docent . . . 693

*Лявон ЮРЭВІЧ* Разьвітаньне зь Сярэднявеччам . . . 696

**Успаміны**

Успаміны Міколы Шылы . . . 699

*Вітаўт КІПЕЛЬ* Добра памятнае . . . 703

*Вінцэнт СЬПІЧОНАК* Мая аўтабіяграфія . . . 717

**Беларусіка**

*Віталь ВОРАНАЎ* “Весяліла ты мяне на чужой старане”: Беларуская дуда на эміграцыі . . . 737

*Лявон ЮРЭВІЧ* Алесь Гарун у памяці й чыннасьці паваеннае эміграцыі . . . 745

*Лявон ЮРЭВІЧ* Якуб Колас вачыма эмігрантаў . . . 753
— *Станіслаў Станкевіч*. “Сымон Музыка” Якуба Коласа
— Аб прычыне сьмерці Якуба Коласа
— Нэкралёг. Якуб Колас

**Музэй**

*Сяргей ХАРЭЎСКІ* Раньнія фота Яна Булгака . . . 767

**Будучая кніга**

*Станіслаў СТАНКЕВІЧ* На 70-годзьдзе Антона Адамовіча . . . 773

*Антон АДАМОВІЧ* Беларусь у змаганьні . . . 777

Анталёгія . . . 787

**Угодкі**

Вітаўту Кіпелю — 95 . . . 795

Павел Шэйн.
Да 120-х угодкаў сьмерці . . . 796
— Марка Пякельны [Казка]

| | | |
|---|---|---|
| | Да 130-годзьдзя Язэпа Гладкага, этнографа й фальклярыста | 810 |
| | — Рыцар Дабравід [Казка паводле народнай тэматыкі] | |
| *Аўген КАЛУБОВІЧ* | Да 110-годзьдзя Аўгена Калубовіча: “Выпісы з крывіцкае літаратуры” | 820 |
| | — Музыка й чэрці [Казка] | |
| *Вітаўт ТУМАШ* | Нашыя казкі [Да 110-х угодкаў Вітаўта Тумаша] | 824 |
| *Наста КАХАН* | *“З зычэньнямі няўхільнай настойлівасьці ў намаганьнях, ЗС”* [Да 55-годзьдзя Зьмітра Саўкі] | 830 |

**Вакол кнігі**

| | |
|---|---|
| Вінцэнт Гадлеўскі | 836 |
| — *Уладзімер Брылеўскі*. Мае сустрэчы з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім | |
| Да гісторыі “Гісторыі...” | 842 |

**Хроніка**

Удзячнасьць БІНіМу Ганьне Севярынец ........ 853

**Кніжная паліца**

| | | |
|---|---|---|
| *Яна СЛАВІНА* | Кніжны агляд | 854 |
| *Аляксандар ГОРНЫ, Кірыл АНАНЬКА* | Бэстсэлер амэрыканскай беларусістыкі | 868 |
| *Юры ГРЫБОЎСКІ* | Вітаўт Тумаш “Выбранае” | 872 |
| *Віялета КАВАЛЁВА* | Чалавек, які ўмеў пісаць гімны й троліць уладу | 876 |
| *Натальля ГАРДЗІЕНКА* | Кніга пра беларускія пахаваньні ў Чэхіі й Славаччыне | 884 |
| *У. П.* | “Выбранае” Лява Акіншэвіча | 887 |

Зьвесткі пра аўтараў . . . . . . . . . . . . . . . . . 891
Summary . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 896

**Кніга ў “Запісах”**

*Вольга ФУРС* “Слоўнік сваяцтва” мітрапаліта Мікалая . . . . . . . . . . . . . . 903[1]
*Мікалай (МАЦУКЕВІЧ)* Слоўнік сваяцтва . . . . . . . . . . . . . . . . . . 907[5]

# ДР. ЯНКА ЗАПРУДНІК (1926—2022)

26 траўня 2022 г. адышоў гісторык, журналіст, грамадзкі дзеяч, шматгадовы сябра Беларускага інстытуту навукі й мастацтва др. Янка Запруднік.

Сяргей Вільчыцкі (гэтае імя меў будучы гісторык ад нараджэньня) нарадзіўся 9 жніўня 1926 г. у мястэчку Мір (цяпер Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.). Там жа скончыў пачатковую школу. Пасьля, у часе Другой сусьветнай вайны, вучыўся ў прагімназіі й гандлёвай школе



ў Баранавічах. Быў сябрам Саюзу беларускай моладзі. У часе выезду ў 1944 г. зь Беларусі запісаўся ў дапаможную службу Люфтвафэ й апынуўся ў Нямеччыне. Незадоўга да капітуляцыі быў пераведзены ў 30-ю грэнадэрскую дывізію СС (1-ю беларускую), разам зь якой у Баварыі здаўся ў палон да амэрыканцаў.

Пасьля заканчэньня вайны Янка Запруднік памяняў імя й прозьвішча ды апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе й атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім скаўтынгу, пачаў займацца літаратурнай творчасьцю. У 1948 г. разам зь сябрамі з знакамітай "Дванаццаткі" выехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях і адначасова ўдзельнічаў у выданьні моладзевага часопісу "Наперад!". Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Удзельнічаў у Беларускім хрысьціянскім акадэмічным аб'яднаньні "Жыцьцё".

У 1950 г. Янка Запруднік выехаў на навучаньне ў Бэльгію, дзе ў 1954 г. скончыў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту й адразу скіраваўся ў Нямеччыну. У 1954—1957 гг. ён быў супрацоўнікам беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне, а таксама ўдзельнічаў у выданьні газэты "Бацькаўшчына".

У 1957 г. Янка Запруднік выехаў у ЗША, дзе да 1991 г. працаваў у нью-ёрскай беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ("Свабода"). У 1969 г. у Калюмбійскім унівэрсытэце (Нью-Ёрк) абараніў доктарскую дысэртацыю "Палітычная барацьба за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906—1917)". У 1967—1975 гг. чытаў курс гісторыі Беларусі ў Кўінз-каледжы Нью-Ёрскага ўнівэрсытэту, а таксама Калюмбійскім унівэрсытэце. У 1980—1995 гг. быў галоўным рэдактарам газэты "Беларус".

Янка Запруднік пісаў пад псэўданімамі й крыптанімамі: *Я. З.*, *З.*, *Сяргей Ясень*, *С. Ясень*, *С. Я.*, *Аркадзь Будзіч*, *А. Б.*, *Арсень Загорны*, *А. З.*, *Рыгор (Ягор) Ліцьвін*, *Р. Л.*, *Т. Смаленскі*, *М. Беластоцкі*. Ён аўтар некалькіх дзясяткаў кніг і брашураў і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Сярод іншага, выдаў кнігі: "Паўстаньне на Беларусі 1863 года: «Мужыцкая Праўда» і «Лісты з-пад шыбеніцы» = The 1863 uprising in Byelorussia: «Peasants' Truth» and «Letters from beneath the Gallows» / Тэксты і камэнтары" (разам з Т. Бэрдам, 1980), "Belarus: At Crossroads in history" (1993; беларуская версія "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях", 1996), "Historical dictionary of Belarus" (1998; разам з В. Сіліцкім, 2007), "Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць аб дванаццаці беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бэльгіі (1946—1957 гг.)" (2002), "Беларускія фэстывалі і выстаўкі ў Нью Джэрсі: палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011 гг.)" (2013), "Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952—1959 гг.: Універсітэт

у Бельгіі, газета «Бацькаўшчына», радыё Вызваленне/Свабода ў Мюнхене і Нью-Ёрку" (2015), "Берагу майго зарніцы: паэзія (1946—2017): дзённік (1949—1954)" (2017).

Др. Янка Запруднік уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, прэзыдыюм Рады БНР, управу Беларускай фундацыі Крачэўскага. Быў прыхаджанінам беларускіх праваслаўных парафіяў у Нью-Джэрзі. Ён багата дбаў пра архівы: уласныя й іншых эміграцыйных дзеячаў. Частку скіроўваў у Беларусь, у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва, іншыя — уладкоўваў у ЗША: у Беларускай фундацыі Крачэўскага, у Александрыйскай бібліятэцы Ратгерскага ўнівэрсытэту.

З пачатку 1990-х Янка Запруднік стаў наладжваць сувязі зь Беларусьсю, часта яе наведваў. Ён быў адным з заснавальнікаў і сябрам Вялікай рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Разам з жонкай Надзеяй шмат фінансава падтрымоўваў цэрквы, установы й арганізацыі, а таксама канкрэтных асобаў у Беларусі. Янка Запруднік перадаў у Беларускі дзяржаўны музэй Янкі Купалы адзін з аўтографаў клясыка, што захоўваліся ў БІНіМе.

Сябрам Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Янка Запруднік стаў у лютым 1955 г. Ён актыўна ўдзельнічаў у ладжаных Інстытутам падзеях, канфэрэнцыях, публікаваў свае артыкулы на старонках альманаху "Запісы БІНіМ", а кнігі — у інстытуцкай сэрыі. Янка Запруднік уваходзіў ва Ўправу, падтрымоўваў і сам ініцыяваў розныя праекты пад шыльдаю БІНіМу. Інтэлігентны, дыпляматычны й ахвярны, Янка Запруднік шчыра дзяліўся сваімі ведамі й досьведам з маладымі дасьледнікамі.

Рэдакцыя "Запісаў" выказвае шчырыя спачуваньні жонцы — спадарыні Надзеі Запруднік, а таксама дачкам спадара Янкі — Ніне й Веры.

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***
*Інтэрвію*

# АЙЦЕЦ СЯРГЕЙ СТАСЕВІЧ: "У БІБЛІЯТЭЦЫ МНЕ БЫЎ НАЙБОЛЬШ ЦІКАВЫ САМ АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР"

*Яшчэ пры жыцьці айца Аляксандра Надсана ў Беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры ў Паўночным Фінчлі зьявіўся новы гаспадар — малады сьвятар, айцец Сяргей Стасевіч. Ён стаў спадкаемцам і ў справах Місіі, і ў апякунстве Скарынаўскай бібліятэкай. Пад кіраўніцтвам і наглядам айца Сяргея адбываюцца рамонты ў будынках беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру. Зь ягонай ініцыятывы была пабудаваная асобная драўляная царква Сьв. Кірылы Тураўскага каля Марыянскага дому (Marian House). Працягвае сваю дзейнасьць Скарынаўская бібліятэка, якая ў траўні 2021 году адсьвяткавала сваё 50-годзьдзе.*

*Ад сыходу айца Аляксандра прайшло сем гадоў. Спатканьне з новым гаспадаром "беларускай вёскі" ў Паўночным Фінчлі стала добрай нагодай паразмаўляць пра бібліятэку, праблемы й пэрспэктывы яе існаваньня.*



Станіслаў Шушкевіч і айцец Сяргей Стасевіч
у Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны. 2018 г.

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> Для пачатку распавядзіце, калі ласка, як і чаму Вы апынуліся ў Лёндане.*

<u>Айцец Сяргей Стасевіч:</u> У 1999 годзе я скончыў БДУ й як усе маладыя людзі думаў пра сваю будучыню. Паколькі я быў пабожным, хадзіў у царкву й ужо быў знаёмы з айцом Аляксандрам Надсанам, то ён прапанаваў мне прыехаць на навуку ў Лёндан, як і іншым маладым людзям раней: некалькім хлапцам і дзяўчатам зь ліку актыўных грэка-каталікоў. Я быў, бадай, апошнім з тых, каго ён запрасіў сюды. У 1999 годзе прыехаў сюды з мэтаю вывучыць мову, каб далей магчы вывучаць філязофію, багаслоўе, нешта ў пэрспэктыве падрыхтоўкі да сьвятарства. Хацеў вучыцца далей, каб стаць грэка-каталіцкім сьвятаром, бо ўважаў, што ў мяне ёсьць пакліканьне.

Ад пачатку я вучыў толькі мову. Вельмі хутка я зразумеў, што мяне не цікавіць той Місіянэрскі інстытут Лёндану, дзе вучыліся ўсе нашыя студэнты. Я ня бачыў, каб студыі ў ім маглі належным чынам падрыхтаваць мяне да будучага сьвятарства ў Грэка-каталіцкай царкве. Там навучаліся сьвецкія асобы й законьнікі зь місійных кангрэгацыяў Лацінскага касьцёлу. Агулам мне тады не спадабалася ў Ангельшчыне, не спадабалася жыць у асяродзьдзі айцовых студэнтаў. Былі й канфлікты, былі незразумелыя для мяне правілы супольнага жыцьця. Так, маліліся разам у царкве, але па-за гэтым у нас было даволі дзіўнае суіснаваньне. Мэты ў кожнага з нас былі свае.

З часам мы з айцом вырашылі, што мне трэба ехаць у Рым. Ён сказаў, што напіша ў Кангрэгацыю ўсходніх цэркваў, каб мне далі стыпэндыю й я змог стаць сэмінарыстам у Папскім грэцкім калегіюме, які скончыў ён сам. У выніку ў жніўні 2000 году я ўжо быў у Рыме. Там былі зусім іншыя ўмовы, іншая мова зносінаў. Я запісаўся адразу ж на англамоўнае аддзяленьне ўнівэрсытэту Тамаша Аквінскага “Ангелікум”, дзе вывучаў філязофію й тэалёгію па-ангельску. Так што мова, якую вучыў тут, у Лёндане, мне вельмі прыдалася.

*<u>Н. Г.</u>: Калі Вы першы раз сюды прыехалі, што ўяўляла зь сябе Скарынаўская бібліятэка?*

<u>Айцец С.</u>: Я ня маю нейкіх адмысловых успамінаў пра бібліятэку, бо гэта было як бы адной беларускай вёскай. Тое быў дом, напоўнены кнігамі, у якім жыў стары й мудры сьвятар. Паколькі ў іншых не ставала на тое часу й натхненьня, у адрозьненьне ад мяне, я заўсёды валянтэрыў у якасьці прыбіральшчыка, і пыласосіў, і мыў падлогу ў трох будынках. Прыбіраўся ў бібліятэцы, чытаў тыя кнігі, што мяне цікавілі.

То зь першага побыту памятаю, што трэба было ўвесь час дапамагаць, прыбіраць, парадкаваць тое, што прывозілася зь Беларусі: кнігі, пэрыёдыкі. Мы іх разьбіралі. Часта прыходзіла шмат асобнікаў тых самых кніг ад розных ахвярадаўцаў.

<u>Н. Г.</u>: *А калі Вы вярнуліся ў Лёндан на сталае жыцьцё?*

<u>Айцец С.</u>: Калі я скончыў сваё навучаньне ў Рыме ў 2005 годзе, айцец Надсан пасьля ўсялякіх пэрыпэтый запрасіў мяне сюды да сябе. У студзені 2006 году я ўжо быў тут. Айцец сказаў: *“Будзеш мне тут дапамагаць. Я ўжо стары, то будзеш неўзабаве сам тут усё рабіць”*. Даволі хутка мяне высьвяцілі на дыякана, празь некалькі месяцаў. А пры канцы году я ўжо быў сьвятаром.

<u>Н. Г.</u>: *І з таго часу Вы дапамагалі айцу зь бібліятэкай і ўсім іншым, найперш зь Місіяй.*

<u>Айцец С.</u>: Так, дапамагаў з усім, з чым толькі можна, з побытавымі справамі, рамонтамі. Фактычна, я займаўся ўсім, а ён толькі намінальна кіраваў. Асабліва ў апошнія гады, калі айцец састарэў і яго ўжо мала цікавіў побыт. Наконт бібліятэкі ў мяне сваіх ідэяў не было. Айцец занядбаў яе як інстытуцыю, перастаў рабіць рахункі, дасылаць справаздачы ўладам, і яе пазбавілі статусу дабрачыннай установы. Толькі праз колькі гадоў адзін з апекуноў, Джым Дынглі, схамянуўся, што так быць ня можа, і мы змаглі гэта ўсё аднавіць. Атрымалася, што рахункі бібліятэкі былі наогул замарожаныя, і мы колькі часу аплочвалі яе патрэбы місійнымі грашыма. Безумоўна, айцу было складана самому. Ён ужо ня мог сам з усім спраўляцца й ня надта быў здольны да супрацы зь іншымі апекунамі бібліятэкі.

<u>Н. Г.</u>: *Айцец Аляксандр расказваў пра нейкія цікавосткі бібліятэчныя, тое, што ён лічыў самым каштоўным?*

<u>Айцец С.</u>: Ён рэгулярна праводзіў экскурсіі. І заўсёды ўсім да крадзяжу паказваў Біблію Скарыны. Потым ён амаль перастаў рабіць экскурсіі. Быў час, калі ён нічога нікому не хацеў паказваць або даволі стрымана гэта рабіў, без энтузіязму. Напэўна, калі адчыняў шафу, заўсёды ўспамінаў тую скрадзеную Біблію. Але калі паказваў, то заўсёды гэта быў Тафсір, які сам добра вывучаў, Статут ВКЛ — для яго гэта былі самыя важныя кнігі, разам з скрадзенай Бібліяй. Гэта былі ўлюбёныя кнігі, якія ён паказваў усім.

<u>Н. Г.</u>: *А што наконт архіваў? Айцец распавядаў пра іх?*

<u>Айцец С.</u>: Я атрымаў уяўленьне пра зьмест нашых архіваў, калі айцец пачаў пісаць свае кнігі-дасьледаваньні пра біскупа Сіповіча, таямніцу кальве Магдалены Радзівіл, Друйскіх марыянаў. Ён бясконца пра гэта гаварыў, ганарыўся, што ўсе дакумэнты ў нас, а бязь іх немагчыма даведацца праўду. Пасьля сьмерці Гая Пікарды я складаў ягоны архіў у скрыні, а калі памёр гісторык Паўла Урбан у Мюнхэне, таксама езьдзіў забіраць ягоны архіў на машыне. Цяпер ён тут.

<u>Н. Г.</u>: *А Вам самому што было найбольш цікава ў бібліятэцы?*

<u>Айцец С.</u>: Ён сам быў мне цікавы — айцец Надсан. Ён быў нібы жывым экспанатам нашага музэю, часткай бібліятэкі, у якой ён ведаў кожную кнігу. Пакуль ён жыў, я найбольш цікавіўся менавіта

ім. Мы размаўлялі, ён заўсёды нешта распавядаў. Ня толькі пра тое, як паўстаў і жыў наш цэнтар, пра іншых айцоў і братоў, але пра сваё дзяцінства, юнацтва. Аднак пра Другую сусьветную вайну ён не хацеў успамінаць. Нам цудам удалося нарэшце яго разгаварыць, і ў фільме Антона Цялежнікава “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” вытворчасьці “Белсату” айцец якраз успамінае пра вайну. Гэта было неверагодна, бо ён не любіў, тым больш на камэру, згадваць пра вайну. Ён казаў, што гэта надта малы прамежак у ягоным багатым на падзеі жыцьці сьвятара.

*Н. Г.: Калі айцец Аляксандар адышоў, Вы сталі ягоным спадкаемцам. Якія былі ў Вас думкі пра тое, што павінна сабою ўяўляць бібліятэка?*

Айцец С.: Паколькі мы аднавілі яе дабрачынны статус, я бачыў і бачу задачу далей захаваць гэта ўсё. У айца Аляксандра была такая ж ідэя — захаваць тут усё назьбіранае, назапашанае цэлым пакаленьнем дыяспары. Мяне заўсёды зьдзіўляла адвага, што калісьці сьвятары-беларусы наважыліся гэта ўсё стварыць, бо ніякіх аб’ектыўных падставаў для гэтага не было. Ні вялікай супольнасьці тут не было, ні падтрымкі асаблівай ад яе фінансавай, і Беларусь была на той час не самастойнай краінай. Але быў вялікі энтузіязм і прэтэнзія на стварэньне менавіта нацыянальнай бібліятэкі, каб набываць усялякія рэдкія й знакавыя рэчы, купляць на аўкцыёнах. І гэта пры тым, што іх тут было толькі некалькі чалавек, сьвятароў-заснавальнікаў. Дык вось гэтая захаваўчая функцыя для мяне самога засталася галоўнай. Я даю магчымасьць іншым рабіць тое, на што яны здольныя болей за мяне. Я люблю кнігі, зьбіраю й чытаю іх, але ня маю схільнасьцяў да працы ў бібліятэках і архівах. Таму я займаюся пераважна гаспадарчымі справамі, рамонтамі й г. д.

*Н. Г.: Але Вы ўваходзіце ў бібліятэчную раду?*

Айцец С.: Так. Сёньня ў яе ўваходзяць, акрамя мяне, Павал Шаўцоў, Караліна Мацкевіч, Яраслаў Крывой, айцец Ігар Лабацэвіч і Алена Шушкевіч. Рада зьбіраецца прыкладна раз на месяц і прымае ўсе асноўныя рашэньні, зьвязаныя зь бібліятэкай. Прымаюцца калегіяльна, большасьцю галасоў.

*Н. Г.: Ведаю, што ў бібліятэцы захоўваюцца розныя не-беларускія дакумэнты. Раскажыце, калі ласка, пра іх.*

Айцец С.: Айцец Аляксандар Надсан неяк усё згадваў пра аднаго жыхара тутэйшага беларускага асяродку ў Паўночным Фінчлі — старога расейца Аляксея Цытовіча. Ад яго тут засталіся некалькі рэчаў: ікона Міколы Цудатворца й дзіўная скульптура з гіпсу — Багародзіца, якая вачыма нібы сочыць за табою. Той Цытовіч быў мараком, марскім афіцэрам, пасьля рэвалюцыі зь “белымі” апынуўся ў эміграцыі і ў нейкі час прыбіўся да мясцовага асяродку, жыў і маліўся тут — стаў каталіком

усходняга абраду. Свае грошы ён пакінуў Зграмаджэньню марыянаў, што айца Аляксандра неяк абурыла, бо беларусам нічога не пакінуў. Прычым не засталося тут і ягонага архіву. Але нечакана мне напісалі менавіта пра яго, цікавіліся ім і ягоным ліставаньнем з турэцкай скульптаркай расейскага паходжаньня Іраідай Бары — прадстаўніцай Срэбнага веку. Тая скульптура, якую я згадваў, якраз ёю створаная, як аказалася. Гэтая скульптарка з Цытовічам цягам доўгіх гадоў ліставалася, гэтыя лісты былі апублікаваныя (яны захаваліся ў ейным архіве ў Амэрыцы). Але, на жаль, тут мы ніякіх дакумэнтаў таго Цытовіча ня маем. Прынамсі пакуль не знайшлі.

Асобная тэма — архіў брытанскай фундацыі, якая займалася дапамогаю каталікам на Ўсходзе, асабліва кліру, што апынуўся бяз сродкаў для існаваньня ў Савецкай Расеі. Яго заснаваў іншы расейскі каталік — граф Георгі Бэнігсэн. Цікавыя дакумэнты (справаздачы, як зьбіралі сродкі, грашовыя квітанцыі, ліставаньне са сьвятарамі, у тым ліку ўсходняга абраду). У нашай новай царкве цяпер вісяць некаторыя абразы, што былі намаляваныя ягонай жонкай Вольгай Бэнігсэн у 1925 годзе й якія былі пры мне адрэстаўраваныя. Яна пахаваная на могілках Гайгейт (*Highgate*), тых, дзе й Карл Маркс. Граф Бэнігсэн быў адным з заснавальнікаў Таварыства Яна Златавуснага, якое пазьней біскуп Сіповіч аднавіў. Яно існуе й сёньня. Біскуп Сіповіч і айцец Аляксандар Надсан былі сябрамі гэтага таварыства. Ягоная мэта — знаёміць людзей Захаду з усходнім хрысьціянствам. Арганізоўваліся літургіі, чыталіся лекцыі з мэтай пашыраць веды пра ўсходняе хрысьціянства. Дакумэнты гэтага таварыства з часу ягоных пачаткаў таксама захоўваюцца ў архіве Бэнігсэна. Маецца яшчэ архіў сэрбскай каталічкі Юліі Крысьціч, яна была таксама ў Таварыстве Яна Златавуснага.

Зь нечаканага — у нас ёсьць калекцыя срэбных мэдалёў, прысьвечаных амэрыканскай касманаўтыцы. Адзін беларус з Амэрыкі быў калекцыянэрам-нумізматам і перадаў іх айцу Надсану.

Гэта тое паасобнае зь не-беларускага, што я бачыў. Трэба капаць далей, каб даведацца, якія яшчэ скарбы ёсьць у архівах бібліятэкі. Мы далёка ня ўсё ведаем і з таго, што тут захоўваецца ўласна беларускае. Мо раптам тут і арыгіналы ўстаўных граматаў БНР знойдуцца? Прыкладам, маем арыгінальныя справаздачы аб перадачы Крыжа Эўфрасіньні Полацкай у Магілёў. Яны былі ў валізцы дакумэнтаў, некалі вывезеных з акупаванага Менску.

*Н. Г.: А ніколі не вялося ніякіх рэестраў-сьпісаў, хто, калі, што перадаў?*

Айцец С.: Зьвесткі пра гэта могуць быць пры тым, што перадавалася — у саміх скрынях (з апісаньнем што, калі й кім). Але сыстэматычнага ўліку не было.

*Н. Г.: Бачыла, што Вы ўпарадкавалі калекцыю карцінаў, што захоўваліся ў Скарынаўцы, і яна папаўняецца.*

Айцец С.: Так. Вось тут, у былой капліцы, цяпер галерэя мастакоў дыяспары. Мастакі, прадстаўленыя ў ёй, — пераважна беларускія эмігранты: Міхась Саўка-Міхальскі, Віктар Жаўняровіч, Уладзімер Шыманец, Сьвецік Каржанеўскі, Пётра Міраповіч. Дзьве новыя карціны Міраповіча былі раней у зборах амэрыканскіх беларусаў і нядаўна дадаліся, дзякуючы айцу Ігару Лабацэвічу. Калі Вячка Целеш працаваў над зборнікам, прысьвечаным беларускім мастакам у Латвіі, то зьвяртаўся таксама, каб атрымаць здымкі нашых карцінаў Пётры Міраповіча.

*Н. Г.: З самага пачатку маёй працы тут з архівамі памятаю, што айцец Аляксандар сам больш-менш арыентаваўся, дзе й што ляжыць. Але яно ўсё было ў раскіданым выглядзе, у тым ліку і ў ягоным пакоі. Хто займаўся парадкаваньнем усяго гэтага пасьля сыходу айца Аляксандра?*

Айцец С.: Айцец Ігар Лабацэвіч працаваў разам са мною. Ён неяк прыехаў пасьля сьмерці айца Аляксандра дзён на дзесяць, і мы тады першасна ўпарадкавалі паперы, агульнае апісаньне зрабілі, расклалі па пакоях. Але гэта далёка ня ўсё. Яшчэ недзе траціна матэрыялаў няўлічаная ў нашым цяперашнім апісаньні. Архіў кампазытара Міколы Куліковіча, прыкладам, ня быў пазначаны. Між іншым, ім шмат цікавіліся ў Беларусі. Але каб працаваць зь ім, трэба ехаць сюды.

*Н. Г.: Як часта да вас прыяжджаюць дасьледнікі?*

Айцец С.: Ня вельмі часта й ня толькі зь Беларусі. На маёй памяці былі розныя. Былі з Расеі й дасьледнікі-беларусісты з замежных унівэрсытэтаў. Была, прыкладам, дасьледніца Марыя Іванова, якая жыве й працуе ў Канадзе, яна вывучала старадрукі й кніжную культуру эпохі Рэнэсансу. Асабліва цікавілася працамі айца Аляксандра па гэтай тэме. У нас доўга жыў і працаваў прафэсар Андрэй Масквін з Варшавы. Было колькі дасьледнікаў зь Беларусі, у тым ліку прафэсар Уладзімер Снапкоўскі, быў вельмі цікавы расейскі гісторык Ігар Барынаў. Я б сказаў, суадносіны дасьледнікаў зь Беларусі й зь іншых краінаў недзе палова на палову. Канечне, магло б быць і болей. Неяк цэлая дэлегацыя прыяжджала з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, каб вывучаць нашыя кнігазборы. І ад таго часу пачалося супрацоўніцтва, якое спрыяе стварэньню нашага ўласнага кніжнага каталёгу.

*Н. Г.: Бібліятэка заўсёды была часткай беларускага асяродку ў Паўночным Лёндане — беларускай вёскі ў Фінчлі. Вас, відавочна, найбольш цікавіць рэлігійная складовая гэтага асяродку, яна для Вас асноўная. На Вашую думку, ці можа бібліятэка неяк дапамагчы Вам у Вашай дзейнасьці? Наогул, ці дапамагае Вам тое, што яна тут ёсьць?*

Айцец С.: З тым, што я раблю ў царкве, непасрэднай сувязі ў бібліятэкі няма. Хіба што й тое, і тое — праявы беларускага жыцьця ў Ангельшчыне. Ну і ўсе сябры нашай бібліятэчнай рады зьяўляюцца вернікамі нашай царквы. Наведвальнікі звонку, як правіла, ня надта цікавяцца рэлігіяй. Таму царква й бібліятэка існуюць як паралельныя інстытуцыі. Канечне, калі мы камусьці адчыняем і паказваем бібліятэку, дык заўсёды запрашаем наведаць таксама й царкву праз дарогу. І наадварот. Рэдка хто адмаўляецца.

*Н. Г.: Калі ня браць час пандэміі, наколькі наогул мясцовыя беларусы бібліятэкай цікавіліся й цікавяцца?*

Айцец С.: Раней амаль не цікавіліся, пасьля ж народнага ўздыму 2020 году цікавасьць павялічылася, але не істотна.

*Н. Г.: Ці рэальна нешта зрабіць, каб больш цікавіліся?*

Айцец С.: Я ня ведаю, як яшчэ можна плённа зацікавіць беларусаў дыяспары тым, што мы маем, акрамя як сказаўшы: прыходзьце, паглядзіце на свае вочы, памацайце. Ня будзьце больш недаверкамі! Так і зь бібліятэкай, і з царквой, і зь беларушчынай. Павінна быць у людзей саміх хоць бы мінімальная цікавасьць, каб зрабіць першы крок. Хто гэты крок зрабіў, то яны ў нас засталіся — некалькі чалавек з тысячаў нашых суайчыньнікаў, якія тут жывуць. Сотні нашых людзей выходзілі на дэманстрацыі салідарнасьці ў Лёндане. Калі б з сотні хоць некалькі дзясяткаў прыйшлі ў бібліятэку і ў царкву, зьмены былі б значнымі. Мы спрабуем прыцягваць нашых людзей. Прыводзілі цэлымі групамі й запрашалі прыходзіць асабіста пазьней. Але рэгулярна хадзіць да нас пераважна ня хочуць. Не, безумоўна, ёсьць тыя, хто дапамагаў прыбіраць сад, будынкі й на талаку зьбіраўся, і я ім удзячны. Але яны нашай бібліятэкай і царквой, як правіла, глыбока не цікавяцца. Сучасныя людзі ў хатах часта ня маюць кніжных паліцаў і не чытаюць папяровых кніг, і гэта бачна. Калі просіш узяць беларускую кнігу на памяць, нават бясплатна не заўсёды хочуць яе браць. У нас багата дублетаў, і я спрабую іх раздаваць. Але й гэта, на жаль, не заўсёды спрацоўвае. Сэрца беларусаў Брытаніі зараз ня там, дзе наш скарб.

2021 г.

*Гутарыла Натальля Гардзіенка*

*Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны*
*Інтэрвію*

# ПРА СКАРЫНАЎСКУЮ БІБЛІЯТЭКУ РАНЕЙ, ЦЯПЕР І Ў ПЭРСПЭКТЫВЕ

## Інтэрвію зь сябрай Апякунскай рады др. Каралінай Мацкевіч

*Улетку юбілейнага для Бібліятэкі імя Ф. Скарыны 2021 году я мела магчымасьць амаль на два месяцы прыехаць у Лёндан, каб разабраць архіў айца Лява Гарошкі й зноў заглыбіцца ў таямніцы бібліятэчных архівасховаў. Гэта быў мой першы прыезд сюды пасьля сыходу айца Аляксандра Надсана, таму карцела паглядзець і зразумець, што цяпер уяўляе зь сябе Скарынаўка, чым яна жыве й якія мае пэрспэктывы. Ці не найважнейшай крыніцай інфармацыі пра гэта стала для мяне доўгагадовая ўдзельніца Апякунскай рады бібліятэкі др. Караліна Мацкевіч. Сёньня яна адзін з галоўных рухавікоў усяго, што адбываецца ў гэтай установе: ці то стварэньне каталёгу, ці то арганізацыя сустрэчаў, ці то правядзеньне экскурсіяў.*

*Нашая размова адбывалася пад канец маёй працы ў Скарынаўцы, калі ўжо багата было пабачана на ўласныя вочы, і калі мы правялі з Каралінай дзясяткі гадзінаў у супольных справах, размовах, вандроўках. Аднак мне вельмі хацелася мэтанакіравана распытаць пра яе дачыненьні зь бібліятэкай, падзеі пасьля сыходу айца й бачаньне будучыні. Караліна пачала свой аповед са згадак пра першы прыезд у Лёндан і знаёмства са Скарынаўкай ды ўсім тым беларускім асяродкам, які вакол яе склаўся.*

Караліна Мацкевіч: Прыехала я ў Лёндан з групай студэнтаў у 1992 годзе. Прыбылі мы з Ірынай Дубянецкай і Зьмітром Беленькім па запрашэньні айца Аляксандра Надсана. Усе мы меліся вывучаць тэалёгію ў Місіянэрскім інстытуце тут, у Паўночным Лёндане. Чаму запрашэньне было адрасаванае нам з Ірынай, сьвецкім кабетам? Мы выдавалі часопіс “Унія” з 1990 году, і айцец Аляксандар быў вельмі зацікаўлены й нават задзейнічаны ў гэтым выданьні, ён нам дапамагаў парадамі й матэрыяламі, і фінансава з друкам. Ён хацеў, каб мы працягвалі гэтую справу, і для гэтага нам была патрэбная тэалягічная адукацыя. І тады ён прапанаваў нам стыпэндыю на навучаньне, часткай якой было жыцьцё ў Беларускай каталіцкай місіі. У выніку мы прыехалі сюды, скончылі Місіянэрскі інстытут. Ірына пасьля працягвала

адукацыю ў Лёвэне, а я далей вучылася ў Парыжы, пайшла замуж, з мужам вярнулася ў Брытанію, дзе пасялілася настала.

Калі мы ехалі атрымоўваць заходнюю адукацыю, і ў нас, і ў айца была ідэя, што мы пасьля вернемся ў Беларусь і будзем працаваць там. Былі пляны арганізацыі вышэйшай каталіцкай адукацыі. Айцец Аляксандар нават рыхтаваў пад гэта спонсараў, сваіх былых знаёмых з Рыму. Але тое, што пачало адбывацца ў Беларусі, пакуль мы вучыліся, зрабіла рэалізацыю гэтай ідэі немагчымай. Мая прыватная сытуацыя таксама не спрыяла вяртаньню. Муж, зьезьдзіўшы ў Беларусь, зрабіў выснову, што жыць там ня зможа. Мне заняло даволі шмат часу, каб прывыкнуць да думкі, што буду жыць тут, бо ня бачыла сябе на Захадзе. Але я працягвала багаслоўскую адукацыю і ў выніку пачала выкладаць біблістыку пасьля абароны дысэртацыі. І ўвесь гэты час у мяне не спынялася сувязь зь беларускім цэнтрам у Паўночным Лёндане. Другая палова маёй сям'і — гэта Скарынаўка, ейны асяродак і ўсе, хто зь ім зьвязаны.

*Натальля Гардзіенка: А якое ўражаньне было ад Скарынаўкі, калі ты першы раз пабачыла яе?*

К. М.: Тут было вельмі ўтульна. Напачатку, канечне, культурны шок быў: і дамы выглядалі інačай, і інтэр'еры зусім іншыя. Але бібліятэка заўсёды ўспрымалася вельмі цёплай, утульнай, тут заўсёды была добрая атмасфэра. Я перасялілася пасьля ў 41-ы дом[1], і ён быў даволі занядбаны. І там, і ў іншых дамох місіі не было такога адчуваньня, як тут. Заўсёды падавалася, што будынак бібліятэкі мае душу. Я й дагэтуль так думаю, ты й сама гэта адчуваеш.

*Н. Г.: А як прыйшло ўсьведамленьне пра каштоўнасьць Скарынаўкі, таго, што тут захоўваецца?*

К. М.: Айцец ад самага пачатку настойваў, каб мы перадусім займаліся сваёй навукай. Таму, каб нам пачаць вывучаць калекцыю ці музэй, часу не было. Да мяне гэта прыйшло паступова, я назірала, як айцец паказвае калекцыю гасьцям, а гасьцей тут было заўсёды поўна з усяго сьвету. І, мусіць, для мяне нават больш, як сама калекцыя, уражаньне рабіў асяродак — людзі, якія сюды прыяжджалі, размовы, якія тут вяліся, застольлі айцовыя, на якіх ён прымаў усіх абсалютна. Ён заўсёды запрашаў за стол і пасьля нядзельнай службы, і калі прыходзіў нехта паглядзець бібліятэку. Гэтая айцовая гасьціннасьць спрыяла таму, што людзі сюды прыходзілі, навязваліся прыязныя адносіны, сяброўствы. Ну й, безумоўна, людзі з дыяспары прыяжджалі пастаянна. А такія людзі, як Гай Пікарда, як Вера Рыч… Немагчыма пераацаніць тое, што яны сюды прыносілі.

---

[1] Гэты дом раней таксама належаў Беларускай місіі, цяпер прададзены. — *Н. Г.*

Вера з самага пачатку ўзялася вучыць нас з Ірынай ангельскай мовы, бо мова ў нас была слабая. У яе быў цікавы падыход да гэтага — замест граматыкі яна адразу пачала нам выкладаць ангельскія прымаўкі. Гэта было для нас самае патрэбнае, на ейны погляд. Вера таксама была матэматыкам, як і айцец. Яна расклясыфікавала прымаўкі перад тым, як нам іх выкладаць, і казала, прыкладам: *"Сёньня будзем гаварыць пра колеры"*. І давала нам ангельскія прымаўкі, у якіх згадваюцца колеры. Так я назаўсёды запомніла прымаўку *once in a blue moon* (літаральна 'аднойчы на блакітную поўню'), што значыць 'надзвычай рэдка'. У Веры былі невычарпальная эрудыцыя й энтузіязм, і досьвед гэты быў для нас унікальным, хоць карысьці для нашай ангельскай мовы там было небагата.



Караліна Мацкевіч

Ну й Гай быў таксама неверагодны апавядальнік і жывая энцыклапэдыя. Ягоныя аповеды былі бясконцыя. Калі ты сядаў яго слухаць, то мусіў ведаць, што гэта надоўга. Але, безумоўна, мы ад Гая вельмі шмат пра што даведаліся — ад музыкі Куліковіча да ангельскіх калядных традыцыяў і французскае кухні. Калі мы прыходзілі ў Скарынаўку раніцай а 8-й гадзіне, Гай ужо сядзеў у бібліятэчнай залі, штосьці пісаў ці набіраў за кампутарам. Надзвычай працавіты быў чалавек. Праўда, там, дзе ён працаваў, немагчыма было працаваць нікому іншаму, бо адразу ж пачыналіся бясконцыя гутаркі.

А ўжо калекцыя бібліятэчная, як я казала, да мяне прыйшла паступова.

*<u>Н. Г.</u>: А айцец менавіта табе паказваў нешта зь бібліятэчных скарбаў, калі вы з Ірынай прыехалі?*

<u>К. М.</u>: У нас з Ірынай было па-рознаму. Ірына — літаратуразнаўца, і калі яна сюды прыехала, для яе гэта быў проста клондайк. Яна сама пачала па паліцах шукаць і знаходзіць тое, што ёй было цікава. А для мяне гэта была збольшага новая тэрыторыя. Беларуская гісторыя й літаратура прыйшлі да мяне праз самаадукацыю ад талакоўскага часу[2]. І тое, што я ад айца й ад Ірыны чула, стала для мяне другой навукай. З аднаго боку, быў інстытут з багаслоўскімі лекцыямі, з другога — тое, пра што я даведвалася тут, у бібліятэцы. Тое, што тут і Статут Вялікага Княства можна ў руках патрымаць, і рукапісы Купалы й Коласа — гэта было фантастычна. Але магчымасьцяў сур'ёзна займацца беларускімі штудыямі тады не было, бо заняткі й гаспадарка займалі ўвесь час.

[2] Маецца на ўвазе гісторыка-культурнае аб'яднаньне **"Талака"** — незалежніцкая арганізацыя моладзі, якая існавала ў 1985—1990 гг.

*Н. Г.: А калі ты паехала вучыцца ў Парыж, падтрымоўвала сувязі зь бібліятэкай? Прыяжджала на вакацыі? Як гэта было?*

К. М.: Так, прыяжджала. У 1997 годзе я ўзяла акадэмічны адпачынак і вярнулася ў Брытанію, дзе нарадзілася першая дачка. Мы жылі спачатку ў Манчэстэры, а потым перабраліся ў Самэрсэт на захадзе Ангельшчыны. Пасьля быў яшчэ адзін год у Парыжы, дзе я скончыла магістратуру, і тады мы ўжо вярнуліся настала. І канечне, я ўвесь час прыяжджала сюды. Калі Аленцы было 5—6 гадзікаў, я пачала тут беларускую школу. Мы зь ёй прыяжджалі з Самэрсэту ў пятніцу на выходныя, зьяжджалі ў нядзелю. Айцец быў вельмі рады нас прымаць. Раз на месяц мы зь Ігарам Івановым зьбіралі ўсіх дзяцей зь беларускіх сем'яў. Праводзілі разам цэлы дзень — дзеці вучыліся чытаць, штосьці майстравалі, сьпявалі, гулялі ў гульні, елі цукеркі. Айцец, сьмеючыся, называў школку маёй акадэміяй. Два гады яна існавала і была вельмі папулярнай. А пасьля я пачала выкладаць у Місіянэрскім інстытуце, і нашую дзіцячую "акадэмію" давялося зачыніць. Нейкі час я з Самэрсэту езьдзіла выкладаць у Лёндан — гэта шэсьць гадзінаў дарогі ад майго дому, і, як заўсёды, спынялася ў айца. Неўзабаве я ўжо так стамілася ад ангельскай глыбінкі, што пераканала мужа пераехаць у Лёндан. Я тады яшчэ спадзявалася, што гэта будзе першым крокам да вяртаньня ў Беларусь. Пэўна ж, гэта было нерэальна, бо мае дзеці вырасьлі тут, гэта іхняя краіна, і я ўжо буду там, дзе яны. Але для іх, як і для мяне, бібліятэка — гэта роднае мейсца, другі дом.

У 2007 годзе мой інстытут зачыніўся, і я нейкі час працавала ў Міжнародным бакаляўрыяце адказнай за іспыты па беларускай літаратуры. Адначасова была ў дактарантуры на катэдры біблістыкі Шэфілдзкага ўнівэрсытэту. Там у 2013 годзе я абараніла дысэртацыю й пачала выкладаць у Гітрапскім каледжы Лёнданскага ўнівэрсытэту (*Heythrop College*). Гэта быў адметны інтэлектуальны асяродак — каледж спэцыялізаваўся на філязофіі й багаслоўі, многія студэнты там атрымлівалі другую ці трэцюю вышэйшую адукацыю, каб паглыбіць сваё разуменьне веры. Айцец быў вельмі задаволены й маёй абаронай, і выкладчыцкай працай. Для яго гэта было пацьверджаньнем таго, што я не змарнавала адукацыю й раблю нешта вартае на карысьць Царквы. Ён заўсёды сьцьвярджаў, што пачатую справу трэба скончыць. Калі ты ўжо пачала гэтую адукацыю, то дактарат — натуральнае завяршэньне. І ён з гордасьцю пералічваў, колькі дактароў багаслоўя выхаваў. Трох дзяўчат ён узяў у студэнткі, і ўсе трое цяпер — доктаркі.

Час, праведзены ў гэтым асяродку побач з айцом, быў надзвычайны. Ня ведаю, з чым яго можна параўнаць.

*Н. Г.: Калі айцец сышоў, засталася бібліятэка. Якое было ўражаньне ад таго, што цяпер гэта трэба захоўваць безь яго?*

К. М.: У бібліятэчнай радзе я з 2000 году. У Раду мяне прапанаваў айцец Аляксандар. Для мяне гэта быў і гонар, і магчымасьць дапамагаць айцу. Там былі тады Гай Пікарда, Джым Дынглі, Арнольд МакМілін, Лёля Міхалюк, Павал Шаўцоў. Была там і Марыя Кунік, дачка Яна Дамініка, якую айцец таксама рэкамэндаваў у Раду. Янка Дамінік — надзвычай пасьпяховы рыэлтар — вельмі шанаваў айца Аляксандра, любіў паўтараць, што ніколі ня стаў бы з айцом канкураваць, калі б той быў бізнэсоўцам. Ян вельмі ганарыўся, што Марыя ўвайшла ў Раду, і зладзіў тады сапраўднае сьвяткаваньне, прывез цэлую батарэю шампанскага. Насамрэч было вельмі прыемна, што да кіраваньня бібліятэкай пачало далучацца другое пакаленьне тутэйшых беларусаў. Марыя ў пэўны момант сышла, мо гадоў 7 пабыла ў Радзе. Яна вельмі кампэтэнтная ў пытаньнях кіраваньня была, а яе маці Тамара Дамінік вельмі добра дапамагала бібліятэцы фінансава ўжо пасьля сьмерці мужа — зафундавала краты на першым паверсе і рамонт у чытацкай залі. Дамінікі заўсёды вельмі падтрымлівалі бібліятэку.

На паседжаньнях Рады асноўную справаздачу рабіў айцец — ён быў галоўным бібліятэкарам, жыў на месцы й амаль усё рабіў сам. Вельмі дапамагаў яму ад самага пачатку Джым Дынглі, які быў сакратаром Рады некалькі дзесяцігодзьдзяў. Джым вёў пратаколы, трымаў сувязі з брытанскімі структурамі, займаўся справаздачнасьцю для *Charity commission* (Камісіі ў справе дабрачыннасьці). А айцец вёў саму бібліятэчную працу. На паседжаньнях заўсёды багата казаў Гай, які адказваў за музычную калекцыю, сувязі з Англа-беларускім таварыствам і выданьне *The Belarusian Chronicle*. Паседжаньні Рады праз гэта часта зацягваліся. Па-за Джымам і Гаем, якія мелі пэўныя функцыі, роля радных была даволі абмежаваная — айцец усё вырашаў збольшага сам. А яшчэ да кожнага паседжаньня ён рыхтаваў багаты пачастунак — цэлы дзень для гэтага праводзіў на кухні, каб пасьля запрасіць радных за стол.

Недзе перад 2011 годам айцец пачаў паціху адыходзіць ад бібліятэчных справаў, ад вядзеньня папераў, рахункаў, і ў 2011 годзе мы страцілі свой статус дабрачыннай установы праз тое, што справаздачы больш не адсылаліся ў Камісію ў справе дабрачыннасьці. Для айца гэта стала цяжарам. Ён увесь час казаў, што трэба рабіць, трэба рабіць, але ўласных сілаў на гэта ўжо ня меў, і нязробленае акумулявалася. Але праз тое, што столькі год ён рабіў усё абсалютна адзін, у айца не было навыкаў дэлегаваць працу. Ён гэтага ня ўмеў і казаў, што ня можа нават уявіць, як хтосьці іншы будзе займацца бібліятэкай. Але й сам ён проста перастаў і ўсё.

Таксама з 2011 году перастала зьбірацца Рада. Мы ўсе разумелі, што так нельга. І я, і іншыя спрабавалі шмат разоў з айцом гаварыць, пераканаць яго перадаць справы. Размовы заўсёды канчаліся эмацыйна, у айца пачыналі дрыжэць рукі й даводзілася сыходзіць. Мы не хацелі,

каб у айца здарыўся інфаркт праз гэтыя гутаркі. І яно вось так і цягнулася, пакуль айцец цяжка не захварэў. Тады ён ужо фізычна адышоў ад усіх справаў. І ў 2014 годзе Джым Дынглі сказаў, што мы больш ня можам гэтага так пакідаць, бо ўсе мы як апекуны бібліятэкі парушаем закон. Тады айцец Сяргей Стасевіч з Джымам Дынглі пачалі падымаць рахункі. Джым спэцыяльна прыяжджаў з Маргейту (*Margate*) і падбіваў рахункі за тыя гады, калі яны не вяліся. Адзін з апекуноў, прафэсійны праўнік Павал Шаўцоў, тады моцна дапамог зь юрыдычнага боку. Цалкам гэты пакет быў дасланы ў Камісію ў справе дабрачыннасьці, і нам нарэшце аднавілі статус. З боку Джыма гэта была велізарная праца. Псыхалягічна было складана, бо гэта было як бы ісьці супраць айца. Айцец Аляксандар заставаўся ў Радзе намінальна да самага канца, але калі аднавіліся паседжаньні, ён фізычна ўжо ня мог прысутнічаць, і мы проста паведамлялі яму, што адбываецца. З 2015 году рахункі зноў сталі рэгулярна дасылацца ў Камісію, і з таго часу мы юрыдычна працуем як дабрачынная ўстанова.

Незадоўга да сьмерці айца Аляксандра мы зрабілі зь ім апошняе інтэрвію, якое Саша Белавокая зьняла на відэа. Ён тады ўжо быў вельмі слабы фізычна, але да самага канца захоўваў ясную памяць. Да інтэрвію айцец Сяргей сабраў старыя здымкі й папрасіў айца Аляксандра распавесьці пра тых, хто на іх стаяў поруч зь ім. І айцец, нягледзячы на слабасьць, пачаў згадваць даўняе мінулае, натхніўся й прагаварыў з намі зь дзьве гадзіны! Падчас гэтага інтэрвію я запыталася: *“Айцец, што б Вы хацелі, каб далей адбывалася зь бібліятэкай”*. І вось тады ўпершыню прыйшло адчуваньне, што ён цалкам, абсалютна перадае бібліятэку нам. Ён сказаў: *“Я зрабіў, што мог, цяпер вы старайцеся”*. Гэтая фраза пасьля зрабілася ведамай. Гэта было менавіта тады. І гучала гэта так, што ён быў спакойны за бібліятэку, давяраў нам, ведаў: тое, што мы будзем далей рабіць, будзе працягам ягонай працы.

Айцец бібліятэкай ганарыўся, мусіць, як нічым іншым. Калі ён распавядаў пра іншыя асяродкі, і ў Амэрыцы, і ў Нямеччыне, і ў Аўстраліі, ён казаў, што там было шмат людзей, і арганізацыяў, і працы было шмат зроблена, але ж бібліятэкі больш нідзе не стварылі. Прытым што ён заўсёды казаў, што ў яго памылак было больш, як посьпехаў, бібліятэка адназначна была ягоным вялікім посьпехам. Вельмі ганарыўся гэтым, а таксама царкоўнымі перакладамі. І расчараваны быў тым, наколькі бібліятэка пры ягоным жыцьці была незапатрабаваная сярод тутэйшых беларусаў. У яго былі навязаныя сувязі й з заходнім акадэмічным сьветам, і зь пісьменьнікамі й дасьледнікамі зь Беларусі. Сюды ўвесь час прыяжджалі дасьледнікі й брытанскія, і італьянскія, і нямецкія. А Гай Пікарда быў увогуле дасьледнікам-рэзыдэнтам... А вось тутэйшыя лёнданскія беларусы фактычна не цікавіліся. Прыходзілі на імпрэзы ЗБВБ і Англа-беларускага таварыства, якія адбываліся

ў суседнім доме на 39 Голдэн Роўд, але цікавасьці да бібліятэкі ў іх не было. За маім часам адзін Алесь Ражанец заходзіў газэты пачытаць. І для айца гэта было вялікім расчараваньнем. Ён казаў, што беларусы не дарасьлі да бібліятэкі. Але ён бачыў, што бібліятэка патрэбная іншым. Дарэчы, менавіта гэты аспэкт цяпер цалкам зьмяніўся.

*Н. Г.: А што зьмянілася яшчэ з сыходам айца?*

К. М.: Заўважныя зьмены пачаліся, калі да Рады далучыўся Ігар Іваноў і стаў нашым сакратаром. Ён адзіны з нас прафэсійны бібліятэкар, вельмі добра арыентуецца ў інфармацыйных рэсурсах, мэтадалёгіі й бібліятэчным мэнэджмэнце. Для нас гэта быў неверагодны набытак, бо тут ніхто такімі пытаньнямі ніколі не займаўся. Але да ўсяго гэтага ў Ігара было вельмі яснае бачаньне й процьма геніяльных ідэяў, і гэта вельмі натхняла. Дзякуючы яму ў нас адбылася пэўная "зьмена гульні" — мы сталі больш адкрытымі й функцыянальнымі, пачалі намацваць сваё мейсца й ролю ў сучаснай інфапрасторы. Цяпер Ігар ужо ня ў Радзе, але ўсё гэтак жа актыўна дапамагае нам у якасьці кансультанта.

Таксама дзякуючы Ігару мы перафармулявалі нашую місію. Раней ёю было захаваньне беларускай спадчыны й прасоўваньне беларускіх дасьледаваньняў на Захадзе. Цяпер дадаліся два новыя пункты, якія адлюстроўваюць місію бібліятэкі ў XXI стагодзьдзі. Першы — што бібліятэка служыць мясцовай беларускай супольнасьці, і другі — спрыяе пашырэньню ведаў пра Беларусь сярод брытанцаў. Гэта значыць, што мы перастаем быць толькі дасьледчай, акадэмічнай бібліятэкай, але таксама адкрытыя тым людзям, тым беларусам, якія тут жывуць, і тым ангельцам, якія проста хочуць даведацца штосьці пра Беларусь. І гэтая зьмена місіі ня проста на паперы. Гэта сапраўды адбываецца.

*Н. Г.: А ў чым гэта выяўляецца?*

К. М.: Мусіць, па-сапраўднаму гэта выявілася пасьля беларускай рэвалюцыі. З пачатку пратэстаў у 2020 годзе абудзілася цікавасьць да Беларусі й сярод саміх беларусаў дыяспары, і сярод брытанцаў. Самы відавочны паказьнік — гэта колькі экскурсіяў я мусіла правесьці па бібліятэцы й музэі сёлета (у 2021 годзе). Раней гэта было так. Прыкладам, мы ладзім Купальле, і людзям, якія на яго прыходзяць, прапаноўваем паказаць бібліятэку. Ці калі канфэрэнцыя адбываецца, тады частка праграмы — экскурсія па бібліятэцы й музэі. А вось сёлета разоў восем або болей я рабіла экскурсіі мэтавыя — калі людзі прыходзілі, толькі каб паглядзець бібліятэку й музэй. І гэта былі як мясцовыя беларусы, якія гадоў 15 жылі тут і ніколі пра гэтае месца ня чулі, гэтак і брытанцы. Адзін з апошніх наведвальнікаў-брытанцаў — муж беларускі, якая зрабілася актыўнай пасьля леташніх пратэстаў. Ён загадвае аддзелам спадчыны ў адным з найстарэйшых лёнданскіх тэнісных клюбаў. У іх ёсьць свой архіў, свая бібліятэка, дзе захоўваюцца старадрукі, якімі ён і займаецца. Ён прыйшоў сюды па рэкамэндацыі сваёй жонкі,

паглядзеў нашыя старадрукі й напісаў артыкул пра нас у часопісе *The Book Collector*. І сьледам за тым прыйшло вялікае ахвяраваньне ад рэдактара гэтага часопісу. Гэта такі ўнікальны выпадак, але думаю, што ён можа паказваць пэўную зьмену трэндаў.

Варта таксама згадаць Майкла Сагатыса — брытанца зь беларускімі каранямі. У ягонай сям’і вельмі драматычная гісторыя, якая йдзе з часу сталінскіх рэпрэсіяў. Прабабка Майкла з Наваградчыны была сасланая ў 1940 годзе ў Карляг як маці “ворага народу”, там неўзабаве й загінула, але ў сваякоў захаваліся лісты, што яна пісала дадому. Праз некалькі пакаленьняў тыя лісты прывялі сям’ю Майкла, якая жыве ў Валіі, да Беларусі: яны пачалі шукаць свае карані, раптам даведаліся, што не палякі, пачалі цікавіцца, хто ж яны такія, і прыйшлі сюды. Яны прыехалі з Валіі ўсёй сям’ёй — Майкл-бацька, Майкл-сын ды ягоныя тры сястры — каб перадаць у архіў лісты ягонай прабабкі Юзэфы з Карлягу. Майкл стварыў англамоўны фільм “Лісты Юзэфы”, і цяпер тыя лісты — частка нашага архіву. Для Майкла як для нашчадка тых беларусаў гэта таксама пошук ідэнтычнасьці. Безумоўна, ён брытанец, але для яго важна, што ёсьць месца, якое захоўвае беларускую ідэнтычнасьць і можа яму дапамагчы зразумець, хто ён такі. І цяпер ён актыўна супрацоўнічае зь бібліятэкай. Падобная гісторыя была й з парай амэрыканцаў, якія прыходзілі паглядзець бібліятэку. Хлопец, нашчадак беларускага габрэя зь Вялейкі, шукаў інфармацыю пра свайго прадзеда. Яму былі цікавыя й старыя, і сучасныя здымкі гораду, і гісторыя, і фальклёр. Для людзей, што шукаюць свае карані, важна, што тут ёсьць беларуская прастора, месца, дзе яны могуць даведацца, што было ў той мясцовасьці, адкуль яны паходзяць, як выглядалі людзі, чым адметная была іх культура, пабачыць ды патрымаць у руках рэчы, якімі маглі б карыстацца іхнія продкі. Для іх гэта неацэнна. І гэта частка нашае місіі.

*Н. Г.: У сувязі з гэтым як ты ацэньваеш пэрспэктывы бібліятэкі? У якіх кірунках яна мусіць разьвівацца?*

К. М.: У нас надта ж шмат накірункаў працы й цяжка вызначыць прыярытэты, дый на многія пытаньні мы ўсё яшчэ ня маем адказу. Ці варта нам працягваць абнаўляць калекцыю, каб у ёй былі прадстаўленыя апошнія значныя выданьні? Ці трэба працягваць зьбіраць пэрыядычны друк у папяровым фармаце? Калі так, паўстае праблема мейсца, якога фізычна не стае, і неабходнасьць “прарэджваць” тое, што мы маем. Зь іншага боку, калекцыя, якая ўжо сфармаваная, — сама па сабе скарб, помнік свайму часу й гэтаму ўнікальнаму асяродку, і яе трэба захоўваць. Даводзіцца шукаць нейкі сярэдні варыянт. У кожным выпадку нам не абысьціся без засваеньня электроннага фармату выданьняў.

Насамрэч першасная задача для нас — каталягізацыя, безь яе ўвогуле немагчыма рухацца наперад. І разам зь ёю велізарная куратарская

праца — нам трэба вывучаць, апісваць і парадкаваць усе нашыя калекцыі — кніжную, музэйную й архівы, распаўсюджваць інфармацыю пра іх у блогах і сацсетках, ладзіць выставы, канфэрэнцыі. Шмат што з гэтага мы робім, але ўрыўкамі й непасьлядоўна, бо тут патрэбны цэлы штат супрацоўнікаў. Пакуль яго няма, робім тое, што можам.

Вельмі шмат цікавых ініцыятываў у Ігара Іванова. Наколькі яны пад'ёмныя для нас, мы яшчэ пабачым. Прыкладам, ён прапаноўвае, каб бібліятэка пачала даваць доступ да электронных кнігаў па беларускай тэматыцы. Для гэтага нам трэба калі не купляць ліцэнзію, то пераканаць тое агенцтва, якое валодае гэтымі электроннымі копіямі, што ў нас ёсьць дастаткова дасьледнікаў, якія будуць іх чытаць. Трэба стварыць базу чытачоў. Канечне, калі такое магчыма, было б шыкоўна. Гэта тыя кнігі, якія ўжо існуюць у электронным фармаце й маюць дачыненьне да Беларусі. Пакуль што нам далі сьпіс з 20 кніг. Сярод іх, напрыклад, манаграфія Саймана Льюіса[3]. Для беларускіх студэнтаў гэта вельмі каштоўны рэсурс, таму што купіць заходнюю кнігу можа быць вельмі дорага, а калі б бібліятэка давала электронныя, гэта было б добрае выйсьце. Але для гэтага трэба таксама працу весьці, ацэньваць патэнцыйных дасьледнікаў, выходзіць на ўнівэрсытэты. Усё гэта пакуль існуе на стадыі ідэі. Але вельмі вартаснай ідэі.

Другая прапанова Ігара яшчэ цікавейшая. Адна амэрыканская кампанія вырашыла праблему аўтарскіх правоў пры публікацыі электронных копіяў такім чынам. Ім прысылаецца кніга, яны гэтую кнігу кладуць у камэру захаваньня пад замок, а ейную электронную копію робяць даступнай аднаму карыстальніку на месяц. Праз месяц карыстальнік губляе доступ да электроннай копіі і яе можа чытаць наступны карыстальнік. Месяц — гэта прыкладна столькі часу, колькі займае прачытаць чалавеку кнігу ў рэальным фармаце. Адпаведна, гэта тая самая кніга і аўтарскія правы не парушаныя. Адна кніга — адна копія — адзін карыстальнік. Але замест таго, каб кнігу прачытаў адзін карыстальнік за пяць год, яе могуць прачытаць 10 за адзін год. І цяпер у гэтую кампанію дасылаюць тысячы кніг на алічбаваньне. Зразумела, што мы можам гэта рабіць толькі са сваімі дублетамі, але чаму не? Або новыя кнігі набываць з разьлікам гэткае магчымасьці для электронных паслугаў.

Гэта зусім новы сьвет, і мы ў ім не заўсёды добра арыентуемся. Трэба вучыцца новай тэрміналёгіі, новым падыходам. Але гэта здорава.

Для мяне вельмі важна, каб бібліятэка была запатрабаваная, каб сюды прыходзілі людзі. Гэта важна для ўсіх апекуноў. Чым больш жыцьця ў Скарынаўцы, тым лепш мы спраўджваем сваю задачу. І канечне, у гэтым напрамку мы працуем. Пандэмія моцна затармазіла

[3] Маецца на ўвазе кніга: Lewis, Simon. Belarus — Alternative Visions: Nation, Memory and Cosmopolitanism. Routlege, 2019. 242 p.

тое, што мы маглі рабіць жыўцом, але шмат што рабілася віртуальна. Яшчэ да карантыну ў нас быў заснаваны чытацкі клюб. У лістападзе 2019 году мы першы раз сустрэліся, і ад таго часу мы зьбіраемся рэгулярна штомесяц.

*Н. Г.: Што зь сябе ўяўляе ваш чытацкі клюб?*

К. М.: Мы пачыналі з утульных сустрэчаў у Скарынаўцы за келіхам, калі нас было ўсяго пяцёра. Цяпер агулам маем за дваццаць сябраў, прыходзяць на віртуальныя сустрэчы да 12 чалавек. Прапаноўваецца кніга. У нас ёсьць сьпіс прапановаў, і канечне, кнігі шукаюцца па крытэрах даступнасьці. Тое, што ёсьць у бібліятэцы, мы прапаноўваем тым з нас, хто ня можа чытаць у электронным фармаце. Але трэба, каб быў і электронны фармат, бо да нас цяпер далучыліся людзі й са Штатаў, і з Даніі, і зь Беларусі. Чытаем кнігу, а пасьля яе абмяркоўваем. Дыскусіі часам вельмі гарачыя й заўсёды цікавыя — у нас няма “няправільных” меркаваньняў, але заўсёды ёсьць розныя.

*Н. Г.: Гэта беларускія кнігі ці неабавязкова?*

К. М.: Пакуль што былі толькі беларускія, але ў пэрспэктыве хацелі б і ўкраінскія, бо сярод удзельнікаў ёсьць украінка — даўняя сяброўка Скарынаўкі, былая куратарка ўкраінскай і беларускай калекцыяў Брытанскай бібліятэкі Вольга Керзюк. Яна чытае з намі беларускія кнігі, і нам хочацца, каб яна парэкамэндавала штосьці ўкраінскае. Думаю, што англамоўныя кнігі пра Беларусь таксама маюць быць уключаныя. Прыкладам, нядаўняя кніга Саймана Льюіса, якую я згадвала, была б вельмі цікавай для абмеркаваньня й з пункту погляду літаратуразнаўчага, і з увагі да ягонага бачаньня нацыянальнай ідэнтычнасьці. Жанры кніг, якія мы чытаем, гэта й проза, і паэзія, і публіцыстыка. У нас Валянцін Акудовіч быў вельмі папулярны зь ягонымі эсэямі.

*Н. Г.: А акрамя клюбу?*

К. М.: Апошняя імпрэза, якую мы пасьпелі зрабіць перад самым карантынам, — гэта сьвяткаваньне стагодзьдзя УНОВІСу ў лютым 2020 году. Сяргей Харэўскі прыехаў сюды зь лекцыяй, выступаў ва Ўэстмінстэрскім унівэрсытэце, браў удзел у круглым стале, прысьвечаным віцебскай мастацкай школе. Атрымаліся цудоўныя дні беларускай культуры ў Лёндане. Да гэтай імпрэзы айцец Сяргей падрыхтаваў у музэі выставу мастацкай графікі з самых цікавых твораў нашай калекцыі. Аказалася, што ў нас ёсьць арыгінальныя працы прадстаўніка віцебскай школы Алексантэры Ахола-Вало, а таксама Язэпа Драздовіча, Каруся Каганца... Цяпер задача гэта ўсё добра апісаць і выставіць на сайце сярод іншых нашых скарбаў.

За часоў айца Аляксандра бібліятэка рэгулярна ладзіла міжнародныя канфэрэнцыі, гэта працягваецца й цяпер. Вельмі важны для нас удзел бібліятэкі ў штогадовых канфэрэнцыях “Беларускія дасьледаваньні ў XXI стагодзьдзі”. Іх арганізуе адзін з апекуноў бібліятэкі Яра-

слаў Крывой з Цэнтру Астрагорскага разам з Унівэрсытэцкім каледжам Лёндану, і бібліятэка выступае адным з партнэраў. Партнэрства для нас — вельмі цікавы фармат. Асноўная частка канфэрэнцыі праходзіць у пятніцу ва ўнівэрсытэце, а суботняя праграма — нейкая сэкцыя ці адмысловы выступ — заўсёды праходзіць тут. Апошнім разам гэта была літаратурная сэкцыя, на ёй выступалі літаратуразнаўца Арнольд Макмілін, паэтка й лінгвістка Анхела Эспіноса. Джым Дынглі й Пэтра Рэйд тады распавялі пра свой унікальны досьвед перакладу "Дзяцей Аліндаркі" Альгерда Бахарэвіча на ангельскую й шкоцкую мовы. На гэтыя канфэрэнцыі прыяжджаюць маладыя дасьледнікі з усяго сьвету, і тады можна пабачыць зрэз таго, што зь беларусікі дасьледуецца цяпер у заходніх унівэрсытэтах. Збольшага пераважаюць сацыялягічныя й паліталягічныя штудыі. Літаратура, на жаль, — ня самая папулярная дысцыпліна, але ёсьць.

На стагодзьдзе БНР Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі ладзіла навуковы сымпозіюм у партнэрстве зь бібліятэкай. Да таго была канфэрэнцыя аб Каліноўскім у 2014 годзе. Гэта таксама было з удзелам бібліятэкі.

Апроч канфэрэнцыяў, у нас добра працуе праграма рэзыдэнцыі для дасьледнікаў, якія хочуць прыехаць папрацаваць з калекцыяй. Шмат якія зь іх пасьля публікуюць артыкулы, пішуць блогі або чытаюць лекцыі, дзе дзеляцца вынікамі сваіх дасьледаваньняў. А ў дадатак да акадэмічных ініцыятываў у нас увесь час ладзяцца нейкія выставы, вечарыны... Бібліятэка, з аднаго боку, генэруе ідэі, а зь іншага — гэта тое месца, дзе падзеі адбываюцца, дзе людзі сустракаюцца, могуць пагартаць кнігі, пабачыць артэфакты, дзе адчуваецца ўнікальная атмасфэра. Бібліятэка мае багата розных аспэктаў, і праца тут вельмі шматплянавая.

Для мяне вельмі натуральная праца зь людзьмі. Я гэта люблю і ўвесь час гэта падтрымліваю: ініцыятывы новых імпрэзаў, зборак, канфэрэнцыяў. Калі людзі зьбіраюцца разам, аднекуль бярэцца энтузіязм, нараджаюцца новыя ідэі, новыя формы супрацы. Для айца Аляксандра гэта таксама было вельмі важна. Ён заўсёды казаў: арганізацыя жывая, калі ў ёй ідзе беларускае жыцьцё. У Скарынаўцы беларускае жыцьцё ёсьць і працягваецца. Але ёсьць яшчэ сама калекцыя, праблемы ейнага захаваньня, пашырэньня й доступу... І гэта нашмат больш складаная задача. Таму што калекцыю мы самі збольшага яшчэ ня ведаем — мы толькі даведваемся, што маем. Айцец ведаў, дзе што стаіць, ён жа гэта ўсё сам і складаў. А для нас — на кожным кроку знаходкі. І я ўважаю гэта фантастычным зрухам наперад, што мы пачалі рабіць каталёг. Я памятаю свае пакуты, калі прыяжджалі сюды дасьледнікі й прасілі нейкую кнігу знайсьці. І ты ідзеш і з паўгадзіны шукаеш, бо яна можа быць дзе заўгодна. Ад таго часу, калі айцец ужо больш ня мог даглядаць

калекцыю, кнігі пачалі трапляць у выпадковыя месцы. Каталёг гэта ўсё літаральна “расставіць па палічках”. Але самае галоўнае — інфармацыя пра калекцыю нарэшце выйдзе ў адкрыты доступ. І Скарынаўка стане больш прысутнай для дасьледнікаў па ўсім сьвеце.

*Н. Г.: Калі, ты думаеш, ён будзе зроблены?*

К. М.: Мы яшчэ ня ведаем, колькі ў нас кнігаў. Паводле айца, збор налічваў штосьці паміж 20 і 30 тысячамі. Зь іх мы пакуль што апісалі 6 тысячаў загалоўкаў. Гэта вельмі марудная праца. Нам патрэбныя валянтэры, якія б прыходзілі й дапамагалі...

*Н. Г.: А наколькі рэальна гэта, каб валянтэры прыходзілі й рабілі каталёг?*

К. М.: У нас ёсьць адна пастаянная валянтэрка Ганна Шышла — гэта сапраўды неверагодны, вельмі ахвярны чалавек. Яна раней дапамагала айцу Сяргею з архівамі, а з 2020 году пачала рэгулярна прыяжджаць дапамагаць мне з каталёгам — яна зрабіла большую частку каталёгавых запісаў. А на мае падзякі ўвесь час адказвае, што гэта ёй самой важна, бо заўсёды хацела далучыцца да нейкай значнай, вартаснай справы.

Часам прыходзяць іншыя. Але большасьці людзей нашмат лягчэй дапамагаць фізычна. Прыкладам, калі мы рыхтавалі сад да Купальля, то было пяць талокаў, і людзі з маладой дыяспары з задавальненьнем прыходзілі папрацаваць на сьвежым паветры. І нават скрыні з кнігамі пацягаць — гэта нармальна. А калі кажаш, што трэба дапамагчы з каталёгам, за кампутарам пасядзець, яны кажуць — мы й на працы за кампутарам сядзім. Таму трэба думаць, якія яшчэ шляхі могуць быць, бо такімі тэмпамі, якімі мы зараз працуем, каталёг у нас зойме яшчэ гады два. А нам хацелася б запусьціць яго яшчэ ў юбілейны год. Калі б была зробленая хаця б палова, ужо мела б сэнс даваць да яго доступ.

*Н. Г.: Раскажы, калі ласка, яшчэ пра ідэю музэю айца ці кабінэту ягонага.*

К. М.: Першыя месяцы, як айца ня стала, у мяне быў ледзь не сакральны жах, каб не кранаць тут увогуле нічога. Айцец Сяргей ставіўся да гэтага па-свойму, спакайней. Ён пачаў парадкаваць кабінэт айца, калі той быў ужо цяжка хворы й больш сюды не заходзіў. Я на гэта рэагавала балюча, і ён вярнуў шмат што: і стары макінтош, і сувэніры, і стары тэлефонны нататнік, зь якога айцец быў павыкрэсьліваў шмат імёнаў (айцец часта скардзіўся, што ў яго ўжо больш прыяцеляў на небе, як тут, на зямлі). Ягоны стол, крэсла, кніжныя паліцы, тое, што стварае атмасфэру гэтага пакою — усё гэта засталося. Спадарыня Лёля Міхалюк сёлета прыяжджала на Купальле, зайшла сюды й сказала, што ёй падалося, нібыта айцец тут сядзеў. Пры тым, што насамрэч зусім ня так выглядае гэты кабінэт. Калі айцец там працаваў, стол быў пакрыты паперамі, кнігамі, і вакол таксама былі кнігі й

паперы. Але для Лёлі атмасфэра гэтага месца была прысутная. І гэта значыць, што захаваньне мае сэнс. Мы ня можам аднавіць, дзе што ляжала, калі айцец апошні раз карыстаўся, але асноўныя рэчы варта пакінуць — адрапараваць крэсла, пакінуць стол і асноўную мэблю. Павал Шаўцоў прапанаваў стварыць музэй беларускай дыяспары, каб там былі прадстаўленыя й біскуп Сіповіч, і айцец, і іншыя дзеячы гэтага асяродку. Фатаграфіі, колькі дакумэнтаў, магчыма, кампутар зь відэапрэзэнтацыяй. На гэтай ідэі ўсе пагадзіліся. Адзінае, што ў гэтым кабінэце трэба будзе рабіць рамонт, і пакуль няведама, што рабіць з шафамі, дзе знаходзяцца архівы. Баюся, у нас ня будзе магчымасьці цалкам аддаць гэты пакой толькі на музэй. Джым Дынглі быў адразу супраць ідэі закансэрваваць усё, як яно было пры айцы: *“Ня трэба ствараць з айца нейкага ідала й месца пакланеньня зь ягонага кабінэту. Гэта павінен быць пакой, які будзе выкарыстоўвацца”*. І я з гэтым згодная. Пакой, дзе могуць працаваць сакратар бібліятэкі, дасьледнікі, і дзе любы з карыстальнікаў бібліятэкі можа правесьці “Зум” ці яшчэ нешта, калі трэба прыватная прастора.

Захаваньне, фіксацыя мінулага — гэта важная, але не адзіная частка нашай працы, і яно не павінна рабіцца самамэтай. Бо, як казаў айцец, мусіць працягвацца беларускае жыцьцё.

2021 г.

*Гутарыла Натальля Гардзіенка*

*Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны*
*Эміграцыйны эпісталярый*

**Натальля Гардзіенка**
*Менск*

# ЭПІСТАЛЯРНЫ АРХІЎ АЙЦА ЛЯВА ГАРОШКІ

Эпісталярныя архівы беларускіх эмігрантаў нельга назваць зьяваю рэдкаю, хоць і раскіданыя яны па розных краінах і архіўных зборах. Лёнданская Скарынаўка ёсьць адным з цэнтраў канцэнтрацыі гэткіх архіваў, а сярод яе скарбаў дакумэнты айца Лява Гарошкі (1911—1977) — адны з найцікавейшых.

Пакручасты жыцьцёвы шлях беларускага сьвятара, добра апісаны ў ягоных успамінах, што публікаваліся раней на старонках "Запісаў"[1], прывёў яго ў 1944 г. на Захад. Дзеяч рабіў намаганьні арганізоўваць беларускае рэлігійнае жыцьцё ў Бэрліне, Мюнхэне, Рыме. У 1946 г. быў скіраваны ў Парыж, дзе цягам 11 гадоў выконваў абавязкі кіраўніка Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. Складаны й плённы "францускі" пэрыяд у жыцьці а. Лява Гарошкі быў поўны ня толькі душпастырскай, але й грамадзкай, і выдавецкай працы. Усё гэта знайшло сваё адлюстраваньне ў шырокім ліставаньні дзеяча. Свой эпісталярны архіў сьвятар добра ўпарадкаваў, расклаў паводле альфабэту адрасатаў у адмысловыя вялікія тэчкі, якія былі перавезеныя разам зь іншымі ягонымі паперамі ў Лёндан. У Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны гэтыя дакумэнты чакаюць сваіх дасьледнікаў. Тут жа паспрабуем зрабіць толькі агульную характарыстыку тых скарбаў, што можна знайсьці ў эпісталярыях айца Гарошкі.

Храналягічна большасьць лістоў "францускай" часткі архіву датычыць другой паловы 1940-х — 1950-х гг. Можна меркаваць, што гэтыя эпісталярыі айцец Леў прывез з сабою у Лёндан або наўпрост з Парыжу, або ўжо з Рыму, дзе ён адбываў навіцыят у марыянаў у 1959—1960 гг.

Айцец Леў быў даволі дакладным у ліставаньні й захоўваў уласныя пасланьні разам з эпісталярыямі сваіх адрасатаў, што было абумоўлена іх сапраўды вялікай колькасьцю. У кожнай зь сямі тэчак складзены адмысловы альфабэтны сьпіс карэспандэнтаў, прыкладна

[1] Маецца на ўвазе публікацыя: Гарошка, Леў, а. Праз навальніцы і нягоды: Успаміны з гадоў 1930—1944 // Запісы БІНіМ. № 38. Нью-Ёрк — Менск, 2016. С. 178—367.

па чатыры дзясяткі прозьвішчаў у кожным (агулам — 284 прозьвішчы). Сярод адрасатаў і адрасантаў а. Лява Гарошкі можна ўбачыць ведамых беларусаў Міколу й Ніну Абрамчыкаў, Лява Акіншэвіча, Кастуся Акулу, Антона Бяленіса, Юзэфу Брэчку (Найдзюк), Часлава й Эдварда Будзькаў, уладыку Васіля (Тамашчыка), Юрку Віцьбіча, Аўгена Вярбіцкага, Язэпа Гладкага, Уладзімера Дунца, Янку Запрудніка, Уладзімера Клішэвіча, Васіля Кендыша, Язэпа Малецкага, Ванду Махнач, Аляксандра Ружанец-Ружанцова, Алеся Салаўя, а. Часлава Сіповіча, Янку Сурвілу, Уладзімера Сядуру, Вітаўта Тумаша, Надзею Тэадаровіч-Абрамаву, Сяргея Хмару, а. Францішка Чарняўскага, Янку Чарнэцкага й шмат іншых. Аднак у архіве сьвятара засталося багата й лістоў малаведамых беларусаў, сьведчаньняў пра якіх, магчыма, амаль нідзе па-за захаванымі тут эпісталярыямі ня знойдзеш.



Айцец Леў Гарошка ў сваім кабінэце. Парыж, 1950-я гг.

Да айца Лява пісалі людзі розных канфэсіяў і з розных нагодаў. Некаму была патрэбная парада, духоўная апека, іншым — канкрэтная дапамога грашыма або дакумэнтамі, кантактамі й г. д. Па меры магчымасьці сьвятар намагаўся выконваць просьбы. Асабліва актыўна ён уключыўся ў дапамогу для ўладкаваньня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы беларускіх студэнтаў. Зь лістоў, прыкладам, можна даведацца, што ён меў дачыненьне да зьяўленьня маладых беларусаў (зь якімі актыўна ліставаўся праз увесь час іх навучаньня) ва ўнівэрсытэтах ня толькі Італіі, Францыі ці Гішпаніі, але і ў славутым Лювэне. У адным зь лістоў да айца Часлава Сіповіча а. Леў Гарошка пісаў: *“У справе стыпэндыяў у Бэльгіі Абрамчык*[2] *запраўды зрабіў вельмі шмат, але ён ішоў ужо гатовым шляхам, бо ў гэтай справе я асабіста гутарыў з кардыналам Тіссэранам*[3] *падчас ягонага побыту ў Парыжу і падаў*

---

[2] **Мікола Абрамчык** (1903—1970), палітычны дзеяч, прэзыдэнт БНР у 1947—1970 гг.

[3] **Эжэн Тысэран** (фр. *Eugène-Gabriel-Gervais-Laurent Tisserant*, 1884—1972), францускі кардынал, у 1936—1959 гг. — сакратар Кангрэгацыі ў справах Усходняй царквы.

*адпаведны ліст аб гэтым у Кангрэгацыю. Ліста гэтага я Абрамчыку не паказваў, бо ён усюды стараецца прыткнуць сваё прозьвішча, дзе сьлед і дзе ня сьлед, таму цяпер усе лісты ў кангрэгацыю я рэдагую сам пры помачы французскіх айцоў, у якіх жыву. Сьлёскан*[4] *так-жа ня мала прычыніўся да атрыманьня стыпэндыяў. Бяз гэтае помачы, або безь ягонае язды і стараньняў, так-жа ня шмат памаглі-б. Але што ты зробіш, калі чалавек любіць хваліцца"*[5].

Безумоўна, эпісталярыі найперш і найбольш гавораць пра сваіх аўтараў, іхныя пагляды, жыцьцё, працу, але адначасова ствараюць каштоўны эміграцыйны кантэкст, разуменьне якога так патрэбнае дасьледнікам. Айцец Леў меў дачыненьне да арганізацыі розных рэлігійных і сьвецкіх падзеяў з удзелам беларусаў. Ягонае ліставаньне поўніцца паведамленьнямі пра падрыхтоўку або вынікі гэткіх ініцыятываў. Прыкладам, у траўні 1947 г. у адным зь лістоў ён пісаў: *"Тут ад 26.IV — 2.V у Парыжу цяпер адбываецца Міжнародны Кангрэс — "Маці — дзейнік людзкога прагрэсу", мы таксама паслалі туды сваю дэлегацыю ад Беларусі, ахвотна яе прынялі і далі магчымасьць выгаласіць у радыё прамову-заклік да беларускіх жанчынаў і сказаць прамову на самім кангрэсе па-француску. Ведаеш, бедная Ніна [Абрамчык]*[6]*, а зь ёю і ўся заля, расчулілася не раўнуючы як ты перад Сьвяцейшым Айцом, але гэта зрабіла такое ўражаньне, што журналісты зараз яе апанавалі і пачалі прасіць прамовы, абяцаючы зьмясьціць яе цалком. Там была частка тае малітвы мацеры, якую я табе чытаў. Сьлёзны наш шлях, але міласэрны Бог яго магчыма шчыра пабагаславіць"*[7].

А ў 1949 г. ён займаўся арганізацыяй чарговага паломніцтва ў Люрд: *"Тут залучаю афішкі ў справе сёлетняга паломніцтва ў Люрд. Было-б вельмі цікава, каб ад вас [зь Вялікабрытаніі] мог прыехаць сюды хто-небудзь на гэты час, бо ад нашае моладзі нельга шмат спадзявацца, усе без граша пры душы, а нагоду выкарыстаць абавязкава трэба, бо летась сам бачыў, колькі ў такім паломніцтве можна скарыстаць і для душы, і для народнае справы. Здаецца, што з Бэльгіі так-жа студэнты змогуць прыехаць на гэткую імпрэзу"*[8]. І гэта толькі асобныя прыклады падзеяў, што згадваюцца ў эпісталярыях.

---

[4] Маецца на ўвазе **Баляслаў Слосканс** (лат. *Boļeslavs Sloskāns*, 1893—1981), каталіцкі ярарх (біскуп) латыскага паходжаньня. З 1952 г. быў апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў у Эўропе.

[5] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 28.02.1949.

[6] **Ніна Абрамчык** (дзяв. **Ляўковіч**, 1916—2003), грамадзкая дзяячка, жонка прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка.

[7] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 02.05.1947.

[8] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 28.02.1949.

Але ці не найвялікшым клопатам айца Лява была выдавецкая справа й найперш часопіс "Божым Шляхам", які ягонымі намаганьнямі выходзіў у Парыжы ў 1947—1957 гг. Паколькі выданьнем сьвятар займаўся пераважна сам-адзін, ад зьбіраньня ці пісаньня тэкстаў, іх рэдагаваньня, карэктуры да дамоваў з друкарняю ды рассылкі надрукаваных асобнікаў, то шмат якія лісты поўняцца ягонымі нараканьнямі на складанасьці працы. Так, у 1947 г., яшчэ ў часе падрыхтоўкі першага нумару айцец Леў пісаў: *"З часопісам справа пакуль што стаіць на мейсцы, і ня ведаю, калі скранецца зь мейсца — жыранта ані руш нельга знайсьці, усе адмаўляюцца. Матарыял патроху рыхтую, але неяк рукі адпадаюць, і праца йдзе вельмі млява і няцікава. Вінетка да часапісу мне падабаецца, пастараюся яе выкарыстаць, калі Бог паможа давесьці справу да памыснага канца..."*[9] У 1949 г. выдавец скардзіўся: *"З памылкамі ў гэтым нумары справа выглядае так, што я адзін рабіў карэкту, а ў некаторых артыкулах на канцы была магчымасьць зрабіць гэтую карэкту толькі раз, бо трэба было іх дадаць у апошняй хвіліне"*[10]. У 1950-м наракаў: *"З матэрыялам у "Божым Шляхам" гэтым разам справа выглядае кепска, бо ад некалькі тыдняў проста не магу нічога пісаць. Нават ліст талковы напісаць каштуе вельмі шмат высілкаў. Я ўжо пісаў, што езьдзіў на 10 дзён адпачываць, але гэта нічога не дапамагло. Праўда, і падчас адпачынку я бяз працы ня мог абысьціся. А цяпер дык хоць гвалт крычы; ня пішацца і канец. Па некалькі разоў бяруся за тэму і канчаю тым, што тэму адкідаю, шукаю новую, і зноў паўтараецца тая самая гісторыя [...]*

*Вельмі шмат часу і энэргіі забіраюць ня раз стараньні падшукаць адпаведнае слова. Сапраўды прыходзіцца перажываць ня раз тое, што францускія пісьменьнікі называюць "мукаю слова". Каб аблягчыць гэтую муку, я ўжо летась пачаў укладаць беларуска-францускі слоўнік, і адначасна француска-беларускі. Праца гэтая ўжо пасунулася даволі далёка. Каб было пару месяцаў часу, дык бы беларуска-францускі слоўнік на 22 тысячы быў-бы гатовы зусім. Але і ў гэтай працы зноў тая самая мука слова не дае супакою. Каб знайсьці адпаведныя трапныя словы, пастанавіў упарадкаваць сваю зборку прыказкаў, і цяпер ужо маю якіх 7 тысячаў прыказак, можа нават і з гакам, але каб іх папоўніць, трэба шмат часу. А папоўніць варта, бо ў прыказках можна знайсьці найбольш трапныя словы. Словам, праца адна за другую вяжацца ў непарыўны ланцуг і ніколі не дае хвіліны адпачынку"*[11].

[9] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 02.05.1947.

[10] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 28.02.1949.

[11] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 07.07.1950.

Вынікам самотнай напружанай працы часта былі памылкі, на якія адмыслова зважалі чытачы. *"Дарагі Леў! "Б[ожым] Шл[яхам]" атрымаў і разаслаў. Страшна мы тут абурыліся на сябе за тую памылку адносна Тыдня Студыяў*[12] *у Рыме. Я цябе два разы прасіў зьмяніць тэрмін, і ты мне напісаў, што надрукуеш згодна з маім апошнім лістом. Такіх рэчаў абсалютна няможна рабіць. Сяньня атрымаў ліст ад а. Франука*[13]*, які лае нас, што адно гаворым, а другое робім, і кажа, Татарыновіч*[14] *напісаў да Я.Э. Слосканса супроць цябе, быццам ты байкатуеш наагул Марыянскі Кангрэс і т. п. У найбліжэйшым нумары папраў дату і перапрасі Ўправу «Руні»*[15]*"*[16].

Часам на хвалі ідэйнага супрацьстаяньня да рэдактара даходзілі водгукі й наўпроставых пагрозаў: *"Атрымаў ізноў доўгі ліст ад Попкі*[17]*, які гэтым разам піша даслоўна: «Хай толькі яшчэ раз пікне Гарошка пра "япіскапа" і "прэзыдэнта", ці Вы з Татарыновічам, дык за свае паступкі я ня адказваю. Папярэджваю Вас апошні раз».*

*З гэтым вар'ятам запраўды трэба быць асьцярожным, і калі-б ён да цябе зьявіўся, то будзь разумны і ня будзь адзін на адзін [...]".*

Варта адзначыць, што ў ліставаньні айца Лява Гарошкі час ад часу сустракаюцца даволі рэзкія характарыстыкі розных эміграцыйных суродзічаў. Сьвятар шчыра выказваў свае ацэнкі, і дзякуючы ягоным лістам да нас дайшлі малаведамыя дэталі біяграфіяў некаторых дзеячаў.

Прыкладам, пра Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў адным зь лістоў да а. Часлава Сіповіча ён пісаў: *"Адразу адчуваецца, што ў вас там*

---

[12] Маецца на ўвазе Тыдзень студыяў Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'еднаньня "Рунь".

[13] **Францішак Чарняўскі** (1893—1979), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец. З 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бэльгію, у 1953—1955 гг. — у кляштары бэнэдыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь "Божае слова". У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс "Сяўбіт".

[14] **Пётра Татарыновіч** (1896—1978), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, пэдагог і публіцыст. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Рыме, дзе выдаваў беларускі каталіцкі часопіс "Źnič", заснаваў беларускую рэдакцыю Ватыканскага радыё.

[15] **Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб'яднанне "Рунь"** — арганізацыя, якая паўстала 21 кастрычніка 1949 г. у Лювэне на сходзе прадстаўнікоў беларускай каталіцкай інтэлігенцыі з Ангельшчыны, Бэльгіі, Нямеччыны й Францыі.

[16] Ліст а. Ч. Сіповіча да а. Л. Гарошкі ад 07.09.1954.

[17] Тамсама.

*нешта няладна між верхаводамі, бо ўжо каторы час не паказваецца «Беларус на чужыне»*[18]*. Сумняюся агулам, ці што выйдзе з тваіх стараньняў пагадзіць тых рассвараных, калі аб Грышкевічу*[19] *прыходзіцца даведацца такія весткі, што цяпер, як «ягоная» дзяўчына ў Парыжу выйшла замуж, дык пагражае ёй судом, што быццам яму, жанатаму, не датрымала слова. У гэтай справе Рыдлеўскаму*[20] *выпісвае цэлыя пасланьні і мае на гэта час і ахвоту... што добрага ад такога чалавека можна спадзявацца? Мая рада: махні на яго рукою і няхай ён нас болей не кампраметуе. Меў даволі часу, каб паправіцца, а калі гэтага [не] зрабіў, дык хай сам за сябе перад усімі і перад Богам нясе адказнасьць. Ані беларускі рух, ані наша справа ад гэтага нічога ня страціць"*[21]. Можна нагадаць, што празь пяць гадоў Вінцэнт Жук-Грышкевіч стаў першым кіраўніком знакамітай беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне.

Згадваецца ў лістах і беларускі "нацыянал-авантурыст" Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, якому айцец Леў час ад часу нават дапамагаў з уладкаваньнем на студыі, хоць ацэньваў яго своеасабліва яшчэ з часу навучаньня таго ў Рыме: *"З Рыжым*[22] *запраўды бяда, бо баюся, што адначасна зь ім можа папсавацца наша справа, у гэтым а. Вэттэр*[23] *мае слушнасьць. Бо Рыжы неперабарлівы ў сваіх дамаганьнях і страшэнна нарваны характар. Як-бы ён цярпеў толькі сам дзеля свайго характару, дык гэта яшчэ было-б поўбяды, але ён і іншых уцягае. Я тымчасам буду глядзець, што з гэтага можа выйсьці, але калі*

---

[18] **"Беларус на чужыне"** — грамадзка-культурны часопіс, які выдаваўся ў Лёндане ў 1947—1950 гг. Рэдактары: Аляксандар Надсан, Кастусь Амор. Выйшла 42 нумары.

[19] Маецца на ўвазе **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903—1989), грамадзкі дзеяч, пэдагог, які ў той час жыў у Лёндане, быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, першым старшынём арганізацыі (1947—1948).

[20] **Лявон Рыдлеўскі** (1903—1953), грамадзкі дзеяч. З пачатку 1930-х гг. жыў у Францыі. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусьветнай вайны быў у шэрагах францускага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэньні Аб'еднання беларускіх работнікаў у Францыі, выданьні "Беларускіх навінаў". Быў старшынёй Сусьветнага аб'еднаньня беларускай эміграцыі.

[21] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 30.07.1949.

[22] **Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (1925—1978), грамадзкі дзеяч, сьвятар. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Бэльгіі, Італіі, Гішпаніі, ЗША. Выдавец шэрагу беларускіх выданьняў.

[23] **Андрэас Вэтэр** (ням. *Andreas Wetter*, 1911—1991), аўстрыйскі філёзаф, рэлігійны дзеяч. У 1948—1954 гг. быў рэктарам Русікуму ў Рыме.

*будзе паважная небясьпека, дык ясная рэч, прыйдзецца справаю заняцца”*[24].

Пераймаўся а. Леў Гарошка праз пракамуністычныя прыхільнасьці й пагляды калегі, амэрыканскага беларускага сьвятара Яна Хрызастома Тарасэвіча: *“Аб А[йцу] Тарасэвічу*[25] *[Мікола Абрамчык] казаў, што ён настолькі чырвоны, што яго ўжо выбеліць немагчыма. Для нас асоба а. Тарасэвіча надоўга астанецца вялікім мінусам, і на гэта няма ніякае рады”*[26].

Багата згадваецца ў лістах іншы калега-сьвятар ды выдавец часопісу “Зьніч” а. Пётра Татарыновіч, зь якім айцец Леў не супадаў асабліва ў паглядах на мову:

*“У справе «Зьніча»*[27] *дык я вельмі цешыўся-б, каб ён сапраўды задаваляў патрэбы лаціньнікаў і з усіх сілаў дапамагаў-бы ў гэтым, але ў такой форме і з такою моваю, якая часапіс выстаўляе насьмех ,— павер, што міма найлепшае волі не магу, бо ўважаю, што гэта беларускі каталіцызм толькі асьмешвае. Калі ты кажаш, што лаціньнікі ня могуць прывыкнуць да “Каталіцкае Царквы”, дык уяві сабе, як яны могуць прывыкнуць да “Субожні”, “Матавуша” і цэлых сотняў розных незразумелых дзіватвораў? Зусім іншая справа гаварыць агулам аб патрэбе часапісу і зусім іншая справа, калі гаворым канкрэтна, калі зьявілася “часопісь” (вось-жа нават і род зьменены на жаночы — часта і нават зусім правільна ўжываецца назоў часопіс, але не часопісь) і калі “гэтая часопісь” ня лічыцца зусім ані з традыцыямі, ані з моваю, ані з чытачамі.*

*Зусім слушна заўважаеш, што Пятро [Татарыновіч] раней вельмі карысна працаваў на літаратурнай ніве, але тады быў А[дам] Станкевіч*[28]*, празь якога рукі праходзілі ягоныя творы, і да таго тады сапраўды Пятро [Татарыновіч] не забаўляўся ў выдумкі”.*

[24] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 28.02.1949.

[25] **Ян Хрызастом Тарасэвіч** (1892—1978), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, сьвятар. З пачатку XX ст. жыў у ЗША. Быў адным з рэдактараў дзьвюхмоўнага расейска-ангельскага часопісу “Церковный Голос” (“The Voice of the Church”), які выдавалі бэнэдыктыны ў кляштары Сьвятога Пракопа ў Лайле (*Lisle*, каля Чыкага). Працуючы зь беларускімі імігрантамі ў Нью-Ёрку, Канэтыкуце й Чыкага, браў удзел у заснаваньні некалькіх беларускіх арганізацыяў, у тым ліку Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады ў 1941 г., дзе быў першым старшынём.

[26] Ліст а. Л. Гарошкі да а. Ч. Сіповіча ад 27.10.1950.

[27] ***“Źnič”*** — рэлігійны часопіс, што выходзіў у Рыме ў 1950—1975 гг. пад рэдакцыяй а. Пётры Татарыновіча.

[28] **Адам Станкевіч** (1891—1949), грамадзка-палітычны, рэлігійны й культурны дзеяч, каталіцкі сьвятар, адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі.



Айцец Леў Гарошка зь беларускімі ўдзельнікамі
Марыялягічнага кангрэсу ў Люрдзе. 1958 г.

Дасьледнік знойдзе ў захаваным ліставаньні традыцыйна багата водгукаў міжасабовых і міжгрупавых канфліктаў, канфрантацыяў, непаразуменьняў. Часам згадваюцца сытуацыі, ня надта ведамыя шырокай публіцы. Прыкладам, як тая, што склалася ў зьвязку з выданьнем у Нью-Ёрку зборніку твораў Уладзімера Жылкі. Вось як пераказвае яе айцец Леў: *“Цяпер там Адамовіч*[29] *і Янка Станкевіч*[30] *зноў пачалі баламуціць — выдалі творы Жылкі*[31] *і ў іх зьмясьцілі два зусім бязбожныя плюгавыя вершы, аж брыдка, што нешта такое дзееца на эміграцыі, калі на бацькаўшчыне выдаюцца такія “творы” толькі пад прымусам. Яп[іскап] Тамашчык*[32] *публічна забараніў сваім вернікам купляць гэтыя кніжкі, а тыя, што перш купілі, каб папалілі, і шмат*

[29] **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, навуковец, пісьменьнік. З 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых працаў.

[30] **Янка Станкевіч** (1891—1976), грамадзкі дзеяч, мовазнаўца, журналіст. Стваральнік Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. З 1949 г. жыў у ЗША. Выдаваў часопіс “Веда”. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных працаў, дзясяткаў артыкулаў.

[31] **Уладзімер Жылка** (1900—1933), паэт, перакладчык. Тут маецца на ўвазе выданьне: Жылка, Уладзімер. Творы. Да 20-х угодкаў сьмерці / Пад рэдакцыяй і з камэнтарамі Ант. Адамовіча. Ню Ёрк, 1953. 104 с.

[32] **Васіль** (сьвецк. **Уладзімер Тамашчык,** 1900—1970), рэлігійны дзеяч, першаярарх БАПЦ у 1949—1970 гг. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў япіскапат БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы.

*хто так зрабіў — дык вось цяпер і пачалася "дыскусія аб свабодзе творчасьці". Мы, здаецца, афіцыяльна ня будзем публікаваць нічога аб тых "Творах" Жылкі, каб не рэклямаваць іх, але бязумоўна, што супраць іх прыйдзецца выступіць вельмі рашуча, асабліва супраць іх пашырэньня".*

У Гарошкавага эпісталярнага архіву багатая геаграфія карэспандэнтаў. Яму пісалі ня толькі з розных краінаў Эўропы, але й з Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі, Аўстраліі, Новай Зэляндыі. Аўтары лістоў часам даволі яскрава апісвалі тыя абставіны ды асяродзьдзе, у якіх ім даводзілася жыць. Дзеля прыкладу прывядзем рэдкі ў эміграцыйных архівах ліст беларускага дзеяча ў ЗША Міколы Дарашэвіча:

*"Сакавіка 9, 1951*

*Вельмі паважаны а. Леў!*

*Прашу мяне прабачыць, што я адказваю на Ваш ліст зь вялікім спазьненьнем. Справа ў тым, што пару тыдняў таму назад у нас праходзіў Кангрэс беларусаў у Амэрыцы*[33]*. Вы аб гэтым ведаеце, бо мы ад Вас атрымалі добрае пажаданьне, за што Вам дужа ўдзячны. Ну, як вядома, да гэтага нам прыходзілася трохі рыхтавацца. Калі-ж прыняць пад увагу і тое, што мы цяжка фізычна працуем, каб зарабіць на кавалак хлеба дзеля сябе і сям'і, дык Вам стане зразумелым, што мы былі вельмі занятыя.*

*Вашага дваюраднага брата М. Гарошка*[34] *я ведаю зь вельмі добрага боку ўжо сёмы год. Пазнаёміліся мы зь ім у Нямеччыне. Эміграваўшы ў ЗША, фактычна мы зь ім заснавалі тут Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне 13 ліпеня 1949 г., разам працуем на грамадзкай ніве. Мы спадзяваліся, што ў выніку перавыбараў нас падменяць другія, але... памыліліся. Прыйходзіцца працаваць далей.*

*Пішыце Вы, вельміпаважаны а. Леў, што Вы пасылаеце свае выданьні на адрас Вашага дваюраднага брата. Я аб гэтым у яго запытаюся пры спатканьні, бо я толькі атрымоўваю рэгулярна ч[асопіс] "Божым Шляхам". Другога я больш ня меў.*

*Вы пытаецеся, якая тут у нас патрэба ў рэлігійнай літаратуры? На гэта скажу Вам наступнае:*

*Калісь я чытаў, што ў ЗША Расейцаў каля 7 міл[ьёнаў]. Расейцамі яны лічылі да апошніх часоў усіх тых, хто жыў пад былой Расейскай*

---

[33] Маецца на ўвазе Другі Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, які адбыўся 17—18 лютага 1951 г. у Нью-Ёрку.

[34] **Мікола Гарошка** (1902—1979), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Пасьля Другой сусьветнай вайны — на эміграцыі, быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў 1949—1952 і 1965—1967 гг., таксама старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Жыў у Нью-Ёрку (ЗША).

*Імпэрыяй. Трохі цяпер інакш, і яны ўжо ня ўсіх пачынаюць лічыць гэтым назовам. Дык вот, прыглядзеўшыся да гэтых "Расейцаў", відаць, што ў пераважнай колькасьці гэта беларусы ды ўкраінцы. Ну, вядома, чаго іх загнала сюды надоячы, і яны тут пачулі, што там утварылася рэвалюцыя. Фабрыкі перадалі рабочым, а зямлю сялянам. Адным словам, там ужо пабудавалі калі ня рай, дык штось вельмі падобнае. Канчальнай пабудове перашкаджаюць фашыстыя, прадстаўнікі якіх цяпер і прыехалі да Амэрыкі. На гэту справу "прамудры Сталін" сродкаў не шкадуе: кіно, кніжкі, газэты, часапісы і г. д. так затуманілі гэтых нашых старэйшых братоў, што яны цалкам ператварыліся ў чырвоных або папутнікаў "ружовых". Вам прадстаўляецца, у якой атмасфэры мы жывем. Чы паверыце Вы ў тое, што нашы родныя нам ня верылі з пачатку ды і цяпер ня зусім давяраюць. Гэта цалкам зразумела. Тое, што ўтварыла камуна, нармальны розум ня можа пагадзіцца, а прадстаўнікі Саветаў лгуць і кажуць, што ўсё гэта мана, што там сапраўды добра. Адзіны выхад, каб людзі паехалі ды пабачылі, але на тое ўтворана жалезная заслона.*

*Праца наша тут складаная і цяжкая. Бяда ў тым, што мы ня маем сродкаў. Але праўда на нашым баку!*

*Просім Вас не забуваць нас у Вашых Сьвятых малітвах! Дай Божа і Вам, і нам посьпехаў у працы!*

*Ваш М[ікола] Дарашэвіч*[35]*".*

Таксама рэдкія й вэнэсуэльскія лісты пісьменьніка Ўладзімера Дудзіцкага. У скіраваных да а. Лява Гарошкі пасланьнях утрымліваюцца цікавыя дэталі да паўднёваамэрыканскай біяграфіі дзеяча ды ягоных творчых плянаў.

*"Caracas, 3.9.1949*

*Высокапаважаны а. Гарошка!*

*Мне ўжо зусім сорамна: ізноў затрымаўся з адказам. Прабачце! Часапіс "Божым Шляхам" атрымліваю рэгулярна. Зь няпрыемнасьцю мушу сьцьвердзіць адну акалічнасьць: вэнэцуэльскія беларусы ня цікавяцца друкаваным словам. Да апошняга часу не магу даць рады гэтай справе. Праўда, ёсьць добрыя людзі, але яны далёка ад Каракасу. Вельмі цяжка жыць, ня маючы нацыянальна сьведамага асяродзьдзя.*

*Кажу шчыра: Вашае выданьне — адзіная для мяне духоўная страва. Бяручы ў рукі нашыя газэты, заўсёды паўстае адно і тое самае пытаньне: каго-ж ізноў "выкрываюць" і абліваюць гразёю? І сорамна, і прыкра...*

---

[35] **Мікола Дарашэвіч** (1898—1974), торфазнаўца, прафэсар, грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў БАЗА, першы скарбнік арганізацыі.

*Гэтым разам маю адну прыватную справу — справу выданьня зборніка маіх вершаў. Скажэце, якія маеце Вы друкарскія магчымасьці? Могуць быць два варыянты: ці аўтар аплачвае кошт выданьня ці ўсю справу бярэ выдаўніцтва з адпаведнымі адсюль вынікамі, гэта значыць, пакрывае кошт выданьня прыбыткамі з продажу. Якая Вашая думка? Вінаваты я сам. Можна было даўно ўжо выдаць, але я ўвесь час цягнуў і адкладваў на будучыню. Маю надзею, што кніжка будзе мець посьпех. Памер — 6—8 друкаваных аркушаў. Можа быць меншай і большай. Чакаю Вашага адказу.*

*З пашанаю —*

*Ваш Уладзімер Дудзіцкі*[36]

*Venesuela, 23.12.49*

*Дарагі а. Гарошка!*

*Спазьненьне — няпрыемная рэч, але [...]: заўсёды ў падарожжы. Увесь час працую ў Інстытуце ў якасьці ляснога асыстэнта і батаніка. Давялося вывучаць горную флёру Вэнэцуэлы і ствараць першы дзяржаўны гербарый. Праца вельмі цікавая і, безумоўна, карысная. Калі будзе суджана, абавязкова напішу кнігу аб флёры Паўдзённае Амэрыкі. Беларусь мае вялікую ў гэтым патрэбу. Пагглядзім, што пакажа будучыня.*

*Бачу, што выданьне кнігі вершаў у Парыжы — справа безнадзейная, як Вы кажаце. Дарагі дужа друк. Крыху пачакаю. Тут, у Вэнэцуэлі, няма ніякіх магчымасьцяў: няма беларускага друку. Цяжкасьці на кожным кроку. Чакаў дасюль — пачакаю яшчэ. Як-жа выглядае справа Вашага часопісу і беларускае газэты ў Францыі? Па Калядах дашлю Вам крыху на выдавецкі фонд і аплачу кошт атрыманых часапісаў. Запазычанасьць маю вялікую.*

*Вітаю Вас зь вялікім днём Раства Хрыстовага і Новым Годам! Жадаю здароўя, радаснага жыцьця і плённае працы на карысьць Бацькаўшчыны Беларусі.*

*Заўсёды Ваш —*

*Уладзімер Дудзіцкі*

*P.S. 1) Высылаю да друку ў “Божым Шляху” два вершы. 2) Ці атрымалі Вы мой фотаздымак?*

*Ул. Д.”.*

---

[36] **Уладзімер Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эмігр. **Гіцкі**, 1911 — пасьля 1976), літаратар, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У 1949 г. выехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Згуртаваньне беларусаў у Вэнэсуэле. У 1956—1962 гг. — кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхэне.

Як бачым, тысячы старонак эпісталярнага архіву айца Лява Гарошкі ўяўляюць надзвычайную каштоўнасьць для тых, хто цікавіцца рознымі аспэктамі беларускай прысутнасьці на Захадзе. Тут і дэталі да біяграфіяў, і гісторыі арганізацыяў ды асяродкаў. З паасобных допісаў, згадак можна складаць захапляльныя пазлы, разгадваць таямніцы, вывучаць кантэкст беларускага жыцьця на чужыне ў сярэдзіне XX ст.

*Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны*

*Эміграцыйны эпісталярый*

# ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА АЙЦА ЛЯВА ГАРОШКІ

*У развагах пра розныя канфэсіі беларусаў-эмігрантаў немагчыма абмінуць парадаксальны факт: моцная, з шматлікімі парафіямі, цэрквамі, прыхаджанамі, сьвятарамі БАПЦ — і нешматлікая, мізэрная купка сьвятароў-каталікоў і грэка-каталікоў. Але што за волаты духу й справы тое былі й які сьлед па сабе пакінулі!*

*Біскуп Часлаў Сіповіч, прэлат Пётра Татарыновіч, айцец Язэп Германовіч, айцец Аляксандар Надсан. Кожны зь іх — асобная самастойная й надта ж дзейная парафія!*

*З гэтага ж ліку быў і айцец Леў Гарошка. Грамадзкі й царкоўны дзеяч, дасьледнік ("Сьвятая Еўфрасіньня Прадслава, патронка Беларусі", "Дахрысьціянская вера нашых продкаў", "Культ Багародзіцы на Беларусі", "Беларуская форма крыжа", "Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі", "Прэпадобны Лаўрэн Тураўскі" і інш.), пісьменьнік (псэўданім Анатоль Жменя), мовазнаўца ("Своесаблівасьці беларускае мовы", 1951; рукапісны грэцка-лацінска-царкоўнаславянска-беларускі слоўнік), энцыкляпэдыст ("Беларусь у датах, ліках і фактах", 1953), зьбіральнік беларускіх прыказак, мэмуарыст (успаміны, выдрукаваныя ў "Запісах", ужо згадваліся ў папярэднім артыкуле).*

*Сапраўдным помнікам Ляву Гарошку стаўся заснаваны ім у Парыжы часопіс "Божым Шляхам" (1947), пра які пісаў: "Мэтаю часапісу ёсьць Божае слова для сваіх суродзічаў на эміграцыі, несьці пацеху і падтрыманьне на чужыне" (ліст ад 18.12.52). Лісты, апублікаваныя ніжэй, напісаныя акурат у гады, калі айцец Гарошка рэдагаваў гэтае выданьне. Вялікі эпісталярны архіў сьвятара захоўваецца ў зборах Скарынаўскае бібліятэкі ў Лёндане.*

*Існуюць пэрыяды, калі роля лістоў набывае іншае, як звычайна, значаньне, іншае вымярэньне. Гэта пэрыяды самаўсьведамленьня, самавызначэньня — адной-адзінюткай асобы або цэлага народу.*

*Канец 1940-х — 1950-ыя гг. — якраз такі час для беларускай эміграцыі, раскіданай па сьвеце. Яна празь ліставаньне шукала ня толькі блізкіх і сваякоў, ня толькі месцы — гарады, краіны, — куды б можна было выехаць і пусьціць карані, але таксама была ў пошуках сваіх: аднадумцаў, паплечнікаў, выданьняў, арганізацыяў.*

*І тут лісты набываюць паліфанічнасьць, шматтэмавасьць: лёсы пазасталых на бацькаўшчыне сваякоў, нядаўнія падзеі вайны й*

*падзеі сёньняшнія — як усё гэта зьнітавалася ў адным зь лістоў Лява Гарошкі да земляка, імя якога ён нават ня можа дакладна адразу прыгадаць:*

*“Паважаны Віця!*

*Напісаў «Віця» і сам ня пэўны, ці не памыліўся, ці так называешся, за восем гадоў ужо забыўся шмат чаго.*

Но.

Да
Ураду Беларускага Інстытуту
Навукі і Мастацтва
Нью Ёрк. З.Г.А.

Прашу залічыць мяне ў лік сяброў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя і дадзеныя пра мой навуковы /літаратурны, мастацкі/ [illegible].

Дня 18 – II 1952 г. [подпіс] /подпіс/

Памёр ліпеня 1977 г.

Прозьвішча і імя ГАРОШКА Леў

Літаратурны /мастацкі/ псэўдонім/ы/ А. Жвіж і шмат іншых.

Адрас 95, rue de Sèvres, Paris VI, France

Дата і месца нараджэньня 26.2.1911 у в. Трашчычы.

Асьвета і эвэнтуальны навуковы /мастацкі/ стаж Грэка-кат. Акадэмія і тэалег. факульт. у Іннсбруку.

Навуковая ступень /калі ёсьць/ —

У якой галіне навукі /літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць у Інстытуце рэлігійнай гісторыі, беларускай этногр. і моваведы

Публікаваныя навуковыя /літаратурныя, мастацкія/ творы:
1) Св. Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая. 2) Душа. 3) Аб па-[illegible] чалавека. 4) [illegible] беларускае мовы. 5) Беларусы ў [illegible] і шмат артыкулаў

Прыгатаваныя да публікацыі творы
1. [illegible]
2. Беларускія прыказкі і [illegible] (ужо 7.000)
3. Беларуска-француcкі і француска-беларускі слоўнік ([illegible] 22000 слоў кожны) — [illegible]

Заява-анкета айца Лява Гарошкі на ўступленьне ў БІНіМ. 1952 г.

*Твой ліст атрымаў сёньня і моцна зьдзівіўся. Я ніколі не спадзяваўся, што ты знайшоўся на эміграцыі. Якім чынам трапіў у Аўстралію? Ня чуваць было, каб дзе быў у Нямеччыне.*

*Аб тваіх бацькох нічога ня ведаю, але думаю, што іх на эміграцыі няма. Апошні раз бачыў маму і дзядзька ў Баранавічах, куды яны прыяжджалі ў тваёй справе, які месяц перад эвакуацыяй, і тады зусім было пэўна, што яны нікуды не зьбіраюцца выяжджаць.*

*Агулам з Трашчычаў*[1] *на эміграцыі знайшлося ўсяго пару чалавек. Жорж Монько жыве ў Нямеччыне ў Карльсруэ, інж. Мікалай Гарошка ў Амэрыцы — вось і ўсё. Косьця загінуў у 1945 г. у Югаславіі ад цітаўскай кулі, калі разам з Жоржам вярталіся з Бацькаўшчыны ў Зах[однюю] Эўропу.*

*Наша вёска ў 1944 г. згарэла да тла, і цяпер там мусіць зроблены калгас. Калісь мне трапіла ў рукі кніжка Янкі Брыля*[2] *(з Загора*[3]*) пад загалоўкам «У Забалоцьці днее»*[4]*, там ён успамінае некалькі раз аба мне і аб маім бацьку (праўда, імёны пазьмяняў) і ўспамінае там-жа, што мой малодшы брат быў у партызанах (супрацьбальшавіцкіх) і што яго мелі злавіць энкавэдысты. Калі гэта праўда, дык, здаецца, з маіх родных нікога ў жывых не асталося. Бог адзін ведае, што там на Бацькаўшчыне сталася з тымі, што асталіся, але пэўна, што хто астаўся жывы, дык мусіць шмат цярпець зьдзекаў ад маскоўскай навалачы.*

*Сумна глядзець, што эміграцыя наша хоць невялікая, але да таго вельмі разьбітая, але і аб'яднаць яе немагчыма, бо адны хоць нешта робяць, каб памагчы беларускай вызвольнай справе, а другія ня толькі што нічога добрага ня робяць, але стараюцца яшчэ перашкаджаць у працы. Між зарубежнікаў паўлазілі савецкія агэнты і выкарыстоўваюць наіўнасьць некаторых блізарукіх, хоць і шчырых людзей і муцяць як могуць — дык як-жа іх аб'яднаеш, калі ўмысна шукаюць магчымасьці толькі пасварыць людзей?! Цяпер адзінае, што можна і трэба рабіць, гэта няглед зячы на ніякія плявузганьні розных "трэціх сілаў" і пятых калёнаў рабіць спакойна тое, што магчыма для агульнага дабра. У гэтым кірунку ўжо зроблена нямала: ёсьць магчымасьць вучыцца ў Лювэне й Мадрыдзе, часткава так-жа і ў Амэрыцы, у Францыі дабіліся, што афіцыяльна прызнана беларус-*

[1] **Трашчычы** — вёска ў Карэліцкім раёне Гарадзенскай вобласьці, родная вёска а. Лява Гарошкі.

[2] **Янка Брыль** (1917—2006), народны пісьменьнік Беларусі.

[3] **Загор'е** — вёска ў Карэліцкім раёне Гарадзенскай вобласьці, бацькоўская вёска Янкі Брыля, месціцца недалёка ад Трашчычаў а. Лява Гарошкі.

[4] Маецца на ўвазе выданьне: Брыль, Янка. У Забалоцці днее. Мінск, 1951. 195 с.

*кую нацыю як дзяржаўную, атрымалі беларускую каталіцкую ерархію, атрымалі беларускія аўдыцыі ў Ватыканскім радыё, знайшлі часткавую дапамогу на беларускую прэсу, навязаны кантакты зь дзяржаўнымі прадстаўнікамі іншых дзяржаўных народаў" (ліст ад 30.XI.53).*



Язэп Гладкі

*Кожны асобны ліст — невялічкі фрагмэнт аднаго жыцьця ці нават толькі дробны ягоны эпізод, але, складзеныя разам, яны ствараюць манумэнтальную мазаіку жыцьця агульнанацыянальнага, агульных клопатаў, турботаў, паразаў і дасягненьняў.*

*Гэта лісты менавіта таго кшталту, пра якія калісьці афарыстычна выказаўся Аляксандар Герцэн: "Лісты большыя за ўспаміны, на іх запяклася кроў падзеяў, гэта само мінулае, як яно было, затрыманае й неўміручае"*[5]*.*

## Язэп Гладкі

*Язэп Гладкі (псэўданім Адам Варлыга, 04.10.1890, в. Міхалкавічы Барысаўскага пав. Менскай губ. (цяпер Лагойскі раён Менскай вобласьці) — 28.07.1972, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, выдавец, этнограф, мовазнаўца. У 1912 г. быў мабілізаваны ў царскае войска. Па сканчэньні фэльчарскай школы браў удзел у ваенных дзеяньнях Першай сусьветнай вайны. Кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў. Браў удзел у Першым Зьезьдзе беларускіх вайскоўцаў і Першым Усебеларускім кангрэсе. З 1921 г. актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага школьніцтва на Лагойшчыне, дзе настаўнічаў да 1930 г., калі быў звольнены з працы. Каб пазьбегчы рэпрэсіяў, перабраўся ў Менск, дзе ў 1936 г. скончыў Вышэйшы пэдагагічны інстытут і працаваў у Інстытуце школьнай пэдагогікі пры Наркамаце асьветы. У 1941 г. вярнуўся настаўнічаць у родную вёску, аднак у 1943 г., ратуючыся ад партызанаў, зноў прыехаў у Менск, дзе працаваў у выдавецтве школьных падручнікаў. З 1944 г. — у Нямеччыне. У лягерах DP настаўнічаў ды займаўся выданьнем падручнікаў (каля 10 кніг), для чаго на ўласныя грошы заклаў выдавецтва "Заранка". Пазьней перабраўся ў ЗША, дзе працягваў выдавецкую дзейнасьць, аднавіўшы выдавецтва "Заранка". У 1950-х гг. выкладаў беларускую мову на беларусаведных курсах у Нью-Ёрку. Аўтар працаў "Прыказкі Лагойшчыны" (Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1966), "Краёвы*

[5] Герцен, Александр. Былое и думы. Ленинград, 1948. С. 155.

*слоўнік Лагойшчыны" (Нью-Ёрк, 1970), успамінаў "Чутае — бачанае — перажытае"*[6].

1.3.1948

Паважаны ксёндз-дабрадзею,

прабачайце, што з запазьненьнем дасылаем Вам свае выданьні. Прычына такая, што сьпярша ня ведалі адрасу беларусаў у Францыі, а пасьля, даведаўшыся адрас, і першыя выданьні выслалі на імя прэзыдэнта інж. Абрамчыка (ня ведаю, ці атрымаў ён). Нарэшце з Вашай газэты даведаліся Ваш адрас і тое даведаліся, што ў Вас у Парыжы арганізавалася беларуская бібліятэка. Дык вось, наша ўбогае выдавецтва і высылае Вам свае выданьні па аднаму экзэмпляру: "Лемантар", "Родны палетак", "Малюнкі мінулага", "Геаграфію", "Помнікі старажытнасьці"[7] для Парыскай беларускай бібліятэкі. (Прашу прабачэньня, што адна кніжка — "Помнікі старажытнасьці" — з тэхнічнага боку няўдала выйшла. Трэцюю кнігу "Помнікі старажытнасьці" прашу перадаць Пану прэзыдэнту, калі ён цікавіцца, а папярэднія мы яму высылалі.

Наша выдавецтва — Выдавецкая Суполка "Заранка" — існуе ўжо другі год. Наша мэта ў першую чаргу выдаваць школьныя падручнікі. Але мы пасьпелі выдаць толькі гэтыя кніжкі, што Вы перад сабой маеце. Прычына ў маруднасьці тая, што працуем толькі ўдвух. Патрэбна кніжку напісаць, перапісаць на матрыцы, надрукаваць і брашураваць, сшыць і абрэзаць, усё гэта трэба рабіць саматугам. А тут няма сваёй пішучай машынкі ні ратататара, трэба пазычаць, ды не заўсёды ў пару пазычаць. Ёсьць яшчэ кніжкі напісаныя, якія неабходны для школы, але ня маем мажлівасьці надрукаваць.

Частка людзей прошлай вясной з нашага лягеру[8] выехала ў Англію, зімой пісаліся ў Англію і Аўстралію, але ні ў Англію, ні ў Аўстралію бе-

---

[6] Успаміны былі апублікаваныя ў: Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 14—262.

[7] Маюцца на ўвазе выданьні: Г[ладкі, Язэп]. Беларускі лемантар. Ватэнштэт: выданьне супалкі "Заранка", 1946. 53 с.; Гладкі, Язэп. Геаграфія. Частка першая. Падручнік для III клясы пачатковай школы. Ватэнштэт: выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. 31 с.; Родны Край. Кніжка першая. Чытанка. [Укладальнік Язэп Гладкі]. Ватэнштэт: выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. 36 с.; Геаграфія. Падручнік для III клясы Беларускай Народнай Школы. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі "Заранка", 1947. 54 с.; H[ładk]i, J[azep]. Pomniki staražytnaści = Помнікі старажытнасьці. Čytańnie dla III-kl. Narodnaj Škoły. Vatenštet: vyd. supałki "Zaranka", 1948. 69 с.; Г[ладк]і, [Язэп]. Малюнкі мінулага: Частка II. Для IV клясы Народнай Школы і моладзі. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі "Заранка", 1947. 176 с.

[8] Маецца на ўвазе **Беларускі лягер у Ватэнштэце** ў Ніжняй Саксоніі ў ангельскай акупацыйнай зоне Нямеччыны. Ён быў арганізаваны ў 1945 г.

ларусаў не ўзялі. Пісаліся ў Канаду. Сем'яў каля пяці паехалі, але туды занадта ўважлівы адбор: патрабуюць рост, вагу і інш. Цяпер апошнія дні пісалі ў Францыю, але ў веку толькі да 45 гадоў.

Бывайце здаровы.

З пашанай да Вас, [Язэп] Гладкі (старшыня: Выдавецкай Суполкі "Заранка")

28.4.48

Паважаны ксёндз-дабрадзею а. Леў!

Пасылаю Вам яшчэ свой сьціплы падарунак. Праўда, ён не дастаткова апрацаваны, але мне і так занадта шмат было працы, бо не ўладаю голасам і мала знаёмы з нотамі, а дзеля гэтага патрэбна было зьвяртацца за дапамогай да іншых асобаў.

Пры гэтай працы я кіраваўся голасам уласнага сумленьня, бо лічыў праступкам перад народам, калі з сабой панясу на той сьвет скарб яго, не перадаўшы таму, каму ён належыць.

Апрача гэтага зборніцтва песень[9] сабраў яшчэ блізка тысячу беларускіх прыказак і каля дзясятка казак, некаторыя досыць вялікія, але ня маючы сваей ні машынкі для пісаньня, ні ратaтара, ды ў нас у ангельскай зоне і з паперай ня зусім добра — дрэнная і цяжка яе набыць, дык пакуль што выдаць немажліва.

Цяпер у хуткім часе павінна выйсьці хрэстаматыя памерам каля 120 балонак вялікага фармату. Здалі матрыцы набіваць перад новым годам, але выканаўцам гэтага заказу клопату мала, а ў нас у школе яна на гвалт патрэбна. З нашага лягеру ў леташнім годзе болей 50 чалавек выехала ў Англію. Сёлета ў Англію з нашага лягеру не бяруць. Некалькі чалавек паехала ў Бэльгію і ў Францыю ў капальні і ў Канаду на капальні. Цяпер вясной запісаліся ў Францыю болей 200 асобаў на фабрыкі і на сельскую гаспадарку, і мэдычную камісію гэтыя людзі прайшлі, але яшчэ не вядома, ці возьмуць.

Я асабіста нікуды не выяжджаю. Праўда, у Англію быў з восені запісаўся і прайшоў мэдычны агляд, але ў Англію беларусаў цяпер не бяруць. Па веку туды пісалі да 55 г. У Францыю пішуць толькі да 45 гадоў, дык ад мяне гэта пытаньне адпадае. Ды папраўдзе сказаць, каб і забралі ў Англію ці Францыю, дык па маім веку і здароўі ці змог-бы працу падабраць. Пакуль будзе мажліва, прыйдзецца тут працаваць.

Тут працавалі дзіцячы садок, пачатковая школа, гімназія, аматарскія тэатр, хор, танцавальныя гурткі. Лягер дзейнічаў да лютага 1950 г.

[9] Маецца на ўвазе выданьне: Дудар = Dudar. Зборнік народных песьняў (этнаграфічны матарыял). Укладальнік Я[зэп] Г[ладкі]. [Meierwik]: выдавецтва супалкі "Заранка", [1949]. 85 с., ноты.

Але самае горшае для нас у сучасны момант — гэта палітычная хваравітасьць нашага грамадзтва. Калі-б патрэбна было толькі працаваць і працаваць, каб нагнаць тое, наколькі мы адсталі ад іншых нацыянальнасьцяў ня толькі дома, але і тут, на чужыне, дык замест працы — грызьня, звадкі. Нават дайшло да таго, што камэндант нашага лягеру [Сьвятаслаў] Коўш[10] забараніў у лягеры газэту "Бацькаўшчыну"[11]. Цяжка і крыўдна, як-бы праклящьце спала нейкае на наш народ.

Вы пісалі адносна часапіса "Божым Шляхам". Іншы раз дастаём гэты часапіс, але калі гэта будзе мажліва і не складзе вялікай труднасьці, дык прасіў-бы прысылаць.

Я ніяк не магу ня ўспомніць аб Вашай заўвазе па працы "Заранкі". Прызнаюся, што яна мяне глыбака закранула. З Вашых словаў я першую пачуў спагаду. Гэта заўважыць маглі толькі Вы, бо і Вы працуеце не дзеля матэрыяльных выгад і не дзеля асабістага шчасьця і славы, а дзеля славы Божай і карысьці нашага шматпакутнага народу.

З пашанай да Вас.

Бывайце здаровы.

Я[зэп] Гладкі

P. S. Ноты ў некаторых песьнях не зусім дакладна запісаны. Нашы лягерныя "кампазытары" ўсьцяж перарабляюць і ўдакладняюць. Ды й сам дудар выйшаў недакладна, з твару больш падобны да ўкраінца ці якога серба, чым да беларуса. Калі ласка, адзін экзэмпляр перадайце пану Прэзыдэнту інж. Абрамчыку, а дзьве Вам.

Я. Г.

1.6.48

Паважаны ксёндз-дабрадзею а. Леў!

Наш Ватэнштэт жыве сваім звычайным жыцьцём. Адно хіба новае, што народ пачынае абурацца супроць свайго дыктатара камэнданта

---

[10] **Сьвятаслаў Коўш** (1917—1997), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, сын сьвятара Аляксандра Каўша. Падчас Другой сусьветнай вайны ў канцы 1943-га — 1944 г. — начальнік Клецкага павету. У 1944 г. эміграваў на Захад. У паваеннай Нямеччыне — камэндант беларускага лягеру ў Ватэнштэце. З 1949 г. — у ЗША. Стаў праваслаўным сьвятаром, у 1976—1986 гг. быў адміністратарам беларускіх (кананічных) парафіяў у Паўночнай Амэрыцы.

[11] **"Бацькаўшчына"** — беларуская тыднёвая газэта, якая выдавалася ў Нямеччыне з 31 кастрычніка 1947 г. Падтрымлівала Раду БНР. Рэдактарамі ў розныя часы былі Лявон Савёнак, Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч (найдаўжэйшы час, зь лета 1948-га да 1961 году), Алесь Марговіч, Янка Запруднік, Уладзімер Цьвірка, Паўла Урбан. Апошні нумар (№ 637) пабачыў сьвет у сьнежні 1966 г.

лягеру Каўша. Ён у нас стаіць на чале кіраўніцтва лягеру з пачатку яго заснаваньня. Ён кіраваў лягерам вельмі ўмела. Дзякуючы свайму знаёмству з *IRO*-ўскімі[12] працаўнікамі і вайсковым ангельскім камандаваньнем, ён мае лішкі прадуктаў, зь якіх падкідае крыкунам і сваім падхалімам, а іншых запужвае рэпрэсыямі. На гэткім праве ён базаваў свой палітычны сьветапагляд. Дзякуючы сваёй такой дыктатуры, ён праводзіў і выбары ў “Цэнтральнае Беларускае Прадстаўніцтва”[13] БЦР. Дзякуючы сваёй неабмежаванай уладзе ён трымае несумленных лягерных працаўнікоў, якім народ не давярае. Няма рэвізыйнай камісіі і няма лягернай рады.

Народ сабраў 125 подпісаў, патрабуючы ад камэнданта зьмяніць некаторых работнікаў, якія выдаюць прадукты, выбраць патаемным галасаваньнем рэвізыйную камісію і лягерную раду. Калі ён атрымаў ліст з подпісамі, дык некаторых стаў заклікаць і патрабаваць адмовіцца ад сваіх подпісаў. Іншых яго *“молодцы”* ноччу палілі, а іншым каменьнем вокны павыбівалі. Агульны сход усё-ж сабралі, але сам кіруючы сходам не дапусьціў патаемнага галасаваньня. Калі абураны народ дэманстрацыйна разышоўся (было на сходзе каля 300 асоб, а засталося каля 50) дык ён фіктыўна змайстраваў рэвізыйную камісію. Такія ягоныя паводзіны яшчэ больш абурылі народ.

Чым далей праходзе час, дык наш народ усё больш турбуецца аб выязьдзе зь Нямеччыны. Паколькі народ марыць аб звароце на бацькаўшчыну, дык пажадана застацца ў Эўропе. Бэльгія бярэ ў капальні з добрым здароўем і толькі да 35 г. (з радзінамі). Англія да 55 г., але толькі самотных. Для нашых людзей большай часткай для выезду надаецца Францыя, бо бяруць да 45 г. веку, абяцаюць узяць і радзіну, але не гарантуюць. Невядома, як пашанцуе выехаць, але з нашага лягеру запісалася для Францыі каля 2/3 лягеру. Нават запісаўся сам камэндант з сваймі бліжэйшымі супрацоўнікамі-падхалімамі. Я з сваім супрацоўнікам па школе настаўнікам [Кастусём] Сіткоўскім[14] жадаем выехаць за межы Нямеччыны, пажадана ў Францыю. Мы зь ім працуем у “Заранцы”, і хацелася-б разам выехаць, каб у вольны час ад працы

---

[12] ***IRO (International Refugee Organization)*** — міжнародная арганізацыя ў справе ўцекачоў, дзейнічала ў 1946—1952 гг.

[13] **Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва** — створаная 30 сьнежня 1947 г. Радаславам Астроўскім арганізацыя, якая мелася выступаць прадстаўніцаю ўсіх беларусаў на эміграцыі, але насамрэч аб’яднаць прыхільнікаў БЦР.

[14] **Кастусь Сіткоўскі** (1923—1994), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, у 1944 г. скончыў Наваградзкую настаўніцкую сэмінарыю. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягеры Ватэнштэт, працаваў настаўнікам у беларускай пачатковай школе. Пры канцы 1949 г. выехаў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі.

што-колечы зрабіць у галіне выдавецтва. Супрацоўнікі францускай місіі кажуць, што ў каго будзе кантракт, падпісаны з Францыі, дык той зможа зразу паехаць у Францыю бесьперашкодна.

Калі-б Вам быў вольны час ды калі маеце знаёмства з уплывовымі асобамі, дык я хачу Вас прасіць разьведаць, ці маглі-б мы пераехаць у Францыю.

Мой сябра [Кастусь] Сіткоўскі (з Наваградка) — настаўнік 25 гадоў, жанаты. Жонка 23 гады, мэдычная сястра, дзяцей ня маюць. Мне 54 гады, самотны, для лепшага афармленьня пераезду можа было-б добра запісаць у адну сям'ю як дзядзька.

Бывайце здаровы.

З пашанай да Вас, [Язэп] Гладкі

22.9.48

Паважаны а. Леў!

Даўно я Вам пісаў, а прычына тая, што ў нас новага асаблівага не сталася, а да таго і Вас турбаваць, адрываць ад працы, якой Вы маеце даволі. Бо судзячы па адным толькі часопісе відаць, што на яго шмат траціцца часу, бо кожны артыкул, кожны сказ старанна апрацаваны. Гэта ня толькі мая заўвага, але і іншых асобаў, якія разьбіраюцца ў літаратурнай працы. А ці-ж Ваша сэрца не сьціскаецца, як шчырага патрыёта, бачачы розныя выбрыкі зарубежнікаў, якія разьбіваюць нашыя нацыянальныя сілы, якія і так рэдкія і малалікія. Гэтая барацьба ў Вашым часопісе не адбіваецца, бо Вы прачуваеце, што цярпеньне, вытрываласьць і хрысьціянская пакора прывядуць да лепшых вынікаў, як літаратурная палеміка. Я хачу тут напомніць да параўнаньня адзін факт з жыцьця праваслаўнага духавенства на эміграцыі. Калі мітрапаліт Панцялейман[15] выліваў столькі бруду супроць біскупа Сяргея[16], а той заклікае толькі Богу маліцца, а не ўступаць у палеміку. За кім-жа больш хрысьціянскай маралі? Па-мойму, за другім. Так і мы ў склаўшыхся абставінах нацыянальнага жыцьця павінны паступаць: пабольш нацыянальнай і грамадзка-карыснай працы, а на варожыя пашквілі нават не адказваць. Па-мойму, такі шлях змаганьня бліжэйшы да нашай перамогі.

У нас адбылася рэформа валюты, хоць увогуле жыцьцё трохі палепшылася, хто працуе і мае грошы, але ў нашай "Заранкі" праца была зусім спынілася, бо старыя грошы забралі, а новых нікольні ня далі. Я прымушаны быў, атрымаўшы першую пэнсію, улажыць у фонд "Заранкі" як пазычку і выдаць пачатую друкавацца кніжку ("Наша

[15] Маецца на ўвазе мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі).

[16] Маецца на ўвазе архіяпіскап Сергій (Ахатэнка).

краіна"[17], якой два экзэмпляры Вам высылаем). Цяпер у нас моцна ўздаражэлі як папера, так і ўсе друкарскія матэрыялы.

Як я, здаецца, Вам вясной пісаў, што ў нас у лягеры з камэндантам вялося бадай што цэлае змаганьне. Але ён як дыктатар, маючы знаёмства ў дэпаксе[18], сваім ботам прыціснуў усё жывое. Адных людзей павыкідаў зь лягеру, а іншыя самі паўцякалі, а рэшта прыціхлі. Адно ў нас было сумна, што моладзь нашага лягеру была пад яго ўплывам, але, здаецца, блізак той час, што яна высьлізьне з-пад яго рук.

Бывайце здаровы.

З пашанай да Вас, [Язэп] Гладкі

30.1.49

Вельмі паважаны а. Леў!

У сваёй аснове жыцьцё ў нашым лягеры не зьмянілася. На эміграцыю масава не выяжджалі. Восеняй некалькі сем'яў было запісалася ў Аўстралію, але іх не прынялі, бо яны былі запісаны ў Заходняй Беларусі, а яны бралі толькі з Усходняй, але ў нас усе запісаны з Заходняй Беларусі.

У нас у лягеры яшчэ з 1947 году заснавана невялічкая каталіцкая парафія. Перш было больш сотні асобаў, цяпер каля 80 асоб. Дзякуючы клопатам а. М[іхася] Маскаліка[19] ў нас мінулай восеняй заснавана Беларуская *"Charytas"*. Адміністрацыя лягеру варожа ставілася да гэтай арганізацыі і шкодзіла ў працы. Да сьвята Каляд атрымалі значную колькасьць ад *NCWC*[20] падарункаў і разьмеркавалі іх як сапраўдныя хрысьціяне, нават не абмінулі і тых, што перашкаджалі нам у працы і сьмяяліся. З дапамогай гэтай арганізацыі правялі запіс на эміграцыю ў *USA*. Запісалася больш 300 асобаў. На днях афармілі анкету *N3* і будзем чакаць на пераходны лягер. Цяпер яшчэ дадаткова запісалася блізка сотні. Зарубежнікі і тут не спынілі сваёй шкоднай прапаганды. Калі ў лістападзе месяцы за першы дзень запісу мы ўсіх жадаючых не змаглі запісаць, дык на другі дзень камэндант лягеру С[ьвятаслаў] Коўш разьвесіў

[17] Маецца на ўвазе выданьне: Г[ладк]і, Я[зэп]. Наша краіна, літаратурная чытанка = Naša kraina, litaraturnaja čytanka. Vatenštet: vyd. supałki "Zaranka", 1948. 142 с.

[18] **ДЭПАКС** — цэнтар збору перамешчаных асобаў.

[19] **Міхась Маскалік** (1903—1965), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, доктар філялёгіі, культурна-грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Заходняй Нямеччыне. Быў ініцыятарам і кіраўніком Беларускай харытатыўнай службы. Праводзіў душпастырскую дзейнасьць у парафіях Радэборн, Оснабрук і Гільдэсгайм.

[20] ***NCWC — National Catholic Welfare Conference*** (анг.) — арганізацыя, заснаваная ў ЗША ў 1919 г. для дапамогі імігрантам-каталікам.

абвесткі, што Беларуская Цэнтральная Рада праз Др. [Івана] Ермачэнку[21] прыслала ў лягер 100 кантрактаў, на 100 сем’яў. І пасадзіў урадоўца рабіць запісы на гэтыя “кантракты”. Калі жадаючыя прыходзяць да іх запісвацца, дык загадвалі перш выпісацца з *“Charytas”*, а пасьля толькі яны запішуць на Ермачэнкавыя выдуманыя за ноч “кантракты”. Цяпер, калі ўжо запоўнілі анкеты *N3*, дык праваслаўны сьвятар [Аўген] Сурвіла[22] перш па кватэрах агітаваў, сёньня нават з амбоніі заклікаў праваслаўных ня ехаць за мора, бо (па яго словах) і *“за морам людзі з голаду ўміраюць”*. Я ўпэўнен, што іх прапаганда ня будзе мець посьпеху.

Яшчэ адна просьба да Вас. Мінулай вясной ад нас шмат людзей пісалася і ехала ў Францыю. Удава Алеся Лапцік як шматсямейная з чужымі паслала сваю дачку Зіну ў Францыю, каб пасьля зь меншай колькасьцю дзяцей і самой паехаць. А цяпер яна запісалася і запоўніла бланкет *N3* на выезд у *USA*. Матка хацела-б і дачку Зіну вярнуць, каб разам зь ёй ехаць у *USA*. Гэта дзяўчына, Зіна Лапцік, жыве ў свайго дзядзькі: *Huber Peter, Ferme de Schoenek, Post Stiring Wendel, 60 b (Moselle)*. Ёй на праезд грошы дасьць дзядзька, але дабіцца права на выезд у Нямеччыну ім, новым людзям, нялёгка. Да вас просьба такая: Аб гэтым напісаць у Беларускую Работніцкую арганізацыю, можа-б яна дастала пропуск на выезд з Францыі. Яна цяпер тлумачыць так: яна ня ведала, дзе яе матка, дык езьдзіла з чужымі, а цяпер даведалася, што яе матка ў Ватэнштаце ў Нямеччыне, дык і стараецца даехаць да маткі.

Бывайце здаровы.

З пашанай, [Язэп] Гладкі

13.3.49

Паважаны ксёндз а. Леў!

У нашым лягерным жыцьці нічога новага ня чуваць. Нашы ДП-і жывуць на ўсім гатовым, але ўсё-ж не задаволены сваім лёсам — імкнуцца выехаць на эміграцыю. З нашага лягеру запісалася на выезд

---

[21] **Іван Ермачэнка** (1894—1970), беларускі грамадзкі дзеяч. Падчас Першай сусьветнай вайны — афіцэр Расейскай імпэратарскай арміі. У 1919—1920 гг. — афіцэр Расейскай арміі барона Ўрангеля. Атымаў мэдычную адукацыю ў Праскім унівэрсытэце (1929). У 1941—1943 гг. — старшыня Беларускай народнай самапомачы. Падчас нямецкай акупацыі браў актыўны ўдзел у рыхтаванні абвяшчэньня аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы. У 1946 г. пераехаў у ЗША. Браў удзел у заснаваньні Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту ў Саўт-Рывэры.

[22] **Аўген Сурвіла** (1907—1984), рэлігійны дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны быў сьвятаром у юрысдыкцыі БАПЦ. З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Перайшоў у юрысдыкцыю РПЦЗ. Жыў у Ватэнштэце, адкуль пераехаў у ЗША. У 1951 г. быў прыняты ў клір Паўночна-Амэрыканскай расейскай мітраполіі. У 1951—1984 гг. быў настаяцелем сабору ў Бостане.

у *USA* каля 400 асобаў праз Беларускі *Charytas*. Ні камэндант лягеру, ні праваслаўны сьвятар не задаволены гэтым, што людзі хочуць пакінуць лягер, бо тады і ім прыйдзецца пакінуць цёплае месца, а яшчэ да гэтага ім ня гонар, што людзі едуць праз каталіцкую акцыю. Ужо на мінулым тыдні прыйшло паведамленьне дзьвюм жанчынам адзінокім і аднэй фаміліі з трох асоб на выезд. Будзем надзеяцца, што і ў далейшым часе будуць выклікаць на выезд.

У маім жыцьці ёсьць падзея значнай важнасьці: мяне камэндант лягеру [Сьвятаслаў] Коўш звольніў з працы. Я ў гэтым лягеры на гэтай пасадзе працаваў тры гады і сем месяцаў. Прычына звальненьня наступная:

Зарубежнікі вызначылі *"Інспэктара на Брытанскую зону"* (над пачаткавымі школамі) настаўніка Васілеўскага[23]. Гэты *"інспэктар"* патрабаваў ад мяне справаздачу школы за паўгодзьдзе. Ён мне аб сваім інспэктарстве дакумантаў не прыставіў. Я яго інспэктара не прызнаў і справаздачу не даў, бо ні нямецкія, ні ангельскія ўлады іхняга камітэту не прызнаюць, і я ня меў ніякай падставы прызнаць іхняга *"інспэктара"*. А за гэта Коўш зусім бяспраўна звольніў мяне з працы.

Разам з гэтым я дасылаю артыкул "Аб сучасным стане нашай літаратурнай мовы на эміграцыі". Гэты артыкул я маю паслаць у тры цэнтры: у *Osterhofen*, Лёндан і Вам у Парыж. Перапрашаю, што ён недастаткова апрацаваны і ня ўсе паданы тыя словы, якія з майго погляду ўносяць непатрэбныя паралелізмы і блытаніну ў нашу мову. Пасылаючы гэты артыкул, я нічога іншага ня маю, як толькі падзяліцца сваймі поглядамі з тымі людзьмі, якія цікавяцца працай у галіне мовы.

Аб патрэбе надрукаваньня гэтага артыкулу вырашаць рэдакцыі нашых трох газэт ("Бацькаўшчына", "Беларус на чужыне" і "Божым Шляхам"), але я асабіста на гэтым не настойваю зараз. Але калі-б Вы мелі вольны час, дык я прасіў-бы выказаць свае погляды аб маіх заўвагах у гэтым артыкуле.

Бывайце здаровы.

З пашанай да Вас, Я[зэп] Гладкі

17.2.50

Вельміпаважаны ксёндз а. Леў!

Доўгі час Вам не пісаў, бо асаблівых навін ня было — нічога паважнага друкам мы ня выпусьцілі. Праўда, выдалі 3 брашуркі казак[24], але

---

23 Маецца на ўвазе пэдагог **Міхал Васілеўскі**, які спачатку працаваў у Госьляры, а потым у Ватэнштэце.

24 Маюцца на ўвазе выданьні: H[ładk]i, J[azep]. Rycar Dabravid: Kazka pavodle narodnaj tematyki. Watenstedt: vydaviectva "Zaranka", 1949. 25 s.; H[ładk]i,

іх не пасылаў, бо меркаваў так: калі выйдзе яшчэ што, дык за адным разам вышлю адно і другое. Але справа так выглядае, што ўжо бадай што нічога выпусьціць ня прыйдзецца. Гэтаму аснаўныя дзьве прычыны: я застаўшыся бяз працы, а гэта значыць і бяз сродкаў, а бяз грошы няма магчымасьці што-колечы выпускаць. Другая прычына, што і нашы ДП ня маюць грошы, дык і ня могуць купляць кніжак. Нават у пачатку бягучага школьнага году ня было попыту на падручнікі. Ды й цяпер і настрой у нашай моладзі трохі зьмяніўся. Цяпер наша жыхарства імкнецца на эміграцыю, а таму і моладзь імкнецца набыць які фах і хоць элемэнтарныя веды з ангельскай мовы.

З нашага табару шмат людзей выехала на эміграцыю, а шмат нарыхтавалася на выезд, пераважна ў *USA*. Засталося не аформленымі да выезду каля 10 % сучаснага складу жыхарства. Між іншым, да гэтай катэгорыі людзей далучаюся і я. Самотным такога веку, як я (мне 56 год) абмяжованы ўезд у *USA*, бо ў недалёкім будучым яны могуць стацца лішнім цяжарам амэрыканскага грамадзтва.

Арганізацыі, якія набывалі ашурансы[25] для нашых жыхароў на выезд у *USA* — гэта Каталіцкі *Charytas*, Саюз цэркваў. Камітэт Беларускага Каталіцкага *Charytas* (*NCWC*) у нашым табары заснаваўся ў канцы 1948 года. Мы не лічылі мэтазгодным адрозьніваць каталікоў ад іншых беларусаў, а запісвалі ўсіх, і каталікоў, і праваслаўных. Выехала 24 — 8 каталікоў і 16 праваслаўных; падрыхтавана для выезду 2 каталіка і 11 праваслаўных. Праз *Church World Service* выехала праваслаўных каля 30 асоб, а запісаны і аформлены на выезд амаль што ўсе праваслаўныя. Лепш усяго справа з выездам у баптыстых: там было больш ашурансаў, як людзей; яны ўжо ўсе выехалі. Горш усяго ў каталікоў: там у цэнтралі працуюць палякі, украінцы, летувісы, дык яны ашурансы разьмяркоўваюць між сваімі, а беларусам амаль нічога і не застаецца. Ды наша кіраўніцтва і зь места менш рупіцца.

Наш табар назначан к ліквідацыі. Нас меліся раней вывезьці, але мусіць дачакаем да сакавіка на гэтым месцы. Дэнтал клініка (Др. Грабінскі[26]) заўтра пераяжджае ў Браўнсвайг.

Вось дасылаю Вам тры брашуркі выданьня леташняга года. Тэматыка іх, як і зазначана, народная, а мова можа і ня зусім, ды ў дадатак

J[azep]. Kazki № 2. Watenstedt: vydaviectva “Zaranka”, 1949. 17 s.; H[ładk]i, J[azep]. Kazki № 3. Watenstedt: vydaviectva “Zaranka”, 1949. 23 s.

[25] Для эміграцыі ў ЗША акрамя запрашэньня (афідэвіта) патрэбнае было своеасаблівае паручальніцтва (ашуранс), якое ўключала страхоўку запрошанай асобы ды гарантыю наяўнасьці месца працы.

[26] **Баляслаў Грабінскі** (1899—1991), грамадзкі дзеяч, лекар. З 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне. Сябра Аб’яднаньня беларускіх лекараў на чужыне, аўтар артыкулаў у часопісе “Мэдычная думка”. У 1950-х перабраўся ў ЗША.

шмат памылак, справа ў тым, што я слаба ўладаю пішучай машынкай. Такога-сякога матэрыялу ёсьць узапашана, але з друкам прыйдзецца пачакаць лепшага часу, калі толькі яго прычакаем. Ня шкодзіла-б пачуць ад Вас крытычныя заўвагі.

Бывайце здаровы.

З пашанай да Вас, Я[зэп] Гладкі

15.6.50

Шчырапаважаны айцец Леў!

Я атрымаў ад Вас кніжачку аб Сьв. Еўфрасіньні[27]. Вельмі дзякую. Кніжка вельмі патрэбная, бо ў нас побач з тым, што ўвогуле на беларускай мове мала выходзіць кніжак, а рэлігійнага зьместу бадай што зусім няма, а да таго сьвятых беларускага паходжаньня вельмі мала, але і тыя шырокаму беларускаму грамадзтву мала вядомы. Пажадана-б і іншых сьвятых беларускага паходжаньня папулярызаваць. У "Божым Шляху" друкуюцца ўрыўкі "Ты і яна". Гэты матэрыял ужо даўна напрашваецца, каб яго выдаць асобнай кніжкай (Вы аб гэтым ужо неяк напаміналі ў лісьце) і пры гэтым па магчымасьці самым вялікім тыражом. Такога зьместу беларуская літаратура на гвалт патрэбна і цяпер на эміграцыі, а калі-б Бог судзіў, адчынілася зялезная заслона, дык там тым больш неабходна. У недалёкім мінулым і на захадзе Беларуская моладзь ня мела належнага выхаваньня, але там чыста сялянскія і рэлігійныя традыцыі патрохі ўстрымвалі моладзь. А на ўсходзе моладзь была пазбаўлена нават сямейных традыцыяў і звычаяў у выхаваньні.

Я пры кожнай нагодзе імкнуся што-колечы адшукаць з народнай творчасьці. Аднаго суседа па кватэры пытаюся, ці памятае ён якія народныя песьні: вясьнянкі, жніўныя, восеньскія... Я ад яго разам зь іншымі запісаў дзьве песьні рэлігійнага зьместу, якія і перасылаю Вам (мой сусед зазначыў, што яны пяяліся вясной). Першая (*"Была зямля не сьвянцона"*) нагадвае сабой першыя гады хрысьціянства на Беларусі або пачатак Літоўскага пэрыяду. Другая вядомая па ўсёй Беларусі як велікодная песьня. Мая бабка казала, што яна маладая хадзіла па валачобнаму і гэту песьню сьпявалі (20—30 гады мінулага веку, Лагойск, Меншчына). Абедзьве гэтыя песьні я запісаў ад селяніна Глускага раёну (паўночнае Палесьсе, Случчына). Апавядальнік зазначае, што абедзьве песьні не закончаны.

Трошкі аб сабе. Др. Я[нка] Станкевіч выслаў мне ашуранс на выезд у Амэрыку. Я ўжо аформіўся. К пачатку жніўня, магчыма, выклічуць у пераходны табар на выезд, але няма надзеі на выезд, бо на мае дакументальныя гады (56) патрэбна гарантыя праўная або грашовая 1000 даляраў.

[27] Маецца на ўвазе выданьне: Гарошка, Леў, а. Сьв. Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі. Парыж, 1950. 77 с.

Др. [Янка] Станкевіч радзіць лепш, калі ўдасца, пайсьці ў дабрачынныя прытулкі, якія арганізуюцца ў Эўропе (у Францыі і Бэльгіі), але я хоць маю ўжо астранамічны шасьцідзесяты год, але лепш я хацеў-бы працаваць, чым жыць на гатовым утрыманьні. Але нічога, неяк-жа ды будзе.

У нас цяпер нічога новага не чуваць, як відаць, тут, у Нямеччыне, ніякай работы не вядзецца, хто выехаў, а хто чакае на выезд.

Цяпер мы тут, у Нямеччыне, пераходзім на нямецкую эканоміку. Маладое нямецкае гаспадарства абцяжарана сваімі перасяленцамі з усходу, і мы для яго зьяўляемся непажаданай подкідзьдзю. Нам па-магчымасьці патрэбна будзе старацца куды-колечы эміграваць. Хоць тут, у Нямеччыне, доўгі час мелі сваё прыбываньне нашы цэнтральныя ўстановы, але, як відаць, ніхто не паклапаціўся, каб спатакаць=прыдбаць які куток, дзе-б можна было пакінуць такія-сякія архівы=паперы, ды пакуль што тут застанецца значная колькасьць нашых людзей, над якімі пажадана-б мець нацыянальную апеку. Палякі і ўкраінцы вядуць перамовы зь нямецкімі ўладамі аб школьніцтве для тых дзяцей, якія застаюцца ў Нямеччыне. У мяне, між іншага, засталося трохі такіх-сякіх не распраданых кніжак, ды такія-сякія паперы=архівы. Цягаць за сабой цяжка, перасылаць за граніцу зьвязана з коштамі, ды мусіць і некуды. Нашы зарубежнікі свае архівы, здаецца, накіроўваюць у *USA*.

З шчырай пашанай да Вас, Я[зэп] Гладкі

24.9.51

Шчырапаважаны а. Леў!

Нарэшце я апынуўся, як то людзі кажуць, на вольнай зямлі ў Амэрыцы. 7.9 з заходам сонца наш вадаплаў спыніўся ў Новаёрскім порце. Мой спонсар яшчэ да майго прыезду ад мяне адмовіўся. Др. Я[нка] Станкевіч ад арганізацыі *NCWC* прыняў і завёз на сваю кватэру. Там я прабыў каля тыдня, а пасьля Др. Ст[аніслаў] Грынкевіч дапамог мне ўладзіцца на працу ў доме для старых, і тут я ўжо цэлы тыдзень працую. Гэты дом у распараджэньні законьніц, і я цалком ім падпарадкуюся. Работа для мяне лёгкая і яе ня шмат, да паўдня спраўляюся (працую прыбіральшчыкам). Тут-жа маю пакойчык з патрэбнай мэбляй, ежа і праньне бялізны, і яшчэ маюць даплачваць 50 $. Мажліва, што гэта па-амэрыканскі і малавата, але паколькі я не арыентуюся ні ў мове, ні ў акаляючым месьце, дык лічу патрэбным трымацца гэтай працы. Адносіны адміністрацыі сястрыц вельмі чулыя і спагадлівыя, і я таксама стараюся акуратна выконваць сваю работу.

Быў два разы ў "Беларускай хатцы"[28] на зборцы і раз на Божай Службе ўладыкі Васіля. Вядома, за такі кароткі час не ўдалося па-сап-

[28] **"Беларуская хатка"** — кватэра ў Брукліне, дзе зьбіраліся на імпрэзы й

раўднаму асягнуць грамадзкага жыцьця, але наглядаецца нейкі разлад. Ці гэта сапраўды беларусы ня здатны да грамадзкага жыцьця?

Вы ў апошнім лісьце пыталіся, што рабіць з прысланымі кніжкамі і чаму я цаны не казаў. Я меў на ўвазе, што Вы самі іх ацэніце паводле цэнаў Вашага кніжнага рынку. А калі будзе які прыбытак, дык першнаперш пакрыць мой доўг, ды і далей буду прасіць Вас прысылаць мне газэту і што іншае, калі будзе што новае. У далейшым разрахуемся, бо ўсё-ж я лічуся ўжо на працы.

Бывайце здаровы.

З пашанай, Я[зэп] Гладкі

11.II.52

Вельмі паважаны а. Леў!

У кастрычніку атрымаў Ваш ліст. Часопіс "Божым Шляхам" атрымліваю рэгулярна. За ўсё гэта шчыра дзякую. З майго асабістага жыцьця няма ніякіх перамен. Трохі працую і трохі зарабляю, але трэба быць і тым задаволеным, што жыву з працы. А жывецца ня кепска, а што грошы мала зарабляю, гэта — дармо, бо я ўсё адно багачом ня буду.

Аб нашым беларускім нацыянальным жыцьці (Сэсыя Рады БНР) Вы, пэўне, ведаеце з газэт. Аб развале беларускай арганізацыі ў Канадзе, напэўна, Вам таксама вядома. Калі чыталі Нр. 1 "Бел[арускі] Эмігрант"[29], дык, пэўне, зьвярнулі ўвагу на "Камунікат Нацыянальнага Блёку Абароны Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі". Гэты выбрык абурыў радных. Гэта работа Др. Я[нкі] Станкевіча (але гэта між намі).

Пры гэтым дасылаю Вам сваю казачку, калі будзе прыгодная, дык можаце выкарыстаць. Ды папраўдзе яна не мая, а народная, а я толькі падаў яе ў сваім стылі.

З пашанай, Я[зэп] Гладкі

## Аляксандар Калодка

*Аляксандар Калодка (14.12.1911, в. Церабостынь (цяпер Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 15.11.1985, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў гарадзкое вучылішча ў Ярэмічах (Карэліцкі раён) і ў 1926 г. паступіў у Віленскую беларускую гімназію. У 1928—1932 гг. вучыўся ў польскай гімназіі імя*

даклады ў 1950-я гг.

[29] **"Беларускі Эмігрант"** — газэта, якая выходзіла ў Таронта ў 1948—1954 гг. пад рэдакцыяй Кастуся Акулы.

*А. Міцкевіча ў Вільні. Супрацоўнічаў з газэтамі “Беларускі дзень” і “Сялянская ніва”. У 1938 г. скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту з дыплёмам магістра права. Працаваў у юрыдычным аддзеле грамадзкага забесьпячэньня. У 1940—1941 гг. настаўнічаў у Вільні. Зь верасьня 1941 г. працаваў надзвычайным упаўнаважаным гэбітскамісара ў Вялейцы, дзе займаўся беларусізацыяй адміністрацыі. У 1943 г. арыштаваны вялейскім гестапа. Быў вязьнем канцэнтрацыйных лягераў у Асьвенціме, Біркенаў, Бухэнвальдзе й інш. Па сканчэньні вайны працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце, супрацоўнічаў зь беларускай прэсай, Арганізацыяй былых вязьняў нямецкіх канцэнтрацыйных лягераў. Сябра Рады БНР з часу яе аднаўленьня ў 1947 г. У траўні 1948 г. прыехаў у Аўстралію, працаваў на цукровых плянтацыях у Кўінзлэндзе, а пазьней — рабочым у мэльбурнскім порце. Арганізатар сэктару Рады БНР у Аўстраліі, першага Беларускага клюбу ў Мэльбурне. У 1950 г. стаў адным з заснавальнікаў апалітычнага Беларускага аб’еднаньня ў Аўстраліі, якое, аднак, праз год пакінуў. Сябра Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, Каардынацыйнага камітэту беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Сталы аўтар зацемак пра жыцьцё беларусаў Мэльбурну ў газэтах “Бацькаўшчына” й “Беларус”. Сябра Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.*

Мюнхэн, 29.V.47

Дарагі Лёва!

Пісьмо Тваё атрымаў, за якое вельмі дзякую. Перш, аднак, за ўсё — дзякую Табе за тую вялікую помач, якую Ты мне аказаў падчас майго прабываньня ў канцэнтрацыйным лягеры. Так, я выйшаў адтуль жывы, але страшна зьнішчаны. За кароткі час, ад 1.XII.43 да 21.IV.45, пабываў у самых найгоршых пяці канцэнтрацыйных лягерах: *Auschwitz o/s*[30], *Weimar-Buchenwald*[31], *Nordhausen-Dora*[32], *Rottle-*

[30] **Асьвенцім**, або **Асьвенцім-Бжэзінка**, або **Аўшвіц-Біркенаў** (ням. *Auschwitz-Birkenau*), — комплекс нямецкіх канцэнтрацыйных лягераў, якія разьмяшчаліся ў 1940—1945 гг. на поўдні Польшчы ў ваколіцах гораду Асьвенцім за 60 км ад Кракава. Каля 1,1 млн чалавек былі зьнішчаныя ў гэтых лягерах.

[31] **Бухэнвальд** (ням. *Buchenwald*) — канцэнтрацыйны лягер, які дзейнічаў у нацысцкай Нямеччыне ў 1937—1945 гг. Разьмяшчаўся каля гораду Вэймар.

[32] **Нордгаўзэн**, або **Дора**, або **Дора-Мітэльбаў** (ням. *Dora Mittelbau*), — канцэнтрацыйны лягер, заснаваны ў 1943 г. на адлегласьці 5 км ад гораду Нордгаўзэн у Турынгіі (Нямеччына). Быў падразьдзяленьнем лягеру ў Бухэнвальдзе. У зьняволеньні ў лягеры загінулі каля 20 тысяч чалавек.


Аляксандар Калодка

*berode*[33] і *Ravensbrück*[34]. Тры разы ўцякаў — трэці раз ужо пад канец вайны ўдалася мая ўцечка. Быў у савецкіх руках у Мэкленбургіі, нейк пашчасьлівілася перабрацца сьпярша да амэрыканцаў у *Schwerin*, а пасьля да ангельцаў у *Hamburg*. Там спаткаў д-р [Баляслаў] Граб[інскі], які летам 1945 прыехаў зь Мюнхэна. Апавядаў пра Цябе і даў адрас а. а. Езуітаў. Пісаў туды некалькі разоў — але без рэзультатаў. Урэшце ў мінулым годзе я сам пераехаў у Баварыю і запісаўся на эканамічны факультэт УНРРАўскага ўнівэрсытэту[35]. Быў раз на *Kaulbach st. 31a*, але там нічога канкрэтнага аб Табе не сказалі. У "Беларускіх Навінах"[36] чытаў толькі, што Ты знаходзіўся ў Рыме, а цяпер у Францыі. Адзін таварыш-паляк ехаў у Парыж, і я прасіў яго ўзяць да Цябе пісьмо. Пісьмо ён узяў, але ад таго часу ня бачыў я яго.

За помач, якую Ты мне аказаў, яшчэ раз вельмі Табе дзякую — ці адудзячуся Табе калі-небудзь за гэта? Што гэтая помач тагды для мяне і пад поглядам матэр'яльным і маральным значыла, можа толькі ацаніць той, які быў у абставінах такіх, як я.

Цяпер я знаходжуся пака ў Мюнхэне. Не вучуся, але здаецца, што зноў пачну. Няма нейк ахвоты да нічога. Праўда, дрэнь са здароўем. Маю досыць цяжкі хранічны бранхіт, рэўматызм, но і нэрвова надта аслаблены пасьля гэтых усіх жудасных перажываньняў. Маю знаёмых у францускай зоне Нямеччыны і туды часам выяжджаю на тыдзень-два, каб паляжаць на сонцы. Плянаў на будучыню пакуль што ніякіх.

---

33 **Ротлебэродэ** (ням. *Rottleberode*) — канцэнтрацыйны лягер, падразьдзяленьне лягеру ў Бухэнвальдзе, які разьмяшчаўся ў горадзе Ротлебэродэ ў зямлі Саксонія-Ангальт.

34 **Равэнсбрук** (ням. *Ravensbrück*) — канцэнтрацыйны лягер на паўночным усходзе Нямеччыны, за 90 км ад Бэрліну, які дзейнічаў у 1939—1945 гг. Празь лягер прайшлі каля 130 тысяч зьняволеных, загінулі ад 50 да 92 тысяч чалавек.

35 **УНРРА, ЮНРРА** (*UNRRA, United Nations Relief and Rehabilitation Administration*) — Адміністрацыя Аб'яднаных Нацыяў для дапамогі й рэабілітацыі, створаная антыгітлераўскай кааліцыяй у 1943 г., каб падтрымаць краіны, пацярпелыя ў Другой сусьветнай вайне, у галіне фінансаў, прамысловага й сельскагаспадарчага аднаўленьня, здароўя ды інш. У складзе арганізацыі дзейнічаў таксама камітэт у пытаннях утрыманьня перамешчаных асобаў. Унівэрсытэт *UNRRA* адчынілі ў Мюнхэне адмыслова для перамешчаных асобаў у 1945 г. і зачынілі ў 1947 г., пасьля ліквідацыі самой *UNRRA*.

36 **"Беларускія навіны"** — беларуская газэта, якая выдавалася ў 1945—1947 гг. у Парыжы Лявонам Рыдлеўскім. Усяго выйшла 8 нумароў.

Не хацеў-бы толькі выяжджаць з Эўропы, баюся крыху, аднак, ехаць у Францыю дзеля прычын, Табе ведамых. Бралі рабочых у Бэльгію, але я не паехаў туды.

З нашых супольных знаёмых ёсьць тут Барыс Кіт[37], які Табе перасылае прывітаньні, Каткавічанкі Аня[38] і Вэрця[39] знаходзяцца ў Бэрліне, шмат хто з інтэлігэнцыі перахоўваецца ў Польшчы. Хто з заходнябеларускай інтэлігэнцыі ёсьць у Нямеччыне — Ты, пэўна, ведаеш. Ані з Трашчыц, ані зь Церабостыні нікога я тут не спатыкаў. Ёсьць толькі з Карэліч, Бярозаўца, Ярэміч, Міра, нехта з Лыкавіч і Качаноў ёсьць у Англіі. Твой брат, як я чуў, пайшоў ад Беластока назад на Бацькаўшчыну. Аб маёй сям'і стараюся атрымаць якія-небудзь весткі, але пака без рэзультату. Цікава, што за Шавейка Аляксандар зь Церабостыні знаходзіцца ў Даніі. Будзь ласкаў, пашлі яму мой адрэс, а яго мне. Здаецца, што гэта мой прыяцель. Хацеў-бы да яго напісаць.

Пасьля выхаду з *K. Z.*[40] думаў ісьці ў кляштар. Аднак цяжкасьці прабрацца ў Рым, дый, праўду кажучы, і застары я ўжо. Я на год, здаецца, старэйшы ад Цябе. Славянскі абрад прыняў я ўжо ў 1929 годзе з рук сьв. пам. а. [Вацлава] Пёнткоўскага[41] ў Альбэртыне каля Слоніма. А. Пёнткоўскі — гэта, па маёй думцы, быў надта вялікі прыяцель беларусаў. З айцамі Езуітамі меў я заўсягды цесны кантакт, часта бываў

---

[37] **Барыс Кіт** (1910—2018), навуковец, пэдагог, грамадзкі дзеяч. Быў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, падчас нямецкай акупацыі арганізоўваў беларускія школы. З 1948 г. жыў у ЗША, адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту, у 1972 г. пераехаў у Нямеччыну.

[38] **Анэля Катковіч** (1914—1982), грамадзкая дзяячка. Падчас нямецкай акупацыі працавала перакладчыцай у Менскай гарадзкой управе. Улетку 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Пасьля капітуляцыі працавала ў Польскай вайсковай місіі ў Бэрліне. У 1949 г. была адкліканая ў Польшчу, дзе была арыштаваная й асуджаная да 10 гадоў лягераў у Сібіры. Пасьля вызваленьня вярнулася ў Польшчу. Жыла ў Варшаве.

[39] **Вэраніка Катковіч** (у замустве **Клентак**, 1918—?), дзяячка СБМ. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў Менскай мэдыяннай школе. У 1943—1944 гг. узначальвала менскую дзявочую арганізацыю СБМ. Была намесьніцай Надзеі Абрамавай. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1945—1948 гг. працавала ў польскай ваеннай місіі ў Бэрліне. У жніўні 1949 г. арыштаваная ў Вроцлаве й перададзеная савецкім органам. Асуджаная на 10 гадоў лягераў. У 1956 г. вызваленая паводле амністыі, вярнулася да мужа ў Польшчу. Сястра Анэлі Катковіч.

[40] ***K.Z.*** (скарот ад ням. *Konzentrationslager*) — канцэнтрацыйны лагер.

[41] **Вацлаў Пянткоўскі** (1902—1991), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Зь сярэдзіны 1950-х служыў у в. Мядзьведзічы, дзе ў 1970-х гг. заснаваў нелегальную сэмінарыю.

у Альбэртыне і знаў іх усіх вельмі добра. Гэтую нямецкую каталіцкую кніжку, якую Ты мне прыслаў, чытаў часта і перахоўваў аж да апошніх дзён *K.Z.* Адабралі яе ад мяне ў *KZ-Ravensbrück*. Веры ў Бога не патрапіў у мяне забіць лягер, хоць там чалавек мог забыцца ўсяго і ўсіх.

З нашых супольных знаёмых я нікога не спаткаў у *KZ*, толькі чуў, што быў недалёка ад мяне кс. Глякоўскі[42] і кс. Малец[43]. Аб іх пісаў Табе ўжо. Ведаеш таксама хіба, згінуў а. Неманцэвіч[44], кс. Рыбалтоўскі[45]. Ёсьць чуткі, што кс. Адам [Станкевіч] жыве[46], др. Грынкевіч (старэйшы)[47] дастаў 10 гадоў у Польшчы, быццам (весткі несправўджаныя) арыштаваны ў Варшаве Шкелёнак[48],

---

[42] **Станіслаў Глякоўскі** (1896—1941), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар. У 1921 г. рукапакладзены на сьвятарства. Закончыў Грыгарыянскі інстытут у Рыме з ступеньню доктара тэалягічных навук. З 1929 г. працаваў у Вільні, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. У часе нямецкай акупацыі быў пробашчам касьцёлу Сымона й Алены ў Менску. Арыштаваны паліцыяй у сьнежні 1941 г.

[43] **Дзяніс Малец** (1909—1941), рэлігійныя дзеяч, каталіцкі сьвятар. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1937 г. У 1938 г. быў прэфэктам мясцовых школаў у Пінску, вікарыем пры Пінскай катэдры. У 1941 г. быў арыштаваны разам з Станіславам Глякоўскім на канфэрэнцыі ў Менску.

[44] **Антон Неманцэвіч** (1893—1943), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, манах-езуіт. У 1939 г. мітрапалітам Шаптыцкім узьведзены ў сан экзарха Беларускай уніяцкай царквы. У гады Другой сусьветнай вайны разгарнуў шырокую дзейнасьць для арганізацыі адміністрацыйных структураў навастворанага Беларускага экзархату. У жніўні 1942 г. арыштаваны нямецкай тайнай паліцыяй, памёр у бэрлінскай турме.

[45] **Казімір Рыбалтоўскі** (1909—1943), рэлігійныя дзеяч, каталіцкі сьвятар. Рукапакладзены на сьвятарства ў 1935 г. Служыў вікарыем у в. Камень Івянецкага дэканату. У часе Другой сусьветнай вайны арыштаваны нямецкімі ўладамі й расстраляны.

[46] Ксёндз Адам Станкевіч быў арыштаваны ў 1944 г., але неўзабаве вызвалены. Паўторна арыштаваны ў 1949 г. і прысуджаны да 25 гадоў пазбаўлення волі. Памёр у 1949 г. у Тайшэтлагу.

[47] **Станіслаў Грынкевіч** (старэйшы) (1902—1945), палітычны й культурны дзеяч, мэдык-псыхіятар. Скончыў мэдычны факультэт Пазнанскага ўнівэрсытэту. У 1931—1936 гг. — віцэ-старшыня ЦК Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Летам 1944 г. застаўся ў Беларусі, быў арыштаваны НКУС. 18 траўня 1945 г. ваенным трыбуналам Беларуска-літоўскай вайсковай акругі быў прысуджаны да расстрэлу й у ліпені расстраляны ў Магілёве.

[48] **Мікола Шкялёнак** (1899—1946), гісторык, юрыст, грамадзка-палітычны дзеяч. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1940 г. пасяліўся ў Бэрліне, супрацоўнічаў з газэтай "Раніца", потым быў яе рэдактарам. У 1942 г. накіраваны ў Менск на працу ў Генэральны камісарыят, у 1943 г. увайшоў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, быў яе першым

расстрэлены Бакач[49] і Байкоў[50], згінуў (курсуюць сярод нас такія весткі) Роцька[51]. Наагул весткі з Бацькаўшчыны вельмі рэдкія, цяжка іх праўдзіць і надта сумныя.

Асабліва я грызуся, што празь мяне пэўна надта пацярпела мая сям'я.

Прабач, што так хаотычна напісаў. Пішу адразу пасьля атрыманьня ад Цябе весткі. Хацелася-б напісаць вельмі, вельмі шмат, але ўсяго-ж не напішаш.

Яшчэ раз дзякую Табе за ўсё, што Ты зрабіў для мяне. Пішы часьцей. Калі будзеш мець адрэс каго-небудзь зь Церабостыні — будзь ласкаў, перашлі мне. Я магчыма што перанясуся зь Мюнхэна дзенебудзь у лягер, але на мюнхэнскі адрас можна заўсёды пісаць. Маю вельмі добрую гаспадыню — немку, якая глядзіць мяне, як свайго сына.

Прабач за эвэнтуальныя беларускія памылкі.

Аддаюся Тваім малітвам і застаюся шчыра Табе адданым.

Твой Алёша

---

віцэ-прэзыдэнтам. У 1946 г. арыштаваны ў Польшчы й прывезены ў Менск. Расстраляны.

49 **Пётра Бакач** (каля 1910 —?), грамадзка-культурны дзеяч. Выпускнік Карлава ўнівэрсытэту ў Празе, дасьледнік гісторыі беларускай літаратуры. Зь лістапада 1943 г. быў кіраўніком бэрлінскай філіі Беларускага камітэту самапомачы, супрацоўнік беларускага аддзелу Міністэрства прапаганды, з студзеня 1945 г. — удзельнік Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасьля капітуляцыі быў арыштаваны СМЕРШам і прысуджаны да лягераў. Пасьля сьмерці Сталіна вызвалены з Магаданскага лягеру, але далейшы лёс няведамы.

50 **Мікола Байкоў** (1889—1945?), літаратуразнаўца, мовазнаўца, пэдагог. Працаваў вучоным сакратаром слоўнікавай камісіі пры Інбелкульце. Арыштаваны ў 1930 г. у справе Саюзу вызваленьня Беларусі, але ў гэтым самым годзе вызвалены. У часе нямецкай акупацыі быў у Менску. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, працаваў у рэдакцыі часопісу "Малады змагар", прапагандысцкім бюро "Вінэта". Пасьля капітуляцыі нямецкіх войскаў арыштаваны савецкімі органамі, утрымоўваўся ў менскай турме. Далейшы лёс няведамы.

51 **Усевалад Родзька** (1920—1946?), грамадзкі дзеяч. З 1942 г. — старшыня ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, арганізоўваў нацыянальную партызанку. З сакавіка 1944 г. быў камандзірам 15-га батальёну БКА. Арганізоўваў беларускі батальён "Дальвіц", пасьля раззбраеньня батальёну ў Чэхіі нелегальна перабраўся ў Польшчу. Ствараў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прыгавораны да найвышэйшай меры пакараньня.

13.7.47

Дарагі Лёва!

Пісьмо Тваё атрымаў і за памяць шчыра дзякую. Выяжджаў я на нейкі час да свайго таварыша на Паўночнае мора, недалёка Вільгэльсгафэн. Цяпер зноў знаходжуся ў Мюнхэне. У ангельскай зоне запазнаўся я з кс. [Міхасём] Маскалікам, аб якім шмат чуў, а якога дагэтуль ня знаў. Будучы ў Ватэнштэце спаткаў шмат каго з нашай інтэлігэнцыі. Яны амаль усе зьбіраюцца выяжджаць у Францыю, чакаюць, што быццам мае прыехаць у Ватэнштэт інж. [Лявон] Рыдлеўскі разам з францускаю камісіяй. Некаторыя з нашых аб Францыі гавораць з захопленьнем, але як відаць з прэсавых вестак, захапляцца асабліва няма чым. Найгорш, мне здаецца, гэта ўнутраная палітычная сытуацыя ў Францыі. Бязумоўна, працаваць усюды трэба, ужо мы досыць аддахнулі ў Нямеччыне, але хацелася-б урэшце пазбыцца гэтага страху, гэтай няпэўнасьці, у якой мы жывём цяпер, а якая мала зьменіцца, калі перасунемся 1000 км на захад.

Прывітаньні ад Цябе Радзевічу[52] перадаў, але хацеў-бы Табе некалькі слоў аб ім напісаць. Чалавек гэты стаіць сяньня на чыста расейскай плятформе. Усялякія сходкі "беларусаў" расейскай арыентацыі (а іх ёсьць у нас шмат) адбываюцца ў Радзевіча. Ён-жа гарачы староньнік Філафея[53] і Расейскай Зарубежнай Царквы. Памяшканьне на *Widden str. 14*, якое, як асьвядчае др. [Баляслаў] Грабінскі, павінна было належаць да Беларускага Камітэту, Радзевіч аддаў розным расейскім і літоўскім спэкулянтам, выганяючы адтуль беларускія інстытуцыі, якія такім чынам прысуджаны ў Мюнхэне на вэгетацыю. Узапраўды цяжка сяньня Радзевіча лічыць беларусам па духу, хоць бяз сумліву ён з пункту гледжаньня этнаграфічнага беларус. Аб шкодзе для беларускага руху на эміграцыі, зробленую Радзевічам, ведае ў нас кожны, што ў сабе ня мае расейскай арыентацыі.

---

[52] **Усевалад Родзевіч** (1916—1998), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага вайсковага сьвятара. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскую армію, трапіў у палон. Пазьней утрымліваўся ў канцэнтрацыйным лягеры ў Трыры, адкуль здолеў вырвацца. У 1944 г. — ад'ютант прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Р. Астроўскага, лейтэнант Беларускай краёвай абароны, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у Нямеччыне, у Мюнхэне. У 1949 г. выехаў у Аўстралію.

[53] **Філафей** (сьвецк. **Уладзімер Нарко**, 1905—1986), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. У гады Другой сусьветнай вайны ўдзельнічаў у аднаўленьні й фармаваньні царкоўнага кіраўніцтва БАПЦ. На Ўсебеларускім царкоўным саборы ў Менску ў 1942 г. быў прызначаны япіскапам Магілёўскім і Мсьціслаўскім, узведзены ў сан архіяпіскапа. З 1944 г. — на эміграцыі. Разам з трыма іншымі ярархамі епіскапату БАПЦ у 1946 г. перайшоў у Расейскую праваслаўную царкву за мяжой.

Быць можа, што Ты знаў Радзевіча іншым, але *“tempora mutantur”*[54].

Ня гневайся, што напісаў Табе аб Радзевічу ўсё, але ведаючы Цябе добра, не хачу перад Табой чаго-небудзь укрываць.

Калі-б меў час, варта было-б выяжджаць у Францыю ці ўжо лепш пачакаць яшчэ нейкі час тут і прабаваць пераехаць крыху далей ад нашага *“Бацькі Юзіка”*[55].

З дому вестак ня маю. Атрымліваю толькі пісьмы з Польшчы ад маіх знаёмых, што калісь жылі са мной разам у Вялейцы. Весткі надта сумныя. Стараюся штосьці даведацца пра маю сям'ю, але гэта досыць цяжка.

Паручаю сябе Тваім малітвам.

Шчыра Табе адданы: Алёша

4.4.48
Мюнхэн

Дарагі Лёва!

Прыехаўшы ў Мюнхэн, каб зьліквідаваць маё памешканьне, застаў Тваё пісьмо і 2 экзэмпляры “Божым Шляхам”. Шкода мне, праўда, што гэтак доўга да Цябе не пісаў, але, ведаеш, розныя клопаты, а трохі і здароўе проста забілі мне голаву. Жыву я фактычна ў лягеры каля чэскай граніцы, дзе працую як сэкрэтар, заступнік камэнданта і эміграцыйны кіраўнік у аднэй асобе. Апрача таго я старшыня Беларускай Лігі Палітычных Вязьняў, сябра Цэнтральнага Беларускага Дапамаговага Камітэту і ліцэнцыят “Бацькаўшчыны”. Як бачыш, работы ёсьць.

Як я ўжо вышэй пісаў, ліквідую сваё памешканьне, бо пасьлязаўтра еду ў перасыльны лягер, Амбэрг, а адтуль у Аўстралію. Са мной разам некалькі чалавек зь беларускай інтэлігэнцыі і каля 50 нашых хлапцоў.

З радыя і газэт ведаеш, якое цяпер палажэньне. А мне так ня хочацца, каб мяне яшчэ раз хто-небудзь *“освободил”*, хоць-бы гэта былі нават і свае *“братья”*. Ня ведаю, ці добра раблю, ці не. Заўтра раненька еду ў мой *Mitterlager*, а пасьля заўтра ўжо злажу з маіх плеч усе справы і гонары, а за які месяц буду фабрычным рабочым. У нас пра Аўстралію вельмі добра адзываюцца, і думаю, што кепска там ня будзе, перадусім можа хоць там будзе супакой і кавалак хлеба.

Пасьля прыезду на мейсца напішу да Цябе і наогул абяцаю ўжо быць з Табой у пастаянным кантакце.

За сумныя і скупыя весткі з дому — дзякуй. Я таксама не пішу нічога, а праз Польшчу нічога з дому не атрымаў. Толькі некалькі месяцаў

[54] ***Tempora mutantur*** (лац.) — час мяняецца.

[55] Маецца на ўвазе Іосіф Сталін.

таму меў весткі, што ў Вялейцы павешаны Касяк, брат Івана Іванавіча[56], бязбожнага праваслаўнага дзеяча.

Аддаюся, асабліва цяпер, Тваім малітвам. Абяцаю напісаць у "Божым Шляхам" штосьці з жыцьця на новай бацькаўшчыне.

Адданы Табе шчыра, Алёша

*Brisbane,* 20.5.49

Дарагі Лёва!

Ліст Твой з 15.IV.1949 атрымаў і за Вялікодныя пажаданьні вельмі дзякую. Ліст Твой крыху блукаў тут, бо я ўжо зьмяніў мейсца працы і 2 разы зьмяніў мейсца жыхарства.

Працую цяпер на цэгельні. Жыву тут-жа пры цэгельні ў фабрычным бараку. Памешканьне не цікавае, але ёсьць электрыка, бягучая вада, но і поўны супакой. Працу маю досыць цяжкую, так што прыйшоўшы ў барак, чуюся так змучаным, што не магу нічога рабіць, а да таго трэба штосьці і зварыць зьесьці. Працую ад 7 да 17 (кожны дзень 1 гадзіна *uberstunde*[57]), а так-жа працуем і ў суботу. Праўда, плата крыху большая, але не хацеў-бы чалавек і гэтай пабольшанай платы, толькі-ж няма як адказацца, што ня буду працаваць па-над устаноўленыя гадзіны. Зарабляю каля 8 фунтаў у тыдзень, харчаваньне каштуе каля 1—1½ у тыдзень. Наагул харчовыя прадукты тут танныя, але ўсё, што прывозіцца з заграніцы (а прывозіцца вельмі шмат), дарагое. Хацеў перавесьціся ў Вікторыю, дзе больш нашай інтэлігэнцыі, але не ўдалося. Прыйдзецца да канца кантракту пабыць тут, у *Qeensland*. А кантракт, здаецца, канчаецца цераз год. Пішу "здаецца", бо калі мы выяжджалі зь Нямеччыны, дык аўстралійскі консул казаў, што кантракт толькі 1 год, цяпер-жа тут, у Аўстраліі, Міністар эміграцыі сказаў улетку 1948 г., кантракт 2 гады, на пачатку 1949 г. — што 1½ года, а нядаўна зноў, што 2 гады. Што скажа яшчэ, ніхто ня ведае. Наагул тут, у *Queensland*, пхаюць нас на найгоршыя і слаба платныя работы. Гэтага ўрадавыя дзейнікі і ня крыюць, адкрыта пішуць у газэтах. Перанясьціся з аднаго мейсца працы ў другое (тэорэтычна маем права зьмяніць 3 разы працу ў працягу 12 месяцаў) так трудна, а асабліва тут, у *Queensland*. Як апавядаюць мае сябры, якія як вольныя

[56] Маецца на ўвазе **Іван Касяк** (1908—1990), грамадзка-палітычны дзеяч. Да Другой сусьветнай вайны жыў і вучыўся ў Заходняй Беларусі, удзельнічаў у камуністычным руху. З пачаткам нямецкай акупацыі працаваў у Генэральным камісарыяце ў Менску, быў дзеячам Беларускай народнай самапомачы, у сакавіку — чэрвені 1944 г. выконваў абавязкі паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай Цэнтральнай Рады ў Глыбоцкай акрузе. Пасьля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША.

[57] ***Überstunde*** (ням.) — звышурочная праца.

працавалі падчас вайны ў Нямеччыне, дык нямецкі *Arbeitsamt*[58] — гэта ангел у параўнаньні з нашымі *Employment Office*'амі[59]. Нічога, аднак, ня зробіш, трэба, заціснуўшы зубы, цягнуць далей гэтую нявольніцкую лямку. Гэх, дзе-б мы ні былі, апрача Бацькаўшчыны, мы заўсёды на эміграцыі нявольнікі. Калі ўжо гэта скончыцца, адзін толькі Бог ведае. Здаецца, аднак, што ў Аўстраліі, бадай, параўнача найлепей. Праўда, толькі гэты паганы кантракт. Пішуць мне з Канады і Аргэнтыны, што там дрэнна і з працай, дрэнна і з заработкамі. У нас працы хапае, якой хочаш, што ж калі… кантракт…

Знайшоў тут некалькі старых беларускіх эмігрантаў. Адзін з Койданава, другі зь Нягневіч. Па-беларуску разумеюць, гавораць слаба, страшэнна абруселыя. Трымаю зь імі кантакт, даю ім кнігі, часапісы, газэты. Аб падзеях на Беларусі пасьля I Сусьветнай вайны ня мелі ніякага паняцьця. Цікавяцца беларускім жыцьцём. Калі аднаму зь іх прачытаў некалькі беларускіх вершаў, стары заплакаў, кранула яго за душу. З новай эміграцыі ёсьць у *Brisbane* толькі 4 беларусаў. Ёсьць адзін наш зямляк з Турца — Мікалай Шавейко, ягоны брат быў мэханікам у паравым млыне ў Турцы, можа і знаў Ты яго. Праўда, гэты Шавейко Мікалай пішацца палякам, бо яго жонка ўзапраўдная полька. Пасьля даўжэйшых гутарак са мной здабыўся на "геройства" і сказаў жонцы, што ён ніякі паляк, а беларус. Жонка падняла плач, але ад таго часу Шавейко часта прыходзіць да мяне і нясе дамоў заўсёды штосьці зь беларускага друкаванага слова.

Мне прыслалі з Францыі беларускія календары з тым, што калі распрадам, дык грошы каб пераслаў Табе. Календары распрадаюцца, можа і не распрадам усіх, але ня знаю, як перашлю грошы, хіба праз др. а. [Часлава] Сіповіча. Таксама хацеў злажыць ахвяру на "Божым Шляхам", думаю таксама найлепш праз др. а. [Часлава] Сіповіча. "Божым Шляхам" хіба лепш слаць большую колькасьць на Смаля[60], бо цяпер у Вікторыі і *New South Wales* значна больш беларусаў, чым у *Queensland*, а да таго і я ня знаю, як доўга тут буду працаваць. Што буду тут яшчэ 6 месяцаў, гэта пэўна, а далей ня знаю, можа, перанясуся ў *Melburne*, буду прынамся яшчэ раз старацца.

---

[58] ***Arbeitsamt*** (ням.) — служба занятасьці ў Нямеччыне.

[59] ***Employment Office*** (анг.) — служба занятасьці ў Аўстраліі.

[60] **Аляксандар Смаль** (1912—1990), грамадзкі дзеяч. Скончыў настаўніцкія курсы ў Вільні, настаўнічаў у Заходняй Беларусі. У 1946—1948 гг. выкладаў геаграфію ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхэльсдорфе (Нямеччына). У 1948 г. прыбыў у Аўстралію. Адзін з арганізатараў Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі, першы рэдактар часопісу "Новае жыцьцё", які выходзіў у 1950-х гг. у Сыднэі. Пасьля расколу — сябра Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі, а пазьней — Беларускага культурна-грамадзкага клюбу.

Вестак з дому ня маю ніякіх. Не спадзяюся пачуць што-небудзь добрае аб маёй сям'і. А так часта сьню дом і братоў. Пэўна, недзе мучацца за мяне і мяне праклінаюць. Гэтая сьведамасьць не дае мне спакою. Часам па цэлым начам не магу спаць. Ты-ж пэўна чытаў у *"Правде"* у 1947 годзе, што мяне ўспамінаў Вышынскі[61] ў Нью Ёрку як ваеннага праступніка, бо я зь Леўковічам Ніканорам[62] арганізавалі Беларускі Нацыянальны Камітэт. Калі спаткаеш Леўковіча (гэта мой прыяцель), дык перадай прывітаньне ад мяне і папытай яго, ён Табе раскажа дакладна. Газэта толькі трошкі перакруціла маё прозьвішча (Клотко).

Месяцаў 6 таму назад пісаў мне адзін калега, што праз Амэрыку атрымаў пісьмо з Краснага к[аля] Маладэчна. Арышты, арышты і яшчэ раз арышты, хоць Краснае — гэта малая мясьціна. Перапісваюся з жонкай сьв. пам[яці] аднаго майго калегі, які згінуў у *KZ*. Яна жыве ў Польшчы, але баюся яе прасіць аб кантакце з кім-небудзь на Беларусі. Памагаю гэтай жанчыне крыху, таксама высылаў пасылкі нашым студэнтам у Нямеччыне, а таксама і маім знаёмым, што яшчэ сядзяць у лягерох ДП.

У нас у Аўстраліі цяпер восень. Розьніца паміж летам а восеньню вельмі малая. Ночы толькі халаднейшыя і няма такой жары днём, якая была летам. А лета, асабліва ў *Qeensland*, вельмі гарачае, 120F, а то і больш. Крыху менш цяпер маскітаў, але спаць трэба і цяпер пад маскітнай сеткай. Ці цікавішся нашымі краявідамі? Магу прыслаць Табе фатаграфіі і кніжкі. Хіба трохі знаеш ангельскую мову? Я ўжо чытаю газэты бяз слоўніка, гаварыць яшчэ цяжкавата, хоць перакладчыка не патрабую. Надта трудная ангельская вымова, а да іншага ў Аўстраліі крыху інач ай гавораць, чымся ў Англіі.

Ня гневайся, што так многа напісаў. Ведаю, што часу вольнага маеш вельмі мала, але ўсё-ж такі, хоць рэдка, але напішы некалькі слоў. Буду вельмі ўдзячны.

Аддаюся Тваім малітвам.

Твой Алёша

Парыж, 12.XI.49

Дарагі Алёша!

З твайго ліста бачу, што часам і хвароба на нешта карыснае прыдаецца; каб ня прыпадак з нагою, дык-бы і на лісты ня было калі паадказваць. У мяне амаль тое самае — хоць на фабрыку не хаджу

[61] **Андрэй Вышынскі** (1883—1954), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1933—1939 гг. — намесьнік пракурора й пракурор СССР, быў дзяржаўным абвінаваўцам на фальсыфікаваных палітычных працэсах 1930-х гг. У 1949—1953 гг. — міністар замежных справаў СССР.

[62] **Ніканор Ляўковіч** (1922—1995), брат Ніны Абрамчык. Жыў у Мюнхэне.

і ў прынудзілаўцы не працую, а вось назьбіралася лістоў, што ўжо трэці дзень падрад адпісваю і ня ведаю, ці сёньня змагу кончыць.

Толькі нядаўна скончыў чарговы нумар “Божым Шляхам” і спадзяюся, што ў наступным тыдні змагу парассылаць. Матэрыяльнае палажэньне часапісу вельмі паганае. Твае фунты атрымаў — шчыра дзякую.

У справе беларускае газэты ў Аўстраліі на супалку з украінцамі мне ўжо пісаў [Янка] Чарнэцкі. Прызнацца шчыра, я гэтага ня вельмі пахваліў-бы. Мая практыка ў гэтай справе і супрацоўніцтва давялі да пераканаўньня, што мы з украінцамі найлепшыя прыяцялі, але калі ня маем чаго дзяліць і калі сядзімо кожны ў сваёй хаце і ў сваім крэсьле. Таму ня радзіў-бы вам пачынаць такую супалку, бо яна папсуе адносіны і карысьці ня прынясе ніякае.

Расчараваньне Аўстраліяй назіраецца амаль ува ўсіх, бо ўмовы працы запраўды цяжкія, а з другога боку, людзі ехалі ў заморскія краіны з такім псыхічным настроем, быццам гэта мае быць *“абяцаная зямля”* зь нейкім фантастычным выгадным жыцьцём — калі ты так ня думаў, дык можаш пераканацца, што нашыя сяляне амаль усе так думалі, ды, праўду кажучы, перадвярбовачная прапаганда ў Нямеччыне ў бальшыні выпадкаў мела якраз такі характар. Цяпер справа зьмянілася. Зрэштаю, іншага выхаду няма, цяпер трэба камбінаваць, каб у наяўных умовах знайсьці нейкі *“модус вівэндзі”*[63].

У мяне так-жа няма чым пахваліцца. Здароўе яшчэ пакуль што трымаецца, хоць францускі клімат мне ня зусім падходзіць — вельмі вільгатна і таму амаль штодзённа шум у галаве і ў вушах вельмі перашкаджае працаваць, асабліва тады, калі трэба шмат пісаць. Але што зробіш, трэба так-жа мірыцца з такім палажэньнем. Сумная практыка навучыла высьцерагацца нават найменшых процягаў, каб не зачаста хватаць насмаркі і розныя прастуды.

Беларуская газэта ў Францыі няма ведама калі зможа выйсьці, бо няма да гэтага часу ані рэдакцыі, ані матэрыяльных умоваў. На пару нумароў грошы ёсьць, але задумалі купіць свой шрыфт і самым набіраць. На бяду, аднак, няма дастатковае колькасьці людзей, каб заняцца гэтаю справаю. Я асабіста маю зашмат працы з сваім часапісам, бо ня толькі рэдактарская, але і тэхнічная справа выдавецтва ляжыць выключна на мне адным.

З бацькаўшчыны даўно ўжо няма ніякіх вестак. Відаць, там нешта ня зусім у парадку, бо нават тыя, якія раней пісалі часта ў Амэрыку, цяпер не аказваюцца.

Шчыра цябе здараўлю. Адданы ў Хрысьце Твой

[а. Леў]

63 ***Modus vivendi*** (лац.) — літаральна “спосаб жыцьця”, лацінскі выраз, які мае значэньне згоды, дамоўленасьці бакоў, часовага кампрамісу.

2.10.1950

Дарагі Лёва!

Ліст Твой з дня 16.IX.1950 атрымаў і вельмі дзякую. Япіскап Сергій знайшоў сабе кватэру ў аднаго ўкраінца, але клопаты нашыя зь ім ня скончыліся і ня скончацца, пакуль ён будзе ў Аўстраліі[64]. Дапамогу яму мы даём, але яму ўсё мала, і даслоўна за нашымі плячыма жабруе. Здаецца, што ў Яго Высокапрэасьвяшчэнства завялася папулярная эміграцыйная хвароба *"грашовы чорт"* і то ў вельмі высокай ступені. Калі прыедзе [Мікола] Абрамчык, дык будзь ласкаў паінфармуй яго аб япіскапе дакладна, бо на мяне і [Міколу] Скабея[65] пасыпаліся на ўсе бакі скаргі і пагрозы. Мне лягчэй тут бараніцца, бо я каталік, у царкоўныя справы не хачу мяшацца, а складку на ўтрыманьне япіскапа плачу. Але япіскап — гэта бочка бяз дна, і сколькі-б ні ліў вады туды, ніколі яе не напоўніш. Супрацоўнічаць-жа зь ім у якіх-бы то ні было дзялянках ня толькі ня можам мы, грэшныя людзі, але перакананы, што ніхто ў сьвеце ня мог-бы, нават сьвятыя.

Тымчасам-жа пры нагодзе паведамі, будзь ласкаў, сп. [Уладзімера] Шыманца[66], каб ніякіх грошай япіскапу не высылаў без паразуменьня зь яп[іскапам] Васілём[67] альбо [Міколам] Скабеем.

Алесь Салавей[68] у Аўстраліі, да мяне даўно ўжо не пісаў, вось адрас [...]. Здаецца, што ён цяпер будуецца ды і мае сямейныя клопаты.

Заўтра вышлю Табе звычайнаю поштаю фото з выставы, якую мы тут некалькі месяцаў таму ладзілі.

---

[64] Архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) перабраўся ў Аўстралію ў 1950 г.

[65] **Мікола Скабей** (1905—1992), грамадзкі дзеяч. З 1948 г. жыў у Аўстраліі. Узначальваў сэктар Рады БНР у штаце Вікторыя. У 1950-х — кіраўнік Згуртаваньня беларусаў Вікторыі, першы кіраўнік Беларускага цэнтральнага камітэту, рэгулярна выбіраўся на гэтую пасаду цягам 1960—1980-х гг.

[66] **Уладзімер Шыманец** (1911—1977), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую тэхнічную школу (1932). Працаваў у Стоўпцах. Зь лета 1944 г. разам зь сям'ёй — на эміграцыі. Спачатку жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю. Быў міністрам фінансаў БНР.

[67] Маецца на ўвазе япіскап Васіль (Тамашчык).

[68] **Алесь Салавей** (сапр. **Альфрэд Радзюк**, на эміграцыі **Альбэрт Каднік**, 1922—1978), паэт. У 1938—1940 гг. вучыўся ў пэдагагічнай вучэльні ў Менску. З 1942 г. жыў у Рызе (Латвія), працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара часопісу "Новы Шлях". Напрыканцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Зальцбургу (Аўстрыя), удзельнічаў у выданні газэты "Зь беларускага жыцьця" й часопісу "Пагоня". З 1949 г. жыў у Аўстраліі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі.

З домам ня маю лучнасьці, але стараюся навязаць праз Польшчу. Можа і ўдасца. Ёсьць падставы думаць, што нядаўна адбыліся масавыя дэпартацыі беларусаў, якія як палякі пражывалі на *“Землях Одзысканых”*[69]. Здаецца, паехалі і абедзьве Каткавічанкі[70], якіх Ты пэўна ведаеш альбо з Бацькаўшчыны альбо зь Нямеччыны.

Жадаю Табе ўсяго найлепшага.

Твой Алёша

Парыж, 17.X.50

Дарагі Алёша!

Ліст твой атрымаў больш тыдня таму, але не адказаў хутка, бо якраз цяпер прыехаў з ЗША М[ікола] Абр[амчык]. Учора меў зь ім доўгую гутарку і парушыў справу яп[іскапа] Сяргея — ён толькі паціскае плячамі і дзівуецца, што ў Эўропе яп[іскап] Сяргей паводзіўся крыху больш стрымана. Бачу, аднак, што і сам Абр[амчык] бязрадны ў гэтай справе, бо што ён можа яму сказаць? Старога ніхто і нічога не пераканае.

Успамінаў так-жа [Уладзімеру] Шыманцу аб грашовых справах, дык ён кажа, што ніякіх грошаў да гэтага часу не пасылаў для яп[іскапа] Сяргея. Зрэштаю з [Уладзімерам] Шыманцом часам цяжэй гаварыць, як з тым япіскапам. Тут ён рассварыўся амаль з усімі — бяда зь ім ды годзі; чалавек захварэў на манію вялікасьці, як толькі прышпілілі яму тытул *“міністра фінансаў”*.

Чакаю фото з выстаўкі і напярод шчыра дзякую. Калі-б ты мог мне прысьлаць “Новае жыцьцё”[71], дык не пашкадуй час і зрабі мне гэта — няхай будзе ў архіве, часам прыдасца. Я ўжо прасіў некалькі чалавек, нават пісаў да самога рэдактара, але бяз пажаданага выніку.

З бацькаўшчыны я ня маю ніякіх вестак і не стараюся іх мець, сам ведаеш дзеля чаго, хоць вельмі хочацца ведаць, што там робіцца...

У мяне, як звычайна, заняцьце чаргуецца адно за другім з такім напорам, што дні ляцяць, быццам спаленыя маланкаю. У канцы тыдня няраз аж дзіўна, што так хутка мінуў час, і яшчэ астаецца шмат справаў, якія ня ўсьпеў палагодзіць. Але праўду кажучы, дык пісаніна ўжо надаела і часам нават цяжка адпісаць звычайны ліст, а калі трэба зрэдагаваць паважны артыкул, дык страшна за стол садзіцца. Але няма іншае рады, як, не зважаючы на ўсё, грымзоліць, аж пакуль галава не пачне балець так, што хочучы няхочучы прыходзіцца працу адкладаць.

---

[69] ***Ziemie Odzyskane*** (польск.) — тэрыторыі былога Вольнага гораду Данцыгу й частак даваеннай Нямеччыны, якія ў 1945 г. былі далучаныя да Польшчы.

[70] Маюцца на ўвазе Анэля й Вэраніка Katковіч.

[71] **“Новае Жыцьцё”** — часопіс, які выдаваўся ў Сыднэі (пазьней у Мэльбурне й зноў у Сыднэі) з сакавіка 1950 г. да ліпеня 1959 г.

Якраз цяпер паволі зачынаю рыхтаваць матэрыял да чарговага нумару “Божым Шляхам” і спадзяюся адначасна выдаць кніжку “Ты і яна”[72].

Між іншым, як цяпер да цябе даходзіць “Божым Шляхам”? Бо-ж напэўна ведаеш, што [Барыс] Дзедавец[73] перадаў гэтую справу Д[анату] Яцкевічу[74].

Нешта доўга ня маю ніякіх вестак ад А[ляксандра] Смаля, што зь ім сталася, што не аказваецца? Чую, што нешта ён ублытаўся ў розныя арганізацыйныя ніткі, але ня зусім шчасьліва.

Гутарачы з [Міколам] Абр[амчыкам], даведаўся цікавыя рэчы з ЗША. Беларускае арганізацыйнае жыцьцё там мае тыя самыя балячкі, што і ўсюды. Вельмі дрэнна захоўваецца Спадар [Янка] Станкевіч, папросту разьбівае арганізацыйнае жыцьцё і займаецца markdown рознымі інтрыгамі. Але затое амэрыканскія дзяржаўныя дзейнікі глядзяць на беларускае пытаньне вельмі прыхільна і вельмі цікавяцца нашымі справамі. Самая паездка [Міколы] Абр[амчыка] так-жа шмат прычынілася да гэтага і дала шмат матэрыялу для амэрыканцаў.

Шчыра цябе здараўлю. Твой у Хрысьце

[а. Леў]

## Уладзімер Клішэвіч

*Уладзімер Клішэвіч (12.03.1914, в. Краснадворцы (цяпер Салігорскі р-н Менскай вобл.) — 14.11.1978, Лос-Анджэлес, ЗША), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Па заканчэньні настаўніцкіх курсаў працаваў настаўнікам у Слуцку, з 1933 г. — студэнт Менскага пэдагагічнага інстытуту. У 1936 г. быў рэпрэсаваны, сасланы на Калыму. У жніўні 1940 г. вернуты на дарасьсьледаваньне ў Менск. Падчас нямецкай акупацыі*

---

72 Маецца на ўвазе выданьне: Шыльген, Г. Ты і яна (прысьвячаецца беларускай моладзі). Апрацаваў Васіль Друя [Часлаў Сіповіч]. Парыж: выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі, 1950. 11 с.

73 **Барыс Дзедавец** (?—?), грамадзкі дзеяч. Пры канцы 1940-х гг. жыў у Брысбэне, быў прадстаўніком газэты “Бацькаўшчына” ў Аўстраліі.

74 **Данат Яцкевіч** (1924(22?)—1969), грамадзкі дзеяч. Вайсковец, лейтэнант БКА. З 1944 г. — у Нямеччыне, дзе браў удзел у дзейнасьці беларускіх арганізацыяў. У 1949 г. прыбыў у Аўстралію. Актыўны арганізатар і ўдзельнік беларускага жыцьця ў Брысбэне. Адзін з ініцыятараў стварэньня Брацтва сьвятога Юрага БАПЦ. Заснавальнік Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў і выдавец друкаванага органу гэтай арганізацыі — пэрыёдыку “Лучнік”. Доўгачасовы кальпартатар беларускае прэсы ў Брысбэне. У 1956 г. разам зь сям’ёй перабраўся ў Мэльбурн, дзе таксама актыўна далучыўся да жыцьця беларускай грамады, быў адным з ініцыятараў набыцьця Беларускага дому. Займаўся выдавецкай дзейнасьцю.


Уладзімер Клішэвіч

*жыў у Слуцку, рэдагаваў "Газэту Случчыны". У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. З 1948 г. жыў у ЗША. Друкаваў вершы з 1931 г. Выдаў зборнік вершаў "Далячынь" (1965) і паэму "Васіль Каліна" (1965). У Менску быў выдрукаваны зборнік "Сняцца сны мне залатыя" (1973).*

Парыж, 8.VI.49

Паважаны Ўладзімер!

Ахвотна зьмяшчу Ваш драматычны абразок[75], але дапамажэце мне абмінуць некаторыя мейсцы, якія з рэлігійнага гледзішча мне рабілі-б некаторыя цяжкасьці. Тут я перапісаў так, як было-б магчыма пусьціць у друк, але ці Вы ня будзеце мець якіх засьцярогаў? У тым пасланьні, якое чытае Цень, слова: *"І помстаю"* я замяніў: *"Рашучасьцю"*. Здаецца, што так яшчэ лепш, а для мяне дык зусім у парадку. Затое канец гэтага пасланьня Ценю да паэты нават з кампазыцыйнага гледзішча трэба або замяніць, або зусім адкінуць, так як гэта зрабіў-бы я, бо-ж ліст той напісаны паэту, дык адкуль раптам зварот да Бога? Калі вам залежыць на гэтым канчатковым звароце, дык замяніце яго так, каб адносіўся да паэты. Толькі аднаго мне не прапусьціць духоўная цэнзура, гэта звароту: *"А Ты ня чуеш іх малітваў, Божа"*, бо кожная шчырая малітва на тое, каб была выслухана Богам, мусіць быць вытрывалая і канчаткова павінна прызнаваць над сабою Волю Божую: *"Але канчаткова, як Ты, Божа, хочаш, так хай станецца"* — вось абавязковы дадатак да малітвы.

Словам, перагляньце гэты тэкст і прышлеце мне свае заўвагі і эвэнтуальныя папраўкі. Калі хутка прышлеце адказ, дык яшчэ змагу пусьціць у гэтым нумары "Божым Шляхам". Шліце адказ на мой прыватны адрас.

З пашанаю

[а. Леў]

11.VI.49

Паважаны сп. Гарошка!

Атрымаў ад Вас ліст і сьпяшаюся на яго адказаць. *"Рашучасьць"* трохі зьніжае сілу слова *"помста"*. Тут падкрэсьліваецца, што за ўсё тое, што робіцца там, за сьмерць і забойствы нехта павінен панесьці кару,

[75] Маецца на ўвазе паэма "Цень сьмерці", надрукаваная ў часопісе "Прыйсьце" (№ 1. Саўт-Рывэр, 1958. С. 27—30), і перадрукаванай у: Запісы БІНіМ. № 26. Нью-Ёрк — Менск, 2003. С. 65—67.

нехта павінен адпомсьціць, адплаціць. Нават для перадачы глыбіні ўсёй і гэтага слова мала. Я як аўтар, пішучы гэты твор, не прытрымліваўся рэлігійных канонаў, і таму так атрымалася.

Я настойваю на друкаваньні так, як напісана, таму што калі будуць зроблены ўрэзкі тэксту — гэта, як правіла, ідзе ў разыходжаньне з аўтарам. Чытач ня будзе судзіць, крытыкаваць або хваліць таго, хто рабіў папраўкі, а аўтара, а кожны аўтар заўсёды настойвае на сваім. Калі-б я даў гэты верш дваццаць чалавекам, і кожны ўнёс-бы сваю папраўку, тады ад майго вершу нічога-б не засталося — верш-бы захаваўся, але быў-бы зьменены дух вершу.

Калі пакінуць зварот цені толькі да паэты — гэтага мала. Тут трэба нешта мацнейшае. Я застанавіўся на звароце да Бога.

Я дужа дзякую за Вашыя заўвагі, але буду настайваць на сваім, і не прымеце гэта за крыўду. Я толькі магу зьмяніць апошні радок, дзе справа датычыцца цэнзуры. Замест *"А ты ня чуеш іх малітваў, Божа"* пастаўце *"Пачуй-жа, Божа, грэшных іх малітву!"*.

Калі гэта Вас не задавальняе, тады проста верш не друкуйце.

Справа вось у чым. Вы надрукуеце твор з пэўнымі зьменамі, а праз некаторы час гэты твор выйдзе цалкам, так, як напісаны, і атрымаецца нешта такое незразумелае.

З пашанай да Вас, Ул[адзімер] Клішэвіч

Парыж, 14.VI.49

Паважаны Ўладзімер!

З Вашага ліста бачу, што Вы мяне нядобра зразумелі. Няма сумніву, што папраўкі зьменяць дух вершу, але зьменяць на лепшае, бо ў такім стане, як ён ёсьць, ня вытрымоўвае крытыкі. Кожны, хто хоць чуць абзнаёмлены з рэлігіяй, прачытае Ваш верш у нязьмененай рэдакцыі, дойдзе да пераканаваньня, што аўтар вершу зусім не абзнаёмлены з рэлігійнаю справаю; дык нашто-ж Вам дэманстраваць рэлігійную няведу? Нават у сваім лісьце праяўляюцца рэлігійныя недакладнасьці. Вы, напрыклад, пішаце, што *"ня прытрымліваліся рэлігійных канонаў"*, пішучы той верш. Гэта праўда, але толькі таму, што рэлігійных канонаў агулам няма. Дык як-жа іх можна прытрымлівацца? Ёсьць рэлігійныя догмы і ёсьць царкоўныя каноны — гэта зусім розныя рэчы, а Вы іх зьмяшалі, самазразумела, чаму, бо для Вас гэтыя рэчы блізу няведамыя. Тое самае і зь вершам. Вы закранулі справы, якімі да гэтага часу мала займаліся, і таму заблыталіся, зблудзілі, быццам у няведамым гушчары. Зьвяртаю на гэта ўвагу не таму, каб Вас дакараць, але наадварот, каб паслужыць добраю радаю, бо мне як сьвятару і духоўніку з гэтымі справамі прыходзіцца мець заўсёды дачыненьні і тым самым арыентавацца ў іх крыху лепш. Дзеля гэтага яшчэ раз прашу ня прымаць маіх заўвагаў як дакор, але як найшчырэйшую раду і помач.

Вось Вам прыклад літаратурнае крытыкі, якая магла-б спаткаць той верш, калі-б ён паявіўся дзе-небудзь у нязьмененай форме:

Цень з таго сьвету ў моцных словах заклікае паэта, калішняга свайго сябру, да дзейнасьці, да чыну — вобраз і зьмест заклiку дзее на чытача вельмі моцна і ўзрушаюча. Але калі Цень закранае толькі Бога, адразу ўпадае ў абсурды. Вось ён напамінае паэту, што Бог даў яму талент, розум, сілу… каб клікаць людзей да помсты. Такога Бога агулам няма, бо адплату за ўсе злочыны і бяспраўствы Бог зарэзэрваваў сабе, і калі людзі з гэтага сьвету аб гэтым могуць і ня ведаць, дык Цені з таго сьвету аб гэтым ведаюць вельмі добра. Гэты адзін заклік робіць Цень з таго сьвету агулам немагчымаю, бо на тамтым сьвеце ёсьць толькі дзьве катэгорыі людзей: або асуджаныя — якія атрымоўваюць якраз кару за свае злочыны, за якія Цень кліча рабіць помсту на гэтым сьвеце, або апраўданыя, ці тыя, што хутка маюць быць апраўданыя — гэткія Цені да помсты клікаць ня могуць, бо добра ведаюць справядлівы суд Божы, які не абміне нікога. Іншых Ценяў на тамтым сьвеце няма і тым самым яны ня могуць зьяўляцца, а тым самым і ўвесь паэтычны абраз стаецца абсалютна немагчымым.

Асабліва канец лісту Ценяў да паэты сьведчыць аб тым, што яны ёсьць пустою фантазіяю аўтара, бо высылаюць ліст да туземнага паэта і ў гэтым лісьце ні адтуль, ні адсюль зьвяртаюцца да Бога, выглядае, быццам для іх туземны паэт ёсьць Богам, калі ў яго гукаюць адказу на пытаньні, зь якімі якраз мог-бы паэт зьвярнуцца да Ценяў. Але горш, што няма ніякага лягічнага павязаньня гэтага канцавога звароту з папярэднім тэкстам, выглядае, быццам Цені страцілі ўсёкую лёгіку думаньня, але гэта пярэчыць усякім правілам здаровага думаньня і пярэчыць нават самому кантэксту вершу, бо на пачатку Цень кажа, што паэты на тамтым сьвеце перш паважна думалі, пакуль выслалі пасланца, і каб гэты пасланец не забыўся таго, што мае гаварыць, напісалі яму прамову, дык ці-ж магчыма прыпускаць, каб усе паэты на тамтым сьвеце страцілі лёгіку і замест проста зьвярнуцца да Бога ў тых справах, якія адносяцца да Бога, зьвяртаюцца зь імі па туземнага паэта — гэткую нелягічнасьць нельга расцэньваць інакш як простую бессэнсовасьць, якую аўтар вершу мусіць узяць на свой рахунак. Але паўстае пытаньне: чым мог кіравацца аўтар, дапускаючы такую нелягічнасьць? У самым тэксьце няма ніякае прычыны, якая-б апраўдала яе. Значыць, сьведама яе аўтар зрабіць ня мог, астаецца другая магчымасьць: што зрабіў яе нясьведама, а гэта да плюсаў не належыць. Як-бы аўтар быў зусім няверуючым, дык-бы напэўна ніякага Ценю з таго сьвету ня выводзіў на сцэну. Таму астаецца толькі адна магчымасьць і апраўданьне, што аўтар закрануў чужую для сябе тэму і закрануў так няўдачна, што адразу выявіў сваю няведу рэлігійных справаў. Гэты мамэнт стаіць у вельмі негарманійнай лучнасьці з цэласьцю вершу, які па-за тым так формаю, як і зьместам стаіць на паважнай вышыні.

Вось больш-менш тыя думкі, якія могуць паўстаць у кожнага чытача, прачытаўшы Ваш верш у нязьмененай рэдакцыі, дзеля гэтага радзіў-бы Вам перадумаць гэтыя заўвагі ў тым дусе, у якім Вам іх пішу, гэта значыць, з найлепшым жаданьнем дапамагчы ў тых справах, у якіх разважнасьць ніколі і нікому не пашкодзіла.

Самазразумела, што бяз Вашае згоды ані мяняць, ані друкаваць ня буду, бо на гэта ня маю ніякага права. Свае заўвагі высылаю Вам дзеля таго, каб падаць толькі больш-менш той кірунак, у якім варта было-б зрабіць праўкі.

З шчыраю пашанаю да Вас,

[а. Леў]

19.VI.49

Паважаны Гарошка!

Адсылаючы Вам свой верш, я ніколі не спадзяваўся з Вашага боку, каб Вы паставілі гэтулькі ня толькі цэнзуры, але і асабістых перагародак, каб не друкаваць верш. Гэта справа Вашая.

На Ваш першы ліст я адказаў, і адказ, акрамя ўсяго, быў такім: *“Я зьмяняю для цэнзуры апошнюю страфу размовы Цені, а калі гэта Вас не задавальняе — верш не друкуйце”*.

Гэта было дастаткова ясна.

Вы напісалі яшчэ адзін ліст, проста аблаяўшы чалавека, выліўшы вушат брудных памыяў на галаву аўтара. Пасьля другога Вашага ліста я катэгарычна адмаўляюся друкавацца ў Вашым часапісе.

Верш не зьмяняю і зьмяняць ня буду. Папрасіў-бы тэкст арыгіналу адаслаць мне назад.

Я не канчаў багаслоўскіх факультэтаў, а таму і не прэтэндую быць энцыкляпэдыстам.

Можа, *“каноны”* гэта царкоўныя, а догмы рэлігійныя — гэта Вы ведаеце лепей, толькі царква, мне здаецца, не існуе па-за рэлігіяй. Гэта дробязі, аб якія я ня хочу гутарыць.

Вы-ж зь нейкай казуістыкай, прыкрываючыся лісьлівымі салодкімі словамі, схапіліся за гэтыя словы і прачыталі мне сьвятарскую натацыю толькі за тое, што я *“пераблытаў”* каноны з догмамі!

Прабачце! Вінаваты! Станаўлюся на калені і прашу прабачэньня за маю няведу, за мой цяжкі грэх.

Буду памятаць (калі не забуду), што каноны — гэта чыста царкоўныя словы, а догмы — рэлігійныя.

Дзякую за добрае навучаньне.

Ужо калі ў догмах я *“заблудзіўся”*, дык у адносінах вершу і яго філязофіі — прабачце, тут запуталіся Вы, бо для аналізу вершу прымянілі калі не рэлігійную догму, дык філязофію сафізму.

Вы ведаеце, што верш можна крытыкаваць па-рознаму: той, хто мысьліць аднымі рэлігійнымі догмамі, падойдзе па-своему, той, хто прытрымліваецца ідэалістычнага погляду розных адценкаў (Кант[76], Гэгель[77], Шапэнгаўэр[78]), той будзе глядзець інакш, а той, [хто] трымаецца чыста матэрыялістычнага сьветагляду, той скрытыкуе гэты верш з другога боку, назаве гэты верш чартаўшчынай, папоўшчынай і той-жа *"пустою фантазіяй аўтара"*, якой абзываеце і Вы, толькі гэта будзе з адваротна-супрацьлеглага боку.

Бачыце, як Вы занадта блізкія між сабою. Прабачце, сьвятар.

Можна крытыкаваць разумна, культурна, а не лаяцца: *"Пустая фантазія аўтара"* (а дзе Вы чулі непустую фантазію?), што гэта *"пярэчыць усякім правілам здаровага думаньня"*, што закрануў *"няўдачна"*, *"выявіў няведу"*, што аўтар зусім *"не азнаёмлены з рэлігійнаю справаю"* і г. д. і г. д.

І разам з тым прыкрываецеся тонам культурнай <u>дыдактычнасьці</u>. Вы што, мяне лічыце дзіцём? Ці гэта праяўляеце ізуітызм? Такую "крытыку" завуць аглабельнай. Мастацтва таксама справа складаная, і без пэўнай адукацыі і падрыхтоўкі нельга выскакваць дылетантам і судзіць безапэляцыйна таму толькі, што скончылі багаслоўскі факультэт. Вы кажаце, што я *"згубіў лёгіку"*, *"заблудзіў"*.

Давайце глянем. Бярэм тэкст вершу, зьмест.

Цень з таго сьвету зьвяртаецца да паэты, дакарае яго, што ён маўчыць, не расказвае жывым аб муках, якія ўчыняюць бальшавікі над людзьмі. Гэта аснова вершу. Цені пішуць ліст да свайго быўшага сябры і разам з тым узьнімаюць рукі да Бога, каб ён пачуў іх голас і дапамог жывым мучанікам. Вось зьмест прамовы Цені.

Цень — гэта сымбаль усіх замучаных і забітых бальшавікамі. Цень — гэта мастацкі вобраз, а не філязофска-рэлігійная катэгорыя. Ці ведаюць Цені, што робіцца на зямлі? Бязумоўна ведаюць, бо яны самі ахвяры бальшавізму. Вы пішаце: *"Але калі Цень закранае толькі Бога, адразу ўпадае ў <u>абсурды</u>"*.

Чаму? Вы не даеце адказу. Чаму я Вам павінен паверыць? Чым Вы можаце пераканаць? Лёгікай, пачуцьцём ці проста пастулатам, догмай?

І далей: *"Вось ён напамінае паэту, што Бог даў яму талент, розум, сілу, каб клікаць людзей да помсты. <u>Такога Бога няма агулам,</u>*

[76] **Імануіл Кант** (ням. *Immanuel Kant*, 1724—1804), нямецкі філёзаф, пачынальнік клясычнай нямецкай філязофіі.

[77] **Георг Вільгэльм Фрыдрых Гэгель** (ням. *Georg Wilhelm Friedrich Hegel*, 1770—1831), нямецкі філёзаф, адзін з заснавальнікаў клясычнай нямецкай філязофіі, стваральнік сыстэматычнай тэорыі дыялектыкі.

[78] **Артур Шопэнгаўэр** (ням. *Arthur Schopenhauer,* 1788—1860), нямецкі філёзаф.

*бо адплату за ўсё Бог узяў на сябе, і калі людзі з гэтага сьвету аб гэтым ня ведаюць, дык Цені гэта ведаюць вельмі добра"*.

Я асабіста, сп. Гарошка, аб гэтым ня ведаю і хацеў-бы запытаць у Вас: адкуль Вы ведаеце, што *"Цені з таго сьвету ведаюць вельмі добра"*?

Гэта Ваш першы абсурд, якога ніхто ніколі ня можа даказаць. Я бяру Цень як сымбаль, як вобраз, а Вы бярэце як рэальную катэгорыю.

"Крытыка" Ваша пабудавана на Хрысьціянскім вучэньні: калі цябе хто б'е ў правую шчаку, падстаў левую, бо адбівацца няможна, грэх. Ну, дык што-ж тады па-вашаму выходзіць? Няхай бальшавікі тыя мучаць, б'юць, расстрэльваюць, а мы будзем назіраць і чакаць, пакуль нас павесяць (значыць, такая Божая воля!). Бог на тым сьвеце пакарае злачынцаў, а Сталін карае людзей на гэтым. Затое Сталін будзе вечны грэшнік з сваім штабам НКВД у пекле, а яго ахвяры ў Раю.

За такую філязофію Сталін Вам можа пераслаць ордэн Леніна. Вы-ж яму дапамагаеце. Дзе лёгіка? Зьмірыся, капай золата, сячы лес, памірай ад непамернай працы ў Сібіры, за цябе нехта на тым сьвеце адпомсьціць — вось Ваш другі абсурд.

Я думаю, Вы хоць і сьвятар, такой філязофіі не прытрымліваецеся. Калі-б Вам хто даў аплявуху, дык Вы па-хрысьціянску далі-б назад дзьве.

Вашы *"сапраўдныя Цені"* клікаць да помсты ня могуць, а мае Цені *"несапраўдныя"* клікаюць і будуць клікаць да помсты, да змаганьня з бальшавікамі.

Вось Ваш трэці абсурд.

Калі напісаць верш у такім пляне, як Вы гэтага жадаеце, тады атрымаецца болей як дзікая фантазія.

Напісаньне такіх вершаў я пакідаю за Вамі.

Цяпер можна спытаць: хто згубіў лёгіку, аўтар або "крытык"? Вы нават не пасаромеліся сказаць, што гэта *"пярэчыць усякім правілам здаровага думаньня"*.

Да чаго Вы дакаціліся? Я ня ведаю, хто з нас вар'ят пасьля гэтых слоў.

Калі Цені зьвяртаюцца з дакорам да паэты (у гэтым уся сутнасьць вершу) і разам з тым узьнімаюць рукі да Бога — гэта яшчэ ня значыць, даражэнькі "крытык", што паэта пастаўлены вышэй Бога.

Дзікая лёгіка, дзікія абагульненьні!

Вось Ваш 4-ы абсурд.

Калі не разумееце мастацтва і ня можаце яго зразумець, тады не надзявайце тогу вялікага "ўсёзнаўцы" і "крытыка".

Нарэшце, Вы, як энкавэдысты, пытаеце, зыходзячы зь філёзофіі сафізму: як гэта аўтар напісаў, сьведама ці нясьведама? І прыходзіце да выснаву (на аснове таго, што я ўзяў Цень з таго сьвету), што я напісаў нясьведама.

Абсурд таксама.

Напісана гэта болей як сьведама. Як гэта можна пісаць нясьведама. Можа, Вы апошні ліст да мяне напісалі несьвядома?

Нарэшце, Вы хапаецеся за тэму з пытаньнем: рэлігійны аўтар ці не? Па вершу аб маёй рэлігійнасьці судзіць цяжка.

Не забывайцеся, сп. Гарошка, я жыву ў З[лучаных] Ш[татах] Амэрыкі, у краіне, дзе царква адлучана ад дзяржавы, дзе ёсьць свабода совесьці, веравызнаньня, і гэта ўжо мая асабістая справа, і "крыжаку" няма чаго сюды заглядаць — гэта яго не датычыцца. Ня шукайце блох!!! там, дзе іх няма.

Вось якія думкі могуць быць у чытача (толькі ня ў кожнага, як пішаце Вы), прачытаўшы верш у перапраўленай форме.

Я-б Вам парадзіў не радзіць іншым, а лепш падумаць і парадзіць самому сабе, бо *"разважлівасьць ніколі і нікому не пашкодзіць"*.

Мяне ўсё-ж дзівіць, што быўшы мой сусед, супрацоўнік Баранавіцкай газэты, а зараз выдавец часапісу "Б[ожым] Ш[ляхам]" у Парыжы мог так аблаяць чалавека, зьмяшаць з гразёю безь ніякіх на гэта прычынаў.

Вось тут у мяне паўстае пытаньне. Сьвядома с[падар] Гарошка зрабіў гэта ці несьвядома? І напрашваецца адказ: сьведама і к таму не па-хрысьціянску.

З пашанай да Вас, Ул[адзімер] Клішэвіч.

PS. Дужа шкадую, што Вы ня толькі як сьвятар-хрысьціянін не праявілі Чалавечых адносінаў да мяне як паэты, а, наадварот, забыўшыся на тое, што Вы сьвятар і ўдаўшыся ў "крытыку", пачалі сваёй "крытыкай" выбіваць з-пад ног той грунт, на якім стаіцё Вы, патрабуеце ад мяне, ад простага цывільнага чалавека таго, чаго і самі, як добры пастыр, не прытрымліваецеся.

Ніколі я ні ад аднаго сапраўднага крытыка, самага злоснага, такое крытыкі ня чуў, ад чалавека, які ўсё-ж далей стаіць ад рэлігіі, як Вы. Я нагэтулькі зьдзіўлены і пакрыўджаны, што нават ня ведаю, што на гэта сказаць.

У[ладзімер] К[лішэвіч]

*P.P.S.* А можа, дарэмна я крыўджуся? Можа, гэта і не заслугоўвае таго, каб зьвяртаць сур'ёзна ўвагу.

## Часлаў Сіповіч

*Часлаў Сіповіч (08.12.1914, в. Дзедзінка (цяпер Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 04.10.1981, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі біскуп. Вучыўся ў Друйскай гімназіі. У 1934 г. пастрыжаны ў манахі. Вучыўся на факультэце філязофіі й тэалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту. У 1938—1947 гг. жыў у Рыме, дзе скончыў Папскі грыгарыянскі ўнівэрсытэт і Папскі ўсходні інстытут. У 1944—1946 гг. апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, расквартараванымі па ўсім Апэ-*



Айцец Часлаў Сіповіч

*нінскім паўвостраве. Праводзіў сярод іх дабрачынную й асьветніцкую працу. У 1947 г. прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі бізантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. 09.04.1947 прыбыў у Лёндан. З 10.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, у 1948 г. абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. У 1948 г. стаў адным з ініцыятараў стварэньня Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня "Жыцьцё", а пазьней — Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'еднаньня "Рунь". 04.08.1960 пасьвячаны на біскупа, пазьней быў прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генэралам ордэну марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г. У Марыянскім доме (Marian House) заснаваў кляштар беларускіх марыянаў. Фактычна быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Паўночным Лёндане, часткай якога стаў інтэрнат Сьв. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка й музэй імя Ф. Скарыны.*

27 жніўня 1947 г.

Даражэнькі Леў,

перад Табой я вінаваты і каюся. Ня ведаю, на сколькі лістоў ужо не адказаў Табе. Што-ж зробіш, калі ў мяне сьпякота й час жніва: ЗБВБ[79], царкоўнае жыцьцё, адносіны з рознымі й да розных глытаюць усенькі час. Пабыт тут месячны Міколы [Абрамчыка] быў для нас пад кожным узглядам натугай неабы-якой.

Цешуся, што "спрэчка" з Рупам[80] нічым паважным не пагражае. Магчыма, што я Тваю гутарку з а. Рупам, перададаную лістом Міколы [Абрамчыка], узяў замоцна.

[79] **ЗБВБ, Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі** — арганізацыя, заснаваная ў Лёндане ў 1946—1947 гг.

[80] **Жан Руп** (фр. *Jean Rupp,* 1905—1983), французскі каталіцкі біскуп, з 1954 г. быў дапаможным біскупам ардынарыяту ўсходніх цэркваў.

Што падчас канікулаў у царкве пуста, зусім ня дзіўлюся. Хто ведае, ці на пэўны час зусім ня варта было-б перарваць багаслужбы для людзей. Я ўважаю, што Твая і мая праца куды шырэйшая, чым багаслужбы. Гэтыя зусім могуць ня быць, а мы павінны дзеіць: нам трэба перарабляць, прыгатаўляць, але не заўсёды ўдаецца гэта нават у пэўнай меры зрабіць цераз службу ці казаньні.

У цябе мала сапраўды веруючых. Нешта падобнае і ў мяне. Але такога чалавека, як Мікола [Абрамчык], у мяне няма. Ня важна, што ён падходзіць з нацыянальнага пункту да царкоўных справаў. Больш ад яго і жадаць ня можам, але галоўнае, што ён кіруе ў старану Рыму. Сколькі, бач, ёсьць латышоў-пратэстантаў у бядзе і патрабуюць грошы, а аб Рыме і вухам не вядуць? Мікола [Абрамчык] і *consortes*[81] патрабуюць грошы на грамадзкія справы, хацелі-б крыху ад нас больш спадзявацца, чым мы можам іх здаволіць. І зусім добра! Іхняя праца такжа патрэбная, а мы яе ня можам рабіць. Бяда толькі, што мы ім ня можам памагчы! Заўтра могуць заняць іх месца *"істінно православныя"*, тагды з нашай царкоўнай працай ці супрацай не паказывайся.

Не разумею, чаго Ты баішся паказаць Кангрэгацыі рахункаў на "Б[еларускія] Н[авіны]"? Пішаш аб маралі ў адзінай беларускай газэце, прыхільнай усяму нашаму руху, сваей выдаць ня можаш і баішся, быццам яно кашэрнае? Ісьці прастым шляхам. Не палітыку мы ў "Б[еларускіх] Навінах" падтрымоўваем, але патрэбу роднага, здаровага слова. Яны для нас больш могуць добрага прынесьці і сапраўды прыносяць, чымся зрабіў-бы ўласны часапіс, які адразу ўпярэджвае да сябе людзей, бо нас уважаюць многія за папістаў...

Мікола [Абрамчык] перад выездам атрымаў ад ЗБВБ 15 фунтаў, і крыху ад *sąsiadaй*[82]. Мы больш не маглі даць, бо трэба было пакрыць месячныя выдаткі яго пражыцьця, разьезды і г. д.

Пішучы да мяне, Мікола [Абрамчык] жадаў ведаць, якая мая думка адносна таго, ці ісьці Вам, ці не да Нунцыя. Ясна, што ісьці і спакойна пагаварыць не зашкодзіць, толькі я сумняваюся, ці ён што дапаможа асабліва, калі Твая курыя і іншыя заглядаюцца на Тваю місію як на прыход, лічаць вернікаў, гатовы аглядаць конфэсыёналы і г. д. А не разумеюць, што да беларускага праўдзівага прыходу трэба прынамсі некалькі дзясятак гадоў прыгатаўляцца.

Бывай і ня гневайся, што ад сэрца напісаў.

[Часлаў Сіповіч]

[81] ***Consortes*** (лац.) — тут хутчэй: таварышы, аднадумцы.

[82] ***Sąsiadaй*** — ад зьмененага польскага "суседзяў". Тут маецца на ўвазе, што Мікола Абрамчык атрымаў грошы ад палякаў.

Парыж, 5.I.48

Дарагі Чэслаў,

у залучэньні пасылаю табе копію майго ліста ў Кангрэгацыю, там маеш якраз тыя даныя аб тыражу і коштах выданьня “Б[ожым] Ш[ляхам]”. Вельмі добра было-б, каб ты неадкладна напісаў з свайго боку падобны ліст, бо далей не магу выдаваць, і так ужо маю даўгу 19 тысяч, а да таго спадзяюся, што наступны нумар будзе каштаваць за сам друк больш як 25 тысяч.

Мікола [Абрамчык] яшчэ не вярнуўся. Бачу, што ён мае такую жылку: егдзіць, пакуль егдзіцца…

Зь Вінцуком [Жук-Грышкевічам] гаварыў мала, прызнацца табе, дык цяжка мне нават вусны адчыняць, калі пагляджу, у якой Садоме мы знаходзімся. Той зь сіньярынамі, той з мармузэлямі, а іншыя проста з патаскухамі пазьвязваліся і ўважаюць гэта за нармальнае жыцьцё. Калі нас усіх разам Бог ня спаліць агнём, дык гэта запраўды будзе большая любоў, чым сьмерць на крыжы.

Ці дзіва, што ў гэткай атмасфэры гразьне ўся наша акцыя?

Што да твайго артыкулу, дык, здаецца, яго трэба будзе ці дапоўніць, ці агладзіць. Якраз маю пад рукамі кніжку на гэтую самую тэму ў французскай мове “Рым ці Масква?”[83]. Усе лацінскія цытаты прыйдзецца выкінуць, бо: раз, што з наборам непатрэбны клопат, а па-другое, гэта-ж не навуковы часапіс, а папулярны.

Чую, што маеш адрасы шмат каго з Аргэнтыны, будзь ласкаў, падай мне іх. Туды выехаў ужо [Кастусь] Мерляк, але яшчэ ня маю яго сталага адрасу, як толькі даведаюся, напішу табе, калі перш сам цябе не павядоміць.

Чакаю хуткага адказу, часапіс вышлю.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 7.II.48

Дарагі Чэслаў!

Ужо зьбіраўся адпісваць табе аб сваіх сумных намерах і непацешным палажэньні, як атрымаў радасную вестку, што Кангрэгацыя згадзілася даць дадатковых 20 тысяч фр[анкаў] на “Б[ожым] Ш[ляхам]” і чатыры стыпэндыі для нашых студэнтаў. Праўда, гэта толькі часова, бо стыпэндыі на два месяцы, а падтрымку на 6, але думаю, што і далей можна будзе вытаргаваць, дык невядома, якая доля спаткае валюту. Але ты з свайго боку не занедбай гэтае справы і ў Кангрэгацыі слова закінь, што табе часапіс так-жа патрэбны, як і мне.

---

[83] Відаць, маецца на ўвазе выданьне: Latu, Roger. Rome ou Moscou? [doctrine sociale chrétienne ou matérialisme marxiste]. Paris: Bonne Press, 1947. 198 p.

Што да студэнцкае арганізацыі, дык я аб гэтым думаў ад самага пачатку, але як было нешта рабіць, калі тых студэнтаў гола. Ніна [Абрамчык] і так завалена працаю ў розных жаночых арганізацыях і пісанінаю Міколе [Абрамчыку], ды часта прыхворвае, іншыя ёсьць толькі адзін чалавек, на якога можна пакладацца. Я ўжо пісаў табе аб нашых людзкіх рэзэрвах. Да таго цяпер бачу, што Мікола [Абрамчык] да нас адносіцца з засьцярогаю. Са мною, напрыклад, дык нават ня быў ласкаў падзяліцца сваімі ўражаньнямі з падарожжа. А на прышласьць будзе яшчэ горш, бо зь Нямеччыны пішуць, што там цяпер супроць яго зарубежнікі павялі моцную акцыю, і на сцэну выйшаў [Радаслаў] Астроўскі, якога прызнаў прэзыдэнтам другі Кангрэс. Мікола [Абрамчык] дык нават наіўны ў сваім паступованьні: хоча схаваць гэты няпрыемны для яго факт нават ад мяне. Цяпер ён, што праўда, зноў падарожнічае, але ад'яжджаючы не сказаў ані слова. Бачу, што ён знае толькі адно: *"давай грошы"*.

Цікава, што табе гаварыў [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч? Аб чым яны гаварылі і да чаго дагаварыліся?

Добра, што знайшоўся [Дамінік] Аніська[84], заангажуй яго, хай піша ў "Б[ожым] Ш[ляхам]".

Што ты чуешся змучаны, веру, але я дык амаль зусім прыстаў. Ужо зьбіраюся амаль цэлы месяц, каб выехаць да Франука [Чарняўскага] на адпачынак, але ўсё часу няма, а цяпер актуальная справа, каб выправіць на пару месяцаў самога Франука [Чарняўскага] сьледам за Міколаю [Абрамчыкам].

Рады даеш добрыя, што да зьместу і тэмаў, але яшчэ лепш, як сам напішаш, бо аднаму назьбіраць матэрыялу на цэлы часапіс — гэта справа ня лёгкая. Каб нават нічога не рабіў, дык і то трэба было-б займацца гэтым колькі часу, а тут яшчэ не заўсёды і патрэбную літаратуру можна знайсьці.

Не забывай часьцей пісаць і падтрымоўваць хоць малітвамі.

Забыўся табе ўспамянуць, што зь Нямеччыны даведаўся аб [Барысу] Суравым[85]. Паведамляюць, што ён пры паляках быў палянізатарам

---

[84] **Дамінік Аніська** (1888—1971), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Друкаваўся ў беларускім часопісе "Хрысьціянская Думка". Выдаў некалькі брашураў: "Да беларускага народу", "Усё ў міласьці". У часе Другой сусьветнай вайны быў пакліканы ў польскае войска, трапіў у савецкі палон, перабываў у Грязоўцы Валагодзкай вобласьці (Расея). З 1942 г. служыў у Арміі Андэрса. Да 1946 г. жыў у Палестыне, дзе, сярод іншага, дапамагаў у выданьні польскамоўнага часопісу *"Tygodnik Katolicki"*. Пазьней правёў яшчэ год у Эгіпце, адкуль у 1947 г. перабраўся ў Вялікабрытанію. З 1949 г. жыў у Лондане.

[85] **Барыс Суравы** (1907—1998), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны — школьны інспэктар, кіраўнік СБМ на Слонімскую акругу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Вялікабрытаніі. Быў сярод заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, старшыня Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў.

і ў 1939 быў прыняў каталіцтва. Перад тым, як прыехаць да вас, разам са сваім братам быў у францускай зоне і належаў да групы зарубежнікаў і ад іх паехаў з спэцыяльным заданьнем да вас. Так пішуць людзі, што выспэцылізаваліся ў пошуках.

Аставайся з Богам.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 7.V.48

Дарагі Чэслаў,

дзякую за ліст. Хроніку пушчу ў гэтым нумары "Божым Шляхам", але думаю некаторыя прозьвішчы сэпаратыстаў павыкідаць. Нашто славіць гарастратаў? Бо ці дасі веры, той а. Лупіш, аб якім пісаў раз, што сьвятакрадзка руйнаваў царкву, ходзіць з гэтым нумарам "Божым Шляхам" і хваліцца *"Вот как про меня кривичские иезуиты пишут"*, а аб [Яўхіму] Кіпелі[86] гавораць, што ў кожнай газэце толькі і шукае свайго імені, і калі не знаходзіць, дык аж пеніцца ад злосьці — словам, людзі фармальна трацяць усякае людзкое аблічча і людзкую годнасьць.

Тут у залучэньні перасылаю табе, каб перадаў у рэдакцыю "Беларус на чужыне" правапісную зацемку аб зюканьні. Не магу я глядзець абыякава на непатрэбныя экспэрымэнты над роднаю моваю. Нават думаю напісаць рэцэнзыю на "Падручнік крывіцкае мовы"[87], бо гэткае ганебнае зьявішча ў беларускай лінгвістыцы нельга так пакінуць моўчкам. Для нас, сьвятароў, родная мова зьяўляецца адным з магутнейшых лучнікаў з народнымі масамі і адзіны шлях, побач добрага прыкладу, да людзкога сэрца, дык як-жа глядзець абыякава, калі яе калечаць?

Адкуль ты зрабіў высновак, што я задзіраюся зь Міколам [Абрамчыкам]? Ён маўчыць, дык я ня маю чаго яму накідацца. Ён шукае нас тады, калі яму патрэбныя грошы, і ўдае незадаволенага, калі іх мала атрымоўвае. Усё гэта і тое, што пісаў раней, — гэта для твае арыентацыі і інфармацыі. Бо каб сёньня я ўстрымаў падтрымку Ніне [Абрамчык] й Лявону [Рыдлеўскаму], тады-б ты пачуў, як яны гавораць. А гэта бачыш нават, калі матэрыяльна залежаць ды і то нос круцяць, дык можна

[86] **Яўхім Кіпель** (1898—1969), грамадзкі дзеяч. Арыштаваны ў 1930 г. у справе Саюзу вызваленьня Беларусі й высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласьць, у 1935 г. арыштаваны паўторна й высланы на Далёкі Ўсход. У 1942 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Галоўным школьным інспэктарацe, рэдакцыі газэты "Голас вёскі", займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША.

[87] Маецца на ўвазе выданьне: Станкевіч, Ян. Падручнік крывіцкае (беларускае) мовы: граматыка, правапіс, укладаньні, прытарнаваныя вучыцца ў школе й дома. Kryvian (Whiteruthenian) Grammar. [Рэгенсбург], 1946 [на вокладцы: 1947]. 124 с.

дагадацца, як-бы было ў іншым выпадку. На гэта нельга зачыняць вачэй. Казаць я нічога не кажу і не скажу, бо гэта справа ня зь дзецям.

У нас нешта з а. Франуком [Чарняўскім] няясна, бо вось больш як два тыдні напісаў, што хворы, і больш няма ніякае весткі. Пісалі суседзям, але тыя так-жа не аказваюцца, і няма як да яго заглянуць.

У Парыжы мае астацца адзін з прыехаўшых з Даніі; [Уладзімер] Шыманец — моцны чалавек, магчыма, трохі паправіцца арганізацыйная справа.

Я табе забыўся напісаць, што ў Гішпаніі цяпер знаходзіцца ад нашае місіі адзін малады немец, ці потым будзем мець зь яго карысьць, Бог ведае, але пакуль што дык наша імя нясе, толькі баюся, каб не скампрамэтаваў, бо раней быў пратэстантам і экс-езуіт. Затое ў Мюнхэне ёсьць адзін запраўдны клерык, хоць і старэйшы векам, толькі цяпер запісаўся на багасловію. Сам ён лацінскага абраду і хоча астацца гэтакім, але кажа, калі Божая слава будзе вымагаць інакш, дык ахвотна пярэйдзе на ўсходні абрад, наз[ываецца] Беленіс. Да таго тут ёсьць яшчэ адзін кандыдат, але з навукаю мае паважныя цяжкасьці — быў у польскай сэмінарыі, але з экзамэнамі ня даў сабе рады. Цяпер ён працуе ў селяніна, а на прышлы год думае такі прадаўжаць студыі. Пастараюся яму памагчы, бо ад гэтага нічога ня страцім.

З Гішпаніі як толькі што атрымаю, зараз-жа паведамлю.

Пастарайся такі хутчэй пераслаць мне тое, што маеш пераслаць.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 31.V.48

Дарагі Чэслаў,

на просьбу [Аляксандра] Калодкі высылаю табе сьпешна залучаны тут яго адрыс з Аўстраліі, каб ты перадаў яго ўсім Ангельскім беларускім выдавецтвам з просьбаю пераслаць яму ўсе выданьні з красавіка і травеня гэтага году. Там цяпер ёсьць згуртаваных 35 чалавека. Хутка іх грамада пабольшыцца.

На днях высылаю табе сьвежы нумар “Божым Шляхам”, але цяпер так паднялі паштовую аплату, што аж страшна — так доўга я ня вытрымаю, бо самая пошта аднаго нумару каштуе больш дзьвёх тысяч франкаў, а падпіскі нават на перасылку не хапае. Мусіць, хутка ўся мая праца хляпне. Разьлічваю яшчэ толькі на два нумары, а там Бог бацька.

З гэтага нумару асобнаю адбіткаю выйдзе брашурка “Аб паходжаньні чалавека”[88], а з наступных гэткім спосабам мяркую выдаць нешта

[88] Маецца на ўвазе выданьне: Гарошка, Леў, а. Паходжаньне чалавека ў сьвятле сучасных знаходкаў. Парыж: выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі, 1948. 14 с.

"Пра душу"[89]. Хацеў пусьціць Татарыновічаву брашуру, але ён ставіць розныя ўльтыматыўныя жаданьні, усё роўна як [Андрэй] Грамыка[90] сваё вэто ў Нью Ёрку, дык прыйдзецца апрацоўваць самому. Калі маеш што-колечы апрацаваць, дык пасьпяшайся.

Цяпер пачынае актуалізавацца справа місіі для Бэльгіі, але гэтым займуцца самыя бэльгійцы-бэнэдыктынцы. Знайшлі нейкага немца, што гаворыць па-расейску, і ўжо візытуюць разам з Экс[цэленцыяй Баляславам] Слосканам і адным беларускім дэлегатам ад Сындыкату беларускія згуртаваньні.

Нядаўна даведаўся ад [Міколы] Абрамчыка, што ў Нямеччыне пачынаюць старацца, каб Прав[аслаўную] Аўтакефалію зноў ажывіць. [Віктар] Войтэнка[91] знайшоў нейкага ўкраінскага епіскапа, які згаджаецца перайсьці да беларусаў, і мае пераехаць [Уладзімер] Фінькоўскі[92]. Зарубежнікі стрывожыліся і запрашаюць [Міколу] Абр[амчыка] на перагаворы. Заўтра ён мае выехаць туды і між іншым мае спаткацца зь мітр[апалітам] Панцелейманам.

Такія камбінацыі.

---

[89] Выданьне пабачыла сьвет як: Гарошка, Леў, а. Душа: Кароткі аполёгэтычны нарыс. Парыж: выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі, 1948. 31 с.

[90] **Андрэй Грамыка** (1909—1989), савецкі дзяржаўны дзеяч, у 1946—1948 гг. — прадстаўнік СССР у Радзе бясьпекі ААН, і далей як першы намесьнік, а пазьней і міністар замежных справаў СССР стала ўдзельнічаў у працы ААН, ачольваючы савецкую дэлегацыю.

[91] **Віктар Войтанка** (1912—1972), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, лекар. Падчас Другой сусьветнай вайны — бурмістар Баранавічаў, доктар-інспэктар Беларускай краёвай абароны. З 1944 г. — на эміграцыі: да 1949 г. жыў у Нямеччыне, пасьля пераехаў у ЗША. Напрыканцы жыцьця стаў сьвятаром.

[92] **Уладзімер Фінькоўскі** (1906—1988), рэлігійны дзеяч, архімандрыт. У 1941 г. распачаў справу царкоўнага адраджэньня ў Менску, але праз канфлікт зь беларускім епіскапатам пазбаўлены магчымасьці ажыцьцяўляць служэньне ў Беларускай мітраполіі. У 1943—1944 гг. — палкавы сьвятар 1-й казачай кавалерыйскай дывізіі пад кіраўніцтвам генэрал-палкоўніка Гэльмута фон Панвіца. Па заканчэньні Другой сусьветнай вайны жыў у Парыжы, дзе быў духоўнікам першаярарха Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапаліта Палікарпа (Сікорскага) (1875—1953). У 1948 г. разглядаўся Радай БНР у якасьці кандыдата на архірэйскае служэньне ў БАПЦ, але ня быў абраны. У 1955 г. справакаваў раскол у прыходзе БАПЦ у Манчэстэры (Вялікабрытанія). У 1959 г. справакаваў раскол у беларускім прыходзе Сьвятога Юр'я ў Чыкага (ЗША) у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату, абвясьціў сабе архіяпіскапам Менскім і Беларускім, першаярархам альтэрнатыўнай Беларускай аўтакефальнай царквы. З 1962 г. жыў у Францыі й ня меў дачыненьня да беларускіх царкоўных юрысдыкцыяў.

Ці чытаў "Сакавік"[93] Нр. 2? Яны ўжо з сваею Крывію зусім звар'яцелі. Нічога дзіўнага, што зарубежнікі карыстаюць. Як-жа не карыстаць, калі тут хутка нічога беларускага не астанецца: нацыянальны назоў мяняюць; гэрб мяняюць (двупагоня); правапіс мяняюць, самую мову засьмечваюць ліха ведама якімі дурнымі новатворамі. І гэта ўсё адзін [Антон] Адамовіч. Запраўды трагэдыя. Трэба нейкае рады шукаць, а то здаецца, яны далёка не заедуць. Нядаўна [Часлаў] Найдзюк[94] перайшоў да [Радаслава] Астроўскага, да чаго гэта падобна? Запраўды, як-бы хто ўмысна працуе для чужацкае агэнтуры — заселі ў Цэнтры[95] і разганяюць людзей на ўсе бакі, да ўсякіх прайдзісьветаў. Цікава, што [Мікола] Абр[амчык] на гэта ні слова. Я ўжо гэтага зусім не разумею.

Бывай і маліся за мяне ўзаемна.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 1.VII.48

Дарагі Чэслаў,

пытаешся, чаму ня хочу друкаваць Пятровага[96] матэрыялу? Дык-жа яго маю ўсяго "Пра Душу" — якраз хацеў друкаваць і выдаць брашураю, дык затабуніўся, стаў на дыбы, не чапаць яго лягэнды, а на маю думку яна ня толькі непатрэбная на ўступе, але наагул адымае ад твору пераконваючую сілу, надаючы ўсёй працы вартасьць лягэнды, хоць па-за тым увесь матэрыял добры і добра напісаны. Дык яго-ж не пераканаеш.

Ёсьць яшчэ адзін артыкул на тэму Уніі, які, праўду кажучы, у сучасны мамэнт пускаць даволі рызыкоўна, аб гэтым ён і сам намякаў зразу, як толькі прыслаў. А што да перакладаў, дык я табе пісаў думку аб іх, ды да таго яны вялікія, а вырываць па аднаму артыкулу ніякава, бо трэба спэцыяльна апрацоўваць, каб была закончаная думка.

---

93 **"Сакавік"** — літаратурна-грамадзкі часопіс, які выдаваўся ў Остэргофэне пад рэдакцыяй Антона Адамовіча ў 1947—1948 гг. Выйшла тры нумары.

94 **Часлаў Найдзюк** (1915—1995), грамадзкі дзеяч, брат Язэпа Найдзюка. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі (1927—1935). Адвакат паводле адукацыі. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Вялейцы на пасадзе міравога судзьдзі, узначальваў акруговую ўправу Беларускай народнай самапомачы. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Лос-Анджэлесе.

95 **Беларускі нацыянальны цэнтар** (БНЦ) — арганізацыя, створаная 15 жніўня 1945 г. у Рэгенсбургу як пераемніца БЦР для прадстаўніцтва інтарэсаў беларускай эміграцыі на Захадзе. Старшынём арганізацыі быў абраны Мікола Абрамчык, а ягоным намесьнікам — Аўген Каханоўскі. Пазьней з БНЦ былі паступова выціснутыя прыхільнікі БЦР, і ён стаў выразна падтрымоўваць ідэю аднаўленьня Рады БНР.

96 Маецца на ўвазе а. Пётра Татарыновіч.

Наступны нумар калі пачну мантаваць, дык аж па 20-м ліпені, але пастарайся прыслаць хутчэй, каб я ведаў, як разьмеркаваць матэрыял.

Гэты нумар ужо гатоў, заўтра йдзе на машыну і ў панядзелак, магчыма, пачну экспэдыцыю. Хацеў табе пераслаць Вінцуком [Жук-Грышкевічам], была-б эканомія 600 фр[анкаў], дык адмовіўся. Кажа, што мае шмат багажу, а які багаж і каму ён яго возіць, калі едзе на тыдзень? Тут ужо акрамя старое сіньёрыны пасябраваўся зь іншаю, і хлопцы пачынаюць пагаворваць аб *"лёнданскім прафэсары"* ад дзяўчат. Гэта запраўды Божая кара зь немаральнасьцю. Я ня раз думаю, ці нас Бог не пакарае, што мы каля іх так моўчкам абходзімся? А там, бачыш, у Остэргофэне яшчэ мудрэй, зусім пад сталінскую дудку граюць. Якраз цяпер у Маскве пачалі супрацьрэлігійны курс, і тут [Яна] Гуса[97] на сьвет, як патрона, выцягае.

Напэўна, атрымаеш Нр. "Моладзі"[98], там зь Я[нкі] Купалы[99] такога бязбожніка зрабілі, што лепшага і ў Маскве ня выдумаюць — мне як анучаю па вачох — вось і старайся пра стыпэндыі і помач для студэнтаў. Праўда, бедны Я[нка] Філістовіч[100] за гэта аж пасварыўся зь Нінаю [Абрамчык], але прэзыдэнтша пастанавіла, а Вінцук [Жук-Грышкевіч] памог, што трэба супрацьрэлігійны верш Купалы абавязкова надрукаваць. І скажы ты мне, што цяпер рабіць, яна-ж стыпэндыю ад мяне атрымоўвае, і яшчэ абяцаў яе брату і выстараўся яму ўсе патрэбныя дакумэнты і парукі? Вінцук [Жук-Грыкшкевіч] умяшаўся ў гэтую справу, бо артыкул напісала якраз тая новая яго сымпатыя.

На тэму Канстанцы[101], здаецца, трэба было-б нешта адказаць і якраз у тым напрамку, як ты намякаеш, перш чым думае нехта заглядаць у гісторыю Царквы, хай навучыцца хоць Отчэ наш.

---

[97] **Ян Гус** (чэш. *Jan Hus*, 1369—1415), ідэоляг чэскай Рэфармацыі.

[98] **"Моладзь"** — моладзевы часопіс, які выходзіў у Парыжы ў 1948—1954 гг. Рэдактарамі былі Янка Філістовіч, Міхась Наўмовіч. Выйшла 32 нумары.

[99] **Янка Купала** (сапр. **Іван Луцэвіч**, 1882—1942), паэт, драматург, публіцыст, клясык беларускай літаратуры.

[100] **Янка Філістовіч** (1927—1953), грамадзкі дзеяч. З 1947 г. жыў у Францыі, у якасьці вольнага слухача наведваў лекцыі на гістарычным факультэце ў Сарбоне. 9 верасьня 1951 г. пры дапамозе амэрыканскіх спэцслужбаў дэсантаваўся каля Маладзечна. Узначаліў партызанскую групу, якая дзейнічала на тэрыторыі Ільянскага раёну з 1949 г. У верасьні 1952 г. быў арыштаваны, а праз пяць месяцаў прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня — расстрэлу.

[101] **Констанц** (ням. *Konstanz*) — нямецкі горад на Бодэнскім возеры на мяжы з Швайцарыяй. У 1948 г. менавіта тут адбыўся Царкоўны сабор, на якім была аднаўленая БАПЦ.

Да мяне нядаўна зьвярнуўся пляменьнік Я[куба] Коласа[102], Аляксандар Міцкевіч[103], каб дапамагчы яму стацца сьвятаром. Напісаў аб гэтым у Рым да а. Вэтэра[104], чакаю адказу.

Твой Леў [Гарошка]

Лёндан, 27.I.50

Дарагі Леў,

пішу да цябе проста ругацельны ліст. Ці Вы з [Пётрам] Татарыновічам здурнелі ці што іншае з Вамі? Бязбожжа, камунізм, атрута залівае нашу Бацькаўшчыну і цэлы сьвет, а Вы мудрыя філалогі за адзін "аз" гатовы павесіцца? Ты глядзі на справу, а не на некаторыя фокусы яго мовы. Піюса XII[105] стыль прыгожы, але нялёгкі, і каб ператалумачыць Яго мову, чуць ня тыдзень трэба часу. Ты сумняваешся аб стылі, аб сказах. Запраўды я Вас не разумею. Паўтараецца глупая гісторыя Станкевіч-Гадлеўскі[106], з каторай сьвецкія слушна горшыліся. Рабі як хочаш, але я ўважаю, што Ты павінен надрукаваць цэлую тую прамову. Калі задаўгая ў адзін нумар — дык разьдзялі на два. Яна мае столькі праблемаў і абыймае <u>цэлы сьвяты</u> год і дзеля таго зусім не траціць на актуальнасьці. Ані я, ані Ты, напацеўшыся, нічога лепшага ня выдумаем. У польскіх тыднёвіках тут яна друкавалася цэласьцю, нават у пратэстанцкіх. Яе камэнтуе цэлы сьвет — даслоўна! Але перш надрукаваўшы. Бачыў нават ужо, што друкуецца лістоўкамі аддзельнымі. Тое, што Ты вылічаеш у лісьце як немагчымае да прыняцьця (спадзевы і інш.), можаш перамяніць. [Пётра] Татарыновіч скажа *"скепсьціў"* і на гэтым скончыцца, а будучыня і разумныя людзі цяпер разьбяруць, *"кто прав, а кто вінават"*. Адносна слову *"Субожня"* ўважаю, што <u>мы яго павінны прыняць і паволі растаропна пашыраць</u>. Царкву трэба пакінуць расейцам, Касьцёл — палякам, а падобна як *"сьвятар"* сяньня прыняўся, і праваслаўныя, і каталікі ўжываюць без нацяжкі, гэтак прымецца

---

[102] **Якуб Колас** (сапр. **Кастусь Міцкевіч**, 1882—1956), пісьменьнік, крытык, пэдагог, клясык беларускай літаратуры.

[103] **Аляксандар Міцкевіч** (1919—2015), грамадзкі дзеяч, пляменьнік Якуба Коласа. Жыў у Францыі. У 1950-я гг. пераехаў у ЗША.

[104] **Густаў Вэтэр** (ням. *Gustav A. Wetter,* 1911—1991), аўстрыйскі філёзаф, рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, саветоляг. У 1948—1954 гг. — рэктар Русікуму ў Рыме.

[105] **Пій XII** (лац. *Pius XII*, да інтранізацыі *Эўджэньё Пачэльлі*, іт. *Eugenio Maria Giuseppe Giovanni Pacelli*, 1876—1958), Папа Рымскі ў 1939—1958 гг.

[106] **Вінцэнт Гадлеўскі** (1888—1942), нацыянальны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У 1936 г. у выніку ягоных разыходжаньняў у поглядах з Адамам Станкевічам адбыўся раскол у БХД. Магчыма, менавіта гэта маецца на ўвазе.

і *“Субожня”*. Таксама, думаю, прыгожае слова *“дасьледлівы”*. Прыгожае для вуха і аддае добра італійскі зьмест. Гэтым я зусім не хачу сказаць, што пагаджаюся я поўнасьцю з [Пётрам] Татарыновічам. Дзівак! Але ўмеемо выкарыстаць і такіх. Будзька Ч[аслаў][107] ставіць мне за прымер яго пісаныя й друкаваныя творы. Ды знойдзецца і больш такіх. Дык чаму-ж Ты маеш байкатаваць? Дзякаваць Богу, я ня маю прэтэнсыі, хоць ня раз хацелася-б сказаць нешта, як пісаць — але мне ідзе аб сутнасьць. Ты не падаў весткі аб “Голас Душы”[108] ў адзіным каталіцкім беларускім часапісе. Ты думаеш, што Татарыновіч запраўды цябе байкатуе. Няпраўда! Ён капрысіць, але-ж можна і трэба нам супрацоўнічаць. Тая наша моладзь у Рыме — гэта зелень, і як ня сумна, што такія Рыскія[109] маюць на яе ўплыў. Я добра ведаю, што радыёперадачы ёсьць дзякуючы толькі [Пётру] Татарыновічу. Ці іх зразумее хто, ці не, але яны сваё робяць. Я і сяньня чуў, але толькі пачатак, бо бальшавікі страшэнна глушаць. Мы павінны даць як найбольш розгаласу гэтым перадачам, гэта наш каталіцкі атут, аб якім продкам нашым ня сьнілася.

Браток, Ты выбач мне, але будзь Ты цярплівы на слабасьці іншых, бо і свае маеш. [...]

Прывітаньні ўсім.

Твой
[Часлаў Сіповіч]

Парыж, 1.2.50

Дарагі Чэслаў,

дальшы цяг “Ты і яна” атрымаў — дзякую, але тых фунтаў ад нейкае іншае асобы нешта ня відаць і ня чуваць. Цікава, што нашы студэнты, якія зьбіраюцца выяжджаць да Бэльгіі, не атрымалі да гэтага часу нічога, хоць ты пішаш, што ўжо ў Англіі атрымалі; што-б гэта магло значыць?

Тваё “руганьне”, як ты кажаш, напісана пад першым уражаньнем, і я думаю, калі ўважней падумаеш над справаю, якую закранаеш, — скажаш зусім іначай. На гэта ёсьць шмат прычынаў. Па-першае, мова ня ёсьць вытварам аднаго чалавека, але творам усяго народу, і той,

---

107 **Часлаў Будзька** (1913—1985), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог, сын Эдварда Будзькі. Падчас Другой сусьветнай вайны быў у Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры ў Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў беларускай гімназіі. У 1948 г. выехаў на працу ў Вялікабрытанію. У 1951 г. перабраўся ў ЗША.

108 Маецца на ўвазе выданьне: Stepovič, K[astuś], ks. Hołas Dušy: Padručnik žyćciapraktyki relihijnaj dla Biełarusaŭ. Vyd. IV, papraŭlenaje i dapoŭnienaje. Rym, 1949. 320 s. Аўтарам прадмовы быў а. П. Татарыновіч.

109 Маецца на ўвазе Ўладзіслаў Рыжы-Рыскі.

што ня хоча карыстацца мовай народу, а пачынае ўводзіць ад сябе розныя ідыятызмы, тым самым парывае лучнасьць з народам. Таму я ня ўводжу ніякіх новатвораў, асабліва калі супраць іх падымаюцца няпрыхільныя галасы. Для сьвятароў мова зьяўляецца сродкам нясеньня слова Божага для масаў; моваю мы мусім знайсьці шлях да глыбіні людзкога сэрца, а тым, што няйпрымальнае і што заслугоўвае на кпіны — да сэрца не прамовіш. На багаслужэньне людзі йдуць у лепшай вопратцы, а ня ў той, у якой ідуць у хлеў; зьвяртаюцца да Бога ня моваю лаянкі, але найбольш прыгожымі й чулымі словамі. Рэлігійны часапіс мусіць так-жа падпарадкавацца гэтым правілам, інакш не асягне свае мэты. Зусім згодны з табою, што цяпер, у крытычны час, няма калі займацца мудрагельствам і дзерці чубы за "аз", але падумай: ці не карыгодна ў гэты мамэнт траціць дарма час на непатрэбнае выдумоўваньне розных недарэчных *"новых слоў"*, калі ўжо гэткія ёсьць. Зрэштаю, у адносінах да розных навінкаў Царква заўсёды азначалася пэўным кансэрватызмам і на гэтым ніколі ня траціла, дык якім правам мы можам займацца рознымі шарлатанскімі экспэрымэнтамі?!

Кожны чалавек мае свае дзівацтвы, ня выключаю і сябе ад гэтага правіла, але наша становішча як сьвятароў нас змушае акелзваць гэтыя дзівацтвы да магчымых межаў, каб не паказваць іх людзям. Як-жа выглядае паказваць гэтыя дзівацтвы ў мове і то тады, калі гаворым афіцыяльна! Калі часам пішучы адчуваю нястачу сваіх (беларускіх) слоў, дык я з правіла не карыстаюся недарэчнымі новатворамі, але пачаў укладаць беларускі слоўнік (копію табе перадаў), які мне шмат памагае ў цяжкіх выпадках і ратуе ад усякіх дзівацтваў. Зрэштаю, мова часапісу зьяўляецца найлепшым доказам гэтага. Судзі сам, ці варта ўводзіць туды розныя дзівацтвы. Сам-жа кажаш аб Татарыновічавых *"фокусах"* — хіба бязь іх нельга абысьціся?! Уважаю, што тут нават нашыя адносіны ня маюць нічога да гавораньня.

Ты стараешся мне даказаць, што ён мяне не байкатуе; гэта праўда, я аб гэтым добра ведаю, але ведаю, што робіць шмат горш — ён папросту шкодзіць. Да гэтага часу "Божым Шляхам" меў двух ворагаў: савецкую амбасаду ў Парыжы і а. [Пётру] Татарыновіча ў Рыме. Савецкая амбасада да гэтага часу не магла нам пашкодзіць амаль нічога, а а. [Пётра] Татарыновіч сваімі даносамі айцом езуітам і розным прынагодным асобам, якія маюць уплыў на Ўсходнюю Кангрэгацыю, прычыніўся да таго, што Кангрэгацыя не дае помачы на "Божым Шляхам" — яму сапраўды мусіць Сталін падзякаваць і даць мэдаль *"За доблестный труд"*.

Гісторыю беларускіх радыёперадачаў ведаю вельмі добра — ня прыпісвай ты заслугі таму, хто ў гэтым найбольш перашкаджаў, аж пакуль сам ня стаў у бязвыхадным палажэньні і ўхапіўся за іх, як за ратунак,

і то пад націскам іншых. Ясная рэч, што аб гэтым няма ніякае патрэбы гаварыць іншым, але самым трэба ведаць.

Што да слова *“Субожня”*, дык яно і недарэчнае, і непатрэбнае, бо *“Царква”* гэта зусім не расейскае, але агульнаславянскае — яго акрамя нас і расейцаў ужываюць так-жа ўкраінцы, славакі, чэхі (*Ціркев*), баўгары, сэрбы, харваты. Утворана яно ад грэцкага *“кіріякэ”*. Я заўважыў, што ты часам нясьведама паўтараеш Татарыновічавы недарэчнасьці, напрыклад, замест сяброўка — сябрыня. Такога беларускага слова (*сябрыня*) няма, але калі-б і было, дык азначала зборку сяброў, а не сяброўку. Або, напрыклад, замест выдумоўваць слова *“дасьледлівы”* трэба толькі ведаць, што ёсьць усюды прынятае слова *“пытлівы”*.

У Парыжу міма ўсіх стараньняў да гэтага часу не ўдалося пачуць Ватыкану — нашы радыётэхнікі прыходзяць да перакананьня, што, магчыма, тут ёсьць так званая *“мёртвая зона”* для тых кароткіх хваляў, але здаецца, што іншыя хвалі так-жа нельга схапіць, бо ані ўкраінцы, ані нават французы ня ў лепшым палажэньні, як мы. Гэта вялікая шкода. Цяпер некаторыя шукаюць Ватыканскія хвалі, якія тут чуваць, і прыйдзецца прасіць Дырэкцыю Радыя, каб далучылі так-жа і тыя хвалі для надаваньня.

Прамову Сьвяцейшага Айца я папрабаваў перапісваць, але бачу, што яна сапраўды зойме шмат мейсца. Дзяліць яе, як ты кажаш, дык яна страціць сваю вартасьць. Здаецца, найлепшым выхадам будзе: важнейшыя мейсцы падаць даслоўна, а іншыя ў скарачэньні.

Адрас Міхася Скока[110] я маю і гэта я сам накіраваў яго па Сьвятое пісаньне да Вас, бо сам гэткіх рэчаў ня маю, таму вышлі яму, а калі маеш больш, дык прышлі і мне пару штук на ўсякі выпадак, бо маю толькі адзін экзэмпляр.

Ты ў папярэднім лісьце пісаў аб “Патрыёце”[111] — гэты нумар якраз трапіў мне ў руку, але зусім прыпадкава. Добра было-б, каб ты мне прыслаў яго цэлы камплект — як дакумант часу можа калісь прыдацца.

Пасьля гэтага нумару “Божым Шляхам” трэба будзе друкаваць наступныя 32 стр. “Ты і яна” — прышлю табе для карэкты. Аднак трэба было-б парушыць справу *“імпрыматур”*[112] і дазволу перакладу. Напішы, будзь ласкаў, да езуітаў у гэтай справе.

Шчырае прывітаньне.

Бывай!
Твой Леў [Гарошка]

---

[110] **Міхась Скок**, хворы беларус, які з 1945 г. ляжаў у францускім шпіталі ў сувязі з хваробай лёгкіх.

[111] Магчыма, маецца на ўвазе часопіс ***“Patryjot”*** — орган беларусаў у Ёркшыры, які выдаваўся ў Брэдфардзе ў 1949—1953 гг.

[112] ***Imprimatur*** (лац.) — тут: афіцыйны дазвол на публікацыю, друк.

Парыж, 8.VIII.50

Дарагі Чэслаў,

карэкту атрымаў і ў міжчасе выслаў табе сьвежы нумар "Божым Шляхам".

Цяпер тут госьцяць чатырох з 12-кі[113], адведваюць Парыж, вяртаючыся з вакацыйнага адпачынку. Магчыма, спаткаешся зь імі ў Бэльгіі, дык даведаешся аб іхным уражаньні з Францыі і Парыжа.

Адносна архіву, дык здаецца, што няма іншае магчымасьці, як, едучы назад, заехаць у Парыж, і тут пабачыш, што можна і трэба ўзяць.

Ня ведаю, ці магчыма будзе знайсьці яшчэ адзін прымернік "Моладзі" Нр. 13, бо там усяго пару было. Цяпер нікога з рэдакцыі няма, усе паразьяжджаліся, дык хіба потым пагавару ў гэтай справе, калі не забудуся.

Пастарайся перад адʼездам у Бэльгію прыслаць працяг "Ты і яна", бо трэба ў наступным месяцы выдаць зноў чарговы нумар.

Нядаўна мне [Лявон] Рыдлеўскі гаварыў зусім паважна, каб мы намецілі некага прадстаўніка ад Каталіцкае Беларускае Царквы ў Раду БНР, бо цяпер маюць быць там нейкія рэформы ў зьвязку з тым, што цяпер ёсьць магчымасьць дэлегаваць прадстаўніка ад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На гэтую прапанову я тымчасам не адказаў нічога, бо гэта справа вымагае агульнага ўзаемнага паразуменьня, да таго я асабіста вельмі не хацеў-бы мяшацца ў гэтыя шашні. Бо што гэта за рада, калі яна ніколі ня радзіць і яе ніхто ня выбірае. З дагэтуляшняе практыкі бачу, што гэта проста пачка аднадумцаў, якая зусім ня лічацца з голасам народных масаў, ані з паглядамі іншых. Аднак нейкі адказ ім трэба будзе даць. Напішы мне, якая твая думка адносна гэтае справы.

Пачынаю патроху набіваць на матрыцы "Беларусь у датах, ліках і фактах"[114] — ідзе вельмі марудна, бо трэба сабраць грошы на паперу.

Тымчасам бывай!

Твой Леў [Гарошка]

---

[113] **"Дванаццатка"** — група беларускай моладзі, што ў 1948 г. паехала зь Нямеччыны ў Вялікабрытанію працаваць у капальнях, каб зарабіць на навучаньне. З Брытаніі большасьць хлопцаў паступіла ў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі. З 1948 г. сябры "Дванаццаткі" выдавалі часопіс "Наперад!". Падрабязьней пра гэта можна знайсьці ў кнізе Янкі Запрудніка "Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.)" (Нью-Ёрк, 2002).

[114] Маецца на ўвазе выданьне: Каваль, Пракоп [Гарошка, Леў]. Беларусь у датах, ліках і фактах = Biélorussie d'après les dates, les statistiques, les faits = Whiteruthenia (Byelarussia) in the dates, the numbers, the facts. Парыж, выданьне "Моладзі", 1950. 68 с.

Парыж, 5.V.52

Дарагі Чэслаў,

матэрыялы ўжо выкарыстаў і, магчыма, пасьлязаўтра змагу парассылаць сьвежы нумар часапісу. Гэтым разам ён выйшаў крыху манатонны, бо занадта доўгія артыкулы. Думаю, што трэба адразу рыхтавацца выдаць наступны нумар, каб ізноў так не зацягваць.

Напэўна, ужо чытаў у "Бацькаўшчыне" адказ на твой артыкул[115]. Праўду кажучы, гэты "адказ" ніжэй усякае крытыкі, бо сьведчыць толькі адмоўна аб інтэлігэнцыі, бо што гэта за інтэлігэнт, які ня можа адрозьніць фанатызму ад звычайных рэлігійных практыкаў? Ды які ён хрысьціянін, калі спасылаецца на прыклад бязбожнікаў энцыклёпэдыстаў? Да таго сам сабе пярэчыць, бо, выказваючыся за свабоду, гневаецца, што сьвятар свабодна выказвае свае думкі — словам, увесь артыкул — вытвар п'янае бязбожнае фантазіі[116]. Але цікава, што [Мікола] Абрамчык ім вельмі захоплены, і ці ня ён толькі яго сугэраваў?

Вярнуўшыся з Бэльгіі, [Мікола] Абрамчык нагаварыў на цябе толькі розных закідаў і то быццам ад імя а. Робэрта [Каўвэлярта][117], што сапраўды прыходзіцца шмат падумаць аб далейшай дзейнасьці. Некаторыя рэчы гаварыў быццам толькі мне як сьвятару — ён за ўсякую цану стараецца паўбіваць кліны паміж нас і паміж а. Робэртам [Коўвэлыртам] і паміж студэнтамі, каб самому магчы лавіць рыбку ў мутнай вадзе. Словам, стараецца зрабіць балаган, незадавальненьне ўсіх супраць усіх. Ня дзіўлюся цяпер, што ў Парыскім сэктары Рады БНР усе ідуць супраць яго, а некаторыя дык проста варагуюць ([Уладзімер] Шыманец, [Аляксандар] Яцэвіч[118]), але што з гэтага можа быць за карысьць для агульна-беларускай справы?

У мінулым тыдні [Мікола] Абр[амчык] хацеў мне нагаварыць нешта вельмі многа, але ня было часу, казаў, што калісь іншым разам скажа. Чакаю. Агульна толькі намякнуў, што *"ўжо цяпер каталікі твораць*

---

[115] Маецца на ўвазе тэкст: Сіповіч, Ч., а. Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі // Божым Шляхам. № 1 (46). Студзень — люты 1952. С. 2—4.

[116] Маецца на ўвазе тэкст: Мікалаеня, В. [Галяк, Леанід]. Некалькі словаў адказу. (У парадку дыскусіі) // Бацькаўшчына. № 15—16 (94—95). Вялікдзень 1952. С. 12.

[117] **Робэрт ван Каўвэлярт дэ Вілс** (флям. *Van Cauwelaert de Wyels*; 1906—1986), каталіцкі сьвятар усходняга абраду з бэнэдыктынскага манастыра ў Шэвэтоне. Паходзіў з старажытнага флямандзкага роду. У 1948 г. стаў сакратаром Камітэту дапамогі беларускім студэнтам у Лювэне.

[118] **Аляксандар Яцэвіч** (псэўд. **Алесь Змагар**, 1903—?), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстаньні й антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША.

*сваё зарубежжа"* — усё гэта таму, што адважыліся парушыць *"аўтарытэт" "непамыльнае"* беларускае інтэлігэнцыі.

"Зьвязду"[119] атрымаў да 94 нумару ўключна, толькі чамусьці бракуе Нр. 82, калі маеш падвойны, дык прышлі.

Канцэрт Лювэнскіх студэнтаў прайшоў агулам добра, хоць мог быць шмат лепш.

З Рыму да гэтага часу няма ніякіх вестак.

Адносна пераезду а. [Францішка] Чарняўскага ў Бэльгію, дык пазаўчора атрымаў ліст ад яго самога, у якім піша, што а. [Пётра] Татарыновіч яго паведаміў, што быццам у Рыме мяркуюць, каб у Бэльгію паслаць а. [Уладыслава] Салаўя[120] — хто мяркуе і як? Нічога ня ведама.

Нядаўна я атрымаў ад а. [Пётры] Татарыновіча артыкул у "Божым Шляхам" і верш. Артыкул аб містычным целе Хрыста і сьвецкім сьвятарстве — паправіўшы, можна пусьціць, а верш зусім слабы.

Тымчасам бывай.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 11.2.53

Дарагі Чэслаў,

твой ліст з матэрыялам атрымаў пару дзён таму, але яшчэ яго не перапісаў, бо агулам не пачынаў яшчэ падрыхтоўкі да сьвежага нумару часапісу. Вось толькі нядаўна скончыў з выданьнем "Беларусь у датах". Выслаў табе пазаўчора 5 прымернікаў, а больш прышлю пазьней, бо на няшчасьце ў загалоўку на вокладцы ўкралася памылка, і трэба рабіць новую вокладку. Думаю, што ў гэтую суботу ўсё будзе гатова.

Хацеў табе зьвярнуць увагу ў справе [Лявона] Рыдлеўскага. Пакуль не атрымаеш запэўненьня, што нехта будзе за яго плаціць, будзь асьцярожны з прыняцьцем, бо маю ўражаньне, што ніхто за яго плаціць ня будзе паводля Абрамчыкавага прынцыпу, што цяпер *"трэба пампаваць з Рыму ўсё і ўсюды, дзе толькі ўдасца"*, бо гэта, маўляў, толькі зусім праўнае адбіраньне таго, што калісь Беларусь аддала ў Рым у форме "дзесяцінаў". Нават аб гэтым найвыразьней у сьвеце пісаў [Барыс] Рагуля[121] да [Аляксандра] Асіпчыка, і той апублікаваў ягоны ліст

[119] **"Звязда"** — штодзённая грамадзка-палітычная газэта, якая выдаецца ў Менску з 1917 г.

[120] **Уладыслаў Салавей** (1918—1974), рыма-каталіцкі рэлігійны дзеяч. Рукапалажэньне прыняў у 1946 г. Ажыцьцяўляў служэньне ў Заходняй Нямеччыне. З 1955 г. — генэральны пастыр для беларусаў-каталікоў у Нямеччыне.

[121] **Барыс Рагуля** (1920—2005), вайсковы й грамадзка-палітычны дзеяч, мэдык. У 1949—1954 гг. жыў у Бэльгіі, вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце, быў арганізатарам атрыманьня беларусамі стыпэндыяў у гэтай навучальнай установе й кіраваў студэнцкай арганізацыяй.

у Нр. 1 “Шматпакутная”[122], стар. 8, дзе даслоўна кажацца: *“на працягу стагодзьдзяў 25% беларусаў плацілі дань у Рым”*. Дык глядзі, каб пасьля не шкадаваў, што нечага не дагледзеў.

Здымак біск[упа Баляслава] Слосканса маю і падам разам з артыкулам аб назначэньні.

Нядаўна атрымаў ліст ад Пятра [Татарыновіча] — між талковых вестак апраўдваецца, чаму адмовіўся ад удзелу ў працах “Тыдня Студыяў”[123] — відаць, яго не пераканаеш. Зрэштаю ён усё роўна нічога не зрабіў-бы, а толькі сварыўся-б.

Перадай залучаны тут ліст для Алеся.

Маю страшэнна шмат працы, дык канчаю гэты ліст і чакаю абяцанага матэрыялу.

Тымчасам бывай.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 5.III.53

Дарагі Чэслаў,

магчыма, у наступным тыдні ўжо прышлю сьвежы нумар “Божым Шляхам”, і трэба будзе адразу і то неадкладна сьпяшацца рыхтаваць матэрыял да вялікоднага нумару, ці ты што-колечы падрыхтуеш?

Адначасна з гэтым лістом высылаю табе новую расейскую кніжку аб “Расейскім праваслаўі” — купіў яе для цябе, не пытаючыся ў цябе, бо хоць яна нічога асаблівага ня мае, але гэткія рэчы варта мець у падручнай бібліятэцы.

Нядаўна бачыўся з [Міколам] Абрам[чыкам], хваліўся, што зь яго ініцыятывы ўдалося арганізаваць дагавор з украінцамі і грузінамі аб супольным дзеяньні ў адносінах да КЦАБ-у[124], і быццам на гэтых днях мае сюды ў Парыж прыехаць зь Нью Ёрку сам Стассэн[125], каб пагутарыць у гэтай справе. Грузіны маюць выйсьці з КЦАБ-у, дык там нікога не астанецца, і тады амэрыканцы сілаю факту інакш будуць адносіцца

---

[122] **“Шматпакутная”** — перыёдык, які выходзіў у Нью-Брансўіку ў 1952—1958 гг. пад рэдакцыяй А. Асіповіча-Асіпчыка.

[123] Айцец Пётра Татарыновіч ня ўдзельнічаў у Тыднях студыяў БАКА “Рунь”, якія адбываліся з 1951 г.

[124] **Каардынацыйны цэнтар антыбальшавіцкай барацьбы (КЦАБ)** — арганізацыя, створаная ў 1952 г. у Мюнхэне з ініцыятывы Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі. У яе склад увайшлі прадстаўнікі расейцаў, азэрбайджанцаў, армянаў, грузінаў і народаў Паўночнага Каўказу.

[125] **Гэралд Стасэн** (анг. *Harold Stassen*, 1907—2001), амэрыканскі палітычны дзеяч, кандыдат на прэзыдэнцтва ЗША ў 1948 г. Ініцыятар стварэньня й кіраўнік адмысловага Ўпраўленьня замежных апэрацыяў ЗША ў 1953—1955 гг.

да ўсяе гэтае справы. Цікава, што падчас гэтае гутаркі зусім не парушаў сваіх папярэдніх нападаў і быў агулам нязвычайна ветлівы: выглядае, быццам вее нейкі новы вецер, толькі як надоўга?

Я ўжо пісаў перш, што тут быў вельмі заварушыўся архім[андрыт Уладзімер] Фінкоўскі і ўцягнуў да помачы а. [Аўгена] Смаршчка, нават быў заклікаў на 22.III а. [Аляксандра] Крыта — цяпер сам [Мікола] Абр[амчык] мусіць прымаць меры, каб супакоіць [Уладзімера] Фінкоўскага, бо выявілася, што гэта ўжо арганізуецца аж нейкая “чацьвёртая сіла”. Сам [Уладзімер] Фінкоўскі не прызнае ні БАПЦ, ні агулам ніякае юрысдыкцыі, за выняткам хіба “жаночае”, і дзеля гэтага яго цяпер нават украінцы выкінулі — словам, гэта такая каша, што яе і чапаць няпрыемна, бо толькі можна забрудзіцца.

У мінулым тыдні я пісаў да [Аляксандра] Надсона[126], пералічаючы бібліяграфію аб сучаснай савецкай бязбожнасьці, але забыўся там падаць яшчэ двох важных твораў, гэта: Большая Сов[етская] Энцыкл[опедия], 2-е изд. Том 3, слова “Атеизм” — там-жа ёсьць дадатковая бібліяграфія, а так-жа “Звязда” з 9.XII 1952 г. Нр. 289 рэцэнзія В[італя] Вольскага[127] на кнігу Добрыніна[128] “Беларуская літаратура”. Будзь ласкаў, перадай яму гэтыя весткі.

Як маецца справа “Звязды” — ты калісь пісаў, што ад лютага будзе прыходзіць нармальна, а вось мінуў месяц, і я нічога не атрымаў, ці ты так-жа не атрымоўваеш?

Прыймі шчырае прывітаньне.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 26.XI.53

Дарагі Чэслаў,

сьвежы нумар “Божым Шляхам”, магчыма, вышлю ў суботу, калі датрымае слова друкарня. Буду мець вялікія цяжкасьці з гэтым нумарам, бо ён падвойны, а на гэта ня маю спэцыяльных фондаў. Як расплачуся, тымчасам ня ведаю. Прыйдзецца залезьці ў даўгі.

Адносна сьв. Ёзафата і мне пісаў Франук [Чарняўскі] ад імені ўладыкі Балеслава [Слосканса], і калі-б ты згадзіўся сам напісаць нешта

---

[126] **Аляксандар Надсан (Надсон)** (сапр. **Бочка**, 1926—2015), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар. У 1946—1953 гг. жыў у Лёндане, пазьней паехаў вучыцца ў Рым, дзе атрымаў сьвятарскія сьвячэньні й адкуль у 1959 г. зноў вярнуўся ў брытанскую сталіцу. З 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкаймузэем імя Ф. Скарыны. У 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы.

[127] **Віталь Вольскі** (сапр. **Віталь Зэйдэль-Вольскі**, 1901—1988), празаік, драматург, літаратуразнаўца, краязнаўца, палітычны дзеяч.

[128] **Міхаіл Дабрынін** (1889—1955), мовазнаўца, літаратуразнаўца, пэдагог, доктар філялягічных навук.

добрае, дык-бы мне была вялікая палёгка. На маю думку, было-б добра, ня ўходзячы ў падрабязнасьці, вырашыць справу прынцыпова і напісаць артыкул “Сьвятыя скандалам для сьвету”. І ў рамах гэтага артыкулу спэцыяльна зьвярнуць увагу на сьв. Ёзафата[129]. Бо-ж Хрыста расьпіналі, як злачынцу і разам са злачынцамі, апосталаў забівалі, як злачынцаў і нацыянальных здраднікаў, першых хрысьціян — тое самае. Івана Златавуснага[130] за што выгналі? За што спалілі сьв. Жанну Д’Арк[131]? Засудзіў яе на сьмерць французскі біскуп, і так бесканца. Нашыя сьвятыя тое самае. Ня толькі сьв. Ёзафат, але і сьв. Аўрам[132] быў скандалам і то ня толькі для маючых уладу, а нават для духавенства, за гэта яго былі нават засудзілі. Сьв. Кірыла[133] не дарма мусіў зрачыся пасаду і пайсьці ў зацішша. Дык і цяпер, калі гарлапаняць, дык бязьверкі й маскалі, якія сабе для помачы ў змаганьні з вуніяй нават Ерузалімскага патрыярха паклікалі.

Цікава, што нашы гісторыкі ведаюць ліст Льва Сапегі[134], які пісаў з гледзішча польскага, бо палякі якраз тады плянавалі зьнішчыць Вунію, але ніхто не ўспамінае адказу Сьв. Ёзафата на той ліст. Шукаў я Гэлэна[135] па ўсіх антыкварнях, і нідзе яго няма. Прыйдзецца хадзіць у бібліятэкі, каб яго пераглянуць. Маю ўражаньне, што ў Рыме базыльяне мелі выдаць пару гадоў таму цэлы том сваіх “Аналектаў”[136]

---

[129] Маецца на ўвазе **Язафат Кунцэвіч** (1580—1623), царкоўны й палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, актыўны прыхільнік і распаўсюднік уніі, за што й быў забіты. Прылічаны да сьвятых Каталіцкай царквой.

[130] **Іаан Залатавуст** (каля 347—407), архіяпіскап Канстантынопальскі, багаслоў, шануецца як адзін з трох Сусьветных сьвяціцеляў і настаўнікаў разам з Васілём Вялікім і Рыгорам Багасловам. У 404 г. быў выгнаны з Канстантынопалю.

[131] **Жанна д’Арк** (фр. *Jeanne d’Arc*, каля 1412—1431), нацыянальная гераіня Францыі. Была адной з кіраўнікоў французскіх войскаў у Стогадовай вайне, трапіла ў палон і была спаленая як ерэтычка. Пазьней кананізаваная.

[132] **Аўрам Смаленскі** (1172 або 1150 — паміж 1221 і 1224), усходнеславянскі рэлігійны дзеяч, асьветнік, праваслаўны сьвяты.

[133] **Кірыла Тураўскі** (каля 1113 — каля 1182), рэлігійны дзеяч, япіскап Тураўскі, прапаведнік, пісьменьнік, царкоўны дзеяч, праваслаўны сьвяты. У 1177 г. быў пазбаўлены япіскапскай пасады.

[134] **Леў Сапега** (1557—1633), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, канцлер (1589—1623), стваральнік Статуту ВКЛ 1588 г.

[135] Маецца на ўвазе **Гален** (лац. *Claudius Galenus,* 129—199 або 217), рымскі лекар і філёзаф грэцкага паходжаньня.

[136] Відаць, маецца на ўвазе ***“Analecta Ordinis S. Basilii Magni”*** — непэрыядычнае навуковае выданьне ордэну Васіля Вялікага, другая сэрыя якога пачала выходзіць у Рыме ў 1949 г.

з дакумантамі аб ім. Маю ў сябе другое выданьне жыцьцяпісу Якава Сушы[137], выданае Мартынавым[138], але ў ім няма адказу сьв. Ёзафата на ліст [Лява] Сапегі, аб самім лісьце ўспамінаецца. Словам, ты напішы, што зможаш, а я буду старацца дапоўніць. Адказваць абы адказваць і толькі раздражніваць нашых пісакаў няма сэнсу. Трэба адказаць вельмі моцна або зусім нічога не ўспамінаць.

Што да архіву [Лявона] Рыдлеўскага, дык пакуль ня вернецца [Мікола] Абрамчык, ніхто ня будзе чапаць, бо ён недзе захаваў ключ. Але калі ён вернецца, я сумняюся, ці ён каму дазволіць глянуць у архівы [Лявона] Рыдлеўскага. На ўсякі выпадак, ты напішы асобны ліст у гэтай справе да самога [Міколы] Абрамчыка.

За Службы Божыя дзякую, толькі як гэта ты рахуеш і грэгарыянку, і звычайныя Службы Божыя па той самай цане?

Што да самага помніка па [Лявону] Рыдлеўскім[139], дык мне здаецца, што яго найлепш выканаў-бы [Міхась] Наумовіч[140], але, зразумела, яму трэба будзе аплаціць падарожжа і ўтрыманьне. Праўда, гэта залежыць ад таго, колькі назьбіраецца грошаў на помнік. [Міхась] Наумовіч цяпер атрымаў цікавы заказ: будзе рабіць адзін з васьмі барэльефаў да францускае царквы ў Лёндане[141], якая была разбураная ў часе вайны й цяпер рэстаўруецца.

Калі нам патрэбна цудаў для Божае славы, дык і будуць. Іх сам Бог зробіць, але наша вера мусіць так-жа выказаць сваю моц.

Твой у Хрысьце Леў [Гарошка]

---

[137] **Якуб Суша** (1610—1687), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, доктар тэалёгіі. З 1661 г. быў генэралам ордэну базылянаў. Аўтар жыцьцяпісу Язафата Кунцэвіча.

[138] **Іван Мартынаў** (рас. *Иван Мартынов*, 1821—1894), расейскі каталіцкі дзеяч, езуіт, археоляг. Жыў у Парыжы, займаўся рэлігійнай публіцыстыкай і выдавецкай дзейнасцю. Перавыдаў шэраг працаў Мялеція Сматрыцкага і інш. Тут маецца на ўвазе выданьне: Susza, Jacob. Cursus vitae et certamen martyrii b. Josaphat Kuncevicii archiep. Polocensis, ep. Vitebscensis et Mstislaviensis ordinis d. Basilii Magni. Parisiis [Paris, France]: Victor Palmé, 1865. XV, 229, [1] p.

[139] Лявон Рыдлеўскі памёр у Лёндане 24 кастрычніка 1954 г.

[140] **Міхась Наўмовіч** (1922—2004), мастак, грамадзкі дзеяч. Пасьля вайны жыў у Францыі. Закончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы (1953). Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцьці, спрычыніўся да стварэньня Беларускага незалежнага аб'еднаньня моладзі, выдаваў часопіс "Моладзь".

[141] Маецца на ўвазе ***French Church of Notre Dame de France*** — царква ў Лёндане (*5 Leicester Place*), адзін з барэльефаў якой сапраўды зрабіў Міхась Наўмовіч.

22.I.54

Дарагі Чэслаў,

згодна з тваею радаю затрымаў артыкул аб сьв. Ёзафаце. Праўда, і так цяжка было-б яго пусьціць у гэты нумар, бо як сам пабачыш, ня было ніякае магчымасьці нешта выкінуць з часапісу з таго матэрыялу, што ўжо быў набраны перш; нават ня змог пусьціць усяе другое часткі артыкулу [Янкі] Сурвілы[142].

Абяцаюць мне скончыць друк і брашуроўку гэтага нумару часапісу ў аўторак, дык атрымаеш недзе ў палавіне тыдня.

Параглянь свой запас "Божым Шляхам" — здаецца, што ў цябе ёсьць зашмат Нр. 42, бо ў мяне яго асталося вельмі мала. Як будзеш ехаць у Рым, прывязі мне па дарозе, магчыма, цэлую круцёлку таго нумару.

Нядаўна атрымаў Нр. 6 *"Россия и Вселенская Церковь"*[143], там ёсьць пасланьне ўладыкі Балеслава [Слосканса]. Дзіўна, што да расейцаў ён ужо выдаў аж два пасланьні ў 1953, а да беларусаў ніводнага — гэта ні аб чым добрым не варожыць, і калі часам аб гэтым даведаюцца шыршыя кругі, дык будзем мець шмат няпрыемнасьці.

У міжчасе я заняўся ўкладаньнем агульнае бібліяграфіі да беларусікі, ужо маю больш тысячы назоваў, а разьдзел царкоўнае гісторыі амаль укамплектаваны, паколькі агулам у такіх выпадках можна гаварыць аб нейкай камплектнасьці, бо штодзень яшчэ выяўляецца, што ёсьць нешта новае, аб чым я сам нават перш ня ведаў.

Нядаўна прыслаў мне [Уладзімер] Тарасэвіч[144] выпіску з тае старонкі кніжкі Калайдовіча[145], на якую спасылаецца [Пётра] Татарыновіч, што там нібыта мае быць слова *"субожня"*, і ці дасі веры? — няма там гэтага слова. Відаць, што ён сам выдумаў і толькі прыкрывае аўтарытэтам сьв. Кірылы. Яшчэ раз хачу спраўдзіць гэтую справу, бо-ж бачу, што гэта проста скандальная кампрамэтацыя сьвятарскага стану так хлусіць і найгорш, што аб гэтай хлусьні пісаць нават у зацемцы да Эвангельля — гэта-ж недаравальнае апаганьваньне сьвятарскага

[142] **Янка Сурвіла** (1925—1997), грамадзкі дзеяч. З 1951 г. жыў у Гішпаніі, закончыў факультэт палітычных і эканамічных навук Мадрыдзкага ўнівэрсытэту (1956). У 1952 г. заснаваў беларускую рэдакцыю Нацыянальнага гішпанскага радыё, сталыя праграмы якой вёў разам зь Віктарам Сянкевічам з 1958 да 1965 гг. У 1969 г. выехаў у Канаду.

[143] ***"Россия и Вселенская Церковь"*** — штомесячны рэлігійны часопіс расейскіх грэка-каталікоў, які выдаваўся ў Брусэлі з 1945 г.

[144] **Уладзімер Тарасэвіч** (1921—1986), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар, біскуп, доктар багаслоўя, пляменьнік Яна Тарасэвіча. У 1958—1986 г. узначальваў беларускую ўніяцкую парафію Хрыста Збаўцы ў Чыкага.

[145] **Канстанцін Калайдовіч** (рас. *Константин Калайдович*, 1792—1832), расейскі гісторык, археограф, філёляг.

стану і аўтарытэту Сьв. Пісьма. Думаў я перш пісаць артыкул аб гэтым каверзным слове, а цяпер і сам ня знаю, што рабіць. Было-б лепш, каб сам [Пётра] Татарыновіч неяк адклікаў гэтую выдумку. Мусім супольна нешта выдумаць, але так пакінуць гэтае справы нельга, бо мы ўсе да пэўнай ступені нясём адказнасьць за нашы ўчынкі.

Тымчасам бывай, і калі будзеш дакладна ведаць час свайго выезду ў Рым, напішы напярод.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, I.IV.54

Дарагі Чэслаў,

ужо даўно выслаў табе ліст і сьвежы нумар "Божым Шляхам", але чамусьці да гэтага часу ня маю ад цябе ніякае весткі. Пастарайся як найхутчэй прыслаць мне кароткую зацемку аб сьвяткаваньні 25.III у Лёндане, бо мушу ўжо рыхтаваць матэрыял да наступнага нумару часапісу. Калі да гэтага будзеш мець яшчэ што, дык так-жа прысылай.

Маю для цябе невялікую кніжку па-француску аб езуітах у Расеі ў гадох 1772—1785, выданая ў Парыжы ў 1872, каштуе 10 шылінгаў. Магчыма, хочаш мець *"Русско-белорусский словарь"*[146], выданы нядаўна ў Маскве, 86 000 слоў, каштуе 620 фр. (каля 13 шыл.), але магчыма, што яго можна так-жа купіць і ў Лёндане.

Што чуваць у справе Тыдняў[147]? Ты сам успамінаў, каб падаць аб гэтым вестку ў часапіс, дык пішы, што канкрэтнага пастаноўлена ў гэтай справе.

У таго самага прафэсара, аб якім табе ўспамінаў у апошнім лісьце, я дастаў яшчэ дзьве цікавыя старыя кніжкі адносна нашае гісторыі: *"Памятнікі... Вітебской губ."* Сапунова[148] і Нр. I *"Полоцко-Витебской старины"*[149]. Магчыма, што яшчэ дастану што-колечы. Здаецца, што

[146] Маецца на ўвазе выданьне: Русско-белорусский словарь = Руска-беларускі слоўнік: около 86 000 слов / Академия наук БССР, Институт языкознания; под редакцией Я. Коласа, К. Крапивы и П. Глебки. Москва: Государственное издательство иностранных и национальных словарей, 1953. 787 с.

[147] Маецца на ўвазе наступны Пяты Тыдзень студыяў БАКА "Рунь", які плянаваўся ў 1954 г., аднак адбыўся толькі ў 1955 г.

[148] **Аляксей Сапуноў** (1852—1924), гісторык, археограф, краязнаўца, дасьледнік помнікаў старажытнай культуры. Тут маецца на ўвазе выданьне: Сапунов, Алексей. Памятники времен древних и новейших в Витебской губернии: с рисунками в тексте и 25 отдельными приложениями. Витебск: издание Витебского губернского статистического комитета, 1903. 96 с.

[149] ***"Полоцко-Витебская старина"*** — зборнікі навуковых працаў, гістарычных артыкулаў і архіўных дакумэнтаў, якія выдаваліся Віцебскай навуковай архіўнай камісіяй у 1909—1916 гг. у Віцебску.

і для цябе там штосьці будзе: абяцаў мне перадаць рэчы сапраўды музэальныя: муляжы двох старых манэтаў полацкіх князёў. Калі дастану, перадам у твой музэй.

Ці табе Янка Станкевіч прыслаў "Творы" Ул[адзімера] Жылкі? Калі так, дык абавязкова прышлі мне адзін прымернік, а больш нікому і то абсалютна нікому яго не давай, бо там маюць быць два зусім бязбожныя вершы: "Марта" і "Альбігоец". У Нью Ёрку гэтае выданьне выклікала скандал, і яп[іскап] Васіль[150] забараніў праваслаўным вернікам трымаць у сябе гэтую кніжку. Цяпер зьвярнуўся да мяне, каб каталікі так-жа зарэагавалі на тое выданьне. Таму прышлі мне, калі маеш, тое выданьне. Уласьціва яно зладжана [Антонам] Адамовічам, і некаторыя дадумоўваюцца, што ня выключана, што аўтарства тых вершаў належыць самому [Антону] Адамовічу. Ня ведаю гэтага і ня ведаю, як гэта спраўдзіць. Цяпер "Рунь" мусіць быць асьцярожна з [Антонам] Адамовічам.

Чакаю твайго хуткага адказу.

Твой у Хрысьце Леў [Гарошка]

Парыж, 22.XII.55

Дарагі Чэслаў,

за час, калі атрымаў твой апошні ліст, назьбіралася крыху справаў да цябе, дык пішу іх па чарзе:

1. Казлоўская Нора ўжо мае нейкае мейсца ў Англіі і праз пару дзён туды мае ехаць. Яшчэ ня ведаю яе адрысу, але маці яе прасіла, каб пры нагодзе ты туды заглянуў, бо мае там аставацца паўгоду. Адрас прышлю, як толькі мне перадасьць.

2. Калі далей атрымоўваеш "За паварот на Бацькаўшчыну"[151], дык прышлі мне па адным экзэмпляры ад Нр. 5 і далей.

3. У Мадрыдзе фармальна засноўваецца беларуская сэкцыя пры Цэнтры Арыентальных Студыяў, але там замала сяброў. Я пісаў [Янку] Сурвіле, каб напісаў табе. Ці ён нешта пісаў? Да сяброўства неабходна ня толькі згода належаць, але трэба ў год прыслаць прынамся адзін артыкул на якіх 20 старонак машынапісу ў часапіс. Часапіс так-жа мае выходзіць якісь новы.

4. У гэтую сэкцыю [Янка] Сурвіла думае так-жа заангажаваць [Антона] Адамовіча, але я яму ня раіў дзеля ягоных антыклерыкальных выступаў і выданьня [Уладзімера] Жылкі зь бязбожнымі вершамі. Як ты глядзіш на гэтую справу?

---

[150] Маецца на ўвазе япіскап Васіль (Тамашчык).

[151] Маецца на ўвазе ***"За вяртанне на Радзіму"*** — прапагандысцкая газэта для беларусаў замежжа, якая выдавалася з 1955 г. У 1960 г. яна памяняла назву на "Голас Радзімы".

5. Што чуваць з Тодарам [Мазурам][152]?

6. Як маецца а. Кастусь [Маскалік][153]? Перадай яму мой сьвяточны прывет.

7. "Божым Шляхам" усё ніяк не змагу адрэдагаваць сьвежага нумару, хоць матэрыял у асноўным ужо маю. Няма часу перапісаць. Вось, напрыклад, сёньня даслоўна цэлы дзень адпісваю на лісты і яшчэ ня скончыў.

8. Ці скончыў ужо працу для Інстытуту ў Мюнхэне[154]?

Пазаўчора бачыў я а. [Поля] Шалея[155], ад якога ты маеш весткі пра айцоў-марыянаў. Некаторыя весткі ён мае вельмі цікавыя.

Тут праездам быў Я[гоная] Эм[інэнцыя Эжэн] Тіссэран. Я ніякіх справаў ня меў і да яго не хадзіў. З Рыму адносна твайго праекту, дзякаваць Богу, нічога не чуваць.

Здаецца, я табе яшчэ не пісаў, што вось ужо два месяцы, як мы нарэшце атрымалі афіцыяльнае паведамленьне зь Міністэрства Зам[ежных] Справаў, што беларусы нароўні з украінцамі маюць права ў сваіх дакумантах мець назоў свае нацыянальнасьці, і Аддзел для Чужынцаў пры Міністэрстве выдае адпаведныя даведкі. Дапамог нам у гэтым адзін сэнатар. Учора яму насілі альбом і "Спадчыну"[156] — прыняў вельмі міла і доўга гутарылі аб нашых справах.

З нагоды Сьвят жадаю табе шмат ласкаў ад Дзіцяткі Ісуса і зычу шчасьлівага Новага Году.

Твой у Хрысьце Леў [Гарошка]

---

[152] Маецца на ўвазе **Тодар Мазура** (1921 — пасьля 1990), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Рыме. Пазьней прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'еднаньня "Рунь". Выехаў у БССР.

[153] **Кастусь Маскалік** (1918—2010), рэлігійны дзеяч. У 1947—1955 гг. вучыўся ў Рыме. У 1958—1962 гг. быў кіраўніком Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. Пазьней працаваў у беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё.

[154] Маецца на ўвазе **Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР**, заснаваны ў Мюнхэне прадстаўнікамі расейскай эміграцыі й з 1951 г. фінансаваны Амэрыканскім камітэтам вызваленьня народаў Расеі. З 1954 г. у ім быў беларускі аддзел і выдавалі стыпэндыі для беларусаведных дасьледаваньняў.

[155] **Поль Шалей** (фр. *Paul Chaleil*, 1913—1983), францускі рэлігійны дзеяч, езуіт, грэка-каталіцкі сьвятар. У 1939—1948 гг. працаваў у Харбіне. Арыштаваны кітайскімі ўладамі й перададзены Саветам. Да 1955 г. быў у лягерах, па вызваленьні вярнуўся ў Францыю.

[156] Маецца на ўвазе выданьне: Купала, Янка. Спадчына. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1955. LXVI + 497 с.

Парыж, 14.I.57

Дарагі Чэслаў,

нешта доўга ад цябе няма ніякіх вестак. Чым займаешся цяпер? Я рыхтую паволі чарговы нумар “Божым Шляхам”, і каб неяк нагнаць залегласьць, прыйдзецца выдаць яго проста гадавіком, гэта значыць адзін за ўвесь 1956 г. Дзеля гэтага патрэбна шмат матэрыялу, і было-б нядобра, каб увесь матэрыял быў з аднае рукі. Калі можаш, пастарайся прыслаць што-небудзь або аб а. [Фабіяну] Абрантовічу[157], або аб манастыры айцоў-марыянаў у Друі, або найлепш і адно, і другое. Абодва гэтыя артыкулы вельмі патрэбныя, як гэта відаць зь пісаніны розных ворагаў каталіцызму тыпу [Івана] Касяка. Між іншым, я напісаў ужо рэцэнзію на ягоную кнігу[158]. Заняло мне шмат часу і яшчэ больш нэрваў, але такую пісаніну, як Касяковая гісторыя, немагчыма пакідаць без адказу, бо для шмат каго гэта адзіная кніга на эміграцыі, адкуль будуць чэрпаць “інфармацыі”.

У мяне са здароўем справа няважная. Праўда, яшчэ нейкіх асаблівых праяваў няма, але прыглух на адно вуха, і лекары ня могуць знайсьці ніякае рады.

Што чуваць з Галяндыяю?

Заўтра спадзяёмся спаткаць з Амэрыкі [Міколу] Абрамчыка. Ня ведаю, калі зь ім буду бачыцца і якія адтуль прывязе навіны, але ведаю, што хутка мае ехаць у Мюнхэн.

У гэтую нядзелю 20.I буду служыць урачыстую Службу Божую ў адной парыскай парахвіі для французаў. Трэба шукаць харыстаў.

Чакаю хуткага адказу і жадаю шчасьлівага Новага Году, пакуль яшчэ не састарэўся і пакуль можна такія жаданьні выказваць.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 1.X.58

Дарагі Чэслаў,

тут у залучэньні, як сам добра бачыш, пасылаю табе 8 фотакартак з нашага паломніцтва ў Люрд. Каляровыя фатаграфіі яшчэ ня зробленыя.

У мяне тымчасам ніякіх новых зьвестак няма, і няма яшчэ паведамленьня з італьянскае амбасады ў справе візы.

---

[157] **Фабіян Абрантовіч** (1884—1946), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар усходняга абраду, у 1939 г. быў арыштаваны савецкімі органамі бясьпекі, больш за 5 гадоў правёў у зьняволеньні й памёр ад катаваньняў у Бутырскай турме.

[158] Маецца на ўвазе выданьне: Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. Ню Ёрк: Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1956. 190 с.

Рэдакцыйная праца нешта ня йдзе. Здароўе так-жа не асаблівае. Можа таму і цяжкасьці з рэдагаваньнем.

Ня ведаю, як у цябе маюцца справы з прыездам [Базыля Сьвятаполк-]Мірскага[159], але я пару дзён таму званіў да [Міколы] Абрамчыка ў справе неспадзеванага прыезду сюды [Янкі] Сурвілы, і мне было дзіўна, што ні адтуль, ні адсюль [Мікола] Абрамчык пачаў дакараць цябе, што ты быў тут і не пачакаў яго. І гэта быццам мела стацца толькі таму, што ты яго не паведаміў, калі прыедзеш у Парыж, хоць ён добра ведаў ад мяне, што прыедзеш у чацьвер 18.IX. І ён, ведаючы гэта, выехаў да жонкі і вярнуўся нават ня ў пятніцу, як казаў Коля[160], а ў нядзелю раніцаю 21.IX. І пасьля гэтага мае адвагу "наракаць". Гэта я табе пішу, каб ты ведаў, бо думаю, што як прыедзе ў Лёндан, дык абавязкова пры нагодзе папракне цябе.

На ўсякі выпадак напішы мне, калі ты плянуеш заклікаць [Базыля Сьвятаполк-]Мірскага, бо ўжо раз [Мікола] Абрамчык так-жа дакараў і мяне, што быццам мы з табою ня ўзгоднім дзейнасьці. Хоць тады яму адказаў, што ў падобных прадпрыемствах чыста мяйсцовага характару, да якіх я ня маю найменшага дачыненьня, не патрэбна ніякага "ўзгадненьня".

Коратка кажучы, маю такое ўражаньне, што [Мікола] Абрамчык за нешта надзімаецца і шукае прычэпкі, каб выказаць сваё незадавальненьне. Здаецца, што ў ягонай дзейнасьці з амэрыканцамі атрымалася шмат "пшыкаў" з калішніх абяцанак, тады як нашай рэлігійнай дзейнасьці сёлета Бог пабагаславіў прыгожымі посьпехамі.

Твой у Хрысьце Леў [Гарошка]

Парыж, 7.XI.58

Дарагі Чэслаў,

атрымаў твой ліст, калі ўжо [Мікола] Абрамчык выпраўляў [Базыля Сьвятаполк-]Мірскага да вас. У справе перавозкі кнігаў я зь ім не гаварыў з тае простае прычыны, што ён усё роўна не згадзіўся-б займацца такім цяжарам, як кнігі. Тым больш што ехаў амаль афіцыяльна і спадзяваўся афіцыяльных сустрэчаў.

Тут у міжчасе Ніна [Абрамчык] падняла бязглуздую трывогу і магчыма званіла ў Лёндан. Думаю, што з гэтае трывогі, калі яе не супакоіць Мікола [Абрамчык], можа быць для яго вельмі няпрыемная гісторыя,

---

159 **Васіль (Базыль) Сьвятаполк-Мірскі** (?—1974), князь, грамадзкі дзеяч. У 1945 г. быў выкрадзены ў Вэне савецкімі спэцслужбамі, дастаўлены ў Маскву, асуджаны на 11 гадоў лягераў. Па вызваленьні выехаў на Захад, жыў у Мюнхэне.

160 Маецца на ўвазе **Мікола Абрамчык (малодшы)** (1922—2005), грамадзкі дзеяч, пляменьнік прэзыдэнта Міколы Абрамчыка. Да канца 1950-х ён жыў у Парыжы, потым выехаў у ЗША.

бо яна закранае за жывое іхняга пляменьніка[161], які да гэтага часу быў іхным найбольшым дабрадзеям.

Учора я гаварыў з супэрыёрам аб тым, каб згадзіўся на тое, што некаторы час тут можа жыць а. Кастусь [Маскалік] перад Новым Годам. Пасьля доўгіх торгаў ён згадзіўся, што а. Кастусь [Маскалік] можа прыехаць каля 18.XII. Больш не ўдалося вытаргаваць, бо як на няшчасьце на пачатку сьнежня мае адбывацца нейкі іхны зьезд (місіянароў), і будуць занятыя ўсе вольныя пакоі, якія аграюцца.

Я думаў выехаць у канцы сьнежня або на самы Новы Год, але цяжка цяпер азначыць дату, аднак на ўсякі выпадак, будзь ласкаў, напішы мне па-лаціне ліст да супэрыёра ў справе прыезду, пакідаючы вольнае мейсца на дату.

Вось толькі што атрымаў ліст ад а. [Пятра] Татарыновіча з Рыму — прапануе зрабіць дарунак а. [Аляксандру] Надсону — думка вельмі добрая, але, мне здаецца, што яму лепш было-б спрэзэнтаваць не чашу, а рызы, гэта больш патрэбнае і цяжэй знайсьці.

Ты абураешся недарэчнасьцямі мовы а. [Пётры] Татарыновіча — як не абурацца — я пару разоў слухаў ягоную радыёперадачу з Рыму і маю ўражаньне, што на Беларусі хто іх раз паслухае, ня будзе сьпяшацца слухаць зноў. Але пераканай-жа ты яго. Зрэшты ведаеш, што за гэта ён на мяне ня раз гневаўся і гневаецца цяпер. Але вось зьявіўся другі яшчэ "мудрэйшы" самадур а. Франук [Чарняўскі]. У гэтага дык ані сэнсу, ані формы, ані ніякага клёку ў пісаніне — запаўняе свой "часапіс"[162] спадаровымі плявузганьнямі, і гэта называецца грамадзкая й рэлігійная праца. Пісаў ужо яму некалькі разоў, але дзе ты яго пераканаеш. Мусіць, чалавек дзіцянее пад старасьць.

Новага папу[163] ў Францыі ўсюды прынялі зь вялікім задаволеньнем, як аб гэтым, магчыма, даведаўся ўжо з прэсы. Для нас можна спадзявацца ад новага Сьвяцейшага Айца так-жа шмат добрага, бо беларусаў ён ведае з Парыжу і яшчэ нават сёлета вясною, будучы ў Парыжу, пазнаў мяне. Заўсёды да беларускае справы адносіўся вельмі прыхільна і палагоджваў пазытыўна ўсе мае просьбы адносна Місіі. Яму трэба будзе абавязкова падрыхтаваць той мэмарыял аб нашым агульным палажэньні, аб якім мы гутарылі.

Тымчасам бывай здароў!

Твой Леў [Гарошка]

161 Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык (малодшы).

162 Маецца на ўвазе **"Siaubit = The Sower"** — "каталіцка-грамадзкі" часопіс, які запачаткаваў у 1958 г. а. Францішак Чарняўскі. Выходзіў да кастрычніка 1973 г.

163 Маецца на ўвазе **Ян XXXIII** (лац. *Johannes PP. XXIII*, да інтранізацыі *Анжэлё Джузэпэ Ранкальлі*, іт. *Angelo Giuseppe Roncalli*, 1881—1963), Папа Рымскі ў 1958—1963 гг.

Рым, 24.X.59

Дарагі Чэслаў,

маю некалькі радасных навінаў, дык пішу табе гэты ліст, чакаючы на адказ майго папярэдняга ліста.

Сёньня рана прыехаў у Рым а. Язэп Гэрмановіч[164]. Пашпарт мае важны на ўсе краіны, а візу на 6 месяцаў. Вось-жа можа прыехаць і ў Лёндан, але аб гэтым я зь ім яшчэ не гаварыў. Кажа, аднак, што трэба старацца сьцягнуць сюды а. [Тамаша] Падзяву[165], бо можа быць вельмі карысны. Дазвол на выезд яму могуць даць. Што да а. [Антонія] Лося[166], дык справа выезду амаль безнадзейная, бо ў дзяржаўных кругох (у Міністэрстве) ён *"асоба одіозная"*.

Ад часу, калі табе напісаў апошні ліст, з Парыжу ня маю ніякіх вестак, ані ніякага матэрыялу.

Ад а. [Язэпа] Гэрмановіча даведаўся вельмі цікавыя весткі аб а. [Фабіяну] Абрантовічу. Ён гаварыў з адным польскім ксяндзом, які бачыў а. [Фабіяна] Абрантовіча ў Маскве ў 1943 г. у так званай паказовай турме, дзе быў так-жа а. Новікаў[167] езуіт і інш. каталіцкія сьвятары. Тады ён быў яшчэ здаровы. У зьвязку з гэтаю весткаю варта зьмяніць заканчэньне твайго артыкулу, спасылаючыся на апошнія весткі. Так-жа адносна а. [Андрэя] Цікоты[168] мае некаторыя новыя весткі.

---

[164] **Язэп Германовіч** (1890—1978), рэлігійны дзеяч, пісьменьнік, пэдагог. Друкаваўся ў беларускіх выданьнях "Крыніца", "Хрысьціянская думка", пісаў пад псэўданімам Вінцук Адважны. У 1932—1936 і 1938—1948 гг. працаваў у Харбіне ва Ўсходняй місіі. У 1948 г. быў арыштаваны кітайскімі камуністычнымі ўладамі й выдадзены Саветам, асуджаны на 25 гадоў прымусовых лягерных працаў. Адбываў пакараньне ў Сібіры. Па вызваленьні ў 1955 г. выехаў у Польшчу, адтуль у 1959 г. пераехаў у Рым і далей у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане ў Марыянскім доме (*Marian House*).

[165] **Тамаш Падзява** (1906—1975), рэлігійны дзеяч, сьвятар-марыянін. У 1935 г. выехаў у Харбін, дзе быў выхавальнікам у ліцэі Сьв. Мікалая, а таксама выкладчыкам рэлігіі. У 1948 г. разам зь іншымі сьвятарамі быў схоплены кітайскімі жаўнерамі, перададзены НКУС і вывезены ў турму ў Чыце. Асуджаны на 25 гадоў лягераў. У 1955 г. быў вызвалены, атрымаў магчымасьць выехаць у Польшчу, дзе нейкі час выкладаў у сэмінарыі. У 1969 г. выехаў у Рым, а адтуль у Лёндан.

[166] Маецца на ўвазе **Антоній Лось — старэйшы** (?—?), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, марыянін. Высьвячаны ў 1946 г. у Польшчы, дзе і жыў пасьля вайны.

[167] Відаць, маецца на ўвазе **Віктар Новікаў** (рас. *Виктор Новиков*, 1905—1979), расейскі рэлігійны дзеяч, езуіт, грэка-каталіцкі сьвятар, экзарх Сібіры. У 1941 г. быў арыштаваны як агент Ватыкану, асуджаны, адбываў пакараньне ў лягерах да 1954 г.

[168] **Андрэй Цікота** (1891—1952), рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар. Адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысьціянскай дэма-

Пастарайся чым хутчэй прыслаць мне даведку ад Вэстмінстэрскага Архібіскупа і адначасна ад сябе, што маю жыць у Марыян Гаўз.

Твой у Хрысьце Леў [Гарошка]

## Уладзімер Цьвірка

*Уладзімер Цьвірка (да эмігр. Вадзім Сурко, 02.01.1928, в. Беражное (цяпер Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 15.03.1992, Мюнхэн, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. Жыў у Міры. У 1947 г. скончыў гімназію імя Я. Купалы ў Міхэльсдорфе. Быў скаўтмайстрам у беларускіх лягерах DP у Герэнбэргу й Майнлёйзе. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі "Дванаццаткі" прыбыў на працу ў вугальных капальнях у Вялікабрытаніі. Браў актыўны ўдзел у выданьні часопісу "Наперад!". З 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Сябра Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'яднаньня "Жыцьцё". У 1950—1954 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. З 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне. У 1959—1968 гг. — галоўны рэдактар беларускай службы радыё "Вызваленьне". Супрацоўнічаў таксама з рэдакцыяй газэты "Бацькаўшчына".*

*Tamworth*[169], 11.8.48

Вельміпаважаны а. Леў!

Ужо даволі даўно ня пісаў я Вам. Прычынаю быў наш *"holiday"* — канікулы. Я ня быў у *Tamworth*'е гэты час. З-за гэтага цяпер мушу сядзець безь перапынку, бо працы назьбіралася.

Ці атрымалі 10-ы нумар "Наперад!"[170]? 11-ы гатовы таксама, але наш тэхн[ічны] рэдактар не спраўляецца адбіваць. Атрымалі 2-і нумар "Моладзі". Характар ягоны зусім іншы, чым нашага. Але якраз гэта добра — патрэбна і адно, і другое.

---

кратычнай злучнасьці. Пасьля 1923 г. жыў у Друйскім кляштары айцоў-марыянаў, у 1933—1939 гг. двойчы абіраўся генэралам ордэну айцоў-марыянаў у Рыме. У 1939 г. накіраваны ў Харбін, дзе заняў пасаду адміністратара каталікоў усходняга абраду. У 1948 г. арыштаваны, скончыў жыцьцё ў савецкім лягеры.

169 **Тэмўарт** (анг. *Tamworth*) — мястэчка ў Сярэдняй Ангельшчыне ў Стэфардшыры, дзе ў 1948—1949 гг. працавалі некалькі беларускіх хлопцаў-скаўтаў з "Дванаццаткі".

170 **"Наперад!"** — моладзевы часопіс, орган "Дванаццаткі", які выходзіў у 1947—1953 гг., спачатку на шляху ў тут Вялікабрытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. — у Бэльгіі. Выйшла 26 нумароў.


Уладзімер Цьвірка

Цяпер чакаем на наступны нумар “Божым Шляхам”. Ці хутка выйдзе?

Хацеў-бы я з Вамі пагаварыць аб адной рэчы. Справа вось у чым: мы перапісваліся з [Янкам] Філістовічам (яго Вы знаеце — ён мне пісаў). Вось я на яго налягаю, каб ён стварыў ініцыятыўную групу ды пастараўся стварыць арганізацыю моладзі ў Францыі. Гэта вельмі патрэбна. Ён пісаў, што вельмі цяжка: нясьведамыя й г. д. Аднак я ведаю, што стварыць можна. Паважны крок у гэтым кірунку — гэта часапіс “Моладзь”. Вось, пачаўшы з маленькае групкі, хоць-бы з рэдакцыі “Моладзі”, можна гуртаваць каля сябе ўсё больш і больш. Я, напрыклад, чытаў прывітаньні (у 2-м Нр.) з паўночнае Францыі. Значыць — сьведамы элемэнт ёсьць, толькі трэба ўмела павесьці справу. Акрамя таго — пад'яжджае моладзь зь Нямеччыны. Я нат ведаю аб 4-х добрых хлопцаў, што нядаўна выехалі ў Францыю, толькі ня ведаю, ці запісаліся яны ўжо ў арганізацыю. Між імі — [Аўген] Кавалеўскі[171], артысты й пісьменьнік, пра якога, магчыма, чулі. Ён якраз любіць займацца з моладзяй. Калі маеце ягоны адрыс — прышлеце мне, вельмі прашу. Я скамунікуюся зь ім. Ён напэўна зоймецца гэтым.

[Янка] Філістовіч, як відаць, хлапец вельмі добры — мае шчырае жаданьне быць карысным. Адна бяда — ён ня верыць яшчэ ў свае сілы, няма ў яго наважанасьці. Як бачу зь ягонага лісту, ён зьняверыўся ў моладзі, думае, што зь яе немагчыма нічога зрабіць. Ведаючы, што маеце на яго вялікі ўплыў, вельмі прашу — памажэце яму! Ведаю, што з часам у Вас бяда, але хопіць Вашага слова-рады. Гэта зробіць вельмі шмат. Нам трэба ўсімі сіламі зарганізоўваць моладзь. Усюды і ўсімі сіламі. Пасьля-ж будзем думаць аб кансалідацыі паасобных арганізацыяў. Бяручы з гэтага гледзішча, не зьяўляецца важным, які характар будзе мець будучая арганізацыя — яна можа быць палітычнай ці навет апалітычнай. Ня ведаю, што будзе найбольш падходзіць. Можна было-б навет трымацца прылучыцца да БННХР[172]. Мне здаецца — было-б ня дрэнна. Трэба глядзець, якая арганізацыя будзе мець найлепшы грунт. А можа, будзе мець яго “Рух” (Рэспубліканскі Рэвалюцыйны Ўсебеларускі Хаўрус), што нядаўна залажыўся ў Нямеччыне? Пра яго Вы, напэўна, чулі і статут, напэўна, маеце. Гэтая арганізацыя павінна маладым падабацца за

171 **Аўген Кавалеўскі** (1921–1963), культурны дзеяч, драматург. Напрыканцы 1940-х гг. выехаў зь Нямеччыны ў Францыю, жыў у Парыжы.

172 **БННХР**, **Беларускі нацыянальны народна-хрысьціянскі рух** — арганізацыя, заснаваная ў 1948 г. у Лёндане.

яснае й кароткае акрэсьленьне мэтаў. А можа, якая Вэтэранская (б[ылых] вайскоўцаў) арганізацыя?

Магчыма, што ні тое й ні другое, а нешта зусім новае. Тады вельмі Вас прашу: памажэце ім із статутам — яны, магчыма, недасьветчаныя ў гэтым. А маючы свой часапіс, ёсьць магчымасьці правесьці адпаведную падрыхтоўчую секцыю, прапаганду. Я ўжо ўпэўнены, што Вы не адмовіце памагчы. І ўжо ад імя 12-кі (ды ці толькі ад яе?) шчыра-шчыра дзякую.

Яшчэ адно: гэта ня шкодзіць, калі нехта належыць ужо нейкае арганізацыі, напр[ыклад], аб'яднаньня работнікаў. Тут ідзе аб моладзі (старэйшай). Трэба яе зьбіраць, бо пасьля будзе позна. А цяпер якраз час.

Выбачце, што гэтак надакучаю Вам, але скажыце самі: да каго-ж мне зьвяртацца, як не да Вас?

З свайго боку, ад імя "Наперад!", запэўніваю, што будзем памагаць як магчыма.

Канчаю, бо расьпісаўся зашмат.

Чакаю адказу.

Жыве БНР!

Ваш У[ладзімер] Цьв[ірка]

## Мікола Цэлеш

*Мікола Цэлеш (25.06.1900, в. Зазер'е Барысаўскага пав. (цяпер в. Заазер'е Лепельскага р-ну Віцебскай вобл.) — пасьля 1976 г.), літаратар, перакладчык. Вучыўся ў Бялыніцкай народнай вучэльні. З 1916 г. жыў на поўдні Расеі, працаваў на Данбасе. У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, адкуль дэмабілізаваўся ў 1924 г. З 1929 г. пачаў друкавацца ў пэрыёдыках. Перад вайной працаваў у часопісе "Паляўнічы Беларусі", выдаў чатыры кнігі прозы. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Зарабляў фізычнай працай. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Нью-Ёрскага аддзелу. У 1976 г. зьнік бязь вестак. Аўтар выдадзеных на эміграцыі кніг: "Дзесяць апавяданьняў" (1965) і "Хмары над Бацькаўшчынай" (1995).*

19.V.1951

Шаноўны сп. Гарошка!

На днях атрымаў ад сп. [Юркі] Віцьбіча[173] ліст, у якім ён паведамляе, што Вы, быццам, цікавіцеся маім адрасам. Добра знаючы [Юрку]

[173] **Юрка Віцьбіч** (сапр. **Сэрафім Шчарбакоў**, на эмігр. **Юры Стукаліч**, 1905—1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч. З 1949 г. жыў у ЗША.


Мікола Цэлеш

Віцьбіча, я трохі зьдзіўлены: калі сапраўды Вам патрэбен мой адрас, то Вы маглі-б атрымаць яго празь Беларускі Камітэт у Брукліне, па-другое, вось ужо пяць год, як мы з Вамі ня бачыліся, і Вы ніколі ня мелі пільнай патрэбы ў маім адрасе, бо тады, як я быў у Эўропе, маглі б яго знайсьці ў [Лявона] Рыдлеўскага, зь якім я доўгі час меў перапіску і празь яго пасылаў Вам прывітаньні, альбо ў [Міколы] Абрамчыка. Мне здаецца, гэта ініцыятыва [Юркі] Віцьбіча — ня ведаю, зь якой мэтай? Ды і ведаць ня вельмі цікава!

Я жыву ад лютага месяца ў Брукліне: *413 Wyona Street, Brooklyn 7, NY*. У тым самым будынку і ў тым самым пад'езьдзе, дзе і сп. [Уладзімер] Клішэвіч, якому Вы пасылаеце часапіс і які я часам перачытваю. Калі Вам што-небудзь патрэбна, прашу па гэтаму адрасу і скіроўвацца.

З пашанай да Вас, Мікола Цэлеш

Парыж, 23.V.51

Паважаны Мікола!

Пакуль я зьбіраўся пісаць да Вас ліст, дык учора атрымаў ліст ад Вас і вось цяпер неадкладна сьпяшу адказаць і адначасна выказаць сваю просьбу.

Я сапраўды зьвяртаўся да [Юркі] Віцьбіча ў справе Вашага адрасу. Чаму якраз да [Юркі] Віцьбіча? Проста выкарыстаў нагоду, калі адказваў на ягоны ліст у справе часапісу. Чаму пытаўся? Справа ў наступным. Нядаўна зьвяртаўся да мяне др. [Вітаўт] Тумаш[174] з просьбаю дапаўненьня лісты ахвяраў бальшавізму. Што ў мяне было пад рукою, я выслаў яму, але адначасна прыпомніў, што калісьці Вы былі падалі ў баранавіцкай "Пагоні"[175] так-жа паважны лік беларускіх ахвяраў бальшавізму, дык вось я яму параіў зьвярнуцца да Вас, але ня ведаю Вашага адрасу, затое быў пэўны, што незалежна ад Вашых адносінаў зь [Юркам] Віцьбічам ён напэўна будзе ведаць Ваш адрас, дык вось я і зьвярнуўся да яго і не памыліўся. З практыкі ведаю, што палагоджваць гэткія справы праз камітэты — можа спаткацца зь *"непаможнымі цяжкасьцямі"*.

Што да інж[ынэра Лявона] Рыдлеўскага, дык ён чамусьці ніколі і словам не спамінаў мне аб Вас. Толькі раней, калі Вы яшчэ былі ў Нямеччыне, успамінаў пару разоў аб Вас інж[ынэр] М[ікола] Абрамчык.

---

[174] **Вітаўт Тумаш** (1910—1998), грамадзкі дзеяч, мэдык, навуковец (скарыназнаўца). Старшыня Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў 1953—1982 гг.

[175] **"Пагоня"** — назва былой "Баранавіцкай газэты" вясной — летам 1944 г.

Але як-бы там ні было, добра, што я Ваш адрас маю і маю да Вас просьбу: ці ёсьць у Вас у запасе нядрукаваныя яшчэ Вашыя апавяданьні, якія падходзілі-б сваім зьместам у "Божым Шляхам" і ці маглі-б Вы іх прыслаць мне? Зьмест апавяданьняў не абавязкова мусіць быць сьцісла рэлігійны, пажадана толькі, каб апавяданьні былі маральна-будуючыя. Паколькі я прыпамінаю, Вашыя апавяданьні, здаецца, маюць гэтую рысу.

Таму што Вы жывяце ў адным доме з [Уладзімерам] Клішэвічам, дык мушу аб ім сказаць пару слоў. Ён два гады таму быў прыслаў мне адзін верш, але, на жаль, у ім парушыў некаторыя багаслоўскія пытаньні так няўдачна, што іх у рэлігійным часапісе нельга было надрукаваць. Калі я зьвярнуў на гэта ўвагу, дык ён абразіўся. Не зважаючы, аднак, на гэта, я высылаў яму часапіс даўжэйшы час зусім гратісова[176], але ня маючы ад яго ні слова, цяпер устрымаў для яго часапіс. Гэта адзіны няпрыемны выпадак зь пісьменьнікамі, які меў мейсца ў рэдакцыі "Божым Шляхам", і спадзяюся, што ён не паўторыцца.

Пару тыдняў таму выслаў на Ваш адрас сьвежы нумар "Божым Шляхам", магчыма, што ўжо яго атрымалі.

Чакаю ад Вас хуткага адказу і шлю Вам шчырае прывітаньне.

Адданы ў Хрысьце Ваш<br>
[Леў Гарошка]

26.V.1951

Шаноўны сп. Гарошка!

Сёньня атрымаў ад Вас часопіс "Б[ожым] Ш[ляхам]". Шчыра дзякую за гэта. Знаходжу, што гэта адзінае выданьне ў нас цяпер, на эміграцыі, у якім часам знаходзяцца матар'ялы, якія заслугоўваюць на ўвагу, г. зн. больш-менш глыбокія. Усе астатнія так часопісы, як і газэты, якія выходзяць цяпер, выходзілі раней і, можа, будуць выходзіць, маюць адзін агульны недахоп — павярхоўнасьць, але павярхоўнасьць не такую, што часам практыкуюць некаторыя наіўныя рэдактары прыстасаваць да сябе масы, а не падцягваць іх, а павярхоўнасьць, выцякаючую з адсутнасьці глыбей думаючых рэдактароў, якія стараліся-б адшукаць патрэбных ім людзей, а не адштурхваць. Тут нічога ня зробіш, такія людзі вырастаюць у працэсе доўгага выхаваньня і самавыхаваньня, а нам, беларусам, пакуль што Бог не стварыў адпаведных умоў для гэтага... От, ня ведаю, якой выйдзе наша новая газэта "За Волю"[177]. Судзячы па першаму нумару — і ў ёй адчуваецца досыць вільгаці — і калі

---

[176] ***Gratis*** (польск.) — бясплатна.

[177] **"За Волю"** — газэта, якая выдавалася ў Парыжы пад рэдакцыяй Лявона Рыдлеўскага ў 1951 г. Усяго выйшла 7 нумароў.

яна пойдзе па гэтаму нахілу, ня зробіць сабе аблічча! Можа, я мылюся, але мне здаецца, што нам цяпер, з прычыны якраз нашых слабасьцяў, патрэбен такі друк, які-б зацікавіў чытача з па-за нашай этнаграфічнай групы, г. зн. мусіць быць ён глыбокі, ідэёвы, з пункту гледжаньня агульначалавечага, зразумела, не адкідаючы нашага ўласнага. Калі-б з нашай думкі, з нашых інфармацый чарпалі іншыя — гэта было-б ужо нацыянальнай справай! Вы творыце ўсё-ж справу!

Я асабіста нічым пахваліцца не магу. Не ўдалося мне зрабіць таго, да чаго імкнуўся, і глыбокае расчараваньне прыгнечвае мяне. (Зразумела, тут не дапамогуць ніякія спачуваньні і пажаданьні, калі-б мне хто іх выказаў). З таго часу, як я бачыўся астатні раз з Вамі, я напісаў шмат, а друкаваць не ўдалося амаль нічога, самі ведаеце, чаму — пуста ў кішэнях. Ехаў у Амэрыку зь вялікай надзеяй, але расчараваньне і тут спаткала мяне — нашы дзеячы думаюць, што больш карысьці выдрукаваць якую-колечы нікуды ня вартую крыклівую брашурку, чым добрую аповесьць. І тут нічога ня зробіш, бо жывуць-жа яны сваім густам!

І ляжыць цяпер у мяне ў партфэлю: некалькі новых навэль, аповесьць “Без шацунку на шчасьце”, у ДП лягерох, аповесьць, якая прадбачыла пасьляваенны сьвет у ягоным духовым разуменьні. Ужо ў гэтым годзе скончыў новую аповесьць “Крок — куды...”. Вялікая й важкая праца, якая атабрала ў мяне шмат сілы і працы. Прыглядаючыся да людзей, я зразумеў, што чалавецтва знаходзіцца ў духовым крызысе — адсюль гэтыя катаклізмы! Зразумела, ня маю сродкаў лячыць, але бачу прычыну і паказваю на яе, адначасна пытаючыся, куды зробіць наступны крок яно? Вельмі шкода, што нас, беларусаў, яшчэ ня могуць пачуць іншыя.

Прашу прабачыць, што ліст гэты носіць ня вельмі выразны кшталт — стомлены я страшэнна, не магу думаць...

Весткі, якія я тут падаю аб сваіх працах, у друк прашу не даваць, паколькі там існуюць людзі, якія дарагі майму сэрцу.

Жадаю Вам плённай працы.

[Мікола Цэлеш]

16.VI.1951

Вельмі шаноўны сп. Гарошка!

Атрымаў Ваш ліст. Вельмі добра, што хоць ёсьць з кім пагутарыць шчыра. Здаецца, я нікога нічым не задзеў у сваім лісьце папярэднім? Згодзен: бедныя мы! Бедныя! Каб мы былі багацейшыя, дык знайшлі-б мажлівасьць выявіць тыя адзінкі, якія цяперака так неабходныя нам для больш важнай справы, чым малпаваньне ньюёрскіх драпачоў хмар... Бедныя ня толькі духова, матар’яльна, але і здольнасьцю выяў-

ляць і пазнаваць і давяраць гэтым людзям!.. Гавару, галоўным чынам, аб досьледзе ў мінулым, калі траціліся амаль у пустую тыя невялікія сродкі, якія меліся…

Вы мяне неправідлова зразумелі: я зусім не адмовіў Вам у апавяданьні. Я цяперака, г. зн. у гэты момэнт, вельмі дужа стомлены, бо ўсё-ж імкнуся праламіць той лёд, які загарадзіў гарызонты. Адпрацаваўшы восем гадзін, прыходжу і зноў саджуся за працу — гэта ўсё роўна, што паліць сьвечку з двох канцоў… От, якраз у гэты момант скончыў адну працу — засталося толькі выправіць. Пашлю яе ў сьвет і буду мець вольнага часу па дзьве-тры гадзіны на добу, — за гэты час думаю адшукаць апавяданьне альбо зрабіць урывак з аповесьці для "Б[ожым] Ш[ляхам]". Думаю, што Вы атрымаеце гэта цераз два тыдні.

Хацелася-б зрабіць, паміма жаданьня [Уладзімера] Клішэвіча, некалькі заўваг адносна Вашай зь ім спрэчкі. Паінфармаваны ў гэтай справе вельмі добра. Бачыце, паэт, калі ён сапраўды паэт, г. зн. думае самастойна, можа гаварыць усё, што бача, — і нават абавязаны перад грамадзтвам, перад чалавецтвам паступаць так! Бо, Вы-ж ня будзеце спрачацца, чым шырэйшы ягоны дыяпазон бачыць, тым больш ён заўважае таго, міма чаго праходзяць іншыя. Т. ч. [Уладзімер] Клішэвіч мог адзначыць і *"палаючыя помстай"* вочы. Справа тых, на чыім сумленьні гэта ляжыць, зрабіць так, каб вочы помстай не палалі… Шэксьпір[178], Бальзак[179], Дастаеўскі[180] гаварылі яшчэ больш суязыком суровым, а Хрыстос і яшчэ больш! Бо тое, што ён сказаў "*любі бліжняга свайго, як самога сябе*", трэба разглядаць гістарычна. Ён апэляваў да сумленьня патрыцыяў, з пагляду на становішча плебееў. Тут больш суровасьці, чым у палаючых вачох, прымаючы пад увагу той час. І больш адвагі! З другога боку, Вы таксама маеце рацыю, бо, праўда, да часопіса з рэлігійным ухілам гэта не падыходзіць. І я асабіста вельмі шкадую, што вы пасварыліся. Верш ягоны гэты не благі, хоць трохі, на мой погляд, і рытарычны…

Так, ці Вы можаце друкаваць з працягам? Бо зусім кароткіх рэчаў у мяне няма.

Пацiскаю Вам руку.

Мікола Цэлеш

---

[178] **Ўільям Шэксьпір** (анг. *William Shakespeare*, 1564—1616), ангельскі драматург, паэт, актор.

[179] **Анарэ дэ Бальзак** (фр. *Honoré de Balzac*, 1799—1850), францускі пісьменьнік, пачынальнік рэалізму.

[180] **Фёдар Дастаеўскі** (рас. *Федор Достоевский*, 1821—1881), расейскі пісьменьнік і філёзаф.

Парыж, 27.VI.1951

Паважаны Мікола!

Тыдзень таму як атрымаў Ваш ліст. Якраз рыхтаваў да друку чарговы нумар "Божым Шляхам", дык нельга было адпісаць хутчэй. Цяпер вось, чакаючы на карэкту, адпісваю залёглыя лісты, якіх гэтым разам назьбіралася нямала.

Адносна апавяданьняў з працягам, дык да гэтага часу яшчэ я гэткіх на старонках "Божым Шляхам" не падаваў, але гэта не азначае, што я катэгарычна супраць гэткіх апавяданьняў. Калі зьмест апавяданьня надаецца да падзелу, дык чаму-ж не зьмясьціць. Толькі нядобра, што цяпер а. [Часлаў] Сіповіч друкуе адзін артыкул з працягам на некалькі нумароў, і зьмяшчаць так-жа апавяданьне з працягам — гэта быў-бы для часапісу паважны мінус.

Вельмі трапная Ваша заўвага аб тым, што цяпер і ў нядаўным мінулым ня выяўлены тыя адзінкі, якія неабходныя для агульнага дабра. На жаль, гэта залежыць ад верхаводаў, а там, між намі кажучы, да гэтага часу адчуваецца пакрысе тэндэнцыя акружжа адзінкамі, якія іх адаравалі, а гэткімі пераважна і ёсьць людзі, якія могуць толькі малпаваць. Можа, з часам, Бог дасьць, і ў гэтай справе нешта зьменіцца на лепшае. Прынамся будзе нейкі досьлед.

Справу верша [Уладзімера] Клішэвіча, здаецца, няма сэнсу разглядаць нанова, бо я той верш мусіў ацаніць не як выдавец, а як рэдактар рэлігійнага часапісу, згодна з прынцыпамі, якіх гэты часапіс трымаецца, зрэштаю гэта прынцыпы не спэцыяльна часапісу "Божым Шляхам", але агулам Каталіцкае Царквы.

Спадзяюся, што ў наступным тыдні, калі ня станецца якіх непрадбачаных зьменаў, змагу парассылаць чарговы нумар часапісу.

Шчыра Вас здараўлю.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

[Верасень 1951]

Паважаны Леў Гарошка!

Шчыра дзякую за ліст — яны даюць мне некаторую атуху. Увогуле-ж сумна! Заняпад адчуваецца ўсюды ўва ўсім, а ў культуры асабліва. І, здаецца, ня толькі ў нас. Хаця мы найбольш слабыя, дык больш заўважна. Прыкладам, калі ў нас разьбегся тэатр — адзіны, дык гэта вельмі балюча. Маю на ўвеце [Міколу] Куліковіча[181]. Рабіў ён шмат добрага, хацелі, каб ён стаў палітыкам, ды яшчэ стопрацэнтовым, крывіцкім. Разьбегліся, як мышы...

[181] **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (1893—1969), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. З 1950 г. жыў у ЗША.

У галіне друку — яшчэ горш, а ў літаратуры і яшчэ горш. Калі часам выйдзе такая-сякая газэцінка, дык мастацкія творы зусім зьніклі. Нават "Шыпшына"[182] ўжо завяла.

Я тлумачу гэта ня толькі адсутнасьцю грунту, але таксама і агульным упадкам духу. У Амэрыцы гэта вельмі заўважна. Увесь трыб жыцьця тут — гэта доляр. Культура — астатняе. Праўда, у "сабвэі"[183] часам заўважыш чытаючую асобу, але чытае яна які-небудзь парнаграфічны альбо бульварны раманчык. Шэксьпіра ці іншага клясіка тут можна падняць на вуліцы неразрэзаным. Так я і раблю (на днях знайшоў "Анну Карэніну"). У часопісах і газэтах першае месца заняла кабета. Тут яна ў розных выглядах… Уся рэкляма — таксама яна — навэт на пудэлках ад гарбаты і падобнае. У адным магазыне мне давялося пабачыць досыць вялікую калейку за ёй, зразумела, малюнкі былі ў адпаведным выглядзе… Але горш за ўсё тое, што тут жа прадаваліся сьвятыя абразкі М[аці] Б[ожай] і І[суса] Х[рыста]. Бізнэс, як кажуць амэрыканцы. У Эўропе я гэтага не наглядаў. Тым ня менш, нікольні не сумняваюся, што ўпадак сусьветны. Чалавецтва стаіць на мяжы… І калі не зьявіцца другі Хрыстос, яго чакае катаклізм страшэнны. Так думаюць перадавыя адзінкі. Але толькі для нас гэта ясна, што ўсё гэта — упадак, разбэшчанасьць, і ўсё — усё вынік працы камуністаў…

Што датычыць беларусоў, дык і ня дзіва, што яны кінуліся ў заробкі. Гэта г[алоўным] ч[ынам] сялянства, кніжка іх абцяжарвае. Інтэлігентаў мала, ды і сярод іх я спатыкаю такіх, што за ўсё жыцьцё не прачыталі ні аднае кніжкі. Цягнуць лямку на сваіх плячох інтэлектуалістыя, але колькі-ж нас ёсьць? Што будзе, калі і яны надарвуцца? Сумна!..

Мікола Цэлеш

Парыж, 28.IX.51

Паважаны Мікола!

Сапраўды, у сучасным палажэньні ёсьць шмат прычынаў, якія могуць засмуціць глыбока кожнага, хто больш уважна прыглядаецца да зьместу грамадзкага жыцьця і да звычаяў. У Парыжу гэта відаць яшчэ больш выразна, як у Нью Ёрку. Тут вуліца пахне Садомаю і Гаморою. Пару месяцаў таму нават прызвычаеная да гэтага парыская паліцыя мусіла наладзіць аблаву на *"начную публіку"*, але вынік гэткіх аблаваў ніякі. І вось гэткаю атмасфэраю дыхае эміграцыя і мімаволі заражаецца.

[182] **"Шыпшына"** — літаратурна-мастацкі часопіс. Орган літаратурнага аб'еднаньня "Шыпшына". Выдаваўся ў Міхэльсдорфе (Нямеччына) у 1946—1950 гг. Рэдактар Юрка Віцьбіч.

[183] ***Subway*** (анг.) — мэтро.

Дык як не заразіцца маладым, неакелзаным натурам, калі на кожным кроку і на кожным (даслоўна!) розе вуліцы ёсьць нейкі рэстаран ці карчма! Вясёлаю публіка так-жа ўсюды пад дастаткам.

Аднак гледзячы на ўсё гэта непацешнае і нават прыгнобліваючае, нельга апускаць рукі і зьняверавацца. Заўсёды на сьвеце было так, што: *"Бог сваё, а чорт сваё"*. Калі часам дзеці раздурэюцца, дык бацька спыняе іх лупцоўкаю — магчыма, і сёньняшні сьвет стаіць перад такою лупцоўкаю. Гледзячы на сучаснае палажэньне, мне часам стае перад вачыма беларускі селянін, які ў часе пажару не апускае рукі, але ратуе што можа. І нам прыходзіцца рабіць, што дазваляюць магчымасьці, а здаволіцца тым, што Бог дасьць.

Аб беларускім жыцьці ў Парыжы я ўжо ўспамінаў — ніякіх суцяшальных знакаў ажыўленьня гэтага жыцьця няма і ня відаць на будучыню.

Я асабіста дык прыходжу да пераканаńньня, што да гэтага часу ў нашым жыцьці ніякія абвінавачваньні іншых ня прынесьлі карысьці, бо іх проста ня хочуць слухаць, як Вы добра кажаце, некаторыя агулам кніжкі ня чытаюць і хіба-ж таксама ня чытаюць газэтаў. Дык не астаецца нічога іншага, каб быць у парадку перад Богам, народам і сваім сумленьнем. Знойдуцца больш такіх, дык усё-ж нешта зробіцца.

Шчыра Вас здараўлю.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

25.I.1952

Шматпаважаны сп. Гарошка!

Урывак часу, які прайшоў, пакуль я сабраўся Вам адказаць на ліст, даволі ладны. Я прашу ў Вас прабачэньня. Здарылася гэта з досыць важных прычынаў (зусім не з таго, як магло-б Вам здацца, што я чымкольвек пакрыўджан). Як я Вам пісаў і раней — шмат працую. У той-жа час, як прыйшоў Ваш астатні ліст, у мяне зьмянілася сытуацыя. Калумбійскі Ўнівэрсітэт у Нью Ёрку некалькім беларусам (А[нтону] Адамовічу, [Уладзімеру] Сядуру[184], [Масею] Сяднёву[185]) даў навуковую стыпэндыю. Даў яе і мне. За два астатнія месяцы я быў заняты да таго, што абсалютна ўсе справы мусіў адкласьці. Ды і стамляўся да астатніх сілаў — для напісаньня ліста таксама трэба мець трохі тху… Можа, гэта ад таго, што я ўжо стары станаўлюся? Сёньня першы дзень вольны ад палудня. Толькі гэта і было прычынай майго маўчаньня.

Як жывецца Вам? Што чуваць у Эўропе? Маёй марай было раней — пабываць у Парыжы. Ня ведаю, ці ўдасца цяпер. Калі-б Францыя ня

[184] **Уладзімер Сядура** (псэўд. **Глыбінны**, 1910—1995), пісьменьнік, літаратуразнаўца, культуроляг. З 1951 г. жыў у ЗША.

[185] **Масей Сяднёў** (1913—2001), паэт, празаік. Жыў у ЗША.

была так блізка ад "заслоны", я спыніўся-б на ёй, як бы там ні было, час у мяне кароткі. Але якраз з прычыны — блізка! — мусіў узяць шляхі Калюмба. Цяпер шкадую!

Тут у нас *"недабіткі вялікай, недзялімай"* узьнялі вялікі гвар з прычыны нацыянальнага пытаньня (Фордаўскі фонд). Нам, беларусам, далі... з макам — перапрашаю за гіпэрболу. Але нічога — нашы акцыі ўсё-ж узрасьлі. Часта думаю над лёсам, прыходжу да выснаву — надзея ёсьць. Калі ў 19—21 гг. "недзялімцы" былі сапхнуты ў мора *"босымі з вогнішч"*[186], якім зь нізу пёк гарачы прысак, а зьверху грыз мароз і голад, дык хіба мы ня будзем мацней за іх у той час, як са звонам паляцяць кайданы? У 19—20 гг. Беларусь прайграла справу толькі таму, што была нізкая сьвядомасьць. Вось якраз вышэй паданыя недабіткі і будуюць свае папяровыя палацы на гэтым, пакольні ня могуць і ня хочуць уявіць таго, што адбылося з таго часу там.

Жычу Вам здароўя! Пішыце!

Мікола Цэлеш

## Янка Чарнэцкі

*Янка Чарнэцкі (15.05.1895, Ляхавічы Слуцкага пав. — 16.07.1984, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Слуцку. У часе Першай сусьветнай вайны быў скіраваны ў афіцэрскую школу ў Маскву. У міжваеннай Польшчы жыў у Ляхавічах, супрацоўнічаў зь беларускімі хадэкамі, быў сябрам Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры. Падчас вайны ўзначальваў у Ляхавічах Беларускую народную самапомач, быў афіцэрам БКА. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе ў Рэгенсбургу быў адным з выдаўцоў газэты "Adradžeńnie". Выехаў у Аўстралію, адкуль у 1957 г. — у ЗША. Жыў у Чыкага.*

Парыж, 4.XI.50

У апошнім лісьце Вы парушылі вельмі важную справу, якую да гэтага часу я проста не хацеў закранаць. Нялад між сьвятарамі, якіх і так ёсьць сьмешна мала, гэта вельмі нядобрая й балючая справа, але, на шчасьце, гэты нялад і да гэтага часу зьвязаны толькі з асобаю а. [Пётры] Татарыновіча. Як-бы ён ня ладзіў толькі са мною, дык-бы гэта было-б паўбяды, бо хто з рэдактарам ня мае няпрыемнасьцяў? Ад вякоў ужо такая мода завялася, што пісакі адзін другога крытыкуюць і часам пераходзяць у гэтай крытыцы да вастрэйшых слоў. Але вось бяда, што а. [Пётра] Татарыновіч ня ладзіць даслоўна зь ніводным беларускім сьвятаром і гэтую апрычонасьць стараецца падчыркнуць у найбольш дзівачны спосаб. Гэтая сварлівасьць і нязьлічоныя моўныя

[186] Алюзія на паэму Міхася Чарота "Босыя на вогнішчы".



Янка Чарнэцкі

новатворы характэрны ўва ўсіх яго-ных пісаньнях. Маеце найлепшы доказ у “Зьнічу” — там уступ і некаторыя іншыя артыкулы, дзякуючы новатворам, стаюцца амаль незразумелымі для звычайнага чытача. А да таго сам сварлівы падыход да закраненых тэмаў, абзываючы неаднадумцаў *“грубашкурнымі”, “збыдляцелымі”, “бегемотамі”* і пад[обным] замест пераканаць гэтых праціўнікаў, толькі адпіхае іх. Калі чытаць уважна толькі першы нумар “Зьніча”, дык можна лёгка пабачыць, што рэдактар гэтага часапісу пярэчыць сабе амаль на кожным кроку. Ён нападае на недаверкаў, а сам свой часапіс назваў паганскім іменем, бо Зьніч — гэта назоў паганскага сьвятога агню, які даўно згас і больш не аднаўляецца. Гэтым самым рэдактар нясьведама сьведчыць, што ідэя, якую думае бараніць, даўно згасла, і дарэмная праца над яе аднаўленьнем. Наступна творачы нязьлічоныя моўныя новатворы, быццам хоча даказаць сваю мудрасьць, а ў сапраўднасьці выказвае незнаньне мовы, бо нашто тварыць новыя словы там, дзе яны ўжо ёсьць, да таго гэта-ж асьмешвае беларускую мову ў вачох чужынцаў. Першы-ж нумар зачынаецца ад передрукаў і перакладаў, не даючы зусім нічога свайго — гэтым-жа проста кампрамэтуецца беларускі каталіцызм, або, лепш кажучы, кампрамэтуецца сам рэдактар, бо пачынаючы выдаваць часапіс, ня мае іншых матэрыялаў, як толькі тое, што ўжо было апублікавана раней.

Пішу гэта толькі для Вас з тым, каб яно далей не пайшло нікуды. Таму што Вы зь ім перапісваецеся, можаце хоць непасрэдна намякаць на некаторыя мінусы і гэтым прычыніцца для агульнага дабра. Часам я вельмі баюся за яго, бо бачу, што раней ён такім ня быў і што гэтыя дзівацтвы, калі іх можна так назваць, датуюцца да таго часу, калі ён пачаў лячыцца на італійскі лад, ужываючы вельмі небясьпечнага леку. Летась былі беларускія багасловы выкрылі ў зьвязку з гэтым вельмі нядобрыя рэчы, і справа пагражала скандалам, але неяк удалося ўсё прыцішыць. Я маю такое ўражаньне, што ён зусім сьведамы, што робіць нядобра, і хаваецца. Вось маеце прыклад, што ў Францыі ніхто не атрымаў ад яго часапісу (мне прыслаў а. [Часлаў] Сіповіч), у Бэльгіі тое самае, здаецца, што ў Швэцыі і Даніі так-жа ніхто; дык зачым і для

каго тады выдаваць? Тое самае было і з малітаўнікам[187] — наракаў на мяне, чаму я не падаў рэцэнзіі, а да гэтага часу ня прыслаў у рэдакцыю ніводнага экзэмпляру; адкуль і паўстаюць розныя непаразуменьні. Тымчасам аб гэтых справах амаль ніхто пастароньні ня ведае, і спадзяюся, што і ў далейшым яны далей ня пойдуць.

З Парыскіх навінаў хіба вартае ўвагі тое, што ўжо вярнуўся з Амэрыкі М[ікола] Абрамчык. Выдаў там у ангельскай мове вельмі вартасную брашуру аб тым, як бальшавікі вынішчалі беларусаў[188]. Напэўна, атрымаеце гэтую брашуру з Канады і беларускі пераклад яе ў “Беларускім эмігранце”. Па-за тым апавядае цікавыя весткі аб тым, як амэрыканцы заглядаюцца на беларускую справу. Трымаючыся афіцыяльна дыпляматычных зносінаў з СССР, амэрыканцы афіцыяльна не ангажуюцца ў ніякія спэцыяльныя зьвязкі зь беларускаю эміграцыяю і ўрадам БНР, але ў сапраўднасьці вельмі цікавяцца беларускім пытаньнем. Відаць, што весткі [Міколы] Абрамчыка ў гэтай справе адказваюць праўдзе, бо ад некаторага часу амэрыканскія бібліятэкі атакуюць беларускія выдавецтвы на эміграцыі, каб прысылалі ім усе беларускія выданьні. У рэдакцыі “Божым Шляхам” ёсьць так-жа некалькі такіх лістоў.

Сьвежы нумар “Божым Шляхам” толькі цяпер рыхтую да друку.

На гэтым тымчасам канчаю і шлю шчырае прывітаньне.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 18.V.51

Паважаны Янка!

Шчыра дзякую за ліст і цікавыя весткі — дрэнна, што яны сумныя, але, здаецца, цяпер усюды балаган у грамадзкім жыцьці, што цешыцца няма чым. У жыцьці БАПЦ дык здаецца і ў самым пачатку было ня лепш, а цяпер яшчэ пагоршылася. З Амэрыкі даходзяць весткі, што зарубежнікі думаюць тварыць сваю БАПЦ, а на япіскапа пляную нейкага прайдзісьвета, які напэўна славы для царквы ня прынясе.

“Божым Шляхам” сёлета вышла ўжо два нумары, апошні разаслаў у мінулым тыдні і на ўсякі выпадак выслаў Вам нанава, бо [Данат] Яцкевіч піша, што так-жа яшчэ не атрымаў ніводнага сёлетняга нумару.

Цяжка апошнім часам выдаваць часапіс, бо акрамя вялікіх коштаў яшчэ далучаюцца чыста тэхнічныя цяжкасьці і вельмі мала

---

[187] Маецца на ўвазе выданьне: Stepovič, K[astuś], ks. Hołas Dušy: Padručnik žyćciapraktyki relihijnaj dla Biełarusaŭ. Vyd. IV, papraŭlenaje i dapoŭnienaje. Rym, 1949. 320 s.

[188] Маецца на ўвазе выданьне: Abramčyk, Mikola. I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R. Toronto, 1950. 36 p.

супрацоўнікаў, а пісаць абы-што ня хочацца, бо тады часапіс станецца няцікавым.

У грамадзкім жыцьці ў Парыжу асаблівых навінаў пакуль што няма, але спадзяюся, што магчыма хутка будуць. Затое з Амэрыкі паведамляюць, што [Аўген] Каханоўскі[189] цяпер адсунены ад прэм'ерства, і ўрадавыя беларускія справы даручана [Пётру] Манькоўскаму[190]. Пакуль што аб гэтых зьменах не гавораць, нават сам [Мікола] Абрамчык аб гэтым мне не казаў ні слова. Агулам ён да мяне адносіцца з "халадком", бо ня выпісваю для яго пахвальных артыкулаў. Іншыя чамусьці так-жа (паводля ягонае думкі) замала яго хваляць, дык вось цяпер у сваёй газэце "За волю" пачаў сам сябе хваліць.

У арганізацыйным беларускім жыцьці Францыі ўсё прадаўжаецца зацішша, бо і далей беларусы з Францыі стараюцца куды-небудзь выехаць. Зборкі цяпер адбываюцца вельмі рэдка, і прыходзіць на іх мала хто. Да таго вуліца і віно ўжо зрабілі паважны руйнуючы ўплыў на шматлікіх, супрацьдзеяць гэтаму руйнуючаму ўплыву няма амаль ніякае магчымасьці. Гэта вельмі сумны факт, і шмат хто з нашых дзеячоў баіцца глянуць яму ў вочы, а займаюцца толькі тым, што таўкуць ваду ў ступе з сваімі рознымі "партыямі" і "кірункамі", а за гэтымі партыямі ўжо не астаецца нікога, акрамя пабітых кілішкаў і балагану.

Шчыра дзякую Вам за фунт — скарыстаю яго на Фонд Добрае Кніжкі — думаю выдаць сёлета летам кніжку аб Алькагалізьме[191].

Шлю Вам і ўсёй Вашай сям'і шчырае прывітаньне.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 30.X.1951

Паважаны Янка!

Ліст Ваш атрымаў тыдзень таму, якраз як канчаў рыхтаваць матэрыял да чарговага нумару "Божым Шляхам". Цяпер Вось, аддаўшы матэрыял у друк, павольі адказваю на залёглыя лісты.

Відаць, што цяпер усюды беларускае грамадзкае жыцьцё перажывае нейкае зацішша. У Францыі гэта адчуваецца яшчэ больш, як у Аўстраліі, бо ў нас ад вясны ня было нават ніводнае зборкі.

[189] **Аўген Каханоўскі** (да эмігр. **Калубовіч**, 1912—1987), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык. Удзельнік аднаўленьня Рады БНР на эміграцыі. З 1948 г. быў кіраўніком ураду БНР. З 1950 г. жыў у ЗША.

[190] **Пётра Манькоўскі** (1916—2002), грамадзкі дзеяч, публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўнівэрсытэтах Вільні, Мюнхэну, Нью-Ёрку. Радны БНР, быў кіраўніком ураду БНР.

[191] Кніга ня выяўленая.

Газэта “За волю” агулам [мала] мае сымпатыкаў, а да таго там у рэдакцыі такі разлад, што вось нядаўна выйшаў Нр. 7 і, здаецца, гэта ўжо будзе апошні[192]. Няма там каму пісаць, а калі напіша што [Мікола] Абрамчык, дык ведама, толькі аб сабе. Што друк сьляпы, дык гэта так працуе рэклямаваная [Уладзімерам] Шыманцом “беларуская друкарня” — выдалі дарма грошы і толькі скампрамэтаваліся і на дадатак яшчэ пасварыліся, цяпер [Уладзімер] Шыманец з [Міколам] Абрамчыкам у нязгодзе, якраз за друкарню і газэты...

Аб выхадзе [Юркі] Віцьбіча ад зарубежнікаў чуў даўно — ён мне час ад часу прысылае лісты і нават некаторыя копіі сваіх лістоў да БЦР проста для архіву і гісторыі, яшчэ ў яго беларускае сумленьне моцнае, і таму ня хоча, каб яго імя было сплямлена. Часам прысылае свае крытычныя заўвагі на некаторыя артыкулы ў “Божым Шляхам”, але агулам даволі рачовыя і спакойныя.

Аб [Івану] Ермачэнку нешта нічога ня чуў. Цяпер паехаў у ЗША і Канаду [Мікола] Абрамчык — магчыма, даведаемся хутка аб некаторых цікавых выніках гэтага падарожжа.

Ад [Пётры] Татарыновіча я даўно ня маю ніякіх вестак, ён цяпер агулам так зашыўся, што, здаецца, ні з кім не перапісваецца, да таго летам меў апэрацыю і выежджаў у Альпы.

Ад беларусаў з Амэрыкі цяжка спадзявацца чагосьці больш актыўнага, як дагэтуль, бо адусюль даходзяць весткі, што людзі хутка амэрыканізуюцца і забываюцца аб усіх сваіх ідэалах, але пасьля гэтага выяўляецца, што ўсе наракальні на старую беларускую эміграцыю былі зусім беспадстаўнымі, бо гэная эміграцыя ў адмену ад цяперашняе, была зусім бяз інтэлігенцыі, без нацыянальнае сьведамасьці.

У мяне пакуль што ўсё па-старому.

Шчыра Вас здараўлю.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 4.VI.52

Паважаны Янка!

Сёньня атрымаў Ваш ліст і фунт — шчыра дзякую. [...]

Вы вельмі трапна заўважаеце, што ў сваёй пісаніне [Мікола] Абрамчык мае такую нотку, якая шмат у каго завострывае і выклікае розныя засьцярогі. Пры тым характэрна, што ён да гэтага часу ні разу ня выказаўся за палагоджаньне маленькіх канфліктаў, якія паўставалі на эміграцыі, але заўсёды стараецца іх разьдзьмухваць. Тут, здаецца,

[192] № 7 за 15 кастрычніка 1951 г. сапраўды стаў апошнім нумарам газэты “За Волю”.

і ёсьць тая прычына, чаму да яго дзейнасьці не адзін нават зь яго прыхільнікаў адносіцца з засьцярогаю. У Парыжу, напрыклад, дык сэктар Рады БНР у сапраўднасьці раскіданы зусім, і ад мінулага году ня было ніякае зборкі і, здаецца, ня будзе, бо няма з каго тварыць новага сэктару, а стары не пайшоў па лініі, жаданай [Міколам] Абрамчыкам. Я асабіста туды не належаў і не належу.

"Божым Шляхам" сёлета высылаю беспасярэдня на Ваш адрас. Цяпер якраз рэдагую ўжо трэці з чаргі сёлетні нумар. Заўважваю, што з кожным нумарам праца йдзе штораз цяжэй, бо чуюся моцна перапрацаваным, і няма калі супачыць. Акрамя рэдакцыйнае працы заўсёды далучаецца цэлая куча розных іншых дробных справаў, якія прыходзіцца палагоджваць у першую чаргу. Памоцнікаў у працы няма ў Парыжу, і таму ўсе нават чыста тэхнічныя справы прыходзіцца рабіць самому.

Я спадзяваўся ў канцы мінулага году выдаць другі раз "Беларусь у датах, ліках і фактах", але і цяпер не магу ўзяцца за выданьне, бо проста няма часу. Праўда, матэрыял зьбіраецца амаль штодзённа, дык ад гэтага выданьне не пацярпіць, калі зь ім пачакаць яшчэ нейкі час, але патрэба гэта кніжкі ўсюды адчуваецца вельмі пякуча. У наступным тыдні выйдзе невялікая карта Беларусі, прышлю яе Вам разам зь сьвежым нумарам часапісу.

У грамадзкім жыцьці беларускае калёніі ў Парыжу, дык у гэтую нядзелю яшчэ мае быць зборка, а там ужо пачнецца летні час вакацыяў, а зь ім перапынак аж да восені. Мне асабіста, аднак, ніякага вакансу няма.

Шлю Вам сардэчнае прывітаньне.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 4.II.53

Паважаны Янка!

Адказваю адразу на два Вашыя лісты — выбачце за такую неакуратнасьць у карэспандэнцыі. Апошнім часам не магу справіцца выканаць усё на свой час. Вось амаль месяц быў заняты другім выданьнем "Беларусь у датах, ліках і фактах" — цяпер яе круцяць на ратататары, а я карыстаю з хвіліны часу, каб адказаць на залёглыя лісты.

Што апошнім часам беларуская прэса набрала супрацькаталіцкага характару, гэта ня ёсьць выпадковым зьявішчам. На жаль, да гэтага паважна прычыніліся нашы кіраўнікі, штопраўда, выкарысталі да гэтага некаторыя нятакты з нашага боку. Ува ўсім гэтым ёсьць адна вельмі прыкрая прычына, бо палітычныя кіраўнікі былі заеліся падпарадкаваць сабе ўсё рэлігійнае жыцьцё, зачапіліся за "Рунь", зажадалі

падпарадкаваць Лювэнскаму ЦБАА[193] — гэта значыць [Барысу] Рагулі, а зажадаў гэтага [Мікола] Абрамчык. "Рунь" адмовіла падпарадкаваньне, заяўляючы аб сваёй заўсёднай гатоўнасьці да супрацоўніцтва. Ад гэтага і пайшло. Ужо колькі раз [Мікола] Абрамчык мне пагражаў, дакараў і то ў такі наіўны спосаб, што зусім не дзіўлюся, калі іншыя зь ім ня могуць дайсьці да ладу. Ён выразна сказаць ня хоча таго, чаго хоча, а ўсё нешта не дагаворвае. Быў ён у Лёндане, меў доўгую гутарку з а. [Чаславам] Сіповічам і зноў-жа ў гэткі самы спосаб. Мне часам незразумела, а часам сапраўды дзіўна, як вядуцца нашы грамадзкія справы. Цяпер у Парыжы сэктар Рады БНР зусім ня дзейнічае. Я туды ніколі не належаў, а цяпер ад году [Уладзімер] Шыманец пасварыўся з [Міколам] Абрамчыкам, ад некаторага часу пасварыўся так-жа [Аляксандар] Яцэвіч, [Лявон] Рыдлеўскі зусім сьпіўся, асталося ў Радзе толькі двох хлапцоў, але і яны незадаволеныя, бо ў сапраўднасьці нічога ня ведаюць, што ў іх імені робіцца. Словам, балаган і неразьбярыха.

Тут у Парыжы была спроба заснаваць беларускі праваслаўны прыход, але настаяцелем гэтага прыходу мае быць [Уладзімер] Фінькоўскі, які жыве ў Парыжу ад 1945 г. і няма ведама, чым займаецца. Мінулае і сучаснае гэтага чалавека даволі чорнае. Цяпер [Мікола] Абрамчык пабачыў, што гэта скандальная справа, і стараецца яе неяк прыцішыць, але [Уладзімер] Фінкоўскі зьнюхаўся з сабе падобнымі людзьмі з-пад цёмнае зоркі і з помаччу ўкраінцаў "нешта" пачынае рабіць. Пішу Вам аб гэтым усім толькі для асабістага ведама.

У мяне асабіста пакуль што ніякіх асаблівых вестак няма.

Здаецца, што чарговы нумар "Божым Шляхам" выйдзе з большым як звычайна апазьненьнем, бо толькі цяпер пачну рыхтаваць матэрыял. Але ў гэтым нумары будзе падана вестка, што Я[го] Э[ксцэленцыя Баляслаў] Слосканс назначаны Апостальскім Візытатарам для беларусаў-каталікоў у Заходняй Эўропе, бяз Італіі. Хоць невялікае гэта асягненьне, але ўсё-ж нешта ёсьць. Цяпер будзем старацца, каб асягнуць больш. Спадзяёмся, што да гэтага будзе нагода летам падчас чарговага Тыдня Студыяў у Лёндане. Калі нешта робіцца, дык тады і дамагацца магчыма.

Маю так-жа ўражаньне, што [Мікола] Скабей[194] гаварыў Вам не ад сябе, але тое, што яму іншыя сказалі — добра ведаць, што гавораць.

---

193 Маецца на ўвазе **Цэнтраля беларускіх акадэміцкіх арганізацый (ЦБАА)**, што была спадкаемцай Цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне (ЦБСА), заснаванай у 1946 г. з мэтамі абароны правоў беларускіх студэнтаў, фінансавай дапамогі пры паступленні ва ўнівэрсытэты, каардынацыі студэнцкага руху.

194 **Мікола Скабей** (1905—1992), грамадзкі дзеяч. З 1948 г. жыў у Аўстраліі. Узначальваў сэктар Рады БНР у штаце Вікторыя. У 1950-х — кіраўнік Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі.

Шлю Вам шчырае прывітаньне.
Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 22.IV.54

Паважаны Янка!

Шчыра дзякую за весткі, за грошы і асабліва за сьвяточны прывет. Наўзаем жадаю Вам ад уваскросшага Хрыста ўсяго найлепшага.

З "Бацькаўшчынаю" справа стаіць няважна, бо ёю кіруе ня так сам рэдактар [Станіслаў] Станкевіч[195], але той, хто яе фінансуе, гэта значыць Барыс Рагуля, і здаецца, што ён пісаў пад псэўданімам Грынева[196]. А яго ў сваю чаргу напампоўвае а. [Аўген] Смаршчок, і то як на бяду ён усю сваю асьвету бярэ зь бязглуздае і часам агіднае плюгавае супрацькаталіцкае ўкраінскае "праваслаўнае" прапаганды. Як гэта ні трагічна, але, на жаль, рэальна — Лювэн цяпер зьяўляецца беларускім супрацькаталіцкім цэнтрам тут-жа пад бокам каталіцкага цэнтру і ўтрымоўваецца, прынамся пасрэдна, з дапамогаю каталікоў. Думаю, што каб а. [Аўген] Смаршчок чуўся на вышыні свайго сьвятарскага пакліканьня, дык-бы паводзіўся іначай, а то што-ж чалавек бяз духоўнае асьветы, бязь ніякага духовага жыцьця, тым толькі і выяўляе сваю "праваслаўнасьць", што паказвае і прышчэплівае супрацькаталіцкае настаўленьне. Праўда, наўзьверх ён стараецца быць карэктным і, напрыклад, са мною нават часам перапісваецца, але-ж шыла ў мяшку не схаваеш, і настрой заўсёды пры нагодзе выяўляецца.

Але шмат горш як з "Бацькаўшчынаю" сталася ў Амэрыцы зь "Ведаю"[197]. Там [Антон] Адамовіч выдаў зборнік вершаў [Уладзімера] Жылкі і ў ім надрукаваў два зусім бязбожныя вершы. У Амэрыцы ўжо з гэтым пачаўся скандал, бо яп[іскап] Тамашчык забараніў вернікам трымаць гэты зборнік і добра зрабіў. Вернікі папалілі той зборнік, і калі Янка Станкевіч прабаваў прадаваць тую кніжку на адной зборцы, дык чуць не дайшло да бойкі. Сюды да Эўропы яшчэ той зборнік не дайшоў.

---

[195] **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-палітычны дзеяч, навуковец, выдавец. У 1949—1962 гг. — рэдактар газэты "Бацькаўшчына" (Мюнхэн), у 1962—1980 гг. — газэты "Беларус" (Нью-Ёрк).

[196] Маюцца на ўвазе публікацыі: Грынёў, Б. Апостальскае Пасланьне да "Народаў Расеі" // Бацькаўшчына. № 47—48 (126—127). 30 лістапада 1952. С. 4; Грынёў, С. "Нятрапны выбар" // Бацькаўшчына. № 45 (176). 15 лістапада 1953. С. 1, 3; Грынёў, С. Усё-ж нятрапны выбар // Бацькаўшчына. № 7 (189). 14 лютага 1954. С. 2—3.

[197] **"Веда"** — навукова-літаратурны часопіс, орган Крывіцкага (беларускага) навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. Выдавец Янка Станкевіч. Выходзіў у 1951—1954 і 1973—1975 гг.

Я асабіста атрымаў яго толькі пазаўчора, і трэба будзе так-жа заняць адпаведную пазыцыю.

Расейскіх амэрыканскіх газэтаў я ня маю магчымасьці чытаць, бо сюды яны рэдка даходзяць, і даставаць іх клапатліва, дык калі-б Вы маглі прыслаць *"Русское обозрение"* з артыкулам аб Беларусі, быў-бы Вам вельмі ўдзячны.

Ужо вярнуўся ў Парыж [Мікола] Абрамчык, і я пару дзён таму гаварыў зь ім аб амэрыканскіх справах. Аказваецца, там палажэньне было чуць не катастрафальным. Былі ўсе так перасвараныя між сабою, што не хацелі зусім нічога рабіць. Ня дзіўлюся, што ня прыйшлі [на] зборку, якую ладзіў а. [Міхал] Урбановіч[198], бо чаму ён не арганізуе парахвіі, а займаецца ліха ведама чым. Хай зачынае ад таго, што найважнейшае, тады і зборкі будзе магчы ладзіць. Хай ён перш сам навучыцца выконваць свае сьвятарскія абавязкі адносна народу, а тады ўжо зможа і аб абавязках вернікаў адносна іншых справаў гаварыць. Вось а. [Францішак] Чарняўскі, калі меў шчырае жаданьне служыць між суродзічаў, дык яго асягнуў, і хоць мае цяжкасьці, але добра працуе ў Бэльгіі.

Вось з Мадрыду апошнім часам прыходзяць радасныя весткі. Там дзеці распачалі малітвы за прасьледаваную Царкву пад саветамі. Кожная дыяцэзія моліцца за адну краіну. За Беларусь моляцца ў дыяцэзіі Мондонэдо — распачалі ў горадзе Фэрроль. З Францыі ім беларусы выслалі падзяку.

Тымчасам бывайце, Ваш [Леў Гарошка]

5.V.58
*Chicago*

Дарагі Айцец!

Да гэтага часу не магу дапытаць дэкляраваных Вам нумароў "Беларуская Царква"[199], у каго ня пытаў, то або ня маюць, або абяцаюць пашукаць, а пакуль што ня маю.

Ужо, магчыма, маеце весткі пра акадэмію 25 сакавіка ў Чыкаго, але коратка паведамлю. Ладзілі акадэмію супольна "крывічы" і "зарубежнікі". Акадэмія адбылася 30 сакавіка ў памешканьні ўкраінскага

---

198 **Міхал Урбановіч** (1890—1973), каталіцкі сьвятар. У 1922 г. уступіў у ордэн марыянаў. У 1924 г. выехаў у ЗША. Выкладаў у каталіцкай сэмінарыі каля Чыкага. Ва Ўнівэрсытэце імя І. Лаёлы абараніў магістэрскую дысэртацыю па багаслоўі. У 1926 г. прыняў манаства. Служыў у касьцёле Вострабрамскай Божай Маці ў Чыкага. Дзякуючы веданьню літоўскай мовы шмат працаваў для мясцовых летувісаў. Быў знаёмы зь Янам Тарасэвічам, удзельнічаў у жыцьці беларускай грамады ў Чыкага.

199 **"Беларуская Царква"** — рэлігійны часопіс, што выходзіў у Чыкага ў 1956—1965 гг. пад рэдакцыяй Вацлава Пануцэвіча.

“СУМ”[200]. Адкрыў акадэмію А[нтон] Беленіс, на пачатку на прапанову а. І[вана] Тарасэвіча прысутныя голасна адгаварылі малітву “Ойча Наш”. Сп. [Васіль] Пунтус[201] прачытаў, ад каго атрыманы прывітаньні, а [Радаслава] Астроўскага цэлае пасланьне да афіцэраў і жаўнераў прачытаў ад а да зэт. [Мікола] Латушкін як рэфэрат прачытаў, што было зьмешчана ў “Беларускае Слова”[202] на 25 сакавіка. [Вера] Жызьнеўская[203] ў ангельскай мове коратка, але зьмястоўна перадала аб падзеях на Беларусі перад 25 сакавіка 1918 г., аб самым акце і пазьней. Пасьля адбыліся выступы хору дзяцей беларускае школы ў Чыкага, беларускага хору старэйшых, салістак [Надзеі] Градэ[204] і [Паліны] Мартыновіч[205], а такжа дэклямацыі вершаў вучня беларускае школы Брушкевіча і старэйшыя Сідаровіча і Новік. Вучаніца беларускае школы Пануцэвічышка іграла на піяно. Душою мастацкай часткі быў кампазытар [Мікола] Куліковіч, і ўсё адбылося даволі ўдачна. Акадэмію ўшанаваў прысутнасьцю апаж Бэнэдыктынаў, відаць было, што ён хацеў прывітаць са сцэны беларусаў, але “зарубежнікі” запратэставалі і не запрасілі яго на сцэну. Мая дачка як загадчыца беларускае школы прыгатовілася выступаць з заклікам да бацькоў, каб пасылалі дзяцей у беларускую школу, і тут зарубежнікі супраць сталі, і прыйшлося ёй адмовіцца. Яны нат супраціўляліся, каб прамаўляла [Вера] Жызьнеўская, але гэтая энэргічная і выступіла з прамоваю. Апаж Бэнэдыктынаў вялікі наш дабрадзецяль, ён плаціць 160 даляраў месячна [Міколу] Куліковічу за кіраўніцтва нашым царкоўным хорам, дзякуючы яму ў першую чаргу маем, дзе зьбірацца што нядзелі і ў сьвяты на Багаслужэньне, на кошт бэнэдыктынаў прывозяць і адвозяць дадому з школы беларускае

[200] **Саюз украінскай моладзі** (укр. *Спілка української молоді*) — грамадзкая арганізацыя, створаная ў 1925 г. Аднавіла сваю дзейнасьць пасьля Другой сусьветнай вайны на эміграцыі.

[201] **Васіль Пунтус** — удзельнік беларускай грамады ў Чыкага.

[202] **“Беларускае Слова”** — газэта прыхільнікаў БЦР, якая выдавалася ў 1948—1958 гг. пасьлядоўна ў Нямеччыне й ЗША. Выйшла 39 нумароў. Рэдактарамі былі Аляксандар Русак, Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі.

[203] **Вера Жызьнеўская** (у шлюбе **Рамук**, 1931—2010), грамадзкая дзяячка, жонка Вітаўта Рамука. У 1949 г. прыехала ў ЗША. Пасьля нядоўгага побыту ў Нью-Ёрку перабралася ў горад Пэорыя (штат Іліной). Закончыла мясцовы ўнівэрсытэт. У 1956 г. пабралася шлюбам з В. Рамуком. З 1963 г. жыла ў Чыкага. Была актыўнай дзяячкай мясцовай беларускай грамады.

[204] **Надзея Градэ** (1912—1984), опэрная сьпявачка, другая жонка Міколы Куліковіча. У паваенны час жыла ў ЗША, найбольш у Чыкага, займалася актыўнай канцэртнай дзейнасьцю.

[205] **Паліна Мартыновіч** (?—?), удзельніца беларускай грамады ў Чыкага, спявала на беларускіх і ўкраінскіх імпрэзах.

дзяцей. Беларускую школу наведваюць стала 16 дзяцей, але ёсьць тут многа больш беларускіх дзетак. Староньнікі [Радаслава] Астроўскага сваіх дзяцей не пускаюць з тае прычыны, што настаўніцы каталічкі, школа месціцца ў салі каталіцкага жаночага манастыра, ну і што апаж бэнэдыктынаў дапамагае беларускай школе. На Вялікдзень старога стылю ў нашай царкве вельмі ўрачыста правілася багаслужба Ўсяночная. Правілі чатэры сьвятары, а. [Іван] Тарасэвіч і 3 айцы-бэнэдыктыны ўсходняга абраду: славенец, чэх і ірляндзец. Хадзілі з працэсіяю, а евангельлю чыталі па-беларускі, грэцкі, лацінскі і ангельскі. Прысутных беларусаў было штосьь пад 60 асобаў, у тым значны лік моладзі, і 14 манашак-амэрыканак.

Якраз на Вялікдзень прыехаў у Чыкаго а. [Уладзімер] Фінкоўскі, каторы жыве [ў] староньніка [Радаслава] Астроўскага — нейкага [Кастуся] Новіка. Тут ёсьць так званы "дзікі" епіскап Грыгоры[206], пэўна, ведаеця, каторы ні то расеец, ні то ўкраінец, але не прызнае нікога, не належыць да аўтакефалістых, не да зарубежнікаў і не да грэкаў. Вось усе і [Уладзімер] Фінкоўскі мусіць такі і правіць Багаслужэньне ў царкве гэтага еп[іскапа] Грыгора. Нашые зарубежнікі [Радаслава] Астроўскага ходзяць туды. Гэты а. [Уладзімер] Фінкоўскі Вам павінен быць ведамы з Парыжа. Што гэта за асоба, добра было б ведаць, бо ў нашых ёсьць намер спрабаваць прыцягнуць яго на наш бок. Ці варта?

Хіба ж збольшага аб усім у Чыкаго напісаў. Больш нічога няма годнага ўвагі. У *USA* с каждым тыднем збольшаве лік безработных, у маей сям'і — зяць М[іхась] Махнач[207] ужэ два тыдні як безработны, ну а мне і рэшце маіх сямейнікаў безрабоцьце яшчэ не пагражае.

Скарэй бы да нас у Чыкаго завітаў а. [Уладзімер] Тарасевіч малодшы, толькі не заўсім добра, што ён як законьнік больш будзе належаць да манастыра, як да нас.

Будзьце здаровы, Ваш Я[нка] Чэрнецкі

Яшчэ адна навіна.

Усім р-каталіком нейкаю ініцыятыўнаю групаю разасланы ў *USA*, а магчыма і другіх Амэрыканскіх гаспадарствах разасланы заклік складаць грашовые ахвяры на каталіцкі-рымскі часапіс, каторы мае быцца скора выдавацца падназовам *"Siaubit"*. Першымі каторых прозьвішчы зьмешчаны ў заклiку, што забавязаліся штомесячна даваць ахвяры, гэта а. Ф[ранцішак] Чарняўскі 25 даляраў, доктар St[anislau] Hrynkevich 5 і яшчэ мне незнаёмые трох. Па тэрміналогіі відаць, што гэты заклік

---

[206] Маецца на ўвазе **Рыгор** (сьвецк. укр. *Григорій Огійчук*, 1893—1985), украінскі рэлігійны дзеяч, мітрапаліт Саборнапраўнай украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

[207] **Міхась Махнач** (1917—1996), грамадзкі дзеяч, муж Ванды Махнач, актыўны ўдзельнік беларускага жыцьця ў Чыкага.

пісаў Янка Станкевіч. Даволі дзіўна: у закліку пішуць, што на эміграцыі нічога лацінкаю не выдавалася і не выдаецца, а што *"Znic"* ужо дзявяты год выдаецца, то ініцыятары не ўспамінаюць. З гэтага ўсяго відаць, Янка Станкевіч спадзяецца пры дапамозе а. [Францішка] Чарняўскага нешта сваё выдаваць, а з гэтага выйдзя што-нябудзя *"Znic"* і ня будзя, бо няўтрымаецца і *"Siaubit"*.

Я[нка] Ч[арнэцкі]

Парыж, 28.V.58

Паважаны Янка!

Шчыра дзякую за весткі аб беларускім жыцьці ў Чыкага. Калі нельга дастаць старэйшых нумароў "Беларускае царквы", дык нічога ня зробіш, і ня варта гэтым турбавацца. Добра, што цяпер атрымоўваю гэты часапіс.

Аб а. [Уладзімеры] Фінкоўскім давялося мне пачуць шмат чаго, але ўсё гэта такое, што і пісаць аб ім нельга. Коратка можна сказаць — гэта такая маральная дрэнь, такая гадасьць, што не давядзі Бога сустракацца зь ім. Тое, што аб ім піша [Іван] Касяк у сваёй кніжцы, ёсьць праўдаю — здаецца. Адзіная праўдзівая інфармацыя, якая там ёсьць. Думаю, што ён там у Амэрыцы хутка пакажа сваё аблічча, бо дзе быў да гэтага часу: у Менску, Варшаве, уласаўскай арміі, у Парыжы — усюды вырабляў карыгодныя выбрыкі.

Нядаўна я атрымаў "Сяўбіта", аб якім вы ўспамінаеце ў апошнім лісьце. Прыкра, што а. [Францішак] Чарняўскі заняўся такою "творчасьцю" і ня хоча нікога слухаць. Яму ўжо перш раіў а. [Часлаў] Сіповіч заняцца чым іншым, больш карысным, але чамусьці не паслухаўся. Тут, у Парыжу, хто толькі пабачыў гэты часапіс, усе зьдзіўлены, што такое выдавецтва зьявілася. Праўда, перш ён выдаваў у Лювэне "Слова Божае"[208], якое так-жа мела шмат сваіх недахопаў, хоць тады [Аляксей] Арэшка[209] стараўся рабіць крыху карэктуру, а цяпер дык зьявілася яшчэ нешта горшае за "Слова Божае". Крытыка [Вацлава] Пануцэвіча[210]

---

[208] **"Słova Božaje" = "Božaje Słova" = "La Parole Divine"** — перыёдык, які выходзіў у Бэльгіі ў 1954—1957 гг. пад рэдакцыяй а. Ф. Чарняўскага. Выйшла 176 нумароў.

[209] **Аляксей Арэшка** (нар. 1923), хімік, фармацэўт, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Мюнхэне ва ўнівэрсытэце УНРРА, дзе стаў адным з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртаваньня, удзельнічаў у выданьні "Студэнцкай Думкі" (пазьней перайменаванай у "Крывіцкі Сьветач"). У 1947 г. паступіў ва ўнівэрсытэт у Марбургу, адтуль перабраўся ў Лювэнскі ўнівэрсытэт (Бэльгія), дзе вучыўся на хімічным факультэце. Актыўны сябра Саюзу беларусаў Бэльгіі.

[210] **Вацлаў Пануцэвіч** (сапр. **Папуцэвіч**, 1911—1991), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. З 1949 г. жыў у Чыкага, выдаваў шэраг рэлігійна-гістарычных часопісаў.

ў “Бацькаўшчыне”, на жаль, зусім слушная. Ня ведаю толькі, як яе прыйме а. [Францішак] Чарняўскі.

У Парыжы заўтра чакаем [Міколу] Абрамчыка, зь якімі навінамі вернецца.

Аб тым, што цяпер дзеецца ў Парыжу[211], вы напэўна ведаеце і з газэтаў і з радыя. Здаецца, што ўсюды пішуць і гавораць шмат больш, чым тут ёсьць на самай справе. Тымчасам спрачаюцца толькі ў палаце дэпутатаў ды ў Альжыры, а на вуліцах амаль зусім што спакойна. І ёсьць усе падставы спадзявацца, што гэты крызыс кончыцца безь вялікіх забурэньняў.

Шлю вам шчырае прывітаньне.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

## Айцец Францішак Чарняўскі

*Францішак Чарняўскі (03.11.1893, в. Чухны Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.05.1979, Амстэрдам, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец, дзядзька беларускага сьвятара а. Уладыслава Чарняўскага. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. У 1920 г. атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні. У 1924—1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім грыгарыянскім унівэрсытэце й Усходнім інстытуце. З 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бэльгію, у 1953—1955 гг. — у кляштары бэнэдыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь “Божае слова”. У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс “Сяўбіт”.*

Парыж, 30.VIII.58

Дарагі,

не адказаў я на папярэдні ліст, а нядаўна атрымаў зноў ліст і Нр. 3 “Сеўбіта”. Цяжка адказваць на такія лісты, а яшчэ цяжэй чытаць такія “часапісы”. Чаму так? Ды проста таму, што гэткі часапіс ня толькі ня прыносіць ніякае карысьці для каталіцкае справы між беларусаў, але яшчэ выстаўляе нас усім на сьмех і на кпіны.

Хто ня ведае дзівачных круцігалоўстваў Янкі Станкевіча?! Калі ён робіць нешта ў сваім імені, дык ягоную дзейнасьць так і ўспрымаюць, як *“наўчонае круцельства”*, але калі гэтае недарэчнае безгалоўе лезе ў касьцёльныя справы, дык што можа быць горшага???

---

[211] Маецца на ўвазе палітычны крызіс у Францыі, зьвязаны з вайной у Алжыры.


Айцец Францішак Чарняўскі

На міласьць Бога заклінаю цябе, кінь ты ўсякую хэўру зь Янкам Станкевічам і накіруй лепей сваю дзейнасьць у тым кірунку, у якім табе раіў а. [Часлаў] Сіповіч. Калі ёсьць яшчэ жменька беларусаў-каталікоў, дык не дапамагай Янку [Станкевічу] разганяць яе.

Гэтыя некалькі лістоў нібы з "пахвальнымі" водзывамі аб "Сеўбіце", якія да гэтага часу атрымаў, дык іх трымай ты асабіста, бо цябе ведаюць як добрага сьвятара і шчырага беларуса, а не як рэдактара.

Нядаўна я вярнуўся зь Нямеччыны. Там і ў Мюнхэне, і ў Кэнігштайне і канфэрэнцыі і кангрэсы прайшлі вельмі добра. Сёлета ў Кэнігштайне наша моладзь зрабіла такую рэкляму для беларусаў, што ніякія выступы гэтага не даканалі-б. Дакладнейшая справаздача павінна зьявіцца ў "Бацькаўшчыне". Цяпер рыхтуемся для паломніцтва ў Люрд на міжнародны Марыйскі Кангрэс між 14—17 верасьня. А пасьля будзем рыхтавацца да вялікіх пераменаў.

Яшчэ раз прашу, паслухай мае просьбы.

Твой у Хрысьце

[Леў Гарошка]

10.9.1958

Дарагі,

ліст Твой із 30.08.1958 атрымаў. Не на ўсё з Табой згаджаюся. Згаджаюся, што зь мяне не вялікі рэдактар, але не залічаю да вялікіх і банкрутуючых рэдактараў. Думку сарганізаваньня каля *New Yorku* свайго каталіцкага падаваў і я а. [Чаславу] Сіповічу і абецаў купіць, але не ў самым месьце. Рэалізацыю гэтага плану астаўляю Вам.

Што да выдавецтва. Аб патрэбе гэтага выдавецтва большасьць выказалася дадатна. Знайшліся такія, раілі падтрымаць "Зьніч". Паміж ахвярадаўцамі на падтрыманьня яго прозьвішчаў ня бачыў. Паглядзі, колькі ў "Сяўбіце" ахвярадаўцаў. Яны пасьведчваюць аб падтрымцы яго.

Аб беларускай пісоўні некалі задацыдуе свой унівэрсытэт на чале зь філолагамі. Між такімі ёсьць сп. Янка Станкевіч, доктар славянскай філалогіі. Кажны з рэдактароў мае нешта сваё. У сваіх часопісах не прытрымліваюцца правапісаў ні Тарашкевіча[212], ні Лёсіка[213], ні цяпе-

[212] **Бранiслаў Тарашкевіч** (1892—1938), грамадзка-палітычны й культурна-асьветны дзеяч, аўтар "Беларускай граматыкі для школ".

[213] **Язэп Лёсік** (1883—1940), грамадзкі дзеяч, мовазнаўца й публіцыст, аўтар падручнікаў беларускай мовы.

рашніх менскіх правапісаў. Толькі асобы вельмі агранічаныя жадаюць, каб кажны пісаў так, як ён піша. Палякі ў сваіх пісоўнях да гэтага часу розьняцца. Відаць гэта ў іх газэтах, але адзін другому ня робяць закідаў, бо болей маюць у сваіх галовах алею.

Ведаю, што сп. Д-р Янка Станкевіч творыць, або выцягвае даўней ужываныя словы. Прасіў яго, каб пасьля такога слова ў дужках пісаў болей зразумелае. Асабіста я яму ўдзячны, бо мне шмат памагае і артыкуламі, і далярамі.

Што да разьбіваньня. Тут ня ведаю, каго маеш на думцы. Разьбіваць можна тое, што зарганізаванае. Беларуска-каталіцкай арганізацыі няма. Як тады яе можна разьбіваць? Ёсьць некалькі з мэтрыкі каталікі, бо іх практыкі каталіцкай ня бачыў, аднаго бясшлюбна жывучага, бо жонка засталася на бацькаўшчыне, двух, падобна, формасонаў, пару іх супрацоўнікаў. Для іх бліжэйшая аўтакефалія, бо формасоны на іх прыхільней глядзяць. Я на такіх гляджу, як на каталіцкі гной, і іх парадаў пытацца ня думаю.

Як бачыш з адрысу, я пераведзены на другую пляцоўку. Гэта польская парахвія. Мала яшчэ каго пазнаў. Арганісты з Трокаў, пару фаміліяў, Яцкевіч, Станкевіч і другія, пэўна, з нашых старон. Старэйшыя спалянізаваныя, малодшыя зангліназаваныя, бо і па-польску ня ўмеюць. Учора ўрад "касьцёльнага хору" прасілі прыйсьці на супольную вячэру. Абяцаў прыйсьці, а яны казалі, што прыйдуць па мяне. Ня прыйшлі, а пробашчу казалі, што я адказаўся. Вось бачыцца, як яны ведаюць польскую мову. Трэцяе пакаленьне не знае роднай мовы. Меў у нядзелю польскае казаньне, але ня ведаю, ці палавіна зразумела. Прыйшлі падзякаваць, але гэтыя з апошняй арганізацыі *"Kombatantow"*.

Просьбы не паслухаю. Выдавецкая супалка і ёсьць першай беларускай каталіцкай арганізацыі ў Злучаных Гаспадарствах Амэрыкі. Маральна і матэрыяльна, пакуль будзе магчыма, буду падтрымліваць.

Твой у Хрысьце Франук [Чарняўскі]

Парыж, 27.II.58

Дарагі,

дзіўны твой адказ на мой апошні ліст. Выглядае, што піша ня айцец Франук, але загневаны хлапчына. Адразу адчуваецца ўплыў Спадара[214]. Той на добрае то ня ўмее радзіць, а на ліхое дык ён усюды першы.

Дзіўна, чаму гэта ты накідаеш мне з а. Чэславам рэалізацыю нейкага "пляну" адносна арганізацыі беларускага каталіцкага жыцьця ў ЗША, а сам зноў пайшоў да палякаў [у] паншчыну. Скажы, каму-ж мае

[214] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

быць бліжэйшым на сэрцы справа арганізацыі беларускае каталіцкае парахвіі ў ЗША, як ні табе. А ты замест гэтага падрадзіўся ў парабкі выдаваць бздуры [Янкі] Станкевіча? Скажы, ці-ж гэта па-людзку і па-Божаму, ці па-сьвятарску?

Кажаш, што не зьвяртаеш увагі на тых, якія не практыкуюць, але скажы, як-жа яны будуць практыкаваць, калі няма свае парахвіі, няма ніякага цэнтру. Ці ты думаеш, што той часапіс, якога чытае ўсяго пару чалавек, — гэта сьвятарская праца? Пры тым не забывайся, што такі часапіс яшчэ адгоніць тых, якія ў сэрцы мелі прыхільнасьць да беларускіх каталіцкіх традыцыяў.

У зьвязку з тваім выдавецтвам магу табе сказаць тое, што даведаўся падчас нядаўняга міжнароднага Марыйскага Кангрэсу ў Люрдзе. Там была нашая група, хоць і ня вельмі вялікая — 17 чалавек, але і не малая і да таго з розных куткоў Эўропы. І, павер, тыя, што чыталі твой часапіс, даслоўна ўсе адзін зганілі яго. Сапраўды, аж прыкра было слухаць іхныя водзывы.

Відаць, гэта нейкая кара Божая — нас і так мала, а працы ў кожнага хоць адбаўляй, а тут прыходзіцца траціць час і грошы на непатрэбшчыну. І які гэта прыклад для вернікаў?

Прыкра, што ўсё гэта адбываецца якраз у тым часе, калі езуіты ў Рыме з Руссікума вядуць супраць нас вельмі подлую кампанію.

Твой у Хрысьце

[Леў Гарошка]

Рым, 11.2.1960

Дарагі,

перад самым пачаткам Зьезду сьвятароў 29.I выслаў табе арнаты, магчыма, што іх хутка атрымаеш. Як будзе з аплатаю мыта, ня ведаю, бо гэта справа амэрыканскага мытнага кантролю. Перасылка каштавала ўсяго 1400 лiраў. Значыць, усё разам 52 200 лiраў. Значыць, што з тых грошаў, якія прыслаў, яшчэ нават засталося 500 лiраў. Але я нічога не плаціў а. [Пётру] Татарыновічу за ўсе выдаткі, зьвязаныя з тым папскім багаславенствам, для тваіх знаёмых — гэта каштавала 1360 лiраў, крыху больш, як два даляры; вышлі іх проста а. Татарыновічу.

Наш Зьезд прайшоў вельмі добра; нават лепш, як можна было спадзявацца. Праўда, мне не пашанцавала, бо на самым пачатку зьезду прычапілася грыпа і востры бранхіт, тэмпэратура паднялася такая, што мусіў лажыцца ў ложак. Але, дзякуй Богу, на апошні дзень зьезду ўжо настолькі ачуняў, што быў на нарадах і на аўдыенцыі ў Сьвяцейшага Айца. Мэмарыял напісалі з максімальнымі дамаганьнямі, і яго падпісаў так-жа біск[уп] Слосканс. Аўдыенцыя ў Сьвяцейшага Айца была вельмі сардэчная. Ён перш гаварыў зь біскупам 25 мінут, а потым з усімі разам,

пытаючы кожнага паасобку. На заканчэньне казаў, што будзе старацца зрабіць усё магчымае, каб палепшыць нашае палажэньне. Пасьля гэтага былі ў Кангрэгацыях: Усходняй і Кансыстарыяльнай — і перадалі там копіі таго мэмарыялу, які перадалі папе. У Кангрэгацыях, як звычайна, так-жа абяцаюць дапамагчы, але адразу відаць было, што шукаюць розных “але”, каб зрабіць як найменш. Найбольшыя цяжкасьці будуць у Кансыстэраяльнай Кангрэгацыі, бо нас там найменш ведаюць. Трэба будзе пісаць яшчэ дадатковы розныя суправаджальныя тлумачэньні.

Наагул ураженьне ад Зьезду такое, што монс[эньёр] Майолі нам па шчырасьці сказаў: *“Вы зрабілі максімум таго, што маглі зрабіць”*.

На зьезьдзе было ўсіх 10 чалавек. За выняткам а. Робэрта [Тамушанскага][215] былі ўсе нашы сьвятары з Эўропы. Цяпер будзем рыхтавацца яшчэ сустрэнуцца на Міжнародным Эўхарыстычным Кангрэсе ў Мюнхэне, які адбудзецца сёлета 31.VII-7.VIII.

Я ўжо пакрыху пачынаю рыхтавацца ў дарогу. Чакаю толькі іншых, каб ехаць разам. Па дарозе затрымаюся яшчэ ў Парыжу, бо там маю дастаць ангельскую візу, і там яшчэ мая бібліятэка.

Як толькі крыху ўпарадкую мае справы зь пераездам, мушу адразу брацца ўпарадкаваць справу “Божым Шляхам” — гэта зойме нямала часу, але спадзяюся з Божаю помаччу неяк давясьці іх да толку.

Між іншым, твой ліст чыталі і паважна дыскутавалі на Зьезьдзе — вельмі добра, што яго напісаў.

Думаю, што гэта мой апошні ліст з Рыму — шлю табе шчырае прывітаньне з сталіцы Хрысьціянства.

Твой у Хрысьце

[Леў Гарошка]

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

215 **Робэрт Тамушанскі** (1940—1996), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Народжаны ў ЗША. Прыбыў у Эўропу пад апеку а. Часлава Сіповіча. З 1971 г. працаваў у Рыме ў беларускай праграме Ватыканскага радыё, з 1977 г. кіраваў гэтай праграмай.

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***
*Эміграцыйны эпісталярый*

# АЙЧЫННЫЯ “ПЭРСЫДЗКІЯ” ЛІСТЫ

**[Язэп Буко й Яўхім Скурат]**

*Я абраў гэтыя лісты, каб выпрабаваць густы публікі:*
*у маім партфэлі ёсьць багата й іншых,*
*якія я мог бы прапанаваць ёй пазьней.*

Шарль Люі дэ Мантэск’ё

*Падзеі раману Шарля Мантэск’ё адбываюцца на пачатку XVIII ст. Галоўныя героі, два барбары, Узбэк ды Рыка, пакідаюць сваю ўлюбёную бацькаўшчыну й выпраўляюцца ў падарожжа ў культурны заходні сьвет. З часам, адведаўшы па дарозе некаторыя краіны, яны трапляюць спачатку ў Італію, а потым у Францыю, Парыж і...*

*Зрэшты, як пераказаць твор, калі нават жанр яго вызначыць няпроста. Гэта — эпісталярны раман? Ці — раман-травэлёг? Мабыць, найбольш дакладна было б назваць яго травэлёгам у лістах.*

*Два героі Мантэск’ё выбраліся ў даўгую вандроўку дзеля цікаўнасьці, але з часам іхнае падарожжа набывае зусім іншы нутраны зьмест, іншую сэнсавасьць: у іх пачынае фармулявацца разуменьне ўласнай нацыянальнай самабытнасьці, розьніцы паміж сваімі й чужымі, яны параўноўваюць пакінутую бацькаўшчыну з краінай, дзе цяпер знаходзяцца. Калі адзначаюць добрае й благое ў сваім і чужым народах, часам зусім не на карысьць уласнага, у іх, тым ня менш, расьце пачуцьцё патрыятызму.*

*Свае “пэрсыдзкія” лісты будуць пісаць у сярэдзіне XX ст. і два беларусы, што апынуліся ў Францыі й Італіі. Адзін — 1906 году нараджэньня, інтэлігэнт, выпускнік Сарбоны, які мусіў выехаць пасьля заканчэньня вайны, ведамае імя для гісторыкаў нашай эміграцыі; другі ж — 1927 году нараджэньня, звычайны работнік, які прыехаў працаваць па кантракце й пра каго, акрамя гэтых лістоў, амаль нічога ня ведама.*

*Два чалавекі з розным жыцьцёвым досьведам і адукацыяй. Тым цікавей параўноўваць іхныя допісы — пра сябе, Беларусь і беларусаў, пра тубыльцаў і іхныя парадкі — у лістах да айца Лява Гарошкі. На сваю бацькаўшчыну, у адрозьненьне ад герояў Мантэск’ё, яны пісаць не маглі.*

## Язэп Буко[1]

*Nouzonville*[2], 14.9.46

Вельмі Паважаны Айцец Гарошко!

Пішу да Вас па рэкамэндацыі Вашага знаёмага Ю. А. “Сакалоўскага”, які быў маім шэфам і апякуном у працягу апошніх чатырох год і каторы неаднаразова раіў мне, каб я зьвяртаўся непасрэдна да Вас, калі хачу ўступіць у кантакт зь перадавымі, вядомымі асобамі беларускае інтэлігэнцыі ў Францыі.

На жаль, маё сёньняшняе палажэньне не дазваляе мне да Вас зьвярнуцца з прапановай дапамогі Вам, бо хаця ведаю, што тут, у Францыі, шмат зрабіць можна — не хапае толькі адпаведных кадраў, — мяне самога розныя забавязаньні трымаюць вельмі коратка. Як кажнаму работніку-чужынцу, які прыехаў у Францыю на кантракт, прыходзіцца клапаціцца аб працы, кватэры і харчаваньні больш, чым аб чымсь іншым. Пагэтаму, хаця гэта і горка прызнацца, мушу сказаць наперад, што, зьвяртаючыся да Вас, магу толькі прасіць Вашае дапамогі, перадусім парады, як выйсьці з крытычнага палажэньня.

Пагэтаму прашу выбачыць мне, калі зьвярнуся да Вас з пару пытаньнямі, зь якімі не выпадала-бы зьвяртацца ў прыватнай перапісцы першы раз.

Перадусім ходзіць мне даведацца штось бліжэйшае аб магчымасьці студыяваць тут, у Францыі. Маю закончаных восем кляс гімназыі, але, на жаль, атэстату дасьпеласьці зрабіць мне не ўдалося, бо як адзіны вучань-беларус і каталік у расейскай гімназіі я спатыкаў такія труднасьці, што змушаны быў зрэзыгнаваць і выехаць толькі з пасьведчаньнем аб закнчэньні восьмае клясы, у якім як рэзалюцыя стаіць, што магу быць дапушчаны да матуральнага экзамену. На жаль, слабае веданьне францускае мовы не дазваляе мне пакуль што рабіць гэта ў францускай школе — а рабіць мушу, і то якнайхутчэй, бо сабраны матэрыял можа паволі выветрыць з галавы або прынамсі зацерціся. У гэтай справе я пісаў да сп. інж[ынэра Лявона] Рыдлеўскага, але атрымаў вельмі агульніковыя інфармацыі. Пагэтаму зьвяртаюся да Вас з просьбаю парадзіць, калі што можаце. Таксама хацеў-бы я ведаць, ці існуе якаясь магчымасьць атрыманьня стыпэндыі, бо для мяне сяньня дальнейшае вучэньне толькі ў такім выпадку магчымае.

Перайду да другога.

Авантуры маладога вайскоўца, перажываньні і назіраньні за крыўдай і няпраўдай, якія папаўнялі душу па берагі і застаўлялі яе

---

[1] Ведама, што Язэп Буко нарадзіўся 14.04.1927 у в. Квачы.

[2] **Нузанвіль** (фр. *Nouzonville*) — камуна ў дэпартамэнце Ардэны ў паўночнай Францыі.

ўзрываецца — ня раз змушалі ўзяцца за пяро. Сабралася гэтага ўжо з паўвалізы — пераважна ў прозе. Думаю, што некаторыя рэчы маглі прыдацца — хаця-б, напрыклад, для прыкрасы крыху поснае “Моладзі”. Я, аднак, ня маю адвагі кудысь пасылаць, бо ў гэтай бязграміне літэратурны карэктар знойдзе больш памылак граматычных, чым канструкцыйных — хаця і такіх нямала. Тлумачыцца гэта тым, што лёс не дазволіў мне ні аднаго дня вучыцца ў беларускай школе — пагэтаму і ня дзіва, што іншымі мовамі валодаю лепш, чым роднай. Пагэтаму прыходзіцца думаць так, як чуецца і гаворыцца, а пісаць на аснове веданьня другіх славянскіх моваў. Іншая ўжо рэч, што прыдзецца папрасіць Вас дапамагчы дастаць граматыку беларускай мовы, зь якімі сёньня так трудна — цяпер-жа асьмельваюся спытаць Вас, ці не маглі-б Вы перагледзець некаторыя з падрыхтаваных мною для “Моладзі” рэчаў і зрабіць собскія зацёмкі што да слабых мест.

Вельмі прасіў-бы Вас не адмовіць у вышэйсказаным.

З глыбокаю пашанаю,

*J. Buko*

Жыве Беларусь!

*Nouzonville*, 8.10.48

Вельмі Паважаны Айцец Леў!

Будзе ўжо хіба тыдзень таму, як я атрымаў Вашае пісьмо, за якое Вам шчыра ўдзячны — напісаць-жа да Вас зноў, дарма, што маю яшчэ вельмі шмат балючых для мяне спраў — дагэтуль ня мог, бо сяньняшняе маё палажэньне шмат у чым мяне агранічвае: часам нават і ў марцы на пісьмо. Пакуль абслужыш сябе пасьля рабочага дня, дык спачынак ужо аказваецца не да адлажэньня — так што і пісаць можна толькі ў нядзелю або ў дні забастовак, якія тут, на жаль, даволі частыя. Сяньня, аднак, пазволю сабе патрывожыць Вас яшчэ раз, бо ані сяньняшняе міжнароднае палажэньне, ані мой век (маю ўжо 21 год) — не дазваляюць нічога адкладаць у даўгі яшчык. Тым больш што атрыманыя ад Вас інфармацыі зьяўляюцца для мяне вельмі цэннымі — яны падтрымоўваюць мяне на духу, указваючы, што шматлікае залежыць і ад мяне.

Перадусім што да францускае мовы. Яе я вывучаў на працягу трох год, але так — як у школе замежную мову вывучаецца — усяго патроху. Цяпер-жа ўжо не патрабую перакладчыка — ня толькі на вуліцы ці ў лаўках, але і ў бюро. Аднак гэта яшчэ далёка, каб слухаць выкладчыка на гэтай мове. Вось, гаворыцца, мак-конь пашла! Для майго цяперашняга атачэньня і гэтага хапае, але пачынаю сумнявацца, ці ў рабочым асяродзьдзі змагу навучыцца правільна. А калі і так, то калі?

Пагэтаму маім вялікшым жаданьнем было-б вывучаць і яе ўжо ў школе. Там-бы я быў змушаны думаць за дзесяцёх.

Між іншым, дырэкцыя польскай гімназіі ў *Les Ageux/Oise* — куды я зьвяртаўся з намерам зрэалізаваць матуральны эгзамен на правах экстэрнатара — запрапанавала мне пераехаць туды і пабыць яшчэ адзін год у апошняй клясе ліцэум. Прышлося, аднак, зрэзыгнаваць з гэтага па поваду недахопу сродкаў — там патрабуецца 1000 fr. упіснога і 4000 fr. месячна на харчаваньне, што за дзесяць месяцаў будзе 40 000 fr. мінімум. Не пад сілу.

Пазьней, у сілу неабходнасьці, каб зусім не абваўчэць, я ўступіў у супрацоўніцтва з *“Kolem Katolickiej Młodzieży Polskiej”*. Арганізацыя гэта, дзякуючы горстцы маральна выхаванай польскай моладзі, працуе тут даволі актыўна — нягледзячы на перашкоды, стаўленыя з боку мясцовых палякаў-камуністаў. Кіруе ёй і надае ідэёлёгічны напрамак адзін польскі ксёндз-дзекан, які, пазнаёміўшыся са мною, выразіў свой жаль, што мушу тут марнавацца ў асяродзьдзі, для якога, праўду сказаўшы, “канон” ці спадніца зьяўляюцца самымі актуальнымі пытаньнямі. Гэты дзекан паінфармаваў мяне аб існаваньні тут, у Парыжы, Духоўнай Сэмінарыі для палякаў, ці наагул чужынцаў, і надмяніў, што калі-б я жадаў, ён мог-бы дапамагчы мне дастацца туды.

Дакумэнт Язэпа Буко

Калі-ж, аднак, пры бліжэйшым знаёмстве аказалася, што я толькі каталік, але зусім не паляк — мала, што польскую палітыку адносна *“kresow”* гляджу не як на нясеньне Сьвятла ці Праўды нам больш культурным народам, а бяру гэта за агрэсыю імпэрыялізму — ён нечакана загаварыў аб цяжкасьцях — а пазьней і зусім перастаў цікавіцца.

Можа, як хрысьціянін ён паступіў і неўласьціва, але як патрыёта я разумею яго. Аднак каб упэўніцца, што маю думаць пра гэта, я асьмелюся спытаць Вас, можа, і Вы ведаеце штось бліжэйшае. Можа, існуе якаясь магчымасьць дастацца туды непасрэдна і бяз гэтае пратэкцыі, а калі так, то якая трэба асьвета. Што да моваў, то, на жаль, цяпер для мяне могуць быць толькі польская, нямецкая або ўкраінская выкладовымі мовамі. Расейская — знаю яе вельмі добра — хіба лепш, чымсь усе астальныя, — але ў Каталіцкай Сэмінарыі хіба не прымяняецца. Дык вось, буду Вам вельмі ўдзячны, калі зможаце даць мне якіесь інфармацыі адносна гэтага.

Вельмі шкадую, што лёс не дазволіў пабачыцца мне з Вамі асабіста, калі я ў апошніх днях жніўня пераяжджаў праз Парыж. Заходзіў, праўда, да Вас, але Вы пад той час былі па-за Парыжам. Цяпер-жа, калі я змагу прыехаць у Парыж, то не раней, як у апошніх днях гэтага месяца. А вельмі жадаў-бы пагутарыць, бо праз карэспандэнцыю гэтага зрабіць ніколі ня можна так добра.

Часапісы “Божым Шляхам” атрымаў усе. Не падзякаваў я Вам за іх толькі таму, што думаў, што іх мне высылае сп. [Лявон] Рыдлеўскі, бо Вы ня мелі майго адрасу.

Юры Аляксандравіч[3] ужо зьняўся са старога адрэсу. Пераяжджае ў Міхэльсдорф у беларускі лягер. Перасылае Вам шчырэйшыя прывітаньні.

З маіх прац пакуль што не высылаю Вам нічога, бо ведаю, што і ў Вас цесна з часам. Тым больш што калі чалавек “дазравае” з кожным днём, то і сам бачыць, дзе трэба яшчэ ўнесьці папраўкі.

Маё палажэньне тут камплікуецца яшчэ непарадкам у дакумэнтах. На маім сумленьні ляжыць сарваны кантракт на сельскую гаспадарку ў паўдзённай Францыі. Пагэтаму тут я яшчэ хіба кантрактам не зьвязаны, хаця гэта было-б можа і лепш. Цяпер паліцыя трэбуе ад мяне й майго патрона кантракту, а бюро працы такога рабіць ня хоча, цьвердзячы, што я ўжо мушу мець яго. Камісар паліцыі намікнуў мне нават аднаго разу, што зраблю лепш, калі выеду адгэтуль і дам ім пакой. Ня ведаю нават, што будзе і што рабіць. Калі прыдзецца адгэтуль выяжджаць, то хацеў-бы яшчэ спытацца, ці ёсьць якаясь магчымасьць атрымаць працу ў Парыжы.

Гэтым канчаю. Выбачце, калі вас крыху знудзіў.

З глыбокаю пашанай,

*JBuko*

Рым, 10.1.1949

Слава Ісусу Хрысту!

Дарагі Айцец Леў!

Выбачце, што толькі цяпер дабраўся Вам напісаць. Дагэтуль усё яшчэ разглядаўся ды абжываўся ў новых абставінах. Падарожжа сюды, на шчасьце, прайшло даволі добра: на другі дзень пасьля выезду а 9-й раніцы быў ужо на граніцы, дзе не рабілі ніякіх цяжкасьцяў. Перад абедам даехаў да *Torino* і там мусіў затрымацца пару гадзін, бо не было цягніка далей. Карыстаючы з нагоды, зьведаў горад, які аказаўся вельмі цікавым. Чысты, навачэсны, сымэтрычна разбудаваны — тыповы горад

[3] Відаць, маецца на ўвазе Юры Стукаліч (Юрка Віцьбіч).

стылю Мусаліняга[4]. А трэцьцяй выехаў далей і пад вечар дабраўся да *Genua*. Гэты старынны горад яшчэ цікавейшы за *Torino*. Шкадую толькі, што я яго толькі вечарам мог зьведаць. Шырокія вуліцы, запоўненыя аўтамі й мадэрнымі вітрынамі, а побач іх спускаецца ў такія вузенькія, западлыя завулкі, якім, здавалася-б, і места ў такім горадзе быць ня можа і якія мімаволі напамінаюць карыты. Гэтых “карытаў” вельмі шмат, і ў іх канцэнтруецца ўсё запраўднае працоўнае й гандлёвае жыцьцё. Усе яны заўсёды запханы народам так, што трудна прайсьці, аднак чыстата ледзь не ўзорная. Наагул я зусім іначай выбражаў сабе Італію з таго, што пра яе чуў і ведаў. Што яшчэ кідаецца ў вочы — гэта спакой і парадак, ледзь не такі, як у немцаў. У цесным завулку, запханым народам так, што трудна прайсьці, пануе ў дзесяць раз лепшы шум і крык, чым на шырокай вуліцы якогась францускага гарадка.

Дарога з *Genua* да Рыму была значна горшай. Прышлося цэлую ноч стаяць у перапоўненым вагоне — часам нават на аднэй назе, так было поўна. Нашчасьце, знайшлося пару італьянцаў, якія гаварылі па-француску. Спаць ня мог, дык прынамся не занудзіўся.

У Рым прыехаў у сераду зранку — страшэнна змучаны. *Russicum* знайшоў вельмі хутка і адразу-ж быў вельмі добра прыняты. Прыём, прызнацца, перайшоў мае спадзяваньні. У васобе рэктара я спадзяваўся спаткаць старога, строгага, засушанага езуіта, а спаткаў маладога яшчэ чалавека, які іначай і не гаворыць, як толькі з усьмешкаю. Прыём вельмі мяне падбадзёрыў.

На выклады на Ўнівэрсытэт я пайшоў у пятніцу 17.12. Адно толькі, што яшчэ дагэтуль сяджу на іх і гляджу, як баран на новыя вароты, ды лаўлю паадзінкавыя словы, якія нічога мне не гавораць. Прыдзецца вельмі шмат папрацаваць, пакуль да чагось дайду. Узяўся да працы, але лаціна ідзе штось вельмі цяжка — тым больш што ўсё раблю сам, бо няма адпаведнага наглядчыка-кіраўніка. Працы столькі, што хоць ты дзень і ноч працуй. Прышлося ўзяцца за простае зазубрываньне, а пагэтаму прагрэсу зусім ня відна.

Я паступіў на трохгадовы курс філёзофіі, хаця ёсьць і двухгадовы. Адно толькі дрэнна, што прынялі мяне толькі як надзвычайнага слухача, бо не хапае матуры і, аказваецца, тут яе зрабіць нельга. Безь яе-ж, як бачу, мне шмат дзе яшчэ прыдзецца спатыкацца зь цяжкасьцямі. Пагэтаму я вырашыў яе як-колечы ды зрабіць — ня ведаю толькі, як. Думаю, найлепш будзе, калі зьвяжуся зноў з тэй польскай гімназыяй каля Парыжа, да якой я раней пісаў, падгатуюся і за нейкі час прыеду на “экстэрна”. У аснаўным рэктар згаджаецца. Што Вы скажаце на гэта?

[4] **Бэніта Мусаліні** (іт. *Benito Mussolini*, 1883—1945), італьянскі палітык, лідар фашысцкай партыі. Узначальваў Італію ў 1922—1943 гг., меў дыктатарскую ўладу.

Пад паглядам дысцыпліны наша Калегія вельмі свабодная і нават, на мой пагляд, крыху кульгае. Падтрымоўваецца яна, дысцыпліна, тут ня рэктарам, а ініцыятывай саміх сэмінарыстаў. Гэта вялікі плюс з аднаго боку — што-ж, калі ня ўсе адпаведна да гэтага падрыхтаваны. Наш [Уладзіслаў] Рыжы-Рыскі, напрыклад, прычыняе тут шмат непатрэбных турбот усім сваімі рэфарматарскімі здольнасьцямі і гарачкай у незаўсёды адпаведным напрамку. Ён мой сваяк, але пасьля пяці год як я зь ім не бачыўся, я не магу часта яго пазнаць. Лезе ўсюды напралом і гэтым шмат дзе шкодзіць. Дамагаецца — хаця й слушна часам — таго, чаго нам яшчэ даць ня могуць ня толькі ў інстытуцыі, прызначанай для расейцаў, але наагул нідзе, крычыць, а гэтым зьнеахвочвае нават такіх, якія гатовы пайсьці нам насустрач. Баюся, што за такія вымаганьні ня будзе больш месца ў *Russicume* для тых беларусаў, якія хацелі-б паступіць сюды. Наваліўся на айца [Пётру] Татарыновіча, збэсьціў яго да апошніх і цяпер намагаецца ўсімі сіламі выпхнуць з Рыму. Проста сьмех і плач. Хаця тут і Татарыновіч не зусім безь віны, але ягонае, Рыжага значыць, наступаваньне паказвае на поўную адсутнасьць такту. Дамагаецца поўнай аўтаноміі, чаго ў чужой Калегіі ніхто нам даць ня можа. І так маем ужо штось: казаньні па-беларуску, духоўнае чытаньне, свае песьні; гадзіну беларусаведы цяпер адваявалі — гэта ўжо больш, чым можам карыстаць, бо якая-ж вучоба, калі няма адпаведнага наглядчыка, які-б назіраў, каб мы разьвіваліся ў адпаведным напрамку. Прынцыпам-жа *“годзе лекарам хворых лячыць ды грошы грабсьці, самі зможам”* — далёка ня зойдзеш. Пляны-ж яго — не сказаў-бы, што дрэнныя, — значна шырэйшыя: ён думае, што сюды пераедзе біскуп [Баляслаў] Слосканс, і тады можна будзе залажыць Беларускую Калегію. А тымчасам толькі вазьня й трата часу на ўсё іншае, толькі не на вучобу, якая ўсім нам — а ўжо яму — будучаму міністру, епіскапу *etc*. — асабліва на сяньня патрэбна найбольш. Я стаю на гэтым пункце ды заклікаю і другіх яшчэ толькі вучыцца, а ня ўмешваць палітыкі ў навуку Хрыста, што лічу нават брудным, бо навука гэта будуецца на ўзаемнай любові людзей між сабою — адзінай рэчы, якая сяньня можа ўратаваць сьвет — палітыка-ж заключаецца ў шуканьні дурнейшага за сябе. Што-ж, калі ня ўсе з гэтым згаджаюцца.

Каб мець больш ўплыў на нас, Рыжы пачаў спасылацца на паўнамоцтвы з БНР, што змусіла мяне канкрэтна заявіць, што я ніякага ўраду БНР не знаю і над сабою не прызнаю. Для мяне існуе Беларусь, а як ідэал — Яе вызваленьне. Можаце сабе ўявіць узрыў вулькану пасьля такой заявы. Магчыма, справа абапрэцца аб сп. інж. [Міколу] Абрамчыка — трэба, каб ён ведаў, што сваёй тактыкай і яго аднадумцы могуць яго кампрамэтаваць ды масу да справы зьнеахвочваць. Пагэтаму хацеў-бы Вас папрасіць, калі-б дайшло там да якогась шуму, выясьніць каму трэба, што нічога страшнага няма. Я кожную хвіліну гатоў пайсьці на

кампраміс у імя дабра для зьдзяйсьненьня нашых ідэалаў, а ўжо ніколі ў сьвеце ня думаю ісьці на раздваеньне, але гэтага самага, а значыць — выразумленьня такту — патрабую і з другой стараны.

Запраўды-ж, не магу я цаніць дзейнасьці ці асобы сп. [Радаслава] Астроўскага[5] вышэй сп. [Міколы] Абрамчыка ці яго акцыі. Я ведаю толькі, што сяньня паміж г. зв. “астроўшчыкаў” вельмі вялікі працэнт шчырых і справе адданых беларусаў-незалежнікаў, якія толькі затое там, што перакананы ў тым, што сп. [Мікола] Абрамчык — гэта польскі, бальшавіцкі і Бог знае які агент (якраз тое, што гавораць пра [Радаслава] Астроўскага), шпіён, афэрыст — прадае Беларусь, набірае грошы ад палякаў, бальшавікоў (можа, і ад самаго чорта — гэтым не цікавяцца) і за іх сабе раскошна жыве. Як-жа тады ісьці з такім чалавекам? Толькі і астаецца, што байкатаваць.

У даным выпадку, аднак, найгоршым зьяўляецца тое, што ў гэта верыць ня толькі якісь там жаўнер, які прыпадкова штось пачуў, седзячы ў сваім прытулішчы і далёка ня бачачы. Я ўпэўнены, што бальшыня і міністраў у “ўрадзе” [Радаслава] Астроўскага непахісна перакананы ў гэтым. У такім выпадку, як можна закінуць ім якіясь тэндэнцыі службы чужынцам, калі выразна бачыш, што яны дзейнічаюць з шчырэйшых патрыятычных прызваньняў?!

З другога боку, бачым спадара [Міколу] Абрамчыка. Часта можа галодны нават, а ўжо напэўна заўсёды без грошай для сваіх собскіх выдаткаў (гэта я добра ведаю) — усю сваю энэргію і самога сябе самааддана пасьвячае справе — сьвятой. Гэта-ж самае можна з упэўненасьцяй сказаць і пра шматлікіх зь яго паплечнікаў. Пагэтаму вельмі балюча назіраць, як людзі, якія адныя і тыя-ж самыя ідэалы ў сэрцах носяць, выкідваюць да 90 % сваей энэргіі на ўзаемазьнішчэньне праз грызьню заместа на больш пазытыўныя рэчы — і гэта толькі таму, што ня могуць ці ня хочуць зразумець адзін аднаго.

Дык вось, разумеючы гэтую трагэдыю нашага народу, хочацца проста плакаць, абгрызаць пальцы ці нават узьлезьці на вышэйшую вежу сьвету ды, рвучы на сабе кавалкамі мяса з грудзей, крыкнуць адтуль на цэлы сьвет: *“Людзі, апамятайцеся, пакуль ня позна! Што робіце?! Вы губіце ня толькі сябе — на гэта вы маеце права — вы губіце справу!”*

Прабачце, калі трохі ўзнашуся, ды й распусьціўся, як дзедава пуга. Аднак адбываюцца такія падзеі, міма якіх нельга прамінуць раўнадушна нават чалавеку, які зусім нічога пра палітыку чуць ня хоча.

Не зьвяртайце таксама ўвагі на мой мінорны тон. Усё нават зусім добра. Грызьня з Рыжым не зьяўляецца маім прынцыповым заняткам, а служыць толькі прыскваркай да філязёфіі ды носіць сяброўскі

[5] **Радаслаў Астроўскі** (1887—1976), палітык, грамадзкі дзеяч, пэдагог, прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады.

характар. Што да астальных хлапцоў, то яны зусім на месцы. Калі Бог дапаможа, хутка выцісьнем часапіс ды і з Ватыкану гаварыць будзем.

Гэтым канчаю. Папрашу яшчэ, калі ўбачыце сп. [Лявона] Рыдлеўскага, спытаць яго пра пасьведчаньне аб нацыянальнасьці — было-б мне патрэбна. Таксама папрасіце ад мяне, каб ён не згубіў, а як будзе непатрэбным — адаслаў, калі зможа, мой Аўсваіс. Гэта адзіны дакумант у мяне, што я калісь дзесь нарадзіўся беларусам.

Што чуваць у Вас?

З хрысьціянскім прывітаньнем паляцаючы Вас Богу,

*JBiko*

Рым, 12.2.1949

Слава Ісусу Хрысту!

Дарагі Айцец Леў!

Дзякую за памяць і за турботы, якія Вы мелі з маймі дакумэнтамі. Аб маіх посьпехах нічога яшчэ сказаць не магу: лаціна падаецца вельмі цяжка. На духоўным адрэзку яшчэ горш: дагэтуль не магу прывыкнуць да ўсходняга абраду. Найчасьцей на набажэнствах пачуваю сябе, як у тэатры, а не як у касьцёле, і ніяк не магу прызваць малітоўнага распалажэньня духа і ўздыму думак. Іншая ўжо рэч, што калі самому прыходзіцца прыслужваць, дык варухаюся, як мядзьведзь ля піаніно. І сорамна, і прыкра. Часам шкадую, што не ўступіў на лацінскі абрад дзесь у Францыі. Жыцьцё-ж таксама побач радасьцяў праве штодня прыносіць і турботы. Вось падходзіць палова месяца — а гэта ўжо час, калі кс. Татарыновіч і Рыжы павінны брацца за чубы, бо гэта ў іх пэрыёдычна. Проста ападаюць рукі, гледзячы на ідыёцтва. Ведаеце-ж іх абодвух. Свае ўласныя перакананьні заўсёды на першым пляне. Пра Рыжага скажу яшчэ, што пачынаю паважна пабаівацца, бо прадбачу заканчэньне яго дзейнасьці ў *Russicum* зусім падобна, як у тэй польскай сэмінарыі ў Парыжы, дзе за яго паступкі мусілі ўсе сьвяціць вачыма і наканец выйсьці з тым, што ніколі ніякі беларус сабе там месца ня знойдзе. Маю падставы ўжо так гаварыць, тым больш што яго прыёмы, тактыка — тыя самыя. Дагэтуль апіраўся на паўнамоцтвы ад Ураду, калі-ж выявілася, што іх ня мае, пачаў аргумантаваць біск[упам] [Баляславам] Слоскансам. Цікава, ці той штось ведае аб гэтым. А ладу як ня было, так і няма.

Нядаўна я быў атрымаў права на аўдыцыі з Ватыканскага радыё. Адзін нетактоўны крок Рыжага — і ўсё зноў праваліла. Маю, аднак, надзею, што можа яшчэ ўдасца штось зрабіць. Лічу сваім абавязкам перад грамадзтвам узяцца за гэта, тым больш што на а. Татарыновіча спадзявацца нельга, бо, мусіць, баіцца, каб бальшавікі не пазналі яго па голасе. Падрыхтоўваючы матэрыял для перадач, я, між іншым,

пераклаў на беларускую мову Каляднае пасланьне Сьвяцейшага Айца. Цяпер усё спынілася, аднак думаю, што, можа, яно якраз прыдасца для Вашага часапісу — калі Вы самі яшчэ гэтага не зрабілі. Напішыце — перашлю. Рэч вельмі цікавая й зьмястоўная, а ніколі [не] перастарэлая.

Папрашу яшчэ аб адным: сп. [Мікола] Дземідаў[6] просіць у мяне зь Нямеччыны адрэсу біск[упа Баляслава] Слосканса, каторага я ня маю. Вельмі буду Вам удзячны, калі перашлеце — і то якнайхутчэй.

Столькі на гэты раз. Папрашу яшчэ далучыцца да нашых малітваў і прасіць Бога, каб паслаў апамятаньне ўсім заблудзіўшым і людзям злое волі.

Адданы ў Хрысьце Ваш *JBuko*.

PS. Толькі што даведаўся, што мяне ў гэтым годзе не прынялі на Ўнівэрсытэт — прынамсі ёсьць з гэтым вялікія цяжкасьці. Не хапае матуры. Прыдзецца лічыць гэты год за страчаны.

*JBuko*[7]

## Яўхім Скурат[8]

24.XII.1949 г.

Слава ў Вышніх Богу, а на зямлі мір!

Вельмі Паважаны Ойча,

з нагоды Калядных Сьвятаў, Новага году пасылаем Вам нашыя найлепшыя пажаданьні добрага здароўя і шмат, шмат энэргіі, вытрываласьці ў Вашай так ідэалістычнай і карыснай працы на рэлігійнай і нацыянальнай ніве.

Паважаны Ойча, у сёняшні калядні вечар мы, выгнанцы, якія страцілі ўсіх і ўсё, пішам да Вас, бо ня маем пісаць ані куды, ані каму.

---

[6] **Мікола Дзямідаў** (1888—1967), вайсковы й грамадзкі дзеяч, публіцыст. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзьвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспэктарам Генэральнага камісарыяту, потым рэфэрэнтам у школьных справах. Удзельнічаў у фармаваньні лідзкага батальёну БКА. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазьней выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

[7] Ведама, што ўжо ўлетку 1949 г. Язэп Буко вярнуўся ў Францыю. 21 ліпеня 1951 г. ён выехаў у Канаду. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

[8] **Яўхім Скурат** (1906—1992), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскі ўнівэрсытэт, аддзел францускай філялёгіі (1939), у 1939 г. — аддзяленьне парыскай Сарбоны. Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. З 1950-х жыў у Канадзе, дзе скончыў Тэхнічны інстытут электронікі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Канадзе.


Яўхім Скурат

У Вашых пісьмах чуецца нейкая дзіўная дабрата, поўная гатоўнасьць аблегчыць цярпеньні і нядолю людзкую. У Вашай “Эўфрасіні Полацкай”, можа, лепшай, чым яно было ў рэальнасьці, чуецца гарачае беларускае сэрца й нейкую паэтыцкую мастацкасьць. Вось чаму ў сёняшні калядні вечар пішу Вам гэты ліст, які забірае Ваш дарагі час.

Аднак не магу не згадзіцца з наступным сказам Вашага апошняга ліста: “*Вялікі жаль, што ў нас замала інтэлігэнцыі ў параўнаньні да тых заданьняў, якія выплываюць з нашага палажэньня*”.

На маю думку, зло якраз у іншым баку. У нас няма шмат эміграцыі. Яна ёсьць вельмі мала ўсьвядомленая нацыянальна, яна рассьцярушаная па ўсім сьвеце, незарганізаваная якім-небудзь цэнтрам або іншай супольнай ніткай. Будучы маладой, яна вельмі бедная. У выніку чаго ў нас не хапае не інтэлігэнцыі, а шырокай усьвядомленай масы, якая-б за цану нават ахвяр зь неабходнага магла ўтрымаць нацыянальна-культурную працу. У нас няма матэрыяльных сродкаў.

Такія-сякія інтэлігэнцкія кадры, інакш кажучы, недабіткі кадраў з нацыянальнай катастрофы, напэўна, знайшліся-б, каб існавалі матэрыяльныя сродкі, якія-б ім забясьпечылі мінімум эгзыстэнцыі і пазволілі-б працаваць на нацыянальнай ніве. Яны, распарошаныя па ўсім сьвеце, часта ў вельмі дрэнных матэрыяльных і маральных умовах, змушаныя жорстка змагацца за кусок чорствага хлеба.

Паважаны Ойча, прачытаўшы вышэйуспомнены Ваш сказ, мне гдзе-та глыбока забалела, бо гісторыя маёй сям’і — якраз і пацьвярджае маю тэзу. Я Вас вельмі прашу прабачце маю няскромнасьць, бо буду пісаць аб сабе. Вось я адзін са шматлікіх беларускіх інтэлігэнтаў. У 1935 годзе скончыў французскую й лацінскую філялёгію на Віленскім унівэрсытэце, здаў Дзяржаўны Пэдагагічны экзамен, быў настаўнікам у гімназіі. За магістэрскую працу ў французскай мове атрымаў узнагароду ў Бэльгіі, у гадах 1937/8 быў у Парыжы, дзе скончыў Сарбонну і напісаў дактарскую працу. Іроніяй лёсу ўсе дыплёмы захаваліся.

На нацыянальнай ніве працаваў шмат гадоў. Валодаю наступнымі мовамі: французскай, нямецкай, расейскай, польскай, а ў чытаньні

італьянскай і гішпанскай. Жонка мая скончыла фізыка-матэматычны факультэт у Варшаве.

Выкінутыя падзеямі вайны ў Нямеччыну, а пазьней у Францыю, вось ужо 4 гады працуем парабкамі на фэрмах. Зазналі мы вельмі шмат гора, эксплаатацыі і несправядлівасьці. Цяпер ужо звыкліся з нашым палажэньнем, жывем крыху лепш, хоць і вельмі бедна. А ці-ж я адзіны такі?

Паважаны Ойча, прабачце яшчэ раз маю аўтабіяграфію, зрабіў я гэта безь ніякіх карысных мэтаў.

А ўсё-ж, нягледзячы на ўсё, у сёньняшні вечар дзесь у душы сьпявае мэлёдыя *“Слава ў Вяршынях Богу”*...

З пашанай, Алена і Яўхім Скурат

*Sigala*[9], дня 23.I.50

Вельмі Паважаны Ойча,

шчыра дзякуем за пасылку, якая нам вельмі і вельмі прыдасца; ня менш дзякуем мы за Вашыя лісты, якія заўсёды зьяўляюцца для нас адзінай духовай падтрымкай, больш вартаснай, чым усякія іншыя матарыяльныя дары.

Мы не сумняваемся ў тым, што дзясяткі беларускай інтэлігэнцыі жыве ў значна горшых матарыяльных і маральных умовах, чым мы. Такі ўжо лёс выпаў на нашу долю. Трэба, аднак, браць жыцьцё такое, якое яно ёсьць. Без сумніву гэты цяжкі пэрыяд зьяўляецца толькі пераходным. Гэта не патрывае так доўга; аб гэтым сьведчаць, як кажуць, знакі на небе і зямлі. Наша эміграцыя, як і ўсякая іншая, а асабліва інтэлігэнцыя, або паедзе пасьціць белыя мядзьведзі, або ў пэўным мамэнце пакіне фэрмы, шахты, фабрыкі, а можа і чужыя землі і вернецца да працы на нацыянальнай ніве. Дай-жа Божа, каб было лепш!

Пацяшаючай праявай зьяўляецца факт існаваньня шматлікіх і вельмі актыўных (бяру пад увагу малую колькасьць нашай эміграцыі і палітычную адсталасьць народу) беларускіх арганізацыяў на ўсім сьвеце, а нават іх пэўная цэнтралізацыя, што не пазваляе нам распыліцца ў чужым моры. Гэта вялікая падрыхтоўчая работа бясспрэчна дасьць багатыя плады ў сваім часе.

Той факт, што ў Парыжы ці ў іншым мейсцы атрымоўваецца часовы “застой” у нацыянальнай рабоце, тлумачыцца скарэй за ўсё некарыснымі палітычна-эканамічнымі ўмовамі сёньняшняга дня, незалежнымі ад нас. На маю думку, віна гэтага не заўсёды ў людзях, а найчасьцей у абставінах. Зьмена тых ці іншых людзей іншымі або папаўненьне іх

[9] **Сігаль** (аксіт. *Sigala*; фр. *Sigale*) — француская камуна ў дэпартамэнце Прыморскія Альпы на поўдні Францыі.

складу новымі не канечне мае даць пажаданыя рэзультаты бязь зьмены некаторых элемэнтаў сёняшняй рэчаіснасьці.

Вельмі добра, што Вы і парыскі цэнтр ведае, дзе знаходзіцца наша інтэлігэнцыя і яе спэцыяльнасьць; у выпадку патрэбы і магчымасьці яе заўсёды можна будзе змабілізаваць для больш карыснай — нацыянальнай працы.

Пакуль што не застаецца нічога іншага, як рабіць толькі тое, што магчыма, і чакаць аж “Засьвеціць сонца і ў наша ваконца”.

Пажадаем здароўя і карыснай працы на рэлігійна-нацыянальнай ніве.

Яўхім і Гэлена Скураты

*Sigala*, дня 26.I.50

Вельмі Паважаны Ойча,

вось узноў пішу Вам. Прашу сапраўды прабачэньня. Найбольшым няшчасьцем выгнанца ня ёсьць матарыяльны недастатак, несправядлівасьць або паніжэньні, але яго адасабленьне: няма з кім парадзіцца, расказаць сваю бяду.

Гэтым разам зьвяртаюся да Вас з просьбай аб раду, а можа і дапамогу. Калі гэта будзе магчыма.

Я ўжо пісаў Вам, як я трапіў у Францыю і як хлебануў гора; ведаю, што я не адзін такі. Каб дапоўніць маю аўтабіяграфію, дадаю сёньня, што мне ўжо прыйшлося пабываць у бальшавіцкіх кіпцюрох, адкуль мяне выбавіў сапраўды Боскі цуд. У сувязі з чырвонай небясьпекай, якая стала грэзіць Эўропе, у мяне паўстала думка старацца выехаць дзе-небудзь за акіян, як найдалей. Вам добра зразумелы гэты псыхічны камплекс!

Дагэтуль мы разумавалі, што калі Бог судзіў, каб, нягледзячы на нашу паважную адукацыю, цяжка зараблялі свой хлеб фізычнай працай, то ці не ўсё роўна, у якім краі жыць? За акіянам прынамсі маецца адзіны плюс — бясьпека ад Саветаў. Калі-ж бы Бацькаўшчына стала вольнай, то вярнуцца ў яе можна адусюль. Працаваць-жа сёньня для краю і народу можна таксама ў Аўстраліі, Амэрыцы, як і ў Эўропе.

У выніку гэтых і іншых падобных думак і страхаў у верасьні 1947 г. мы пачалі старацца выехаць у Аргэнтыну. Мы зарэгістраваліся ў *IRO*. *IRO* як *DP* вырабіла нам дакумэнты на выезд і абяцала заплаціць падарожжа ці перавясьці сваім транспартам. Тымчасам у канцы 1948 г. Аргэнтына затрымала выдаваньне візаў для *DP*, і мы засталіся зь нічым, выдаўшы шмат працы на паперы. [...]

Цяпер зьвяртаемся да Вас з гарачай просьбай аб даведцы, калі Вы маеце час і магчымасьць, ці маюцца якія-небудзь магчымасьці выезду ў Аўстралію. Дзе можна аб гэтым даведацца, я сапраўды ня ведаю — можа, у *IRO*, можа, у пасольстве Аўстраліі, можа, Вы гэта ведаеце без патрэбы шуканьня інфармацыі. [...]

Канчаючы гэтае прыкрае для мяне пісьмо (не магу прывыкнуць прасіць і непакоіць іншых), яшчэ раз прашу прабачэньня і… чакаю адказу, калі Вам пазволіць час і магчымасьці.

Бывайце здаровы.

Ваш Яўхім Скурат

PS. Калі-б каго інтэрэсавала, ці маю якое рамясло, то акрамя хлебароба маю два рамяслы пабочныя: умею рабіць электрычныя інсталяцыі і добра знаю фатаграфію.

*Sigala*, дня 22.II.50

Вельмі Паважаны Ойча,

факт апрацоўваньня слоўнікаў мяне вельмі цешыць. Гэта ахвярная праца яшчэ раз даказвае, што Вы належыце да тэй рэдкай сёньня інтэлігэнцыі-ідэалістаў, якая сваёй штодзённай шэрай працай пасоўваюць наперад культуру, а можа і гісторыю нашага народу.

Будучы філёлягам-раманістам, я вельмі добра ўяўляю вялізарныя труднасьці апрацоўваньня першага слоўніка. Аснаўной труднасьцяй зьяўляецца ўлажэньне беларускай часткі слоўніка. Існуе, рэдкі сёньня, беларуска-расейскі слоўнік Ластоўскага; стары ён і некамплетны, але затое вельмі пэўны. Існуе таксама расейска-беларускі слоўнік, выданы Акадэміяй Навук БССР пад рэдакцыяй зьліквідаванага Александроўскага[10]. Аднак слоўнік гэты ёсьць так сфальшаваны, што беларускія ў ім словы мала чым розьняцца ад расейскіх. Абедзьве гэтыя кніжкі вельмі прыдаліся-б, каб яны былі ў Парыжы. Так як Вы гэту частку ўжо ўлажылі, аснаўная труднасьць працы ўжо пераможана. Сапраўды выражаю свой шчыры падзіў і ўзнаньне за дакананьне так адказнай работы. Прыдалося-б вельмі ўлажэньне беларускага артаграфічнага слоўніка, тыпу малога *Larousse'a*, якім карыстаўся-б кожны беларускі інтэлігэнт, студэнт, вучань і т. п. На вялікі жаль, праца гэта выканальная толькі пры магчымасьці карыстаньня з усіх беларускіх друкаў, што ў цяперашніх умовах немагчымае.

Пры перакладзе францускай часткі пэўнай цяжкасьцяй будзя непамерная беднасьць беларускага слоўніцтва ў параўнаньні з францускім.

Пры ўкладаньні слоўніка, асабліва францускай часткі, неабходна мець пад рукой некалькі добрых слоўнікаў француска-польскіх, -расейскіх, -чэшскіх, -нямецкіх, -ангельскіх або іншых, маючых у гэтым выпадку 20 000 словаў. Перапісваючы па парадку францускія словы, трэба выкідаць устарэлыя або вельмі рэдкія словы, уводзячы новыя словы, паўсталыя пасьля выданьня гэтых слоўнікаў. Значэньне словаў,

[10] Маецца на ўвазе выданьне: Руска-беларускі слоўнік / пад рэд. А. Александровіча. Менск, 1937. 494 с.
**Андрэй Александровіч** (1906—1963), паэт, перакладчык, публіцыст.

часамі іх правапіс правяраецца пры дапамозе *“Nouveau Petit Larousse Illustre”* апошняга выданьня.

Маюцца два спосабы ўкладаньня слоўнікаў. Першы палягае на перапісваньню кожнага слова данай сям'і і яго перакладзе: *sable... sabler... sableux...* і т. п. Гэта тэхніка лягчэйшая для аўтара і больш выгадная для чытача, але займае шмат мейсца. Аўтары навачэсных слоўнікаў у дзьвюх мовах карыстаюцца тэхнікай не паўтарэньня караня данай сям'і словаў, што дае вялізарную эканомію мейсца: *saIIble.., II -bler..., II -bleux...*

Некаторыя аўтары падаюць вымову. Аднак навуковая вартасьць падаваньня вымовы вельмі праблематычная, а займае шмат мейсца. Часамі падаюцца ў канцы слоўніка аснаўныя правілы граматыкі, а асабліва сьпісак нерэгулярных дзеясловаў. Урэшце некаторыя падаюць тлумачэньне ўласных імёнаў.

Вельмі Паважаны Ойча, усе мае ўвагі зьяўляюцца толькі маёй асабістай думкай, а ні ў якім выпадку якой-небудзь радай, указаньнем. Не сабірайцеся, калі ласка, абразіцца на мяне за маю сьмеласьць. Пішу гэта таму, што ў апошнім лісьце да сп. інж. [Лявона] Рыдлеўскага, між іншым, вельмі пахваліў яго кніжку *“Bielorussie”*[11], на што яна сапраўды ў поўнасьці заслугоўвае, але думаючы дагэтуль, што няма рэчаў дасканальных на зямлі, меў няшчасьце выразіцца: *“Што датычыцца разьдзелу 1941—45, то трудна згадзіцца з Вашымі думкамі таму, што ў Краі перажываў усе гэтыя падзеі. Аднак зразумелы прычыны такога насьвятленьня”*. Вельмі баюся, што паважаны аўтар успомненага гістарычнага твору сапраўды абразіўся на мяне, бо перастаў адпісваць на мае два апошнія пісьмы. Бачыце, як часамі цяжка простаму чалавеку патрапіць зь вялікімі людзьмі.

На запытаньне сп. інж. [Лявона] Рыдлеўскага, што я думаю аб эвэнтуальным пераводзе мяне бліжэй да Парыжа на лягчэйшую й больш культурную працу, дзе мае дыплёмы маглі-б прыдасца, я адпісаў, што ён можа дыспанаваць маёй асобай, калі гэтага будзе патрабаваць беларуская справа. Аднак для мяне асабіста нічога ня трэба. Вось чаму прашу Вас не непакоіць сп. інж. Рыдлеўскага, каб ён займаўся маім лёсам і пераводзіў мяне дзе-небудзь пад Парыж, бо, як Вы пішаце, “Толькі там добра, дзе нас няма”. Працуючы пад Парыжам парабкам або работнікам цэлы дзень, жывучы ў дрэнных кватэрных, наагул матарыяльных умовах, цяжка займацца нацыянальна-асьветава-навуковай работай. На гэта трэба мець час, карыстацца бібліятэкай. Вы гэта лепш ведаеце, чым мне.

[11] Маецца на ўвазе выданьне: Rydlevsky, L. Biélorussie: aperçu sommaire de l'histoire de la nation biélorussienne et du mouvement de libération nationale. Paris, 1948.

Што датычыцца Вашай прапановы прыслаць мне слоўнік або яго частку на перагляд, то я заўсёды рад зрабіць усё тое, што магу, для Бацькаўшчыны і Вас асабіста. Аднак магчымасьці мае агранічаныя. Працую цяжка фізычна ў сярэднім 9 ½ гадзін у дзень, вечарам бываю крыху змучаным. Ня маю амаль што ніякіх адпаведных для гэтай працы слоўнікаў за выключэньнем *“Nouveau Petit Larousse Illustre”* з 1945 г. Нягледзячы на ўсё гэта, прышліце мне што можаце, а я зраблю, што магу.

Так сумна і дасадна, што я мог-бы быць Вам і іншым вельмі карысным ува ўсіх гэтых і падобных справах; замест гэтага мушу цэлымі днямі вазіць гной і т. п. На гэта, аднак, няма ніякай рады, трэба заўсёды згаджацца з рэчаіснасьцяй — гэта таксама сіла.

Жадаю посьпехаў у Вашай працы. Бывайце здаровы.

Ваш Я[ўхім] Скурат

*Sigala*, 18.III.50

Вельмі Паважаны Ойча,

прашу ня крыўдзіцца, што не адсылаю Вашых матарыялаў. Я пачаў іх апрацоўваць. Якраз прыйшла пара капаць гарод. Працую ў гаспадарцы 9 ½ гадзін, а вечарам, у абед і раніцай капаю і саджу бульбу ў сваім гародзе. Гарод — гэта бульба на цэлы год. Але гэта ня ўсё. Некалькі дзён таму назад цяжка захварэла мая жонка, і прыйшлося завесьці ў бальніцу, дзе ўчора адбылася апэрацыя. Апэрацыя адбылася памысна, але ня ведаю, калі жонка вернецца дахаты. Тымчасам я адбываю 9 ½ гадзіны работы, а рана, у паўдні і вечарам мушу рабіць хатнюю работу. Маем двугадовага хлопчыка, якога мушу карміць, мыць і т. п. Як прыду з работы, ня ведаю, за што і ўхапіцца. Як толькі жонка вернецца і хоць займецца дзіцём, вазьмуся за Вашу работу.

Я ня скончыў ніякай беларускай школы, але ведаю даволі добра беларускую літаратуру Заходняй і Ўсходняй Беларусі. Паходзячы зь Віленшчыны, знаю беларускія паўночныя дыялекты — Дзісна, Глыбокае, Вялейка, Браслаў. Аднак не прэтэндую знаць усе дыялекты-гаворкі. Справа ў тым, што ў нас няма нейкага скадыфікаванага слоўніцтва. Байкоў[12], якога добра ведаў, бо працаваў у мяне, паходзіў дзесь з Гомельшчыны. Вось чаму ў яго слоўніку вялікая колькасьць слоў з усходніх гаворак, абсалютна нязнаных у цэнтральнай Беларусі. Мне здаецца, трэба да часу ўсталеньня слоўніцтва браць у слоўнік толькі словы абсалютна знаныя, скажам, слоўніцтва даваенных говараў [Янкі] Купалы, [Якуба] Коласа. Не ператлумачу Вам такіх словаў, як: абтуснуцца, абэнчыць, авай, аво, аганены, адлікаваць, ашкіра, бабадур, бабіньня, бабства,

[12] Маецца на ўвазе Мікола Байкоў.

багавіньне, батура і т. п., бо абсалютна ня ведаю іх сэнс. Патрэбна-б было мець прынамсі слоўнік Байкова, каб ведаць іх расейскі сэнс.

Далей, ці трэба падаваць, напрыклад, абсморканы, калі падаецца неазначальная форма дзеяслова абсморгаць? абструганы і? Мне здаецца, што неазначальная форма дзеяслова хопіць, бо чытач павінен умець стварыць усе формы данага дзеяслова. Але гэта толькі мая думка, а я, як і іншыя людзі, мыляюся часта.

Акрамя гэтых невясёлых падзеяў у маей сям'і няма нічога новага. Падпісаў кантракт працы ў суседняй фэрме на наступны год.

Бывайце здаровы, жадаю ўдачы ў Вашай карыснай працы.

Ваш Яўхім Скурат

P. S. Вельмі цешуся, што маецца ў Парыжы слоўнік Насовіча[13]. Цікава, ці маюцца там творы праф. [Яўхіма] Карскага[14]?

*Sigala*, дня 1.V.50

Карыстаючы з *“пралетарскага сьвята”* першага мая, засеў і зрабіў у рэкордавым часе пераклад прысланых словаў. Думаю, што гэтым ані зрабіў ані вялікага граха, ані вялікага зла *“сусьветнаму пралетарыяту”*, да якога і я цяпер належу. Адразу адсылаю зробленую работу; чакаю на наступную порцыю, калі Вы гэтай задаволены. Значна была аблегчана мая работа праз расейскія паясьненьні да беларускіх словаў. Вельмі мне прыкра, што ня ведаю добра сваёй мовы, так, як гэта было-б павінна. Мажа, у гэтым не зусім і мая віна. З другой стараны, [Мікола] Байкоў *“большой чудак и оригинал”*, які не гаварыў ані слова па-беларуску, якога я добра ведаў, бо працаваў пару гадоў у мяне, можа, крыху перасаліў, умяшаючы шмат няпэўных словаў у беларускі слоўнік, бо саветы якраз плацілі ад колькасьці словаў. Слоўнік Акадэміі Навук БССР Александроўскага быў уложан таксама тымжа [Міколам] Байковым, але ён ня мог падаць свайго прозьвішча, бо быў падазроны ў “нацдэмаўшчыне”. Так ці іначай, ён добра ведаў сваю справу і аддаў вялікія ўслугі нашаму народу. Аднак зь ім трэба быць асьцярожным. Нябошчык [Вацлаў] Ластоўскі[15] ня раз пераварочваецца ў труне, калі людзі карыстаюцца творамі ўспомненага вучонага.

[13] **Іван Насовіч** (1788—1877), мовазнаўца, лексыкограф, фальклярыст. Тут маецца на ўвазе ягоная праца: Словарь белорусского наречия. Санкт-Петербург, 1870. 756 с.

[14] **Яўхім Карскі** (1860—1931), філёляг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства й літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф, аўтар грунтоўнага трохтамовага дасьледаваньня “Беларусы”.

[15] **Вацлаў Ластоўскі** (1883—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, пісьменьнік, мовазнаўца, літаратуразнаўца, этнограф. Рэпрэсаваны.

Вельмі мне сумна, што Вы чуецеся перамучанымі Вашай шэрай, але вельмі карыснай працай. На сёньняшні дзень “Божым Шляхам” — гэта адзіны беларускі часапіс, які выходзіць рэгулярна на эміграцыі, і ён адыгрывае вялізарную ролю лучніка паміж распарошанымі беларусамі.

Не ацэньваючы яго рэлігійнага зьместу, да чаго ня маю ніякіх кампэтэнцый, мушу сьцьвердзіць, што “Божым Шляхам” зьяўляецца на эўрапэйскім узроўні, дзякуючы яго прыгожай форме і напраўнай мове. “Беларуская Хроніка” гэта неацэнімая інфармацыя для нас усіх на ўсім сьвеце.

Цяжка Вам, бо Вы адзін да гэтай шэрай працы. Вось каб былі патрэбны прэзыдэнты, міністры, амбасадары, то напэўна знайшліся-б людзі і ў Парыжу. Да гэтага нам кандыдатаў заўсёды хопіць. Перад гэтым, аднак, трэба, каб Вітушкі[16] (знаў асабіста) або нейкія Амэрыканцы вызвалілі Беларусь. Зразумела, што часапіс, дзе няма ніякай партыйнай прапаганды, або нейкі слоўнік ня прыцягвае надта патрыётаў. Ува ўсякім выпадку прашу лічыць, што я зраблю ўсё, што змагу, для шэрай працы.

У нас нічога новага. Кажуць, якобы Злучаныя Штаты П[аўночнай] Ам[эрыкі] будуць браць уцекачоў з Францыі. Сэнат павялічыў колькасьць уцекачоў з Эўропы да 400 000. Ня ведаю, колькі ў гэтым праўды. Напісаў запытаньне ў *IRO*, чакаю на адказ, але ня маю ніякай надзеі. Наш сваяк у Нарвэгіі хоча нас перацягнуць туды, дзе лепшыя ўмовы для чужынцаў. Аднак баімся ехаць, каб у выпадку блізкай вайны ня быць занадта блізка маскоўскіх лапаў. Каб ведалі, што вайны ня будзе, то нам вельмі аплацілася-б туды перабрацца.

Жадаем Вам усяго добрага.

Вашыя Яўхім і Гэлена Скураты

*Sigala*, дня 2.VII.50

Вельмі Паважаны Ойча,

гэтым разам Ваша праца вылежала ўсе бакі, аж мне зрабілася сорамна. Аднак ня зусім мая віна ў гэтым. Працуем каля 11 гадзін у дзень. Калі да гэтага дадаць тры перарывы на ежу, то выходзіцца на работу перад усходам сонца і канчаецца яе пасьля заходу. Хоць работа не заўсёды цяжкая, то сам факт, што калі выстаіш найчасьцей скорчыўшыся 11 гадзін пад пякучым паўднёвым сонцам, то вечарам даслоўна валішся з ног. Аднак трэба рыхтаваць страву на заўтра, рабіць самыя неабходныя работы для сябе. Страшная гарачыня нас мучыць вельмі. Маю вельмі спаленую скуру на целе нават праз кашулю. Тэмпэратура

[16] Маецца на ўвазе **Міхась Вітушка** (1907—2006?), вайсковы дзеяч. У 1941—1944 гг. — арганізатар вайсковых антысавецкіх аддзелаў на Смаленшчыне, Браншчыне, Магілёўшчыне. З 1945 г. узначальваў нацыянальны партызанскі рух на тэрыторыі БССР.

30—35 °С. Мыцьцё бялізны, яе направа, купля неабходных рэчаў у горадзе і маленькі адпачынак застаецца на нядзелю. Нядзелямі таксама крыху займаюся перакладамі. Так як ня маю адпаведнай колькасьці навуковых дапаможнікаў, то пераклады займаюць значна больш часу, чым павінна. Стараюся, аднак, рабіць гэта вельмі добрасумленна, бо гэта адзіная мая работа для Бацькаўшчыны, хаця яна вельмі скромная. Прысылайце наступную порцыю.

Вельмі дзякуем за прысланую кніжку аб сьв. Эўфрасініі. Зь вялікай прыемнасьцяй мы перачыталі яшчэ раз гэту запраўды беларускую кніжку. Яна для мяне тым больш дарагая, што я радзіўся і выгадаваўся 50 км на захад ад Полацка ў Дзісьненшчыне, дзе традыцыя гэтай сьвятой вельмі жывая ў народзе. […]

Жадаем Вам і Вашай працы ўсяго найлепшага.

Вашыя Яўхім і Гэлена Скураты

*La Brie*, дня 8.X.50

Вельмі Паважаны Ойча,

шчыра дзякуем за Ваш апошні ліст і за “Божым Шляхам”, а таксама за Вашыя стараньні ў выезьдзе ў Амэрыку. Мы, якія шмат выцерпелі ў жыцьці, патрапім заўсёды адпаведна ацаніць усё тое добрае, што Вы нам зрабілі і робіце. Усякія даўгі будзем старацца сплачваць усякімі даступнымі нам спосабамі. Дабро так рэдка ў сёняшнім зматарыялізаваным і эгаістычным сьвеце, што аж дзівіць існаваньне людзей, якія яшчэ маюць сьмеласьць адхіляцца ад агульна прынятага шаблону.

Перасылаю выкананую “порцыю” слоўніка ў колькасьці 24 лістоў і прашу прыслаць наступную. Зраблю яе пры першай магчымасьці, хоць, можа, і не зусім хутка. Справа ў тым, што збор віна, які пачаўся 4.IX, скончыцца толькі каля 15.X. Гэта вельмі цяжкая праца нават неагранічаная колькасьцю гадзін. Чуемся абодвы амаль зусім вычарпаныя фізычна. Слоўнік рабіў начамі, кожны вечар па адным лісьце. Прашу напісаць, колькі маеце яшчэ картак да ператлумачэньня. Пастараюся яго дакончыць, нават каб так здарылася, што я выехаў у Амэрыку. У *Dordogne*[17], дзе ніхто не гаворыць па-француску, а дыялектам, ці ў нейкім амэрыканскім *Detroit*, у рабоце слоўніка ніякай розьніцы ня бачу. […]

Што датычыцца прапазыцыі сп. [Лявона] Рыдлеўскага аб пераезьдзе пад Парыж, то ня думаем гэтага рабіць. Па-першае, вельмі мала надзей на датрыманьне слова сп. [Лявонам] Рыдлеўскім. Па-другое,

[17] **Дардонь** (фр. *Dordogne*) — дэпартамэнт у Францыі ў адміністрацыйным рэгіёне Новая Аквітанія.

абжыліся старыя самыя неабходныя мэблі, якія трэба было-б кінуць, а там купіць новыя. Пазналі тут ужо работу ў вінах. Па-трэцяе, усюды прыйдзецца працаваць сярод падонкаў францускага грамадзтва, якое цябе ня любіць і шкодзіць на кожным кроку, што ты да іх непадобны, бо працуеш больш, лепш. Патрон гэта любіць, але сябры суюць палкі ў калёсы, або наадварот. Вельмі часта прыходзіцца шмат цярпець ад балота, нізкасьці маральнай і шавінізму бруднага рабочага асяродзьдзя. Здаецца, што ў Францыі пад гэтым поглядам усюды аднолькава. Урэшце ўсюды, калі выб'ешся зь сілаў, можна будзе пад плотам дакончыць сваё жыцьцё выгнанца.

Бывайце здаровы.

Ваш Яўхім [Скурат]

P. S. Сярод лістоў слоўніка знойдзеце 500 фр. на фонд “Божым Шляхам”. Напішыце, ці атрымалі.

*La Brie*, дня 11.XI.50

Вельмі Паважаны Ойча,

перасылаю Вам 20 зробленых лістоў слоўніка, і, як заўсёды, прышліце наступныя. Цяпер на чарзе ў мяне артыкул для часапісу “Моладзь”.

Вельмі Вам дзякую за інтэрвэнцыю ў сп. [Лявона] Рыдлеўскага, у выніку якой ён прыслаў нам анкету *IRO* для атрыманьня аплаты падарожжа і даволі ветлівы ліст. Паводля сп. Рыдлеўскага, так як мы зарэгістраваныя ў *IRO* перад 20.VI.1950, бо нават у 1948, то аплата падарожжа “ўсемагчыма”. Будзем спадзявацца, бо анкету выпаўніў адразу і выслаў разам зь лістом да сп. Рыдлеўскага, у якім вельмі падзякаваў яму за фатыгу і давёў да яго ведама стан нашых стараньняў іміграцыі. Зразумела, адказу не чакаю.

На днях атрымаў доўгі ліст ад вялікага нашага нацыянальнага дзеяча і годнага наступцы нашага слаўнага друкара Ф[ранцыска] Скарыны — сп. Шыманца Ўладзіміра.

Ліст пачаўся ад *“Velmi pavazany Spadar Docktar”* і т. д. і т. д. Пасьля шматлікіх камплімэнтаў, больш ці менш заслужаных, я даведаўся, што ў Парыжу *“shmat chuc”* аба мне, што маім няшчасным лёсам займаюцца амаль што ўсе нашы вялікія дзеячы, якія вельмі хацелі мне памагчы, але заставілі мяне ў маёй бядзе, *“a chamu, Vy sami lepsh viedaecie za nas”*. Усё гэта выглядала на нейкую армянскую загадку, да якіх я вельмі дрэнны спэцыяліст. Прадугледжваючы, аднак, гэта, паважаны аўтар вытлумачыў у канцы ліста, што яму не хапае да ўкамплектаваньня друкарні 30 000 fr. і што Беларусы ў Францыі ўжо на гэту-ж друкарню злажылі *“kozhny”* каля 15 000 fr. (як-жа я завідую гэтым францускім беларусам, якія могуць ахвяраваць па 15 000 fr., бо я, зарабляючы 5000 fr. у месяц,

такіх грошай ніколі і не бачыў, так і відаць, што я не “актыўны” францускі беларус). Бяручы пад увагу ўсё гэта, сп. Шыманец дае мне аказію выказацца маёй актыўнасьцяй і просіць выслаць яму на друкарню 2000—3000 fr. Прыкра і сумна, што “дзеячы” прыпомнілі мае заслугі толькі цяпер, калі ім не хапіла грошы. Я ніколі не адмаўляў нічога для працы для Бацькаўшчыны. Гэтым разам вышлю яму на гэтым тыдні 1000 fr. Зарабляю 5300 fr. у месяц, жонка не працуе, і маю дзіцё. У гэтым выпадку 20 % майго заробку — гэта максымальная ахвяра — удові грош, падобна, мае сваю вартасьць. Але-ж на што ўся гэта гіпакрызыя? Сумна.

Амаль адначасна атрымаў ужо ня першы ліст ад сп. [Аляксандра] Міцкевіча з часапісу “Моладзь”, які прачытаў зь вялікай прыемнасьцяй, бо быў просты, шчыры і без прэтэнзіяў. Просіць аб чарговы артыкул. Зразумела, што артыкул напішу: *“Чым хата багата, тым і рада”*. Адначасна прыслаў мне па экзэмпляру беларускіх газэтаў з Канады, Ньюёрку, Лёндану і брашурку ў ангельскай мове [Міколы] Абрамчыка[18].

У абедзьвюх амэрыканскіх газэтах палова зьместу прызначана на барацьбу са сп. [Радаславам] Астроўскім. Мне здаецца, што ня варта аж столькі мейсца прысьвячаць гэтай палеміцы, бо Астроўскі ня варт нават той паперы, на якой аб ім пішацца. Што датычыцца іншых людзей, то іх усіх трэба злучаць у аднэй нацыянальнай рабоце. *“Ты мой брат, каго зваць беларусам”*, — пісаў адзін наш пісьменьнік[19]. Дзе ні былі-б беларусы закінутыя незалежнымі ад іх выпадкамі, у БНР, у БЦР, у польскія аддзелы Андэрса[20], усе яны нашы і ўсе яны павінны злучыцца ў аднэй барацьбе за Бацькаўшчыну. Барацьба паміж партыямі, а тым больш паміж “дзеячамі” — нэгатыўная работа.

Жадаю посьпехаў у Вашай шэрай, але вельмі карыснай працы.

Ваш Яўхім Скурат

*La Brie*, дня 18.III.51

Вельмі Паважаны Ойча,

з нагоды Вялікодных Сьвятаў жадаем Вам здароўя, шмат сілаў і павароту на Бацькаўшчыну на наступнае сьвята.

Шчыра дзякую за апошняе пісьмо. Таго самага дня я напісаў у Канадыйскі кансулят пад паданы Вамі адрас, дагэтуль няма ніякага ад-

---

[18] Відаць, маецца на ўвазе выданьне: Abramčyk, Mikola. I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R. Toronto, 1950. 36 p.

[19] Верш Алеся Гаруна.

[20] **Уладзіслаў Андэрс** (польск. *Anders*; 1892—1970), польскі генэрал, пасьля пачатку нямецка-савецкай вайны стваральнік польскіх узброеных фармаваньняў на тэрыторыі СССР, якія пасьля праз Іран і Палестыну былі выведзеныя на Заходні фронт.

казу. Відаць, з прычыны майго веку (44 г.) і сям'і я ня маю вялікай вартасьці як працоўнае быдла. Ня маю ані ніякай надзеі на гэту справу, ані ніякога жалю.

З выездам у *USA* нічога не чуваць. Нядаўна пыталіся, чаму я не вярнуўся на Бацькаўшчыну зь Нямеччыны. Відаць, баяцца, каб я ня быў нейкім фашыстам або “наці”, калі не вярнуўся ў камуністычны “рай”. На гэтым пакуль што і канец.

Нармальны чалавек складаецца з душы, цела і пашпарта. *“DP”* складаецца зь цярплівасьці і пакоры. І так чакаем, чакаем... Прабаваў пісаць да розных беларускіх дзеячаў у Парыжы і *USA* з просьбай аб інфармацыі. Ніхто не лічыў патрэбным адказаць. Бедная ты, Беларусь! У працягу свайго працавітага жыцьця я ніколі не адмовіў працы, а часамі і грошай, калі іх меў, для нацыянальнай працы або дапамогі суродзічам. У выніку гэтага я стаўся нікому не патрэбным. А нашы фірмовыя беларусы-дзеячы пераграваюць сабе горлы за скуру медзьвядзя, які яшчэ бегае ў лесе. Чую, што ўпадаю на духу, апушчаны Богам, лёсам і суродзічамі. Відаць, я памыліўся.

Канчаем вельмі цяжкую халодную і даждлівую зіму. Увесь час прыходзіцца працаваць пад дажджом па калені ў балоце па 8—9 гадзін на дзень. Вечарам, калі вяртаўся дамоў, дома было халодна і сыра. Хата батрака вельмі халодная, бо праз дзіркі ў дзьвярах, вокнах і столі гуляюць вятры. Павячэраўшы, вочы зачыняліся, чалавек марыў аб ложку, адзіным мейсцы, дзе, закруціўшыся ў розныя лахі, можна было нарэшце ўгрэцца і адпачыць. Наступны месяц будзем працаваць 10 г. удзень, а тры далейшыя па 11. Калі да гэтага дакінуць тры перарывы на ежу, то выпадае, што ў хаце маецца час толькі на сон. У выніку ўсіх гэтых абставін да пэўнага псыхічнага заламаньня даходзіць і вялікае фізычнае замучаньне. Чалавек пачынае абыякава адносіцца да ўсяго, а можа так і лепш у гэтым эгаістычным сьвеце.

Нядаўна атрымаў такі верш аб *“DP”:*

Позным даждлівым вечарам плёўся бяз мэты бедны *DP*. Раптам у адным з праходзячых ён распазнаў Хрыста. *DP* падышоў да яго і просіць ласкі. Хрыстос яму кажа: *“Кінь усё і ідзі за мной”*. *“Божа, адказвае яму DP, дык я-ж пакінуў усё: Бацькаўшчыну, родных, маю маёмасьць, засталіся мне адны толькі ўспаміны”*. Хрыстос тады кажа яму: *“Пакінь і ўспаміны”*. І паплёўся бедны *DP* за Хрыстом у позны зімовы даждлівы вечар.

Якая глыбокая праўда!

Хрыстос Уваскрос!

Вашы Я[ўхім] і Г[элена] Скураты

P. S. Перасылаю 20 картак слоўніка, выбачайце, што няскора зрабіў. Калі дайду да нейкай духовай раўнавагі, можа, будзе лепш.

*Toronto, Canada*, дня 30 верасьня 1951

Вельмі Паважаны Ойча,

дзякуючы Боскай і Вашай дапамозе нарэшце мы знаходзімся за морам. Падарожжа наша было вельмі цяжкім. Як толькі прыехалі ў Нямеччыну, наш хлапец захварэў, яго палажылі на дзьве нядзелі ў больніцу, і нам прыйшлося тры тыдні чакаць на наступны параплаў. Сытуацыя была вельмі цяжкая, бо мы ня мелі нямецкіх грошаў, а францускія там ня маюць ніякай вартасьці. Кармілі дрэнна. Урэшце нам удалося пагрузіцца на *IRO* параплаў, які нас прывёз за 9 дзён у канадзкі порт. Перажылі трохднёвую буру — усе былі хворыя. У Канадзе з порту ехалі 40 гадзін цягніком у *Toronto*. Наша сямімесячная дзяўчынка праcтудзілася і мела запаленьне лёгкіх. Па прыезьдзе ў *Toronto* прыйшлося палажыць яе ў гарадзкую больніцу на 10 дзён. Кошты 80 даляраў нам горад адлажыў на неакрэсьлены пазьнейшы час. Жыву пакуль што ў сп. [Кастуся] Акулы[21]. Працу атрымаў на трэці дзень у фабрыцы люстэркаў. Праца лёгкая, а плацяць па 1 даляру на гадзіну. Працуецца тут 5 дзён па 8 гадзін у тыдзень. З часам мая аплата будзе пабольшана і можа дайсьці пасьля году 1 ¼ даляра за гадзіну. Максімум, аднак, 1 ½ даляра. Такім чынам я як пачаткуючы зьяўляюся яшчэ вельмі бедным у Канадзе. Зарабляю 38 даляраў чыстых у тыдзень. А вось мае выдаткі на тыдзень: харчы добрыя для сям'і 15 даляраў, кватэра (вельмі дарагая ў Канадзе) 10 даляраў. Транспарт 2 даляры. Застаецца каля 10 даляраў на іншыя выдаткі. Трэба купляць усё барахло на новым мейсцы, і безумоўна грошы не хапае, аднак мой узровень жыцьця нейкіх чатыры разы вышэйшы, чым у Францыі. Такім чынам, мы вельмі задаволеныя са зьмены, асабліва бяручы пад увагу пэўнай бясьпекі ад вайны.

Адносіны да імігрантаў вельмі добрыя, іх афіцыяльна называюць *"новыя канадыйцы"*, і ніякай абсалютна розьніцы зь іншымі няма. Паняцьце чужынца або нейкага шавінізма тут не існуе. Мы маем права быць урадаўцамі, працаваць па спэцыяльнасьці, аднак пасьля гадавога курсу на ўнівэрсытэце. Практычна, аднак, наша інтэлігэнцыя фактычна можа лічыць на працу чорнарабочага. Першае, што кідаецца ў вочы, — гэта высокі стандарт жыцьця насельніцтва, матэрыялізм, замэрыканазаваньне Канады. Гэты матарыяльны дабрабыт пачынае паволі раскладаць і нашу эміграцыю. У гэтым годзе ў нашым горадзе толькі беларусы, прыехаўшыя сюды 3—4 гады, узялі на выплату толькі дванаццаць дамоў. Нацыянальная праца стаіць вельмі дрэнна з-за ўзаемнай грызьні за асабістыя справы, амбіцыі правадыроў. На жаль, як і ўсюды, іх нізкая культура не дазваляе ім адрозьніваць аснаўныя

[21] **Кастусь Акула** (да эмігр. **Аляксандар Качан**, 1925—2008), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Ініцыятар стварэньня Згуртаваньня беларусаў Канады. У 1948—1954 гг. рэдагаваў газэту "Беларускі Эмігрант".

рэчы ад другарадных. Напрасна я стараўся іх пагадзіць. Нічога ня зробіш. Няхай Ваш “Божым Шляхам” вядзе нас і на Амэрыканскім кантынэньце. Прашу нам напісаць і дазвольце і надалей лічыць Вас нашым духовым Бацькам.

Вашы Яўхім, Гэлена і дзеткі

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

# ЛІСТАВАНЬНЕ АНТОНА АНІСЬКОВІЧА Й А. ЧАСЛАВА СІПОВІЧА (ШАНХАЙ — ЛЁНДАН, 1947)

*Амаль у кожнай гісторыі, апісаньні пэўных падзеяў або чыйгосьці жыцьця, апроч галоўных герояў, звычайна добра ведамых простым чытачам і навукоўцам, ды пэрсанажаў другога пляну, чые імёны таксама знаходзяць сваё месца ў даведніках і біяграфічных зносках, заўжды ёсьць асобы, якія застаюцца непрыкметнымі. Моўчкі прысутныя, яны часткова ўдзельнічаюць ва ўтварэньні канвы аповеду, але не дастаткова актыўна, каб прыцягнуць да сябе ўвагу, а калі й прыцягваюць, дык скупых фактаў зь іхнага жыцьця часта не хапае нават на невялічкую біяграму ў спасылцы. Толькі часам, калі ў навуковы зварот уводзяцца новыя матэрыялы: дакумэнты, ліставаньні, спогады, — гэткая асоба можа раптоўна выйсьці зь ценю й нават атрымаць свой уласны голас, даючы дасьледнікам шанец калі не расставіць усе кропкі над “і”, дык хаця б ясьней убачыць чалавека й кантэкст ягонага жыцьця.*

*Падобны лёс напаткаў братоў Аніськовічаў, Антона й Казіміра, чые жыцьці былі шчыльна зьвязаныя з гісторыяй кляштару беларускіх марыянаў у Друі й яго ўдзелу ў Рускім апасталаце ў Манчжурыі. Інфармацыі аб жыцьці й лёсе братоў Аніськовічаў было настолькі мала, што магло падацца, нібы гэта жыцьцярыс аднаго чалавека*[1]*. Але захаванае ў зборах Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лёндане кароткае ліставаньне з 1947 году паміж Антонам Аніськовічам, які перабываў тады ў Шанхаі, і айцом (пазьней — біскупам) Чаславам Сіповічам, які толькі прыехаў у Вялікабрытанію дзеля заснаваньня беларускай місіі, змагло праліць сьвятло на іхныя біяграфіі.*

*Чатыры наяўныя лісты (тры — ад Антона да а. Часлава й адзін — ад а. Часлава да Антона) былі запісаныя беларускай лацінкай (за выключэньнем паасобных словаў у лістах Антона Аніськовіча) і дзеля зручнасьці сучаснага чытача транскрыбаваныя ў кірыліцу з заха-*

[1] Колупаев, Владимир. Русское церковное присутствие в Китае: Экзархат католиков Византийского обряда в Харбине 1928—1949. [Saarbruecken]: Sanktum, 2013. С. 75.

*ваньнем моўных асаблівасьцяў арыгіналаў (у першую чаргу гэта, зноў жа, датычыць арыгінальнага стылю мовы лістоў з Шанхаю). На жаль, у ліставаньні адсутны першы ліст Часлава Сіповіча да Антона, аб якім ідзе гаворка ў першым зь лістоў Антона (№ 1, ад 2 траўня 1947 г.), і які, магчыма, ініцыяваў гэтую кароткую карэспандэнцыю.*

*Дзякуючы гэтым чатыром лістам адзін з братоў Аніськовічаў займеў свой уласны й непаўторны голас, а другі, ня раз згаданы ў ліставаньні, аказаўся аўтарам беларускіх вершаў, надрукаваных у "Хрысьціянскай Думцы"*[2]*. Асобна можна адзначыць апошні зь лістоў Антона, напісаны "наўздагон" папярэдняму й пасьля канчатковага рашэньня аб вяртаньні ў Савецкі Саюз, ад чаго яго актыўна адгаворваў Сіповіч. Гэты ліст стварае ўражаньне разьвітальнага й такім, магчыма, можа лічыцца, бо аб лёсе Антона пасьля ягонага ад'езду больш нічога ня ведама. Прынамсі, пакуль.*

*Глыбокі аналіз гэтых лістоў пакідаем дасьледнікам і спэцыялістам, а тут толькі сыстэматычна апішам вядомыя на гэты момант факты біяграфіі аднаго з карэспандэнтаў ліставаньня — Антона Аніськовіча, а разам зь ім, як фігуранта гэтага ліставаньня, ягонага брата — Казіміра Аніськовіча, спадзеючыся, што гэта зможа паслужыць добрым фундамэнтам для далейшых вышукаў. У першую чаргу, ліставаньне можа быць цікавае дасьледнікам рэлігійнай гісторыі міжваеннай Беларусі й беларускай дыяспары (у прыватнасьці — Беларускай місіі ў Вялікабрытаніі), гісторыі "Рускага апасталату" першай паловы XX ст. ды расейскай (у шырокім сэнсе) дыяспары ў Харбіне й Шанхаі напрыканцы 1940-х гг.*

***Антон Аніськовіч (1909 —? [пасьля 1947])***

*Антон Аніськовіч нарадзіўся ў Шаркаўшчыне*[3] *Дзісенскага павету ў 1909 г.*[4] *у сям'і Сьцяпана Аніськовіча. Прыблізна ў 1930 г. ён паступіў у кляштар айцоў-марыянаў у Друі, дзе яго паспрабавалі вывучыць на сталяра, але без асаблівага посьпеху. Калі ў 1930 г. генэрал марыянаў Бучыс прыняў рашэньне паслаць (ці, хутчэй, выслаць) беларускага дзеяча й паэта, марыяніна а. Язэпа Германовіча (ведамага як Вінцук Адважны) з Друі на расейскамоўную місію ў Харбін у дапамогу а. архімандрыту Фабіяну Абрантовічу, дык разам зь ім быў пасла-*

[2] Гл. ліст № 2 ад Ч. Сіповіча да А. Аніськовіча ад 11.06.1947.

[3] Гл. біяграму Казіміра Аніськовіча.

[4] Згодна з рэестрацыйным запісам Антона Аніськовіча ў польскім консуляце ў Шанхаі ў 1940 г. Гл.: Ledger listing in handwriting persons registered at the Polish consulate in Shanghai, 1934—1941, on the basis of documents issued by Polish authorities, with Index. Library of Congress Digital Collections. https://www.loc.gov/rr/european/polref/polrefindex.html. Entry Number 940.

*ны й “друйскі брат-законьнік Антон Аніськовіч”*[5]*. У Харбіне Антон (ці, у тыя часы, Антоні) дапамагаў пры ліцэі сьв. Мікалая, дзе быў старшым выхаваўцам у інтэрнаце, памочнікам лекара ды загадчыкам мэдычнай часткі*[6]*. Да тых самых часоў належыць і ці не адзіны ягоны здымак, надрукаваны ў кнізе спогадаў былых выпускнікоў ліцэю сьв. Мікалая*[7].

*Прыблізна ў 1940 г., пасьля дзевяці гадоў перабываньня ў марыянаў, Антон пакінуў кляштар і перабраўся ў Шанхай. У гэты час (ці то да прыезду ў Шанхай, ці ўжо пасьля) ён здолеў прыватна атрымаць адукацыю, што дазволіла яму знайсьці працу ў расейскай школе й парафіі, якія былі часткаю расейскіх місіяў айцоў-езуітаў*[8]*. Недзе ў гэты ж час ён пасьпеў ажаніцца*[9]*, хаця ў ягоным ліставаньні аб сямейным жыцьці згадак няма.*

*У 1947 г., з пачаткам хвалі ад'езду расейскамоўнага насельніцтва з Шанхаю (у тым ліку ў Савецкі Саюз), Антон Аніськовіч пэўны час вагаўся, кідаючыся ад плянаў утварэньня беларускамоўнага гуртка ў Шанхаі (у адрозьненьне ад Казіміра, ён уважаў сябе за беларуса й цікавіўся беларускімі справамі) да выбару краіны выезду, разглядаючы нават Бразылію, але ў выніку вырашыў ехаць бліжэй да радзімы, ці, паводле ягоных словаў, “на місіі ў Расею”*[10]*. Ці атрымалася гэта ў яго, ці не перамяніў ён свайго намеру й сапраўды выехаў у Расею ды якім стаўся ягоны лёс, пакуль застаецца няведамым. Але надзея ёсьць, што новыя дакумэнты ці архівы змогуць праліць сьвятло й на гэты пэрыяд ягонага жыцьця. Калі ня сёньня, то ў будучыні.*

***Казімір Аніськовіч (4.03.1913—1973)***

---

[5] Надсан, Аляксандар. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924—1938). Менск, 2006. С. 99.

[6] Германовіч, Язэп. а. “Кітай-Сібір-Масква. Успаміны”. Беларуская Палічка. https://knihi.com/a_Jazep_Hermanovic/Kitaj-Sibir-Maskva.html; Лицей Святого Николая (Харбин). Онлайн Энциклопедия. http://wiki-org.ru/wiki/Лицей_Святого_Николая_(Харбин); Лицей Св. Николая, 1929—1949 в г. Харбине. Б. м.: [б. г.]. С. 28. (Пад імем *“инок Антоний Анискович”*).

[7] Лицей Св. Николая, 1929—1949 в г. Харбине. С. 36.

[8] Гл. ліст № 1, ад А. Аніськовіча да Ч. Сіповіча.

[9] Анискович Антон Степанович // Российские эмигранты в Маньчжурии. Бибиблиографический справочник. Государственный Архив Хабаровского Края. https://gahk.ru/projects/brem/47902/. Архіўная справа: ДАХК. Ф. Р-830. Воп. 3. Спр. 1338, 5266, 5307. (Жонка — Ія Альфонсаўна Раманоўская, у замустве Аніськовіч).

[10] Гл. ліст № 4.

*Казімір Аніськовіч (польск. Kazimierz Aniśkowicz), сын Сьцяпана Аніськовіча, нарадзіўся 4 сакавіка 1913 г. у Шаркаўшчыне*[11]*, ды, як і ягоны брат Антон*[12]*, уступіў у кляштар айцоў-марыянаў у Друі. Пэўна, убачыўшы ў ім патэнцыял ці адмысловае пакліканьне, марыяне паслалі яго, разам зь некаторымі іншымі маладымі кандыдатамі (сярод якіх быў і Часлаў Сіповіч), на навучаньне ў Віленскі ўнівэрсытэт, дзе ён і здабываў адукацыю з 1935 да 1938 г.*[13] *Улетку 1938 г. разам зь іншымі беларускімі марыянамі ён перажыў і высяленьне з Друі, і забарону вяртаньня ў Вільню, і, удвох з Чаславам Сіповічам, пагадзіўся на прапанову а. Андрэя Цікоты прыняць усходні абрад ды выехаць на вучобу ў Рым, даўшы абяцаньне пасьля вучобы працаваць на расейскай місіі ў Харбіне*[14]*. У тым самым годзе яны засяліліся ў калегію Русікум у Рыме й распачалі навучаньне ў Грыгарыянскім унівэрсытэце, але напрыканцы 1939 г. іхныя шляхі раптоўна разышліся. Калі на Раство гэтага году Часлаў Сіповіч быў пастаўлены ў дыяканы й далей ажно да канца свайго жыцьця ішоў шляхам служэньня Царкве ў розных ступенях сьвятарства, уключна да біскупскай, дык Казімір зь незразумелых прычынаў (ці правінаў) да дыяканскіх сьвячаньняў дапушчаны ня быў, і ў студзені 1940 г. пакінуў і Русікум, і марыянаў*[15]*. Як пісаў а. Аляксандар Надсан, "10 студзеня 1940 году ён выехаў у Францыю, дзе запісаўся добраахвотнікам у польскую армію, каб змагацца супраць немцаў"*[16]*. Падчас вайны ён быў у палоне*[17]*, а пасьля яе заканчэньня — застаўся ў Францыі ды жыў у Парыжы. Там ён ажаніўся, стаў бацькам і вучыўся на афтальмоляга*[18]*. У адрозьненьне ад Антона, Казімір ад пачатку й да канца лічыў і запісваў сябе палякам, з чым катэгарычна не пагаджаўся ягоны брат, які разам з а. Чаславам моцна шкадаваў, што "Казюк" так і ня стаў сьвятаром. Паводле а. Аляксандра Надсана, "Сіповіч моцна перажываў тое, як абышліся з Аніськовічам, і спрабаваў ратаваць яго. Ён нават пісаў*

---

[11] Centre national d'Information sur les Prisonniers de Guerre. Liste officielle no 34 des prisonniers français. Paris, le 21 Octobre, 1940. P. 2. (*"Aniskowicz (Kazimierz), 4—3—13, Szarkowszczyna, cap., 1er R.A.P. 210"*).

[12] Надсан, Аляксандар. Pro patria aliena. С. 153.

[13] Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч, сьвятар і беларус. Менск: «Белфранс», 2004. [Раздзел 2. Вільня].

[14] Надсан, Аляксандар. Pro patria aliena. С. 128.

[15] Надсан, Аляксандар. Pro patria aliena. С. 131.

[16] Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч... [Раздзел 4. У Вечным горадзе].

[17] Centre national d'Information.

[18] Гл. ліст № 2 ад Часлава Сіповіча да Антона Аніськовіча.

*Цікоту ў Харбін, каб той прыняў Аніськовіча на выпрабавальны пэрыяд, але ўсе ягоныя стараньні засталіся бяз выніку”*[19].

*Паводле некаторых зьвестак, якія яшчэ патрабуюць канчатковага пацьверджаньня, у 1949 г. Казімір Аніськовіч выехаў зь сям’ёю ў Канаду, дзе й жыў да канца свайго жыцьця. Памёр у 1973 г. і пахаваны разам з жонкаю на могілках Saint Mary ў мястэчку Ўілна (Wilno), што ў правінцыі Антарыё, найстарэйшым у Канадзе польскім паселішчы з назваю, якая пэўна прыгадвала яму так дарагую сэрцу сапраўдную Вільню, а разам зь ёю і так далёкую ад Канады родную зямельку.*

## № 1. Ліст Антона Аніськовіча да а. Часлава Сіповіча[20], Шанхай, 2 траўня 1947 г.[21]

[Вышэй тэксту надпісана рукой атрымальніка
(чырвоны колер, лацініца)]
Атрымаў 6.VI.47
Адп[ісаў]. 11.VI.47
Газэты выслаў. Ч[аслаў] С[і]п[овіч]
Шанхай, 2/V-47

Даражэнькі Ойчэ!

Вельміж я ўцешыўся, атрымаўшы пісьмо ад цябе. Дзякую за памяць.

Усё, што ёсьць у вас “пад рукой” беларускага із беларускай прэсы, прашу прыслаць мне.

Я навет думаў арганізаваць тут у нас беларускі гурток. Мой Казюк[22] под вліяніям польскосьці стаў вялікім палякам, як я гэта бачу з яго пісем; але я не, у мяне саўсём другое.

Дзякую Богу, што ён трымаецца духова моцна. Я ж хацеў і маліў Бога (мусіць дрэнна), штоб ён стаў капланам[23] і працаваў сваім братом.

---

[19] Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч... [Раздзел 4. У Вечным горадзе].

[20] Часлаў Сіповіч быў блізка знаёмы з Антонам Аніськовічам у Друі да ягонага выезду ў Харбін у 1932 г., яшчэ бліжэй быў знаёмы з родным братам Антона — Казімірам Аніськовічам, зь якім разам вучыўся перш у Віленскім унівэрсытэце, а потым — у Рыме.

[21] Арыгінал напісаны ад рукі беларускай лацінкай (2 старонкі).

[22] Маецца на ўвазе брат Антона, Казімір Аніськовіч. Паводле а. Аляксандра Надсана, *“адзіны паляк сярод друйскіх клерыкаў”* (Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч...).

[23] Сьвятаром.

Мне самому толькі і ёсьць духоўная радасьць: што я магу працаваць пры Айцах Езуітах[24] і працы маю досыць.

Працую ў школе, працую ў парафіі і такжэ спатыкаючысь з сваімі быўшымі выхаванкамі[25], цяпер ужо інжынерамі, адвакатамі і г. д.

Жыву сам я добра, і хаця а. Андрэй[26] мяне не хацеў учыць, я падучыўся.

Сам прыватна ўчыўся і здаў эгзамін за гімназію, пасьля пасяшчаў лек[ц]ыі ў інстытуце і там здабыў знанія.

Працаваў я, браток, у Мар'янаў вельмі моцна, аж 9 гадоў, а на дзесятам[27] уцёк і то па прычыне а. Андрэя і з благаславення Айцоў другіх. Часта і цяпер я ўздыхаю за кляштарам. Але праўда, што мне сказалі Езуіты тутэйшыя, што па іхнему каждому нада даць тое, да чаго ён імкнецца, а мне хацелі даць сталяра. Я ўчыўся у Друі[28] 2 рока і нічаму ня выўчыўся, а стараўся ўсемі сіламі быць сталяром. Ну гэта так сабе, выбачце.

Дзякую за весткі аб знаёмых, пачці што ўсіх помню. — Напішу Айцам (Андрэю) Каткову[29] і Бранчанінову[30]. Хай прыезжаюць, работы

---

[24] Айцы-езуіты актыўна працавалі ў Шанхаі ў 1850—1950-я гг. Цэнтрам іх дзейнасьці быў раён Сюйцзяхўэй (таксама вядомы як "Зікавей", або *Zika-Wei*), французская канцэсія, дзе яны заснавалі і ўтрымлівалі храмы, школы, прытулкі і ўнівэрсытэт. Колькасьць расейскіх эмігрантаў у тыя часы ў Шанхаі лічылася дзясяткамі тысячаў, і дзеля іх патрэбаў група расейскамоўных езуітаў заснавала парафію й школы-інтэрнаты для хлопцаў і дзяўчат. Большасьць расейскіх эмігрантаў і айцы-езуіты пакінулі Шанхай з прыходам камуністаў.

[25] Магчыма, з былымі выхаванцамі расейскага ліцэю сьв. Мікалая ў Харбіне.

[26] Маецца на ўвазе Андрэй Цікота.

[27] Паколькі Антон Аніськовіч зарэгістраваўся ў польскім консуляце ў Шанхаі ў верасьні 1940 г., уступіў ён да марыянаў прыблізна ў 1930 г., за два гады да выезду ў Харбін, што пацьвярджаецца далейшым аповедам пра навучанне ў Друі на працягу двух гадоў.

[28] Маецца на ўвазе кляштар айцоў-марыянаў у Друі.

[29] **Андрэй Каткоў** (рас. *Андрей Катков*, 1916—1995), расейскі каталіцкі сьвятар (пазьней — біскуп) усходняга абраду, марыянін. Выпускнік ліцэю сьв. Мікалая ў Харбіне. Пасьля выпуску прыяднаўся да марыянаў і ў 1939 г. выехаў на навучанне ў Рым. Пасьля рукапакладаньня ў сьвятары з 1944 да 1950 г. працаваў у Заходняй Эўропе ў лягерах для ўцекачоў. З 1958 г. — біскуп, з 1960 г. — экзарх расейскіх каталікоў бізантыйскага абраду.

[30] **Георгі Бранчанінаў** (рас. *Георгий Бренчанинов*, 1919—2018), расейскі каталіцкі сьвятар (пазьней — архімандрыт) усходняга абраду, марыянін. Выпускнік ліцэю сьв. Мікалая ў Харбіне (скончыў у адным годзе з Андрэем Катковым). Як і Каткоў, стаў марыянінам ды выехаў на навучаньне ў Рым. Рукапакладзены ў сьвятары ў 1944 г., пасьля чаго перш працаваў у Заходняй Эўропе, а з 1957 г. жыў і працаваў у Аўстраліі.

хваціць. Толькі вот беда, усе з Шанхая бягуць. У нас жыць можна, но 1 амэрыканскій доляр каштуе афіціяльна 12 000,00, а на чорным рынку аж 25 000,00 месных. 1 фунт хлеба 1 500,00 і г. д. Усё гэта яшчэ нічога, но адносіны кітайцаў вельмі паскудныя.

Я сам можа выберусь у *USSR* альбо Бразылію. Но гэта толькі ў пляне. Пішы, дарагі Ойчэ. У нас 2 Айца англічане і вельмі заінтырасаваліс, што ты едзеш у Англію. Прашу аб малітвы, ваш Анто[сь]

[Надпісана той жа рукой над тэкстам у правым верхнім куце на с. 2] *"За Мар'янаў малюсь каждый дзен, бо усёж яны далі мне духоўный фундамэнт"*.

## № 2. Ліст а. Часлава Сіповіча да Антонія Аніськовіча ад 11 чэрвеня 1947 г.[31]

Для Вельмі Паважанага
Антоняга Аніськовіча
*215, Rue Bourgeat*
*St. Michael's College*
*Shanghai*

*21, The Oval*
*Hackney Road*[32]
*London, E. 2.*
11.VI.1947

Даражэнькі Антось,

ліст Ваш з дня 2.V. гэтага году атрымаў ужо ў Лёндане дн. 6. VI. г. г. Шчыра за яго дзякую. Прызнаюся, ён для мяне быў вялікай неспадзеўкай. Перадусім я ня думаў, што Вы гэтак добра помніце беларускую мову. Далей крыху не разьбіраўся наагул у Вашых прақананьнях. Казюк хаця пісаў калісь вершы па-беларуску (у "Хрысьціянскай Думцы" пару было іх выдрукавана)[33], усё-ж такі ўважаў сябе за Паляка. Я яго пракананьні заўсёды шанаваў, але казаў, што ён у памылцы.

Шмат, шмат на нашай роднай зямельцы зьмянілася: ад Вашага выезду. Нацыянальна ўсе дасьпелі, загаварылі, была наша моцная

[31] Арыгінал напісаны ад рукі беларускай лацінкай (1 старонка).

[32] Адрэса літоўскага рыма-каталіцкага касьцёлу Сьв. Казіміра ў Лёндане.

[33] Хутчэй за ўсё, маюцца на ўвазе два вершы: "Думкі" (з прысьвячэньнем "В. Адважнаму") і "Суседзі" пад псеўданімам *An-vič* (Chryścijanskaja Dumka. № 10 (158). 1938. С. 5).

армія, і сяньня яшчэ ў лясох ідуць крывавыя баі за незалежнасьць. Вы не паверыце, як хутка, як моцна абудзіўся дух народны. Я сам гэтаму ня верыў, але калі прышлося сустрэцца з нашымі жаўнерамі, з нашымі шматлікімі ўцякачамі, то праканаўся. Сяньня ў аднэй зоне амэрыканскай ёсць каля 20 лягераў нацыянальна чыста беларускіх. Просяць сваіх сьвятароў, а гэтых не хапае. Што меў пад рукой з газэт, адразу Вам выслаў. Чытайце і дайце другім беларусам. Калі толькі магчыма, зрабеце хаця маленькі гурток, будзе лягчэй чагось у грамадцы дабіцца.

Адносна царкоўнага жыцьця так-жа даецца заўважыць цікавае ў беларусаў зьявішча: праваслаўныя й каталікі лучацца. У Парыжы наш прыход вядзе а. Леў Гарошка, прыхажане блізка ўсе праваслаўныя. У Нямеччыне падобнаю працу вядзе а. Маскалік[34], а я пры Божай помачы буду зачынаць яе ў Лёндане. Нас тут каля сотні беларусаў. Я знаходжуся тут окала двох месяцаў. Да гэтага часу зьбіраў інформацыі, знакоміўся з людзьмі, але акурат сяньня дастаў у *Brompton Oratory*[35] капліцу (Лацінскаю) на свае службы, і магчыма што найбліжэйшая нядзеля будзе пачаткам нармальных сталых службаў зь беларускім казаньнем і сьпевамі. Вельмі мне трудна з грашыма. Беларусы — усё гэта работнікі дый блізка ўсе праваслаўныя; Мар'яне зноў фондаў на гэткага роду місыі ня маюць; англійскай мовы ня ведаю. Апрача гэтых труднасьцяў ёсьць яшчэ іншыя, але не падаю духам. Сяньня апостальскія часы, будземо рабіць што ў нашых сілах. Прашу шчыранька на інтэнцію маей місыі памаліцца.

О, як Вы тут нам прыгадзіліся-б: Вы пішыце, што хочыце ехаць у Бразылію або *USSR*. Выбачце, але зусім не магу зразумець, чаго Вы хацелі-б знайсьці ў тым пекле савецкім? Тут такжа трэба працаўнікоў, а там Вы нічога ня зможаце зрабіць.

Ці нашыя харбінцы выжывуць у той суматосе, Богу толькі ведаць.

Ваш Казюк ужо мае насьледніка ці насьледніцу. Пісаў мне нядаўна. Вучыцца на окулістага. Хай яму Бог памагае. Добры хлопец, але мне было шкада, што ён ня стаў сьвятаром.

Прашу перадаць Вашым айцам-езуітам найшчырэйшы прывет, асабліва айцу Mayer'су[36], калі ён там ёсьць. Гэта мой калега. Разам

---

34 Маецца на ўвазе а. Міхась Маскалік.

35 Царква айцоў-аратарыянцаў у Лёндане таксама вядомая як рыма-каталіцкі касьцёл Беззаганнага Сэрца Марыі.

36 **Морыс Мэерз** (анг. *Maurice Meyers*, 1912—1980), амэрыканскі сьвятар-езуіт чыкагаўскай правінцыі. У 1937—1938 гг. вучыўся ў Русікуме, пасьля быў скіраваны ў Шанхай, дзе скончыў навучаньне. У 1941 г. рукапакладзены ў сьвятары. Выкладаў у расейскай школе. У 1948 г. вярнуўся ў ЗША, дзе ў тым ліку працаваў у Расейскім цэнтры Фордэмскага ўнівэрсытэту.

былі ў *Russicum*. (У *Russicum* цяпер ёсьць два беларусы, не Мар'яне.) Я хацеў-бы тут знайсьці айца *Millner*'а[37], але ня ведаю, гдзе ён ёсьць.

Бывайце й пішыце.

Ваш а. Ч[аслаў] С[і]п[овіч]

## № 3. Ліст Антонія Аніськовіча да а. Часлава Сіповіча, Шанхай, 27 жніўня 1947 г.[38]

Шанхай, 27-VIII-47

Даражэнькі Айцец!

Перапрашаю за маленькую задзержку з атвэтам. Шанхайская жара замучыла нас. Нет сіл працаваць. Дашло да 38 °С. Ні спаць, ні працаваць. Многія дастаюць цеплавыя ўдары. Лета, т[о]й цяплынь начынаецца ў нас с начала мая і канчаецца с 15/IX. Тагды ўжо прынамсі можна спаць у ночы.

Цяпер у нашым "Вавілоне" ідзе вялікая пəратурбац'я. Людзі бягуць ад добрага клімату і ад добрых дзел хто куды можа. Выехала ўжо нескалькі тысяч чалавек і яшчэ на очэрадзі каля 5-ці тысяч — гэта славян. Усе яны едуць (за ісключэннем маленькага працэнту) у Савецкаю Рассію. З нашай каталіцкай (параф'і) міс'і тож вялікі працэнт паехала туды, і то лепшых людзей. З арганізаванем гуртка пакуль што нічога ня выйдзе. Дзякую за часопісма і прашу яшчэ прыслаць. Пастараюсь вам усё гэта аплаціць. Не знаю толькі, як з курсаў. Я паслаў пасылку і 10 *USA* (ам[эрыканскіх] долл[араў]) Казюку цераз Айцоў Езуітаў, ну[39] толькі яны не даюць яму ў валюце, а даюць па курсу, а я знаю, што гэта значыць. У нас саміх афіцыяльны курс у 4-ы разы менш таго, што яны каштуюць. Я вельмі [хацеў?] пры аказ'і пагаварыць з Казюком [...][40] яшчэ ня можэ зразумець таго, што мы ніколі імі і не былі[41], а ўсё гэта вышла із-за недаразуменьня.

[37] **Гэнры** (у некаторых крыніцах — **Джон**) **Мілнэр** (анг. *Henry Milner* 1908—1951), сьвятар-езуіт ангельскай правінцыі. Прыяднаўся да езуітаў у 1927 г. Навучаўся ў Рыме ў калегіях Беларміну і Русікум, рыхтуючыся да апасталату сярод расейцаў. Пасьля навучаньня быў пасланы ў Эстонію, а пазьней у Шанхай. Падарваў здароўе ў японскім лягеры для ваеннапалонных. Выехаў у Ірляндыю, дзе і памёр.

[38] Арыгінал напісаны ад рукі беларускай лацінкай (2 старонкі).

[39] Запісана кірыліцай.

[40] Радок на адсканаванай копіі прапушчаны.

[41] Магчыма, гаворка ізноў пра "польскасьць" Казіміра Аніськовіча.

Пажадаю вам шчасьлівай працы на вашым попрышчэ. Дай Бог і Прэнэпарочная табе, Ойцец, усякай памысьльнасьці[42] і працы для нашых сяброў беларусаў.

Выбач мне, што несвязна напісаў, але сапраўды мусець разхвараюсь ад жары.

Новы адрэс Казюка:
*59, Rue du Cardinal Lemoine*
*Paris V*

Ваш Антось

Прашу памалітца у маей вельмі важнай для майго жыцьця інтэнц'і.

## № 4. Ліст Антонія Аніськовіча да а. Часлава Сіповіча, Шанхай, 5 кастрычніка 1947 г.[43]

[надпісана лацінкай, рукой атрымальніка]
Атрымаў 20.X.47

Ч[аслаў] С[і]п[овіч]
Шанхай, 5/X-47

Дарагі Ойчэ Чэславе!

Мушу цябе апавясьціць, што я сабраўся на місіі ў Расію ўпярод ад вас. Еду і радуюсь з гэтага. Што тут гніць у Кітае. Каля 3-х тысяч выехалі і яшчэ столькі, а можа і больш сабіраецца і ў бліжайшам будушчым пакінець Шанхай. Гэта толькі з Шанхаю, ня шчытая другіх мяйсцоў.

Жыць у Шанхае стала праве немагчыма, і выбрацца куды-нібудзь вельмі трудна. Вот і я па намысьле рашыў, што так будзе лепш. Калі будзе магчыма, напішу з мейсца маяго пабыту, а пакуль што ўсяго добрага вам. Казюку напісаў, што-б ён аставіў сваю польскасьць, але ня ведаю, як ён на ўсё гэта паглядзіць. Пастарайцесь яго праканаць. Вельмі шкода, што мы ня можам з ім пагаварыць разам.

Прашу маліцца за мяне грэшнага і недастойнага раба Бож'яга. Уклоны пры аказ'і ўсім знаёмым. Цалую моцна і прашу благаславеньня. Ваш Антось

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Алеся Аўдзеюка*

---

[42] Ад польск. ***pomyślność*** — посьпех, дабрабыт, шчасьлівы лёс.

[43] Арыгінал напісаны ад рукі беларускай лацінкай (1 старонка).

# ЮЗЭФА БРЭЧКА-НАЙДЗЮК

*Я заўсёды зь нейкім трымценьнем,*
*зь нейкай балючаю асалодаю,*
*нэрвоваю, сумнаю й мо блізкай да жаху*
*глядзеў на лісты людзей, якіх бачыў*
*у маладосьці, якіх любіў, ня ведаючы,*
*паводле аповедаў, паводле іхных твораў*
*і якіх болей няма.*

Аляксандар Герцэн

*У невялікім нэкралёгу Юзэфы Найдзюк (01.02.1927—19.11.2004), зьмешчаным у № 504 газэты "Беларус" за студзень 2005 г., Янка Запруднік пісаў:*

*"Нарадзілася Юзэфа ў Мазурках Ляхавіцкага павету. Перад выездам у 17-гадовым веку з Бацькаўшчыны вучылася ў сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школе ў Баранавічах. Належала да Саюзу Беларускай Моладзі.*

*Апынуўшыся ў Нямеччыне, яшчэ да заканчэньня вайны, брала ўдзел у беларускай дзейнасьці, была ў цяжкіх сытуацыях у савецкай зоне Нямеччыны, але дала рады захаваць жыцьцё й трапіць на Захад. Скончыла ў 1947 годзе Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе. Належала да кіраўніцтва беларускага скаўтынгу. Па заканчэньні гімназіі жыла ў ДПіўскіх лягерах у Розэнгайме, а пасьля ў Шляйсгайме пад Мюнхэнам. Дапамагала ў адміністрацыі газэты "Бацькаўшчына" й часапісу "Наперад!". Працавала ў тэхнічным аддзеле радыё "Вызваленьне". Брала актыўны ўдзел у беларускім культурным жыцьці.*

*У верасьні 1956 году, дзякуючы стараньням Хведара Шыбута, Юзэфа прыехала ў Амэрыку. Жыла коратка пры сям'і Шыбутаў у штаце Каларада, а неўзабаве выйшла замуж за Часлава Найдзюка й перабралася да мужа ў Каліфорнію. Пражыла з мужам 39 гадоў да ягонай сьмерці ў 1995 годзе".*

*Па-за тэкстам нэкралёгу засталіся курсы радысткі ў Дальвіцы ды яшчэ нямала ўсяго, пра што апавядаецца ў ейных лістах да айца Лява Гарошкі. Але магчыма, факты жыцьця Юзэфы Брэчка — ня самае важнае ў гэтай публікацыі.*

*Ліставаньня беларусак-эмігрантак захавалася — ці, прынамсі, ведама на сёньня — непараўнальна меней, як эмігрантаў-беларусаў;*


Юзэфа Брэчка-Найдзюк

*а такое ліставаньне, як гэтае, можна параўнаць хіба толькі зь лістамі з Рочэстэру Натальлі Арсеньневай, калі тая таксама жыла самотным жыцьцём, хоць і ва ўласнай сям'і.*

*У Юзэфы, што пакінула Беларусь у падлеткавым веку, не было нікога побач. Наагул. Можа, менавіта гэтая акалічнасьць і наклала на яе лісты адценьне спавядальнасьці; ня толькі таму, што пісаліся да сьвятара, а таму, што болей не было каму расказаць, выплакацца, затое была патрэба дацягнуцца да роднай душы і ў ёй здабыць грунт для жыцьця — "каб мілы Бог не адпусьціў". Быўшы верніцаю-каталічкаю, яна радуецца аднаўленьню БАПЦ: "Так што дапамог нам Бог збудаваць сьвятыню".*

*Гэтыя лісты — фактычна аўтапартрэт дзяўчыны, якая ня ўмее дый ня мае патрэбы ў камуфляжы нейкага адмысловага літаратурнага стылю.*

*Цікава параўнаць іх зь лістамі яе раўналеткі, зьмешчанымі ў кнізе Янкі Запрудніка "Па гарачых сьлядах мінуўшчыны"*[1]*. Як піша аўтар у разьдзеле "Пра што ў лістах", "ва ўмовах майго жыцьця 1950-х гадоў ліст быў перш за ўсё элемэнтам арганізацыйнай дзейнасьці, задавальняў жаданьне або абавязак рабіць нешта супольна. У лістах гутарка вялася галоўна пра справы грамадзкія або прафэсыйныя"*[2]*.*

*У лістах Юзэфы нічога гэтага ня знойдзеш; у іх — пошукі сябе, роздумы пра волю Бога й людзкія характары; яны й споведзь, і дыдактычныя роздумы. У іх цалкам адсутнічае маска, гэты неад'емны элемэнт нават найлепшых узораў эміграцыйнага ліставаньня, як, прыкладам, у Юркі Віцьбіча.*

*Усё вышэй пералічанае робіць лісты Юзэфы Брэчка-Найдзюк унікальнай зьяваю ў нашай эпісталярнай спадчыне, цудам захаванаю, бо, напэўна, так захацеў яе мілы Бог.*

Рэгензбург, 15.VI.1948

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Ветліва Вас прашу прыняць ад мяне гэты ліст, у якім я выражаю вялікую просьбу да Вас у справе духовай і матэрыяльнай падтрымкі. Паважаны Айцец, прабачце мне, калі ласка, што дазволю сабе Вас

[1] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952—1959. Мінск, 2015. 570 с.

[2] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны. С. 12.

мучыць сваім доўгім лістом, але выбачце мне й цярпліва, калі ласка, выслухайце мяне.

Я, Юзэфа Брэчка, паходжу з-пад Баранавіч, зьяўляюся каталічкаю. Ад 1942 г. да 1944 г. вучылася ў Сярэдняй Адміністрацыйнай Гандлёвай Школе ў Баранавічах. Адначасова ў той час працавала я ў СБМ. Жыцьцёвы мой шлях быў цяжкі, аднак пры Божай помачы ўсе цяжкасьці перамагла. Маім бацькам заграждала сьмерць ад бандытаў, яны, бедныя, мусілі туляцца. Пасьля надыйшло яшчэ большае цярпеньне, бо я мусіла пакінуць свой родны Край і дарагіх бацькоў, маючы няпоўных 16 год, і ехаць у няведамую даль. У гэтым-жа годзе пасьля нейкага часу ўступіла я ў вайсковыя рады пад кіраўніцтвам У[севалада] Родзькі[3]. Я была рада, што змагу хаця адну маленькую частачку прынясьці карысьць свайму народу, але я гэтага шчасьця не заслужыла, бо іначай сталася. Палітычныя абставіны зьмяніліся іначай, і я апынулася ў лапах чырвоных катаў. Пасьля доўгага часу дасталася я да Беларускага лягеру, які ў той час быў у Рэгензбургу. Паступіла я ў родную гімназыю і закончыла яе ўжо ў Міхельсдорфе[4] ў 1947 г. (бо лягер быў перавезены ў 1946 г. з Рэгензбургу ў Міхельсдорф).

Працавала я праз увесь гэты час у скаўтах і выхоўвала нашую моладзь.

Пасьля заканчэньня гімназіі працавала я 40 км ад лягеру ў дзіцячай санаторыі як сястра з мэтаю, каб паступіць на ўнівэрсытэт. Матэрыяльна я чулася тады добра, але нідзе ў Нямеччыне ў той час на ўнівэрсытэт уладзіцца не змагла. Тады я паступіла ў школу моваў у Рэгензбурзі (якая ёсьць арганізавана пры *IRO*). Я ўжо вучуся 9 месяцаў. Гэтая школа мае 4 сэмэстры па 4 месяцы кожны (ён каштуе 200). Я ўжо на 3-ім сэмэстры. Вучу: ангелійскую, гішпанскую й нямецкую мовы.

Жыву сярод украінцаў. Належу далей да скаўтаў, але наразе не працую зь імі, бо на мейсцы іх няма.

Хацелася-б мне гэтую школу закончыць, але цяпер я матэрыяльна маюся вельмі дрэнна. Думаю, камбіную і ўжо сіл ня маю. Цяжка жыць адной сіраціне. Людзі ёсьць добрыя й дрэнныя. Я з усімі людзьмі жыву добра, аднак застаюся адной. Яны мяне не разумеюць.

---

[3] **Усевалад Родзька** (1920—1946?), грамадзкі дзеяч. З 1942 г. быў старшынём ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, арганізоўваў нацыянальную партызанку. З сакавіка 1944 г. быў камандзірам 15-га батальёну БКА. Арганізоўваў беларускі батальён "Дальвіц", пасьля раззбраеньня батальёну ў Чэхіі нелегальна перабраўся ў Польшчу. Ствараў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня.

[4] Маецца на ўвазе Беларуская гімназія імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

Паважаны Айцец, ветліва Вас прашу дапамагчы мне. Веру, што Вы мяне зразумееце.

Прабачце мне за такі бессэнсавы ліст, бо я такіх лістоў, як да Вас напісала, яшчэ нікому ня пісала; мне такія лісты пісаць — цяжка.

На гэтым мушу яго закончыць і ветліва Вас прашу не адкінуць мае просьбы, выслухайце яе!

Пазастаюся да Вас з пашанаю.

Жыве Беларусь!

Брэчка Юзэфа

Рэгензбург, 26.VI.1948

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Ваш ліст і грошы атрымала, за што Вам шчыра, шчыра дзякую. Мне вельмі прыкра й сорамна, што я пусьцілася на просьбы, бо да гэтага часу нейк уладжвалася жыцьцё, што я сабе пры Божай помачы нейк давала рады. Цяпер для нас кожны дзень робіцца цяжэйшы. Перад гэтым была нейкая надзея на лепшую будучыню. Цяпер з кожным днём над намі неба пакрываецца цёмнымі хмарамі, здаецца, што для нас ужо ніколі ясных дзён ня будзе. Так мілы Бог загневаўся на нас. Люты вораг бушуе ў нашым краю, мучыць наш многапакутны народ, і мы мучымся тут на гэтай праклятай чужыне. Але я веру, што малітвы нашых бацькоў будуць годнымі Богу, Ён зьмілуецца над намі й прышле нам ясьнейшыя дні ў нашым жыцьці. Так, павінна яшчэ шмат сьлёзаў і крыві праліцца нашых суродзічаў. Аднак надыдуць ясьнейшыя дні.

Гэтая грашовая рэформа[5] прынясла для нас вялікі сум. Кожны з нас атрымаў 40 м[арак], і рабі што хочаш. Хто працуе, дык атрымае, а мы, каторыя вучымся, дык мусім уладзіць гэтае жыцьцё ў 40 м[арак]. Як і скуль браць сродкі на будучыню — ня ведаю. Такога безнадзейнага часу ў маім жыцьці ня было. Былі розныя часы. Але нейк я сабе давала рады, а цяпер упадаю. Ня ведаю, чаму не хапае мне сіл крочыць далей?

Праўда, увесь гэты час крочыш па калючках, бо хочаш дабіцца навукі, а навука заўсёды даецца цяжка. Маеш надзею, што будзеш для народу патрэбнай, што яму трэба дапамагаць. Маю моцную надзею, што вернемся на нашую дарагую Бацькаўшчыну і там мусім яе адбудоўваць з руінаў, дык-жа мы, моладзь, павінны тут на чужыне не марнаваць часу, але ўсё вучыцца, хаця й цяжка, але мы мусім перамагаць. Цяпер для нас гэтая цяжкасьць становіцца страшнаю й непераможнаю, але, магчыма, мілы Бог дапаможа.

---

[5] 20 чэрвеня 1948 г. у Нямеччыне была праведзеная грашовая рэформа, у выніку якой старыя рэйхсмаркі былі замененыя на нямецкія маркі (*Deutsche Mark*).

Цяпер у Нямеччыне для нас вельмі цяжка, цэны на тавары ўпадаюць, тавары паяўляюцца, але грошай няма. Цяпер кожны фенінг дарагі, асабліва тым, каторыя вучацца. Цяпер тут можна дастаць усё без чаргі, чаго ўпярод немагчыма было, але ніхто нічога ня купляе, бо грошай ня маюць.

Вельмі Паважаны Айцец, Вы мне, калі ласка, прабачце, што я зьвяртаюся з такою просьбаю да Вас. Я ніколі яшчэ нікога а матарыяльную помач не прасіла, але ўсё прыходзіцца. Калі я выяду за граніцу ў якуюнебудзь дзяржаву, я зьвярну гэтыя грошы на нашыя арганізацыі. Я веру, што я запрацую на сябе, але тут пакуль што я хачу час не марнаваць, а павучыцца, бо ў іншых краінах я не змагу вучыцца, бо трэба будзе фізычна працаваць. Я Вам шчыра дзякую за Вашую помач і Вашае спачуваньне. На гэтым заканчваю кароткі ліст і пазастаюся да Вас з пашанаю!

Жыве Беларусь!

Брэчка Ю[зэфа]

Рэгензбург, 22.VII.1948 г.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Ваш ліст і журнал атрымала, дзе знайшла афяру, за што Вам складаю шчырую падзяку, бо дзякуючы Вашай помачы я магу далей вучыцца. Адначасна вельмі Вас перапрашаю за сваё даўгое маўчаньне. Нейк усё так абставіны складаліся, дык нават не змагла знайсьці адпаведнае хвіліны, каб скупіць свае думкі і напісаць да Вас некалькі слоў.

Цяпер у Нямеччыне вельмі цяжкое становішча, асабліва для студэнтаў і непрацуючых. Можна ўсё купіць, але не купляюць, бо ня маюць за што. Вялікая колькасьць студэнтаў ёсьць змушаная пакінуць свае студыі, бо ўнівэрсытэты застаюцца пры старых цэнах. Напрыклад, масла — 12 м/кг, сала — 15 м/кг, цукер — 5 м/кг., амэрыканскі даляр — 12 м[арак], а сэмэстр (на ўнівэрсытэце) 190 м. Наш сэмэстр — 45 м[арак]. Да канца сэмэстру асталося мне яшчэ няпоўныя два месяцы; буду мець ужо 3 сэмэстры закончаныя, астанецца яшчэ адзін, але яго канчаць ня буду, бо вельмі цяжкая сытуацыя. Нашыя інстытуцыі цяпер ёсьць вельмі бедныя, а ад Вас так вялікае колькасьці грошай я не магу сабе дазволіць дзеля таго, што я ведаю, што і ў вас цяжкія абставіны, дык Вас ветліва прашу памагчы мне толькі да канца гэтага сэмэстру, пасьля заканчэньня яго я ўладжваюся настаўніцаю ў нашым лягеры ў пачатковай школе, дзе буду магчы далей сама прадаўжаць самастойна сваю навуку, адначасна буду выхоўваць нашую моладзь і па меры мажлівасьці даваць помач нашым інстытуцыям.

Вельмі Паважаны Айцец, дазвольце мне, калі ласка, апісаць у кароткіх словах жыцьцё нашае эміграцыі.

Цяпер сытуацыя ў Нямеччыне ёсьць вельмі напружаная. З дня на дзень чакаюць вайны. Апавядаюць розныя лягэнды на гэтым пункце. Дзе-некаторыя з нашых ДП выяжджаюць на эміграцыю ў іншыя краіны. На эміграцыю едуць пераважна самотныя. Сямейным выбрацца цяжэй.

Зь беларускага жыцьця, на жаль, сумная справа. Спачатку было добра, спакойна. Нашае старэйшае грамадзянства супольна працавала, праца йшла наперад, аж сэрца радувалася, а цяпер, магчыма, наш народ моцна зграшыў. Бог пачаў моцна караць. Паўсталі вялікія сваркі, і ўжо яны трываюць тры гады. Канца гэтаму змаганьню ня відаць. Адныя будуюць, другія стараюцца руйнаваць і твораць нешта новае. Адна моладзь была здаровая, але цяпер стараюцца ўвясьці клін. Паглядзеўшы на ўсё гэта, дык сэрца кроўю абягае, сьлёзы з вачэй самы плывуць.

Веру я, што Бог мілы карае і літуецца над грэшнымі людзьмі. Я думаю, што нашае грамадзянства калісь дойдзе да паразуменьня й возьмецца за працу супольна. Надыдзе гэты час!

На гэтым заканчваю й пазастаюся да Вас з пашанаю!

Юзя Брэчка

Рэгензбург, 20.VIII.1948

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Ваш ліст і брашурку атрымала, за што Вам шчыра дзякую. Вашая помач, якую Вы мне злажылі, была і ёсьць для мяне вялікім ратункам. Я не магу знайсьці такіх слоў, каб Вам злажыць шчырую падзяку, але я веру моцна, што мілы Бог заўсёды свой грэшны народ карае, а таксама й шкадуе. Я веру, што Ён выслухаў малітвы маёй маткі, якая моліцца ў родным Краю за мяне й за наш народ. Хаця сёньня над нашым краем цёмныя хмары павісьлі й люты "зьвер" мучыць нашых людзей, аднак усяму бывае канец. Я веру, што з-пад цёмных хмараў засьвеціць яснае сонейка й над нашым родным краем і асушыць сьлёзы з вачэй нашага змучанага народу. Хаця цяпер нашая моладзь і старэйшае грамадства ёсьць змушана бадзяцца па чужых краінах, але калісьці напэўна яны будуць вяртаць у родную старонку й супольнымі сіламі адбудоўваць яе. Хаця, на жаль, цяпер сярод нашага грамадзянства пануюць страшэнныя сваркі, але я веру, што мілы Бог пашле паразуменьне сярод нас. Мы, моладзь, павінны шчыра маліцца да Бога й прасіць яго памагчы, таксама павінны вучыцца й шчыра працаваць, каб вярнуцца ў родны Край з моцнымі сіламі й вялікімі ведамі, каб магчы працаваць для народу. Жывецца мне як жылося, думаю, што дастану працу ў сваім лягеры, але як будзе, дык ня ведаю. Верую ў Божую помач!

На гэтым закончываю свой ліст і засылаю Вам шчырую падзяку за Вашую помач, адначасна дасылайце Вашыя малітвы за наш пакутны народ.

Астаюся да Вас з пашанаю!

Брэчка Юзя

Рэгензбург, 26.IX.1948 г.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Дазвольце прыняць ад мяне кароценькі ліст, у якім апішу Вам у кароткіх словах жыцьцё й працу нашых суродзічаў, а таксама складаю сьціплую падзяку Вам за Вашую помач адносна мяне.

Маё асабістае жыцьцё ёсьць вельмі дрэннае. Я ўжо закончыла трэйці сэмэстр і думала знайсьці працу ў нашым беларускім лягеры, але аднак мае захады аказаліся, здаецца, безнадзейнымі. Сяджу наразе на старым мейсцы без працы. Чакаю мамэнту, каб паступіць на сясьцёрскія курсы, бо ёсьць лепш выехаць куды-небудзь, маючы які-небудзь фах. Пасьля гэтых курсаў мушу выяжджаць зь Нямеччыны, бо тут вельмі цяжкае становішча. З кожным днём для нас становішча пагоршваецца. Людзі ўпадаюць маральна й духова. Аднак я маю моцную надзею, што мілы Бог нас не адпусьціць.

У нашых лягерох атмасфэра ўнутранага жыцьця з кожным днём завойстрываецца. Цяжка на гэта глядзець, і баліць сэрца.

Калі яны зразумеюць адзін другога й возьмуцца за супольную працу? Калі наступіць той час, каб была згода сярод нас?

Сваруцца, лаюцца, даносы пішуць адны на другіх. Толькі пэўная частка ў такіх абставінах і сярод такіх перашкодаў праводзіць сваю карысную працу.

Моладзь ідзе наперад. Яна стараецца здабыць тыя ці іншыя навукі, таксама-ж арганізацыйныя працы памаленьку падвігаюцца, хаця маем вельмі дрэнныя абставіны. У нашых лагярох арганізаваныя пачатковыя школы й гімназіі, дзе нашая малодшая й старэйшая моладзь здабывае веды ў сваёй роднай мове. Таксама-ж пры кожнай нашай групцы і ў кожным нашым лягеры існуе арганізацыя — Скаўтынг. Нашыя скаўты й скаўткі заўсёды стараюцца прыняць удзел у Міжнародным Скаўцкім змаганьні й спраўляюцца, дзякуй Богу, нязгорш. Таксама-ж існуе Студэнцкае Згуртаваньне[6], дзе студэнты бяруць удзел у розных

[6] **Беларускае студэнцкае згуртаваньне** — студэнцкая арганізацыя, створаная беларускімі студэнтамі ў Мюнхэне ў лістападзе 1945 г. Актыўнымі яго дзеячамі былі П. Манькоўскі, Б. Данілюк, У. Тамашчык, А. Арэшка, А. Кудасаў, Г. Родзька.

галінах грамадзкае працы. Пры гэтых успомненых арганізацыях ёсьць розныя кружкі, як: драматычныя, харавыя й танцавальныя і іншыя.

Вельмі Паважаны Айцец, можа, Вы маеце ці маеце нагоду дастаць нам сцэнічнае літаратуры (драма, камэдыя, п'еса) ці народных песьняў, дык я Вас вельмі прашу, прышлеце нам яе, калі ласка. Калі зможаце гэтую просьбу выканаць, дык мы будзем вельмі ўдзячны для Вас. Выбачце мне, калі ласка, за такія мае вымаганьні, што я заўсёды да Вас зьвяртаюся зь імі, але я веру, што Вы мяне разумееце, і гэта мне за зло не берацё.

На гэтым закончу свой ліст і яшчэ раз Вас моцна перапрашаю за мае недарэчнасьці, калі-небудзь напісаныя мною, і пазастаюся да Вас з пашанаю.

Юзя Брэчка

Віндышбэргердорф, 12.6.1949 г.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Прабачце мне, калі ласка, што так доўга не давала ніякага адказу. Я ведаю, што Вы маеце вельмі мала часу, дык я ня хочу яго Вам забіраць сваімі лістамі. Але прымеце ад мяне гэтых некалькі слоў і выбачце мне за маю неакуратнасьць. Паважаны Айцец, я Вам шчыра дзякую за Вашую помач, аказаную мне. Гэтыя 5 месяцаў я працавала з моладзьдзю, гэта значыць, пры арганізацыях Скаўцкай і *YMCA/YWCA*[7]. У нашых лягерах і далей гэтыя зацятыя змаганьні прадаўжаюцца. Мілы Бог нас пакараў за нашыя грахі гэтаю цяжкою караю. Гэтыя сваркі не даводзяць да дабра, але да ўпадку. Паважаны Айцец, заносьце, калі ласка, свае малітвы да Ўсемагутнага, каб Ён прыслаў нам помач, каб даў згоду і любоў адзін да другога. Бо цяпер сярод нас пануе вялікая ненавісьць. Баліць моцна сэрца, гледзячы на ўсё гэта. Моцна пакутуе наш бедны народ. Можа, так давялі лягеры да такога ўпадку? Чаму ў пачатку было ўсё як-бы ў парадку? Адным словам, жыцьцё горкае, моладзь страшна дэмаралізуецца. Можа, стане лепш, калі апынуцца на эміграцыі. Цяпер ужо нават спыняюцца працы ў арганізацыях з прычыны выезду на эміграцыю. Людзі памаленьку выяжджаюць, бо далей такім жыцьцём жыць немагчыма. 14.5.49 г. адбыўся чацьвёрты выпуск нашай Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы. Абітурыентаў было шасьцёх. Чатырох абітурыентаў з нашай гімназіі едзе ў Бэльгію. Наш лягер 15.6.49 г. перавозяць у Розэнгайм. Адтуль я пішуся на эміграцыю ў Канаду. Калі ня ўдасца, дык выяду ў Амэрыку ці Аўстралію. Буду там працаваць на

---

[7] ***YMCA / YWCA*** (анг. *Young Men's Christian Association / Young Women's Christian Association*) — сусьветныя моладзевыя валянтэрскія арганізацыі, заснаваныя ў Вялікабрытаніі ў XIX ст.

сябе і буду старацца, каб працаваць у нашых арганізацыях, каб быць карыснай для нашага народу.

На гэтым канчаю і жадаю Вам усяго найлепшага!

Пішэце, калі ласка, на адрыс [...].

Пазастаюся з пашанай!

Юзя [Брэчка]

Розэнгайм, 18.[8].1949 г.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Ваш ліст атрымала, за які Вам шчыра дзякую. Выбачце, што так доўга не адпісвала.

Сёньня-ж Вам апішу кароценька аб жыцьці нашага лягера.

Як Вам ужо ведама, мы знаходзімся на іншым мейсцы. Цяпер нас шмат. Агульны лік больш як 1000 асоб. 700 асоб беларусаў. Цяпер наш быўшы Віндышбэргердорф злучаны з быўшым Остэргофанам. Таксама прыехала яшчэ некалькі дзясяткаў нашых суродзічаў зь іншых лягераў.

Наш горад невялікі, але вельмі прыгожы, таксама тут аколіцы прыгожыя. Мы жывём за горадам у кашарах. Маем добрыя пакоі. Аднак жыцьцё плыве вельмі сумна. Сваркі і непаразуменьні і далей адбываюцца. Амаль кожны з нас вельмі перамяніўся. Ходзіць сумны, задуманы і такі вялы.

Гэтую вяласьць можна заўважыць таксама і на нашай моладзі. Няма ўжо такога запалу і такой энэргіі, якая была пару год таму назад. Аднак паміма ўсяго мы ідзём наперад. Моладзь праводзіць сваю працу і стараецца сябе разьвесяліць, хоць і штучна. Цяпер ужо не надта добра праводзіцца скаўцкая праца, таму што кожны стараецца выехаць на эміграцыю, і ў сувязі з гэтым няма ўжо такіх міжнацыянальных скаўцкіх змаганьняў. Аднак у гэтым годзе, напэўна, ужо апошні раз адбыўся летні лягер пад кіраўніцтвам *YMCA/YWCA*. У гэтым лягеры былі нашыя хлопцы і дзяўчаты. Гэты лягер трываў два тыдні. Тут адбываліся розныя спартовыя змаганьні, дзе бралі ўдзел нашыя дзяўчаткі і ўзялі першыя мейсцы, таксама добра сябе паказалі пры выступах на вогнішчах. Сёньня-ж у нашым лягеры маецца таксама адбыцца вогнішча, на якім будзе прысутнічаць галоўны кіраўнік сп. [Вацлаў] Папуцэвіч. У пачатку гэтага месяца маецца адбыцца тыдзень Беларускай Культуры.

Жыхары нашага лягеру будуюць аўтакефальную беларускую царкву, сьвятаром якое будзе а. [Васіль] Тамашчык. Аднак паміма ўсяго ў лягеры адбываюцца розныя сваркі і непаразуменьні.

Цяпер у нашым лягеры пануе націск на эміграцыю, пераважна ў Аўстралію. Людзі памаленьку выяжджаюць, то ў Амэрыку, Аўстралію, а найменш у Канаду. Я запісалася ў Канаду. Чакаю камісіі.

Цяпер наразе працую ў дзіцячым садочку, таксама-ж працую з скаўткамі, якіх маю 26.

З дому даходзяць вельмі сумныя весткі. Нашыя суродзічы церпяць вялікі голад. Нават пухнуць з голаду і паміраюць. Таксама і далей адбываецца гэты вываз на Сыбір.

Я нядаўна атрымала ліст з дому, які быў вельмі сумны. Не магу яго чытаць.

Вельмі Паважаны Айцец, маліцеся да Ўсемагутнага за наш пакутны народ. Можа, Ён выслухае Вашыя малітвы і пашле Свае ласкі на нашую гаротную зямельку і асушыць сьлёзы з вачэй нашага шматпакутнага народу. Нам цяжка жыць тут, на чужыне, будучы далёка ад дарагое Бацькаўшчыны, але нашым суродзічам даводзіцца куды горш. Нашым абавязкам ёсьць маліцца і прасіць Мілага Бога, каб Ён паслаў канец гэтаму чырвонаму кату. Будзем старацца рабіць добрыя ўчынкі і маліць Бога. Калі, можа, мы ня годныя Яго ласкі, дык, можа, хто-небудзь сярод нас.

Часапісу "Божым Шляхам" не атрымоўваю. Калі зможаце прыслаць, дык прышлеце, калі ласка.

На гэтым кончу сваю пісаніну і жадаю Вам усяго найлепшага ў Вашай працы і пазастаюся да Вас з пашанай!

Юзя [Брэчка]

Розэнгайм, 3.11.1949 г.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Выбачце, калі ласка, што так доўга не адпісвала, але нейк складалася, дык замарудзілася з адказам. Я думала й плянавала, што ўжо нарэсьце закончыцца для мяне дэпіўскае жыцьцё, але сталася зусім інакш. Я прабыла 7 тыдняў на камісыі, і консул адкінуў. Прычыны ніяк не магу даведацца, толькі мне сказалі, што здароўем я зусім адказваю, і проста зайшла памылка, але мяне пацешылі, што я магу ехаць у ЗША праз ашуранс або праз *NCWC*[8], і ў Аўстралію дарога адкрыта, у Канаду магу ехаць таксама, калі хто-б сьцягнуў, і нават як хатняя працаўніца, але магу пісацца толькі праз 3 месяцы. Канаду я разыгную, цяпер раблю захады, каб як-небудзь дастацца ў ЗША. Калі-ж ня ўдасца, дык апошняя мая дарога ў Аўстралію, але туды я вельмі ня маю ахвоты ехаць. Мне вельмі прыкра, што на сьвеце такая няпраўда, бо паехалі такія подлыя й распусныя дзяўчаты, а я нават не заслужыла на канадыйскую служанку. Тыдзень пасьля камісіі я не магла дайсьці да сябе і я баялася, каб не звар'яцець, але Бог даў сілы, і крыху я ўспакоілася. Я ўжо падаю, я ня маю сілы ісьці далей па такой цярністай дарозе. Знаю адно, што гэта Божая кара. Толькі мяне адно дзівіць. Чаму

[8] *National Catholic Welfare Conference.*

лёгка жыць подлым і распусным людзям? Іх Бог не карае, верце мне, калі-б я пайшла іншаю дарогаю, дык паехала-б у Канаду, але я аддалася волі Божай і сказала: няхай будзе тое, што мае быць. Буду нясьці гэты цяжкі крыж, толькі баюся, што ня хопіць мне сілы, і я ўпаду. Наразе я стаю на ўпадку, як на матэрыяльным, так і падуховым. Ня маю працы, цяжка яе знайсьці. Мушу пару месяцаў яшчэ быць у Нямеччыне. Паважаны Айцец, выбачце мне, калі ласка, за такі ліст, але паверце, [старонка адсутнічае].

Я моцна веру, можа, мы яшчэ будзем нягодны дачакаць тае шчасьлівае хвіліны, але хтосьці з нас напэўна дачакае таго дня, які будзе сьветлым днём у нашым жыцьці. А цяпер мусім маліць Бога, каб Ён дапамог нам перанясьці ўсе гэтыя мукі і дачакаць гэтага шчасьлівага дня!

У нашым лягеры жыцьцё плыве манатонна. Шмат запісалася ў Аўстралію. Таксама памалу выяжджаюць у Амэрыку.

20.8.49 г. адбылося высьвячэньне Беларускай Аўтакефальнай Царквы. Цяпер у царкве на заканчэньне Божай Службы пяюць “Магутны Божа”. Наш а. [Васіль] Тамашчык кажа прамову вельмі прыгожа. Так што дапамог нам Бог збудаваць сьвятыню.

На гэтым кончу і жадаю Вам усяго найлепшага і пазастаюся да Вас з пашанай.

Юзя [Брэчка]

Розэнгайм, 23.12.1949

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Ваш ліст атрымала ўжо даўно, за які Вам шчыра дзякую. Адначасна Вас вельмі прашу на мяне ня гневацца і мне прабачыць за мае можа недарэчныя лісты. Можа, я для Вас спраўляю няпрыемнасьць сваімі недарэчнымі лістамі? Прабачце мне. Паверце мне, як цяжка жыць адной. Хаця я жыву сярод сваіх, але астаюся сама адзінокая. Кожны заняты сваімі клопатамі. Часам хочацца выліць увесь цяжар і боль душы, але цяжка спаткаць асобу, каторая-б поўнасьцю зразумела. Сяньня людзі глядзяць на сьвет інакш, яно часта мяне дзівіць, такая зьмена, і для мяне стаецца незразумелай. Вашы лісты заспакойваюць боль мае душы. Я расчаравана сваім жыцьцём, таму што не магу поўнасьцю асягнуць сваіх плянаў. Часам мне ня хочацца жыць. Бязумоўна, я моцна грашу міламу Богу. Я заспакойваюся малітваю. Цяпер, дзякаваць Богу, я ўспакоілася. Пагаджаюся з сваім лёсам. Я веру, што гэта ўсё дзеяцца з волі Божай. Я грэшна й ня маю сілы нясьці гэты маленькі крыж. Я стараюся выехаць у ЗША, калі-ж ня ўдасца, дык паеду ў Аўстралію. Усюды нашых шмат. Я страціла ўсё. Вярнуцца на Бацькаўшчыну маю надзею, але ўбачыць сваіх бацькоў дык ня маю надзеі. Я працавала, працую і буду працаваць для свайго шматпакутнага народу. Мне ў патрэбе ня будзе страшна і загінуць. Я кажу, што

я нешчасьлівая, гэта праўда, але ёсьць людзі, горшыя, як калекі, хворыя, вязьні і г. д. Паважаны Айцец, я малю Бога, каб Ён мне паслаў моц і сілу волі, каб я магла весела прыймаць усё і быць заўсёды задаволенай, як з шчасьця, так і зь няшчасьцем, і дзякаваць Богу за ўсё. Бог карае і шкадуе.

Цяпер для мяне існуе паласа няўдач. Не ўдалося мне выэміграваць, мушу сядзець у гэтых праклятых лягерох, не магу ніяк працы найсьці, але гэта нічога. Дзякую Богу за ўсё. Дасьць Бог і для мяне лягчэйшыя й весялейшыя дні, а цяпер мушу ісьці і цешыцца тым, што ёсьць, як відаць, я заслужыла на гэта, так Бог хоча. У нашым лягеры яшчэ існуе гімназія, але арганізацыі памаленьку ўпадаюць. Кожны заняты эміграцыяй. Пасьля Сьвят выедзе шмат людзей як у ЗША і ў Аўстралію. 19.12.1949 г. у нашым лягеры адбылася важная падзея — хіратонія а. [Васіля] Тамашчыка ў архірэя. Праз 3 дні адбывалася Божая Служба. Было 3 украінскіх архірэяў і шмат сьвятароў, а таксама розных прадстаўнікоў. Кожны з прадстаўнікоў меў прамову. Прамовы былі прыгожыя і ўзварушаючыя. Быў таксама беларускі каталіцкі сьвятар — а. [Уладыслаў] Салавей. Мелі мы таксама Божую Службу на роднай мове. Я вельмі рада, што нам Бог дапамог мець Аўтакефальную Беларускую Праваслаўную Царкву. Я рада, што мы маем такога патрыёта-архірэя, і я веру, што Ён напэўна вывяжыцца з сваіх абавязкаў. Можа, жадаеце мець зьнімкі з гэтага вялікага Сьвята?

Надыходзяць Сьвяты. Яны для нас — сумныя. Але я веру, будзем і мы сьвяткаваць па нашых абычаях у вольнай і незалежнай Беларусі! Паважаны Айцец, узносьце ў гэтыя Вялікія Дні малітвы да мілага Бога за нашых герояў-партызан, мучанікаў па вязьніцах, на ссылках і за нас, выгнанцаў. Каб мілы Бог даў нам моц усім нясьці гэты цяжкі крыж і калісьці з усіх куточкаў Сьвету вярнуцца на вольную зямельку і жыць у згодзе і веры хрысьціянскай. Прыміце ад мяне, калі ласка, сьціплае павіншаваньне й кавалачак аплатка.

На гэтым кончу, жадаю Вам усяго найлепшага й пазастаюся да Вас з пашанай!

Юзя [Брэчка]

*Schleisheim*[9], 20.3.1951

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Сьпяшу паведаміць Вас, што я Ваш ліст атрымала ўжо даўно, за што Вам шчыра, шчыра дзякую. Як Вы бачыце самі, жыву я і далей

[9] **Шляйсгайм** (ням. *Schleißheim*) — горад у Баварыі каля Мюнхэну. Тут пасля Другой сусветнай вайны дзейнічаў лягер для перамешчаных асобаў, дзе жылі больш за сотню беларусаў і працавалі беларускія навучальныя ўстановы. У 1949 г. ягоныя жыхары былі пераведзеныя ў Розэнгайм.

у гэтым "слаўным" Шлязгайме. Жывецца мне сумна й цяжкавата, але дзякаваць міламу Богу за ўсё. З маёю эміграцыяй наразе нічога ня чуваць, толькі знаю я адно, што мне забаронены ўезд у ЗША. Дакладнай прычыны ня ведаю чаму, але толькі прыпушчаю, што мне забаронена таму, што я была ў *Dallwitz (Ostpreußen)*[10], у беларускай партызанцы. Чуваць, што маецца быць новы закон, па якому будуць магчы ехаць у ЗША ўсе праступнікі — падобныя мне. Але няведама, калі ўвойдзе ў жыцьцё гэты закон.

Як Вам ужо ведама, што наш лягер ёсьць інтэрнацыянальным, але да гэтага часу кіравалі ім расейцы. Але цяпер крыху зьмянілася. Стаў іншы старшыня *IRO*, дык ён ёсьць аб'ектыўны да ўсіх нацыянальнасьцяў. Ён сказаў, што кожная нацыянальнасьць павінна мець свой камітэт і прадстаўніка ў лягерным камітэце. Расейцам гэта вельмі не на руку. Яны імкнуліся, каб беларусы ня мелі свайго прадстаўніка. Мы зрабілі сьпісак беларусаў паводле статыстыкі, дык аказваецца, што нас у лягеры каля 150 асоб. Праўда, сапраўдных і моцных асобаў дык лічаныя асобы, а рэшта прарасейцы і нясьведамыя, але нічога, яны нам дапамаглі мець свайго прадстаўніка і лічыцца асобна. Так што выбралі мы агульным сходам нацыянальны камітэт, старшынёю якога — Дубоўскі Б.[11], сакратар — я і члены — Падлазьнік[12], Лазар[13]

---

[10] Маецца на ўвазе **Беларускі дэсантны батальён "Дальвіц"** — вайсковае фармаваньне, створанае беларускімі дзеячамі пры дапамозе абвэру (нямецкай вайсковай выведкі й контравыведкі) для антысавецкай барацьбы ў тыле Чырвонай Арміі, на тэрыторыі Беларусі. Батальён быў арганізаваны ў ліпені 1944 г. у мястэчку Дальвіц ва Ўсходняй Прусіі пры нямецкай дывэрсійна-выведвальнай школе. Начальнікам школы быў маёр Геруліс (*Georg Gerullis*), а яго намесьнікамі — Барыс Рагуля і Ўсевалад Родзька. У сакавіку 1945 г. батальён быў перакінуты з папярэдняга месца дыслякацыі ў мястэчку Вальбуш пад Быдгашчам у раён Бэрліну.

[11] Відаць, маецца на ўвазе **Васіль (Базыль) Дубоўскі** (1910—1996), грамадскі дзеяч. Быў у Францыі, ЗША.

[12] **Мікалай Падлазьнік** (на эміграцыі **Партлезьнік**, 1904—1983), вайсковы й грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Менску. Падчас нямецка-савецкай вайны трапіў у палон. Вызвалены, далучыўся да Арміі Ўласава, уваходзіў у Беларускі камітэт пры Камітэце вызваленьня народаў Расеі. У лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне далучыўся да беларускага руху. У 1946—1947 гг. разам зь Я. Кіпелем, С. Шаўцовым, С. Жамойдам, М. Сцяпанавым заснаваў Беларускую народную партыю. Увайшоў у Арганізацыю беларускіх вэтэранаў, створаную Ф. Кушалем. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Пасэйку (Нью-Джэрзі). Браў удзел у беларускіх арганізацыях, у тым ліку Арганізацыі беларускіх вэтэранаў.

[13] Магчыма, маецца на ўвазе **Ўладзімер Лазарэвіч** (1908—1965), вайсковы дзеяч. Афіцэр польскага войска. У 1941—1944 г. жыў у Менску, працаваў у гарадзкой управе загадчыкам аддзелу ўліку насельніцтва. Зь лета 1944 г. —

і Лукіянчык[14]. Дубоўскі Б. ёсьць прадстаўніком у лягерны камітэт, так што ў лягерным камітэце ёсьць наступныя прадстаўнікі: трох ад расейцаў і ўкраінцаў (бо іх найбольш) і па аднаму ад: палякаў, югаславаў, беларусаў, літоўцаў, латышоў, вэнграў, калмыкаў. Так што, магчыма, будуць у лягеры лепшыя парадкі. Бандытызм ужо прыціх. Працы нацыянальнай амаль ніякай не праводзіцца, толькі час ад часу паказваецца газэта "Бацькаўшчына". Кожная вера мае сваю сьвятыню. Нашыя праваслаўныя ходзяць да ўкраінцаў, бо наш уладыка Васілі [Тамашчык] служыць у іншым лягеры — Варнэказэрнэ. Я хаджу таксама да ўкраінскай грэка-каталіцкай цэрквы. Надыходзяць Вялікія Сьвяты для каталікоў цэлага сьвету! Гэты дзень ёсьць вялікім для нашага народу! Мы яго сьвяткуем радасна штогод, але ў гэтым годзе мы сьвяткуем падвойна! Праўда, гэтыя вялікія й вясёлыя Сьвяты для нас зьяўляюцца сумнымі. Таму што мы выгнанцы, мы рассыпаныя па ўсім сьвету, мы аставілі свой родны край, скаваны катамі бязбожнымі! Але нічога, відаць, ужо Такая Воля Божа!

У гэты Вялікі для нас дзень мы павінны з усіх куточкаў сьвету злучыцца думкамі. Абавязкам кожнага із нас пайсьці ў сваю сьвятыню і ўпасьці перад сьвятым вобразам Маці Божае і маліць Яе, каб яна вярнула нам вольную Бацькаўшчыну і каб мы змаглі вярнуцца на свае родныя загончыкі і выслаўлялі імя сьвятое ў сваіх сьвятынях разам з сваімі роднымі, радасна й шчасьліва таксама спатыкаць вялікія й важныя для нас сьвяты! Наша групка таксама рыхтуецца да гэтага сьвята — 25 Сакавіка. Маецца быць Божая Служба, адслужаная ўл[адыкам] Васілём ў украінскай праваслаўнай царкве, а пасьля а 14 гадз[іне] у ўкраінскім клюбе маецца быць акадэмія. Рэфэрат будзе чытаць — Дубоўскі Б., і пасьля некалькі вершаў, як: "Ворагам Беларушчыны" Грынько Д., "Годзе" — Алексы П., "25 Сакавіка" — Грынько Т., "Беларускаму люду" — Харытончык З., "Беларуская зямліца" — Якубовіч. Магчыма, некалькі

---

на эміграцыі. Радны БЦР у Бэрліне. Старшы лейтэнант БКА. Быў адзіным выхадцам з Заходняй Беларусі ў БЦР, які выступаў за шчыльнае супрацоўніцтва з Камітэтам вызваленьня народаў Расеі (Уласава). Браў удзел у аднаўленчым пленуме БЦР (травень 1948), радны БЦР у ЗША. Скончыў жыцьцё самагубствам.

14 Магчыма, маецца на ўвазе Аляксандар Лук'янчык (1909—1994), грамадзкі дзеяч. З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у лягерах *DP* у Аўсбаху, Остэргофэне, Розэнгайме. У 1951 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Працаваў на вытворчасьці цэмэнту. Падтрымоўваў беларускую суботнюю школу. Быў сябрам Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Кліўлэндзкага аддзелу. Уваходзіў у парафіяльную раду мясцовай царквы БАПЦ, сьпяваў у царкоўным хоры. Быў радным БНР, сябрам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў.

песьняў і народны танец і на заканчэньне наш гымн. Сьціпла, але інакш немагчыма. Маюцца быць госьці ад іншых нацыянальнасьцяў.

На гэтым кончу і жадаю Вам усяго добрага й пазастаюся да Вас з пашанаю!

Юзя [Брэчка]

*Schleisheim*, 16.IV.1952 г.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Шчыра Вам дзякую за Ваш ліст, а таксама часапіс. Адначасна прашу Вас вельмі выбачыць мне, што я доўга Вам не адпісвала! Я ўжо цяпер зачала мала пісаць, таму што я ня хочу нікому заварочваць галоў сваімі лістамі, бо добрым хваліцца няма чым, а дрэннае аж прыкра апісваць. Бязумоўна, я і цяпер ня маю нічога надзвычайнага, але ўсё-ж такі і гэтым я павінна з Вамі падзяліцца як з дарагою асобаю маёй душы.

Вось-жа, як Вам ведама, Паважаны Айцец, я й надалей знаходжуся ў гэтай Нямеччыне і ў гэтым самым лягеры, бо ў іншы немагчыма. Бог мілы ведае, колькі часу пройдзе, пакуль я яе пакіну. Я не змагла выехаць у ЗША праз сваіх, а іменна дзякуючы сп. [Францу] Кушэлю[15], але гэта ўсё нічога. Усё знаходзіцца ў Божых руках. Я ўжо перажывала не такое гора, але перажыла, дзякуючы Божай ласцы, і моцна веру, што Ён і надалей мяне не адпусьціць! Я згадзілася з усім і дзякую Богу за ўсё! І моцна веру, што мілы Бог дапаможа мне ва ўсіх маіх цяжкіх хвілінах.

Цяпер усе чужынцы, каторыя знаходзяцца ў Нямеччыне, мусяць падпарадкоўвацца іхным законам. І нас яны павінны трактаваць як немцаў, але гэта толькі на паперы, бо ў жыцьці крыху інакш. Праўда, яны нібы даюць дапамогу, бо мусяць. Працу тут вельмі цяжка знайсьці. Лічаныя асобы яе маюць. Немцы да нас ставяцца несымпатычна. Тым людзям, магчыма, жывецца, каторыя маюць працу, але каторыя жывуць толькі на нямецкай помачы, дык жывецца вельмі цяжка. Яны ня жывуць, а існуюць. Мне асабіста жывецца — можна вытрымаць, адным словам, вяжу канец з канцом.

У нашым лягеры можна спаткаць розныя нацыянальнасьці, адным словам, можна пабачыць каго хочаш. Найбольшая група — гэта ўкраінская, калмыцкая, расейская й польская, а іншыя меншыя. Нашых суродзічаў тут ёсьць на паперы каля 120 асобаў, але актыўных вельмі мала. Нядаўна адбылося паседжаньне, на каторым выбралі камітэт нашай групы, і старшынёю зьяўляецца сп. Іван Колас, а сакратаром Аляксандар

[15] **Францішак Кушаль** (1895—1968), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны быў на розных пасадах у Менску, у 1944 г. — камандзір Беларускай Краёвай Абароны. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, з 1950 г. — у ЗША.

Стагановіч[16]. Праўда, нашая група ўладжвала хаця й вельмі сьціпла, але ўсё-ж па меры магчымасьці сьвята 25 Сакавіка. Была адслужаная паніхіда й малебень у Украінскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве і іхным сьвятаром, бо мы свайго ня маем. Пасьля абеду быў прачытаны рэфэрат сп. [Алесем] Вініцкім[17], і пасьля яго адсьпявалі наш нацыянальны гымн, а пасьля ўладзілі сьціплае прыняцьцё. На яго зыйшліся амаль што ўсе сьведамыя беларусы. Яно прайшло вельмі добра.

Тут маецца арганізавацца Арганізацыя Вэтэранаў, і яны ўжо маюць у праэкце купіць сьцяг. У Мюнхэн штотыдня выдаецца газэта "Бацькаўшчына". Там я працую, гэта значыць, гэтую газэту запакоўваю і адсылаю на даныя адрасы. Я Вам дасылаю кожны нумар. Таксама зарганізавалася Жаночая Арганізацыя, якая мае дапамагаць бедным і няшчасным нашым суродзічам пры помачы нашых розных арганізацыяў у іншых краінах. Старшынёю гэтае арганізацыі ёсьць сп. З[інаіда] Станкевіч[18], а сакратаром я. І так прайходзяць мне дні. Цяпер мне стала крыху вясялей. Я таксама належу да ўкраінскага грэкакаталіцкага хору, бо нашага няма. Сьвяты мне прайшлі сумнавата, таму што адна-адзінісенька.

Здаецца, што ўсё Вам напісала. На гэтым закончу сваю пісаніну. Жадаю Вам усяго найлепшага! Адначасна прашу Вас вельмі, Паважаны Айцец, памаліцеся за маіх бацькоў, але я ня ведаю, як (бо я ня ведаю, ці яны жывыя, ці памёршыя), адным словам, калі жывыя, дык няхай ім мілы Бог дапаможа нясьці цяжкі крыж і дасьць цярплівасьці перажыць усе тыя мукі, калі памёрлі, дык-жа няхай ім будзе вечны супакой! І памаліцеся за мяне, каб мяне мілы Бог ніколі не адпушчаў. Я таксама малюся, але я грэшная, і можа мая малітва ёсьць нягодная. Паважаны Айцец, калі ласка, выслухайце маю гэтую просьбу, за што я буду Вам удзячная! Пазастаюся да Вас з пашанаю!

Юзя [Брэчка]

---

[16] **Аляксандар Стагановіч (малодшы)** (1921—1974), старэйшы сын грамадзкага дзеяча Аляксандра Стагановіча. Вучыўся ў Несутычах, потым у народнай школе ў Наваградку. У часе нямецкай акупацыі выехаў на працы ў Нямеччыну, дзе быў арыштаваны й скіраваны ў канцэнтрацыйны лягер Дахаў. Пасьля вызваленьня доўга лекаваўся ад сухотаў і ня мог разам з бацькамі выехаць у ЗША. Жыў у Нямеччыне. На пачатку 1970-х пераехаў у ЗША.

[17] **Аляксей Вініцкі** (1891—1972), грамадзка-культурны дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі настаўнічаў у Нясьвіскім павеце. У 1944 г. выехаў на эміграцыю, з 1956 г. жыў у ЗША. Займаўся грамадзкай і навуковай працай, быў сябрам Рады БНР. Аўтар працы "Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох".

[18] **Зінаіда Станкевіч** (1909—1988), грамадзкая дзячка, жонка Станіслава Станкевіча, рэдактарка "Каласкоў" — дзіцячага дадатку да газэты "Бацькаўшчына".

*Los Angeles*, 10.VI.1957

Слава Ісусу Хрысту!

Паважаны Айцец!

Шчыра Вам дзякую за Сьвяточнае павіншаваньне, а таксама за адслужэньне Сьвятое Імшы! Выбачце, што я Вам крыху займу часу сваім лістом, але мне хацелася-б з Вамі падзяліцца сваімі ўражаньнямі. Калі я прыехала ў ЗША, дык гэты край выдаўся мне нейкім дзіўным, а навет і страшным. Праўда, да мяне амэрыканцы аднясьліся вельмі прыхільна й сымпатычна. Я перш паехала ў штат Колёрадо, там нашых людзей амаль няма. Я затрымалася ў сям'і Шыбут[19]. Гэты штат вельмі вялікі й багаты прыгожымі краявідамі. Тут я прабыла няпоўных два тыдні, бо ў канцы першага тыдня пасьля майго прыезду прыехаў Чэсь[20]. Раней я яго зусім ня ведала і ніколі ня бачыла. Праўда, мы перапісваліся амаль два гады, але я зусім і ня думала аб злучэньні зь ім свайго лёсу. Перш мне ў вочы кінулася, што тут адзінокім вельмі цяжка жыць, а мне ўжо адзіноцтва апрыкрэла, дык паміма, што я і мала пазнала яго, на яго прапанову я рашыла злучыць свой лёс. Мы ў Калёрадо ўзялі цывільны шлюб, і я пакінула гэты штат і паехала ў Каліфорнію. Да касьцельнага шлюбу я затрымалася пры адной яго знакомай сям'і. За месяц адбыўся наш касьцёльны шлюб, гэта 21.XI.56 г. у амэрыканскім каталіцкім касьцёле — сьв. Францішка. Мушу сказаць, што я сваім лёсам вельмі задаволена і шчасьліва. Пасьля доўгіх цярпеньняў ды розных перажыцьцяў Мілы Бог паслаў мне сваю ласку. Я маю сапраўднага сябру жыцьця! Мушу пахваліцца тым, што такіх людзей, як Чэсь, цяжка знайсьці ў сяньняшні час. Ён ёсьць моцна рэлігійны, добры, сумленны, інтэлігэнтны, справядлівы. Мушу сказаць, што адной было-б мне вельмі цяжка і напэўна ня раз горка заплакала-б. Тут трэба ўмець жыць. Тут ёсьць шмат чаго добрага, але і дрэннага. Спачатку я працавала на фабрыцы, а цяпер ужо 5-ы месяц у бюры пры картатэцы. Мая праца лёгкая, але мала платная, але я вельмі ёю задаволена. Чэсь працуе цяжка, ды апрача таго ходзіць на вячэрні каледж-бухгальтэрыі. Тут шмат чужынцаў, але беларусаў пару сем'яў, ды тыя параскіданыя, так што грамадзкае працы няма ніякай. Паважаны Айцец, пасылаю Вам $ 3 на часапіс "Божым Шляхам", а таксама пасылаю я адно апавяданьне,

[19] Маецца на ўвазе сям'я **Хведара Шыбута** (1901(1900)—1990), грамадзкага дзеяча. У 1925—1926 гг. быў сябрам Беларускага сялянскага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай цывільнай адміністрацыі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. стаў кіраўніком бацькоўскага камітэту Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў г. Пуэбла (*Pueblo*, штат Каларада). Прыхільнік БЦР, прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на Каларада.

[20] Маецца на ўвазе Часлаў Найдзюк.

якое атрымала нядаўна ад аднаго сябры з Польшчы. Ён прасіў мяне, каб дзе-небудзь яго зьмясьціць у нашай прэсе. Я прасіла-б Вас моцна прагледзець яго, і калі адпаведнае яно ёсьць, дык зьмясьціце, можа, у часапіс. Наразе канчаю сваю пісаніну. Жадаем Вам усяго найлепшага!

Ваша Ю[зэфа] Найдзюк

*Los Angeles*, 13.I.1958

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны Айцец!

Шчыранька Вам дзякую за Калядныя й Навагоднія пажаданьні. Выбачце мне, калі ласка, што Вам крыху забяру часу сваім лістом. Сьвяты нам прайшлі скромна. Мушу сказаць, што ў ЗША сьвяты праходзяць нейк сумна, хаця людзі матэрыяльна маюцца нядрэнна. Куды весялей сьвяткуюць у Эўропе. Духовага адпачынку тут вельмі мала. Тут амаль усё пабудавана на гандлю. На вялікі жаль, гэта адбываецца нават на рэлігійным пункце. Тут, гэта ў Каліфорніі, як Вам ведама, што беларусаў толькі пару сем'яў. Старых эмігрантаў беларусаў шмат, але яны ня пачуваюць сябе беларусамі, амаль усе лічаць сябе рускімі або палякамі. Дык-жа ў нас грамадзкае працы няма ніякае, хаця каб гэтыя сем'і мелі хоць маленькае жаданьне, дык можна было-б хоць крыху нешта рабіць, але бяда: няма любові да свайго роднага ды пачуцьця рэлігійнага. Часам як зьбяруцца гэтыя сем'і на якоесь прыняцьцё, наядуцца ды пасьля пачынаецца дыскусься на тыя ці іншыя тэмы. Мушу сказаць, што прыкра ды сэрца баліць, што людзі нацыянальна сьвядомыя ды маюць прэтэнсіі на дзеячаў, а рэлігійна зусім адстаўшыя, а нават і няверуючыя. Напрыклад: чуліся ў дыскусьях наступныя сказы: *"каталіцкая рэлігія не мадэрная, адстаўшая ад жыцьця", "няма неба і пекла і наагул загробнага жыцьця"* і т. п. З гэтага ўсяго ў мяне паўстаюць такія пытаньні. Чаго гэтыя людзі прыехалі на эміграцыю? Чым яны лепшыя ад бальшавікоў? Як яны могуць быць прыкладам для народу? Як будзе выглядаць Беларусь і жыцьцё людзям пры кіраўніцтве такіх людзей? Прыкра й балюча, што нашая інтэлігэнцыя так дыскутуе, катора шмат перажыла за гэтыя гады выгнаньня. Аднак цяпер гэта ўсё пайшло ў забытае. Можа на гэта ўплываюць абставіны. Мушу сказаць, што ў ЗША моцнае веры амаль няма. Тут свабода на ўсё. Кожны дзень паўстаюць нейкія сэкты. Часта можна пачуць навучаньне Бібліі на вуліцах, але гэта ўсё выглядае так не паважна і як-бы насьмешка. Няма таксама тога глыбокага пачуцьця да сьвят. Каляды і Вялікдзень тут сьвяткуюць толькі адзін дзень. Рассылаюць павіншавальныя карткі сотнямі, тысячамі, асабліва перад Калядамі. Упрыгожваюць прыгожа выставы, вуліцы, робяць розныя парады, але гэта ўсё для гандлю. На

другі дзень Каляд усё ўжо раскідана, ды шмат хто і выкідае ялінкі, а Вялікдзень праходзіць амаль незаметна. Нашы людзі жывуць сваім жыцьцём. Думаю, што дзе нашых суродзічаў шмат, дык гэтыя сьвяты праходзяць духова, хоць і па аднаму дню, прыемна.

Мы жывем па-старому. Дзякаваць Богу, Ядзя і мы здаровыя. Ядзя расьце і разьвіваецца добра. Чэсь ужо два месяцы як не працуе. Тут цяпер крызыс на работу. Даюць яму як непрацуючаму 39 д[аляраў] на тыдзень, і ёсьць надзея, што ўмовы на работу палепшацца, дык жывём надзеяй на лепшае. Клімат у нас вельмі добры. Цёплы, як вясною. Чэсь вучыцца бухгальтэрыю, можа, калісьці зможа працаваць у гэтай галіне.

Шчыра Вам дзякуем за часопіс "Божым Шляхам", вельмі нам падабаецца ён. Чэсю вельмі падабаецца Ваш артыкул "У палоне ненавісьці". Прыхільнікі сп. [Івана] Касяка цешыліся й гаварылі, што шмат гаворыцца, крытыкуецца кніжка сп. Касяка, але ніхто добра не напісаў проці яе, а цяпер замоўклі.

Я маю да Вас просьбу, калі ласка, адпраўце імшу за здароўе маіх бацькоў, Адама і Юзэфы. Я атрымала весткі з дому ад цёткі, катора ёсьць у Латвіі. Яна выехала ў Латвію яшчэ ў 1938 г., там выйшла замуж за латыша. У 1948 г. я напісала была да яе ліст і мела ад яе вестку, што мае бацькі былі вывезены на Сібір, але, дзякаваць Богу, перамаглі ўсе мукі й цяпер вярнуліся дадому. Здароўя ўжо няма. Мама хворая — мае катар жалудка, а тата так сама ня мае здароўя. Іх ня прынялі ў калхоз, далі ім нейкую хатку, карову, і сястра мая ім дапамагае, і так яны жывуць. Мая сястра Марыя дзякуючы помачы цёткі акончыла дзесяцілетку і дастала працу ў Латвіі пры бухгальтэрыі на фабрыцы. Зь лісту цёткі выходзіць, што касьцёл у Мядзьведзічах ня зьнішчылі, бо пісала, што мае бацькі ходзяць кожную нядзелю да касьцёлу. Жыцьцё там дрэннае, асабліва ў калхозе, навет у Латвіі. Цётка піша, што за 1 працадзень атрымоўваюць яны 1 руб. і ½ кг зярна, а 1 кг цукерак каштуе 10 руб., самыя найгоршыя туфлі 60 руб., а лепшыя 300 руб. — 500 руб. Пшаніцу жалі й бульбу кончылі капаць 25 лістапада, а 30 лістапада выпаў сьнег. Наагул мучацца мільёны людзей. Сэрца баліць, але мусім маліцца за лепшую іх долю!

З глыбокаю пашанай да Вас. Выбачайце.

Юзя [Найдзюк]

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***

*Эміграцыйны эпісталярый*

# БЕЛАРУС У НОВАЙ ЗЭЛЯНДЫІ

*Аднаго яны моцна жадаюць:*
*Пабываць у краях незнаёмых,*
*Ды зазнаць там і шчасьця і гора...*

Максім Багдановіч

*Зазвычай ліставаньне нас вабіць ці то асобаю аўтара, ці гісторыямі, пра якія распавядаецца на яго старонках.*

*Вось жа пра аўтара гэтых лістоў нам, бадай, амаль нічога няведама, за выняткам імя: Марыян Каранеўскі. Ведама таксама, што па вайне эміграваў ён у Новую Зэляндыю й нават пісаў адтуль у газэту "Бацькаўшчына".*

*Магчымасьць эміграцыі ў Новую Зэляндыю зьявілася даволі рана. Ужо напачатку 1948 году было абвешчана, што краіна мае намер прыняць некаторую колькасьць ДП, у тым ліку сіротаў*[1].

*А праз год адтуль пачалі даходзіць першыя весткі-ўражаньні:*

*"Куды толькі не закідае лёс беларускую эміграцыю. Трое нашых суродзічаў, пасьля доўгага вандраваньня па лягерох ДП у Эўропе, сяньня апынуліся аж у Новай Зэляндыі. Ступіўшы на чужую зямлю, нашыя браты перадусім навязалі лучнасьць з газэтай «Бацькаўшчына», каб празь яе мець лучнасьць з усімі сваімі суродзічамі-выгнанцамі. Апісаўшы свой падарож з Трыесту да Вэлінгтону (1 месяц і 7 дзён), нашыя землякі апавядаюць далей, як іх сустрэла чужая зямля:*

*«Насельніцтва нас сустрэла вельмі добра. Усюды нас віталі, пакуль нас вязьлі да лягера. Тут, у лягеры, таксама абходзяцца з намі вельмі добра. Ежа таксама добрая — еж, што хочаш і колькі хочаш. Атрымалі ўсе, хто ня меў, вопратку. Кажны тыдзень даюць кішанёвыя грошы па 2 фунты. Тут усё надта танна, напрыклад: касьцюм каштуе самы лепшы 12 фунтаў, а працоўны зарабляе 8 фунтаў на тыдзень, а ў лесе да 11—12 фунтаў, як працуе і сыботу. Кашуля на нядзелю лепшай вартасьці — 1 фунт. Дорага тут памешканьне, але толькі ў горадзе, а ў мястэчках дзешавей.*

*У лягеры нас вучаць ангельскай мове. І каб выйсьці зь лягеру да працы, трэба ведаць трохі па-ангельску. Для нас прывозяць кожны*

[1] Новая Зэляндыя прыйме ДП // Бацькаўшчына. № 35 (38). 7 лютага 1948. С. 4.

*дзень кіно і раз на тыдзень ладзяць канцэрт. Учора рабілі ДП канцэрт, ад усіх нацыяў выступалі з танцамі й сьпевамі. Гэты канцэрт зьнялі на кінастужку і перадавалі па радыё. Толькі ад нас, ад беларусаў, ніхто не выступаў, бо нас усяго 3 чалавекі.*

*У Новай Зэляндыі жыве зусім мала беларусаў. Два прыяжджалі да нас у лягер, але яны нацыянальна ня сьведамыя і лічаць сябе ўжо нова-зэляндцамі. Хто зацікаўлены выехаць да Новай Зэляндыі, трэба запісацца на другі транспарт»"*[2].

*А яшчэ праз два гады "Бацькаўшчына" выдрукавала артыкул пад красамоўным назовам: "Новая Зэляндыя — рай для эмігрантаў". Аўтарам яго акурат і быў наш Марыян Каранеўскі:*

*"Беларуская эміграцыя ў Новай Зэляндыі вельмі малая колькасна, якая складаецца з двух групаў: адна, што прыбыла сюды перад двумя гадамі, другая — год таму назад.*

*А шкада, што ў гэтую краіну так мала лучыла беларусаў, бо Новая Зэляндыя з кажнага гледзішча можа быць уважаная за праўдны рай для перасяленцаў. Што датычыцца ўмоваў працы, дык яны вельмі добрыя, а жыцьцёвы штандарт работнікаў, здаецца, тут найвышэйшы ў цэлым сьвеце. Работнік за 40 гадзінаў працы зарабляе ў сярэднім 8 фунтаў на тыдзень. За памешканьне і ўтрыманьне ў гастэлі плаціцца 2 фунты 4 шылінгі, так што ў сярэднім у тыдзень можна адлажыць якіх 4—5 фунтаў. Жанчына зарабляе 5—6 фунтаў, але затое за ўтрыманьне ў гастэлі плаціць толькі 1 фунт 18 шылінгаў. Для адзінокіх або бязьдзетных сем'яў жыць у гастэлі зусім добра, таму што ўсе гастэлі пабудаваныя паводля ўсіх правілаў гігіены. Для сямейных зь дзецьмі з памешканьнем ужо трохі трудней, бо каб купіць свой дом, які складаецца з 4—5 пакояў з кухняй і ваннай, трэба заплаціць ад двух да трох тысяч фунтаў.*

*Ня горшыя таксама і ўмовы працы. Работнікі прыяжджаюць да хвабрыкі сваімі аўтамі і матацыклямі. Усё тут, апрача дамоў, ёсьць вельмі танным, асабліва мяса, якое зьяўляецца таньнейшым за бульбу. У хвабрыках, на чыгунцы, установах і магазынах а 10 гадзіне раніцы і а 3 па паўдні бываюць дзесяціхвілінутныя перарывы на філіжанку гарбаты.*

*Дачыненьні новазэляндцаў да новапрыбыўшых імігрантаў таксама вельмі добрыя й зычлівыя, якія ня робяць ніякіх нацыянальных, рэлігійных ані расавых розьніцаў. Новапрыбыўшых вітаюць, як сваіх ці блізкіх. Шмат людзей з нашага транспарту плакала, калі чужыя зусім людзі спатыкалі нас з цукеркамі й кветкамі. Новая Зэляндыя мае ўсяго каля двух мільёнаў людзей, а ейная паверхня прыблізна такая, як Беларусі. Таму ўсе тут жывуць як адна сям'я, нягледзячы на*

[2] Пячэрскі. Лісты перасяленцаў. Беларусы ў Новай Зэляндыі // Бацькаўшчына. № 15 (59). 18 жнівеня 1949. С. 3.

*тое, што тут ёсьць каля 200 рэлігіяў і рэлігійных сэктаў, а таксама значная колькасьць тубылкаў-маўраў. Яны трохі цёмныя, прыблізна, як маляйцы. Яны тут у вялікім уважэньні, чаго довадам можа быць факт, што яны часта жэняцца зь белымі. Кажны новазэляндчык уважае за свой гонар ведаць хоць-бы некалькі маўрскіх сказаў. У школах дзеці вучацца гісторыі маўраў, біяграфіяў іхных шэфаў, а таксама ўсе маўрытанскія геаграфічныя назовы ўвайшлі ў ангельскую мову гэтага краю. Усе амаль скаўты дастаюць маўрскія імёны (я маю імя Эгоа, што абазначае — прыяцель).*

*Клімат у Новай Зэляндыі падобны да клімату Італіі або паўдзённай Францыі. Бывае, што зімою сьнег выпадзе ўсяго на некалькі дзён, а ўлетку параўнаўча шмат дажджоў. Прырода тут вельмі багатая: мноства розных дарагіх дрэваў і кветак, якіх нідзе ў сьвеце нельга спаткаць. Характэрна, што нарцызы й туліпаны растуць дзіка ў полі. Таксама многа розных птушак, затое тут амаль няма зьвяроў за выключэньнем прывезеных, як аляні, сьвіньні, каровы і авечкі. Іх можна шмат спаткаць у вялікіх лясох і стэпах заходняга ўзьбярэжжа, дзе жыве вельмі мала людзей. На іх можна паляваць бязь ніякага дазволу, а паляваць на алені ўрад навет заахвочвае, таму што іх вельмі многа, і яны нішчаць лес узімку.*

*Лясоў цяпер тут параўнаўча мала, а раней уся Новая Зэляндыя была імі пакрытая. Лясы новыя пасяленцы папалілі падчас баёў з маўрамі, чаго цяпер шкадуюць, бо некаторыя пароды дрэваў зьяўляюцца вельмі цьвёрдымі, як зялеза, што нават чэрві іх ня точаць. Уся Новая Зэляндыя з малымі выключэньнямі ўзгорыстая, таму тут вельмі многа авечак, якія пасуцца стадамі бязь ніякае ахароны, бо ваўкоў і злодзеяў тут німашка. Новазэляндцы па натуры вельмі павольныя, зусім бяз нэрваў, зімнакроўныя, ніколі не сьпяшаюцца. Таму кітайцы, падобна як у нас яшчэ нядаўна жыды, трымаюць тут амаль увесь гандаль. Дзеля гэтага хто не лянівы, тут вельмі хутка можа дарабіцца.*

*Але нягледзячы на ўсе дабрадзействы гэтае краіны, мы, беларусы, зьбіраем ужо грошы на паваротную дарогу на бацькаўшчыну, калі яна ўжо будзе вольная. Мы жадаем, каб і ў нас маглі людзі жыць, як Бог прыказаў, між сваіх, а не між чужынцаў, якія хоць і добрыя, але душы нашага чалавека зразумець ня могуць"*[3].

*Выглядае, Марыян Каранеўскі меў шырокае ліставаньне і ня толькі з газэтаю "Бацькаўшчына". У парыскай газэце "За Волю" (№ 6 ад 5 верасьня 1951 г., с. 3—4) быў надрукаваны ягоны "Ліст з Новай Зэляндыі":*

[3] Каранеўскі, М. Новая Зэляндыя — рай для эмігрантаў // Бацькаўшчына. № 70. 15 верасьня 1951. С. 4.

*“Прывітаньне, дарагія сябры, з Н. Зэляндыі!*

*У Нямеччыне я прабыў адзін месяц. Тут было добра, але нэрвовае напружваньне было вялікае. Паляк павесіўся, чакаючы параплаву. Падарожжа морам цягнулася 43 дні. Была бура, а тры дні перад прыездам у Вэлінгтон дык такая вялікая, што 99 працэнтаў хварэла на марскую хваробу. Адна Полька з малым дзіцянём кінулася ў Індыйскі акіян. Я сам ня быў хворы і працаваў адразу на кухні. Шэф кухні гутарыў па-францускy і дружыў са мной.*

*Падарожжа было цікавае. Я меў нагоду пазнаць беднату Эгіпцыянаў, прыгажосьць Цэйлёнчыкаў, заможнасьць Аўстралійцаў і добрэць Нова-Зэляндцаў. Прыезд наш у Вэлінгтан быў спатканы вялікім кантрастам, людзі былі на вычарпаньню нэрваў. Пакінулі вайну, фальш, цюканьне, а тут нас спаткалі, як Маці сваіх дзяцей: кветкі, цукеркі, поціскі рукаў, усьмешкі ветлівасьці. Амаль што ўсе плакалі. Як цягнік затрымоўваўся на станцыі, дык поўна зьбіралася людзей. Але мне не зьбіралася на плач, а на злосьць, што я прыехаў не да сябе і не да сваіх, а да чужых, што нашыя мучаюцца, а тут гэтак добра.*

*У лягеры я быў 7 тыдняў, ён вельмі добры: свабода поўная, яда першарадная, школа і фільм 4 гадзіны ў дзень, паўфунта ў тыдзень, паложаньне лягеру цудоўнае, людзі брацкія, ідучы дарогаю кожны вітаецца, бяруць у аўта. Я зь Беларусам Сарокай езьдзіў з аднэй старой фармаркай аглядаць яе гаспадарку. Езьдзілі мы ўсе конна ў горах (1000 м выш.), дзе пасуцца авечкі, каровы, коні, аглядалі фабрыку сыра, стрыжку авечак электрычнымі машынкамі (100—200 авечак у дзень), хадзілі на шклянку гарбаты, усюды яна вазіла нас сваім аўтам. Яна кончыла агранамічную школу, жонка гэнэрала, праз яе маю шмат знаёмстваў.*

*Тут, у Новай Зэляндыі, няма ні дзікіх зьвяроў, ні гадзюкаў, зьвяроў наагул вельмі мала, але затое кветак і дрэваў вельмі, вельмі многа, шмат якія зь іх атрутныя. Тубыльцы — гэта Маўры (Малайцы), вельмі добрыя людзі. Яны тут у вялікай пашане, маюць сваю высокую культуру, прыгожа рэзьбяць, цёмна-смуглыя, салідна збудаваныя, маюць прыгожыя чорныя валасы, іхняя мова мае каля 50 гукаў, кожны Нова-Зэляндзец ганарыцца, калі можа што-колечы сказаць па-малайску. Часта ў радыё падаюць іхныя песьні, гульні і танцы; шмат прыгажэйшыя і культурнейшыя за джаз. Цалуюцца Малайцы, паціраючы нос аб нос. Іх усіх налічваецца тут каля 100 тысяч. Амаль усе дрэвы, кветкі, шмат гарадоў, караблёў, самалётаў называецца іхнімі прозьвішчамі. У Новай Зэляндыі няма ніякіх змаганьняў: ні расавых, ні клясавых, ні рэлігійных. Людзі вельмі тут услужныя, толькі што флегматычныя.*

*На працу я папаў на паўдзённую абтоку, 12 км ад гораду Дінідэн (50—60 тыс. насяленьня), у якім ёсьць унівэрсытэт (мэдыцына,*

*хімія і электратэхніка), гэта новая школа. Клімат тут вельмі добры, як-бы на паўдні Францыі, толькі больш дажджоў. На паўночнай абтоцы чуваць часамі ўночы слабое трасеньне зямлі, якое дае надта дзіўнае ўражаньне (што няма нічога сталага на зямлі), але гэта адчуваецца толькі ў ночы, усе тут прывыкаюць да гэтага вельмі хутка. Усе вялікія гарады стаяць на выгаслых вульканах. На паўночным востраве ёсьць яшчэ тры дзейныя вульканы, якія дымяцца, але яны ня ёсьць небясьпечнымі. Нешчасьлівыя выпадкі вельмі рэдкія.*

*Жыву я ў маленькім, 5-тысячным, гарадку, дзе ёсьць 5 цэркваў, масонская ложа і каталіцкая духовая сэмінарыя. Людзі тут надта набожныя. Усе ідуць у сваю царкву, найболей веруючыя — гэта каталікі. Жыву ў доме ІВЦА*[4] *пры фабрыцы, тут і сталуюся. Умовы вельмі добрыя. У 10 гадз. рана і ў 3 па поўдні ёсьць перапынкі па 10 мінут на «шклянку гарбаты». Працую ў фабрыцы ваўняных вырабаў (300 работнікаў), раблю ніткі на некалькіх машынах, праца лёгкая й чыстая, зарабляю 7—8 фунтаў на тыдзень, за ўтрыманьне плачу 2 фунты ў тыдзень.*

*Людзі тут вельмі культурныя, а што вельмі рэдка*[5] *бывае, дык сільнейшы падае руку і перапрашае, і ад таго часу яны найлепшыя сябры. Пры прывітаньні першыя словы, што яны стаўляюць, гэта: Ці любіце Новую Зэляндыю? Ці любіце пагоду, працу? Трэба адказваць: Так! Бо яны маюць дзіўны патрыятызм, перакананыя, што Н[овая] Зэляндыя — найлепшая краіна. Усе дамы надта мадэрныя: усё электрычнае, аўтаматычнае: халадзільнікі, кухні, вадагрэлкі ў кожнай хаце, машыны да даеньня кароў і г. д. Тут муж памагае жонцы ўва ўсіх працах: гатаваць, мыць, спавіваць дзяцей.*

*Я тут ёсьць актыўным скаўтам. Пару разоў ужо быў запрошаны на скаўцкія імпрэзы і камінгі як прадстаўнік ад беларускіх скаўтаў. Вось і зноў зьбіраюся на 3-днёвы камінг як зьвязовы. Маю тут многа знаёмых, якія запрашаюць на гарбаты, і толькі што ня маю шмат часу. Едучы сюды, думаў, што пападу ў дзіч, а тут усё культурна, па-сямейнаму, нават у фабрыцы, няма бюракрацыі; я працаваў тры тыдні і ня знаў, хто мой майстар.*

*Усюды я стараўся знайсьці Беларусаў. У Нямеччыне найшоў адну сям'ю, […] паехала ў Канаду, даў ёй адрыс нашых там арганізацыяў. На караблі найшоў пару чалавек, адзін зь іх са Слонімшчыны, у Даніі*

[4] Маецца на ўвазе *YWCA*.

[5] Так у арыгінальнай публікацыі. Відаць, быў прапушчаны радок. У пададзеным ніжэй лісьце ў падобным апісаньні піша: *есьлі паб'юцца, што амаль ніколі не бывае, то слабшы ўстае, а сільнейшы падае руку і перапрашае, і ад гэтага часу гэта два найлепшыя сябры.*

*пасварыўся з нашымі і таму пішацца Палякам*[6]*; другі бабруйскі, таксама абразіў яго якісь Беларус з Англіі, і таму цяпер нічога супольнага ня хоча зь Беларусамі мець; трэці гэта з Глыбокага, жанаты з Растоўкай, маюць 3-гадовага хлапца, гэтыя пішуцца Беларусамі. Ён вельмі добры чалавек, мае 29 гадоў, перапісваецца з доктарам Васілеўскім*[7]*.*

*У Вэлінгтоне мяне сустрэлі Беларусы: спадар Качка, які перапісваецца з а. [Лявом] Гарошкам; ён лейтэнант 2-ой Беларускай дывізіі, ягоны сябра фэльдфэбэль з Усходняй Беларусі, адзін мой сябра з-пад Баранавіч, абодва вельмі добрыя хлопцы, толькі што часамі верацъ у «шклянога бога», але ня шмат. Яны тут паўтара году.*

*Думаем залажыць арганізацыю, каб выцягнуць старую эміграцыю, якая зусім ня сьведамая. Паміж польскіх дзяцей, прывязёных зь Сібіру, палова Беларусаў.*

*Я ўжо кончыў вышываньне сваёй кашулі і пробую ткаць дываны, бо маю вельмі многа воўны, але мала часу. А гарод тут пакуль што не зрабіў, але думаю, што на Вялікдзень паляту самалётам да Сарокі, які ад мяне 150 км, працуе на фэрме, і там зробім агарод па-нашаму, мы ўжо гэта добра абгаварылі. Тут у рэках ёсьць поўна ўюноў, мы іх лавілі дзясяткамі, даўжынёй паўмэтру. Большых выкідалі, а маленькіх капцілі і елі. Н[ова-]Зэляндцы кажуць, што гэта нядобра на яду, бо мае непрыемны пах.*

*Пасылайце нам сваю газэту. Будзем вельмі ўдзячны.*

*Жыве Беларусь!”*

*Болей пра гэтую экзатычную для беларускай эміграцыі краіну і крыху пра самога сябе — у лістах Марыяна Каранеўскага да айца Лява Гарошкі.*

---

[6] Некалькі соцень беларусаў пасьля Другой сусьветнай вайны апынуліся ў Даніі. Сярод іх была, прыкладам, сям’я Ўладзімера Шыманца. У 1948 г. большасьць зь іх пераехала ў Францыю.

[7] Маецца на ўвазе **Віктар Войтанка** (на эмігр. **Васілеўскі**, 1912—1972), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, лекар. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабору. З 1943 г. — акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. — доктар-інспэктар Беларускай Краёвай Абароны. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945—1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, *Baden-Württemberg*, француская зона акупацыі). Удзельнік зьезду беларускіх сьвятароў і грамадзкіх дзеячаў — прыхільнікаў Рады БНР (5 чэрвеня 1948), на якім была адноўленая БАПЦ. З 1950 г. жыў у штаце Нью-Джэрзі, ЗША.

*St. Benin d'Azy*[8],
29.IV.49

Вельмі Дарагі Ойча,

выбачце, што займаю Вам Ваш дарагі час. Но я ўсё-такі хачу Вас запытаць а Вашае здароўе і расказаць пра маё тут жыцьцё.

На вялікі жаль, я ня прысутнічаў у паломніцтве ў *Lurd*[9], на якое я многа разрахоўваў. У выпадку, калі я паехаў бы ў *Lurd*, па дарозе, можа быць, я мог бы працаваць пару гадзінаў у дзень у французаў, дзе працаваў Міхась, но я рашыўся выехаць, таму што я ведаў, што тут буду больш 2 месяцаў сам адзін бліжэй да Бога і да сябе. Таму што я быў страціў цалком веру ў сябе і хацеў папрацаваць трохі над сабою, гэта ў сучасны мамэнт раблю, но не заўсёды з добрым вынікам.

Дваццаць кіломэтраў ад майго месца жыцьця находзіцца горад *Sievre*, у гэтым горадзе ёсьць кляштар, дзе ў капліцы ёсьць гроб сьвятой *Bernardette*, якая бачыла Дзеву Марыю ў *Lurd*. Яна ёсьць забальзамованай, і да гэтага месца прыходзіць кожны дзень шмат людзей.

Каля шато жыў старый, высокій, ясна-валосый сторож, быўшы кухар на вялікім амэрыканскім параплаве. У часе майго прыезду ён быў ужо трохі хворы, і цяпер 10 дзён, як ён памёр. Я бачыў многа нябожчыкаў, якія рабілі на мяне меншае ці большае ўражаньне, но ніколі такое, як гэты. Перад сьмерцяй ён прыняў апошняе намашчэньне. Зьмена, якая зайшла ў чалавека, які 25 гадоў быў шэфам кухні на вайсковым параплаве, прывыкшага да каманды, не лічыўся з сантымэнтамі другіх, і гэтым чалавекам, які на ложу сьмерці ўсё хацеў устаць і хаця трохі памагчы ў працы другіх. Ён жыў са сваёю цёткаю, якая працуе ў шато пры стале, і падчас абеду, калі яна была адсутнай, я ішоў часамі пагля-дзець, ці яму што ня трэба, і ўзгляд ягоных вачэй пры апошняй маёй там бытнасьці выражаў: просьбу, падзяку, выбачэньне і абсалютны падчыненасьці, узгляд з другога сьвету, які ніколі не забуду.

Я жыву ў (шато) “замку”, займаю прыгожы пакой з умывальняй. Жыцьцё маю вельмі добрае, есьці пад дастаткам, да абеду я працую ў парку ці каля шато, а пасьля абеду ёсьць свабодзен. Я ў вольны час, якога маю вельмі многа, чытаю трохі, учу французкую мову і матэматыку, зьведваю ваколіцы і вельмі многа думаю пра жыцьцё і таксама пра рэчы, якія ёсьць пісаныя ў сьв. Бібліі, застаўляючы Бога

[8] **Сэн-Бэнэн-д'Азі** (фр. *St. Benin d'Azy*) — камуна ў дэпартаменце Ньеўр (*Nièvre*) у цэнтральнай Францыі.

[9] Маецца на ўвазе **Люрд** (фр. *Lourdes*) — горад на поўдні Францыі, які мае важнае значэньне для каталікоў як месца паломніцтва, бо тут 11 лютага 1858 г. 14-гадовай мясцовай жыхарцы Бэрнадэце Субіру (*Bernadette Soubirous*) нібыта зьявілася Дзева Марыя. Айцец Леў Гарошка ладзіў паломніцтвы ў Люрд для беларусаў у 1950-х.

з Бацькаўшчынай. І гэтакія кнігі, як сьв. Біблія, “*Meditations* на кожны дзень у годзе з жыцьця” і доктрыны *Jesusa Chrysta*, “Хрыстос на прадмесьцах Парыжа”, з аднаго боку, абшчэньне з прыродаю, лесам, рэчкаю, птушкамі, сонцам і небам, з другога боку, памагаюць да вываджанью выснаваў адносна маіх адносінаў да Бога, Бацькаўшчыны і людзей. І гэтыя выснавы стараюся прыводзіць у чын перш пры рэдкай случнасьці з знаёмымі ў паблiскай вёсцы, якіх тут маю трохі праз мае паездкі ў справах графа. Но бачу, што вытрываць у добрых пастанаўленьнях вельмі трудна, не маючы духовай падтрымкі. І таму я сабраўся да Вас напісаць, так як Вы напэўна зразумееце найлепш мой стан духовы, Вы, якога я лічу заступнікам маіх бацькоў.

Тут жывуць Граф, 84 гады (які вельмі баіцца сьмерці і ёсьць вельмі скупы), Графіня, 73 гады (у скупстве не ўступае яе мужыку) і две служанкі больш 60 гадоў.

Ваколіца тут вельмі прыгожая, малыя ўзгоркі, пакрытыя лесам. У адну нядзелю тут было сьвята лятуніцтва, і я трохі лётаў. Я атрымаў ліст са школы, які я паслаў да спадарыні, якая дае бурсу, у гэтым лісьце напісана, што я не надта дрэнна ўчыўся і што 28.X.49 пры ўзноўваньні сэртыфікатаў я атрымаю грашавую прэмію (можа 500 фр.).

Есьлі выйшаў “Божым Шляхам”, так прышлеце, калі ласка. У Парыж, можа быць, што прыеду 27.IX.49. Як зможаце, так адпішыце, калі ласка.

Выбачце яшчэ раз за неталковае пісаньне, но я быў змушаны выкажыць гэта, што меў на сэрцы.

Жадаю Вам здароўя і ўсяго найлепшага.

Жыве Беларусь.

Ваш К[аранеўскі] Марыян

*Pahiatua*[10], 29.10.1950

Дарагі Ойча,

я ўжо ў Новай Зеландыі 10 дзён. Жыцьцё тут ёсьць вельмі вольнае, жыву ў лягеры для нова-зэляндцаў, кожны дзень ад 9 г[адзіны] да 12 г[адзіны] іду ў школу ангельскай мовы, настаўнікі нова-зэлянцы вельмі добрыя. Хачу Вам апісаць дарогу з Адэн[11] да лягеру бесстаронна. Пасьля выезду з Адэн на Індзейскі акіян пачалася калыханка, і на другі дзень адна жанчына з 3-год[овым] хлопцам кінулася ў ваду. Пасьля двухгадзінных пошукаў карабель паплыў далей, нічога не нашоўшы. Гэта быў 2-гі выпадак самагубства між палякаў (першы быў бацька

[10] **Паг’ятуа** (анг. *Pahiatua*) — сельскагаспадарчае мястэчка на паўднёвым усходзе Паўночнай выспы Новай Зэляндыі.

[11] **Адэн** — партовы горад у Емене на беразе Адэнскай затокі.

фаміліі, які быў хворы на *T.B.C.*[12], і не хацелі пускаць празь яго цэлай фаміліі ў Канаду). Жанчына была без мужыка, і немкі, жонкі палякаў, не давалі ёй жыць. Пасьля дзённага перапынку ў *Columbo*[13] карабель паплыў да Аўстраліі, да *Fremantle*[14]. Цэлы час мора была неспакойнае, у гэты час мы бачылі многа дэльфінаў, […] а далей і веларыбаў[15]. З *Fremantle* карабель паплыў на *Wellington*'у. 3 дні перад прыездам была бура, хвалі залівалі верхні паклад, карабель танцаваў, як лушпінка, амаль ніхто ня еў нічога, 90 працэнтаў была хворых на морскую хваробу. Прыехаўшы ў гэтым стане (змучаныя, без апетыту) у пахмурны ветраны восеньскі дзень мы спаткалі з боку Нова-Зэляндцаў і былых *DP* гарачае прыняцьце, людзі прынасілі ў вагоны кветкі, цукеркі, кнігі. Многа людзей плакала, бачучы, як гэтыя людзі прымаюць людзей, якія на гэта не заслужылі. Да гэтай пары як хто-нібудзь з нас ідзе па вуліцы ці дарозе, то ўсе нас вітаюць як якіх добрачынцаў, як найбліжшых сваякоў. Жыцьцё тут надта лёгкае, таму што работнік зарабляе меншбольш 30 шылінгаў і 2 фунты, мяса каштуе паўтары шылінгі, а бульбы 3 фунты. Но розныя апараты стосункова даражэй. У лягеры маем быць да 2 месяцаў, а тады на працу я хачу папасьці разам з Г. Карус, да якога прысылаеце Божым Шляхам. Ён і ягоны сябра В. Недавольскі спаткалі мяне на караблі, а ў суботу Карус з 3 беларусамі А. Залусскай прыехалі да нас у лягер, дзе я ўжо маю адну сям'ю з Глыбокага. Сарока Ўладзімір, які працаваў у Нямеччыне ў шахце, а цяпер у *Solingen*, які жаніўся з Растоўскай дзяўчынай і мае хлапца 4 гады. Яны (яна тожэ) сьведамыя беларусы, якіх я стараюся перапісаць на беларусаў, так сама як аднаго (другі няпэўны) з дані, які ведае Касьцюка[16], … Колю і другіх зь іхнай прычыны троху бучыць а беларусах, но Карус (быўшы лейтэнант 2-й беларускай дывізіі) словам і водкай многа памагаюць. Барысаўскі, які быў у Англіі ўразіўшыся ў Англіі, што там ад яго на арганізацыю пыталі 3 шылінгі, прыстае да ўкраінцаў, якіх тут многа. Ёсьць больш,

[12] Відаць, маюцца на ўвазе сухоты — *tuberculum* (лац.)

[13] **Колёмба** (сінгальск. *Colombo*) — сталіца Шры-Лянкі.

[14] **Фрымантл** (анг. *Fremantle*) — партовы горад у Заходняй Аўстраліі, недалёка ад Пэрту.

[15] ***Wieloryb*** (польск.) — кіт.

[16] Відаць, маецца на ўвазе **Генадзь Касьцюк** (1922—?), які падчас нямецкай акупацыі працаваў сакратаром, рахункаводам у валаснай управе ў Ждановічах, з 1943 г. — у Наваградзкім швадроне Барыса Рагулі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў далучаны да 30-й нямецкай дывізіі, потым — у 13-м батальёне СС. Пасьля вайны жыў у Даніі, затым пераехаў у Парыж, браў удзел у працы Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня моладзі (кіраўнік — Янка Філістовіч), узначальваў аддзел у Парыжы. Удзельнік дэсанту ў БССР у складзе групы Цімоха Вострыкава.

но не хочуць прызнавацца. Я вяду амаль што бойкі за прызнаньне мяне паўсюды беларусам. Цяпер лягчэй, таму што Нова-Зэлянцы ўжо не робяць перашкодаў, пасьля як Карус ужо запісаны ў сваіх усіх паперах як беларус (сябры таксама) і пад праўдзівым прозьвішчам. (Я можа таксама змагу перамяніць, но ня ведаю яшчэ, як рабіць.)

Жыцьцё рэлігійнае ў Новай Зэляндыі зарганізаванае вельмі добра на сыстэм амэрыканскі (тут ёсьць 250 розных сэктаў). У нашым лягеры ёсьць сьвятар каталіцкі Н. Зэ. Вельмі добры і разумны. Ёсьць таксама англіканскі і пратэстанцкі пастары, даежджаюць пратэстанты і многа сэктантаў, даючы розныя пісулькі. Сяньня мае прыехаць да нас біскуп каталіцкі. Наш лягер ляжыць 130 міляў ад Вэлінгтану на поўдзень. Зімы тут няма, толькі падае надта многа дажджоў, нават летам. Хаты тут робляныя з досак, і мястэчкі і фармы выглядаюць, як на каўбойскіх фільмах (но яны дарагія, 2000 фунтаў, таму што будуе ўрад). З старэйшых эмігрантаў тут шмат хто ажаніўся, і амаль кожны думае вярнуцца на бацькаўшчыну, нягледзячы што тут жыцьцё надта добрае, каб як людзі, якія амаль ня маюць нэрваў. Прышліце, калі ласка, усякую прэсу беларускую, якую можаце дастаць. Пастараюся Вам хутка прыслаць трохі грошы, таму што 1 фунта ўжо я дастаў ад старога беларуса, но думаю праслаць інтэрнацыянальнымі бонамі. Напішыце, калі ласка, што ў Вас чуваць. Перадайце паздраўленьні для ўсіх, калі ласка. Жадаю Вам здароўя і ўсяго добрага.

Ваш К[аранеўскі] Марыян

Прышлеце, калі ласка, як можаце, [маё] матуральнае пасьведчаньне.

Жыве Беларусь!

Тут прырода многа прыпамінае Бацькаўшчыну, думка пра якую надта трудна ..., бачачы вялікае багацьце і дабрабыт.

*Mosgiel*[17], 13.I.1951 г.

Дарагі Ойча,

пішу толькі сёньня, таму што ня маю многа часу. Належу да інтэрнацыянальнай студэнцкай арганізацыі, таксама са скаўтамі маю я вельмі многа працы. Спачатку я быў запрошаны як госьць, но цяпер як інструктар (скаўтаў). Браў я ўдзел ужо ў пару імпрэзаў, падарожжах, кемпінгах, у нарадах кіраўнікоў, а цяпер у наступную пятніцу еду на 3-дзённы абоз, на якім будуць прысутнічаць розныя выбітныя асабістасьці Н[овай] З[эляндыі]. Я буду як (інструктар) скаўтар, но як стары Беларускі скаўтар (кіраўнік, зьвязны). Маю з сабою пару французскіх

[17] **Мосгіл** (анг. *Mosgiel*) — горад-спадарожнік Данідыну (*Dunedin*) у рэгіёне Атага (*Otago*) Новай Зэляндыі.

і беларускіх скаўцкіх кнігаў, гэта памагае. З мовай трохі труднавата, но якось ідзе, думаю, што пасьля аканчаньня кантракту змагу ўчыцца ў гэтым горадзе.

Працую на фабрыцы ваўняных вырабаў а раблю ніці на пару машынах, праца чыста і лёгка. Жыву ў *YWCA* доме і тут абедаю, за што плачу ў тыдзень 2 фунта а зарабляю 7—8 фунтаў у тыдзень. Цяперашняя пяцімесячка ў мяне на овоцы[18] і на вопратку і на скаўцкія прылады, а потым буду сабіраць 100 фунтаў на паваротную дарогу, што думаюць усе тутэйшыя беларусы. Жыцьцё тут многа раз лепшае, як у Севры, людзі тут надзвычайна добрыя, амаль што без нэрваў, есьлі паб'юцца, што амаль ніколі не бывае, то слабшы ўстае, а сільнейшы падае руку і перапрашае, і ад гэтага часу гэта два найлепшыя сябры.

Першыя словы, якімі зьвяртаюцца да нашага чалавека: ці любіце Н[овую] З[эляндыю], ці любіце вашу працу? Трэба адказаць заўсёды так, бо яны надта гордзяцца, што тут найлепей у міры, ёсьць у іх дзіўны патрыятызм да Н[овай] З[эляндыі], усё роўна адкуль ён паходзіць. Праўда, што культура тут, думаю, найбольшая як у доме, так і ў людзей. Амаль што ў кожнай хаце ўся кухня і пакой умэбляваныя па апошняй модзе (выгодзе) электрычнасьцю, аўтаматамі, поўна аўт (амэрыканскіх лімузын), добрых дарог. Жыцьцё тут паўсюды ідзе амаль што па-сямейнаму, адзін адному памагае. Нягледзячы што ў маім мястэчку ёсьць пяць цэркваў, масонская ложа і каталіцкая сэмінарыя, усе ходзяць у сваю цэркаў, а каталікі (мужчыны і жанчыны) амаль кожную нядзелю прычашчаюцца. Жывучы ў гэтай выгодзе, не магу спакойна думаць пра нашых на бацькаўшчыне і ва Францыі. Тут ёсьць магчымасьць пастарацца сьцягнуць знаёмых сюды празь міністэрства эміграцыі, і яны прыежджаюць сюды без кантрактаў. Папытайце, калі ласка, можэ хто-нібудзь хоча, то буду старацца (можа, Міхевіч В.). Да гэтай пары ўсё не магу даведацца, як выслаць грошы (не маю часу: у пятніцу скаўты, а ў суботу ўсё тут закрыта). Но можа Вам лепей, як я што прышлю, ваўняныя вырабы якія? Я прасіў-бы вельмі, штобы Вы даведаліся, ці не была для мяне якога пісьма цікавага зь Севру ці ў Міхася, есьлі быў, то, калі ласка, прышліце.

Таксама прашу прыслаць адрас [Вацлава] Папуцэвіча, таму што хачу скаўцкую беларускую літаратуру.

Як жывуць усе нашыя ў Парыжы і Эўропе? Якія ёсьць зьмены? Што чуваць?

Перадайце паздраўленьні ўсім. Памаліцеся, калі ласка, калі за мяне.

Жадаю Вам здароўя і ўсяго найлепшага ў гэтым Новым Годзе.

Жыве Беларусь!

Вам адданы Марыян [Каранеўскі]

[18] Ад ***owoce*** (польск.) — садавіна.

*Mosgiel*, 1.8.1951

Вельмі Паважаны Ойча,

выбачце, што я доўга не пісаў, я меў малы выпадак у фабрыцы, а імянна ўсказваючы паляц правай рукі ўсадзіў паміж трыбаў, і яго трохі пагнётла, но нічога страшнага, трохі пабалела і перастала. Я не хадзіў на працу, но ашуранс мне плаціла за гэты час.

Што ў Вас чуваць? Як Вашае здароўе? Што чуваць з палітыкі адносна новай вайны? Як жывець нашая калёнія? Ці прыехалі новыя беларусы зь Нямеччыны? Куды думаеце ўцякаць у выпадку вайны?

У мяне тут усё па-стараму, працую, трохі хварэю (на скулы або палец), бяру ўдзел у скаўцкіх маршах, зборках, таксама належу да *Holy Name Society* у *Mosgieli*, дзе прыступаю кожны месяц да камуніі і кожны месяц маем зборку. Перад учора я купіў машынку да пісаньня, каторая каштавала £ 24—0—0. Пасьля думаю купіць вайсковую стрэльбу. Гэта на каляднія канікулы, бо тады маем 3 тыдні вольных, за каторыя плоцяць. Я думаю паехаць на захад ад мяне ў пустыню, а потым у пушчу на паляваньне на аленяў, сам або з новазэлянскім сябрай. Но гэта потым. Цяпер пакуль працую тут у *Mosgieli*, но можа хутка пераеду жыць і працаваць у *Dunedin*[19] (95 тыс. насяленьня). Гэта няпэўна. У школу хаджу два разы ў тыдзень у *Dunedin*, трохі далёка (9 міль, ½ гадзіны цягніком) пасьля працы гэта досыць мучыць. З ангельскай мовай мне йдзе ляпей, як з французскай, ужо разумею амаль што ўсё, што да мяне гавораць, таму што маю Н[ова-]З[эляндскага] сябру, зь якім праважу амаль што ўвесь вольны час. Ён сам ёсьць маляр аматар, но трохі футарыст.

Пагода тут цяпер як на зіму добрая, трохі падобная на парыжскую. Бывае дождж, но рэдка, раз ці два нават і сьнег, но на блізкіх гарах (вышыні 1000 метраў) відаць сьнег, які ляжыць нават па тыдні і больш. Но сто кіломэтраў адсюль у сярэдзіну выспы ёсьць вышэйшыя горы, дзе сьнегу многа і які ляжыць доўга. Там клімат такі, як у нас на бацькаўшчыне, і туды зьежджаюцца на зімовы спорт з цэлага пацыфіку.

13 гэтага месяца маецца прыехаць новы транспарт дэпістаў, ці ня ведаеце, ці ёсьць там беларусы, таму што я яўляюся пакуль што кіраўніком бел[арускіх] камбатантаў на Н[овую] З[эляндыю] і хацеў-бы завербаваць больш у нашую арганізацыю. Падлегаю я Аўстраліі, Д[анату] Яцкевічу. Гэта столькі пра мяне.

Высылаю вам пару купонаў, на якіх 330 фр[анкаў], а пасьля вышлю больш, да 1000 фр[анкаў] (£ 1 Н[овай] З[эляндыі]). На прозьвішча А. Галушка з Вэлінгтана, таму што ён мне даў яшчэ ў Пагіятула £ 1, но я сказаў, што перашлю яго Вам. Таму прашу падаць у часапісе, што ён даў £ 1, тады як я Вам усё прышлю, яшчэ якіх 23 штукі.

[19] **Данідын** (анг. *Dunedin*) — другі паводле велічыні горад на Паўднёвай высьпе Новай Зэляндыі.

Жадаю Вам усяго найлепшага. Заўсёды Ваш

Марыян [Каранеўскі]

Жыве Беларусь!

*Taieri*[20], 25.11.51

Вельмі Дарагі Ойча,

пішу да Вас цяпер ужо з новага месца працы, я працую цяпер на лётнішчы, тут зарабляю менш-больш 2 £ больш і яду моцна лепшую (якую я хачу), таму што я працую ў кантыне. Тут я адзін чужынец, і ўчуся хутка па-англійскі, цяпер гавару ляпей, як ва Францыі пасьля 3 гадоў.

Мне надта непрыемна, што чыста пэрсанальны ліст, які я пісаў для спадарыні, надрукавалі ў "За Волю", а таксама ў "Бацькаўшчыне" без майго ранейшага паведамленьня. І таксама ня ведаю, што спад[арыня] Ніна [Абрамчык] мае супраць мяне, што не адпісвае да гэтай пары на ліст, напісаны год таму назад, які нятакт я зрабіў?

Гэтыя купоны — гэта мая зацягласьць. Цяпер стараюся, што-бы [Данат] Яцкевіч мяняў мне грошы, тады мог-бы ляпей прысылаць грашыма.

Маю да Вас просьбу, што-бы Вы напісалі да Каруса які маральна-падбадзёрваючы ліст, таму што шкада яго, хаця ён сябе лічыць за "патрыёта", а запраўды эгаіст і скупіла.

Новы беларус з Пагіятула мне ўсё не адпісвае, так што мне надта сумна, што тут, дзе мы маем найбольш матар'яльных магчымасьцяў, нашые трымаюцца збоку. Ці такая псіхіка беларуса? Я, здаецца, не даваў да гэтага повату. І штобы я не быў каталіком, не ведаю, як бы мог тут жыць.

Напішэце, калі ласка, што чуваць у Вас і ў нашых і што чуваць з вайною, ці хутка будзе?

Жадаю ўсяго найлепшага, заўсёды Ваш Марыян [Каранеўскі]

Жыве Беларусь.

*Taieri*, 11.5.1952

Дарагі Ойча,

выбачце, калі ласка, што я доўга не адпісваў, но запраўды не было чаго, апроч падзякі за Вашыя лісты, і пісаць. Шчыра дзякую за Вашыя лісты, а таксама і за "Божым Шляхам". У мяне нічога новага няма, працую на гэтым жа месцы, толькі ў сяржанцкай [...], дзе сталі плаціць больш, таму што я цяпер поўны кельнер, хаця і гутару па-англійску менш-больш як па-французску пасьля трох-чытырох гадоў побыту. Зарабляю ў сярэднім 15 £ на тыдзень, за якіх 56 гадзін

[20] **Таеры** (анг. *Taieri*) — раён у горадзе Данідын у Новай Зэляндыі.

(кваліфікаваны хэмік зарабляе на тыдзень каля 8 £ пасьля сканчаньня ўнівэрсытэту).

Я хацеў быць лётчыкам (афіцэрам), но аказаўся старым (больш як 24 гады), а быць на зямлі я не захацеў. Пасьля калядніх вакацыяў я пачаў ізноў хадзіць у школу, і ўжо разумею амаль што ўсё, но пры гаворцы раблю часамі памылкі. Но найгорш то зь пісаньнем, таму што ў іх цэлая граматыка — гэта выняткі, і значыцца, трэба каваць кожнае слова на памяць, но памалу якось ідзе. А па-француску стае штораз трудней гутарыць і пісаць.

Я цяпер купіў сабе гадзіньнік *"Omega automatik"* за 28 £ і таксама ў банку маю сотню фунтаў, да канца кантракту думаю, што можа ўдасца сабраць яшчэ са дзьве сотні. І пасьля кантракту думаю працаваць гдзе-нібудзь, толькі штоб больш плацілі. А тады думаю, можа ўдасца мне за пару гадоў мець штосьці сваё (авечую фарму, мілк бар, гадоўлю кураў і г. п.). Сам, або з кім на супалку, можа, з Сарокаю. Но пакуль да гэтаго далёка.

Учыцца далей мне больш ня хочацца (лянуюся ці ўжо застары), а таксама ня надта і аплачваецца. Но самае найгоршае, што я ня маю нармальнай асьветы. Но на наступны школьны год магчыма, што буду пробаваць, ці ўдасца што-нібудзь выціснуць. Цяпер раблю стараньні ў міністэрстве лятуніцтва, штобы дастацца да лётчыка, таму што я тут новы, так можа зробяць для мяне вынятак і прыймуць. Бо я думаю, што можа ў гэтакі спосаб што-нібудзь у мяне выйдзе. Абучаньне трывае каля году, і так есьлі Божая воля, я буду лётчыкам. Што Вы думаеце пра гэта?

Пра беларускае жыцьцё тут няма што і пісаць. Ежджу да Сарокі (ён таксама мае кнігу беларускага эмігранта[21]) і часамі дастаю ліст (адзін раз грошы на бацькаўшчыну) ад Радзеўскага. Ягоны адрас [...] Можа Вы яму што напішаце, таму што ён старэйшы. Адрас Каруса, здаецца, што той самы, я пробаваў зь ім па-ўсякаму, і нічога ня выйшла. Цяпер не адпісвае. Пасылаю пару купонаў, а таксама трохі грошаў праз [Даната] Яцкевіча, толькі ня ведаю, як яны даходзяць празь яго, таму што я пасылаў празь яго ўжо раней у пару месцаў, то ня ведаю, як яны дайшлі? Напішыце, калі ласка, што новага чуваць і што Вам трэба прыслаць, то я Вам прышлю. Пішыце, калі ласка, адкрыта. Мне тут лягчэй цяпер, як усім другім. Тыдзень таму я выслаў пачку Міцкевічу[22] (з гарцамі). Напішыце таксама, можа ёсьць хтосьці, патрабуючы, то я пастараюся ад мяне альбо Сарокі. Я тут афіцыяльна зацьверджаны галоўнаю кватэраю *dominion* на асістэнта Скаўт-майстра, а таксама

[21] Маецца на ўвазе пасьведчаньне эмігранта, якое на пачатку 1950-х выдавала Рада БНР.

[22] Відаць, маецца на ўвазе Аляксандар Міцкевіч.

належу цяпер да якойсьці “Ложы”, толькі каталіцкай. Гэта штосьці як нашая быўшая самапомач, раз у месяцы маем прыступаць да камуніі ў чырвоных лентах праз плячо.

Ойча, мне надта прыкра чытаць у газэтах, што нашыя ўсё сварацца. Што я маю гаварыць для Сарокі ці Рыдзеўскага пра гэта? Для апошняга пасылаю толькі газэты аднаго напрамку, но і рэлігійныя. Для мяне ёсьць вялікая прыемнасьць чытаць “Божым Шляхам”, таму што ў ёй ёсьць усё сталае, паважнае, безь ніякай сваркі, і сьмела магу паказаць кожнаму яго, хаця як я ёсьць пытаны аб ператлумачане загалоўкаў і стрэсьцане зьместу. З другімі часапісамі гэтак няможна. Я хацеў-бы памагчы больш чым-нібуць у беларускай справе і таму думаю, што можа Вы маеце якую кнігу ці брашуру да друкаваньня, то можа мне ўдасца яе тут надрукаваць (здаецца, што тут маюць толькі лацінскі шрыфт). Колькі гэта каштуе, я ня ведаю, но есьлі я буду працаваць на гэтым месцы трохі даўжэй, то напэўна змагу пакрыць кошты. Цяпер пастараюся паінфармавацца ў гэтай справе дакладней.

Пакуль канчаю, жадаю Вам усяго найлепшага. Ваш Марыян

Жыве Беларусь!

П. С. Перадайце паздраўленьне ўсім нашым парыжанам, калі ласка. А таксама шкада, што Янук не малодшы, а то мог-бы тут быць “афіцэрам”, хаця ў армію, напэўна, тут бяруць і старэйшых. Што ён робіць і як жыве і працуе наш мастак Міхась[23]? Што чуваць у нашай палітыцы? З “Голас Амэрыкі” можна выпісваць праграмы на ўсіх мовах: Грузінскай, Азэрбайджанскай, Татарскай, Украінскай, но толькі не Беларускай. Цікава, што наш урад якраз цяпер у *NY* і нічога ў гэтым кірунку ня зробіў. Што за яны ў Торонто зь “Беларускага голаса”? Яны прыслалі да мяне свой часапіс таксама, і я цяпер сабіраю архіў нашых выданьняў, якія да мяне пападаюць, таму што думаю ў наступнай вайне могуць зайсьці вялікія зьмены. Выбачце, калі ласка, за так доўгае пісаньне. Яшчэ раз жадаю Вам усяго найлепшага. Заўсёды Ваш

Марыян [Каранеўскі]

29.8.1952
*Dunedin, New Zealand*

Вельмі Дарагі Ойча,

выбачце, што я толькі сяньня Вам адпісваю. Я быў не ў парадку сам з сабою. Думкі пра лётніцтва і пра хэмію, і я пастанавіў, што я павінен ісьці па яму. Я меў заражэньне крові ў пальцы, і доктар параіў мне зьмяніць працу. І пры помачы каталікоў мне ўдалося дастаць працу

[23] Відаць, маецца на ўвазе Міхась Наўмовіч.

ў фармацэўтычнай фабрыцы ў прадукцыйнай лабараторыі. Праца цікавая, но досыць брудная і малаплатная £ 8/1/10 за сорак гадзін. Няма пакуль надлічбовых гадзін, я набыў надта прыгожую кватэру над самым пацыфічным акеанам (спальня, салончык, кухня і ванна, усё надта малае, якраз для самотнага альбо для сям'і безь дзяцей), праўда, што каштуе £ 11, каля адзінаццаць тысяч франкаў у месяц. Праз вокна бачу нясконча ную даль, здаецца, да самай Амэрыкі. Калі вялікая бура, то хвалі абступаюць дом пад самыя вокны. Гэта кватэра надта мадэрная. Я раней толькі сьніў. Нават тут гэта лічыцца вялікім шчасьцем жыць тут, но я ўцяж неспакойны і не карыстаў упоўні з гэтай красы і ня ведаю дакладна, чаму. Я малю ўсемагутнага, штобы саслаў на мяне спакой.

Многа эмігрантаў спэцыяльна англійцы адчуваюць таску за домам, за сям'ёй, а я нічуць. І думаю, што можа і таму я ўсё неспакойны, што ня адчуваю такой тугі за домам і бацькамі, як другія, розумаваньнем разумею, што я маю ўсё, што патрэбнае для чалавека, штобы быць жыцьцярадасным, но сэрца чуя якуюсьці тугу да чагосьці, што я сам ня ведаю, і таму думаю, што я найлепей зраблю, калі запішуся на Карэю[24], тут прымаюць усіх.

Калі я працаваў за келнара ў сэржанцкай мэс[25], усе сяржанты мяне любілі, і я дастаў тую працу перад Новазэляндцамі і англічанамі і быў абыякавы адносна [таго], што я раблю, таму што жыў надзеяю, што я з часам дастану працу хэміка. А цяпер калі працую, чую штосьці ня так, ня тое, што я хачу. Но што я хачу, сам ня ведаю. Мая фірма цешыцца вялікім паважаньнем у Новай Зэляндыі, і надта трудна сюды дастацца, но раз тут то фірма памагае ўва ўсім: навуцы, авансе і матэрыяльна. Я належу да стаф[26], і я меў катар і ня працаваў два дні, і яны мне плацілі так, як-бы я працаваў. У маёй лабараторыі вырабляем розныя лекарствы часамі ў вялікіх колькасьцях.

Перапрашаю, што я пішу так многа пра мае справы і балячкі, но бачыце, запраўды ня маю з кім і пагаварыць ад гэтым, што ляжыць на сэрцы. Праўда, маю пару сябраў, но яны не разумеюць Еўрапейцаў і тым больш мяне. Маю добрага сябру, сьвятара, выкладчыка ў сэмінарыі, то трохі сарамлюся яго і таму заварачваю галаву Вам. Я чытаю досыць многа, найбольш па-англійскі, но забрацца паважна да навукі ўсё не магу сябе заставіць. Толькі, здаецца, да гэтай адной рэчы (навукі) маю нядосыць вольнай волі, можа таму, што бачу, што тут гэта не аплачваецца (за кельнара зарабляў двойчы больш, як цяпер).

---

[24] Маецца на ўвазе **Карэйская вайна** — ваенны канфлікт паміж Паўночнай і Паўднёвай Карэямі ў 1950—1953 гг.

[25] Ад анг. *mess* — сталовая.

[26] Ад анг. *staff* — пэрсанал.

Сарока жыве і працуе на будове электрастанцыі і зарабляе £ 70 і больш фунтаў на месяц, но далёка, 100 міль ад Данедіна, і я мог-бы таксама, но астаюся пакуль тут, чаму, сам ня ведаю.

Пасылаю Вам фунта 10 шылінгаў ад Сарокі і 10 ад мяне, есьлі ня можаце вымяняць, то можа вымяняюць у Бэльгіі ці Англіі, таму што пасылаць праз Аўстралію ня ведаю, як гэта аплачваецца, таму што купонамі — гэта дарма марнаваць грошы. Напішэце, калі ласка, што Вы думаеце пра гэта. Я паслаў фунта для [Аляксея] Кабычкіна[27] праз Аўстралію, ён ужо даўна пісаў да [Даната] Яцкевіча.

Я надта ўзрадаваўся, прачытаўшы ліста сп. А[ляксандра] Надсана ў Вашым часапісе, таму што гэта якраз як я думаю ў гэтай справе, і я надта рады, што ёсьць гэткія беларусы, як ён, і ён даў мне надзею ў лепшую будучыню Беларусі.

Да мяне пісаў беларус з Норд Франц. ... Прасіў а інфармацыю пра Н[овую] З[эляндыю], таму што ён хоча сюды прыехаць, я паслаў яму адказ і ўжо пару месяцаў як ня маю ад яго адказу. І ён гэта ня першы, гэтакіх многа, і якраз тыя, якія запраўды я мог-бы памагчы, то не адпавядаюць, а каторым не магу памагчы, то пішуць часта. Вось гэта як з нашымі людзьмі.

Ойча, калі я пісаў да Вас, што я хацеў-бы што выдаць, гэта была тады, калі я меў грошы. Но не замнога, толькі штобы плаціць за другія часапісы спосабам адмены, таму што, напрыклад, "На Шляху" прыслалі мне дзесяць нумараў № 13 часапісу і зь ім ультыматум, што калі я не заплачу за гэтыя нумары 5 шылінгаў, то яны больш не прышлюць, ну і я не паслаў грошы, а яны больш не прыслалі часапіс. Цікавыя людзі, а то іх прасілі прысылаць дзесяць экзэмпляраў.

Усё я думаю, што Новая Зэляндыя ёсьць вельмі добраю краінаю, і шкада, што няма больш нашых людзей. Тут можна дабіцца надта добрага жыцьця.

Пакуль канчаю. Прашу, перадайце паздравеньне ўсім нашым, таксама прашу, напішыце, што чуваць у нашай калёніі, і што чуваць наагул? Як прайшоў тыдзень "Рунь". Яшчэ прашу, у сваіх малітвах успамінайце часамі і мяне.

З глыбокай пашанаю да Вас,

К[аранеўскі] Марыян

---

[27] **Аляксей Кабычкін** (1891—1958), грамадзкі дзеяч. Скончыў гімназію ў Слуцку й юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Удзельнік Слуцкага паўстаньня. Пасьля яго жыў у Вільні. Удзельнічаў у выданьні розных беларускіх пэрыёдыкаў, прыкладам, "Наша думка". У часе нямецкай акупацыі працаваў судзьдзём у Лідзе. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягеры *DP* у Куфштайне (*Kufstein*, Аўстрыя). У 1956 г. перабраўся ў Францыю.

3.10.1953

Дарагі Ойча,

выбачце, што доўга ня пісаў. Ну запраўды няма што пісаць. Я найшоў пару беларусаў. Адзін жанаты з полькаю, быў у Андэрса зь Сібіру, маласьведамы. Прозьвішча яконае *W. Jozdczyk*. Жывець і працуець у *Mosgieli* на тым самым адрасе, што я быў раней. Другі самотны, у Н[овай] З[эляндыі] 5 гадоў, прозьвішча *W. Niedobalski* [...]. Я яго ня бачыў, но ён мусіць быў у 2[-й] дэвізіі, мусіць што п'ець, бо да гэтай пары не прыслаў ні пена.

Так што, калі ласка, прышліце больш "Божым Шляхам", а я пашлю для Галушкі і для Каруса. Пасылаю вам грошы на: "Паходжаньне чалавека"[28], "Магутны Божа, песьня"[29], "Музыка і чэрці"[30], "Цень Я. Купалы"[31], "Бел[арусь] у датах, ліках і фактах"[32], а рэшта грошай на "Божым Шляхам".

Жыве Беларусь!

Жадаю ўсяго найлепшага,

Ваш Марыян [Каранеўскі]

17.6.1954. Н[овая] З[эляндыя]

Вельмі Дарагі Ойча

Выбачце, што толькі цяпер адпісваю. Пісаць запраўды няма і што. Тутэйшыя беларусы купляюць аўты і хаты, но капейчыну на бел[арускую] прэсу ня маюць. Навінаў ад ніякіх беларусаў з Францыі я не атрымаў. Тут цяпер пачынаецца зіма, і таксама ўсе чакаюць на рэзультат прыходзячых выбараў. Тут ёсьць дзьве партыі, "нацыянальная" і "працоўная". І есьлі гэтым разам пройдзе працоўная партыя, то кажуць, што будзе ўсё таньнець. Таму я яшчэ нічога не купляю, а чакаю

[28] Маецца на ўвазе выданьне: Гарошка, Леў, а. Паходжаньне чалавека ў сьвятле сучасных знаходкаў. Парыж: выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі, 1948. 14 с.

[29] Маецца на ўвазе выданьне: Магутны Божа. Парыж: выданьне Беларускай Рэлігійнай Місіі, 1947. 2 с.

[30] Маецца на ўвазе выданьне: Музыка і чэрці. Беларуская народная казка. Ілюстраваў А. Скараход. [Goslar]: Беларускае выдавецтва ЯС, 1947. 14 с.

[31] Маецца на ўвазе выданьне: Сяднёў, Масей. Цень Янкі Купалы: Паэма. Ватэнштэт: Беларускае выдавецтва ЯС, 1947. 15 с.

[32] Маецца на ўвазе выданьне: Каваль, Пракоп [Гарошка, Леў]. Беларусь у датах, ліках і фактах = Biélorussie d'après les dates, les statistiques, les faits = Whiteruthenia (Byelarussia) in the dates, the numbers, the facts. Парыж: выданьне "Моладзі", 1950. 68 с.

і зарабляю больш грошаў. Так тут няма што больш і пісаць і займаць Ваш час.

Жадаю Вам усяго найлепшага,

Ваш Марыян [Каранеўскі]

Жыве Беларусь.

14.12.1959

Дарагі Ойча

Выбачце, што доўга да Вас не пісаў. Я цяпер ужо жанаты з Грэчанкай, яна мае 24 года. Жаніўся ў Катэдры сьв. Ёзэфа ў *Dunedine*. Жонка праваслаўная. Свадзьба была 23.9.58 г. Цяпер маем ужо дачку *Mary Stefani*. Хрысьцілі яе ў *Otematata*[33], дзе я цяпер працую за механіка на Гідра-электрычнай станцыі, якая, як кончым, будзе найбольшай у Паўдзённай кулі земскай. Да нас часта прыходзяць сьвятары Новазэляндцы. Я вельмі прашу, штобы Вы памаліліся, штобы жонка перайшла на каталіцызм. Жыву ў доме, дзе ўсё электрычнае, купіў швейную машыну, машыну да мыцьця і рэфрыджыратар. Працую па 9—12 гадзін у дзень 6 дней на тыдзень. З жонкаю жыву надта добра. Напішыце, што ў Вас чуваць, калі ласка.

Да мяне прысылаюць газэту за вяртаньне на Радзіму і там чытаў пра долю Янкі Філістовіча[34]. Ёсьць лі гэта праўда? Выбачце яшчэ раз, што доўга не пісаў, і чакаю на весткі ад Вас.

Ваш Марыян [Каранеўскі]

Вельмі Дарагі Ойча

Выбачце, што раней не пісаў. Я маю многа навасьцей, маю 3[-е] дзіця, Давіда, урадзіўся 18.3.64, а ў маі праз чырвоны крыж дастаў адрас ад бацькоў. Ані ў Польшчы на землях обецаных в *Swiebodzinie Wlkp*. Айцец мае 70 лет, маці працуе цырульніцам, брат і сястра ўцяклі з Сыбіру. Брат дырэктарам гандлёвым, сёстры замужнія каля Варшавы, мужы працуюць у бюры грошы. Я здаў 3 розныя экзамэны за [...] *plant operatera* і цяпер маю лабараторыю і работнікаў, жывем добра, толькі сын Давід хваравіты.

Жывем у вайсковым мястэчку, у лютым паеду да школы вады, дастану чацьвёрту падвышку *CIII* Публічны слуга міністэрства працы аддзел гігіены.

---

[33] **Отэматата** (анг. *Otematata*) — горад у мясцовасці Ўайтакі (*Waitaki District*) у рэгіёне Атага ў Новай Зэляндыі.

[34] Янка Філістовіч, які ўзначальваў партызанскую антысавецкую групу ў БССР, у верасьні 1952 г. быў арыштаваны, а празь пяць месяцаў прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня — расстрэлу.

Да касьцёла і сакрамантаў ходзім кожну нядзелю. Я пачаў тут *“Holy Name Society”*, а Тіна пачала *Katolik Women Liga*. Таксама памагаем для *Katolic Enquiry Centre*. Я кожны дзень малюся да Вас, ойча, так як і за маіх бацькоў, брата і сясьцёр. Калі ласка, Ойча, маліцеся за нас, малітва для мяне вельмі патрэбна.

Ваш Марыян [Каранеўскі]

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***

*Эміграцыйны эпісталярый*

# ГЭТА БЫЛО Ў МАДРЫДЗЕ

*Не, не забыць цябе, Мадрыд...*

Ільля Эрэнбург

*З выхадам у 1996 г. кнігі Барыса Рагулі "Беларускае студэнцтва на чужыне" (Лёндан, Канада — Нью-Ёрк, ЗША) у нашае эміграцыязнаўства ўвайшла новая тэма, а ў гісторыю эміграцыі — прыгожы міт. Міт не як альтэрнатыва праўдзе, а як упрыгожаная, падфарбаваная, а дзесьці мо й замоўчаная (ці прызабытая?), адным словам, міталягізаваная гісторыя.*

*Зрэшты, гэта была ня кніга аднаго Барыса Рагулі. Зь яе старонак расказвалі гісторыю студыяў у Марбургу й Лювэне ці сьведчылі нават адным сваім імем ведамыя дзеячы: Аляксей Арэшка, Раіса Жук-Грышкевіч, Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі, Уладзімер Набагез, Міхась Наўмовіч, Вітаўт Рамук, Язэп Сажыч, Павал Урбан ды іншыя.*

*Водгукі таго, што сапраўдная гісторыя была больш складанай, больш нават жорсткай, знаходзім і ў выдрукаваным ніжэй ліставаньні. Але галоўнае ў ім усё-ж іншае.*

*Доктар Вітаўт Кіпель у пасьлямоўі да другога выданьня кнігі пісаў: "«Беларускае студэнцтва на чужыне», хоць так загалоўленая кніга доктара Б. Рагулі, было б цудоўным назовам да цэлае сэрыі публікацыяў, дзе ўспаміны лювэнцаў — толькі кароткі часавы адцінак з жыцьця беларускіх студэнтаў у Заходняй Эўропе па Другой Сусьветнай вайне"[1]. Далей знаны гісторык эміграцыі называе гарады, дзе беларусы студыявалі ў Эўропе: Мюнхэн, Карлсруэ, Марбург, Рэгенсбург, Гайдэльбэрг, Аахэн, Цюбінген, Гамбург, Кіль, Кёльн, Гановэр, Штутгарт, Аўгсбург, Нюрнбэрг, Брусэль, Лювэн, Льеж[2]. І парадаксальным чынам забываецца пра Мадрыд!*

*Штопраўда, пра Мадрыд, за выняткам кароткіх прынагодных публікацыяў у газэтах "Бацькаўшчына" й "Беларус", літаратуры амаль няма. Найлепшай, хоць вельмі кароткай, інфармацыяй ёсьць зацемка, пабудаваная на ўспамінах Янкі Сурвілы й Віктара Сянкевіча[3].*

---

[1] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Мінск, 2006. С. 162.

[2] Тамсама. С. 163

[3] Тамсама. С. 111—113.

*Гэта няправільна й несправядліва. І хоць з Мадрыду ня выйшла столькі знаных беларускіх дзеячаў, як зь Лювэну, гэты горад застанецца ў гісторыі нашае эміграцыі беларускімі радыёперадачамі.*

*Івонка Сурвіла ў сваіх успамінах піша, што “Янку спатрэбілася паўтара году, каб здабыць хвалі”*[4].

*Сам Янка Сурвіла, відаць, тлумачыць бліжэй да праўды: “Здабыцьцё гэтых радыёперадачаў таксама трэба заўдзячваць беларускім студэнтам або тым, што ўжо атрымалі ўнівэрсытэцкія дыплёмы”*[5].

*Але гэта менавіта ён пісаў роспачныя лісты ў Прэзыдыюм Рады БНР пра стан беларускай сэкцыі радыё ў Мадрыдзе*[6]*, прымусіўшы тым самым паставіць пытаньне на разгляд сэсіі Рады БНР. На яе чарговым паседжаньні Мікола Абрамчык сказаў наступнае: “Бяручы пад увагу ўсю важнасьць гэтай працы, якую пачалі амаль саматугам студэнты ў Мадрыдзе, яны заслугоўваюць на найшырэйшую падтрымку. [...] Уважаю, што штодзённыя 15-хвілінныя радыёперадачы ёсьць вельмі важныя для нашае вызвольнае справы”*[7].

*Але ўсяго праз тры гады, на яшчэ адным паседжаньні Прэзыдыюму і ўраду БНР, было сказана, што “вельмі цяжка ўтрымліваць радыё, відаць, прыйдзецца зрэвідаваць нашае становішча ў гэтай справе”*[8].

*Выдрукаваныя тут матэрыялы ня маюць на мэце ахапіць усю гісторыю беларускіх студыяў у Мадрыдзе або радыёперадачаў; гэта й немагчыма. Яны — хіба прыступка да напісаньня гэтае гісторыі, няпростай, балючай, якая геаграфічна закранае ня толькі Мадрыд, але й Парыж, Лёндан, Лювэн. Яны — адно верхавіна таго, што было ў Мадрыдзе. Але працяг гісторыі будзе.*

Парыж, 22.XI.49[9]

Дарагі Чэслаў,

маючы хвіліну вольнага часу, неадкладна адказваю на твой апошні ліст, бо потым можа залежацца.

---

4 Сурвіла, Івонка. Дарога. Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2008. С. 67.

5 Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Мінск, 2006. С. 112.

6 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР. 1947—1970. Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 498—501.

7 Тамсама. С. 336.

8 Тамсама. С. 351.

9 Арыгіналы лістоў, пададзеных у гэтай публікацыі, захоўваюцца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны.

Хоць ужо аб БАКА "Рунь" адзін раз падалося да ведама, думаю, што нічога не зашкодзіць, калі ў чарговым нумары падамо яшчэ раз аб ім дакладнейшыя весткі з паданьнем паасобных прадстаўніцтваў у кожнай краіне. Толькі пастарайся мне прыслаць копію пратаколу і Статут, каб магчы тут сабраць пару чалавек. [Янка] Філістовіч зьбіраецца ехаць у Бэльгію, дык трэба будзе знайсьці іншага прадстаўніка. Пастарайся мне прыслаць гэта магчыма хутка.

Адносна тых кнігаў і малюнка, дык я ўжо гаварыў з [Лявонам] Рыдлеўскім, але няма ведама, ці ён агулам паедзе ў Лёндан, бо кажа, што ня мае грошаў. З свайго боку даваць яму больш, як я даю дагэтуль, абсалютна для мяне немагчыма. Аднак ён дакуманты на выезд робіць. Калі-б нават ён не паехаў, дык можаш напісаць [Барысу] Рагулі, каб тыя рэчы палажыў у а. Робэрта [ван Коўвэлярта], там яны будуць гэтак сама бясьпечныя, як у цябе, а калі Бог дазволіць жыць, дык заедзеш яшчэ калі-небудзь туды і забярэш.

З грашыма ў мяне вельмі кепска — даўгі растуць, а тут трэба неяк яшчэ выдаць "Божым Шляхам" на Каляды. Тады доўг дойдзе да 60 тысяч, дык нават рыскоўна для мяне так задоўжвацца. Напішы, будзь ласка, ад сябе ў Усходнюю кангрэгацыю, каб выслалі падтрымку на "Божым Шляхам", бо інакш дык бязь ніякіх пагрозаў трэба катэгарычна зрачыся выдаваць часапіс і зачыніць Місію, проста аб'явіць банкруцтва.

Пазаўчора быў пераездам у мяне [Уладзіслаў] Рыжы-Рыскі — едзе ў Мадрыд. Ён цяпер без аніякіх агаворак у зарубежжы. І вось мне, як на бяду, прыходзіцца выдаваць яму даведку, каб прынялі ў Мадрыд у інтэрнат. Не хацеў яму зразу пісаць ніводнага слова, але потым падумаў, калі ўжо падпісаў раней ягоную анкету, дык няма як адмаўляцца падпісаць даведку. Да таго падумаў: хай хаця едзе зь Лювэну і дасьць там крыху магчымасьці неяк упарадкавацца спакайней студэнтам і ня робіць інтрыгаў. Калі яшчэ лёнданскія кандыдаты не паехалі ў Мадрыд, дык лепш накіруй іх у Лювэн. Няхай будзе адзін Рыжы ў Мадрыдзе, дык хіба толькі тады ня будзе мець з кім сварыцца. Інакш ад яго нідзе супакою ня будзе.

У нас цяпер такая паганая пагода, што я ўжо каторы дзень ні хворы, ні здаровы; яшчэ ніколі так дрэнна не адчуваў сябе ў часе васеньняе слоты, як цяпер. [...]

На гэтым тымчасам канчаю і чакаю хуткага адказу.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 22.XII.49

Дарагі Чэслаў,

толькі што кончыў з рэдагаваньнем "Божым Шляхам" — парассылаю, магчыма, у суботу, калі ўсьпее на час зрабіць сваю працу

брашуроўшчык. Яшчэ не атрымаў паведамленьне з банку, ці яны ўжо маюць грошы — таму нават з рассылкаю будзе цяжкаватая справа.

Нядаўна атрымаў я ліст ад [Тодара] Мазуры з Рыму, кажа, што а. [Пётра] Татарыновіч згадзіўся нарэшце гаварыць у Ватыканскім радыё, бо да гэтага часу і сам не хацеў, і агулам перашкаджаў ажыцьцяўленьню гэтае справы, таму сапраўды трэба цешыцца, што нарэшце нешта згадзіўся рабіць — трэба гэтую ініцыятыву падтрымаць як толькі магчыма. Інфармацыі, якія толькі маю, я буду пасылаць, а ты з свайго боку так-жа аб гэтай справе памятай і перашлі час ад часу якія рэпартажы.

З Мадрыду піша [Уладзіслаў] Рыжы, што там цяпер нельга лічыць на стыпэндыі для беларусаў — ён, здаецца, з горам-бядою атрымае, але на больш нельга спадзявацца. Гэта можа і добра, бо гэты Рыжы цяпер перайшоў зусім да зарубежнікаў, і калі-б там быў хто зь лёнданскіх хлапцоў, дык-бы паўтарылася тое, што было ў Рыме — хай ужо ваюе адзін, можа, сам з сабою сварыцца ня будзе. Але ён так-жа стараецца атрымаць магчымасьць гаварыць у мадрыдзкім радыё, сумняюся, ці гэта ўдасца, але можа быць усяляк.

Жадаю вясёлых Сьвят і шчасьлівага Новага Году.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 1.V.50

Дарагі Чэслаў,

[...] Тут, у Парыжу, праз два дні адбываліся нарады студэнтаў з-за зялезнае заслоны ў прысутнасьці прадстаўніка Міжнароднае Каталіцкае Студэнцкае Арганізацыі Эдварда Кіршнэра, аб якім у Лювэне ўспамінаў Антон Бяленіс[10]. У выніку гэтых нарадаў створаны Каардынацыйны камітэт гэтых студэнцкіх групаў, якія тут ёсьць у Парыжу, на ўзор нямецкае "Катунітас". У гутарцы з Кіршнэрам выявілася, што ў "Пакс Романа"[11] амаль чакаюць, калі мы нарэшце надумаемся зьвярнуцца

[10] **Антон Бяленіс** (1908—1994), грамадзкі дзеяч. Скончыў гімназію ў Вільні, вывучаў філязофію ў Станіслававе. У часе нямецкай акупацыі настаўнічаў, быў супрацоўнікам Менскай гарадзкой управы. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Мюнхэне, быў адным з арганізатараў Беларускага студэнцкага згуртаваньня. У Мюнхэнскім унівэрсытэце спачатку вучыўся на мэдычным факультэце, пазьней перайшоў на багаслоўскі. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Чыкага, дзе ажаніўся зь Людвікай Будзькай. Быў парафіянінам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы, сьпяваў у царкоўным хоры пад кіраўніцтвам М. Куліковіча. Быў старшынём Згуртаваньня беларусаў у штаце Іліной і Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага.

[11] ***Pax Romana*** — міжнародная фэдэрацыя каталіцкіх інтэлектуалаў, адзін з найстарэйшых каталіцкіх рухаў, заснаваны спачатку ў 1921 г. як студэнцкі, а ў 1947 г. як акадэміцкі рух.

туды. Я яму гаварыў аб КАБА “Рунь”[12], і ён цешыўся, што цяпер будзе вельмі лёгка стацца сябрам “Пакс Романа”. Дзеля гэтага пасылаю табе ягоны адрас. Вышлі на яго рукі статут і заяву ад “Руні”. Ён раіў зрабіць гэта чым хутчэй, каб яшчэ беларуская дэлегацыя магла быць на кангрэсе ў Амстэрдаме.

Аб стане беларускіх нашых студэнтаў на эміграцыі я яму падаваў такія даныя:

| Краіны | Студэнты, якія студыююць (каталікі і праваслаўныя) | | Усіх студэнтаў, разам з кандыдатамі і матурай | “Рунь” |
|---|---|---|---|---|
| | Стыпэнд. | Без стыпэнд. | | |
| Argentina 0 | 0 | 0 | 5 | - |
| Belgium 25 | 25 | 0 | 25 | ? Лювэн |
| Canada 0 | 0 | 0 | 7 | - |
| France 6 | 2 | 4 | 17 | 6 Парыж |
| Germany 40 | ? | 2 | 40? | ? Мюнхэн, Марбург |
| Great Britain? | | | 24 | ? Лёндан |
| Italy 5 | 0 | 5 | 6 | - |
| Spain 1 | 1 | 0 | 3 | - |
| Sweden 2 | 0 | 2 | 2 | - |
| USA 0 | 0 | 0 | 10 | - |

Як сам бачыш, гэтыя даныя і няпоўныя, і недакладныя. Усяго адносна Францыі яны больш-менш дакладныя. Калі маеш дакладнейшыя даныя, дык папраў, а калі не, дык можна будзе карыстацца і гэтымі данымі, каб яны былі ўсюды такія самыя, або прынамся каб ня было вялікіх розьніцаў. Адносна Гішпаніі, дык там цяпер толькі [Уладзіслаў] Рыжы. Паколькі можна арыентавацца зь ягоных лістоў, дык відаць паважную зьмену на лепшае. Магчыма, гэта толькі дзеля таго, што там ён адзін і ня мае, з кім сварыцца, а можа і навука зрабіла нейкі ўплыў, бо паважна чалавек узяўся за экзамэн і ўжо адзін здаў, а да трох рыхтуецца. Цяпер стараюся, каб туды паслаць яшчэ двох: [Васіля] Млынчыка[13], ён цяпер у Італіі (пераехаў нядаўна з Аўстрыі) і з Парыжа

[12] Недакладны назоў Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб’яднаньня “Рунь”.

[13] **Васіль Млынчык** (28.10.1922—?) пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягерах *DP* у Аўстрыі. На пачатку 1951 г. выехаў у Канаду, потым на нейкі час вярнуўся ў Эўропу.

[Янку] Сурвілу. Здаецца, хлопцы такія, што не павінны сварыцца. Калі там будзе трох, дык так-жа можна будзе залажыць аддзел "Руні".

Пішучы ў "Пакс Романа", слова "Рунь" не перакладай і пішы па-ангельску, бо той Кіршнэр інакш не гаворыць, як па-ангельску.

Справа вельмі пільная і дзеля гэтага зь ёю марудзіць нельга.

Тымчасам бывай!

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 30.IX.50

Дарагі Чэслаў,

[...] Ці ты маеш з сабою сьпіс кандыдатаў на стыпэндыі ў Лювэн? Калі так, дык паглядзі, ці там між імі ёсьць Сенькоўскі Юрка[14]. Пішу табе аб гэтым, бо [Уладзіслаў] Рыжы паведамляе з Мадрыду, што там можна будзе яшчэ вытаргаваць пару стыпэндыяў для беларусаў і прапануе гэтага Сенькоўскага і яшчэ якогасьці свайго роднага Шэка. Пакуль яшчэ не заехалі ў Мадрыд [Васіль] Млынчык і [Янка] Сурвіла, цяжка нешта новае распачынаць, але добра ведаць хоць-бы самых кандыдатаў.

Хутка мае быць у Рыме а. Марыльлё[15]. Магчыма, у Русікум будуць ведаць дакладна час, калі ён мае прыехаць — пастараюся спаткацца зь ім і пагутарыць у справе стыпэндыяў. Адносна Рыжага ў гутарцы з а. Марыльлё радзіў-бы табе перш выслухаць ягоную апінію, бо ў гэтым годзе Рыжы паводзіўся ў Мадрыдзе даволі карэктна. [...]

Чакаю хуткага адказу.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 7.2.51

Дарагі Чэславе,

[...] У мяне хіба тая навіна, што ў гэтым тыдні мае ехаць у Мадрыд з Парыжа Я[нка] Сурвіла. [Уладзіслаў] Рыжы пісаў, што [Васіль] Млынчык так-жа на днях павінен прыехаць караблём. Вось-жа ў Мадрыдзе зь вялікімі цяжкасьцямі і перашкодамі зьбіраецца невялічкая беларуская група з 3-х чалавек. Як яны там зжывуцца, Бог адзін ведае, бо

[14] **Юры Сянькоўскі** (1926—1995), грамадзкі дзеяч, журналіст. У 1950—1956 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце на эканамічным факультэце. Па сканчэньні ўнівэрсытэту пераехаў у Мюнхэн, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне / Свабода".

[15] **Сант'яга Марыльлё Трэвіньнё** (ісп. *Santiago Morillo Treviño*, 1900—1966), рэлігійны дзеяч, езуіт. З 1947 г. жыў у Мадрыдзе, дзе заснаваў Цэнтар усходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў.



Янка Сурвіла, Васіль Млынчык, Уладзіслаў Рыжы-Рыскі.
Мадрыд, 23.03.1951

характары вельмі розныя. Але калі яны будуць добра паводзіцца, дык можна будзе выстарацца яшчэ пару стыпэндыяў для беларусаў, толькі што ў Францыі няма ўжо кандыдатаў, можа ў Англіі знойдзецца? [...]

Цалую цябе моцна,

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 29.III.51

Хрыстос Уваскрос!

Паважаны Гэнрык [Юзэфовіч[16]]!

Шчыра дзякую за Сьвяточныя пажаданьні.

Магчыма, заўтра вышлю Вам сьвежы нумар "Божым Шляхам" — першы сёлета. Нядаўна ў Парыжу выйшла новая беларуская газэта "За волю". Большую колькасьць экзэмпляраў мусілі выслаць на адрас К[астуся] Мерляка.

Пры гэтай нагодзе хачу ў Вас спытацца, як маецца справа Вашага пераезду на студыі ў Лювэн? Калі-б былі якія цяжкасьці ці затрымка, дык напішэце мне, ці згадзіліся-б Вы выехаць у Мадрыд? Там цяпер ёсьць ужо двох беларускіх студэнтаў, і ёсьць магчымасьць атрымаць

[16] **Генрык Юзэфовіч** (?—?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі, а ў 1946 г. — у Рымскім унівэрсытэце. З Італіі перабраўся ў Вялікабрытанію. З 24.12.1946 належаў да ЗБВБ. У 1949 г. выехаў у Аргентыну, дзе належаў да беларускіх нацыянальных арганізацый. Адтуль пазьней, у 1952 г., выехаў на навучаньне ў Гішпанію.

больш стыпэндыяў. Праўда, клімат там крыху цяжэйшы, як у Лювэне, і харчы слабейшыя, але затое мова для Вас ня будзе рабіць цяжкасьці.

У мяне тымчасам усё па-старому.

Шчыра Вас здараўлю.

Адданы Вам у Хрысьце

[Леў Гарошка]

*Buenos Aires*, 6.4.1951 г.

Дарагі Айцец [Гарошка]!

Сёньня атрымаў Ваш ліст, за які шчыра дзякую. Што да ўспомняных Вамі магчымасьці студыяў у Іспаніі, дык гэта было-б найлепшым разьвязваньнем справы. Да Іспаніі я стараўся выехаць ужо ў 1946 г., дзеля аднак недахопу адпаведных "плечаў" ня ўдалося, на жаль, там дастацца. Я буду вельмі Вам удзячны, калі ўдасца яшчэ ў гэтым годзе паехаць у Мадрыд. На падарожжа ўжо маю сабраных крыху "капеяк", дык з гэтым ніякіх клопатаў ня будзе [...].

З шчырым паздараўленьнем, Ваш Гэнрык [Юзэфовіч]

Парыж, 2.X.1951

Дарагі Чэслаў,

нарэшце я выканаў сваю абяцанку і залучаю тут абодва рэфэраты для "Руні" і цяпер бяруся за падрыхтоўку чарговага нумару "Божым Шляхам" і чакаю матэрыялу ад цябе.

Рэкалекцыі зрабіў вельмі добра, нават запісаў усе 32 разважаньні, калі потым буду мець час, дык пастараюся іх перапісаць на чыста.

У міжчасе тут быў а. [Францішак] Чарняўскі, але я зь ім бачыўся толькі каротка, бо ён затрымаўся ў [Міколы] Абрамчыка на фэрме. Відаць, крыху гневаецца. Хто ведае, што ён мяркуе, але палякі яго хочуць перакінуць зь Ліёну ў Грэнобль. Думаў зусім адмовіцца ад душпастырства, я яму адрадзіў гэта, бо тады быў-бы клопат з прымяшчэньнем, у Парыж у Беларускую Місію прыняць яго адмаўляецца мяйсцовы біскуп, бо кажа, што няма вернікаў для яго, і яно сапраўды так ёсьць.

Быў тут так-жа кардынал Тіссэран, я зьбіраўся пайсьці да яго, але потым раздумаў, што няма сэнсу, бо абавязкова хацеў ісьці Абрамчык у справе інтэрнату. Якраз калі я меў рэкалекцыі, яны былі з а. Чарняўскім у кардынала, але ён зажадаў ад Абрамчыка вылажыць справу інтэрнату на пісьме. Цяпер Абрамчык у Лювэне, чакаю, што прывязе адтуль, бо канчаткова гэтая справа шмат залежыць ад а. Робэрта [ван Каўвэлярта]. Кандыдатаў для інтэрнату назьбіралася толькі 6 чалавек. Няпрыемна рабіць дзеля гэткае колькасьці так шмат гамару. Маю ўражаньне, што такім чынам можна сябе толькі асьмешыць перад

Ватыканам, але Абрамчык хоча націснуць а. Робэрта, каб правесьці гэтую справу і ўсадзіць у інтэрнат сваю жонку, да таго няшлюбную, як прыкладную настаяцельку.

У мінулым месяцы [Васіль] Млынчык самалётам прыгнаўся з Канады ў Мадрыд, а Рыжы-Рыскі, ня здаўшы экзамэнаў, стараецца вярнуцца ў Бэльгію, ня ведаю, ці яму гэта ўдасца. Чакаю даведкі для [Генрыка] Юзэфовіча, калі-б яе прыслалі хутка, дык сёлета будзе ў Мадрыдзе 3-х студэнтаў і здаецца больш талковых.

Чакаю ад цябе хуткага адказу.

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 15.X.1951

Паважаны Гэнрык [Юзэфовіч],

пасылаю тут у залучаньні даведку з Мадрыда аб прызнаньні Вам стыпэндыі. З гэтаю даведкаю дастанеце бязь ніякіх цяжкасьцяў візу ў Гішпанію. Як атрымаеце гэты ліст, паведамеце мяне адваротнаю поштаю аб Вашых плянах. Цяпер у Мадрыдзе ёсьць ужо 3-х беларускіх студэнтаў; [Уладзіслаў] Рыжы-Рыскі, [Янка] Сурвіла і [Васіль] Млынчык. Значыць, з Божаю помаччу і ў Мадрыдзе паволі расьце беларуская грамада студэнтаў. Млынчык прыехаў толькі сёлета і яшчэ хістаецца з выбарам факультэту.

З хвілінаю Вашага выезду каму пасылаць для кальпартажу “Божым Шляхам”? Сьвежы нумар гэтага часапісу толькі цяпер пачынаю рыхтаваць да друку.

Шлю Вам шчырае прывітаньне і жадаю шчасьлівага падарожжа.

Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 31.X.51

Паважаны Гэнрык [Юзэфовіч]!

Ліст з грашыма, купонамі і падзякай атрымаў — наўзаем за ўсё шчыра дзякую. Чым хутчэй зможаце прыехаць у Мадрыд, тым лепш, бо ўжо школьны год пачаўся. Толькі каб Вы не расчараваліся, туды прыехаўшы, дык папераджаю, што там у інтэрнаце з харчамі крыху скупавата, бо ў Гішпаніі яшчэ абавязвае картачная сыстэма на харчы, дзеля гэтага вельмі добра мець у кішэні пару грашакоў, асабліва на пачатку, бо пры зьмене клімату звычайна хочацца больш есьці, дзеля гэтага з грашыма будзьце ашчадным. [...]

Калі ўжо будзеце ведаць канчаткова дату свайго выезду, дык напішэце ліст у Мадрыд да сакратара ОКАУ Язэпа Могэдано, які падпісаў вам даведку, і на адрас, паданы ў даведцы, паведамляючы яго, што ўжо

едзеце да іх, і папрасеце, каб зарэзэрвавалі мейсца ў калегіі сьв. Якава. Зразумела, што яму варта падзякаваць, гэта, між іншым, вялікая гішпанская слабасьць, аб якой варта ведаць, што яны адзін аднаму гавораць розныя шматпавярховыя ветлівасьці і любяць, калі да іх так гавораць.

Шчыра Вас здараўлю. Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 17.XI.51

Паважаны Васіль [Млынчык],

адказваю адразу на Вашы два вялікія лісты, абодва прысьвечаныя характарыстыцы [Уладзіслава] Рыжага. Бачу, што Вам варта ведаць: як і чаму знайшоўся Рыжы ў Мадрыдзе?

Як вы самі добра бачыце. Характар Рыжага такі, што ён нідзе ня можа зжыцца зь людзьмі, так было ў Парыжу, так было і ў Рыме, так было і ў Лювэне. У гэтым апошнім была нават стварылася такая няпрыемная атмасфэра, што [неабходна было] аддзяліць Рыжага ад іншых, бо розныя інтрыгі пачалі множыцца так, што кампрамэтавалі беларусаў. Тады я зарызыкаваў выслаць Уладзюка на сваю адказнасьць у Мадрыд, дзе была магчымасьць студыяў, але ня было кандыдатаў. Ён на гэта ахвотна згадзіўся, і ў Лювэне паволі ўсё супакоілася, і ў Мадрыдзе ён адзін быў першы год сапраўды як карысны прадстаўнік беларускіх студэнтаў. Я нават цешыўся, што, магчыма, нарэшце ён знайшоў нейкі талковы шлях жыцьця. Але на другі год ён пачаў дамагацца розных афіцыяльных прадстаўніцтваў, якіх яму ніхто ня мог даць у зьвязку зь ягоным мінулым і непастаянствам. Я нават быў у зьвязку з гэтымі дамаганьнямі загразіў яму адкліка201ньнем на свае парукі, і ён на нейкі час быў зноў супакоіўся. Адзін раз толькі яму быў даручыў удзельнічаць ад беларусаў на міжнародным кангрэсе “Бюра Каталіцкіх Дзяцей”.

Калі ён сам папрасіў мяне пастарацца, каб Вы прыехалі ў Мадрыд, дык мне здавалася, што вы яго ўжо добра ведаеце з Рыму і напэўна будзеце жыць зь ім у згодзе. Калі так ня сталася, дык цяпер неабходна шукаць іншае рады. І гэтая рада з майго боку вам была-б такая: дыскутаваць з Рыжым няма сэнсу і патрэбы, бо яго не пераканаеце, а толькі сапсуяце сабе нэрвы. Таму што ён ніякага асаблівага прадстаўніцтва ня мае, і няма надзеі, каб яму нехта такое прадстаўніцтва даў, дык і ўважаць яго звычайным студэнтам. Там, дзе ён пхаецца зусім непатрэбна, уважаць гэта ягоным асабістым крокам, за які ён адказвае зусім асабіста як Рыжы, а не як беларус ці тым больш прадстаўнік беларусаў. Зразумела, што ягоная лучнасьць з палякамі не заслугоўвае на пахвалу, і я яму аб гэтым ужо пісаў, напамінаючы, што для ўдзелу ў каталіцкім арганізацыйным жыцьці ёсьць беларуская каталіцкая арганізацыя: Беларуская Акадэмічная Каталіцкая Арганізацыя “Рунь”,

якую ён стараецца байкатаваць таму, што апякуном гэтае арганізацыі ёсьць а. [Часлаў] Сіповіч. Праўда, да гэтага часу ў Мадрыдзе было замала нашых студэнтаў, каб заснаваць нават кружок "Руні", але цяпер гэта ўжо зусім магчыма і нават неабходна, тады ходжаньне самапасам Рыжага ня будзе мець ніякага апраўданьня. Але што вам раджу найбольш, дык не рабіць ніякіх спрэчак у прысутнасьці пастаронных асобаў. Асабістыя разыходжаньні ў паглядах могуць быць усюды — гэта людзкая справа. [...]

Жадаю вам усяго найлепшага. Адданы ў Хрысьце

Ваш [Леў Гарошка]

Парыж, 5.2.1952

Дарагі Чэслаў,

[...] У Мадрыдзе з [Уладзіславам] Рыжым сапраўды бяда ды годзі. Яму, відаць, нідзе ня будзе супакою. Забраў я яго зь Лювэну, каб там крыху супакоілася, а цяпер больш няма куды яго высылаць. Ужо летась мне ён дакучаў, каб даць яму рэкамэндацыйныя лісты, каб дамагацца ад гішпанцаў беларускіх аўдыцыяў у радыё. Просьбы яго я ня выканаў. Потым, як ня здаў экзамэнаў і быў нібы захварэў, дык крыху даў супакой гэтай справе, а цяпер вось нядаўна сам сабе панадаваў розныя тытулы: Сябра Рады БНР, сябра і закладчык "Руні", сябра "Пакс Романа" і сябра-закладчык Цэнтру Культурнага Ўзаемабмену ў Эўропу — і напісаў ліст у Гішпанскае Міністэрства Нутраных Спраў. Копію самога ліста цяжка табе перапісаць, бо ён даволі доўгі, але копіі адказаў на ўсякі выпадак пасылаю. Пры тым за ліст і за самое тытуляваньне я яго моцна вылаяў, дык вось цяпер аж пеніцца на мяне [...].

Твой у Хрысьце

Леў [Гарошка]

Лёндан, дн. 5.3.52

Дарагі Віця [Сянкевіч][17],

справа выданьня такой кніжкі, аб якой Ты пішаш у апошнім да мяне лісьце, ёсьць пякучай. Але ідзе аб напісаньне яе і выданьне. Трэба

[17] **Віктар Сянкевіч** (1926—2017), грамадзкі дзеяч, гісторык, журналіст. Быў у Арміі Андэрса. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. У 1947 г. быў абраны на пасаду сакратара Галоўнай управы арганізацыі. Жыў у Оксфардзе. У 1953 г. выехаў вучыцца ў Гішпанію. Скончыў філязофскі факультэт Мадрыдзкага ўнівэрсытэту. У 1958—1961 гг. працаваў у Беларускай сэкцыі Нацыянальнага гішпанскага радыё. Супрацоўнічаў зь беларускай рэдакцыяй радыё "Вызваленьне" й радыё Ватыкану.

людзей, трэба часу і грошы. Алесь[18] канчаткова адмовіўся: ён завалены працай у ўнівэрсытэце, у ЗБВБ, БАКА “Рунь” і інш. арганізацыях. Астаёмся мы з Табой. Я думаю, што маглі-б так на тройку з плюсам напісаць, а мо’ нават і крыху лепш. Калі прыедзеш сюды ў Лёндан, абгаворым справу ўва ўсіх дэталях.

Цяпер ізноў да Тваіх студыяў. Нядаўна быў у Лёндане др. [Барыс] Рагуля, вяртаючыся з Гішпаніі. Ён там езьдзіў дзеля розных спраў, але мо’ найважнейшай справай была — гэта групка нашых студэнтаў і магчымасьці далейшага ўладжаньня на студыі нашай моладзі. Гішпанія зрабіла на др. Рагулю вельмі добрае ўражаньне. Усе студэнты там маюцца добра, нават ім прызначана абслуга да парадкаваньня іхных пакояў. Цяпер там ёсьць 4 нашых студэнтаў: [Уладзіслаў] Рыжы, [Янка] Сурвіла, [Васіль] Млынчык і [Генрык] Юзэфовіч. Мне прыйшла думка: ці не паехаў-бы і Ты туды? У Бэльгіі штораз робяцца цяжэйшыя абставіны, а, па-другое, трэба лічыцца і з тым, што ў Гішпаніі нам трэба мець сваю пляцформу. Гішпанцы намі цікавяцца, доказам ёсьць факт, што згадзіліся на радыёперадачы ў беларускай мове на дзень 25 Сакавіка, а пасьля дадуць дазвол і на сталыя.

Мая думка была-б за тым, каб Ты выбраў Гішпанію. Калі наважышся на гэта, дык хутка мне напішы. Пачнём рабіць стараньні, і Ты, магчыма ў кароткім часе, выехаў-бы на студыі. Гішпанская мова больш падобная да італійскай, чымся француская, а ў міжнародным сьвеце яна сяньня ня менш (калі нават ня больш) важная, чым тая.

Ніякіх асаблівых навін ня маю. 5.3.52 нейкі маёр Зарэчны[19], прыехаўшы сюды зь Нямеччыны, арганізуе кангрэс беларускіх вайскоўцаў, на якім маюць выбраць ваенны штаб Беларускай Вызвольнай Арміі[20]. Сам гэты маёр прысланы [Радаславам] Астроўскім, бачна сьмелы (або дурны), бо за склікаваньне падобных “кангрэсаў” у чужой дзяржаве можа лёгка апынуцца ў вязьніцы.

---

[18] Маецца на ўвазе Аляксандар Надсан, які на той час вучыўся ў Лёнданскім унівэрсытэце й быў старшынём ЗБВБ.

[19] **Людвік Зарэчны** (сапр. **Галубовіч**, 1915—1964), вайсковы й грамадзкі дзеяч. У 1949—1953 гг. працаваў у сыстэме Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну на становішчы дарадцы ў пытаньнях савецкай сыстэмы й яе органаў. Здолеў зацікавіць брытанскую выведку справай арганізацыі беларускага збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучаньне дывэрсійных групаў. У 1952 г. пры падтрымцы Р. Астроўскага заснаваў арганізацыю беларускіх вайскоўцаў на эміграцыі: Беларускі вызвольны рух, які дэкляраваў сваю цесную сувязь з антысавецкім падпольлем у Беларусі.

[20] Відаць, маецца на ўвазе **Беларускі вызвольны рух** — арганізацыя прыхільнікаў БЦР, заснаваная Людвікам Зарэчным (Галубовічам) у 1952 г. Скіраваная была на аб’яднаньне найперш былых вайскоўцаў.

Тут залучаю ліст дзядзькі Макарэвіча[21], які ён прыслаў на адрас БД у Лёндане. Выясьні зь ім справу высланых ім грошы.

Прывітаньні для жонкі.

Твой а. Ч[аслаў] Сіповіч

*134 High Street*
*Oxford*
6.3.52

Вельмі Паважаны Айцец [Сіповіч],

шчыра Вам дзякую за пісьмо, якое, хаця і са спазьненьнем, атрымаў і прачытаў зь вялікай радасьцяй. [...]

Адносна кніжкі, дык цяпер справа будзе прадстаўляцца так: калі я не паеду нікуды на студыі — кніжку будзем пісаць, і думаю, што напішам на больш, чымся тройку з плюсам. Знойдзем таксама і грошы. Але справа будзе прадстаўляцца зусім інакш, калі, як успомніў вышэй, выеду на ўнівэрсытэт. Цяпер адносна месц студыяў. Зусім згаджаюся з Вашай думкай, што было-б куды лепш выехаць у Гішпанію. На гэта складаецца шмат абставінаў: мова, новае месца, пабольшаньне нашае групы й г. д. Я з гэтым згаджаюся, і падобнай думкі Джаванна. Яна супраціўляецца майму выезду ў Бэльгію, але вельмі прыхільна да Гішпаніі.

Справа цяпер у тым, каб Вы мне падалі адрас [Янкі] Сурвілы ці [Уладзіслава] Рыжага. Я да іх напішу пісьмо і папрашу пра дакладныя інфармацыі. Куды-б я ні выехаў, мушу мець на ўвазе тое, што я ня маю матрыкулейшн[22] і што, калі буду студыяваць, дык толькі прадметы гуманістычныя: гісторыю ці філалогію. Дзеля гэтага прашу Вас, дарагі Айцец, прышліце мне адрасы як найхутчэй, каб мы з усім гэтым не зацягвалі. Калі ўдасца ўлезьці ў Гішпанію, дык паеду вельмі ахвотна і пачну адразу вучыцца гішпанскае мовы (ужо знаю каля 1000 слоў і навет магу добра разгаварыцца з гішпанцамі, якіх шмат прыходзіць у мой бар). Калі-ж у Гішпанію выехаць ня ўдасца, дык я лепш астануся ў Англіі, ды пачнём працаваць над кніжкаю. Думаю, гэта ўсё ўдасца залагодзіць у даволі хуткім часе.

---

[21] Відаць, маецца на ўвазе **Мікалай Макарэвіч** (1908—1963), рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай сэмінарыі, потым у 1930—1936 гг. вывучаў тэалёгію ў Парыжы. У часе Другой сусьветнай вайны быў капэлянам у Арміі Андэрса (у 5-й карпацкай дывізіі), разам зь якой апынуўся пазьней у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. З 29.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Апекаваўся праваслаўнымі беларусамі ў Лёндане. Пасьля сьмерці арцыбіскупа Савы займаўся справамі яго спадчыны. У 1953 г. выехаў у ЗША. З 1956 г. пасяліўся ў Кліўлэндзе, дзе стаў заснавальнікам прыходу Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

[22] ***Matriculation*** (анг.) — дакумэнт аб залічэньні ў навучальную ўстанову.

Так што чакаю на хуткі адказ.
З шчырым паважаньнем,

Віця [Сянкевіч]

## 25 сакавіка ў Гішпаніі[23]

(На шляхох эміграцыі)

25 сакавіка сёлета беларуская студэнцкая калёнія ў Мадрыдзе належна адзначыла 34-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

З гэтай нагоды была адслужаная адумысловая ўрачыстая Служба Божая ў капліцы Каледжу сьв. Якава, на якой былі прысутныя Дырэкцыя Каледжу, прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў і студэнты. Службу Божую адправіў а. Рафаэль Мартынэз Таўбман, капэлян Каледжу. Вечарам таго-ж дня ў Гішпанскім Нацыянальным Радыё ў Мадрыдзе была арганізаваная адумысловая перадача ў беларускай мове, на праграму якой склаліся: зварот да Беларускага Народу прэзыдэнта Беларускай Народнай Рэспублікі інж[ынэра] Міколы Абрамчыка, беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа" і беларускі нацыянальны гімн[24]. Перадача давалася а 18 гадз. 40 мін. На хвалі 32.04 м (9363 кц).

Навязываючы да 34-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Славацкая Сэкцыя пры Гішпанскім Нацыянальным Радыё ў Мадрыдзе таксама перадала ў праграме славацкай перадачы адумысловы матар'ял, прысьвечаны беларускаму нацыянальнаму сьвяту.

## Інстытут беларусаведы ў Мадрыдзе[25]

(На шляхох эміграцыі)

Пры Цэнтры Абмены Эўрапейскай Культуры ў Мадрыдзе паўстаў "Інстытут Беларусаведы імяні Льва Сапегі". Гэты Інстытут зьяўляецца сэкцыяй вышэйуспомненай арганізацыі і паводля ягонага рэгуляміну ставіць сабе за мэту: разьвіцьцё і пашырэньне студыяў ды навуковых досьледаў аб беларускім народзе і беларускай дзяржаве як у гістарычнай прошласьці, так і сучаснасьці ў наступных адмысловых галінах — філязафічнай, юрыдычнай, эканамічнай, гістарычнай, сацыяльнай, этнічнай, філялягічнай, літаратурнай, фальклёрнай і мастацкай.

[23] Беларус. № 2 (8). 13—20 красавіка 1952. С. 4.

[24] Маецца на ўвазе гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

[25] Беларус. № 2 (8). 13—20 красавіка 1952. С. 4.


Уладзіслаў Рыжы-Рыскі

Прапагаваньне веды аб палітычных тэндэнцыях і асьпірацыях беларускага народу, дзеля азнаямленьня зь імі краінаў Заходняй Эўропы, а спэцыяльна Гішпаніі і краінаў гішпанскае мовы, як і народаў Ісьляму.

Адумысловая ўвага мае быць прысьвечаная вывучэньню міжнародных суадносінаў, якія існавалі паміж Беларусяй і краінамі Заходняй Эўропы, а таксама гісторыі царквы ў Беларусі.

Старшыня Цэнтру Абмены Эўрапейскай Культуры на старшыню Інстытуту Беларусаведы назначыў Прынца Тодара Ляскарыса-Комнэно[26] — першага асыстэнта пры катэдры права на Мадрыдзкім Унівэрсытэце, а на сакратара — Ул[адзіслава] Рыжага-Рыскага.

24-га сакавіка, сёлета, у клюбе "Мэдіна" адбыўся канстытуцыйны акт Інстытуту Беларусаведы, пасьля чаго мела месца акадэмія, на якую склаўся Рэфэрат старшыні гэтага Інстытуту на тэму: "Беларусь і Эўропа". Дакладчык шырака прадставіў галаўнейшыя гістарычныя падзеі Беларусі ў прошлым і сучаснасьці, падчыркваючы трагічны лёс і цярпеньні беларускага народу, які цяпер стогне ў маскоўска-бальшавіцкім ярме. Старшынёю акадэміі быў біскуп Закарыяс дэ Візкара[27].

Аб самым акце адкрыцьця Інстытуту, як і аб дакладзе ягонага старшыні, былі пададзеныя прэсавыя справаздачы ў некалькі мадрыдзкіх газэтах.

В.

Мадрыд, 3.IV.52

Гэнэральны Сакратар.

Высока Паважаны Сп. Прэзыдэнт [Абрамчык],

у сувязку з папярэднім лістом пачуваюся да абавязку паведаміць В[ашай] М[осьці] аб наступнай справе:

Сёньня ў час візыты маёй у Цэнтры Студыяў Усходніх, якога дырэктарам зьяўляецца Айцец Морыльлё, той запрасіў мяне на гутарку, у якой жыва цікавіўся справамі новапаўсталага Інстытуту Беларусаведы,

---

[26] **Тэадор IX Ляскарыс-Камнэнус** (лац. *Theodore IX Lascaris Comnenus,* 1921—2006), прадстаўнік самазванай дынастыі нашчадкаў бізантыйскіх імпэратараў. Да пачатку 1960-х жыў у Гішпаніі, пазьней перабраўся ў Паўднёвую Амэрыку, выкладаў гісторыю ва ўнівэрсытэтах Калюмбіі, Вэнэсуэлы.

[27] **Сакарыяс дэ Віскара** (гішп. *Zacarías de Vizcarra y Arana,* 1879—1963), гішпанскі каталіцкі дзеяч, біскуп (з 1947 г.).

і пасьля сказаў, што атрымаў ліст з Бэльгіі, у якім яго просяць, каб паведаміў афіцыяльна паліцыі і Міністэрству спраў заграні́чных, што я ёсьць інтрыгант і што выкарыстоўваю маю пазыцыю беларускага дзеяча да спраў, годных пакараньня. Зразумеў я з гэтага, што ліст гэты напісаны праз беларускія дзейнікі ў Бэльгіі. Маю ўражаньне, што зьмест лісту вельмі паважны, і магу прыпусьціць, што ў найлепшым выпадку напісаны Айцом Робэртам [ван Каўвэляртам]. Айцец Морыльлё сказаў, што ён мог-бы зрабіць у найгоршым выпадку па жаданьню таго ліста, дык толькі пераслаць яго ў паліцыю ды ў міністэрства Вонкавых спраў, бо са сваёй стараны ня бачыць нічога ва мне, што-бы давала яму права на падобны выступ.

Вось так выглядае справа аб’ектыўна. Са свае стараны а. Морыльлё пакідае поўнае зразуменьне і магчымасьць супрацоўніцтва Інстытуту Беларусаведы з Цэнтрам Орыентальным і асабістые мае добрыя адносіны зь ім, якіх не ў стане будзе папсаваць ніякі пашквіль ці ачарненьне, хоць такія рэчы ўжо пробаваў там папярэдня рабіць пан [Янка] Сурвіла.

Маю надзею, што В[аша] М[осьць] зразумее, наколькі пачуваюся пакрыўджаны такімі паступкамі. Яны ня толькі што ёсьць несправядлівымі, але больш, бо ёсьць заплатай за працу, якая нічога больш ня мае на мэце, як толькі дабро Беларусі.

Я пераконаны і запэўніваю В[ашу] М[осьць], што мая праца не прыносіць у ніякім выпадку шкоды ня толькі беларускай справе, але і нікому зь беларусаў.

Маю надзею, што В[аша] М[осьць] ня пяройдзе над гэтай справай да парадку штодзённых спраў і спрычыніцца на паўстрыманьне гэтай шкоднай, нягоднай і ганебнай акцыі, якая ўжо цягнецца ў адносінах да мяне больш чым два гады.

Ж[ыве] Б[еларусь].

[Уладзіслаў Рыжы-Рыскі]

## Мадрыдзкая прэса аб Беларусі[28]

(На шляхох эміграцыі)

19 сакавіка сёлета адзін з паважнейшых гішпанскіх дзёньнікаў “Эль Пуэблё”[29] зьмясьціў хроніку прэсавай агэнцыі “Фіэль” — “Беларусь у сумленьні сьвету”.

У гэтым, даволі абшырным і цікавым, артыкуле аўтар знаёміць гішпанскае грамадзянства з гісторыяй і культурай Беларусі ды выясьняе яе значэньне і ўплыў на жыцьцё і падзеі Эўропы. Падчырківаюцца

[28] Беларус. № 2 (8). 13—20 красавіка 1952. С. 4.

[29] ***“El Peublo”*** — штодзённая гішпанская газэта.



Барыс Рагуля, Тодар Цімафейчык, Уладзіслаў Рыжы-Рыскі.
Мадрыд, пачатак 1950-х гг.

асабліва тыя цярпеньні і цяжкое змаганьне беларускага народу, якое няўпынна і з штораз мацнеючай сілай вядзецца за сваю вольную і незалежную дзяржаву.

У канцы аўтар выражае надзею, што хутка настане той мамэнт, калі ўсе беларусы, рассыпаныя па розных кутках сьвету, змогуць вярнуцца на сваю вольную ды ад нікога незалежную бацькаўшчыну Беларусь.

Парыж, 18.IV.52

Дарагі Чэслаў!

[...] З Мадрыду і я маю весткі, што там нібы мае быць парадак. Я ў гэтай справе пісаў а. Морыльлё і да таго прынца Ляскарыса-Комнэню, бо яны былі запрасілі мяне на духовага апякуна Інстытуту Беларусаведы, дык я перш быў даў адказ з засьцярогаю, а потым напісаў вялікі ліст, у якім адклікаў сваю нават умоўную згоду аж да часу, пакуль гэнэральным сакратаром будзе [Уладзіслаў] Рыжы, так-сама і ў справе ганаровага сяброўства, зазначыў, што яго ня прыму, пакуль ня выкінуць Рыжага. Яны былі раней пераслалі мне ліст ад імені Інстытуту да кардынала Тіссарана, я ліст адаслаў ім назад, бо там нічога акрамя просьбы 5000 пэзэтаў і пустога самахвальства ня было.

Адносна [Віктара] Сянкевіча [Янка] Сурвіла паведамляе, што на днях мае быць паседжаньне ОКАУ і, здаецца, вырашаць справу пазытыўна. Цяпер [Васіль] Млынчык ужо выехаў, дык здаецца, што Рыжы прысядзе, бо ня мае ад нікога аніякага падтрыманьня. [...]

Твой Леў [Гарошка]

Парыж, 2.X.52

Дарагі Чэслаў,

[...] Нядаўна быў у мяне [Барыс] Рагуля — пачуў я ад яго ўсе нараканьні, якія да гэтага часу кружылі па завугольлю. Відаць, што гэта ён з [Міколам] Абрамчыкам найбольш удваіх робяць, што могуць, супраць "Руні", і пры тым відаць, што Рагуля дык дзейнічае тут проста з асабістых матываў, а Абрамчык таму, што ад яго атрымоўвае грошы. Казаў яму, каб ён замест так гаварыць аб іншых у іх няпрысутнасьці, пагаварыў сам на сам, але бачу, што ён на гэта невялікі ахвотнік. Раіў яму, каб ён, будучы ў Лёндане, пагаварыў з табою аб сваім жалю да "Руні" — ня ведаю, ці паслухае.

Але з твайго боку вельмі дрэнна, што нічога мне ня кажучы, выслаў [Часлава] Кукеля[30] і да таго пішаш яму і [Генрыку] Юзэфовічу нейкія закіды адносна мяне, калі што маеш да мяне, дык пішы мне асабіста, а ня ім, бо што яны за мяне маюць адказвацца ці апраўдвацца? Калі так будзеш рабіць, дык ня дзіва, што і супраць "Руні", і агулам супраць нас будуць сыпацца зусім слушныя закіды. Бо хто-ж так робіць?! Маеш сваю дзялянку працы, дык і пільнуй яе ў першую чаргу. А гэта: абяцанага артыкулу дык ніколі ў час не падрыхтуеш, а на бязглуздую пісаніну час маеш [...]

Твой у Хрысьце

Леў [Гарошка]

Лёндан, 9.10.52

Дарагі Леў [Гарошка],

гэтак зладжылася, што з усіх старон атрымаў лісты з лаянкай і выгаварамі.

*"Але з твайго боку дрэнна, што нічога мне ня кажучы, выслаў [Часлава] Кукеля і да таго пісаў яму і [Генрыку] Юзэфовічу нейкія закіды адносна мяне..."*

Ані я выслаў Кукеля, ані я пісаў ім супроць Цябе, і мяне дзівіць, што Ты нейкімі плёткамі прыймаесься і выпісваеш мне небыліцы.

---

[30] **Часлаў Кукель** (1915—1977), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску, потым у 1942—1943 гг. — у Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Вільні, а пасьля яе — у каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Вільні. У 1944 г. разам з сэмінарыяй быў эвакуяваны ў Баварыю, а пазьней у Рым. Скончыўшы курс філязофіі, пакінуў сэмінарыю, перабраўся ў Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Браў удзел у выданьні часопісу "На Шляху". У пачатку 1950-х гг. выехаў на навучаньне ў Лювэнскі ўнівэрсытэт, аднак ня скончыў яго й перабраўся ў Заходнюю Нямеччыну. Працаваў ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы ў Боне.

Паслаў Кукелю рэкамэндацыю тады, калі ён быў ужо ў Мадрыдзе, і то толькі на просьбу Юзэфовіча і [Вітаўта] Рамука[31], парадзіўшыся зь іншымі. Кукеля я выслаў за тое, што не здаваў экзамэну ў Лювэне, але што было рабіць? Адно кепска, што я тэй рэкамэндацыі і ліста не пераслаў Табе.

Быў тут у мяне [Барыс] Рагуля, і шмат часу страцілі на розныя “палагоджаньні”. Аказваецца, што Юзэфовіч дзе ні павярнуўся, там і напляткаваў, і наінтрыгаваў. Між іншым, прасіў і браў, дзе толькі мог, грошы, а цяпер “Рунь” атрымоўвае квіты ад ЦБАА з тым, каб пакрыць яго выдаткі. Мы тут застанаўляемся, ці ня выкінуць Юзэфовіча зусім з “Руні”. Калі ты туды паедзеш, дык разам з дакумантамі дадзём упаўнаважаньне ад “Руні”, каб Ты зь ім зрабіў парадак. [Янка] Сурвіла так-жа зракаецца прадстаўніцтва “Руні”, бо Юзэфовіч усюды лезе, усюды плявузгае, і ў гэтакіх умовах ён не жадае аставацца надалей прадстаўніком “Руні”.

Рагуля цэлы час баюкае, каб “Рунь” стала сябрам ЦБАА. Чаму цяпер гэта іх забалела? Ды запраўды-ж гэта толькі фармальнасьць і лішнія хлапоты для “Руні”. Мы мусім шчыра-каталіцкую вясьці дзейнасьць незалежна ад нашых дзеячоў, якія няведама з кім кумаюцца і што робяць.

Перадаўчора быў у мяне Радаслаў Астроўскі. Прыйшоў пагаварыць аб тым, як наладзіць рэлігійнае жыцьцё для беларусаў-каталікоў у Нямеччыне. А. [Міхась] Маскалік — кажа — абслугоўвае палякаў і да іх па-польску гаворыць казаньні. Асталіся там старыя, хворыя безь ніякай апекі. Але думаю, што гэта справы былі толькі пратэкстам для Прэзыдэнта БЦР. Ён хацеў скарыстаць з коньюнктуры, быццам я цяпер супроць [Міколы] Абрамчыка, дык давай папрабуем: Той шарлятан Р[ыжы]-Рыскі са сваймі мэмарыяламі і сугестыямі Юзэфовіча зрабілі зь мяне гарохавую чучалу для прыхільнікаў Абрамчыка. Думаю, аднак, нідзе ніякіх выясьненьняў не рабіць, а рабіць усё для збаўленьня душ, дзе-б яны ні былі.

Астроўскі — без сумніву опортуніст і коньюнктурыст, да гэтага дэмагог. *“Я апіраюся на масах, а яны на эліце”, “Я праводжу ўсё дэмакратычным спосабам, а яны таталітарным”* — вось яго трыкі. Я сказаў, што вельмі кепска, што абедзьве стараны хочуць быць прадстаўніцтвамі беларусаў у дзяржаўным маштабе, і гэтым самым сваімі сваркамі падкапваюць аўтарытэт Беларусі дзяржаўнай. Мне здавалася, што ён з гэтым быццам згадзіўся, але не зь яго віны гэтак сталася… Казаў, што палк[оўнік] Зарэчны — гэта каталік і называецца Людвік Галубовіч. […]

---

31 **Вітаўт Рамук** (1914—2010), грамадзкі дзеяч. У 1949—1953 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. Пазьней выехаў у Вялікабрытанію, а потым у ЗША. Жыў у Чыкага.

Будзь вельмі дыскрэтны з усімі гэтымі справамі, аб якіх Табе пішу, і прымі толькі для свайго асабістага ведама.

Прывітаньні. Твой

[Часлаў Сіповіч]

Парыж, 15.X.52

Дарагі Чэслаў,

[...] Адносна Гішпаніі, дык я казаў [Барысу] Рагулі, што паеду туды толькі тады, калі ён прышле мне копіі сваіх лістоў, якія пісаў у Мадрыд, і заплоціць частку дарогі — да гэтага часу ня маю ні аднаго, ні другога. У справе "Руні" ён быў тут нават згадзіўся не чапаць зусім пытаньня аб уступленьні ў ЦБАА, але відаць, што яго зноў набухторыў [Мікола] Абрамчык разьдзьмухваць "непаразуменьні" — дзіўныя гэта людзі і страшна некансэквэнтныя.

Бязумоўна, у справе мэмарыялу [Уладзіслава] Рыжага нельга рабіць ніякіх выясьненьняў, бо праз гэта асьмешваем сябе, што займаемся тым ёлапам Рыжым. Раней я не шкадаваў, што яго паслаў у Мадрыд для спакою Бэльгіі, але цяпер, шчыра кажучы, моцна шкадую, але з другога боку ня хочацца нічога рабіць, каб ён пераяжджаў у нейкую другую краіну і перавозіў з сабою ўвесь клубок інтрыгаў, што іх да гэтага часу сплёў навокал свае асобы.

З выкіненьнем Юзэфовіча лепш не сьпяшайся — перш-наперш трэба яму даць выгавар, а потым будзеш бачыць, што рабіць. Прытым нікому не гавары аб сваіх намерах выкінуць, каб ня сталася так, як з Рыжым [...].

Твой у Хрысьце

Леў [Гарошка]

Парыж, 18.X.52

Дарагі Чэслаў,

[...] Сёньня атрымаў ліст ад [Генрыка] Юзэфовіча, піша, што Лякарыс выстараўся ім магчымасьць гаварыць праз гішпанскае Радыё Фалянга паўгадзіны на тыдзень, і пытаецца, ці прыняць гэтую прапанову, адначасна сугэруе, каб "Рунь" узяла гэтыя перадачы пад сваю апеку. Ня ведаю дакладна ўмоваў гэтага радыё, дык маю клопат, што яму адказаць. Магчыма, што-колечы аб гэтым піша табе [Часлаў] Кукель? Відаць, што трэба будзе абавязкова ехаць туды, каб разабрацца ў гэтых справах, але бяда з часам, бо яшчэ ніяк не магу скончыць гэтага нумару часапісу [...].

Тымчасам бывай. Твой у Хрысьце

Леў [Гарошка]

Парыж, 15.XI.52

Дарагі Чэслаў [Сіповіч],

толькі ўчора я вярнуўся з Мадрыду і на стале знайшоў твой ліст, шкада, што яго не атрымаў перад выездам. З Мадрыду пераслаў табе пару брашурак для архіву.

Агульнае ўражаньне незавіднае. [Уладзіслаў] Рыжы цяпер выключаны з інтэрнату і пазбаўлены стыпэндыі — гэта сталася яшчэ перад маім прыездам. [Генрык] Юзэфовіч абяцаў вучыцца і выступіць з "Інстытуту Льва Сапегі", бо, уласьціва, гэта ніякі [не] Інстытут, а проста крама для афішаў Рыжага і таго грэка Ляскарыса. Праўда, цяпер да часу агулам праца гэтага Інстытуту завешана, але канчатковая яго доля мае вырашыцца ў канцы гэтага месяца. Я гутарыў са старшынёю тае інстытуцыі, якая яго стварыла, і ён абяцаў разглянуць справу выдаленьня Рыжага з Інстытуту, але, відаць, ня змог правесьці свае думкі, бо наступнага дня зажадаў розных пісьмовых доказаў аб скандальных паводзінах Рыжага, хоць гэтыя дакумэнты яму паказвалі, але не далі на рукі. Словам, там навокал Рыжага наварылася такая каша, што прост аж гадка слухаць. Цяпер пасьля выдаленьня з інтэрнату Рыжы напісаў ліст у Жэнэву да пратэстантаў (Экумэнічнага Руху), просячы помачы, бо, маўляў, яго каталікі скрыўдзілі — зрэштаю, высылаю табе копіі гэтых лістоў тут у залучэньні.

У справе радыёперадачаў я гутарыў з а. Морыльлё, дырэктарам Гішпанскага Радыё і міністрам інфармацыі — у канцы а. Морыльлё абяцаў нават у хуткім часе 15-мінутныя перадачы ў нядзелю, бо гэтыя 15 мінутаў былі раней вольныя, і толькі потым іх занялі славакі, дык цяпер мае іх перадаць беларусам. Я згадзіўся ўзяць адказнасьць на сябе за праграму, а тэхнічна выконваць будуць студэнты, але пастарайся чымхутчэй пераслаць на імя [Янкі] Сурвілы ўпаважненьне рэпрэзэнтаваць "Рунь" на абшары Гішпаніі, бо каталіцкая Гішпанія з гэткім упаважненьнем будзе лічыцца. Яно будзе Сурвіле неабходнае ня толькі ў справе радыёперадачаў, але і ў справе таго фантастычнага Інстытуту.

ОКАУ згадзілася даць яшчэ 5 стыпэндыяў для беларусаў у Мадрыдзе, але толькі для студэнтаў, век якіх не перавышае 25 гадоў. Кандыдаты могуць быць і каталікі, і праваслаўныя, але каб былі талерантныя. Ня ведаю, ці зможам выкарыстаць гэтую магчымасьць. Абяцалі такжа перагляНуць справу [Віктара] Сянкевіча. [...]

P. S. Будучы ў Гішпаніі, бачыў лісты [Людвіка] Зарэчнага да Рыжага. На маю думку, Зарэчны быў і астаўся на службе савецкай контрразьведкі па беларускай справе, бо ў сваім жыцьцяпісе ён выразна кажа, што прайшоў добрую савецкую шпіёнскую школу — цяжка, каб гэткія людзі раптам зьмяняліся.

Твой

Леў [Гарошка]



Віктар Сянкевіч, а. Леў Гарошка, Янка Сурвіла, Генрык Юзэфовіч (?). Мадрыд, 12.11.1952

Гішпанскае Нацыянальнае Радыё ў Мадрыдзе перадало 25-га сакавіка сёлета — у дзень 35-й гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — спэцыяльную пятнаццацімінутную аўдыцыю ў беларускай мове, прысьвечаную беларускаму нацыянальнаму сьвяту. Аўдыцыя пачалася адсьпяваньнем беларускага рэлігійнага гымну “Магутны Божа”, а закончылася нацыянальным гымнам “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Самую-ж аўдыцыю выпаўніў прыгожы й зьмястоўны даклад аб значэньні й ролі Акту 25-га Сакавіка ў гісторыі нацыянальна-вызвольнага змаганьня беларускага народу. У дакладзе былі заакцэнтаваныя важнейшыя падзеі нашага вызвольнага змаганьня, як і акты варожага тэрору, накіраваныя на тое, каб выкараніць з народнае душы імкненьне да волі і зрабіць народ вечным нявольнікам чужога акупанта. Даклад быў закончаны наступнымі словамі:

*“Калі мы ў канцы яшчэ ўсьведамім, што абвешчаньне незалежнасьці Беларусі адбылося ў дзень вялікага хрысьціянскага сьвята Дабравешчаньня Дзевы Марыі, у дзень, калі Бог пачаў ажыцьцяўляць даўно прадсказаны прыход на сьвет Збавіцеля, дык мімаволі можна сьцьвердзіць, што Бог багаславіў той Вялікі Сакавіковы Акт беларускага народу і не адмаўляе сваей помачы для яго канчатковага ажыцьцяўленьня.*

*Перамога напэўна будзе зь беларускім народам, бо з намі Праўда, з намі Бог!”*

Перадача была арганізаваная групаю беларускай студэнцкай моладзі ў Мадрыдзе, галоўна сп.сп. Ч[славам] Кукелям і Я[нкам] Сурвілам, які і зачытаў перад мікрафонам успомнены даклад. За гэтую імпрэзу нашым мадрыдзкім студэнтам належыцца шчырая падзяка[32].

[32] Бацькаўшчына. № 17 (148). 26 красавіка 1953. С. 3.

## Беларускі канцэрт у Гішпаніі[33]

У нядзелю 28 лістапада сёлета ў залі Каледжу Сьвятога Якуба ў Мадрыдзе адбыўся канцэрт беларускіх песьняў і музыкі з грамафонных плітак. На праграму злажыліся рэлігійныя песьні ў выкананьні лювэнскага Беларускага Студэнцкага Ансамблю, арыя Міхася з опэры "Міхась Падгорны" [Яўгена] Цікоцкага[34] ў выкананьні [Ісідара] Балоціна[35], беларускія народныя песьні ў выкананьні таго-ж лювэнскага Ансамблю, хору Рыгора Шырмы[36], а таксама ў выкананьні хору пад кіраўніцтвам Р[ыгора] Пуксты[37]. Із салёвых нумароў былі выкананыя: "Стаіць вярба" ў выкананьні Фурс, "Ой арол" у выкананьні [Міколы] Ворвулева[38]. Зь беларускіх народных песьняў іграліся: "Лявоніха" ў вапрацаваньні Я[зэпа] Жыновіча[39], "Мікіта", "Юрачка" і "Крыжачок" — усе ў выкананьні аркестры пад кіраўніцтвам таго-ж Я[зэпа] Жыновіча. Канцэрт быў закончаны "Пагоняй" у выкананьні лювэнскага Беларускага Студэнцкага Ансамблю.

Вялікая заля Каледжу была перапоўнена студэнтамі. Прысутнічалі тут прадстаўнікі ад дзесяцёх народаў, паняволеных сяньня бальшавікамі, студэнты з паўдзённаамэрыканскіх краінаў, Кітайцы й гішпанскія студэнты. Многім зь іх хаця і няраз ужо прыходзілася чуць аб Беларусі, упяршыню, аднак, давялося пачуць мілагучныя беларускія мэлёдыі, гэты прыгожы вытвар беларускае народнае душы. Выражэньні твараў прысутных дакладна гаварылі аб тым уражаньні, якое зрабіла на іх беларуская песьня. Побач із захапленьнем яе прыгаствам заўважалася таксама і зьдзіўленьне, выкліканае багацьцем беларускае народнае творчасьці. Задавальненьне канцэртам было агульнае, і аб гэтым выразна сьведчыла бура воплескаў.

Калі напасьледак папыталіся аднаго студэнта-Вэнэцуэльца, ці яму, прывыкламу да паўдзённаамэрыканскіх рытмаў, не засумнымі

---

[33] Бацькаўшчына. № 46 (228). 12 сьнежаня 1954. С. 4.

[34] **Яўген Цікоцкі** (1893—1970), кампазытар і пэдагог, народны артыст БССР (1953) і СССР (1955).

[35] **Ісідар Балоцін** (сапр. **Ізраіль Балотны**, 1907—1961), опэрны сьпявак, народны артыст БССР.

[36] **Рыгор Шырма** (1892—1978), дырыжор, фальклярыст, грамадзкі й музычны дзеяч.

[37] **Рыгор Пукст** (1900—1960), кампазытар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. З 1940-х працаваў у Беларускай дзяржаўнай філярмоніі.

[38] **Мікола Ворвулеў** (1917—1967), опэрны сьпявак (барытон), народны артыст БССР і СССР.

[39] **Іосіф (Язэп) Жыновіч** (1907—1974), цымбаліст, дырыжор, кампазытар, пэдагог, народны артыст БССР і СССР.

выдаліся беларускія песьні і канцэрт наагул, ён адказаў: *“Праўда, песьні вашыя сумныя і навет у тых, якія выдаваліся-б быць вясёлымі, таксама адчуваецца нейкі сум, але яны лёгка даходзяць да самага сэрца”.*

С. С.

*Madrid*, 20.12.54

Вельміпаважаны Айцец Чэслаў,

хаця з спазьненьнем, але кажуць: лепш позна, чымся ніколі — адказываю на Ваш ліст з дня 18.11. г. г. Ліст і бланкі з надрукам я атрымаў, за што шчыра Айцу ўдзячны. Адмаўляцца ад заступніцтва старшыні ня маю намеру, але і зрабіць таксама, здаецца, шмат не змагу. У мяне гэты год дэцыдуючы і адзін з найцяжэйшых, дык прыйдзецца пасядзець над кніжкамі. У мяне амаль штомесячна маюцца экзамэны, і, зразумела, на іх трэба падрыхтавацца. Гэта не Лювэн, дзе нашы на працягу пару месяцаў нічога ня робяць, а тады за паўтара падрыхтоўваюць увесь матэрыял. Мне, аднак, гішпанская сыстэма падабаецца, бо прынамся чалавек нечага навучыцца. А мы прыехалі вучыцца ў першую чаргу.

З грамадзкага жыцьця робім усё, што ўдасца. Зь месяц часу таму назад мы далі канцэрт беларускай музыкі і песьняў, з дыскаў, і быў ён настолькі папулярны, што мы былі змушаны паўтарыць другі раз. Даўно былі выслалі зацемку пра ўспомнены канцэрт у “Бацькаўшчыну”, але да гэтага часу там не паказалася. Ці гэта ня людзкі ўплыў, а мо лепш работа Запруднікаў[40] ды Цьвіркаў[41]?

На днях-жа нагаварылі на магнітафонную ленту [зварот] гішпанскага народу для беларускага ў беларускай, зразумела, мове. Будзе гэта перадавацца на Каляды цераз усе гішпанскія радыёстанцыі (стараюцца таксама і цераз радыёстанцыі іншых дзяржаваў — а ініцыятыва, здаецца, выйшла ці не з Ватыкану, бо Ватыкан пераслаў лісту ўсіх народаў, да якіх маюць зьвяртацца гішпанцы ў сваім калядным звароце. Мы фігуруем на лісьце першыя). Ня мелі мы калядных песьняў, дык далі “Магутны Божа” — пойдзе і так.

Вось гэта было-б найважнейшае, у некалькіх сказах. Паважаны Айцец, калі знойдзеце вольную хвілінку, дык будзьце ласкавыя, напішэце

---

[40] **Янка Запруднік** (да эміграцыі **Сяргей Вільчыцкі**, нар. 1926), грамадзкі дзеяч, гісторык, публіцыст. У 1950—1954 гг. вучыўся на гістарычным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. У 1954—1957 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхэне. Пазьней выехаў у ЗША.

[41] **Уладзімер Цьвірка** (да эміграцыі **Вадзім Сурко**, 1928—1992), журналіст. Сябра “Дванаццаткі”. Браў актыўны ўдзел у выданьні часопісу “Наперад!”. У 1950—1954 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. З 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхэне.

хоць пару слоў: што там чуваць добрага, як пасоўваюцца справы куплі *Marian House*, мо маеце якія новыя кніжкі і г. п. (Можа, Вы маеце копіі працаў нашых новаіспечаных “магістраў”?) І што сталася з зацемкай пра зьезд “Руні” ў “Бацькаўшчыне”? Да гэтага часу нічога яшчэ не паказалася. І ці Вы маеце якія весткі ад а. [Уладыслава] Салаўя?

Дык на гэтым канчаю. Прыміце, Айцец, мае шчырыя прывітаньні, а таксама пажаданьні айцу Л[ьву] Гарошку.

Ваш Віця [Сянкевіч]

Мадрыд, 16.1.55

Вельміпаважаны Айцец Чэслаў,

толькі што атрымаў Ваш ліст. Шчыра дзякую. Адказываю натыхмястова, бо маю просьбу: будзьце ласкавыя і пратрымайце для мяне ўсе нумары “Звязды”. Адносна-ж “Савецкай Беларусі”, дык было-б вельмі пажаданым, каб Айцец мог перасылаць нам сюды ў Мадрыд. Яна нам тутака вельмі прыдалася-б: да хронікаў, да радыё ці прэсы. Усялякія кошты зь перасылкаю, як таксама кошты самой газэты пастараюся ўрэгуляваць пры нагодзе.

У нас тут *nihil novi*[42]. Тое пасланьне гішпанскага народу да беларускага, пра якое я Вам успамінаў, здаецца, у апошнім лісьце, было трансьлянаванае цераз гішпанскую радыю два разы: 25 сьнежня і 9 студзеня. У гішпанскай-жа мове была гутарка пра Калядкі ў народаў за зялезнай заслонай і гаварылася пра тры беларускія, якія мы пераклалі на гішпанскую мову. Давалі таксама другі канцэрт беларускіх народных песьняў і музыкі. Маем нагоду карыстацца радыёперадачамі — у гішпанскай мове. Думаю, што выкарыстаем, хаця з часам вельмі туга.

На 25 сакавіка адно падрыхтуем радыёперадачу, бо ня будзем мець ніякіх магчымасьцяў на арганізаваньне нечага іншага.

У наступным нумары *“Oriente”*[43] павінна выйсьці абшырная беларуская хроніка.

У канцы лютага маем канфэрэнцыю на тэму: “Беларусы а фэдэралізм”.

Зрабіць тут можна было-б шмат а шмат, але няма часу. Як у Янкі [Сурвілы], так і ў мяне гэты год пераломны. Паводле новае сыстэмы навучаньня я буду прымушаны здаваць экзамэн аж з 11 прадметаў, між іншым, пяць моваў — грэцкі, лаціну, гішпанскую, ангельскую і францускую. Але думаю, што дам рады. Гішпанская ўнівэрсытэцкая

[42] ***Nihil novi*** (лац.) — нічога новага.

[43] Маецца на ўвазе ***“Oriente Europeo”*** — гішпанскамоўны штоквартальны часопіс, які выдаваў у Мадрыдзе Цэнтар усходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў.

сыстэма мне навет пачынае падабацца, бо прынамся чалавек нешта навучыцца. Тут іх пару тысячаў — экзамэны, а гэта прымушае кожнага працаваць.

У наступным акадэмічным годзе буду магчы пасьвяціць больш часу справам грамадзкім і навуковым. Трэба ўжо думаць і пра дактарат, а таксама было-б вельмі пажаданым, ці лепш сказаць патрэбным, выдаць нейкую працу пра Беларусь у гішпанскай мове. Роля Гішпаніі павялічваецца з кожным днём, а 20 дзяржаваў гішпанскае мовы — гэта фактар, які нам яшчэ пэўна прыдасца ў будучым.

Адносна радыёперадачаў, пра якія я ўспомніў, дык крыху больш інфармацыяў: існуе тут нешта ў родзе ангельскага *“Third Programme”* — у гішпанскай мове. І там мы можам супрацоўнічаць, калі захочам. Усе гэтыя радыёперадачы ў гішпанскай мове і прызначаны на Гішпанію і на Паўднёвую Амэрыку. Для прапагаваньня нашай справы, думаю, гэта вельмі карыснае. Адно вось гэты недахоп часу!

Наш паважаны “маёр” [Уладзіслаў] Рыжы-Рыскі “зрабіў” сабе “дактарат”. Выбіў візытоўкі, на якіх назваў сябе *“doctor in filosifia”* і *“profesor de las lenguas modernas”*[44], а да прозьвішча дадаў *Eisman*?! Хворы чалавек, што зробіш?

Дык на гэтым заканчваю ліст. [...] З шчырым для Вас паважаньнем, Ваш заўсёды

Віця [Сянкевіч]

Мадрыд, 8.3.55

Вельміпаважаны Айцец [Часлаў],

гэтым хацеў-бы паведаміць паважанага Айца, што ўсе газэты, высланыя дагэтуль (3 разы), я атрымаў, за што шчыра дзякую. Магчыма, ужо хутка будзем мець добрую нагоду, каб увесь гэны матар’ял выкарыстаць. Стараемся здабыць штодзённыя радыёперадачы ў беларускай мове. Робіцца ўсё ад “Руні”. 25-га Сакавіка будзем перадаваць а гадзіне 18.40 на тых самых хвалях, што і палякі, украінцы і г. д. Шмат працы — мала часу — вось найважнейшае. Шчырыя прывітаньні ад нас дваёх.

З глыбокім да Вас паважаньнем,

Ваш Віця [Сянкевіч]

Мадрыд, 20.3.55

[паштоўка да а. Часлава Сіповіча]

З нагоды 36-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР перасылаем Вам нашыя найшчырэйшыя сакавіковыя прывітаньні і пажадань-

[44] ***Profesor de las lenguas modernas*** (гішп.) — прафэсар (выкладчык) сучасных моваў.

ні плённае працы на карысьць нашае дарагое Бацькаўшчыны. Адначасна маем прыемнасьць ветліва паведаміць Вас, што дня 25. 3. гг. а гадзіне 19.45 (брытанскага часу) на хвалі 32.04 праз Гішпанскае Нацыянальнае Радыё будзе перадавацца спэцыяльная аўдыцыя ў беларускай мове, прысьвечаная ўгодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР.

З глыбокай пашанай да Вас, Ваш

Віця Сянкевіч



Віктар Сянкевіч

Мадрыд, 14.4.55

Вельмі Паважаны Айцец Чэслаў,

такая нагода, як сяньня, здараецца мне сапраўды рэдка, і таму мушу яе поўнасьцю выкарыстаць, а менавіта напісаць Айцу хаця некалькі слоў. Што праўда, трэба было-б напісаць больш, чымся вось гэтыя дзьве бачынкі, але зь недахопу часу і навалу працы абмяжуюся да рэчаў найважнейшых.

З жыцьця, а лепш зь дзейнасьці грамадзка-рэлігійнай вестак крыху маем, але дзеля таго, што бальшыню падаём у прэсу, дык тут ня варта іх паўтараць. Пра 25 сакавіка, пра радыёперадачы Вы ўжо напэўна добра ведаеце — часткова з “Бацькаўшчыны”, часткова ад а. Льва [Гарошкі]. Дабавіць толькі можна, што сьвяткаваньне, а асабліва радыёперадача выйшлі зусім памысна. У наступных нумарох “Бацькаўшчыны” будуць далейшыя весткі, а магу толькі дадаць, што каб мы мелі больш часу і крыху фінансавых сродкаў, мы змаглі-б зрабіць куды больш. Гішпанія набірае сяньня вялікага значаньня, і наша пляцоўка ў самой сталіцы вельмі важная. Каб нас было з 4—5, але дружных — я ўпэўнены, што мы сяньня мелі-б прынамся 3 разы ў тыдзень радыёперадачы. Нас-жа двух на гэта замала, і таму мы ня робім у гэтым напрамку ніякіх крокаў. Асабліва можна тут шмат чаго зрабіць пяром. Мы стараемся выкарыстоўваць кожную нагоду, але недахоп часу абмяжоўвае нас страшэнна. Напрыклад, хутка, пасьля Вялікадня (на другі дзень праваслаўных сьвятаў) будзем мець 15-мінутовую радыёперадачу ў гішпанскай мове адносна культу беларускага народу да Дзевы Марыі. Асталося толькі 10 дзён, а мы яшчэ ня маем нічога гатовага. Аддалі ўжо матар’ял адносна Багародзіцы і яе культ у Беларусі да друку, і мае выйсьці за пару тыдняў. Я стараюся падрыхтаваць артыкул адносна прасьледваньня Каталіцкай Царквы ў Беларусі, пачаў пісаць і так не закончыў. А пісаць можаш колькі хочаш і што хочаш. Апублікуюць усё зь вялікай ахвотай. Каб былі

сродкі і час, трэба было-б зьезьдзіць у *El Ferrol*[45] і ня толькі падзякаваць дзецям, асабліва за іхні так шляхотны пачын, але прачытаць пара дакладаў. Калі гэтага ня ўдасца зрабіць (здаецца, што не), дык мы хацелі-б выдаць некалькі абразкоў Найсьвяцейшае Марыі, як, напр[ыклад], Жыровіцкай, Вострабрамскай і інш. у гішпанскай мове, зь перакладзенай беларускай малітваю, і няхай-бы дзеці мелі-б іх на памяць. Аднак на гэта ня маем сродкаў, і здаецца, усё гэта застанецца *wishful thinking*[46].

Калі-ж ідзе пра пісьмо падзякі, дык пастарайцеся, Айцец, зрабіць гэта і ад Беларускай Місіі і ад "Руні". Гэта вельмі важна. Што да "Руні", дык як Вы мо' прыкмецілі ў хроніцы "Бацькаўшчыны" і таксама будуць рабіцца і далей, мы стараемся высоўваць "Рунь" на першае месца. Асабліва, што [Барыс] Рагуля і Со стварылі цяпер *counterpart*[47] сваім *"Academicus"*[48]. Ня ведаю, ці Айцец гэта адразу загледзеў, але гэта створана толькі з мэтаю супрацьставіцца "Руні". Няхай др. [Вітаўт] Рамук ня губіць галавы ды не ўступае туды.

Шкада, ах, шкада, што нас толькі двух. Заўсёды ёсьць штосьці новае, штосьці, што патрабуе нашай прысутнасьці, нашай рэпрэзэнтацыі. А тут хоць ты разарвіся. Да гэтага маю шчасьце, што наша дзяржава пачынаецца на Б. Мы заўсёды першыя. Сяньня, напрыклад, а гадз. 22.00 будзе ў цэнтры Мадрыду *Via Crucis* (Крыжовая Дарога), і кожнаму паняволенаму народу прысьвечана адна станцыя, адзін аўтар. Адзін з нас будзе несьці крыж, другі назоў *Bielorrusia*. На аўтары таксама будзе напісана, да якога народу належыць, і таму што мы першыя паводле альфабэту — будзем мець першы аўтар. І так *ad infinitum*[49]. Ня тое, дык другое. Але думаю, што дамо рады. Маем гонар, што якраз нам выпала рэпрэзэнтаваць наш бедны Народ, і з чэсьцяй выконваем свае абавязкі. Найважнейшае, што патрэбна было тут у Гішпаніі, гэта стварэньне, як гавораць ангельцы, *team*'у[50]. Такі нам зь Янкам [Сурвілам] стварыць удалося, бо толькі ў добрай згодзе і ў шчырым даверы адзін да другога можна дзеіць, можна дайсьці да канкрэтных і памысных рэзультатаў.

Адносна-ж нашага жыцьця прыватнага, дык пра яго, сапраўды, няма калі і думаць. Надыходзяць ужо канцавыя экзамэны, і трэба брацца

---

45 **Фэроль** (гішп. *Ferrol*) — горад і муніцыпалітэт у Гішпаніі, у правінцыі Ля-Каруньня (*La Coruña*). У той час была зладжаная кампанія: рэгёны Гішпаніі маліліся за розныя краіны. У Фэролі маліліся за Беларусь.

46 ***Wishful thinking*** (анг.) — тут: добрыя намеры.

47 ***Counterpart*** (анг.) — двайнік, копія.

48 Маецца на ўвазе **Аб'яднаньне беларусаў-абсальвэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту "Academicus"**, створанае ў 1954—1955 гг.

49 ***Ad infinitum*** (лац.) — да бясконцасьці.

50 ***Team*** (анг.) — каманда.

сур’ёзна за навуку. Я ўжо здаў т. зв. частковыя экзамэны і стараюся падрыхтавацца да гадавых. Як пойдзе, толькі Бог Усемагутны Ведае. Маю надзею здаць усе вясною, а калі ня ўдасца, дык можна аставіць якісь прадмет на позьню. Янка [Сурвіла] мае крыху больш пэсымістычны пагляд, бо ён мае на гэтым курсе больш прадметаў, і даволі трудныя. Думае, што прыйдзецца цэлае лета сядзець над кніжкамі, і таму ня будзе магчы прыехаць на зьезд БАКА “Руні” ў Рым. Я таксама не змагу, бо як толькі вярнуся ў канцы чырвеня ў Ангельшчыну, мушу шукаць працу, каб зарабіць хаця грошы на дарогу.

Фінансавая сытуацыя ў нас сапраўды крытычная. У гэтым годзе на працягу больш двух месяцаў нам ня выплацілі ні цэнта. Учора далі па 150 п[эса], і ня ведаем, да калі гэта мае нам хапіць.

Дык на гэтым кончу. На пачатку казаў, што напішу толькі 2 бачынкі, а выйшла аж чатыры. Гэта так заўсёды, дык прабачце за недалікатнасьць. Будзьце ласкавы, Айцец, перадайце наш гарачы прывет Вітаўту [Рамуку], а я Вас буду прасіць, каб Вы хаця пару слоў калісь нам напісалі ды расказалі пра важнейшыя здарэньні ў Ангельшчыне. З глыбокім да Вас паважаньнем, Вам заўсёды аддзаны

Віця [Сянкевіч]

Мадрыд, 28.3.56

Вельміпаважаны Айцец [Часлаў],

насамперш шчыра Вам дзякую за Ваш ліст з 6.3. гг. Атрымаў яго за тры тыдні таму назад, але толькі цяпер маю змогу адказаць. Фінансавыя недахопы прымушалі да маўчаньня. [...]

У нас усё па-старому. Сьвята 25-га Сакавіка мы адсьвяткавалі скромна, але паважна. З “Бацькаўшчыны” даведаецеся больш дакладна. Выйшла лепш, чымся спадзяваліся. Мелі пару новых рэчаў, а ўласьціва здабылі пару больш дадатніх пунктаў на карысьць нашае справы. Фінансава стаялі вельмі слаба, але сп.сп. [Уладзіслаў] Рыжы-Рыскі і [Генрык] Юзэфовіч памаглі нам (гэта няхай застанецца між намі), і такім чынам усё ў парадку. [...]

На гэтым кончу. Жадаем Вам, Айцец, вясёлых Вялікодніх сьвятаў. Шчыры прывет ад Юзэфовіча і ад Рыжы-Рыскага.

Зь вялікім паважаньнем, Віця [Сянкевіч] і Янка [Сурвіла]

Мадрыд, 22.3.58

Вельміпаважаны Айцец [Часлаў],

ведаю, як у Вас з часам і таму ня буду займаць Вам яго.

У аўторак, 25-га, мы будзем перадаваць паўгадзінную аўдыцыю (ад 17.30 да 18.00 эўрапэйскага часу, а 16.30—17.00 ангельскага на кароткіх хвалях 42,22 і 32,04 м) і таму, што гэта радыёперадача можа

быць пробнай, бо маем надзею, што хутка пачнём рэгулярныя, штодзённыя, дык было-б вельмі пажаданым, каб хтосьці ў Лёндане змог нас паслухаць. Гэта з мэтаю пераканацца, ці добра чуваць, ці будуць перабіваць і т. п. [...]

Ваш заўсёды шчыры

Віця [Сянкевіч]

Мадрыд, 4.12.1958

Вельміпаважаны Айцец [Часлаў],

гэтым маем прыемнасьць ветліва паведаміць Вас, што нашыя аўдыцыі ў Гішпанскім Нацыянальным Радыі пачынаем у панядзелак, 8.12 гг. Яны будуць штодзённа а гадзіне 18.30 да 18.45 заходня-эўрапэйскага часу і паўтарацца ад гадз. 20.45 да 21.00 на кароткіх хвалях 42,2 м (7105 кГц) і 32 м (9360 кГц).

Просім Вас ветліва праўдзіць, ці нашыя аўдыцыі адбіраюцца добра, і пераслаць нам, па меры магчымасьці, Вашыя заўвагі і пажаданьні на наступны адрас [...].

Адначасна ветліва просім паведаміць аб беларускіх аўдыцыях усіх знаёмых беларусаў і заклікаем Вас да цеснага супрацоўніцтва.

Мы былі-б Вам вельмі ўдзячныя, калі-б Вы змаглі напісаць ліст у Гішпанскае Нацыянальнае Радыё (на вышэй паданы адрас), дзякуючы гішпанскім уладам за адкрыцьцё радыёперадачаў у беларускай мове. Пісаць можаце па-беларуску, але было-б больш пажадана на любой мове заходня-эўрапэйскай.

З шчырым беларускім прывітаньнем і з глыбокай да Вас пашанаю,

В[іця] Сянкевіч

## Новы беларускі голас у эфір[51]

Нядаўна Гішпанскае Нацыянальнае Радыё ў свае штодзённыя праграмы ў замежных мовах улучыла перадачы ў беларускай мове. Такім чынам, ня ўлічваючы розных аказыйных аднаразовых выступленьняў Беларусаў праз радыё і ў тэлевізіі розных краінаў, беларускі голас у некамуністычным сьвеце здабыў яшчэ адну — будзем спадзявацца — трывалую пазыцыю. Да гэтага часу ў вольным сьвеце беларускі голас падаецца рэгулярна ў эфір (штотыднёва) праз ватыканскую радыёстанцыю і адну з радыёстанцыяў у Нью-Ёрку, і (штодзённа) праз радыё “Вызваленьне”. [...]

Да гэтага часу мы мелі змогу пазнаёміцца ізь зьместам толькі ўступнага скрыпту першай беларускай мадрыдзкай радыёперадачы, зь якога,

[51] Бацькаўшчына. № 3 (439). 18 студзеня 1959. С. 1.

аднак, відаць, што Беларуская рэдакцыя ставіць перад сабой шырокую, усебаковую праграму інфармацыі нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне, і што беларускай нацыянальнай праблеме адводзіцца ў іх адно зь першых месцаў і бязь ніякіх абмежаваньняў з боку гішпанскіх уладаў. Гэты факт трэба, бязумоўна, толькі вітаць. Наколькі спэцыфічная атмасфэра сяньняшней Гішпаніі адаб'ецца на абмяркоўваньні іншых праблемаў — гэта пакажа будучыня. Факт, аднак, застаецца фактам, што, нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцьця на выгнаньні, беларуская палітычная эміграцыя крок за крокам здабывае ўсё новыя пазыцыі для свае дзейнасьці. Гэтая дзейнасьць усё больш дае аб сабе знаць на Бацькаўшчыне і, відаць, знаходзіць там нямала сымпатыкаў, калі бальшавіцкі прапагандовы апарат, асабліва апошнім часам, змушаны весьці такую супрацьакцыю, лаючы на ўсе лады "беларускіх буржуазных нацыяналістаў" і намагаючыся ўсе лёзунгі беларускай нацыянальнай рэвалюцыі — Свабоду, Дзяржаўнасьць, Сувэрэннасьць, Незалежнасьць — "напхаць" сваім "сацыялістычным" эрзацам. Сяньня, у пэрыяд стыхійнага нацыянальнага самавызначэньня найбольш адсталых каляровых народаў, розныя спосабы (асабліва радыё), пры помачы якіх перад народамі Савецкага Саюзу можна выкрываць фальшывасьць і цынізм бальшавіцкай "нацыянальнай палітыкі", ейную імпэрыялістычную сутнасьць, — асабліва небясьпечныя камуністычнаму валадарству. Таму кажны здаровы нацыянальны голас можа зрабіць вялікую паслугу перамозе свабоды і дэмакратыі.

Канчаючы гэтыя кароткія разважаньні з нагоды распачацьця беларускіх радыёперадачаў з Гішпаніі, думаем, што выразім думкі ўсіх нашых суродзічаў на эміграцыі, калі гэткім чынам падзякуем гішпанскім уладам за зразуменьне нашае справы й пазытыўнае палагоджаньне пытаньня беларускіх радыёперадачаў праз Гішпанскае Нацыянальнае Радыё. Апрача таго, сябром Беларускай рэдакцыі жадаем посьпехаў і вытрываласьці ў іхнай цяжкай, ахвярнай, але вельмі карыснай працы. Памажы Вам, Божа!

Мадрыд, 18.1.59

Вельміпаважаны Айцец [Часлаў],

шчыра Вам дзякую за лісты ў Дырэкцыю Радыё. Яны цешацца, што ім прыходзяць лісты з падзякамі. Пра нашыя радыёперадачы гаварылася нават падчас нарады габінэту. Выглядае, што мы стаімо нядрэнна. Каб мы мелі хаця невялікую падтрымку звонку, мы маглі-б павялічыць нашыя аўдыцыі да 20 хвілін. Прынамся ў такім сэньсе нам сказаў адзін з кіраўнікоў Гішпанскага Нацыянальнага Радыё.

Пакуль што цягнем удвух. Звонку мы атрымалі толькі чатыры нядзельныя артыкулы ад айца Льва [Гарошкі]. Больш нічагусенькі. Думаю, аднак, што з часам усё наладзіцца, і справа пойдзе належнай дарогай. [...]

Адносна нядзельных рэлігійных перадачаў, дык апошнія дзьве нядзелі мы бралі матар'ял з "Божым Шляхам". Іншага ня мелі. Але для радыёперадачаў патрэбна рэчы больш актуальныя, гэта значыць, праграмы, адмыслова пісаныя на кожную нядзелю. Думаю, што айцы нашыя дагаворацца міжсобку, хто і калі мае пісаць артыкул. Задоўгіх пісаць не патрэбна. Дзьве бачынкі, як вось гэтая, праз дзьве лінейкі.

На гэтым, здаецца, і закончу. Добра было-б, каб Айцец змог нас паслухаць ды зрабіць свае заўвагі і пажаданьні.

Сп. [Янка] Сурвіла меўся пісаць да Вас ліст, але выглядае, што ня можа здэцыдавацца, дык пакуль што перасылае адно прывітаньні.

З глыбокім паважаньнем да Вас, Айцец.

Ваш Віця [Сянкевіч]

## Беларускія перадачы радыё "Мадрыд"[52]

Стараньні атрымаць беларускія перадачы пры радыі Мадрыд пачаліся ўжо ў травені 1957 году і вяліся па сьнежань 1958-га году. Стараньні гэтыя сустракаліся сьпярша зь вялікімі цяжкасьцямі, але ўсе большыя перашкоды былі ўрэшце пераможаныя. Шмат дапамаглі ў гэтай справе органы БНР.

Першая беларуская праграма радыё Мадрыд была перададзеная на бацькаўшчыну 9-га сьнежня 1957 году[53]. На праграмы па-беларуску было прыдзелена 15 часінаў удзень. Умовай дазволу на перадачы было забавязваньне беларускіх дзейнікаў самым утрымоўваць сваіх працаўнікоў, як гэта, зрэшты, рабілі ўжо Балты, Харваты, Альбанцы ды іншыя, усіх 16 нацыяў, што пачалі працаваць у мадрыдзкім радыі раней за Беларусаў.

Беларускія праграмы перадаваліся двойчы ў дзень, а гадз. 20.30 і 22.40 паводля менскага часу, на кароткіх хвалях 32 і 42 мэтры. Бадай адразу-ж пачаліся стараньні, каб падоўжыць іх яшчэ на 5 часінаў, а таксама каб здабыць адну карацейшую хвалю з даўжэйшым засягам. І гэта ўдалося. Пачынаючы ад ліпеня 1960 году беларускія радыёперадачы ў Мадрыдзе трываюць 20 часінаў. Трэба зацеміць, што з 16-х іншамоўных перадачаў радыё Мадрыд толькі дзьве — расейская й польская — трываюць па 30 часінаў. Чатыры — беларуская, вугорская, румынская й баўгарская — трываюць па 20 часінаў, а дзесяць апошніх — па 15 часінаў.

У пераважнай бальшыні беларускія праграмы складаюцца з трох частак: навінаў дня, што займаюць прыблізна чвэртку часу, камэнтару на міжнародныя падзеі і гутаркаў, артыкулаў ды іншых матар'ялаў на беларускія тэмы, што займаюць палову праграмы.

---

[52] Беларус. № 89. Жнівень 1964. С. 5.

[53] Насамрэч — 8 сьнежня 1958 г.

Кажная перадача пачынаецца гішпанскім маршам Кабальгата — сыгналам Гішпанскага Нацыянальнага Радыё, а канчаецца беларускай “Пагоняй”.

Матар’ялы на беларускія тэмы ахапляюць розныя пытаньні. Адзначаюцца ў іх, паводля магчымасьцяў, перадусім усе важнейшыя беларускія ўгодкі. Шмат увагі прысьвячаецца жыцьцю й памяці выдатных Беларусаў, ахвярам расейска-камуністычнага акупанта Беларусі. І ўсьцяж, ведама, гаворыцца аб нашых мэтах і ідэалах, аб нашай наважнасьці аднавіць незалежнасьць і сувэрэннасьць Беларусі, аб тым, што незалежнасьць гэтая — справа непазьбежная. Перадае радыё Мадрыд і кажную вестку аб жыцьці й дзейнасьці Беларусаў за мяжой, аб беларускіх грамадзкіх, культурных і палітычных арганізацыях у вольным сьвеце. Штонядзелі перадаюцца гутаркі на рэлігійна-маральныя тэмы, беларускія песьні ў выкананьні эміграцкіх хораў ды салістых і перадачы літаратурна-патрыятычнага зьместу.

Усе беларускія матар’ялы, якімі карыстае радыё Мадрыд, — чыста нацыянальнага характару ў найлепшым сэньсе гэтага слова. Кіравецтва радыё Мадрыд ніякіх абмежаваньняў палітычнага ці іншага характару беларускай сэкцыі ня робіць. Кажная рэдакцыя ўкладае сама свае праграмы й перадае тое, што яна ўважае за найбольш патрэбнае. Для дырэкцыі радыё, аднак, робяцца зь перадаваных матар’ялаў кароткія рэзюмэ ў гішпанскай мове.

Камуністы сустрэлі беларускія перадачы радыё Мадрыд шалёным глушэньнем. Ня спыняюць яны яго й да сяньня. Ня ўсе перадаваныя матар’ялы глушацца аднолькава інтэнсыўна. Найгоршае глушэньне тарнуецца да беларускіх нацыянальных тэмаў, асабліва да весткаў з жыцьця й дзейнасьці беларускіх арганізацыяў за мяжой. Моцна глушацца таксама й Калядныя ды Вялікодныя перадачы. Найгорш, аднак, стаіць справа з нацыянальнымі беларускімі сьвятамі — Угодкамі 25-га Сакавіка ці Слуцкага Паўстаньня. Глушэньне гэтых перадачаў пачынаецца ўжо на колькі дзён перад сьвятамі!

Памінаючы ўжо матар’яльныя цяжкасьці, сэкцыі даводзіцца нясупынна змагацца й зь нястачаю патрэбных матар’ялаў для перадачаў. У гэтай галіне беларускаму радыю ў Мадрыдзе дапамагае адно жменька асобаў, і то — вельмі несыстэматычна. Асабліва дрэнна стаяць справы з матар’яламі на беларускія тэмы. Да таго-ж, з прычыны матар’яльных цяжкасьцяў, беларуская сэкцыя мае адно палову таго складу працаўнікоў, што сэкцыі іншых народаў. Не стае сэкцыі й літаратуры зь беларусаведы. Весткі аб жыцьці й дзейнасьці Беларусаў за мяжой дасылаюцца ў Мадрыд таксама вельмі скупа й нерэгулярна. Спробы наладзіць сваячасовае атрымваньне гэткіх вестак зь месцаў ня мелі дагэтуль удачы. Дрэнна й з рэлігійнымі ды сьвяточнымі перадачамі.

Намагаючыся ў сваім часе атрымаць беларускія перадачы ў радыі Мадрыд, беларускія дзейнікі лічылі, што перадачы гэтыя стануцца запраўды вольным і поўным голасам беларускае палітычнае эміграцыі, бо ніякіх палітычных ці іншых абмежаньняў зьместу перадачаў ніхто ў Мадрыдзе не тарнуе.

8-га сьнежня леташняга году пачаўся шосты год беларускіх радыёперадачаў у Мадрыдзе. Які гэта год будзе, цяжка сказаць. Важнае адно — перадачы гэтыя трэба за ўсялякую цану палепшыць і ўтрымаць, пакуль ажно будзе магчымасьць перадаваць на бацькаўшчыну наш голас — беларускі ў найпаўнейшым значаньні гэтага слова, а ня толькі праграмы ў беларускай мове!

С.

*P. S. Беларускія радыёперадачы на Гішпанскім нацыянальным радыё спыніліся ў 1965 г. На пачатку 1970-х была магчымасьць аднавіць іх, але...*

*Як пісаў тагачасны старшыня Рады БНР В. Жук-Грышкевіч Чаславу Сіповічу (17.5.72), "наш пабыт у Гішпаніі быў вельмі цікавы й прыемны — як у краіне з байкі. Шмат цікавага пабачылі і адпачылі. Зьведалі Прадо*[54] *і правялі цэлы дзень у Толедо*[55]*. Жалеем, што ня здолелі зьведаць Эскар'яль*[56]*. Былі ў міністэрстве інфармацыі й знайшлі прыяцеляў нашай справы. Даведаліся, што аднавіць сэкцыю беларускую ў радыё Гішпаніі магчыма, але не цяпер, а праз каля паўгода. Дагэтуль чужынецкім сэкцыям гішпанцы плацяць толькі часткова, за час, заняты на іхнія перадачы. А дзеля таго, што час гэта кароткі — аплата частковая працаўнікам, зь якой яны ніяк ня могуць пражыць, іх мусіць падтрымліваць хтось збоку. Баюся, што ў нас, калі-б нават была магчымасьць даць працаўнікам і поўную аплату, не знайшлося-б людзей на працу радыё ў Гішпаніі. На наша шчасьце ёсьць надзея на паправу ў радыё «Свабода»".*

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

[54] **Нацыянальны музэй "Прада"** (гішп. *Museo Nacional del Prado*) — адзін з найбуйнейшых музэяў выяўленчага мастацтва ў Эўропе, разьмяшчаецца ў Мадрыдзе.

[55] **Таледа** (гішп. *Toledo*) — горад у цэнтральнай частцы Гішпаніі, на паўднёвым захадзе ад Мадрыду.

[56] **Эскар'яль** (гішп. *Monasterio de El Escorial*) — архітэктурны комплекс другой паловы XVI ст., які складаецца з кляштару Сьв. Лёрэнса, бібліятэкі, шпіталю, пахавальні гішпанскіх каралёў і рэзыдэнцыі караля Філіпа II. Месьціцца за гадзіну язды ад Мадрыду.

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***
*Эміграцыйны эпісталярый*

# МАСКІ СЯРГЕЯ ХМАРЫ

*Калі гаворым пра эміграцыю — і тое датычыць не выключна эміграцыі беларускай, — заўсёды вычуваецца патрэба згрупаваць імёны, выданьні, арганізацыі, каб лягчэй даць рады зь яе гісторыяй і разуменьнем разьвіцьця падзеяў: вось крывічы і зарубежнікі; тут прыхільнікі БАПЦ, гэта — Канстантынопальскага патрыярхату, а тыя, што перайшлі да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, — асобна; вось — бээнэраўцы, бэцээраўцы і прыхільнікі трэцяе сілы.*

*Даўно насьпела патрэба вылучэньня і афармленьня (з фармулёўкамі й характарыстыкамі) яшчэ адной групы — нацыянал-авантурыстаў (Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, Людвік Зарэчны (Галубовіч), сюды варта залучыць і Міколу Дзямідава, колішняга безь пяці хвілінаў суперніка Ўладзімера Тамашчыка за тытул будучага ўладыкі).*

*Але былі на эміграцыі дзеячы, якім нават у такой разгалінаванай структуры будзе складана, калі й наагул магчыма, знайсьці адно-адзінае пэўнае месца.*

*І найперш гэта датычыць Сяргея Хмары (Зіняка).*

*Наіўна лічыць, што, як піша адзін з доўгагадовых дасьледнікаў ягонага жыцьця й дзейнасьці, "многія беларускія суайчыннікі на эміграцыі крытыкавалі Сяргея Хмару за тое, што ён шмат у сваіх выданнях пісаў пра сябе, пра сваю сям'ю, публікаваў у кожным нумары свае здымкі. Але яму гэта можна сёння дараваць, тым больш, што гэта былі яго ўласныя выданні. [...] Жыццё на чужыне для яго не было лёгкім, тым больш, што з Радзімай Сяргей Хмара-Сіняк развітаўся ў 40-гадовым узросце. Яму і там хацелася дзейнічаць, змагацца за Беларусь іншым шляхам, іншымі метадамі. Ён любіў і паважаў, крытыкаваў і злаваў на прадстаўнікоў БНР і БЦР, але сам ад іх заставаўся ўбаку. Ён быў прыхільнікам "трэцяй сілы" на эміграцыі. І нам сёння трэба з гэтым змірыцца і прымаць Сяргея Хмару такім, якім ён быў"*[1]*.*

*На сёньня можна даволі пэўна сьцьвярджаць: мы ня ведаем, якім быў Сяргей Хмара. Што даўся ў знакі большай часткі беларускай эміграцыі, найперш выдаванай ім газэтаю "Беларускі Голас", то праўда: валодала рэдактарам жарсьць быць у курсе ўсіх падзеяў беларускай грамады на ўсіх кантынэнтах, а таму падаваў у газэце*

[1] https://www.racyja.com/kultura/paet-z-myanushkayu-buntar/




Сяргей Хмара. Паштоўка
з дарчым надпісам Юрку Віцьбічу

любую інфармацыю, дасланую рэспандэнтамі ў лістах. І як вынік — вельмі часта друкаваліся зьвесткі неправераныя, перакручаныя, з памылкамі, а то й наагул пра падзеі, якіх ніколі не было.

Але па-за пісаньнямі ў “Беларускі Голас” постаць Хмары застаецца знанай пераважна ў выказваньнях і ацэнках іншых.

Ягоная творчая спадчына, павярхоўна сабраная (прыкладам, у аўтарскі зборнік “Рабінавы хмель” (Менск, 2009) чамусьці не ўвайшлі “Сказы Бацькаўшчыны”) і яшчэ горш вывучаная, не дасьледаваная, ліставаньне — у першую чаргу зь дзеячамі эміграцыі — выяўляюць нам не аднаго Хмару, а некалькіх.

Хмара — сябра Рады БНР і яе ж антаганіст. Хмара — адзін з ініцыятараў трэцяй сілы і яе крытык. Хмара — пясьняр паганства і ён жа — дзейны аўтакефаліст. Хмара — актыўны агітатар у справе яднаньня беларускай эміграцыі і разам з тым — адзін з тых, хто найбольш спрычыніўся да ейнага разьбіцьця.

Дзе Хмара сапраўдны, а дзе толькі ягоная маска?

Для старэйшых беларусаў-дзеячаў на эміграцыі было ўласьціва даігрываньне роляў, тых роляў, зь якімі асацыяваліся іхныя імёны па даваеннай, даэміграцыйнай дзейнасьці.

Як добра бачна з Хмаравых “Кароткіх дадзеных аб сабе” (Запісы БІНіМ. № 24. 1999), гэта быў ня проста змагар, а чалавек, што бачыў сябе ў цэнтры падзеяў — кіраўніком, завадатарам.

Вось яна, хіба тая галоўная маска Сяргея Хмары — атаман! Нездарма ён так любіў у сваёй газэце гэтую тэму. Атаманшчына была ўласьціва і ягонай дзейнасьці на любым полі: што палітычным, што рэдакцыйным, што пісьменьніцкім. А атаман — ён-жа заўсёды па-за арганізаваным войскам.

Толькі й гэтыя словы, гэтая характарыстыка будуць хіба адно сказанымі кімсьці збоку. Найлепшы шлях да ўласнага разуменьня

*дзеяча й складаньня собскай апініі — чытаць ліставаньне Сяргея Хмары з айцом Гарошкам. Як пачатак.*

12.3.50

Пав[ажаны] а. Леў!

Учора атрымаў Ваш ліст. Сяньня высылаю Вам зборнічкі, аб якіх Вы прасілі.

Дзякую за навіны. Абр[амчык] яшчэ ў нас ня быў. Ён ня ведае, як да нас падступіць.

"Баявая Ўскалось"[2] сяньня ўжо вылілась у досыць вялікую літ[аратурную] арганізацыю.

Маем ужо сябрыны арганізацый: у Канадзе, у Нямеччыне і ўва Францыі ([Аўген] Кавалеўскі, [Алесь] Змагар, [Уладзімер] Неманові[3] і інш.). Хутка паўстануць сябрыны ў Злуч[аных] Штатах, Аўстраліі і Англіі. Часапіс, калі прыедзе яшчэ пару асоб у Канаду, зробім месячным.

Ускалосаўцы зрабілі літ[аратурны] вечар у Нью Ёрку ([Янка] Юхнавец[4] і [Янка] Шакун[5]). 15.I.50 мы шыкуем у Торонто. Возьмемся так-жа за рататарныя выданьні твораў ускалосаўцаў і іншых. Выдалі [Уладзімера] Дубоўкі[6] "Credo"[7].

Калі можна, падайце ў "Бож[ым] Шляхам" адрас: "Белар[ускага] Эмігр[анта]"[8] і "Баяв[ой] Ускалосі" і зацемку аб арганізацыях.

"Белар[ускі] Эмігрант" меўся быць ужо высланы, але адміністратар газэты ўпрост забыўся. Цяпер я прыпільную ўжо сам.

У гэтых днях у нас адчыніцца парафія аўтакефальнай царквы.

Мая жонка сяньня закончыла трох з палавінай месячны "трэнінг" у шпіталі і цяпер у гэтых днях атрымае пацьверджаньне дыплёмаў

---

[2] **"Баявая Ўскалось"** — беларускі часопіс, орган Літаратурнай сустані "Баявая Ўскалось". Выходзіў спачатку ў Ольдэнбургу (*Oldenburg*, Нямеччына) у 1948—1949 гг., а пазьней быў адноўлены ў Таронта (Канада).

[3] **Уладзімер Неманові** — псэўданім Уладзімера Цьвіркі.

[4] **Янка Юхнавец** (1921—2004), пісьменьнік, мастак. З 1949 г. жыў у Нью-Ёрку. Аўтар кніг "Шорах моўкнасьці" (1955), "Новая элегія" (1961), "Калюмбы" (1967), "Творы" (Т. 1—3, 1987—1990), "Дань майго часу" (1993), "Драматычныя начыркі" (1996).

[5] **Янка Шакун** (1916—1993), пісьменьнік, сябра БІНіМу. Жыў у ЗША.

[6] **Уладзімер Дубоўка** (1900—1976), паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[7] Маецца на ўвазе выданьне: Дубоўка, Уладзімер. Credo: Зборнік вершаў. Выд. 2. [Чужына]: выданьне супалкі "Ўскалось", 1949. 36 с.

[8] "**Беларускі Эмігрант"** — газэта, якая выходзіла ў Таронта ў 1948—1954 гг. пад рэдакцыяй Кастуся Акулы.

мед[ычнай] сястры і права поўнай дыплям[аванай] сястры ў Канадзе (нострыфікат). Інка[9] наша расьце і ўжо вялікая.

[Аляксей] Васіленя[10] ў дарозе ў Аўстралію.

Бывайце.

Ваш С[яргей] Хмара

Парыж, 4.IV.50

Паважаны Сяргей!

Кніжкі атрымаў — шчыра дзякую. Цяпер толькі разумею, чаму іх мне ня прыслаў М[ікола] Панькоў[11]. Калісь, чытаючы калядную перадавіцу ў "Беларускім Эміграньце", я хацеў Вам зьвярнуць увагу на некаторыя недарэчнасьці прапагаваньня паганства, а цяпер, прачытаўшы "Сказы бацькаўшчыны"[12] і раней выданыя "Пра багоў крывіцкіх сказы"[13], бачу, што, мусіць, усе мае заўвагі да Вас ня дойдуць, бо з сумам сьцьвярджаю, што Вы хрысьціянства выкідаеце вон і прапагуеце паганства, у якое самі ня верыце. Трэба разумець, што іншая справа: пазнаць свае старыя лягэнды, а іншая справа старацца замяніць гэтымі лягэндамі сучасную рэлігію. Дзівую, што Вам прыйшло ў галаву паўтараць экспэрымэнты Розэнбэрга[14]. Баюся, каб гэтым не зрабілі беларускай справе мядзьвежае прыслугі.

---

[9] Маецца на ўвазе старэйшая дачка Сяргея Хмары Іна.

[10] **Аляксей Васіленя** (1899—1978), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, кіраўнік канцылярыі Галоўнага камандаваньня БКА, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Бэрліне, займаў пасаду сакратара прэзыдыюму Беларускай Цэнтральнай Рады. У лягерах *DP* рэдагаваў сатырычны часопіс "Сьмехам па галаве", у Гамбургу разам з С. Хмарам і М. Паньковым выдаваў сатырычны часопіс "Маланка". З 1949 г. жыў у Аўстраліі.

[11] **Мікола Панькоў** (1911—1995), грамадзкі дзеяч, бібліёграф, публіцыст. У часе нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У лягеры *DP* у Ольдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Падрыхтаваў даведнікі "Хто ёсьць хто на эміграцыі", "Мартыралёгія беларускага народу", "Беларуская прэса на эміграцыі", якія не былі выдадзеныя.

[12] Маецца на ўвазе выданьне: Хмара, Сяргей. Сказы Бацькаўшчыны / Літаратурная сустань "Баявая Ўскалось". На чужыне: выданьне супалкі "Баявая Ўскалось", 1949. 31 с.

[13] Маецца на ўвазе выданьне: Хмара, С[яргей]. Аб Багох Крывіцкіх Сказы (Першая беларуская міталёгія). Выгнаньне: выданьне выдавецкай суполкі "Белавежа", 1948. [38 с.].

[14] **Альфрэд Розэнбэрг** (ням. *Alfred Rosenberg*, 1893—1946), нямецкі палітык, адзін з ідэолягаў нямецкага нацыянал-сацыялізму, з 1941 г. быў міністрам занятых усходніх тэрыторыяў.

Для беларускае справы трэба ня бунтароў, а змагароў, ня крыкуноў, а будаўнічых. Літаратары ў першую чаргу мусяць зразумець гэтае заданьне і ў гэтым кірунку скіраваць усе свае сілы. А Вы дык няма ведама куды скіравалі свае аглоблі, паставілі беларускіх сьвятароў на аднэй плошчы з камуністамі *“ксяндзоўскія і мопраўскія грошы”*. Маю такое ўражаньне, што Вы проста не прадумалі як сьлед тых справаў, якія закранаеце, і таму здараюцца гэткія непасьлядоўнасьці.

Паколькі Вы прымеце гэтыя заўвагі, гэта Ваша справа, але маім сьвятарскім і беларускім абавязкам ёсьць зьвярнуць Вам увагу на гэтыя недарэчнасьці.

Беларускіх навінаў на парыскім бруку тымчасам ня чуваць. Жыцьцё ідзе па-старому, штодзень прыносячы цэлую кучу розных дробных спраў, за якімі цяжка дайсьці да парадку. Дзеля гэтага і вялікодны нумар “Божым Шляхам” выйдзе з апазьненьнем.

Шчыра здараўлю Вас і малюся, каб Бог гадаваў Інну.

Ваш

[а. Леў Гарошка]

[травень 1950]

Паваж[аны] а. Леў!

Атрымаў Ваш апошні ліст. Дальбо, Вы зусім несправядлівы! Закідваеце поўную недарэчнасьць! Закінуць мне на падставе маіх пісанін прапагаваньне паганства — гэта тое самае, што закінуць Вашаму часапісу, што ён прапагуе “парнаграфію” на падставе артыкулаў аб плоцьным пытаньні (так, між іншым, цьвердзяць зарубежнікі).

Пры чым тут “паганства”, што я люблю, і ня толькі я, але і бальшыня беларусаў свой фальклёр, у якім гэтак сакавіта аб’яўляецца душа нашага народу. А па-Вашаму, дык яго трэба зьнішчыць, каб і ўспаміну ня было, таму што гэта часам разыходзіцца з афіц[ыйнымі] канонамі царквы.

Вам, мусіць, не спадабалася лягэнда аб Картузынах, але абапертая на фактах шырака ведамай лягэнды Пружаншчыны. І ня трэ’ ўкрываць, што гэткіх рэчаў ня было! Аб Услоніме — так сама ёсьць вершаванае [пяяньне] аб гэтым жа польскім спаленьні гораду. Калядная перадавіца, сымбалічна акрэсьліваючая нашу барацьбу, не магла быць такой, калі-б мы яе падалі ў царкоўнай форме, бо тады мусілі-б неправідлова тлумачыць хрысьціянства, вось чаму прыйшлося зьвярнуцца аж да сымбаляў Ярылы.

Аб “ксяндз[оўскіх] грошах” лепш не ўспамінаць! Хто быў тады ў Вільні, той ведае, што свае [грабілі] больш за чужых!

Нас байкатавалі, а гэтакіх безідэеўцаў, як [Міхась] Машара[15], які па калейцы служыў камсамолу, потым палянаф[ілу Радаславу]

[15] **Міхась Машара** (1902—1976), паэт, празаік, драматург, перакладчык.

Астроўскаму, пасьля ксяндзам толькі за тое, што яму выдалі зборнічкі, а цяпер верна служыць іншым панам. Яны нябось на ім спазналіся! А калі мы тады цьвярдзілі гэтае, дык яны нашыя рэчы нат за грошы не хацелі друкаваць у сваей друкарні, покуль ня змусілі нас павыкідваць не падабаючыяся ім рэчы. Так было.

Адно можа праўда, што мы "крыкуны", але мы маем на гэта права, бо мы і "змагары" ад год! а будаваць яшчэ рана! І што будаваць? У кожным выпадку, ня цёплыя прэзыдэнцкія, міністэрскія і іншыя мейсцы!

Гэта выбачайце — у парадку дыскусыі, але ня варта над гэтым шмат гаварыць! Час пакажа, ці зноў "паганы" ня будуць тымі, якія, як і калісьці, ратавалі ксяндза А[дама] Станкевіча і памагалі а. [Антону] Неманцэвічу ды і сяньня тут доля ініцыятыву адчыніць парафію Аўтакефальскай.

І мне здаецца, што Вы на чужыне занадта "касмалізаваліся" [касмапалітызаваліся], і ўласьне мо гэта для сьвятара гэтак і належыць, але зрабіліся больш каталіком, чым беларусом. Не абразьцеся, што я гэтак Вам пішу, але люблю, каб і мне казалі адкрыта, што аба мне думаюць, і я таксама. І лічу, што абражацца няма што!

Мы чакаем у маі сюды Абрамч[ыка] і будзе мець пытлю!

Бывайце,

Ваш С[яргей Хмара]

Парыж, 11.V.50

Паважаны Сяргей!

З апошняга Вашага ліста відаць, што лістоўна даволі цяжка высьніць, чаму я мусіў напісаць Вам ліст з дакорамі адносна некаторых Вашых твораў.

Любіць і пазнаваць беларускае мінулае прыемна кожнаму шчыраму беларусу, і дзеля гэтага Вам ніхто ня зробіць дакору, не раблю яго і я, бо я-ж сам нават на старонках "Божым Шляхам" Нр. 4 (7) назваў наш фальклёр як "Духовы скарб Беларускага Народу". Казкі і нават лягэнды так-жа ня раз сустракаюцца на тых-жа старонках "Божага Шляху", і як-жа Вы пасьля гэтага можаце мне казаць, што быццам па-мойму, дык *"гэта трэба зьнішчыць, каб і ўспаміну ня было"*? Маю ўражаньне, што тут якраз ёсьць разьвязка да цэлага гэтага непаразуменьня, што Вы ўагульніваеце факты і ня хочаце паважней падумаць над тым, што пішаце, і дзеля гэтага выходзіць, што Вы не разрозьніваеце дзьвёх вельмі блізкіх, але адначасна вельмі розных справаў: адна рэч любіць фальклёр і прычыняцца да яго пазнаваньня, а другая прапагаваць бяскрытычна паганскі сьветагляд, які месьціцца ў гэтым фальклёры.

Бясспрэчна, што наша культура, як і кожная іншая, сягае ў сваіх карэньнях аж да далёкіх прагістарычных часоў, і таму, вывучаючы

свой фальклёр, пазнаём сутнасьць свае культуры. Аднак гэтая культура жывая, яна ўвабрала ў сябе і ўсе новыя здабыткі людзкога духа і Хрысьціянства, разраслася й прыняла новае духовае аблічча. І як-жа гэта выглядае, што Вы да беларуса XX веку пішаце на Коляды перадавіцу, як да нейкага дзікуна з каменнае дабы, які акрамя лягэнды аб Ярыле нічога больш і ня ведаў? Пры чым-жа тут Вашыя сымбалі? Нараджэньне Хрыста гэта ёсьць хрысьціянскае сьвята, і мы яго сьвяткуем як такое. Тут не патрэбны ніякія сымбалі. А вонкавыя абрады, якія суправаджаюць гэтае сьвята, зусім не належаць да сутнасьці справы, зрэштаю, яны так-жа схрысьціянізаваліся.

Тое-ж і ў гісторыі. Ці-ж можна розныя шалёныя вычыны польскіх картузаў атоесамліваць з Каталіцызмам або, што яшчэ горш, зь беларускім фальклёрам? Беларусы заўсёды рабілі палякам слушны закід, што яны злосна мяшаюць польскасьць і каталіцызм. А ці-ж у апавяданьні аб картузах Вы ня робіце таго самага?

Я перакананы, што Вы ня робіце свае літаратурнае прапаганды ў злым намеры, таму і пішу Вам гэтыя радкі. Інакш ня было-б нават сэнсу зьвяртацца да Вас, а калі пішу, дык гэта ёсьць найлепшым доказам, што веру ў Вашу шчырасьць. Дзеля гэтага ня гневаюся за Ваш ліст, але і Вы чытайце гэтыя радкі так, як яны напісаныя: быць шчырым дараднікам у тым, што мне выдаецца вартым перагляду.

Аб цёплых прэзыдэнцкіх і міністэрскіх мейсцах мне няма сэнсу ўспамінаць, бо напэўна ведаеце, як на мяне глядзяць тыя, якія займаюць ці думаюць заняць гэтыя мейсцы.

Адносна касмапалітызму так-жа нельга рабіць закіду пад адрасам “Божым Шляхам”, бо там ня толькі межы, але і абавязкі дакладна азначаны для кожнага беларуса. Пар[аўнайце] артыкул “Асновы беларускага патрыятызму” Нр. Нр. 3, 1 (4). І гэтыя артыкулы ня толькі напісаныя, але і забавязваюць і мяне, і маіх супрацоўнікаў. І яшчэ да гэтага часу я ніколі ня меў закідаў аб нястачы патрыятызму, затое меў вельмі часта і нават аж зашмат адваротных закідаў. Ваш закід аб касмапалітызьме ёсьць бязь ніякіх доказаў. Зрэштаю, і тут, як і ўсюды, доказамі ёсьць ня пустыя словы, але ўчынкі. А ўжо з гэтага гледзішча дык даволі Вам будзе ведаць, што дзеля гэтае самае работы, якую я мушу рабіць толькі ў Францыі, украінцы маюць аж 24 чалавекі, і да гэтага часу, дзякаваць Богу, я яшчэ не адставаў ад іх, наадварот, у некаторых справаў спраўляўся лепш за іх.

Яшчэ раз засьцерагаюся, што пішу гэтае ўсё выключна дзеля супольнага дабра, і хацеў-бы, каб толькі ў гэтым сэньсе чыталіся гэтыя радкі.

У мяне асабіста радасных навінаў няма ніякіх. А сумнае тое, што прыдзецца на нейкі час зачакаць з выданьнем “Божым Шляхам”, бо маю аграмадны доўг і мушу перш яго сплаціць. Апошні нумар часапісу

выслаў Вам учора, а празь які тыдзень ці два вышлю кніжку аб сьв. Еўфрасіньні.

Шчыра Вас здараўлю. Адданы ў Хрысьце Ваш

[а. Леў Гарошка]

25.6.50

Добры дзень!

Даўно ўжо атрымаў Ваш ліст, але вельмі быў заняты й ня меў часу адказаць.

Я ўжо скончыў свой кантракт і знаходжуся на іншым памешканьні.

У нас адбыўся зьезд ЗБК[16]. Быў гарачы! Бальшыня зьезду 2/3 выступіла супроць афіцыяльных рэзалюцыяў [Вінцэнта Жук-]Грышкевіча. Прынята нашая рэдакцыя рэзалюцый (Грамада), не ўспамінаючая "ўраду". Тэлеграмы [Міколу] Абр[амчыку] таксама ня выслалі. Хоць, зразумела, пацьвердзілі, што мы за БНР і ўступілі нават у САБЭ.

Шкода, што ня было [Міколы] Абрамчыка, атрымаў-бы прыймо.

Наагул мы не прызнаем ягонага прэзыд[энцкага] тытулу. У БНР ёсьць толькі тытул старшыні Рады БНР, так і пішам у газэце. Возьмемся мы яшчэ і за "міністраў", бо ў БНР толькі *"народныя сэкрэтары"*.

Газэта нашая запазьнілася з выхадам, бо грошаў не хапіла. Дасылаю Вам пару карэспандэнцыяў, мо выкарыстаеце.

Аб "Ускалосьсі" можаце і не зьмяшчаць, бо-ж хіба яшчэ лічыце нас "паганцамі", хоць магу Вам ціха на вушка шапнуць, што ў нас сябрам ёсьць адзін малады праваслаўны сьвятар і адзін каталіцкі (пішуць пад псэўданімам).

Што чуваць у Вас?

Мне пішуць, што безрабоціца, і ўсе хочуць сюды ў Амэрыку перабрацца.

Ці Вы ведаеце [Юстына] Мурашку[17]? Калі гэтак, дзе ён?

"Баявая Ўскалось" № 3 друкуецца, а № 4 прышыкаваны да друку.

---

[16] **Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК)** — беларуская грамадзкая арганізацыя ў Канадзе, створаная ў Таронта 28 лістапада 1948 г. Мела аддзелы ў Таронта, Гэмілтане, Садбэры, Лёндане, Ашаве, Манрэалі. Мэта арганізацыі — дапамога беларусам у Канадзе, інфармаваньне чужынцаў пра Беларусь, змаганьне за незалежнасьць Беларусі.

[17] **Юстын Мурашка** (1890—1952), грамадзкі дзеяч. Быў фармальным старшынём Беларускай сялянскай партыі. У лістападзе 1941 г. прызначаны бурмістрам Ашмянаў. Пазьней быў бурмістрам у Валожыне. Нямецкія ўлады арыштоўвалі яго. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Заходняй Нямеччыне, Францыі. Браў удзел у першым Сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі. У 1950 г. разам зь сям'ёй выехаў у Канаду. Жыў у Эдмантане.

Нашая сябрына, здаецца, паўстане і ў Аргэнтыне.
Бывайце!

Ваш С[яргей]Х[мара]

2.1.51

Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага Году!

Даруйце мне, што я гэтак доўга маўчаў. Хацелася адказаць шырака, а ўсё ня меў часу. Пад сьвяты прышлі да таго рабочыя гадзіны вечарамі, і гэтак адцягвалася, а перад самыя сьвяты залёг, застудзіўшыся, і цэлыя сьвяты ляжаў у пасьцелі. Цяпер ужо ўстаў, але яшчэ слабы. Працу згубіў, і прыйдзецца шукаць што, самыя таксама адразу ня зробіцца. Але час нарэшце маю.

Вось жа хацеў бы коратка даць Вам характарыстыку, якую Вы прасілі аб [Міколу] Абр[амчыку] (мае ўражаньне). Гаварыў я зь ім добрых 9 гадзін. Якое ж уражаньне? Чалавек зусім адарваны ад краю, ад нашага руху ў краі. Усё ацэньвае з свае старое эміграцкае ацэнкі. Усе дзеячы і тварцы БНР, якія пайшлі да бальшавікоў, гэта “здраднікі”, а не памылковая тактыка, як было ўзапраўды! БНР у яго як нейкая партыйная, ды да таго аднапартыйная крамка, а не дзяржаўны твор, крытыкі баіцца як агня (нібы разаб’е раты!). Выглядае так, што ўсім кіруе [Аўген] Каханоўскі, былы “прэм’ер” [Радаслава] Астроўскага, ну а той на савецкі лад падыктатарскі, усе, хто крытыкуе, значыць, вораг, і тым небясьпечнейшы, калі ён прызнае заразам БНР. Гэта паўтарыў нам [Мікола] Абр[амчык] на сходзе. Мы сказалі Абр[амчыку], што далёка ён на гэтай палітыцы не ўедзе! Што трэба неяк спрабаваць аблучыць усе здаровыя сілы ў адно, а дзеля гэтага “пачысьціць” і сваё асяродзьдзе. Прызнаваў нібы рацыю, але грызьня трывае. У Англіі ў “На Шляху” розныя дурныя сычы[18] і аморы[19] падліваюць ваду на гэты млын, у нас дзее [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч

[18] **Пётра Сыч** (1912—1964), літаратар, журналіст. Служыў у Арміі Андэрса. У 1946 г. разам зь ёй апынуўся ў Вялікабрытаніі. Сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Актыўны аўтар і супрацоўнік часопісаў “Беларус на чужыне” й “На Шляху”. У 1951 г. пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхэне. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопісу “Шарсьцень”, супрацоўнічаў з газэтай “Бацькаўшчына”. З 1954 г. быў намесьнікам галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне / Свабода”.

[19] **Кастусь Кадушка** (на эмігр. **Якуб Амор**, 1925 — пасьля 1975 г.), грамадзкі дзеяч. З 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, адным з ініцыятараў і сталых аўтараў часопісаў “Беларус на чужыне” й “На Шляху”. У 1952 г. выехаў для навучаньня ў амэрыканскай школе выведкі ў Нямеччыне. Рыхтаваўся для дэсантаваньня на савецкую тэрыторыю ў групе зь Цімохам Вострыкавым, аднак адмовіўся выконваць загад. Трапіў у турму, але быў вызвалены празь некаторы час і зьехаў у Бразылію. Пасяліўся на сталае жыцьцё ў Сан-Паўлу, падтрымліваў абмежаваныя кантакты зь беларусамі, якія абарваліся пасьля 1975 г.

цераз [Кастуся] Акулу. Выдалі цяпер ананімны пашквіль супроць мяне й супольнікаў. Бруд аж страх. Паслаў пашквіль [Міколу] Абрамчыку і зажадаў, каб заняў становішча. Маўчыць.

Мы выдалі сваю дэклярацыю "Да злучэньня", прычым прапануем [Вітаўта] Тумаша як прэм'ера, які здолеў-бы, здаецца, аб'яднаць шырэй пад сьцягам БНР розныя групы. Між іншым, [Юрка] Віцьбіч з усёй "Шыпшынай" выракаюцца БЦР. У Англіі "Патрыёт"[20], у Аўстраліі група "Новага жыцьця", але ўсе яны трэбуюць таксама чысткі ад некаторых адзінак БНРу.

Засылаем нашыя шчырыя пажаданьні.

Зіна, Іна і Сяргей [Хмара]

Парыж, 19.I.51

Паважаны Сяргей!

Шчыра дзякую за Навагоднія пажаданьні і Вам жадаю з тае-ж нагоды ўсяго найлепшага.

Ваша характарыстыка [Міколы] Абр[амчыка] вельмі трапная, і прычыны падзелу эміграцыі так-жа. Але цяпер Вы самі разумееце, што ў гэткім палажэньні будзе вельмі цяжка знайсьці шлях да згоды міма найлепшых і найшчырэйшых стараньняў. Людзі, якія жывуць сваімі адарванымі фантазіямі і баяцца глянуць праўдзе ў вочы, стаюцца звычайна вельмі баязьлівымі, калі змушаны стукнуцца лоб у лоб з сапраўднасьцю. Мяне ані сам [Мікола] Абр[амчык], ані яго даверанныя ня любяць, бо я ім няраз казаў прыкрую праўду проста ў вочы. Цяпер рэдка калі зь ім бачуся, бо ён жыве не ў Парыжу, але крыху воддаль.

Аб пашквільных выданьнях я крыху чуў, але іх яшчэ ня бачыў. Маю ўражаньне, што ўсюды пераносіцца тое, што паўтаралася ў Нямеччыне, і цяжка спадзявацца, што [Мікола] Абр[амчык] нешта зможа парадзіць у гэтай справе. [...]

Шчыра Вас здараўлю. Ваш

[а. Леў Гарошка]

[сакавік 1951]

Паваж[аны] а. Гарошка!

Карыстаючы з нагоды, далучаю тут пару слоў.

Вось жа на першае аб навінах найсьвяжэйшых. Нарэшце па доўгіх гвалтах [Мікола] Абр[амчык] адаслаў у дымісыю [Аўгена] Каханоўскага і даручыць тварыць новы ўрад Малахоўскаму[21].

---

[20] ***"Patryjot"*** — часопіс беларусаў у Ёркшыры. Выдаваўся з красавіка 1949 г. да сакавіка 1953 г. у Брэдфардзе, потым у Лідсе. Пабачыла сьвет 10 нумароў.

[21] Відаць, маецца на ўвазе **Пётра Манькоўскі** (1916—2002), грамадзкі дзеяч,

Справа нашае дэкляарацыі гэтак узьняла была гэтую клоку, што спрабавалі нат abліваць нас брудам, чапляцца "Баявой Ускалосі" (за [Уладзімера] Дудзіцкага[22]) і г. д., але справы ішлі сваім парадкам. Што раз вялікшыя групы пераходзілі на наша становішча аб нейкім залагоджаньні разгону, ізаляваўшы пару найнебясьпечнейшых авантурнікаў. У зарубежнікаў зрабілі мы цэлы развал. Частка ад іх зусім адышла і прызнала ў аснове БНР (але не дасюлешнюю Раду), частка з [Міколам] Шчорсам[23] спрабуе маніпуляваць таксама адзіным фронтам і "трэцяю сілаю". Магчыма, дойдзе прост да поўнага разлому, калі група "нецярпімцаў" ня зьменіць сваіх пазыцыяў у адносінах да розных паўсталых спраў, як, напр[ыклад], справа паразуменьня ўсіх бел[арускіх] групаў, і галоўнае: справа Вільні, якую [Аўген] Каханоўскі з гэтай групай прапануе аддаць Летуве пад акупацыю і па вызваленьні да *"апошняга вырашэньня"*.

Адным словам: ня ціха на нашым панадворку!

Ці Вы ня ведаеце адрасу [Аўгена] Кавалеўскага? Ён прасіўся ў Канаду, мы нядаўна мелі магчымасьць паслаць паведамленьне на [Міхася] Наўмовіча, адказаў, што ня ведае адрасу.

Бывайце!

Сяргей Хмара

26.5.51

Вельміпав[ажаны] а. Гарошка!

Учора атрымаў Ваш ліст. Сяньня адказваю, бо Вы, аказваецца, у гэтакім жа палажэньні, як і мы. Вось жа мы адсюль паднялі цэлую авантуру на конта гэтых антыдэмакратычных формаў захоўваньня Прэзыдыюму Рады ў адносінах да Радных. Мы ня хочам быць "раднымі" толькі для ліку і карыстаныя нашымі прозьвішчамі для сваіх махінацыяў і для аплаты нашага падарку для Прэзыдыюму. Мы паведамілі [Міколу] Абр[амчыку], што або дэмакратыя і права, або мы публічна апратэстуем гэтыя штукі. Адказу і дасюль няма. Мы падалі праэкт рэзалюцый, які дамагаемся, каб быў пастаўлены на галасаваньне ўва ўсіх сэктарах Рады.

публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўнівэрсытэтах Вільні, Мюнхэну. Удзельнік аднаўленьня Рады БНР і радны канца 1940-х гг. Жыў у ЗША. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША.

[22] **Уладзімер Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эмігр. **Гіцкі**, 1911 — пасьля 1976), літаратар, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У 1949 г. выехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Згуртаваньне беларусаў у Вэнэсуэле. У 1956—1962 гг. — кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне / Свабода" ў Мюнхэне.

[23] **Мікола Шчорс** (1913—1995), грамадзка-палітычны дзеяч. З 1949 г. жыў у ЗША, адзін з стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у 1951—1955 гг. яго старшыня.

У рэзалюцыі прапануем: супольны фронт на культурным і грамадзкім адрэзку нашага жыцьця ўсіх бел[арускіх] арганізацыяў (ведаеце, што ў "дзень ляяльнасьці" ў Нью Ёрку маршыравалі дзьве беларускія групы асобна, як два народы!!!).

На адрэзку вайскоўцаў: злучэньне абедзьвюх камб[атанцкіх] арганізацыяў як аўтаномных часьцей у адну Бел[арускую] Фэдэрацыю б[ылых] вайскоўцаў.

На адрэзку белар[ускай] прав[аслаўнай] царквы: высьвячэньня яшчэ 2 бел[арускіх] япіскапаў зь людзей, якія стаялі па-за БНР пры помачы грэцкага экзархату (кананічнасьць!), каб умацаваць нашую аўтакефалію!

На адрэзку Рады: кожны радны павінен акрэсьліцца партыйна або выказаць, якія ён палітычныя, грамадзкія ці культурныя, рэлігійныя і г. д. арганізацыі рэпрэзэнтуе ў Радзе.

Вядома ж, адказу няма. Рух за некім паразуменьнем у нас усё больш. Што раз новыя групы паўстаюць на гэтым груньце. Праўдападобна хутка выйдзе друкаваны ворган гэтых групаў існуючых: у Аргэнтыне, Аўстраліі, Англіі, Канадзе, Нямеччыне і Злуч[аных] Штатах.

У нас адбыўся зьезд ЗБК. [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч з [Кастусём] Акулай, [Валерам] Навіцкім[24] і [Міколам] Ганько[25] спрабавалі накінуць ЗБК вузкія партыйныя формы і дыктатарскія мэтады ўправы. Кончылася тым, што [Кастусь] Акула і [Валер] Навіцкі і [Мікола] Ганько, г. зн. усе іх кірунку выкінутыя зьездам з б[ылой] Управы і ў новую не ўвайшлі. Увайшлі толькі тыя людзі, якія стаялі на нашым становішчы: спалучанасьці грамадзк[а]-культ[урных] арганізацыяў і за супольны нац[ыянальны] фронт. Гэта [Алесь] Грыцук як старшыня, [Язэп] Пітушка[26] як заступнік і Салановіч[27]

---

[24] **Валер Навіцкі** (1920—2001), грамадзкі дзеяч. Скончыў Слуцкі пэдтэхнікум, працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі — старшы зьвязовы СБМ (Грэскі раён). Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. З канца 1940-х гг. жыў у Канадзе, быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

[25] **Мікола Ганько** (1924—1999), грамадзкі дзеяч. З 1948 г. жыў у Таронта (Канада), уваходзіў у кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў Канады, у тым ліку ў 1960—1961, 1967—1968 гг., і ад 1989 г. цягам колькіх гадоў быў старшынём Галоўнай управы арганізацыі.

[26] **Язэп Пітушка** (1912—1984), грамадзкі дзеяч. Браў удзел у стварэньні Згуртаваньня беларусаў Канады, затым разам з прыхільнікамі Сяргея Хмары стварыў Беларускае нацыянальнае аб'яднаньне.

[27] Магчыма, маецца на ўвазе **Ўладзімер Саланевіч (Салановіч)** (1923 —?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Зь ліпеня 1948 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Пазьней выехаў у Канаду.

як радны Управы, а да іх дабралі 2 новых Кіселя і [Мечыслава] Рачыцкага[28].

Газэту "Беларускі Эмігрант" зусім аддзялілі ад ЗБК, і яна больш ня будзе ворганам ЗБК, бо мы ня хочам адказваць за недарэчнасьці, якія там піша [Кастусь] Акула з [Валерам] Навіцкім. "Бел[арускі] Эмігрант" хіба памрэць, бо грошаў людзі ня вельмі дадуць, а [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч з [Кастусём] Акулам доўга самі ня выцягнуць.

Я прапанаваў бы Вашым радным у Парыжы, каб яны так сама забралі голас у справах нелічэньня зь сябрамі Рады Прэзыдыюму. Або ёсьць Рада, або не?

Вы пытаецеся аб "Зьнічу"? Якраз учора паслаў ліст а. [Пётру] Татарыновічу з сваім водклікам! Вось жа што да рэлігійнай часткі чалавек я некомпэтэнтны, натомест што да зьместу пісаў тое, што калісь і Вам. Мусіць быць <u>шырокі</u> аб'ем хронікі зь беларускага жыцьця за мяжой і ў краі. Трэба павіншаваць рэдактару ягонай адвагі забіраць голас у грамадзкіх справах (арт[ыкул] аб настроях да паяднаньня на дэмакрат[ычных] прынцыпах). А ўжо зусім гэройства быць у рэліг[іным] катал[іцкім] часапісе наватарам у мове. Асьмеліцца замяніць белар[ускімі] словам назоў касьцёла, нат арганізацый, гэта не было што! Тут і Вы мяне "паганінам" за гэта назвалі-б, а тож сьвятар! Новатвор, між іншым, зусім правільны! Я за яго. Менш падабаюцца ягоныя шматлікія новатворы-спалучэньні з 2 слоў. Вось першае ўражаньне з атрыманых 2 нумароў.

Атрымаў "Беларусь у датах"[29], вельмі карыснае выданьне і вельмі недакладнае. Рэлігійны аддзел вельмі і вельмі кульгае ў адзін бок (каталіцызму), і таму праваслаўныя падымаюць гвалт за гэтую аднабаковасьць. Трэ' было выдаўцам аб гэтым падумаць.

Бывайце! Пав[ажаючы] Вас

С[яргей] Хмара

Парыж, 11.VI.51

Паважаны Сяргей!

Шчыра дзякую за ліст і весткі. Аб некаторых справах я ад Вас даведваюся хутчэй і больш, як ад самых зацікаўленых асобаў. Бо да Рады я не належу. Перш агулам там нікога з духоўных не хацелі мець, а цяпер дык,

---

[28] **Мечыслаў Рачыцкі** (1922—1972), грамадзкі дзеяч, дзеяч СБМ. З 1949 г. жыў у Канадзе. Быў сакратаром Выдавецкага фонду Згуртаваньня беларусаў Канады.

[29] Маецца на ўвазе выданьне: Каваль, Пракоп [Гарошка, Леў]. Беларусь у датах, ліках і фактах = Biélorussie d'après les dates, les statistiques, les faits = Whiteruthenia (Byelarussia) in the dates, the numbers, the facts. Парыж: выданьне "Моладзі", 1950. 68 с.

праўду кажучы, і самога туды ня вельмі цягне якраз з усіх тых матываў, на якія наракаеце, плюс яшчэ іншыя. Дзеля гэтага вельмі часта міма найлепшае волі я ведаю шмат больш, што робіцца ў іншадзяржаўных сэймах і сэнатах, чым аб тым, што дзеецца ў беларускай Радзе. Што гаварыць пасьля гэтага аб тых, якія знаходзяцца на правінцыі.

Аднак у апраўданьне Рады трэба сказаць, што пры сучасным складзе беларускае эміграцыі сапраўды цяжка і можа нават немагчыма палагодзіць як сьлед усе тыя цяжкасьці, перад якімі знайшлася наша эміграцыя. Вельмі часта ў тэорыі, прыкрываючыся прыгожымі клічамі, у практыцы людзі кіруюцца нізкімі асабістымі амбіцыямі, ставячы іх на самым першым мейсцы — як можна з такім элемэнтам знайсьці пагадненьне і супольную мову? Гэта вельмі сумнае зьявішча, якога афіцыяльна нават і зачапаць ня варта, бо ў каго амбіцыя хваравлівая, дык зачапіўшы яе публічна, хваравлівае мейсца станецца яшчэ больш балючым. Пэўна-ж, зусім нічога не рабіць у гэтым палажэньні так-жа нельга... [...]

Ці Вам прыходзілася калі зацікавіцца, як выглядае беларусіка ў канадзкіх унівэрсытэтах? Там украінцы маюць багатыя аддзелы і нават прафэсарскія катэдры. Ці магчыма зацікавіць бібліятэкі, каб стварылі беларускія аддзелы? [...]

Шчыра Вас здараўлю. Ваш

[а. Леў Гарошка]

8 кастрыч[ніка] 1951 году

Пав[ажаны] а. Леў!

Атрымаў Ваш ліст. Ніяк не здагадаюся, чаму Ваш першы быў зьвернуты. Праўдападобна, адна з старых квартыранак-жыдоўка на злосьць сказала паштару, што гэтакага ў доме няма.

Цікавая рэч, што тое, што Вы пішаце аб [Яўхіму] Скураце, сяньня ўжо не згаджаецца зь ягонымі дзейкамі. Па-першае, прыехаў ён як радны БНР і паўнамоцнік *"ліквідаваць раздор"* у Канадзе. Па-другое, зь ягоным прыездам [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч натужваецца зноў апанаваць "Бел[арускі] Эмігр[ант]", і [Яўхім] Скурат фігуруе ад іх як рэдактар, а яны сябры. Зразумела, што атрымаюць па пальцах і газэты не атрымаюць, бо мы стаім за тое, каб наш часапіс быў незалежны, а не выяўляў погляды толькі нейкай антынароднай клікі. Але ўсе гэтыя іх каламуцтвы шкодзяць рэгулярнаму выхаду часапісу. Цяпер мы тут сьцяліся за "Фонд Падэрэўскага"[30]. [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч хоча

[30] **Ігнацы Ян Падэрэўскі** (польск. *Ignacy Jan Paderewski*, 1860—1941), польскі піяніст, кампазытар, дзяржаўны й грамадзкі дзеяч, дыплямат. У 1919 г. быў прэм'ер-міністрам і міністрам замежных справаў Польшчы. Заснаваў фундацыю, назваўшы ў свой гонар.

стаць прафэсарам у Інстытуце “Словянскім”, арганізаваным на грошы гэтага фонду палякамі — вядома ж, кожны “прафэсар” мусіць быць *“Obywatelem Rzeczypospolitej”*, а катэдра мае быць беларускай. [Алеся] Грыцука Вінцэнт [Жук-]Грышкевіч цягне ў свае асыстэнты. Вось падложжа некаторых зьмен у поглядах [Алеся] Грыцука і г. д. Мы на сходзе актыву прызналі, што супрацоўніцтва з Фондам Падэрэўскага ня годнае беларуса, бо Фонд перасьледуе свае польскія нацыяналіст[ычныя] мэты. А так як у нашых рукох і сэктар Рады, дык цяпер [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч са скуры вылазіць, каб неяк здабыць некую апору дзеля правядзеньня сваіх мэтаў. Палякі іначай гавораць з аматарамі на прафэсароў, калі яны галавары нейкіх белар[ускіх] арганізацыяў, а іначай, калі гэта адзінкі без уплыву. З гэтуль і ўся авантура. Вось жа здаецца, што і [Яўхім] Скурат ня зусім ад таго, каб атрымаць нейкае мейсца выкладчыка дзесьці, і таму і ён згубіў сваю апалітычнасьць.

[Мікола] Абр[амчык] парваў усе сувязі з прэзыдыюмам нашага сэктару і ні аб чым нас не паведамляе. Затое прыватна зьвязаны з [Вінцэнтам Жук-]Грышкевічам і мае нібы прыехаць сюды 15 лістапада.

На конта Францыі скардзіліся якраз людзі, сьцягненыя [Міколам] Абр[амчыкам]. Я даў яму адказ на арт[ыкул] “Эўропа ці Амэрыка” ў “Моладзі”, бо гэты арт[ыкул] тут усіх гэтых прыехаўшых страшэнна абурыў! А таксама і ўсіх тых, якія тут даўней.

Яшчэ больш абурыла ўсіх асьветчаньне Станкевіча (Падубіч)[31] у “Бацькаўшчыне”[32], што *“ратавалі сваю скуру”*, а ён гэрой, бо застаўся, хоць усім ведама, што пёр у Амэрыку першы, ды за п’янкі ня трапіў. Гэтак вось у нас робіцца палітыка!

Памятаеце калісь дыскусыю аб зьмесьце “Божым Шляхам” і мае ўвагі. Пазнаёміўшыся тут з укр[аінскімі] базыльянамі, я дзеля прыкладу пасылаю Вам іх выданьне для ўкр[аінскіх] каталікоў. Як бачыце, яны шырэй разумеюць заданьні рэлігійнага часапісу. Ня толькі апавяданьні, вершы, але і гісторыя, і навука, і хроніка, зусім з рэлігіяй не зьвязаныя. Тое ж і з малюнкамі. Вось часапіс, які чытаюць ня толькі каталікі.

Сюды цяпер едуць ад Вас з Францыі і Англіі ўсе, хто можа. Мне здаецца, што дамэтным было-б і Вам сюды перакачаваць і тут мо якую помач ад укр[аінскіх] гр[эка-]кат[алікоў] мелі б. Яны тут моцныя!

[Язэп] Бука заходзіў пару разоў, але чалавек мне вельмі не спадабаўся. Гэта тып нашых Акулаў і Навіцкіх, хіба да іх і пойдзе!

Бывайце.

Ваш С[яргей] Хмара

---

[31] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

[32] Паддубіч. За прапаганду навонкі // Бацькаўшчына. № 10 (13). 4 красавіка 1948. С. 1—2.

[I.1952]

Пав[ажаны] а. Леў!

Ня пісаў доўга, бо ў нас тут разгуляліся досыць цікавыя здарэньні ў сувязі з прыездам [Міколы] Абр[амчыка].

Па-першае, не паведаміў аб прыезьдзе нас, а прыехаў патайком да [Вінцэнта Жук-]Грышкевіча і начаваў у [Кастуся] Акулы. На раніцу затэлеф[анаваў] да мяне, што хоча са мною бачыцца. Прышлося яму сказаць у вочы крыху няпрыемных для яго рэчаў за ягоныя дзялы.

Не адказаў, як звычайна, нічога.

На даклад (публічны) прэзыдыюм нашага сэктару Рады не зьявіўся, бо калі ён байкатаваў прэзыдыюм, дык збайкатавалі і яго.

Пасьля дакладу, калі [Алесь] Грыцук ад імя ўсіх спрабаваў дзякаваць, дык віцэ-старшыня ЗБК асьветчыў, што гэта няпраўда і што бальшыня прысутных не падзяляе асьветчаньня [Алеся] Грыцука. Пасьля пачаліся запытаньні да [Міколы] Абр[амчыка], між іншых, каго рэпрэзэнтуе як “радны” [Яўхім] Скурат, [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч і [Алесь] Грыцук, дык [Мікола] Абр[амчык], успацеўшы, вымямліў, што [Яўхім] Скурат рэпрэзэнтуе беларусаў Францыі, [Вінцэнт Жук-]Грышкевіч — Англіі (2 гады ў Канадзе), а [Алесь] Грыцук — Аўстрыі (4 гады ў Канадзе). Быў вялікі сьмех. А [Валеру] Навіцкім і [Кастусю] Акуле пыталіся, як хутка іх нарэшце абсудзіць суд Рады за правакацыю і крымінальныя праступкі. [Міколу] Абр[амчыку] заняло дух і здавалася, што самлее. Паехаў ня солана хлябаўшы.

“Бел[арускі] Эмігр[ант]” ачышчаны так сама ад некаторых двурушнікаў-рэдактараў, выбралі [Язэпа] Пітушку.

Усе трэбавалі на сходзе разьвязаньня Рады і пакліканьня новай, але ад усіх груп, прыдзелам мандатаў, а не іменна.

Пробаваў тут [Мікола] Абр[амчык] некаторым прапанаваць мандаты на радных, каб заткнуць рота, але не пайшло. Мы сьветчылі (трох), што калі ён будзе далей весьці гэткую палітыку з Радай, дык мы з Рады выступаем.

[...]

Бывайце.

Ваш С[яргей] Х[мара]

14.III.1952

Вельміпав[ажаны] а. Леў!

Выбачайце, што так доўга не адказваў, бо, бачыце, кожны прыезд да нас [Міколы] Абрамчыка ўносіць гэткую каламуць у нашае грамадзкае жыцьцё, што прыходзіцца шмат часу пасьвячаць, каб неяк ліквідаваць гэтыя бруды.

Зараз жа па выезьдзе выкрылася, што ён з [Вінцэнтам Жук-]Грышкевічам зарганізаваў “баёвую” (баёўку камуна-фашыстоўскага ўзору)

“Авангарду Беларусі” з 9 асоб, якія падпісаны пад пашквілям у “Бацькаўшчыне” на мяне[33].

Кончылася іх работа тым, што іх агульным сходам выдавецкага фонду выкінулі зь сяброў, а яны па стараму мэтаду выдалі наўзамен хвальшывы нумар “Беларускага Эмігранта”.

У сувязі з гэтым агульны сход пастанавіў замяніць назоў часапісу на “Беларускі Голас”, які днямі выходзіць з друку.

Прыём у Канадзе, а пасьля падзеі ў Нью Ёрскім сэктары Рады змусілі [Міколу] Абрамч[ыка] пачаць перагаворы з [Міколам] Шчорсам, але ён і пры гэтым спрабаваў упячы сваю пячэню, прапануючы тайком выкінуць [Антона] Адамовіча і Янку Станкевіча з Рады і коштам іх памірыцца (бо яны сяньня ў апазыцыю да дагавору з Расейцамі, да якога [Мікола] Абр[амчык] хіліцца!).

У Нью Ёрку ў Радзе паўстаў Блёк незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі на чале з [Антонам] Адамовічам, [Антонам] Шукелойцам, [Васілём] Кендышам[34], [Міколам] Паньковым, Я[нкам] Станкевічам, [Янкам] Юхнаўцом і інш. У дэклярацыі яны гавораць, што незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі загрожана ([Мікола] Абрамчык і яго кумпаны), бо прабавалі Раду ставіць перад даконанымі фактамі і што пасьля адкіненьня Радай [неразборліва] усё ж [Мікола] Абр[амчык] намагаўся бараніць патрэбу ўгоды і што небясьпека гэтага існуе далей.

Кіраўнікам групы [Міколы] Абр[амчыка] сказаўся [Васіль] Тамашчык, які выступіў з закідам здрады БНР Хмарай і яго абаронцамі з “Блёку” ў Нью Ёрку і г. д. 19 галасавалі я нібы выдалены з Рады, пры 6 проціў і рэшце ўстрымаўшыхся. Мы свой сэктар Рады не разьвязалі і існуем. Вось коратка навіны. З Рады выступілі М[іхась] Рагуля[35] і В[алянціна]

---

33 Маецца на ўвазе публікацыя: Асьветчаньне // Бацькаўшчына. № 78—79. 25 сьнежня 1951. С. 8. У тэксьце паведамляецца, што група пад кіраўніцтвам С. Хмары выступала супраць арганізацыі ў Таронтаўскім унівэрсытэце курсаў беларусаведы, распаўсюджваючы чуткі, нібыта яны арганізуюцца пры падтрымцы Фонду Падэрэўскага. Аўтары асьветчаньня абвяргалі інфармацыю адносна сувязяў са згаданым фондам. Дакумэнт падпісалі: К. Акула, М. Рачыцкі, А. Грыцук, В. Навіцкі, М. Ганько, Я. Скурат, Я. Чорны, Р. Жукоўская.

34 **Васіль Кендыш** (1908—2003), рэлігійна-грамадзкі дзеяч. Браў актыўны ўдзел у арганізаваньні беларускіх адміністрацыйных структураў падчас нямецкай акупацыі, працуючы на розных пасадах у Баранавічах, Нясьвіжы, Клецку. З 1944 г. — на эміграцыі. Жывучы ў ЗША, браў актыўны ўдзел у беларускім праваслаўным жыцьці. У 1968—1973 гг. кіраваў парафіяй БАПЦ у Гайлэнд-Парку, да 1981 г. быў кіраўніком парафіі Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

35 **Міхась Рагуля** (1914—2002), грамадзкі дзеяч, сын Васіля Рагулі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў загадчыкам аддзелу культуры ў Віцебску,

Жукоўская[36]. У сьціслай кампаніі скардзіўся [Мікола] Абр[амчык], што ксяндзы не падпарадкуюцца, напр[ыклад], як [Леў] Гарошка "гаўкае" ў "Божым Шляху", што хоча, у хроніцы, а другі ([Пётра] Татарыновіч) у палітыку лезе.

У нашым часапісе "Бел[арускі] Голас", здаецца, зьмесьцім рэцэнзію аб Вашай кніжцы аб сьв. Прадславе, а такжа ў прэсавым аглядзе.

С[яргей] Х[мара]

Парыж, 1.IV.52

Паважаны Сяргей!

[...] Нядобра, што ў Канадзе заварылася такая каша, што аж дайшло да поўнага расколу. На маю думку, гэткі падзел нічога добрага не нарожыць і будзе спрычыняцца да завастрэньня сварак [...].

Даведваюся, што быццам сёньня мае прыехаць у Парыж [Мікола] Абрамчык, але ня ведаю, калі зь ім буду бачыцца і што даведаюся, бо, як самі ведаеце, да мяне ён мае шмат засьцярогаў, а цяпер, магчыма, будзе мець яшчэ болей, бо пасьля апошніх выбараў у Сындыкат беларускіх работнікаў у Францыі ніхто нават і не галасаваў за інж[ынэра] [Лявона] Рыдлеўскага, дык ягоныя ўплывы цяпер так вельмі малыя. Аднак у Парыжу хоць і ёсьць незадаволеныя, а нават і зусім няпрыхільныя, ад гэтага, аднак, часу арганізацыі стараюцца ўтрымаць у суцэльнасьці. Затое арганізацыйнае жыцьцё ў Парыжу апошнім часам крыху ажывілася. На ўрачыстасьці 34-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, якую ладзілі ў мінулую нядзелю 30.III, было больш 40 чалавек, толькі ў 1948 г., калі было ў Парыжу шмат беларусаў, зьбіралася столькі людзей.

Пакуль дойдзе да Вас гэты ліст, дык і Вялікдзень надыдзе, дзеля гэтага шлю Вам наперад мае шчырае пажаданьне для Вас: Вясёлых Сьвят!

З пашанаю,

[а. Леў Гарошка]

займаўся пытаньнямі выдавецтва, школьніцтва, тэатру. Рэдагаваў бюлетэнь Беларускай незалежніцкай партыі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Вучыўся ў Нямеччыне, атрымаў дыплём інжынэра, зрабіў кар'еру ў сфэры будаўніцтва фабрычных печаў. З 1950 г. жыў у ЗША.

[36] Маецца на ўвазе **Валянціна Пашкевіч** (дзяв. **Жукоўская**, 1916—2004), грамадзка-культурная дзяячка, мовазнаўца, сястра Раісы Жук-Грышкевіч. З 1949 г. — у Канадзе. Складальніца "Першай чытанкі пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў" (Кліўлэнд, 1968). Аўтарка ангельскамоўнага падручніка *"Fundamental Byelorussian"* ("Беларуская мова") у 2 тамах, які быў выдадзены ў Таронта (1974—1978).

13.9.52

Пав[ажаны] а. Леў!

Даўненька пісаў Вам, бо столькі нахлынула спраў і пісаніны, што ўпрост ня мог пасьпець, а каму адразу не адказаў, дык і запалеглася.

Падзеі, аб якіх Вы ведаеце зь пісем, дый штораз сустракаеце іх адбітак у часопісах, хіба Вам вядомыя настолькі, што абмяжуюся кароткімі інфармацыямі.

Вось жа Канада (белар[уская]) усю гэтую гідоту, якая на загад [Міколы] Абр[амчыка] распачала была спробу налажыць і на нас вобруць пры помачы кіданых грошаў (300 даляраў на апанав[аньне] зьезду і 90 даляраў на кожны нумар хв[орага] Эмігранта) ізаляваная зусім ад бел[арускай] калёніі ў Торонто, ня кажучы ўжо аб Монтрэалі і Вініпэгу.

Як ведаеце хіба з "Б[еларускага] Г[оласу]", залажылі мы Бел[арускае] Нац[ыянальнае] Аб'еднаньне. Царкву паддалі пад апеку ўсяленскага прав[аслаўнага] патрыярха пасьля таго, як [Васіль] Тамашчык у Нью Ёрку выступіў на сэктары Рады з ахвіцыяльным трэбаваньнем павыкідаваць усіх апазыцыянэраў з Рады, сьцьвярджаючы, што толькі той, хто ў іхнай шайцы, той беларус, іншыя — здраднікі.

Пераканаўшыся, што [Васіль] Тамашчык звыклая агэнтура мафіі на царкоўным грунце, а не царкоўнік, мы парашылі, што губіць паўсталую царкву ня маем права, і пайшлі па царкоўнай лініі.

(Грошы "авангардзе" на пашквілянства ў "Б[еларускім] Э[міграньце]" так сама пасылаюцца [Васілём] Тамашчыкам, а дзе іх ён бярэ, нам няма ведама.)

Царкоўны прыход мае 69 сябраў і каля 100 наведвальнікаў.

Цяпер мы пастанавілі купіць: "Бел[арускі] Нац[ыянальны] Дом", дзе бы мясьцілася царква, сьвятліца Бел[арускага] Нац[ыянальнага] Аб'едн[аньня], рэдакцыя Б[еларускага] Г[оласу], бібліятэка і школа для дзяцей. Дзеля арыентацыі пасылаю Вам адозву царкоўнага к[амітэ]ту аб выніках (за тыдзень) акцыі.

Па лініі Бел[арускага] Нац[ыянальнага] Аб'еднаньня: па-за Канадай паўстала яно ўжо ў Злуч[аных] Штатах і ў Бразыліі і, здаецца, хутка паўстане і ў Аўстраліі.

У Нью Ёрку грызьня прадаўжаецца. Калі яны коштам прышлых фондаў зманулі адрачыся ад фракцый Блёку Абароны Янку Станкевіча і [Янку] Юхнаўца абяцанкай "друку твораў", дык затое паўсталі новыя апазыцыйныя асяродкі. Між іншым, [Леанід] Галяк называе сяньняшняга "Беларуса" *"ўкрытай уласаўшчынай"*. Міхась Рагуля і іншыя так сама франдуюць.

Вызначаны інж[ынэрам] [Міколам] Абрамчыкам урад ужо амаль увесь разьмяцеўся, апрача самога Малахоўскага[37] і Янкі Станкевіча.

[37] Відаць, маецца на ўвазе Пётра Манькоўскі.

“Уласаўшчына” [Міколы] Абр[амчыка] не пралазіць нікому тут цераз нутра за пару карыерыстамі, ласымі на грошы. З-пад палы [Міколы] Абр[амчыка] агэнтурай распаўсюджваецца друкаваныя на машынцы і ратаtары ананімныя пашквілі на ўсіх, хто незалежны.

У Б[еларускі] Г[олас] пасьмелі прыслаць ліст, у якім адкрыта пішуць, што *“ўсе вось гэтыя інфармацыі, калі Вы не надрукуеце ў сваёй газэце, дык мы высылаем адпаведным амэр[ыканскім] уладам”* (!) (выслана з ЗША). Б[еларускі] Г[олас] выходзіць за 2 тыдні. Будзе нашае становішча — адказ *“уласаўскім змагацеям”* [Янку] Жытко[38] і [Людвіку] Зарэчнаму зь яго “рухам”, які так сама ў перагонкі на фронты. Будзе, здаецца, парушана і справа выкарыстоўваньня рымскіх стыпэндыяў на палітычную, брудную работу монапартыі. Нашыя каталікі, здаецца, будуць пісаць пратэст у Рым.

У нас прайшла была пагалоска ў даносе на [Уладзіслава] Рыжага ў Мадрыдзе, паклікаўся даношчык нібы на ўпаўнаважаньне бел[арускага] духавенства (?). Гэта было б ужо залішне! А вось што Вы не рэагуеце на Абрамчыкавы махінацыі са стыпэндыямі, дык гэта нас дзівіць…

Канчаючы, хочу зазначыць, што тут у Канадзе стаем мы на моцны грунт. 2 гады было загублена на партыйную грызьню, дзякуючы нашаму настаўленьню на тое, што неяк ужывёмся.

Нарэшце гнойны верад выцярты, і мы пайшлі па здаровай дарозе. Факт: царква, а цяпер Бел[арускі] Нац[ыянальны] Дом (я ўжо не гавару аб гэтакіх рэчах, як купля машынкі да пісаньня, ратаtара-аўтамата з[а] 125 даляраў і г. д.).

Мы вырвалі назад ад расейцаў да 50 прав[аслаўных] беларусаў і вырвем іх сотні, калі будзе наш дом.

Жанатыя зь сем’ямі ўжо панакуплялі дамы (на выплат). Нашых сяброў аж 25 маюць свае дамы. Многа купіла фармы, але з тымі горш. Адбітыя!

Горш з халасьцякамі! Няма нашых дзяўчат, на ком жаніць. А жанімства з чужынкай — дрэнь. У нас ёсьць сем’і: ён беларус, а яна палячка. Грызьня. Але такі яны прыходзяць у царкву!

---

[38] **Янка Жытка** (? —?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся на хімічным факультэце Львоўскай палітэхнікі. У часе нямецкай акупацыі працаваў у беларускіх установах у Баранавічах. Зь лета 1944 г. — у Нямеччыне. Вывучаў хімію ў Марбургу, потым у Лювэне, дзе атрымаў дыплём інжынэра-хіміка. Актыўна ўдзельнічаў у студэнцкім грамадзкім жыцьці й працы Саюзу беларусаў Бэльгіі, быў некаторы час ягоным старшынём. Быў старшынём Беларускага антыбальшавіцкага фронту. Па сканчэньні навучаньня некаторы час жыў у Мюнхэне, а потым выехаў на сталае жыхарства ў Канаду. Жыў у Манрэалі, працаваў у шпіталі. У сярэдзіне 1990-х гг. парваў сувязі зь беларусамі.

Пасылаю Вам выданьні, якія Вы, можа, ня маеце: “Народным Шляхам”[39] № 1 і № 2 і “Дакумэнты і Факты”[40] № 1.

Прывітаньні ад Зінкі[41]. Я хаджу безработным.

Ваш “француз” [Язэп] Бука асеў у Монтрэалі, але ён дык праабрамчыкаў яшчэ, бо кажа: трымацца трэба таго, скуль пажывіцца можна. Натомест рэшта “французаў” з Парыжа, дык, здаецца, найлепшыя агітатары супраць [Міколы] Абр[амчыка].

Між іншым, запрапанавалі ім мейсцы *“прышлых бургамістраў”* і начальнікаў паліцыі, калі яны будуць пад пр[эзыдэнтам] [Міколам] Абр[амчыкам], а нашаму капітану Аранскаму чын палкоўніка (сам [Мікола] Абр[амчык]), калі-б пайшоў зь ім. Сьмеху варта!

Бывайце

[Сяргей Хмара]

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

39 **“Народным шляхам”** — часопіс Беларускай народнай грамады, які выдаваўся ў Таронта ў 1952—1957 гг.

40 **“Дакумэнты і факты”** — пэрыёдык, які выходзіў як “Архіў Беларускага вызвольнага руху” ў 1952—1957 гг. у Нью-Ёрку й Таронта.

41 Маецца на ўвазе **Зінаіда Зіняк** (1916—2007), жонка С. Хмары. З 1949 г. разам зь ім жыла ў Канадзе.

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***
*Эміграцыйны эпісталярый*

## QUO VADIS?

*Калі глядзець з часавай адлегласьці, праз смугу дзесяцігодзьдзяў, Марыянскі дом (Marian House), а пазьней і Бібліятэка імя Францішка Скарыны падаюцца ідэальным беларускім месцам на эміграцыі, урэчаісьненай утопіяй: Беларускі дом, дзе мудрыя айцы ў атачэньні кнігаў, газэтаў, архіваў робяць сваю працу — нашую агульную Працу.*

*І некалі той час, тыя людзі, іхныя ўчынкі й дзеі неадменна стануцца героямі мастацкага твору, занатаванага на аркушах паперы ці на якіх мадэрновых носьбітах інфармацыі. А мо пра іх раскажа карціна, зьнятая на сапраўды айчыннай кінастудыі. Хоць тут, відаць, спатрэбіцца сэрыял, каб распавесьці пра ўсіх, датычных да паўстаньня фэномэну, ведамага сёньня кожнаму беларусу пад назовам “Скарынаўка”.*

*І мо ніжэй выдрукаванае ліставаньне — паміж айцом Лявом Гарошкам і маладым Алесем (Аляксандрам) Надсанам — паслугуе асноваю для аднаго з раньніх эпізодаў гэтага твору, часу, калі маладзён ужо ведаў, куды ідзе й навошта.*


PONTIFICIA UNIVERSITAS GREGORIANA
ROMAE
NADSON Alexander
e Pont. Collegio S. Athanasii Graecorum
filius Antonii
ortus die 8 Augusti 1926
in Harodziaj - Alba Ruthenia
Auditor ordinarius
FACULTATIS PHILOSOPHICAE
a die 20 Octobris 1953
SECRETARIUS GENERALIS
Subscriptio Alumni
A. Nadson.
Numerus 9080

Пасьведчаньне Аляксандра Надсана як студэнта філязофскага факультэту Папскай грэцкай калегіі ў Рыме. 1953 г.

Рым, 26.11.53

Вельмі Паважаны Айцец,

мне вельмі прыкра й стыдна, што да гэтага часу я не напісаў Вам нічога й не падзякаваў за Вашую гасьціннасьць.

Прыміце-ж цяпер маю шчырую, хоць і вельмі спозьненую, падзяку.

Я жыву вельмі добра. Першыя дні было досыць цяжка, паверх, ня прызвычаіўся да новых абставінаў жыцьця. Цяпер ужо прывык. Праўда, ёсьць свае цяжкасьці, якія, думаю, астануцца на цэлы час майго тут побыту: мой век, італьянская кухня, недахоп беларускай кампаніі. Усё гэта, аднак, нічога ў параўнаньні з той вялікай ласкай і з глыбокім унутраным пераканаьнем, што кожная хвіліна, пражытая тут, зьбліжае мяне да той вялікай мэты, да якой мяне паклікаў Госпад Наш Ісус Хрыстос.

Жыцьця й калегіі апісваць ня буду, бо Вы ведаеце, як выглядае жыцьцё ў духоўных сэмінарыях. Хацеў-бы толькі дадаць, што пакуль мы ня маем сваёй собскай сэмінарыі, Грэцкая Калегія зьяўляецца найбольш адпаведным месцам для беларусаў. Я тут спаткаўся з поўным зразуменьнем беларускага пытаньня як з боку супэрыёраў, так і студэнтаў. Айцец Рэктар на ўрачыстым адкрыцьці новага году ў сваёй прамове сказаў: *“Сярод новых студэнтаў нашай калегіі вітаю насамперш беларуса, які аднаўляе старую традыцыю Грэцкай Калегіі, узгадаваўшай у прошлым шмат выдатных беларускіх царкоўных дзеячаў, прыкладам, мітрапаліт Руцкі*[1]*”.*

Я меў некалькі прыватных гутарак з а. Рэктарам і з Духаўнікам аб Беларусі. Абодва яны згадзіліся, што Грэцкая Калегія ў сучасных абставінах ёсьць адзіным месцам для беларусаў.

Я ўжо пісаў у гэтай справе а. [Чаславу] Сіповічу і пішу цяпер Вам, каб Вы пагаварылі з Уладыкай [Баляславам] Слосkансам і мелі ўсё вышэй сказанае на ўвазе, калі-б знайшоўся яшчэ які-небудзь кандыдат на сьвятара.

У Калегіі ёсьць, безумоўна, шмат гістарычных дакумэнтаў аб Беларусі. Я, аднак, на жаль, ня маю яшчэ доступу да архіву. Сярод партрэтаў быўшых алюмнаў калегіі ёсьць тут і партрэт мітр[апаліта] Календы[2]: *Gabriel Kolenda, Lithuanus, archiepiscopus totius Russiae*[3]. Я хачу зрабіць фатаграфію гэтага партрэту, але не магу знайсьці нікога з добрым фатаграфічным апаратам.

---

[1] **Іосіф Вельямін-Руцкі** (1574—1637), уніяцкі царкоўны дзеяч, ведамы як мітрапаліт Іосіф IV, пісьменьнік, філёзаф, багаслоў. Заснавальнік Ордэну базылянаў сьв. Язафата.

[2] **Гаўрыіл Календа** (1606—1674), уніяцкі царкоўны дзеяч, архіяпіскап Полацкі ў 1655—1674 гг.

[3] *Gabriel Kolenda, Lithuanus, archiepiscopus totius Russiae* (лац.) — Гаўрыіл Календа, архіяпіскап усяе Русі.

Беларуская калёнія прадстаўляецца тут наступна. Янка Садоўскі[4] выступіў канчаткова з Марыянаў. Прычына выступу — літоўскі шавінізм законных уладаў. Відавочна, паколькі ён лацінскага абраду, літоўцы жадалі зрабіць зь яго літоўца. Ён кажа, што супэр'ёр загадаў яму нават вучыцца літоўскай мове. Цяпер ён уладзіўся, пры дапамозе Уладыкі [Баляслава] Слосканса, у француcкай калегіі. Аплату за яго навуку ўзяў на сябе як-быццам а. Рабэрт [ван Каўвэлярт].

Косьціку Маскаліку ўжо адхацелася мяняць абрад. На Каляды або ў пачатку наступнага году ён мае атрымаць д'яканскія сьвячаньні. Наагул яму вельмі цяжка ў Русыкум. Калі зь ім ні спаткаюся, ён усё жаліцца на расейцаў.

Маскалік і Садоўскі цяпер вучацца ў Грэгар'янум, і дзеля гэтага я зь імі досыць часта спатыкаюся.

З а. [Пётрам] Татарыновічам я спатыкаюся вельмі рэдка, але і з гэтых рэдкіх спатканьняў я вынес уражаньне, што зь ім вельмі цяжка супрацоўнічаць. Ён працуе вельмі шмат і робіць шмат добрага, але ён мае пэўныя погляды, ад якіх не адступіць і зь якімі цяжка пагадзіцца. Будучы праз доўгі час адарваным ад беларускага жыцьця, ён ня мае рэальнага паняцьця аб сучасным стане рэчаў сярод беларускай эміграцыі. Усю работу, ведзеную каталікамі, ён уважае за малаважную, тыдні студыяў "Руні" — за марнаваньне грошай. Да "Руні" ён наагул адносіцца няпрыхільна. Калі я яму сказаў, што магчыма наступны тыдзень студыяў будзе ў Рыме, то ён мне адказаў, што спэцыяльна выедзе з Рыму на гэты час. Мне здаецца, што тут іграе крыху ролю ягоная амбіцыя: чаму гэта мы не паслухаліся яго і не зьмянілі слова *Byelorussian* на *Whiteruthenian* у ангельскім назове "Руні". Цікава толькі, што гэтае самае слова *Byelorussian* не перашкаджае яму супрацоўнічаць з ЦБАА (*Centre of Byelorussian University Organizations Abroad*).

Умовы матар'яльныя а. [Пётры] Татарыновіча вельмі цяжкія. Мар'яне яму выставілі памешканьне, і ён цяпер жыве ў інтэрнаце для сьвятароў у *Palazzo Pio (via della Transportina 18)*. Кошт пражыцьця там выносіць 33 000 ліраў на месяц, у той час калі ягоны заработак не перавышае 26—27 000. Грошай на "Зьніч" таксама ня мае.

З а. [Уладзімерам] Тарасевічам бачыўся толькі два разы і то мімаходам, таму аб ім не магу шмат чаго сказаць. Ён, безумоўна, беларус і не выракаецца гэтага. Як чалавек ён вельмі добры і гатоў заўсёды памагчы. Так, 2-га лістапада ён адправіў імшу за душу с[ьветлай] п[амяці] сп. [Лявона] Рыдлеўскага. Калі Янка Садоўскі быў у цяжкім матар'яльным становішчы, а. [Уладзімер] Тарасевіч даў яму 5000 ліраў. З другой стараны, ягоная беларускасьць вельмі павярхоўная, і ўглыбі ён моцна

[4] **Янка Садоўскі** (1926—1982), грамадзкі дзеяч, гісторык, аўтар манаграфіі *"Byelorussians in Canada"* (1982). У 1949—1961 гг. ён вучыўся ў Рыме.

зрусыфікаваны. Так, на сьв. Ёзафата ён не хацеў ані адправіць службы, ані нават пайсьці з намі ў украінскую калегію, дзе была ў нядзелю 15-га архірэйская служба сьв. Ёзафата. Затое ён хадзіў сьпяваць а. Г[еоргію] Брэнчанінаву[5], калі той рабіў у Мар'янаў багаслужбу і адначасова прапаганду для расейцаў. Ён робіць дактарат аб Салаўёве[6], а ягоны пакой — гэта цэлая расейская бібліятэка. Адзіным для яго збаўленьнем было-б пажыць які год у сапраўдным беларускім асяродзьдзі. Аднак мне здаецца, што калі ён паедзе ў Амэрыку, то зусім прападзе для беларусаў.

У прошлым месяцы была тут др. [Надзея] Абрамава[7] — быўшая кіраўнічка дзяўчат у СБМ. Яе дачка вучыцца ў расейскім інтэрнаце ў Рыме. Яна сама жыве ў Мюнхэне пры расейскай каталіцкай царкве (*Rontgens strasse*, 5, сьвятар айцец *Ott*[8], езуіта). Яна зусім абмаскалена (хоць гаворыць, што ніколі ня здрадзіць Беларусі!), і зь яе гутаркі можна было бачыць, што знаходзіцца ў блізкім кантакце зь *"белорусскими федералистами"*, якіх расейцы зарганізавалі, каб заняць беларускае месца ў КЦАБ[9] (яна сама прызналася, што папраўляла мову іхніх прамоваў, каб была хоць крыху падобнай да беларускай). Безумоўна страшэнна супраць БНР і [Міколы] Абрамчыка, а затое бароніць [Радаслава] Астроўскага. Вось якая кар'ера нашых дзеячаў!

2-га лістапада ўсе беларусы ў Рыме сабраліся разам на жалобную імшу за душу інж. [Лявона] Рыдлеўскага. Адправіў імшу а. [Уладзімер] Тарасевіч. Зарганізаваў усё а. [Пётра] Татарыновіч.

15-га Косьцік Маскалік і я былі ў украінцаў з нагоды сьвята сьв. Ёзафата. Была архірэйская Багаслужба.

Учора Косьцік Маскалік прынёс мне "Бацькаўшчыну" з артыкулам супраць сьв. Ёзафата[10]. Ад якога гэта часу "Бацькаўшчына" пачала

---

[5] **Георгій Бранчанінаў** (рас. *Георгий Брянчанинов*, 1919—2018), расейскі грэка-каталіцкі дзеяч, архімандрыт, удзельнік "Рускага апасталату ў замежжы". У 1950-х ён некаторы час жыў у Лёндане.

[6] Відаць, маецца на ўвазе **Уладзімер Салаўёў** (рас. *Владимир Соловьев*, 1853—1900), расейскі філёзаф, багаслоў, паэт, публіцыст.

[7] **Надзея Абрамава** (на эмігр. **Тэадаровіч**, 1907—1979), грамадзкая дзяячка, лекарка, саветоляг. З кастрычніка 1942 г. узначальвала дзіцячы сэктар Беларускай народнай самапомачы, а з чэрвеня 1943 г. — службу юначак Саюзу беларускай моладзі. Была пастаяннай супрацоўніцай рэдакцыі часопісу "Жыве Беларусь!". З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Пасьля вайны працавала ў Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхэне, займалася пытаньнямі рэлігіі й атэізму.

[8] Магчыма, маецца на ўвазе **Людвіг От** (ням. *Ludwig Ott*, 1906—1985), рымакаталіцкі дзеяч, тэоляг.

[9] Маецца на ўвазе Каардынацыйны цэнтар антыбальшавіцкай барацьбы.

[10] Маецца на ўвазе тэкст: Грынеў, С. Нятрапны выбар // Бацькаўшчына. № 45 (176). 17 лістапада 1953. С. 1, 3.

зьмяшчаць “дыскусыйныя” артыкулы на месцы, дзе звычайна бывае перадавіца?

Увесь “дыскусыйны артыкул” ёсьць агідным антыкаталіцкім пашквілем. Цікава, хто яго напісаў.

Паводле мяне, гэтай справы так пакінуць нельга. Трэба нешта зрабіць. Я бачу два спосабы: 1. Напісаць адказ на “дыскусыйны артыкул” і паслаць яго ў “Бацькаўшчыну”, а калі яны ня зьмесьцяць, то надрукаваць у “Божым Шляху”; 2. Абмінуць маўчаньнем артыкул, а затое ў “Божым Шляху” зьмясьціць артыкул аб сьв. Ёзафаце (тым больш, што 12-га лістапада было сьв. Ёзафата) пад загалоўкам, скажам, “Мучанік за царкоўную еднасьць”.

No. 1 магу зрабіць я. No. 2 ня маю матар’ялаў. У кожным разе напішыце мне, што думаеце аб гэтым.

Ужо больш як месяц як я напісаў у Лёндан у справе арганізацыі наступнага тыдня студыяў у Рыме. Да гэтага часу ня маю ніякага адказу. У “Божым Шляху” пакуль што ня маю ніякіх вестак. Чакаю да Мар’янскага Году.

Маю да Вас просьбу. Калі будзеце высылаць “Божым Шляхам”, дык буду вельмі ўдзячны, калі прышлеце мне нумар асабіста на мой адрас, а не на а. [Пётру] Татарыновіча, бо мы зь ім вельмі рэдка бачымся.

Я быў-бы таксама вельмі ўдзячны, калі-б Міхась Наўмовіч мне мог прысылаць сваю “Моладзь”. Грошай я ня маю, але, магчыма, адплачуся іншым спосабам. Мой адрас: *Pontificio Collegio Greco, via del Babuino, 149, Roma*.

Ну, але я, здаецца, зашмат расьпісаўся. Канчаю й жадаю Вам усяго найлепшага. Перадайце прывітаньні Міхасю Наўмовічу. Паручаюся Вашым сьвятым малітвам.

Ваш у Хрысьце,

А[лесь] Надсон

Парыж, 30.XI.53

Дарагі Алесь,

цешуся, што задаволены з калегіі — гэта для студыяў мае аграмаднае значэньне, і сапраўды, для беларусаў цяпер нельга знайсьці лепшага мейсца, як там. Гэта дрэнна, што перш нікому з нас ня прыйшла думка пасылаць кандыдатаў, ня было-б лішніх клопатаў і непатрэбных непрыемнасьцяў. Дробныя цяжкасьці — гэта нястрашна, бязь цяжкасьцяў нічога не здабываецца.

Ад [Янкі] Садоўскага меў вестку, што ён задаволены з свае цяперашняе калегіі, добра, што і гэтак, бо магло быць горш.

Што да а. [Пётры] Татарыновіча, дык маеце слушнасьць, што ў яго амбіцыя грае такую вялікую ролю, як гэта нармальна ў сьвятароў не павінна было-б быць, што аж адасобіўся ад усіх і ня бачыць, як сам страшэнна

марнуе і грошы, і энэргію, і да таго дзівачэе. Для “Руні” ён і так нічога зрабіць ня зможа, дык, магчыма, не вялікая шкода, што ня супрацоўнічае.

На артыкул у “Бацькаўшчыне” супраць сьв. Ёзафата адказ будзе ў “Божым Шляху”, згадзіўся напісаць а. [Часлаў] Сіповіч, а калі што ня выйдзе, дык я сам напішу. Маю ўражаньне, што гэта так яп[іскап] Васіль [Тамашчык] расьпісаўся, бо ён мне амаль тое самае пісаў у прыватным лісьце, але ня выключаю, што такі артыкул мог нават напісаць і Стась Грынкевіч[11], бо яго жонка — дочка папа. Зь Лювэну піша а. [Францішак] Чарняўскі, што і Я[го] Э[ксцэленцыя] [Баляслаў] Слосканс абураны на той артыкул і проста загадаў на яго даць адказ, хоць звычайна ён супраць усякіх палемікаў у прэсе. Прыйдзецца адказ даць вельмі моцны.

Сьвежы нумар “Божым Шляхам” выйшаў толькі цяпер, дасылаю яго сёньня на ваш адрас з гэтым лістом. Цяпер адразу трэба брацца за падрыхтоўку каляднага нумару, каб ня выходзіў з гэткім спазьненьнем, як гэты нумар. Ваш адрас перадаў [Міхасю] Наўмовічу, толькі ён яшчэ ня хутка выпусьціць чарговы нумар “Моладзі”, бо цяпер надзвычайна заняты і студыямі, і працаю, і здабываньнем сродкаў для пражыцьця.

У Парыжу тымчасам асаблівых навінаў няма. Грамадзкае беларускае жыцьцё вельмі прыціхла, бо і працаваць няма каму, і няма з кім, бо ў Парыжу асталася толькі пару беларусаў, а рэшта ўсё за Парыжам.

Жадаю Вам шмат посьпеха ў навуцы, а перадусім шмат цярпеньня для перамогі над першапачатнымі цяжкасьцямі на шляху сьвятарства — з Божаю ласкай усё пераможаце!

Адданы ў Хрысьце Ваш

[а. Леў Гарошка]

Рым, 15.12.53

Вельмі Паважаны Айцец,

шчыра дзякую за ліст і за “Божым Шляхам”. Апошні нумар “Божым Шляхам” вельмі добры.

Перасылаю Вам тры абразкі Маці Божай Вострабрамскай. На жаль, ніводзін зь іх ня ёсьць вельмі добры. Перасылаю таксама апіс пачатку Марыянскага Году. Апісаў толькі тое, што сам бачыў і перажыў, бо агульную справаздачу, далёка лепш напісаную, Вы напэўна ўжо маеце (выйшаў спэцыяльны нумар *Osservatore Romano*[12]). [...]

---

[11] **Станіслаў Грынкевіч** (1912—1966), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. З восені 1941 г. да восені 1943 г. быў сакратаром Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, выкладаў на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазьней — рэдактар пэрыёдыкаў “Раніца” й “Беларускі работнік”. У 1950 г. перабраўся ў ЗША.

[12] ***“L’Osservatore Romano”*** — штодзённая газэта, якая выдаецца ў Ватыкане з 1861 г.


Аляксандар Надсан у Грэцкай калегіі.
Рым, 07.03.1954

Я атрымаў наканец нумар "Бацькаўшчыны" з артыкулам супраць сьв. Ёзафата і прачытаў яшчэ раз гэты артыкул. Ён сапраўды вельмі дрэнны, і добра, што Вы дасьце на яго адказ. Ды й другі артыкул, "Аб Беларусі на Міжнародным Касьцёльным Кангрэсе"[13], мала лепшы ад першага. Памінаючы ўжо гістарычныя пашквілі аб а. а. [Антону] Неманцэвічу і [Фабіяну] Абрантовічу, што гэта мае значыць такі сказ: *"У 1918 г. было каля аднэй пятай часткі, г. зн. каля трох мільёнаў Беларусаў, каталікамі; чатыры апошнія пятыя належалі да арыентальнага абраду"*. Што гэта такое за *"арыентальны абрад"*? Няўжо-ж а. Рабэрт [ван Каўвэлярт] ня меў сьмеласьці сказаць праўды, што большасьць беларусаў ёсьць праваслаўнымі. Але яшчэ лепшую кветку спатыкаем далей, дзе ён кажа, што нашыя лювэнскія студэнты *"незалежна ад таго, што амаль усе яны зьяўляюцца праваслаўнымі, узялі на сябе цяжар памагаць у тэалягічных студыях аднаму каталіцкаму тэёлягу і аднаму каталіцкаму гімназісту"*.

Няўжо-ж стыпэндыі даныя толькі для праваслаўных? Няўжо-ж каталікі ня маюць права да грошай, атрыманых ад каталікоў? Ды наканец, які гэта цяжар узялі на сябе так ахвярна нашыя студэнты? Ня ведаю, якому гэта гімназісту памагаюць яны ў тэалягічных студыях. Але калі яны памагаюць яму так, як і тэолягу, дык барані Бог ад такой помачы. Тут ходзіць аб Янку Садоўскага. У часе, калі ён быў без калегіі, ён атрымаў запэўненьне стыпэндый з *Segretaria dello Stato* пад умоваю, што туды напіша Уладыка [Баляслаў] Слосканс. У міжчасе ўмяшаўся ў гэтую справу а. Рабэрт [ван Каўвэлярт] і абяцаў Ул[ладыку] [Баляславу] Слоскансу даць стыпэндыю [Янку] Садоўскаму. Ул[адыка] Слосканс напісаў у *Segretaria dello Stato*, што Садоўскі ўжо мае стыпэндыю. На аснове абяцаньня а. Рабэрта [ван Каўвэлярта] [Янка] Садоўскі быў прыняты ў францускую калегію. Ад гэтага часу прайшло амаль два месяцы, а абяцаных грошай ад а. Рабэрта [ван Каўвэлярта] няма. Рэктар калегіі сказаў, што будзе чакаць да канца

[13] Маецца на ўвазе тэкст: Аб Беларусі на Міжнародным Касьцельным Кангрэсе. III Кангрэс "Касьцёл у бядзе" ў Кэнігштайн (Нямеччына) // Бацькаўшчына. № 45 (176). 17 лістапада 1953. С. 4.

гэтага месяца, а пасьля павінен будзе прыняць адпаведныя меры. Янка Садоўскі дажывае грошы, якія атрымаў ад Ул[адыкі] [Баляслава] Слосканса, а. [Францішка] Чарняўскага і а. [Уладзімера] Тарасэвіча і ня ведае, што зь ім будзе ў наступным месяцы. Так выглядае слаўная помач а. Рабэрта [ван Кавэлярта] й нашых "ахвярных" студэнтаў. Калі-б ня гэтая "помач", дык Янка Садоўскі меў бы сяньня запэўненую стыпэндыю і ніякіх клопатаў.

У маім прыватным жыцьці нічога новага. Нядаўна здаў эгзамін з фармальнай лёгікі і цяпер увесь вольны час аж да канца калядных канікул пасьвячаю грэцкай мове, хварэю на жывот: макароны ня йдуць мне на здароўе.

На гэтым канчаю. З нагоды надыходзячых сьвятаў прыміце ад мяне найшчырэйшыя пажаданьні Вясёлых Каляд і шчасьлівага Новага Году. Паручаюся Вашым малітвам.

Ваш у Хрысьце,

А[лесь] Надсон

*Roma*, 5.4.54

Паважаны Айцец,

шчыра дзякую за ліст і за "Божым Шляхам". Наагул апошні нумар "Божым Шляхам" вельмі добры. На жаль, толькі скарот майго артыкулу аб Грэцкай Калегіі ня вельмі ўдаўся. Гэта, аднак, мая віна, бо артыкул быў станоўча задоўгі [...].

Нядаўна мне прыпадкава папаўся ў рукі нумар расейскага каталіцкага часапісу *"Россия и Вселенская Церковь"*[14], выдаванага ў Лювэне, за сьнежань 1953 г. Першая рэч, што мне кінулася ў вочы, гэта пастырскі ліст яп[іскапа] [Баляслава] Слосканса з нагоды Калядаў. Гэта мяне вельмі зьдзівіла, бо тут ходзяць чуткі, быццам яп[іскап] [Баляслаў] Слосканс ёсьць толькі для беларусаў, а не для расейцаў. Думаю таксама, што было-б вельмі добра, каб яп[іскап] [Баляслаў] Слосканс як наш Апостальскі Візытатар напісаў хоць адзін ліст да беларусаў. Айцец [Пётра] Татарыновіч паказваў мне лісты ад беларусаў-каталікоў, у якіх яны жаляцца, што нічога ня чуюць ад нашага япіскапа. Магчыма, Вы і а. [Часлаў] Сіповіч атрымалі таксама падобныя лісты.

Айцец [Пётра] Татарыновіч цьвердзіць, што Ўсходняя Кангрэгацыя дае грашовую дапамогу "Бацькаўшчыне". Калі гэта праўда, дык гэта вельмі добра, бо нягледзячы на ўсё, "Бацькаўшчына" зьяўляецца найбольш паважным часапісам. Было-б, аднак, пажадана, каб гэтыя грошы ня былі ўжываныя на антыкаталіцкія выбрыкі, на якія "Бацькаўшчына" сабе часамі дазваляе. Баюся, што гэтая дапамога ідзе *via* а. Рабэрт [ван Каўвэлярт] — [Барыс] Рагуля. [...]

[14] ***"Россия и Вселенская церковь"*** — штомесячны часопіс расейскіх грэка-каталікоў, які выдаваўся ў Брусэлі з 1945 г.

Косьцік Маскалік будзе рукапаложаны ў д'яканы ў Вялікую Сыботу.

У мяне асабіста нічога новага. З прыбліжэньнем эгзамінаў маю шмат працы. Цяжка хварэю з жыватом, і гэта перашкаджае ў навуцы.

Калі ласка, прышліце мне пару малітваў на Мар'янскі Год, выданых Вамі.

З нагоды набліжаючагася вялікага сьвята Вялікадня шлю Вам мае найлепшыя пажаданьні. Хрыстос Уваскрос!

Паручаюся Вашым сьвятым малітвам.

Ваш у Хрысьце

А[лесь] Надсон

Парыж, 10.IV.54

Паважаны Алесь,

з вашага апошняга ліста пастараюся скарыстаць і ў наступным нумары "Божым Шляхам" паправіць тыя памылкі, якія закраліся ў папярэднім нумары. Выйсьці мае гэты нумар як найхутчэй, але я яшчэ нічога да гэтага часу не аддаў у друкарню, і няма калі сесьці за рэдакцыйную працу, бо штодня знаходзіцца нейкая дробная праца, якая перабівае ўсе мае пляны.

Аб тым, што [Баляслаў] Слосканс мусіў-бы ўжо неяк азвацца да беларусаў, ужо гаварылася даўно, і ён сам казаў, што напіша пастырскі ліст, але чамусьці ўсё гэта адкладае. Перш я сам быў за тым, каб рабіць усё магчымае ў Рыме, каб была адклікана ягоная намінацыя для расейцаў, а каб асталася толькі для беларусаў, але потым, пагутарыўшы зь некаторымі людзьмі, прыйшлі да высноўку, што лепш няхай самі расейцы стараюцца аб тым, каб неяк выясьнілі гэтую справу, а мы тымчасам маем поўнае права ўсюды казаць, што ўжо мінуў час, калі расейцы верхаводзілі беларусамі, цяпер будуць беларусы верхаводзіць расейцамі, бо яп[іскап] [Баляслаў] Слосканс гэта беларускі, бо Магілёўскі япіскап і да таго лаціньнік. Ужо колькі раз я асабіста бачыў, што гэта маскалём страшэнна не падабаецца, і яны сапраўды будуць старацца, каб неяк вызваліцца ад непажаданага для іх лаціньніка "беларуса".

Ня ведаю, наколькі праўдзівая вестка, што "Бацькаўшчына" атрымоўвае помач ад усходняе кангрэгацыі, хоць перш я чуў так-жа падобную вестку. У сапраўднасьці, здаецца, яе фінансуе [Барыс] Рагуля з дапамогаю а. Робэрта [ван Каўвэлярта], і праўдападобна мае заакіянскія крыніцы. [...]

Асобным лістом пасылаю Вам крыху абразкоў з малітваю на Марыйскі Год. Здаецца, што за некаторы час выдадуць у Швайцарыі малітву Сьвяцейшага Айца аб эміграцыі так-жа на беларускай мове, бо зьвярталіся да мяне адносна перакладу.

З нагоды радаснага сьвята Хрыстовага Уваскрасеньня жадаю Вам усяго найлепшага.

Хрыстос Уваскрос!
Адданы ў Хрысьце Ваш

[а. Леў Гарошка]



Аляксандар Надсан. 1955 г.

*Roma*, 12.12.55

Паважаны Айцец,

пішу да Вас пару слоў, каб Вы ведалі, што яшчэ жыву...

Мне крыху брыдка, што пішу так рэдка, але Вы добра ведаеце сэмінарскае жыцьцё: усё ідзе як па гадзіньніку, упарадкавана, урэгулявана. Для спэцыяльных сэнсацыйных выдарэньняў няма месца. Так што, праўду сказаць, і пісаць няма аб чым.

У чэрвені скончыў філязофію (атрымаў бакаляўрат), на маё зьдзіўленьне, з добрымі вынікамі. Лета, па старой прывычцы, правёў хвараючы. Цяпер ужо знаходжуся на першым годзе багаслоўя. Такім чынам, як бачыце, пасоўваюся з Божай дапамогай памалу, але ўпэўнена наперад.

Янка Садоўскі будзе высьвячацца на сьвятара ў сыботу 17 сьнежня. Я рад за яго, але, з другой стараны, мне крыху сумна, што астануся адзіным беларускім сэмінарыстам. Прысылайце каго-небудзь сюды на падгатаваньне беларускіх сэмінарскіх сілаў!

З а. [Пётрам] Татарыновічам яшчэ не пасварыўся. Ён яшчэ часамі ўспамінае з настальгіяй аб *“субожні”*[15]...

Тут, у Рыме, шумеў праз два месяцы а. Часлаў [Сіповіч]. Зьбіраў усе дакумэнты аб а. а. [Фабіяну] Абрантовічу і [Андрэю] Цікоце. Сказаў мне, што, магчыма, яму ўдасца выстарацца мне дазвол прыехаць на наступны тыдзень студыяў “Руні”.

Між іншым, “Рунь” мяне крыху непакоіць. Трэба нагвалт знайсьці адказнага і сур’ёзнага старшыню. Думаю, што калі-б Стась Мак[16] скончыў унівэрсытэт, трэба было-б асадзіць яго ў Лёндане і зрабіць яго старшынёй.

Я чуў, што Вы хварэлі. Маю надзею, што цяпер чуецеся лепш.

Апошні нумар “Божым Шляхам” вельмі добры. Калі выйдзе наступны? Мне вельмі прыкра, што не магу нічога напісаць, але сапраўды, маю вельмі шмат працы.

Паколькі ўжо сьвятыя Каляды недалёка, хачу Вам пажадаць пры гэтай нагодзе Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага году.

Паручаюся Вашым сьвятым малітвам.

---

[15] Пра дыскусіі адносна тэрміну “субожня” й іншых глядзі ў: Запісы БІНіМ. № 39. Нью-Ёрк — Менск, 2017. С. 76—118.

[16] **Станіслаў Мак** (да эмігр. **Яроцкі**, 1922—1983), грамадзкі дзеяч. У той час быў студэнтам факультэту паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту.

Ваш у Хрысьце

Алесь Надсон

P. S. Перадайце мае прывітаньні й Калядныя пажаданьні Міхасю Наўмовічу.

*Roma*, 8.3.56

Паважаны Айцец,

шчыра дзякую за пісьмо і Калядныя прывітаньні і за "Божым Шляхам".

Цяпер, калі "Божым Шляхам" выходзіць радзей, чалавек пачынае ацэньваць належна ягоную вартасьць, а асабліва калі параўнае з "часопісяй" а. [Пётры] Татарыновіча, якую агідна ўзяць у рукі. Вашая крытыка "Эвангэлі"[17] вельмі добрая, толькі магчыма заслабая, зашмат стрыманая. Паганячы так беларускую мову, а. [Пётра] Татарыновіч паказаў, што страціў усякае пачуцьцё прыстойнасьці. Сьведама ці нясьведама, ствараючы гэтую карыкатуру беларускай мовы. Ён робіць вялікую прыслугу бальшавікам і ўсім іншым, якія аж шкуры лезуць, каб давезьці, што беларуская мова бедная, брыдкая і наагул не заслугоўвае на назоў мовы.

Мне вельмі прыкра, што Вы ўсё яшчэ чуецеся ня вельмі добра. Мне апошнім часам прыйшла адна думка, аб якой я ўжо напісаў а. [Чаславу] Сіповічу. Цяпер, калі а. [Часлаў] Сіповіч вытурыў з *Marian House* а. [Георгія] Бранчанінава і заплаціў літоўцам 1000 фунтаў, ці ня было-б добра, каб Вы разам з рэдакцыяй "Божым Шляхам" пераехалі туды? Мне здаецца, што аб выгодах і карысьцях, якія могуць выйсьці з гэтага, мне ня трэба пісаць. Гэта-ж быў-бы сапраўдны беларускі каталіцкі цэнтар. А на Ваша месца ў Парыжы пасадзіць Янку Садоўскага. Ён ведае францускую мову, здаровы як конь, і думаю, што ўсе справы, якія да гэтага часу рабілі Вы, зможа нават рабіць вельмі добра ён (хоць інтэлігэнцыя ў яго ня вельмі вялікая). Праўда, ён сабе ўбіў у галаву, што яшчэ павінен вучыцца ў Рыме, але гэта толькі капрыса: ён можа аднолькава добра вучыцца ў Каталіцкім Інстытуце ў Парыжы. Мне здаецца, што марнаваць больш, чым неабходна, часу ў Рыме, гэта люксус, на які мы сяньня ня можам сабе пазволіць.

Вось мая думка. Ці яна добрая — відней Вам і а. [Чаславу] Сіповічу.

Шмат разоў я зьбіраўся напісаць што-небудзь у "Божым Шляхам", але сапраўды няма часу. Навука сама няцяжкая, але праграма вельмі абшырная, і, што найгорш, шмат памяцавага матар'ялу, чаго я не магу пераносіць. Найбольш часу марнуецца ў школе, у якую трэба хадзіць абавязкова. Каб мы не разгультаіліся, эгзаміны робяць два разы ў год: у лютым і ў чэрвені. [...]

Ваш,

Алесь Надсон

[17] Маецца на ўвазе выданьне: Śviataja Evanelija i Apostalskija Dziei. Pierakłaŭ i padaŭ vyjaśnieńni Ks. Dr. Piotr Tatarynovič. Rym: [vydaviectva Biełaruskaj Relihijna-Adradženskaj Časopisi "Źnič"], 1954. 636 s.

*Roma*, 13.12.56

Паважаны Айцец,

пішу да Вас некалькі словаў, каб павіншаваць Вас з надыходзячымі Калядными сьвятамі й пажадаць шмат шчасьця й памыснай працы на славу Божую й для дабра нашага беларускага народу ў наступным годзе.

У мяне ўсё добра. Эгзаміны ў чэрвені здаў лепш, чым спадзяваўся. Канікулы правёў спакойна ў нашай вільлі каля *Rieti*[18]. Цяпер ужо вучуся на другім курсе багаслоўя. 3-га сьнежня быў пасьвячаны ў чцеца. Дай Бог, каб за гэтым першым крокам да сьвятарства пасьледавалі і наступныя. Памалецеся на гэтую інтэнцыю. Я думаю, што ў сяньняшні час, калі палітычная сытуацыя такая няпэўная, трэба мець шмат ласкі Божай, каб дайсьці да канца.

У Рыме нас паменшала: [Пётра] Конюх[19] выехаў у Амэрыку. Айцец Уладзімер [Тарасевіч] таксама стараецца закончыць як найхутчэй сваю тэзу і ўцякаць за акіян: баіцца, каб яго не зlавілі ў Рыме "таварышы". Айцец [Пётра] Татарыновіч жыве цяпер на *Monte Mario* (недалёка дому вар'ятаў...). Айцец Янка Садоўскі — у *Damascenum*. Такім чынам, мы ўсе так параскіданыя па Рыме, што ня можам часта спатыкацца.

Што з "Руняй". Баюся, каб яна сапраўды не заплясьнела. Я чуў вельмі супярэчныя одзывы аб апошнім тыдні студыяў[20].

Апошні нумар "Божым Шляхам" вельмі добры. Сумна, што часапіс выходзіць так рэдка. Я чуў, што Вашае здароўе ізноў не ў парадку: гэтым разам вушы. Я сам таксама цярплю на вушы ад даўжэйшага часу й ведаю, якая гэта няпрыемная рэч. Але думаю, што ў Вашым выпадку віною ёсьць тое, што Вы перапрацоўваецеся. Вам неабходны адпачынак.

Кіравецтва нашай калегіяй пераняў *Chevetogne*[21]. Рэктарам цяпер ёсьць а. *P. Dumont*, які перад тым быў дырэктарам *l'Oeuvre d'Orient*[22] у Бэльгіі. Прыяцель айца Рабэрта [ван Каўвэлярта]. Ведае Вас. Я спачатку баяўся, што будуць русафіламі, але аказалася, што не. Наагул, мы ўсе задаволеныя з нашых новых кіраўнікоў.

[18] **Р'еці** (іт. *Rieti*) — камуна ў Італіі, у рэгіёне Ляц'ё (*Lazio*).

[19] **Пётра Конюх** (1910—1994), грамадзкі дзеяч, сьпявак. У 1951 г. скончыў Рымскую акадэмію мастацтваў. Доўгія гады быў удзельнікам хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам Сяргея Жарава. Езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы.

[20] Маецца на ўвазе пяты тыдзень студыяў БАКА "Рунь", які адбыўся 10—16 жніўня 1955 г. у Лёндане.

[21] Маецца на ўвазе **абацтва Шэвэтонь** (фр. *Chevetogne*) — каталіцкі бэнэдыктынскі кляштар у аднайменнай вёсцы ў Бэльгіі.

[22] ***L'Oeuvre d'Orient*** (фр.) — француская асацыяцыя, прызначаная для пашырэньня ўсходняга хрысьціянства. Заснаваная ў 1856 г.

Канчаючы, яшчэ раз жадаю Вясёлых Каляд і шчасьлівага новага году. Паручаюся Вашым малітвам.

Ваш адданы ў Хрысьце,

"чцец і певец" А[лесь] Надсон

*Roma*, 22.11.57

Дарагі Айцец,

выбачайце, што я не даваў аб сабе знаку жыцьця праз так доўгі час. З аднэй стараны, быў праз гэты ўвесь час досыць заняты, а з другой стараны, сэмінарскае жыцьцё праходзіць так спакойна й безь ніякіх спэцыяльных выдарэньняў, што сапраўды няма аб чым пісаць.

Я ўжо на трэцім годзе багаслоўя. Эгзаміны ў чэрвені здаў з добрымі вынікамі і атрымаў тытул бакаляўра багаслоўя. Канікулы правёў разам з усёй калегіяй у нашай летняй вільлі *Santa Anatolia*, каля *Rieti*. У палове верасьня мы паехалі ў Сыцылію на запросіны біскупа епархіі Бізантыйскага абраду *Piana degli Albanesi* недалёка *Palermo*. Першыя пяць дзён мы правялі ў *Palermo*, дзе бралі ўдзел у *Settimana delle Preghiere e Studi "Pro Oriente Christiano"*[23], а наступныя пяць дзён былі госьцьмі блізу 30 000 вернікаў. Усе яны альбанскага паходжаньня: іхныя продкі 500 год таму ўцяклі ад туркаў і пасяліліся ў Сыцыліі. Найбольшы цэнтр епархіі завецца якраз *Piana degli Albanesi* — невялікі гарадок, які мае 10 000 жыхароў. На вуліцах чуецца выключна альбанская мова (малыя дзеці й старэйшае пакаленьне, якое не хадзіла ў школу, ня ўмеюць ні слова па-італьянску). Усе за малымі выняткамі належаць да ўсходняга абраду і ёсьць гордыя з гэтага. Сьвятая Літургія і іншыя богаслужэньні адбываюцца ў альбанскай мове. Вось дзе сапраўдны прыклад для нашых беларускіх эмігрантаў, шматлікія зь якіх ужо пасьля дзесяці гадоў на чужыне чураюцца ўсяго беларускага.

У пачатку кастрычніка тут быў уладыка [Баляслаў] Слосканс. Ён браў удзел у працы папскай камісіі для эміграцыі як прадстаўнік… латышоў. Нягледзячы на гэта, ён зрабіў уражаньне, што быццам пачынае больш цікавіцца беларускімі справамі. Айцец [Пётра] Татарыновіч казаў, што быццам-бы ён нават парушаў справу апекі духовай над беларускімі эмігрантамі ў самай камісыі. Быў таксама на абедзе нашай калегіі і папрасіў нашага рэктара зрабіць яму здымкі ўсіх партрэтаў беларускіх біскупаў і мітрапалітаў, якія студыявалі ў Грэцкай Калегіі. Але з другой стараны, я чуў, што ён быў старшынёй зьезду ех-гадунцоў *Russikum*, які адбываўся нядаўна ў Парыжы.

---

[23] ***Settimana delle Preghiere e Studi "Pro Oriente Christiano*** (іт.) — Тыдзень малітваў і студыяў "Аб усходнім хрысьціянстве".

Калі я быў апошні раз у Ўсходняй Кангрэгацыі, я спытаўся *mons. Moioli*, ці ўладыка [Баляслаў] Слосканс зьяўляецца нашым апостальскім візытатарам, ці не. *Mons. Moioli* адказаў, што ўл[адыка] [Баляслаў] Слосканс зьяўляецца візытатарам толькі тады і ў тых справах, якія яму кожнаразова даручае Ўсходняя Кангрэгацыя. Тая самая справа з расейцамі.

Айцец [Пётра] Татарыновіч быў летам у Польшчы і расказваў шмат цікавых рэчаў, але, думаю, што Вы ўжо аб гэтым усім ведаеце.

*Russicum* перамяніўся ў *Prussicum*: пяць немцаў, адзін італьянец і адзін мальтанец. Усе яны інкардынаваныя ў лацінскую дыяцэзыю. Хадзілі чуткі, што маюць зачыніць гэтую шаноўную інстытуцыю, але, відаць, езуіты не даліся.

Кружэлку, якую Вы прасілі, шукаў, але не знайшоў. Здаецца, яна ніколі ня была награная.

Хачу паведаміць Вам радасную вестку. 14-га лістапада я быў рукапаложаны ў субдыякана, а 8-га сьнежня буду дыяканам. Такім чынам, з Божай дапамогай я зьбліжаюся да сьвятарства.

З нагоды набліжаючыхся сьвятаў жадаю Вам Вясёлых Каляд шчасьлівага Новага Году.

Паручаючыся Вашым сьвятым малітвам, астаюся адданы ў Хрысьце Ваш

Алесь Надсон

*Rome*, 6.11.58

Дарагі Айцец,

пішу, каб паведаміць Вам радасную вестку: у нядзелю 23-га лістапада я атрымаю сьвятарскія сьвячаньні. Рукапалагаць будзе прэасьвяшчэнны Іван Мэле, біскуп Люнгра[24] — той самы, які мяне рукапалагаў у д’якана.

Сэрца маё поўнае радасьці і ўдзячнасьці Ўсемагутнаму за ўсе тыя ласкі, якія Ён шчодра даваў мне на працягу ўсяго майго жыцьця, а асабліва за гэтую вялікую ласку сьвятарства, якую я хутка маю атрымаць.

Ускладаю ўсю маю надзею на Госпада Нашага Ісуса Хрыста, веручы, што на Ягонай ніве не аставіць мяне і надалей і дасьць мне сілу і ласку быць верным Яму да канца і стацца сьвятаром не такім, як я хачу, але такім, як Ён хоча, каб я быў.

Памаліцеся за мяне, дарагі Айцец, каб я быў добрым і сьвятым сьвятаром, верным майму прызваньню да канца, маючы заўсёды перад

[24] Маецца на ўвазе **Джаваньні Мэле** (іт. *Giovanni Mele*, 1919—1979), які быў біскупам Люнгры (адна зь япархіяў у Італіі з цэнтрам у горадзе Люнгра (*Lungro*), што ў Калябрыі).

сабою прыклад Вялікага Сьвятара Госпада Нашага Ісуса Хрыста, які прынёс Самога Сябе як Ахвяру дзеля адкупленьня сьвету, і каб мы ўсе мелі жыцьцё вечнае.

Толькі будучы верным Богу да канца, я змагу быць карысным як для сябе самога, так і для іншых, а асабліва для нашага шматпакутнага беларускага народу.

Шмат чаго іншага мне хацелася-б Вам напісаць, але час і мой цяперашні духовы стан на гэта не пазваляюць.

Я чуў, што Вы маецеся прыехаць у Рым. Шкода, што ня зможаце прыехаць на мае сьвячэньні.

Запэўніваючы Вас аб маіх малітвах, прашу Вас таксама памаліцца за мяне, асабліва цяпер, у часе падрыхтоўкі да атрыманьня сьвятарства.

Ваш у Хрысьце

Алесь Надсон

*Rome*, 14.12.58

Дарагі Айцец,

пішу Вам пару словаў, каб падзякаваць Вам за пажаданьні з нагоды маіх сьвятарскіх сьвячаньняў і адначасова каб пажадаць Вам усяго найлепшага з нагоды Калядных сьвятаў.

Цяпер, калі мы абодва сьвятары, малемся адзін за другога, каб Той, хто нас паклікаў да гэтага стану й зрабіў нас Сваімі слугамі й супрацоўнікамі ў дзеле збаўленьня сьвету і пашырэньня Каралеўства Ласкі сярод людзей, даў нам сілу й ласку быць добрымі й сьвятымі сьвятарамі, вернымі Яму й нашаму прызваньню ў усіх хвілінах нашага жыцьця, ня толькі радасных, але таксама калі прыйдуць цяжкасьці й спакусы. Малемся таксама за наш дарагі беларускі народ, бо і за яго таксама Хрыстос памёр, каб і беларусы маглі стацца сынамі Божымі. Я веру, што Ўсявышні ня дасьць, каб сяньняшнія цярпеньні беларускага народу пайшлі надарма, і што прыйдзе час, калі ён зойме адпаведнае сабе месца ў братняй сям'і ўсіх народаў, сям'і, дзе сам Бог зьяўляецца Айцом.

Ня буду апісваць Вам майго рукапалажэньня, бо а. [Пётра] Татарыновіч зьбіраецца зрабіць гэта ў сваім "Зьнічу". Цяпер толькі шлю пару абразкоў на памятку.

Мае першыя сьвятарскія Каляды правяду ў аднэй італьянскай парафіі каля Пізы, куды запрасіў мяне парах, каб дапамагчы яму спавядаць людзей. Лічу гэта за спэцыяльную ласку, што Бог мне даў нагоду распачаць маю пастырскую дзейнасьць у дзень, калі Сын Божы прыйшоў на сьвет, каб прынесьці мір усім людзям.

Адносна маёй будучыні, дык пасьля заканчэньня маіх студыяў кардынал згадзіўся выслаць мяне ў Лёндан прынамсь на год.



Высьвячэньне Аляксандра Надсана на сьвятара. Рым, 23.11.1958

Думаю, што Вы чулі аб а. Андрэю Каткову[25]. Ён назначаны біскупам коад'ютарам ул[адыкі] Евреінава[26], і ягоная хіратонія будзе ў нядзелю 21-га сьнежня ў *Russikum*. Ходзяць чуткі, што гэтае ягонае коад'ютарства толькі часовае і што пасьля ён атрымае юрысдыкцыю над расейскімі каталікамі ў Заходняй Эўропе. Я рад за яго, бо з усіх расейцаў ён безумоўна найлепшы і найбольш справядлівы. Магчыма, цяпер, калі расейцы будуць мець свайго біскупа, дык і нам удасца атрымаць нешта больш незалежнае.

Я чуў, што Вы пастанавілі ўступіць у Марыяны і маеце прыехаць сюды ў Рым, каб адбыць Навіцыят. Маю надзею, што хутка пабачымся асабіста, і нашая беларуская калёнія ў Рыме на нейкі час павялічыцца.

З нагоды набліжаючыхся Калядных сьвятаў жадаю Вам усяго найлепшага ў прыватным жыцьці і плённай пастырскай дзейнасьці на славу Божую.

Адданы ў Хрысьце Ваш

а. Алесь Надсон

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

[25] **Андрэй Каткоў** (рас. *Андрей Катков*, 1916—1995), расейскі рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар, біскуп, марыянін.

[26] **Аляксандар Яўрэінаў** (рас. *Александр Евреинов*, 1877—1959), расейскі рэлігійны дзеяч, арцыбіскуп Расейскай грэка-каталіцкай царквы.

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***

*Эміграцыйны эпісталярый*

# ЛІСТАВАНЬНЕ АНТОНА АДАМОВІЧА З ЧАСЛАВАМ СІПОВІЧАМ

*Асобу Антона Адамовіча быццам няма патрэбы прадстаўляць: і ягоная біяграфія, і ягоны даробак — як на эміграцыі, гэтак і да яе, у БССР — хай ня вывучаныя дасканала, але агулам збольшага ведамыя. А вось тым, хто займаецца багатай спадчынай навукоўца, кідаюцца ў вочы хай дробныя, але дзіўныя цікавосткі.*

*Прыкладам: ведаючы, нават асабіста, багата каго з падсавецкіх беларускіх пісьменьнікаў, ён ніколі ні на каго не напісаў нэкралёгу — ні на Ўладзімера Дубоўку, ні на Язэпа Пушчу, ні на каго іншага; зрэшты, тое-ж датычыць і эміграцыйных дзеячаў. Ніколі.*

*Або такое: незвычайна малалікая колькасьць ягоных лістоў, ведамых дасьледнікам. Што ліставаўся Адамовіч багата й шмат з кім, рэч зразумелая; таго вымагала й сама прафэсійная дый грамадзкая дзейнасьць, і шматлікія праекты, і частыя разьезды (Нью-Ёрк, Мюнхэн, Лёндан). Але вось парадокс: захавалася тых лістоў вобмаль. Прынамсі — ведамых на сёньня. Таму важкасьць пазасталага ліставаньня, улічваючы постаць аўтара, знакавасьць яе — ня толькі для гісторыі эміграцыі, але й для агульнабеларускай гісторыі — выключная. Што й робіць гэтую публікацыю з збораў лёнданскай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны асабліва адметнай.*

12.27.1953[1]

Правялебны Войча!

Вельмі ўсьцешыўся я, дастаўшы Ваш ліст, і перш-наперш шчыра Вам за яго дзякую. То-ж бо, каб ня Вы, ня ведаў-бы я нічога пра долю таго майго рэфэрату для “Руні”. Паслаўшы яго сп. [Аляксандру] Надсану, я прасіў паведаміць мяне хоць-бы аб атрыманьні. Аднак паведамленьня такога я такі і не дастаў і думаў ужо, што рэфэрат той згубіўся ў дарозе. Толькі з Вашага артыкулу ў “Бацькаўшчыне” даведаўся, што ён і дайшоў, і нат быў прачытаны ды прадыскутаваны, а цяпер з Вашага ліста даведваюся і пра некаторыя падрабязнасьці таго, як ён быў прыняты. З гэтага найдаражэй мне вестка пра ацэну й баслаўленьне

[1] Антон Адамовіч выкарыстоўвае амэрыканскі фармат датаў, калі спачатку пазначаецца месяц, потым — дзень.

Я[го] Э[ксцэленцыі] [Баляслава] Слосканса, што дае мне так шмат натхненьня і энэргіі. Пры нагодзе перакажэце Я[го] Э[ксцэленцыі] гэтае маё пачуцьцё, зь якім сьхіляю голаў пад ягоным бласлаўленьнем.



Антон Адамовіч. 1950-я гг.

Цешыць мяне, што, паводле Вас, мае думкі знайшлі водгук, а не асуджэньне, чаго я крыху баяўся, ведаючы пашыранасьць і ўкарэненасьць у нас тае "сарамлівасьці" ды ўльтра-тактычнасьці. З паведамленых Вамі зацемак — толькі адна крытычнага характару, і рацыю я прызнаю поўнасьцяй. Творы а. Адама [Станкевіча] я, праўда, *"трымаў у руках"* і нат меў іх, прысланыя самым Аўтарам праз с[падара] Язэпа Найдзюка[2], але як-раз толькі што трымаў. Чытаць іх ня было тады часу — нат чытаць карэкту, адзінае тады чытаньне, даводзілася так, што проста вочы клеіліся. А забраць із сабою аніякіх кніжок так і не ўдалося. Рады-б пачытаць шмат з таго, што меў, цяпер, ды тут у ніводнай бібліятэцы ня знойдзеш (тым-жа часам савецкія выданьні да 1937 г. прадстаўленыя даволі добра). Ніяк, прыкладам, не магу знайсьці гадавіку "Крыніцы"[3], календара "Сваяк" на 1919 г. ды іншых рэчаў, патрэбных мне на даведкі (дарэчы, мо Вы, Войча, маглі-б параіць мне што ў гэтым?).

Няма чаго казаць, што і я быў-бы гэтак рады спаткацца неяк з Вамі, але добра Самі кажаце — як? Што-ж да ліставаньня, дык цешуся, што яго можа будзе мець, і хоць у лістох перакінуцца часам думкамі. Баюся, аднак, каб не дакучыць Вам, бо такі я чалавек, што канечне мушу нешта пытацца ў лістох і нейкіх даведак прасіць. Во і цяпер, адразу-ж. Бо і ад каго-ж мне даведацца пра тое, што цяпер карціць? А гэта мо

---

[2] **Язэп Найдзюк** (1909—1984), грамадзкі дзеяч, выдавец, друкар. У часе нямецкай акупацыі ў Менску працаваў у школьным інспэктараце й тэхнічным кіраўніком Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску, супрацоўнічаў зь менскімі газэтамі. Пасьля вайны пераехаў у Польшчу, дзе жыў у Інаўроцлаве (*Inowrocław*) пад імем Юзафа Александровіча. Аўтар папулярнага гістарычнага нарысу "Беларусь учора і сяньня".

[3] ***"Krynica"*** (у 1924—1936 гг. —***"Bielaruskaja krynica"***) — штотыднёвая газэта, орган Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, выдавалася ў Вільні цягам 1917—1940 гг.

і здасца Вам нечаканым і дробным, ды ўсё-ж — Бог бацька... А хочацца мне ведаць тымчасам (тымчасам толькі!) вось што: 1. калі ў нас сьвятар каталіцкі даець дзіцяці імя Вацлаў, якому лацінскаму арыгіналу гэта адпавядае (*Venceslaus* ці *Wenceslaus* — я сустракаў і праз V, і праз W, а мо ёсьць і нешта паводля *Waclaus*?); 2. калі і якіх *Waclavus* сьвяткуюць у нас на Беларусі нашыя каталікі? Цікавіць мяне гэта ў сувязі із спробамі некаторых перахрышчываць Ластоўскага з Вацлава (хорма чэская, зусім не польская) у Вячаслава (хорма ўсходня-славянская, толькі ў праваслаўнай практыцы ўжываная)[4]. Здаецца мне, што ў спробах гэтых ня больш рацыі, як, скажам, у "перабізмоўваньні" Янкі Купалы ў Івана Купалу ці Якуба Коласа — у Якава Коласа. Рады-б пачуць Вашую думку. Каб не надакучыць больш ад першага-ж разу, на гэтым і скончу. Не пасьпеў павіншаваць Вас з Калядамі — дык хоць — з Новым Годам! І яшчэ раз — вялікі дзякуй і выбачайце!

Заўсёды Ваш

Ант[он] Адамовіч

Лёндан, 15.I.1954

Вельмі Паважаны і Дарагі Сп. Адамовіч.

Шчыранька дзякую за ліст. Мяне не турбуюць Вашыя пытаньні, бо адказваючы на іх або спраўджаю сваё знаньне або дапаўняю. Ды не астануся і сам у даўгу і шмат аб чым прыйдзецца мне пытаць Вас. Цяпер працую над царкоўным календаром Францішка Скарыны, які знайшоў разам зь ім-жа выданым Апосталам у Вільні ў 1525 г. у бібліятэцы Брытыйскага музэю. Цікава, што аб гэтым календары — Скарына называе яго "Саборнік" — ніхто нідзе не пісаў. [Пётр] Владзіміраў[5] абмежыўся да пару заўваг.

Календара "Сваяк" за 1919 г. ня маю і ня ведаю, дзе знайсьці. Айцец Л[еў] Гарошка мае календар "Нашае Нівы" на 1912 г. З "Крыніцы" я маю за 1939 г. Нр. 1 (698)—12 (708) і за год 1940 нр. 1 (709)—53 (762). Не дастае нумароў 46, 48, 50, 51. Яшчэ не прабаваў адшукаць у тутэйшых бібліятэках папярэдніх гадавікоў "Крыніца". Магчыма, яны тут ёсьць. "Наша Ніва", хаця і няпоўнсьцю, але ёсьць.

Вацлаў ці Вячэслаў?

Калі ў нас каталіцкі сьвятар дае імя дзіцяці Вацлаў, дык ён разумее яго лацінскі адпаведнік *Wenceslaus*. Ва ўсіх лацінскіх мартырологіях (сьпіскі сьвятых) знаходзім пад днём 28 верасьня *sancti Wenceslai*. Чаму W, а не V? Бо *Wenceslaus* — гэта златынізованае нямецкае імя *Wenzel*,

[4] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч. Гл. ягоны артыкул: Вячаслаў Ластоўскі // Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус". Выбранае. Мінск, 2019. С. 152—158.

[5] **Пётар Уладзіміраў** (рас. *Пётр Владимиров*, 1854—1902), расейскі гісторык літаратуры, дасьледнік жыцьця й спадчыны Францішка Скарыны.

якога немцы ўжываюць заўсёды замест Вацлаў. Дагэтуль нямецкі ўплыў на чэхаў пакутуе ў *“Wenceslaus”*.

Вацлаў — чыста чэскае слова.

Вячэслаў — паводле аднаго аўтара (*Rev. S. Baring-Gould. The lives of the Saints. London. 1875, b. 422*) ёсьць *“old Bohemian Waceslaw”*.

Значыць, і Вацлаў, і Вячэслаў ёсьць славянскія і чэскія.

Калі, хто і дзе якой ужывае формы, адказвае на гэта традыцыя. Царкоўна-славянскія кнігі ўжываюць Вячэслаў, хаця дзень сьв. Вячаслава ёсьць той самы, што і ў лацінскіх мартыралогіях, зн[ачыць] 28 верасьня. Праваслаўныя беларусы называлі сябе Вячэславамі, каталікі — Вацлавамі.

Ластоўскі быў каталіком і ніколі сябе не называў Вячэславам. Не знаходжу ніякай прычыны, чаму па сьмерці маемо “праваславіць” і перахрышчваць яго.

Гэтым сяньня і канчу.

Прыміце якнайшчырэйшыя прывітаньні!

Ваш а. Ч[аслаў] Сіповіч

*Marian House,* 15.6.1956

Паважаны й Дарагі Сп. Адамовіч,

даведаўся ад Стася Ст[анкевіча], што Вы і ў гэтым годзе маеце прыбыць на канфэрэнцыю ў Мюнхэн. Таму спадзяюся, што Вы змаглі-б прыняць удзел у Тыдні Студыяў БАКА “Руні”, які адбудзецца ў *Konigstein, Priesterseminar*, недалёка *Frankfurt am Main*, у днях ад 7 да 15 ліпня 1956. Зрабіце ўсё магчымае, каб там з намі быць. Яда і памешканьне запэўненыя, а Вам астаецца толькі прысьпяшыць прыезд і магчыма перамяніць намечаны ўжо Вамі шлях.

Акадэмікі нашы ў “Руні” слабенькія, але тое-сёе бывае карысната, калі асабліва зьбяромся ў сваю грамадку.

Фільм “Нашай Нівы” маю, але ня ўсёй. Магчыма, зробяць з усіх тых матэрыялаў, якія тут у Брытыйскім музэі знаходзяцца, хаця яны вялікія маруды.

Прывет і да хуткага спатканьня!

Ваш Ч[аслаў] Сіповіч

28 чырвеня 1956 г.
Нью Ёрк

Дарагі й Правялебны Войча!

Ну й даў-бы я Вам, выбачайце, перцу, каб ня Ваш духоўны сан (дакладней, каб не каталіцкі сан, бо пры кажным іншым перац той ужо сам сабою належыцца, а для аднаго пэўнага ўсходняга сьхізмацтва нат у неабмежаванай порцыі).

Няўжо не маглі Вы паведаміць мяне пра тую “Рунь” хоць-бы тыдні два раней? Цяпер-жа, колькі я ні скакаў, нічога ўжо зрабіць нельга. Якраз калі ў Вас там “рунець” будзе, я буду калыхацца *“по сінім волнам океана”*... А шкада, пабыць там з Вамі мне гэтак хацелася-б...

У кажным разе перакажыце ад мяне жаль зь немагчымасьці прыезду, надзею на будучыню і як найшчырэйшыя зычэньні як найбольшае памыснасьці.

Усё-ж і сан ня можа ўратаваць Вас ад вымярэньня нейкае справядлівае кары. Дык вось, за кару прашу Вас: 1. зрабіць, што льга, з тым мікрафільмаваньнем “Нашае Нівы” хоць да майго прыезду; 2. едучы на канфэрэнцыю і асамблею, захапіць з сабою зборнічкі вершаў нашых каталіцкіх паэтаў — Зязюлі[6], Быліны[7], Сваяка[8], Адважнага[9] — што ёсьць у Вас, як кажа а. [Пётра] Татарыновіч (выкарыстаю на мейсцы і адразу-ж заберацё з сабой назад).

І гэта тымчасам усё.

Да неўзабаўнага прыемнага мне спатканьня.

Заўсёды Ваш

Ант[он] Адамовіч

Лёндан, 30 жніўня 1957

Дарагі Прафэсар,

а ўсёжтакі прыеду і не за тры гады, як Вы казалі ў Мюнхэне, але за тры тыдні. 10 верасьня мараплавам *“Liberte”* з *Southampton* выяжджаю ў *New York*. Паводле тутэйшых інфармацыяў прыплыву ў *New York* 16 верасьня між 7—9 гадзінамі раніцай. Ужо напісаў да сп-ва Кушаляў[10], каб былі ласкавы прыняць на сваё памешканьне.

Так як спамянуў Вам у Мюнхэне, мог-бы зрабіць даклад для Інстытуту[11]. Маю фактычна прыгатаваны матар’ял на дзьве тэмы: “Скарынаўскія кнігі ў Брытыйскім музэі” і “Антырэлігійны элемэнт у савецкай беларускай літаратуры”.

У Зл[учаных] Шт[атах] затрымаюся каля двох месяцаў. Дакладнага пляну яшчэ ня маю, але напэўна на адным і тым самым мейсцы доўга сядзець ня прыйдзецца.

---

[6] **Андрэй Зязюля** (сапр. **Аляксандар Астрамовіч**, 1878—1921), каталіцкі сьвятар, паэт.

[7] **Янка Быліна** (сапр. **Ян Семашкевіч**, 1883—1956), каталіцкі сьвятар, паэт.

[8] **Казімір Сваяк** (сапр. **Канстанцін Стаповіч**, 1890—1926), каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч, пісьменьнік.

[9] **Вінцук Адважны** — псэўданім а. Язэпа Германовіча.

[10] Маецца на ўвазе сям’я Франца Кушаля й Натальлі Арсеньневай.

[11] Маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі й мастацтва.

Спадзяюся, што Вы шчасьліва прыехалі дамоў, хаця напэўна змучаныя падарожжам.

Прывітаньні і да хуткага спатканьня.

Ваш Ч[аслаў] Сіповіч

3.30.59

Правялебны Войча!

Перш-наперш — вясёлага Вам алялюя, хоць крыху й прыпозьнена.

Праз гэтае, аднак, алялюя й пішу Вам, бо з гэтае нагоды наведаў мяне мой стары сусед, які прынёс мне ліст ад Міс Веры Рыч[12], пасланы на мой стары адрыс, які Вы ёй узычылі й на якім я ўжо больш за год ня жыву. Сусед выпадкова падабраў той ліст, але ня меў, кажа, нагоды перадаць мне аж да гэтага вялікоднага алялюя. Дык выглядае, што ліст гэты валяўся тамака ўжо колькі месяцаў...

Усё гэта вельмі прыкра, хоць і мая тут віна. Таму я й папрашу Вас адразу-ж вытлумачыць гэта тэй Міс Рыч ды перапрасіць яе. Найгорш, што ў гэты мамэнт я не магу даць ёй шырокага адказу, як хацеў-бы і як яна прасіла: якраз сьпешна рыхтую даклад на тэму “Нацыянальнае самавызначэньне на апанаванай саветамі прасторы па І-й сусьветнай вайне”, які буду мець 24 красавіка на канфэрэнцыі Інстытуту Этнічных Студыяў пры Джорджтаўнскім унівэрсытэце ў Вашынгтоне. Толькі пасьля гэтага здолею ўзяцца за іншае, а першым чынам — за гэтую ейную справу з “Сымонам Музыкам”. Прысланы ёй мне пачатак я прачытаў і бачу, што ў некаторых мясьцінах яна ня зусім добра зразумела беларускі тэкст. Усё гэта я выясьню ёй (яна магла-б тымчасам прыслаць мне й больш свайго тэксту, калі мае, я-б і яго прагледзеў, ды наагул, быў-бы ахвочы й рады прагледзець і пракансультаваць увесь ейны пераклад паступова).

Яна піша, што мае мой артыкул — хіба, кніжку — “Апазыцыя да саветызацыі”[13]. Але пра “Сымона Музыку” ў мяне куды больш у выданай раней тым-жа Інстытутам[14] па-беларуску маёй кніжыцы “Якуб Колас у супраціве беларусізацыі”[15]. Ці чытае яна па-беларуску? У Вас гэтая кніжыца ёсьць, дык пазнаёмце яе зь ёю. Іншая літаратура, што можна было-б ёй раіць, толькі па-беларуску, ня ведаю, ці ў Вас яе можна будзе дастаць (яна, зрэшты, уся паказаная ў тэй маёй ангельскай “Апазыцыі”, б. 39, зноска 62).

[12] **Вера Рыч** (анг. *Vera Rich*, 1936—2009), ангельская паэтка, перакладчыца, журналістка. Была ўдзельніцай беларускай грамады ў Лёндане.

[13] Маецца на ўвазе выданьне: Adamovich, Anthony. Opposition to sovietization in Belorussian literature, 1917—1957. New York: Scarecrow Press, 1958. 204 p.

[14] Маецца на ўвазе Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне.

[15] Маецца на ўвазе выданьне: Адамовіч, Антон. Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхэн, 1955. 62 с.

Гэта вельмі сымпатычна, што яна бярэцца за такія рэчы й наагул, як відаць з “Бацькаўшчыны”, “самавызначаецца” нат у Беларускі. Баюся адно, што напачатку ёй лепш было-б брацца не за манумэнты тыпу “Сымона”, а за лірыку, і то найлепш [Максіма] Багдановіча, найбольш эўрапейскага й наагул рэпрэзэнтацыйнага ў нас. Ну, але хай робіць, што пачала. Відаць, яна думае, што мы, у тым ліку і я, страшэнныя прымітывы — так, мне, прыкладам, выясьняе розьніцу між мужчынскімі і жаноцкімі рымамі, якую, як і шмат іншага, выясьнянага ёю, я ведаў яшчэ тады, калі яе і ў праекце ня было.

Ну, але гэта ўсё не бяда. Паэтка зь яе хоць яшчэ й вельмі невялікая (куды меншая, прынамсі, чымся “Бацькаўшчына” дый сама яна сябе рэклямуе) — зразумела, гэтага казаць ёй нельга — але самая ейная цікавасьць да нашае літаратуры й тое “самавызначэньне” вельмі прыемныя факты. Хацеў-бы ёй памагчы й наагул стала памагаць — перадайце ёй мае найшчырэйшыя зычэньні й падзіўленьні. Добра было-б, каб адпісалі мне на гэты ліст адразу-ж, а тымчасам яшчэ раз — вітаю Вас шчыра, заўсёды Ваш

Ант[он] Адамовіч

Лёндан, 13.VI.1959

Вельмі Паважаны і Дарагі Сп. Адамовіч,

перадусім шчыра Вам дзякую за вясёлае алялуя. Скажу, што Вялікдзень прайшоў у нас сапраўды вясёла. Апрача багаслужбаў і малітваў, якія ў час вялікодні сваёй красой і глыбінёй самі адны нясуць душу да Бога, мы зладзілі на другі дзень Сьвятаў 25 Сакавіка. Калёнія наша невялікая, але разам з чужынцамі гасьцьмі сабралася шмат народу, ну і сьвята адсьвяткавалі. Пэўне-ж пасьля ўсяго я чуюся, як з крыжа зьняты.

Пераходжу да тэмы Вашага ліста: паэтка *Miss Rich* і яе працы. *Miss Rich* ёсьць студэнткай Лёнданскага Ўнівэрсытэту; студыюе… матэматыку. Раманс перашкодзіў ёй скончыць перш распачатыя студыі ў *Oxford* з галіны літаратуры. Ніякай славянскай мовы добра ня ведае, але ў пару зь іх разьбіраецца ня згорш. Вельмі хутка разумее твор і пры невялікай дапамозе тлумачыць яго. З натуры *Miss Rich* вельмі здольная, яна Вас можа зьдзівіць сваімі ведамі і адначасова сваім дзівацтвам у захаваньні і вар’яцтвам сваёй псыхікі. Яе ангельская мова вельмі багатая і прыгожая. Свае арыгінальныя творы друкавала ў літаратурных ангельскіх часапісах пераважна для моладзі. Яна сьпявае разам з маткай у маім касьцёльным хоры, ёсьць такжа сяброўкаю ЗБВБ. Беларускай літаратурай яна зацікаўлена моцна, але здаецца яшчэ больш нашымі хлапцамі, якія, аднак, не зважаючы на яе таленты адносяцца да яе абыякава. Таму ўсё, што яна зрабіла дагэтуль для беларусаў, забрала ў мяне шмат часу і не адзін раз нэрваў.

Нягледзячы на ўсе недамогі нашай сяброўкі, я ўважаю, што яе трэба падтрымаць і дапамагчы. Узяліся мы за “Сымона Музыку” крыху дзеля юнацкай амбіцыі паэткі, а крыху і дзеля таго, што гэта запраўды твор беларускі. “Эўрапейскае” ў Багдановіча нікога тут не пацягвае, бо яны падобнага маюць шмат у сябе.

Вы кажаце, што заўважылі пэўныя нясьцісласьці ў тлумачэньні. Будзьце ласкавы і пакажыце нам іх. Як *Miss Rich*, так і я будзем Вам вельмі ўдзячныя за дапамогу. Цяжкасьцяў, зразумела, мы ўсіх не паканаем, але можна спадзявацца, што пэўную прыслугу ў пашырэньні нашай культуры зробім.

Ці Вы ў гэтым годзе будзеце ў Мюнхэне? Калі так, дык вельмі Вас прашу ўплянаваць падарожжа так, каб маглі адведаць Лёндан. Было-б добра, каб Вы маглі заехаць сюды, а адгэтуль паехалі-б разам у Нямеччыну.

Вось учора атрымаў праэкты рэарганізацыі працы ў Мюнхэнскім Інстытуце. Будучы далёка ад яго, цяжка сказаць штось запраўды важнага. Лепш разгледзіўшы матэрыял, магчыма, прыйдзецца штосьці там і правіць.

Дык бывайце здаровы і вітайце ўсіх знаёмых. Прашу перадаць Вашым бацькам, зь якімі, на жаль, я ня мог пазнаёміцца, шчыры прывет.

Ваш а. Ч[аслаў] Сіповіч

Правялебны Войча!

Шчыры дзякуй за Ваш ліст і ўсе выясьненьні ў справе “Сымона”, хоць яны й няпоўныя — я, прыкладам, ня ведаю, ці Вы пераказалі перакладніцы тое, што я напісаў пра літаратуру вакол паэмы, якою яна цікавілася, ды нат наагул, ці перапрасілі яе, вытлумачыўшы прычыны майго неадпісваньня ёй, як гэта я Вас прасіў.

Але цяпер я хачу пачаць не ад гэтага, а ад таго, чым Вы скончылі, г. зн. ад летняга майго наезду ў Эўропу. Вось-жа думка наведаць Лёндан зьявілася ў мяне йшчэ да Вашага ліста, а пасьля яго ўжо пачала добра турбаваць мяне. Сёлета я еду ў Эўропу й назад на караблі “Юнайтэд Стэйтс”, які ідзе праз Ля Гаўр (білетаў на руках хоць яшчэ і няма, але яны замоўленыя й быццам-бы гварантаваныя). Туды маю адплыць 16 ліпеня й быць у Ля Гаўры ўжо 21, назад зь Ля Гаўру адплыць дадому 7 жніўня. Паколькі канфэрэнцыя ў Мюнхэне, на якой мушу быць ад пачатку, пачынаецца 24, дык па дарозе туды маю ўсяго адзін цэлы дзень (22) і часткі двух сумежных. Думаў-бы скарыстаць гэта на наведзіны Парыжу і [Міколы] Абрамчыка, які даўно, а цяпер ізноў настойліва запрашае; кагадзе якраз кінуў ліст яму ў гэтай справе. Каб гэта можна было-б наведаць Лёндан разам з Вамі па дарозе назад па канфэрэнцыі і асамблеі, г. зн. дзесь між 1 і 6 жніўня, гэта было-б для мяне надзвычай адпаведна. Дык ці паедзеце Вы дадому адразу па асамблеі, ці маеце якія

справы, каб заставацца на кантынэньце даўжэй — гэта першае, што мне хацелася-б ведаць. Другое — колькі часу займае й колькі даляраў каштуе дарога зь Ля Гаўру да Лёндану? У Лёндане мне галоўна хацелася-б хоць крыху ўткнуцца ў бібліятэку Брытанскага музэю, папароцца ў каталёгу, зазірнуць, а то й зьмікрафільмаваць тое, што магло-б знайсьціся мне патрэбнага. Дык адкажэце мне на гэтыя мае пытаньні як мага баржджэй, а тады будзем далей меркаваць, як зрабіць.

Цяпер у справе "Сымона". Найперш, непаразуменьне ў справе "эўрапейскасьці" й Багдановіча. Я заўсёды прывык думаць аб літаратуры катэгорыямі, сказаць-бы, фаховымі — катэгорыямі эстэтычнага выражэньня, а не такімі пазаэстэтычнымі й папраўдзе пазалітаратурнымі катэгорыямі, як г. зв. "тэматыка" або "псыхалёгія" ды пад[обнае]. На гэтым у нас і непаразуменьне. Эўрапейскасьць Багдановіча я меў на ўвеце ў аспэкце эстэтычнага ўзроўню, а Вы зразумелі ў сэньсе тае "псыхалёгіі" ці нат і "тэматыкі". На маё цьвярдое перакананьне, Багдановіч ня менш, прынамся, "беларускі" за Коласа і "псыхалёгічна", і "тэматычна", г. зн. якраз тэй беларускай экзотыкай, якая й прыцягвае не-Беларуса, але затое ў сэньсе эстэтычнага выражэньня яе — галоўнага ў паэзіі! — ён якраз эўрапейскі, тымчасам як Колас супраць эўрапейскага ўзроўню тут запрымітыўны й таму патрабуе тут перакладніка, які быў-бы мацнейшы за яго, каб яго палепшыць, удасканаліць, падцягнуць да таго ўзроўню, для чаго міс Рыч, якая-б яна ні была, прост яшчэ зазялёная.

Пішу гэты ліст якраз зьвярнуўшыся з Вашынгтону пасьля таго дакладу, пра які пісаў Вам папярэднім разам і які прайшоў у мяне, дзякую Богу, як нельга лепш. Дык цяпер магу ўжо больш памагчы Вам у справах перакладу. Можа, днямі напісаў бы тэй міс, але ня ведаючы ад Вас, ці прынесьлі Вы ёй тыя мае выбачэньні, тымчасам паўстрымаюся. Вам-жа пастараюся выясьніць тыя недацяжкі ды нат перакрыты часам, якія выйшлі ў тым кавалку, што ў мяне ёсьць. Іх я налічыў 5. Як дастану ад Вас адказ на гэты ліст, выкладу іх Вам па магчымасьці паўней і выразьней.

А тымчасам у чаканьні гэтага адказу застаюся шчыра Вашым

Ант[он] Адамовіч

Лёндан, 2 траўня 1959 г.

Дарагі Сп. Адамовіч,

перадусім прашу Вас ня мець ніякіх акрупулаў[16] адносна ветлівасьці зь Miss Rich: я перапрасіў яе ад Вашага імя і выясьніў прычыну Вашага не-адказу ёй. Усё ў парадку. Паволі далей тлумачым "Сымона Музыку".

У справе Вашага прыезду ў Лёндан я інфармаваўся ўчора ў аднэй агэнцыі аб цане білету зь Лёндану ў *Le Havre* і назад. Вось-жа білет першай клясы каштуе: £ 11—7—0 — каля 33 дал. Білет другой клясы:

[16] ***Ocrupulus*** (лац.) — сумнеў.

£ 8—2—0 — каля 24 дал. Я падаю закруглена цану ў далярах, бо лічу 3 даляры ў фуньце, хаця ня ёсьць гэта зусім дакладна.

Я яшчэ ня маю ніякіх запросінаў і паведамленьняў адносна канфэрэнцыі Інстытуту ў Мюнхэне, але думаю, што я павінен там быць, і тады з Вамі разам прыехалі-б у Лёндан. Ці Вы зможаце ці не прыехаць у Англію, я ўсёроўна буду ў гэтым годзе простай дарогай вяртацца "дамоў".

Калі я быў у агэнцыі, я забыўся запытацца: колькі часу займае падарожжа зь *Le Havre* ў Лёндан? Але я пераконаны, што ня больш аднаго дня або аднэй ночы. Пазьней паінфармуюся дакладна.

Значыць, я гатоў ужо разьлічваць на тое, што Вы зможаце да нас заехаць і што мы пасьля канфэрэнцыі разам з Вамі выедзем зь Мюнхэна. Будзьце-ж тады растаропныя і бараніцеся ад усякіх паседжаньняў "сэктанскіх" (сэктар Рады ...).

Разумеецца, Вам прыйдзецца зрабіць даклад для беларусаў у Лёндане на тэму, на якую Вам спадабаецца.

Калі маеце крыху часу, дык пішыце да *Miss Rich* і да мяне. Заўсёды рады ад Вас мець весткі.

Ваш з прыветам і любоўю,

[а. Часлаў Сіповіч]

21 сакавіка 1960 г.

Правялебны Войча!

Выбачайце, што даўно ня пісаў Вам, але па маім вялікім горы[17] я яшчэ й цяпер не дайшоў да ладу дый, папраўдзе, ня ведаю, ці дайду зноў калісь да таго стану, што раней. Цяперака змушае мяне пісаць да Вас пільная справа. Рэч у тым, што ў гэтую сыботу едзе ў Лёндан Пазьнячыха[18], і я хацеў-бы выкарыстаць ейнае падарожжа. Дык я прасіў-бы Вас, калі мага, зараз-жа замовіць у Брытанскім музэі тыя мікрафільмы "Нашае Нівы", што дасюль яшчэ ня зробленыя, з тым, каб Пазьнячыха, варочаючыся, магла-б прывезьці іх із сабою. Прыпамінаю, што ў нас ёсьць мікрафільмы толькі 1910 і 1911 г. г., а іншых нейкіх, што Вы казалі там ёсьць ды абяцалі сьфільмаваць, дасюль няма. Калі нашых грошай у Вас больш няма, мы вышлем Вам адразу патрэбную суму, або ўмовімся таксама з Пазьнячыхаю. Калі-б Вам самому ня было-б гэтым як заняцца, дык мо сымпатычнейшы а. [Аляксандар] Надсан мог-бы памагчы ці хто іншы. Быў-бы бязьмежна ўдзячны ўсім, цяпер працую над творамі [Алеся] Гаруна[19] да выданьня, і гэта, бадай, адзінае, што магу цяпер

[17] 18 кастрычніка 1959 г. у Нью-Ёрку памерла маці Антона Адамовіча Паліна Івашкевіч.

[18] Маецца на ўвазе жонка Язэпа Пазьняка (Вайніловіча).

[19] **Алесь Гарун** (сапр. **Аляксандар Прушынскі**, 1887—1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэньня пачатку XX ст.

рабіць, і дзеля гэтага й мікрафільмы тыя патрэбныя. А мо яшчэ-б там што знайшлося — скажам, часапісы “Вольная Беларусь”[20] (1917—1918 гг.), “Беларускае жыцьцё”[21] (1919 г.), “Рунь”[22] (1920 г.), “Беларус”[23] (каталіцкі часапіс, выходзіў лацінаю адначасна з “Нашай Нівою” апошнія гады — ад 1912—1913 г., здаецца — гэта-б і Вам мела беспасярэднюю цікавасьць). Пазьнячыха вязе таксама некаторыя просьбы ад нас да Веры Рыч, дык і ў гэтым памажэце нам, калі трэба будзе, сваім уплывам. Зь ёю я таксама страціў усякі кантакт за гэты час і быў бы ўдзячны, каб растлумачылі ёй, чаму, магчыма, што яна пра маё няшчасьце й ня ведае ды пакрыўдзілася, што я не адпісаў ёй. А яна часам бывае вельмі патрэбная тут, як і цяпер вось. Яшчэ [Янка] Запруднік прасіў напісаць Вам, ці не маглі-б Вы памагчы яму сваймі радамі, а то і матар’яламі што да рэлігійнага боку тае тэмы (“Беларусь у часе 1-е сусьветнай вайны”), якую ён рыхтуе на дактарат, а таксама ці няма магчымасьці “пацягнуць” яшчэ якія дакумэнты ад таго Багамольца, дакумэнтамі якога ён ужо (у іншай справе) карыстаўся. Гэта было-б тымчасам і ўсё. Выбачайце за турботы! Быў-бы ўдзячны, каб напісалі мне колькі словаў і так, а ў парушаных тутака справах — як найбарджджэй. Найшчырэйшыя Сакавіковыя віншаваньні, а вялікодныя хіба мо ўпраўлюся яшчэ параслаць да іх часу. Шчырыя вітаньні а. [Аляксандру] Надсану, сп. [Уладзімеру] Бутрымовічу[24], [Алесю] Лашуку[25] і іншым.

---

[20] **“Вольная Беларусь”** — грамадзка-палітычная, эканамічная й літаратурная газэта, выдавалася ў Менску ў 1917—1918 гг., галоўным рэдактарам быў Язэп Лёсік.

[21] **“Беларускае жыцьцё”** — ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс, які выходзіў у Вільні й Менску ў 1919—1920 гг. пад рэдакцыяй Францішка Аляхновіча.

[22] **“Рунь”** — штотыднёвы ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс, які выходзіў у Менску ў траўні — ліпені 1920 г.

[23] ***“Biełarus”*** — тыднёвая каталіцкай газэта на беларускай мове, якая выходзіла ў Вільні ў 1913—1915 гг.

[24] **Уладзімер Бутрымовіч** (1922—1987), грамадзкі дзеяч. Цягам трох гадоў служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Тут далучыўся да Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. У пачатку 1950-х вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія), па сканчэньні якога вярнуўся ў Брытанію. Жыў у Лёндане. Уваходзіў у Галоўную ўправу ЗБВБ, а ў 1958, 1960—1965 гг. быў яго старшынём.

[25] **Аляксандар Лашук** (1909—1997), грамадзкі дзеяч. Закончыў польскую сямігодку ў Ілы, працаваў у гміннай адміністрацыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гаспадарчым аддзеле раённай адміністрацыі. У 1944 г. выехаў на эміграцыю. Трапіў у 2-і Польскі корпус. З 1946 г. — у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Жыў у Лёндане. Шмат гадоў быў старшынём сэктару Рады БНР у Вялікабрытаніі. Займаўся распаўсюдам беларускіх выданьняў.

Заўсёды Ваш

Ант[он] Адамовіч

Лёндан, 27.IV.1960

Вельмі Паважаны Сп. Адамовіч,

адказваю на Ваш ліст з дня 21 сакавіка 1960 г.

1-е. Справы зь Верай Рыч я не залагодзіў і ніколі яе не бяруся заладзіць. Яна ёсьць вельмі хворая, а паколькі здароўе дазваляе, працуе з украінцамі. Калі Вы тут былі, я Вам даў поўнае маё апісаньне гэтай няшчаснай Веры Рыч. Вы, здаецца, усёжтакі сваю маеце аб ёй думку і, на жаль, зашмат аб ёй пішаце і рэклямуеце. Яна без маёй дапамогі або каго іншага аднаго сказу не пературмачыць зь беларускага. А цяпер яна ёсьць у гэтакім стане, што можа для яе скончыцца катастрофай. Я зь ёй нічога супольнага не магу мець цяпер, таму не асьмеліўся перадаць Вашых матэрыялаў, перасланых цераз сп-ню Пазьняк. Адсылаю іх Вам сяньня назад.

2-е. Вы просіце, каб Вам сьфільмаваў "Ніву" ды іншыя рэчы ў Брытыйскім музэю. Ахвотна я ўсім і асабліва Вам дапамагу, але дазвольце мне перш паскардзіцца на Вас і Вашых сяброў. Вось-жа, калі я перадаваў фільм "Нашай Нівы", мне абяцалі ці Вы, ці Стась Станкевіч, што, выкарыстаўшы мікрафільм, прышліцё мне яго назад, а калі не мікрафільм, дык яго здымкі. Дагэтуль я нічога не атрымаў і ня помню, што сьфільмавана, а што не. І гэта здарылася ня першы раз. Прыкладам: пазычылі з маёй бібліятэкі творы [Максіма] Багдановіча для перавыданьня і пасьля некалькі гадоў я іх не магу атрымаць назад. За выняткам др. [Вітаўта] Тумаша ніхто мне яшчэ слова не датрымаў. Таму — вельмі мне прыкра — будзе на гэтым цярпець і Ваша асоба і, магчыма, крыху наша справа. Даруйце, але да таго часу ня буду займацца заказамі мікрафільмаў у Брытыйскім музэі, пакуль ня будзе перш выкананая мая просьба: прышліце назад фільм "Нашай Нівы" або здымкі зь яго. Атрымаўшы гэта, сыстэматычна далей буду рабіць пошукі і паводле змогі Вам дапамагаць.

Усё, што тут пішу, прашу не прымаць на сваё конта, але асьмельваюся Вас прасіць, каб зразумелі і маю сытуацыю і цяжкасьці з часам, з разьездамі і т. п. 3-е. Сп. Запрудніку ў яго працы ("Беларусь у часе І-й сусьветнай вайны") мы маглі-б дапамагчы, але трэба было-б нам ведаць, у чым канкрэтна. Крыху матэрыялаў (рэлігійны бок жыцьця) ён мае ў кніжцы (рататар Мгр. А. М. Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнай Беларускай Царквы. Нямеччына. 1948). У нашым архіве ёсьць копія ліста Эгзарха [Леаніда] Фёдарава[26] да Мітрапаліта [Андрэя] Шэптыцкага[27], у якім ён апісвае некаторыя здарэньні рэлігійнага жыцьця на

[26] **Леанід Фёдараў** (рас. *Леонид Федоров*, 1879—1935), расейскі каталіцкі сьвятар, экзарх Апостальскага экзархату каталікоў бізантыйскага абраду ў Расеі.

[27] **Андрэй Шаптыцкі** (укр. *Андрей Шептицький,* 1865—1944), дзеяч

Беларусі на пачатку бальшавіцкага перавароту. Эгзарх Фёдараў — сам расеяц — прасіў Мітр[апаліта] Шэптыцкага, каб ён дапамог знайсьці беларусаў сьвятароў, якія-б працавалі на Беларусі і толькі сьвятары беларусы маглі-б мець посьпех (паводле а. Фёдарава). Так-жа крыху матэрыялаў ён мог-бы знайсьці ў "Беларускай Крыніцы", якую я бачыў у Ч[аслава] Будзькі ў Чыкага. Агульныя дадзеныя маюцца ў артыкулах а. Л[ява] Гарошкі: "Божым Шляхам", "Беларускі зборнік".

Прыміце шчырыя прывітаньні ад нас усіх: а. Я[зэпа] Гэрмановіча (В. Адважнага), а. [Аляксандра] Надсона і а. [Лява] Гарошкі.

Ваш а. Ч[аслаў] Сіповіч

16 сьнежня 1969 г.

Высокадастойны Ўладыка!

Даведаўся я з "Божага Шляху", што Божаю Воляю Самі, асеўшы тым часам у Лёндане, куды й я Таею-ж Воляю маю прыбыць на канфэрэнцыю Інстытуту Вывучэньня СССР, што мае адбыцца там 5—7 студзеня 1970 г. Канфэрэнцыя мае быць пра савецкую цэнзуру, выступаць маюць савецкія пісьменьнікі, апошнімі часамі перабеглыя на Захад — Кузьняцоў[28], Белінкоў[29] ды інш. Таму што яны яшчэ вельмі баязьлівыя, на іхнае жаданьне канфэрэнцыя робіцца ня ў Мюнхэне, а ў Лёндане (і то дзесь у прадмесьці ці нат у нейкім блізкім гарадку — дагэтуль дакладнае месца трымаецца ў сакрэце) будзе блізу зачыненай, вельмі малалюднай, але, здаецца, і цікавай. Мне давядзецца прыбыць у Лёндан за пару дзён да пачатку. І ў гэтым часе вельмі хацелася-б пабачыцца й пагутарыць з Вамі ды іншымі нашымі. Магчыма, што прыляту ўжо на самы новы год, бо ў нас пагражаюць забастоўкаю гарадзкога транспарту ад 1-ае гадзіны навагодняе начы. І тады проста ня можна было-б дабрацца да аэрапорту (колькі год таму ўжо было гэтак і трывала каля тыдня).

Дык калі-б Ваша Высакадастойнасьць ня мела нічога супраць гэткага спатканьня, я быў-бы вельмі рады дастаць пра гэта — і то, зважаючы на час, як найбарджджэй — колькі словаў, пасьля чаго можна было-б умовіцца яшчэ й пра розныя іншыя дэталі.

Заўсёды Ваш сьціплы пакорнік Ант[он] Адамовіч.

---

Грэка-Каталіцкай царквы, мітрапаліт Галіцкі й арцыбіскуп Львоўскі ў 1901—1944 гг.

[28] **Анатоль Кузьняцоў** (рас. *Анатолий Кузнецов*, 1929—1979), расейскі савецкі пісьменьнік, які ў 1969 г. выехаў у творчую камандыроўку ў Лёндан і не вярнуўся ў СССР.

[29] **Аркадзь Белінкоў** (рас. *Аркадий Белинков*, 1921—1970), расейскі савецкі пісьменьнік, літаратуразнаўца, які ў 1968 г. скарыстаў паездку ў Вугоршчыну, каб зьбегчы на Захад.

На ўсякі выпадак авансам шлю мае найлепшыя калядныя й навагоднія зычаньні Самім ды ўсім нашым.

А[нтон] А[дамовіч]

Лёндан, 22.XII.1969

Дарагі Сп. Адамовіч,

перад хвілінай атрымаў Ваш мілы ліст і без зацяжкі на яго адказваю.

Запрашаю Вас ад самога сябе і ад імені іншых затрымацца ў нас столькі часу, сколькі яго будзеце мець да ўласнай дыспазыцыі. Нашыя хлапцы маюць вольны час і таму да іхняга павароту маемо шмат мейсца, бо ажно два дамы да Вашай дыспазыцыі!

Калі-б мы дакладна ведалі, калі Вы прыляціцё ў Лёндан, пастараліся-б Вас спаткаць. Калі, аднак, дзеля якіх-колечы прычын ня зможам Вас спаткаць, дык — калі ласка — прыяжджайце да нас самі. Напэўна давязе Вас аўтобус зь лётнішча ў цэнтр гораду, а адтуль таксі або падземкай едзьце проста да нас. На ўсялякі выпадак падаю Вам станцыю нашай падземкі:

*Woodside Park Station* — а даезд да яе з *Leicester* або з *Tottenham Court Rd.* беспасярэдні, толькі трэба ўзяць цягнік, які ідзе ў *Barnet* (*High Barnet Line*).

Мне абяцаў др. [Вітаўт] Кіпель[30] прыслаць фільм некаторых кніжок зь Ньюёрскай бібліятэкі. Можа ўжо гатовыя і можа Вы змаглі-б іх прывезьці?

Пакрысе пачынаюць прыходзіць складкі-ахвяры на куплю дому для бібліятэкі й музэю. У Богу надзея! Калі сустрэнемся, дык пагутарым аб усім.

Прыміце найшчырэйшыя Калядныя пажаданьні і прывітаньні для сябе і для Вашых сяброў, асабліва для сп-ні [Яніны] Кахаоўскай[31], для др. [Янкі] Запрудніка і ўсіх іншых.

Чакаемо Вас у Лёндане.

З глыбокай пашанай і любоўю

Чэслаў Сіповіч

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

[30] **Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі. З 1955 г. жыве ў ЗША. Працаваў у Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы.

[31] **Яніна Каханоўская** (дзяв. **Шабуня**, 1905—2005), грамадзкая дзяячка, пляменьніца Івана й Антона Луцкевічаў, жонка А. Калубовіча (Каханоўскага).

*Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны*
*Эміграцыйны эпісталярый*

# ЛІСТЫ ЯК ДАДАТКІ ДА БІЯГРАМЫ: КАДУШКА-АМОР-СПАЛІЧ

*Сярод беларускіх эмігрантаў часу Другой сусьветнай вайны было ці мала асобаў авантурных, гатовых удзельнічаць у рызыкоўных праектах, шукаць сябе ў далёкіх экзатычных краінах. Даволі часта гэта былі людзі зь беларускай сьведамасьцю, што яркімі зьнічкамі праносіліся па нацыянальным жыцьці ў той ці іншай краіне ў пошуках свайго месца, каб урэшце назаўсёды абарваць кантакты з суродзічамі: Альбэрт Асоўскі, Тодар Цімафейчык, Якуб Амор... Гэтыя маладзёны былі актыўныя ў эўрапейскім беларускім жыцьці другой паловы 1940-х — пачатку 1950-х, пасьля чаго амаль бясьсьледна зьніклі з нацыянальных даляглядаў. І толькі паасобныя лісты з далёкага далёка, што захоўваюцца ў архівах Скарынаўкі, могуць дапамагчы аднавіць кавалкі іхных авантурных жыцьцяпісаў.*

*Тут мы спынімся на апошнім са згаданых герояў. Нарадзіўся ён як Кастусь Кадушка, паводле захаваных зьвестак, 11 чэрвеня 1925 г. на Дзісеншчыне. Пад канец нямецкай акупацыі паступіў у Менскую афіцэрскую школу БКА, зь якой быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі пры СС. Відаць, менавіта там пазнаёміўся зь іншымі пазьней актыўнымі лёнданскімі беларусамі: Алесем Бочкам (будучым айцом Аляксандрам Надсанам) і Станіславам Яроцкім (на эміграцыі Мак). Разам яны ў Францыі ўцяклі да францускіх партызанаў, перайшлі на бок саюзьнікаў і трапілі ў 2-гі Польскі корпус. У яго шэрагах апынуліся ў Італіі, дзе яшчэ пасьпелі паваяваць супраць немцаў, а ў 1946 г. прыбылі ў Вялікабрытанію.*

*Разам з сваімі сябрамі Кастусь Кадушка, які яшчэ ў польскім войску зьмяніў сваё імя й прозьвішча на Якуб Амор, стаяў ля вытокаў беларускага жыцьця ў брытанскай сталіцы. Ён быў сярод ініцыятараў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, стаў адным з стваральнікаў і сталым аўтарам пэрыёдыкаў “Беларус на чужыне” й “На Шляху”. Належаў да Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, Беларускага незалежніцкага народна-хрысьціянскага руху, Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’яднаньня “Жыцьцё”.*

*Аднак маладая натура шукала больш актыўнай дзейнасьці. У 1952 г. Якуб Амор пакінуў Лёндан і Брытанію. Ён скіраваўся ў Нямеччыну, дзе праходзіў падрыхтоўку ў амэрыканскай школе выведкі*



Кастусь Кадушка-Амор. 1940-я гг.

*для ажыцьцяўленьня дэсанту ў Беларусь. Гэта менавіта ён пад кодавым імем Джым павінен быў ляцець у адной групе зь Цімохам Вострыкавым. Больш за тое, ён нават нейкі час разглядаўся на кіраўніка гэтай групы. Аднак Амор-Джым паводзіўся занадта незалежна й саманадзейна. Ён жадаў выступаць не як амэрыканскі агент, а як прадстаўнік БНР. Напярэдадні адпраўкі ў Беларусь у яго ўзьнік канфлікт з амэрыканскім кіраўніцтвам, у выніку чаго маладзён быў арыштаваны й неўзабаве мусіў тэрмінова пакінуць ня толькі Нямеччыну, але й Эўропу.*

*Згаданая частка біяграфіі Кадушкі-Амора, зьвязаная зь Нямеччынай, стала ведамая адносна нядаўна (ужо ў XXI ст.), з публікацыяў дасьледніка Антона Рудака, заснаваных на рассакрэчаных дакумэнтах архіваў ЦРУ. Аднак далейшы лёс гэтага героя заставаўся фактычна няведамы. Некаторыя дэталі яго магчыма аднавіць на падставе зьмешчанага ніжэй ліставаньня.*

*Пры канцы кастрычніка 1954 г. айцец Чеслаў Сіповіч у Лёндане атрымаў першы ліст за подпісам Віктара Спаліча і з бразыльскай зваротнай адрэсай. Гэтак даў знак па сабе той самы Кадушка-Амор.*

*У захаваным у архіве біскупа Чеслава Сіповіча ліставаньні, якое датуецца 1954—1955 і 1959—1960 гг., згадваюцца некаторыя абставіны й эўрапейскага, і бразыльскага жыцьця нашага героя. Высьвятляецца, што ён задумоўваўся над вяртаньнем у Эўропу, што актыўна цікавіўся падзеямі беларускага жыцьця, атрымоўваў газэту "Бацькаўшчына" й нават апублікаваў як мінімум адзін артыкул на яе старонках у 1955 г. пад псэўданімам А. Лазука. Віктар Спаліч працаваў у джунглях у штаце Парана (Paraná), а ў 1959 г. у Сан-Паўлу ажаніўся з Кацярынай Аляксеевай (пра што ведама з дасланага а. Сіповічу запрашэньня на вясельле).*

*Захаваныя лісты адлюстроўваюць і асаблівасьці характару Спаліча, і яго ўзаемадачыненьні з айцом Чеславам Сіповічам ды іншымі беларусамі. Шмат гавораць яны й пра самога айца, пра беларускае жыцьцё ў Брытаніі ды Эўропе 1950-х. На жаль, ліставаньне перапыняецца ў 1960 г. Аднак ад айца Аляксандра Надсана ведама, што біскуп Сіповіч сустракаўся з Спалічам у часе свайго наведваньня Бразыліі ў 1960-х. Недзе пасьля таго сьлед гэтага авантурнага беларуса губляецца. Праўда, ведама, што ён меў ліставаньне й з самім айцом Аляксандрам, сваім даўнім сябрам, і гэтая карэспандэнцыя пакуль ня выяўлена. То ў дасьледнікаў ёсьць прастора для пошукаў і адкрыцьцяў новых дэталяў да біяграфіі Кадушкі-Амора-Спаліча.*

*Sur. Victor Spalicz*
*Av. N/S Copacabana,*
*Nr. 685, apt. 702*
*Rio de Janeiro*
*Rio,* 1.10.1954

Вельмі Паважаны Айцец,

пасылаю Вам маё гарачае прывітаньне. Надзеюся, што жывеце добра.

Буду вельмі Вам удзячны, Айцец, ежалі зможаце прыслаць мне ўсю беларускую прэсу, якую толькі зможаце. Наогул, прашу прысылаць матэр'ялы, якія дапамогуць мне зар'ентавацца ў нашым нацыянальным жыцці. Прашу таксама напісаць, як маю Вам уплачываць належнасьці.

Мой брацкі пацалунак Алесю Н[адсану]. Ветліва прашу даць яму мой адрас з просьбай, каб ён мне напісаў.

Уважаю, Айцец, што пакуль што будзе разумным, каб Вы, апрача Алеся (яму перадайце тожа самае) зь нікім не дзяліліся весткай атрыманьня лісту ад мяне.

Маю надзею, што мой характар пісьма не зьмяніўся, нягледзячы, што вышэй зьмянілася, прашу параўнаць, маеце мае рукапісы ў архівах "Б[еларус] на Ч[ужыне]" і той маленькі фэльетон, што я пісаў на "Дзень Маткі".

Прашу пісаць. Пасьля напішу Вам больш.

Няхай жыве Беларусь!

Няхай жывуць незалежныя душы!

(Думаю, што ў мяне — адна зь іх.)

З глыбокай пашанай,

Віктар [Спаліч]

P. S. Вельмі Вас прашу, Айцец, напішыце мне дакладна, якая вэрсія існавала і існуе на маё конта. Гэта мне трэба ведаць. Наступна дакладна мне апішыце, ці жывы Алесь [Надсан], як яго здароўе, што робіць, ці закончыў студыі. Кім-бы і якім-бы ён ні быў, я ўважаю яго за найбольш дарагога мне чалавека. І таму, Айцец, прашу Вас, пішыце аб ім усю праўду, уключаючы аб яго дрэнных навыках.

Прашу таксама, каб Алесь [Надсан] успомніў мне, як залагодзіў адвакат маю належнасьць Врублеўскай. Грошы яму былі перасланы з Швайцарыі.

Дзякую.

Лёндан, 5.10.54

Дарагі Віктар,

сяньня атрымаў твой ліст. Пару хвілін дызар'ентацыі, хаосу ў галаве... Пасьля ўсё прыпомнілася, і той "апошні" дзень у садзе ў *Marian*

*House*, і той крыжык, што Ш[ура] вешала Табе на шыю. — Не маю дастаткова моцы высказаць той радасьці, якой напоўнена мая душа на вестку ад цябе. Але ты прагнеш вестак, як алень вады. Пачну ад таго Алеся [Надсана].

Ён скончыўшы Лёнданскі ўнівэрсытэт (матэматычны факультэт), выехаў у Рым і вучыцца на сьвятара. Ужо мае за сабой адзін год студыяў філязофіі. Жыве ў грэцкай калегіі, а вучыцца на слаўным унівэрсытэце *"Gregorianum"*. Ад таго часу, калі апошні раз мы сустракаліся, я аб Алесю нічога дрэннага не магу сказаць. Ён усьцяж расьце інтэлектуальна і духова, і я пэўны, што ён ня раз за цябе маліўся. Цяпер на тым самым унівэрсытэце трох беларусаў: Кастусь Маскалік, Янка Садоўскі і Алесь [Надсан]. За тыдзень часу я выбіраюся ў Рым і там спаткаюся з усімі. З Алесем парушу справу, закранутую ў Тваім лісьце адносна Врублеўскага спадку. Як гэта справа выглядае, я ня ведаю.

Пілецкі[1] ажаніўся з амэрыканскай *J. Dallenberg* і маюць ужо дзіця. Каця Янцэвіч[2] перадучора вылецела ў Зл[учаныя] Дз[яржавы] А[мэрыкі] да свайго мужа [Лявона] Вініцкага[3]. Зь ей разьвіталіся ў *Marian House*, як з каралевай. Яна жыла апошнім часам у доме Шуры і шмат памагала мне ў працы.

---

[1] **Янка Пілецкі** (да эмігр. **Браніслаў Курага-Скрага**, 1906—?), грамадзкі дзеяч. У 1936 г. выехаў у Францыю, аднак ня здолеў уладкавацца на працу й перабраўся ў Гішпанію. Праз тры гады зноў вярнуўся ў Францыю, працаваў на сельскагаспадарчых плянтацыях і фэрмах. У 1944 г. перабраўся ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане, дзе ўладкаваўся перакладчыкам. Быў старшынём Лёнданскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Аўтар артыкулаў у брытанскіх беларускіх пэрыёдыках. У 1956 г. разам з жонкай выехаў у БССР. Жыў у Менску. Працаваў рэфэрэнтам-перакладчыкам у Акадэміі навук БССР. Аўтар кнігі "Восем год у нацыяналістычным балоце" (Менск, 1958), прысьвечанай жыцьцю ў Лёндане і ўдзелу ў нацыянальных арганізацыях.

[2] **Кацярына Вініцкая** (дзяв. **Янцэвіч**, нар. 1929), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыла ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце. У 1947 г. прыбыла на працу ў Вялікабрытанію. Была сябрай Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1950 г. — сябрай Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У пачатку 1950-х гг. выехала ў ЗША. Узяла шлюб зь Лявонам Вініцкім. Пасялілася ў Каліфорніі (ЗША).

[3] **Лявон Вініцкі** (1923—1993), грамадзкі дзеяч, сын Алеся Вініцкага. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. З 1949 г. вучыўся на факультэце палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія). Уваходзіў ва ўправы Беларускага студэнцкага згуртаваньня й Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1950-х гг. выехаў у ЗША. Жыў у Лос-Анджэлесе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу.

У Лювэн[е] шмат хто закончыў студыі: [Аляксей] Арэшка, [Янка] Запруднік, [Уладзімер] Цьвірка, [Алесь] Марговіч[4]... [Тодар] Цімафейчык[5] будзе гуляць сваё вясельле 17 г[этага] месяца з галяндкай. Тодзік Мазура моцна хварэў. Ён ня скончыў вышэйшых студыяў. Пераехаў цяпер у Лёндан і жыве разам са мной. На днях быў тут Часлаў Кукель, наша сонца, які студыюе ў Бонн[е] і быццам канчае філязофію. Праз цэлы год жыў тут такжа др. В[ітаўт] Рамук.

Аб грамадзкіх справах шмат пісаць ня буду, бо высылаю табе газэты і часапісы, зь якіх аб іх даведаешся. З большых асягненьняў хіба апошняга часу трэба лічыць перадачы ў беларускай мове з радыёстанцыі *“Liberation”*[6]. На чале бел[арускага] сэктару ёсьць той самы праф. Жук-Гр[ышкевіч]. Тамжа працуе [Пётра] Сыч, [Янка] Ліманоўскі[7] і інш. Нядаўна знайшлі ў Мюнхэне ў рацэ ўтопленага з пабітай галавой [Леаніда] Карася[8], які быў сьпікарам і тлумачом у тымжа радыё. Хто яго і за што забіў, няма вестак.

---

4 **Алесь Марговіч** (1927—1967), журналіст, грамадзкі дзеяч, выдавец. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхэльсдорфе заснаваў выдавецтва “Крыніца”, дзе выходзіў часопіс “Напагатове!”. Сябра “Дванаццаткі”. З 1950 г. вучыўся ў Лювэне. Скончыў факультэт паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхэне і ў беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне / Свабода”.

5 **Тодар (Хведар) Цімафейчык** (1924—?), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, адтуль трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію пры СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, трапіў у 2-гі Польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. У 1950-х гг. выехаў у Бэльгію. Вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. Быў стваральнікам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў у Бэльгіі. Па сканчэньні навучаньня выехаў у ЗША, дзе спыніў кантакты зь беларусамі.

6 **Радыё “Вызваленьне”** (сёньня радыё “Свабода”) — створаная Амэрыканскім камітэтам вызваленьня й Каардынацыйным камітэтам антыбальшавіцкай барацьбы ў 1953 г. у Мюнхэне радыёстанцыя антыкамуністычнай скіраванасьці, дзе была й беларуская рэдакцыя. Сёньня радыё працуе з Прагі (Чэхія).

7 **Янка Ліманоўскі** (1896—1989), пісьменьнік, літаратуразнаўца. З 1949 г. жыў у Чыкага. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. У 1952 г. выехаў у Нью-Ёрк. Быў сябрам Рады БНР. У 1952—1954 гг. — дырэктар БІНіМу. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхэн для працы ў беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне”, аднак працаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Праз канфлікт з В. Тумашам адышоў ад БІНіМу. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. З часам абарваў кантакты зь беларусамі.

8 **Леанід Карась** (1923—1954), грамадзкі дзеяч, журналіст. Вучыўся на аграномічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. У пачатку 1954 г. пера-

Маёй цяпер найвялікшай заботай купіць *Marian House*. Я павінен сабраць 8000 анг[ельскіх] фунтаў. Справу зборкі грошы распачаў. Туга, але пасоўваецца справа наперад. Калі ты якую ахвяру меў змогу прыслаць, дык буду ўдзячны. Якім спосабам? Можа проста на маё конта ў *Lloyds Bank Ltd., North Finchley Branch, 841, High Rd., London, N.12*. Даляры можна ў Англію пасылаць і лістом, ня ведаю толькі, ці дазволіць тая дзяржава, у якой ты цяпер жывеш. Яшчэ, здаецца, не зачынена і тваё конта ў успомненым вышэй банку. Там пару грошы ёсьць і варта было-б, каб ты іх пераліў на маё конта, пішучы на маё імя ўпоўнаважаньне. Шура са Швайцарыі ніколі ніякіх грошы не атрымала. Калі ты іх высылаў, дык не дайшлі. Дык бывай здаровенькі. Цалую цябе.

Твая Барада

*Rio,* 11.10.54

Дарагі Айцец,

вялікае ура і шчырая падзяка! Цешуся як дзіцё, што атрымаў Ваш ліст. Посьле трох год, ды яшчэ якіх! Тры гады — гэта настаяшчы кусок. Тым болей што фізычная структура матэрыі гэтага куска даволі няцікаўная. Фактычна-ж мо' нават цікаўная, залежа празь якую прызму яго разглядаць.

Да справы; "Шурай" я часта меў дрэнную прывычку называць Алеся [Надсана]. І мова ў маім лісьце была аб ім. З Швайцарыі грошы былі перасланы майму адвакату ў Лёндане (той самы, што рабіў мне перавод спадку Врублеўскага). Пры перасылцы грошай я яго паінфармаваў, што Алесь [Надсан] можа дапамоч яму інфармацыямі, ежалі справа перадачы спадку ў Саюз аказацца запутанай (у той час мне сказалі, што хтосьці з Савецкай амбасады пытаўся пра гэтыя грошы, праўда?).

Адносна майго конта ў *Lloyds*; я ня думаю, што там асталіся грошы. У пачатку гэтага году (люты) я пераказам цераз *Express* выбраў адтуль 180 долараў. Аднак прашу, праверце. Ежалі там штосьці ёсьць, то зь вялікай прыемнасьцю перакажу на Вас.

Ваш ліст з маліцьвенікам яшчэ маю, як і крыжык Шуры. Прывітайце яе ад мяне. Чаму яна ня выходзіць замуж?

Каце-каралеўне маё шчырае пажаданьне: 6 маленькіх беларусікаў.

Што Жук[-Грышкевіч], як і горкая цыбуля Пятрусь [Сыч] працуюць у радыё, гэта мяне вельмі цеша. Прашу, прышлеце мне іх адрасы. Мо напішу да Петруся, аб гэтым яшчэ буду думаць.

---

ехаў у Мюнхэн, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне". Загінуў пры нявысьветленых абставінах — цела з адзнакамі катаваньняў знайшлі ў рацэ Ізар. Паводле адной з вэрсіяў, да гэтага мела дачыненьне савецкая выведка.

Адносна Алеся [Надсана] я вельмі цешуся. Завідую яму ў гэтым, што ён знайшоў самога сябе. Я да гэтага яшчэ не дайшоў. Увесь час шукаюся. Я вельмі жадаю навязаць зь ім лучнасьць. Магчыма, што яго малітвы мяне спасьлі.

Думаю, што ў Мюнхэне нойдуцца беларусы, якія яшчэ не зусім падляцы і якія адамсцяць за сьмерць [Леаніда] Карася.

Я, Айцец, вярблюд неабыкнавенны, — у мяне тры гарбы. З Вашага першага лісту я запоўніў толькі адзін і надалей прагну навасьцей. Прашу, пішэце больш. Мяне цікавіць усё, уключна да *“інтэлектуальных як і фармальных ламаных цераз БННХР, Фонд і т. п. з даты тры гады назад”*.

Я толькі цяпер вярнуўся ў *Rio* і зь места адпісваю Вам. Сяджу тут на *Copacabanie*[9], абліваюся потам і кляпаю на гэтай машынцы. Тры месяцы я правёў у інтэрыёры[10]. Стараўся наладзіць некаторыя імпрэзы, якія-б давалі мне даход, каб быць тут “белым”. Як да гэтага часу затраціў дзьве тысячы ам[эрыканскіх] долараў і чуць пасьпеў сесьці на самалёт, каб вярнуцца сюды. Аб гэтым буду пісаць Вам потым.

Прэсы Вашай я не атрымаў. Прашу, прышлеце зноў. Як Вам плаціць, ня ведаю. Буду думаць і напэўна штосьці выдумаю. То, што зможаце, прашу прысылаць мне рэгулярна.

Маю надзею, што Вы ўжо ў гэты час находзіцеся ў Лёндане і зможаце мне хутка адказаць на гэты ліст. Прашу вельмі.

Прабачце за некаторую суматоху і памылкі ў гэтым лісьце. Я яшчэ ня зусім ачухаўся з майго падарожжа і спраў, зьвязаных зь ім. Ня чакаючы на Ваш адказ, буду пісаць Вам зноў.

Яшчэ раз прашу, пішэце хутка і шмат.

З глыбокай пашанай,

Ваш Віктар [Спаліч]

Справу пакупкі Вашага Дому прыймаю да сэрца. Буду старацца дапамоч.

Пішэце!!!

Лёндан, дня 23.11.1954

Даражэнькі Віктар,

калі ты не памыліўся ў даце, дык трэба лічыць, што апошні твой ліст з дня 11.10.54 ляцеў у Лёндан цэлы месяц. Значыць, пошта курсуе ня так, як нам хочацца…

У Рыме прайшло ўсё вельмі ўдачна і міла. Алесю [Надсану] расказаў аб табе. Ён вельмі быў рады, што ты жывеш і нас не забываеш.

---

[9] **Капакабана** (парт. *Copacabana*) — пляж і аднайменны раён гораду Рыа-дэ-Жанэйра.

[10] ***Interior*** (анг.) — нутраныя раёны краіны, глыбінка.

Абяцаў табе хутка напісаць. Магчыма, ты ўжо зь ім скантактаваўся. Ён трымаецца вельмі добра. Вы абое крыху вар'яты, і я заўсёды пабаіваюся, што возьмеце нейкі рэзкі зварот на жыцьцёвым шляху. Цяпер Алеся ўсе хваляць за яго розум, пабожнасьць. А я баюся, каб ня быў запабожны і заразумны... Аднак я ў душы люблю такіх тыпаў. Тое сярэдняе, летняе, што ня мычыць ня целіцца, не падабаецца мне. Аднак годзе філязофіі, ты просіш вестак.


Віктар Спаліч.
Бразылія, 1950-я гг.

Аб шмат кім і чым тут у Лёндане ўжо і паміну няма, што тры гады таму назад было актуальным. Да такіх належаць успомненае табой БННХР і Фонд. Цяпер больш ад году [Алесь] Лашук як прыватная асоба, або *"Кальпартэр бел[арускай] прэсы",* рассылае газэты і прадае кніжкі і беларускія грамафонныя пліткі, якія найгралі студэнты нашы ў Лювэн[е].

Найвялікшай арганізацыяй надалей астаецца ЗБВБ. Яно мае ўжо 3 дамы: у Лёндане, Брадфорд[зе] і Манчэстэр[ы]. Мае тож даўгі, але як дагэтуль неяк іх сплачвалі. Старшынёй цяпер ёсьць П[авал] Навара[11]. Заступнікам др. [Вітаўт] Рамук, секрэтаром [Павал] Асіповіч[12], у сяброх [Пятро] Дварэцкі[13] і я. На жаль, др. [Вітаўт] Рамук надалей ня мог астацца ў Лёндане, бо скончалася яго віза і ня мог тут атрымаць працы ў сваім фаху.

Другой арганізацыяй, што дыхае і рухаецца, — камбатанты. Там Галавой Курыла[14], а пружынай [Алесь] Лашук. Што яны робяць, я мала

---

[11] **Павал Навара** (1927—1983), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса. З 1947 г. жыў у Лёндане. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі й рэгулярна абіраўся ў галоўную ўправу арганізацыі. У 1954 г. быў адным з ініцыятараў стварэньня Англа-беларускага таварыства. У Галоўнай управе ЗБВБ часта абіраўся на пасаду старшыні, а таксама доўгі час у 1970-я гг. быў сакратаром арганізацыі.

[12] **Павал Асіповіч** (1923—1997), грамадзкі дзеяч. Жыў у Лёндане, быў доўгагадовым скарбнікам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, беларускім прадстаўніком пры Эўрапейскай групе сувязі.

[13] **Пятро Дварэцкі** (1922—?), грамадзкі дзеяч. З 1946 г. — у Вялікабрытаніі. Пасля дэмабілізацыі з 2-га Польскага корпусу ў Лёндане атрымаў спэцыяльнасьць тэхніка-дантыста. Быў сябрам ЗБВБ. Цягам 1950—1956 гг. рэгулярна абіраўся на пасаду сакратара Лёнданскага аддзелу арганізацыі. Быў адным зь першых ахвярадаўцаў на Беларускі дом у Лёндане, у якім потым жыў і быў адным з арганізатараў дантыстычнай майстэрні. У 1956 г. зьехаў у ЗША.

[14] **Уладзімер (Уладыслаў) Курыла** (1922—?), грамадзкі дзеяч. У 1946 г. як жаўнер 2-га Польскага корпусу прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам

ведаю, бо ад нейкага часу гэты[я] сябры адносяцца да мяне зь вялікім недаверам. Яны также страшэнна ня любілі [Алеся] Надсона. Зрэшта, можаш дагадвацца, чаму.

Зусім табе нязнанай арганізацыяй ёсьць Беларускае Акадэміцкае Каталіцкае Аб'яднаньне "Рунь". Толькі тры гады яно існуе, але шмат зрабіла. Старшынёй яе былі [Алесь] Надсон, [Вітаўт] Рамук, цяпер [Язэп] Пазьняк[15]. Гэта арганізацыя кожнага году ладзіць Тыдні Студыяў, Зьезды. Як дагэтуль праца йшла вельмі добра і яна заняла ў *Pax Romana* — няйвялікшая міжнародная арганізацыя — належнае мейсца. Лік сяброў гэтай арганізацыі невялікі, але Бог памагае і праца ідзе. Наступны год праектуем мець Тыдзень Студыяў і агульны Зьезд у *Marian House*.

Помніш Віцю Сенкевіча? Ён цяпер у Мадрыцкім унівэрсытэце на другім годзе гісторыі. Тамжа і Янка Сурвілла канчае ўнівэрсытэт. Былі там перш [Часлаў] Кукель і [Генрык] Юзэфовіч, але цяпер яны ў Бонн[е].

Канчаю і чакаю ад цябе вестак. Напішы аб сваей Адысеі. Там у Бразыліі ёсьць беларусы, і можа ты іх пачаў арганізаваць: Галка Дымітры[16], *c/o Srg. I. Wlasenko Ao. Cuidado Nestor Bulek Koreio Portao Curitiba — Parana, Brazil*. Тамжа ёсьць недзе дзядзька [Тодара] Цімафейчыка. Также сябра [Францішка] Бартуля[17] (латыш, але гутарыць па-беларуску):

---

Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Меў спэцыяльнасьць тэхніка-дантыста й стаў адным з заснавальнікаў дантыстычнай майстэрні ў Беларускім доме ў Лёндане. Выконваў таксама абавязкі адміністратара Беларускага дому. Быў адным з ініцыятараў стварэньня і старшынём Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. З 1954 г. жыў у Нью-Ёрку, быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

[15] **Язэп Пазьняк** (да эміграцыі **Вайніловіч**, 1925—1989), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Пазьней уступіў у шэрагі Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. У 1951 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Вывучаў інжынэрыю ў Лювэнскім унівэрсытэце. У 1954 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Тут уваходзіў у Галоўную ўправу ЗБВБ, а таксама ў кіраўніцтва Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'яднаньня "Рунь". У другой палове 1950-х гг. выехаў у ЗША. Быў старшынём Нью-Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Меў уласны бізнэс — мэханічную майстэрню.

[16] **Зьміцер Галка** (1917—?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. З 20.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, належаў да акруговага аддзелу ў Ковэнтры. У пачатку 1950-х гг. выехаў у Бразылію.

[17] **Францішак Бартуль** (1918—2005), грамадзкі дзеяч. Перад Другой сусьветнай вайной жыў у Латвіі. У 1944 г. закончыў Віленскую беларускую настаў-

*dr Endmund Juskievics, Seminario S. Thereza, Rua do Sodre — 25 Salvador (Bahia).*

Прывет. Твой

[Часлаў Сіповіч]

*Sr. Victor Spalic* — або штосьці іншае.
*Avenida N.S. Copacabana — "NS"* азначае
*Nossa Genhora. Copacabana* — найбольш
раскошнае месца Лацінскай Амэрыкі.
*Nr. 685* — самы цэнтр *Copacabany*. Апартамэнт 702 —
найлепшае памешканьне ў гэтым доме з вокнамі,
выходзячымі на мора, адлегласьць да мора 50 мэтраў.
І ўсё гэта па-беларуску — гаўно.
*Rio*, 30.11.54

Дарагі Айцец,

у маім апошнім лісьце я памыліўся з датай на цэлы месяц. Прабачце. Хоць да гэтага часу я рабіў большыя памылкі, аднак за гэтую мне прыкра. Не магу-ж падрываць аўтарытэт краіны, дзе такі ідэальны парадак, што нават прэзыдэнты паляць сабе ў ілбы[18].

Дзякую Вам за хуткі адказ і за ўсе весткі. Алесь [Надсан] заразумным ня станецца, проста таму, што ён дастаткова разумны, каб ня стацца заразумным. Мне-ж рэзкі паварот у жыцьці не ўгражае. Што можа быць больш рэзкае, чымся ўсё тое, што я перайшоў за апошнія пару год?

Прэсу Вашую атрымаў. Паколькі магу зарыентавацца, найбольш значны прагрэс у нашым эміграцыйным жыцьці гэта ў Вас, Айцец. Прымеце маю шчырую гратуляцыю. То, што Вас некаторыя ня любяць — ежалі-б Вы ня былі сьвятаром, я пасаветаваў-бы Вам класьці на іх нялюбоў тое, што пачынаецца на букву х. Я прынамсі навучыўся за гэтых тры гады адну рэч — вялікае толькі тое, што пазытыўнае і стойкае. Вось гэта бачу ў Вас. Пазытыўнасьць Вашай працы, як і яе стойкасьць, не падлягае дыскусыі. Сёньня я даў-бы шмат, каб быць на месцы Алеся [Надсана].

Я пабываў шмат дзе. Сабіраў паклоны высока пастаўленых людзей і таксама аплявухі хуліганаў і дуракоў. Пасмакаваў роскашы мястоў, аб якіх мне перш і ня сьнілася. Ды і сёньня на недастаткі не цярплю. І што-ж? Вялікая ерунда, Айцец. Я ня помню, калі я шчыра сьмяяўся.

ніцкую сэмінарыю, выехаў на эміграцыю, жыў у Нямеччыне й Італіі, з другой паловы 1940-х гг. — у Вялікабрытаніі, дзе стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. З 1957 г. — у ЗША, узначальваў Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб'еднаньне "Рунь" і Фундацыю імя П. Крэчэўскага (1982).

[18] Маецца на ўвазе самагубства прэзыдэнта Бразыліі **Жэтулью Варгаса** (*Getúlio Dornelles Vargas*, 1882—1954).

Маё жаданьне быць задаволеным з самога сябе не заспакоена. Прызнаюся, Айцец, я ня ведаю, як яго заспакоіць.

Раблю шмат рэчаў. Магу казацца са стараны вельмі актыўным і даволі *“promising”*[19]. Аднак у самай рэчы адчуваю нявыясьненую пасыўнасьць і абыякавасьць да ўсяго акружаючага. Маю надзею, што маё самапачуцьцё часовае, што гэта крызыс спавяданы перажыцьцямі і што вярнуся да нармальнага стану. У гэтым мне стыдна прызнацца. Пішу Вам шчырую праўду таму, што лічу Вас за сьвятара, як і за калегу.

Просіце, каб я напісаў Вам маю адысэю. Калісьці апішу, а мо ўбачымся, дык раскажу. Сёньня мне больш цікаўная праблематыка самога сябе. Ня ведаю, ці я выразіўся зусім ясна, аднак, думаю, зразумееце. Праблематыка не ў матэрыяльным жыцьці. Запрацаваць або забраць тое, што мне належыцца, я магу заўсёды. Гэтага я таксама навучыўся. Аднак тое, што вышэй, падкрэсьлена, асягнуць не магу. Вы чалавек стойкі і ня дрэнны псыхоляг. Ведаеце мяне дастаткова, хоць мая натура мае шмат супярэчнасьцяў. Ежалі зможаце мне дапамоч, буду вельмі ўдзячны. Чым і як, я ня ведаю.

Я прабаваў лячыцца; езьдзіў у джунглі *Mato-Grosso*[20], гдзе мыюць залаты пясок і камні. Там няма законаў — ёсьць толькі нажы і рэвальверы. У штаце *Sao Paulo* заснаваў курыную фэрму — чысьціў навоз, закапваў падохшых курэй, рэзаў жывых, рабіў ім прывіўкі. У джакейскім клюбе насіўся на дзікай кабыліцы, у аднэй зь лепшых камэрцыйных фірмаў вёў аддзел прапаганды, купляў і прадаваў жэмчугі і т. п. Нічога з гэтага ўсяго мяне не здавальняе.

Маю шмат знаёмых і ні аднаго калегі. Маю шмат прыгожых дзяўчат, якія пайшлі-б за мной на край сьвета, і ні адной зь іх не кахаю. Часамі хаджу ў найбольш раскошныя кабарэ, і ні ў адным зь іх мне не вясёла.

Так, Айцец. Сёньня Вы мяне не ўзналі-б. Паглядзеўшы на мяне, Вы хіба ўстрымаліся-б ад апініі. Алесь-жа сказаў-бы, што я шмат паразумнеў і спаважнеў. Мо яно і так ёсьць, ня ведаю.

На гэтым я закончу. У прышласьці напішу Вам больш пра гэтую краіну і пра маю адысэю. Ад Алеся [Надсана] я яшчэ нічога не атрымаў. Пакуль што да нікога больш не пісаў.

Хто ўжо ведае пра маё існаваньне? Якія там новыя вэрсыі?

Чаго доктар[21] паехаў у Канаду? Ці тая праца, што я запачаткаваў, скончылася? Як ідзе праца нашай сэкцыі пры *“Liberation”*, як Пятрусь [Сыч]?

З глыбокай пашанай

Ваш Віктар [Спаліч]

---

[19] ***Promising*** (анг.) — шматабяцальны, пэрспэктыўны.

[20] **Мату-Гросу** (парт. *Mato Grosso*) — штат у цэнтральнай частцы Бразыліі.

[21] Маецца на ўвазе Барыс Рагуля, які пасьля заканчэньня мэдычнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту пераехаў на сталае жыцьцё ў Канаду.

Лёндан, 8.12.1954
*Marian House*

Даражэнькі Ты мой вар'ят,

сяньня канчаю чацьвёрты дзясятак свайго жыцьця, заўтра пачне лічнік нябачнай рукой адлічваць наступную дзясятку. Сяджу адзін адзінокі і шмат, шмат аб чым задумоўваюся: каб гэта я мог яшчэ раз прайсьціся тымі шляхамі-пуцявінкамі, якімі йшлося, брылося, ляцелася, сьмяялася, плакалася і т. п. на працягу 40 гадоў.

Атрымоўваю твой ліст. Прачытаў яго пару разоў: *"Х, чаму-ж ты гэтак далёка? Ці-ж я магу высказаць, пераказаць тое, што жадаў-бы?"*

Тое, што ты бачыў і перажыў, павінна стацца капіталам, зь якога ты будзеш браць працэнты на ўсё жыцьцё, — працэнты пазнаньня самога сябе, пазнаньня другіх.

*"Маё жаданьне быць здаволеным з самога сябе не заспакоена".*

Людзі пышныя, пустыя, дурныя бываюць здаволеныя зь сябе. Я вельмі цешуся, што ты не ўлічаеш сябе да іх.

Але можа ты *"быць здаволеным з самога сябе"* разумееш інакш: аб запраўдным задавальненьні ўнутраным, аб духовай радасьці. У гэтакім выпадку праблема расьце і разрастаецца.

Пісаў калісь Давід кароль[22]: *"Хто-ж дасьць мне крыльля сапраўднае волі, каб паляцеў я да Цябе душою і супачыў у Табе?"*

А адзін пабожны і разумны аўтар манах жаліўся: *"Бо-ж шмат благіх налогаў сустракае мяне ў гэтай даліне нядолі, якія мяне часта засмучаюць і трывожаць і абыймаюць мяне быццам хмарай якой; часта затрымліваюць і адрываюць, маняць, нахіляюць, каб ня меў я вольнага да Цябе доступу, ды каб ня мог скаштаваць я салодкіх абоймаў Тваіх, якімі заўсёды карыстаюцца багаслаўленыя душы..."*

Прааналізуй добра гэты сказ: што засмучае і трывожа таго манаха?

Ідзі куды хочаш, рабі што хочаш, заспакайвай пачуцьці ўсялякімі роскашамі, але датуль супакою сэрца, радасьці ўнутранай ня знойдзеш, пакуль ня зьвернешся да таго, хто нас стварыў, хто нас пазначыў для сябе самога, даў сябе нам мэтай. І гэтым ён нас ня скрыўдзіў, бо ён найвялікшае дабро, прыгожасьць, ён адпаведнік нашай духовай натуры, якую матэрыя ня можа па сваёй прыродзе задаволіць.

*"Як паложанае ў вагонь жалеза губляе іржу і чыстым робіцца, гэтак і чалавек, калі ўсім сэрцам да Бога зьвернецца — траціць сваю недалужнасьць і становіцца новым чалавекам"* (Тамаш Кемпійскі[23]).

[22] Маецца на ўвазе **Давыд** (XI ст. да н. э.) — цар юдэйскі, бацька цара Салямона.

[23] **Тамаш Кемпійскі** (ням. *Thomas von Kempen,* каля 1379—1471), нямецкі сярэднявечны хрысьціянскі багаслоў.

Я маю вельмі прыгожыя дзьве рэчы (у рукапісах) а. др. Фабіяна Абрантовіча “Бог” і “Чалавек”. Я думаю, яны табе спадабаліся-б, толькі перш іх трэба выдаць друкам.

Дарагі! Ты падумай, ці не маглі-б мы зысьціся, сьціснуць рукі: Алесь, ты, я… ды пайсьці шляхам Божых вар’ятаў? Бывалі з Саўлаў Паўлы, з кадушкі можа быць штосьці лепшае, чым нават бочка…[24] У кожным выпадку шануй свае нэрвы і галаву, яны патрэбныя табе і нам.

Пішы аб усім. Ужо цяпер пасылаю Каляднія пажаданьні. Пасылаю на тваё імя падпісную лісту на *Marian House*. Хачу, каб тваё імя было ў маёй залатой кніжцы, на пацеху тваім і маім сябром, на злосьць дуракам… Твой цябе кахаючы

а. Ч[аслаў] Сіп[овіч]

*Rio*, 27.12.54

Дарагі Айцец,

дзякую шчыра за Ваш хуткі адказ і яшчэ большае дзякуй за яго зьмест.

Коляды ўжо прайшлі… Я мог толькі думаць, як прыемна было-б правесьці іх у Вашай грамадзе. Купляйце дом. Купляйце, каб падобныя бочкам і кадушкам мелі месца куды закаціцца ў такія хвіліны.

Я, Айцец, разумею, што Вы будуеце “Вашую” бацькаўшчыну. Прызнаю, што гэта вельмі разумная ідэя. Бацькаўшчына патрэбная кожнаму эмігранту. Ня ўсе могуць яе знайсьці, — я да гэтага часу не знайшоў. Вы-ж яе маеце, як і ўсе тыя, што пайшлі з Вамі.

Алесь [Надсан] мне піша, што духова ён чуецца добра. Што-ж больш патрэбнае ў жыцьці чалавека? Вашая будоўля патрабуе сапраўдных рыцараў. Як да гэтага часу маеце толькі аднаго кандыдата на рыцара — гэта Алесь [Надсан]. Хаця і ў ягоным выпадку ёсьць недахопы.

[Кастуся] Маскаліка я ня ведаю, аднак здаецца, што там ня шмат што ведаць. [Тодар] Мазура Вам славы не прынёс-бы. [Янку] Садоўскага можна навучыць, — і толькі. За [Язэпа] Пазьняка лепш не бярыцеся. Хто там у Вас яшчэ, дарагі мой палкоўнік? Мо Часлаў [Кукель]? Лепш пакінем яго Чэславам. А калі і не пакінем, дык усё роўна ён сам ім астанецца.

Магчыма, што я не дастаткова разумею Вашыя імкненьні? Адно мне здаецца, што для Вашай Бацькаўшчыны патрабуюцца людзі, якія могуць дзейнічаць больш, чымся маліцца.

Прабачце за характар гэтага лісту. Крытыкаваць Вашую дзейнасьць я ня маю права ды хіба і ня маю асноваў. Сьціснуць рукі і пайсьці шляхам Божых вар’ятаў звучыць прыемна, і таму толькі я дазваляю сабе на некаторыя заўвагі.

[24] Алюзія на сапраўдныя прозьвішчы Амора-Спаліча й Аляксандра Надсана.

Мне патрэбная ідэя і патрэбная дзейнасьць. Бяз гэтага я не магу жыць. Настолькі я сам не магу знайсьці ні першае, ні другое, то Вашая сугестыя здаецца быць якраз тым, чаго я шукаю. Вы, Алесь і я можам шмат што зрабіць. Нас траёх можа саставіць сілу большую ўсялякіх "Радаў". З праўдзівай ідэяй і з праўдзівымі людзьмі можна з камня выжмаць ваду. Вось гэта і ёсьць, што мяне найбольш цікавіць.

Я, Айцец, начынаю з таго, што дэкляряую Вам маю поўную шчырасьць. Рэзультат нашага будучага супрацоўніцтва і майго ўдзелу ў ім залежа ад Вас.

Не называйце мяне арагантным[25] і зашмат уверанымы у самога сябе. Гэта ня тое. Гэта тое, што часта гарыць полымем у маёй душы і кудысьці мяне нясе. Цану-ж самому сабе я ведаю.

Прашу, пішэце дакладна аб магчымасьцях майго ўступленьня ў сябры Вашай бацькаўшчыны; гдзе, калі, якія варункі, што зь мяне вымагаецца і т. п.

Пішэце хутка і нічога не прапускайце ўключна да магчымасьці пераезда, візаў і т. п. Будзьце ў гэтым выпадку вельмі шчыры так, як я ёсьць з Вамі.

Ваш Віктар [Спаліч]

P.S. Чаму Вы не хацелі зразумець мяне ў Лёндане? Мы змарнавалі тры гады!

Шчасьлівага Новага Году. Мо 55 прынясе мне тое, чаго я шукаю з 25.

Лёндан, *Marian House*
14 студня 1955 г.

Дарагі Кастусь,

праз цэлы ўчарашні дзень падаў сьнег, такжа ноччу. Уся В[ялікая] Брытанія пакрыта белым сьнежным пухам. Глядзіш праз акно і цешысься: вось наша беларуская зіма. Цішыня і чыстасьць у паветры. Дрэўцы быццам маладухі, калі бяруць шлюб. Ах, каб яшчэ ўдалы гняды ды санкі! Але ня гэтае найважнейшае ў сёньняшнім маім лісьце. Я маю адказаць Табе на шмат сутных пытаньняў, ад якіх будзе шмат залежыць так у маім, як і ў Тваім жыцьці. Добра ўсё перадумаўшы, памаліўшыся Богу за Цябе і сябе, адказваю наступна:

1-я форма супрацы:

Мой сябра К.К.[26] прыяжджае ў Лёндан, жыве ў *Marian House* мінімум год часу, пазнае глыбей хрысьціянства, каталіцтва, самога сябе, закон Марыянаў і ў ім ролю Марыянаў-беларусаў. Усё пазнаўшы,

---

[25] **Арагантны** (ад анг. *arrogant*) — напышлівы, пыхлівы.

[26] Алюзія на сапраўднае імя Амора-Спаліча — Кастусь Кадушка.

вырашае, што ён жадае стацца сьвятаром-Марыянінам. Тады адбывае далейшыя студыі, прынамсі праз чатыры гады. Пасьля закончаных студыяў вяртаецца ў *Marian House* і тут разгортвае дзейнасьць паводле сваіх здольнасьцяў, зацікаўленьняў і патрэбаў нашага народу. Гэтая форма супрацы вымагае: аставацца нежанатым і падпарадкаваць сваю волю той арганізацыі, каторая называецца Закон Айцоў-Марыянаў, якая ёсьць прызнана афіцыяльна найвышэйшым Аўтарытэтам Кат[аліцкае] Царквы і якая дае вялікія магчымасьці працы. Наш Закон дзейны, актыўны, навачасны. Пры пэўных перасьцяраганых умовах (шлюб чыстасьці) ён дае вялізарныя магчымасьці для працы культурнай, харытатыўнай, грамадзкай і т. п. 2-я форма супрацы:

Мой добры інтэлігентны сябра К.К. астаецца навонкі *Marian House*, зарабляе грошы на пражыцьцё і стараецца супрацоўнічаць ці то ў рамках ЗБВБ, ці "Руні", ці якой іншай арганізацыі. Гэта супрацоўніцтва ёсьць пажаданым і карысным, але ніколі ня зможа даць такіх вынікаў, якіх можам спадзявацца пры супрацоўніцтве, аб якім гаварылася вышэй.

Калі ты наважышся на першую форму супрацы, дык тады ня трэба траціць часу і параяжджай у *Marian House*, калі на другую, дык падумай, ці лепш нам працаваць разам у Лёндане, ці мо "падзяліўшы" тэрыторыі.

Я ўсё пішу шчыра, але ня ведаю, ці дастаткова ясна. Калі якія маеш сумнівы, дык неадкладна пішы. Скажу Табе яшчэ адно: нядаўна быў тут [Станіслаў] Мак, які цяпер робіць трэці год палітыкі і соцыёлёгіі ў Лювэне. Я кінуў яму думку аб сьвятарстве, і ён сказаў, падумае. Я думаю, калі-б Ты пайшоў на гэты шлях, дык і ён пайшоў-бы. Гэтак усе сябры: Алесь, Кастусь і Стась[27] спатkaліся-б, каб будаваць вялікую справу — справу рэлігійнага рэнесансу Беларусі і сьвету.

Напішы мне, як выглядае тваё матэр'яльнае паложаньне, асабліва гэта важна, калі-б ты вырашыў пераехаць сюды. Як-бы ня было, ашчаджай кожны грош, бо зь іх трэба зрабіць ужытак для вялікіх мэтаў. На *Marian House* я сабраў толькі £ 200, а патрэба £ 8000! Аднак я не падаю духам і спадзяюся паміма розных [...][28].

Лёндан, 17.2.1955

Дарагі,

чаму маўчыш? Спадзяюся, што ты мой апошні ліст атрымаў. Калі якія цяжкасьці маеш, дык пішы, будзем шукаць разьвязкі, аж покуль знойдзем.

У нас халадзішча: сьнег і мароз. Лопаюць трубы.

[27] Алесь Надсан (Бочка), Кастусь Амор (Кадушка) і Станіслаў Мак (Яроцкі) былі сябрамі з часу службы ў Арміі Андэрса.

[28] Канец ліста адсутнічае.

11.4.55 на другі дзень Вялікадня арганізую лотэрыю на *“Marian House”*. Надрукаваў 5000 білетаў па 6 пенсаў кожны, ну і ўсё-ж гэта трэба распрадаць. Той-сёй памагае, але больш ангельцы, чымся беларусы.

Нядаўна праз цэлы тыдзень жыў у *Marian House* Пятрусь Сыч. Надаеў яму Мюнхэн, але ён зь ім моцна living рознымі ніткамі зьвязаны. Пра Цябе не гаварылі.

Меў для ангельцаў пара разоў даклад на тэму: *“East and West”*[29]. Гэты самы даклад паўтарыў і для беларусаў. Вось мая будзёншчына. Часта маю хвіліны, калі мог-бы сьпяваць: *“Ні падзеліш зь нікім думак тут...”*[30]

Бывай здароў і пішы, бо ўжо пачынаеш мне сьніцца.

Твой

А. Часлаў [Сіповіч]

Парана[31], 11 *Mar*. 1955

Дарагі Айцец,

прабачце за маё, так выразіцца, “дэзэртырства”. Я пакінуў *Rio* блізка два месяцы таму назад. Выяжджаючы, я ня меў намеру аставацца доўга ў інтэрыёры. Аднак так зладжылася, што я засеў на некаторы час вось тут, у Паране.

Мне пераслалі маю караспандэнцыю з *Rio* і ў ей я меў прыемнасьці Вашыя два лісты.

Перадусім, Дарагі Айцец, я жадаю прызнацца, што ў мяне няма ўпэўненасьці адносна маіх кваліфікацыяў, каб пасьвяціцца ў духоўны стан. Думаю, што шмат рэчаў мне бракуе, а, што горш, яшчэ больш тых, якія хіба ў духоўны стан зусім не прыгодныя. Мой жыцьцёвы шлях на працягу апошніх пару год вёў па вельмі крутых абрывах, і гэта пакінула свой сьлед.

Я вельмі шмат думаў ды яшчэ і цяпер думаю над Вашай прапазыкай, — і я баюся каб не ашукаць — сябе ці то Вас.

Адносна-ж майго пераезду ў Лёндан з мэтай супрацоўніцтва на грамадзкай ніве хачу сказаць, што я ня ведаю, ці гэта было-б зусім разумна. Бачыце, тут у Бразыліі, гдзе-б я ні быў і што-б ні рабіў, я находжуся і маю намер находзіцца ў шэрагу першых — проста я ўжо пачаў тут на такіх рэйках. А помніце мой “быт” у Англіі, задоўжанасьць за Б[еларускі] Дом і т. п.?

---

[29] ***“East and West”*** (анг.) — “Усход і Захад”.

[30] Відаць, маецца на ўвазе папулярная на эміграцыі песьня “Зорачкі” на словы Сяргея Новіка-Пеюна, дзе ёсьць радок: *“Не падзеліш нават думак зь нікім тут...”*

[31] **Парана** (парт. *Parana*) — штат на поўдні Бразыліі.

Бязумоўна, Айцец, я маю вельмі вялікае жаданьне дапамоч нашаму агульнаму змаганьню, і сёньня мне сапраўды абідна на самога сябе, як і на некаторых нашых дзеячаў, што гдзесьці вядзецца гарачая праца, а я сяджу тут за сьветам, не прыкладаючыся пальцам да грамадзкай працы. Аднак я ня ведаю, што можна мне зрабіць у гэтым выпадку. Паехаць на злом галавы ў Нямеччыну? Будзе гэта разумным? Або, скажам, у Англію? Ці мая прысутнасьць там вельмі дапаможа? Ежалі так, то, калі ласка, пішэце — магу прыляцець першым самалётам.

Адносна Вашай трэцяй прапазыкі прашу пісаць, якую працу маеце на ўвазе. Ежалі змагу, то бязумоўна буду старацца зрабіць усё, што будзеце жадаць.

Находжуся ў Паране блізка месяца. Тут я зьвязаўся з аднэй амэрыканскай фірмай, якая занімаецца пастройкай электростанцыі. У радыюсе соткі кілёмэтраў ад нашага жылішча нічога абсалютна няма, кроме джунглі. Клімат тут вельмі прахладны параўнача да *Rio*, і маё самапачуцьцё тут значна лепшае. Як да гэтага часу ня ведаю, як доўга буду тут сядзець, хіба пакуль зноў ня спрыкрыцца за гарадзкім жыцьцём. У вольныя хвіліны тут можна занімацца вельмі цікаўнымі рэчамі, — джунгля мае сваю красату нягледзя на некаторыя рэчы, якія ў ей сапраўды апасныя. Насколькі яна не магучая, а ад пару-кілёвай закладкі ўзрыўчатага матэр'ялу астаюцца толькі шэрыя плямы.

Жадаю, Айцец, папрасіць Вас, каб Вы прыслалі мне адрас Пятруся [Сыча], як і [Вінцэнта] Жука[-Грышкевіча]. Абсалютна не разумею, чаму гэты — назаву яго па-сяброўску "падлец" — Пятрусь [Сыч] не жадае адклікнуцца. Ён-жа ведае мой адрас з "Бацькаўшчыны"!

Алесь [Надсан] не адказаў мне на мой ліст, вельмі мне сумна з гэтага поваду.

Надзеюся, што Вашая справа куплі Дому пасоўваецца наперад. На мяне можаце лічыць. Шмат не памагу, аднак крыху падкіну.

Як жыве Смалонскі[32], той, якога калісьці мы заправілі ў Лювэн? Якія там яшчэ навасьці? Я жадаў-бы, Айцец, каб Вы былі ласкавы пісаць мне крыху даўжэйшыя лісты.

Гэты ліст я высылаю цераз канцылярыю кампаніі ў *Curitibie*[33], і я ня ведаю, як хутка ён дойдзе да Вас.

Пішэце хутка.

Ваш

Віктар Спаліч

[32] Маецца на ўвазе Міхась Смалонскі.

[33] **Курытыба** (парт. *Curitiba*) — сталіца штату Парана.

24.III.1955, Лёндан

Даражэнькі,

дзякуй за ліст з Параны з дн. 11.3.55. Атрымаў яго ўчора, а чакаў на яго зь вялікай нецярплівасьцю, бо мучыла мяне думка, што з Табой штосьці здарылася нядобрага. Загнала цябе ў тую джунглю... Не ўспадзі толькі на нейкага тыгра ці іншага кацёнка! Можа, ты не паверыш, сколькі я за цябе перажываў! Мне ўсё здаецца, што ты жартуеш з жыцьцём, а яно ёсьць скарбам, якога за горы дыямантаў ня купіш. Дык прашу цябе, не наражайся на непатрэбныя небясьпекі, скуль-бы яны не паяўляліся.

Ты сумніваешся адносна духоўнага стану. Гэта знак розуму і аб'ектыўнасьці. Помні, аднак, што сьвятары — гэта не сьлямазары, дэвоты, цёплапечнікі. Возьмем для прыкладу Апосталаў, першых вучняў Хрыста. Простыя — але растаропныя; нявучаныя — але жадаючыя запамятаць кожная слова Хрыста. Калі чаго ня разумеюць, бунтуюцца, горшацца. Адзін раз Ісус сказаў да Пётра: *"Ідзі вон, сатана! Не разумееш мяне"*. А пасьля назначыў яго Старшынёй усіх Апосталаў і Царквы.

Жадаю сказаць: да сьвятарства патрэба не актуальнай сьвятасьці, а добрай волі. Сьвятасьць здабываецца паволі пры помачы Божай ласкі і працы над самым сабой.

Прашу толькі не баяцца недахопаў у навуцы. Іх дапоўніш. Вельмі мне падабаецца, што ты баішся ашукаць самога сябе і мяне. Але мы ў жмуркі гуляць ня будзем: хочаш, зможаш — дык дай Божа! Маеш час падумаць — думай і спрабуй на гэту інтэнцыю так, як умееш, памаліцца. Гавары да Бога, як да сваёй уласнай маці. Ён знае кожную тваю думку, кожны ўдар твайго сэрца. І ўсе добрыя намеры і думкі прыходзяць ад Яго. Я малюся за цябе штораз часьцей.

Добра, што ты там *"у шэрагу першых"*. Калі-б, аднак, ты мог, надалей астаючыся ў шэрагу першых, быць тут у Ангельшчыне ці ў Эўропе, мне здаецца, ты змог-бы больш прыслужыцца для Беларусі. Вось павер, тут няма цяпер чалавека, зь якім-бы я мог пайсьці ў ангельскую эліту. А дзьверы многа дзе мне адчыненыя. Шмат ад часу твайго выезду ў нас зьмянілася. За хвіліну пайду на абед у анг[ельскі] парлямэнт, куды запрасіў сп. Гербэрт[34]. Там маю спаткацца са сп. *Gore, M. P.*[35], Старшынёй Ангельска-Беларускага Таварыства; — а падобных нагодаў поўна. Трэба людзей, людзей. Ніколі ня буду радзіць табе туды ці сюды ехаць на

34 **Обэран Гэрбэрт** (анг. *Auberon Herbert*, 1922—1974), брытанскі арыстакрат, сябра брытанскіх беларусаў, доўгагадовы старшыня Англа-Беларускага таварыства.

35 **Дэйвід Ормсбі-Гор** (анг. *William David Ormsby-Gore*, 1918—1985), пяты барон Гарлек, палітычны дзеяч, дыплямат, сябра кансэрватыўнай партыі, у 1950—1961 гг. — сябра брытанскага парлямэнту.

злом галавы, але перадумаць усё і тады рабіць. — Смалонскі — нецікавы тып. Вучыцца ён добра, але што з таго? Няма надзеі, што чалавецтва ці беларусы будуць мець зь яго славу. — Пятруся С[ыча] адрас: [...] — Нядаўна ізноў дырэктар банку *Lloyds* пытаў мяне, што з Табой. Падпішы залучаны тут ліст і прышлі мне назад. Лепш зьліквідаваць конто, а як трэба будзе, яго заўсёды зможаш адчыніць. — Алесь Н[адсан] моцна хварэе на катар жалудка. Старое адбіваецца. Я за яго баюся. Ён чуць ня жыўцом лезе ў неба, але трэба-ж нам людзей і на зямлі. На *Marian House* патрабую грошы на зарэз. Пішы!

Твой

[а. Часлаў Сіповіч]

Парана, 11—4—1955

Дарагі Айцец,

дзякую шчыра за Ваш апошні ліст, — прабачце за некаторае запазьненьне ў маім адказе.

Я не магу пераслаць Вам упаўнаважаньне на маё конта ў *Lloyds* з наступнай прычыны (якая, ежалі не памыляюся, ведамая Вам з маіх папярэдніх лістоў). У лютым мінулага году, праежджаючы церазь Нямеччыну, я выбраў з амэрыканскага *Express'u* $ 180.00, падпісаўшы ім *"blanc"* чэк на маё конта ў *Lloyds*. Я ня ведаў і сёньня ня ведаю, якая сума там была і якая яшчэ находзіцца там сёньня; апрача тых грошай, якія я пакінуў у банку, выяжджаючы з Англіі, я яшчэ перасылаў на маё конта грошы зь Цюрыху прыблізна цераз год посьле майго выезду з Англіі. Грошы перасланыя мной з Швайцарыі павінны былі адвакатам (тым, што легалізаваў ЗБВБ[36]) быць перасланыя Врублеўскай цераз савецкую амбасаду ў Лёндане.

Як гэтая справа была залагоджана, я ўжо Вас пытаўся, — ня ведаю чаму Вы не жадалі мне адказаць (помніце, калі Вы Алеся прынялі за "Шуру"). Калі ласка, напішэце мне, як справа спадку Врублеўскага была залагоджана. Я меў весткі, што ў той час хтосьці з успомненай амбасады пытаўся пра тыя грошы ў ЗБВБ. Я ня думаю, каб гэтая справа была Вам няведамая.

Сума, перасланая з Швайцарыі, была значна большая, чымся спадак Врублеўскага. Аднак я ня ведаю, які быў афіцыяльны перавод франка да фунта і колькі адвакат пасчытаў за работу ў перадачы спадку.

Наступна, — ежалі на маім концe находзіцца поўная сума (у выпадку ежалі *Express* не рэалізаваў таго чэку, або што горш ежалі адвакат не пераказаў грошы Врублеўскай), то зноў-жа гэтыя грошы прынадлежаць першаму ці то другому.

[36] На дакумэнтах аб легалізацыі ЗБВБ стаяў подпіс лёнданскага адваката Стэфана Фарэна.

Прапаную наступную разьвязку, перасылаю Вам пісьмо да кіраўніка банку, у выніку якога, атрымаўшы рахунак, прашу пераслаць мне. Маючы дакладны выказ з датамі ўплат як і выплат, я зар'ентуюся ў становішчы майго конта і эвэнтуальна зраблю Вам пераказ на суму, якую буду ўважаць за маю ўласную. Магчыма, што *Express* не рэалізаваў мой чэк і не жадае рэалізаваць таму, што мае рахункі з тымі тыпамі даволі запутаныя, — яшчэ пытаньне, хто каму вінават і як шмат!

Бязумоўна, магу праверыць гэта, напісаўшы у *New York*, аднак лічу больш разумным перш атрымаць рахунак з банку.

Наступна гаворачы пра грошы (тэма ня зусім цікаўная), дазвольце, Айцец, запытацца Вас, як наш прыватны рахунак? Маю надзею, што сума £ 3.00.00, якая не хапала ў пераказе з *POSB*, гдзе я калісьці працаваў, да сумы £ 12.00.00, якую я Вам быў вінават, да гэтага часу ўжо палагоджана? Ежалі не памыляюся, яна была палагоджана надта хутка посьле майго ад'езда. Айцец, мне было-б значна прыямней быць Вам вінаватым, чымся даведацца, што Вы патрабавалі гэтую дробную суму ад [Барыса] Рагулі — гэта быў час, у які я сабіраўся на ня зусім бясьпечную прагулку, і тады мне было даволі сумна даведацца пра Вашую акуратнасьць у грашовых справах. *"Тры фунты? — гэта-ж фунты, рэальная манета, — Кастусь? Праўда, я напісаў яму прыгожае пісьмо, аднак хто ведае, як ён паконча?"*

Прабачце, Айцец, за вышэй успомненае, яно не павінна памяшаць у нашых сёньняшніх зносінах. Я ўспомніў гэта таму, што ў той час мне гэта вельмі забалела. Сёньня бальшыня маіх ранаў зажыла, а тыя адкрытыя чакаюць на адпаведны бальзам, які раней ці пазьней знойдзецца.

Успомненае пісьмо я маю яшчэ сёньня, дзякую за яго шчыра яшчэ раз, — я часта яго перачытваў. Між іншым, успомню Вам, што ў той час, калі ў мяне адбіралі літаральна ўсе прадметы ўключна да шнуркоў ад бацінак і саджалі туды, куды звук не праходзіць, гэтага лісту адабраць не змаглі, ён быў са мной! Гэта, Айцец, між намі.

Дзякую, што Вы за мяне моліцеся, — апошні тыдзень я чуўся ня зусім нармальна. Меў штосьці пахожае на малярыю. Аднак пачынаю вылізвацца, хоць маё сучаснае самапачуцьцё яшчэ ня вельмі цікаўнае. "Кацёнкі" ў джунглі ня страшныя, стралок зь мяне нядрэнны. Горш тое, што нельга застрэліць, як маленькія камары, некаторыя расьліны і паветра ў некаторых ушчэльях. Незалежна ад гэтага я пакахаў джунглі. Яшчэ тут пасяджу. Пра другія справы, больш важныя, буду пісаць, калі галава будзе больша нармальная. Пішэце хутка.

Ваш Віктар [Спаліч]

Лёндан, 15.4.1955

Даражэнькі,

дзякую за ліст з джунглі. Ліст твой перадаў кіраўніку банка, і ён сказаў, што за тыдзень перашле на мой адрас паказьнік твайго конта. На сяньня баланс твайго конта: £ 26—13—2. Гэта сказаў мне кіраўнік банку. Разумеецца, усё гэта надалей астаецца на тваім конто і да тваей дыспазыцыі, толькі ў іншых кніжках.

Ты пытаеш, як выглядаюць нашыя папярэднія парахункі. Думаю, што яны ў парадку. Тое, што цябе забалела мая пэдантэрыя адносна тых 3 фунтаў, цяпер я разумею. Бываюць сытуацыі, г[этак] наз[ываныя] *qui pro quo*. Тады, калі я асабіста, Б[еларускі] Д[ом], Алесь [Надсан] знаходзіліся ў вельмі крытычным матэр'яльным паложаньні, тут гаварылася, што А[мо]р у Нямеччыне расьпіўся, ня ведае, што рабіць з грашыма і падобныя нябыліцы. Як фактычна з А[мор]ам было, ніхто ня ведаў, але рагуляняты разьяжджалі па Англіі, калі жадалі, жылі ў дарагіх гатэлях, кідаліся грашыма. Гэта трывала, пакуль ня выступілі тут супроць гэтага. Іх паводзіны былі косьвенным доказам, што слухі аб табе, магчыма, праўдзівыя. — Як заладзілася справа Врублеўскага спадку, я ня ведаю. Ніхто: ані Алесь [Надсан], ані хто іншы мяне не інфармаваў аб гэтым.

Надовячы я атрымаў ліст з Зл[учаных] Д[зяржаваў] Амэрыкі. Там ёсьць значная група нашай інтэлігенцыі. Яны жадалі-б, каб я пад'ехаў, або нават і зусім туды пераехаў. Пад'ехаць я быў-бы рады, каб толькі скамбінаваць з грашыма, але на стала пераяжджаць туды не зьбіраюся. Можа за пара месяцаў маглі-б з табой спаткацца дзесьці ў Зл[учаных] Д[зяржавах]? Каб канчаткова вырашыць тыя справы, аб якіх мы распачалі перапісвацца, найлепш было-б спаткацца.

Апошнім часам шмат папрацаваў. 25 Сакавіка прайшло вельмі ўдала. Меці ў Б[еларускім] Д[оме] зборку, дзе я чытаў даклад з прасьвятленьнямі. Сп. *D. O. Gore, MP*, Старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства, зладзіў прыняцьце ў *Cavendish Hotel*. Было каля 70 чалавек, сярод якіх 6 паслоў у анг[ельскі] парлямант, розныя дзеячы і г. д. Вялікдзень у *Marian House* быў вельмі шумны. Першы раз ладзілі лотарэю. Яна дала 50 фунтаў даходу. Дзень быў выняткава прыгожы. Таму сад наш і агарод быў поўны. Гулялі ў валібол.

Унівэрсытэт у Мальта ахвяруе для студэнтаў-уцекачоў 12 стыпендыяў, зь якіх 6 для багасловаў, тры мэдыцына і тры *dental surgery*. Для беларусаў магчыма атрымаць прынамсі 2 стыпендыі. [Францішак] Бартуль жадаў-бы скарыстаць з *dental surgery*, а іншыя? Ня маемо кандыдатаў.

Ну дык і бывай здароў, даражэнькі! Ты мяне падганяеш пісаць, але і сам не марудзь.

У канцы мне прыйшла дзіўная думка: А мо' ты ў той джунглі прыдбаў якога "чорціка" для майго музэю, які пачынаю арганізаваць? Шкур-

ку нейкага рэдкага зьвярка... Але мо' гэта толькі мае фантазіі, дык не прыймайся імі.

Цалую цябе моцна і шчыра!

Хрыстос Уваскрос!

Твой а. Ч[аслаў] Сіповіч

Джунгля ў штаце Парана — тапаграфія
яшчэ не закончана і мясцовасьць ня
мае назову — аднак не “гаўно”
нават па-беларуску
31.4.55

Дарагі Айцец,

учора атрымаў Ваш лісток, як і папярэдні ліст. Дзякую за перасланьне мне рахунку з *Lloyds*. У залучэньні перасылаю Вам упаўнаважаньне на маё конта (£ 26.13.2). Прашу трактаваць гэтую суму £ 20.13.2 як беспрацэнтовую пазычку на куплю *Marian House* і адваротна прыслаць мне адпаведна сфармуляванае сьцьверджаньне атрыманьня ўспомненай сумы.

Прашу вельмі зрабіць усё, што зможаце, каб даведацца, як прадстаўляецца справа спадку Врублеўскага, — я ня бачу ў атрыманым рахунку ніякага ўносу пазасталасьцей грошай, перасланых мной адвакату. У апошнім выпадку прашу перасладь мне яго адрас, каб я змог скамунікавацца зь ім — адрас Барыса Рагулі мне таксама прыгадзіўся-б у гэтым выпадку.

Я залез яшчэ глыбей у джунглі, падабаецца мне ўсё гэта вельмі — шкадую, што дні так хутка бягуць. Ем, як воўк, мой вес цяпер 70 кг, малярыя прайшла і наагул жыцьцё становіцца больш цікаўным. Наша “кватэра” наладжваецца, арганізуем рэгулярную сувязь гелікоптарам з *Curitibaj*.

Шкурак усялякіх кацёнкаў я мог-бы Вам прыслаць. Я даведваўся, як гэтая перасылка можа выглядаць, навіны ня зусім цікаўныя: *“red type”*[37] у гэтым выпадку будзе вельмі вялікі, патрабуецца шмат дакументаў, каб абыйсьці каласальны налог пошліны, які перарасьце фактычную стоімасьць усей шкуры ці то панапіханых папугаяў, а яшчэ горш вялізарных гадзюк, якімі бразылійцы наагул гардзяцца.

Адносна нашага спатканьня ў Злучаных Штатах я цяпер нічога не магу Вам напісаць, — хацелася-б наведаць знаёмыя мясцы. Каб гэтую справу вырашыць, я патрабую паехаць у *Rio*. Будзем счытаць гэта пытаньне адкрытым.

---

[37] Відаць, маецца на ўвазе ***“red tape”*** — ангельская ідыёма, якой пазначаецца бюракратызм, бюракратыя.

Я атрымаў ліст ад Пятруся [Сыча], як і Алеся [Надсана]. Цешуся абаім. Алесь пасьля 4—5 месяцаў навучаньня зрабіў ласку і напісаў мне. Радзе мне, каб я глянуў сабе ў вочы ды і адкрыў там наканец, што я сабой прадстаўляю. Бязумоўна, ён праў. Бяда ў тым, што апрача зялёных кропачак я там няшмат што бачу. Хіба патрабую крышку больш часу. Гэта нашая агульная праблема, Айцец, як і Вы мне гаварылі, сьпяшыць няма чаго. Справа, уважаю, важная і будзем над ей саветавацца ўсе. Фактычна, было-б нядрэнна перамяніць тропік ды і ўвесь мой шлях.

Ежалі паедзеце ў Францыю, пагаварыце на маю тэму з Прэзыдэнтам[38]. У сваім лісьце да мяне ён парадзіў мне *“ўступіць гдзесьці на якую-небудзь вышэйшую школу і павучыцца”*. Мне, Айцец, хочацца вельмі ўступіць зноў у актыўныя рады нашай эміграцыі ды запрагчыся ў якісьці грамадзкі хамут. Ня ведаю, ці мае досьледы і кваліфікацыі, якія я набыў за апошніх тры гады, здадуцца там, — ведаеце, што маю на ўвазе. Ежалі ня гэта, я ня проці рабіць усё, што здасца. Бязумоўна, маім заўсёдашнім жаданьнем была і ёсьць прэса (помніце калісьці маю радасьць, калі Вы пробавалі ўстроіць мяне на ўнівэрсытэт журналістыкі ў Рыме?).

Як-бы сабе ўсё гэта ня вырашылася, прадчуваю, што мы спаткаемся ды і начнём круціць якісьці рататар. Час ад часу паругаемся, гэта толькі закрапляе зразуменьне.

Бывайце, дарагі Айцец, пішыце пра ўсё.

Ваш Віктар [Спаліч]

Guaricana[39], 5—6—55

Дарагі Палкоўнік,

гэтым хватаю пад казырок. Пісьмо атрымаў — дзякую за выпаўненьне права джунглі.

*“I say, Jack...” I say, you happened to become Her Majesty’s Subject?! It was a mighty piece of news to learn. Why in a hell didn’t you write me about it?! Didn’t you read my article about this subject in Backauscyna, signed Lazuka*[40]*?;* па беларуску — *congratulations.*

*Bravo dear Father. Go forward into the very midst of this leading nation. Teach them truth about God and about our Mather-Byelorussia. We should be proud of you. Innocent boy from remote Byelorussian village has firmly marched through Rome’s wises mastering everything he could,*

---

38 Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

39 Маецца на ўвазе **Нацыянальны парк Гуарыкана** (парт. *Parque Nacional Guaricana*), што ў штаце Парана ў Бразыліі.

40 Відаць, маецца на ўвазе публікацыя: Лазука, В. Пс... ды ў чамадан. Хіба фэльетон // Бацькаўшчына. № 8 (238). 20 лютага 1955. С. 4.

*came to London in half worn jacket and socks "a la Bulyha" established nice mission and now is buying a house and became British!*[41]

Нам патрэба больш такіх палкоўнікаў. Я сапраўды жадаю запісацца ў салдаты. Пішэце, калі ласка. На што Вы замахваецеся сякерай? "Няцікаўнае" звучыць даволі цікаўна.

Айцец, Вы маеце цалікам слушнасьць, гаворучы *"Яшчэ ў тваей душы* (варона замест галуба — дадатак мой) *кіпіць агонь вялікіх неўрачаісьных ідэяў"*. Прабачце за тон. Гэта я проста з радасьці.

З Алесем [Надсанам] вяду інтэнсыўную перапіску. Бачу зь яе, што ён яшчэ не скапцянеў, чаму я вельмі цешуся. Бачу таксама яго бязьмернае захапленьне рэлігійнай справай. Мо зь яго штосьці і выйдзе. Заразумнага ў ім я нічога не адкрыў. Ён проста па-стараму *"дарагі Алесь"*. Крышку дрэнна, што ён находзіцца ў асяродзьдзі грэкаў. Народ гэта ня зусім цікаўны, і я часта іх ператрэпліваў, калі быў змушаны захваціць уладу ў адным інтэрнацыянальным мястэчку. Я паслаў яму пару практычных заўваг, як патрэба праводзіць перачоску групы, аднак ведама нам, што ў гэтым выпадку махер зь яго не вялікі, і надзеі на то, што ён "*will beat the hell out of Greeks"*[42] малыя.

Прашу, пішэце аб вашым тапары, якім Вы пагражаеце, заносячы над якімсі дрэвам (напэўна зла). Няхай сабе будзе і так. Рабіць то мне вельмі хочацца.

Цалуючы мяне, вы абкалолі мяне барадой.

Ваш Віктар [Спаліч]

Навучыцеся іграць у тэніс — калі прыеду да Вас, мне трэба будзе партнёр.

Перадайце мой пацалунак (брацкі — ежалі раўнуеце) Шуры. Яе крыжык яшчэ маю.

Лёндан, 13.VI. 1955

Дарагі Кастусь,

артыкул Лазукі ў "Бацькаўшчыне" я чытаў. Журналістычна адзін з найлепшых, якія толькі там калі зьявіліся. Аб маралі эміграцыі,

---

[41] *"Я кажу, Джэк..." Вы сталі падданым Яе Вялікасьці?! Гэта найважнейшая навіна, якую варта было даведацца. Чаму, чорт вазьмі, Вы мне пра гэта не напісалі?! Вы не чыталі майго артыкулу на гэтую тэму ў "Бацькаўшчыне" з подпісам Лазука? Па-беларуску — віншую!*
*Брава, дарагі Айцец! Ідзіце наперад у самае сэрца гэтай вядучай нацыі. Вучыце іх праўдзе пра Бога й пра нашу Маці-Беларусь. Мы павінны ганарыцца Вамі. Нявінны хлапчук з аддаленай беларускай вёскі цьвёрда ішоў па рымскіх мудрасьцях, авалодваючы ўсім, што толькі можна было, прыехаў у Лёндан у напалову паношанай куртцы й шкарпэтках "а-ля Булыга", заснаваў добрую місію й цяпер набывае дом і стаў брытанцам!*

[42] ***Will beat the hell out of Greeks*** (анг.) — выб'е чорта з грэкаў.

па-мойму, напісаў ты нязграбна. Мараль і то хрысьціянская фундамантам, на якім можна "распакавацца" і "запакавацца" і асягнуць тыя мэты, аб якіх Лазука прыгожа гаворыць. Аб пашпарце ты напісаў як ня трэба лепш. А яшчэ ў нас ёсьць дзікое, што "польскасьці" ня любяць на папеы і то толькі газэтнай, а ўсюды індзей бязь яе ані руш. Таму беларусы ўсюды павялічваюць лік палякаў. Пры атрымоўваньні брытыйскага пашпарту мне трэба было даць расьпіску, што ня буду адклікацца ў будучыні да польскага ўраду як іхні падуладны… Дзеля гэтай аднэй рэчы трэба было-б прыняць брытанскае грамадзянства. Пашпарт сам па сабе — ерунда і ля вечных варот раю ня будзе таго, аб чым ты пішаш *"пайдзі налева, направа"*. Там будзе толькі "ідзі" і "пачакай", а ўсё будзе залежаць ад іншага мерала.

Ці ты гатоў ісьці са мной як сьвятар, як законьнік?

Калі маеш хоць 30 % даверу да сябе, да мяне, да Бога, — дык бяры чамадан і безадкладна прыяжджай! Сяньня я цябе клічу ісьці са мной, а заўтра я пайду з табой. Хто за кім — няважна! Факт ёсьць наяву — што распачалося штосьці клеіць сваё і няма з кім. Нам трэба стварыць паважны, салідны, прыгожы, культурны, беларускі цэнтр на эміграцыі, дзе-б кожны і вернік, і бязбожнік, свой і чужы мог напіцца з крыніцы чыстай вады. Я нічога іншага не жадаю зрабіць праз *Marian House*, як унесьці праменьчык сьвятла ў беларускае эміграцкае жыцьцё, у гэты імглісты лёнданскі панадворак гордага Альбіёну.

Я калісь успамінаў табе аб паездцы ў Амэрыку. Здаецца, у гэтым годзе нічога ня выйдзе. Я патрабую паехаць у Рым, мне трэба застацца дома. Тут цяпер маю брытыйца (валійца), што скончыў два гады ўнівэрсытэту і вельмі добра грае на фартап'яне. Ён жадаў-бы быць сьвятаром. Трэба ім заняцца. Далікатная душа. Можа для нас, беларусаў, зрабіць вельмі многа, калі астанецца сьвятаром мар'янінам і будзе з намі працаваць.

Перадаў Шуры твае прывітаньне. Яна кажа, няхай-бы той А… прыехаў, а то тут такая "бяскроўнасьць" сярод беларусаў! Яна мае прыгожы домік з агародам і трымае дзьвёх старух. З гэтага жыве і вучыць Міку, каторы мае ўжо 9 з паловай гадоў і магчыма наступнага году пойдзе ў гімназію. Вучыцца вельмі добра хлапчук.

Дык чакаць буду або цябе самога, або ліста…

Нядаўна вярнуўся з Парыжа-Бруксэлі-Лювэну-Антвэрпу… Сп-тва Абрамчыкі маюць сына, здаецца, мае называцца Альгерд[43]. Айцец [Леў] Гарошка хварэў, таму ўжо поўгоду не было "Б[ожым] Шл[яхам]". Цяпер маецца лепш. У наш страйк даецца ў знакі: паездкі, пасылкі, еміны — усё ў нялад ідзе.

Твой а. Часлаў [Сіповіч]

---

[43] Альгерд Абрамчык нарадзіўся 31 траўня 1955 г.



Віктар Спаліч. Бразылія, 1956 г.

Лёндан, 25 лістапада 1959

Мой-жа ты мілы і дарагі разбойнік!

Ізноў, як тая маланка, блісную, і нам усім, што ніколі не забываліся аб табе маліцца, павесялела на душы. Ня выслаў Вам вясельных прывітаньняў, бо запозна атрымаў Вашае паведамленьне, а па-другое, зьбіраўся напісаць абшырнейшы ліст.

Дагэтуль мне няведама, чаму наша з табой карэспандэнцыя неяк нагла абарвалася, і сколькі я да цябе ні пісаў, ня меў ніякага адказу. Але важна тое, што ізноў адазваўся і нават не сам адзін, але з *Signoritaj* Кацяй. Ня знаю я яе, але ведаючы выбрэдны[44] густ Віктара, магу дагадацца надзейна, што Бог Вас дабраў і што шчасьліва будзеце жыць. Жыцьцё ня высланае аксамітамі, і нашы жыцьцёвыя сьцежкі-дарожкі вельмі-ж бываюць крутыя і не заўсёды высыпаныя розамі. Таму жадаю Вам ад сэрца, каб вы добра, здарова, па-людзкі і па-Божаму распачалі сваё сямейнае шчасьце. А тады, калі Вашы дзеці будуць калыхаць Вашых унукаў, магчыма, і я прыеду з доўгай барадой сьв. Міколы... У 1957 г. я зьезьдзіў поў-Амэрыкі і думаў "падскочыць" адведаць Віктара, але-ж ня меў адрэсу і ня ведаў, ці наагул ён жыве. Магчыма, на наступны год ізноў прыйдзецца ехаць за акіян, дык, дасьць Бог, мо' неяк і да Вас даедзем. А мо гэта толькі *wishful thinking*[45]? Я ўжо пастарэў, пастарэла і ахвота...

---

[44] **Выбрэдны** (ад пол. *wybrędny*) — пераборлівы.

[45] ***Wishful thinking*** (анг.) — добрыя пажаданьні.

Аб *Marian H[ouse]* пісаў хіба табе а. Алесь [Надсан]. Вернікаў у нас няшмат, а працы многа. Мы абодвы любім кніжку і супольна маемо бібліятэку, якая налічвае каля 3000 тамоў. Значыць, ёсьць чым заняцца. А як табе добра ведама, у нас дзе ні кінь, дык усюды папар: багаслоўе, філязофія, педагогіка і г. д. Крыху лепш зь літаратурай, хаця і гэта смажаная ў савецкім со[ў]се. ЗБВБ трымаецца. Ачольвае сп. А[ляксандар] Шацько[46]. Я маю гонар быць яго Заступнікам. [Павал] Навара, [Міхась] Булыга[47], [Янка] Сяўковіч[48] і [Уладзімер] Бутрымовіч у Гал[оўнай] Управе. Час ад часу маемо паседжаньні, і на іх тое-сёе выседжваецца, але вельмі мала чаго сапраўды пазытыўнага, бо няма каму рабіць.

Твае здымкі, дакуманты ў парадку, бяда толькі, што некаторыя зь іх я ўвёў у Беларускі Архіў, і не хацелася-б мне нарушаць іх. Зрэшты, што і калі табе пераслаць, ты павінен мне напісаць.

Пасылаю Вам абоім найшчырэйшыя пажаданьні, і калі маеце якія супольныя здымкі, прышліце. Мы заўсёды рады штосьці чуць ад Вас ці атрымаць Вашы фатаграфіі.

Няхай Вас Бог багаславіць.

З пашанай і любоўю да Вас, а. Ч[аслаў] Сіповіч

Дарагі Айцец,

як Алесь [Надсан] мне пісаў, што Вы зьелі ... забаронены блін і апынуліся вон із *Marian House*. Фактычна-ж "блін" гэта мая выдумка, а Алесь [Надсан] мне толькі напісаў, што Вы былі хворыя, чым пе-

[46] **Аляксандар Шацько** (1924—?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Згрутаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1950-х гг. выяжджаў вучыцца ў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгію, але ня скончыў яго й вярнуўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Беларускім доме, быў яго адміністратарам. У ЗБВБ часта абіраўся ў Галоўную ўправу, у 1958 і 1960 гг. займаў пасаду старшыні арганізацыі. У 1960-х гг. таксама абіраўся на пасаду старшыні Лёнданскага аддзелу ЗБВБ. Быў сакратаром Беларускай харытатыўнай сэкцыі. У 1970-х адышоў ад беларускай грамады, абарваўшы ўсе кантакты.

[47] **Міхась Булыга** (1924—?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса. У 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. Некаторы час быў адміністратарам Беларускага дому ў Лёндане.

[48] **Янка Сяўковіч** (1920—1992), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў актыўным удзельнікам беларускага жыцьця, пастаянным сябрам управы Лёнданскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, дзе займаў розныя пасады.

рапужалі ўсіх лейцянантаў *Marian House Regiment*. Цешуся, што Вы выкарабкаліся.

Калісьці я напісаў пра мой беларускі архіў, які я пакінуў пад Вашую апеку, выяжджаючы з Англіі. Вось што мне вельмі важна, айцец, гэта атрымаць ад Вас мае фатакартачкі. Гэта былі фатакартачкі з майго дому, з польскай арміі і посьля з Англіі. Буду вельмі ўдзячны, ежалі зможаце пераслаць іх мне сюды ў Бразылію.

Я навязаў кантакт з маім бацькам, ён пражывае ў Польшчы. У пісьме к а. Алесю [Надсану] я пішу пра яго больш дакладна і прашу, насколькі Вам можна, дапамоч яму.

Буду вельмі ўдзячны за ўсё, што Вы зможаце яму дапамоч.



Віктар Спаліч. Бразылія, 1959 г.

Як даведваюся ад Алеся, ваша група крэпне. Вельмі гэтаму цешуся. Маю шмат навінаў з Вашай працы.

Высылаю шчырыя прывітаньні і пажаданьні вясёлых сьвят.

Ваш Кастусь [Амор]
*S. Paulo* 10/4/60

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***

*Эміграцыйны эпісталярый*

# “Я — БЯЗДОМНЫ, АЛЕ ІДЭЙНЫ БЕЛАРУСКІ САБАКА”

*Дзе мой бацька, дзе радня?*
*Жыву вось тут, жыву адзін,*
*Я штоночы і штодня*
*Ня маю радасных гадзін.*

Язэп Пушча. Ліст ад сабакі

*У сваім знакамітым эсэі 1945 году “Што такое літаратура?” Жан-Поль Сартр задае тры пытаньні: што значыць пісаць, чаму людзі пішуць і, нарэшце, для каго пішуць?*

*Гэтае апошняе, трэцяе пытаньне задаваў сабе, напэўна, кожны беларускі пісьменьнік-эмігрант дый, зрэшты, кожны аўтар выдрукаванай кнігі, рассылаючы яе па беларускіх асяродках, згуртаваньнях, рэдакцыях — з просьбаю набыць, распаўсюдзіць, дапамагчы прадаць. І застаючыся ў невялікай кватэрцы зь нераспакаванымі пакункамі амаль поўнага накладу, зноў і зноў пытаў сябе: для каго я пісаў?*

*Эпісталярый Кастуся Акулы выразна паказвае наяўнасьць у яго — цягам, бадай, усяго пісьменьніцкага шляху — гэтага пытаньня.*

*“Даволі небясьпечна з пасьпешнай лёгкасьцю і хуткасьцю казаць пра вечныя каштоўнасьці. Яны добра-ткі пазношваліся. Дый сама свабода, калі яе разглядаць з пункту гледжаньня вечнасьці, выглядае завялай галінкай. Бо яна, як і мора, нязьменна пачынаецца з пачатку. Яна — рух, з дапамогай якога чалавек увесь час імкнецца наперад і вызваляецца. Няма дадзенай волі. Яе трэба адваяваць у сваіх жарсьцяў, сваёй расы, клясы, нацыі. І рабіць гэта трэба для іншых людзей”, — кажа Сартр.*

*Ці згадваў гэтыя словы Кастусь Акула, рассылаючы па “беларускіх” адрасах сваю “Дзярлівую птушку”, дый ці чытаў наагул таго француза? Можа й не. Але вось тым, якія сёньня чытаюць лісты нашага пісьменьніка, іх памятаць варта.*

*Los Angeles*, 1.13.1966

Вельмі Паважаны Сп. Акула!

Нарэшце сабралася Вам напісаць пару слоў, хаця абяцала ў сваёй картцы восеньню, а час праляцеў, што не аглянулася. Сяньня позны вечар, але далей адкладаць немагчыма, бо ізноў час праляціць, як ад-

кажу, але думаю, што Вас моцна гэта ня ўшчарбіла, бо сума невялікая. На жаль, мушу прызнацца, што мы, гэта я і муж, зьяўляемся вельмі дрэннымі прадаўцамі. Нашых людцоў цяжка ўгаварыць, каб нешта купілі, хаця й грошы ў кішэні ёсьць. На жаль, Вашае кніжкі не прадала, але сьвятамі нашым прыяцелям падарыла 2 эгз[эмпляры] як падарак, так як мы гэта і з другімі рабілі. Вось-жа, залучаю Вам за 3 кніжкі $ 10. Думаю, што не прападуць у лісьце, няма часу ісьці купляць чэк.

Адносна зьместу. Як і раней я Вам пісала, што Вы маеце здольнасьць да пяра, і Ваша мова асабліва і цікава, лёгка чытаецца і зьмест цікавы. Працуйце над гэтым! Няхай Вам паможа Бог! На жаль, тут на чужыне мала майстроў пяра, і тыя ў цяжкіх умовах. Крытыку належную Вам дадуць фахоўцы, а я толькі скажу пару слоў, як звычайны чытач. Людзям паходжаньня з багатых-“інтэлігэнтных” сем’яў і гораду, магчыма, зьмест ня будзе падабацца, а дзецям сялянскім, каторыя бачылі й бачаць зьдзекі над нашым народам нашых праклятых “апякуноў”, то не аднаму, чытаючы гэту кніжку, сьлязу пральле.

Дык-жа жадаем Вам плённай працы ў гэтым напрамку!

З глыбокай пашанай і прывітаньнямі Вашай сям’і ды ўсім знаёмым!

Ю[зэфа] Найдзюк

*Los Angeles*, 1.14.1966

Вельмі Пав[ажаны] Сп. Акула!

Учора вечарам Вам напісала кароценькі ліст і $ 10, а сяньня ўкінула. Прыйшоўшы з працы, атрымала Ваш ліст, на які даю безадкладны адказ. Мы Вас, Пав[ажаны] Сп. Акула, разумеем вельмі добра, але ж і так да людзей адносіцца, як Вы, нецярпліва, як і раней Вам пісала, няможна. Я разумею, цяжка нешта рабіць у нашых умовах, бо сям’я, праца на жыцьцё, розныя турботы і заўсёды ахвяроўвайся сіламі й грашыма. Мы скланяем нізка галаву перад усімі тымі людзьмі, што працуюць грамадзка ў тым ці іншым напрамку, і стараемся па-магчымасьці дапамагчы. Зразумела, зацягнула з адказам, але-ж Вы ў нас не адзін, кожны, хто што ня выдае, дык ня пытаючы і 3, і 10 эгз[эмпляраў] прышле, і ўсё дапамажы. Што ўдасца прадаць, а рэшта, як і з Вашымі кніжкамі, даруеш, а грошы трэба плаціць, а мы-ж не багачы. Нашыя суродзічы матэрыяльна амаль усе ў многа раз багацей за нас, а папрабуй на грамадзкую справу даляра дастаць і штосьь прадаць, дык будуць крывіцца, моршчыцца і шукаць недахопаў і г. д. Мушу Вам сказаць, што аднаму спадару навет прапанавала прачытаць Вашу кніжку, дык сказаў, не хочу, бо сам загаловак брыдкі і чужы, дык напэўна зьмест дурны, а гэты спадар у прэтэнсыях вялікага беларускага дзеяча ўсё пра ўсіх знае, ды, як кажуць, здаецца, асабіста з Вамі ані сварыліся, ані біліся (бо і мала знаёмы) ды палітычна аднолькавага напрамку, дык судзіце

самі, як цяжка працаваць. У будучыне, каб ня было непаразуменьняў, калі ласка, на продаж прашу мне нічога ня слаць. Усе беларускія кніжкі купляем і маем, і наагул уся прэса аплочана намі. Тут ёсьць аддзел БАЗА, дык шлеце ім. Належнасьць за кніжкі — 3 у суме $ 10 залучыла ўчора, думаю, што шчасьліва іх атрымаеце?

З пашанай!

Ю[зэфа] Найдзюк

Дарагая Гаспадынька,

я — бяздомны, але ідэйны беларускі сабака. Колькі ўжо год на праклятай чужыне пра свой паняволены народ, ідэю ягонага вызваленьня, цяўкаю. Вока Ваша лёгка адрозьніць мяне сярод рознае масьці тутэйшага вываду: яны “Кэнл рашанам” і “Доктар Балард дог фудам”[1] абжыраюцца, рассыцелі, абцяжэлі; мой-жа жывот да сьпіны прысох. Іхныя галасы вялыя, прытупелыя, калі ім часам пападбрыківаць з дуру захочацца; мой голас, дармо што не даядаю, цяперака ў самай сіле, дый клыкі маю войстрыя, калі ад якое няпрыязнае ватагі даводзіцца бараніцца...

Ад чужых дзьвярэй гоняць мяне, майго ідэйнага цяўканьня не разумеюць, сваіх ласуноў песьцяць. Дык заглядаю да суродзічаў-выгнаньнікаў, як мне слушна па Богам даным праве сваяцтва належыцца. Даўно яны ад роднае маткі-зямлі адарваліся. Ёсьць людзі добрыя, а ёсьцека й такія, пра каторых гадоў пятнаццаць назад мой сябра — сяньня сам ужо ажырэлы таксама чалавек-мешчанін — модна выражаўся, што *“із жыру бесяцца”*. Дзякуй Богу, што мне такі добры нюх даў. Калі дзе здалёк у хаце якога біялёгічнага суродзіча мяшчанскі, духова-жабрачы дух спанатру, дык мяне й блізка ягонага парогу на вяроўцы ня прыцягнеш. Затое ахвотна труся ля дзьвярэй запраўдных хрысьціянаў-патрыётаў. Тутака якая крошка ці сьціплая костка са стала на маю долю прыпадзе, ахвотна маё ідэйнае зьвяганьне паслухаюць. У такі момант у маіх зморана-журботных вачох разгараецца сьветлячок надзеі, што *“жывая яшчэ душа ў народзе гэтым”*; галоўнае-ж — далей няньчу ілюзію, што ў душы чалавека дабро перавышае зло...

Надыйшоў усім вядомы тут сваім вэрхалам “Крыстмас”[2] дый за сабою “крыстмас сьпірыт”[3] прыцягнуў. Самі таксама-ж мусіць тым “сьпірытам” натхнёныя, раздабрэлі. Ды так нефартунна сталася, што ў той час, як кінутая вамі костка пакнула на падлогу пад сталом, маё галоднае скавытаньне якраз даляцела да вашых вушэй. Вы, мусіць, чакалі зьвяглівае падзякі, дык дурнога прыпадку не зразумеўшы, мая

[1] ***Dr Ballard`s Dog Food*** — гандлёвая марка сабачае ежы, папулярнай у 1950—1960-я гг.

[2] ***Christmas*** (анг.) — Свята Божага нараджэння, Раство, Каляды.

[3] ***Christmas spirit*** (анг.) — калядны настрой.



Кастусь Акула (зьлева) у друкарні. 1970 г.

сабачая рэпліка так раззлавала вашую квола-шчодрую натуру, што вы адразу за мной із здаравеннай паганякай кінуліся. Уцякаючы, як мага сіл, костку я пасьпеў схапіць. *“Не паказвайся больш на мой гасьцінны парог, нягодны няўдзячнік ты!”* — кіпеў мне ўсьлед ваш абураны голас.

Голад адно адну мараль ведае: што трапілася, тое ў жывот. Ды костка ваша мне адразу ў горле засела. Хоць яна ў вашай моднай кухні вараная, але мяшчанскім, духова-жабрачым соўсам ваняла. Мой галодны жывот ледзь навонкі ня выперла...

Дазвольце запэўніць вас: хату вашу ад гэтага часу здалёк абмінаць буду. Бог не бязь літасьці, а людзі не бязь міласэрдзя. Можа, які амэрыканскі “рэліф камітэт”[4] мой голад спатоліць. Сам-жа іхны прэзыдэнт цяпер разьюшана “вор он повэрты”[5] вядзець. Ня веру-ж, каб мяне, у роськвіце змагарнай актыўнасьці, але непадтрыманага й ненакормленага, каліфарнійскія “каёты” ўжо на могільнік пацягнулі. Ды веру яшчэ, што не ўва ўсіх суродзічаў нашых ідэйны прысак сатлеў...

Дапіска: Костку (10 даляраў) перасылаю назад. Для вас, што разьмяніліся на дробную манэту, гэта найлепшы довад майго гонару...

М[іхась] Козыр[6]

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

[4] ***Relief Committee*** (анг.) — Дапамаговы камітэт.

[5] ***War on poverty*** (анг.) — вайна з галечай.

[6] **Міхась Козыр** — псэўданім Кастуся Акулы.

***Тэма нумару: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны***
*Эміграцыйны эпісталярый*

# БЕЛАРУСКІЯ ГАРГУЛЬЛІ Й ХІМЭРЫ

*Як нацельны крыж*
*На шыі ў цябе, Парыж...*

Рыгор Барадулін

*Парыж. Ягоная беларуская гісторыя, як і шырэй — агулам беларуская гісторыя Францыі, — не напісана дый ня будзе хіба напісаная, пакуль ня будуць ня толькі сабраныя факты (а дзеля гэтага зроблена да сёньня ўжо нямала), але й праробленая праца нутраная — у спробе высьвятленьня стану розуму тагачаснай беларускай эліты гораду на Сэне. Бяз гэтага не зразумець, як і чаму фактычная сталіца нашае эміграцыі*[1] *на пачатку 1970-х пераўтварылася ў пустэльню з асобнымі адасобленымі ды пасваранымі хутарамі. Тэмы — хвароба й сьмерць Міколы Абрамчыка, сытуацыя з архівам Рады БНР, новы старшыня, назапашаныя за мінулыя гады ўзаемныя крыўды й непаразуменьні. Без усяго гэтага гісторыю беларускай грамады ў Парыжы не зразумець і не напісаць. Адна публікацыя пра ўсё не раскажа, але нейкія акцэнты расставіць зможа. А таксама паведаміць сапраўдную дату народзінаў першага прэзыдэнта аднаўленай Рады БНР.*

28.3.1970

Даражэнькія Раіска і Вінцук [Жук-Грышкевічы],

вас, пэўне, дзівіць маё дагэтуль маўчаньне на Вашых аж некулька лістоў. Тут далучаю вам копіі маіх лістоў Барысу [Рагулю] і а. [Аўгену]

---

[1] Хоць трэба прызнаць, што сытуацыя ў Парыжы заўсёды была няпростая. Як пісаў у адным зь лістоў а. Л. Гарошка, *"беларусаў у Францыі наагул ня многа, ды і тыя пераважна звычайныя работнікі. Грамадзкая праца, якая вядзецца ў Парыжу, спачывае на плячох усяго некалькі адзінак. Зразумела, што каб было тут больш нашае інтэлігэнцыі, можна было-б зрабіць вельмі многа для агульнае справы. Але і тыя, што ёсьць, жывуць у даволі цяжкіх абставінах. Ёсьць, напрыклад, такі, што з доктарскім дыплёмам нават з Парыскае Сарбоны працуе звычайным парабкам на фэрме. Пару месяцаў таму адзін доцэнт Менскага ўнівэрсытэту, прапрацаваўшы тут некалькі месяцаў на сельскай гаспадарцы, згадзіўся лепш вярнуцца ў шахты Бэльгіі, адкуль летась быў прыехаў у Францыю. Праўда, ёсьць некалькі беларусаў, якія на гаспадарцы ўжо даволі добра абрасьлі пер'ем, але, на жаль, іх ня шмат"* (26.VII.50).

Смаршчку, зь якіх зразумееце прычыну майго маўчаньня. Далучаю гэтыя лісты, каб не паўтарацца з гісторыяй маёй хваробы, а да таго ў лісьце а. Аўгену [Смаршчку][2] знойдзецца адказ у некаторых нашых грамадзкіх справах. Прашу вельмі выбачыць за такую форму, але раблю гэта не дзеля аканоміі часу, а мабілізацыі сваіх высілкаў. Хацелася-б мне вельмі шмат чаго Вам напісаць, высказаць свае думкі, меркаваньні аб палітычнай дзейнасьці нашых у Ню-Ёрку, але ўсё гэта змушае “пар ор форс мажор”[3] — адкласьці, пакуль ня скончыцца тых 100 уколаў, якімі мяне абнадзеіваюць калі ня вылячыць, дык падлячыць. Тут хачу Табе адказаць, Вінцук, на даўно пастаўленыя мне пытаньні:

1. У справе [Янкі] Сурвілы — я тады засьцерагаўся зь яго кандыдатурай у Мюнхэн, бо ў прыпрэжку з [Масеем] Сяднёвым наша радыё ўжо-б перастала быць нашым. [Янка] Сурвіла належыць да такога сорта “патрыётаў”, тыпам якіх зьяўляецца [Анатоль] Шкутка[4]. Для якіх, калі ставіцца дылема прыватная і нацыянальная справы, то возьме той бок, дзе матэрыяльная перавага перавышае хоць-бы ў 10 працэнтаў. У радыё нашай сэкцыі там склаліся, як Табе ведама, такія абставіны, што трэ’ было вельмі моцнага і станоўкага чалавека, каб устрымацца перад так прываблівымі ўмовамі. Я ўсё спадзяваўся паправіцца і выіграць справу ў барацьбе за нашыя там пазыцыі, таму намагаўся, каб прынамсі не зьвялікшыць там кадры такім апартуністычным элемэнтам. Цяпер гэту справу вядзе Цэнцадзэ[5]. Ён штодня прыяжджае да мяне на нараду, езьдзіць у Мюнхэн і там вядзе, не без удачы, барацьбу. На канадзкім-жа тэрэне [Янка] Сурвіла ня будзе шкодны, можа на’т карысны, таму ў гэтым напрамку ў мяне няма ніякіх засьцярог, хоць па сутнасьці ў арганізаваным і здысцыплінаваным грамадзтве за яго спосаб ліквідацыі беларускіх

---

[2] **Аўген Смаршчок** (1914—1984), сьвятар, пэдагог, перакладчык. У верасьні 1950 г. высьвячаны на ярэя БАПЦ, пераехаў у Лювэн (Бэльгія) для абслугоўваньня рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў, заклаў парафію БАПЦ. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт з ступеньню магістра псыхалёгіі й філязофіі. У 1960-х навучаўся ў Вольным інстытуце філялёгіі й гісторыі ўсходніх славянаў Брусэльскага ўнівэрсытэту, атрымаў ступень магістра славістыкі. У 1965—1980 гг. выкладаў расейскую мову ў Вышэйшай флямандзкай школе перакладчыкаў у Антвэрпэне.

[3] ***Par or force majeure*** (фр.) — праз форс-мажор.

[4] Магчыма, маецца на ўвазе **Анатоль Шкутка** (1908—?), грамадзкі дзеяч. Старшыня Беларускага прадстаўніцтва ў Бэрліне. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны стварыў Беларускі камітэт у Брайншвайгу. У 1949 г. разам зь сям’ёй выехаў у Аўстралію.

[5] Маецца на ўвазе **Ной Цынцадзэ** (*N. K. Tsinsadze*), грузінскі палітык, меншавік, удзельнік рэвалюцыі 1917 г., лідар грузінскіх незалежнікаў у эміграцыі, актыўны дзеяч Парыскага блёку.

перадачаў у Мадрыце патрэбна было судзіць, але ці яго аднаго толькі. Аб гэтым будзем калісь гутарыць.

2. Ты мне прапанаваў на падставе калішней маёй апініі аб а. Аўгену [Смаршчку] перадаць яму прэзыдэнцтва БНР. Тут выйшла непаразуменьне. У тым сваім лісьце калісь, я помню, я шкадаваў, што а. Аўген [Смаршчок] не папаў у Амэрыку ці хоць Канаду, а марнуецца ў Бэльгіі. Я меў тады на ўвеце чыста царкоўныя, а пры гэтым і нацыянальна-грамадзкія справы. Будзь ён у Клівэляндзе, напрыклад, пры яго агульнай культуры, такту і адданасьці нашай бэнээраўскай ідэялёгіі, зусім-бы іначай ішлі-б справы ня толькі царкоўныя, а пры гэтым і нацыянальна-грамадзкія справы. Клевэлянд-бы быў моцнай для нас апорай ня толькі ў сэнсе фінансавай, чым ён цяпер для нас нулём, а грамадзка-палітычнай — Вам ведама. Што да такога становішча, як Ты прапануеш, то была і ў мяне такая ідэя ў 1960 годзе, калі я стаяў перад дылемай эвэнтуальнага зрачэньня свайго прэзыдэнцтва і пераезда кудысь на ўладжаньне сябе й сям'і. Я тады нават прапанаваў а. Аўгену [Смаршчку] гэта становішча, меў, аднак, я на ўвеце і ставіў умовы, што а. Аўген мусіць са мной супольна добры гадок папрацаваць разам, пераключыцца на рэйкі ПАЛІТЫЧНАГА жыцьця, бо, бачыш, для гэтай ролі патрэбна неабходна падрыхтоўка, шырокі гіпазон[6] у міжнародным масштабе. Я тады агітаваў а. Аўгена [Смаршчка], што яго духоўны сан яму не перашкодзіць, як не перашкаджае Макарыёсу[7], але на такую ролю ён катэгарычна адмовіўся[8]. А цяпер няма ўжо ніякага сэнсу вяртацца да

[6] Відаць, маецца на ўвазе дыяпазон.

[7] Маецца на ўвазе **архіяпіскап Макарыёс III** (*Μακάριος Γ'*, сьвецк. **Міхаіл Хрыстадулю Мускас**, *Μιχαήλ Χριστοδούλου Μούσκος*, 1913—1977), кіраўнік аўтакефальнай Кіпраўскай праваслаўнай царквы (1950—1977) і адначасова першы прэзыдэнт Рэспублікі Кіпр (1960—1977).

[8] Параўнай ліст Вінцэнта Жук-Грышкевіча да Міколы Нікана (недатаваны): *"Адносіны Андрэя да Рады БНР — справа далікатная, ніяк нельга рабіць націск, каб ён быў прыхільнікам яе. Справа ў тым, што Рада БНР заўсёды стаяла на тым становішчы, што царква адасоблена ад дзяржавы. Было-б зусім нармальна, калі-б тыя ці іншыя радныя ня прызнавалі БАПЦ, а калі ў нас такіх няма, дык толькі дзеля спэцыфікі пэўнай часткі нашай эміграцыі, што йдзе за Лапіцкім і Касяком. З ворагамі БАПЦ трэба змагацца, але не праз Раду БНР, а на царкоўным груньце. Вялікая бяда, што нашы япіскапы, між намі кажучы, недалёкія ў сэнсе выпрацаваньня рэлігійнага, культурнага й палітычнага. Найпаважнейшым і найбольш асьвечаным сярод сьвятароў БАПЦ ёсьць а. Др. Смаршчок, і здаецца, нашы япіскапы шануюць і лічацца зь ім. Ня ведаю, ці ты калі сутыкаўся зь ім, але я меў шчасьце гасьціць у яго ў Бэльгіі, а пазьней гасьціць яго ў сябе пасьля сабору. Вельмі цешуся, што ён ёсьць заступнікам старшыні Рады БНР на Эўропу. Як бачыш, гэты паважны сьвятар заангажаваны і ў БАПЦ, і ў Радзе БНР".*

гэтай справы. А. А[ўген] урос моцнымі карэньнямі ў бэльгійскі тэрэн, якога стуль ужо ніяк ня вырвеце. Нам трэба шукаць цяпер чалавека сьвежага, маладзейшага і калі не з ПАЛІТЫЧНАЙ культурай, то культурай агульнай, але адважнага і ахвярнага, здольнага круціцца ў сьвеце і па сьвеце. Я такога пакуль што чалавека ня бачу. Можа, Вы? Мне здаецца, што пара з такіх, якія-б падышлі па сваёй асьвеце і характарамі, яшчэ глыбей паўрасталі ў мяйсцовыя тэрэны ды закасьцянелі ў сваіх прыватных справах.

Тымчасам бывайце здаровы. Цалуем Вас моцна ўсе трое.

[Мікола Абрамчык]

Сакрэтна!

*V[illepin]te,* 6.8.70

Сяньня Міколе было-б 69 год. Ён старэйшы, як у пашпарце! Былі на могільніку!

Дарагія Вінцук, Раіска [Жук-Грышкевічы],

ня страш мяне “ценямі” і зацямненьнямі. Я папала ў “цень”, зь якога ніколі ня выбяруся. Не турбуйся за пячатку і архівы. Зьберагла дагэтуль, зьберагу і далей. Я пры Міколе [Абрамчыку] была шмат часу. Ведаю ягоныя думкі і замеры. Шмат гадоў, а галоўнае апошнія, была ягонай кухаркай, сакратаркай і санітаркай. Гаварылі многа і шмат аб чым, галоўнае Ён, а я слухала, слухала. Перад выездам, седзючы ў гародзе на лаўцы, сказаў: *“Ніна, помні, што я не дакончыў, ты мусіш дакончыць”*. Ён не дакончыў шмат, ці я дакончу?! Ён мне сказаў, што сказаць, каму і калі! Чакаў на лісты ад Цябе як на сьвянцоную ваду. Чакаў на вынікі тых табе даных даручэньняў. Страшэнна баяўся, каб не загубіліся кантакты, якія яму так цяжка прыйшліся. Пячатак за сабой Ён не вазіў, узорам былі думкі і душа, ну і рух той, пра які гаварыў дзядзя Антось!

*“Што бяз руху — то ўмерла”* — цытаваў Ён Дзядзю Антося.

Што да нас — ну мы пакуль што жывы, хоць ня верыцца, што жывем, а ня толькі нам здаецца. Ня [верыцца] тако-ж, што Яго няма, [што] немагчыма, што паехаў некуды. Піша той-сёй, пакуль яшчэ не забылі ўсе.

Якія пляны? Маю шмат ад чаго пачаць трэба — ня [ведаю]. Ня ведаю, да каго зьвярнуцца, каб парадзіцца! Дык кожны будзе, пэўне, радзіць начай? Чыю раду абраць? Што да тэстамэнту [каму]нікаваць нельга! Чаму — нат [ра]ней. Я пасьпяшалася зь ім, даведалася ад чужых страшную [вестку], што сэсыя мае быць бурнай, выбары, перавыбары і г. д. Стась Станкевіч на Прэзыдэнта, і на Дырэктара Радыё, ня так Ст[ась] як “жонка”. Гэта-ж кампрамэтацыя, не дай дажыць да такога няшчасьця! Захаваць традыцыю тэстамэнту, чаго іншыя народы ня

маюць і таму нам завідуюць, што няма ў нас інтрыгаў выбарчых. Выбары толькі на Беларусі, калі ўвесь народ зможа браць удзел.

Жыве Беларусь!

[Ніна Абрамчык]

Парыж 1.9.70

Дарагі Вінцук [Жук-Грышкевіч],

толькі што атрымала твой ліст, за які нязьмерна Табе дзякую, бо ён шчыры; прашу Цябе супакоіцца, я на містычнага пасланьніка, на "фюрарства" ніколі не прэтэндавала і ня маю замеру прэтэндаваць. Жыла я сэнтымэнтамі, а не розумам. Без маіх сэнтымэнтаў Мікола ня мог-бы рабіць тае працы, што Ён рабіў. Ня бойся, Вінцук, што магу Міколу заступіць. Яго ніхто не заступіць! А сваю функцыю Ён перадаў Табе! Толькі Ты яе цяпер маеш, і ў мяне ніколі не паўстала думка, каб я магла заступіць Міколу! Я жыла заўсёды вельмі, вельмі скромна, заскромна, далёка ў цені, я мела на мэце ўлегчыць Ягоны цяжкі шлях, памагчы Яму, бо я была згодна зь ягоным выбраным лёсам жыцьцёвым шляхом. Я была заўсёды *"ціхшэй травы і ніжэй вады"* — ніколі ня мела прэтэнсыяў *"афіцыяльнай асобы"*. Мая функцыя зводзілася да пячэньня бліноў і мыцьця пасуды пасьля афіцыяльных асобаў, якія спатыкаліся зь Міколам, свае і чужыя.

Я розуму ня страціла, Вінцук, я вельмі рэальна гляджу на Будучыню і на жыцьцё і знаю, што з доляй-нядоляй мушу сама "барукацца". [...] у час паховін я мела настолькі сіл, <u>каб уцэліць у агульны настрой, больш сьмяяцца, як плакаць!</u> [На тое] маю рэшту майго жыцьця.

Што Мікола загадаў мне, — я ведаю, Ён мне сказаў. І я Цябе [ўпэў]няю, што Мікола ніколі ня меў на мэце мяне пакінуць на кіруючым становішчы нейкай хоць-бы арцыафіцыяльнай асобы. Ён [ведаў] маю скромнасьць, і гэтая думка [ні ў Яго], ні ў мяне ніколі не паўстала. [Мы доб]ра знаем, што нашае грамадзтва даволі сьпелае, і мае рады-парады нікому не патрэбныя, і я іх ня [зьбіра]юся нікому даваць. На будучыню буду больш асьцярожнай са шчы[расьцю], каб унікнуць непрыемных кан[сэквэн]цый.

Што да "бурнай" сэсыі — [гэта бы]ла толькі пра Стася [Станкевіча]. Што пра Яго [казаў] Мікола — ты ведаеш. Я тако-ж ведаю нашмат больш, але аб гэтым ніхто ад мяне не даведаецца. Стась ня [можа] быць ні Прэзыдэнтам, ці Дырэктарам. Таму я і выслала тэстамэнт, каб [унік]нуць выбараў, каб не нарушыць [тра]дыцыі перадачы функцыі.

Што да архіву! <u>Справа гэтая для мяне "клясэ"</u> — Ты гневаешся на мяне, што я іх не дала Раісе [Жук-Грышкевіч]. Я ня маю права, так архівы не перавозяць! Уладыка Часлаў [Сіповіч] зь Міколам [...] тут ні пры чым, і мне вельмі, вельмі балюча, што <u>Ты мне закідаеш, што</u>

я іх прысвоіваю. Я ведаю, што гэта не мая ўласнасьць, і ніколі сабе не дазволіла ў жыцьці нешта, хоць-бы што-колечы мінімальнае, не маё — прысвоіць. Я адно прашу і прасіла — мяне звольніць ад архіваў як найхутчэй, хопіць, я за іх надрыжэлася і нацярпелася. 27 год апэкі над імі — я маю досьць! Казаў мне пра мейсца для іх у Англіі той-сёй (не хачу цяпер сказаць), што там яшчэ адпаведна не падрыхтавана, няма ні апякуна адпаведнага, ні мейсца. Усё рыхтуюцца. Важнейшыя рэчы Уладыка Ч[аслаў] трымае ў валізе ў сябе пад ложкам. Гэта ня мейсца для архіваў! Таму яны яшчэ там, дзе іх палажыў Мікола. У бібліятэку, дзе яны маюць быць — ходзіць хто хоча, калі хоча і бярэ, што хоча. Вось чаму я яшчэ іх не



Ніна Абрамчык на магіле мужа

передала — а ня тым, што лічу іх сваёю ўласнасьцю. Я наражала жыць зь Міколам, вывозячы іх зь Нямеччыны падчас вайны, аб гэтым ніхто ня ведае, як было, ведаем толькі мы 2-іх, Мікола і я, ну і — Бог, калі хочаш! Архівы — справа не мая! Як жонка Міколы — не ігнарую гэтай справы — я гляджу цьвярозымі вачыма і розумам. Закід Твой мне тут ня слушны і балючы.

Што да бланак — іх мала і М[ікола] палажыў іх у архіў, ледзь знай[шла] адну вольную ў яго лістовых [папе]рах на тэстамэнт, каб ня браць архіўных. Ён хацеў новыя захаваць, за гэтым Ён быў ня[ўваж]ны. Гаварыла я пра бланкі і пячаткі, як Табе пераслаць з а. [Аўгенам] Смаршчком па тэлефону, радзілася зь ім, каб ня браць поўнай адказнасьці за пасланьне, каб недзе па дарозе не застралі, галоўнае пячатка, які выбраць спосаб — найлепш мне? Поштай небясьпечна, бо ў дарозе могуць зрабіць што. Трэба перадаць праз рукі, ты даручаеш, пад расьпіску калі. Каго ты вызначаеш быць прысутным пры перадачы пячаткаў? Быў у гэтай справе плян, але хачу лепей Твой, каб ня было прэтэнсіяў да майго самаўладзтва.

Вінцук, хачу Цябе запэўніць, што ні ў Раду, ні ў Радыё, ні ў якія колечы рады-парады я ніколі ня ўмешывалася і ня маю замеру ўмешвацца і што зь Міколавага становішча я ніколі не карыстала і ня маю замеру мець якія-колечы прэтэнсыі на нейкае афіцыяльнае становішча.

Што да мяне і Аліка[9] — ці варта аб тым пісаць? Цалуем Вас абоіх моцна —

Н[іна Абрамчык]

Сартрувіль, 22 травеня 1971 г.
Высока Паважанаму В[інцэнту] Жук-Грышкевічу
Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,
Канада

Дарагі Спадар Старшыня [Вінцэнт Жук-Грышкевіч],

для мяне гэта вялікі гонар, што Вы схацелі мяне вярнуць у Раду БНР. Пішу выразна "мяне", бо спадар [Міхась] Наумовіч Рады ніколі не пакідаў. Я прасіў спадара [Міхася] Наумовіча, які тагды быў Сакратаром Сэктара, каб мяне больш не паклікаў на паседжаньні з увагі на прычыны, якіе мне не дазваляюць супрацоўнічаць з Прэзыдэнтам і т. п. Гэтага ліста замала, каб гэтыя прычыны цытаваць нанава, магу толькі сказаць, што з таей пары засталося ў мяне шмат прыкрых успамінаў ды засталіся трагічныя кансэнквэнцыі…

Мне выдаецца, што аднаўленьне Сэктару ў Францыі не актуальнае з увагі на сёньняшнюю палітычную каньюнктуру… Спазьненьне адказу на Ваш ліст трэба выясьніць далікатнаю сытуацыяй, якая тут вытварылася пасьля таго, калі францускія ўлады ізноў адабралі нам права ўжываць нацыянальнага назову пад прэтэкстам, што беларуская нацыя не існуе. Магчыма, што ў сувязі з гэтым мне прыйдзецца выехаць з гэтай краіны або пратэставаць у іншы спосаб. Вось чаму гутарка аб аднаўленьні Сэктара, як і мой паварот у Раду, папалі ў вельмі дрэнны мамэнт.

Я быў падшыкаваў пісьмо да самога Прэм'ер-Міністра, пераклад на францускую мову ды іншыя акалічнасьці зацягнулі справу. Ці ліст пойдзе і ў якой хворме, можа, даведаемся заўтра, бо сп. [Міхась] Наумовіч будзе заўтра тут.

Я хацеў усё-ж-такі падкрэсьліць, што супроць БНР ніколі не выступаў і лічыў сябе радавым бэнээраўцам заўсёды. Я маю вельмі шмат прыяцеляў у радох Рады, зь якімі перапісваюся сёньня, і думаю, што апрача колькі асобаў, у тым ліку маладога Абрамчыка[10] ці Др. [Барыса] Рагулі, я ворагаў ня маю. Тым ня менш дух нейкай варожасьці я адчуў

---

[9] Маецца на ўвазе **Альгерд Абрамчык** (нар. 1955), сын Міколы й Ніны Абрамчыкаў.

[10] Маецца на ўвазе **Мікола Абрамчык (малодшы)** (1922—2005), грамадзкі дзеяч, пляменьнік прэзыдэнта Міколы Абрамчыка. З канца 1950-х жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1960-х гг. — у кіраўніцтве Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Сябра рэдкалегіі газэты "Беларус".


Уладзімер Шыманец

на паховінах Пакойнага Прэзыдэнта: ніводзін з прысутных із-за мяжы не хацеў нават нас адведаць.

Я апошнім часам імкнуся адсэпаравацца ад усіх грамадзкіх абавязкаў, бо яны паглынаюць мой дарагі час, які мне патрэбны на адпачынак і на маю мастацкую дзейнасьць. Клеяньне марак на лістох мяне ўжо як-бы не цікавіць. Таксама паездкі на частыя зборкі ды спатыканьні бяз сваей аўтамашыны і на мае хворыя косьці робяцца высілкам нялюдзкім, і загэтым рад быў-бы застацца збоку гэтай мітусьні. Ёсьць маладыя, якія калісь, калі я працаваў, выказаліся ўмеласьцю крытыкаваць, дык вось ім я і пакідаю магчымасьць паказаць, як гэта яны лепш ведаюць справы.

Я ўжо фактычна здабыў права на прысьпешаны рэтрэт[11], але пэнсыя гэтакая сьмешная, што із'ь яе нават не хопіць выкамбінаваць сродкаў, каб памерці. Дык вось, поўна тытулаў, ды шмат бяды. Вы можаце зразумець, што з гэткай маральлю я ня вельмі буду прыдатны Вам у Радзе. Нават і складка мая як раднага на Фонд 25 Сакавіка была-б гэтак мізэрнай для Рады Багачоў, што не аплаціла-б канвэрты на яе перасылку, затое для мяне гэта паважны выдатак. Дык працуйце здаровенькіе. Хай Вам Бог памагае, а мяне пакіньце так сабе… радавым.

З глыбокай пашанай да Вас

Уладзімір Шыманец

10 лютага [19]72

Высокадастойны й Дарагі Ўладыка Часлаў,

хоць да 15 лютага яшчэ 5 дзён, але хіба што ніхто ня верыць у добрую волю Ніны [Абрамчык], і справа суда ёсьць актуальнай. На вялікі жаль, сп. [Міхась] Наумовіч адмовіўся рэпрэзэнтаваць нас на судзе. Адмову гэту зрабіў пасьля нарады з а. [Лявом] Гарошкам і Шыманцамі, калі, нядаўна, а. [Леў] Гарошка быў у Парыжы.

Яны прыйшлі да выснаву, што суд мы прайграем, бо: 1. ня ведаем, што ёсьць у архіве; 2. што належыць да Рады БНР; 3. францускія ўлады ня прызнаюць Рады БНР.

Наагул жа яны супраць таго, каб архіў перадаваць у вашу бібліятэку, бо быццам у архіве ёсьць дакумэнты пра беларускія адносіны да жыдоў, якія нас скампрамэтуюць перад ангельцамі (а. [Леў] Гарошка) і што падазрона, чаму сп. [Гай] Пікарда[12] так стараецца, каб архіў быў

[11] ***Retraite*** (фр.) — выхад на пэнсію.

[12] **Гай Пікарда** (анг. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931—2007), брытанскі

перанесены ў Лёндан. На іх думку, трэба чакаць, а ну-ж а. [Леў] Гарошка знойдзе доступ да Ніны [Абрамчык] й пераканае яе перадаць архіў.

Між іншага, сп. [Міхась] Наумовіч абвінавачвае нябожчыка [Міколу] Абрамчыка, што Ніна ня хоча аддаваць архіву. Цьвердзіць, што сам [Мікола] Абрамчык пастанавіў пакінуць архіў як спадчыну свайму сыну, а Ніна толькі выконвае яго волю.

У адказе [Міхасю] Наумовічу я разьбіў усе гэтыя аргумэнты, але ня думаю, што ён зьменіць сваю адмову.

З усяго цяпер вырысоўваецца нэгатыўная роля а. [Лява] Гарошкі ў справе перадачы архіву. Як сябра камісіі ён не праявіў ніякай дзейнасьці як сядзеў у Парыжы, таксама й пазьней. А цяпер выдумвае розныя нябыліцы, каб зьбіць з тропу людзей і не дапусьціць да перадачы архіву дабравольна і да суда. Відаць, ён мае свае прычыны, а мо' й пляны, яму залежыць, каб архіў заставаўся ў Парыжы. Я падазраю, што ён у кантакце зь Нінай [Абрамчык], можа нават ёй памагае. Навёў мяне на гэту думку такі факт: у лісьце да мяне з Рыму сп. [Марыян] Пецюкевіч[13], між іншага, напісаў, што яго запрасіла ў Парыж Ніна [Абрамчык], але ён не паехаў, бо ня меў грошы на дарогу. Хто паведаміў Ніну, што [Марыян] Пецюкевіч у Рыме? Я падазраю — ніхто іншы, як а. [Леў] Гарошка. А калі так — дык у яго зь ёю адзін фронт.

Пішу гэта ўсё канфідэнцыйна толькі да Вашага ведама. Можаце сказаць сп. [Гаю] Пікардзе, што [Міхась] Наумовіч адмовіўся, але не кажыце пра яго недавер. Пэўне-ж ня варта сп. [Гаю] Пікардзе намаўляць [Міхася] Наумовіча на нашага рэпрэзэнтатара. А трэба-ж будзе некага знайсьці. На жаль, я нічога тут не змагу зрабіць. Эўрапэйцы мусяць за гэта ўзяцца. І калі хто зможа ўціхамірыць а. [Лява] Гарошку, дык толькі Вы, Уладыка.

Між іншага, сп. [Марыян] Пецюкевіч напісаў мне даўгі й цікавы ліст, у якім цёпла адзываецца аб Марыянах Вашых і аб Вас.

З прывітаньнямі ад нас абаіх

В[інцэнт] Жук-Грышкевіч

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

беларусіст, юрыст, дасьледнік беларускай музыкі, кнігадрукаваньня, гісторыі беларускай прысутнасьці ў Вялікабрытаніі ды інш., сябра Англа-Беларускага таварыства.

[13] **Марыян Пецюкевіч** (1904—1983), этнограф, грамадзкі дзеяч, публіцыст. Жыў у Торуні, дзе быў ініцыятарам стварэньня Музэю этнаграфіі.

*Тэма нумару: Царква на эміграцыі*

***Аляксандар Сълесараў***
*Менск*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў 1944—1991 ГГ.

## 1. Беларускае царкоўнае жыцьцё на чужыне ў 1944—1946 гг.

### *1.1. Беларуская праваслаўная царква напярэдадні эміграцыі 1944 г.*

Узьнікненьне Беларускай праваслаўнай царквы (БПЦ) у статусе мітраполіі стала вынікам складаных геапалітычных працэсаў, якія адбываліся ў канцы 1930-х — першай палове 1940-х гг. Да пачатку Другой сусьветнай вайны рэалізацыя савецкай рэлігійнай палітыкі прывяла да поўнай ліквідацыі арганізаванага царкоўнага жыцьця ў межах БССР. Закрыцьцё апошняга праваслаўнага храму на тэрыторыі Ўсходняй Беларусі адбылося ў 1939 г.[1]

Інакш складвалася сытуацыя ў Заходняй Беларусі, якая з 1921 г. уваходзіла ў склад Польскай Рэспублікі. Згодна з пастановай патрыярха Канстантынопальскага Рыгора VII і Сьвятога сыноду Канстантынопальскага патрыярхату ад 13 лістапада 1924 г., пераход Кіеўскай мітраполіі ў юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы 1686 г. абвяшчаўся пазбаўленым кананічных падставаў. Зыходзячы з гэтага, Праваслаўная царква ў межах Другой Рэчы Паспалітай абвяшчалася аўтакефальнай[2]. Падзеі пачатковага этапу Другой сусьветнай вайны прывялі да ўваходжаньня тэрыторый Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны ў склад савецкай дзяржавы. У імкненьні да захаваньня стабільнага стану арганізацыі царкоўнага жыцьця 1 лістапада 1939 г. архіяпіскап Пінскі й Палескі Аляксандар (Іназемцаў), архіяпіскап Валынскі й Крамянецкі

---

[1] Кривонос, Феодор. У Бога мёртвых нет. Неизвестные страницы из истории Минской епархии (1917—1939 годы). Минск, 2007. С. 220—221; Слесарев, Александр. Гомельская православная епархия в первой половине XX века: образование, развитие, ликвидация // Труды Минской духовной академии. № 13. 2016. С. 269—305.

[2] Патриарший и Синодально-Канонический Томос // Вестник Православной митрополии в Польше. № 8. 1925. С. 1.

Палікарп (Сікорскі) і вікарый Валынскай япархіі япіскап Астроскі Сіман (Іваноўскі) сфармавалі Сьвяты сынод Праваслаўнай царквы ў Польшчы ў межах Заходняй Украіны й Заходняй Беларусі. Але гэтая ініцыятыва не атрымала падтрымкі з боку новых уладаў, якія імкнуліся да падпарадкаваньня царкоўных структураў нановадалучаных тэрыторыях Маскоўскай патрыярхіі[3]. Загадам патрыяршага месцаахоўніка (месцаблюсьціцеля) Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ) мітрапаліта Сергія (Страгародзкага) ад 17 кастрычніка 1939 г. экзархам (прадстаўніком) Маскоўскай патрыярхіі на ўсіх новадалучаных тэрыторыях Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі прызначаўся архіяпіскап Пінскі й Наваградзкі Панцеляймон (Ражноўскі)[4]. Гэтыя падзеі абумовілі выхад значнай часткі беларускіх земляў зь юрысдыкцыі Праваслаўнай царквы ў Польшчы ды іх прыяднаньне да Маскоўскага патрыярхату.

Пастановай Маскоўскай патрыярхіі ад 28 кастрычніка 1940 г. з мэтай удасканаленьня кіраваньня царкоўным жыцьцём у Заходняй Украіне й Заходняй Беларусі ствараўся Экзархат РПЦ, які ўключаў у свой склад Валынскую, Тэрнопальска-Галіцкую, Гарадзенска-Вілейскую й Палескую япархіі. Кіраўніком новаўтворанай структуры стаў экзарх Заходніх Украіны й Беларусі архіяпіскап Валынскі й Луцкі Мікалай (Ярушэвіч)[5]. Такім чынам, на беларуска-ўкраінскіх землях паўстала асобная царкоўна-адміністрацыйная адзінка, падпарадкаваная экзарху Маскоўскага патрыярхату.

Новы этап станаўленьня беларускай царкоўнай структуры пачаўся пасьля нямецкай акупацыі Беларусі. Улічваючы эвакуацыю мітрапа-

---

[3] Священний Синод Св. Православної Церкви в кордонах Західньої України і Західньої Білорусії. Постанова Ч. 1, від 1-го листопада 1939 р. // Мартирологія Українських Церков: у 4 т. Т. 1: Українська Православна Церква. Документи, матеріали, християнський самвидав України. Торонто-Балтимор: Українське Видавництво "Смолоскип" ім. В. Симоненка, 1987. С. 617—619; Из записки наркома внутренних дел СССР Л. П. Берии И. В. Сталину и В. М. Молотову "О церковных епархиях в западных областях УССР и БССР" 20 сентября 1940 г. // Курляндский, Игорь Сталин, власть, религия (религиозный и церковный факторы во внутренней политике советского государства в 1922—1953 гг.). Москва: Кучково поле, 2011. С. 542—543.

[4] Автобиография митрополита Пантелеймона (Рожновского) // Архіў Германскай епархіі Рускай праваслаўнай царквы за мяжой (АГЕ РПЦЗ). Ф. 4. Спр. 4/1; Афанасий (Мартос), архиепископ. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес, 1966. С. 269.

[5] Указ Московской Патриархии Преосвященному архиепископу Полесскому. 28 октября 1940 г. // Мартирологія Українських Церков: у 4 т. Т. 1: Українська Православна Церква. Документи, матеріали, християнський самвидав України. С. 623; Из записки наркома внутренних дел СССР Л. П. Берии И. В. Сталину и В. М. Молотову "О церковных епархиях в западных областях УССР и БССР" 20 сентября 1940 г. С. 542—543.

літа Мікалая (Ярушэвіча) у савецкі тыл, 15 ліпеня 1941 г. патрыяршы месцаахоўнік выдаў загад, паводле якога *"экзаршыя абавязкі па япархіях Беларусі часова пераходзяць да найстарэйшага з наяўных там архіпастыраў — кіраўнікоў япархіяў"*[6]. Гэтая пастанова фактычна вылучала першаярарха Праваслаўнай царквы на беларускіх землях, што было значным крокам на шляху засваеньня правоў суб'ектнасьці Беларускай праваслаўнай царквой. Выконваючы пастанову, архіяпіскап Панцеляймон абняў абавязкі экзаха Маскоўскага патрыярхату ў Заходняй Беларусі.

У ліпені 1941 г. архіяпіскап Панцеляймон даў згоду на ўзначаленьне Праваслаўнай царквы ў межах Генэральнага камісарыяту Беларусь на ўмовах разрыву кананічнай залежнасьці ад Маскоўскага патрыярхату, дыстанцыяваньня ад Праваслаўнай царквы ў Генэрал-губэрнатарстве (Польшчы) і абвяшчэньня беларускай аўтакефаліі. Распараджэньнем генэральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ ад 3 кастрычніка 1941 г. архіяпіскап Панцеляймон зацьвярджаўся на пасадзе кіраўніка БПЦ. Праз тры дні Сабор япіскапаў БПЦ надаў свайму першаярарху тытул мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі[7]. Вынікам згаданых падзеяў стала пераўтварэньне беларускіх япархій Маскоўскага патрыярхату, узначаленых экзархам, у Беларускую мітраполію. Характэрнай асаблівасьцю адміністрацыйнай структуры БПЦ стала ўзьнікненьне калегіяльнага органу найвышэйшага царкоўнага кіраўніцтва — Сабору япіскапаў, чаго не прадугледжвала структура экзархату.

Удасканаленьне структуры Беларускай мітраполіі адбылося на Ўсебеларускім царкоўным саборы, які праходзіў 30 жніўня — 2 верасьня 1942 г. у Менску. Вынікам саборных паседжаньняў стала прыняцьце Статуту БПЦ, які замацоўваў за царкоўнай арганізацыяй на беларускіх землях статус мітраполіі, вызначаў паўнамоцтвы першаярарха й органаў царкоўнага кіраваньня ўсіх узроўняў (Усебеларускага царкоўнага сабору, Сабору япіскапаў, Сьвятога сыноду, духоўных кансысторый, дабрачыньніцкіх і парафіяльных радаў)[8]. Замацоўваючы за мітраполіяй афіцыйны назоў *"Сьвятая Праваслаўная Беларуская Аўтакефальная*

[6] Указ Московской Патриархии Преосвященному Митрополиту Волынскому, Экзарху западных областей Украины и Белоруссии, Николаю // Правда о религии в России. Московская Патриархия, 1942. С. 112—113

[7] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 370. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 11—15; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. Нью-Йорк: Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1956. С. 83; Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь. Вільня: Gudas, 2006. С. 103, 113—114.

[8] Статут Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы, прыняты Ўсебеларускім Царкоўным Саборам 30.8. —2.9.1942 г. // Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 173—188.



Архіяпіскап Філафей (Нарко). Менск, чэрвень 1944 г.

*Царква"*, Статут у сваім 113-м параграфе прадугледжваў магчымасьць абвешчаньня яе аўтакефаліі толькі пасьля ўзгадненьня з усімі Памеснымі праваслаўнымі цэрквамі[9]. Паколькі ва ўмовах сусьветнай вайны міжцаркоўнага абмеркаваньня пытаньня беларускай аўтакефаліі не адбылося, афіцыйны назоў Сьвятой праваслаўнай беларускай аўтакефальнай царквы не адпавядаў яе рэальнаму кананічнаму статусу.

У сувязі з набліжэньнем лініі фронту, напрыканцы чэрвеня 1944 г. пачалася эвакуацыя беларускага епіскапату й духавенства на Захад. Вынікам гэтага стаў ад'езд за межы Беларусі мітрапаліта Менскага й Беларускага Панцеляймона (Ражноўскага), архіяпіскапа Гарадзенскага й Беластоцкага Вэнэдыкта (Бабкоўскага), архіяпіскапа Магілёўскага й Мсьціслаўскага Філафея (Нарко), архіяпіскапа Берасьцейскага й Ковельскага Іаана (Лаўрыненкі), япіскапа Віцебскага й Полацкага Апанаса (Мартаса), япіскапа Гомельскага й Мазырскага Рыгора (Барышкевіча), япіскапа Смаленскага й Аршанскага Сьцяфана (Сеўбы), вікарыя Смаленскай япархіі япіскапа Раслаўскага Паўла (Мялецьцева)[10]. Колькасьць эвакуяваных зь Беларусі праваслаўных клірыкаў у згаданы час няведамая. Паводле сьпісу архіяпіскапа Філафея (Нарко), у 1944—1945 гг. на тэрыторыі Нямеччыны апынуліся 51 сьвятар і 1 дыякан[11]. Пачаўся пэрыяд існаваньня Беларускай мітраполіі ў эміграцыі.

### *1.2. Беларуская мітраполія на чужыне ў 1944—1946 гг.*

Першапачаткова ярархі Беларускай мітраполіі разьмясьціліся ў г. Сасновец (*Sosnowiec*) рэгіёну Верхняя Сілезія (цяпер Сілескае ваяводзтва, Польшча), а потым у г. Францэнсбад (*Franzensbad*, цяпер г. Францішкавы-Лазьне, *Františkovy Lázně*, Чэхія). Нягледзячы на фактычную страту кантролю над царкоўнымі структурамі на беларускіх землях, яны не адмаўляліся ад статусу кіраўнікоў беларускіх япархіяў, працягвалі тытулавацца па найменьнях катэдральных беларускіх гарадоў, рэгулярна праводзілі паседжаньні Сьвятога сыноду, фармальна прызнавалі існымі прадугледжаныя Статутам пасады

9 Статут Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы... С. 188.

10 Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 141; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980 // Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 167.

11 Беларускія праваслаўныя сьвятары ў Нямеччыне 1944—1945 гг. // Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 247—249.



Архіяпіскап Апанас (Мартас)

й кананічныя падразьдзяленьні (захоўваліся такія інстытуцыі, як зьверхніцтва (прадстаяцельства), Сабор япіскапаў, Сьвяты сынод, Царкоўны сабор, япархіі, царкоўны суд і інш.). Акрамя таго, значная частка беларускіх сьвятароў, пакінуўшы радзіму, арыентавалася ў сваёй дзейнасьці на архірэяў-суайчыньнікаў. Гэтыя абставіны давалі падставу для працягу існаваньня Беларускай мітраполіі ва ўмовах дыяспары[12]. Тым часам на тэрыторыі БССР адраджэньня структуры Беларускай мітраполіі не адбылося. Арганізаваныя ў верасьні 1944 г. Менска-Беларуская й Берасьцейска-Кобрынская япархіі ўвайшлі ў непасрэднае падпарадкаваньне Сьвятога сыноду РПЦ[13]. Такім чынам, на працягу шэрагу гадоў пасьля вызваленьня Беларусі ад нямецкай акупацыі дзейнасьць Беларускай мітраполіі як арганізаванай царкоўна-адміністрацыйнай структуры працягвалася выключна на чужыне.

Нягледзячы на фармальнае захаваньне інстытуцый Беларускай мітраполіі, нямецкія ўлады не дазволілі беларускім ярархам ажыцьцяўляць рэальнае царкоўнае кіраўніцтва беларускай дыяспарай на тэрыторыі Трэцяга Райху[14]. Наступствам гэтай забароны стаў масавы пераход беларускіх сьвятароў у юрысдыкцыю Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой (РПЦЗ).

---

[12] Апанас, архіяпіскап. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства. 1928—1978. Успаміны. Нью-Ёрк — Менск — Варшава, 2005. С. 89—90, 94; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 141; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980. P. 167.

[13] НАРБ. Ф. 951. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 3—5; Назначения на архиерейские кафедры // Журнал Московской Патриархии. № 9. 1944. С. 7; Назначения на архиерейские кафедры // Журнал Московской Патриархии. № 10. 1944. С. 7.

[14] Вэнэдыкт, архіяпіскап. Палажэньне Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Лос Анжэлес, 1968. Машынапіс. Арк. 32.

На апошнім этапе Другой сусьветнай вайны епіскапат Беларускай мітраполіі актыўна падтрымоўваў дзейнасьць антысавецкіх узброеных фармаваньняў, якія складаліся з расейскіх эмігрантаў ці былых савецкіх грамадзянаў. Пэўны час у 1944 г. япіскап Апанас (Мартас) меў добрыя стасункі з прадстаўнікамі Казачага стану (вайсковая адзінка ў складзе вэрмахту) і нават разглядаўся імі ў якасьці кандыдата на ўзначаленьне казацкай япархіі[15]. Напрыканцы таго ж году Сынод Беларускай мітраполіі накіраваў архіяпіскапа Філафея (Нарко) у Бэрлін для адпраўленьня набажэнстваў пры 1-м вучэбным корпусе Беларускай краёвай абароны[16]. У студзені 1945 г. Сынод Беларускай мітраполіі накіраваў каляднае прывітаньне Камітэту вызваленьня народаў Расеі пад кіраўніцтвам Андрэя Ўласава[17].

Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны епіскапат Беларускай мітраполіі апынуўся на тэрыторыі, акупаванай саюзьнікамі. Але ўжо ў верасьні 1945 г. з прычыны пераходу Францэнсбаду пад савецкі кантроль ярархі пераехалі ў лягер для перамешчаных асобаў (*Displaced Person — DP*) Тырсгайм (*Thiersheim*, цяпер зямля Баварыя, Нямеччына) на тэрыторыі Амэрыканскай акупацыйнай зоны. Выключэньне склаў япіскап Сьцяфан (Сеўба), які пасяліўся ў лягеры Фрайман (г. Мюнхэн, Баварыя)[18].

На працягу другой паловы 1944 — першай паловы 1945 гг. Сынод Беларускай мітраполіі ня мог рэальна ўплываць на рэлігійнае жыцьцё праваслаўных беларусаў у Заходняй Эўропе. Таму створаны ў чэрвені 1945 г. Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з Васілём Кендышам ініцыяваў пытаньне адраджэньня структуры Беларускай праваслаўнай царквы на чужыне. Акрамя таго, БНК займаўся рэгістрацыяй беларускіх эмігрантаў і дапамогай ім у юрыдычных пытаньнях, аргані-

---

[15] Апанас, архіяпіскап. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства. С. 94—96; Ленивов, Александр. Под казачьим знаменем. Эпопея Казачьего Стана под водительством Походных Атаманов Казачьих Войск С. В. Павлова и Т. И. Доманова в 1943—1945 гг. Материалы и документы. Мюнхен, 1970. С. 54; Шкаровский, Михаил. О пастырском окормлении Казачьего Стана в Северной Италии в годы Второй мировой войны // Вестник церковной истории. № 2. 2006. С. 220—222, 228.

[16] Езавітаў, Кастусь. Дзёньнік (1944—1945) // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013.С. 234, 236; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 141.

[17] Комитету Освобождения Народов России // Воля народа. № 3 (16). 1945. С. 2.

[18] Апанас, архіепіскап. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства. С. 92; Касяк, І. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 139, 141—142; Хроніка. З жыцьця Беларускай Праваслаўнай Царквы // Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі. № 1. Люты 1946. С. 22.

зацыяй нацыянальных культурна-адукацыйных установаў, прадстаўніцтвам інтарэсаў беларускіх уцекачоў перад амэрыканскай акупацыйнай адміністрацыяй. Восеньню 1945 г. на запросіны Васіля Кендыша Сынод Беларускай мітраполіі накіраваў япіскапа Апанаса (Мартаса) у г. Рэгенсбург для адпраўленьня набажэнстваў пры адміністрацыйным цэнтры БНК у мясцовым беларускім лягеры для перамешчаных асобаў. У хуткім часе гэта прывяло да ўзьнікненьня першай беларускай праваслаўнай парафіі на чужыне й будаўніцтва храму, асьвячонага ў гонар Эўфрасіньні Полацкай. Праз кароткі час узаемаадносіны паміж БНК і Сынодам сур'ёзна пагоршыліся з прычыны розных поглядаў на пытаньне падлегласьці сьвецкай арганізацыі кантролю з боку царкоўных ярархаў[19].

Нягледзячы на пагаршэньне стасункаў паміж БНК і беларускім епіскапатам, праваслаўная парафія лягеру *DP* у Рэгенсбургу актыўна разьвівалася. Трэба адзначыць, што названае селішча стала адным зь першых буйных асяродкаў кампактнага жыцьця беларускіх уцекачоў на Захадзе пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны. На люты 1946 г. у ім перабывалі каля 400 беларусаў, дзейнічала першая беларуская гімназія на чужыне, народны ўнівэрсытэт для дарослых, курсы кіроўцаў, эстрадная трупа, хор. У 1946 г. у беларускім лягеры былі заснаваныя Згуртаваньне беларускіх скаўтаў, Цэнтраля беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, пачаў выдавацца беларускі праваслаўны часопіс "Зьвіняць званы сьвятой Сафіі". На пасадзе настаяцеля парафіі япіскапа Апанаса зьмяніў протаярэй Мікалай Лапіцкі[20].

У 1945—1946 гг. актыўна ішоў працэс арганізацыі беларускіх лягераў *DP* і беларускіх асяродкаў у лягерах іншых нацыянальнасьцяў, але не заўсёды заснаваныя ў іх парафіі належалі да юрысдыкцыі Беларускай мітраполіі. Так, праваслаўныя беларускія грамады лягераў

---

[19] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 4, 73—75; Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Менск, 1994. С. 89; Кендыш, Васіль, а. Да Саракалецьця Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вольным Сьвеце // Голас Царквы. № 58. 1986. С. 13—14.

[20] Беларуская Праваслаўная Царква і яе аўтакефалія // Сіла Веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. № 7. 1954. С. 19; Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. С. 105; Крыжаніч, А. Царква Прэпадобнай Еўфрасіньні // Беларускае Слова. № 7 (8). 18 чэрвеня 1949. С. 4; Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). Менск, 2001. С. 23; Царква сьв. Аўфрасіньні ў Нямеччыне // Бацькаўшчына. № 20 (23). 1948. С. 4; Хроніка. З жыцьця Беларускай Праваслаўнай Царквы // Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі. № 1. Люты 1946. С. 22.

Шляйсгайм (*Schleißheim*, зямля Баварыя), Мёнхэнгоф (*Mönchehof*, зямля Гэсэн), Гановэр і Варбэрг (*Hannover*, *Warberg*, зямля Ніжняя Саксонія) належалі да юрысдыкцыі РПЦЗ[21]. Парафія беларускага лягеру Ватэнштэт (*Watenstedt*, зямля Ніжняя Саксонія) таксама фармальна адносілася да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, але падтрымлівала стасункі з Сынодам Беларускай мітраполіі і ў першай палове 1946 г. двойчы прымала архіяпіскапа Філафея (Нарко)[22].

### *1.3. Пераход ярархаў Беларускай мітраполіі ў юрысдыкцыю РПЦЗ (1946)*

Параза Нямеччыны ў Другой сусьветнай вайне пазбаўляла эвакуяваны беларускі епіскапат і духавенства магчымасьці вярнуцца на радзіму, дзе ім пагражала абвінавачаньне ў калябарацыянізьме. Пэрспэктыва працяглага існаваньня Беларускай мітраполіі на чужыне нараджала шэраг пытаньняў адносна яе кананічнага статусу. Прычынай таму была адсутнасьць непасрэдных стасункаў мітраполіі з асноўнай часткай праваслаўных беларускіх вернікаў у Беларусі й вымушанае знаходжаньне на тэрыторыях з ужо ўсталяванымі царкоўнымі структурамі. Улічваючы абставіны, 10 студзеня 1946 г. беларускія ярархі афіцыйна зьвярнуліся ў Архірэйскі сынод РПЦЗ з прапановай далучэньня Беларускай мітраполіі да юрысдыкцыі Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Пасьля разгляду гэтага пытаньня, 23 лютага 1946 г. Архірэйскі сынод прыняў папярэдняе рашэньне аб прыяднаньні Беларускай мітраполіі. Канчатковае зацьверджаньне сынадальнай

---

[21] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 4—5; Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. С. 136; Гановэр. Добры пачын // Шляхам Жыцьця. № 4. 31 траўня 1946. С. 18; Корнилов, Александр. Белое духовенство лагеря Шлясхайм // Ежегодная богословская конференция Православного Свято-Тихоновского гуманитарного университета: Материалы. Т. 1. № 18. Москва: ПСТГУ, 2008. С. 293—302; Корнилов, А., Кинстлер, А. Педагогическая интеллигенция и духовенство лагеря перемещенных лиц Менхегоф // Интеллигенция и мир. № 2. 2016. С. 41.

[22] Галяк, Леанід. Рэлігійныя падзеі ў Ангельскай зоне Нямеччыны ў 1946 годзе // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 49; Беларуская хроніка // Шляхам Жыцьця. № 3. 5 траўня 1946. С. 14; Вялікдзень у Беларускім Лягеры ў Ватэнштэце // Шляхам Жыцьця. № 3. 5 траўня 1946. С. 14; Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі Лягер у Ватэнштэт. Альбом — гістарычная даведка. South Plainfield, 1981. С. 6—7, 9—10; Хроніка. З жыцьця Беларускай Праваслаўнай Царквы // Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі. № 1. Люты 1946. С. 22.

пастановы павінна было адбыцца на найбліжэйшым паседжаньні Архірэйскага сабору РПЦЗ[23].

Усе перамовы беларускага епіскапату з кіраўніцтвам Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой праходзілі таемна й не прадугледжвалі інфармаваньня беларускай грамадзкасьці да часу афіцыйнага рашэньня гэтага пытаньня на Архірэйскім саборы РПЦЗ. Нягледзячы на гэта, зьявіліся чуткі пра падрыхтоўку да зьмены Сынодам Беларускай мітраполіі сваёй юрысдыкцыйнай прыналежнасьці, што спарадзіла шырокі рэзананс у беларускім асяродзьдзі. Рэакцыяй прыхільнікаў захаваньня беларускай царкоўнай незалежнасьці стала правядзеньне Першага Беларускага праваслаўнага зьезду, які адбыўся 5 траўня 1946 г. у Рэгенсбургу. У паседжаньнях Зьезду бралі ўдзел протаярэй Мікалай Лапіцкі, протаярэй Леанід Стаднікаў, протаярэй Іаан Жарскі, 58 прадстаўнікоў беларускіх парафій і грамадзкіх арганізацыяў зь лягераў *DP* Амэрыканскай, Брытанскай і Француская акупацыйных зонаў Нямеччыны. Назіральнікамі з боку Сыноду Беларускай мітраполіі былі архіяпіскап Філафей (Нарко) і япіскап Апанас (Мартас). Вынікам Зьезду стала асуджэньне ініцыятывы беларускага епіскапату адносна зьмены царкоўнай юрысдыкцыі й накіраваньне ярархам афіцыйнага звароту з просьбай устрымацца ад гэтага кроку. Для каардынацыі беларускага царкоўнага жыцьця на чужыне стваралася Беларускае праваслаўнае аб'еднаньне (БПА), кіраўніцтва якім даручалася часоваму ўраду на чале зь Міколам Шчорсам[24].

На наступны дзень, 6 траўня 1946 г., у Мюнхэне прайшло паседжаньне Архірэйскага сабору РПЦЗ, на якім адбылося зацьверджаньне пастановы Архірэйскага сыноду ад 23 лютага 1946 г. адносна далучэньня Беларускай мітраполіі. Умовамі яе прыяднаньня вызначаліся захаваньне ўнутранай адміністрацыйнай аўтаноміі, уключэньне мітрапаліта Менскага ці яго заступніка ў склад Архірэйскага сыноду РПЦЗ

[23] Копия определения Архиерейского Синода Русской Православной Церкви Заграницей от 19 ноября 1956 г. // Архіў Германскай епархіі Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой (АГЕ РПЦЗ). Ф. 7. К. "Епархиальная переписка, 1956 год". Арк. 1—2.

[24] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 10—11; Ліста прысутных на Нарадзе Праваслаўнае Беларускае Гіерархіі, Духавенства й Вернікаў у Рэгэнсбургу 5 траўня 1946 году // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. Нью-Ёрк — Варшава: БІНіМ, ІСПАН, 2005. С. 589—590; Пастанова Праваслаўнага Беларускага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5.5.1946 г. // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 591; Пратакол Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. (эміграцыя ў Нямеччыне) // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 591—595; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 143—144; Царкоўны Зьезд // Шляхам Жыцьця. № 4. 31 траўня 1946. С. 17.



Япіскап Сьцяфан (Сеўба)

і замацаваньне за ім права прызначэньня беларускіх сьвятароў на беларускія парафіі. Прызначэньне беларускіх сьвятароў на расейскія парафіі прадугледжвала ўзгадненьне пытаньня з кіраўнікам Германскай япархіі РПЦЗ мітрапалітам Сэрафімам (Лядэ). Разам зь епіскапатам Беларускай мітраполіі ў юрысдыкцыю Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой пераходзілі 35 клірыкаў[25].

Трэба адзначыць, што ня ўсе беларускія япіскапы пажадалі ці змаглі далучыцца да РПЦЗ. Былы архіяпіскап Берасьцейскі й Ковельскі Іаан (Лаўрыненка) яшчэ ў кастрычніку 1945 г. пажадаў вярнуцца ў Савецкі Саюз і перайсьці ў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату. Пастановай Сьвятога сыноду РПЦ ад 12 студзеня 1946 г. ён атрымаў прызначэньне на пасаду кіраўніка Молатаўскай (Пермскай) япархіі[26]. Іншая сытуацыя склалася з былым вікарыем Смаленскай япархіі япіскапамРаслаўскім Паўлам (Мялецьцевым), які падазраваўся ў жаданьні прыяднацца да Рыма-Каталіцкай царквы. Выкліканы на паседжаньне Архірэйскага сабору РПЦЗ, якое адбывалася 7 траўня 1946 г., ён адмовіўся паставіць свой подпіс пад заявай аб беспадстаўнасьці ягоных абвінавачаньняў у таемных стасунках з Ватыканам. З гэтай прычыны ён атрымаў адмову на прыяднаньне да РПЦЗ і ў тым жа месяцы афіцыйна перайшоў у каталіцызм, дзе атрымаў тытул япіскапа Гэраклеопальскага[27].

---

[25] Копия определения Архиерейского Синода Русской Православной Церкви Заграницей от 19 ноября 1956 г.; Удостоверение Архиерейского Синода Русской Православной Церкви Заграницей № 996, Ноября 19, 1949 г. // Праваслаўны Беларус. № 25. Чэрвень 1992. С. 6.

[26] Письма патриарха Алексия I в Совет по делам Русской православной церкви при Совете народных комиссаров — Совете министров СССР: в 2 т. / под ред. В. Козлова, С. Мироненко. Т. 1: 1945—1953 гг. Москва: РОССПЭН, 2009. С. 103—104; Назначения на архиерейские кафедры // Журнал Московской Патриархии. № 3. 1946. С. 6.

[27] Протокол № 1 Архиерейского Собора Русской Православной Церкви заграницей 24 апреля / 7 мая 1946 г. // Сынадальны архіў Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой (СА РПЦЗ). Спр. 76/46. Арк. 4—9; Кострюков,

Праз хуткі час беларускія ярархі атрымалі прызначэньні на архірэйскія катэдры Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой адміністрацыйнай структуры Беларускай мітраполіі. Пастановай Архірэйскага сыноду РПЦЗ ад 28 чэрвеня 1946 г. архіяпіскап Філафей (Нарко) стаў кіраўніком Грос-Гэсэнскага вікарыяцтва, япіскап Апанас (Мартас) — кіраўніком Гамбурскага вікарыяцтва, а япіскап Рыгор (Барышкевіч) — кіраўніком Бамбэрскага вікарыяцтва Германскай япархіі РПЦЗ. 13 ліпеня 1946 г. япіскап Сьцяфан (Сеўба) узначаліў Венска-Аўстрыйскую япархію РПЦЗ[28]. Пры гэтым у межах Беларускай мітраполіі названыя ярархі захавалі свае папярэднія тытулы, якія ўключалі назвы беларускіх гарадоў. Такі падыход атрымаў афіцыйнае зацьвярджэньне на нарадзе япіскапаў Беларускай мітраполіі РПЦЗ, якая праходзіла 14—15 сьнежня 1949 г.[29]

## 2. Пачатак царкоўнага расколу беларускай дыяспары (1946—1948 гг.)

### *2.1. Беларускае царкоўнае жыцьцё на чужыне ў першыя два гады пасьля далучэньня Беларускай мітраполіі да РПЦЗ*

Завяршэньне працэдуры далучэньня Беларускай мітраполіі да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой выклікала рэзка нэгатыўную рэакцыю з боку значнай часткі беларускіх грамадзка-палітычных арганізацыяў і дзеячаў. Гэтыя падзеі ў хуткім часе нарадзілі ажыўленую палеміку паміж праціўнікамі й прыхільнікамі зьмены адміністрацыйна-кананічнага статусу мітраполіі.

Ужо 31 траўня 1946 г. Беларускае праваслаўнае аб'еднаньне апублікавала "Зварот Беларускай грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату", пад якім стаялі подпісы Юрыя Стукаліча, Аляксандра Орсы й Хведара Шыбута. Тэкст Звароту зьмяшчаў шкадаваньне аб тым, што беларускія ярархі не падтрымалі імкненьні паствы *"захаваць сваё нацыянальнае*

Андрей. Русская Зарубежная Церковь в 1939—1964 гг. Административное устройство и отношения с Церковью в Отечестве. Москва: Издательство ПСТГУ, 2015. С. 120—121, 173—174; Павел (Мелетьев), епископ. Путь моего служения. Воспоминания о пережитом в Советском Союзе // Россия и Вселенская Церковь. № 4 (57). 1962. С. 19—26.

[28] Апанас, архіепіскап. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства. С. 99; Кострюков, Андрей. Русская Зарубежная Церковь в 1939—1964 гг. С. 175—176.

[29] Акт Совещания Епископов Белорусской Православной Церкви на эмиграции от 14—15 декабря 1949 г. // Праваслаўны Беларус. № 9. 1949. С. 4.

*рэлігійнае існаваньне як нешта адзінае, суцэльнае й неразрыўнае"*[30]. Адсутнасьць інфармацыі аб умовах пераходу Беларускай мітраполіі ў склад РПЦЗ вымушала аўтараў Звароту прасіць мітрапаліта Панцеляймона (Ражноўскага) выканаць наступнае: 1) высьвеціць у беларускай прэсе праўнае становішча Беларускай мітраполіі на чужыне; 2) афіцыйна запярэчыць паведамленьню аб уліваньні Беларускай мітраполіі ў склад РПЦЗ; 3) ярархам Беларускай мітраполіі зьвярнуцца да беларускага народу з архіпастырскім пасланьнем і ў ім *"пацьвердзіць, што яны ў цяжкія хвіліны нацыянальнага й рэлігійнага жыцьця будуць заўсёды з народам, а ня супраць яго, як сёньня шмат каму пад уплывам з боку варожае Беларускай Праваслаўнай Царкве прапаганды здаецца"*; 4) Пераглядзець свае адносіны да Першага Беларускага праваслаўнага зьезду й ягоных удзельнікаў[31].

Больш катэгарычная крытыка беларускага епіскапату прагучала ў ананімнай улётцы, надрукаванай 5 чэрвеня 1946 г. у Рэгенсбургу. Яе аўтары параўноўвалі ярархаў Беларускай мітраполіі з архірэямі Кіеўскай мітраполіі канца XVI ст., якія адышлі ад праваслаўя й прынялі ўмовы Берасьцейскай царкоўнай вуніі. Таму беларускія вернікі заклікаліся адысьці ад сваіх япіскапаў і прыкладаць усе намаганьні, каб захаваць незалежнасьць Беларускай праваслаўнай царквы[32].

Разрастаньне пратэсту ў беларускім праваслаўным асяродзьдзі падштурхнула Сынод Беларускай мітраполіі пачаць выданьне свайго афіцыйнага органу, якім стаў часопіс "Беларускі Царкоўны Голас". Першы нумар выйшаў у чэрвені 1946 г. у лягеры Тырсгайм пад рэдакцыяй япіскапа Апанаса (Мартаса)[33]. На старонках часопісу архіяпіскап Вэнэдыкт (Бабкоўскі) апублікаваў артыкул "Палажэньне Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі", які быў адказам на "Зварот Беларускай грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату". Зьвяртаючыся да пытаньня кананічнага статусу Беларускай мітраполіі, архіяпіскап выказваў думку адносна адсутнасьці натуральнага парадку яе стварэньня. Паводле яго, мітраполія ўзьнікла ў межах кананічных тэрыторый Расейскай і Польскай праваслаўных цэркваў пад ціскам нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. У 1944 г. адбылося вызваленьне Бела-

---

30 Зварот Беларускай грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 28.

31 Зварот Беларускай грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату. С. 29.

32 Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 145.

33 Апанас, архіепіскап. На ніве Хрыстовай: у пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства. С. 97; Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на эміграцыі (Да праблемы вывучэньня рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары ў сьвеце) // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004. С. 70, 73.

русі й адраджэньне на яе землях юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату, што пазбаўляла Беларускую мітраполію на чужыне падставаў для далейшага існаваньня. Жаданьне беларускіх ярархаў увайсьці ў склад РПЦЗ архіяпіскап Вэнэдыкт тлумачыў тым, што нібыта *"адзінай эмігранцкай Царквой, прызнанай Усяленскай Праваслаўнай Патрыярхіяй, зьяўляецца «Расейская Праваслаўная Загранічная Царква», узглаўляемая мітрапалітам Анастасіем, а таксама й тое, што мы апынуліся менавіта на абшарах ею кіруемых і што духоўна праўцуем зь першых жа дзён эміграцыі сумесна і ў згодзе зь ёю"*[34]. Насамрэч адзінай царкоўнай структурай, сфармаванай расейскімі эмігрантамі ў Заходняй Эўропе й прызнанай Канстантынопальскім патрыярхатам, быў Заходне-Эўрапейскі экзархат на чале зь мітрапалітам Еўлогіем (Георгіеўскім). Таму заява архіяпіскапа Вэнэдыкта пра адсутнасьць у беларускіх ярархаў іншых варыянтаў для выбару царкоўнай юрысдыкцыі была беспадстаўнай. Адказваючы на другое пытаньне "Звароту беларускай грамадзкасьці", аўтар артыкулу пацьвердзіў факт уваходжаньня Беларускай мітраполіі ў склад РПЦЗ. Далей архіяпіскап Вэнэдыкт падкрэсьліў жаданьне беларускага епіскапату заўсёды захоўваць еднасьць зь беларускім народам, але таксама адзначыў і цяжкасьці ў практычнай рэалізацыі гэтага жаданьня. Акрамя геаграфічнай расьцярушанасьці беларусаў замежжа, ён адзначыў крытычнае стаўленьне асобных прадстаўнікоў беларускага актыву да больш цесных адносінаў зь епіскапатам Беларускай мітраполіі. На заканчэньні свайго артыкулу архіяпіскап Вэнэдыкт выказваў намер прыкласьці намаганьні да аб'яднаньня праваслаўных беларусаў вакол беларускіх архірэяў і дзеля гэтага правесьці зьезд прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў у замежжы[35]. Такім чынам, прадстаўнік Беларускай мітраполіі канстатаваў нежаданьне прызнаваць вызначальную ролю Беларускага нацыянальнага камітэту, Першага Беларускага праваслаўнага зьезду й Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня ў кіраўніцтве царкоўным жыцьцём беларускай дыяспары. Абвінаваціўшы прадстаўнікоў беларускага актыву ў паслабленьні сувязяў паміж епіскапатам і народам, архіяпіскап Вэнэдыкт заявіў пра жаданьне царкоўных ярархаў кансалідаваць вакол сябе беларусаў замежжа.

Адказам на публікацыю архіяпіскапа Вэнэдыкта стаў артыкул ведамага беларускага грамадзкага дзеяча Леаніда Галяка "На царкоўныя тэмы", апублікаваны ў жніўні 1946 г. часопісам "Шляхам Жыцьця"

[34] Вэнэдыкт, архіяпіскап. Палажэньне Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 31—32.

[35] Тамсама. С. 32—33.



Протаярэй
Хведар Данілюк

(выдаваўся Беларускім дапамаговым камітэтам лягеру Ватэнштэт). Падкрэсьліваючы адсутнасьць згоды Маскоўскага патрыярхату на існаваньне РПЦЗ і Беларускай мітраполіі на чужыне, аўтар праводзіў думку адносна ідэнтычнасьці кананічнага становішча абедзьвюх царкоўных структураў. Таму асноўнай прычынай далучэньня беларускіх ярархаў да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой называўся іх прарасейскі настрой[36].

Акрамя часткі вернікаў, рашэньне беларускага епіскапату не падтрымалі асобныя клірыкі. Напрыклад, протаярэй Хведар Данілюк адмовіўся пераходзіць у склад РПЦЗ, адышоў ад актыўнага служэньня і ўладкаваўся працаваць прыбіральнікам на цэлюлёзную фабрыку[37]. Настаяцель праваслаўнай парафіі ў лягеры Бад-Заўльгаў (зямля Бадэн-Вюртэмбэрг) протаярэй Юліян Альхоўскі, які з 1944 г. прызнаваў юрысдыкцыю Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, зноў падпарадкаваўся беларускаму епіскапату і ў 1947 г. атрымаў прызначэньне на пасаду дабрачыннага Беларускай мітраполіі РПЦЗ у Францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны[38].

Пасьля пераходу ў склад РПЦЗ ярархі Беларускай мітраполіі прыкладалі актыўныя намаганьні для пашырэньня свайго ўплыву на беларускую эміграцыю. У траўні 1946 г. япіскап Апанас (Мартас) наведаў Рэгенсбург і заявіў аб сваім жаданьні ўзначаліць адпраўленьне літургіі ў царкве Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Аднак прадстаўнікі кіраўніцтва Беларускага нацыянальнага камітэту й Беларускага цэнтральнага дапамаговага камітэту адказалі, што не дапусьцяць служэньня архірэя РПЦЗ у беларускім храме. Рэакцыяй Сыноду Беларускай мітраполіі стала забарона настаяцелю прыходу Эўфрасіньні Полацкай протаярэю Мікалаю Лапіцкаму адпраўляць службы й адлучэньне ад прычасьця на

[36] Галяк, Леанід. На царкоўныя тэмы // Шляхам Жыцьця. № 8. 23 жніўня 1946. С. 7.

[37] Данілюк, Барыс. Мая мара — Вялікае Княства Літоўскае // Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Менск: Медысонт, 2007. С. 232.

[38] Аб канстанцкай "аўтакефаліі" Беларускай Праваслаўнай Царквы (Выясьненьні з Канцыляры Беларускай Мітраполіі). Цірсгайм, 08.07.1948 // Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 75; Нивьер, Антуан. Православные священнослужители, богословы и церковные деятели русской эмиграции в Западной и Центральной Европе. 1920—1995: Биографический справочник. Москва: Русский путь — Париж: YMCA-Press, 2007. С. 353.

тры гады актыўнага грамадзкага дзеяча Івана Касяка. Адначасова з гэтым япіскап Апанас атрымаў прызначэньне на пасаду адміністратара Рэгенсбурскай царкоўнай акругі (Амэрыканскай акупацыйнай зоны). Аднак у яго не атрымалася падпарадкаваць мясцовых беларусаў Сыноду Беларускай мітраполіі РПЦЗ. Таму 2 жніўня 1946 г. новым адміністратарам Амэрыканскай зоны стаў архіяпіскап Філафей (Нарко), а япіскап Апанас быў пераведзены на аналягічную пасаду ў Брытанскую акупацыйную зону з цэнтрам у Гамбургу. У хуткім часе беларускі епіскапат усталяваў кантроль над царкоўнай парафіяй у Рэгенсбургу[39]. Але ня ўсе беларускія асяродкі жадалі прызнаваць расейскую царкоўную юрысдыкцыю. Напрыканцы 1946 г. прыхільнікі РПЦЗ абнялі ключавыя пасады ў лягеры Міхэльсдорф, а праз паўтара году яны ў мясцовай царкве дэманстрацыйна сарвалі з дрэўка беларускі скаўцкі сьцяг і тапталі яго нагамі. Вынікам гэтага інцыдэнту стала супрацьстаяньня паміж беларусамі, якія стаялі на розных пазыцыях адносна прыяднаньня да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Як рэакцыя на ўзьніклы нацыянальна-рэлігійны канфлікт, 6 кастрычніка 1948 г. Міжнародная арганізацыя ў справах уцекачоў прыняла рашэньне аб перасяленьні прыхільнікаў беларускай царкоўнай незалежнасьці ў лягер Віндышбэргердорф[40].

Важным этапам на шляху ўстанаўленьня кантролю над рэлігійным жыцьцём беларускай дыяспары ярархі бачылі падпарадкаваньне сваёй уладзе Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня. З гэтай мэтай архіяпіскапы Вэнэдыкт (Бабкоўскі) і Філафей (Нарко) правялі 12 верасьня 1946 г. у Рэгенсбургу Другі Беларускі праваслаўны зьезд. У яго

---

[39] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 26—27; Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. С. 103; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 144; Лапіцкі, Мікалай. Сучаснае становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце... // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 265.

[40] Беларускія скаўты! Беларуская моладзь! // Бацькаўшчына. № 20 (23). 1948. С. 4; Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. С. 119—134; Пазбыліся зарубежнікаў // Бацькаўшчына. № 32 (35). 1948. С. 4; Рэзалюцыя Галоўнага Ўраду Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў на чужыне, прынятая на паседжаньні 21.6.1948 // Бацькаўшчына. № 22 (25). 1948. С. 4; Рэзалюцыя першага Зьезду дэлегатаў аддзелаў і групаў Згуртаваньня Беларусаў Велікабрытаніі акругі Ковэнтры // Бацькаўшчына. № 23 (26). 1948. С. 4; Студэнты пратэстуюць і ганьбяць (Рэзалюцыя марбурскіх студэнтаў) // Бацькаўшчына. № 20 (23). 1948. С. 4; Як дайшло да гэтага? (Яшчэ аб зьняважаньні сьцягоў і нацыянальных эмблемаў у праваслаўнай царкве ў ДП лягеры Міхельсдорф) // Бацькаўшчына. № 19 (22). 1948. С. 4; № 20 (23). 1948. С. 4.

працы прынялі ўдзел 50 дэлегатаў зь беларускіх асяродкаў Амэрыканскай, Брытанскай і Францускай акупацыйных зонаў Нямеччыны. Падчас работы Зьезду адбылося падпарадкаваньне БПА Сыноду Беларускай мітраполіі й зацьверджаньне новага пэрсанальнага складу ўправы арганізацыі, на чале якой стаў архіяпіскап Філафей. Такім чынам фактычна адбылося скасаваньне альтэрнатыўнага органу кіраваньня царкоўным жыцьцём беларускай дыяспары. Незадаволеныя гэтымі пераменамі Аляксандар Асіповіч-Асіпчык і Хведар Шыбут, нягледзячы на ўключэньне ў абноўлены склад кіроўнага органу БПА, заявілі свой пратэст і накіравалі яго мітрапаліту Панцеляймону. Абвінаваціўшы беларускіх ярархаў у адыходзе ад інтарэсаў свайго народу, яны заклікалі епіскапат Беларускай мітраполіі адысьці ад РПЦЗ. У адваротным выпадку беларускі народ можа адысьці ад ярархаў, меркавалі аўтары звароту[41].

### *2.2. Падрыхтоўка да адраджэньня структураў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на чужыне ў 1947—1948 гг.*

Незадаволенасьць часткі беларусаў сітуацыяй, якая склалася ў царкоўным жыцьці, значна ўзмацнілася ў кантэксьце разьвіцьця палітычнага расколу беларускай дыяспары. На XI Пленуме Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР), які праходзіў 24 верасьня 1945 г. у Нямеччыне, адбылося прыняцьце рашэньня аб часовым спыненьні дзейнасьці арганізацыі. Асноўнай прычынай была пагроза дыскрэдытацыі БЦР з-за яе супрацоўніцтва зь нямецкімі ўладамі падчас акупацыі Беларусі. Пасьля гэтага функцыі галоўнага рэпрэзэнтанта беларускага народу на Захадзе пераняў Беларускі нацыянальны цэнтр (БНЦ), створаны 15 жніўня 1945 г. у Рэгенсбургу. Спачатку БНЦ узначаліў Аўген Каханоўскі, а праз кароткі час — Мікола Абамчык. Апошні выступаў з ініцыятывай адраджэньня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ў 1919—1943 гг. дзейнічала ў замежжы і не мела дачыненьняў да супрацоўніцтва з нацыстамі. Першапачаткова прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі прыхільна ставіўся да пераходу прадстаўніцкіх паўнамоцтваў БНЦ. Але ў хуткім часе ён зазнаў дыскрэдытацыю, а значную частку ягоных паплечнікаў адхілілі ад працы ў новай арганізацыі. Не пакінуўшы нацыянальнай і грамадзкай дзейнасьці, яны стварылі новыя беларускія рэпрэзэнтацыйныя органы, якія

[41] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 47, 54; Да яго блаженства Блажэньнейшага Мітрапаліта Панцеляймона ў Цірсгайме // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 53.

заставаліся ў апазыцыі БНЦ. У сакавіку 1946 г. Мікола Абрамчык сфармаваў урад БНР, але рашэньне аб афіцыйным адраджэньні Рады БНР прынялі толькі 28—29 сьнежня 1947 г. Пазбавіўшыся пагрозы рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз, 9 траўня 1948 г. Радаслаў Астроўскі правёў XII Пленум БЦР, які абвясьціў пра ўзнаўленьне дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады. Паміж двума беларускімі палітычнымі цэнтрамі ўзьнікла жорсткае супрацьстаяньне, якое паглыблялі тэрміналягічна-лінгвістычны й рэлігійны канфлікты. Некаторыя прыхільнікі Рады БНР прапанавалі адыход ад назоваў “Беларусь” і “беларускі” з ужываньнем замест іх “Крывія” і “крывіцкі”, а таксама выступалі з ініцыятывай адраджэньня беларускай аўтакефаліі. Таму за імі замацаваліся мянушкі “крывічоў” і “аўтакефалістаў”. З свайго боку прадстаўнікі БЦР крытыкавалі зьмену назову Беларусі й падтрымоўвалі пераход епіскапату ў склад Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, а таму іх менавалі “зарубежнікамі”[42].

Адной з галоўных праблемаў на шляху да аднаўленьня структураў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) была адсутнасьць праваслаўных архірэяў, згодных правесьці хіратоніі новых беларускіх япіскапаў. На паседжаньні ўраду Беларускага цэнтральнага дапамаговага камітэту (БЦДК), якое праходзіла 29 сакавіка 1947 г. у Аўгсбургу, прынялі рашэньне зьвярнуцца да архіяпіскапа Кракаўскага й Лемкаўскага Паладыя (Відыбіды-Рудэнкі), былога ярарха Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Падчас сустрэчы зь ярархам старшыня БЦДК Алесь Вініцкі ўстрымаўся ад прапановы далучыцца да стварэньня БАПЦ і правёў больш канкрэтныя перамовы зь іншым архірэем польскай юрысдыкцыі — мітрапалітам Палескім і Пінскім Аляксандрам (Іназемцавым). Пацікавіўшыся колькасьцю беларускіх эмігрантаў і спэцыфікай арганізацыі іх нацыянальна-рэлігійнага жыцьця, мітрапаліт параіў свайму суразмоўцу не сьпяшацца з высьвячэньнем новых япіскапаў і больш увагі надаць падрыхтоўцы беларускіх сьвятароў[43]. Гэтая парада па сваёй сутнасьці была формай адмовы ад удзелу ў справе адраджэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

---

[42] Гл. падрабязьней: Гардзіенка, Алег. Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі. Смаленск, 2009. С. 18—39; Гардзіенка, Алег. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне, дзейнасць, заняпад. 1943—1995. Мінск: Кнігазбор, 2016. С. 177—219; Гардзіенка, Алег. Палітычны раскол на беларускай эміграцыі ў 1940-я гг. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 16. Сш. 2 (31). 2009. С. 452—475; Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 9—23; Максімюк, Ян. Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. № 25. Нью-Ёрк — Менск, 2001. С. 41—48.

[43] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 56.



Архіяпіскап Сергій (Ахатэнка)

Вынікам разьвіцьця пратэсту супраць перабываньня ярархаў Беларускай мітраполіі ў складзе РПЦЗ стала стварэньне Жыровіцкага праваслаўнага брацтва (ЖПБ) на чужыне, якое адбылося 20 траўня 1947 г. (у дзень царкоўнага ўшанаваньня жыровіцкай іконы Божай Маці). Фактычным арганізатарам брацтва, арыентаванага на спрыяньне незалежнай БАПЦ, выступіў былы сябра Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня Аляксандар Асіповіч-Асіпчык. Кіроўны орган ЖПБ разьмясьціўся ў лягеры Віндышбэргердорф (зямля Баварыя, Нямеччына)[44]. Паводле прынятага ў тым самым годзе статуту, Жыровіцкае праваслаўнае брацтва пазыцыянавала сябе пераемнікам праваслаўных брацтваў, якія існавалі на беларускіх землях у XVI—XVII стст. Нягледзячы на дзейнасьць ва ўмовах дыяспары, сымбалічным цэнтрам разьмяшчэньня брацтва абвяшчаўся Жыровіцкі Ўсьпенскі манастыр на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці БССР. Найважнейшымі напрамкамі дзейнасьці ЖПБ бачыліся кансалідацыя праваслаўных беларусаў на чужыне, забесьпячэньне іх духоўнай і матэрыяльнай падтрымкай, спрыяньне беларускаму аўтакефальнаму праекту, арганізацыя мерапрыемстваў духоўна-асьветніцкага характару, выданьне беларускай рэлігійнай літаратуры. Фармаваньне бюджэту брацтва плянавалася ажыцьцяўляць праз уласную дзейнасьць і збор ахвяраваньняў. Кіраўніком ЖПБ мог стаць толькі праваслаўны сьвятар, намесьнікам кіраўніка — праваслаўны цывільны, недухоўны вернік, а шараговым сябрам арганізацыі — любы беларус праваслаўнага веравызнаньня. Далучэньне да брацтва прадугледжвала тры ступені ўключанасьці: 1) белы й чорны брат; 2) слуга Марыі; 3) старэйшы брат. Сымбалем арганізацыі стала выява жыровіцкай іконы на грушы на белым полі, а гімнам — "Песьня Божай Маці за царкву і народ". Органам

[44] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 54; Асіпчык, Аляксандар. Ад Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва // Сіла Веры. № 1. 1948. С. 5; Ад Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва // Бацькаўшчына. № 26 (29). 1948. С. 3; Carkoŭny Kamitet Biełaruskaj Aŭtakiefalnaj Pravasłaŭnaj Carkvy na čužynie // Сіла Веры. № 2. 1949. С. 42.

кантролю і заканадаўчым органам вызначалася рада старэйшых, фармаваньне якой плянавалася з асобаў высокай ступені ўключанасьці[45].

У пачатку 1948 г. прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камітэту палкоўнік Мікола Дзямідаў пачаў негалосныя перамовы зь япіскапам Сергіем (Ахатэнкам), адміністратарам Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (УАПЦ) у Францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны. Вынікам сустрэчы стала дасягненьне папярэдняй згоды на часовае ўзначаленьне ўкраінскім ярархам прыхільнікаў адраджэньня беларускай аўтакефаліі. 30 сакавіка 1948 г. прадстаўніцтва БНК накіравала япіскапу Сергію афіцыйную прапанову прыняць пад свой амафор беларускіх праваслаўных эмігрантаў, на што ён даў пісьмовую згоду ў лісьце ад 11 траўня 1948 г.[46]

### *2.3. Адраджэньне БАПЦ на Царкоўным саборы ў Канстанцы (5 чэрвеня 1948 г.)*

Першым практычным крокам на шляху адраджэньня дзейнасьці БАПЦ стала правядзеньне Царкоўнага сабору 5 чэрвеня 1948 г. у г. Канстанца (француская акупацыйная зона Нямеччыны) пад кіраўніцтвам япіскапа Сергія (Ахатэнкі). Агульная колькасьць удзельнікаў Сабору склала восем чалавек зь ліку клірыкаў і сьвецкіх асобаў. Паколькі ў названым рэгіёне адсутнічала беларускае праваслаўнае духавенства, гатовае падтрымаць аўтакефальную ініцыятыву, у саборных паседжаньнях бралі ўдзел украінскія сьвятары Ананій Сагайдакіўскі, Барыс Маслоўскі, Якаў Нефадоўскі й дыякан Уладзімер Піндзюра. Запрасінамі на Сабор займаўся ведамы беларускі дзеяч Віктар Войтанка-Васілеўскі[47].

---

[45] Статут Беларускага Праваслаўнага Брацтва Жыровіцкага Манастыра // Сіла Веры. № 2. 1949. С. 1.

[46] Войтанка, Віктар. Аднаўленьне аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. 20.12.1966. Пасаік, Нью Джэрсі // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. ІІ: Рэлігійныя справы. Арк. 58; Зварот Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны да япіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 30.03.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні) / Collection of documents of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church (In exile). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 94; Ліст япіскапа Сергія (Ахатэнкі) да старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Віктара Вайтэнка ад 11.05.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 26; Ліст сакратара Сыноду УАПЦ япіскапа Платона (Арцемюка) да ваеннага губэрнатара францускай акупацыйнай зоны ў Нямеччыне // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 107.

[47] Пастановы Саборыку Праваслаўных Беларусаў у Нямеччыне, у дзень прп. Еўфрасіні 23 траўня / 5 чырвеня 1948 г. у Канстанцы // Збор дакумантаў

Вынікам сабornай работы стала прыняцьце Пастановы, якая складалася з шасьці параграфаў. Першы параграф узводзіў вытокі беларускай аўтакефаліі да дзейнасьці мітрапаліта Кіеўскага Рыгора Цамблака (каля 1364—1419 гг.), які намагаўся стварыць незалежную праваслаўную мітраполію ў Вялікім Княстве Літоўскім. Найважнейшымі этапамі станаўленьня беларускай царкоўнай незалежнасьці называліся абвяшчэньне мітрапалітам Мэльхісэдэкам (Паеўскім) аўтакефаліі Беларускай мітраполіі ў 1922 г. і пастановы Першага Ўсебеларускага царкоўнага сабору 1942 г. пра стварэньне БАПЦ[48]. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў 1922 г. адбылося абвяшчэньне не аўтакефаліі, а аўтаноміі Беларускай праваслаўнай царквы. Наданьне аўтакефальнага статусу Беларускай мітраполіі праходзіла 24 чэрвеня 1927 г. без удзелу мітрапаліта Мэльхісэдэка[49].

Другі параграф саборнай пастановы сьцьвярджаў, быццам бы першаярарх Праваслаўнай царквы ў Польшчы мітрапаліт Дыяніс (Валядзінскі) дазволіў Віленскай, Гарадзенскай і Пінскай япархіям аб'яднацца ў Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. Пісьмовае сьведчаньне аб гэтым мітрапаліт Дыяніс нібыта перадаў мітрапаліту Палескаму й Пінскаму Аляксандру (Іназемцаву). З гэтай прычыны стварэньне БАПЦ абвяшчалася кананічным і прызнаным Праваслаўнай царквой у Польшчы[50]. Гэтая заява ўяўляецца не адпаведнай рэальнай сытуацыі, бо гісторыя не ведае пастановы мітрапаліта Дыяніса аб дазволе на аддзяленьне вышэйназваных япархіяў і прызнаньні БАПЦ. Мітрапаліт Аляксандар на працягу ўсяго пэрыяду архірэйскага служэньня атаесамляў сябе з польскай царкоўнай юрысдыкцыяй, за выняткам некалькіх месяцаў перабываньня ў складзе РПЦЗ у 1945 г.[51] Дадатковае сьведчаньне, што мітрапаліт Аляксандр не мае дачыненьня да БАПЦ, зьмяшчаецца ў лісьце першаярарха УАПЦ мітрапаліта Палі-

Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 8; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 150; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980. P. 169.

[48] Пастановы Саборыку Праваслаўных Беларусаў у Нямеччыне... С. 8.

[49] Устав союза православных старо-церковнических общин, в своей совокупности образующих Белорусскую Автокефальную Православную Церковь. Мн., 1928. С. 3; Щеглов, Гордей. Автономия Белорусской Православной Церкви 1922 года // Вестник Православного Свято-Тихоновского гуманитарного университета. Серия 2: История. История Русской Православной Церкви. № 3 (40). 2011. С. 104.

[50] Пастановы Саборыку Праваслаўных Беларусаў у Нямеччыне... С. 8.

[51] Гл. падрабязьней: Слесарев, Александр. Роль митрополита Полесского и Пинского Александра (Иноземцева) в организации церковной жизни белорусской и украинской послевоенной диаспоры // Христианское чтение. № 3. 2020. С. 138—147.

карпа (Сікорскага) да япіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 24 сакавіка 1949 г.: *“Спачылы Ўладыка Мітрапаліт Аляксандр сапраўды быў Кіраўніком Першага Сабора УАПЦ у Пінску, але ён ніколі не быў Кіраўніком Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ён не быў нават епіскапам Беларускай Царквы. Я гэта лепш ведаю, чым Вы”*[52].

Трэці параграф заяўляў аб падтрымцы лініі мітрапаліта Аляксандра (Іназемцава) на працяг дзейнасьці БАПЦ у эміграцыі й выказваў жаль адносна ягонага заўчаснага скону[53]. Памылковасьць выказваньня адносна прыналежнасьці мітрапаліта Аляксандра да БАПЦ разглядалася вышэй.

Чацьверты параграф зьмяшчаў пастанову аб працягу дзейнасьці БАПЦ на эміграцыі пад часовым кіраўніцтвам япіскапа Сергія (Ахатэнкі), ярарха УАПЦ. Тэрмін ягоных паўнамоцтваў дакладна не акрэсьліваўся, але перадачу царкоўнага кіраваньня епіскапату БАПЦ ён павінен быў зрабіць пасьля зьяўленьня двух беларускіх аўтакефальных ярархаў[54].

Пяты параграф канстатаваў абраньне Саборам сябраў часовага кіраўніцтва БАПЦ, іх зацьверджаньне япіскапам Сергіем і прывядзеньне да прысягі ў архірэйскай царкве ў Канстанцы[55].

Шосты параграф уключаў заклік да ўсіх праваслаўных беларусаў аб’яднацца вакол БАПЦ і *“гэтым ушанаваць памяць і заслугу сваіх лепшых дзядоў і прадзедаў, змагаўшыхся за аўтакефалію і чысьціню Праваслаўнае веры”*[56].

Правядзеньне Царкоўнага сабору ў Канстанцы было значнай падзеяй рэлігійнага жыцьця паваеннай беларускай дыяспары, вынікам якога стала ўзьнікненьне Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы й фактычнае завяршэньне працэсу царкоўнага расколу сярод прыхільнікаў і праціўнікаў еднасьці з РПЦЗ.

### *2.4. Рэакцыя на рашэньні Канстанцкага сабору*

Весткі аб правядзеньні Канстанцкага сабору й адраджэньні БАПЦ выклікалі рэзка нэгатыўную рэакцыю з боку епіскапату Беларускай мітраполіі. 8 ліпеня 1948 г. мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі) апублікаваў “Пасланьне да духавенства і верных дзяцей Беларускай

---

[52] Ліст Першаерарха УАПЦ мітрапаліта Палікарпа (Сікорскага) да архіепіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 24.03.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 110.

[53] Пастановы Саборыку Праваслаўных Беларусаў у Нямеччыне... С. 8.

[54] Тамсама.

[55] Тамсама.

[56] Тамсама.

Праваслаўнай Царквы", у якім рэзка скрытыкаваў дзейнасьць "крывічоў". Прыхільнікам Рады БНР ён інкрымінаваў тое, што яны *"ненавідзяць Праваслаўе і, удаючы зь сябе найбольшых абаронцаў беларускай нацыянальнасьці, з усіх сілаў працуюць на шкоду Праваслаўю"*[57]. Зьмяшчала "Пасланьне" таксама й вельмі нэгатыўную ацэнку япіскапа Сергія (Ахатэнкі), паведамляючы пра ягоныя неаднаразовыя спробы перайсьці ў РПЦЗ і Рыма-каталіцкую царкву. Пастановы Канстанцкага сабору называліся неразумнымі й супярэчнымі праваслаўным канонам. Канчалася Пасланьне заклікам да праваслаўных беларусаў берагчы царкоўную еднасьць перад пагрозай з боку адзінага ворага, *"які зьвіў сабе гняздо і ў нас на Бацькаўшчыне"*[58].

У дзень публікацыі пасланьня мітрапаліта Панцеляймона канцылярыя Беларускай мітраполіі ў Тырсгайме апублікавала ўлётку "Аб канстанцкай «аўтакефаліі» Беларускай Праваслаўнай Царквы"[59]. Крытыкуючы прыхільнікаў беларускай царкоўнай незалежнасьці, аўтары ўлёткі адмаўлялі прадстаўнікам Рады БНР ("крывічам") у праве рэпрэзэнтацыі беларускага народу ў вольным сьвеце, абвінавачвалі іх у спробе кампрамэтацыі праваслаўя й падтрымцы вуніяцтва. Япіскап Сергій (Ахатэнка) характарызаваўся як недабрадайны, некананічны, неадукаваны й грубы рэлігійны дзеяч, які рабіў няўдалыя спробы далучыцца да РПЦЗ і Рыма-каталіцкай царквы. У якасьці доказаў зьмяшчаліся тэксты зваротаў япіскапа Сергія да кіраўніцтва Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Праводзячы думку адносна разбуральных матываў Рады БНР, канцылярыя Беларускай мітраполіі канстатавала: *"Крывічы хочуць на руінах праваслаўя збудаваць вуніяцтва, якое набліжае праваслаўных беларусаў да каталіцтва і ўрэшце — да Польшчы"*[60].

Рэакцыяй часовага кіраўніцтва БАПЦ на зьяўленьне "Пасланьня" мітрапаліта Панцеляймона і ўлёткі "Аб канстанцкай «аўтакефаліі»" стала асобная пастанова ад 27 ліпеня 1948 г. У ёй беларускія вернікі заклікаліся *"з пакораю прыняць допыт Божы ў пастаці гэтых двух пасланьняў... а таму з большым цярпеньнем трываць на адзінапраўным шляху чыстай незалежнасьці Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, Роўнаапостальскага носьбіта праваслаўнай*

---

[57] Пасланьне Мітрапаліта Панцеляймона да духавенства і верных дзяцей Праваслаўнай Беларускай Царквы. Ціpсгайм. 08.07.1948 г. Арк. 1 // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Фонд БІНіМу.

[58] Пасланьне Мітрапаліта Панцеляймона да духавенства і верных дзяцей Праваслаўнай Беларускай Царквы. Ціpсгайм. 08.07.1948 г. Арк. 1 (адв.).

[59] Аб канстанцкай "аўтакефаліі" Беларускай Праваслаўнай Царквы (Выясьненьні з Канцылярыі Беларускай Мітраполіі). Ціpсгайм: Канцылярыя Беларускае Мітраполіі, 8.07.1948. На 2 арк. // БДАМЛМ. Фонд БІНіМу.

[60] Аб канстанцкай "аўтакефаліі" Беларускай Праваслаўнай Царквы... Арк. 2.

*веры ў беларускім народзе"*[61]. Далей прадстаўнікі часовага кіраўніцтва прасілі прыхільнікаў беларускай царкоўнай незалежнасьці ніякім чынам не рэагаваць і не адказваць на публікацыі ярархаў Беларускай мітраполіі РПЦЗ[62].

Цалкам заканамернай была пазыцыя БЦР ("зарубежнікаў") на правядзеньне Канстанцкага сабору й арганізацыю часовага кіраўніцтва БАПЦ на чале зь япіскапам Сергіем (Ахатэнкам). 20 жніўня 1948 г. кіраўнік Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва Аляксандар Русак накіраваў зварот да першаярарха УАПЦ і міністра вонкавых справаў Украінскай Народнай Рэспублікі на чужыне, у якім заяўляў аб недапушчальнасьці ўмяшаньня япіскапа УАПЦ у беларускія царкоўныя справы. Тэкст звароту зьмяшчаў традыцыйнае абвінавачаньне "крывічоў" у пракаталіцкіх і правуніяцкіх намерах. Афіцыйны адказ на пратэставую ноту Аляксандра Русака не прагучаў[63].

Узьнікненьне часовага кіраўніцтва БАПЦ падштурхнула Сынод Беларускай мітраполіі РПЦЗ разгарнуць барацьбу за сьведамасьць праваслаўных вернікаў і пачаць сыстэматычную папулярызацыю ўласнага бачаньня царкоўнага жыцьця на чужыне. Матэрыялы з разгорнутай апалёгіяй пераходу Беларускай мітраполіі да юрысдыкцыі РПЦЗ, крытыкай "крывічоў" і "аўтакефалістаў" рэгулярна друкаваліся на старонках часопісу "Праваслаўны Беларус"[64], які выходзіў у 1948—1954 гг. з блаславеньня мітрапаліта Панцеляймона (Ражноўскага). Доказу правамернасьці й кананічнасьці далучэньня да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой прысьвечаная кніга япіскапа Апанаса (Мартаса) "Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы

---

[61] Пастанова Часовага Кіравецтва БАПЦ ад 27.07.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 96.

[62] Пастанова Часовага Кіравецтва БАПЦ ад 27.07.1948.

[63] Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 153—154.

[64] Гл. напр.: А. В. Жизненный путь Высокопреосвященнейшего Владыки Митрополита Пантелеймона // Праваслаўны Беларус. № 6. 1949. С. 1—5; Венедзікт, архіепіскап. Арганізацыя Беларускай Мітраполіі ў 1941 годзе і палажэньне да цяперашняга часу ў эміграцыі // Праваслаўны Беларус. № 5. 1949. С. 4—6; Гарблоўскі, Л. Адказы на запытаньні супрацоўніка рэдакцыі "Праваслаўны Беларус" сп. Гарблоўскага // Праваслаўны Беларус. № 5. 1949. С. 8—12; М. П. Аб Аўтакефаліі Беларускай Царквы // Праваслаўны Беларус. № 7. 1949. С. 10; Обращение Комитета православных христиан белоруссов ко всем православным белоруссам, в рассеянии сущим // Праваслаўны Беларус. № 6. 1949. С. 10—12; Очередная кривитская провокация // Праваслаўны Беларус. № 9. 1950. С. 3; Против фальсификации // Праваслаўны Беларус. № 6. 1949. С. 19—20; Самасьвяты пракляты // Праваслаўны Беларус. № 7. 1949. С. 4—6 і інш.

(Пэрыяд савецкай і нямецкай акупацыі)"[65], якая пабачыла сьвет у 1948 г. у Нямеччыне.

Жыровіцкае праваслаўнае брацтва на чале з Аляксандрам Асіповічам-Асіпчыкам выразна падтрымала часовае кіраўніцтва БАПЦ. 21 верасьня 1948 г. брацтва накіравала адкрыты ліст першаярарху УАПЦ мітрапаліту Палікарпу, у якім падкрэсьліваліся глыбокія духоўныя і гістарычныя ўзаемасувязі паміж беларускім і ўкраінскім народамі. Пры гэтым у лісьце адзначалася, што *"Ўкраінская і Беларуская Праваслаўныя Аўтакефальныя Цэрквы павінны стацца новым вогнішчам адраджэньня нашых народаў"*[66].

## 3. Разбудова Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў 1948—1949 гг.

### *3.1. Дзейнасьць Рады БНР для адраджэньня БАПЦ у 1948—1949 гг.*

Пастановы Канстанцкага сабору атрымалі поўную падтрымку прэзыдэнта й Рады БНР. На паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. было прынята рашэньне аб усебаковай падтрымцы працэсу адраджэньня БАПЦ. Пры гэтым асабліва падкрэсьлівалася, што падтрымка з боку БНР павінна мець не афіцыйны, а фактычны характар[67]. Цалкам відавочна, што падобная тактыка абіралася, каб не дапусьціць дыскрэдытацыі БАПЦ і крытыкі яе як рэлігійна-палітычнага праекту Рады БНР.

Першым практычным крокам для арганізацыі структуры БАПЦ Прэзыдыюм Рады БНР вызначыў правядзеньне адпаведнай агітацыі й выданьне царкоўнага органу прааўтакефальнай арыентацыі. Значную ўвагу ўдзельнікі паседжаньня надалі кадравым пытаньням. Кандыдатамі на архірэйскае служэньне ў БАПЦ вызначаліся архімандрыт Уладзімер (Фінькоўскі), старшыня Цэнтральнага беларускага камітэту ў Нямеччыне інжынэр Ўладзімер Тамашчык і старшыня Камісіі ў ваенных справах Рады БНР палкоўнік Мікола Дзямідаў. Кіраўніцтва

---

[65] А. М. Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы (Пэрыяд савецкай і нямецкай акупацыі). Нямеччына, 1948. 138 с.

[66] Ліст Жыровіцкага Праваслаўнага Братва да Яго Блажэнства Мітрапаліта Палікарпа. Баварыя, 21.09.1948 // Сіла Веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. № 1. 1948. С. 4.

[67] Пратакол № 2 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. у Остэргофэне // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 103.

працэсам арганізацыі БАПЦ даручалася старшыні Камісіі вонкавых справаў Віктару Войтанку й палкоўніку Міколу Дзямідаву[68].

Празь некалькі месяцаў прэзыдэнт Рады БНР зьмяніў сваё стаўленьне да архімандрыта Ўладзімера (Фінькоўскага) і перастаў разглядаць яго як магчымага кандыдата на архірэйскае высьвячэньне для БАПЦ. У лісьце прэм’ер-міністру БНР Аўгену Каханоўскаму ад 14 студзеня 1949 г. Мікола Абрамчык адзначаў, што абіраць будучых беларускіх япіскапаў можна толькі зь недухоўных асобаў, бо сярод сьвятароў няма добрых кандыдатур. Пры гэтым наконт вылучэньня Ўладзімера Тамашчыка на япіскапства ў яго не было ніякіх заўвагаў. Што ж датычыць палкоўніка Міколы Дзямідава, то ягоны пострыг у манаства й архірэйская хіратонія вызначаліся як недапушчальныя з прычыны законнага шлюбу[69].

Добра разумеючы, што архірэйскае рукапалажэньне актыўнага дзеяча Рады БНР будуць крытыкаваць, Мікола Абрамчык настойваў на неабходнасьці паўзы пасьля манаскага пострыгу й сьвятарскага пасьвячэньня Ўладзімера Тамашчыка. Правядзеньне ягонай архірэйскай хіратоніі прэзыдэнт Рады БНР лічыў магчымым толькі пасьля таго, як спыніцца асноўны паток крытыкі. Япіскап Сергій (Ахатэнка) зьбіраўся правесьці пастрыжэньне й япіскапскае высьвячэньне Ўладзімера Тамашчыка за два месяцы, але згадзіўся з аргумэнтамі Міколы Абрамчыка[70].

Акрамя адбору кандыдатаў на архірэйскае служэньне, прэзыдэнт БНР браў вызначальны ўдзел і ў іншых прынцыпова важных пытаньнях кананічнага ўладкаваньня БАПЦ. 21 сакавіка 1949 г. ён пісаў прэм’ер-міністру БНР аб неабходнасьці захаваць япіскапа Сергія (Ахатэнку) у складзе БАПЦ нават пасьля хіратоніі другога беларускага ярарха. Больш за тое, Мікола Абрамчык выказваў Аўгену Каханоўскаму свой намер зрабіць часовага апекуна БАПЦ яе першаярархам з узьвядзеньнем у сан мітрапаліта: *“Еп[іскап] Сергій нас не пакіне ня толькі да тога часу, пакуль у нас будуць два епіскапы, а застанецца пры нас і зусім ці лепш назаўсёгды. Калі знойдзем 3-га (значыць, 3-га зь ім), дык еп[іскапа] Сергія прагалошваем мітрапалітам. Калі-ж 3-га ня будзе — дык Сергій з тым нашым 2-м (маю на ўвазе Тамашч[ыка]) твораць Сінод. І так распачынаюць дэмарш перад усяленскім патрыярхам аб прызнаньні нам аўтакефальнасьці”*[71].

---

[68] Пратакол № 2 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. у Остэргофэне. С. 103—104.

[69] Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 14.01.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 450—451.

[70] Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 21.03.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970. С. 457.

[71] Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 21.03.1949. С. 456.

На этапе разбудовы арганізацыйнай структуры БАПЦ кіраўніцтва БНР брала актыўны ўдзел у разьвязаньні іншых ўнутрыцаркоўных пытаньняў. 9 верасьня 1949 г. на паседжаньні Рады Міністраў БНР Аляксандру Орсу, міністру веравызнаньняў, даручылі дапамагаць япіскапу Сергію рыхтаваць кандыдатаў на сьвятарскае служэньне й арганізоўваць беларускія парафіі[72].

Кіраўніцтва БНР ацэньвала спрыяньне разьвіцьцю нацыянальнай царкоўнай структуры як адзін з прыярытэтных напрамкаў сваёй дзейнасьці. На паседжаньні Рады Міністраў БНР 14—15 кастрычніка 1949 г. узгаднілі агульны плян працы ўраду. Тады ж у сьпіс заплянаваных падзеяў Міністэрства культуры й веравызнаньняў унесьлі архірэйскую хіратонію ігумэна Васіля (Тамашчыка), кананічнае афармленьне пераходу япіскапа Сергія (Ахатэнкі) з УАПЦ у юрысдыкцыю БАПЦ, арганізацыю Сьвятога сабору япіскапаў БАПЦ і разьвіцьцё дзейнасьці Жыровіцкага праваслаўнага брацтва[73]. Рэалізуючы пляны, урад БНР прыняў пастанову аб камандзіраваньні ў лістападзе 1949 г. сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў Саборы япіскапаў УАПЦ і канчатковага вырашэньня згаданых вышэй пытаньняў[74].

Праведзены гістарычны агляд дазваляе зрабіць выснову аб вызначальным уплыве прэзыдэнта й Рады БНР на працэсы разбудовы БАПЦ, фармаваньне яе структуры й утварэньне найвышэйшай ярархіі ў 1948—1949 гг.

### *3.2. Дзейнасьць часовага кіраўніцтва БАПЦ (чэрвень 1948 — люты 1949 гг.)*

Сфармаванае падчас Канстанцкага сабору часовае кіраўніцтва БАПЦ уключала ў свой склад япіскапа Сергія (Ахатэнку), сьвятароў Сьцяпана Войтанку, Аляксандра Казлоўскага і недухоўных вернікаў Івана Дзямідава, Янку Чыжыка, Міхаіла Шчурка, Віктара Войтанку[75].

---

[72] Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 9.4.1949 г. Віндзішбэргердорф — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 142.

[73] Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 14—15.10.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 153.

[74] Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 30.11.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 155.

[75] Зварот Часовага Кіравецтва БАПЦ да Сьвяшчэннага Сынода УАПЦ ад 12.08.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 100; Пасьведчаньне намесьніка Старшыні Царкоўнага Кіравецтва БАПЦ протаіерэя Сьцяпана Войтэнка ад 10.08.1948 //


Протаярэй Сьцяпан Войтанка

На пачатку сваёй работы часовае кіраўніцтва сканцэнтравалася на разьвязаньні актуальных пытаньняў арганізацыі беларускага царкоўнага жыцьця. Вынікам першага паседжаньня кіроўнага органу БАПЦ 11 чэрвеня 1948 г. стала разьмеркаваньне службовых паўнамоцтваў. У гэты дзень сьвятар Сьцяпан Войтанка прыняў прызначэньне на пасаду кіраўніка справаў, сьвятар Аляксандар Казлоўскі — на пасаду скарбніка, Янка Чыжык — на пасаду кіраўніка адміністрацыйнага аддзелу, Іван Дзямідаў — на пасаду кіраўніка гаспадарчага аддзелу. Прадстаўніком БАПЦ пры Міжнароднай арганізацыі ў справах уцекачоў (*International Refugee Organization*) стаў протаярэй Хведар Данілюк. Пасады кіраўніка юрыдычнага й місіянэрскага аддзелаў засталіся вакантнымі. Часовым месцам перабываньня кіраўніцтва быў абраны г. Бад-Заўльгаў (*Bad Saulgau*, зямля Бадэн-Вюртэмбэрг, Нямеччына)[76].

Падчас свайго першага паседжаньня часовае кіраўніцтва прыняло пастановы аб рэгістрацыі беларускіх парафіяў, сьвятароў і вернікаў, якія падтрымоўваюць БАПЦ, аб выдаваньні часопісу “Царкоўныя Весткі”, аб зборы сродкаў і арганізацыі трохмесячных курсаў рыхтаваньня псаломшчыкаў. Першую парафію БАПЦ плянавалася заснаваць у г. Зыгмарынген (*Sigmaringen*, зямля Бадэн-Вюртэмбэрг, Нямеччына), а настаяцелем прызначыць сьвятара Аляксандра Казлоўскага[77].

Разьлічваючы на магчымае далучэньне да БАПЦ беларускіх клірыкаў з розных царкоўных юрысдыкцыяў, часовае кіраўніцтва выпрацавала наступныя ўмовы іх прыяднаньня:

---

Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 14; Пратакол Паседжаньня Царкоўнага Кіравецтва БАПЦ ад 11.06.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 136.

[76] Пратакол Паседжаньня Царкоўнага Кіравецтва БАПЦ ад 11.06.1948.

[77] Тамсама.

1) пераход клірыкаў памесных праваслаўных цэркваў у склад БАПЦ магчымы толькі пры наяўнасьці ў іх адпускной граматы ад сваіх царкоўных уладаў;

2) паколькі РПЦЗ не аўтакефальная, прыяднаньне яе клірыкаў да БАПЦ не патрабуе наяўнасьці адпускной граматы;

3) адпускная грамата для клірыкаў Маскоўскага патрыярхату таксама не патрэбная з прычыны немагчымасьці яе здабыць у савецкай дзяржаве[78].

Празь нямногім больш за два месяцы пасьля Канстанцкага сабору, 12 жніўня 1948 г., часовае кіраўніцтва БАПЦ выступіла з хадайніцтвам перад Сьвятым сынодам УАПЦ аб узьвядзеньні япіскапа Сергія (Ахатэнкі) у сан архіяпіскапа[79]. Як паказала далейшае разьвіцьцё падзеяў, украінскія ярархі не палічылі пераканаўчымі аргумэнты беларускага боку.

На працягу 1948 г. структура й склад часовага кіраўніцтва перажывалі зьмены. Ужо ў чэрвені выйшаў зь юрысдыкцыі БАПЦ і прыяднаўся да УАПЦ скарбнік часовага кіраўніцтва сьвятар Аляксандар Казлоўскі[80]. Пастановай нарады ад 14 жніўня засноўваўся цэнзурны камітэт для нагляду за друкаванай прадукцыяй, у склад якога ўвайшлі протаярэй Сьцяпан Войтанка, Леанід Галяк і Віктар Войтанка. Да гэтага часу апошні абняў пасаду сакратара часовага кіраўніцтва БАПЦ[81].

Нягледзячы на пэўныя посьпехі часовага кіраўніцтва ў справе разбудовы БАПЦ, ня ўсе заплянаваныя праекты ўдалося рэалізаваць. З прычыны дэфіцыту царкоўнага бюджэту й адсутнасьці адпаведных спэцыялістаў засталіся на паперы намеры выданьня афіцыйнага органу БАПЦ і адкрыцьця пастырскіх курсаў[82].

---

[78] Ад Царкоўнага Кіравецтва БАПЦарквы // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 101.

[79] Зварот Часовага Кіравецтва БАПЦ да Свяшчэннага Сінода УАПЦ ад 12.08.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 100, 137.

[80] Пратакол Паседжаньня Царкоўнага Кіравецтва БАПЦ ад 11.06.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 136.

[81] Пратакол нарады Часовага Кіравецтва БАПЦ ад 14.08.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 138; Зварот Часовага Кіравецтва БАПЦ да Свяшчэннага Сінода УАПЦ ад 12.08.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 137.

[82] Ліст епіскапа Сергія (Ахатэнкі) да протаіерэя Сьцефана Войтэнка ад 13.09.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 16; Пратакол нарады Часовага Кіравецтва БАПЦ ад 14.08.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 138.

### *3.3. Парафіі БАПЦ у чэрвені 1948 — лютым 1949 гг.*

Пасьля Канстанцкага сабору й абвешчаньня аб адраджэньні БАПЦ асобныя праваслаўныя сьвятары перайшлі ў аўтакефальную юрысдыкцыю. Адраджэньне структуры БАПЦ суправаджалася арганізацыяй парафіяльнага жыцьця. У ліпені 1948 г. япіскап Сергій (Ахатэнка) прызначыў протаярэя Хведара Данілюка дэканам БАПЦ на Францускую акупацыйную зону Нямеччыны[83].

Рашэньне аб адкрыцьці беларускай парафіі ў г. Зыгмарынген, як адзначалася вышэй, прынялі 11 чэрвеня 1948 г. на паседжаньні часовага кіраўніцтва БАПЦ. Прызначэньне на пасаду настаяцеля парафіі атрымаў сьвятар Аляксандар Казлоўскі. Аднак у тым жа месяцы настаяцель разам з парафіяй далучыўся да юрысдыкцыі УАПЦ[84]. Такім чынам спынілася існаваньне першай парафіі БАПЦ, ледзь пачаўшыся.

Пасьля кароткачасовага перабываньня ў складзе УАПЦ сьвятар Аляксандар Казлоўскі зноў прыяднаўся да БАПЦ. Пастановай часовага кіраўніцтва ад 11 верасьня 1948 г. ён атрымаў прызначэньне на беларускую парафію, арганізаваную ў лягеры Ольдэнбург (*Oldenburg*, зямля Ніжняя Саксонія, Брытанская акупацыйная зона Нямеччыны)[85].

У ліпені 1948 г. узьнікла беларуская парафія ў г. Тубінген (*Tübingen*, зямля Бадэн-Вюртэмбэрг, Нямеччына), настаяцелем каторай япіскап Сергій прызначыў протаярэя Сьцяпана Войтанку. Тады ж апякун БАПЦ зацьвердзіў кандыдатуру псаломшчыка тубінгенскай парафіі Міхаіла Шчурко на рукапалажэньне ў сан дыякана[86].

Праводзячы нешматлікія хіратоніі клірыкаў для служэньня ў беларускіх парафіях, япіскап Сергій у верасьні 1948 г. вымушаны быў

---

[83] Ліст епіскапа Сергія (Ахатэнкі) да протаіерэя Сьцяпана Войтэнкі ад 17.07.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 12; Ліст протаіерэя Хведара Данілюка да протаіерэя Сьцяпана Войтэнкі ад 12.12.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 106.

[84] Пратакол Паседжаньня Царкоўнага Кіравецтва БАПЦ ад 11.06.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 136.

[85] Ліст Часовага Кіравецтва БАПЦ да Беларускага Нацыянальнага Кімітэта ў Брытанскай зоне Нямеччыны. 11.09.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 102.

[86] Ліст протаіерэя Сьцяпана Войтэнка да епіскапа Сергія (Ахатэнкі). 07.08.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 98; Паведамленьне протаіерэя Сьцяпана Войтэнка ад 18.07.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 97.

канстатаваць вострую патрэбу ў новых сьвятарах пры амаль поўнай адсутнасьці годных кандыдатаў[87].

У лістападзе 1948 г. да юрысдыкцыі БАПЦ далучыўся протаярэй Анатоль Кунцэвіч, які атрымаў прызначэньне на пасаду настаяцеля новаўтворанай беларускай парафіі ў г. Гановэр (зямля Ніжняя Саксонія, Нямеччына). Пастановай часовага кіраўніцтва БАПЦ ад 2 студзеня 1949 г. адбылося яго зацьверджаньне ў статусе дабрачыннага ў Брытанскай акупацыйнай зоне з правам заснаваньня новых парафіяў і часовага кіраваньня імі[88].

Пэрыяд дзейнасьці БАПЦ у лягерах для перамешчаных асобаў быў найважнейшым этапам у станаўленьні арыгінальных асаблівасьцяў парафіяльнага жыцьця беларускай дыяспары. У гэты час узьнікае традыцыя правядзеньня пры цэрквах штогадовых сьвяткаваньняў Дня абвешчаньня незалежнасьці БНР (25 сакавіка 1918 г.) і пачатку Слуцкага антыбальшавіцкага паўстаньня (лістапад 1920 г.). Традыцыйна ў беларускія нацыянальныя сьвяточныя дні праводзіліся малебны за Беларусь, паніхіды па загінулых за незалежнасьць Беларусі й сьвяточныя акадэміі, падчас якіх выступалі дакладчыкі й творчыя калектывы[89].

### *3.4. Дзейнасьць Галоўнага епархіяльнага кіраўніцтва (Кансысторыі) БАПЦ (сакавік — лістапад 1949 г.)*

Напачатку 1949 г. у арганізацыйнай структуры БАПЦ адбыліся істотныя зьмены. Паводле загаду япіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 11 лю-

---

[87] Ліст епіскапа Сергія (Ахатэнкі) да протаіерэя Сьцефана Войтэнка ад 25.11.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 16.

[88] Ліст протаіерэя Анатоля Кунцэвіча да епіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 30.11.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 19; Наградная грамата протаіерэя Анатоля Кунцэвіча ад 20.03.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 20; Пастанова Часовага Кіравецтва БАПЦ ад 02.01.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 139; Указ Часовага Кіравецтва БАПЦ сьвяшчэньніку Анатолю Кунцэвічу № 33/48 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 137.

[89] 28 угодкі Слуцкага Паўстаньня // Сіла Веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. № 1. 1948. С. 12; Нацыянальнае сьвята ў лягеры Мэнхегоф // Бацькаўшчына. № 10 (13). 1948. С. 4; Сакавік у Остэргофэне // Бацькаўшчына. № 10 (13). 1948. С. 4; Сьвяткаваньне 28-е гадавіны Слуцкага паўстаньня ў беларускім лягеры Віндзішбэргрдорф // Бацькаўшчына. № 40 (43). 1948. С. 4; Ул. Б. Гадавіна Слуцкага паўстаньня ў Шляйсгайме // Бацькаўшчына. № 39 (42). 1948. С. 4 і інш.

тага, часовае кіраўніцтва БАПЦ падлягала пераўтварэньню ў сталае Галоўнае епархіяльнае кіраўніцтва (Кансысторыю) БАПЦ, сфармаванае з выбарных прадстаўнікоў Амэрыканскай, Брытанскай і Францускай акупацыйных зонаў Нямеччыны. Тэрмін паўнамоцтваў выбарных прадстаўнікоў меркавалася абмежаваць трыма гадамі[90].

Зацьвярджэньне пэрсанальнага складу Галоўнага епархіяльнага кіраўніцтва БАПЦ адбылося 15 сакавіка 1949 г. на Агульным сходзе духавенства й вернікаў БАПЦ у Остэргофэне. Паводле прынятай пастановы, кіраўніком епархіяльнага кіраўніцтва абіраўся протаярэй Анатоль Кунцэвіч з узьвядзеньнем яго ў сан протапрэсьвітара. Заступнікам кіраўніка стаў інжынэр Уладзімер Тамашчык, якога яшчэ 21 чэрвеня 1948 г. Прэзыдыюм Рады БНР абраў кандыдатам на архірэйскае высьвячэньне. Пасады епархіяльнага аканома, сакратара Канцылярыі япіскапа Сергія й кіраўніка гаспадарчага аддзелу епархіяльнага кіраўніцтва БАПЦ абняў другі кандыдат на япіскапскае служэньне — палкоўнік Мікола Дзямідаў. Акрамя таго, адбылося прызначэньне кіраўнікоў створаных у той жа дзень фінансавага, судова-юрыдычнага й шлюбаразводнага, місіянэрска-беларусазнаўчага й законавучыцельскага, прэсавага й друкарска-выдавецкага аддзелаў. Зацьверджаньне на пасадах атрымалі справавод канцылярыі дабрачыннага БАПЦ, старшыня й сакратар Беларускага праваслаўнага Сьвята-Эўфрасіньнеўскага брацтва, арганізатар-кіраўнік епархіяльнае бібліятэкі й іншыя епархіяльныя супрацоўнікі[91]. Рэарганізацыя часовага кіраўніцтва ў сталае Галоўнае епархіяльнае кіраўніцтва вызначала якасную зьмену арганізацыйнай сыстэмы БАПЦ, калі яна набыла традыцыйныя рысы адміністрацыйна-кананічнага ўладкаваньня. Ня менш важнай пастановай Агульнага сходу стала афіцыйнае зацьверджаньне Ўладзімера Тамашчыка ў якасьці кандыдата на архірэйскае высьвячэньне[92].

Узьнікненьне Кансысторыі БАПЦ выклікала нэгатыўную рэакцыю з боку прыхільнікаў БЦР, якія з гэтай прычыны накіравалі пратэст першаярарху УАПЦ мітрапаліту Палікарпу (Сікорскаму). На думку прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, мітрапаліт Пілікарп і сам ня меў зацікаўленасьці ў разьвіцьці БАПЦ, бо плянаваў падпарадкаваць беларускую дыяспару УАПЦ. У гэтых акалічнасьцях кіраўнік украінскай аўтакефальнай юрысдыкцыі настойліва заклікаў япіскапа Сергія не ўтручвацца

[90] Пратакол Агульнага Сходу дэлегатаў і вернікаў БАПЦ у Остэргофэне ад 15.03.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 140.

[91] Тамсама. С. 140—141.

[92] Пратакол паседжаньня сябраў Кансысторыі БАПЦ. 5 чэрвеня 1949 г. // Архіў Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны (ББФС). Арк. 1—1 (адв).



Япіскап Васіль (Тамашчык)

ў беларускія царкоўныя справы. Але апошні заняў прынцыповую пазыцыю і ў сакавіку 1949 г. падчас сустрэчы зь Міколам Абрамчыкам заявіў аб сваім жаданьні апекавацца БАПЦ да часу стварэньня незалежнай беларускай ярархіі. Больш за тое, япіскап Сергій нават выказваў гатовасьць пакінуць УАПЦ і назаўсёды застацца ў юрысдыкцыі БАПЦ. Настойваючы на тым, каб япіскап Сергій спыніў служэньне ў БАПЦ, мітрапаліт Палікарп у якасьці кампрамісу дазваляў яму перад канчатковым вяртаньнем ва УАПЦ рукапакласьці аднаго беларускага япіскапа. Паколькі мінімальная колькасьць архірэяў аўтакефальнай паместнай царквы ня можа быць меншай за два, япіскап Сергій убачыў у словах мітрапаліта Палікарпа жаданьне захаваць кананічную залежнасьць БАПЦ ад УАПЦ. У сваім адказе першаярарху УАПЦ ён адмовіўся пакідаць БАПЦ да таго часу, пакуль у ёй ня будзе двух архірэяў[93].

5 чэрвеня 1949 г. у г. Ройтлінген (*Reutlingen*, зямля Бадэн-Вюртэмбэрг, Нямеччына) адбылося чарговае паседжаньне Кансысторыі, удзельнікі якога пастанавілі часова перанесьці кіроўны орган БАПЦ у Мюнхэн з мэтай наступнага пераезду ў беларускі лягер Розэнгайм. Тады ж ераманах Васіль (Тамашык) атрымаў статус часовага прадстаўніка Кансысторыі БАПЦ[94].

На падставе пастановаў Прэзыдыюму Рады БНР ад 21 чэрвеня 1948 г. і 13 сакавіка 1949 г., а таксама прапановы Кансысторыі БАПЦ пачалося ўзвышэньне інжынэра Ўладзімера Тамашчыка па царкоўнаерархічнай лесьвіцы. 23 красавіка 1949 г. япіскап Сергій (Ахатэнка) пастрыг яго ў манаства з нарачэньнем імя Васіль, а 25 красавіка высьвяціў у сан іерадыякана. 5 чэрвеня апякун БАПЦ хіратанісаў яго ў ераманаха з прызначэньнем на пасаду настаяцеля беларускай царквы Сьвятога Мікалая, пабудова якой ішла ў лягеры Розэнгайм (акруга Верхняя Баварыя, Нямеччына). Узьвядзеньне ераманаха Васіля ў сан ігумэна адбылося 9 верасьня 1949 г.[95]

---

93 Ліст Міколы Абрамчыка, адрасаваны Аўгену Каханоўскаму ад 21.03.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 454—455; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 9.4.1949 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 142.

94 Пратакол паседжаньня сябраў Кансысторыі БАПЦ. 5 чэрвеня 1949 г. Арк. 2.

95 Пратакол паседжаньня сябраў Кансысторыі БАПЦ. 5 чэрвеня 1949 г. Арк. 1—1 (адв.); Пасьведчаньне аб манаскім пострыгу, дыяканскай і іерэйскай хіратоніях Васілія (Тамашчыка) ад 12.06.1949 // Збор дакумантаў

Пастановай Кансысторыі БАПЦ ад 21 жніўня 1949 г. катэдральным храмам БАПЦ стала царква Сьвятога Мікалая ў лягеры Розэнгайм, асьвечаная ў той жа дзень[96].

## *3.5. Дзейнасьць Жыровіцкага праваслаўнага брацтва на чужыне ў 1948—1949 гг.*

Значную падтрымку працэсам адраджэньня БАПЦ аказвала Жыровіцкае праваслаўнае брацтва на чужыне, узначаленае Аляксандрам Асіповічам-Асіпчыкам. Важным складнікам дзейнасьці ЖПБ на першапачатковым этапе ягонай дзейнасьці была рэалізацыя выдавецкіх праектаў. У сьнежні 1948 г. брацтва выпусьціла першы нумар часопісу "Сіла Веры", рэдактарам якога зьяўляўся Аляксандар Асіповіч-Асіпчык. Наклад першага нумару склаў 500 асобнікаў. На старонках выданьня зьмяшчаліся афіцыйныя дакумэнты, артыкулы рэлігійна-маральнай і гістарычнай тэматыкі, хроніка царкоўнага жыцьця. Не абмяжоўваючыся падрыхтоўкай пэрыёдыка, брацтва выдрукавала кнігі "Аб Цудатворным Жыровіцкім Абразе Божае Маці"[97], "Акафіст перад Цудатворным Жыровіцкім Абразом Божае Маці"[98], "Акафіст да сьв. Афрасіньні, кн. Полацкай, апякункі і прасьветніцы зямлі беларускай"[99], "Цудатворны абраз Жыровіцкай Маці Божай і Жыровіцкі манастыр. Гістарычны нарыс"[100], вучэбнага дапаможніка для школьнага навучаньня "Новы Запавет Ісуса Хрыста"[101], а таксама літаграфіяў беларускіх іконаў ("Зьяўленьне Божай Маці ў Жыровіцах", "Пакроў Божай

---

Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 24; Жыцьцяпіс іераманаха Васілія Тамашчыка. Мюнхэн, 2 жніўня 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 76; Пратакол № 2 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. у Остэргофэне // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 103—104.

[96] Урачыстасьць БАПЦ у Розэнгайме // Бацькаўшчына. № 16 (60). 1949. С. 1.

[97] Аб Цудатворным Жыровіцкім Абразе Божае Маці. Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва, 1948.

[98] Акафіст перад Цудатворным Жыровіцкім Абразом Божае Маці. Dingolfing: Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва, 1948. 16 с.

[99] Акафіст да сьв. Афрасіньні, кн. Полацкай, апякункі і прасьветніцы зямлі беларускай. Flensburg: Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва, 1949. 23 с.

[100] Асіпчык-Асіповіч, Аляксандар. Цудатворны абраз Жыровіцкай Маці Божай і Жыровіцкі манастыр. Гістарычны нарыс. Баварыя, 1957. 31с.

[101] Асіпчык-Асіповіч, Аляксандар. Новы Запавет Ісуса Хрыста. Падручнік для школьнай моладзі. Flensburg: Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва. 1949. 64 с.

Маці над Жыровіцамі", "Абнаўлённы вобраз Жыровіцкай іконы Божай Маці", прападобнай Эўфрасіньні Полацкай), паштоўкі з выявамі беларускіх цэркваў у Нямеччыне)[102].

Да пачатку 1949 г. кіраўніцтва ЖПБ пакінула лягер Віндышбэргердорф і разьмясьцілася ў лягеры Бакнанг (зямля Бадэн-Вюртэмбэрг, Нямеччына) на тэрыторыі Амэрыканскай акупацыйнай зоны[103]. У красавіку таго самага году адбылося значнае пашырэньне ўплыву ЖПБ на рэлігійнае жыцьцё беларускай дыяспары з прычыны прызначэньня Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка сакратаром часовага кіраўніцтва БАПЦ[104].

Прыкметным напрамкам дзейнасьці ЖПБ пасьля ўключэньня ягонага сакратара ў склад часовага кіраўніцтва стала публікацыя матэрыялаў, якія дыскрэдытавалі епіскапат Беларускай мітраполіі РПЦЗ. З 1949 г. часопіс "Сіла Веры" пачаў зьмяшчаць абвінавачаньні супраць былога мітрапаліта Менскага й Беларускага Панцеляймона (Ражноўскага) у продажы царквы Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу, пабудаванай на сродкі беларускіх эмігрантаў[105]. У 1949 г. інфармацыйная атака скіравалася таксама на былога архіяпіскап Гарадзенскі й Беластоцкага Вэнэдыкта (Бабкоўскага), які на старонках афіцыйнага органу ЖПБ менаваўся як той, хто шукае жыцьцёвых выгодаў, уносіць разлад у беларускае асяродзьдзе й жадае падпарадкаваць Беларускую праваслаўную царкву расейскім *"асыміляцыйным і імпэрыялістычным мэтам"*[106]. Тыражаваньне падобных абвінавачаньняў мела пэўны ўплыў на фармаваньне настрояў праваслаўных беларусаў, што садзейнічала зьмяншэньню ўплыву Беларускай мітраполіі РПЦЗ і ўмацаваньню пазыцыяў БАПЦ.

Акрамя выдавецкай і інфармацыйнай актыўнасьці, кіраўніцтва ЖПБ аказалася ўцягнутым у рашэньне кадравых пытаньняў БАПЦ. У 1949 г. сакратар брацтва дасягнуў дамоўленасьці з адміністрацыяй Багаслоўскай акадэміі УАПЦ у Мюнхэне адносна магчымасьці навучаньня ў названай

---

[102] Выданьні Жыровіцкага Брацтва // Сіла Веры. № 1. 1948. С. 11; Увага. У канцылярыі Брацтва можна набыць наступныя рэчы // Сіла Веры. № 1. 1948. С. 11; Chronika // Сіла Веры. № 2. 1949. С. 44—45.

[103] Chronika // Сіла Веры. № 2. 1949. С. 44.

[104] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 22.

[105] Да Яго Блажэнства Блажанейшага Мітрапаліта Панцелеймана. Бакнанг. 25.10.1949 // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 25; "На трэці дзень..." // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 25.

[106] Асіповіч-Асіпчык, А. Адчынены ліст да б. яп. з Беларусі Бэнэдыкта (Бабкоўскага). Бакнанг, 20.01.1950 // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 12—13; Chronika // Сіла Веры. № 2. 1949. С. 44.

установе кандыдатаў на сьвятарскае служэньне ў БАПЦ[107].



Часопіс “Сіла Веры”

У тым жа годзе адбылося рэзкае паслабленьне ўплыву ЖПБ на працэсы рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары. Прычынай таму стала зьбліжэньне Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка з кіраўніцтвам Беларускай Цэнтральнай Рады. 30 кастрычніка 1949 г. у лягеры Бакнанг адбыліся перамовы паміж сакратаром брацтва й прадстаўніком БЦР, падчас якіх абмяркоўваліся пэрспэктывы арганізацыі рэлігійнага жыцьця праваслаўных беларусаў на чужыне. Асудзіўшы добраахвотны пераход ярархаў Беларускай мітраполіі ў склад РПЦЗ і прызнаўшы заканамерным фармаваньне часовага кіраўніцтва БАПЦ на чале з украінскім япіскапам, удзельнікі сустрэчы палічылі мэтазгодным ажыцьцявіць пераход БАПЦ у склад УАПЦ на правах аўтаноміі. Адначасова з гэтым адзначалася неабходнасьць скліканьня новага Сабору БАПЦ для санкцыянаваньня прыяднаньня да УАПЦ, пераабраньня пэрсанальнага складу часовага кіраўніцтва альбо кааптаваньня ў яго склад новых сяброў, а таксама прызначэньня ў беларускія парафіі сьвятароў беларускага паходжаньня[108]. Рэалізацыя гэтай ініцыятывы магла прывесьці да выхаду БАПЦ з-пад уплыву Рады БНР з наступным пераходам пад кантроль БЦР. Адначасова з выпрацоўкай плянаў па перабудове сыстэмы арганізацыі рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары сакратар ЖПБ рэзка нэгатыўна ўспрыняў абраньне прадстаўніка Рады БНР інжынэра Ўладзімера Тамашчыка кандыдатам на высьвячэньне ў сан япіскапа БАПЦ[109].

---

[107] Chronika // Сіла Веры. № 2. 1949. С. 45.

[108] Праектаваная дагаворанасьць прав[аслаўных] беларусаў. Дня 30.10.1949 у Бакнангу // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 29.

[109] Пратакол паседжаньня сяброў Кансысторыі БАПЦ. 5 чэрвеня 1949 г. Арк. 1—1 (адв.); Пратакол № 3 паседжаньня Прэзыдыюма Рады БНР дня 14-га, сакавіка, 1949 году ў Остэргофэне, Нямеччына // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 123; Хіратонія Ул. Тамашчыка на япіскапа Віленскага // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 30.

### *3.6. Завяршэньне фармаваньня структуры й ярархіі БАПЦ (лістапад — сьнежань 1949 г.)*

Стварэньне ярархіі БАПЦ актывізавалася 1 лістапада 1949 г., калі прадстаўнікі беларускай праваслаўнай грамадзкасьці зьвярнуліся да япіскапа Сергія (Ахатэнкі) з просьбай аб афіцыйным выхадзе з УАПЦ[110]. Заява зьявілася за некалькі дзён да работы Сьвятога сабору япіскапаў УАПЦ, скліканьне якога плянавалася на 3—5 лістапада 1949 г. на тэрыторыі ўкраінскага лягеру Дылінген (Нямеччына). Для перамоваў аб стварэньні незалежнай ярархіі БАПЦ на Сабор накіравалася дэлегацыя ўраду БНР у складзе прэм’ер-міністра Аўгена Каханоўскага й міністра культуры й веравызнаньняў Алеся Вініцкага. Напярэдадні адкрыцьця саборных паседжаньняў яны сустрэліся зь першаярархам УАПЦ мітрапалітам Палікарпам (Сікорскім) і дасягнулі неабходных дамоўленасьцяў[111].

На другі дзень працы Сабору, 4 лістапада 1949 г., япіскап Сергій, спасылаючыся на адпаведны зварот беларускіх вернікаў, напісаў прашэньне аб пераходзе ў юрысдыкцыю БАПЦ. Падчас разгляду гэтага прашэньня ўдзельнікі саборнага паседжаньня згадзіліся падтрымаць адраджэньне беларускай аўтакефаліі, санкцыянавалі выхад япіскапа Сергія са складу УАПЦ (з захаваньнем права апекаваньня праваслаўнымі ўкраінцамі з Француской акупацыйнай зоны) і даручылі групе ўкраінскіх ярархаў зьдзейсьніць архірэйскае высьвячэньне ігумэна Васіля (Тамашчыка)[112].

---

[110] Зварот епіскапа Сергія (Ахатэнкі) да Сьвяшчэннага Собору Епіскапаў УАПЦ ад 04.11.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 26.

[111] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 95; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 30.11.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 155.

[112] Виписка з Протоколу ч. 2 засідання VI сесії Свящ. Собору Єпископів УАП-Церкви на еміграції, відбутого дня 4 листопада 1949 р. в українському таборі в Ділінген // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 113; Выцяг з пратаколу № 2 паседжаньня VI сэсіі Сьвят. Сабору Епіскапаў УАП Царквы на эміграцыі, адбытага 4 лістапада 1949 г. у ўкраінскім лягеры ў Дылінгене // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 2; Зварот епіскапа Сергія (Ахатэнкі) да Сьвяшчэннага Собору Епіскапаў УАПЦ ад 04.11.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 26; Власовський, Іван. Нарис історії Української Православної Церкви: у 4 т. Т. 4. Ч. 2. Нью-Йорк, 1966. С. 359—360; Выцяг з пратаколу № 2 паседжаньня VI сэсіі Сьвят. Сабору Епіскапаў УАП Царквы на эміграцыі, адбытага 4 лістапада 1949 г.

Афіцыйнае далучэньне япіскапа Сергія да юрысдыкцыі БАПЦ з фармальным прызначэньнем на пасаду кіраўніка Пінска-Берасьцейкай япархіі адбылося 10 лістапада 1949 г. на паседжаньні Кансысторыі БАПЦ[113]. Аўген Каханоўскі ад імя Рады Міністраў БНР накіраваў першаму ярарху БАПЦ прывітальны адрас[114].

На чарговым паседжаньні ўраду БНР, якое праходзіла 30 лістапада 1949 г., абмяркоўвалася далейшая разбудова БАПЦ. Прэм'ер-міністар заявіў аб неабходнасьці выказаць Сабору япіскапаў БАПЦ пазыцыю ўраду ў справе абраньня першаярарха. Рада Міністраў пастанавіла прапанаваць Сабору вылучыць на гэтую пасаду япіскапа Сергія (Ахатэнку) з наступным узьвядзеньнем яго ў сан архіяпіскапа. На заступніка першаярарха меркавалі прызначыць будучага япіскапа Васіля (Тамашчыка)[115].

Згодна з прынятымі саборнымі пастановамі, 18 сьнежня 1949 г. у беларускай царкве Сьвятога Мікалая ў Розэнгайме адбылося нарачэньне Васіля (Тамашчыка) на япіскапа Віленскага, а на наступны дзень ягоная архірэйская хіратонія. Высьвячэньне зьдзейсьнілі япіскап Пінскі й Берасьцейскі Сергій (Ахатэнка), япіскап Ровенскі й Крамянецкі Платон (Артэмюк) і япіскап Дубенскі Вячаслаў (Лісіцкі). Урачыстае набажэнства наведалі каля трыццаці дэлегацыяў, якія рэпрэзэнтавалі грамадзка-палітычныя, царкоўныя, культурніцкія, студэнцкія, моладзевыя й іншыя арганізацыі розных народаў з трох акупацыйных зонаў. Значную колькасьць фінансавых выдаткаў, зьвязаных з арганізацыяй архірэйскай хіратоніі, узяў на сябе ўрад БНР[116].

у ўкраінскім лягеры ў Дылінгене // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 2; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 14—15.10.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 153.

113 Пастанова Сяброў Духоўнай Кансысторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ад 10.11.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 148.

114 Ліст прэм'ер-міністра БНР Аўгена Каханоўскага да епіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 14.11.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 27.

115 Ліст прэм'ер-міністра БНР А. Каханоўскага да Духоўнай кансысторыі БАПЦ і епіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 03.12.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 149; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 30.11.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 155.

116 Грамота о рукоположении архимандрита Василия (Томащика) во епископа Виленского. Розенгайм, 20 декабря 1949 г. На 1 арк. Фотакопія рукапісу. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу; Ліст Аўгена Каханоўскага да Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка ад 26.12.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч,

Зьяўленьне другога архірэя ў складзе ярархіі БАПЦ дазволіла пачаць працу найвышэйшага кіраўнічага органу названай рэлігійнай арганізацыі — Сьвятога сабору япіскапаў. Першае сабornae паседжаньне адбылося 20 сьнежня 1949 г. на тэрыторыі лягеру Розэнгайм. Акрамя япіскапаў БАПЦ Сергія (Ахатэнкі) і Васіля (Тамашчыка) на Саборы прысутнічаў у якасьці ганаровага госьця япіскап Платон (Арцямюк). На Саборы прынялі рашэньні аб разбудове адміністрацыйнай структуры БАПЦ. Абвясьціўшы адраджэньне беларускай ярархіі зьдзейсьненым фактам, удзельнікі паседжаньня абралі япіскапа Сергія старшынём Сабору япіскапаў БАПЦ з узьвядзеньнем у сан архіяпіскапа й наданьнем права нашэньня крыжа на клабуку. Япіскап Васіль атрымаў прызначэньне на пасаду сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ. Разьмеркавалі паўнамоцтвы кожнага ярарха. Паводле сабornай пастановы, архіяпіскап Сергій стаў адміністратарам БАПЦ у Аўстраліі, а япіскап Васіль адміністратарам БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе. Каб кіраваць бягучымі справамі БАПЦ, сфармавалі Цэнтральнае царкоўнае кіраўніцтва. З нагоды адраджэньня ярархіі БАПЦ і блізкіх сьвятаў Раства Хрыстова й Новага году Сьвяты сабор япіскапаў БАПЦ зацьвердзіў тэкст Сабornага архіпастырскага пасланьня да духавенства й вернікаў[117].

Наступным крокам стала рыхтаваньне афіцыйнага звароту Сабору япіскапаў БАПЦ да Канстантынопальскага патрыярха з апавяшчэньнем аб узьнікненьні новай нацыянальнай царквы й просьбай аб добраславеньні яе дзейнасьці[118]. Як згадвалася вышэй, такі сцэнар дзеяньняў прапісваўся ў лісьце прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка да прэм'ер-міністра БНР Аўгена Каханоўскага ад 21 сакавіка 1949 г.[119] На жаль, інфармацыя аб рэакцыі ачольніка Ўсясьветнага патрыярхату на зварот Сабору япіскапаў БАПЦ ад 20 сьнежня 1949 г. няведамая.

---

Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 484—485; Гарошка, Мікола. Архіяпіскап Васіль // Беларус. № 159. 1970. С. 1; Навіцкі, І. Вялікія дні БАПЦ // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 1; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980. P. 169.

[117] Ліст Аўгена Кахноўскага да Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка ад 26.12.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 485; Першая Сэсія Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 1; Сабornае архіпастырскае пасланьне // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 2; Гарошка, Мікола. Ярхіепіскап Васіль // Беларус. № 159. 1970. С. 1.

[118] Пратакол паседжаньня Вышэйшага Царкоўнага Ўпраўленьня БАПЦ. Розенгайм, 21 сьнежня 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 150.

[119] Ліст Аўгена Кахноўскага да Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка ад 26.12.1949. С. 485; Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 21.03.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 456.

### *3.7. Рэакцыя на высьвячэньне япіскапа Васіля (Тамашчыка)*

Фармаваньне незалежнага епіскапату БАПЦ выклікала пазытыўную рэакцыю з боку прыхільнікаў Рады БНР, якія ўспрымалі гэта як найважнейшы крок у беларускім нацыянальным разьвіцьці. Яскравы прыклад таму — ліст ведамага беларускага грамадзка-палітычнага дзеяча Янкі Чарапука-Змагара ад 15 жніўня 1951 г., адрасаваны да япіскапа Васіля (Тамашчыка). Вернік-практык і рыма-каталік Янка Чарапук пісаў: *"Я як беларус-дзяржаўнік... уважаю гістарычны акт абвешчаньня Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы як другі важны акт пасьля акту абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі"*[120].

Узьнікненьне новай беларускай ерархічнай структуры выклікала адмоўную рэакцыю з боку епіскапату Беларускай мітраполіі РПЦЗ. Апублікаванае 7 студзеня 1950 г. "Архіпастырскае пасланьне Япіскапаў Беларускае Праваслаўнае Царквы да духавенства і веруючых праваслаўных беларусаў на эміграцыі" крытыкавала ініцыятараў стварэньня БАПЦ і ярархаў УАПЦ, якія згадзіліся на хіратонію япіскапа Васіля (Тамашчыка). Пасланьне заклікала праваслаўных беларусаў аб'яднацца вакол кананічнай ярахіі на чале зь мітрапалітам Пацеляймонам (Ражноўскім)[121].

Арганізацыйнае афармленьне БАПЦ падштурхнула Архірэйскі сынод РПЦЗ прыняць "Пастанову аб самачыннай Беларускай Царкве" ад 6 лютага 1950 г., у якой адпрэчвалася дзейснасьць архірэйскага статусу архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) і япіскапа Васіля (Тамашчыка), а БАПЦ менавалася *"самачынным зборышчам"*. Адзінай кананічнай ярархіяй для беларускага народу аўтары Пастановы вызнавалі беларускі епіскапат на чале зь мітрапалітам Панцеляймонам[122]. Апошні ў жніўні 1950 г. апублікаваў улётку з пасланьнем "Узьлюбленыя чада Хрыстовы!", дзе рэзка крытыкаваў прыхільнікаў БАПЦ[123].

---

[120] Цыт. паводле: Янка Чарапук-Змагар // Бацькаўшчына. № 51—52 (385—386). 1957. С. 5.

[121] Архіпастырскае пасланьне япіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы да духавенства і веруючых праваслаўных беларусаў на эміграцыі. 25 сьнежня 1949 году паводле старога стылю // Вініцкі, А. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. С. 116—118.

[122] Праваслаўны Беларус. Нятрэба Вашае апекі! // Бацькаўшчына. № 63. 1950. С. 4.

[123] Пантелеимон, митрополит. Возлюбленные чада Христовы! Мюнхен-Фельдмохинг, 1950. 2 с.

Наступнае разьвіцьцё падзеяў зрабіла відавочным тое, што царкоўны падзел беларускай дыяспары ўмацаваўся й Сынод Беларускай мітраполіі РПЦЗ канчаткова страціў свой уплыў на значную частку праваслаўных вернікаў.

## *3.8. Жыровіцкае праваслаўнае брацтва на чужыне ў 1949—1965 гг.*

Дзейнасьць Жыровіцкага праваслаўнага брацтва на чужыне, сакратар якога дэманстраваў апазыцыйнае стаўленьне да Галоўнага епархіяльнага кіраўніцтва (Кансысторыі) БАПЦ, разгледзелі 21 сьнежня 1949 г. на першым паседжаньні Найвышэйшага царкоўнага кіраўніцтва ў Розэнгайме. Надаўшы ЖПБ статус галоўнага праваслаўнага брацтва БАПЦ і заплянаваўшы арганізаваць яго філіялы ва ўсіх краінах, дзе маюцца беларускія асяродкі, удзельнікі паседжаньня на чале з архіяпіскапам Сергіем (Ахатэнкам) адхілілі Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка ад удзелу ў кіраваньні брацтвам[124]. На сэсіі Сьвятога сабору япіскапаў БАПЦ 25 сьнежня 1949 г. у Розэнгайме зацьвердзілі новы склад кіраўніцтва ЖПБ[125].

Не прызнаўшы законным свайго адхіленьня, Аляксандар Асіповіч-Асіпчык працягваў пазыцыянаваць сябе сакратаром ЖПБ і тым самым справакаваў раскол арганізацыі. У 1950 г. ён пераехаў у ЗША й пасяліўся ў г. Нью-Брансўік (*New Brunswick*, Нью-Джэрзі). На працягу 1950—1951 гг. Аляксандар Асіповіч-Асіпчык выступаў з ініцыятывай правесьці зьезд праваслаўных беларусаў розных царкоўных юрысдыкцыяў, мэтай якога бачылася стварэньне Аб'еднаньня праваслаўных беларусаў у Амэрыцы. Аднак прапанова не была зрэалізаваная, бо яе не падтрымаў протаярэй Мікалай Лапіцкі, які каардынаваў палітыку БЦР для арганізацыі беларускіх парафіяў у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. Згаданыя абставіны паўплывалі на абвастрэньне адносінаў з протаярэем Мікалаем, Аляксандр Асіповіч-Асіпчык перастаў падтрымліваць палітычную лінію БЦР. Захаваўшы кантроль над выданьнем часопісу "Сіла Веры", Аляксандар Асіповіч-Асіпчык у сваіх публікацыях рэзка кры-

---

[124] Хіратонія Ул. Тамашчыка на япіскапа Віленскага // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 30; Пратакол паседжаньня Вышэйшага Царкоўнага Ўпраўленьня БАПЦ. Розенгайм, 21 сьнежня 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 150.

[125] Хіратонія Ул. Тамашчыка на япіскапа Віленскага // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 30; Благаславеньне Сабору Епіскапаў БАПЦ на дзейнасьць Беларускага Жыровіцкага Брацтва. 25.12.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 28.

тыкаваў протаярэя Мікалая й ягоную царкоўна-адміністрацыйную стратэгію[126].

Другі аб'ект публіцыстычнай крытыкі сакратара ЖПБ — Беларуская мітраполія, якая абвяшчалася пазбаўленай аўтаномнага статусу пасьля пераходу ў склад РПЦЗ, а таму ня мела права выражаць беларускія нацыянальныя інтарэсы[127].

Нэгатыўная ацэнка давалася таксама і БАПЦ, якую Аляксандар Асіповіч-Асіпчык характарызаваў як узьніклую самачынна, без захаваньня царкоўна-кананічных нормаў, а толькі з дазволу прэзыдэнта Рады БНР. Апошняга сакратар ЖПБ абвінавачваў у падтрымцы праекту акаталічваньня праваслаўных беларусаў[128]. Адначасова з гэтым БАПЦ менавалася ўніяцкім праектам, а яе актыўныя дзеячы абвяшчаліся ўзурпатарамі царкоўнай улады[129]. У сваю чаргу прыхільнікі Рады БНР называлі Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка *"беларускім Герастратам"*[130].

Вынікам канфліктнага супрацьстаяньня Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка з асноўнымі цэнтрамі царкоўнага жыцьця беларускай дыяспары стала маргіналізацыя ўзначаленага ім брацтва й істотнае скарачэньне колькасьці прыхільнікаў арганізацыі. У наступныя гады ЖПБ налічвала ў сваім складзе толькі сакратара й пазыцыянавала сябе незалежным ад усіх беларускіх царкоўных юрысдыкцыяў[131].

Да 1953 г. Аляксандар Асіповіч-Асіпчык арганізаваў Беларускае нацыянальнае аб'еднаньне, ад імя якога крытыкаваў БАПЦ за некананічны статус і называў Канстантынопальскі патрыярхат кірыярхальнаю

[126] Ад рэдакцыі // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 29; Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне (працяг) // Сіла Веры. № 4. 1951. С. 25—27.

[127] "Аўтанамісты" ў складзе Арх[іярэйскага] Сыноду Расейскай Зарубежнай Прав[аслаўнай] Царквы // Сіла Веры. № 3.1950. С. 26.

[128] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 22.

[129] Асьветчаньне Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва. Нью Брансьвік, 12 лютага 1952 г. // ББФС. Арк. 1 (адв.); Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва. 19 чэрвеня 1954 г. // ББФС. Арк. 1—1 (адв.); Пратэст Б. П.Ж. Брацтва. 3 травеня 1956 г. // ББФС. Арк.1; Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 22; Асіпчык, А. Выясьненьне // Сіла Веры. № 8. 1955. С. 27; Пастанова Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва імя Божае Маці Жыровіцкай // Сіла Веры. № 6. 1953. С. 37; Крывіцкі погляд на беларускі народ // Сіла Веры. № 7. 1954. С. 22—23; Хіратонія Ул. Тамашчыка на япіскапа Віленскага // Сіла Веры. № 3. 1950. С. 30; Якая Царква патрэбная праваслаўным беларусам // Сіла Веры. № 8. 1955. С. 28—30.

[130] Беларускі Герастрат // Бацькаўшчына. № 39—40 (221—222). 1954. С. 3, 6.

[131] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне (працяг) // Сіла Веры. № 4. 1951. С. 26—27.

Царквою ў дачыненьні Беларускай праваслаўнай царквы[132]. Пераглядзеўшы сваё стаўленьне да ідэі стварыць беларускую царкоўную структуру ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату, ён у 1953—1954 гг. ад імя брацтва пералічаў грашовыя сродкі на набыцьцё парафіяльнага будынку ў г. Таронта (Канада) і на ўладкаваньня беларускай парафіі ў г. Манчэстэр (Вялікабрытанія)[133]. Нягледзячы на сымпатыі сакратара ЖПБ да праекту арганізацыі беларускіх парафіяў Канстантынопальскага патрыярхату, рэдагаваны ім часопіс "Сіла Веры" пэрыядычна публікаваў крытычныя матэрыялы ў дачыненьні галоўных ініцыятараў праекту — протапрэсьвітара Мікалая Лапіцкага й Івана Касяка[134].

У наступныя гады Аляксандар Асіповіч-Асіпчык працягваў называць сябе сакратаром ЖПБ і выдаваць часопіс "Сіла Веры", зьмяшчаючы на яго старонках крытыку ўсіх цэнтраў царкоўнага жыцьця беларускага замежжа[135]. Пазыцыянуючы ЖПБ прадаўжальнікам традыцыяў брацкіх арганізацыяў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII ст., Аляксандар Асіповіч-Асіпчык разам з тым аб'яўляў узначаленую ім структуру *"брацтвам новага тыпу"*. Галоўнай задачай ЖПБ ён бачыў папулярызацыю й зацьвярджэньне беларускай нацыянальнай ідэі, захаваньне *"запаветаў тых, што змагаліся і супроць польскага насільства, і супроць Масквы"*[136]. Нягледзячы на актыўнасьць Аляксандра

[132] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва. 19 чэрвеня 1954 г. Арк. 1 (адв.); Адчынены ліст ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне. ЗША, 30 сакавіка 1954 г. // ББФС. Арк. 1; Беларускія рэлігійныя групы на эміграцыі // Сіла Веры. № 6. 1953. С. 34; Рэзалюцыя Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў справе царкоўных дачыненьняў на эміграцыі. 31 траўня 1953 г. // Сіла Веры. № 6. 1953. С. 35.

[133] Адчынены ліст ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне. ЗША, 30 сакавіка 1954 г. Арк. 1; Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне // Сіла Веры. № 8. 1955. С. 27; Беларуская праваслаўная парафія ў Таронта // Сіла Веры. № 6. 1953. С. 45; Сп. А. Асіпчыку ў ЗША. Айцец М. Мігай, Б. Складоўскі. Торонто, 28.03.1954 г. // Сіла Веры. № 7. 1954. С. 42; Яго Міласьці Сакратару БПЖБрацтва ў ЗША. 13.04.1954 г. // Сіла Веры. № 7. 1954. С. 42.

[134] Цікава заблытанасьць // Сіла Веры. № 11. 1958. С. 29—33; Мараль — сіла арганізацы ў яе справедлівасьці і чэснасьці. Крыху слоў да Адкрытага ліста М. Лапіцкага і Крывіцкай Маралі Бел. Слова № 2—31 і № 3—35 // Сіла Веры. № 11. 1958. С. 28.

[135] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне // Сіла Веры. № 5. 1952. С. 27—30; Кананічнасьць Праваслаўнае Царквы // Сіла Веры. № 6. 1953. С. 33; Жыровіцкі, А. Так званыя "Пятыя ўгодкі..." // Сіла Веры. № 6. 1953. С. 30—31.

[136] Да 10-х угодкаў Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва // Сіла Веры. № 8. 1955. С. 33

Асіпчыка, маргінальны статус ЖПБ не дазваляў рабіць прыкметны ўплыў на працэсы царкоўнага жыцьця беларускай дыяспары. Паступова дзейнасьць брацтва была зьведзеная да публікацыі заяваў ягонага сакратара, а пасьля выхаду ў 1965 г. апошняга нумару часопісу "Сіла Веры" фактычна спынілася. Памёр сакратар Жыровіцкага праваслаўнага брацтва на чужыне ў 1990 г. у г. Джэксан (Нью-Джэрзі)[137].

## 4. Адміністрацыйна-кананічны статус Беларускай мітраполіі ў складзе РПЦЗ (1946—1956)

На першым этапе свайго перабываньня ў складзе РПЦЗ Беларуская мітраполія карысталася гарантаванымі ёй правамі незалежнасьці ва ўнутраных справах. Такая спэцыфіка адміністрацыйнага статусу давала магчымасьць Сыноду мітраполіі ажыцьцяўляць прызначэньні на царкоўныя пасады ня толькі клірыкаў, але нават і архірэяў. Напрыклад, як ужо згадвалася вышэй, сынадальнай пастановай ад 2 жніўня 1946 г. япіскап Апанас (Мартас) звальняўся з пасады адміністратара беларускіх парафіяў у Амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны, а на ягонае месца прызначаўся архіяпіскап Філафей (Нарко)[138].

Пакуль Беларускую мітраполію РПЦЗ узначальваў мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі), яе аўтаномны статус ня толькі захоўваўся, але й атрымоўваў афіцыйныя пацьверджаньні. У прыватнасьці, 19 лістапада 1949 г. першаярарх РПЦЗ мітрапаліт Анастасій (Грыбаноўскі) падпісаў апублікаванае ў беларускай прэсе пасьведчаньне, паводле якога *"архірэі Праваслаўнай Царквы Беларусі [...] са сваім духавенствам, далучыўшыся да юрысдыкцыі Расейскай Праваслаўнай Царквы за мяжой, увайшлі туды як аўтаномная частка, прычым адзін зь іх прадстаўнікоў зьяўляецца членам Сыноду. [...] Нутраныя беларускія справы вырашаюцца беларускімі архірэямі, якія абмяркоўваюць іх на сваіх уласных зьездах"*[139].

Паніжэньне статусу Беларускай мітраполіі РПЦЗ адбылося пасьля сьмерці яе першаярарха мітрапаліта Панцеляймона (Ражноўскага) 30 сьнежня 1950 г. Паводле Статуту Сьвятой праваслаўнай беларускай аўтакефальнай царквы, прынятага на Ўсебеларускім царкоўным саборы 30 жніўня — 2 верасьня 1942 г., узначальваньне мітраполіі павінна

---

137 Гардзіенка, Натальля. Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 24

138 Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Арк. 39—40.

139 Удостоверение Архиерейского Синода Русской Православной Церкви Заграницей № 996, Ноября 19, 1949 г. // Праваслаўны Беларус. № 9. 1949. С. 8.

ажыцьцяўляцца *“яе першым Япіскапам, Кіраўніком і прадстаўніком у ўсіх нутраных і вонкавых зносінах, [якім] зьяўляецца Мітрапаліт”* (§ 10). Мітрапаліт займае пасаду пажыцьцёва й абіраецца на спэцыяльна скліканым Царкоўным саборы (§ 16)[140]. Таксама Статут прадугледжваў, што ў выпадку сьмерці першаярарха часовае кіраўніцтва царкоўным жыцьцём павінна перайсьці найстарэйшаму па хіратоніі архірэю Беларускай мітраполіі (беларускага паходжаньня), якому надаецца званьне месцаахоўніка пасаду мітрапаліта й даручаецца ў трохмесячны тэрмін склікаць Царкоўны сабор для абраньня новага першаярарха (§ 18)[141]. Прыняўшы званьне месцаахоўніка, архіяпіскап Вэнэдыкт (Бабкоўскі) ня склікаў выбарчага Сабору Беларускай мітраполіі й памёр 3 верасьня 1951 г.[142] Наступным месцаахоўнікам мітрапалічага пасаду стаў архіяпіскап Філафей (Нарко), які таксама ня змог арганізаваць выбарчага Сабору[143]. Такім чынам, у 1951 г. Беларуская мітраполія на чужыне згубіла пасаду першаярарха ў статусе мітрапаліта, што фактычна пазбаўляла яе структуру аб’яднаўчай асновы.

Паколькі Статут вызначаў толькі трохмесячны тэрмін паўнамоцтваў месцаахоўніка мітрапалічага пасаду, архіяпіскап Філафей заставаўся на пасадзе кіраўніка Беларускай мітраполіі да 3 сьнежня 1951 г. Да гэтай даты і варта было б аднесьці спыненьне дзейнасьці Беларускай мітраполіі на чужыне, калі яна канчаткова пазбавілася легітымнага кіраўніцтва. Але аж да 1956 г. архіяпіскап Філафей рабіў спробы рэанімаваць дзейнасьць мітраполіі й працягваў называць сабе месцаахоўнікам мітрапалічага пасаду, што пашырае ўмоўныя храналягічныя межы існаваньня Беларускай мітраполіі ў замежжы.

У сярэдзіне 1950-х гг. архіяпіскап Філафей як месцаахоўнік мітрапалічага пасаду атрымаў ад прадстаўнікоў Беларускай Цэнтральнай Рады запрашэньне ўзначаліць Беларускую япархію Канстантынопальскага патрыярхату з цэнтрам у г. Штутгарт (ФРГ) альбо ў ЗША[144]. Маючы пазытыўнае стаўленьне да ўзнаўленьня беларускай царкоўнай структуры на чужыне, ён зьвярнуўся да першаярарха РПЦЗ мітрапаліта Анастасія

---

[140] Статут Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы, прыняты Ўсебеларускім Царкоўным Саборам 30.8.—2.9.1942 г. С. 174.

[141] Тамсама. С. 175.

[142] Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 156; Косик, О. Венедикт (Бобковский) // Православная энциклопедия. Т. VII. Москва: Церковно-научный центр “Православная энциклопедия”, 2004. С. 577—578.

[143] Копия определения Архиерейского Синода Русской Православной Церкви Заграницей от 19 ноября 1956 г. Л. 1.

[144] Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ф. Дз. Касмовіча. Воп. 1. Спр. 150. Арк. 43—43 (адв.), 47—48.

з хадайніцтвам аб блаславеньні на адкрыцьцё Беларускай япархіі пад кіраўніцтвам Сусьветнага патрыярха[145]. Разглядзеўшы гэтае пытаньне, 19 лістапада 1956 г. Архірэйскі сынод РПЦЗ прыняў пастанову, у якой абвясьціў недапушчальнай зьмену царкоўнай юрысдыкцыі беларускімі эмігрантамі: *"Блаславеньне на пераход праваслаўных беларусаў у падпарадкаваньне Канстантынопальскай царкве супярэчыла б кананічнаму парадку й праву Расейскай царквы, якія павінна ахоўваць за мяжой Расейская праваслаўная царква за мяжой"*[146]. Адначасова з гэтым Архірэйскі сынод канстатаваў адсутнасьць у праваслаўных беларусаў, што заставаліся ў складзе РПЦЗ, імкненьня да нацыянальна-царкоўнай аўтаноміі й на гэтай падставе пастанавіў: *"Правялебны Філафей можа ажыцьцяўляць сваю апеку над праваслаўнымі беларусамі шляхам архіпастырскіх пасланьняў і спрыяньня стварэньню новых парафіяў у месцах расьсяленьня беларусаў пасьля зносінаў зь мясцовымі епархіяльнымі Правялебнымі, у падпарадкаваньні якіх яны павінны знаходзіцца, і з тым, аднак, каб ня ўносілася ніякай смуты й падзелу ва ўжоісныя парафіі Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, у якіх частка ўдзельнікаў складаецца зь беларусаў"*[147]. Такім чынам, Архірэйскі сабор РПЦЗ ня толькі асудзіў імаверны разрыў царкоўнай еднасьці ўсходнеславянскіх народаў, але й канчаткова скасаваў магчымасьць існаваньня ў сваёй структуры Беларускай мітраполіі, прадпісаўшы яе намінальнаму месцаахоўніку абмежавацца дзеяньнямі для паглыбленьня інтэграцыі праваслаўных беларусаў у Расейскую праваслаўную царкву за мяжой.

## 5. БАПЦ пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) (1949—1971)

### *5.1. Пашырэньне ўплыву БАПЦ на беларускую дыяспару ў 1950—1960-я гг.*

У пачатку 1950-х гг. лягеры для перамешчаных асобаў на тэрыторыі Нямеччыны спынілі сваё існаваньне, а беларусы, што жылі ў іх, атрымалі магчымасьць расьсяліцца па краінах Эўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі, Аўстраліі. Найбуйнейшыя беларускія

---

145 Письмо Председателя Архиерейского Синода РПЦЗ митрополита Анастасия (Грибановского) архиепископу Берлинскому и Германскому Александру (Ловчему) № 45/44/1925 от 23 ноября 1956 г. // АГЕ РПЦЗ. Ф. 7. К. "Епархиальная переписка, 1956 год". Л. 1.

146 Копия определения Архиерейского Синода Русской Православной Церкви Заграницей от 19 ноября 1956 г. Л. 2.

147 Тамсама. Л. 1—2.



Япіскап Васіль (Тамашчык)
зь беларусамі Вялікабрытаніі. 1950 г.

асяродкі ўзьніклі ў ЗША, Канадзе, Францыі, Вялікабрытаніі, Бэльгіі й Аўстраліі[148]. Значная частка беларускіх уцекачоў здолела эміграваць за межы Нямеччыны, дзякуючы падтрымцы праваслаўнага духавенства. У прыватнасьці, шматлікія хадайніцтвы протаярэя Мікалая Лапіцкага перад прадстаўнікамі Амэрыканскай акупацыйнай зоны дазволілі атрымаць дазвол на выезд у ЗША каля 400 беларусам[149].

Найважнейшым напрамкам сваёй дзейнасьці ярархі БАПЦ бачылі пашырэньне ўплыву на беларускую дыяспару. Найбольш эфэктыўным сродкам для гэтага сталі архіпастырскія візыты ў месцы кампактнага пражываньня беларусаў. На працягу вясны — лета 1950 г. япіскап Васіль (Тамашчык) наведаў беларускія асяродкі ў Нямеччыне, Бэльгіі й Вялікабрытаніі. Вельмі прыкметна, што да азначанага часу лёнданскія беларусы заставаліся пад духоўнай апекай украінскіх сьвятароў, што ў пэрспэктыве магло прывесьці іх да страты беларускай ідэнтычнасьці. Падчас сваёй візытацыі япіскап Васіль хіратанісаў беларускага эмігранта Аляксандра Крыта, тым самым паклаўшы пачатак незалежнай беларускай парафіі ў Вялікабрытаніі. Наведваючы гарады Брэдфард, Манчэстэр, Кеймбрыдж і Бэрмінгэм, япіскап Васіль схіляў мясцовых беларусаў падтрымаць БАПЦ, тым самым пашыраючы шэрагі прыхільнікаў беларускай аўтакефаліі. Аналягічную візытацыю сакратар Сабору япіскапаў БАПЦ ажыцьцявіў з 19 красавіка да 4 траўня 1950 г., калі наведваў шэраг бэльгійскіх гарадоў і ўмацаваў пазыцыі БАПЦ у мясцовых беларускіх асяродках[150].

---

[148] Грыбоўскі, Юры. Беларускі незалежніцкі лагер на Захадзе пасля II сусветнай вайны вачыма польскай эміграцыі // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 20. Сш. 1—2 (38—39). 2013. С. 82.

[149] Лапіцкі Мікалай, протаярэй. У імя праўды // Царкоўны Сьветач. 1953. № 4. С. 10.

[150] Праасьвяшчэньнейшы Ўладыка Васіль сярод беларусаў Англіі // Бацькаўшчына. № 63. 1950. С. 4; Урачыстасьць БАПЦ у Бад-Райхэнгалі // Бацькаўшчына. № 63. 1950. С. 6; Праневіч, А. Візыта Япіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля ў Бэльгіі // Інфармацыйны бюлетэнь Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. № 5. 1950. С. 2—4.

Прыкметнай асаблівасьцю рэлігійнай дзейнасьці япіскапа Васіля (Тамашчыка) ад пачатку ягонага архірэйскага служэньня была выразная падтрымка палітыкі й кіраўніцтва БНР. Так, у сваім архіпастырскім звароце да беларускіх эмігрантаў у Бэльгіі, апублікаваным у траўні 1950 г., ён пісаў: *"Наша мілая Бацькаўшчына-Беларусь, і мы ў тым ліку, паваленыя, але не пераможаныя, бо наш вызвольны рух ачольвае наша Рада Беларускае Народнае Рэспублікі зь яе Ўрадам і Прэзыдэнтам"*[151].

У чэрвені 1950 г. архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) пераехаў у Аўстралію, прыняўшы пад сваё непасрэднае кіраваньне мясцовыя беларускія парафіі. На працягу 1950—1957 гг. ён жыў у гарадах Сыднэй, Пэрт і Адэляйда[152]. Узначаленьне БАПЦ этнічным украінцам спараджала складанасьці ва ўзаемаадносінах архіяпіскапа Сергія зь беларускай паствай. У сваім лісьце сьвятару Аляксандру Крыту ад 30 сьнежня 1950 г. ён пісаў: *"Некалькі слоў аб сабе. Я жыву, слава Богу, зь цярпеньнем. Калі б тут быў япіскап Васіль — свой беларус, то яму было б лепш. А я ёсьць украінец, і адносіны да мяне як да чужога. Пра гэта ўсё нікому не кажыце"*[153].

Мяркуючы пераехаць на сталае жыхарства ў г. Нью-Ёрк, япіскап Васіль (Тамашчык) некаторы час заставаўся ў Мюнхэне, дзе навучаўся ва Ўкраінскай багаслоўскай акадэміі. Атрымаўшы ступеню магістра багаслоўя, у траўні 1951 г. ён пакінуў Нямеччыну[154]. Пасяліўшыся ў Нью-Ёрку, япіскап Васіль узяўся арганізоўваць царкоўнае жыцьцё. Акрамя таго, у сьнежні 1951 г. ён узначаліў новаўтвораную грамадзкую навукова-культурніцкую арганізацыю — Беларускі інстытут навукі й мастацтва"[155].

---

[151] Архіпастырскае Пасланьне Васілія, Япіскапа Віленскага, Сакратара Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне, да Работнікаў і Студэнтаў у Бэльгіі. Травень, 1950 г. // Інфармацыйны бюлетэнь Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. № 5. 1950. С. 1.

[152] Беларусы ў сьвеце. Аўстралія // Беларус. № 1. 1950. С. 4; Галава БАПЦ у Аўстраліі // Бацькаўшчына. № 63. 1. С. 2; Гардзіенка, Натальля. Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 195.

[153] Ліст архіепіскапа Сергія (Ахатэнкі) да сьвяшчэньніка Аляксандра Крыта ад 30.12.1950 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 30.

[154] Тимчасова довідка єпископові Василеві Томащикові про присудження ступеня магістра богослов'я. U.A.O.C. Theological Academy: München. 27.05.1951 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 73; Гарошка, Мікола. Архіепіскап Васіль // Беларус. № 159. 1970. С. 1; Яго Праасьвяшчэнства Япіскап БАПЦ Васіль пакінуў Эўропу // Бацькаўшчына. № 67. 1951. С. 3.

[155] Гарошка, Мікола. Архіепіскап Васіль. С. 1.

Актыўная царкоўная й грамадзка-палітычная дзейнасьць сакратара Сыноду япіскапаў БАПЦ узмацніла ягоны ўплыў на беларускую дыяспару й узвысіла ў ерархічным статусе. 28 сьнежня 1953 г. старшыня Сабору япіскапаў БАПЦ архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) у адказ на звароты сьвятароў і вернікаў БАПЦ выдаў распараджэньне аб узьвядзеньні япіскапа Васіля (Тамашчыка) у сан архіяпіскапа бяз права нашэньня брыльянтавага крыжа на клабуку. Цырымонія адбылася 28 сакавіка 1954 г.[156]

Прыкметнай падзеяй царкоўнага жыцьця БАПЦ стаў Першы епархіяльны зьезд у Амэрыцы й Канадзе, які прайшоў 28—29 траўня 1960 г. у Нью-Ёрку пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка). На зьезьдзе сфармавалі епархіяльнае кіраўніцтва БАПЦ у Амэрыцы, Канадзе й Эўропе, утварылі епархіяльныя аддзелы і абралі іх супрацоўнікаў. У прыватнасьці, протаярэй Сьцяпан Войтанка стаў кіраўніком царкоўна-адміністрацыйнага аддзелу, протаярэй Міхаіл Мацукевіч — кіраўніком місійна-асьветнага аддзелу, протаярэй Хведар Данілюк — кіраўніком судовага аддзелу, а доктар Віктар Войтанка — кіраўніком фінансавага аддзелу. У склад епархіяльных аддзелаў увайшлі таксама недухоўныя асобы[157].

Значным паказьнікам разьвіцьця БАПЦ у 1950—1960-я гг. была арганізацыя парафіяў у краінах расьсяленьня паваеннай беларускай дыяспары. У гэты пэрыяд узьніклі наступныя царкоўныя грамады.

*Вялікабрытанія.*

1. Парафія Сьвятога Спаса ў г. Брэдфард (графства Ўэст-Ёркшыр) — заснаваная ў 1950 г.[158]

2. Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў г. Манчэстэр (графства Вялікі Манчэстэр) — заснаваная ў 1950 г.[159]

---

[156] Пасьведчаньне аб узнагародзе епіскапа Васіля (Тамашчыка) санам архіепіскапа. 28.03.1954 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 83; Уладыка Васіль — архіепіскап // Беларус. № 24 (48). 1953. С. 1.

[157] Першы Епархіяльны Зьезд Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы й Канадзе // Бюлетэнь Беларускага Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ў Вялікабрытаніі. 1960. Сьнежань. № 8. С. 2.

[158] Наша Царква // Беларус. № 2 (8). 1952. С. 3; Першы Беларускі Дом у Брадфордзе — Англія // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 139; Хроніка // Голас Царквы. № 1. 1955. С. 15.

[159] Стаўпіцкі, М. Манчэстар. Парафія Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 99; Хроніка // Голас Царквы. № 1. 1955. С. 15—16.

3. Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў г. Бэрмінгэм (графства Ўэст-Мідлэндс) — заснаваная ў 1950 г.[160]

4. Парафія Нараджэньня Найсьвяцейшай Багародзіцы ў г. Кеймбрыдж (графства Кеймбрыджшыр) — заснаваная ў 1950 г.[161]

5. Парафія БАПЦ у г. Стоўк-он-Трэнт (графства Стэфардшыр) — заснаваная ў 1954 г.[162]

*Нямеччына.*

1. Парафія БАПЦ на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны — існавала ў 1952 г.[163] У хуткім часе спыніла працу ў сувязі з масавым выездам беларусаў у іншыя краіны.

*Бэльгія.*

1. Парафія БАПЦ пры Каталіцкім унівэрсытэце Лювэну — заснаваная ў 1950 г.[164]

*ЗША.*

1. Парафія Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне (г. Нью-Ёрк) — заснаваная ў 1950 г.[165]

2. Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў г. Гайлэнд-Парк (Нью-Джэрзі) — заснаваная ў 1951 г.[166]

---

160 Бірмінгам // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 101.

161 Вернік. Прэасьвяшчэньнейшы Ўладыка Васіль сярод беларуаў у Англіі // Бацькаўшчына. № 3 (63). 1950. С. 4; Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск: Медысонт, 2010. С. 362.

162 Запачаткаваны новы прыход БАПЦ // Бацькаўшчына. № 41 (223). 1954. С. 4.

163 Наша Царква // Беларус. № 2 (8). 1952. С. 3.

164 Гадавіна сьвятарства а. Смаршчка // Бацькаўшчына. № 70. 1951. С. 4; Новы Беларускі Сьвятар // Бацькаўшчына. № 63. 1950. С. 2; Сьв. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Бэльгіі // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 102.

165 Хроніка // Голас Царквы. № 1. 1955. С. 14; Хроніка // Голас Царквы. № 2. 1955. С. 14.

166 Кароль, А. Два юбіляры // Бацькаўшчына. № 35 (470). 1959. С. 3; Парафія Жыровіцкай Маці Божай у Гайлянд Парк, штат Нью Джэрсі // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 137; Парафія імя Жыровіцкае Божае Маці Сьв. Б.А.П.Царквы ў Гайлянд Парк, Нью Джэрзі // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 80; Хроніка // Голас Царквы. № 1. 1955. С. 15.

3. Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў г. Кліўлэнд (Агаё) — заснаваная ў 1951 г.[167]

4. Парафія Сьвятога Духу ў г. Дэтройт (Мічыган) — заснаваная ў 1967 г.[168]

*Канада.*

1. Парафія Сьвятога Кірылы Тураўскага ў г. Таронта (Антарыё) — заснаваная ў 1954 г.[169]

*Аўстралія.*

1. Парафія Сьвятых апосталаў Пятра і Паўла ў г. Адэляйда (штат Паўднёвая Аўстралія) — заснаваная ў 1950 г.[170]

2. Парафія БАПЦ у г. Сыднэй (штат Новы Паўднёвы Ўэльс) — заснаваны ў 1952 г.[171]

---

[167] Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, ЗША // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 130; Уладыка Васіль у Кліўлендзе // Беларус. № 8 (14). 1952. С. 4.

[168] Арганізацыйны Камітэт БАПЦ у Дэтройце. Запросіны. Мау, 1967 // БДАМЛМ. Фонд БІНіМу. Арк. 1; Новы прыход БАПЦ у Дэтройце // Беларус. № 122. 1967. С. 5; Просьба сяброў Царкоўнай Рады новаарганізаванага прыхода Сьвятога Духа ў Дэтройце да архіепіскапа Васіля (Тамашчыка) ад 07.05.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 90; Просьба сяброў Царкоўнай Рады новаарганізаванага прыхода Сьвятога Духа ў Дэтройце да архіепіскапа Васіля (Тамашчыка) ад 07.05.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 90; Прыход Св. Духа ў Дэтойце // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 144; У. Б. З жыцьця беларусаў Дэтройту // Беларус. № 159. 1970. С. 3.

[169] Бароўскі, А. Сьв. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Канадзе // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 85—87; Грыбок. 15 год парахвіі БАПЦ у Таронта // Беларус. № 150. 1969. С. 2; Новая царква й сьвятар БАПЦарквы // Беларус. № 4 (50). 1954. С. 6; Р. Ж-Г. Першыя крокі. Да 15-годзьдзя БАПЦ у Канадзе. // Беларус. № 149. 1969. С. 5; Урачыстасьці ў Таронта, Канада // Беларус. № 4 (50). 1954. С. 6; Хроніка // Голас Царквы. № 2. 1955. С. 13—14.

[170] Аўстралія й беларусы // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 146; Царкоўная хроніка // Бацькаўшчына. № 2 (62). 1950. С. 4.

[171] Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква ў Аўстраліі // Бацькаўшчына. № 29 (108). 1952. С. 4; Беларускі праваслаўны прыход у Сыднэі // Бацькаўшчына. № 9 (88). 1952. С. 4; Беларуская праваслаўная царква

3. Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў г. Пэрт (штат Заходняя Аўстралія) — заснаваная ў 1956 г.[172]

4. Парафія Трох віленскіх пакутнікаў у г. Мэльбурн (штат Вікторыя) — заснаваная ў 1958 г.[173]

### *5.2. Праблема высьвячэньня новых япіскапаў БАПЦ у 1950—1968 гг.*

Пасьля ўтварэньня Сабору япіскапаў БАПЦ, якое адбылося ў сьнежні 1949 г., паўстала пытаньне ўзвышэньня архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) праз узьвядзеньне ў сан мітрапаліта. Аднак рэалізацыя гэтай ініцыятывы цесна ўвязвалася зь неабходнасьцю высьвяціць як мінімум яшчэ аднаго беларускага ярарха, што было фармальнай кананічнай падставай да наданьня БАПЦ статусу мітраполіі[174].

15 лютага 1950 г. на паседжаньні найвышэйшага царкоўнага кіраўніцтва БАПЦ абмяркоўвалася павялічэньне колькасьці япіскапаў БАПЦ і арганізацыя новых парафіяў у краінах расьсяленьня беларускіх эмігрантаў[175]. Нягледзячы на зацікаўленасьць царкоўных і грамадзка-палітычных колаў, у 1950 г. высьвячэньня япіскапа не адбылося. Архірэі не мелі згоды наконт кандыдатуры. Архіяпіскап Сергій усьведамляў слабасьць сваіх пазыцыяў у беларускім эміграцкім асяродзьдзі і бачыў, як нарастае ўплыў япіскапа Васіля (Тамашчыка). Гэта падахвочвала першаярарха БАПЦ шукаць сродкі ўмацаваньня сваёй улады праз вылучэньне даверанай асобы на архірэйскае служэньне. Япіскап Васіль увязваў пытаньне хіратоніі новага япіскапа са зьмяненьнем балянсу сілаў, які склаўся ў БАПЦ. Сытуацыя канкурэнцыі паміж першаярархам і сакратаром Сабору япіскапаў БАПЦ

ў Сыднэі // Бацькаўшчына. № 35 (114). 1952. С. 4; Прыход у Аўстраліі // Беларус. № 1 (7). 1952. С. 4.

[172] Гардзіенка, Натальля. Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 102; З летапісу БАПЦарквы // Бюлетэнь Беларускага Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ў Вялікабрытаніі. № 1. Сьнежань 1957. С. 7.

[173] Беларускае царкоўнае жыцьцё ў Аўстраліі // Беларус. № 70. 1958. С. 4; Парафія Сьв. БАПЦ у Мэльбурне — Аўстралія // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 144; Парафія Сьв. Антона, Яна і Еўстафія ў Мэльбурне, Аўстралія // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 105.

[174] Ліст сакратара Сінода УАПЦ епіскапа Платона (Арцемюка) да епіскапа Васіля (Тамашчыка) ад 02.02.1950 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 119.

[175] Царкоўная хроніка // Бацькаўшчына. № 2 (62). 1950. С. 4.

пацягнула за сабой працяглае блякаваньне пашырэньня беларускага епіскапату.

У якасьці кандыдата на архірэйскае высьвячэньне архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) прапанаваў настаяцеля беларускай парафіі ў г. Брэдфард (Вялікабрытанія) сьвятара Аляксандра Крыта. 30 сьнежня 1950 г. першаярарх БАПЦ накіраваў яму ліст, у якім апавяшчаў аб сваім жаданьні рукапакласьці яго ў япіскапа для ўзначаленьня беларускай япархіі ў Вялікабрытаніі. Архіяпіскап Сергій раіў ярэю Аляксандру зрабіць усе неабходныя прыгатаваньні й прыбыць на высьвячэньне ў Аўстралію. Меркавалася, што акрамя першаярарха БАПЦ у хіратоніі возьмуць удзел кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі УАПЦ архіяпіскап Сільвестар (Гаеўскі) і кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі Канстантынопальскага патрыярхату архіяпіскап Фэафілякт (Папафанасопулёс)[176]. Аднак нутраныя супярэчнасьці ў БАПЦ не дазволілі ажыцьцявіць меркаванае.

Праз паўтара году архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) ізноў ініцыяваў высьвячэньне новых ярархаў БАПЦ. 26 жніўня 1952 г. ён накіраваў ліст япіскапу Васілю (Тамашчыку), у якім даручаў апошняму прыступіць да падрыхтоўкі кандыдатаў на архірэйскае служэньне. Пры гэтым першаярарх БАПЦ згадваў ярэя Аляксандра Крыта як аднаго зь іх, а выбар іншых кандыдатаў пакідаў на разгляд япіскапа Васіля[177]. Гэтая ўмова сьведчыла аб гатовасьці архіяпіскапа Сергія лічыцца з жаданьнем сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ захаваць раўнавагу сілаў у сфэры царкоўнага кіраваньня, што было прычынай адтэрміноўкі архірэйскай хіратоніі ярэя Аляксандра.

У тым жа годзе архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) зноў зьвярнуўся да япіскапа Васіля (Тамашчыка) з просьбай аб пастрыжэньні протаярэя Аляксандра Крыта ў манаства, узьвядзеньні яго ў сан архімандрыта й накіраваньні ў Аўстралію на архірэйскае высьвячэньне. У выпадку адмовы з боку протаярэя Аляксандра прапанавалася накіраваць на япіскапскую хіратонію іншага кандыдата — вылучанага сакратаром Сабору япіскапаў БАПЦ настаяцеля беларускай парафіі ў Таронта ярэя Міхаіла Мацукевіча[178].

---

[176] Ліст архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) да сьвяшчэньніка Аляксандра Крыта ад 30.12.1950 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 30.

[177] Ліст архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) да япіскапа Васіля (Тамашчыка) ад 26.08.1952 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 35.

[178] Ліст архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) да протаярэя Аляксандра Крыта. 1952 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 35.

Адначасова з зваротам да япіскапа Васіля (Тамашчыка) першаярарх БАПЦ накіраваў ліст да протаярэя Аляксандра Крыта, у якім заклікаў яго пасьпяшацца з прыездам на рукапалажэньне. Пры гэтым архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) рэкамэндаваў протаярэю не паведамляць сакратару Сабору япіскапаў БАПЦ аб мэце сваёй паездкі ў Аўстралію. У выпадку прыезду ярэя Міхаіла Мацукевіча першаярарх выказваў гатовасьць зьдзейсьніць рукапалажэньне абодвух кандыдатаў на япіскапскае служэньне. У якасьці магчымых удзельнікаў хіратоніі называліся кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі Свабоднай сэрбскай праваслаўнай царквы[179] (ССПЦ) япіскап Дзімітрый (Балач) і япіскап Данат (Буртан), кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (саборнапраўнай)[180] — УАПЦ(С)[181]. Нягледзячы на ўсе намаганьні, архірэйскіх хіратоніяў у 1952 г. не адбылося з прычыны нарастаньня супярэчнасьцяў ва ўзаемаадносінах першаярарха й сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ.

Чарговы раз архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) ініцыяваў пытаньне высьвячэньня новых архірэяў БАПЦ у афіцыйным загадзе ад 25 кастрычніка 1956 г. Прыкметнай асаблівасьцю тэксту было непрыхаванае імкненьне першаярарха хутчэй пераадолець шматгадовыя супярэчнасьці праз прыняцьце валявога рашэньня: *“Надыходзячы 1957 год ёсьць для мяне рашаючым. 1957-й дасьць мне сонца Сьвету й праўды. Я як Галава Б.А.П.Царквы выклікаю кандыдатаў у Епіскапы на дзень Сьвятой Тройцы 1957 году. Безадкладна кандыдаты павінны зьявіцца на вызначаны дзень”*[182]. Акрамя протаярэя Аляксандра Крыта й ярэя Міхаіла Мацукевіча першаярарх БАПЦ дапускаў магчымасьць архірэйскага рукапалажэньня яшчэ двух кандыдатаў, выбар

---

[179] **Свабодная сэрбская праваслаўная царква** ўзьнікла ў 1963 г., калі сэрбская Амэрыканская мітраполія разарвала кананічныя сувязі з Сэрбскім патрыярхатам. Прычынай гэтага разрыву стала нежаданьне кіраўніка сэрбскай мітраполіі ў Амэрыцы мітрапаліта Дыяніса падпарадкоўвацца пастановам вышэйшай царкоўнай улады, якую ён абвінавачваў у залежнасьці ад камуністычных уладаў. Пераадоленьне расколу адбылося ў 1992 г.

[180] Ліст архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) да протаярэя Аляксандра Крыта. 1952 г.

[181] **Украінская аўтакефальная праваслаўная царква (саборнапраўная)** узьнікла 25—26 жніўня 1947 г., калі ў лягеры для перамешчаных асобаў Ашафэнбург (зямля Баварыя, Нямеччына) прыхільнікі лібэральных канонаў Першага Ўсеўкраінскага Царкоўнага Сабору (14—30 жніўня 1921 г.) адышлі ад ярархаў УАПЦ і стварылі паралельную ўкраінскую царкоўную структуру.

[182] Загад архіяпіскапа Сергія (Ахатэнка) архіяпіскапу Васілю (Тамашчыку) ад 25.10.1956 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 42.

якіх пакідаў за архіяпіскапам Васілём (Тамашчыкам). Мяркуючы зьдзейсьніць хіратоніі ў ЗША, архіяпіскап Сергій паведамляў сакратару Сабору япіскапаў БАПЦ аб немагчымасьці ягонага далейшага ўхіленьня ад удзелу ў высьвячэньні новых беларускіх ярархаў і падкрэсьліваў сваю рашучасьць ажыцьцявіць меркаванае: *“Адкладу і адгавору няма. Згадваю выканаць усё на карысьць БАПЦарквы. Калі Вы, Ваша Высокапрэасьвяшчэнства, будзеце ад апошняга майго загаду ўхіляцца, дык усё будзе зроблена так, як будзе ўгодна Богу. Думкі і слова ня можа быць пра тое, каб не выканаць, а выканаць усё, што вышэй напісана”*[183]. Катэгарычны тон першаярарха й ягоная гатовасьць парушыць наяўны балянс сілаў праз рукапалажэньне двух вылучаных архіяпіскапам Васілём кандыдатаў ніяк не зьмянілі пазыцыі сакратара Сабору япіскапаў, які супрацьдзеяў высьвячэньню стаўленіка архіяпіскапа Сергія.

У наступным годзе першаярарх БАПЦ зрабіў рашучыя крокі, накіраваныя на паслабленьне ўплыву архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка). Распараджэньнем ад 24 кастрычніка 1958 г. архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) прызначыў протаярэя Аляксандра Крыта настаяцелем беларускай парафіі ў Кліўлэндзе (Агаё, ЗША) і кіраўніком БАПЦ у Амэрыцы й Канадзе. Адначасова з гэтым прызначэньнем першаярарх зьвярнуўся да кіраўніцтва Рады БНР з просьбай падтрымаць протаярэя Аляксандра[184]. Прызначэньне прадугледжвала пераняцьце протаярэем Аляксандрам адміністрацыйных паўнамоцтваў архіяпіскапа Васіля, што выводзіла нутраныя супярэчнасьці БАПЦ на новы ўзровень разьвіцьця й пагражала расколам царкоўнай структуры. Протаярэй Аляксандр спрыяў пераадоленьню крызісу: не дамагаючыся кіраўніцтва парафіямі БАПЦ у Амэрыцы й Канадзе, ён пераехаў у Кліўлэнд толькі ў лютым 1961 г.[185]

Чарговы раз пытаньне рукалажэньня новых беларускіх ярархаў разглядалі на паседжаньні епархіяльнай управы БАПЦ у Амэрыцы й Канадзе, якое праходзіла 1 сьнежня 1963 г. Сход ачоліў протаярэй Сьцяпан Войтанка. Удзельнікі паседжаньня рэкамэндавалі протаярэю Аляксандру Крыту й протаярэю Міхаілу Мацукевічу прыняць манаскі

[183] Загад архіяпіскапа Сергія (Ахатэнка) архіяпіскапу Васілю (Тамашчыку) ад 25.10.1956.

[184] Пасьведчаньне аб прызначэньні протаярэя Аляксандра Крыта кіраўніком БАПЦ у Амэрыцы й Канадзе ад 28 кастрычніка 1968 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 47.

[185] Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе, ЗША // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1969. С. 133.

пострыг, а архіяпіскапу Васілю (Тамашчыку) зьдзейсьніць іх япіскапскія хіратоніі да пачатку 1964 г.[186]

Рыхтаваньне да архірэйскага рукапалажэньня протаярэя Міхаіла Мацукевіча справакавала новае напружаньне ў БАПЦ. 6 лістапада 1966 г. царкоўная рада парафіі катэдральнага сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку накіравала першаярарху БАПЦ пісьмовы зварот са скаргай на архіяпіскапа Васіля. Як вынікала з тэксту гэтага звароту, 1 кастрычніка 1966 г. сакратар Сабору япіскапаў БАПЦ бязь ведама царкоўнай рады катэдральнага сабору пастрыг протаярэя Міхаіла ў манаства, а на наступны дзень узьвёў яго ў сан архімандрыта. Заяўляючы аб недапушчальнасьці такіх дзеяньняў без папярэдняга ўзгадненьня, царкоўная рада заклікала першаярарха БАПЦ спыніць падрыхтоўку архірэйскай хіратоніі архімандрыта Мікалая (Мацукевіча)[187].

Значнае паглыбленьне супярэчнасьцяў ва ўзаемаадносінах першаярарха й сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ адбылося ў сярэдзіне 1960-х гг., калі беларуская парафія ў Кліўлэндзе адмовілася прызнаваць над сабою ўладу архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) і выступіла з ініцыятывай архірэйскага рукапалажэньня протаярэя Аляксандра Крыта[188].

У канцы 1966 — пачатку 1967 гг. архіяпіскап Васіль меркаваў зьдзейсьніць япіскапскую хіратонію архімандрыта Мікалая (Мацукевіча) пры ўдзеле першаярарха Украінскай грэка-праваслаўнай царквы ў Канадзе (УГПЦК) мітрапаліта Іларыёна (Агіенкі). Ініцыятыва сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ падштурхнула царкоўныя рады беларускіх парафіяў у Брукліне й Кліўлэндзе накіраваць свае пратэсты мітрапаліту Іларыёну[189].

Весткі аб магчымым зьяўленьня новага ярарха БАПЦ выклікалі пратэст таксама з боку адміністратара беларускіх парафіяў Канстантынопальскага патрыярхату ў Паўночнай Амэрыцы протапрэсьвітара Мікалая Лапіцкага. Імкнучыся не дапусьціць архірэйскага рукапалажэньня, ён зьвярнуўся да сакратара Украінскай праваслаўнай царквы ў ЗША (УПЦ у ЗША) архіяпіскапа Мсьціслава (Скрыпніка). Апошні

---

[186] Пратакол паседжаньня Епархіяльнае Ўправы ў царкве ў Гайленд Парку (ЗША) ад 1 сьнежня 1963 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 135.

[187] Ліст царкоўнай рады прыходу катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага да архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 06.10.1966 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 57.

[188] Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе // Праваслаўным Шляхам. № 2 (12). 1968. С. 24.

[189] Ліст І. Касяка да протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага ад 11.10.1966 г. // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 424.

паўплываў на мітрапаліта Іларыёна (Агіенку), і хіратонія архімандрыта Мікалая (Мацукевіча) зноў была адкладзеная[190].

Вярнуліся да пытаньня аб высьвячэньні новых ярархаў БАПЦ 17 чэрвеня 1967 г. на паседжаньні епархіяльнай управы БАПЦ у Амэрыцы, Канадзе й Эўропе, якое праходзіла пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка). Улічваючы згоду архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) на архірэйскую хіратонію протаярэя Аляксандра Крыта й архімандрыта Мікалая (Мацукевіча), а таксама гатовасьць першаярарха БАПЦ прыбыць у Амэрыку для ўдзелу ў архірэйскіх рукапалажэньнях, сябры епархіяльнага кіраўніцтва ўхвалілі заплянаванае пашырэньне складу беларускай ярархіі. Тэрмін правядзеньня хіратоніяў залежаў ад часу прыбыцьця архіяпіскапа Сергія ў ЗША. Аднак выказвалася надзея на магчымае высьвячэньне новых архірэяў ужо ў жніўні або верасьні 1967 г. Пры гэтым епархіяльная ўправа заяўляла аб гатовасьці пакрыць значную частку выдаткаў, зьвязаных зь пералётам першаярарха БАПЦ ды іншымі патрэбамі[191].

14 ліпеня 1967 г. архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) накіраваў архіяпіскапу Васілю (Тамашчыку) ліст, у якім апісваў дэталі заплянаваных архірэйскіх хіратоніяў. Згадваючы пра сваю магчымую адсутнасьць з прычыны хваробы, ён прапанаваў зьвярнуцца па спрыяньне да першаярарха УПЦ у ЗША мітрапаліта Іаана (Тэадаровіча) і першаярарха ССПЦ архіяпіскапа Дыяніса (Мілівоевіча). У выпадку, калі ня зможа прыбыць у Амэрыку, архіяпіскап Сергій даручаў сакратару Сабору япіскапаў БАПЦ зьдзейсьніць манаскі пострыг протаярэя Аляксандра Крыта зь імем Аверкій. Таксама першаярарх БАПЦ казаў, што япіскап Аверкій (Крыт) мусіць служыць у Кліўлэндзе, а япіскап Мікалай (Мацукевіч) — у Канадзе. Пры гэтым ён пісаў, што ў першую чаргу трэба рукапалажыць япіскапа Аверкія[192]. Гэта можа сьведчыць аб імкненьні першаярарха БАПЦ зацьвердзіць за сваім стаўленікам першынство перад кандыдатам, прапанаваным да высьвячэньня архіяпіскапам Васілём (Тамашчыкам).

У лісьце протаярэю Аляксандру Крыту ад 3 жніўня 1967 г. архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) рабіў дадатковыя распараджэньні ад-

[190] Ліст протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага да архіяпіскапа Афанасія (Мартаса) ад Красавік 1967 г. // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 339.

[191] Ліст Епархіяльнай управы БАПЦ у Амэрыке, Канадзе і Эўропе да протаярэя Аляксандра Крыта і Царкоўнай Рады парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлэндзе ад 26.06.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 91.

[192] Ліст архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) да архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) ад 14.07.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 58.

носна акалічнасьцяў правядзеньня япіскапскай хіратоніі. Як і ў лісьце да архіяпіскапа Васіля, першаярарх БАПЦ настойваў на абавязковай першачарговасьці высьвячэньня свайго кандыдата. Патэнцыйнымі ўдзельнікамі хіратоніі архіяпіскап Сергій бачыў экзарха Канстантынопальскага патрыярхату ў Паўночнай і Паўднёвай Амэрыцы архіяпіскапа Іакава (Кукузіса), першаярарха УГПЦК мітрапаліта Іларыёна (Агіенку), першаярарха ССПЦ архіяпіскапа Дыяніса (Мілівоевіча), архіяпіскапа Таронцкага і Ўсходняй Канады Міхаіла (Харошага) (УГПЦК), архіяпіскапа Дэтройцкага Ўладзімера й незалежнага архіяпіскапа Генадзія (Шыпрыкевіча), які аддзяліўся ад УПЦ у ЗША й жыў у г. Чыкага. Таксама адзначалася, што неабходна прыцягнуць сабор сьвятароў да ўдзелу ва ўрачыстасьцях з нагоды архірэйскіх хіратоніяў[193].

Акрамя распараджэньняў арганізацыйнага характару, архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) паведамляў протаярэю Аляксандру Крыту аб сваім жаданьні прызначыць яго сваім вікарыем у Аўстраліі й Новай Зэляндыі. Пры гэтым меркавалася надаць будучаму ярарху тытул япіскапа Гарадзенскага й Наваградзкага, а таксама дазвалялася заставацца на сталым месцы жыхарства ў Амэрыцы. На думку архіяпіскапа Сергія, выдадзенае ім раней пасьведчаньне аб прырачэньні протаярэя Аляксандра на япіскапа павінна было стаць падставай для зацьверджаньня ягонага першынства перад архімандрытам Мікалаем (Мацукевічам)[194].

З набліжэньнем архірэйскіх хіратоніяў напружаньне паміж першаярархам і сакратаром Сабору япіскапаў БАПЦ паглыблялася, бо апошняга падтрымлівала кіраўніцтва Рады БНР. 5 кастрычніка 1967 г. першы намесьнік прэзыдэнта Рады БНР Аляксандар Стагановіч і старшыня суду Рады БНР Філарэт Родзька накіравалі архіяпіскапу Сергію (Ахатэнку) афіцыйны зварот, у якім заяўлялі аб недапушчальнасьці япіскапскага высьвячэньня протаярэя Аляксандра Крыта. Падставай таму яны называлі парушэньне прынцыпаў кіраваньня БАПЦ, прынятых 5 чэрвеня 1948 г. у Канстанцы: усе архірэйскія хіратоніі трэба ўзгадняць з Радай БНР. Паколькі архіяпіскап Сергій ухіляўся ад узгадненьня абранага ім кандыдата, заплянаванае рукапалажэньне протаярэя Аляксандра ацэньвалася як *“варожая дзейнасьць супраць беларускага народу”*[195]. Завяршаўся зварот заклікам да архіяпіскапа

[193] Ліст архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) да протаярэя Аляксандра Крыта ад 03.08.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 59.

[194] Тамсама.

[195] Ліст першага заступніка Прэзыдэнта БНР Аляксандра Стагановіча й старшыні Суду БНР Філарэта Родзькі да архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад

Сергія спыніць падрыхтоўку архірэйскага рукапалажэньня протаярэя Аляксандра *“да часу паправы ў яго захоўваньні й паляпшэньня яго суадносін да грамадзтва, у якім ён жыве”*[196].

У адказе Аляксандру Стагановічу архіяпіскап Сергій паспрабаваў зьняць напружаньне, узгадніўшы кандыдатуру протаярэя Аляксандра Крыта, і нават выказаў згоду адносна першачарговасьці рукапалажэньня архімандрыта Мікалая (Мацукевіча), на чым настойвала кіраўніцтва Рады БНР і архіяпіскап Васіль (Тамашчык). Ухваліўшы пазыцыю першаярарха БАПЦ у пытаньні высьвячэньня архімандрыта Мікалая, Аляксандар Стагановіч у лісьце ад 29 сьнежня 1967 г. выказваў занепакоенасьць паводзінамі протаярэя Аляксандра, які, на ягонае меркаваньне, *“ня толькі не падпарадкоўваецца свайму духоўнаму бацьку і правячаму епіскапу ўладыцы Васілю, але і горш таго, ён і цяпер актыўна супрацоўнічае зь вялікімі ворагамі нашае Сьв. БАПЦарквы: зь яе разбуральнікамі мерлякоўцамі*[197]*, а празь іх і з зарубежнікамі*[198]*, якія ўжо даўно стараюцца зьнішчыць нашую Сьв. Б.А.П.Царкву”*[199]. У завяршэньні свайго ліста першы заступнік прэзыдэнта Рады БНР заклікаў архіяпіскапа Сергія ўлічыць гэтыя аргумэнты, адкласьці архірэйскае высьвячэньне протаярэя Аляксандра Крыта і рукапакласьці архімандрыта Мікалая (Мацукевіча)[200].

Нягледзячы на супрацьдзеяньні сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ і кіраўніцтва Рады БНР, протаярэй Аляксандр Крыт выехаў у г. Адэляйда (Аўстралія), дзе пачалася падрыхтоўка яго да архірэйскай хіратоніі. 11 лютага 1968 г. ён прыняў манаскі пострыг зь імем Андрэй і быў узьведзены ў сан архімандрыта, а ўжо 15 лютага ў грэцкім храме Сьвятых Арханёлаў быў высьвячаны на япіскапа Гарадзенска-Наваградзкага й

05.10.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 60.

196 Ліст першага заступніка Прэзыдэнта БНР Аляксандра Стагановіча й старшыні Суду БНР Філарэта Родзькі да архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 05.10.1967.

197 Маюцца на ўвазе прыхільнікі ведамага беларускага грамадзка-палітычнага дзеяча Кастуся Мерляка (1919—2007), які з 1965 г. заставаўся ў канфрантацыі з прэзыдэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам.

198 Пад “зарубежнікамі” маюцца на ўвазе прыхільнікі БЦР на чале з прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім, якія асудзілі стварэньне БАПЦ і першапачаткова заклікалі беларускіх эмігрантаў падтрымаць далучэньне Беларускай мітраполіі да РПЦЗ, а з 1950 г. спрыялі адкрыцьцю беларускіх парафіяў у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату.

199 Ліст першага заступніка Прэзыдэнта БНР Аляксандра Стагановіча да архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 05.10.1967. С. 62.

200 Тамсама.

Кліўлэндзкага. У хіратоніі прынялі ўдзел архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) і япіскап Дзімітрый (Балач), ярарх ССПЦ[201].

На наступны дзень, 16 лютага 1968 г., архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) падпісаў загад аб прызначэньні япіскапа Андрэя (Крыта) кіраўніком Кліўлэндзкай япархіі, вікарыем першаярарха БАПЦ у Аўстраліі, Новай Зэляндыі й Амэрыцы, адміністратарам БАПЦ у Амэрыцы й Заходняй Эўропе. Згодна з тэкстам загаду, пасада адміністратара захоўвалася за япіскапам Андрэем да наступнага Сабору япіскапаў БАПЦ, агульнай колькасьцю ня менш за тры архірэі[202]. Прызначэньні прадугледжвалі непасрэдную падпарадкаванасьць япіскапа Андрэя першаярарху БАПЦ і гарантавалі яму імунітэт ад магчымага адміністрацыйнага ціску з боку архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка). Акрамя таго, намінальнае перабываньне на пасадзе вікарыя Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі БАПЦ азначала, што ў выпадку выхаду на пэнсію ці ў выпадку сьмерці архіяпіскапа Сергія Андрэй зможа япархію ўзначаліць.

У хуткім часе пасьля высьвячэньня япіскап Андрэй адбыў у Амэрыку. Зьяўленьне трэцяга архірэя БАПЦ істотным чынам парушыла балянс сілаў і падштурхнула архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) рабіць рашучыя захады для правядзеньня архірэйскай хіратоніі свайго кандыдата. Дзеля гэтага 1 сакавіка 1968 г. сакратар Сабору япіскапаў БАПЦ і архімандрыт Мікалай (Мацукевіч) прыбылі ў Адэляйду, аднак першаярарх адмовіўся ажыцьцявіць новае архірэйскае высьвячэньне. Тады архіяпіскап Васіль зрабіў аналягічную прапанову архіяпіскапу Сільвестру (Гаеўскаму), кіраўніку Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі УАПЦ. Не займеўшы падтрымкі з боку апошняга, архіяпіскап Васіль пераканаў архіяпіскапа Сергія (Ахатэнку) у неабходнасьці рукапалажэньня архімандрыта Мікалая. Перамену стаўленьня першаярарха БАПЦ тлумачаць некалькі вэрсіяў. Беларуская эміграцкая прэса выказвала меркаваньні як пра магчымы шантаж архіяпіскапа Сергія архіяпіскапам Васілём[203], гэтак і пра шчодрую матэрыяльную ўзнагароду[204].

---

[201] Грамата аб высьвячэньні япіскапа Андрэя (Крыта) ад 15.02.1968 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 64—65; Letter from archbishop Sergij (Okhotenko) from 09.02.1968 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 63; Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе // Праваслаўным Шляхам. № 2 (12). 1968. С. 24—25.

[202] Загад архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) аб прызначэньні япіскапа Андрэя (Крыта) кіраўніком архірэйскай катэдры ў Кліўлэндзе і вікарыем першаярарха БАПЦ на Аўстралію, Новую Зэляндыю й Амэрыку ад 16.02.1968 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 66.

[203] Яшчэ адзін япіскап БАПЦ // Беларускі Голас. № 159. Красавік 1968. С. 2.

[204] Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе // Праваслаўным Шляхам. № 2 (12). 1968. С. 25.

Высьвячэньне архімандрыта Мікалая (Мацукевіча) на япіскапа Турава-Пінскага й Таронцкага адбылося 10 сакавіка 1968 г. у грэцкім храме Сьвятых Арханёлаў г. Адэляйда. У хіратоніі бралі ўдзел архіяпіскап Сергій (Ахатэнка), архіяпіскап Васіль (Тамашчык), япіскап Аўстралійскі й Новазэляндзкі Дзімітрый (Балач) (ССПЦ) і япіскап Аўстралійскі Данат (Буртан) (УАПЦ(С)[205].

Падводзячы вынікі, неабходна падкрэсьліць, што пашырэньне епіскапату БАПЦ у 1950—1960-я гг. сутыкалася са складанасьцямі з прычыны канфлікту ва ўзаемаадносінах першаярарха й сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ. У стане канкурэнтнай барацьбы за ўплыў на царкоўнае жыцьцё беларускай дыяспары архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) і архіяпіскап Васіль (Тамашчык) на працягу 18 гадоў не дазвалялі адзін аднаму правесьці архірэйскія хіратоніі выбраных кандыдатаў. Гэтыя абставіны прывялі да зрыву плянаў Рады БНР адносна надзяленьня БАПЦ статусам мітраполіі падчас яе ўзначаленьня архіяпіскапам Сергіем.

### *5.3. Удзел першаярарха БАПЦ у расколе Аўстралійскай япархіі Канстантынопальскага патрыярхату (кан. 1950-х — пач. 1960-х гг.)*

Адным з найбольш прыкметных напрамкаў дзейнасьці архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) падчас узначаленьня БАПЦ было ўзаемадзеяньне з Фэдэрацыяй грэцкіх праваслаўных грамадаў Аўстраліі (ФГПАА), што прывяло да расколу Аўстралійскай япархіі Канстантынопальскага патрыярхату.

Узьнікненьне Фэдэрацыі грэцкіх праваслаўных грамадаў Аўстраліі (*The Federation of the Greek Orthodox Communities of Australia*) адбылося на Канфэрэнцыі грэцкіх парафіяў, якая праходзіла 13—16 чэрвеня 1958 г. у Сыднэі з ініцыятывы амбасадара Грэцыі Г. Хрыстадулю. Удзел у Канфэрэнцыі ўзялі прадстаўнікі 19 грэцкіх грамадаў з Сыднэю, Мэльбурну, Адэляйды, Брысбану, Ньюкаслу й іншых населеных пунктаў. Правядзеньне сходу і ўтварэньне ФГПАА стала вынікам імкненьня грэцкіх грамадаў захаваць незалежнасьць парафіяў ад епархіяльнага цэнтру. Асноўным аргумэнтам прыхільнікаў парафіяльнай аўтаноміі стала тое, што ў Аўстраліі парафіі традыцыйна заставаліся цэнтрамі ня толькі рэлігійнага, але й нацыянальна-культурнага жыцьця грэцкай дыяспары. Праціўнікамі дэцэнтралізацыі царкоўнага жыцьця ў Аўстраліі пасьлядоўна выступалі мітрапаліт Аўстралійскі Фэафілякт (Папафанасопулёс) (1948—1958), патрыяршы экзарх Аўстраліі ў 1958—1959 гг.

[205] Аўстралійскі Беларус. Новыя япіскапы // Беларус. № 132. 1968. С. 4; Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе // Праваслаўным Шляхам. № 2 (12). 1968. С. 25; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980. P. 169.

архіяпіскап Фіятырскі й Цэнтральна-Эўрапейскі Афінагор (Кавадас) і архіяпіскап Аўстралійскі Іезэкііль (Цукаляс) (1959—1968)[206].

У 1959 г. архіяпіскап Іезэкііль (Цукаляс) падрыхтаваў новую Канстытуцыю Аўстралійскай архіяпіскапіі, якая прадугледжвала ўсталяваньне прынцыпу епархіяльнай цэнтралізацыі й ліквідацыю парафіяльных аўтаноміяў. Але 3 кастрычніка 1959 г. удзельнікі Канфэрэнцыі ФГПАА зрабілі заяву аб непрымальнасьці рэарганізацыі фундамэнтальнага прынцыпу жыцьця парафіяльных грамадаў і дыстанцыяваліся ад архіяпіскапа Іезэкііля. Па меры патрэбы ў архірэйскіх набажэнствах лідары апазыцыйных парафіяў пачалі зьвяртацца ў Аўстралійскія япархіі Атыяхійскай і Сэрбскай праваслаўных цэркваў, але не займелі падтрымкі[207]. Неўзабаве аб сваёй гатовасьці падтрымаць грэцкія грамады заявіў першаярарх БАПЦ. Ужо 25 сьнежня 1959 г. на запрашэньне грэцкай парафіі ў Адэляйдзе архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) асьвяціў новапабудаваную царкву Сьвятога Мікалая, настаяцелем якой быў архімандрыт Данііл (Караманліс)[208].

Супрацьстаяньне грэцкіх грамадаў і кіраўніка Аўсталійскай архіепіскапіі спрычынілася да царкоўнага расколу. 1 чэрвеня 1960 г. са складу архіепіскапіі выйшла парафія ў Адэляйдзе, а 1 ліпеня таго ж году за ёй сьледам — парафія ў Ньюкасьле[209]. Непасрэдны ўдзел у разьвіцьці аўстралійскага царкоўнага крызісу ўзяў і архіяпіскап Сергій (Ахатэнка), які 20 чэрвеня 1960 г. прыняў у склад Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі БАПЦ грэцкую парафію ў Мэльбурне на чале з архімандрытам Георгіем (Скандамісам)[210].

На распараджэньне архіяпіскапа Іезэкііля (Цукаляса) ад 12 верасьня 1960 г. усе грэцкія праваслаўныя парафіі, якія самавольна адышлі ад Аўстралійскай архіепіскапіі Канстантынопальскага патрыярхату, падвяргаліся экскамунікацыі, а адпраўленыя ў іх таемствы абвяшчаліся нядзейснымі[211].

---

[206] Anastasios, Tamis M. The Greeks in Australia. Cambridge University Press, 2005. P. 79—81.

[207] Тамсама. P. 82—83, 85; Tsounis M. P. Greek Communities of Australia: Thesis submitted for the degree of Doctor of Philosophy in History in the University of Adelaide, 1971. P. 447.

[208] Запавет архіепіскапа Сергія (Ахатэнкі) пры заснаваньні грэцкае царквы ў Адэлаідзе ад 25.12.1959 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 48.

[209] Anastasios, Tamis M. The Greeks in Australia. P. 84.

[210] Пасьведчаньне аб прыняцьці архімандрыта Георгія (Скандаміса) да юрысдыкцыі БАПЦ ад 20.06.1960 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 50.

[211] Anastasios, Tamis M. The Greeks in Australia. P. 84.

Строгасьць кананічных пакараньняў, накладзеных на апазыцыйныя грэцкія царкоўныя грамады, не прывяла да пераадоленьня царкоўнага супрацьстаяньня. Паступова аб сваім разрыве з архіяпіскапам Іезэкіілем пачалі заяўляць і іншыя парафіі. 21 сакавіка 1962 г. у Мэльбурне адбылося адмысловае паседжаньне ФГПАА, на якім было прынятае рашэньне аб далучэньні да БАПЦ. Выконваючы прынятую пастанову, 31 сакавіка 1962 г. прэзыдэнт ФГПАА М. Камбурыс накіраваў архіяпіскапу Сергію (Ахатэнку) афіцыйны зварот, у якім паведамлялася аб гатовасьці некалькіх тысяч праваслаўных грэкаў, якія валодалі дзесяцьцю пабудаванымі й пяцьцю цэрквамі ў стане будоўлі, вызнаць ягоную кананічную юрысдыкцыю[212].

Прыняўшы прапанову ФГПАА, першаярарх БАПЦ фактычна завяршыў працэс царкоўнага расколу, зьвязанага з адыходам грэцкіх парафіяў ад Канстантынопальскага патрыярхату. Натуральным вынікам гэтага рашэньня стала паглыбленьне адчужанасьці БАПЦ ад сусьветнага праваслаўя. Нягледзячы на відавочнасьць нэгатыўных наступстваў для БАПЦ, архіяпіскап Сергій працягваў разьвіваць узаемадзеяньне з ФГПАА. Да жніўня 1962 г. ён хіратанісаў шасьцярых сьвятароў для служэньня ў парафіях Фэдэрацыі[213].

Усьведамляючы магчымыя наступствы падтрымкі грэцкай схізмы, місіянэр Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі БАПЦ і настаяцель беларускай парафіі ў Мэльбурне архімандрыт Мадэст (Яцкевіч) выступіў з рэзкай крытыкай дзеяньняў архіяпіскапа Сергія. 1 жніўня 1962 г. ён накіраваў першаярарху БАПЦ зварот, у якім заяўляў аб сваім выхадзе зь юрысдыкцыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы й адмове ад усіх займаных пасадаў. Сваё рашэньне архімандрыт Мадэст тлумачыў нежаданьнем быць датычным да дзеяньняў архіяпіскапа Сергія, шкодных для БАПЦ і беларускага народу, якія парушаюць царкоўныя каноны й добрасуседзкія ўзаемаадносіны паміж цэрквамі[214].

Разгляд сытуацыі адбыўся на паседжаньні канцылярыі Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі БАПЦ, якое праходзіла 11 жніўня 1962 г.

---

212 Tsounis, M. P. Greek Communities of Australia. P. 464—465; Letter to archbishop Sergij (Okhotenko) from the Federation of Greek Orthodox Communities of Australia. 31.03.1962 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 51.

213 Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе // Праваслаўным Шляхам. № 2 (12). 1968. С. 23; До парафіян БАПЦ в Мельбурні (Лист архимандрита Модеста Білоруської Автокефальної Православної Церкви) // Церква й життя. № 3/36. Травень — червень 1963. С. 12.

214 Ліст архімандрыта Мадэста (Яцкевіча) да архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 01.08.1962 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 46.

пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі). Удзельнікі сустрэчы ахарактарызавалі дзейнасьць архімандрыта Мадэста як нясумяшчальную зь сьвятарскім званьнем, што прыносіць ганьбу й парушае еднасьць БАПЦ. На падставе 15, 55 і 84 Апостальскіх правілаў сябры канцылярыі прынялі рашэньне аб пазбаўленьні сьвятарства былога настаяцеля парафіі БАПЦ у Мэльбурне. Асобна агаворвалася неабходнасьць паведаміць аб рашэньні прадстаўнікам іншых праваслаўных юрысдыкцыяў і дзяржаўных установаў у Аўстраліі[215].

Аднак ужо ў наступным месяцы кананічную ацэнку атрымалі й дзеяньні першаярарха БАПЦ. На паседжаньні Сьвятога сыноду Канстантынопальскага патрыярхату 18 верасьня 1962 г. разглядалася праблема царкоўнага крызісу ў Аўстралійскай япархіі. Вынікам сустрэчы стала накіраваньне ў Аўстралію адмысловага пасланьня патрыярха Канстантынопальскага Афінагора, у якім рэзка асуджалася дзейнасьць ініцыятараў расколу. Тэкст пасланьня зьмяшчаў таксама й крытыку архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі), якога называлі *“самазваным лідарам няіснуючай Беларускай Аўтакефальнай Царквы”*[216]. Перасьцерагаючы аўстралійскіх грэкаў ад узаемадзеяньня зь першаярархам БАПЦ, патрыярх Афінагор даваў вельмі нэгатыўную ацэнку ягонага кананічнага статусу: *“Усе высьвяты, якія былі дакананы вышэй успомненым Сяргеем, зьяўляюцца не кананічнымі, ня дзейснымі і ня існуючымі. Вось-жа тыя, якія маюць такую высьвяту сьвяшчэньніка, не маюць Дабра Божага багаславенства і сьвяшчэнства, і кажнае таінства, ці якое-небудзь богаслужэньне, адпраўленае імі або тымі, якія перад гэтым былі пазбаўлены духоўнага сану нашым сьвяшчэнным і багадатным Сынодам, зьяўляюцца не кананічнымі і не багадатнымі, а яўляюцца прадстаўнікамі прафанацыі, насьмешкі і зьневажаньня найгалаўнейшых і сьвяшчэнных канонаў нашай Сьвятой Праваслаўнай Царквы”*[217]. Далей зьмяшчаўся камэнтар адносна нявызнаных таінстваў і сьвятадзеяньняў: *“Тыя, хто бярэ ўдзел у літургіях, адпраўленых гэткімі асобамі, ня маючымі на сабе Дару Сьвяшчэнства, ня толькі не ўсправедліваюць сябе, а засуджаюць і свае душы, наклікаючы на сябе гнеў Божы. Шлюбы, праведзеныя гэткімі фальшывымі сьвяшчэньнікамі, ня маюць на сабе Божага багаславенства і лічацца ня існуючымі, і таксама, як і хрышчэньне, яны пазбаўлены Дара Духа Сьвятога. Гэтак сама і паховіны нашых*

[215] Распараджэньне канцылярыі Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі БАПЦ адносна архімандрыта Мадэста (Яцкевіча) ад 11.08.1962 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 53.

[216] Яго Сьвяцейшаства Ўсяленскі Патрыярх Афінагорас І. Пратакол Но. 787 // Царкоўны Сьветач. № 20. 1971. С. 16.

[217] Тамсама.

*дарагіх пакойнікаў, пахаваных гэткімі фальшывымі сьвяшчэньнікамі і праваджаныя да астатняга мейсца адпушчэньня, якія даюць успех жывым і спакой для тых, якія адходзяць з гэтага зямнога жыцьця і ідуць да Нябеснае вечнасьці”*[218].

У кастрычніку 1964 г. у Мэльбурн прыбыў з ЗША звольнены на спакой ярарх Кіпраўскай праваслаўнай царквы былы мітрапаліт Пафасу Фоцій (Кумідыс). Прадстаўнікі ФГПАА сустрэлі яго зь вялікім натхненьнем і прапанавалі ўзначаліць грэцкія парафіі, якія адышлі ад Аўстралійскай архіяпіскапіі Канстантынопальскага патрыярхату. Спрабуючы прадухіліць разьвіцьцё расколу, архіяпіскап Іезэкііль (Цукаляс) накіраваў Сусьветнаму патрыярху тэлеграму з патрабаваньнем пазбавіць мітрапаліта Фоція архірэйскага сану. 8 лістапада 1964 г. апошні сустрэўся ў Адэляйдзе з архіяпіскапам Сергіем (Ахатэнкам) і япіскапам Дзімітрыем (Балачом), кіраўніком Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі Свабоднай сэрбскай праваслаўнай царквы. На сустрэчы таксама прысутнічалі прадстаўнікі незалежных грэцкіх парафіяў. Вынікам нарады стала ўтварэньне Сьвятой грэцкай праваслаўнай царквы ў Амэрыцы й Аўстраліі (*The Holy Greek Orthodox Church of America and Australia*), якую ўзначаліў надзелены тытулам архіяпіскапа Амэрыкі й Аўстраліі Фоцій (Кумідыс). Рашэньне Канстантынопальскай патрыярхіі аб пазбаўленьні яго архірэйскага сану абвяшчалася нядзейсным. У склад Сыноду новаўтворанай рэлігійнай арганізацыі ўвайшлі архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) і япіскап Дзімітрый (Балач). Дзейнасьць Сьвятой грэцкай праваслаўнай царквы ў Амэрыцы й Аўстраліі спынілася ў траўні 1965 г., калі архіяпіскап Фоцій адмовіўся ад кіраўніцтва названай рэлігійнай арганізацыяй і вярнуўся ў ЗША. Пасьля прынясеньня пакаяньня адбылося ўзьяднаньне яго з Канстантынопальскай патрыярхіяй і аднаўленьне ў сане мітрапаліта[219].

Нягледзячы на кананічную рэабілітацыю архіяпіскапа Фоція (Кумідыса), пазыцыя Канстантынопальскага патрыярхату ў дачыненьні хіратоніяў, зьдзейсьненых пры пасярэдніцтве архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі), заставалася нязьменнай. Паводле сьведчаньня ярарха РПЦЗ архіяпіскапа Апанаса (Мартаса), у 1971 г. архіяпіскап Іезэкііль (Цукаляс)

---

[218] Яго Сьвяцейшаства Ўсяленскі Патрыярх Афінагорас I. Пратакол Но. 787. С. 16.

[219] Новатвор бяспраўных “япіскапаў” // Праваслаўным Шляхам. № 1. 1964. С. 22; Canonical Act of the Holy Greek Orthodox Church of America and Australia // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 72; Anastasios, Tamis M.. The Greeks in Australia. P. 86—87; Tsounis M. P. Greek Communities of Australia. P. 468—471; Παναγιώτη Σ. Μαχλουζαρίδη. Κύπρος 1940—1960: Ημερολόγιο των Εξελίξεων. Λευκωσία, 1985. Σ. 490.

паведаміў яму аб абавязковым перавысьвячэньні грэцкіх клірыкаў, якія прынялі хіратонію ад першаярарха БАПЦ і жадалі прыяднацца да Канстантынопальскага патрыярхату[220].

Такім чынам, падтрыманьне архіяпіскапам Сергіем (Ахатэнкам) грэцкіх парафіяў у супрацьстаяньні з кіраўніцтвам Аўстралійскай архіепіскапіі справакавала зьяўленьне сынадальнай пастановы Канстантынопальскага патрыярхату, якая канстатавала некананічны статус першаярарха БАПЦ і нядзейснасьць ажыцьцёўленых ім таінстваў. Такое разьвіцьцё падзеяў канчаткова пазбаўляла частку беларускай дыяспары надзеі на вызнаньне БАПЦ з боку Канстантынопальскага патрыярхату, да чаго заклікалі ўдзельнікі першага паседжаньня Найвышэйшага царкоўнага кіраўніцтва БАПЦ 21 сьнежня 1949 г. у Розэнгайме[221]. Актыўнае спрыяньне архіяпіскапа Сергія расколу Аўстралійскай архіепіскапіі Канстантынопальскага патрыярхату — адна з найбольш нэгатыўных старонак царкоўнай гісторыі беларускай дыяспары.

## *5.4. БАПЦ у апошнія гады жыцьця архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) (1968—1971)*

Пашырэньне колькасьці архірэяў БАПЦ у 1968 г. стварыла ўмовы для рэгулярнага правядзеньня саборных паседжаньняў з удзелам беларускіх ярархаў. Важнай падзеяй царкоўнага жыцьця беларускай дыяспары стаў Сабор япіскапаў БАПЦ 1—2 красавіка 1969 г. у Нью-Ёрку пры ўдзеле архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка), япіскапа Андрэя (Крыта) і япіскапа Мікалая (Мацукевіча). Вынікам сустрэчы стала прыняцьце некалькіх пастановаў.

1. Успрымаючы беларускую мову як дадзеную ад Бога, прачытваць на ёй падчас літургіі Эвангельле, Апостал, Сымбаль веры, заамвонную малітву й “Ойча наш”.

2. Памінаць на эктэніях імёны ўсіх чатырох ярархаў, а на Вялікім уваходзе толькі першаярарха й кіроўнага архірэя.

3. Склікаць напрыканцы жніўня 1969 г. чарговы Сабор япархіі БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе.

4. Выдаць “Беларускі праваслаўны каляндар” на 1970 г. і павялічыць аб’ём часопісу “Голас Царквы” да 24 старонак.

5. Зьвярнуцца да ўсіх парафіяльных радаў і праваслаўных беларусаў з просьбай аб ахвяраваньнях у фонд БАПЦ.

---

[220] Ліст архіяпіскапа Афанасія (Мартаса) да протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага ад 20 жнівеня 1971 г. // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 371—373.

[221] Пратакол паседжаньня Вышэйшага Царкоўнага Ўпраўленьня БАПЦ. Розенгайм, 21 сьнежня 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 150.

6. Падрыхтаваць і зацьвердзіць новы тыповы статут парафіі БАПЦ.
7. Улічваючы заслугі перад БАПЦ, узнагародзіць архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) правам нашэньня брыльянтавага крыжа на клабуку, а адміністратара БАПЦ у Бэльгіі протаярэя Аўгена Смаршчка правам нашэньня мітры.
8. Дзеля далейшага разьвіцьця БАПЦ зьвярнуцца да ведамых грамадзка-палітычных дзеячаў Язэпа Сажыча, Віктара Войтанкі-Васілеўскага, Васіля Плескача, Міколы Ганька й Барыса Данілюка з прапановай прыняць сан дыякана.
9. Арганізаваць сталую канцылярыю Сабору япіскапаў БАПЦ[222].

Адгукнуўшыся на зварот Сабору япіскапаў БАПЦ, доктар Віктар Войтанка-Васілеўскі прыняў рашэньне аб рукапалажэньні й 15 чэрвеня 1969 г. прыняў сьвятарства[223]. Ужо 20 ліпеня таго ж года ён адслужыў першую ў гісторыі літургію на беларускай мове[224], паклаўшы пачатак адыходу ад царкоўнаславянскіх тэкстаў у практыцы БАПЦ.

Рэалізацыяй пастановы Сабору япіскапаў БАПЦ стала правядзеньне Сабору япархіі БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе, які адбыўся 30 жніўня 1969 г. у катэдральным саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Акрамя архіяпіскапа Васіля, япіскапа Андрэя й япіскапа Мікалая ў саборных паседжаньнях прынялі ўдзел сябры епархіяльнай управы, парафіяльных радаў і па два прадстаўнікі ад кожнай парафіі. Абраўшы новы склад епархіальнай управы, Сабор прызначыў архіяпіскапа Васіля апекуном япархіі, япіскапа Андрэя — старшынём япархіі. Затым адбылося абраньне новага складу судовага, місійна-асьветнага аддзелаў і рэвізійнай камісіі. Значнай саборнай пастановай стала фармаваньне камісіі для беларусізацыі багаслужэньня на чале зь ярэем Васілём Кендышам. Гэты ж сьвятар узначаліў камісію для падрыхтоўкі Агульнага сабору БАПЦ, правядзеньне якога плянавалася не пазьней за 1971 г.[225]

Значныя зьмены ў царкоўным жыцьці адбыліся пасьля раптоўнай сьмерці архіяпіскапа Васіля (Тамашыка), які адышоў з жыцьця 9 чэрвеня 1970 г.[226] На распараджэньне першаярарха БАПЦ ад 12 чэрвеня 1970 г. новым кіраўніком япархіі БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе стаў

[222] Андрэй, япіскап. Пастановы Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ. 4 чырвеня 1969 г. // Беларус. № 146. 1969. С. 1.

[223] Новы беларускі сьвятар // Беларус. № 146. 1969. С. 3.

[224] Першая праваслаўная Божая Служба па-беларуску // Беларус. № 147—148. 1969. С. 5.

[225] Чацьверты Епархіяльны Сабор Сьв. БАПЦ // Голас Царквы. № 30. 1969. С. 6—8.

[226] Сьвятой памяці Высокапраасьвяшчэньнешы Архіепіскап Васіль // Голас Царквы. № 32. 1970. С. 4.

япіскап Андрэй (Крыт)[227]. Удзельнікі Сабору япіскапаў БАПЦ 16 чэрвеня 1970 г. зацьвердзілі япіскапа Андрэя на пасадзе кіраўніка япархіі. Пры гэтым за япіскапам Мікалаем (Мацукевічам) замацоўваўся статус апекуна парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне[228]. Жадаючы ўзвысіць статус новага кіраўніка япархіі, першаярарх БАПЦ выдаў распараджэньне ад 28 ліпеня 1970 г. аб узьвядзеньні япіскапа Андрэя ў сан архіяпіскапа[229].

2 кастрычніка 1971 г. у Адэляйдзе памёр першаярарх БАПЦ архіяпіскап Сергій (Ахатэнка). У яго адпяваньні й пахаваньні прынялі ўдзел грэцкі архіяпіскап Адэляйдзкі Сьпірыдон, япіскап Мікалай (Мацукевіч), грэцкі япіскап Хрызастом, сьвятары БАПЦ, УАПЦ і ФГПАА[230]. З адыходам архіяпіскапа Сергія ў вечнае жыцьцё пачаўся новы этап у гісторыі БАПЦ.

## 6. БАПЦ пад кіраўніцтвам мітрапаліта Андрэя (Крыта) (1972—1983)

### *6.1. Разьвіцьцё БАПЦ у 1972—1983 гг.*

Абраньне новага першаярарха БАПЦ адбылося на Другім Саборы БАПЦ 27—29 траўня 1972 г. у Гайлэнд-Парку (*Highland Park*, Нью-Джэрзі). У прэзыдыюм Сабору ўвайшлі архіяпіскап Андрэй (Крыт), япіскап Мікалай (Мацукевіч), протаярэй Аўген Смаршчок, ярэй Васіль

[227] Загад япіскапу Андрэю (Крыту) на абняцьце кіравецтва япархіі БАПЦ у Амэрыцы, Канадзе і Эўропе. 12.06.1970 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 67.

[228] Пастановы Нарады Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў БАПЦарквы, праведзенай 19-га чэрвеня 1970 году ў Спрынгфільдзе ў Штаце Массачузэтс, пры ўдзеле Уладыкі Андрэя, Уладыкі Мікалая і а. Васілія Кендыша // Голас Царквы. № 32. 1970. С. 19; Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на чужыне. Архіпастырскае Пасланьне. 1970 г. // Беларус. № 160. 1970. С. 1.

[229] Узнагародная грамата. 28 ліпеня 1970 г. // Голас Царквы. № 32. 1970. С. 12; Указ архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) аб узьвядзеньні япіскапа Андрэя (Крыт) у сан архіяпіскапа, прызначэньні правячым япіскапам япархіі БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы і сакратаром Кансысторыі БАПЦ. 28.07.1970 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 68.

[230] Назіральнік. Уладыка Мікалай у Аўстраліі // Беларус. № 179. 1972. С. 4; Першаерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Высокапраасьвяшчэньнейшы Архіепіскап Сяргей — упакоіўся // Голас Царквы. № 34. 1971. С. 3—6; Япархіяльная Управа БАПЦ. Архіепіскап Сяргей // Беларус. № 175. 1971. С. 1.


Мітрапаліт Андрэй (Крыт)

Кендыш, Мікола Гарошка й Іван Бруцкі. У саборных паседжаньнях таксама ўзялі ўдзел сьвятар Ян Пякарскі, сьвятар Карп Стар і беларускія вернікі, якія рэпрэзэнтавалі царкоўныя парафіі й грамадзкія арганізацыі[231].

На Саборы прынялі пастанову аб узвышэньні БАПЦ да статусу мітраполіі й абраньні яе першаярархам архіяпіскапа Андрэя з узьвядзеньнем у сан мітрапаліта. Акрамя таго, удзельнікі саборных паседжаньняў унесьлі зьмены ў Статут БАПЦ рэдакцыі 1942 г., зацьвердзілі пэрсанальны склад Галоўнай рады й Кансысторыі БАПЦ[232]. У выніковай рэзалюцыі Другога Сабору БАПЦ асуджалася савецкая рэлігійная палітыка на тэрыторыі БССР, дэкляравалася прыхільнасьць БАПЦ да еднасьці з праваслаўнымі цэрквамі й прызнаньне аўтарытэту Канстантынопальскага патрыярхату, заяўлялася аб намеры спрыяць аб'яднаньню беларускіх праваслаўных вернікаў і працягваць беларусізацыю набажэнстваў[233].

Першым крокам у падтрыманьні еднасьці з памеснымі цэрквамі стала падрыхтоўка мэмарандуму, які 3 кастрычніка 1972 г. быў накіраваны ў Канстантынопальскую патрыярхію. Тэкст зьмяшчаў гістарычную даведку аб узаемаадносінах Праваслаўнай царквы на беларускіх землях з Канстантынопальскім патрыярхатам і аб асноўных этапах разьвіцьця БАПЦ. Вынікам мэмарандуму стала прыкметнае паляпшэньне стаўленьня Канстантынопалю да БАПЦ і зьняцьце напружанасьці, справакаванай архіяпіскапам Сергіем (Ахатэнкам) праз падтрымку царкоўнага расколу Аўстралійскай архіепіскапіі Канстантынопальскага патрыярхату. Практычнае выражэньне пераменаў выяўлялася ў рэгулярным абмене калляднымі й велікоднымі пасланьнямі паміж першаярархам БАПЦ і зьверхнікамі (прадстаяцелямі) Канстантынопальскай, Александрыйскай, Ерусалімскай, Эладзкай і Кіпраўскай праваслаўных

[231] Другі Сабор БАПЦ // Божым Шляхам. № 2 (136). 1973. С. 6—7; Кендыш, Васіль, прат. Другі Сабор БАПЦ // Беларус. № 184. 1972. С. 2; Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы // Голас Царквы. № 36. 1972. С. 3; Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы // Беларус. № 182. 1972. С. 1.

[232] Другі Сабор БАПЦ. С. 7; Кендыш, Васіль, прат. Другі Сабор БАПЦ. С. 2; Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. С. 3—6; Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. С. 1.

[233] Рэзалюцыя Другога Сабору Беларускай Аўтакефальнай Царквы. 29 травеня 1972 г. // Беларус. № 184. 1972. С. 2; Рэзалюцыя Сабору. 29 травеня 1972 г. // Голас Царквы. № 36. 1972. С. 6.

цэркваў. Акрамя таго, на працягу шэрагу гадоў мітрапаліт Андрэй (Крыт) атрымліваў афіцыйныя сьвяточныя прывітаньні ад экзарха Канстантынопальскага патрыярхату ў Паўночнай і Паўднёвай Амэрыцы архіяпіскапа Іакава, экзарха Канстантынопальскага патрыярхату ў Вялікабрытаніі архіяпіскапа Афінагора, сакратара Сыноду Канстантынопальскага патрыярхату мітрапаліта Кесарыйскага Васіля й іншых[234].

Акрамя наладжваньня стасункаў з памеснымі праваслаўнымі цэрквамі, Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква пад кіраўніцтвам мітрапаліта Андрэя працягвала падтрымліваць добрыя ўзаемаадносіны зь невызнанымі царкоўнымі юрысдыкцыямі. У прыватнасьці, захоўваліся рэгулярныя царкоўныя зносіны з УАПЦ[235] і ССПЦ[236].

Прыкметнымі падзеямі разгляданага пэрыяду гісторыі БАПЦ сталі зьмены ў сыстэме арганізацыі царкоўнага жыцьця. На паседжаньні Рады БАПЦ 15 траўня 1974 г. прынялі рашэньне аб узьвядзеньні япіскапа Мікалая (Мацукевіча) у сан архіяпіскапа з наданьнем яму права духоўнай апекі над праваслаўнымі беларусамі ў Канадзе, Вялікабрытаніі й Бэльгіі. Месцам рэзыдэнцыі архіяпіскапа абвяшчаўся г. Таронта (Канада)[237]. У той жа дзень абмеркавалі ўзаемадзеяньне

---

[234] 10 гадоў Мітраполіі // The Byelorussian Times. № 38—39. 1982.С. 9; Вялікоднае Прывітаньне Ўсяленскага Патрыярха Дэмэтрыёса да Мітрапаліта БАПЦарквы Андрэя // Голас Царквы. № 50.1978. С. 4; Вялікодныя вітаньні // Голас Царквы. № 52. 1979. С. 10; Іншыя прывітаньні // Голас Царквы. № 47. 1977. С. 9; Іншыя прывітаньні // Голас Царквы. № 51. 1979. С. 4; Прывітаньне ад Усяленскага Патрыярха Дымітрыёса І. Каляды, 1973 // Голас Царквы. № 41. 1974. С. 6; Каляднае прывітаньне Ўсяленскага Патрыярха Дэмэтрыёса да Мітрапаліта Андрэя // Голас Царквы. № 47. 1977. С. 8; Каляднае Прывітаньне Ўсяленскага Патрыярха Дэмэтрыёса да Мітрапаліта Андрэя // Голас Царквы. № 51. 1979. С. 4; Калядныя прывітаньня для Б.А.П.Ц. // The Byelorussian Times. № 9. 1977. С. 5; Прывітаньні, атрыманыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой з нагоды Хрыстова Нараджэньня // Голас Царквы. № 41. 1974. С. 6; Сьвяточныя Вітаньні // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 4; Сьвяточныя прывітаньні да Мітрапаліта Андрэя // Голас Царквы. № 50. 1978. С. 4.

[235] Вернік. Саборная місійная багаслужба на Нядзелю Праваслаўя ў Кліўлендзе // Голас Царквы. № 51. 1979. С. 5—6; Вялікодныя вітаньні // Голас Царквы. № 52. 1979. С. 10; Іншыя прывітаньні // Голас Царквы. № 51. 1979. С. 4; Калядныя прывітаньня для Б.А.П.Ц. С. 5; Сьвяточныя прывітаньні да Мітрапаліта Андрэя // Голас Царквы. № 50. 1978. С. 4.

[236] Вялікодныя вітаньні // Голас Царквы. № 52. 1979. С. 10; Іншыя прывітаньні // Голас Царквы. № 47. 1977. С. 9; Іншыя прывітаньні // Голас Царквы. № 51. 1979. С. 4; Калядныя прывітаньня для Б.А.П.Ц. С. 5; Сьвяточныя прывітаньні да Мітрапаліта Андрэя // Голас Царквы. № 50. 1978. С. 4.

[237] Паседжаньне Рады БАПЦ // Беларус. № 206. 1974. С. 3; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980. P. 169.

БАПЦ зь іншымі праваслаўнымі цэрквамі, новую рэдакцыю Статуту БАПЦ і бягучыя пытаньні[238]. На падставе пастановы Рады БАПЦ ад 18 траўня 1974 г. мітрапаліт Андрэй прызначыў протаярэя Аляксандра Кулакоўскага прадстаўнікам і адміністратарам БАПЦ у Аўстраліі й Новай Зэляндыі[239].

Важныя зьмены ў галіне царкоўнага адміністраваньня адбыліся 13 ліпеня 1978 г. на Саборы япіскапаў БАПЦ, які праходзіў у Кліўлэндзе. Паводле прынятых пастановаў, беларускія парафіі на тэрыторыі ЗША й Аўстраліі аб'ядноўваліся ў Амэрыканскую япархію, а парафіі на тэрыторыі Эўропы й Канады ўваходзілі ў склад Эўрапейскай япархіі. Кіраўніцтва новаўтворанымі структурамі даручалася адпаведна мітрапаліту Андрэю й архіяпіскапу Мікалаю[240].

Другім прыкметным кірункам разьвіцьця БАПЦ падчас кіраўніцтва мітрапаліта Андрэя (Крыта) стала арганізацыя новых беларускіх парафіяў. У згаданы пэрыяд узьніклі наступныя царкоўныя грамады.

*ЗША*

1. Парафія Сьвятой Тройцы ў г. Дораці (*Dorothy*, Нью-Джэрзі) — заснаваная ў 1973 г.[241]

*Вялікабрытанія*

2. Парафія Сьвятога Мікалая ў г. Нотынгэм (*Nottingham*) — перайшла ў юрысдыкцыю БАПЦ у 1964 г.[242]

3. Парафія БАПЦ у г. Лёндан — заснаваная ў 1972 г.[243]

З прычыны значнага скарачэньня колькасьці беларускіх эмігрантаў у Бэльгіі ў пачатку 1970-х гг. парафія БАПЦ у Лювэне спыніла сваё існаваньне, а яе настаяцель протапрэсьвітар Аўген Смаршчок далучыўся да

---

238 Паседжаньне Рады БАПЦ. С. 3.

239 Кансысторыя БАПЦарквы. Новае празначэньне // Голас Царквы. № 42. 1974. С. 16.

240 З Кнігі Правілаў, частка I і Статут БАПЦ // Голас Царквы. № 60. 1987. С. 20—22; Session of the Council of Bishops of the BAOC // The Byelorussian Times. № 30. 1981. P. 3.

241 Новая парафія БАПЦ // Голас Царквы. № 39. 1973. С. 19; Парафія Сьвятой Тройцы ў Дораты, Нью Джэрсі // Голас Царквы. № 41. 1974. С. 23.

242 Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 367—368; Крушына, Янка. Высьвячэньне будынку БАПЦ у Нотынгам // Бацькаўшчына. № 11—12 (625—626). 1964. С. 8.

243 Багаслужбы для праваслаўных беларусаў у Лёндане // Божым Шляхам. № 2 (136). 1973. С. 7; БАПЦарква ў Вялікай Брытаніі // Голас Царквы. № 45. 1976. С. 14—15.

юрысдыкцыі архіяпіскапіі праваслаўных расейскіх цэркваў у Заходняй Эўропе ў складзе Канстантынопальскага патрыярхату[244].

У сьнежні 1976 г. Кансысторыя БАПЦ прапанавала набыць ці пабудаваць царкоўна-адміністрацыйны комплекс, які б улучаў рэзыдэнцыю першаярарха, памяшканьні Кансысторыі, архіў, бібліятэку ды іншыя царкоўныя ўстановы. Спадзеючыся на падтрымку гэтай ідэі з боку праваслаўных вернікаў, Кансысторыя апублікавала адмысловы зварот аб зборы сродкаў[245].

Працягвалася беларусізацыя літургічнага жыцьця. 17 траўня 1975 г. Рада БАПЦ прыняла пастанову аб зборы грошай на выданьне напрастольнага Эвангельля й іншай літаратуры на беларускай мове[246].

Прыкметнай падзеяй апошніх гадоў служэньня мітрапаліта Андрэя стала ўзьнікненьне Брацтва й сястрыцтва сьвятога Кірылы Тураўскага Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы. На першым арганізацыйным сходзе 17 студзеня 1981 г. у г. Іст-Брансўік (Нью-Джэрзі) абралі часовае кіраўніцтва арганізацыі на чале з Барысом Данілюком. Распараджэньнем першаярарха БАПЦ духоўнікам Брацтва й сястрыцтва стаў япіскап Ізяслаў (Бруцкі). Арганізацыя атрымала стаўрапігіяльны статус, што прадугледжвала падпарадкаваньне выключна мітрапаліту й распаўсюд дзейнасьці ў межах усёй БАПЦ. Асноўнымі мэтамі Брацтва й сястрыцтва абвяшчаліся ўзмацненьне праваслаўнай веры й распаўсюджаньне рэлігійных ведаў сярод праваслаўных беларусаў, абарона БАПЦ і яе вернікаў ад розных нядобразычліўцаў, спрыяньне ў перакладзе Сьвятога Пісаньня і літургічных тэкстаў на беларускую мову, іх укараненьне ў практыцы царкоўнага жыцьця, разьвіцьцё беларускай царкоўнай сьпеўніцкай культуры, вывучэньне й аднаўленьне беларускіх рэлігійна-побытавых традыцыяў, маральнае і матэрыяльнае падтрыманьне вернікаў БАПЦ[247]. Пэрыядычным выданьнем Брацтва й сястрыцтва стаў часопіс “Сьцераж Веры”, першы нумар якога выйшаў 26 красавіка 1981 г.[248] На старонках выданьня друкаваліся матэрыялы духоўна-маральнага зьместу, навіны з жыцьця арганізацыі, БАПЦ і іншых цэркваў хрысьціянскага сьвету.

---

[244] Смаршчок, Петрык. “Трэба было бачыць, колькі ў таты было кніг” // Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Мінск: Медисонт, 2007. С. 545.

[245] Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Кансысторыя. Заклік да вернікаў і ахвярадаўцаў БАПЦарквы // Голас Царквы. № 46. 1976. С. 4.

[246] Парафія Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага // The Byelorussian Times. № 1. 1975. С. 7.

[247] Брацтва й Сястрыцтва сьв. Кірылы Тураўскага // Сьцераж Веры. № 1. 26 красавіка 1981. С. 4—5.

[248] Сьцераж Веры. № 1. 26 красавіка 1981.

### 6.2. Нутраны крызіс БАПЦ у пачатку 1980-х гг. і царкоўны раскол

Пачатак 1980-х гг. характарызуецца як пэрыяд нутранога крызісу ў БАПЦ, разьвіцьцё якога прывяло да расколу царкоўнай структуры й вялікіх узрушаньняў у рэлігійным жыцьці беларускай дыяспары.

Справакаваў напружанасьць загад мітрапаліта Андрэя ад 18 сакавіка 1980 г. аб адхіленьні ярэя Аляксандра Яноўскага ад пасады настаяцеля парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі) і прызначэньні настаяцелем ярэя Івана Бруцкага. Ярэй Аляксандр папрасіў адкласьці дзеяньне загаду на адзін год, каб ён мог працаўладкавацца. Пераважная ж колькасьць прыхаджанаў не жадала прымаць новага настаяцеля. Але першаярарх БАПЦ настойваў на выкананьні ягонага распараджэньня. Новапрызначаны настаяцель актыўна дамагаўся прызнаньня з боку мясцовай грамады, але сустрэў рашучы супраціў парафіяльнага актыву. Пасьля гэтага ярэй Іван са згоды мітрапаліта Андрэя зьвярнуўся ў грамадзянскі суд, патрабуючы ад парафіяльнай рады выкананьня загаду кіроўнага архірэя[249]. Разьвіцьцё канфлікту падштурхнула ўдзельнікаў надзвычайнага агульнага парафіяльнага сходу 4 траўня 1980 г. у Гайлэнд-Парку прыняць рэзалюцыю аб часовым выхадзе царкоўнай грамады з падпарадкаваньня кіраўніку Амэрыканскай япархіі й пераходзе ў склад Эўрапейскай япархіі БАПЦ[250]. У сваю чаргу гадавы сход парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта (які быў цэнтрам Эўрапейскай япархіі) на паседжаньні 10 траўня 1980 г. прыняў адмысловую рэзалюцыю, у якой заклікаў мітрапаліта Андрэя і ўсіх вінаватых у канфліктным супрацьстаяньні неадкладна спыніць дзеяньні, якія пагражаюць узьнікненьнем царкоўнага расколу. Прапаноўвалася тэрмінова правесьці паседжаньне Рады БАПЦ для ўрэгуляваньня сытуацыі[251].

Падчас паседжаньняў Сабору япіскапаў БАПЦ 26 ліпеня 1980 г. архіяпіскап Мікалай прапанаваў разгледзець пытаньне ў царкоўным судзе. Аднак ініцыятыва не займела падтрымкі першаярарха, які не

---

[249] Айцец Аляксандар Яноўскі звольнены як Сьвятар БАПЦ // The Byelorussian Times. № 27. 1980. С. 3; Дарадчая Камісія. Закалот у БАПЦ // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3; Паведамленьне з Кансысторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы // Голас Царквы. № 53. 1980. С. 11; Судовая справа ў Гайлэнд Парку аднаўлена. Другі суд пачаўся ў Брукліне // The Byelorussian Times. № 29. 1981. С. 2; Яноўскі, А. Ліст у рэдакцыю // Беларус. № 310. 1982. С. 5—6.

[250] З царкоўнага жыцьця. Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі // Беларус. № 283—284. 1980. С. 7.

[251] Акула, К. Гадавы Сход і сьвята парахвіі ў Тароньце // Беларус. № 278. 1980. С. 6.


Архіяпіскап Мікалай (Мацукевіч)

дапускаў магчымасьці перагляду свайго рашэньня[252]. Больш за тое, загадам ад 30 жніўня 1980 г. мітрапаліт Андрэй забараніў ярэя Аляксандра Яноўскага ў сьвяшчэннаслужэньні й звольніў яго са складу кліру БАПЦ[253]. Адмовіўшыся прызнаць законнасьць гэтай пастановы, 14 верасьня 1980 г. ярэй Аляксандар зьвярнуўся да архіяпіскапа Мікалая з просьбай ініцыяваць разгляд сытуацыі Радай БАПЦ[254]. Іншымі словамі, звольнены з пасады настаяцеля клірык аспрэчваў правамоцнасьць рашэньня, аднаасобна прынятага кіраўніком Амэрыканскай япархіі. Дамагаючыся перагляду распараджэньня архірэя, ён заклікаў да калегіяльнай пастановы. Мітрапаліт Андрэй адмовіўся склікаць спэцыяльнае паседжаньне Рады БАПЦ і санкцыянаваў новы разбор у грамадзянскім судзе. Дзеяньні першаярарха сустрэлі рэзка нэгатыўную рэакцыю архіяпіскапа Мікалая, які 21 верасьня 1980 г. заявіў аб прыняцьці царкоўнай грамады ў Гайлэнд-Парку пад сваё непасрэднае кіраўніцтва да часу скліканьня Сабору БАПЦ[255].

Гэтыя падзеі выклікалі шырокі рэзананс у асяродзьдзі беларускай дыяспары, падзяліўшы вернікаў на прыхільнікаў і праціўнікаў першаярарха. Царкоўныя грамады ў поўным складзе рабілі заявы аб непрымальнасьці прынцыпу адзінаасобнага кіраўніцтва царкоўным жыцьцём, падкрэсьліваючы неабходнасьць захаваць калегіяльны (саборны) падыход да царкоўнага адміністраваньня. Напрыклад, ужо 28 верасьня 1980 г. удзельнікі надзвычайнага сходу парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлэндзе асудзілі дзеяньні мітрапаліта Андрэя й заявілі

---

[252] Мікалай, архіяпіскап. Пасланьне Ўладыкі Мікалая, Архіепіскапа БАПЦ. 27-га чырвеня 1981 г. // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3.

[253] Айцец Аляксандар Яноўскі звольнены як Сьвятар БАПЦ // The Byelorussian Times. № 27. 1980. С. 3.

[254] Просьба а. Аляксандра Яноўскага да ярхіяпіскапа Мікалая. 14 верасня 1980 г. // ББФС. Арк. 1.

[255] З царкоўнага жыцьця. Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі // Беларус. № 283—284. 1980. С. 7.

аб часовым пераходзе ў непасрэднае падпарадкаваньне да архіяпіскапа Мікалая[256]. 12 кастрычніка 1980 г. аналягічную пастанову прыняў надзвычайны сход парафіі Сьвятога Духу ў Дэтройце[257]. Разрываючы адміністрацыйную залежнасьць ад кіраўніка Амэрыканскай япархіі, беларускія парафіі спынялі выплату падаткаў на ўтрыманьне Кансысторыі, узначаленай першаярархам. Гэтыя абставіны значна адбіваліся на матэрыяльным забесьпячэньні кіроўнага органу БАПЦ. Заклікаючы вернікаў да прызнаньня духоўнай улады мітрапаліта Андрэя, Кансысторыя нагадвала пра абавязковасьць грашовых пералічэньняў[258].

Акрамя царкоўных парафіяў, пазыцыю архіяпіскапа Мікалая падтрымала рэдакцыя газэты "Беларус" (Нью-Ёрк), якая адлюстроўвала падзеі царкоўнага жыцьця ў адпаведнасьці з абраным пунктам погляду. Інфармацыйную падтрымку мітрапаліту Андрэю забясьпечвалі афіцыйны орган БАПЦ — часопіс "Голас Царквы" (Нью-Ёрк) і газэта "Беларускі Голас" (Таронта, Канада). На працягу першай паловы 1980-х гг. рознагалосьсі паміж першаярархам БАПЦ і кіраўніком Эўрапейскай япархіі асьвятляліся ў беларускім пэрыядычным друку як вынік сутыкненьня двух падыходаў да царкоўнага кіраваньня. Пазыцыя архіяпіскапа Мікалая зводзілася да крытыкі клерыкалізму й зацьвярджэньня значнасьці прынцыпу сабornасьці, які прадугледжваў раўнапраўны ўдзел у царкоўным кіраваньні клірыкаў і недухоўных асобаў[259]. На думку мітрапаліта Андрэя, аргумэнты прыхільнікаў калегіяльнасьці царкоўнага кіраўніцтва былі прыкрыцьцём для беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, якія жадалі паставіць рэлігійнае жыцьцё пад свой непасрэдны кантроль[260]. Першаярарх БАПЦ падкрэсьліваў непахіснасьць дагматыка-кананічных устанаўленьняў, якія датычацца выключных паўнамоцтваў найвышэйшай ярархіі ў царкоўным кіраваньні й падпарадкаванай ролі недухоўных[261].

[256] Кансысторыя БАПЦ. Выясьненьне й папярэджаньне да Братоў і Сёстраў парахвіянаў Парахвіі Сабору Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленд, Агаё. 31 сакавіка 1982 г. // Library and Archives Canada (LAC), Ontario, Canada. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 37.; К. С. Надзвычайны Царкоўны Сход у Кліўленьдзе // Беларус. № 282. 1980. С. 3.

[257] З царкоўнага жыцьця. Дэтройт, Мічыган // Беларус. № 283—284. 1980. С. 7.

[258] Кансіторыя БАПЦ. Выясьненьне й папярэджаньне да Братоў й Сёстраў парахвіянаў Парахвіі Сабору Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленд, Агаё. 31 сакавіка 1982 г.

[259] Мікалай, архіепіскап. Роля міранаў у Царкве // Беларус. № 313. 1983. С. 2, 6.

[260] Андрэй, мітрапаліт. Яшчэ аб неладах у Б.А.П.Ц. // The Byelorussian Times. № 45. 1984. С. 5.

[261] Кансысторыя БАПЦ. Роля Міранаў у Царкве // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 13—15.

У сытуацыі імклівай страты кантролю над парафіямі Амэрыканскай япархіі мітрапаліт Андрэй намагаўся ўзмацніць сваё становішча, публікуючы тлумачэньне актуальных падзеяў[262]. Другім сродкам узмацненьня сваіх пазыцыяў першаярарх бачыў павелічэньне колькасьці епіскапату БАПЦ да трох чалавек. Уключэньне ў склад Сабору япіскапаў БАПЦ новага архірэя, абранага зь ліку пасьлядоўнікаў мітрапаліта Андрэя, дазволіла б апошняму мець перавагу галасоў у названым органе царкоўнага кіраваньня. Першым крокам да рэалізацыі задуманага стала правядзеньне паседжаньня Рады БАПЦ 15 лістапада 1980 г. у г. Дорацi (Нью-Джэрзі). Асудзіўшы дзеяньні кіраўніка Эўрапейскай япархіі, удзельнікі паседжаньня зацьвердзілі кандыдата на япіскапа Полацкага, вікарыя Амэрыканскай япархіі БАПЦ. Ім стаў ярэй Іван Бруцкі, раней прызначаны настаяцелем беларускай парафіі ў Гайлэнд-Парку, але адпрэчаны мясцовай царкоўнай грамадой[263]. Гэтае рашэньне выклікала пратэст з боку архіяпіскапа Мікалая, які заявіў аб незаконнасьці рашэньняў Рады БАПЦ[264].

Праігнараваўшы пазыцыю кіраўніка Эўрапейскай япархіі, мітрапаліт Андрэй прыступіў да практычнай рэалізацыі пастановаў Рады БАПЦ. 30 лістапада 1980 г. першаярарх зьдзейсьніў манаскі пострыг ярэя Івана Бруцкага зь імем Ізяслаў, а 7 сьнежня таго ж году ўзьвёў яго ў сан архімандрыта[265]. Па ўзгадненьні зь першаярархам Украінскай праваслаўнай царквы ў ЗША й дыяспары[266] мітрапалітам Мсьціславам (Скрыпнікам) япіскапская хіратонія архімандрыта Ізяслава адбылася

---

[262] Андрэй, мітрапаліт. У абароне закону й Царквы // The Byelorussian Times. № 29. 1981. С. 3.

[263] Рэзалюцыя Рады БАПЦ. 15 лістапада 1980 г. // The Byelorussian Times. № 29. 1981. С. 3; Кендыш, Васіль, прат. Нарада Рады БАПЦ // The Byelorussian Times. № 28. 1980. С. 4.

[264] Мікалай, архіепіскап. Пасланьне Ўладыкі Мікалая, Архіепіскапа БАПЦ. 27-га чырвеня 1981 г. // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3.

[265] Урачыстыя Архірэйскія Багаслужбы // The Byelorussian Times. № 28. 1980. С. 3.

[266] **Украінская праваслаўная царква ў ЗША й дыяспары** — рэлігійная арганізацыя, створаная прыхільнікамі ўкраінскай царкоўнай аўтакефаліі. Пачатак свайго існаваньня ўзводзіла да 1919 г., калі некалькі ўкраінскіх грэка-каталіцкіх парафіяў перайшлі ў праваслаўе й часова падпарадкаваліся ярарху Антыяхійскай праваслаўнай царквы. З 1924 г. вышэйзгаданыя парафіі ўвайшлі ў склад Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У другой палове XX ст. адбылося аб'яднаньне гэтых парафіяў з утворанымі ў пасляваенны час украінскімі парафіямі УАПЦ у ЗША й Эўропе, што прывяло да ўзьнікненьня УПЦ у ЗША й дыяспары. У 1995 г. гэтая рэлігійная арганізацыя далучылася да юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату на правах самакіраваньня.

22 лютага 1981 г. ва ўкраінскім катэдральным саборы Сьвятога апостала Андрэя (г. Саўт-Баўнд-Брук, *South Bound Brook*, Нью-Джэрзі). У высьвячэньні ўзялі ўдзел мітрапаліт Андрэй (Крыт), мітрапаліт Мсьціслаў (Скрыпнік) і архіяпіскап Арэст (Іванюк), кіраўнік Заходнеэўрапейскай япархіяй УПЦ у ЗША й дыяспары[267].

Зьяўленьне ў складзе БАПЦ новага архірэя дазволіла мітрапаліту Андрэю склікаць 7 сакавіка 1981 г. Сабор япіскапаў, у працы якога не пажадаў узяць удзел архіяпіскап Мікалай. На паседжаньні прынялі рашэньне аб наданьні мітрапаліту Андрэю тытулу "блажэнны", які традыцыйна выкарыстоўваецца ў дачыненьні зьверхнікаў (прадстаяцеляў) памесных праваслаўных цэркваў. Другім рашэньнем стала зацьверджаньне япіскапа Ізяслава на пасадзе вікарыя Амэрыканскай япархіі з наданьнем статусу заступніка першаярарха БАПЦ. Месцам рэзыдэнцыі япіскапа Ізяслава вызначаўся парафіяльны дом у Гайлэнд-Парку. Удзельнікі паседжаньня прызналі парафіі ў Гайлэнд-Парку, Нью-Ёрку й Дэтройце неад'емнай часткай Амэрыканскай япархіі. Асаблівай пастановай пацьвярджаліся рашэньні мітрапаліта Андрэя аб выключэньні сьвятара Аляксандра Яноўскага са складу БАПЦ і прызначэньні настаяцелем парафіі ў Гайлэнд-Парку япіскапа Ізяслава. Пры гэтым быламу настаяцелю прадпісвалася за сямідзённы тэрмін спыніць парафіяльную дзейнасьць і вызваліць царкоўнае жылое памяшканьне. Абвяшчалася, што дзеяньні архіяпіскапа Мікалая для пераходу ў склад Эўрапейскай япархіі парафіяў Амэрыканскай япархіі супярэчаць кананічным нормам, парушаюць Статут БАПЦ і накіраваныя на падрыў аўтарытэту першаярарха. Асуджалася пазыцыя архіяпіскапа Мікалая, які адмовіўся ад удзелу ў Саборы япіскапаў і паседжаньні Рады БАПЦ. Пры канцы работы Сабор япіскапаў заклікаў кіраўніка Эўрапейскай япархіі прызнаць свае памылкі й замірыцца зь першаярархам БАПЦ[268].

Не пагадзіўся зь дзеяньнямі мітрапаліта Андрэя парафіяльны актыў катэдральнага сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. 22 сакавіка 1981 г. агульны парафіяльны сход прыняў рашэньне аб часовым пераходзе ў склад Эўрапейскай япархіі й заклікаў сабраць Сабор БАПЦ для калегіяльнага абмеркаваньня царкоўнага крызісу. Удзельнікі сустрэчы не захацелі прызнаць за япіскапам Ізяславам (Бруцкім) статусу ярарха БАПЦ да прыняцьця адпаведнага сабornага рашэньня, а дзеяньні мітрапаліта Андрэя (Крыта) ахарактарызавалі як супярэчныя

[267] Кендыш, Васіль, протапрасьвіцер. Хіратонія Япіскапа Ізяслава // The Byelorussian Times. № 30. 1981. С. 4—5; Новы Япіскап БАПЦарквы // The Byelorussian Times. № 29. 1981. С. 4.

[268] Session of the Council of Bishops of the BAOC // The Byelorussian Times. № 30. 1981. P. 3; Сабор Япіскапаў БАПЦ // The Byelorussian Times. № 30. 1981. С. 7.

Статуту БАПЦ. Рэакцыяй першаярарха БАПЦ на гэтыя пастановы стала адлучэньне ад Царквы найбольш актыўных парафіянаў і ўзбуджэньне ў адносінах іх новых судовых працэсаў[269]. 23 верасьня 1981 г. Вярхоўны суд штату Нью-Ёрк прызнаў незаконным рашэньне аб уваходжаньні парафіі ў склад Эўрапейскай япархіі БАПЦ і забараніў архіяпіскапу Мікалаю зьдзяйсьняць набажэнствы ў нью-ёрскім саборы. Гэтая пастанова дазволіла мітрапаліту Андрэю захаваць кантроль ня толькі над катэдральным саборам, але й над парафіяльным банкаўскім рахункам[270].

18 красавіка 1980 г. праціўнікі царкоўнай лініі мітрапаліта Андрэя (прадстаўнікі парафіяў БАПЦ Нью-Ёрку, Кліўлэнду, Дэтройту, Гайлэнд-Парку й Таронта) сустрэліся і прынялі рашэньне аб стварэньні Дарадчай камісіі пры архіяпіскапу Мікалаю, пакліканай шукаць шляхі ўрэгуляваньня канфлікту[271]. На першым паседжаньні камісіі 19 красавіка 1981 г. прынялі наступнае: 1) для аб'ектыўнага інфармаваньня беларускай грамадзкасьці аб падзеях царкоўнага жыцьця выдаваць спэцыяльны "Бюлетэнь"; 2) намагацца склікаць Сабор БАПЦ для ўрэгуляваньня царкоўных праблемаў; 3) стварыць фонд для пакрыцьця выдаткаў Дарадчай камісіі; 4) склікаць Епархіяльны сабор і абраць епархіяльную раду, якая будзе рэпрэзэнтаваць япархію і архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча)[272].

У адказ на дзеяньні прыхільнікаў архіяпіскапа Мікалая мітрапаліт Андрэй (Крыт) правёў 16 траўня 1981 г. у Нью-Ёрку чарговы Сабор япіскапаў БАПЦ. Нягледзячы на дасланае запрашэньне, кіраўнік Эўрапейскай япархіі зноў адмовіўся прысутнічаць на паседжаньні. Разглядзеўшы стан царкоўных справаў, удзельнікі Сабору абвясьцілі архіяпіскапа Мікалая адхіленым ад кіраўніцтва Эўрапейскай япархіяй БАПЦ, забаранілі яму адпраўляць багаслужбы й выключылі са складу БАПЦ за парушэньне кананічных правілаў і Статуту БАПЦ. Архіяпіскапу Мікалаю дазвалялася на працягу трыццаці дзён апэляваць да Сабору япіскапаў БАПЦ адносна адмены гэтага рашэньня. Другой

[269] Дарадчая Камісія. Закалот у БАПЦ // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3; М. У парахвіі БАПЦ у Брукліне // Беларус. № 288. 1981. С. 3; Міцкевіч і Русак адлучаныя ад Царквы // The Byelorussian Times. № 30. 1981. С. 7; Парафіяльны сход // The Byelorussian Times. № 30. 1981. С. 7; Судовая справа ў Гайлэнд Парку аднoўлена. Другі суд пачаўся ў Брукліне // The Byelorussian Times. № 29. 1981. С. 2.

[270] Зьмена ў парафіі Б.А.П.Ц. у Таронто // The Byelorussian Times. № 33. 1981. С. 6; Разбор царкоўных грошаў // The Byelorussian Times. № 36. 1982. С. 3; У царкоўнай справе ў Брукліне суд прызнаў поўную ўладу мітрапаліта // The Byelorussian Times. № 32. 1981. С. 3.

[271] Дарадчая Камісія пры Архіепіскапу Мікалаю // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3.

[272] Дарадчая Камісія пры Архіепіскапу Мікалаю.

пастановай Сабору стала пазбаўленьне ярэя Аляксандра Яноўскага сьвятарскага сану[273].

У сваю чаргу архіяпіскап Мікалай 27 чэрвеня 1981 г. апублікаваў зварот да вернікаў БАПЦ, у якім раскрытыкаваў нежаданьне першаярарха БАПЦ урэгуляваць канфлікт нутранымі сродкамі й асудзіў практыку разбору спрэчных сытуацыяў у грамадзянскіх судах, што цягнула значныя выдаткі царкоўных сродкаў. Тэкст пасланьня зьмяшчаў прамое абвінавачваньне мітрапаліта Андрэя ў парушэньні кананічных правілаў і Статуту БАПЦ, што выявілася ў адхіленьні парафіяльных радаў, вернікаў і нават самога архіяпіскапа Мікалая ад удзелу ў разьвязаньні пытаньняў царкоўнага кіраваньня[274]. Архіяпіскапа Мікалая падтрымала створаная пры ім Дарадчая камісія, якая ў ліпені 1981 г. апублікавала заяву аб незаконнасьці пастановаў, прынятых у дачыненьні кіраўніка Эўрапейскай япархіі[275].

Не абмяжоўваючыся крытыкай саборных пастановаў, прыхільнікі архіяпіскапа Мікалая заяўлялі аб непрызнаньні кананічнай легітымнасьці япіскапа Ізяслава (Бруцкага). 5 кастрычніка 1981 г. кліўлэндзкая парафіяльная рада накіравала першаярарху БАПЦ дэклярацыю, у якой не прызнавала законнасьці архірэйскага служэньня япіскапа Ізяслава[276]. Аналягічную пастанову прыняў 21 лістапада 1981 г. надзвычайны сход тарантаўскай парафіі[277].

Нарастаньне супярэчнасьцяў ва ўзаемаадносінах беларускіх архірэяў у значнай меры абумовіла лёгіку разьвіцьця нутранога жыцьця БАПЦ у апошнія гады кіраўніцтва мітрапаліта Андрэя. Імкненьне вярнуць кантроль над апазыцыйнымі парафіямі падахвочвала першаярарха да актыўных дзеяньняў, якія бачыліся ў рэгулярным правядзеньні архірэйскіх візытацыяў, набажэнстваў, прамоваў і сустрэчаў з парафіянамі. Аднак гэтая стратэгія не заўсёды была эфэктыўнай. Напрыклад, 30 жніўня 1981 г. мітрапаліт Андрэй наведаў царкву Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлэндзе, аднак прадстаўнікі парафіяльнай рады не дазволілі яму распачаць наба-

---

[273] Пастанова Сабора Епіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. 5 лютага 1983 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20; Minutes of Session of Council of Bishops of Byelorussian Autocephalic Orthodox Church. May 16, 1981 // The Byelorussian Times. № 31. 1981. P. 5.

[274] Мікалай, архіепіскап. Пасланьне Ўладыкі Мікалая, Архіепіскапа БАПЦ. 27-га чырвеня 1981 г. // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3.

[275] Парушэньне Статуту БАПЦ // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3.

[276] Кансысторыя БАПЦ. Выясьненьне й папярэджаньне да Братоў й Сёстраў парахвіянаў Парахвіі Сабору Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленд, Агаё. 31 сакавіка 1982 г.

[277] Надзвычайны агульны сход парафіі. Рэзалюцыя сходу. Таронта, 21.XI.1982 // Царкоўныя навіны. № 8. 1982. С. 2.

жэнства[278]. У сувязі з фармальным звальненьнем архіяпіскапа Мікалая зь юрысдыкцыі БАПЦ мітрапаліт Андрэй зрабіў спробу распаўсюдзіць свой уплыў на парафіі Эўрапейскай япархіі. Загадам ад 14 кастрычніка 1981 г. ён перадаў парафію Сьвятога Кірылы Тураўскага пад часовае кіраўніцтва япіскапа Ізяслава. Ужо 25 кастрычніка таго ж году апошні наведаў Таронта, але парафіяне заблякавалі яму ўваход у царкву[279].

Немалаважнай магла стаць пазыцыя Рады БНР. На паседжаньні Прэзыдыюму 20 верасьня 1981 г. старшыня Рады Вінцэнт Жук-Грышкевіч заявіў аб недапушчальнасьці ўмяшаньня ў царкоўныя справы. Аднак ня ўсе ўдзельнікі паседжаньня падзялялі ягоную пазыцыю, што не дазволіла прыняць кансалідаванага рашэньня[280].

Ініцыяваныя першаярархам судовыя працэсы клаліся цяжкім фінансавым цяжарам ня толькі на апазыцыйныя мітрапаліту Андрэю беларускія парафіі, але й на Кансысторыю БАПЦ. Да лістапада 1981 г. агульная сума выдаткаў на судовыя разборы склала амаль 50 тысячаў даляраў[281]. Нарастаньне нэгатыўных наступстваў царкоўнага супрацьстаяньня падштурхнула архіяпіскапа Мікалая зноў выступіць ініцыятарам мірнага ўрэгуляваньня. У студзені 1982 г. ён накіраваў першаярарху два адкрытыя лісты, у якіх прасіў мітрапаліта спыніць судовую справу ў адносінах парафіі ў Гайлэнд-Парку[282]. Усьведамляючы разбуральнасьць наступстваў царкоўнага расколу, архіяпіскап Мікалай на пачатку 1982 г. выставіў наступныя ўмовы аднаўленьня нутраной еднасьці БАПЦ: 1) спыненьне разгляду царкоўных справаў у грамадзянскіх судах; 2) дэзавуяваньне ўсіх пастановаў і распараджэньняў, выдадзеных падчас канфлікту; 3) усеагульнае прызнаньне япіскапа Ізяслава (Бруцкага)[283].

---

[278] Кансысторыя БАПЦ. Выясьненьне й папярэджаньне да Братоў й Сёстраў парахвіянаў Парахвіі Сабору Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленд, Агаё. 31 сакавіка 1982 г.

[279] Зьмена ў парафіі Б.А.П.Ц. у Таронто // The Byelorussian Times. № 33. 1981. С. 6; Дыктатура Пралетарыяту ў БАПЦ // The Byelorussian Times. № 36. 1982. С. 4; К. А. Чужы япіскап наведвае беларускія асяродкі // Царкоўныя навіны. 1982. № 1. С. 1.

[280] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 20 верасьня 1981 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. С. 199—200.

[281] Надзвычайны агульны сход парафіі. Рэзалюцыя сходу. Таронта, 21.XI.1982. С. 2.

[282] Другі ліст Архіепіскапа Мікалая да Мітрапаліта Андрэя. 14 студзеня 1982 г. // Беларус. № 297. 1982. С. 5; Ліст Архіепіскапа Мікалая // Беларус. № 296. 1982. С. 3.

[283] А. М. Што сталася ў БАПЦ і чаму // Царкоўныя навіны. № 2. 1982. С. 1.

Гэтая ініцыятыва не сустрэла падтрымкі мітрапаліта Андрэя, на загад якога ў студзені 1982 г. Кансысторыя апублікавала афіцыйнае паведамленьне аб незаконнасьці рэлігійнай дзейнасьці архіяпіскапа Мікалая ў юрысдыкцыі БАПЦ. Кіраўнік Эўрапейскай япархіі ігнараваў пастановы Сабору япіскапаў БАПЦ ад 16 траўня 1981 г., таму мітрапаліт Андрэй даў яму двухтыднёвы тэрмін на афіцыйны адказ[284].

Ігнаруючы прапановы аб замірэньні, 22 сакавіка 1982 г. першаярарх ініцыяваў новы судовы працэс у Вярхоўным судзе правінцыі Антарыё (Канада), дамагаючыся поўнага адхіленьня архіяпіскапа Мікалая ня толькі ад рэлігійнай дзейнасьці ў межах БАПЦ, але й ад узначаленьня беларускай парафіі ў Таронта[285]. Паралельна з гэтым мітрапаліт Андрэй і Кансысторыя БАПЦ пачалі судовую справу ў Вярхоўным судзе штату Нью-Джэрзі, абвінавачваючы архіяпіскапа Мікалая ва ўмяшаньні ў справы Амэрыканскай япархіі БАПЦ, незаконным кіраўніцтве царкоўнымі парафіямі на тэрыторыі ЗША, непрызнаньні ўлады мітрапаліта й Сабору япіскапаў. Кансысторыя прасіла судовыя ўлады забараніць архіяпіскапу Мікалаю выступаць ад імя БАПЦ і служыць у тарантаўскай парафіі. Дадаткова архіяпіскапа прымушалі перадаць усе царкоўныя архівы, фінансавыя сродкі, царкоўную маёмасьць й аплаціць судовыя выдаткі[286]. Празь дзесяць дзён, 31 сакавіка 1982 г., Кансысторыя БАПЦ заявіла аб гатовасьці ўсталяваць прававы парадак у беларускай парафіі г. Кліўлэнду, нагадаўшы парафіяльнай радзе, што ўся рухомая і нерухомая маёмасьці належыць БАПЦ[287]. Іншымі словамі, прагучала пагроза выняць у мясцовай царкоўнай грамады ўсю парафіяльную маёмасьць.

Узрушаны маштабамі разбуральных наступстваў царкоўных рознагалосьсяў, 1 траўня 1982 г. архіяпіскап Мікалай накіраваў пісьмовы зварот да першаярарха з паведамленьнем аб добраахвотным сыходзе на спакой і з просьбай аб захаваньні за ім пасады настаяцеля парафіі ў Таронта. Праз тры дні ён зрабіў заяву аб вяртаньні да служэньня

---

[284] Кендыш, Васіль, протапр. Паведамленьне Мікалаю ад Кансысторыі. 18 студзеня 1982 г. // The Byelorussian Times. № 34—35. 1981—1982. С. 8.

[285] Мітрапаліт Андрэй далей судзіцца // Беларус. № 301—302. 1982. С. 5.

[286] Выступленьне Мікалая ў Судзе ў Ню Брунсвіку // The Byelorussian Times. № 38—39. 1982. С. 4; Мікалай пад судом // The Byelorussian Times. № 38—39. 1982. С. 6.

[287] Кансысторыя БАПЦ. Выясьненьне й папярэджаньне да Братоў й Сёстраў парахвіянаў Парахвіі Сабору Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленд, Агаё. 31 сакавіка 1982 г.; Ліст сакратара Кансысторыі БАПЦ протапрасьвіцера Васіля Кендыша да іерэя Міхаіла Страпко. № 59/82 ад 31 сакавіка 1982 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. С. 2. F. 37.

ў якасьці кіраўніка япархіі, спаслаўшыся на просьбы беларускіх царкоўных грамадаў[288].

Важным этапам у царкоўным расколе БАПЦ магло стаць рашэньне судзьдзі Вярхоўнага суду штату Нью-Джэрзі Р. Коэна, які ў траўні 1982 г. заклікаў удзельнікаў супрацьстаяньня заміріцца на агульным Саборы БАПЦ[289]. Нягледзячы на гэта, пазыцыя першаярарха заставалася нязьменнай. Настойваючы на працягу судовых працэсаў, ён зрабіў рашучыя крокі да асуджэньня архіяпіскапа Мікалая ў межах царкоўнага судаводзтва. Узначалены мітрапалітам Андрэем Сабор япіскапаў БАПЦ 7 жніўня 1982 г. без удзелу архіяпіскапа Мікалая пазбавіў сану былога кіраўніка Эўрапейскай япархіі й адлучыў яго ад БАПЦ. Акрамя таго, сьвятарам БАПЦ забаранялася згадваць у часе набажэнстваў імя экскамунікаванага ярарха. Пры гэтым рэалізацыя пастановаў адкладалася, а архіяпіскапу Мікалаю прапаноўвалі пакаяцца на наступным Саборы япіскапаў[290].

Рашэньне пазбавіць сану аўтарытэтнага ў беларускім асяродзьдзі архірэя справакавала эскаляцыю супрацьстаяньня. У жніўні 1982 г. прыхільнікі архіяпіскапа Мікалая зрабілі спробу выселіць мітрапаліта Андрэя з рэзыдэнцыі першаярарха БАПЦ у г. Клі́ўлэндзе. Аднак з прычыны незалежнасьці рэзыдэнцыі ад мясцовай беларускай парафіі яна засталася ў распараджэньні мітрапаліта[291]. У кастрычніку 1982 г. актыў кліўлэндзкай парафіі адключыў падачу газу й электрычнасьці ў рэзыдэнцыю першаярарха, стварыўшы яму цяжкія побытавыя ўмовы ў пэрыяд сэзоннага пахаладаньня[292].

Не згадзіўшыся з рашэньнямі Сабору япіскапаў, 5 верасьня 1982 г. дарадчая камісія пры архіяпіскапу Мікалаю прыняла рашэньне склікаць у траўні 1983 г. Надзвычайны сабор БАПЦ[293]. Ініцыятыва агульнацаркоўнага абмеркаваньня сытуацыі пры ўдзеле ярархаў, сьвятароў і недухоўных сустрэла пазытыўны водгук з боку беларускіх парафіяў,

---

[288] Ліст Мітрапаліту й Першаму Ярарху Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўная Царквы Мітрапаліту Андрэю ад ярхіепіскапа Мікалая ад 1 травеня 1982 г. // The Byelorussian Times. № 37. 1982. С. 3; Адрачэньне ад Адрачэньня // The Byelorussian Times. № 37. 1982. С. 3; Адрачэньне Мікалая // The Byelorussian Times. № 37. 1982. С. 3.

[289] Судзьдзя прапануе склікаць Сабор БАПЦ // Беларус. № 301—302. 1982. С. 5.

[290] Пастанова Сабора Епіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. 5 лютага 1983 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20. Арк. 1.

[291] "Высялаюць" мітрапаліта // The Byelorussian Times. № 38—39. 1982. С. 6.

[292] Адшчэпнікі вымарожываюць мітрапаліта // The Byelorussian Times. № 40. 1982. С. 3.

[293] Пастанова аб скліканьні Сабору БАПЦ // Беларус. № 303—304. 1982. С. 3.

у тым ліку й прыхільнікаў першаярарха. Напрыклад, 12 верасьня 1982 г. з патрабаваньнем спыніць усе судовыя працэсы й склікаць Агульнацаркоўны сабор выступіла парафія Ўсіх Сьвятых у Лёндане[294], а 8 кастрычніка таго ж году аналягічную прапанову агучыла парафія Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе[295].

11 верасьня 1982 г. архіяпіскап Мікалай зрабіў чарговую спробу мірнага ўрэгуляваньня канфлікту й накіраваў першаярарху ліст, у якім прапанаваў спыніць разгляд царкоўных пытаньняў у судовых інстанцыях. Ён адзначаў, што сума судовых выдаткаў ужо склала дзясяткі тысячаў даляраў і клалася цяжарам на беларускія парафіі[296]. Да ліста прыкладаўся праект дамоўленасьці паміж беларускімі ярархамі, які мог стаць падставай для аднаўленьня царкоўнай еднасьці. Праект прадугледжваў вяртаньне нутранога жыцьця БАПЦ да стану студзеня 1980 г., разгляд усіх спрэчных пытаньняў выключна на паседжаньнях Рады БАПЦ (у складзе, абраным у 1972 г.), прызнаньне раўнапраўя ўсіх архірэяў БАПЦ і іх залежнасьці ад вернікаў, зацьверджаньне пастановаў Сабору БАПЦ толькі пасьля ўзгадненьня з усімі ярархамі, недапушчальнасьць разгляду царкоўных пытаньняў у грамадзянскіх судах і спыненьне ўсіх судовых працэсаў[297]. У сваім адказе ад 22 верасьня 1982 г. першаярарх паведаміў архіяпіскапу Мікалаю аб сваёй гатовасьці пачаць замірэньне. Ён абвясьціў аб скліканьні Сабору япіскапаў БАПЦ, правесьці які плянавалася 8 кастрычніка 1982 г. у Кліўлэндзе. Праграму Сабору прапаноўвалася прыняць пасьля яго адкрыцьця. Мітрапаліт Андрэй асабліва падкрэсьліваў, што архіяпіскапу Мікалаю неабходна прысутнічаць на Саборы[298]. Адказваючы на прапанову першаярарха, архіяпіскап пагаджаўся пачаць перамовы, але настойваў на іншай даце Сабору, папярэднім узгадненьні праграмы й складу ўдзельнікаў, а таксама неадкладным спыненьні ўсіх судовых разбораў[299].

---

[294] П. Н. Парахвіяльны сход у Лёндане (Ангельшчына) // Беларус. № 308—309. 1982. С. 7.

[295] Ліст Парафіяльнай Рады Парафіі Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляйдзе мітрапаліту Андрэю, архіепіскапу Мікалаю і епіскапу Ізяславу ад 8 кастрычніка 1982 г. // ББФС. Арк. 1; Ролсан, Я. Заклік да Ўладыкаў БАПЦ // Беларус. № 306—307. 1982. С. 6.

[296] Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) мітрапаліту Андрэю (Крыту) ад 11 верасьня 1982 г. // ББФС. Арк. 1.

[297] Асьветчаньне. Дадатак да ліста архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) мітрапаліту Андрэю (Крыту) ад 11 верасьня 1982 г. // ББФС. Арк. 1.

[298] Ліст мітрапаліта Андрэя (Крыта) да архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) ад 22 верасьня 1982 г. // ББФС. Арк. 1.

[299] Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да мітрапаліта Андрэя (Крыта) ад 30 верасьня 1982 г. // ББФС. Арк. 1.

Упартае нежаданьне першаярарха й Кансысторыі БАПЦ адмовіцца ад судовых працэсаў супраць парафіяў і сьвятароў спараджала новыя пратэсныя настроі. 20 верасьня 1982 г. парафія Сьвятой Тройцы ў Дораці (Нью-Джэрзі) разам з настаяцелем протаярэем Карпам Старам заявіла аб непрыманьні пазыцыі кіраўніцтва Амэрыканскай япархіі й пераходзе ў непасрэднае падпарадкаваньне архіяпіскапу Мікалаю[300].

Негатовасьць мітрапаліта Андрэя пагадзіцца на ўмовы замірэньня прывяла да таго, што архіяпіскап Мікалай адмовіўся ўзяць удзел у Саборы япіскапаў БАПЦ, які праходзіў у Кліўлэндзе 8 кастрычніка 1982 г., і прыняў пастанову аб зьмяненьні пэрсанальнага складу Рады БАПЦ[301]. Празь месяц, 8 лістапада 1982 г., кіраўнік Эўрапейскай япархіі й ягоныя прыхільнікі зь ліку выключаных сяброў Рады накіравалі першаярарху афіцыйны пратэст, у якім абвясьцілі незаконнай працу калегіяльнага органу царкоўнага кіраўніцтва ў новым складзе[302]. Адказваючы на гэтыя заявы, мітрапаліт Андрэй падкрэсьліў немагчымасьць удзелу ў паседжаньнях Рады архіяпіскапа Мікалая, бо той быў выключаны са складу БАПЦ на рашэньні Сабораў япіскапаў ад 7 сакавіка і 16 траўня 1981 г. Адсутнасьць запрашэньняў іншым асобам першаярарх БАПЦ пракамэнтаваў выключэньнем іх са складу Рады пастановай Сабору япіскапаў ад 8 кастрычніка 1982 г.[303]

На фоне паглыбленьня крызісу БАПЦ адбылася зьмена афіцыйнай пазыцыі Рады БНР у ацэнцы падзеяў царкоўнага жыцьця. Падчас паседжаньня 17-й сэсіі Рады БНР 27 лістапада 1982 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч зноў заявіў сваю прынцыповую пазыцыю аб недапушчальнасьці ўплыву сьвецкай улады на канфэсійнае жыцьцё. Аднак у сувязі з заканчэньнем другога тэрміну на пасадзе ён склаў паўнамоцтвы старшыні Рады БНР. Пасьля галасаваньня новым

[300] Ліст протаярэя Карпа Стара да архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) ад 20 верасьня 1982 г. // ББФС. Арк. 1; Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да протаярэя Карпа Стара ад 23 кастрычніка 1982 г. // ББФС. Арк. 1; Ліст Парафіяльнай Рады Парафіі Сьвятога Духу ў Дораты сакратару Кансысторыі протапрасьвітэру Васілю Кендышу ад 12 сьнежня 1982 г. // ББФС. Арк. 1; Закрываецца парахвія БАПЦ // Беларус. № 306—307. 1982. С. 6; Стар Карп, прат. Выясьненьне. Дораты, 14 сакавіка 1983 г. // Беларус. № 310. 1982. С. 6.

[301] Мікалай струсаваў // The Byelorussian Times. № 40. 1982. С. 5.

[302] Letter from archbishop Mikalay to metropolitan Andrew from November 8, 1982 // ББФС. P. 1; Letter from M. Ganko to Metropolitan Andrew from November, 1982 // ББФС. P. 1; Letter from W. Bakunovich to Metropolitan Andrew from November 15, 1982 // ББФС. P. 1.

[303] Letter from metropolitan Andrew to archbishop Mikalay from December 2, 1982 // ББФС. P. 1.

старшынём быў абраны Язэп Сажыч, сябра Дарадчай камісіі пры архіяпіскапу Мікалаю[304]. Пад кіраўніцтвам новага старшыні ўдзельнікі паседжаньня абмеркавалі прапанову сябры Рады Расьціслава Гарошкі (роднага брата адваката Валянціна Гарошкі, які рэпрэзэнтаваў інтарэсы мітрапаліта Андрэя) прыняць пастанову, што афіцыйна асуджала б дзеяньні апанэнтаў першаярарха БАПЦ. Акрамя таго, сябраў Рады БНР, якія падтрымалі архіяпіскапа Мікалая, прапаноўвалася адхіліць ад працы на адзін год, а пры далейшым захаваньні імі абранай пазыцыі канчаткова выключыць са складу Рады[305]. Язэп Сажыч адзначыў, што прыняцьце прапановы Расьціслава Гарошкі яшчэ больш разбурыць царкоўнае жыцьцё[306]. Пасьля абмену меркаваньнямі й галасаваньня ўдзельнікі паседжаньня адхілілі праект пастановы й прынялі рашэньне накіраваць ад імя Прэзыдыюму Сэсіі Рады БНР зварот да мітрапаліта Андрэя з просьбай спыніць усе судовыя працэсы й пачаць мірнае ўрэгуляваньне ўнутрыцаркоўных разнагалосьсяў[307].

Вынікі 17-й Сэсіі не маглі задаволіць тых сябраў Рады БНР, якія падтрымлівалі пазыцыю першаярарха БАПЦ, што падштурхнула іх выйсьці са складу арганізацыі[308]. Вынікам стаў пераход Рады БНР з пазыцыяў нэўтралітэту да падтрымкі архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча). Акрамя Рады БНР, на працягу 1982—1983 гг. з архіяпіскапам Мікалаем актыўна ўзаемадзеяла Арганізацыя беларуска-амэрыканскай моладзі, Згуртаваньне беларусаў Канады й Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне[309]. Нягледзячы на дэманстрацыю беларускімі арганізацыямі сваёй пазыцыі ў царкоўным пытаньні, першаярарх і Кансысторыя

---

[304] Пратакол 17-ай Звычайнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970—1982). С. 204, 212; Дарадчая Камісія пры Архіепіскапу Мікалаю // Беларус. № 290—291. 1981. С. 3.

[305] Прапанова пастановы 17-й Сэсіі Рады БНР // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970—1982). С. 216—217; Пратакол 17-ай Звычайнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г. С. 214.

[306] Пратакол 17-ай Звычайнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г. С. 214.

[307] Пратакол 17-ай Звычайнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г. С. 214—216; Зварот Рады БНР да Мітрапаліта Андрэя // Беларус. № 306—307. 1982. С. 6.

[308] Справаздача Старшыні Рады БНР Я. Сажыча // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1982—1997). С. 86.

[309] Азарка, Янка. Архіепіскап Мікалай на сьвяце ў Нью Ёрку // Царкоўныя навіны. № 5. 1982. С. 2; Акула, Кастусь. Ушанавалі старшыняў Рады БНР // Беларус. № 308—309. 1982. С. 1.

БАПЦ да пачатку 1983 г. вялі ў адносінах прыхільнікаў архіяпіскапа Мікалая каля 10 судовых працэсаў[310].

Чарговым крокам у паглыбленьні канфлікту стаў афіцыйны зварот мітрапаліта Андрэя ад 4 студзеня 1983 г., які паведамляў архіяпіскапу Мікалаю аб неабходнасьці прыбыць на паседжаньне Сабору япіскапаў БАПЦ 5 лютага таго ж году ў Нью-Ёрку дзеля пазбаўленьня яго архірэйскага сану. Падставамі для таго называліся адмова ад удзелу ў Саборах япіскапаў і ігнараваньне іх пастановаў, парушэньне кананічных правілаў і Статуту БАПЦ, няпраўдзівае сьведчаньне ў грамадзянскім судзе супраць першаярарха й япіскапа БАПЦ, падбухторваньне вернікаў да бунту супраць свайго архірэя й *“пашырэньне фальшывай дактрыны пра прымат вернікаў перад духавенствам”*[311].

Рэагуючы на такое разьвіцьцё падзеяў, 12 студзеня 1983 г. архіяпіскап Мікалай абвясьціў аб рыхтаваньне Надзвычайнага сабору БАПЦ, сфармаваў Перадсаборную камісію й разаслаў запрашэньні да ўдзелу ў саборных паседжаньнях[312]. 23 лютага 1983 г. архіяпіскап Мікалай апублікаваў адкрыты зварот, у якім тлумачыў сваю пазыцыю ў беларускім унутрыцаркоўным канфлікце. Асудзіўшы практыку звароту ў грамадзянскія суды для разгляду царкоўных справаў, ён называў яе сьведчаньнем страты мітрапалітам Андрэем кантролю над царкоўным жыцьцём. Пазыцыянуючы сябе намесьнікам старшыні Рады БАПЦ і апэлюючы да царкоўнага Статуту, аўтар звароту заявіў аб гатовасьці рэалізаваць прадпісаныя яму паўнамоцтвы адносна скліканьня Сабору БАПЦ у выпадку сьмерці альбо недзеяздольнасьці першаярарха. Адначасова з гэтым архіяпіскап Мікалай згадваў атрыманыя ім звароты парафіяў і вернікаў БАПЦ зь Нью-Ёрку, Гайлэнд-Парку, Кліўлэнду, Дэтройту, Таронта й Адэляйды, а таксама рэкамэндацыі Дарадчай

---

[310] Зварот Архіепіскапа БАПЦ Мікалая Найпачасьнейшаму Мітрапаліту БАПЦ Андрэю, Дастойнаму Духавенству БАПЦ, Хвальным Парахвіяльным Радам і ўсім вернікам БАПЦ. 23 студзеня 1983 г. // Беларус. № 308—309. 1982. С. 7; Надзвычайны сход у Кліўленьдзе (ЗША) // Беларус. № 308—309. 1982. С. 6.

[311] Мітрапаліт Андрэй, Першагэрарх БАПЦ, архіепіскапу Мікалаю. Позва ад 4 студзеня 1983 г. // ББФС. Арк. 1—2; The Most Rev. Metropolitan Andrew, Primate of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church, to Archbishop Mikalay. Summons. January 4, 1983 // ББФС. P. 1—2.

[312] Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да А. Лысюка ад 12 студзеня 1983 г. // ББФС. Арк. 1; Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да ярэя Аўгена Сітніка ад 18 студзеня 1983 г. // ББФС. Арк. 1; Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да протапрэсьвітэра Аўгена Смаршчка ад 18 студзеня 1983 г. // ББФС. Арк. 1; Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да протаярэя Яна Абабуркі ад 18 студзеня 1983 г. // ББФС. Арк. 1; Ліст архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) да Ўладыслава Курылы ад 12 студзеня 1983 г. // ББФС. Арк. 1.

камісіі адносна скліканьня Сабору БАПЦ. Прызначыўшы правядзеньне Надзвычайнага сабору БАПЦ на 28—30 траўня 1983 г., ярарх назваў галоўнай яго мэтай вяртаньне царкоўнага жыцьця да прадпісаньняў Статуту БАПЦ і аднаўленьне царкоўнага міру. Пры гэтым ён запрашаў да ўдзелу ў Саборы прадстаўнікоў усіх парафіяў БАПЦ і ўсіх сябраў Рады БАПЦ, сфармаванай у 1972 г.[313]

Заплянаванае на 5 лютага 1983 г. паседжаньне Сабору япіскапаў БАПЦ з удзелам мітрапаліта Андрэя й япіскапа Ізяслава адбылося ў катэдральным саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Вынікам стала зацьвярджэньне пастановы Сабору япіскапаў БАПЦ ад 7 жніўня 1982 г. адносна пазбаўленьня сану й адлучэньня ад БАПЦ архіяпіскапа Мікалая. Духавенству БАПЦ забаранялася дачыняцца з былым архірэем і згадваць ягонае імя падчас набажэнстваў. Акрамя агучаных раней абвінавачаньняў, архіяпіскапу Мікалаю ставілася ў віну самавольнае скліканьне Надзвычайнага сабору БАПЦ[314]. На наступны дзень, 6 лютага 1983 г., мітрапаліт Андрэй выдаў загад усім сьвятарам, парафіяльным радам і вернікам БАПЦ устрымацца ад удзелу ў Надзвычайным саборы БАПЦ[315]. 5 сакавіка 1983 г. Сабор япіскапаў БАПЦ апублікаваў пасланьне да сьвятароў і беларускага народу з асуджэньнем дзеяньняў архіяпіскапа Мікалая й заклікам устрымацца ад удзелу ў Надзвычайным саборы[316].

Афіцыйная пазыцыя першаярарха й Сабору япіскапаў БАПЦ пазбаўляла Надзвычайны сабор агульнацаркоўнага характару й непазьбежна вяла да адмовы ад удзелу ў ім значнай часткі парафіяў і сьвятароў. Напрыклад, 9 сакавіка 1983 г. з асуджэньнем Надзвычайнага сабору выступіў адміністратар БАПЦ у Эўропе протапрэсьвітар Аўген Смаршчок[317], 13 сакавіка 1983 г. парафія Трох Віленскіх Пакутнікаў

---

[313] Зварот Архіепіскапа БАПЦ Мікалая Найпачасьнейшаму Мітрапаліту БАПЦ Андрэю, Дастойнаму Духавенству БАПЦ, Хвальным Парахвіяльным Радам і ўсім вернікам БАПЦ ад 23 студзеня 1983 г. // Беларус. № 308—309. 1982. С. 7.

[314] Пастанова Сабора Епіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. 5 лютага 1983 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20.

[315] Пастанова Сабора Епіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. 5 лютага 1983 г.; Распараджэньне Мітрапаліта высокадастойным настаяцелям, Парафіяльным Радам і багалюбным вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. 6 лютага 1983 г. // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 8—9.

[316] Пасланьне Сабору Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным вернікам народу беларускага. 5 сакавіка 1983 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20.

[317] Асьведчаньне д-ра Аўгена Смаршчка, Кіраўніка БАПЦ на Эўропу. 9 сакавіка 1983 г. // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 25.

у Мэльбурне[318] і парафія Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе[319], 10 красавіка 1983 г. парафія Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку[320], 19 красавіка 1983 г. адміністратар БАПЦ у Вялікабрытаніі протаярэй Ян Абабурка[321].

Не абмяжоўваючыся публікацыяй пасланьняў, першаярарх і Кансысторыя рабілі больш рашучыя захады ў дачыненьні апазыцыйна настроеных царкоўных грамадаў. 12 траўня 1983 г. сакратар Кансысторыі протапрэсьвітар Васіль Кендыш аформіў продаж парафіяльнай маёмасьці парафіі Сьвятога Духу ў г. Дораці новаўтворанаму Місійнаму згуртаваньню БАПЦ у Амэрыцы. Кіраўніком Згуртаваньня, які набыў парафіяльную нерухомасьць па заніжаным кошце, быў адвакат Валянцін Гарошка, прадстаўнік інтарэсаў першаярарха БАПЦ на судовых працэсах[322]. Названы факт даў падставы прыхільнікам архіяпіскапа Мікалая публічна абвінавачваць сакратара Кансысторыі ў аплаце паслугаў адваката праз перадачу яму царкоўнай маёмасьці[323]. Праз месяц Місійнае згуртаваньне распачало судовы разгляд у адносінах настаяцеля парафіі протаярэя Карпа Стара, патрабуючы спагнаць зь яго 105 тысячаў даляраў[324]. Страта парафіяльнай грамадой царкоўнага будынку й іншай маёмасьці пацягнула за сабой фактычнае спыненьне дзейнасьці беларускай парафіі Сьвятога Духу ў г. Дораці.

## 7. Раскол Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў 1983—1991 гг.

Вясной 1983 г. рэзка пагоршыўся стан здароўя 82-гадовага першаярарха БАПЦ мітрапаліта Андрэя (Крыта). Ён памёр 21 траўня 1983 г.

---

[318] Пастанова Парахвіяльнай Рады парахвіі Віленскіх Мучанікаў Сьв. БАПЦарквы ў Мэльбурне, Аўстралія. 13 сакавіка 1983 г. // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 25—26.

[319] З пратаколу № 3 Спэцыяльнага агульнага сходу парахвіян парафіі Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла БАПЦ у Адэлайдзе, Паўдзённая Аўстралія, ад 13-га сакавіка 1983 году // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 26.

[320] Пастанова Агульнага гадавога сходу парахвіянаў у Брукліне. 10 красавіка 1983 г. // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 25.

[321] Абабурка, Янка, протаіерэй. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Настаяцель БАПЦарквы ў Вялікай Брытаніі. 19 красавіка 1983 г. // Голас Царквы. № 54. 1983. С. 26—27.

[322] Зьліквідавалі другую парафію // Царкоўныя навіны. № 6 (14). 1983. С. 2.

[323] Царкоўная маёмасьць // Царкоўныя навіны. № 7 (15). 1983. С. 1.

[324] Тамсама.

у часе лячэньня ў мэдычным цэнтры г. Нью-Брансўік[325]. Праз тыдзень пасьля ягонага сыходу распачаў працу заплянаваны яшчэ раней Надзвычайны сабор БАПЦ, скліканы архіяпіскапам Мікалаем (Мацукевічам).

Паседжаньні Надзвычайнага сабору адбываліся 28—29 траўня 1983 г. у Кліўлэндзе пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Мікалая й з удзелам прадстаўнікоў васьмі з дванаццаці парафіяў БАПЦ[326]. Канстатуючы глыбокі царкоўны крызіс, Сабор усклаў адказнасьць за яго на нябожчыка мітрапаліта Андрэя й Кансысторыю БАПЦ. Усе кананічныя санкцыі ў адносінах архіяпіскапа Мікалая й ягоных пасьлядоўнікаў прызнаваліся незаконнымі, а хіратонія япіскапа Ізяслава (Бруцкага) абвяшчалася пазбаўленай кананічнай легітымнасьці. Ухваліўшы дзеяньні архіяпіскапа Мікалая падчас царкоўнага крызісу, удзельнікі паседжаньня абралі яго першаярархам БАПЦ да часу скліканьня чарговага Сабору БАПЦ, заплянаванага на травень 1984 г.[327]

Па выніках Надзвычайнага сабору 31 траўня 1983 г. архіяпіскап Мікалай апублікаваў архіпастырскае пасланьне, у якім заклікаў вернікаў да перагляду унутрыцаркоўных узаемаадносінаў, замірэньня й малітоўнага ўспаміну на працягу сарака дзён памерлага мітрапаліта Андрэя. Найважнейшым крокам да аднаўленьня парушанай царкоўнай еднасьці архіяпіскап Мікалай бачыў спыненьне ўсіх разбораў царкоўных спрэчак у грамадзянскіх судах і гатовасьць да ўзаемнага прабачэньня[328].

Апанэнты архіяпіскапа Мікалая не прызналі яго першаярархам БАПЦ. 9 чэрвеня 1983 г. Кансысторыя БАПЦ апублікавала заяву аб прыняцьці архіяпіскапам Ізяславам (Бруцкім) паўнамоцтваў перша-

[325] Ліст архіяпіскапа Ізяслава (Бруцкага) да С. Хмары. 8 чэрвеня 1983 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20; Consistory of the BAOC. Announcement. June 9, 1983. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20; Памёр мітрапаліт Андрэй // Царкоўныя навіны. № 5 (13). 1983. С. 2; Памёр Мітрапаліт БАПЦ Андрэй // Беларус. № 311. 1983. С. 1.

[326] Надзвычайны Сабор БАПЦ // Беларус. № 311. 1983. С. 1.

[327] Пастановы Надзвычайнага Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што адбыўся 28—30 травеня 1983 г. у Кліўлендзе, штат Агаё, ЗША // Беларус. № 311. 1983. С. 1; Пратакол рэзалюцыйнай камісіі Надзвычайнага Сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, што адбыўся ў днях 28—30 травеня 1983 году ў Кліўленд, Огаё // Царкоўныя навіны. № 6 (14). 1983. С. 1—2; Надзвычайны Сабор БАПЦ // Беларус. № 311. 1983. С. 1.

[328] Архіепіскап Мікалай, Першы Ерарх БАПЦ. Архіпастырскі ліст ад 31 травеня 1983 г., Канада // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20; Архіепіскап Мікалай, Першы Гіерарх БАПЦ. Архіпастырскі ліст. 31 травеня 1983 г. // Беларус. № 311. 1983. С. 1.


Архіяпіскап Ізяслаў (Бруцкі)

ярарха да часу правядзеньня чарговага Сабору БАПЦ[329]. Архіяпіскап Ізяслаў адхіліў прымірэнчую ініцыятыву архіяпіскапа Мікалая, наступным чынам камэнтуючы сваё рашэньне: *“Заклікае да еднасьці той, што спрычыніўся, каб еднасьці ня было, а толькі шырыць прапаганду, што ён хоча мірыцца. Як жа мы можам мірыцца, з кім? Ён больш ня ёсьць Епіскапам БАПЦ і ніколі не будзе. Нам здраднікаў у Царкве, у яе іерархіі не патрэбна. […] Цяпер ён хоча, каб справа Царквы была вынятая з судоў, але гэтага мы цяпер ня зробім. Злачынцам страшны суд, а нам няма чаго баяцца суду”*[330]. У канцы 1983 г. архіяпіскап Мікалай перадаў архіяпіскапу Ізяславу прапанову сустрэцца для абмеркаваньня шляхоў выхаду з унутрыцаркоўнага крызісу, аднак апошні зноў не пажадаў пачаць перамовы[331].

Прынцыпова іншую пазыцыю занялі беларускія грамадзка-палітычныя арганізацыі. 4 верасьня 1983 г. Прэзыдыюм Рады БНР заявіў аб падтрымцы архіяпіскапа Мікалая, накіраваўшы яму афіцыйнае прывітаньне ў сувязі з прыняцьцем паўнамоцтваў першаярарха БАПЦ[332]. Практычна аднfamчасова з гэтым 3—4 верасьня 1983 г. Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня адрасаваў архіяпіскапу Мікалаю афіцыйнае прывітаньне як першаярарху БАПЦ[333].

Прысваеньне архіяпіскапамі Мікалаем (Мацукевічам) і Ізяславам (Бруцкім) статусу першаярархаў БАПЦ фактычна завяршыла працэс расколу. Канчатковае замацаваньне падзелу адбылося праз год, калі пасьлядоўнікі кожнай з царкоўных групаў калегіяльна санкцыянавалі царкоўна-ерархічнае становішча сваіх лідараў. Рашэньнем Трэцяга Сабору БАПЦ 26—29 траўня 1984 г. у Манчэстэры архіяпіскап Ізяслаў зацьвярджаўся ў званьні першаярарха БАПЦ з узьвядзеньнем у сан мітрапаліта, а архіяпіскап Мікалай абвяшчаўся пазбаўленым сану й адлучаным ад царкоўнага жыцьця[334]. Рыхтуючыся да Сабору, архіяпіскап

[329] Consistory of the BAOC. Announcement. June 9, 1983. LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20.

[330] Ліст архіяпіскапа Ізяслава (Бруцкага) да С. Хмары. 1983 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20.

[331] Ліст архіяпіскапа Ізяслава (Бруцкага) да С. Хмары ад 4 студзеня 1984 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20.

[332] У Прэзыдыюме Рады БНР // Беларус. № 311. 1983. С. 1.

[333] Кангрэс БАЗА вітае Першага Ярарха // Царкоўныя навіны. № 7 (15). 1983. С. 2.

[334] Resolution of the Third General Convention of the Byelorussian Autocephalous Orthodox Church. May 28, 1984 // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2.

Ізяслаў апублікаваў пасланьне ад 5 лютага 1984 г., у якім забараняў праваслаўным беларусам пад пагрозай анатэмы браць удзел у Трэцім Саборы БАПЦ, які арганізоўвалі прыхільнікі архіяпіскапа Мікалая[335]. Нягледзячы на грознае папярэджаньне, 26—27 траўня 1984 г. у Кліўлэндзе адбыўся альтэрнатыўны Трэці Сабор БАПЦ, які зацьвердзіў архіяпіскапа Мікалая ў статусе першаярарха БАПЦ, адзначыўшы неабходнасьць ужываньня калегіяльнага прынцыпу кіраваньня царкоўным жыцьцём і прызнаўшы нядзейснымі ўсе кананічныя забароны, прынятыя апанэнтамі[336].

Вынікам згаданых падзеяў стала ўзьнікненьне дзьвюх самастойных рэлігійных арганізацыяў, якія ўзводзілі сваю гістарычную пераемнасьць ад Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы й заставаліся ў жорсткім супрацьстаяньні адна з адной. БАПЦ юрысдыкцыі мітрапаліта Ізяслава (Бруцкага) уключала ў свой склад 6 парафіяў на тэрыторыі Вялікабрытаніі, 2 парафіі ў ЗША й 3 парафіі ў Аўстраліі. БАПЦ юрысдыкцыі архіяпіскапа Мікалая (Мацукевіча) аб'ядноўвала 3 парафіі ў ЗША й 1 парафію ў Канадзе. У выніку разьвіцьця канфлікту адна парафія на тэрыторыі ЗША спыніла сваё існаваньне. Прамым наступствам расколу й зьвязанага зь ім фінансавага спусташэньня многіх беларукіх парафіяў у дыяспары стала негатовасьць БАПЦ да распаўсюджаньня сваёй дзейнасьці на тэрыторыі Беларусі ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. Як адзначаў у адным з сваіх прыватных лістоў мітрапаліт Ізяслаў, у 1989 г. мітрапаліт Мсьціслаў (Скрыпнік) заклікаў яго ўзяць прыклад з Украінскай праваслаўнай царквы ў ЗША й дыяспары, якая актыўна падтрымоўвала ўкраінскі аўтакефальны рух на бацькаўшчыне. Аднак у гэты час беларускі ярарх не знаходзіў ні

F. 37; Resolution. Adopted at the General Convention of the BOAC concerning the defrocked and expelled former Archbishop, Michael Macukevich // The Byelorussian Times. № 46. 1984. P. 1, 3; З рэлігійнага жыцьця на чужыне. Манчэстэр, Англія // Інфармацыйны бюлетэнь Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. № 2. 1984. С. 2—3; Манькоўскі, П. Трэйці Сабор Б.А.П.Ц. // The Byelorussian Times. № 46. 1984. С. 5.

335 Архіепіскап Ізяслаў, Дзеючы Першагерарх БАПЦ. Архіпастырскае пасланьне. 5 лютага 1984 г. // БДАМЛМ. Фонд Дз. Касмовіча. Воп. 1. Спр. 48. Арк. 1—1 (адв.).

336 Архіепіскап Мікалай, Першы Ерарх БАПЦ. Архіпастырскае Пасланьне дастойнаму духавенству, хвальным Парахвіяльным Радам і ўсім вернікам БАПЦ ад 5 чэрвеня 1984 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. С. 2. F. 37.; 3-ці Сабор БАПЦ // Беларус. № 317. 1984. С. 1; 3-ці Звычайны Сабор БАПЦ // Беларус. № 320. 1984. С. 1; 3-ці Звычайны Сабор БАПЦ // Беларус. № 321. 1984. С. 2; Трэці Сабор Б.А.П.Ц. // Царкоўныя навіны. № 3 (19). 1984. С. 1; Трэці Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы // Царкоўныя навіны. № 3 (19). 1984. С. 2.

фінансавых, ні адміністрацыйных рэсурсаў для рэалізацыі гэтай рэкамэндацыі[337]. Такім чынам, нэгатыўныя наступствы царкоўнага расколу значна аслабілі БАПЦ і пазбавілі яе магчымасьці пачаць пашырэньне сваёй дзейнасьці ў межах Беларусі. Гэтая акалічнасьць добра тлумачыць адрозьненьне беларускага і ўкраінскага сцэнароў канфэсійнага разьвіцьця за апошняе дзесяцігодзьдзе XX ст.

[337] Ліст мітрапаліта Ізяслава (Бруцкага) да С. Хмары. № 50/89/К3 ад 12 чэрвеня 1989 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 20.

*Тэма нумару: Царква на эміграцыі*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# БЕЛАРУСЫ Й ПОЛЬСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА НА ЧУЖЫНЕ ПАДЧАС ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ І Ў ПАВАЕННЫ ЧАС

## Уводзіны

Міжваенная польская дзяржава вызначалася надзвычай стракатым нацыянальным і рэлігійным складам. Паводле колькасьці вернікаў другім пасьля каталіцызму веравызнаньнем у краіне было праваслаўе. Сярод амаль 4-мільённай праваслаўнай супольнасьці звыш паловы складалі беларусы. У сувязі з гэтым неаспрэчны факт, што гісторыя польскага праваслаўя ёсьць неад'емнай часткай беларускай рэлігійнай гісторыі ХХ ст. Мэта гэтай публікацыі — асьвятленьне ўдзелу беларусаў у дзейнасьці Польскай праваслаўнай царквы на чужыне ў часе Другой сусьветнай вайны, а таксама пасьля яе заканчэньня.

Каб зразумець прычыны ўзьнікненьня ў гады вайны эміграцыйных рэлігійных структураў пад эгідай польскага праваслаўя, неабходна прыгадаць асноўныя моманты, зьвязаныя з даваеннай гісторыяй Праваслаўнай царквы ў Польшчы. У першыя гады незалежнасьці польскай дзяржавы яна фармальна працягвала быць часткай Маскоўскага патрыярхату, але ва ўмовах ваеннай і рэвалюцыйнай завірухі ў Расеі першаярарх Расейскай праваслаўнай царквы (РПЦ) ня быў у стане ёй кіраваць. Улады ў Варшаве імкнуліся да таго, каб праваслаўе ў межах іх дзяржавы было не залежным ад замежных царкоўных цэнтраў. Пасьля таго, як маскоўскі патрыярх Ціхан (Бялавін) адмовіўся надаць Праваслаўнай царкве ў Польшчы незалежнасьць, польскі ўрад зьвярнуўся да Канстантынопалю. 13 лістапада 1924 г. усяленскі патрыярх Рыгор VII выдаў томас, у якім надаў аўтакефалію Праваслаўнай царкве ў Польшчы. Новая памесная царква атрымала назву — Польская аўтакефальная праваслаўная царква (ПАПЦ), а ейным ачольнікам стаў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Дыяніс (Валядзінскі). Абвяшчэньне польскай аўтакефаліі ня выклікала су-

праціву іншых аўтакефальных цэркваў, акрамя РПЦ, кіраўніцтва якой лічыла яе нekананічнай[1].

Пачатак Другой сусьветнай вайны стаў сапраўдным выпрабаваньнем для ПАПЦ, якая ў верасьні 1939 г. падзяліла лёс польскай дзяржавы. У новай палітычнай рэчаіснасьці ПАПЦ як арганізацыя фактычна перастала існаваць, а ейныя даваенныя структуры апынуліся ў межах розных царкоўных юрысдыкцыяў. На захопленай немцамі тэрыторыі цэнтральнай Польшчы ў 1940 г. была створана Праваслаўная аўтакефальная царква ў Генэральным губэрнатарстве на чале зь мітрапалітам Дыянісам. Праваслаўныя парафіі на далучаных да Трэцяга Райху абшарах на захадзе краіны былі падначаленыя бэрлінскай мітраполіі Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой (РПЦЗ). Аднак пераважная большасьць парафіяў (1,5 тыс.) і вернікаў (3,9 млн даваеннай ПАПЦ апынулася пад савецкім панаваньнем — у Заходняй Беларусі й Заходняй Украіне. Са згоды савецкага кіраўніцтва яны былі падпарадкаваныя Маскоўскаму патрыярхату[2]. Пасьля заняцьця вэрмахтам улетку 1941 г. заходнебеларускага й заходнеўкраінскага абшару адбыліся чарговыя зьмены. Дзеля аслабленьня расейскіх уплываў на тутэйшае насельніцтва Бэрлін падтрымаў памкненьні беларусаў і ўкраінцаў да стварэньня ўласных аўтакефальных царкоўных структураў, што знайшло сваё адлюстраваньне ў адраджэньні Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (УАПЦ) і спробе абвяшчэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ)[3].

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што ані Нямеччына, ані СССР не лічыліся з даваенным статусам ПАПЦ, ствараючы на захопленых тэрыторыях новую царкоўную рэчаіснасьць, якая адпавядала іх геапалітычным мэтам. Адзіным абаронцам даваеннага царкоўнага статусу ў тагачасных межах быў польскі эміграцыйны ўрад у Лёндане. З гледзішча польскіх інтарэсаў абарона аўтакефаліі мела істотнае палітычнае значэньне, паколькі была зьвязаная са змаганьнем за даваенную ўсходнюю мяжу. Аднак эміграцыйныя ўлады валодалі мінімальным уплывам на становішча царквы ў акупаванай краіне. У сувязі з гэтым яны засяродзіліся на інфармацыйнай працы, мэтай якой было непрызнаньне праваслаўным сьветам зьменаў, якія ажыцьцяўлялі Бэрлін і Масква ў дачыненьні ПАПЦ. Праца вялася на лініі польскіх

[1] Papierzyńska-Turek, Małgorzata. Między tradycją a rzeczywistością. Państwo wobec prawosławia 1918—1939. Warszawa, 1989. S. 120—131.

[2] Mironowicz, Antoni. Kościół prawosławny w Polsce. Białystok, 2006. S. 656—657.

[3] Цыпин, Владислав. История Русской Православной Церкви 1917—1997. Москва, 1997; Шкаровский, Михаил. Крест и свастика. Нацисцкая Германия и Православная Церковь. Москва, 2007; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. Ню Ёрк, 1956. С. 80—139.

дыпляматычных прадстаўніцтваў, на тэрыторыі якіх разьмяшчаліся памесныя праваслаўныя цэрквы[4]. У гэтую акцыю заангажаваўся таксама япіскап Гарадзенска-Наваградзкі Сава (Саветаў), які ў 1939 г. апынуўся на эміграцыі. У гады вайны ўладыка быў адзіным ярархам даваеннай ПАПЦ, які дзейнічаў ад ейнага імя, паколькі астатнія япіскапы засталіся на тэрыторыі, кантраляванай нямецкімі й савецкімі ўладамі. Невыпадкова ярарх увайшоў у гісторыю як кіраўнік польскага праваслаўнага душпастырства на чужыне[5]. Вынікам супольных захадаў польскіх дыпляматаў і япіскапа Савы было тое, што ў сакавіку 1940 г. Сынод Усяленскага патрыярхату асудзіў зьмену царкоўнай юрысдыкцыі ў акупаванай Польшчы й прызнаў даваенны статус ПАПЦ як адзіна кананічны[6]. Важным хаўрусьнікам польскіх уладаў у змаганьні за даваенны статус ПАПЦ была англіканская царква. Клопат англіканаў у значнай ступені абумоўліваўся пэўным збліжэньнем паміж праваслаўнай і англіканскай цэрквамі, якое назіралася на пачатку XX ст. Акрамя таго, англіканскі бок у супрацоўніцтве з праваслаўнымі цэрквамі намагаўся нэўтралізаваць нямецкія ўплывы на Балканах[7].

Пазбаўленыя магчымасьці ўплываць на царкву ў акупаванай Польшчы, эміграцыйныя ўлады стараліся забясьпечыць належную духоўную апеку польскім грамадзянам праваслаўнага веравызнаньня, якія апынуліся на чужыне.

## Вайсковае душпастырства ў Польскіх узброеных сілах на Захадзе

Падзеі верасьня 1939 г. сталі пачаткам бясконцай ваеннай вандроўкі сотняў тысячаў жыхароў Заходняй Беларусі. У выніку сталінскіх рэпрэсіяў у 1940—1941 гг. углыб СССР было дэпартавана 120 тыс. чалавек, у тым ліку ня менш як 25 тыс. беларусаў. Апрача таго, у савецкіх

---

[4] List E. Raczyńskiego do MSZ. 14 III 1940 // Instytut Polski i Muzeum im. gen. Sikorskiego (IPMS). Sygn.: A.12.252/2.

[5] Arcybiskup generał brygady Sawa (Jerzy Sowietow). Wybór dokumentów. Białystok — Warszawa, 1997; IPMS. Sygn.: A.12.252/2. Sprawozdanie bp. Sawy z pobytu w Belgradzie. 11 III 1940; Тамсама. Sprawozdanie bp. Sawy z pobytu w Stambule (11—18 maja), 27 V 1940.

[6] Гл.: Grzybowski, Jerzy. W służbie Rzeczypospolitej. Duszpasterstwo wojskowe wyznania prawosławnego w Wojsku Polskim w latach 1919—1949. Warszawa, 2016. S. 237—245.

[7] The Orthodox Eastern Church in Poland. Past and Present. 1942 // The Lamberth Palace Library — The Church of England Record Centre (LPL CERC). CFR CFR DOC1/260.; List ks. kanonika J. A. Douglasa do Ambasady RP w Londynie. 30 XI 1939 // IPMS. Sygn.: A.12.252/2.

лягерах утрымліваліся тысячы беларусаў — ваеннапалонных польскага войска. На лёс гэтых людзей мела вырашальны ўплыў наладжваньне ў ліпені 1941 г. дыпляматычных адносінаў паміж СССР і польскім эміграцыйным урадам. У працяг гэтага пагадненьня ў жніўні 1941 г. савецкі бок абвесьціў амністыю для даваенных польскіх грамадзянаў, якія заставаліся ў сталінскіх вязьніцах і спэцпасяленьнях. Адначасова распачалося фармаваньне Польскай арміі ў СССР пад камандаваньнем генэрала Ўладыслава Андэрса. Добраахвотнікаў было вельмі шмат, паколькі ў далучэньні да польскага войска былыя вязьні бачылі адзіную магчымасьць уратаваньня ад сталінскага пекла. На падставе польска-савецкага паразуменьня ўвесну і ўлетку 1942 г. Польская армія ў СССР была эвакуяваная ў Іран. Агулам на іранскай зямлі апынуліся звыш 78 тыс. польскіх вайскоўцаў. На Сярэднім Усходзе адбылася рэарганізацыя польскіх вайсковых аддзелаў, у выніку якой у 1943 г. быў створаны 2-гі Польскі корпус (камандуючы — генэрал Уладыслаў Андэрс). Менавіта гэтае фармаваньне ў 1944—1945 гг. у складзе 8-й Брытанскай арміі ўзяло ўдзел у баях на італьянскім фронце, у тым ліку ў бітве за Монтэ-Касіна (травень 1944 г.). 2-гі корпус быў часткай Польскіх узброеных сілаў на Захадзе (ПУСЗ), якія ў палітычным сэнсе падпарадкоўваліся польскім эміграцыйным уладам, а ў апэратыўным — брытанскаму камандаваньню. Агулам у часе Другой сусьветнай вайны ПУСЗ налічвалі каля 200 тыс. чалавек, якія змагаліся ў Італіі, Францыі, Галяндыі, Бэльгіі, Паўночнай Афрыцы і г. д.[8]

У складзе ПУСЗ былі некалькі тысячаў беларусаў, дакладную колькасьць якіх з шэрагу прычынаў вызначыць немагчыма. Найбольш яскравым сьведчаньнем прысутнасьці нашых суродзічаў у шэрагах ПУСЗ была прыналежнасьць да праваслаўнага веравызнаньня, дзякуючы чаму можна акрэсьліць мінімальную лічбу беларусаў у вайсковых шэрагах. У складзе ПУСЗ у 1941—1947 гг. служылі каля 4 тыс. вайскоўцаў праваслаўнага веравызнаньня. Аналіз асабовых зьвестак гэтых вайскоўцаў дазваляе меркаваць, што звыш 90 % сярод іх складалі беларусы і ўраджэнцы Беларусі. Вернікі праваслаўнага веравызнаньня складалі другую ў колькасьці (пасьля рыма-каталікоў) рэлігійную групу сярод польскіх жаўнераў. Найбольш праваслаўных служыла ў 2-м корпусе, дзе іх лічба вагалася ад 2066 (у студзені 1945 г.) да 2801 (у кастрычніку 1945 г.). На заходніх франтох Другой сусьветнай вайны палеглі звыш 200 праваслаўных жаўнераў (7 % агульных стратаў ПУСЗ). Іх магілы параскіданыя па розных кутках сьвету: у Італіі, Францыі, Галяндыі, Нямеччыне, на Атлянтыцы й г. д. За ўдзел у баях на Апэнінскім паўвостраве ажно 316 праваслаўных

[8] Грыбоўскі, Юры. Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фармаваннях 1918—1945 гадоў. Санкт-Пецярбург, 2006. С. 274—405.

атрымалі найвышэйшыя баявыя ўзнагароды, у тым ліку 10 — ордэн *Virtuti Militari* і 203 — Крыж Змагарных[9].

На патрэбы жаўнераў стварылі вайсковае душпастырства праваслаўнага веравызнаньня. Капэлянамі былі сьвятары даваеннай ПАПЦ, якія пасьля 1939 г. апынуліся на эміграцыі. Пераломным момантам у дзейнасьці вайсковага душпастырства было прызначэньне ў лістападзе 1943 г. палявога праваслаўнага япіскапа, якім стаў вышэйзгаданы япіскап Сава. Ярарх атрымаў годнасьць брыгаднага генэрала. Сядзібай вайсковага япіскапа быў Лёндан, але ўладыку падпарадкоўваліся вайсковыя капэляны, якія выконвалі душпастырскія абавязкі ў Італіі й на Блізкім Усходзе. У студзені 1945 г. у войска быў залічаны ў годнасьці палкоўніка яшчэ адзін праваслаўны ярарх — япіскап Мацей (Сямашка), якому даручылі пасаду намесьніка галоўнага праваслаўнага капэляна ПУСЗ. Да вайны ўладыка быў япіскапам Браслаўскім і вікарыем Віленскай япархіі. Напрыканцы вайны вайсковае праваслаўнае душпастырства складалася з двух япіскапаў і пяці сьвятароў. Асабовы склад капэлянаў выглядаў наступным чынам:

а. Усевалад Яськоў — кіраўнік праваслаўнага вайсковага душпастырства 2-га корпусу;

а. Уладзімер Пятручык — капэлян 5-й Крэсавай пяхотнай дывізіі;

а. Серафім Краскоўскі — капэлян 2-й Варшаўскай танкавай дывізіі;

а. Мікалай Макарэвіч — капэлян 3-й Дывізіі карпацкіх стральцоў;

а. Іван Сотнікаў — капэлян базы 2-га корпусу й пазакарпусных аддзелаў.

Акрамя таго, тры іншыя сьвятары (Рыгор Курылас, Ян Савіч і Ян Сабалеўскі) раней былі звольненыя з вайсковай службы, але працягвалі душпастырскую дзейнасьць сярод эмігрантаў з Польшчы. Усе вышэйпералічаныя капэляны (апрача карпатарусіна Курыласа) паходзілі зь Беларусі. Нягледзячы на тое, што беларусы складалі абсалютную большасьць сярод капэлянаў, падчас службы ў войску яны не праяўлялі нацыянальнай актыўнасьці. Сьвятары займалі дзяржаўніцкую пазыцыю й намагаліся аб'ядноўваць жаўнераў вакол ідэі прыналежнасьці да польскага праваслаўя, не падкрэсьліваючы нацыянальных асаблівасьцяў вернікаў. Сытуацыя зьмянілася толькі пасьля вайны, калі некаторыя зь іх узялі ўдзел у беларускім рэлігійным жыцьці.

Нельга недаацэньваць значэньня душпастырскай працы капэлянаў. Большасьць вайскоўцаў паходзіла з кансэрватыўнага вясковага асяродзьдзя, якому былі ўласьцівыя набожнасьць і адданасьць рэлігійным каштоўнасьцям. Духоўныя патрэбы ўзмацняліся пад уплывам ваеннай нядолі, якая была неад'емнай часткай жаўнерскага жыцьця. У сувязі з гэтым сьвятары выконвалі важную ролю ў фармаваньні маральных

[9] Grzybowski, Jerzy. W służbie Rzeczypospolitej. S. 353.



Капэлян Ян Савіч з групай вайскоўцаў-беларусаў
праваслаўнага веравызаньня ля палявой капліцы ў іранскай пустэльні. 1943 г.

настрояў вайскоўцаў. Рэгулярна ладзіліся палявыя набажэнствы й пілігрымкі, а на галоўныя царкоўныя сьвяты жаўнеры атрымлівалі адпачынак. У 1945 г. намаганьнямі вайсковага душпастырства ў Рыме быў выдадзены “Праваслаўны малітоўнік” для жаўнераў, які ўтрымліваў пацеры на царкоўнаславянскай і польскай мовах. Зь лістапада 1945 да лістапада 1946 г. у штабе 2-га корпусу выходзіў штомесячны ілюстраваны часопіс “Польскі праваслаўны жаўнер” (*“Polski Żołnierz Prawosławny”*)[10]. Дзейнасьць вайсковага душпастырства праваслаўнага веравызнаньня яскрава сьведчыць пра поўную рэлігійную талеранцыю й адсутнасьць дыскрымінацыі ў ПУСЗ, у якой неаднойчы абвінавачваліся польскія эміграцыйныя ўлады з боку варожай (савецкай і расейскай) прапаганды[11].

## Цывільнае душпастырства на Блізкім Усходзе й ва Ўсходняй Афрыцы ў 1942—1946 г.

У часе Другой сусьветнай вайны на выгнаньні дзейнічала таксама польскае цывільнае душпастырства. Пачаткі яго існаваньня сягаюць 1942 г., калі разам з Польскай арміяй генэрала Ўладыслава Андэрса з СССР у Іран эвакуяваліся 37 912 цывільных грамадзянаў даваеннай польскай дзяржавы. Асноўную масу гэтых людзей складалі блізкія

[10] Grzybowski, Jerzy. W służbie Rzeczypospolitej. S. 359—381.

[11] The Polish Orthodox. 24 VI 1944 // LPL CERC, CFR LRC. 109/6.; W. Temple. 37/196—200 // Тамсама.

сваякі польскіх вайскоўцаў, сярод якіх пераважалі жанчыны (каля 45 %) і дзеці (42 %). Гэта былі людзі розных нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў, у тым ліку праваслаўныя беларусы. Апошнім было складана пакінуць "нялюдзкую зямлю", паколькі савецкія ўлады пагаджаліся на эвакуацыю толькі палякаў. У сувязі з гэтым многія беларусы мусілі хаваць свае паходжаньне й веравызнаньне[12].

Нягледзячы на савецкія перашкоды, у 1942 г. у Іран трапілі каля 2 тыс. цывільных асобаў праваслаўнага веравызнаньня, сярод якіх абсалютную большасьць складалі беларусы. Эвакуяваныя цывільныя былі разьмешчаныя ў адмыслова створаных лягерах для ўцекачоў. Паводле падлікаў польскіх уладаў праваслаўныя трапілі ў наступныя месцы: лягер № 1 — 370 чалавек, № 2— 450, № 3 — 540, у шпіталях — 130, у Тэгеране — 160. Агульная колькасьць складала 1650 чалавек. Аднак гэтая лічба была няпоўнай, паколькі частка праваслаўных па-ранейшаму асьцерагалася дэкляраваць сваё сапраўднае веравызнаньне. Сярод выгнанцаў былі некалькі праваслаўных сьвятароў, якія заапекаваліся суродзічамі. Першым духоўнікам, які апынуўся на іранскай зямлі, быў а. Міхал Бажар'янаў, які паходзіў зь Вільні. Ён заснаваў часовую капліцу ў лягеры № 2. Разам зь мясцовай праваслаўнай супольнасьцю ў порце Пахляві (*Pahlavi*, сёньня Бандар-Анзалі, *Bandar-e Anzali*) сьвятар зладзіў сьвяткаваньне Вялікадня[13]. У жніўні 1942 г. у Іран прыбылі іншыя сьвятары: а. Уладзімер Пятручык і а. Усевалад Яськоў. У выніку стала магчымым стварэньне сеткі душпастырскай службы. У жніўні 1942 г. зьявілася капліца ў лягеры № 3 (а. Міхал Бажар'янаў), а ў лістападзе 1942 г. пры грэцкай царкве ў Тэгеране была створана шпітальная капліца (а. Уладзімер Пятручык). У красавіку 1943 г. зьявілася таксама капліца ў лягеры № 1. Такім чынам, да вясны 1943 г. праваслаўныя душпастырскія пункты існавалі ва ўсіх буйных месцах перабываньня польскіх грамадзянаў у Іране[14].

Дзякуючы дапамозе Міністэрства працы й грамадзкай апекі сьвятары разгарнулі выдавецкую дзейнасьць. У кастрычніку 1942 г. а. Бажар'янаў выдаў малітоўнік (наклад 1 тыс. асобнікаў). У лістападзе 1942 г. і лютым 1943 г. сьвет пабачыла чарговае выданьне — "Збор праваслаўных малітваў" (наклад 500 асобнікаў). Акрамя таго, у лютым быў выдадзены "Імяньнік" (наклад 1 тыс. асобнікаў). У студзені 1943 г. а. Бажар'янаў пры грашовай дапамозе МУС распачаў выданьне штомесячнага ілюстраванага часопісу "Праваслаўнае зярнятка" (*"Ziarnko Prawosławne"*), які лічыўся друкаваным органам *"Цывільнага*

---

[12] Grzybowski, Jerzy. Białorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918—1945. Warszawa, 2007. S. 367.

[13] Bożerianow, Michał. Moja odpowiedź „ludziom małym". Arusha, 1945. S. 12.

[14] Sprawozdanie dotyczące Autokefalicznej Polskiej Cerkwi Prawosławnej na terenie Iranu z 9 września 1943 roku // IPMS. Sygn.: KOL. 9.V/6.

*праваслаўнага душпастырства ў Тэгеране”*. Агулам у пэрыяд са студзеня 1943 да студзеня 1944 г. пад рэдакцыяй а. Бажар’янава й а. Яськова сьвет пабачыла дванаццаць нумароў[15].

Праваслаўныя сьвятары захоўвалі поўную ляяльнасьць у дачыненьні польскага эміграцыйнага ўраду, а па царкоўнай лініі падпарадкоўваліся япіскапу Саву як адзінаму ярарху ПАПЦ на чужыне. У 1943 г. паміж уладыкам і праваслаўнымі выгнанцамі на Блізкім Усходзе была наладжаная сталая карэспандэнцкая сувязь[16]. На эміграцыі ўзьнікла, аднак, праблема кананічнага характару, якая датычыла згадваньня падчас набажэнстваў ачольніка царквы. Сытуацыю ўскладняў факт, што даваенны кіраўнік ПАПЦ мітрапаліт Дыяніс афіцыйна калябараваў зь немцамі. Япіскап Сава лічыў, што польскія сьвятары павінны ўзносіць малітвы за ярархаў тых памесных цэркваў, на кананічнай тэрыторыі якіх яны перабываюць[17]. У сьнежні 1942 г. было канчаткова вырашана, што ў часе багаслужбаў польскія сьвятары на эміграцыі павінны згадваць імя ўсяленскага патрыярха Вэніяміна, дадаючы да гэтага словы *“і ярархаў ПАПЦ”*, не пералічваючы іх імёнаў[18].

Як сярод сьвятароў, так і вернікаў панавалі антысавецкія настроі, што абумоўлівалася перажытымі пакутамі ў сталінскай няволі. Маючы ў памяці нядаўнія жахі перабываньня ў СССР, большасьць эмігрантаў была шчыра ўдзячная польскаму эміграцыйнаму ўраду за тое, што ён вызваліў іх з “савецкага раю”. Аб настроях сярод праваслаўнай грамады ў Іране яскрава сьведчаць назіраньні прадстаўніка польскага МУС у Тэгеране: *“Польская эміграцыя праваслаўнага веравызнаньня ў асноўным складаецца зь сялянства і крыху лясьнічых. Прадстаўнікі інтэлігенцыі вельмі нешматлікія. Большасьць праваслаўных складаюць беларусы, якія надзвычай станоўча ставяцца да Рэспублікі Польшчы”*[19]. Выкарыстоўваючы такія настроі суродзічаў у 1942 г.

---

[15] Grzybowski, Jerzy. Prasa i wydawnictwa Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego na obczyźnie podczas II wojny światowej // Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej. 2014. № 7. S. 3—12.

[16] Sprawozdanie dotyczące Autokefalicznej Polskiej Cerkwi Prawosławnej na terenie Iranu z 9 września 1943 roku // IPMS. Sygn.: KOL. 9.V/6.

[17] Referat pt. Sprawa stosunku do moskiewskiej — patriarszej cerkwi prawosławnej, I 1942 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17A.

[18] Referat ppłk dypl. Borkowskiego pt. Wymienianie w nabożeństwach prawosławnych imienia zwierzchnika kościelnego. 11.XI.1942 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17A.; List MSW do MSZ w sprawie wymieniania imion w nabożeństwach prawosławnych. 28.XII.1942 r. // IPMS. Sygn.: A.11.252.1.; Telegram szyfrowy MSZ do Polmission Teheran. 4.I.1943 r. // IPMS. Sygn.: A.11.252.1.

[19] Sprawozdanie dotyczące Autokefalicznej Polskiej Cerkwi Prawosławnej na terenie Iranu z 9 września 1943 roku // IPMS. Sygn.: KOL. 9.V/6.



Айцец Міхал Бажар'янаў сярод сваіх вернікаў. Паселішча Тэнгеру. 1945 г.

з ініцыятывы а. Міхала Бажар'янава ў Тэгеране быў створаны Беларускі камітэт. Зь верасьня 1942 да ліпеня 1943 г. гэты камітэт накіраваў шэраг мэмарандумаў прэм'еру генэралу Ўладыславу Сікорскаму (23.IX.1942), прэзыдэнту ЗША Франкліну Рузвэлту (25.III.1943) і прэм'еру Станіславу Мікалайчыку (VII.1943)[20]. У апошнім звароце сябры камітэту дамагаліся ўвядзеньня прадстаўніка беларускай меншасьці ў склад Народнай Рады ў Лёндане — прататыпу эміграцыйнага парлямэнту[21].

Да канца 1943 гг. польскія лягеры ў Іране былі зьліквідаваныя, а іх кантынгент накіраваны ва Ўсходнюю Афрыку (23 676 чалавек), Індыю (4701), Палестыну (6569), Мэксыку (1569) і інш.[22] Не ўсім выгнанцам дадзена было пакінуць іранскую зямлю. Частка эмігрантаў, вычарпаных фізычнымі й псыхічнымі пакутамі, памерла на чужыне. Вядома, што на мясцовых могілках пахавана ня менш за 26 польскіх грамадзянаў праваслаўнага веравызнаньня[23]. Сярод памерлых на Сярэднім Усходзе можна згадаць чальца Віленскай духоўнай кансысторыі Дарафея Бохана, аўтара перакладаў твораў Адама Міцкевіча на расейскую й пэрсыдзкую мовы. Віленчук памёр пасьля цяжкай хваробы 25 сьнежня 1943 г. у тэгеранскім шпіталі[24].

На падставе архіўных матэрыялаў можна канстатаваць, што пасьля эвакуацыі з Ірану пэўная колькасьць праваслаўных беларусаў апынулася ў Індыі. Вядома, што ў паселішчы Вальвале (правінцыя Каляпур) знаходзілася больш як 100 польскіх грамадзянаў праваслаўнага веравызнаньня. Пры дапамозе брытанскіх уладаў для іх была створана

[20] Grzybowski, Jerzy. Białorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918—1945. S. 511—518.

[21] Pismo Komitetu Białoruskiego do premiera S. Mikołajczyka. Lipiec 1943 r. // IPMS. Sygn. A.11.851/1.

[22] Polacy w Iranie 1942—1945. T. I. Antologia. Warszawa, 2002. S. 411.

[23] Rejestr zmarłych w szpitalu cywilnych w Teheranie w latach 1942—1944 // Archiwum Akt Nowych (AAN). Sygn.: 592. T. 128.

[24] Ziarnko Prawosławne. № 12. 1943 — № 1. 1944. S. 12.

дзіцячая нядзельная школа[25]. Некалькі дзясяткаў праваслаўных трапіла ў Мэксыку. Яны жылі ў паселішчы Санта-Роса (*Santa Rosa*). 19 верасьня 1943 г. япіскап Сава выдаў пастырскае пасланьне, каб падбадзёрыць і падняць маральны дух жменькі аднаверцаў[26].

Яшчэ адным кутком сьвету, куды трапілі праваслаўныя беларусы, былі Палестына й Ліван. Душпастырскай працай сярод іх займаліся былыя вайсковыя капэляны а. Ян Савіч (Ерусалім) і Ян Сабалеўскі (Бэйрут). Асабліва належыць адзначыць дзейнасьць а. Яна Савіча, які зладзіў некалькі пілігрымак вайскоўцаў і цывільных асобаў у Сьвятую Зямлю[27]. У студзені 1946 г. япіскап Сава наведаў Блізкі Ўсход. Падчас падарожжа ён адправіў набажэнствы для праваслаўных выгнанцаў у Ерусаліме, Назарэце, Бэйруце й Тэль-Авіве[28]. Дзякуючы намаганьням уладыкі ў Палестыне й Ліване было створана кола праваслаўных польскіх грамадзянаў. Матэрыяльнае становішча аднаверцаў ярарх ацэньваў станоўча: *"Мушу адзначыць, што на тэрыторыі Лівану выгнанцы адчуваюць сябе добра, жывуць сярод хрысьціянаў, і нават ёсьць надзея на працу, асабліва гэта тычыцца інтэлігенцыі"*[29].

Найбольшая колькасць польскіх грамадзянаў з Ірану трапіла на афрыканскі кантынэнт. У Брытанскай Усходняй Афрыцы было створана 18 лягераў для польскіх выгнанцаў. Да ліку найбольш значных зь іх належалі: Тэнгеру (*Tengeru*, Танзанія), Коджа (Уганда), Рангаі (*Rongai*, Кенія), Лусака (*Lusaka*, Паўночная Радэзія), Масіндзі (*Masindi*, Уганда) і інш.[30] Прысутнасьць праваслаўных беларусаў была заўважана ў некалькіх лягерах. Першапачаткова праваслаўныя жыхары афрыканскіх паселішчаў былі пазбаўленыя душпастырскай апекі. У сувязі з тым некаторыя зь іх наведвалі каталіцкія набажэнствы[31]. У ліпені 1943 г. у Афрыку прыбыў а. Міхал Бажар'янаў, які быў прызначаны кіраўніком Польскага праваслаўнага цывільнага душпастырства ў Цэнтральнай і Ўсходняй Афрыцы[32]. У жніўні 1943 г. у Тэнгеру сьвятар стварыў праваслаўную парафію, якая налічвала некалькі сотняў вернікаў[33].

---

[25] Polski Żołnierz Prawosławny. № 5. 1946. S. 8.

[26] AAN. Sygn.: Poselstwo RP w Meksyku. T. 182. K. 433—435.

[27] Polski Żołnierz Prawosławny. № 5. 1946. S. 8.

[28] Polski Żołnierz Prawosławny. № 2. 1946. S. 4.

[29] Arcybiskup generał brygady Sawa (Jerzy Sowietow). Wybór dokumentów, Białystok — Warszawa, 1997. S. 66—67.

[30] Osiedla polskie w Afryce Wschodniej // IPMS. Sygn.: A. 18 / 47.

[31] Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 56.

[32] Sprawozdanie dotyczące Autokefalicznej Polskiej Cerkwi Prawosławnej na terenie Iranu z 9 września 1943 roku // IPMS. Sygn.: KOL. 9.V/6.

[33] Cerkiew i gmina prawosławna w Tengeru // IPMS. Sygn.: KOL.174/9A.

Намаганьнямі а. Міхала Бажар'янава ў Тэнгеру ў сьнежні 1944 г. была пабудаваная царква ў гонар Нараджэньня Хрыста. Аўтарам праекту быў Эдвард Александровіч. 700 фунтаў на будоўлю далі брытанскія ўлады. 20 фунтаў сьвятар атрымаў ад Міністэрства грамадзкай апекі. Рэшту неабходнай сумы (550 фунтаў) праваслаўная грамада сабрала самастойна. Падтрымалі вернікаў і мясцовыя грэкі. Царква была аздобленая іконамі, якія напісалі ангелец і палонны італьянец. Вернікі пашылі абрусы й дываны, якія таксама ўпрыгожвалі сьвятыню. Адзін ангелец перадаў царкве чатыры званы. Набажэнствы адпраўляліся два разы на месяц, а таксама на сьвяты. Дзякуючы а. Бажар'янаву былі створаныя два хоры: дзіцячы й дарослы[34]. З думкай аб выхаваньні моладзі сьвятар заснаваў дом сустрэчаў з праваслаўнай моладзьдзю, у якім штодзённа адбываліся мерапрыемствы[35]. Польскае цывільнае праваслаўнае душпастырства ў Афрыцы супрацоўнічала з Александрыйскім патрыярхатам. Неўзабаве патрыярх Хрыстафорас II (Даньілідыс) даручыў апеку над выгнанцамі свайму прадстаўніку ва Ўсходняй Афрыцы архімандрыту Філётэёсу Гіерыдэсу[36].

Айцец Міхал Бажар'янаў выяжджаў на візытацыі ў іншыя польскія паселішчы, дзе былі праваслаўныя вернікі. Акрамя набажэнстваў духоўнік выконваў іншыя душпастырскія функцыі. У 1943—1945 гг. у Тэнгеру адбыліся тры шлюбы, тры хросты й тры пахаваньні[37]. Сьвятар разгарнуў выдавецкую дзейнасьць на тэрыторыі Афрыкі[38]. У сярэдзіне красавіка 1943 г. ён пачаў выдаваць двухтыднёвік "Праваслаўны прамень" (*"Promyk Prawosławny"*). Агулам у 1943—1945 гг. пабачыла сьвет некалькі дзясяткаў нумароў[39]. Пры дапамозе польскіх уладаў у 1944 г. а. Бажар'янаў выдаў у Найробі "Праваслаўны малітоўнік" на царкоўнаславянскай і польскай мовах. Пры гэтым з тэхнічных прычынаў тэксты па-царкоўнаславянску былі запісаныя лацінкай. Патрыярх і папа Александрыйскі і ўсяе Афрыкі Хрыстафорас II (Даньілідыс) багаславіў выданьне, а архімандрыт Філётэёс падрыхтаваў прадмову[40].

---

[34] Cerkiew i gmina prawosławna w Tengeru.

[35] Швэдзюк, Міхась. Беларусы ў Афрыцы ў 1942—1948 // Рунь. 27 студзеня 2000. С. 6.

[36] Modlitewnik prawosławny. Nairobi, 1944. S. 4.

[37] Cerkiew i gmina prawosławna w Tengeru // IPMS. Sygn.: KOL.174/9A.

[38] Grzybowski, Jerzy. Prasa i wydawnictwa Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego na obczyźnie podczas II wojny światowej. S. 3—12.

[39] Швэдзюк, Міхась. Япіскапы й сьвятары ПАПЦ у Вялікай Брытаніі й пры Польскім Войску на Захадзе // Беларус. № 479. Сьнежань 2002. С. 4.

[40] Modlitewnik prawosławny. S. 3—9.



Беларусы — праваслаўныя жыхары паселішча Тэнгеру. 1945 г.

Нягледзячы на тое, што а. Бажар'янаў ня быў беларусам і быў далёкі ад нацыянальнай працы, ягоная дзейнасьць спрычынілася да захаваньня сярод праваслаўных беларусаў нацыянальна-культурнай адрознасьці ад польскай большасьці[41]. Ва ўступе да вышэйзгаданага малітоўніка чытаем: *"Памятайце, што дабро Айчыны зьвязанае з дабром Царквы, а таксама дабром грамадзянаў і наадварот. Трывайце, дарагія Браты й Сёстры ў Хрысьце, аддана поруч Сьв. Апостальскай Праваслаўнай Царквы й годна рэпрэзэнтуйце сваё веравызнаньне й нацыянальнасьць. Вера — самы вялікі і дарагі скарб чалавека, а калі нехта схавае сваё веравызнаньне, дык гэтым самым пакажа духовую слабасьць, нясталасьць і схільнасьць да здрады"*[42].

У асяродках людзей розных поглядаў і рэлігіяў канфлікты былі непазьбежнымі. Паколькі пераважная большасьць беларусаў ня мела выразна выкрышталізаванай нацыянальнай самасьвядомасьці, то непаразуменьні праяўляліся на рэлігійным фоне. Адметнасьць праваслаўных беларусаў ад каталіцкай большасьці рабілася прычынаю спрэчак. Пэўная частка каталікоў-палякаў варожае ставілася да праваслаўных беларусаў. Пазбаўленыя айчыны, у далёкай Афрыцы некаторыя палякі атаясамлівалі ўсё некаталіцкае й няпольскае з варожым элемэнтам, праявамі савецкасьці. Пра сытуацыю сярод польскіх выгнанцаў сьведчаць справаздачы прадстаўнікоў польскага консульства ў Найробі, якія наступным чынам характарызавалі

[41] Швэдзюк, Міхась. Беларусы ў Афрыцы. С. 6.

[42] Modlitewnik prawosławny. S. 1—2.

нацыянальна-канфэсійныя адносіны ў лягерах: *“...пераважную большасьць складаюць крэсавыя палякі, трохі ёсьць беларусаў і ўкраінцаў. Мінімальны адсотак маюць габрэі. Дакладна акрэсьліць нацыянальны склад уцекачоў практычна немагчыма, можна толькі здагадвацца. Гэта таксама адносіцца і да веравызнаньняў. Я неаднаразова сутыкаўся з выпадкамі хаваньня праваслаўнымі й грэка-каталікамі свайго веравызнаньня й падаваньня за каталікоў. Гэтая зьява ёсьць вынікам комплексу страты “польскасьці”, якая шчыльна зьвязаная з пазыцыяй тамтэйшага (і, на жаль, не толькі тамтэйшага) каталіцкага духавенства, якое кіруецца прынцыпам: “што некаталіцкае — тое няпольскае”. У сувязі з гэтым у лягерах ужо нават уведзены ва ўжытак панятак “меншасьці” ў адносінах некаталіцкіх веравызнаньняў”*[43].

У выніку даходзіла да боек і прыкрасьцяў. Варта адзначыць, што абвінавачаньні праваслаўных беларусаў у неляяльнасьці да польскай дзяржаўнасьці былі цалкам беспадстаўнымі. Абвінаваўцы ня бралі пад увагу тое, што праваслаўныя выгнанцы ня ў меншай ступені сталіся ахвярамі сталінскага рэжыму. Як і палякі, беларусы таксама былі прымусова пазбаўленыя бацькаўшчыны й дэпартаваныя ўглыб СССР, дзе нароўні з астатнімі польскімі грамадзянамі зьведалі ўсе жахі й зьдзекі савецкай сыстэмы. У лягерах у Афрыцы жылі сваякі й родныя праваслаўных польскіх жаўнераў, якія ахвярна змагаліся ў шэрагах ПУСЗ.

Асноўным абаронцам праваслаўных выступаў а. Бажар’янаў, які меў вялікі аўтарытэт сярод вернікаў. Падчас сваіх казаняў ён даводзіў праваслаўным беларусам, што яны *“анічым ня горшыя за каталікоў, таму, як усе польскія грамадзяне, мусяць мець аднолькавыя правы й магчымасьці”*. Непрыхільнае й варожае стаўленьне да аднаверцаў з боку часткі каталіцкіх жыхароў правакавала сьвятара да падобных учынкаў. У 1945 г. сьвятар падрыхтаваў і выдаў у паселішчы Аруша (Танганыка) добра ўдакумэнтаваную брашуру “Мой адказ малым людзям”, у якой сабраў сьведчаньні крыўдаў і перасьледу, якіх ён і яго аднаверцы сталі ахвярай. Сьвятар не хаваў сваёй роспачы й шкадаваньня, лічыў, што яго шчырая праца не была належным чынам ацэненая. Такі стан рэчаў лічыў доказам таго, што некаторых “малых людзей” нічому не навучыла драматычная ваенная гісторыя, і яны зноў паўтараюць даваенныя памылкі. Адчуваньне безабароннасьці перад абразамі й варожасьцю, а таксама крыўда на няўдзячнасьць за ягоную службу падштурхнулі а. Бажар’янава шукаць апекі ў прадстаўнікоў прасавецкага ўраду ў Варшаве. У 1945 г. у хроніцы паселішча ў Тэнгеру можна сустрэць згадку пра тое, што а. Бажар’янаў скінуў зь сябе *“маску ляяль-*

[43] Osiedla polskie w Afryce Wschodniej.

*нага грамадзяніна"* і распачаў варожую прапаганду з мэтай ачарненьня польскага ўраду й войска[44].

Нам не ўдалося выявіць ніякіх доказаў, якія пацьвярджалі б вышэйзгаданае меркаваньне. Тым часам вось якім чынам справу тлумачыў генэральны консул Польшчы ў Найробі, які ў сваім рапарце адзначаў: *"У польскіх паселішчах на тэрыторыі Афрыкі ёсьць толькі адзін праваслаўны сьвятар а. Бажар'янаў. Я ня маю духоўнай адукацыі, таму не хачу навязваць свайго меркаваньня ў рэлігійных спрэчках, аднак адзначу толькі, што канфрантацыя паміж польскімі ўцекачамі на канфэсійнай глебе стала вынікам увядзеньня панятку "меншасьці". У Афрыцы я неаднаразова чуў ад а. Бажар'янава скаргі на паноўныя там міжканфэсійныя адносіны, адмоўнае стаўленьне каталіцкай большасьці да праваслаўных, да яго й ягонай дзейнасьці. Ня буду прыводзіць дробных прыкладаў гэтых здарэньняў, бо гэта бачаньне толькі аднаго боку, аднак факт начнога падпалу дому ў лістападзе 1945 г. у паселішчы Коджа, дзе спыніўся а. Бажар'янаў падчас візыту да сваіх братоў па веры, сьведчыць сам за сябе. Сам а. Бажар'янаў выдаў улётку (сьцьвярджае, што ён быў справакаваны на гэта) на тэму "Папа Рымскі Ёанна". З усяго гэтага вынікае, што гаворка ідзе ўжо не пра палеміку, а пра сапраўдную рэлігійную барацьбу. У дадзены момант а. Бажар'янаў публікуе артыкулы ў прэсе г. зв. "варшаўскага" ўраду, якая выходзіць у Палестыне. Такім чынам, ён спадзяецца на выезд у Польшчу. Я маю добрага знаёмага, які разам з а. Бажар'янавым быў у савецкім лягеры на Поўначы, які сьцьвярджае, што ведае гэтага сьвятара як сапраўднага добрага паляка. Прыводжу гэта дзеля таго, каб паказаць рэлігійныя адносіны ў нашых паселішчах у Афрыцы й прадэманстраваць, як можна змарнаваць добрага чалавека, дзейнасьць якога ў нашай справе магла быць карыснай"*[45].

Рэлігійныя сваркі ў афрыканскіх паселішчах выклікалі моцны неспакой у Лёндане. МЗС папрасіла ў Генэральнага консульства ў Найробі падрыхтаваць адмысловы рапарт аб падзеях у тамтэйшых паселішчах[46]. Справай зацікавіўся япіскап Сава, які 10 сакавіка 1946 г. накіраваў ліст да камандаваньня 2-га корпусу з прапановай адклікаць а. Бажар'янава з Афрыкі й перавесьці яго на Блізкі Ўсход[47]. Аднак гэтым плянам не наканавана было зьдзейсьніцца. Сьвятар моцна захварэў і памёр у шпіталі ў Дар-эс-Саляме (*Dar es Salaam*) 20 жніўня 1946 г. Гэтым

[44] Cerkiew i gmina prawosławna w Tengeru.

[45] Osiedla w Afryce Wschodniej.

[46] Notatka Kierownika Referentu Ukraińskiego Działu Narodowości MSW do ministra spraw wewnętrznych z dnia 14 lipca 1944 r. // IPMS. Sygn.: A.9.V.18.

[47] List kpt. Babińskiego do MON. 16 kwietnia 1946 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28/17b.



Капэлян 2-га Польскага корпусу а. Усевалад Яськоў сярод жаўнераў падчас пілігрымкі ў Сьвятую Зямлю. Ерусалім, Вадохрышча, 19 студзеня 1945 г.

самым адышоў у лепшы сьвет чалавек, які, паводле беларускіх жыхароў афрыканскіх паселішчаў, быў для іх бацькам і апекуном[48].

З сярэдзіны 1945 г. польскія выгнанцы перайшлі пад юрыдычную апеку брытанскіх уладаў, што было зьвязана са стратай міжнароднага прызнаньня польскага эміграцыйнага ўраду з боку заходніх хаўрусьнікаў. У наступныя гады лягеры ў Афрыцы зьліквідавалі, а іх жыхароў перасялілі ў Эўропу.

## Польскае праваслаўнае душпастырства ў лягерах для перамешчаных асобаў на эўрапейскім кантынэнце ў 1945—1951 гг.

Асобную старонку гісторыі польскага праваслаўя на чужыне займае дзейнасьць душпастарыства сярод ваенных уцекачоў у заходніх зонах акупацыі Нямеччыны, Аўстрыі, а таксама ў Італіі ў першыя паваенныя гады. Пасьля заканчэньня баявых дзеяньняў у Эўропе на згаданым абшары заставаліся звыш 630 тыс. *DP* з Польшчы[49].

[48] Больш падрабязна пра дзейнасьць а. М. Бажар'янава гл.: Grzybowski, Jerzy. Polskie Prawosławie na terytorium Bliskiego Wschodu, Afryki, Indii i Meksyku podczas Drugiej wojny światowej // Cerkiewny Wiestnik. № 1. 2012. S. 51—63; Mironowicz, Antoni. Działalność ks. Michała Bożerianowa na terenie Iranu i Afryki Wschodniej w latach 1941—1945 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 42. 2014. S. 137—165.

[49] Projekt memoriału ambasady RP w Londynie do MSZ Wielkiej Brytanii w kwestii utworzenia obozów polskich DP w Niemczech // IPMS. Sygn.: A.11.530.

Уцекачы характарызаваліся стракатым нацыянальным і рэлігійным складам. Да ліку найбольшых групаў належалі праваслаўныя, колькасьць якіх складала каля 60 тыс. чалавек, у тым ліку: у Брытанскай зоне — 45 тыс., Амэрыканскай — 12 тыс., Францускай — 3 тыс.[50] Нацыянальны склад праваслаўнай супольнасьці адлюстроўваў даваенную мазаіку польскага грамадзтва: украінцы, беларусы, расейцы. Паводле назіраньняў польскіх крыніцаў, беларусы праяўлялі найбольшую пасіўнасьць у параўнаньні зь іншымі нацыянальнымі групамі. Польскія эміграцыйныя ўлады лічылі іх сваімі грамадзянамі, таму імкнуліся ахапіць уплывамі, у тым ліку на ніве рэлігійнага жыцьця. Лёнданскі ўрад выслаў у Нямеччыну сваіх афіцэраў сувязі, якія рупіліся пра стварэньне для польскіх грамадзянаў асобных лягераў. Рабіліся таксама спробы арганізаваць польскае праваслаўнае душпастырства[51]. З гэтай мэтай вёўся пошук сярод *DP* праваслаўных сьвятароў, якія былі схільныя да супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. Паводле зьвестак польскага боку, толькі ў Амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны жылі каля 50 царкоўных асобаў, у тым ліку 4 япіскапы й 34 сьвятары[52]. Аднак далёка ня ўсе сьвятары з даваеннай Польшчы жадалі ўдзельнічаць у стварэньні царкоўных структураў пад эгідай польскіх уладаў. Вось якім чынам польскія афіцэры сувязі характарызавалі праваслаўнае духавенства: *“Праваслаўны клер з Польшчы стракаты ў нацыянальным сэнсе [...] зараз знаходзіцца на роста-нях, а часамі нават пакідае пачуцьцё прыналежнасьці да польскай дзяржаўнасьці й пераходзіць да сэпаратыстычна-нацыянальных групаў”*[53]. У практыцы праваслаўныя *DP* (сьвятары й недухоўныя асобы) з даваеннай Польшчы маглі належаць да розных царкоўных юрысдыкцыяў, якія дзейнічалі ў Заходняй Нямеччыне: Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, Украінскай аўтаномнай праваслаўнай царквы, Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой[54].

---

[50] Notatka oficera łącznikowego do spraw Polaków na kontynencie do MON. 21.XII.1945 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.11.

[51] Больш падрабязна пра польскае праваслаўнае душпастырства ў Нямеччыне гл.: Grzybowski, Jerzy. Polskie cywilne duszpasterstwo prawosławne w Niemczech Zachodnich w latach 1945—1951 // Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej. 2016. T. 9. S. 81—112.

[52] Wykaz duchowieństwa prawosławnego z Polski przebywającego w strefie amerykańskiej. 14.IX.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 30 II 12.

[53] IPMS. Sygn.: A.11.1483.

[54] Ukrainian Spiritual Welfare (1946—1950) // The National Archives (TNA). FO 1052/210; Smolorz, Roman. Displaced Persons. Autoritaten und Ahnfuhrer im angehenden Kalten Krieg im ostlichen Bayern. Regensburg, 2009. S. 123.

Каб высьветліць, ці ёсьць магчымасьць арганізаваць польскія праваслаўныя парафіі, у верасьні-кастрычніку 1945 г. Нямеччыну наведалі япіскапы Сава й Мацей. Па выніках падарожжа 15 лістапада 1945 г. у Лёндане пад кіраўніцтвам шэфа Галоўнага штабу ПУСЗ адбылася канфэрэнцыя, на якой абмеркавалі справу арганізацыі польскага праваслаўнага душпастырства сярод *DP*[55]. Удзельнікі зрабілі выснову, што праваслаўныя польскія грамадзяне (у межах да 1939 г. — ***Ю. Г.***) могуць належаць выключна да польскага душпастырства на чале зь япіскапамі Савам і Мацеем, тым часам як іншыя царкоўныя структуры (УАПЦ, БАПЦ) ня маюць права апекавацца імі[56].

Тым ня менш, пэўная частка праваслаўных украінцаў і беларусаў была схільная да супрацоўніцтва з польскімі ўладамі ў справе стварэньня царкоўных структураў пад кіраўніцтвам польскіх эміграцыйных япіскапаў. Падчас паездкі па Нямеччыне япіскап Сава стварыў два дэканаты — у Брытанскай зоне й Амэрыканскай, кіраўнікамі (дабрачыннымі) якіх прызначыў адпаведна а. Апалёна Навіцкага й а. Ціхана Кірычука. Абодва сьвятары ў міжваенны час былі капэлянамі ў Польскім войску, а ў 1939 г. трапілі ў нямецкі палон. Уладыка даручыў ім арганізаваць сетку польскіх праваслаўных парафіяў на падлеглай ім тэрыторыі[57]. Сядзіба кіраўніка Амэрыканскай зоны месьцілася ў Дортмундзе (*Dortmund*), а Брытанскай — у Мэпэне (*Meppen*, месца кватараваньня 1-й Танкавай дывізіі ПУСЗ)[58]. Дзейнасьць абодвух сьвятароў прынесла пэўны плён. Да пачатку 1946 г. было арганізавана некалькі польскіх праваслаўных парафіяў у найбуйнейшых польскіх лягерах *DP* у Амэрыканскай зоне: у Ганаў (*Hanau*), Мангайме (*Mannheim*), Вісбадэне (*Wiesbaden*) й Дортмундзе[59]; у Брытанскай: у Мэпэне й Батгольне (пробашч Мікалай Макавелькі; даваенны сьвятар з-пад Ваўкавыску). У лягеры Вільдфлекен (*Wildflecken*)

[55] Notatka w sprawie konferencji u szefa Sztabu Głównego, brak daty // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17C.; Protokół z konferencji w sprawie opieki duszpasterskiej nad żołnierzami wyznania prawosławnego. 15.XI.1945 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17C.; Notatka Referatu Wyznań Niekatolickich Sztabu Głównego z protokołu konferencji odbytej 15.XI.1945 r. w sprawie opieki duszpasterskiej nad obywatelami polskimi wyznania prawosławnego. 28.XI.1945 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17C.

[56] Instrukcja w sprawie opieki duszpasterskiej dla obywateli polskich wyznania prawosławnego przebywających w obozach w Niemczech // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17C.

[57] List płk. dypl. Krubskiego do oddziału do spraw polskich na kontynencie Sztabu Głównego. 24 X 1945 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17C.

[58] Sprawozdanie bpa Sawy z podróży do Niemiec od 12 do 24.XII.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL.30.II.12.

[59] List ks. T. Kiryczuka do biskupa Sawy (Sowietowa). 30.X.1945 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28.17C.



Япіскап Сава сярод праваслаўных вайсковых капэлянаў 2-га Польскага корпусу. Зьлева направа: няведамы, а. Усевалад Яськоў, япіскап Сава, а. Серафім Краскоўскі, а. Уладзімер Пятручык, а. Ян Сотнікаў. Італія, люты 1946 г.

у Брытанскай зоне дзеяла найбуйнейшая (каля 500 чалавек) польская праваслаўная парафія ў Нямеччыне (пробашч а. Ігар Ткачук)[60]. Польскія праваслаўныя парафіі ўзьніклі таксама ў Францускай зоне. 1 студзеня 1946 г. у лягеры Юдэндорф (Філях) (*Judendorf* (*Villach*) была заснаваная парафія ў гонар Сьв. Мікалая Цудатворцы (пробашч Мікалай Вячорка, паходзіў з Палесься). Абавязкі кіраўніка ў Францускай зоне выконваў а. Аляксандар Самайловіч, які да вайны быў пробашчам на Кобрыншчыне й Пружаншчыне[61]. Вельмі няшмат зьвестак захавалася наконт арганізацыі польскага праваслаўнага душпастырства ў Аўстрыі. Вядома, аднак, што ў адной зь мясцовасьцяў праваслаўная грамада карысталася каталіцкай сьвятыняй, а ў лягернай школцы адбываліся заняткі Закону Божага для праваслаўных[62].

У стварэньне польскіх парафіяў заангажаваліся каля 20 духоўнікаў, ня менш як палова якіх паходзіла з Заходняй Беларусі[63]. Зацікаўленьне

---

[60] Sprawozdanie bp Sawy z podróży do Niemiec od 12 do 24.XII.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 30 II 12.

[61] Krótkie wiadomości // Polski Żołnierz Prawosławny. 1946. № 2. S. 8; Sosna, Grzegorz, Troc-Sosna, Antonina. Hierarchia i kler Kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX—XXI wieku. Ryboły, 2012. S. 751.

[62] Krótkie wiadomości // Polski Żołnierz Prawosławny. № 1. 1946. S. 8.

[63] Oświadczenie duchownych prawosławnych z Polski w sprawie abp Palladiusza, Monachium. 16.XII.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL.30.II.12.

супрацоўніцтвам з польскімі ўладамі выказвалі некаторыя ярархі: япіскап Кракаўска-Лэмкаўскі Палядый (Вадыбіда-Рудэнка) і мітрапаліт Палескі Аляксандар (Іназемцаў). Апошні нават выкарыстоўваў назву *"прадстаўнік у справах Сьв. Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Нямеччыне"*[64]. Польскія эміграцыйныя ўлады ня ставіліся да яго адмоўна, бо лічылі, што ўладыка не запляміў сябе супрацоўніцтвам з савецкімі й нямецкімі ўладамі[65]. У сувязі з гэтым мелі надзеі на стварэньне пры ягоным удзеле эміграцыйнага сыноду ПАПЦ[66]. Частка эміграцыйнай праваслаўнай супольнасьці лічыла нават, што Аляксандар, а ня Сава павінен стаць на чале польскага праваслаўя на чужыне[67]. Ажыцьцяўленьню гэтых плянаў перашкодзіла трагічная сьмерць уладыкі ў лютым 1948 г. Можна меркаваць, што супрацоўніцтва ярэяў і архірэяў з польскімі ўладамі не вынікала з ідэйных памкненьняў, а было наступствам прагматызму й каньюнктуры (лёнданскі ўрад валодаў пэўнымі матэрыяльнымі сродкамі, а даваеннае польскае грамадзянства абараняла ад прымусовай дэпартацыі ў СССР). Сьведчыць пра гэта факт, што іх кантакты зь лёнданскім урадам былі непрацяглымі, пасьля чаго большасьць зрабіла выбар на карысьць іншых царкоўных юрысдыкцыяў.

Цікавасьць выклікае нацыянальнае паходжаньне вернікаў польскіх праваслаўных парафіяў у лягерах *DP*. У змаганьні за "душы" вернікаў польскае праваслаўе мела значную канкурэнцыю з боку іншых праваслаўных цэркваў, якія распаўсюджвалі сваю дзейнасьць на ўцекачоў з Польшчы. Асабліва гэта датычыла ўкраінскіх аўтакефалістаў, якія непрыхільна ставіліся да польскіх эміграцыйных уладаў і япіскапаў ПАПЦ. Тым часам беларусы былі значна больш схільнымі да супрацоўніцтва. Спрыяла гэтаму як даволі нізкая нацыянальная сьведамасьць многіх *DP*, гэтак і царкоўны закалот, які адбыўся ў беларускім праваслаўным асяродзьдзі ў выніку далучэньня беларускіх япіскапаў да РПЦЗ у 1946 г. Невыпадкова стрыжань "праваслаўных палякаў" складалі менавіта вернікі зь беларускім радаводам. У арганізацыю польскага

[64] Zięba, Andrzej. "Wojna popów". Polskie prawosławie na emigracji po II wojnie światowej // Przegląd Polonijny. Z. 3. 1997. S. 46—47.

[65] List dowódcy 2 Korpusu gen. W. Andersa do szefa Sztabu Głównego WP gen. S. Kopańskiego w sprawie przyjazdu metropolity Aleksandra. 24.I.1946 r. // IPMS.

[66] List zarządu Bractwa Obywateli Polskich Wyznania Prawosławnego w Londynie do bp Sawy. 30.XII.1945 r. // IPMS; List dowódcy 2 Korpusu gen. W. Andersa do szefa Sztabu Głównego WP gen. S. Kopańskiego w sprawie przyjazdu metropolity Aleksandra. 24.I.1946 r.

[67] List ks. S. Kraskowskiego do Inspektora Generalnego PKPR. 27.V.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

праваслаўнага душпастырства на пэўным этапе заангажаваліся некаторыя сьведамыя беларусы, якія рабілі гэта, кіруючыся практычнымі меркаваньнямі. Напрыклад, у 1945 г. часопіс "Польскі праваслаўны жаўнер" з гонарам падкрэсьліваў, што на чале 5-тысячнага польскага лягеру ў Равэнсбургу стаіць Эмануіл Ясюк[68].

Польскія эміграцыйныя ўлады й япіскап Сава разумелі, што пераважная большасьць праваслаўнай супольнасьці складаецца з прадстаўнікоў няпольскага паходжаньня, таму не маглі не лічыцца з нацыянальнымі пачуцьцямі вернікаў. Неўзабаве палітычныя чыньнікі апрабавалі выкарыстаньне нацыянальных моваў (беларускай, украінскай) у царкоўным жыцьці[69]. Тым ня менш, праца польскага боку сярод *DP*-беларусаў для стварэньня царкоўнай арганізацыі пад эгідай ПАПЦ не магла ня выклікаць супраціву з боку беларускага нацыянальнага актыву. Гэтая зьява знайшла сваё адлюстраваньне падчас візыту япіскапа Савы ў Рэгенсбург. 4 ліпеня 1946 г. уладыка наведаў мясцовы лягер, у якім існавала беларуская парафія Сьв. Эўфрасіньні Полацкай (пробашч а. Мікалай Лапіцкі). Ярарха прывітала толькі жменька вернікаў (каля 20 чалавек) на чале з а. Ігарам Ткачуком. Тым часам большасьць жыхароў цалкам праігнаравала польскага япіскапа, які нават не атрымаў дазволу адправіць імшу ў тамтэйшай беларускай царкве. Празь некалькі дзён пасьля здарэньня лягер быў расфармаваны, а ягоныя жыхары пераведзеныя ў Міхэльсдорф (*Michelsdorf*). Беларускі бок разглядаў гэта як помсту з боку ярарха[70]. Чарговы інцыдэнт адбыўся ў Вільдфлекене, дзе мясцовы сьвятар Ігар Ткачук у 1946 г. намагаўся перашкодзіць сваім парафіянам перасяляцца ў беларускі лягер, які знаходзіўся побач з польскім. Беларускія крыніцы паведамляюць, што духоўнік разам з адміністрацыяй польскага лягеру запалохваў жыхароў, распаўсюджваючы чуткі, што ўсе, хто пераедзе да беларусаў, потым будуць прымусова дэпартаваныя ў СССР[71].

Нягледзячы на непаразуменьні, польскае праваслаўнае душпастырства ў заходніх зонах акупацыі Нямеччыны дзейнічала ажно да пачатку 1950-х г., калі лягеры *DP* былі расфармаваныя, а іх жыхары разьехаліся па розных краінах сьвету. За гэты час япіскап Сава некалькі разоў (1946, 1948) наведаў Нямеччыну зь візытацыяй падлеглых яму

---

[68] Krótkie wiadomości // Polski Żołnierz Prawosławny. № 2. 1945. S. 6.

[69] Protokół z konferencji w sprawie opieki duszpasterskiej nad żołnierzami wyznania prawosławnego. 15.XI.1945 r. // IPMS. Sygn: A.XII.28.17C,

[70] Вініцкі, Алесь. Матарыялы да гісторыі беларускае эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг. Ч. II. Рэлігійныя справы. Лёс Анжэлес, 1968. С. 36—37.

[71] Рэфэрат "З жыцьця беларусаў у польскім лягеры Вільдфлекен — частковае аддзяленьне і ад'езд у беларускі лягер" // Беларуская Бібліятэка імя Францішка Скарыны (ББФС). Архіў Лява Гарошкі. С. 5.

парафіяў. Уладыка знаёміўся з патрэбамі аднаверцаў і намагаўся дапамагчы. Япіскап Сава імкнуўся палепшыць матэрыяльны дабрабыт сьвятароў і вернікаў, афармляючы для іх дапамогу ад саюзьніцкіх уладаў, польскага ўраду ў Лёндане, а таксама польскіх грамадзкіх арганізацыяў за мяжой[72]. 19 сьнежня 1948 г. у Дармштаце (*Darmstadt*) япіскап склікаў нараду духавенства, на якой прынялі рашэньне аб рэгістрацыі Польскай праваслаўнай царквы ў Вялікім герцагстве Гесэн й Баварыі. Апрача таго, плянавалася распачаць выданьне польскамоўнага часопісу для праваслаўных[73]. Аднак ані час, ані адсутнасьць адпаведных сродкаў не спрыялі зьдзяйсьненьню гэтых задумаў.

Напрыканцы варта дадаць, што пэўная частка *DP* жыла ў Італіі. На поўдні краіны, у мясцовасьцях Барлета (*Barletta*) і Трані (*Trani*), месьціліся лягеры для перамешчаных асобаў, у якіх былі жыхары даваеннай польскай дзяржавы, пераважна — жанчыны й дзеці. Значная частка іх паходзіла з Заходняй Беларусі. Духоўную апеку над праваслаўнымі жыхарамі абодвух лягераў трымаў а. Мікалай Краўчанка, які, магчыма, паходзіў зь Віленшчыны. Сьвятару дапамагалі вайсковыя капэляны 2-га корпусу. Пры дапамозе вайсковага камандаваньня ў сакавіку 1946 г. у Барлеце была адчыненая капліца Маці Божай Пачаеўскай. Лягеры праіснавалі да жніўня 1946 г., пасьля чаго іх жыхары былі пераведзеныя ў Вялікабрытанію.

## Польская праваслаўная царква ў Вялікабрытаніі пасьля Другой сусьветнай вайны

Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны Брытанскія астравы ператварыліся ў найбуйнейшы асяродак польскай эміграцыі — як вайсковай, гэтак і цывільнай. Восеньню 1946 г. сюды былі перакінутыя польскія вайсковыя аддзелы з Італіі й Блізкага Ўсходу. Да іх далучыліся цывільныя выгнанцы, якія прыехалі з Афрыкі й Блізкага Ўсходу, а таксама частка *DP* з Заходняй Нямеччыны. Павелічэньне колькасьці польскіх эмігрантаў у Вялікабрытаніі паўплывала на лік праваслаўных у гэтай краіне. Паводле зьвестак польскага боку, у 1948 г. колькасьць праваслаўных эмігрантаў зь міжваеннай Польшчы налічвала 11,6 тыс. чалавек. Пры гэтым у іншых крыніцах можна сустрэць лічбу нават да 20 тыс. чалавек. Вернікі праваслаўнай царквы складалі большасьць сярод некаталікоў (57,1 %)[74].

---

[72] Sprawozdanie abp Sawy z podróży do Niemiec od 12 do 24.XII.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 30 II 12.

[73] Protokół konferencji duchowieństwa prawosławnego z Polski odbytej 19.XII.1948 r. w Darmstadcie // IPMS. Sygn.: KOL. 30 II 12.

[74] Zestawienie liczbowe obywateli polskich wyznań niekatolickich, nad którymi — po zlikwidowaniu PKPR — konieczne będzie roztoczenie opieki religijno-moralnej,



Япіскап Сава (Саветаў) сярод жаўнераў
2-га Польскага корусу. Італія, люты 1946 г.

Распачалося расфармаваньне ПУСЗ. Польскія жаўнеры атрымалі магчымасьць дэмабілізацыі альбо часовага ўступленьня ў Польскі корпус прыстасаваньня й разьмяшчэньня (ПКПР), які быў часткай Брытанскага войска. Вайсковыя капэляны ўступілі ў ПКПР, у складзе камандаваньня якога быў створаны Аддзел вайсковых капэлянаў некаталіцкіх веравызнаньняў, які меў праваслаўны сэктар на чале зь япіскапам Савам[75]. Галоўным цэнтрам праваслаўнага жыцьця быў Лёндан, дзе знаходзілася сядзіба япіскапа Савы, а набажэнствы штонядзелю адбываліся ў праваслаўнай царкве Сьв. Мікалая Цудатворцы (*Earls Court, London, S.W. 5*). Будынак праваслаўным падаравала Англіканская царква[76]. Неабходна адзначыць, што англіканскі бок аказаў неацэнную матэрыяльную й духовую дапамогу праваслаўным выгнанцам з Польшчы ў арганізацыі душпастырства. Патрэбы эмігрантаў заўсёды знаходзілі разуменьне з боку англіканскага духавенства.

21.VI.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35; Notatka w sprawie opieki religijno-moralnej dla obywateli polskich wyznań niekatolickich, zamieszkałych w Wielkiej Brytanii // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

75 Nominal roll of Chaplains Excluding Roman-Catholics Denomination. 7th October 1948 // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35; Obsada kapelanów wyznania prawosławnego, stan na 7.X.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

76 Z życia religijnego obywateli polskich wyznania prawosławnego w Anglii // Polski Żołnierz Prawosławny. 1945. № 2. S. 5.

Япіскапы Сава й Мацей падтрымлівалі шчыльную сувязь з кіраўніцтвам Англіканскае царквы[77].

На Астравах адбывалася дэмабілізацыя вайсковых аддзелаў, у выніку якой жаўнеры пакідалі вайсковыя шэрагі й распачынала цывільнае жыццё на эміграцыі. Па меры дэмабілізацыі ПКПР (спыніў існаваньне ў 1949 г.) актуальнасьць набывала стварэньне цывільных парафіяў у месцах, дзе сяліліся дэмабілізаваныя вайскоўцы й іх сем'і. Кансалідацыі выгнанцаў вакол ідэі польскага праваслаўя мелася спрыяць Брацтва польскіх грамадзянаў праваслаўнага веравызнаньня ў Вялікабрытаніі, створанае з богаславеньня япіскапа Савы яшчэ ў 1944 г.[78] Брацтва магло праводзіць культурна-асьветную працу, забясьпечваць духоўныя й матэрыяльныя патрэбы сваіх сяброў, супрацоўнічаць зь дзяржаўнымі й грамадзкімі арганізацыямі[79]. Сядзіба Брацтва месьцілася ў Лёндане на адрасе: *7 Penywern Road, London, S.W.5*[80]. Асноўнай крыніцай фінансаваньня былі сяброўскія складкі й вонкавая дапамога (пераважна з боку польскага эміграцыйнага ўраду). Ачольваў арганізацыю япіскап Сава[81]. Павелічэньне колькасьці праваслаўных на Брытанскіх астравах спрычынілася да значнай актывізацыі брацтва. У 1946 г. кіраўніцтва арганізацыі ініцыявала будаўніцтва Праваслаўнага дому ў Лёндане. У гэтым жа годзе ў чэрвені пабачыў сьвет першы нумар друкаванага органу "Польскі праваслаўны штомесячнік" ("*Polski Miesięcznik Prawosławny*")[82], а ў наступным годзе ў Лёндане пачаў выходзіць "Праваслаўны бюлетэнь" (*"Biuletyn Prawosławny"*)[83]. Праводзілася таксама інфармацыйная праца пры дапамозе радыё. Япіскап Сава запісаў некалькі казаньняў і набажэнстваў на хвалях Бі-Бі-Сі[84].

Тым часам статус польскай праваслаўнай эміграцыі быў нявызначаны й наўпрост залежаў ад сытуацыі ў Праваслаўнай царкве ў паваеннай

[77] Bishop Mathew (Constantinus Siemaszko), Acting Polish Orthodox Bushop of Vilno, Statement made at conjoint meeting Roman Catholic and Orthodox Committees, 15th January 1945 // LPL CERC, CFR CFR DOC1/347.

[78] Wykaz organizacji społecznych, do których wolno należeć żołnierzom PSZ // IPMS. Sygn.: KOL. 465.35.

[79] Protokół obrad dorocznego zebrania walnego Koła Obywateli Polskich Wyznania Prawosławnego. 12.XI.1944 // IPMS. Sygn.: A.XII.3/33.

[80] Statut Koła (Bractwa) Obywateli Polskich Wyznania Prawosławnego w Wielkiej Brytanii // Polski Żołnierz Prawosławny. 1946. № 3. S. 9—10.

[81] Sprawozdanie finansowe BOPWP. 12.XI.1944 // IPMS. Sygn.: A.XII.3/33.

[82] Nowe pismo prawosławne // Polski Żołnierz Prawosławny. № 8—9. 1946. S. 2.

[83] Grzybowski, Jerzy. Prasa i wydawnictwa Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego na obczyźnie podczas II wojny światowej. S. 3—12.

[84] Zięba, Andrzej. "Wojna popów". S. 40.

Польшчы. Да сярэдзіны 1947 г. эміграцыйныя япіскапы Сава й Мацей прызнаваліся царкоўнымі ўладамі ў Варшаве. У красавіку 1947 г. мітрапаліт Дыяніс надаў япіскапу Саву годнасьць архіяпіскапа й прызначыў яго адміністратарам ПАПЦ на эміграцыі. Аднак зь цягам часу становішча варшаўскага мітрапаліта зрабілася няпэўным. У Польшчы быў усталяваны камуністычны рэжым, і існавала верагоднасьць, што праваслаўная царква ў гэтай краіне стане часткай РПЦ. Лічачыся з такім сцэнаром, польскі эміграцыйны ўрад у Лёндане рыхтаваўся да стварэньня на эміграцыі асобнай царкоўнай структуры на чале з уладыкамі Савам і Мацеем, якая павінна была працягваць традыцыі даваеннай аўтакефаліі[85]. Пэўны крок у гэтым напрамку быў зроблены 25 жніўня 1947 г., калі ў Лёндане была пакліканая Япіскапская рада ў наступным складзе: архіяпіскап Сава (старшыня), япіскап Мацей (віцэ-старшыня), а. Ян Савіч, а. Усевалад Яськоў, а. Уладзімер Пятручык, а. Серафім Краскоўскі, а. Мікалай Макарэвіч, а. Іван Сотнікаў, а. Якуб Касьцючык (канцлер), а. Мікалай Краўчанка, а. Вячаслаў Тарановіч, Мікіта Бура (прадстаўнік недухоўных), Мар'ян Савіцкі (сакратар). Усе сябры Рады за выняткам трох (Сава, Мацей, Мікіта Бура) паходзілі зь Беларусі. Новы орган інаўгураваў сваю дзейнасьць 9 верасьня 1947 г. у Лёндане[86]. Рада кіравалася прынцыпамі даваеннай ПАПЦ і дэкляравала аддынанасьць мітрапаліту Варшаўскаму Дыянісу[87].

Адначасова пачаўся працэс стварэньня сеткі парафіяў, якія ўзьніклі ў месцах расьсяленьня дэмабілізаваных вайскоўцаў і іх сем'яў, а сьвятарамі былі вайсковыя капэляны[88]. Такім чынам, а. Іван Сотнікаў стаў пробашчам у Эдынбургу, аа. Серафім Краскоўскі і Ўсевалад Яськоў намагаліся стварыць парафіі адпаведна ў Брэдфардзе й Манчэстэры[89]. Варта дадаць, што япіскап Сава ня толькі рупіўся пра стварэньне душпастырства на Брытанскіх астравах і на кантынэнце, але таксама намагаўся ня траціць з далягляду даваенных польскіх грамадзянаў, якія абралі ў якасьці месца

[85] Notatka dla ministra w sprawie autokefalii Kościoła prawosławnego w Polsce. 10 II 1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35; Załącznik do notatki pt. Kościół prawosławny w Polsce oraz Kościoły ukraińskie: autonomiczny i autokefaliczny oraz stosunki wewnętrzne w Kościele prawosławnym na emigracji w W. Brytanii. 25.IX.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35; Notatka informacyjna w związku z ustnym meldunkiem abpa Sawy u inspektora generalnego PKPR. 1.III.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[86] Protokół zebrania Rady Biskupiej. 9.IX.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[87] Rozporządzenie abpa Sawy o powołaniu Rady Biskupiej. 25.VIII.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[88] Notatka szefa Zespołu Kapelanów Wyznań Niekatolickich do Generalnego Inspektora PKPR. 31.XII.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[89] Notatka szefa Zespołu Kapelanów Wyznań Niekatolickich do Generalnego Inspektora PKPR. 31.XII.1948 r.

жыхарства заморскія краіны. З гэтай мэтай а. Мікалаю Макарэвічу было даручана рэпрэзэнтаваць інтарэсы польскага праваслаўя ў Аргентыне. Духоўнік спрабаваў стварыць парафію ў Буэнас-Айрэсе[90].

Разам з тым, на этапе расфармаваньня вайсковага й стварэньня цывільнага душпастырства абвастрылася нацыянальнае пытаньне. Па меры прыбываньня ў Вялікабрытанію новых эмігрантаў, а таксама дэмабілізацыі вайскоўцаў сярод непалякаў актывізавалася нацыянальна-арганізацыйная дзейнасьць, у тым ліку на царкоўным абшары. Перадусім гэта датычыла ўкраінскага руху, дзеячы якога распачалі стварэньне на астравах сеткі парафіяў УАПЦ. Упершыню "ўкраінскае пытаньне" ў кантэксьце польскага праваслаўнага эміграцыйнага душпастырства праявілася ў працы Брацтва польскіх грамадзянаў праваслаўнага веравызнаньня ў Вялікабрытаніі. На пасяджэньні кіраўніцтва арганізацыі 21 красавіка 1947 г. дэпутат даваеннага польскага Сойму Мікіта Бура выказаў думку, што Брацтва — фікцыя, паколькі ягоныя сябры — ня польскія грамадзяне, таму павінны далучыцца да УАПЦ. Заява ўкраінскага дзеяча выклікала абурэньне часткі сяброў управы на чале зь япіскапам Мацеем, якія дамагаліся выключэньня Буры з Брацтва[91]. У жніўні 1947 г. япіскап УАПЦ Мсьціслаў (Скрыпнік) накіраваў зварот да архіяпіскапа Савы, у якім інфармаваў польскага ярарха аб пачатку стварэньня на астравах парафіяў УАПЦ і лічыў недапушчальным прыналежнасьць украінскіх вернікаў да праваслаўнага душпастырства пад эгідай Польшчы[92].

У баку ад падзеяў не засталіся таксама беларусы. У студзені 1947 г. у Лёндане адбыўся ўстаноўчы зьезд Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), заснавальнікамі якога былі дзейныя й дэмабілізаваныя польскія вайскоўцы. Пераважную большасьць сябраў арганізацыі складалі менавіта праваслаўныя, таму царкоўнае пытаньне ў беларускай дзейнасьці займала далёка не апошнюю ролю. У 1947 г. ЗБВБ зьвярнулася да польскага камандаваньня з мэмарыялам, які ўтрымліваў, між іншага, жаданьне прыняць у вайсковыя шэрагі беларускіх сьвятароў у якасьці капэлянаў. Польскі бок паставіўся з насьцярогай да гэтай ініцыятывы[93]. З нататкі кіраўніка Аддзелу вайсковых капэлянаў некаталіцкіх веравызнаньняў ПКПР вынікае, што вайсковае камандаваньне разглядала праявы беларускай нацыянальнай працы як не-

[90] List ks. M. Makarewicza do J. Jawicza. 25.XI.1948 // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[91] List członków zarządu BOPWPwWB do abpa Sawy w sprawie N. Bury. 22.IV.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[92] List bpa Mścisława do abpa Sawy (odpis). VIII.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[93] 465/35. Notatka do rozmowy gen. Kopańskiego z przedstawicielami Związku Białorusinów w Wielkiej Brytanii // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

пажаданыя з гледзішча польскіх дзяржаўных інтарэсаў[94]. Разам з тым, цалкам ігнараваць пачуцьці нацменаў было немагчыма й немэтазгодна. Аднак утрымаць раўнавагу паміж кансалідацыяй вайскоўцаў вакол ідэі польскай дзяржаўнасьці й захаваньнем пэўнай нацыянальнай палёгкі было складана. Яскрава сьведчыць аб гэтым факт, што, з аднаго боку, камандаваньне лічыла пажаданым, каб праваслаўныя вайскоўцы-непалякі мелі магчымасьць слухаць казаньні на сваёй роднай мове[95], а зь іншага — загадвала капэлянам, каб яны карысталіся толькі польскай мовай[96]. Гэта ж датычыла адносінаў да арганізацыяў нацыянальных меншасьцяў. Загадам камандаваньня дазвалялася сяброўства вайскоўцаў у ЗБВБ[97], але адначасова занепакоенасьць польскага боку выклікалі весткі пра магчымыя кантакты капэлянаў з прадстаўнікамі беларускіх, украінскіх альбо расейскіх арганізацыяў. Камандаваньне мела засьцярогі ў адносінах а. Мікалая Макарэвіча, а. Уладзімера Пятручыка, а. Серафіма Краскоўскага й а. Усевалада Яськова, баючыся, што яны могуць быць схільнымі да супрацоўніцтва з нацыянальнымі рухамі[98]. У студзені 1948 г. вайсковае камандаваньне востра зарэагавала на чуткі пра тое, што а. Яськоў падчас набажэнства нібыта ўзносіў малітвы за першаярарха РПЦЗ мітрапаліта Афанасія (Грыбаноўскага), што разглядалася як магчымая спроба сьвятара перайсьці ў іншую царкоўную юрысдыкцыю. Нягледзячы на тое, што гэтыя зьвесткі не пацьвердзіліся, камандаваньне надало справе вялікую ўвагу[99].

Ці была насьцярожанасьць польскага боку ў сувязі з актыўнасьцю ўкраінцаў і беларусаў на царкоўным пагосьце абгрунтаваная? Дзейнасьць адных і другіх мела розныя наступствы. Праца ўкраінскіх аўтакефалістаў знайшла водгук сярод большасьці эмігрантаў-украінцаў, што стала галоўнай прычынай нешматлікасьці прадстаўнікоў гэтай нацыянальнасьці сярод вернікаў польскіх парафіяў. Інакш выглядала

[94] Notatka kierownika Zespołu Kapelanów Wyznań Niekatolickich PKPR w sprawie obywateli polskich wyznania prawosławnego. 20.V.1947 // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[95] Notatka pt. "Kościół prawosławny w Polsce oraz Kościoły ukraińskie: autonomiczny i autokefaliczny oraz stosunki wewnętrzne w Kościele prawosławnym na emigracji w W. Brytanii". IX.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[96] List kierownika ZKWN do abpa Sawy. 13.I.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[97] Rozkaz gen. S. Kopańskiego № l.dz.1742/Og.46 z 16 listopada 1946 r. // ББФС. Архіў Часлава Сіповіча.

[98] Notatka informacyjna w związku z ustnym meldunkiem abpa Sawy u inspektora generalnego PKPR. 1.III.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[99] List kierownika ZKWN mjr J. Jawicza do abpa Sawy. 13.I.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.; Notatka informacyjna w związku z ustnym meldunkiem abpa Sawy u inspektora generalnego PKPR. 1.III.1948 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

справа беларусаў, якія былі дамінантнай групай сярод вернікаў польскага праваслаўя ў Вялікабрытаніі. Адбылося гэта з шэрагу аб'ектыўных прычынаў. Стрыжань польскіх парафіяў складалі колішнія вайскоўцы ПУСЗ і іх сваякі. Сярод гэтых катэгорыяў даваенных польскіх грамадзянаў пераважалі менавіта беларусы, якія ў сваёй большасці не адзначаліся нацыянальнай актыўнасьцю. Шмат хто зь іх наогул меў клопат з вызначэньнем уласнай нацыянальнай ідэнтычнасьці, а ўспрыманьне свайго зводзілася да рэлігійных крытэраў. Былыя вайскоўцы добра ведалі сваіх ранейшых капэлянаў, таму ахвотна пагаджаліся быць іх парафіянамі, а справа царкоўнай юрысдыкцыі ня мела прынцыповага значэньня. Апрача таго, да польскага душпастырства далучыліся прадстаўнікі сьведамага беларускага актыву, што належыць лічыць вынікам адсутнасьці на пэўным гістарычным этапе ўласных нацыянальных царкоўных структураў у Вялікабрытаніі. Удзел гэтых людзей у набажэнствах польскіх сьвятароў нельга атаясамліваць з прыняцьцем імі польскіх палітычных ці ідэалягічных пастулятаў, паколькі гаворка ішла выключна пра пошук заспакаеньня духоўных патрэбаў ва ўмовах адсутнасьці ўласнай царквы.

У сваю чаргу япіскап Сава добра разумеў становішча сваіх беларускіх аднаверцаў, таму рабіў усё магчымае, каб затрымаць іх у сваёй юрысдыкцыі. З гэтай мэтай ён быў гатовы пайсьці на пэўныя саступкі. Япіскап Сава зрабіў некалькі крокаў у бок беларусаў, паказваючы, што прынамсі ня ставіцца варожа да іх нацыянальных каштоўнасьцяў. Ярарх ахвяраваў пэўныя сродкі на Беларускі дом у Лёндане. У 1948 г. адгукнуўся на запрашэньне беларускай грамады Лёндану, згуртаванай вакол Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў (ХАБР), адпраўляючы набажэнствы з нагоды беларускіх нацыянальных сьвятаў, а таксама паніхіды за душы памерлых беларускіх патрыётаў[100]. Больш за тое, пры захаваньні звонку польскага аблічча сваёй царквы (назва, статут, зносіны з польскім эміграцыйным урадам) уладыка дазваляў ва ўнутраным царкоўным жыцьці кіравацца нацыянальнымі прыкметамі. Яскравым прыкладам была дзейнасьць Брацтва польскіх грамадзянаў праваслаўнага веравызнаньня ў Вялікабрытаніі, у працы якога польская мова была чутна штораз радзей[101], а ў 1949 г. канцылярыя арганізацыі ўвогуле перайшла на беларускую мову[102]. Варта таксама падкрэсьліць, што ўладыка актыўна дапамагаў аднаверцам, у тым ліку беларусам, у эміграцыі за акіян. Парушаючы службовы рэгулямін, як праваслаўны

[100] Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 240, 340.

[101] Zięba, Andrzej. “Wojna popów”. S. 49; List członków zarządu Bractwa Obywateli Polskich Wyznania Prawosławnego w Wielkiej Brytanii do abpa Sawy w sprawie N. Bury. 22.IV.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[102] Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 340.

вайсковы япіскап выдаваў рэкамэндацыі тым, хто меў клопаты з уездам у ЗША. Сярод тых, каму такім чынам дапамог япіскап Сава, быў а. Мікалай Лапіцкі.

Саступкі на карысьць беларусаў лічыліся празьмернымі й адмоўна ацэньваліся прадстаўнікамі польскага эміграцыйнага кіраўніцтва й вайсковага камандаваньня, якое неаднойчы за гэта дакарала ўладыку[103]. Кіраўнік Аддзелу вайсковых капэлянаў некаталіцкіх веравызнаньняў ПКПР пісаў: *"Сярод праваслаўнага веравызнаньня пануюць украінскія й беларускія рухі. Архіяп. Сава і япіскап Мацей рэпрэзэнтуюць напрамак чыста польскі, як і большасьць капэлянаў. Але архіяп. Сава, нягледзячы на сваю прапольскую пазыцыю, у адносінах гэных рухаў не займае рашучай пазыцыі. Хоча ўсім дагадзіць і баіцца раззлаваць"*[104].

Далікатнасьць у нацыянальных справах таксама намагаліся захоўваць падлеглыя ўладыку сьвятары. Колішнія капэляны імкнуліся выглядаць "сваімі" ў вачох беларускіх вернікаў, не падкрэсьліваючы прыналежнасьці да польскай царкоўнай юрысдыкцыі, якую яны рэпрэзэнтавалі. У часе багаслужбы ў Манчэстэры (27 сакавіка 1948 г.), адпраўленай на ўгодкі БНР, а. Усевалад Яськоў у сваёй казані адзначыў, што ў 1918 г. быў сьведкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Некаторыя духоўнікі (а. Серафім Краскоўскі, а. Мікалай Макарэвіч) нейкі час належалі да ЗБВБ. Аднак адносіны паміж беларускім актывам і польскім праваслаўным духавенствам не былі пазбаўленыя супярэчнасьцяў. Здараліся сытуацыі, калі вернікі выказвалі сваю незадаволенасьць тым, што сьвятары моляцца за польскага япіскапа й польскі ўрад. Такія выпадкі мелі месца, напрыклад, у красавіку 1949 г. у Брэдфардзе, а таксама ў жніўні 1949 г. у Ковэнтры (*Coventry*). Пры гэтым гаворка не ішла пра асобу япіскапа Савы, паколькі дзякуючы сваім лагодным чалавечым якасьцям уладыка здабыў пашану й давер многіх беларусаў. У сапраўднасьці эмігранты такім чынам выказвалі нязгоду на прыналежнасьць да царкоўнай юрысдыкцыі й дзяржаўнай справы, якую ён увасабляў[105]. Нагадаем, што ярарх шчыльна супрацоўнічаў з польскім урадам на выгнаньні, быў чальцом эміграцыйнага парлямэнту, а таксама належаў да кіраўніцтва Саюзу ўсходніх земляў. Апошняя функцыя ўладыкі выклікала асабліва вострую крытыку беларускага боку[106].

---

[103] List gen. K. Wiśniewskiego do gen. S. Kopańskiego w sprawie abpa Sawy. 13.VI.1946 r. // IPMS. Sygn.: A.XII.28/17C.

[104] Notatka kierownika ZKWN dla Inspektora Generalnego PKPR w sprawie obywateli polskich wyznania prawosławnego. 20.V.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[105] Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 340—344.

[106] Gotowiecki, Piotr. O Polskę z Wilnem i Lwowem. Związek Ziem Północno-Wschodnich RP (1942—1955). Warszawa, 2012. S. 91, 145; Wolsza, Tadeusz.

Дзейнасьць польскага праваслаўнага душпастырства ўскладнялі ня толькі нацыянальныя супярэчнасьці. Сярод ягоных кіраўнікоў існаваў востры ўнутраны канфлікт. Частка вернікаў і сьвятароў на чале зь япіскапам Мацеем імкнулася адхіліць япіскапа Саву ад кіраваньня царкоўнымі справамі. Япіскап Мацей абапіраўся на групу, якая залічвала сябе да праваслаўных палякаў. 12 чэрвеня 1948 г. у Лёндане адбылося пасяджэньне арганізацыйнага камітэту для стварэньня Таварыства праваслаўных палякаў за мяжой (*Polish Orthodox Association Abroad*)[107]. Арганізацыя канчаткова аформілася 3 красавіка 1949 г. на вальным зьезьдзе сяброў у Доме вэтэрана ў Лёндане[108]. Таварыства мела характар грамадзкай арганізацыі, якая стаяла на грунце незалежнасьці польскай дзяржавы ў даваенных межах. З мэтай пашырэньня сваіх ідэяў кіраўніцтва выказала жаданьне выдаваць часопіс "Праваслаўны паляк" (*"Polak Prawosławny"*)[109]. Новая арганізацыя была вельмі нешматлікай, а ейнымі сябрамі былі пераважна колішнія афіцэры й падафіцэры ПУСЗ[110]. Духоўным натхняльнікам таварыства быў япіскап Мацей[111]. Стварэньне арганізацыі было выклікам, кінутым япіскапу Саву. Зброяй у змаганьні зь ім сталі скаргі да польскіх эміграцыйных уладаў, у якіх праваслаўныя палякі вінавацілі Саву ў русафільстве (ён быў расейцам. — ***Ю. Г.***) і дыктатарскім кіраваньні царквой[112].

Rząd RP na obczyźnie wobec wydarzeń w kraju 1945—1950. Warszawa, 1998. S. 54.

107 Protokół zebrania komitetu organizacyjnego Zrzeszenia Prawosławnych Polaków Zagranicą. 12.VI.1948 // IPMS. Sygn.: A.11/1483; List abpa Sawy do MSZ, MSW, MWRiOP w sprawie Zrzeszenia Polaków prawosławnych. 24.II.1949 r. // IPMS. Sygn.: A.11/1483; Notatka w sprawie zatargu między abp. Sawą i bp. Mateuszem. 28.VI.1949 r. // IPMS. Sygn.: A.11/1483.

108 Przemówienie M. Chisholm-Sawickiego na otwarciu konstytucyjnego zebrania walnego Zrzeszenia Prawosławnych Polaków Zagranicą // IPMS. Sygn.: A.11/1483.

109 Statut Zrzeszenia Prawosławnych Polaków Zagranicą (projekt). 1948 // IPMS. Sygn.: A.11/1483.

110 Protokół Zebrania Walnego Zrzeszenia Prawosławnych Polaków Zagranicą. 3.IV.1949 // IPMS. Sygn.: A.11/1483.

111 List bp Mateusza do M. Chisholm-Sawickiego. 20.XI.1948 // IPMS. Sygn.: A.11/1483.

112 List ks. S. Kraskowskiego do Inspektora Generalnego PKPR. 27.V.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35; List bp Mateusza do MWRiOP. 6.IV.1949 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483; List bp Mateusza do MWRiOP. 20.X.1949 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483; List bp Mateusza do MWRiOP. 20.X.1949 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483; List M. Chisholm-Sawickiego do MWRiOP. 23.X.1949 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483; List M. Chisholm-Sawickiego do MWRiOP. 7.II.1951 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

Япіскап Сава намагаўся абараняцца ад гэтых закідаў, крытычна ацэньваючы ўтварэньне новай арганізацыі, якая, на ягоную думку, паглыбляла нацыянальныя падзелы сярод нешматлікай праваслаўнай эміграцыйнай супольнасьці[113].

Прычынай сваркі была асабістая антыпатыя паміж эміграцыйнымі япіскапамі, а таксама амбіцыі гэтых ярархаў. Абодва ўладыкі лічыліся з тым, што ў будучыні ім давядзецца стаць на чале польскай праваслаўнай эміграцыйнай царквы, таму кожны імкнуўся адыграць у гэтым працэсе галоўную ролю. Вось якім чынам спрэчку характарызаваў прадстаўнік польскіх урадавых колаў: *"Мы мусім лічыцца з тым, што Польская праваслаўная царква на пэўным этапе будзе вымушаная прызнаць вяршэнства Масквы, а тады далейшыя традыцыі будзе працягваць Польская праваслаўная царква на эміграцыі. Належыць меркаваць, што гэта пытаньне зьяўляецца адным з найважнейшых пунктаў ціхай барацьбы паміж архіяп. Савам і яп. Мацеем. Адзін і другі мараць аб тым, каб адыграць вялікую ролю ў жыцьці Польскай праваслаўнай царквы на эміграцыі*"[114].

Тым часам падзеі ў камуністычнай Польшчы набылі іншы характар, чым уяўлялі эмігранты. Першапачаткова ўлады ў Маскве й Варшаве сапраўды бралі пад увагу магчымасьць уключэньня Праваслаўнай царквы ў Польшчы ў склад Маскоўскага патрыярхату. Хутка, аднак, было вырашана адмовіцца ад гэтага сцэнара. За захаваньне аўтакефальнага статусу перадусім выступалі польскія камуністы, якія лічылі, што пазбаўленьне мясцовай царквы самастойнасьці будзе спрыяць варожай прапагандзе, даючы ёй нагоду сьцьвярджаць, што варшаўскія ўлады — марыянэткі Масквы да такой ступені, што мусяць ёй падпарадкоўвацца нават у царкоўных справах. У Маскве аргумэнты польскіх калегаў былі ўспрынятыя як пераканаўчыя пры ўмове адмовы ад даваеннай аўтакефаліі, якую ў 1924 г. Праваслаўнай царкве ў Польшчы надаў усяленскі патрыярх[115]. Пасьля адхіленьня камуністычнымі ўладамі ад кіраваньня царкоўнымі справамі мітрапаліта Дыяніса, настваораная часовая кіраўнічая калегія выслала дэлегацыю ў Маскву, якая выраклася даваеннай аўтакефаліі, а ўзамен 22 чэрвеня 1948 г. Сынод РПЦ выдаў "Акт аб паўторным узьяднаньні Польскай праваслаўнай царквы

[113] Notatka w sprawie zatargu między abp. Sawą i bp. Mateuszem. 28.VI.1948 r. // IPMS. Sygn.: A.11/1483.

[114] Załącznik memoriału do notatki pt. "Kościół prawosławny w Polsce oraz Kościoły ukraińskie: autonomiczny i autokefaliczny oraz stosunki wewnętrzne w Kościele prawosławnym na emigracji w W. Brytanii". 25.IX.1947 r. // IPMS. Sygn.: KOL. 465/35.

[115] Referat H. Świątkowskiego pt. Sprawa Kościoła prawosławnego w Polsce. 10.II.1947 r. // AAN. Sygn.: MAP. T. 1042. K. 40–42.

з Расейскай праваслаўнай царквой і аб наданьні ёй аўтакефаліі[116]. Такім чынам, у XX ст. Праваслаўная царква ў Польшчы другі раз атрымала аўтакефалію, але гэтым разам з рук Маскоўскага патрыярхату. У тагачасных геапалітычных умовах захаваньне прынамсі фармальнай царкоўнай самастойнасьці было магчыма коштам адмовы ад даваеннай аўтакефаліі.

Польскія ўлады на выгнаньні не прызналі зьменаў, якія адбыліся на радзіме. Сваю пазыцыю эміграцыйны ўрад задэманстраваў шляхам выданьня адпаведных дыпляматычных заяваў. У лютым 1949 г. архіяпіскап Сава й кіраўнік МЗС Адам Тарноўскі зьвярнуліся да Ўсяленскага патрыярха Афінагора з просьбай абараніць даваенны статус польскага праваслаўя[117]. Гэтыя захады прынесьлі свой плён, паколькі Канстантынопаль не прызнаў вышэйзгаданых зьменаў і новага кіраўніцтва Варшаўскай мітраполіі. У наступныя гады “польскае пытаньне” было прадметам рознагалосьсяў паміж Канстантынопалем і Масквой[118]. Гэты канфлікт належыць разглядаць як адзін з элемэнтаў халоднай вайны, якая мела таксама свой “праваслаўны фронт”.

Падзеі ў Польшчы спрычыніліся да вызначэньня канчатковага статусу польскага праваслаўя на чужыне. У новай рэчаіснасьці далейшае ўтрыманьне эўхарыстычнай лучнасьці з Варшаўскай мітраполіяй было немагчымае, а польскае праваслаўнае душпастырства на эміграцыі магло існаваць на кананічных падставах толькі з багаслаўленьня Канстантынопалю. У сувязі з гэтым было прынята рашэньне зьвярнуцца да Ўсяленскага патрыярха ў справе арганізацыі Польскай праваслаўнай царквы на эміграцыі[119]. У сакавіку 1951 г. архіяпіскап Сава накіраваў патрыярху Афінагору (Сьпіру) адпаведны мэмарандум[120]. Працэсу стварэньня Польскай праваслаўнай царквы на эміграцыі не спыніла нават раптоўная сьмерць архіяпіскапа Савы 21 траўня 1951 г. Новым кіраўніком польскага праваслаўя на чужыне стаў япіскап Мацей, які 31 траўня 1951 г. быў прызнаны польскім урадам на выгнаньні галоўным

[116] Волокитина, Т., Мурашко, Г., Носкова, А. Москва и Восточная Европа: Власть и церковь в период общественных трансформаций 40—50-х годов XX века: Очерк истории. Москва, 2008. С. 298—301; Mironowicz, Antoni. Kościół prawosławny w Polsce. S. 682.

[117] List ministra A. Tarnowskiego do patriarchy Atenagorasa. 5.II.1949 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

[118] Położenie Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego w Polsce // Orzeł Biały. 16 czerwca 1951. S. 4—5.

[119] Notatka w sprawie aktualnego stanu autokefalii polskiej // IPMS. Sygn.: PRM 85.

[120] Notatka w sprawach aktualnych Polskiego Kościoła Prawosławnego. VI.1951 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

душпастырам польскіх праваслаўных эмігрантаў[121]. 7 чэрвеня 1951 г. уладыка паклікаў часовую епархіяльную Кансысторыю, у склад якой увайшлі ад сьвятарства: а. Мікалай Макарэвіч, а. Уладзімер Пятручык, а. Вячаслаў Тарановіч; ад вернікаў: Мікалай Баландовіч, Уладзімер Зьвераў і Канстанцін Кананові (сакратар)[122]. Такім чынам утварылася Польская праваслаўная царква ў Вялікай Брытаніі (ППЦВБ) (*Polish Orthodox Church of Gt. Britain*), якая на правох аўтаноміі была ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. Япіскап Мацей быў залічаны як вікарый у склад епіскапату архідыяцэзіі Тыятыры й Вялікабрытаніі з наданьнем яму годнасьці япіскапа Аспэндасу. Пры гэтым ярарх ва ўнутрыцаркоўным жыцьці працягваў выкарыстоўваць тытул — япіскап Віленскі[123]. У хуткім часе ён наладзіў супрацоўніцтва з праваслаўным эміграцыйным духавенствам іншых цэркваў, у тым ліку сэрбскай і расейскай[124]. У ліпені 1951 г. япіскап Мацей прапанаваў высьвяціць на патрэбы ППЦВБ яшчэ аднаго япіскапа, але праз адсутнасьць адпаведных кандыдатаў задума засталася нерэалізаванай[125]. Адначасова Кансысторыя рабіла захады перад польскім урадам, каб той зьвярнуўся да патрыярха Афінагора з просьбай надаць япіскапу Мацею годнасьць архіяпіскапа. Гэты плян таксама ня быў зьдзейсьнены[126].

Польскія ўлады разьлічвалі на тое, што эміграцыйнае душпастырства здолее ахапіць каля 12 тыс. вернікаў, аб’яднаных у сямі парафіях, якія будуць абслугоўваць 16 сьвятароў, у тым ліку: 10 — у Вялікабрытаніі, 5 — у Нямеччыне й 1 — у Аўстраліі. У сапраўднасьці, аднак, юрысдыкцыя польскага праваслаўнага духавенства абмежавалася Брытанскімі астравамі[127]. На падставе даступных матэрыялаў можна меркаваць, што да Польскай праваслаўнай царквы ў Вялікабрытаніі ў розны час належалі парафіі ў Лёндане, Брэдфардзе, Брыстале, Эдынбургу, Лідсе й Нотынгэме. Побач зь япіскапам Мацеем у розны час іх абслугоўвалі былыя вайсковыя капэляны аа. Серафім Краскоўскі, Іван Сотнікаў,

[121] List prezesa Rady Ministrów do bpa Mateusza. 31.V.1951 // IPMS. Sygn.: PRM.E/85.

[122] Zięba, Andrzej. “Wojna popów”. S. 50.

[123] Zięba, Andrzej. Siemaszko Konstanty Mateusz / Polski Słownik Biograficzny. T. 36. Z. 1. Kraków, 1995. S. 615.

[124] Notatka w sprawach aktualnych Polskiego Kościoła Prawosławnego. VI.1951 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

[125] Pro Memoria z konferencji w dniu 9 VII 1951 r. w sprawach prawosławnych. 10.VII.1951 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

[126] Pismo Konsystorza PAKP na uchodźstwie do premiera Rady Ministrów gen. R. Odzierzyńskiego. 2.IX.1951 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

[127] List Ministra dla Spraw Obywateli Polskich na Obczyźnie Z. Rusinka do MSZ. 26.IV.1951 // IPMS. Sygn.: A.11E/1483.

Уладзімер Пятручык, а таксама іншыя сьвятары-беларусы: а. Арсень Каржанеўскі, а. Вячаслаў Тарановіч, а. Павал Вялікі. Усе вышэйзгаданыя духоўнікі, за выняткам япіскапа Мацея, паходзілі зь Беларусі. Акрамя таго, у польскіх парафіях служылі некалькі мясцовых ангельскіх сьвятароў.

Да найбольш шматлікіх належала парафія Сьв. Мікалая ў **Лёндане**, утвораная яшчэ ў часе Другой сусьветнай вайны. Да канца 1950-х гг. набажэнствы адбываліся ў былой англіканскай царкве Сьв. Мацея. Пачынаючы з 1960-х г. парафія карысталася сэрбскай царквой Сьв. Савы (*89 Lancaster Road*), дзе раз на месяц набажэнствы адпраўляў япіскап Мацей[128]. Акрамя яго ў лёнданскай парафіі служылі аа. Вячаслаў Тарановіч і Павал Вялікі. Актыўна разьвівалася парафія ў гонар Нараджэньня Багародзіцы ў **Брыстале**, створаная ўвесну 1948 г. Першым пробашчам стаў а. Уладзімер Пятручык (1948—1954), а пасьля яго душпастырам быў а. Вячаслаў Тарановіч (1954—1957, 1965—1967). У 1968 г. япіскап Мацей пасьвяціў новы будынак, у якім парафія месьціцца да сёньня[129]. У **Эдынбургу** ў 1948 г. была заснаваная парафія Сьв. Андрэя, першым пробашчам якой быў а. Іван Сотнікаў[130]. Набажэнствы адбываліся ў будынку англіканскай царквы Сьв. Міхала і ўсіх сьвятых, дзе на патрэбы праваслаўных была створаная капліца[131]. Парафія Сьв. Ёва Пачаеўскага ў **Лідсе** была арганізаваная ў сьнежні 1948 г. Нешматлікай праваслаўнай супольнасьцю апекаваўся а. Арсень Каржанеўскі, які адпраўляў набажэнствы два разы на месяц у будынку англіканскай царквы Сьв. Маргарыты[132]. Увесну 1949 г. была створаная парафія Сьв. Юр'я ў **Брэдфардзе**, якой апекаваўся а. Серафім Краскоўскі. Захаваліся зьвесткі пра тое, як у лютым 1950 г. архіяпіскап Сава адбыў візытацыю парафіі, у вялікай урачыстасьці бралі ўдзел каля 300 асобаў — польскіх і сэрбскіх камбатантаў[133]. Пасьля сьмерці а. Краскоўскага ў 1957 г. парафія спыніла існаваньне, а вернікі далучыліся да іншых цэркваў. Парафія Сьв. Мікалая Цудатворцы ў **Нотынгэме** была заснаваная ў 1949 г., а служылі ў ёй аа. Серафім Краскоўскі й Вячаслаў

---

[128] Jeżewski, Bohdan. Polski Londyn / Polish Guide to London. Londyn, 1969. S. 33, 46.

[129] Church of the Nativity of the Mother of Gad. A history of the parish of the Nativity of the Mother of God, Bristol, to celebrate the fiftieth anniversary of its foundation. Bristol, 1998. S. 5—7.

[130] Hemerologion. London, 1980. S. 177.

[131] Ліст архімандрыта Кірылы Джэнэра да аўтара. 19.VII.2015. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу.

[132] Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 342.

[133] Wizyta arcybiskupa Sawy w hrabstwie Jork // Dziennik Polski i Dziennik Żołnierza. № 40. 1950. S. 3.

Тарановіч. У 1964 г. вернікі перайшлі ў юрысдыкцыю БАПЦ. Ёсьць зьвесткі пра існаваньне супольнасьці ў **Ковэнтры**, дзе 21 жніўня 1949 г. адбылося першае набажэнства. Верагодна, што тутэйшая праваслаўная грамада існавала непрацяглы час.[134] Акрамя таго, нешматлікія групкі вернікаў жылі ў Суіндане (*Swindon*), Кеймбрыджы (*Cambridge*), Болтане (*Bolton*) і Прэстане (*Preston*), якія час ад часу абслугоўвалі прыежджыя сьвятары[135].

Набажэнствы адбываліся на царкоўнаславянскай мове. У першыя паваенныя гады было адпраўлена некалькі польскамоўных багаслужбаў, але гэты звычай ня меў працягу праз адсутнасьць удзельнікаў. Урыўкі са Сьвятога Пісаньня чыталіся ў розных мовах. Велікодныя й калядныя пасланьні япіскап Мацей выдаваў па-расейску. Зь цягам часу некаторыя набажэнствы адбываліся на ангельскай мове, што было вынікам асыміляцыі маладога пакаленьня і ўдзелу ў багаслужбах прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў (грэкаў, сэрбаў, ангельцаў, латышоў). Рэгулярныя службы штонядзелю адбываліся толькі ў Брыстале й Эдынбургу. Ва ўсіх астатніх парафіях — раз альбо два разы на месяц.

Сувязь духавенства й вернікаў з польскім урадам на выгнаньні была даволі сымбалічная й трымалася пераважна дзякуючы асабістым кантактам япіскапа Мацея з эміграцыйнымі палітыкамі. У першай палове 1950-х г. сьвятары нават атрымоўвалі фінансавую дапамогу з урадавых сродкаў[136]. Ачольнік ППЦВБ быў сябрам эміграцыйнага парлямэнту, кавалерам высокіх дзяржаўных узнагародаў. Ярарх рэгулярна ўдзельнічаў у польскіх грамадзка-палітычных і культурніцкіх падзеях як прадстаўнік польскага праваслаўнага духавенства. Ягонае імя мы знаходзім у ліку заснавальнікаў Польскага грамадзка-культурнага цэнтру ў Лёндане[137]. 18 кастрычніка 1953 г. з ініцыятывы ўладыкі парафіяльны камітэт у Лёндане прыняў рэзалюцыю супраць перасьледу ўладамі ПНР каталіцкіх ярархаў, у тым ліку прымаса Польшчы кардынала Стэфана Вышыньскага[138].

---

[134] Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 343—344, 367—368.

[135] Ліст архімандрыта Кірылы Джэнэра да аўтара. 19.VII.2015.

[136] List ministra wyznań religijnych do bpa Mateusza w sprawie przekazania czeka na kwotę w wysokości 18 funtów na doraźne potrzeby duchowieństwa PAKP na uchodźstwie. 13.X.1953 // IPMS. Sygn.: A 11E/1483.

[137] Przewoźnik, Andrzej. Katyń: zbrodnia, prawda, pamięć. Warszawa, 2010. S. 414.

[138] Prawosławni łączą swój głos do protestu przeciw prześladowaniu Kościoła // Dziennik Polski i Dziennik Żołnierza. 13 listopada 1953. S. 3; List ministra wyznań religijnych do bpa Mateusza w sprawie listu protestacyjnego komitetu parafialnego przeciwko prześladowaniom religii w kraju. 9.IX.1953 // IPMS. Sygn.: A 11E/1483.

У паваенны час польскае праваслаўе ў Вялікабрытаніі чакала яшчэ адно выпрабаваньне. Памерлы архіяпіскап Сава пакінуў пасьля сябе значную спадчыну ў выглядзе нерухомасьці. Япіскап Мацей лічыў, што ўласнасьць уладыкі павінна перайсьці праваслаўнай супольнасьці, якой апекаваўся нябожчык. Эміграцыйны ўрад падзяляў гэтае меркаваньне, бо спадчына магла быць салідным матэрыяльным забесьпячэньнем царквы. Акрамя таго, эмігранты асьцерагаліся, што камуністычныя ўлады ў Варшаве будуць прэтэндаваць на ўласнасьць памерлага ярарха[139]. У выніку быў створаны грамадзкі камітэт, які меў на мэце юрыдычнае афармленьне спадчыны ў адпаведнасьці з інтарэсамі польскай праваслаўнай супольнасьці. Аднак справа не знайшла хуткага фіналу, а працэс у брытанскім судзе з удзелам духоўнікаў і вернікаў ППЦВБ доўжыўся да 1974 г.[140]

Паства Польскай праваслаўнай царквы ў Вялікабрытаніі амаль цалкам складалася зь беларусаў (невялікай часткай вернікаў былі грузіны й расейцы). На пачатку 1950-х гг. адбыліся падзеі, якія не маглі не закрануць ППЦВБ. Неадназначнае стаўленьне беларусаў да гэтай царквы паспрыяла таму, што на праваслаўным краявідзе Вялікабрытаніі зьявіліся новыя царкоўныя структуры. З 1950 г. распачалася арганізацыя парафіяў БАПЦ: у Брэдфардзе, Кеймбрыджы, Бэрмінгэме (*Birmingham*) і г. д., да якіх далучаліся прыхільнікі Рады БНР. Сярод эмігрантаў БЦРаўскай плыні таксама заўважалася імкненьне да стварэньня беларускай царкоўнай арганізацыі. У верасьні 1950 г. Беларуская Цэнтральная Рада выдала зварот да сваіх прыхільнікаў, у якім сьцьвярджалася, што беларусы не павінны належаць да царквы, якой кіруюць *"япіскапы-палянізатары"* Сава й Мацей[141]. Пасьля арганізацыі ў Паўночнай Амэрыцы беларускіх парафіяў у юрысдыкцыі Ўсяленскага патрыярхату гэтую ідэю падхапілі таксама брытанскія беларусы. Неўзабаве распачаўся працэс стварэньня беларускіх праваслаўных парафіяў у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату: у Манчэстэры (1954), Стоўк-он-Трэнце (Stoke-*on-Trent*, 1958), Лёндане (1969). Такім чынам, у Ангельшчыне сфармавалася структура Беларускай праваслаўнай царквы (БПЦ) пад амафонам Канстантынопальскага патрыярха. Аднак стварэньне новых парафіяў не азначала разьвітаньня беларусаў з польскім япіскапам. ППЦВБ і БПЦ заставаліся ў межах адной царкоўнай юрысдыкцыі, таму нярэдка абслугоўваліся тымі самымі сьвятарамі. Больш за тое, экзарх Канстантынопальскага патрыярха ў Вялікабрытаніі прызначыў япіскапа

[139] Notatka radcy Piotrowicza. 15.II.1952 // IPMS. Sygn.: PRM.E/89.

[140] TNA. Treasury Solicitor. № 79/95.

[141] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. С. 100.

Мацея адміністратарам эміграцыйных парафіяў з краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. У практыцы гэта азначала, што ўладыка апекаваўся новастворанымі беларускімі парафіямі. Польскія й беларускія парафіі не перакрываліся тэрытарыяльна. Выняткам быў Лёндан, дзе ў 1969 г. была створана беларуская парафія Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, але адначасова ў горадзе фармальна працягвала існаваць польская парафія. Мяжа паміж гэтымі супольнасьцямі была вельмі ўмоўнай. З назіраньняў сьвятароў вынікае, што каля 90 % парафіянаў у абодвух супольнасьцях складалі тыя самыя людзі, якія наведвалі набажэнствы ў двух месцах[142].

Адносіны паміж вернікамі-беларусамі й япіскапам Мацеем не былі простыя. Неаднойчы беларускія дзеячы рабілі спробы "вызваліцца" ад апекі ўладыкі, які яшчэ да вайны быў ведамы сваімі палянафільскімі поглядамі[143]. Беларускі бок рабіў захады перад грэцкім экзархам, дамагаючыся прызначэньня іншага япіскапа замест Мацея[144]. Цікавы выпадак адбыўся 12 сьнежня 1971 г., калі ў лёнданскай польскай парафіі падчас сходу вернікаў старшыня парафіяльнай рэвізійнай камісіі Кастусь Глінскі прапанаваў япіскапу Мацею зьмяніць назву яго царквы з Польскай на Беларускую. У якасьці аргумэнтаў беларускі дзеяч даводзіў, што: 1) большасьць вернікаў ППЦВБ складаюць беларусы, якія паходзяць "з-за Буга", 2) польскі эміграцыйны ўрад страціў сваю легітымнасьць у вачох заходніх дзяржаваў[145]. Нягледзячы на складанасьці ва ўзаемадачыненьнях, праваслаўныя беларусы былі вымушаныя лічыцца з уладыкам, паколькі ён рэпрэзэнтаваў найвышэйшую царкоўную ўладу. На жаданьне беларусаў ён адпраўляў набажэнствы на нацыянальныя сьвяты і браў удзел у некаторых імпрэзах. Уладыка падтрымоўваў таксама сувязь з праваслаўнымі беларусамі за акіянам[146]. У 1960-я гг. беларускія дзеячы ў ЗША рабілі захады для стварэньня беларускай эміграцыйнай япархіі ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. Дзеля гэтага неабходна было высьвяціць уласнага япіскапа. Адметна, што амэрыканскія беларусы бралі пад увагу

---

142 Ліст архімандрыты Кірыла Джэнэра да аўтара. 19.VII.2015.

143 Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. С. 100.

144 Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 372, 379.

145 Мэмарыялы й ліставаньне К. Глінскага. Ліст К. Глінскага да япіскапа Мацея. 15.II.1972 г. // ББФС. United Kingdom-2.

146 Ліст япіскапа Мацея да Васіля Пунтуса, сакратара Беларускага Царкоўскага Камітэту ў Чыкага. 16.X.1961 // Immigration History Research Center [IHRC] — University of Minnesota, Collection ID: 2206 (The Puntus papers). Series 1: Belarusian Organizations in the United States. Folder 1: Belarusian Orthodox Church affairs 1960s.

кандыдатуру япіскапа Мацея. Але ўрэшце ініцыятары былі вымушаныя адмовіцца да ягонай кандыдатуры, бо многія беларусы лічылі ўладыку неадпаведным да гэтай пасады. На рашэньне паўплывала даваеннае мінулае сьвятара, а таксама ягонае пасьлядоўнае жаданьне трымацца "польскага" курсу[147].

Уладыка апекаваўся сваімі вернікамі ажно да сьмерці ў 1985 г. Пасьля гэтага ніхто ня быў прызначаны на пасаду адміністратара польскіх замежных парафіяў[148]. Такім чынам, разам з адыходам у лепшы сьвет япіскапа Мацея ППЦВБ як царкоўная структура спыніла існаваньне. На пачатку 1980-х г. польскімі лічыліся парафіі ў Лёндане, Брыстале, Эдынбургу й Лідсе[149]. Па-рознаму склаўся іх далейшы лёс. Супольнасьці ў Лёндане й Лідсе перасталі існаваць пад уплывам натуральнага працэсу старэньня й выміраньня вернікаў. Астатнія зь цягам часу набылі новае нацыянальнае аблічча. Парафія ў Эдынбургу стала цалкам грэцкай паводле складу сьвятароў і вернікаў. Тым часам парафія ў Брыстале набыла шматнацыянальны склад, да яе цяпер належаць ангельцы й выхадцы з Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Нягледзячы на гэта, найстарэйшыя парафіяне яшчэ памятаюць гісторыю сваёй супольнасьці й ейных першых душпастыраў. На жаль, у зборах архідыяцэзіі Тыятыры й Вялікабрытаніі захавалася няшмат сьведчаньняў, якія маглі б дапамагчы ў высьвятленьні далейшага лёсу ППЦВБ. Апошняя згадка, датаваная 27 жніўня 1993 г., датычыць прыватнага ліставаньня з а. Арсенем Каржанеўскім[150].

## Беларусы і ўраджэнцы Беларусі — сьвятары Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якія ўдзельнічалі ў дзейнасьці эміграцыйнага душпастырства

**Бажар'янаў Міхал**, сын Аляксандра й Людмілы (дзяв. Самахвальская), нарадзіўся 18 лістапада 1911 г. у Вільні ў заможнай сям'і. Навучаўся на матэматычным факультэце Ўнівэрсытэту Стэфана Баторыя. Скончыў таксама Віленскую духоўную сэмінарыю. 24 лістапада

---

[147] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі. Смаленск, 2009, С. 162—163, 166—167.

[148] Wendorff, Bohdan. Kościół Prawosławny / Mobilizacja uchodźstwa do walki politycznej 1945—1990. Red.: L. Kliszewicz. Londyn, 1995. S. 175.

[149] Hemerologion. S. 176—177; Radzik, Tadeusz. Z dziejów społeczności polskiej w Wielkiej Brytanii po Drugiej wojnie światowej (1945—1990). Lublin, 1991. S. 57.

[150] Ліст дыякана Мэльтыёра Р. Оакена да аўтара. 27.IX.2011. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу.

1935 г. у Варшаве атрымаў сьвятарскі сан, пасьля чаго быў скіраваны на Лэмкаўшчыну. 5 студзеня 1937 г. прызначаны пробашчам парафіі Сьв. Касьмы й Дзям'яна ў Сквіртным (*Skwirtne*, Гарліцкі павет). У верасьні 1937 г. атрымаў пасаду пробашча на Палесьсі. З сакавіка 1938 г. ня меў сталай парафіі. У 1939 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й зьняволены ў працоўным лягеры на поўначы Расеі. Як польскі грамадзянін амніставаны ў 1941 г. У сакавіку 1942 г. эвакуяваўся ў Іран. Арганізатар душпастырства сярод цывільных выгнанцаў на Сярэднім Усходзе. Улетку 1942 г. наведаў Ерусалім, каб наладзіць сувязь з духавенствам Ерусалімскай царквы. У 1942 г. стварыў і ўзначаліў Беларускі камітэт у Тэгеране, ад імя якога зьвяртаўся да польскіх эміграцыйных уладаў, а таксама прэзыдэнта ЗША. Са студзеня да ліпеня 1943 г. рэдагаваў часопіс *"Ziarnko Prawosławne"*. У ліпені 1943 г. прыбыў у Брытанскую Ўсходнюю Афрыку, дзе быў прызначаны кіраўніком польскага цывільнага праваслаўнага душпастырства. Стварыў парафію й пабудаваў царкву ў мясцовасьці Тэнгеру. У 1945—1946 гг. ажыцьцяўляў актыўную выдавецкую працу, дзякуючы чаму пабачыў сьвет пэрыёдык *"Promyk Prawosławny"* й іншая літаратура. Памёр 20 жніўня 1946 г. у шпіталі ў Дар-эс-Саляме (Танзанія).

**Вячорка Васіль**, нарадзіўся на Палесьсі. Да вайны быў пробашчам у Луніне (Лунінецкі павет). Падчас вайны апынуўся ў Аўстрыі. 1 студзеня 1946 г. у лягеры Юдэндорф (Філях) заснаваў польскую праваслаўную парафію Сьв. Мікалая Цудатворцы. Эміграваў у Аргентыну, дзе працягваў душпастырскую дзейнасьць. Пазьней пераехаў у ЗША, быў сьвятаром у юрысдыкцыі Паўночна-Амэрыканскай мітраполіі РПЦ.

**Зайка Ўладзімер**, нарадзіўся 23 красавіка 1931 г. у Беліне (Берасьцейшчына). Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў дыяканам (1978) у парафіі ў Лідсе ў юрысдыкцыі ППЦВБ. У 1984 г. атрымаў сьвятарскі сан, служыў у парафіях у Брэдфардзе й Лідсе. Пазьней эміграваў у Аўстралію, дзе ў 1989 г. увайшоў у юрысдыкцыю РПЦЗ. У 1989—1991 г. пробашч парафіі Сьв. Пятра й Паўла ў Пэрце. У хуткім часе пакінуў юрысдыкцыю РПЦЗ і служыў як сьвятар у парафіі Жыровіцкай Маці Божай БАПЦ.

**Касьцючык Якуб**, нарадзіўся 1 траўня 1881 г. у Кубліку каля Драгічына. У міжваенны час быў псалмістам у Гарадзенска-Навагрудзкай япархіі, а потым у парафіі Сьв. Тройцы ў Варшаве. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся на эміграцыі. У 1947 г. увайшоў у склад Япіскапскай рады ў Лёндане. Пазьней эміграваў у Аргентыну, дзе быў сьвятаром у юрысдыкцыі Паўночна-Амэрыканскай мітраполіі РПЦ. Памёр у 1969 г. у Буэнас-Айрэсе.

**Краўчанка Мікалай**, паходзіў зь Віленшчыны. У міжваенны час быў дыяканам і сьвятаром у парафіях, якія належалі да Вілейскага, Шчучынскага, Лідзкага й Пастаўскага дэканатаў. Напрыканцы

1930-х гг. быў дэлегаваны на Лэмкаўшчыну, дзе быў пробашчам парафіяў у Цехане (Красьненскі павет) і Сквіртным (Гарліцкі павет). Падчас Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Італіі, дзе ў 1946 г. быў пробашчам польскіх *DP* у мясцовасьцях Барлета (*Barletta*) і Тырана (*Tirano*). У 1946 г. плянаваўся ягоны выезд ва Ўсходнюю Афрыку на месца а. Бажар'янава. Аднак пазьней эміграваў за акіян. Вядома, што ў 1960-я гг. быў протаярэем Дабравешчанскай царквы ў Флашынгу (*Flushing*, штат Нью-Ёрк) у юрысдыкцыі РПЦЗ. У 1980-я гг. быў чальцом Епархіяльнай рады Заходне-Амэрыканскай япархіі РПЦЗ, а таксама пробашчам Багародзіца-Ўладзімерскага жаночага манастыра ў Сан-Францыска. У 1990-я гг. належаў да супольнасьці Сьв. Васіля Вялікага ў Піцбургу (штат Пэнсыльванія).

**Краскоўскі Серафім**, сын Віктара й Аляксандры, нарадзіўся 6 лютага 1915 г. у мясцовасьці Сьцяпанкі (Берасьцейскі павет) у сьвятарскай сям'і. У 1935 г. скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю. У 1937 г. у Варшаве атрымаў сьвятарскі сан. Скончыў школу прэфэктаў пры манастыры Сьв. Ануфрыя ў Яблэчнай (*Jabłeczna*). Пасьля быў прызначаны пробашчам парафіі ў Шкунціках (Дзісенскі павет). У сакавіку 1940 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й вывезены ўглыб СССР. Зьняволеньне адбываў у Пячэрскіх працоўных лягерах. Амніставаны як польскі грамадзянін і 10 лютага 1942 г. у Казахстане ўступіў у Польскую армію. 7 сакавіка 1942 г. прызначаны псалмістам у штабовай роце, у складзе якой эвакуяваўся ў Іран. 31 сьнежня 1942 г. стаў кантрактным капэлянам 7-й пяхотнай дывізіі. 18 чэрвеня 1943 г. зацьверджаны на пасадзе вайсковага капэляна й скіраваны ў 3-ю Дывізію карпацкіх стральцоў, у складзе якой прайшоў шлях падчас італьянскай кампаніі. 15 жніўня 1945 г. прызначаны капэлянам 2-й Варшаўскай танкавай дывізіі. 1 лютага 1947 г. уступіў у ПКПР. У сакавіку 1947 г. стаў сябрам ЗБВБ, аднак хутка быў пазбаўлены сяброўства ў гэтай арганізацыі за спробу стварыць сярод беларусаў польскую праваслаўную парафію. Пасьля дэмабілізацыі (31 студзеня 1949 г.) апекаваўся парафіяй Сьв. Юр'я (ППРВБ) у Брэдфардзе. Памёр 11 лістапада 1957 г. у шпіталі ў Лёндане.

**Майсееў Аркадзь**. Скончыў факультэт праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўнівэрсытэту. Працаваў псалмістам у Гародні, а потым быў настаўнікам у школе псалмістаў у манастыры Сьв. Ануфрыя ў Яблэчнай. У гады Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне. Восеньню 1945 г. у Амэрыканскай зоне акупацыі далучыўся да польскага праваслаўнага душпастырства на чале зь япіскапам Савам. Далейшы лёс няведамы.

**Макавельскі Мікалай**. 15 сакавіка 1921 г. прызначаны часовым псалмістам парафіі ў Ізабэліне (Ваўкавыскі павет). 25 сакавіка 1934 г. атрымаў сьвятарскі сан. 11 жніўня 1934 г. стаў пробашчам у Гарнастаеві-

чах на Ваўкавышчыне. З 12 лютага 1937 г. выконваў абавязкі пробашча ў Міжрэччы й Славацічах (Ваўкавыскі павет). У гады Другой сусьветнай вайны трапіў у Нямеччыну. У 1946 г. ачоліў польскую праваслаўную парафію ў Батгольне (Брытанская зона акупацыі). Пазьней эміграваў у ЗША, дзе быў пробашчам парафіі ў Балтымары (*Baltimore*, юрысдыкцыя ня вызначана).

**Макарэвіч Мікалай**, нарадзіўся 27 траўня 1907 г. у Барках (Косаўскі павет). Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю. Навучаўся таксама ў Парыскай палітэхніцы. 27 чэрвеня 1937 г. атрымаў сьвятарскі сан. Займаўся душпастырскай дзейнасьцю на Піншчыне. 1 ліпеня 1938 г. пераведзены ў парафію ў Суботах (Драгічынскі павет). У 1939 г. атрымаў пасаду псалміста ў парафіі ў Дабраславе (Пінскі павет). У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся на Захадзе. З 1 кастрычніка 1945 г. ганарова выконваў абавязкі вайсковага капэляна 5-й Крэсавай пяхотнай дывізіі. Апекаваўся таксама жаўнерамі 3-й Дывізіі карпацкіх стральцоў. У 1947 г. уступіў у ПКПР. У тым жа годзе стаў чальцом Япіскапскай рады ў Лёндане. 29 студзеня 1948 г. уступіў у ЗБВБ, аднак у хуткім часе эміграваў у Аргентыну, дзе спрабаваў арганізаваць парафію. Пасьля сьмерці ў 1951 г. архіяпіскапа Савы займаўся справамі ягонай спадчыны. У 1953 г. выехаў у ЗША, дзе быў сьвятаром БАПЦ. З 1956 г. жыў у Кліўлэндзе, быў пробашчам парафіі ў гонар Жыровіцкай Божай Маці. Нейкі час быў таксама душпастырам Усьпенскай парафіі ў Дэтройце ў юрысдыкцыі РПЦЗ. Памёр 11 ліпеня 1963 г.

**Пятручык Уладзімер**, сын Васіля й Пелагеі (дзяв. Дамброўская), нарадзіўся 29 ліпеня 1885 г. у Берасьці. У 1911 г. скончыў філялягічна-гістарычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. У 1921—1935 гг. працаваў у гімназіі ў Берасьці. Пасьля атрыманьня сьвятарскага сану, 21 жніўня 1934 г. прызначаны адміністратарам парафіі ў Чэрні (Берасьцейшчына). 2 верасьня 1936 г. стаў пробашчам парафіі ў Веламовічах (Берасьцейскі павет). У 1939 г. дэпартаваны савецкімі ўладамі ў Алтайскі Край. У 1942 г. вызвалены як польскі грамадзянін, пасьля чаго эвакуяваўся ў Іран. 25 траўня 1943 г. прызначаны вайсковым капэлянам ПУСЗ. 25 верасьня 1943 г. атрымаў пасаду капэляна 5-й Крэсавай дывізіі пяхоты. 30 сьнежня 1946 г. уступіў у ПКПР. Чалец Япіскапскай рады ў Лёндане й Часовай духоўнай кансысторыі. 28 сакавіка 1949 г. дэмабілізаваўся з войска. У 1948—1954 гг. быў пробашчам парафіі Нараджэньня Багародзіцы ў Брыстале ППЦВБ. Памёр 24 лютага 1954 г. у Лёндане.

**Сабалеўскі Ян**, нарадзіўся 1891 г. у Лунінцы. Паводле непацьверджаных зьвестак, да вайны быў псалмістам у Лунінцы й Зубках (каля Нясьвіжу). 6 жніўня 1940 г. арыштаваны НКУС і 9 студзеня 1941 г. асуджаны да 8 гадоў працоўна-папраўчых лягераў. Прысуд адбываў ва Ўхце. У 1941 г. амніставаны як польскі грамадзянін. Уступіў у Польскую

армію ў СССР і ў ейным складзе ў 1942 г. эвакуяваўся ў Іран. Прызначаны дапаможным капэлянам польскіх вайсковых аддзелаў на Блізкім Усходзе, аднак 31 сьнежня 1942 г. быў звольнены з войска, бо камандаваньне сумнявалася адносна наяўнасьці ў яго сьвятарскага сану. Жыў у Тэгеране, дзе апекаваўся праваслаўнымі выгнанцамі. Пазьней апынуўся ў Бэйруце, дзе працягваў займацца душпастырскай працай. Далейшы лёс няведамы. Ёсьць зьвесткі пра тое, што ў 1950—1960-я гг. у ЗША (штат Агаё) дзейнічаў сьвятар РПЦЗ Ян Сабелеўскі. Аднак адсутнічаюць доказы, што гэты духоўнік — былы польскі вайсковы капэлян.

**Савіч Ян**, сын Сазона й Веры (дзяв. Шасткова), нарадзіўся 30 сакавіка 1892 г. у Дольску (Пінскі павет). У 1910 г. скончыў Менскую духоўную сэмінарыю, а ў 1916 г. юрыдычна-эканамічны факультэт Кіеўскай гандлёвай акадэміі. З 15 лістапада 1918 г. да 2 траўня 1921 г. служыў у Польскім войску. 17 красавіка 1932 г. у Пінску атрымаў сьвятарскі сан. У 1932—1937 гг. быў пробашчам парафіяў у Лунінецкім і Кобрынскім паветах. 1 лютага 1937 г. прызначаны дапаможным вайсковым капэлянам у кобрынскім гарнізоне. 27 сьнежня 1938 г. атрымаў пасаду раённага вайсковага капэляна ў Катавіцах (*Katowice*). У верасьні 1939 г. праз Вугоршчыну, Югаславію, Грэцыю й Турэччыну трапіў у Хайфу. 15 жніўня 1941 г. уступіў у Польскае войска на Сярэднім Усходзе. У 1941—1942 гг. быў капэлянам Асобнай брыгады карпацкіх стральцоў. Сядзіба духоўніка разьмяшчалася ў Александрыі (Эгіпет). 7 лістапада 1942 г. прызначаны шэфам вайсковага душпастырства праваслаўнага веравызнаньня Польскай арміі на Ўсходзе. У жніўні 1945 г. звольнены з войска па стане здароўя. Жыў у Ерусаліме, дзе апекаваўся праваслаўнымі выгнанцамі. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі, дзе 24 сьнежня 1947 г. уступіў у ПКПР. Належаў да Япіскапскай рады ў Лёндане. У 1950—1960-я гг. быў пробашчам Дабравешчанскай парафіі ў Лёндане ў юрысдыкцыі РПЦЗ. Памёр 24 кастрычніка 1967 г.

**Самайловіч Аляксандар**, магчыма, паходзіў з Палесься. Даваенны сьвятар на Кобрыншчыне й Берасьцейшчыне. У 1937 г. быў пробашчам у Пружанах. З 1939 г. быў сьвятаром ва Ўлацлаўку (*Włocławek*, ням. *Leslau*, Польшча). У 1946 г. стаў кіраўніком польскага праваслаўнага душпастырства ў Францускай зоне акупацыі Нямеччыны. Далейшы лёс няведамы.

**Сотнікаў Ян**, сын Аляксандра й Веры (дзяв. Пятрова), нарадзіўся 10 студзеня 1905 г. у Пецярбургу. У 1928 г. скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю. У 1928—1930 гг. адбываў вайсковую службу ў Польскім войску. Напярэдадні Другой сусьветнай вайны жыў у Тургельскай гміне на Віленшчыне, дзе працаваў аратым. Як польскі жаўнер удзельнічаў у верасьнёўскай кампаніі 1939 г., пасьля чаго апынуўся ў савецкім палоне. Пасьля амністыі, 24 жніўня 1941 г. уступіў у Польскую армію ў СССР. Удзельнік італьянскай кампаніі. 17 чэрвеня 1945 г. у Італіі высьвячаны

япіскапам Мацеем на сьвятара, а 21 ліпеня прызначаны вайсковым капэлянам. Быў душпастырам спачатку ў 5-й Крэсавай пяхотнай дывізіі, а потым у базе 2-га корпусу. У Вялікабрытаніі 25 чэрвеня 1947 г. уступіў у ПКПР. Чалец Япіскапскай рады ў Лёндане. Заснаваў польскую праваслаўную парафію ў Эдынбургу, дзе быў шматгадовым пробашчам. Памёр у 1990-я гг. у Шатляндыі.

**Тарановіч Вячаслаў**, нар. у 1905 г. Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю. 27 верасьня 1928 г. атрымаў сьвятарскі сан. 6 сьнежня 1929 г. выконваў функцыі вікарыя ў парафіі ў Крывошыне (Баранавіцкі павет). 24 верасьня 1930 г. працаваў у філіі парафіі ў Салтанаўшчыне на Нясьвіжчыне. З 29 лістапада 1932 г. быў пробашчам парафіі ў Мілавідах (Баранавіцкі павет). 23 сакавіка 1934 г. пераведзены ў парафію ў Ласіцы (Нясьвіскі павет), а потым на Дзятлаўшчыну. 9 кастрычніка 1937 г. стаў часовым адміністратарам філіі парафіі ў Дарэве (Баранавіцкі павет), а са сьнежня ейным пробашчам. Падчас Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, а пасьля яе заканчэньня пасяліўся ў Вялікабрытаніі. Далучыўся да дзейнасьці польскага сьвятарства на чале зь япіскапам Савам. Бым чальцом Япіскапскай рады ў Лёндане. Апекаваўся парафіямі ППЦВБ у Лёндане й Нотынгэме. З 1973 г. быў таксама пробашчам беларускай парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане. Памёр у 1995 г.

**Яськоў Усевалад**, сын Мікалая й Адэлі (дзяв. Асмалоўская), нарадзіўся 13 красавіка 1898 г. у маёнтку Кіявец каля Маладэчна. У 1915—1917 гг. навучаўся на матэматычным факультэце Петраградзкага ўнівэрсытэту. У 1917—1920 гг. быў студэнтам фізыка-матэматычнага факультэту Бэрлінскай палітэхнікі. У 1921—1923 гг. служыў у Польскім войску. У 1924-я — 1926 гг. працаваў настаўнікам. У 1929 г. скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю й атрымаў сьвятарскі сан. 2 сьнежня 1930 г. быў часова дэлегаваны ў парафію Іжа Даўгінаўскага дэканату. 24 лютага 1931 г. зацьверджаны на пасадзе пробашча гэтай жа парафіі. 10 верасьня 1935 г. атрымаў прызначэньне на пасаду вікарыя Стаўпецкай парафіі. З 8 кастрычніка 1936 г. быў адміністратарам філіі парафіі ў Малахаўшчыне (Ашмянскі павет). 12 кастрычніка 1936 г. стаў пробашчам парафіі ў Хараве (Маладэчанскі павет). Уначы з 15 на 16 сакавіка 1940 г. арыштаваны НКУС і зьняволены ў вязьніцы ў Маладэчне. У ліпені 1940 г. пераведзены ў Полацкую турму. На пачатку 1941 г. высланы ў працоўны лягер у Кіраўскай вобласьці. У жніўні 1941 г. амніставаны як польскі грамадзянін, пасьля чаго выехаў у Казахстан да месца фармаваньня польскіх вайсковых аддзелаў. 6 сакавіка 1942 г. уступіў у Польскую армію ў СССР. Залічаны ў склад 7-га Санітарнага батальёну. 17 жніўня 1942 г. эвакуяваўся ў Іран. 10 лістапада 1942 г. звольнены з войска як сьвятар. Распачаў душпастырскую дзейнасьць у лягеры для цывільных уцекачоў № 3. З ліпеня 1943 г. рэдагаваў часопіс *“Ziarnko*

*Prawosławne*". На старонках гэтага выданьня надрукаваў уласныя ўспаміны аб савецкай няволі. 23 жніўня 1944 г. пакліканы ў войска ў якасьці капэляна. 25 верасьня 1944 г. залічаны ў склад 3-га корпусу на Блізкім Усходзе. 14 лютага 1945 г. скіраваны ў 2-гі корпус у Італіі. 6 траўня 1945 г. пачаў выконваць абавязкі шэфа вайсковага душпастырства праваслаўнага веравызнаньня ў 2-м корпусе. У 1946 г. разам з астатнімі вайскоўцамі апынуўся ў Вялікабрытаніі, дзе 12 красавіка 1947 г. у рангу паручніка ўступіў у ПКПР. Чалец Япіскапскай рады ў Лёндане. Займаўся арганізацыяй парафіі ў Манчэстэры. У хуткім часе эміграваў у ЗША. Далучыўся да духавенства ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. Стаў пробашчам парафіі ў Рокфардзе (*Rockford*), якая пераважна складалася зь беларускіх палешукоў. Прыняў манаскі сан зь імем Вісарыён. Атрымаў годнасьць архімандрыта. Утрымліваў шчыльныя кантакты зь беларусамі са штату Іліной.

***Аляксандар Сьлесараў***
*Менск*

# ПЫТАНЬНЕ АРГАНІЗАЦЫІ РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ Ў 1949 г.

Да цяперашняга часу маладасьледаванай застаецца гісторыя раньняга пэрыяду арганізацыі рэлігійнага жыцьця праваслаўных беларусаў дыяспары, якія крытычна паставіліся як да пераходу епіскапату Беларускай мітраполіі ў склад Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой — РПЦЗ (1946 г.), гэтак і да арганізаванай пры непасрэдным удзеле Рады БНР Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы — БАПЦ (1948—1949 гг.). Ніжэй публікуецца ліст беларускага дзеяча з Ўініпэгу (*Winnipeg*) Міколы Сільвановіча, датаваны 13 кастрычніка 1949 г. і адрасаваны протаярэю Мікалаю Лапіцкаму. Гэты ліст насьвятляе абставіны пошукаў новай мадэлі існаваньня беларускіх парафіяў за межамі радзімы.

У пачатку свайго паведамленьня Мікола Сільвановіч згадвае аб тым, што 8 жніўня 1949 г. протаярэй Мікалай Лапіцкі зьвяртаўся да яго з просьбай аб сустрэчы зь першаярархам Украінска-Карпатароскай мітраполіі Амэрыкі (УКМА) мітрапалітам Іларыёнам (Агіенкам), каб паразмаўляць пра арганізацыю беларускіх парафіяў у юрысдыкцыі названай рэлігійнай арганізацыі.

Падчас абмеркаваньня гэтага пытаньня протаярэй Мікалай быў у юрысдыкцыі Беларускай мітраполіі РПЦЗ, жыў у Нямеччыне й абслугоўваў беларускія парафіі ў лягерах для перамешчаных асобаў. Але ягонае стаўленьне да расейскай царкоўнай юрысдыкцыі наўрад ці было пазытыўнае. У траўні 1946 г. сьвятар узяў актыўны ўдзел у Першым Беларускім праваслаўным зьезьдзе, які праходзіў у Рэгенсбургу, і накіраваў зварот да беларускіх ярархаў з просьбай устрымацца ад прыяднаньня да РПЦЗ. За сваю пазыцыю ён быў пазбаўлены пасады настаяцеля беларускай парафіі ў Рэгенсбургу, яму забаранілі адпраўляць багаслужбы. Не жадаючы паглыбляць канфлікт, протаярэй Мікалай падпарадкаваўся распараджэньню найвышэйшай царкоўнай улады, далучыўся да РПЦЗ і ў хуткім часе пазбавіўся кананічнага пакараньня. Больш за тое, пэўны час ён карыстаўся павагай з боку епіскапату Беларускай мітраполіі РПЦЗ. Так, у 1947 г. мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі) прызначыў протаярэя Мікалая кіраўніком беларускіх парафіяў і ўзнагародзіў

правам нашэньня наперснага крыжа з упрыгожаньнямі. У тым жа годзе протаярэй увайшоў у склад Беларускай міжлягернай рады, якую ўзначаліў архіяпіскап Філафей (Нарко), а ў 1949 г. браў удзел у паседжаньні Сыноду Беларускай мітраполіі[1]. У канцы 1940-х гг. сьвятар неаднаразова зьвяртаўся да кіраўніцтва Амэрыканскай акупацыйнай зоны Нямеччыны з хадайніцтвамі аб переезьдзе беларускіх эмігрантаў у Паўночную Амэрыку. Вынікам гэтых намаганьняў стаў переезд зь Нямеччыны на амэрыканскі кантынэнт каля 400 суайчыньнікаў[2].

Апублікаваны ніжэй ліст сьведчыць аб тым, што ў другой палове 1949 г. протаярэй Мікалай ужо меў намер ня толькі адысьці ад Беларускай мітраполіі РПЦЗ, але й вывесьці зь яе юрысдыкцыі тых беларусаў, якія накіроўваліся ў Паўночную Амэрыку. У якасьці магчымай кананічнай альтэрнатывы ён разглядаў Украінска-Карпатароскую мітраполію Амэрыкі, якая была ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. Узьнікненьне названай рэлігійнай арганізацыі адбылося напрыканцы 1948 г., калі аб'ядналіся ўкраінскія й карпатароскія ярархі ЗША й Канады: мітрапаліт Іларыён (Агіенка), япіскап Багдан (Шпілька)[3] і япіскап Арэст (Чарнок)[4]. Урачыстая інтранізацыя мітрапаліта Іларыёна як

---

[1] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Лос Анжэлес, 1968. Машынапіс. Арк. 11, 26—27, 41, 114; Пастанова Беларускага Епіскапату ў справе ўмяшаньня Украінскага Епіскапату ўва ўнутраныя справы Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі // Тамсама. Арк. 120—113; З беларускага жыцьця. Угодкі Слуцкага паўстаньня. Бакнанг // Беларускае Слова. № 1 (14). 1 студзеня 1950. С. 4; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, 1956. С. 144; Ліста прысутных на Нарадзе Праваслаўнае Беларускае Гіерархіі, Духавенства й Вернікаў у Рэгэнсбургу 5 траўня 1946 году // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. Нью-Ёрк — Варшава: БІНіМ—ІСПАН, 2005. С. 589—590; Пастанова Праваслаўнага Беларускага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5.5.1946 г. // Тамсама. С. 591; Пратакол Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. (эміграцыя ў Нямеччыне) // Тамсама. С. 591—595; Царкоўны Зьезд // Шляхам Жыцьця. № 4. 31 траўня 1946. С. 17.

[2] Лапіцкі, Мікалай. У імя праўды // Царкоўны Сьветач. № 4. 1953. С. 10.

[3] **Япіскап Багдан** (сьвецк. **Тэадор Іванавіч Шпілька**; 1892—1965), украінскі рэлігійны дзеяч. Скончыў украінскую гімназію ў Пярэмышлі, духоўную сэмінарыю ў Станіслававе, багаслоўскі факультэт Львоўскага ўнівэрсытэту (1917), Экспартную акадэмію ў Вене (1923). Праходзіў навучэньне ва Ўкраінскім свабодным унівэрсытэце ў Празе. Актыўны дзеяч украінскага руху на Лэмкаўшчыне. Рукапакладзены ў сан сьвятара. Быў клірыкам Канстантынопальскага патрыярхату ў Чэхаславаччыне. З 1937 г. — япіскап Эўкарпійскі, вікарый Амэрыканскай архіепіскапіі Канстантынопальскага патрыярахату й кіраўнік украінскіх парафіяў. З 1958 г. — мітрапаліт.

[4] **Япіскап Арэст** (сьвецк. **Арэст Пятровіч Чарнок**; 1883—1977), карпатароскі рэлігійны дзеяч. Скончыў духоўную сэмінарыю ў Прэшаве. У 1906 г. рукапакладзены ў сьвятарства. У 1908 г. пераехаў у ЗША. Быў крыты-

першаярарха УКМА прайшла 13 сакавіка 1949 г.[5] Украінска-Карпатароская мітраполія стала кананічнай альтэрнатывай іншым незалежным украінскім царкоўным юрысдыкцыям, пазбаўленым вызнаньня ў праваслаўным сьвеце (Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, Украінскай грэка-праваслаўнай царкве ў Амэрыцы й Украінскай грэка-праваслаўнай царкве ў Канадзе).



Мітрапаліт Іларыён (Агіенка)

Падчас сустрэчы зь Міколам Сільвановічам мітрапаліт Іларыён першапачаткова сумняваўся ў мэтазгоднасьці далучэньня беларускай праваслаўнай грамады Ўініпэгу да УКМА. Бо ставіўся да беларусаў як да русіфікаванага народу. Але пазьней мітрапаліт згадзіўся на ўваход беларускай групы ў склад парафіі Пакроўскага катэдральнага сабору Ўініпэгу пры ўмовах абавязковага ўжываньня ўкраінскай мовы й сплаты парафіяльных складак. Акрамя таго першаярарх УКМА выказаў гатовасьць прыняць протаярэя Мікалая Лапіцкага ў сваю юрысдыкцыю й дазволіць яму адпраўляць беларускія набажэнствы два разы на месяц. Пры гэтым ад беларускага сьвятара патрабавалася даць прысягу ніколі не выходзіць з падпарадкаваньня мітрапаліту Іларыёну, нават пасьля будаўніцтва беларусамі ўласнай царквы.

Як паказала далейшая гісторыя, прапановы першаярарха Ўкраінска-Карпатароскай мітраполіі Амэрыкі не задаволілі протаярэя Мікалая Лапіцкага, які ў красавіку 1950 г. пераехаў у ЗША. Ужо 25 лістапада таго ж году ён узяў удзел у першым арганізацыйным зьезьдзе Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэту ў Амэрыцы, удзельнікі якога пастанавілі стварыць парафію Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі) і перайсьці ў склад грэцкай архіепіскапіі Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату[6]. З гэтага дня пачалося арганізоўваньне беларускіх праваслаўных парафіяў

---

кам ватыканскай палітыкі лацінізацыі ўніятаў. У 1937 г. разам з групай карпатароскіх сьвятароў і вернікаў перайшоў у праваслаўе й далучыўся да Канстантынопальскага патрыярахату. У тым жа годзе рукапакладзены ў япіскапа Агафанікейскага, узначаліў новаўтвораную Амэрыканскую Карпатароскую праваслаўную япархію. З 1966 г. мітрапаліт.

[5] Преловская, И. Иларион (Огиенко) // Православная энциклопедия. Т. 22. Москва, 2009. С. 183.

[6] Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы // Царкоўны Сьветач. № 1. 1951. С. 4—5; Лапіцкі, Мікалай, протапрасьвіцер. З пэрспэктывы часу // Памятная кніга, 1950—1975. South River: Byelorussian press, 1975. С. 12—13; Сенька, Міхась. Крок за крокам // Памятная кніга, 1950—1975. С. 18—19; Сенька, Міхась. Жыцьцё і дзейнасьць а. Мікалая // Памятная кніга, 1950—1975. С. 75.

на тэрыторыі ЗША й Канады ў еднасьці з Сусьветнай патрыярхіяй, актыўны ўдзел у якім браў протаярэй Мікалай Лапіцкі[7].

## Ліст Міколы Сільвановіча[8] да протаярэя Мікалая Лапіцкага[9]

*Winnipeg*, 13-га Кастрычніка 1949 г.

Высока Паважанаму а. Мікалаю Лапіцкаму[10],
Благачыннаму Беларускіх Праваслаўных Прыходаў у Зах[одняй] Нямеччыне

Высока Паважаны Айцец!

Сёньня толькі сабраўся Вам напісаць пра ўсё тое, пра што Вы мяне прасілі ў сваім лісьце ад 8.8. г[этагу] г[оду].

Вельмі прашу Вас прабачыць, што позна, але раней ня мог з незалежных ад маёй волі прычын.

---

7 Больш падрабязна пра гэта: Слесарев, Александр. Предпосылки возникновения и история развития Белорусского Совета православных церквей в Северной Америке в 1950—1976 гг. // Христианское чтение. № 4. 2019. С. 176—192.

8 **Сільвановіч Мікола** (1917—1975), грамадзкі дзеяч беларускага замежжа, літаратар. На эміграцыі з 1944 г. У 1946 г. браў удзел у заснаваньні Літаратурна-грамадзкага аб'еднаньня "Шыпшына" (Заходняя Нямеччына). Арганізатар майстэрні беларускага мастацкага рамяства "Раніца". З 1949 г. жыў ва Ўініпэгу (Канада). Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэту й Беларуска-Канадыйскага нацыянальнага аб'еднаньня ў правінцыі Манітоўба (*Manitoba*).

9 Арыгінал захоўваецца ў: LAC. Mikola Silvanovich fonds: MG31-H90. C. 2. F. 5. Пры падрыхтоўцы да выданьня выпраўляліся відавочные граматычныя памылкі й памылкі набору, асаблівасьці аўтарскай стылістыкі й вонкавага афармленьня засталіся нязьменнымі. Публікатар дзякуе Натальлі Гардзіенцы за атрыманыя ад яе копіі ліста.

10 **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), праваслаўны сьвятар, рэлігійны дзеяч беларускага замежжа. Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю (1930) і факультэт праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўнівэрсытэту (1934). Магістар багаслоўя (1935). Удзельнік Усебеларускага царкоўнага сабору (1942) і Другога Ўсебеларускага кангрэсу (1944). З 1944 г. — на эміграцыі. У 1944—1950 гг. абслугоўваў беларускія парафіі ў Рэгенсбургу, Міхэльсдорфе, Остэргофэне, Бакнангу. У 1950—1976 гг. настаяцель беларускай парафіі Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). У 1953 г. узведзены ў сан протапрэсьвітара. З 1970 г. — адміністратар Беларускай рады праваслаўных цэркваў у Паўночнай Амэрыцы. Сябра Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

Дык вось як выглядаець да драбніц справа Вашае просьбы.

Учора, г[эта] ё[сьць] 12.10., калі мне мінула 4-ы месяцы ў Канадзе і я ўжо троху тут акліматызаваўся і адзеўся як чалавек, у 16-ць гадзін я злажыў візыту Яго Блажэнству Высокапрэасьвяшчэннаму Уладыку ІЛЛАРІОНУ[11], Мітрапаліту Паўночна і Паўдзённа Праваслаўнай Царквы з сядзібай у Вінніпегу, *Magnus Ave 804*. У невялічкім аднопартэровым доміку пад вышэй упамянутым нумарам на мой званок адчыніў мне дзьверы невысокага росту сьвятар і даведаўся прычыну маіх адведзін, пакінуўшы мяне ў пачакальні, пайшоў прасіць аўдыенцыі ў Яго Блажэнства. Не ўплыло і некалькі хвілін, як я ўжо быў у працоўным кабінеце Яго Блажэнства Ўладыкі Ілларіона. Благаслаўленьне... і я выкладаю Вашу просьбу і Ягоны ліст з прайшоўшага году.

*"Нічога не зьменілася"*, — сказаў Яго Блажэнства, прачытаўшы ліст.

— *Я і ў гэтым годзе нічога не магу зрабіць, як і ў прайшоўшым. Нямашака грошы.*

Але я зачаў Яму гаварыць сваё, што ў гэтым годзе мы сюды прыехалі і можа што ў гэтым паможам...

— *Што ж, вы авечкі без пастыра. — Што ж у вас ёсьць?.. Вы ж амаскаленыя...*

І калі я, не ўступаючы, гаварыў, што ня ўсе авечкі... то Уладыка спытаўся:

[11] **Мітрапаліт Іларыён** (сьвецк. **Іван Агіенка**; 1882—1972), праваслаўны ярарх, украінскі навуковы, грамадзка-палітычны й рэлігійны дзеяч. Скончыў Кіеўскую вайскова-фэльчарскую школу, гісторыка-філялягічны факультэт Кіеўскага ўнівэрсытэту (1909). Праходзіў навучаньне на Вышэйшых пэдагагічных курсах. Доктар філязофіі (1931). Выкладаў на катэдры расейскай мовы й літаратуры Кіеўскага ўнівэрсытэту, на Вышэйшых пэдагагічных курсах. Удзельнік Усеўкраінскага праваслаўнага царкоўнага сабору 1918 г. Адзін з ідэолягаў кананічнага абвяшчэньня ўкраінскай аўтакефаліі. У 1918 г. кіраўнік Камісіі вышэйшых школаў пры Міністэрстве адукацыі Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР), заснавальнік Камянец-Падольскага ўнівэрсытэту. У 1919 г. — міністар народнай асьветы й мастацтва, потым міністар веравызнаньняў УНР, заснавальнік Камісіі для перакладу богаслужбовых кніг і Сьвятога Пісьма. У 1920—1930-я гг. — выкладчык Львоўскай гімназіі, Львоўскай настаўніцкай сэмінарыі, прафэсар факультэту праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўнівэрсытэту, рэдактар украінскіх часопісаў. У 1940 г. пастрыжаны ў манаства й рукапакладзены ў япіскапа Холмскага й Падляскага (Праваслаўная царква ў Польшчы). У першай палове 1940-х гг. крытыкаваў некананічныя шляхі абвяшчэньня ўкраінскай аўтакефаліі. З 1944 г. — у эміграцыі. У 1948—1951 гг. — мітрапаліт УКМА. З 1951 г. — першаярарх Украінскай грэка-праваслаўнай царквы ў Канадзе, не вызнанай памеснымі праваслаўнымі цэрквамі. Аўтар каля 500 навуковых працаў па ўкраінскім літаратуразнаўстве, гісторыі ўкраінскай культуры й царквы. Перакладчык богаслужбовых тэкстаў на ўкраінскую мову.

— *Ці ўладаеце Вы ўкраінскай мовай?*

На што я сказаў, што пэўна — не.

— *Ну то што-ж. Не падходзіць. Мне трэба сьвятара сёньня, але каб добра ўладаў украінскай мовай.*

На гэтым ўжо справа канчалася. Аднак жа пазьней у тракце асабістай гутаркі Ўладыка згадзіўся на наступнае. Што каб мы — Беларусы, думаючыя беларускай нацыянальнай думкай, працаваўшыя ў Вінніпегу і аколіцах, пад маім провадам як ініцыятара, у гэту суботу слажылі на руку Яго Блажэнства — просьбу аб прыняцьці нас як беларускай групы да Яго Мітрапалітарнага прыходу ў Вінніпегу, уплаціўшы пяцідаларовыя гадавыя складкі прыхажаніна, узялі чынны ўдзел ва ўсім рэлігійным жыцьці, зазначыўшы толк, што гэта ўсё будзе мець сотні нападаў на Ягоную асобу, што пабратаваўся з амаскаленымі, і пагэтаму мы павінны старацца гаварыць па-ўкраінску і годна сябе захоўваць. Даў запросіны на гэту нядзелю на царкоўнае сьвята (Пакрова), дзе я мушу сказаць прамову з сэнсам падзякі за прыняцьце пад ягоны амафор.

Па ўсей гэтай цэрамоніі, калі мы будзем годнымі прыхажанамі, Яго Блажэнства дапаможыць нам сьцягнуць Вас у Вінніпег.

Аднак дапамога заключаецца толькі ў тым, што Яго Блажэнства падпішыць паперы, што даець Вам працу. На дарогу ад Халіфаксу да Вінніпегу суму 24 даляраў за Вашу сям'ю мы павінны ўплаціць самі, а такжа злажыць на Ягоныя рукі 15 даляраў на Ваша пражыцьцё тут на працяг 2 месяцаў і наняць кватэру на гэты час, што вынясець на сям'ю 7 д[аляраў]. Так што ўсё разам абагульняецца сумай 46 д[аляраў].

Вы, сюды прыехаўшы, павінны будзеце злажыць клятву, што заўжды будзеце верны Яго Блажэнству і пад другія амафоры ня пойдзеце. Пасьля гэтага, пакуль мы збудуем сваю беларускую царкву, Вы будзеце мець права служыць службу Божую два разы ў месяц (для Беларусаў) у Ягоным Мітрапалітарным Саборы, і можна будзе карыстацца ўсімі будынкамі царкоўнага прыходу, як школай, заляй і г. д.

Як заарганізуем мы свой прыход, тады мы вольна можам адысьці саўмесна з Вамі, аднак жа наш прыход будзе ў юрысдыкцыі Яго Блажэнства, і мы будзем залежныя ва ўсім ад Яго.

Вось гэта ўсё, што было абгаворана ў сувязі з Вашай просьбай на дзьвюхгадзіннай аўдыенцыі ў Яго Блажэнства, Блажэннага Мітрапаліта ІЛЛАРІОНА Паўночна і Паўдзённа Ўкраінскай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы, паводля дыпламатычнага нотэсу.

Мае асабістыя заўвагі:

Я.Б.Б.М. Ілларіон яшчэ нядаўна ў Канадзе і за гэты час усяго тут заарганізаваў свае два прыходы. Адзін — гэта Мітрапалітарны прыход, у якім зьяўляецца сьвятаром а. Н. Мітюк, які мяне сустрэў і прасіў аўдыенцыі ў Вінніпегу, і другі — гэта прыход у Торонто, дзе сьвятаром

а. Сагайдакевіч. Маецца арганізавацца яшчэ і трэці, на які ўжо ёсьць сьвятар Васільеў. Гэта ўсё, што маець Я.Б.Б.М. Іларіон. Пагэтаму Ён ня можа браць больш сьвятароў. Пры тым Я.Б.Б.М. Іларіон — гэта Украінец у поўным значэньні гэтага слова, і які б ні быў добры сьвятар чужой нацыі, то ён таго ў сучасны мамент, у якім знаходзіцца Я.Б.Б.М. Іларіон (стадыя арганізацыі), яму таго ня выканае, што можа выканаць свой. Ягонае хасла: Служба народу — служба Богу, і трызуб у кабінеце вісіць вышэй крыжа. Доказаў наяўных няма, але я вычуў душой, што Я.Б.Б.М. ненавідзіць нас так, як і расейцаў, у якіх на службе нашы пастыры. У тракце размовы была парушана справа нашай царквы, і Я.Б.Б.М. Іларіон сказаў, што пад час Яго пабыту ў ЗША Яму ў гэтай справе складаў візыту Др. Ермачэнка і з плачам прасіў дапамогі. Я.Б. і Др. Ермачэнку прадлажыў такую канцэпцыю, з каторай Той зрэзыгнаваў.

Мой погляд на прапанову.

Прапанова нас авечак у сучасны цяжкі час заахвочваець, але мы яе ня можам выканаць. Як кантрактовыя работнікі, мы часта робім і ў нядзелю (не ахвотна!). Я так жа буду рабіць ў гэту і не змагу быць нават прысутным на Божай Службе, ня толькі каб мог рэч сказаць. А які Ваш на гэта погляд?

Тут яшчэ ёсьць і расейская царква, у якой часова настаяцелем прыехаўшы нядаўна з Мюнхэну нейкі сьвятар Бігун ці Бягун.

Аднака ж сюды маець ужо хутка прыехаць на стала а. Кірчук з Бяйройту (быўшы капелан). Плата ў ёй сьвятару з складак вернікаў 60 д[аляраў] у месяц.

Гэта ўсё, што я мог Вам разьведаць на Вашу просьбу.

Прашу, напішыце сваю думку, Пав[ажаны] Айцец, на гэтыя прапановы.

Чакаю.

Жыве Беларусь!

З пашанай да Вас
[Мікола Сільвановіч]

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЖЫРОВІЦКАЕ БРАЦТВА НА ЧУЖЫНЕ Й ЯГО ВЫДАНЬНІ

Культ Жыровіцкай Божай Маці быў даволі распаўсюджаны ў асяродзьдзі паваенных беларускіх эмігрантаў на Захадзе. Цэрквы ў яе гонар дзейнічалі ў Манчэстэры (Вялікабрытанія), Пэрце (Заходняя Аўстралія), Кліўлэндзе й Гайлэнд-Парку (ЗША). Дзясяткі паштовак і іншых друкаваных выданьняў, прысьвечаных Жыровічам, пабачылі сьвет намаганьнямі беларусаў у розных краінах у 1950-я — 2000-я гг. Найболыш друкаў выходзіла ад імя Беларускага праваслаўнага жыровіцкага брацтва на чужыне, выдавецкай дзейнасьці якога й прысьвечаны гэты агляд.

Брацтва было заснаванае ў Нямеччыне ў 1947 г. у часе расколу ў асяродзьдзі праваслаўных беларусаў-эмігрантаў, калі частка вернікаў засталася зь Беларускім епіскапатам, што перайшоў у 1946 г. у юрысдыкцыю Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, а другая частка падтрымала афармленьне аўтакефаліі Беларускай царквы. Мэтамі стварэньня Жыровіцкага брацтва былі:

*“1. Захаваць догмы, традыцыю й хрысьціянскую дабрадзейнасьць сьв. Праваслаўнай веры.*

*2. Несьці маральную і асьветную дапамогу сваім суродзічам на чужыне.*

*3. Апякавацца царкоўным жыцьцём пад кожным паглядам.*

*4. Выдаваньне рэлігійнай беларускай літаратуры.*

*5. Трымацца БАПЦ”*[1].

У афіцыйнам паведамленьні тлумачылася:

*“Жыровіцкае Праваслаўнае Брацтва абрала сабе за Апякунку Брацтва Божую Маці ў сымбалі Цудатворнага Абразу, які зьявіўся ў Жыровіцах у 1470 годзе на грушы. Песьня Божай Маці за Царкву і Народ сталася гімнам Брацтва. Колеры і знак Брацтва — на белым*

[1] Ад Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва // Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі Беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг. Частка II. Рэлігійныя справы. Лос Анжэлес, 1968. Машынапіс. Арк. 63.

*полі зьяўленьне Цудатворнага Абраза Божае Маці на грушцы ў зелені прыроды"*[2].



Аляксандар Асіповіч-Асіпчык

Уласна з вобразам Жыровіцкай Божай Маці й была найбольш зьвязаная выдавецкая дзейнасьць новапаўсталай арганізацыі. Галоўным ініцыятарам, ідэйным натхняльнікам і ці не адзіным дзейным сябрам Брацтва, а таксама аўтарам, рэдактарам, афармляльнікам і выдаўцом яго друкаў стаў Аляксандар Асіповіч-Асіпчык, на біяграфіі якога мае сэнс спыніцца асобна.

Аляксандар Асіповіч-Асіпчык нарадзіўся 1 красавіка 1909 г. у в. Пляшкі (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.). У сям'і было пяцёра дзяцей, і лёсавызначальным для яе стаў час Першай сусьветнай вайны, вымушанае бежанства ў Чэлябінскую губэрню. Там ад сухотаў памёр бацька й дзьве сястры. У 1921 г. Аляксандар з маці й яшчэ адной сястрой вырашылі вяртацца на радзіму праз Чэлябінск, Екацярынбург, Самару, Смаленск, Менск, Слонім. Вось адзін з эпізодаў гэтай дарогі: *"Неяк пасярод зімы наш эшалён вагонаў тры дні стаяў на станцыі ў Пензе. Мама мая пайшла шукаць у горадзе нейкае дапамогі, але ў гэтым часе ўзьнік пажар між стаячых вагонаў, а каб наш эшалён уратаваць ад пажару, вывезьлі на наступную станцыю. Маці мая асталася. Шукаючы нас, толькі за некалькі дзён знайшла, але ўжо будучы хворай і галоднай. Цяжкае запаленьне лёгкіх і параліж абламылі яе забойча. Штось у працягу месяца, калі наш эшалён вагонаў стаяў у Смаленску — маці мая ўмерла ня толькі ад хваробы, але й голаду й холаду. Страшная сьмерць была мае маці..."*[3]

Такім чынам, у родныя мясьціны Алесь Асіпчык зь сястрой прыбылі сіротамі, й неўзабаве трапілі пад апеку Чырвонага Крыжа, які перадаў іх у прытулак на тэрыторыі Жыровіцкага манастыра. Напэўна, перабываньне ў гэтым прытулку стала вызначальным для будучага дзеяча, паколькі тэма Жыровіцкай Божай Маці й Жыровічаў прысутнічала ў большасьці выданьняў, да якіх ён меў дачыненьне.

Празь некаторы час дзеці былі перавезеныя ў іншыя прытулкі: у Варшаву, Чэнстахову. Пазьней Аляксандр Асіпчык вучыўся ў рамеснай школе ў Дварцы пад Наваградкам, служыў у 4-м авіяцыйным палку ў Торуні. У 1932—1935 гг. жыў у Вільні. У часе нямецкай акупацыі працаваў у рамеснай школе ў Слоніме, быў дырэктарам мясцовай бібліятэкі й Народнага дому. Прыхільнік беларусізацыі праваслаўнай царквы, ён

[2] Ад Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва.

[3] Асіпчык, Аляксандар. Праўдзівая даведка // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 265—266.

удзельнічаў у Беларускім царкоўным саборы 1942 г. У 1943 г. — арыштаваны паводле даносу, празь нейкі час — выпушчаны. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку супрацоўнічаў зь беларускімі япіскапамі, а ў 1946 г. пасьля пераходу іх у склад Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае жыровіцкае брацтва.

У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, Чыкага, Кліўлэндзе, Нью-Брансўіку. З 1950-х гг. быў зьвязаны з Расейскім таварыствам узаемадапамогі Амэрыкі (РОВА). Апошнія гады жыў на фарме РОВА ў Джэксане (Нью-Джэрзі). Памёр 14 сакавіка 1990 году.

Паводле нэкралёгу, зьмешчанага ў газэце "Беларус", *"пры дапамозе й чынным удзеле А. Асіпчыка была збудаваная ці адна беларуская царква на эміграцыі, пачынаючы ад Сьвята-Еўфрасіньнеўскае царквы ў Рэгенсбургу (Зах. Нямеччына). [...] найбольш характэрная рыса А. Асіпчыка была — ахвярнасьць. Ён даваў грошы і на скаўтаў (дарэчы, ён ахвяраваў першы сьцяг беларускім скаўтам у Рэгенсбургу ў 1946 годзе), і на студэнтаў, і на грамадзкія арганізацыі"*[4].

Гэты ахвярны й актыўны праваслаўны вернік і займаўся ад імя Жыровіцкага брацтва на працягу дзесяцігодзьдзяў выдавецкай дзейнасьцю. Пры гэтым варта заўважыць, што ў друках сустракаліся розныя варыяцыі назвы арганізацыі: *Беларускае Праваслаўнае Брацтва Жыровіцкага Манастыра, Жыровіцкае Праваслаўнае Брацтва, Беларускае Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва, Беларускае Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва на чужыне, Жыровіцкае Праваслаўнае Брацтва на Чужыне, Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва на Чужыне*. Найчасцей сустракаецца варыянт *Беларускае Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва на чужыне*.

Усе друкі, якія выходзілі пад шыльдай Брацтва, можна падзяліць на чатыры групы: улёткі, паштоўкі й маркі, кнігі й пэрыядычныя выданьні.

Улёткі найбольш зьвязаныя зь першай паловай 1950-х гг. і ўяўлялі сабою асьветчаньні, адкрытыя лісты, звароты да грамадзкасьці ці канкрэтных структураў і датычылі розных дыскусійных тэмаў беларускага жыцьця на Захадзе. Такія ўлёткі звычайна друкаваліся на 1—2 старонках і распаўсюджваліся ў беларускім асяродзьдзі. Сярод іншага, у 1956 г. у Нью-Брансўіку ад імя Жыровіцкага брацтва зьявіліся пэтыцыі да ўладаў ЗША пра дазвол прыехаць у краіну архімандрыту Уладзімеру Фінькоўскаму.

Найбольш колькаснымі сярод друкаваных выданьняў Брацтва, відавочна, былі паштоўкі. Першая іх сэрыя, выдадзеная ў 1948 г. у Нямеччыне, уключала тры фотапаштоўкі: "Беларуская праваслаўная

[4] Сьв. пам. Аляксандар Асіповіч-Асіпчык (1.IV.1909—14.III.1990) // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 8.

царква” (з адлюстраваньнем беларускай царквы ў лягеры Віндышбэргердорф), “Царква сьв. Аўфрасіні кн. Полацкай” (з выявай вонкавага выгляду царквы ў Рэгенсбургу) і “Царква сьв. Аўфрасіні кн. Полацкай” (з выявай іканастасу тае ж царквы). На адвароце кожнай паштоўкі на жоўтым фоне быў пададзены тэкст у беларускай мове (лацінкаю) і нямецкай, а таксама была пазнака, што гэта *“Выданьне Жыровіцкага брацтва”*. Наклад гэтых паштовак няведамы, аднак у калекцыях эміграцыйнай беларусікі яны сустракаюцца даволі часта.



Паштоўка “Зьяўленьне цудатворнага абраза Маці Божай Жыровіцкай”. Нямеччына, 1948 г.

Таксама ў 1948 г. у Нямеччыне пабачыла сьвет яшчэ адна сэрыя паштовак, гэтым разам прысьвечаных менавіта Жыровічам. У ёй таксама былі тры паштоўкі: “Жыровіцкі сьв. Усьпенскі манастыр”, “Зьяўленьне цудатворнага абраза Маці Божай Жыровіцкай” і “Рэстаўрыраваны абраз Жыровіцкай Божай Маці”. Як і ў згаданай вышэй сэрыі, у гэтых паштоўках на адвароце на жоўтым фоне прыводзіўся тэкст (на беларускай мове лацінкаю) з тлумачэньнем, чаму прысьвечаная паштоўка. Там жа зьмяшчалася пазнака, што гэта *“Выданьне Жыровіцкага праваслаўнага брацтва на чужыне. Коштамі А. Асіповіча-Асіпчыка”*.

Выявы з паштовак “Жыровіцкі сьв. Усьпенскі манастыр”, “Зьяўленьне цудатворнага абраза Маці Божай Жыровіцкай” былі скарыстаныя для яшчэ адной сэрыі паштовак, што пабачыла сьвет ужо ў ЗША недзе ў 1960-х. Паштоўкі зь сінім друкам на паперы адпаведна блакітнага й ружовага колераў былі меншыя паводле памеру і ўжо не ўтрымлівалі тлумачальнага тэксту на адвароце. Там зьмяшчалася толькі пазнака *“Выданьне выдавецтва «Сьвет»”*. Хоць на гэтых паштоўках няма выдавецкай пазнакі Жыровіцкага брацтва, можна меркаваць, што да іх зьяўленьня таксама меў дачыненьне Аляксандар Асіповіч-Асіпчык.

У 1970 г. у ЗША ад імя Брацтва пабачылі сьвет яшчэ дзьве паштоўкі. Адна (раскладная) мела назву “Вясёлых сьвят” і выяву зьяўленьня Маці Божай Жыровіцкай на вокладцы, а на развароце — напісаную па-беларуску кірыліцай гісторыю іконы ды верш Якуба Коласа “Родны край”. На апошняй старонцы прысутнічала пазнака: *“Выданьне Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне. 1970 г. Коштам*




Брашура "Цудатворны Абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі Манастыр. Гістарычны нарыс". Баварыя, 1947 г.

*А. Асіповіча-Асіпчыка. З.Ш.А.".* Тая ж выява выкарыстаная й на адзінарнай паштоўцы "Ў Жыровіцкай пушчы над Шчарай". На адваротным баку яе таксама па-беларуску кірыліцай падаецца гісторыя зьяўленьня абраза Божай Маці і пазначана: *"Выданьне Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва. 1970 г. Коштамі А. Асіповіча-Асіпчыка".*

Па-за жыровіцкай тэматыкай была выдадзеная яшчэ адна паштоўка: "Сьв. Прадслава-Эўфрасіня — асьветніца Беларусі", таксама пазначаная як *"Выданьне Жыровіцкага брацтва".* Аднак ні час, ні месца яе друку няведамыя.

Акрамя паштовак у 1985 г. да 1000-годзьдзя хрысьціянства Аляксандар Асіпчык разам зь філятэлістам Багданам Павуком выдаў марку (віньетку) *"Bielarusia's Millennium Christianity".*

Паштоўкі, што даволі шырока разыходзіліся ў асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў на Захадзе, спрыялі пашырэньню ведаў пра Жыровічы. Аднак хіба больш грунтоўна гэта рабілі кніжныя выданьні.

Першае зь іх пад назовам "Цудатворны Абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі Манастыр. Гістарычны нарыс" пабачыла сьвет у Баварыі яшчэ ў 1947 г. (назва на тытульным лісьце: "Вялікая сьвятасьць Беларусі. Цудатворны Абраз Божае Маці ў Жыровіцах"). Брашура на 32 старонкі ратататарнага друку пазначаная як *"Выданьне Беларускага Праваслаўнага Брацтва Жыровіцкага Манастыра".* Яе зьмест пачынаецца з прадмовы "Ад выдавецтва", дзе акрэсьліваецца інфармацыйная і ў некаторай ступені дыдактычная мэта выданьня: *"Кніжыцай гэтай Выдавецтва хоча паказаць у кароткіх вобразах усе падзеі мінулых гадоў царкоўнай гісторыі, якія адбываліся ў Жыровіцах, а кажны беларус павінен зацікавіцца тым пэрыядам, перадумаць, робячы параўнаньне да сучаснага, кіруючыся, аднак, думкай у царкоўнай справе на Беларусі самастойнай і незалежнай на карысьць нашага народу і будучай Беларускай дзяржавы"*[5]. Далей у брашуры зьмеш-

[5] Асіповіч-Асіпчык, Аляксандар. Вялікая сьвятасьць Беларусі Цудатворны абраз Божае Маці ў Жыровічах. Баварыя: выданьне ініцыятараў Беларускага Праваслаўнага Брацтва Жыровіцкага Манастыра, 1947. С. 2.

чаны аповед “Сьвятасьць Беларусі — Цудатворны Абраз Божае Маці ў Жыровіцах” і своеасаблівая пасьлямова “На шляху да Жыровіцаў”, прысьвечаная сьвяткаваньню дня зьяўленьня іконы й падпісаная сымбалічнай датай *20.5.1947*.

У працяг тэмы празь некалькі дзесяцігодзьдзяў у ЗША пабачылі сьвет два падобныя выданьні ад імя Брацтва аўтарства таксама Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка: “Слонім і Жыровіцы” (1970) і “Жыровічы: Гістарычны Нарыс” (1980). Дзеля прыкладу структуры спынімся на апошнім. Брашура на 39 старонак афсэтнага друку з аўтарскімі ілюстрацыямі. У зьмесьце: “Уступнае слова”, “Гістарычныя весткі датаў…”, вялікі гістарычны нарыс “Жыровічы” з падразьдзеламі, прысьвечанымі мітрапаліту Язэпу Солтану, апісаньню Жыровіцкай лаўры й інш., “Малітва да Жыровіцкае Божае Маці”, “З архіву Жыровіцкага манастыра” й аналягічны таму, што і ў выданьні 1947 г., апошні разьдзел “На шляху да Жыровічаў”. Пры канцы выданьня зьмешчаны партрэт аўтара[6]. Варта адзначыць, што для тэкстаў Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка ўласьцівы выразны антыкаталіцкі, а асабліва антыўніяцкі характар, што прасочваецца ў выданьнях розных гадоў.



Тытульная старонка самаробнай кнігі “Жыровіцы 1470—1970. Юбілейны год. 500”. ЗША, 1970 г.

Цікава, што сярод папераў Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка, якія трапілі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва ў Менску, захаваўся й цікавы асобнік самаробнай кнігі пад назвай “Жыровіцы 1470—1970. Юбілейны год. 500”. На тытульным лісьце пазнака *“На ўспамін ад Аляксандра А. Асіпчыка”*. Зборнік, аздоблены малюнкамі аўтара, уяўляе сабою пераплеценыя рукапісныя й друкаваныя тэксты, зьвязаныя з Жыровічамі й living рознымі іконамі Божай Маці, малітвы, малюнкі, выразкі з пэрыёдыкаў, у тым ліку цэлы нумар часопісу “Голас Царквы” за 1970 г. Гэткая эклектычная падборка матэрыялаў, як выглядае, не да канца дабробленая аўтарам, выразна адлюстроўвае

[6] Жыровічы: Гістарычны Нарыс. Кліўлэнд, ЗША: выданьне Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на Чужыне, 1980. 39 с.

ягоныя зацікаўленьні, а таксама мастацкія здольнасьці і дазваляе выказаць меркаваньне, што выдаваныя ад імя Жыровіцкага брацтва паштоўкі афармляў сам Аляксандар Асіповіч-Асіпчык.

Па-за згаданымі выданьнямі ад імя Беларускага праваслаўнага жыровіцкага брацтва пабачылі сьвет брашуры: "Жыцьцё і дзеі Сьв. Іоана Златавуснага" (Кліўлэнд, 1979) і "Я — Сьвятло Сьвету. Сьвятыя Беларускага Народу" (Нью-Брансўік, 1984). Абедзьве рыхтаваў і выдаваў той самы Аляксандар Асіповіч-Асіпчык.

Акрамя таго, у 1948—1965 гг. як выданьне Брацтва выходзіў часопіс "Сіла Веры", галоўным рэдактарам, аўтарам і выдаўцом якога выступаў той жа дзеяч. Часопіс друкаваўся ратататарным чынам, ілюстрацыі размалёўваліся ад рукі, што сьведчыць пра адносна невялікі наклад часопісу й ягоную гадавую пэрыядычнасьць. Зьмест, як правіла, складалі артыкулы з папулярызацыяй зьвестак пра сьвятых, матэрыялы пра беларускія гарады й мястэчкі, асновы праваслаўнай веры, палеміка з сучаснымі аўтару беларускімі рэлігійнымі дзеячамі, хроніка царкоўнага жыцьця эміграцыі. Паколькі Аляксандар Асіповіч-Асіпчык і, адпаведна, Брацтва было ў апазыцыі й да БАПЦ на чале з уладыкам Васілём (Тамашчыкам), і да праваслаўных прыходаў у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату на чале з а. Мікалаем Лапіцкім, палемічных тэкстаў у "Сіле Веры" было багата. Агулам сьвет пабачыла 18 нумароў часопісу.

Дзеля справядлівасьці варта адзначыць, што ня ўсё, выдаванае Аляксандрам Асіповічам-Асіпчыкам, выходзіла пад шыльдай Жыровіцкага брацтва. Інфармацыйныя ўлёткі, якія друкаваліся ў часе канфлікту з а. Мікалаем Лапіцкім, Іванам Касяком, Людвікам Галубовічам (Зарэчным) і інш. у 1950-х — 1960-х гг. ішлі ад імя аўтара. Гэта друкі кшталту "Адказ крывіцкім ганібалам" (Чыкага, 1955), "У адказ даношчыкам" (Чыкага, 1963) і г. д. Згаданыя выданьні добра ўлічаныя ў бібліяграфіі "Беларускі друк на Захадзе" Вітаўта й Зоры Кіпеляў[7]. Палемічная актыўнасьць Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка й зьвязаная зь ёй выдавецкая дзейнасьць мае быць тэмай асобнага дасьледаваньня.

Што ж датычыць пададзеных вышэй друкаў Беларускага праваслаўнага жыровіцкага брацтва на чужыне, то яны сталі адметнай зьявай ня толькі рэлігійнага жыцьця, але й выдавецкай дзейнасьці беларускай паваеннай эміграцыі на Захадзе й сапраўды багата спрычыніліся да пашырэньня інфармацыі пра Жыровічы. І зразумела, што ролю Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка ў гэтым складана пераацаніць. Нават на ягоным надмагільным помніку выбітая выява іконы Жыровіцкай

---

[7] Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. XVI+841 p.

Божай Маці. Вось як згадваецца пра тое ў нэкралёгу: “*І хоць меў нябожчык закупленую магілку на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, зажадаў ён быць пахаваным на магілках фармы РООВА, бо там, як казаў нябожчык, «мой па-беларуску напісаны помнік, з нашым беларускім “Хрыстос Уваскрос” ды іконай жыровіцкай Божай Маці, будзе помнікам усім тым Беларусам, якія спачываюць у гэтым кутку амэрыканскае зямлі»*”[8].




Надмагільле Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка. Джэксан (Нью-Джэрзі)

[8] Сьв. пам. Аляксандар Асіповіч-Асіпчык…

*Тэма нумару: Царква на эміграцыі*

***Аляксандар Сълесараў***
*Менск*

# РЭЛІГІЙНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЯРХАЎ ПЯТРА ЖУРАВЕЦКАГА І ЎЛАДЗІСЛАВА РЫЖАГА-РЫСКАГА

Асобная старонка беларускага рэлігійнага жыцьця на чужыне — дзейнасьць патрыярхаў Пятра Журавецкага і Ўладзіслава Рыжага-Рыскага, якія паспрабавалі аб'яднаць праваслаўных і каталікоў у адзінай Царкве беларускага народу. Агляд гісторыі гэтай царквы трэба пачаць зь біяграфічных нарысаў названых асобаў.

## Патрыярх Пётар Журавецкі

Будучы патрыярх Пётар Журавецкі нарадзіўся ў 1901 г. у г. Рава-Руская (Галіцыя, Аўстра-Вугоршчына, цяпер Жолкаўскі р-н Львоўскай вобл., Украіна). Паходзіў зь беларускай сям'і, якая раней жыла на тэрыторыі сучаснай Берасьцейскай вобласьці. Першапачаткова належаў да грэка-каталікоў і атрымаў сьвятарскую адукацыю ў Венскай духоўнай сэмінарыі. У 1925 г. пераехаў у ЗША для працягу багаслоўскай адукацыі. Далучыўшыся да юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату, у 1932 г. прыняў сьвятарскае высьвячэньне. Праз восем гадоў увайшоў у склад самаабвешчанага й некананічнага экзархату Александрыйскага патрыярхату ў Амэрыцы[1].

Некананічны экзархат Александрыйскага патрыярхату ў Амэрыцы ўзьнік у лютым 1934 г. з ініцыятывы былога сьвятара Амэрыканскай япархіі Канстантынопальскага патрыярхату Хрыстофара (Кантагіёргіёса). Пасьля адыходу ад свайго кіроўнага архірэя ён прыняў рукапалажэньне ў сан архіяпіскапа Пэнтапальскага ад прымаса Амэрыканскай

[1] Арцыбіскуп Пётра, Апостальскі Пасярэднік Сыноду Беларускае, Каталіцкае Артадаксальнае Субожні // Беларускі Голас. № 81. 1961. С. 1; Грамата аб дыяканскім і сьвятарскім высьвячэньні Пятра Журавецкага. 21 красавіка 1932 г. Фотакопія. Архіў аўтара; Мадаратар 1-га Тымчасовага Сыноду Беларускае Субожні (Артадаксальна-Каталіцкае) // Беларускі Голас. № 78. 1961. С. 1; Rt. Rev. Peter Zuravetsky, bishop-elect of the Holy Eastern Catholic and Apostolic Diocese of America // Our Missionary diocesan monthly the Holy Eastern Catholic and Apostolic Diocese of America. № 1. 1943. P. 1.

праваслаўнай каталіцкай царквы (АПКЦ) архіяпіскапа Сафронія (Бішара) і япіскапа Феафана (Нолі), ярарха Альбанскай праваслаўнай царквы. У сваю чаргу Амэрыканская праваслаўная каталіцкая царква (*The American Orthodox Catholic Church*)[2] была заснаваная ў 1927 г. архіяпіскапам Бруклінскім Яўфіміем (Офэйшам), які раней належаў да Расейскай праваслаўнай царквы. Лінія архірэйскіх рукапалажэньняў АПКЦ узыходзіла да Расейскай праваслаўнай царквы й Антыяхійскага патрыярхату. Нягледзячы на фармальную ерархічную пераемнасьць ад кананічных цэркваў, АПКЦ не атрымала прызнаньня ў праваслаўным сьвеце[3]. У 1943 г. архіяпіскап Хрыстофар (Кантагіёргіёс), які ўжо тытулаваўся экзархам Александрыйскага патрыярхату, абвясьціў архімандрыта Пятра (Журавецкага) абраным на рукапалажэньне ў япіскапы (*bishop-elect*)[4].



Патрыярх Пётар Журавецкі

У сярэдзіне 1940-х гг. архіяпіскап Хрыстофар (Кантагіёргіёс) пачаў перамовы з Канстантынопальскім патрыярхатам адносна ўладкаваньня свайго кананічнага статусу. Распараджэньнем экзарха ўсяленскага патрыярха ў Паўночнай і Паўдзённай Амэрыцы архіяпіскапа Афінагора (Сьпіру) ад 1 сакавіка 1945 г. экскамунікацыя архіяпіскапа Хрыстофара абвяшчаласяануляванай. Праз два гады ён атрымаў кананічнае прызначэньне на пасаду экзарха Александрыйскага патрыярхату ў Амэрыцы[5]. Напрыканцы 1940-х гг. архімандрыт Пётар Журавецкі далучыўся

[2] Афіцыйная назва — Сьвятая ўсходняя праваслаўная каталіцкая й апостальская царква ў Паўночнай Амэрыцы, *The Holy Eastern Orthodox Catholic and Apostolic Church in North America*.

[3] Brandreth, Henry R. T.. Episcopi Vagantes and the Anglican Church. Borgo Press, Wildside Press, 1987. P. 57; Fitzgerald, Thomas E. The Orthodox Church. Westport-London: Greenwood Press, 1995. P. 49—50, 54; Piepkorn, Arthur Carl. Profiles in Belief: Roman Catholic, Old Catholic, Eastern Orthodox. Vol. 1. Harper & Row, 1979. P. 104.

[4] Арцыбіскуп Пётра, Апостальскі Пасярэднік Сыноду Беларускае, Каталіцкае Артадаксальнае Субожні. С. 1; Rt. Rev. Peter Zuravetsky, bishop-elect of the Holy Eastern Catholic and Apostolic Diocese of America // Our Missionary diocesan monthly the Holy Eastern Catholic and Apostolic Diocese of America. № 3. 1943. P. 1.

[5] Грамата аб адмене кананічных пакараньняў, накладзеных на архіяпіскіпа

да Сьвятой праваслаўнай царквы Хрыста (*The Holy Orthodox Church of Christ*), заснаванай былымі ярархамі няпрызнанага экзархату Александрыйскага патрыярхату ў Амэрыцы. 14 кастрычніка 1950 г. Сьвятая праваслаўная царква Хрыста атрымала новы назоў — Сьвяты праваслаўны каталіцкі патрыярхат (СПКП, англ. *The Holy Orthodox Catholic Patriarchate*), а ўжо на наступны дзень адбылося архірэйскае высьвячэньне архімандрыта Пятра. У ягонай хіратоніі бралі ўдзел патрыярх усяе Амэрыкі Іосіф Клімовіч (СПКП), архіяпіскап Канстанцін Ярашевіч (СПКП), архіяпіскап Іосіф Зялонка (Польская старакаталіцкая царква ў Амэрыцы й Эўропе), мітрапаліт Мікалай Багатырэц (Праваслаўная каталіцкая царква ў Амэрыцы) і япіскап Пётар Вэліямовіч (Польская старакаталіцкая царква ў Амэрыцы й Эўропе). У 1957 г. патрыярх Іосіф Клімовіч адышоў ад актыўнага служэньня, пасьля чаго адбылося абраньне мітрапаліта Пятра Журавецкага другім патрыярхам Сьвятога праваслаўнага каталіцкага патрыярхату. Патрыяршы катэдральны храм СПКП у гэты час разьмяшчаўся ў г. Спрынгфілд (*Springfield*, штат Масачусэтс)[6].

З 1959 г. Пётар (Журавецкі) быў у складзе Польскай старакаталіцкай царквы ў Амэрыцы й Эўропе на пасадзе вікарыя (суфрагана) прымаса архіяпіскапа Іосіфа Зялонкі. Пасьля сьмерці апошняга ў 1961 г. ён узначаліў названую рэлігійную арганізацыю й узяў сабе тытул мітрапаліта[7]. Далейшая рэлігійная дзейнасьць мітрапаліта Пятра будзе цесна зьвязаная з праектам стварэньня незалежнай Царквы беларускага народу, ініцыятарам чаго выступаў Уладзіслаў Рыжы-Рыскі.

## Уладзіслаў Рыжы-Рыскі

Будучы патрыярх Уладзіслаў Рыжы нарадзіўся ў 1925 г. на хутары непадалёк ад вёскі Латыгаль Пастаўскага павету Віленскага ваяводзтва Польскай Рэспублікі (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласьці,

---

Хрыстофара (Кантагіёргіёса). 1 сакавіка 1945 г. Падпісана архіяпіскапам Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі Афінагорам (Сьпіру) і вікарнымі япіскапамі Паўночна-Амэрыканскай архіепіскапіі Канстантынопальскага патрыярхату. На анг. мове. Фотакопія. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу.

[6] Пасьведчаньне аб япіскапскім высьвячэньні Пятра Журавецкага. 15 кастрычніка 1950 г. На анг. мове. Фотакопія. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу; Melton, Gordon J. Melton's Encyclopedia of American Religions. Gale Cengage Learning, 2009. P. 1152; Piepkorn, Arthur Carl. Profiles in Belief: Roman Catholic, Old Catholic, Eastern Orthodox. P. 96—97.

[7] Пасьведчаньне аб прызначэньні архіяпіскапа Пятра Журавецкага пераемнікам мітрапаліта Пятра Зялонкі, прымаса Польскай старакаталіцкай царквы ў Амэрыцы й Эўропе. 31 кастрычніка 1959 г. Фотакопія. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу.


Уладзіслаў Рыжы-Рыскі. 1970 г.

Беларусь). Паходзіў зь беларускай сялянскай сям'і каталіцкага веравызнаньня. Зь дзяцінства выявіў вялікія здольнасьці да навучаньня. Да пачатку Другой сусьветнай вайны пасьпеў скончыць некалькі клясаў польскай гімназіі ў мястэчку Глыбокае, дзе пачаў цікавіцца беларускай нацыянальнай ідэяй і атрымаў мянушку Патрыёт. У 1940 г. паступіў у Глыбоцкі сельскагаспадарчы тэхнікум. Падчас нямецкай акупацыі навучаўся на настаўніцкіх курсах у Глыбокім, потым працаваў у адной зь вясковых школаў на Віцебшчыне. Браў актыўны ўдзел у дзейнасьці Саюзу беларускай моладзі й Беларускай народнай самапомачы. З 1943 г. падтрымоўваў дзейнасьць Беларускай незалежніцкай партыі. У 1944 г. Уладзіслаў Рыжы абняў пасаду сакратара аддзелу моладзі пры Беларускай Цэнтральнай Радзе, а крыху пазьней перайшоў у аддзел прапаганды Беларускай краёвай абароны. Зь сярэдзіны таго ж году — у эміграцыі[8].

Пасьля пераезду ў Заходнюю Эўропу Уладзіслаў Рыжы, зьмяніўшы прозьвішча на Рыжы-Рыскі (*Ryzy-Ryski*), нядоўгі час жыў у Нямеччыне, а потым пераехаў у Бэльгію. Праводзіў актыўную грамадзкую дзейнасьць і стаяў ля вытокаў Саюзу беларусаў Бэльгіі (СББ), у якім займаў пасаду старшыні. З 1947 г. рэдагаваў афіцыйны орган СББ — часопіс "Беларуская праўда". У тым жа годзе ўзначаліў Беларускі сындыкат (прафсаюз) працаўнікоў у Льежы ды пачаў рэдагаваць і афіцыйны орган Сындыкату — часопіс "Змаганьне за волю і за існаваньне". Пазьней рэдагаваў беларускую газэту "Незалежнасьць" (у 1948 г. выйшаў толькі адзін нумар) і вёў беларускія праграмы на радыёстанцыі ў Лімбургу. Таксама Ўладзіслаў Рыжы-Рыскі займаўся пытаньнямі арганізацыі рэлігійнага жыцьця беларускіх эмігрантаў. Зь ягонай ініцыятывы рыма-каталіцкая япархія ў Бэльгіі арганізавала беларускую духоўную місію, якая, што праўда, ня мела значных вынікаў у працы[9].

---

[8] Гарбінскі, Юры. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Жыццярысы. Мартыралогія. Успаміны. Менск — Мюнхен: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 166; Романько, Олег. Легион под знаком погони. Белорусские коллаборационистские формирования в силовых структурах нацистской Германии (1941—1945). Симферополь: Антиква, 2008. С. 132—134, 140; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. Асінінг, 2003. С. 8—11; Рыжы, Эмігідзіюш. Пра майго брата шмат казалі няпраўды // Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Менск: Медысонт, 2007. С. 333.

[9] Агульны гадавы зьезд беларусаў у Бэльгіі // Бацькаўшчына. № 7—8 (86—87). 1952. С. 8; Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)...

У 1948 г. Уладзіслаў Рыжы-Рыскі пераехаў у Рым і паступіў у Папскую калегію Русікум, дзе рыхтаваўся да прыняцьця сьвятарскага сану. Праз актыўны ўдзел у дзейнасьці беларускіх арганізацыяў ён зьвярнуў на сабе ўвагу прэм'ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі Аўгена Каханоўскага. Апошні ў студзені 1949 г. нават рэкамэндаваў Уладзіслава Рыжага-Рыскага прэзыдэнту БНР Міколу Абрамчыку на пасаду прадстаўніка БНР у Італіі. Але прызначэньня не адбылося. У тым самым годзе малады беларускі навучэнец быў адлічаны з Калегіі за крытыку мэтадаў духоўнага выхаваньня[10]. Пасьля гэтага ён накіраваўся ў Гішпанію й пачаў навучаньне ў Мадрыдзкім унівэрсытэце. З 1952 г. займаў пасаду сакратара Інстытуту беларусаведы імя Лява Сапегі, які дзейнічаў пры Цэнтры дыялёгу эўрапейскіх культураў у Мадрыдзе. У лістападзе 1953 г. Рыжы-Рыскі заснаваў і ўзначаліў беларускую сэкцыю Цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў, які таксама дзейнічаў у Мадрыдзе. На працягу 1953—1954 гг. ён актыўна ўзаемадзейнічаў зь Беларускай Цэнтральнай Радай і нават браў удзел у XIII і XIV пленумах БЦР. У 1954 г. адышоў ад каталіцызму, прыняў пратэстанцкае (кальвінісцкае) веравызнаньне й паступіў на навучаньне ў прэсьвітарыянскую Прынстанскую багаслоўскую сэмінарыю. Пасьля заканчэньня багаслоўскай адукацыі атрымаў дыплём магістра тэалёгіі й стаў прэсьвітарыянскім пастарам. З 1958 г. выдаваў у Мадрыдзе часопіс "Эвангельскі прападнік для беларусаў", які выходзіў беларускай лацінкаю. Праз год ён пераехаў жыць у ЗША[11].

---

С. 399; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. С. 149; Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). Менск, 2001. С. 23, 26—27, 29, 32—33, 38, 41, 46; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 16.

[10] Ліст Міколы Абрамчыка, адрасаваны Аўгену Каханоўскаму ад 12.01.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 449; Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 53; Рыжы, Эмігідзіюш. Пра майго брата шмат казалі няпраўды. С. 335; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 16.

[11] Ліст Міколы Абрамчыка, адрасаваны Аўгену Каханоўскаму ад 12.01.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 449; Даклад аб Беларусі ў Мадрыце // Бацькаўшчына. № 3 (82). 1952. С. 4; Інстытут Беларусаведы ў Мадрыдзе // Бацькаўшчына. № 15—16 (94—95). 1952. С. 12; Леў, а. Новы подступ бязбожнае прапаганды // Бацькаўшчына. № 4 (527). 1960. С. 2; Ляднёва, Анфіса. Інстытут беларусаведы імя Льва Сапегі // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 7. Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 1998. С. 266; Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 127; Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 53, 68, 70, 82, 86, 124; Рыжы, Эмігідзіюш. Пра майго брата шмат казалі няпраўды. С. 335; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 16—17; Ryzy-Ryski, U. The Reformation in Byelorussia. Board

## Беларуская хрысьціянская артадаксальна-каталіцкая субожня

У 1960 г. пачынаецца новы этап дзейнасьці Ўладзіслава Рыжага-Рыскага, зьвязаны з своеасаблівымі экспэрымэнтамі ў стварэньні новай рэлігійнай арганізацыі для беларускага народу. Пакінуўшы служэньне ў Прэсьвітарыянскай царкве ЗША, ён заснаваў так званую Беларускую каталіцкую субожню (Беларускі каталіцкі касьцёл) і ўзначаліў яе ў званьні апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў. Пры гэтым субожня пазыцыянавалася як незалежная ад Ватыкану Каталіцкая царква, арыентаваная на духоўнае ўзначаленьне беларусаў. Першы анонс, які апавяшчаў аб зьяўленьні субожні, зьявіўся на старонках ведамай газэты "Беларускі голас" (Таронта, рэдактар Сяргей Хмара)[12]. Зьвяртаючыся да беларусаў у Польшчы й на эміграцыі, Уладзіслаў Рыжы-Рыскі заклікаў іх зрабіць перапіс вернікаў каталіцкага веравызнаньня й абраць кандыдатаў на пасады дэканаў у тых асяродкаў, дзе колькасьць прыхільнікаў субожні перавышае 10 чалавек. Апостальскі візытатар меркаваў хіратанізаваць дэканаў у сьвятарскі сан і прызначыць кіраўнікамі парафіяў. Ад кандыдатаў на пасаду дэканаў патрабавалася быць пабожным, пашлюбаваным і мець добрую рэпутацыю[13].

Асобай заўвагі патрабуе тэрмін "субожня", які выкарыстоўваў Уладзіслаў Рыжы-Рыскі ў значэньні "царква" ці "касьцёл". Упершыню гэтае слова пачаў ужываць у 1950-я гг. рыма-каталіцкі прэлат Пётра Татарыновіч (1896—1978) на старонках часопісу *"Źnič"*. Абгрунтоўваючы карэктнасьць тэрміну, ён спасылаўся на кнігу прафэсара Івана Малышэўскага *"Творения Отца Нашего св. Кирилла Туровскаго"* (Кіеў, 1880. С. XLV). Названае дасьледаваньне мае згадку, што ў X—XI ст. Тураўскія князі замест слова *"церковь"* ужывалі *"боженка"*, *"божня"*. Жадаючы ўзмацніць у архаічным слове сэнсавы акцэнт на царкоўным адзінстве, а. Пётра Татарыновіч ужываў прыстаўку "су-" па аналёгіі з грэцкім словам "ἐκ-κλησία" (*"са-браньне", "со-брание"*)[14].

Ужываньне тэрміну "субожня" ў дачыненьні новай рэлігійнай арганізацыі падкрэсьлівала ейны надканфэсійны характар і адмову

of Scientific Research "Leu Sapieha" of the International Institute of Byelorussian Studies, St. Euphrasinia of Polacak, 1961. 67 p.

[12] Беларускі нацыянальна-каталіцкі сьвятар-змагар // Беларускі Голас. № 66. 1960. С. 1; Леў, а. Новы подступ бязбожнае прапаганды. С. 2.

[13] Рыжы-Рыскі, У. Апостальская Візытатура, Беларускага Хрысьціянскага Каталіцкага Касьцёла, да ўсіх беларускіх каталіцкіх асяродкаў на эміграцыі і ў Польшчы // Беларускі Голас. № 66. 1960. С. 1.

[14] P. D. Pa linii vytrymanaj kansekvencyi // Źnič. № 17. 1952. S. 4.

ад праваслаўна-каталіцкіх супярэчнасьцяў з мэтай рэлігійнага аб'яднаньня беларускага народу. Для папулярызацыі сваіх поглядаў і інфармаваньня аб дзейнасьці субожні Ўладзіслаў Рыжы-Рыскі ў траўні 1960 г. пачаў выдаваць беларускамоўныя часопісы "Беларускі каталік" (выходзіў у Прынстане, штат Нью-Джэрзі) і "Biełaruskaja Chryścijanskaja Artadaksalna-Katalickaja Subožnia. (Naślednica Litouskae Jadnoty)"[15]. Назоў апошняга часопісу сьведчыць аб перайменаваньні Беларускай каталіцкай субожні ў Беларускую хрысьціянскую артадаксальна-каталіцкую субожню, што адбылося ў тым самым годзе.

Зьяўленьне новай беларускай рэлігійнай арганізацыі ў замежжы не знайшло асаблівага водгуку ў беларускім эміграцыйным друку, што можа сьведчыць аб малазначнасьці й маргінальнасьці гэтага рэлігійнага праекту. Большую ўвагу да дзейнасьці Ўладзіслава Рыжага-Рыскага выявіла прэса ў Савецкай Беларусі. 24 жніўня 1960 г. абласная газэта "Віцебскі рабочы" апублікавала артыкул А. Макарава і Г. Дзеравенскага "Кар'ера дзетазабойцы. Як гітлераўскі кат Уладзіслаў Рыжы стаў вялікім святым", з абвінавачваньнем апостальскага адміністратара Беларускай каталіцкай субожні ў крывавых злачынствах пэрыяду нямецкай акупацыі[16]. У наступных нумарах газэты публікаваліся лісты чытачоў з розных вёсак Глыбоцкага раёну Віцебскай вобласьці, якія рабілі заявы аб датычнасьці апостальскага візытатара да ваенных злачынстваў і патрабавалі яго судзіць[17]. Праз кароткі час матэрыялы Віцебскай абласной газэты перадрукавала газэта "Голас Радзімы"[18], арыентаваная на распаўсюд сярод беларускіх эмігрантаў. Рэагуючы на гэтыя падзеі, 30 кастрычніка 1960 г. рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі айцец Леў Гарошка разьмясьціў на старонках газэты

---

[15] Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 147; Юрэвіч, Лявон. Танальнасьць біяграфіі як энцыкляпэдычнага жанру (Да стварэньня "Энцыкляпэдыі беларускага замежжа") // Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 225.

[16] Макараў, А.; Дзеравенскі, Г. Кар'ера дзетазабойцы. Як гітлераўскі кат Уладзіслаў Рыжы стаў вялікім святым // Віцебскі рабочы. № 168 (11022). 1960. С. 2.

[17] Вазнясенскі, А.; Наумец, А.; Красоўскі, В. і інш. Ганьба апекунам здрадніка // Віцебскі рабочы. № 175 (11022). 1960. С. 3; Вайцяховіч, А. Мацярынскі праклён // Віцебскі рабочы. № 175 (11022). 1960. С. 3; Сабалеўскі, А. Ну і "прэзідэнт"! // Віцебскі рабочы. № 175 (11022). 1960. С. 3; Фёдараў, А. Сабака гаўкае, а караван ідзе // Віцебскі рабочы. № 175 (11022). 1960. С. 3; Шынкарова, А.; Амосава, О.; Арэтаў, Е. і інш. Судзіць гітлераўскага ката! Рэзалюцыя нарады настаўнікаў Глыбоцкага раёна // Віцебскі рабочы. № 175 (11022). 1960. С. 3; Яцына, В.; Барэйка, І. Вось хто хаваецца пад чорнай сутанай // Віцебскі рабочы. № 175 (11022). 1960. С. 3.

[18] Голас Радзімы. № 66 (451). 1960; Голас Радзімы. № 71 (456). 1960.

BIELARUS БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС

Byelorussian Voice

НЕЗАЛЕЖНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ

З Канады

ПЫТАНЬНІ ЭМІГРАЦЫІ

ПЕРШЫ КАСМАНАЎТ ПАХОДЗІЦЬ З БЕЛАРУСІ

АРЦЫБІСКУП ПЕТРА

У чэрвні 1961 зноў агульны перапіс у Канадзе

Зацемка газэты “Беларускі Голас” аб пераходзе мітрапаліта Пятра Журавецкага ў Беларускую хрысьціянскую артадаксальна-каталіцкую субожню. Травень 1961 г.

“Бацькаўшчына” артыкул, у якім рэзка раскрытыкаваў інфармацыю адносна прыналежнасьці Ўладзіслава Рыжага-Рыскага да рыма-каталіцкага касьцёлу[19].

[19] Леў, а. Новы подступ бязбожнае прапаганды // Бацькаўшчына. № 4 (527). 1960. С. 2.

Нягледзячы на значныя рэпутацыйныя страты, так званы апостальскі візытатар працягваў сваю актыўную дзейнасьць ня толькі ў рэлігійнай, але і ў навуковай, адукацыйнай і выдавецкай сфэрах. Займаўся ён таксама літаратурнай працай і выкладаньнем гішпанскай мовы. Да 1960 г. заснаваў у ЗША Інтэрнацыянальны інстытут беларусаведы імя сьвятой Эўфрасіньні Полацкай (*The International Institute of Byelorussian Studies, St. Euphrasinia of Polacak*)[20]. У 1960 г. выдавецтва Інстытуту апублікавала кнігу Ўладзіслава Рыжага-Рыскага "Беларусь паміж Татарыяй і Рымам" (*"Byelorussia Between Tartaria and Rome"*)[21], у 1961 г. — ягоную дысэртацыю "Рэфармацыя ў Беларусі" (*"The Reformation in Byelorussia"*)[22]. Яму таксама належаць рэлігійна-філязофскія творы "Чалавек у гісторыі", "Матэрыялістычнае талкаваньне гісторыі", "Выклад інстытуцыі хрысьціянскай рэлігіі Яна Кальвіна". Апостальскі візытатар актыўна супрацоўнічаў зь беларускімі эміграцыйнымі выданьнямі "Беларускі Голас" і "Баявая Ўскалось", дзе друкаваў свае тэксты пад псэўданімамі Ўладзіслаў Сноп і Язэп Глыбачанін. У 1962 г. выдаў паэтычны зборнік "Маці маёй роднай"[23]. Падчас працы Канфэрэнцыі славістаў, якую праводзіў у 1963 г. Пітсбурскі ўнівэрсытэт, Уладзіслаў Рыжы-Рыскі выступіў з дакладам аб разьвіцьці беларускай літаратуры на чужыне[24]. Ня меншую актыўнасьць выяўляў ён і ў грамадзка-палітычнай галіне. У ліпені 1965 г. апостальскі візытатар выступаў у якасьці галоўнага аратара падчас сустрэчаў Тыдня паняволеных народаў, якія праходзілі ў Нью-Гэмпшыры (*New Hampshire*)[25]. Дзякуючы ягоным намаганьням у Жэнэўскім каледжы

---

[20] Kipel, Vitaut. Belarusans in the United States. New York: University Press of America, 1999. P. 296.

[21] Ryzy-Ryski, U. Byelorussia Between Tartaria and Rome. Board of Scientific Research of the International Institute of the Byelorussian Studies, 1960. 18 p.

[22] Ryzy-Ryski, U. The Reformation in Byelorussia. Board of Scientific Research "Leu Sapieha" of the International Institute of Byelorussian Studies, St. Euphrasinia of Polacak, 1961. 67 p.

[23] Сноп, Уладзіслаў. Маці маёй роднай. Вершы. Выданьне Навукова-Даследчай Рады "Льва Сапегі" Інтэрнацыянальнага Інстытуту Беларусаведы імя Эўфрасіньні Полацкай, 1962. 20 с.

[24] Гарбінскі, Юры. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. С. 166—167; Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 59; Рыжы, Эмігідзіюш. Пра майго брата шмат казалі няпраўды. С. 335; Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 625; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 17.

[25] Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 174.

(штат Пэнсыльванія) адбывалася штогадовае сьвяткаваньне Дня беларускай незалежнасьці[26].

Значную ролю ў станаўленьні Беларускай хрысьціянскай артадаксальна-каталіцкай субожні на першапачатковым этапе адыгралі прадстаўнікі польскага старакаталіцкага руху. Празь некалькі месяцаў пасьля ўзьнікненьня субожні да яе далучыўся старакаталіцкі сьвятар Вацлаў Мацейчык, клірык Польскага нацыянальнага каталіцкага касьцёлу. Ужо 1 лістапада 1960 г. ён атрымаў прызначэньне на пасаду Апостальскага візытатара ЗША й Канады[27]. Яшчэ больш значная падзея адбылася 14 сьнежня 1961 г., калі ў склад субожні ўвайшоў прымас Польскай старакаталіцкай царквы ў Амэрыцы й Эўропе мітрапаліт Пётар Журавецкі. Пасьля пісьмовай дэкларацыі веры ён узначаліў названую рэлігійную арганізацыю з тытулам апостальскага пасярэдніка (мадэратара) Першага тымчасовага сыноду[28]. На працягу наступнага году адбываўся нязначны рост колькасьці пасьлядоўнікаў субожні, але яе клірыкі атрымалі ад мітрапаліта Пятра япіскапскія пасьвячэньні. На сьнежань 1962 г. у складзе Беларускай хрысьціянскай артадаксальна-каталіцкай субожні былі наступныя ярархі:

1) архіяпіскап-мітрапаліт-прымас Пётар Журавецкі, апостальскі пасярэднік сыноду субожні;

2) япіскап Людвік Зарэчны (Галубовіч), апостальскі візытатар у Заходняй Эўропе;

3) япіскап Вацлаў Мацейчык, апостальскі візытатар у Амэрыцы;

4) япіскап Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, апостальскі адміністратар[29].

Напрыканцы 1962 г. субожня навязала лучнасьць зь некананічным і непрызнаным патрыярхам Антыяхійскім Іаанам-Марыяй[30]. У 1964 г. апостальскі адміністратар называў сябе тытулярным япіскапам Слуцкім[31].

---

[26] Kipel, Vitaut. Belarusans in the United States. P. 371.

[27] Апостальскі Візытатар для беларусоў-каталікоў у ЗША і Канадзе // Беларускі Голас. № 78. 1961. С. 1.

[28] Арцыбіскуп Пётра, Апостальскі Пасярэднік Сыноду Беларускае, Каталіцкае Артадаксальнае Субожні. С. 1; Мадаратар 1-га Тымчасовага Сыноду Беларускае Субожні (Артадаксальна-Каталіцкае). С. 1.

[29] Саборнае Апостальскае Пасланьне з нагоды Калядаў і Новага 1963 Году Божага. Дана Году Божага 1962, Месяца сьнежня, Дня 25-га // Беларускі Голас. № 101. 1963. С. 1.

[30] Антыяхійскі Патрыярх прызнае і вітае беларускіх каталікаў // Беларускі Голас. № 101. 1963. С. 1.

[31] Мар Уладыслаў, Тытулярны біскуп Слуцкі, Адміністратар Ап. Сыноду Набожні. Саборнае Вялікоднае Пасланьне Апостальскага Сыноду Беларускага Хрысьціянскага Праўдзіва-Каталіцкага Касьцёлу. Сакавік, 1964 г. // Беларускі Голас. № 116. 1964. С. 1.

## Беларускі патрыярхат сьвятога апостала Андрэя на-сам-перш пакліканага ў складзе Амэрыканскай праваслаўнай каталіцкай царквы

Праз чатыры гады існаваньня Беларускай хрысьціянскай артадаксальна-каталіцкай субожні, у 1964 г., мітрапаліт Пётар Журавецкі ўвайшоў у склад наваствоpанай Амэрыканскай праваслаўнай каталіцкай царквы (*The American Orthodox Catholic Church*), заснаванай былым клірыкам Украінскай грэка-праваслаўнай царквы ў Амэрыцы (украінскай япархіі Канстантынопальскага патрыярхату ў ЗША) Вальтарам Міранам Прафэтай (1912—1972)[32]. У тым самым годзе адбылася архірэйская хіратонія Прафэты, якую зьдзейсьнілі мітрапаліт Пётар Журавецкі, першаярарх непрызнанай Аўтакефальнай грэцкай праваслаўнай царквы Амэрыкі архіяпіскап Іахім (Сурыс) і япіскап Феадосій (Сьвятая амэрыканская праваслаўная царква). Ерархічная пераемнасьць названых ярархаў узыходзіць да непрызнанага экзархату Александрыйскага патрыярхату ў Амэрыцы, Сьвятой праваслаўнай царквы Хрыста, Польскай старакаталіцкай царквы ў Амэрыцы й Эўропе. Заснаваная ў 1964 г. Амэрыканская праваслаўная каталіцкая царква пазыцыянавалася як правапераемніца непрызнанай Амэрыканскай праваслаўнай каталіцкай царквы, што існавала ў 1927—1934 гг. і якую ўзначальваў былы ярарх Расейскай праваслаўнай царквы архіяпіскап Бруклінскі Яўфімій (Офэйш). У другой палове 1960-х гг. згаданая рэлігійная арганізацыя была перайменаваная ў Амэрыканскую праваслаўную царкву (*The American Orthodox Church*). На працягу васьмі гадоў кіраваньня Амэрыканскай праваслаўнай царквой Вальтар Міран Прафэта зьдзейсьніў шэраг архірэйскіх высьвячэньняў. Пры гэтым ён актыўна ўдзельнічаў у хіратоніях япіскапаў для іншых рэлігійных арганізацыяў[33].

Пасьля непрацяглага часу да Амэрыканскай праваслаўнай каталіцкай царквы далучыўся апостальскі адміністратар Беларускай

---

[32] **Вальтар Міран Прафэта** рукапакладзены ў сьвятара 15 лістапада 1938 г. япіскапам Багданам (Шпількам) (Украінская праваслаўная царква ў Амэрыцы, Канстантынопальскі патрыярхат). Потым узьведзены ў сан протаярэя. У 1959 г. узнагароджаны правам нашэньня мітры. У 1964 г. адышоў ад Украінскай япархіі Канстантынопальскага патрыярхату ў Амэрыцы й пачаў самастойную рэлігійную дзейнасьць (Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 60).

[33] Holland, Clifton L. A classification system of religious groups in the Americas by major traditions and family types: Latin American socio-religious studies program. San Pedro, Costa Rica, 2011. P. 21; Walker, James K. The Concise Guide to Today’s Religions and Spirituality. Eugene, Oregon, 2007. P. 30; Ward, Gary L. Persson, Bertil, Bain, Alan. Independent Bishops: An International Directory. Apogee Books, 1990. P. 330.

хрысьціянскай артадаксальна-каталіцкай субожні. 19 верасьня 1965 г. патрыярх Вальтар Міран Прафэта зьдзейсьніў сьвятарскае высьвячэньне Ўладзіслава Рыжага-Рыскага. На наступны дзень, 20 верасьня 1965 г., адбылося ягонае рукапалажэньне ў япіскапа Ляканійскага, Нью-Гэмпшыру й Новай Англіі. Праз год мітрапаліт Пётар Журавецкі ўзьвёў Уладзіслава Рыжага-Рыскага ў сан архіяпіскапа[34]. Прычыны правядзеньня ягонага паўторнага высьвячэньня дакладна не вядомыя. Але можна меркаваць, што рашэньне прынялі, выявіўшы, што ў апостальскага адміністратара няма сьвятарскай хіратоніі. Зьдзейсьненая мітрапалітам Пятром Журавецкім япіскапская хіратонія асобы, якая толькі абвясьціла сабе сьвятаром і ня мела рэальнага высьвячэньня, ня мела шанцаў на прызнаньне.

Застаючыся ў складзе Амэрыканскай праваслаўнай каталіцкай царквы, мітрапаліт Пётар Журавецкі й архіяпіскап Уладзіслаў Рыжы-Рыскі працягвалі ўзначальваць Беларускую хрысьціянскую артадаксальна-каталіцкую субожню. У 1966 г. субожня атрымала новы назоў: Беларускі патрыярхат сьвятога апостала Андрэя на-сам-перш пакліканага, мітрапаліт Пётар атрымаў тытул патрыярха Менскага й Беларускага, а архіяпіскап Уладзіслаў стаў канцлерам-адміністратарам патрыярхату. Спавядаючы праваслаўныя дагматы, ярархі Беларускага патрыярхату адпраўлялі набажэнствы паводле заходняга (лацінскага) абраду. Наданьне субожні новага статусу суправаджалася абмеркаваньнем выхаду яе са складу Амэрыканскай праваслаўнай каталіцкай царквы й атрыманьня аўтакефаліі[35].

Разьвіваючы актыўную рэлігійную дзейнасьць, архіяпіскап Уладзіслаў Рыжы-Рыскі працягваў заняткі навукай і адукацыяй. У 1969 г. ён рэарганізаваў Інтэрнацыянальны інстытут беларусаведы імя сьвятой Эўфрасіньні Полацкай ва Ўнівэрсытэт народаў Амэрыкі й быў абраны сапраўдным сябрам Акадэміі грамадзкіх й палітычных навук ЗША. Навучаньне ва Ўнівэрсытэце народаў Амэрыкі адбывалася па тэалёгіі й некалькіх сьвецкіх спэцыяльнасьцях. Празь некалькі гадоў філіялы навучальнай установы зьявіліся ў Швэцыі й Пуэрта-Рыка[36]. Значнай

---

[34] Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 174; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 60; Piepkorn, Arthur Carl. Profiles in Belief: Roman Catholic, Old Catholic, Eastern Orthodox. P. 99.

[35] Arcybiskup Uladzislau, Kancler Patryjarchatu. Redaktaru “Bielaruskaga Holasu” u Toronto, Ont., Canada. 19.01.1966 // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 37; Беларускі Патрыярхат Сьвятога Апостала Андрэя на-сам-перш пакліканага. Вялікоднае Саборнае Пастырскае Пасланьне. Вялікдзень. 1966 Году Божага // Беларускі Голас. 1966. № 137. С. 1.

[36] Беларускі Патрыярхат Сьвятога Апостала Андрэя на-сам-перш пакліканага. Каляднае і навагодняе Саборнае Пасланьне да беларускага народу на Бацькаўшчыне і ў дыяспары прабываючага. Нью Джэрсі і Нью Ёрк. Году Бо-

навуковай падзеяй стала выданьне ў 1970 г. трохтомнай манаграфіі архіяпіскапа Ўладзіслава *“Monumento doctrinal de la reforma”* (“Навуковыя помнікі Рэфармацыі”)[37].

Пры канцы 1960-х — у пачатку 1970-х гг. патрыярх Вальтэр Міран Прафэта, патрыярх Пётар Журавецкі й архіяпіскап Уладзіслаў Рыжы-Рыскі зьдзейсьнілі шэраг архірэйскіх хіратоніяў для дробных рэлігійных арганізацыяў. У прыватнасьці, рукапакладзеныя імі Л. Э. Вэга, Салямон Оля Гбадэбо й Адам Білецкі заснавалі новыя патрыярхаты на Амэрыку й Заходнюю Нігерыю[38]. Акрамя гэтых высьвячэньняў, патрыярх Андрэй і архіяпіскап Уладзіслаў праводзілі япіскапскія рукапалажэньні без узгадненьня з патрыярхам Вальтэрам Міранам Прафэтай. За гэта апошні ў 1972 г. выключыў беларускіх ярархаў са складу Амэрыканскай праваслаўнай царквы[39].

## Беларуская аўтакефальная праваслаўная (народная) царква ў складзе Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату

Пасьля выхаду з Амэрыканскай праваслаўнай царквы патрыярх Пётар Журавецкі й архіяпіскап Уладзіслаў Рыжы-Рыскі заснавалі новую рэлігійную арганізацыю пад назовам Амэрыканскі ўсясьветны патрыярхат (*The American World Patriarchate*). Кіраўніком патрыярхату стаў архіяпіскап Уладзіслаў, які атрымаў тытул патрыярха. Разам з патрыярхам Пятром Журавецкім ён разьлічваў на аб’яднаньне беларускай дыяспары вакол новастворанай структуры, таму надалі ёй другі назоў — Беларускі патрыярхат. У хуткім часе да патрыярхату прыяднаная значная колькасьць лацінаамэрыканскіх парафіяў, якія з розных прычынаў сышлі з Рыма-каталіцкай царквы. Цягам некалькіх гадоў у складзе Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату

жага 1970 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 37; Панькоў, М. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 194; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 61.

37 Ryzy-Ryski, U. Monumento doctrinal de la reforma. Mexico: Publicaciones El Faro, 1970. 182 p.

38 Беларускі Патрыярхат Сьвятога Апостала Андрэя на-сам-перш пакліканага. Каляднае і навагодняе Саборнае Пасланьне да беларускага народу на Бацькаўшчыне і ў дыяспары прабываючага. Нью Джэрсі і Нью Ёрк. Году Божага 1970 г.; Хіратонія біскупа на Заходнюю Нігерыю // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 37.

39 Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 60; Walker, James K. The Concise Guide to Today’s Religions and Spirituality. P. 30; Ward, Gary L. Independent Bishops: An International Directory. P. 354.

ўзьнікалі аўтаномныя нацыянальныя патрыярхаты, што ўскладняла структуру названай рэлігійнай арганізацыі. Адным з такіх адносна незалежных аб'яднаньняў у лучнасьці з патрыярхатам стала Беларуская аўтакефальная праваслаўная (народная) царква[40].

На працягу другой паловы 1970-х гг. патрыярх Уладзіслаў Рыжы-Рыскі змагаўся зь цяжкім анкалягічным захворваньнем, што заўважна адбілася на стане Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату і Ўнівэрсытэту народаў Амэрыкі. Памёр патрыярх Уладзіслаў 2 сакавіка 1978 г. Незадоўга да сваёй сьмерці ён разам з патрыярхам Пятром Журавецкім высьвяціў свайго роднага брата Эмігідзіюша (Юрыя) Рыжага ў япіскапы. Апошняму было перададзена кіраўніцтва Ўнівэрсытэтам, але ён ня даў рады новым абавязкам, і навучальная ўстанова ў хуткім часе перастала існаваць[41].

Наступным кіраўніком Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату стаў патрыярх Адам Білецкі, які таксама значна саступаў свайму папярэдніку ў адміністрацыйнай актыўнасьці. Паводле статыстычных зьвестак, прыведзеных Горданам Дж. Мэлтанам у "Энцыкляпэдыі амэрыканскіх рэлігіяў", станам на 1988 г. у складзе Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату былі 53 сьвятары, 15 кангрэгацыяў (аўтаномных супольнасьцяў) і 15 431 вернік[42]. У 1990-я гг. архіяпіскап Эмігідзіюш (Юры) Рыжы зрабіў спробу пераносу дзейнасьці Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай (народнай) царквы на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, што можа быць тэмай асобнага дасьледаваньня.

Вывучэньне рэлігійнай дзейнасьці патрыярха Пятра Журавецкага пасьля сьмерці Ўладзіслава Рыжага-Рыскага ўяўляецца даволі складаным з прычыны абмежаванасьці крыніцаў. Але з упэўненасьцю можна сьцьвярджаць, што да 1988 г. ён выйшаў са складу Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату і ў сане патрыярха ўзначальваў Праваслаўны каталіцкі патрыярхат Амэрыкі (*The Orthodox Catholic Patriarchate of America*)[43].

---

[40] Walker, James K. The Concise Guide to Today's Religions and Spirituality. P. 30; Ward, Gary L. Independent Bishops: An International Directory. P. 354; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 60.

[41] Ліст патрыярха Ўладзіслава Рыжага-Рыскага да рэдактара газэты "Беларускі Голас" С. Хмары. 19 лістапада 1977 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. С. 2. F. 37; Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984 гг.). С. 253; Рыжы, Эмігідзіюш. Пра майго брата шмат казалі няпраўды. С. 335; Юры (Рыжы), архіяпіскап. Мой крыж: успаміны і разважаньні. С. 61—62; Kipel, Vitaut. Belarusans in the United States. P. 296; Melton, Gordon J. The Encyclopedia of American Religions. McGrath Publishing Company, 1978. P. 258.

[42] Melton, Gordon J. The Encyclopedia of American Religions. P. 258.

[43] Peter II A. Zhurawetsky, American Patriarch. The Patriarch's message. August 27, 1988. Фотакопія. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкулу.

На заканчэньні разгляду гісторыі альтэрнатыўнай царквы для беларусаў дыяспары трэба адзначыць невялікі посьпех гэтай ініцыятывы. Узьнікненьне Беларускай хрысьціянскай артадаксальна-каталіцкай субожні, Амэрыканскага ўсясьветнага патрыярхату (Беларускага патрыярхату) і Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай (народнай) царквы не суправаджалася масавым далучэньнем да яе беларускіх вернікаў праваслаўнага й рыма-каталіцкага веравызнаньняў. Пацьвярджэньне таму — фактычнае ігнараваньне дзейнасьці патрыярхаў Пятра Журавецкага й Уладзіслава Рыжага-Рыскага беларускімі эміграцыйнымі грамадзка-палітычнымі арганізацыямі й сродкамі масавай інфармацыі. Згаданая вышэй заява рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі а. Лява Гарошкі, зробленая ў 1960 г., не зьмяшчае закліку аб вяртаньні вернікаў з субожні ў Рыма-каталіцкую царкву. Гэтая заява мелася не дапусьціць, каб супярэчлівую асобу Ўладзіслава Рыжага-Рыскага атаясамлівалі з каталіцкім духавенствам. Нізкая цікавасьць беларускай прэсы да патрыярхаў Пятра і Ўладзіслава красамоўна сьведчыць аб адсутнасьці ў беларускай дыяспары рэлігійнага канфлікту, які магла спарадзіць зьмена вернікамі царкоўнай юрысдыкцыі. Адначасова з гэтым праца патрыярхаў пакінула значны сьлед у амэрыканскім рэлігійным жыцьці. Сёньня вывучэньне гісторыі шматлікіх незалежных рэлігійных супольнасьцяў, якія ня маюць прызнаньня ў праваслаўным сьвеце, немагчымае без звароту да дзейнасьці прадстаўнікоў беларускай дыяспары патрыярхаў Пятра Журавецкага і Ўладзіслава Рыжага-Рыскага.

*Тэма нумару: Царква на эміграцыі*

# ЛІСТЫ АРХІМАНДРЫТА ЯЗЭПА (СТРОКА) ДА РЭДАКТАРА ГАЗЭТЫ “БЕЛАРУСКІ ГОЛАС” СЯРГЕЯ ХМАРЫ (1969—1981 гг.)

*Прыкметную ролю ў гісторыі рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары ІІ пал. ХХ ст. адыграў архімандрыт Язэп (Строк), кандыдат на архірэйскае служэньне і ў розныя гады настаяцель шэрагу беларускіх цэркваў у ЗША й Канадзе.*

*Будучы архімандрыт Язэп (Іван Строк) нарадзіўся 31 студзеня 1904 г. у в. Шылавічы (цяпер Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.). Навучаўся ў Жыровіцкай духоўнай вучэльні й Нясьвіскай гімназіі. У 1927 г. скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю й быў рукапакладзены ў сан сьвятара. На працягу 1927—1941 гг. быў настаяцелем Мікалаеўскай царквы ў в. Палонка Баранавіцкага павету (цяпер Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.). З 20 кастрычніка 1941 г. — дабрачынны Барысаўскай акругі. Арыштаваны 27 сьнежня 1944 г. па абвінавачаньні ў супрацоўніцтве з акупацыйнай адміністрацыяй і ў хуткім часе прысуджаны да 5 гадоў зьняволеньня ў папраўча-працоўным лягеры. Пакараньне адбываў у лягеры каля г. Молатаўску (цяпер Северадзьвінск, Расея). Вызвалены 27 сьнежня 1949 г., пасьля чаго прыняты ў клір Смаленскай япархіі. У 1950 г. паступіў на завочны сэктар Ленінградзкай духоўнай акадэміі, але ў хуткім часе трапіў пад забарону адпраўляць службы. Пазьней камэнтаваў гэтую сытуацыю як вынік свайго нежаданьня супрацоўнічаць з савецкай уладай. У сярэдзіне 1950-х гг. выконваў клірасны послух пры царкве ў в. Малыя Ляды Смалявіцкага раёну Менскай вобласьці. У 1959 г. пераехаў у Польшчу, паступіў у Сьвята-Ануфрыеўскі Яблачынскі манастыр і прыняў манаскі пострыг. З 1964 да 1966 г. жыў у Аўстрыі, быў клірыкам Венскай япархіі Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. У 1965 г. узьведзены ў сан ігумэна. З 1966 г. зноў жыў у Польшчы й займаў пасаду скарбніка Яблачынскага манастыра*[1].

*У 1968 г. адміністратар беларускіх парафіяў юрысдыкцыі Сусьветнага патрыярхату ў Паўночнай Амэрыцы протапрэсьвітар Мікалай Лапіцкі накіраваў ігумэну Язэпу (Строку) запрашэньне на*

---

[1] Архіў Менскага епархіяльнага ўпраўленьня. Ф. 1. Воп. 2. Спр. 574; Біяграфія ігумена Іосіфа (Строка) // Library and Archives Canada (LAC). Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.


Ігумэн Язэп (Строк)

*пераезд у Злучаныя Штаты з пэрспэктывай прыняцьця архірэйскай хіратоніі. Першапачаткова меркавалася, што былы насельнік Яблачынскага манастыра пасьля пераходу ў клір грэцкай архіепіскапіі Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі будзе абраны на япіскапскую пасаду і ўзначаліць беларускую царкоўную структуру (япархію ці экзархат) у складзе Канстантынопальскай праваслаўнай царквы. 28 сьнежня 1969 г. мітрапаліт Іерапальскі Герман (Палізаідыс) узьвёў ігумэна Язэпа ў сан архімандрыта. Але ўжо ў пачатку 1970 г. стала зразумела, што вылучэньне яго на высокую ерархічную пасаду адкладаецца. Прычынай таму стала расчараваньне протапрэсьвітара Мікалая й іншых уплывовых прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў кандыдатуры архімандрыта Язэпа. На працягу 1968—1981 гг. ён адпраўляў багаслужбы ў парафіях Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай (Таронта, Канада), Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай (Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі), Сьвятога Юр'я (Чыкага, Іліной), Сьвятога Кірылы Тураўскага (Рычманд-Гіл, Нью-Ёрк)[2].*

*Ніжэй публікуюцца асобныя лісты архімандрыта Язэпа (Строка), якія ён пісаў да рэдактара газэты "Беларускі Голас" Сяргея Хмары ў 1969—1981 гг. Гэтае ліставаньне ня толькі насьвятляе асобныя абставіны служэньня архімандрыта, але і ў пэўнай меры адлюстроўвае стан рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы згаданага пэрыяду.*

*Ліст № 1 ад 11 лістапада 1969 г. напісаны падчас рыхтаваньня ігумэнам Язэпам дакумэнтаў, якія дазвалялі выезд на служэньне ў Канаду. У ім ён паведамляе аб намаганьнях прынесьці карысьць беларускаму народу ў замежжы й згадвае, што піша ўспаміны аб жыцьці ў савецкім папраўча-працоўным лягеры. На жаль, гэтыя мэмуары надрукаваныя не былі, і на сёньня іх лёс няведамы.*

---

[2] Ліст ігумена Язэпа (Строка) Яго Сьвяцейшаству Экуменічнаму Патрыярху Атэнагорасу ад 7 красавіка 1969 г. // Беларуская думка. 1969—1970. № 12—13. С. 33—35; Ліст протапрэсьвітара Мікалая Лапіцкага да архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) ад 06.03.1969 // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. Нью-Ёрк — Варшава: БІНіМ — ІСПАН, 2005. С. 341; Ліст протапрэсьвітара Мікалая Лапіцкага да архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) ад 12.04.1970 // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 342; Ліст протапрэсьвітара Мікалая Лапіцкага да архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) ад 17.06.1971 // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 348; Хроніка. Торонто, Канада // Царкоўны Сьветач. 1973. № 22. С. 28; Хроніка царкоўнага жыцьця // Беларуская Думка. 1969—1970. № 12—13. С. 36, 38.

*Ліст № 2 ня мае датаваньня, але напісаны ён быў ігумэнам Язэпам яшчэ да ўзьвядзеньня ў сан архімандрыта (28 сьнежня 1969 г.). Ліст уяўляе сабой віншаваньне са сьвятамі Раства Хрыстова й Новага году. Пры гэтым аўтар вызначае "ўсей мэтаю жыцьця нашага: узгадаваць і спалучыць у адную рэлігійную сям'ю ўсяго Беларускага, многапакутнага народу"*[3].

*Ліст № 3 датаваны 15 чэрвеня 1977 г. і напісаны з нагоды пераезду архімандрыта Язэпа на новае месца служэньня, у г. Чыкага. Трэба адзначыць, што з 1973 г. ён быў клірыкам парафіі Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. На яго ўтрыманьне настаяцель протапрэсьвітар Мікалай Лапіцкі вылучаў палову сваёй пэнсіі й іншых прыбыткаў. Пасьля сьмерці протапрэсьвітара, 8 жніўня 1976 г., абавязкі кіраўніка парафіі часова пераняў архімандрыт Язэп. Але ў хуткім часе на паседжаньні парафіяльнай рады новым настаяцелем быў абраны протаярэй Сьвятаслаў Коўш. Аж да 5 чэрвеня 1977 г. апошні заставаўся адначасова й настаяцелем беларускай парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычмынд-Гіле*[4]. *Пасьля ягонага звальненьня зь першай пасады й пераезду на сталае жыцьцё ў Саўт-Рывэр архімандрыт Язэп атрымаў прызначэньне на служэньне ў чыкагаўскай парафіі Сьвятога Юр'я*[5]. *У лісьце да Сяргея Хмары архімандрыт апісвае абставіны зьмены месца служэньня й выказвае захапленьне чыкагаўскімі вернікамі: "Ніколі ў сваім жыцьці ня меў я такой сардэчнай апекі, заботы, помачы і ахвярнай адданасьці, якою ўзнагародзіў мяне Бог у Чыкага. У Чыкага ніколі не памрэ нашае нацыянальнае ўсьвядамленьне і вера ў Бога!"*[6] *Нягледзячы на такі захоплены водгук, ужо ў 1979—1980 гг. архімандрыт Язэп неаднаразова зьвяртаўся да протапрэсьвітара Сьвятаслава Каўша*

---

3 LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.

4 Духавенства прыходаў, аб'яднаных у Царкоўнай Радзе // Царкоўны Сьветач. 1978. № 26. С. 16; Кавыль, Міхась. Наш заслужаны дзеяч: протапр. С. Коўш // Беларуская Думка. 1987. № 32. С. 33—34; Плескачэўскі, Барыс. Фінансавыя даныя парахвіі сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэр'ы, Н. Дж. за 25 гадоў (1950—1975) // Памятная кніга, 1950—1975. South River: Byelorussian press, 1975. С. 33; Справаздача Адміністратара Беларускае Царкоўнае Рады ў Паўночнай Амэрыцы Протапрасьвіцера Сьвятаслава Каўша Зьезду Рады 11 кастрычніка 1980 г. // Царкоўны Сьветач. 1980. № 29. С. 4; Шчэцька, Васіль. Хроніка. Рычманд Гіл // Царкоўны Сьветач. 1978. № 26. С. 27—28.

5 Сход Беларускай Праваслаўнай Парахвіі Сьвятога Юр'я ў Чыкага // Беларус. 1978. № 252. С. 4; St. George Byelorussian Orthodox Church: Byelorussian Council of Orthodox Churches in America. Published on the occasion of the 25$^{th}$ Anniversary of the Parish. 1958—1983. Chicago, 1983. P. 6.

6 LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.

*й парафіяльнай рады з просьбай дазволіць яму скласьці абавязкі настаяцеля й перайсьці на новае месца служэньня*[7].

*Ліст № 4 ад 4 лістапада 1980 г. апісвае сьвяткаваньне 8-годзьдзя зь першага набажэнства ў новай царкве парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (настаяцелем якой архімандрыт Язэп быў з сакавіка таго самага году). Варта адзначыць, што асьвячэньне царквы зьдзейсьніў 29 кастрычніка 1972 г. мітрапаліт Іерапальскі Герман (Палізаідыс) у саслужэньні беларускага духавенства*[8]*. Далей архімандрыт Язэп паведамляе, што падчас імпрэзы ён аб'явіў прысутным аб сваім намеры адысьці ад парафіяльнага служэньня й аб атрыманьні згоды на тое з боку адміністратара беларускіх парафіяў у Паўночнай Амэрыцы протапрэсьвітэра Сьвятаслава Каўша. Прычынай свайго рашэньня ён назваў "дзерзкае й пахабнае выступленьне" старшыні Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі (БККА) Івана Касяка на царкоўным зьезьдзе 11 кастрычніка*[9]*. Маецца на ўвазе Чацьверты Сабор Беларускай рады праваслаўных цэркваў у Паўночнай Амэрыцы, які праходзіў у Саўт-Рывэры. Падчас Сабору старшыня Беларуска-Амэрыканскага аб'яднаньня Кастусь Мярляк выступіў з прапановай абраць архімандрыта Язэпа (Строка) на япіскапскае высьвячэньне. Падчас галасаваньня высьветлілася, што кандыдатуру настаяцеля парафіі Сьвятого Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле падтрымалі толькі два ўдзельнікі Сабору*[10]*. Зь ліста архімандрыта Язэпа да Сяргея Хмары робіцца зразумелым, што галоўную ролю ў адхіленьні яго кандыдатуры адыграў Іван Касяк.*

*У лісьце № 5 ад 19 лістапада 1980 г. архімандрыт Язэп піша аб дыскрэдытацыі яго на Чацьвертым Саборы Беларускай рады праваслаўных цэркваў у Паўночнай Амэрыцы. Падчас абмеркаваньня прапановы аб вылучэньні кандыдата на архірэйскае служэньне Іван Касяк абвінаваціў архімандрыта Язэпа ў раскраданьні касы Яблачынскага манастыра. Пры гэтым старшыня БККА спасылаўся на*

---

[7] Ліст протапрасьвітара Сьвятаслава Каўша да архімандрыта Язэпа Строка ад 18 кастрычніка 1980 г. // LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 37; Справаздача Адміністратара Беларускае Царкоўнае Рады ў Паўночнай Амэрыцы Протапрасьвіцера Сьвятаслава Каўша Зьезду Рады 11 кастрычніка 1980 г. С. 5.

[8] Commemorating the consecration of St. Cyryl of Turov American-Byelorussian Greek Orthodox Church in Richmond Hill. New York, 1983. P. 6, 10.

[9] LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.

[10] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Праніклівасьць і практычны падыход. Нью-Ёрк, 1992. С. 390; Сабор Беларускіх Праваслаўных Прыходаў у Паўночнай Амэрыцы // Царкоўны Сьветач. 1980. № 29. С. 2—3;

*ліст намесьніка манастыра архімандрыта Яўлогія (Гарбаўца)*[11]*. Абвінавачаньне не было новым. Яшчэ 10 сьнежня 1968 г. першаярарх Польскай праваслаўнай царквы мітрапаліт Стэфан (Рудык) падпісаў указ аб забароне ў сьвятарстве ігумэну Язэпу, які ў гэты час пераехаў у ЗША з надзеяй атрымаць архірэйскае высьвячэньне для служэньня ў беларускім эміграцкім асяродзьдзі. 4 студзеня 1969 г. мітрапаліт Стэфан накіраваў зварот да Канстантынопальскага патрыярха Афінагора I, у якім абвінаваціў ігумэна Язэпа ў самавольным пакіданьні манастыра й фінансавых парушэньнях. Нягледзячы на гэта, грэцкі архіяпіскап Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі Якаў прыняў ігумэна Язэпа ў юрысдыкцыю Сусьветнага патрыярхату й дазволіў служэньне ў беларускіх парафіях. 7 красавіка 1969 г. былы насельнік Яблачынскага манастыра зьвярнуўся да Канстантынопальскага патрыярха з адкрытым лістом, у якім адхіляў усе абвінавачаньні (у наступным годзе гэты ліст быў апублікаваны на старонках часопісу “Беларуская думка”)*[12]*. Пасьля гэтага ігумэн Язэп ня толькі быў прыняты беларускімі царкоўнымі грамадамі, але й пэўны час разглядаўся ў якасьці кандыдата на архірэйскае служэньне. Калі праз адзінаццаць гадоў старое абвінавачаньне прагучала ўжо з боку старшыні БККА, ён з крыўдай пісаў да Сяргея Хмары: “Скончылася забаўка ў справе епіскапату, бо фактычна ні а[йцу] Каўшу, ні сп[адару] Касяку ніякага беларускага япіскапа не патрэбна. А каб цалкам пазбыцца маёй кандыдатуры на япіскапа, сп[адар] Касяк 11-га кастрычніка перад усім зьездам даказваў, што я злодзей, не здаў касу Яблачынскага манастыра ў Польшчы. Чы то лёгка слухаць такую хлусьню і зьневагу?”*[13]

*Ліст № 6 ня мае даты, але яго зьмест сьведчыць пра напісаньне пасьля ліста № 5. Зьвяртаючыся да Сяргея Хмары, архімандрыт Язэп працягвае выказваць свае пачуцьці крыўды й расчараваньня. Яго вельмі абурае немагчымасьць прыняць япіскапскі сан пасьля многіх гадоў служэньня ў Паўночнай Амэрыцы.*

*У лісьце № 7 ад 21 кастрычніка 1981 г. архімандрыт Язэп зноў нагадвае пра сваю крыўду й паведамляе пра намер пасяліцца ў Сьвята-Ціханаўскім манастыры (штат Пэнсільванія) юрысдыкцыі Праваслаўнай царквы ў Амэрыцы.*

---

[11] LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.

[12] Ліст ігумена Язэпа (Строка) Яго Сьвяцейшаству Экуменічнаму Патрыярху Атэнагорасу ад 7 красавіка 1969 г. // Беларуская Думка. 1969—1970. № 12—13. С. 33—35; Ліст протапрасьвітара Мікалая Лапіцкага да архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) ад 06.03.1969 // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 341.

[13] LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.

**№ 1**[14]

11 лістапада 1969 г.[15]

Дарагі і вельмі паважаны сп. Радактар!

Вельмі перапрашаю, што да гэтага дня не пісаў Вам.

Дня 18 верасьня г. г. паклікалі мяне на мэдычную камісыю ў *New York*, а потым у *New Wark*[16], дзе мне паведамілі, каб яшчэ пачакаў, і прышлюць мне паперы на сталы побыт у Амэрыцы.

Каб ня глуміць часу і быць карысным для народу, ад той камісыі паехаў я ізноў у свой *Bel-air "Miensk"*[17], дзе пражываў адзін, і кожную гадзінку прыкладаў сваю працу, каб упрыгожыць гэты наш родны куток.

Перш за ўсё сьпілаваў усе сухія сучкі і сухое гальлё з дрэваў, а потым узяўся фарбаю аднаўляць усё збутвелае: вокны, дзьверы і падлогу. Забракло фарбы — купіў новую і ўсё сьпяшаўся, каб як найболей адмаляваць.

Цяпер выехаў з Бэлеру ў *New Brunswick*, бо ў Бэлеры замкнулі ўжо воду і сьвятло. Штодня чакаю на атрыманьне дакумантаў, каб ехаць да Вас, у Таронто. Ведаю, што там чакае новая праца, да якой рыхтуюся зь вялікаю ахвотаю. А цяпер пачаў я пісаць "успаміны" з жыцьця свайго ў савецкім лагеры. Нікандр Мядзейка[18] вельмі прычыніўся да гэтага пісаньня і штодня пытаецца і цікавіцца: як пішацца.

У нядзелю, 16 лістапада, у Брукліне адбудзецца зьезд і паседжаньне Беларусаў з нагоды Слуцкага паўстаньня (27 ліст[апада]). Паеду і я разам з сп. [Нікандрам] Мядзейкам, які будзя чытаць рэфэрат аб Слуцкім паўстаньні.

---

[14] Публікатар дзякуе Натальлі Гардзіенцы за атрыманыя ад яе копіі лістоў.

[15] Арыгінал ліста захоўваецца ў: LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 37.

[16] Маецца на ўвазе **Ньюарк** (анг. *Newark*) — горад у штаце Нью-Джэрзі, недалёка ад Нью-Ёрку.

[17] **Рэлігійна-адпачынкавы цэнтр "Бэлэр-Менск"** быў заснаваны ў 1962 г. беларусамі з штатаў Нью-Ёрк і Нью-Джэрзі як нацыянальнае месца для адпачынку. Разьмяшчаўся непадалёк ад курортнагам гораду Глэн-Спэй (*Glen Spey*, штат Нью-Ёрк). З 1970 г. быў у супольным карыстаньні беларускіх парафіяў Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры й Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. На працягу многіх гадоў заставаўся месцам правядзеньня рэлігійных і грамадзкіх імпрэзаў, палітычных сходаў, зьездаў беларускіх вэтэранаў, спартовых спаборніцтваў, дзіцячых летнікаў і інш.

[18] **Нікандар Мядзейка** (1914—1987), грамадзкі дзеяч. З 1954 г. — першы віцэ-прэзыдэнт Беларускай Цэнтральная Рады. Скарбнік Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. З 1977 г. — прэзыдэнт БЦР.

Сардэчнае прывітаньне ўсім Беларусам. Да хуткага спатканьня і супольнай працы!

Ваш і з Вамі ў помачы
ігумен Язэп [Строк]

## № 2[19]

Дарагі і Вельміпаважаны сп. Радактар!

Ад усёй душы вітаю Вас, усю сям'ю і ўсіх супрацоўнікаў Вашых зь вялікімі сьвятамі Ражства Хрыстова і Новага Году.

Ад шчырага сэрца жадаю Вам і ўсім, хто з Вамі: здароўя і посьпеху ў пісьменнай працы на карысьць і славу ўсяго народу нашага.

Усей мэтаю жыцьця нашага: узгадаваць і спалучыць у адную рэлігійную сям'ю ўсяго Беларускага, многапакутнага народу.

Каляднае пасланьне, на вялікі жаль, не магу паслаць з той прычыны, што дагэтуль не атрымаў дакуманту на сталы побыт у Амэрыцы.

Ваш і з Вамі заўсёды

ігумен Язэп [Строк]

## № 3

15 чэрвеня 1977 г.

Паважаны сп. Хмара!

Паведамляю Вас, што 8 чэрвеня г[этага] г[оду] выехаў я з Саўт Рывэра на сваёй уласнай машыне *Ford* і 9 чэрвеня прыехаў у г. Чыкаго, дзе і застануся да таго часу, які вызначыць воля Божа. На выязд з Саўт Рывэру атрымаў я згоду ад благачыннага-адміністратара протапрэсьвіцера Сьвятаслава Каўша і ад Царкоўнага Камітэту ў Саўт Рывэры. У нядзелю 5-га чэрвеня адслужыў я астатнюю Богаслужбу ў Саўт Рывэры і з прачулым словам разьвітаўся са сваімі парахвіянамі. 12 чэрвеня, у нядзелю, служыў я першую службу Божую ў Чыкага як настаяцель царквы сьв. Юрыя. Царкоўны Камітэт і парахвіяне ў Чыкага спадзяюцца, што цяпер ужо вернуцца да нашай Царквы адышоўшыя ад парахвіі беларусы са сваімі сем'ямі.

Пасьля літургіі павітаў я ўсіх парахвіянаў, Царкоўны Камітэт і сястрыцтва, якія дагэтуль ня мелі свайго настаяцеля. У мінулым годзе адышоў раптоўна і пакінуў іх а[йцец] Алег Мірановіч[20]. Духоўных

---

[19] Арыгіналы гэтага і наступных лістоў захоўваюцца ў: LAC. Marian Ziniak fond: MG31-H193. C. 2. F. 21.

[20] **Протаярэй Алег Мірановіч** узначальваў парафію Сьвятога Юр'я ў Чыкага з 1963 да 1976 гг. У 1977 г. перайшоў у юрысдыкцыю Праваслаўнай царквы ў Амэрыцы.

сіротаў акармляў украінскі бацюшка, протаярэй Леў Астроўскі[21], які прыяжджаў з Кліўленду да Чыкага.

Заміраючая было парахвія пачынае ажываць, і народ наш Беларускі спадзяецца ўтварыць у Чыкага Беларускае асяродзьдзе *American Center*. I з Божай дапамогай можа ўваскрэснуць і аднавіцца ў Чыкага нацыянальнае Беларускае жыцьцё. Гэтаю думкаю жывуць і дзейнічаюць амаль усе мае парахвіяны ў Чыкага. Яны глыбока вераць у гэта і не пакідаюць надзеі ажыцьцявіць гэту сьвятую мэту.

Ніколі ў сваім жыцьці ня меў я такой сардэчнай апекі, заботы, помачы і ахвярнай адданасьці, якою ўзнагародзіў мяне Бог у Чыкага. У Чыкага ніколі не памрэ нашае нацыянальнае ўсьвядамленьне і вера ў Бога!

Ваш зь любоўю архім[андрыт] Язэп [Строк]

## № 4

4 лістапада 1980 г.

Паважаны сп. Хмара!

У нядзелю 2-га лістапада г. г. мая парахвія ў Рычманд Гіл спраўляла 8-я ўгодкі першай багаслужбы ў нашым новым храме, па *104—29 Atlantic Ave., Richmond Hill*.

Народу сабралася шмат, як на Пасху; хор сьпяваў, як анёлы на небе, пад кіраўніцтвам мастака Сымана Жамойды[22]. Шмат малельнікў была зь іншых гарадоў, як з *South River:* Міхась Сенька[23], Міхась[24] і Сьцяпан Палюховічы ахвяравалі на Царкву па $ 100, з *Stamford* Протас Яўген[25] і некалькі было ад Расейскай Зарубежнай Царквы.

---

[21] **Протаярэй Леў Астроўскі** адпраўляў набажэнствы ў царкве Сьвятога Юр’я ў Чыкага з 1976 да 1977 гг. Належаў да юрысдыкцыі Ўкраінскай праваслаўнай царквы ў Амэрыцы, якая была ў складзе Канстантынопальскага патрыярхату.

[22] **Жамойда Сымон** (1915—2008), грамадзкі дзеяч. З 1950 г. жыў у ЗША. Уваходзіў у склад управы БККА й Саюзу амэрыканска-беларускіх вэтэранаў. З 1969 г. — кіраўнік царкоўнага хору парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле.

[23] **Міхась Сенька** (1922—2016), грамадзкі дзеяч. У 1950-я гг. старшыня Аб’еднаньня беларуска-амэрыканскай моладзі. Потым працаваў сакратаром управы БККА. Уваходзіў у склад царкоўнай рады парафіі Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры.

[24] **Міхась Палюховіч** (1925—1994), грамадзкі дзеяч. З канца 1940-х гг. жыў у ЗША. На працягу многіх гадоў быў сябрам будаўнічага камітэту й кіраўніком царкоўнага хору парафіі Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, скарбнікам часопісу “Беларуская думка”. Уваходзіў у склад управы БККА.

[25] **Аўген Протас** (1915—1995), грамадзкі дзеяч. З 1949 г. жыў у ЗША. Старшыня аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў Стэмфардзе.

Пасьля літургіі быў адслужаны малебен, і ўсіх я запрасіў на абед. На абедзе прамаўлялі: Кастусь Мярляк[26], Сымон Жамойда, Пятро Меляновіч[27], Уладз[імер] Русак[28], [Антон] Шукелойць[29], [Ян] Казьлякоўскі[30] і яго сын Міхась[31]. У канцы ўсяго папрасілі і мяне сказаць пару слоў. Падзякаваў я ўсім за ўсё, за шчырую адданасьць сьвятой Царкве і роднай нацыі сваёй. Сказаў я і праз Івана Іванавіча Касяка, які дзёрзка і пахабна выступаў і пазорыў мяне ў Саўт Рыв[эры] на царк[оўным] зьезьдзе 11 кастрычніка. І з гэтай прычыны я падаў заяву а[йцу] Сьвятаславу Каўшу аб маім адыходзе ў стан спачынку, у заштат. І а[йцец] Коўш пагадзіўся са мною.

Ваш архім[андрыт] Язэп [Строк]

## № 5

19 лістапада 1980 г.

Паважаны сп. Хмара!

Учора выслаў Вам ліст, у якім выясьняю два пункты. А сяньня высылаю Вам дакумэнтальнае выясьненьне — яшчэ два пункты.

---

[26] **Кастусь Мерляк** (1919—2006), грамадзкі дзеяч. У 1947—1954 гг. — старшыня Згуртаваньня беларусаў у Аргентыне. У 1959—1964 гг. — старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. З 1965 г. — старшыня Беларуска-Амэрыканскага аб'еднаньня. У 1970-я гг. — віцэ-прэзыдэнт БККА.

[27] **Пётра Мельяновіч** (1914—1990), грамадзкі дзеяч. Прыхільнік Кастуся Мерляка й сябра Беларуска-Амэрыканскага аб'еднаньня.

[28] **Уладзімер Русак** (1913—2009), грамадзкі дзеяч. З 1949 г. жыў у ЗША. Кіраўнік аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў Нью-Ёрку. Уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты "Беларус".

[29] **Антон Шукелойць** (1915—2017), культурна-грамадзкі дзеяч, этнограф, музеязнаўца, публіцыст. З 1952 г. жыў у ЗША. У 1975—2007 гг. — старшыня галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Радны БНР. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі газэты "Беларус".

[30] **Ян Казьлякоўскі** (1894—1991), грамадзкі дзеяч. Шматгадовы старшыня царкоўнай рады парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

[31] **Міхась Казьлякоўскі** (1933—2005), грамадзкі дзеяч. З 1951 г. жыў у ЗША. Быў актыўным удзельнікам Арганізацыі беларуска-амэрыканскай моладзі, у тым ліку яе старшынём у 1958, 1963—1964 гг. Кіраваў беларускай футбольнай камандай *"Bielarus"*. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Пры канцы 1950-х арганізаваў штонядзельныя беларускія праграмы на радыёстанцыі *WPOW* у Нью-Ёрку, з 1960 г. яны перанесьліся на радыёстанцыю *WAAT* у Трэнтане (*Trenton*, Нью-Джэрзі).

1) Ліст у 2-х аркушах наместніка Яблачынскага манастыра ў Польшчы, архімандрыта Еўлогія (Горбовец)[32], у якім ён сьведчыць, што я (тады Ігумен Іосіф) здаў манастырскую касу ў суме 120 злотых ($ 1.20 — доляр 20 цэнтаў).

2) Фото-копія афіцыяльнага ліста протапрасьвіцера Сьвятаслава Каўша — адказ на маю заяву аб згодзе на прыняцьце мяне ў стан спачынку, у заштат, з прычыны маёй старасьці (76 ½ гадоў).

Дванаццаць гадоў ахвярна, з чыстым сумленьнем служыў я ва ўсіх Беларускіх парахвіях Амэрыкі і Канады, а цяпер маю поўнае права адыйсьці ў заштат, у стан спачынку. Скончылася забаўка ў справе епіскапату, бо фактычна ні а[йцу Сьвятаславу] Каўшу, ні сп[адару Івану] Касяку ніякага беларускага япіскапа не патрэбна. А каб цалкам пазбыцца маёй кандыдатуры на япіскапа, сп[адар Іван] Касяк 11-га кастрычніка перад усім зьездам даказваў, што я злодзей, не здаў касу Яблачынскага манастыра ў Польшчы. Чы то лёгка слухаць такую хлусьню і зьневагу? А цяпер Вам гавораць, што [Іван] Касяк бараніў мяне. То дзе праўда?

З паваж[аньнем], архім[андрыт] Язэп [Строк]

## № 6

Паважаны сп. Хмара!

Шчыра дзякую за газэты (10 шт.) і за праўдзівы зьмест у справах царкоўных.

Ня толькі Праваслаўная Царква, за якую Вы грудзьдзю стаіце, але й уся нацыя Беларуская і яе еднасьць стаіць пад жудаснай пагрозай упартай і вельміганаровай "палкоўніцкай" хунты. Яе эгаістычны гонар ня можа і ніколі не пагадзіцца з пакораю хрысьціянскаю і ўзаемнаю любоўю.

Кожны зь іх на першае мейсца ставіць сябе, сваё "Я". А цераз гэта руйнуецца й цалкам замірае ўсё навокал нас: рэлігія, наша Праваслаўная Царква, адзінства і салідарнасьць між сабою і ўсёй нашай Беларускай Нацыі. "Пакіньце іх; Яны сьляпыя правадыры сьляпых; а калі сьляпы вядзе сьляпога, то абодва ўваляцца ў яму" (Еванг. Мацьвея XV, 14 сьц[іх]). Вось у такую яму яны і кіруюцца! Праз 12 гадоў я ратаваў іх і ўвесь наш народ у Саўт Рывэры, у Таронто, у Чыкаго і ў Ню Ёрку. Праз увесь гэты час мяне паніжалі, крытыкавалі, адкідалі, а цяпер, ад 11 кастр[ычніка] адкінулі канчаткова. Ды яшчэ з насьмешкаю а[йца] Паўла Вялікага[33], які вам кажа, што "генэрал" [Іван] Касяк не тапіў,

[32] **Архімандрыт Яўлогій (Гарбавец)** быў настаяцелем Яблачынскага Сьвята-Ануфрыеўскага манастыра ў 1955—1970 гг.

[33] **Протаярэй Павал Вялікі** (1925—?), клірык юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. У 1967—1973 гг. — настаяцель беларускай парафіі

а “бараніў” мяне. Ваш ліст я паказваў К[астусю] Мерляку і П[ётру] Мелановічу, і яны сьмяяліся над тым, як “бараніў” мяне [Іван] Касяк. То дзе шукаць праўду, калі яе няма ў сьвятара?

З павbooжаньнем, архім[андрыт] Язэп [Строк]

## № 7

21 кастрычніка 1981 г.

Дарагі мой сп. Хмара!

Пры гэтым далучаю *Money Order*[34] на $ 30 амэрыканскіх даляраў на газэту “Беларускі Голас”. Адначасна паведамляю, што пасьля 1-га лістапада г[этага] г[оду] я выяжджаю зь Ню Ёрку ў манастыр, у Пэнсільваніі[35]: *South Canaan, Pan. 18459*.

Праз трынаццаць гадоў вераю і праўдаю старанна абслугоўваў усе Беларускія Царквы ў Амэрыцы й Канадзе. Протапрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш ад 18 кастрычніка 1980 году даў мне дакумэнтальную згоду на адыход мой у стан спачынку па старасьці. Вось ужо другі год маёй добраахвотнай службы для свайго Народу. А цяперашні закалот і грызьня ў БАПЦ змушаюць мяне хутчэй адысьці ад усяго і нікуды не мяшацца.

Ваш заўсёды і за ўсё ўдзячны
архім[андрыт] Язэп [Строк]

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Аляксандра Сълесарава*

Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане, у 1973—1998 гг. — парафіі Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Таронта. З 1998 г. — за штатам.

34 ***Money Order*** (анг.) — грашовы перавод.

35 Маецца на ўвазе **стаўрапігіяльны мужчынскі манастыр у гонар сьвятого Ціхана Задонскага**, які месьціцца ў Саўт-Кейнане (*South Canaan*, штат Пэнсыльванія) і належыць да юрысдыкцыі Праваслаўнай царквы ў Амэрыцы.

***Надзея Дробіна***
*Таронта*

# УЛАДЫКА


Уладыка Мікалай (Мацукевіч)

*“Алё! Гаварыце, калі ласка, грамчэй — нічога ня чую,* — з тэлефона гучаў немалады, цёплы й прыемны голас. — *Я ўдома забыў вушы. Патэлефануйце, калі ласка, заўтра альбо іншаму чалавеку. Ён адкажа на ўсе вашыя пытаньні”,* — і прадыктаваў мне нумар тэлефона Міколы Ганька. Замест нуля гаварыў *“зіро”*.

Так мы ў першы ж дзень свайго прыезду ў Канаду пазнаёміліся з уладыкам Мікалаем, калі зайшлі ва Ўкраінскі эміграцыйны цэнтар і спыталі, ці ёсьць што-небудзь беларускага ў Таронта.

На наступны ж дзень мы прыйшлі ў царкву Сьвятога Кірылы Тураўскага. Насустрач нам ціхенька, з усьмешкай і з працягнутай для прывітаньня рукою выйшаў уладыка. Пасьля першых жа ягоных словаў нам здалося, што мы знаёмыя ўжо даўно, і на душы стала цяплей. Спачатку запрасіў сесьці за стол, распытаў, адкуль мы, якая ў нас з мужам прафэсія, што мы плянуем рабіць у Канадзе й якія ў нас праблемы. Слухаў вельмі ўважліва, не перапыняў, а калі пытаньні скончыліся, адзначыў маю добрую беларускую мову, расказаў пра Алу Орсу-Рамана, муж-італьянец каторай размаўляў пабеларуску, яўна намякаючы на тое, што й Анатоль мог бы вывучыць. Нашаму сямігадоваму сыну таксама надаў увагу — падарыў цукеркі, якіх мы да гэтага й ня бачылі. Ужо праз пару месяцаў я таксама атрымала такую цукерку: на вялікія праваслаўныя сьвяты іх з Ўініпэгу прысылала сям’я японцаў, якая некалькі гадоў таму выпадкова праходзіла па вуліцы Патон, убачыла шыльду царквы. Зайшлі, пазнаёміліся з уладыкам і пасьля некалькіх сустрэчаў сталі сябрамі парафіі. Пасьля пераезду Крыстына да канца жыцьця прысылала грашовыя ахвяраваньні й

такія незвычайныя цукеркі ў вялікай скрынцы казачнай прыгажосьці. А пасьля сьмерці мужа Крыстына папрасіла, каб парафія зрабіла эскіз надмагільнае пліты з крыжам Эўфрасіньні Полацкай, што й было зроблена. Дзесьці захаваўся фотаздымак пліты.

Ужо ў нядзелю ў 10 гадзінаў раніцы мы прыйшлі на багаслужбу. І не адныя — з намі прыйшла сям'я беларусаў, зь якімі мы выпадкова пазнаёміліся ў аэрапорце Пірсану ў Таронта. Людмілу я доўга ўгаворвала прыйсьці — як многія з нас, мы думалі, што ўсе былыя нашыя суайчыньнікі ваеннай і паваеннай эміграцыі маглі быць здраднікамі, — было ня вельмі вялікае жаданьне знаёміцца. Як жа мы памыляліся!

Мяне зьдзіўляе дыпляматычнасьць нашых беларусаў, якія сустракалі нас, такіх савецкіх у паводзінах, сьветапоглядзе (безумоўна, сярод нас было шмат і нацыянальна сьведамых), прымалі ў сябры парафіі альбо Згуртаваньня беларусаў Канады, хаця, я ўпэўненая, што падазронасьці было больш, чым трэба. Спрэчак і сварак сярод іх хапала, аднак пераход ад той хвалі эміграцыі да нашай прайшоў даволі мякка.

Уладыка радаваўся кожнаму, хто прыходзіў у царкву, памятаў усіх па імёнах, цікавіўся справамі, быў надзвычайна ўважлівым.

У хуткім часе я знайшла працу ў кавярні, дзе працавала маці маёй знаёмай дзяўчынкі-ўкраінкі. Кавярня разьмяшчаецца за пяць хвілінаў пешшу ад царквы. Як аказалася, уладыка гадамі прыходзіў на каву а 12-й гадзіне папоўдні. Замаўляў адзін вялікі кубак кавы з малаком бяз цукру й звычайную булачку (*plain bagel*). Для наведнікаў кавярня звычайна замаўляла некалькі канадыйскіх газэтаў. Уладыка аддаваў перавагу *Toronto Sun*. Я заўсёды намагалася адкласьці цяперашні нумар для ўладыкі. Аднойчы, памятаецца, да яго падсеў немалады мужчына, вельмі добра апрануты, але бязь верхняга адзеньня для восені. Уладыка доўга зь ім размаўляў, потым западозрыў, што чалавек захварэў і не разумее нават, дзе ён, папрасіў выклікаць паліцыю з дактарамі, а сам пастараўся яго затрымаць размоваю, пакуль не прыехалі й не забралі сапраўды хворага. Трэба заўважыць, што ўладыку ведалі й вельмі душэўна да яго ставіліся ўсе пастаянныя наведнікі кавярні й суседзі па вуліцы, дзе месьціцца грамадзка-царкоўны будынак.

Сядзеў уладыка звычайна дакладна паўгадзіны, а тады ішоў у царкву. Ня проста так быў там — вёў вялікую перапіску з прадстаўнікамі розных цэркваў і канфэсіяў, сустракаўся зь сьвятарамі. Варта адзначыць добрую ангельскую мову ўладыкі. На сьвяты на царкоўны адрас прыходзіла вялікая колькасьць віншавальных картак для яго й парафіі з розных цэркваў ня толькі Канады, але й з усяго сьвету.

Уладыка быў надзвычай ахайным. У офісе зьберагаліся падшыўкі шматлікіх газэтаў, кнігі (а бібліятэку ўладыка заснаваў вялікую, пераважна на свае грошы) былі расстаўленыя па самаробных паліцах, і ён адразу знаходзіў усё, што камусьці было патрэбна.




На юбілеі ўладыкі Мікалая. Таронта, 1997 г.

У хуткім часе мяне абралі старшынёй Згуртаваньня беларусаў Канады, і, паколькі царква й ЗБК месьцяцца ў адным будынку, шмат часу я праводзіла там. Пры падрыхтоўцы да любога мерапрыемства патрэбныя былі тысячы дробязяў, якіх ніколі не знайсьці. А варта было толькі зьвярнуцца да ўладыкі — у тую ж хвіліну нясе. Як заўсёды, з усьмешкай.

Уладыку вельмі цешыла, што царква й арганізацыя сталі папаўняцца новымі людзьмі. Ён намагаўся ўдзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах, быў у курсе ўсіх справаў.

У невялічкай кватэрцы ўладыкі было таксама вельмі чыста. Вялікі плюшч, відаць, рос шмат гадоў, быў зачэплены за вяровачкі й закрываў усю столю. Часам галінка паўзла не туды, на погляд уладыкі, то, калі мы з мужам прыяжджалі, ён прасіў, каб Анатоль іх папраўляў. Думаю, ня толькі Анатоль гэта рабіў. У хаце пахла ружамі — Уладыка любіў гэты пах і дзесьці купляў ружовы алей.

Як да родных, Уладыка ставіўся ня толькі да Марыі й Міколы Ганькоў. Сям'я Аксаны й Аляксандра Бушкевічаў шмат дапамагала ўладыку ў якіхсьці побытавых справах, папрасіла яго быць хросным бацькам малодшага сына Марка. Уладыка пагадзіўся зь вялікім задавальненьнем. Так што ёсьць у Канадзе сын уладыкі Мікалая. Хросны, але сын.

Калі ўладыку стала блага — першы званок ён зрабіў Аксане, яна з Сашам вызвалі хуткую дапамогу й паехалі да яго. Марыі Ганько ўладыка, безумоўна, зазваніў таксама. І Марыя вызвала хуткую й прыехала, і дзьве брыгады хуткай прыехалі, і ўладыку не ўратавалі. Але ён адышоў не ў адзіноце. Цёплыя родныя сэрцы былі побач.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*
***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# АРХІЎ АНТОНА АДАМОВІЧА

*Выгнаньніцкі лёс падзяліў ня толькі жыцьцё літаратуразнаўцы Антона Адамовіча на беларускую й замежную частку, але й ягоныя архівы. Вялікая эміграцыйная творчая, эпісталярная, дакумэнтальная спадчына Антона Адамовіча захоўвалася ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва. На яе падставе было зроблена выданьне ягоных твораў[1], а таксама шматлікія публікацыі на старонках "Запісаў БІНіМ". Урэшце гэтыя дакумэнты былі скіраваныя ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва, дзе ўжо захоўвалася невялікая беларуская частка архіву Антона Адамовіча.*

*Гісторыя даэміграцыйнай архіўнай спадчыны літаратуразнаўцы наступная. Большасьць дакумэнтаў былі выяўленыя ў 1951 г. у фондзе "Генэральнага камісарыяту Беларусі" Цэнтральнага дзяржаўнага архіву Кастрычніцкай рэвалюцыі й сацыялістычнага будаўніцтва БССР (цяпер — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь) і вылучаныя ў асобны фонд "Беларускага буржуазнага нацыяналіста Адамовіча". Дакумэнты склалі шэсьць тэчак: тры — лісты жонкі Антона Адамовіча Натальлі Шыляевай (1938—1941 гг.) і тры — карэспандэнцыя ад розных беларускіх дзеячаў: Францішка Аляхновіча, Язэпа Найдзюка, Янкі Станкевіча, Вітаўта Тумаша (1941—1943 гг.). Разам з карэспандэнцыяй утрымліваліся нешматлікія асабістыя дакумэнты, фатаздымкі Натальлі Шыляевай і Кастуся Езавітава з дароўнымі надпісамі. Пазьней, у 1963 г., да гэтых тэчак была далучаная яшчэ адна, відавочна, перададзеная з архіваў КДБ, якая ўтрымлівала аўтабіяграфію Антона Адамовіча й некалькі тэкстаў пра яго. Усе згаданыя дакумэнты да 1996 г. былі засакрэчаныя. Пасьля ж зьняцьця грыфу сакрэтнасьці дырэктар БДАМЛМ Ганна Запартыка выступіла з прапановай аб перадачы фонду Антона Адамовіча ў архіў-музэй, паколькі ён адпавядаў профілю гэтай установы. У выніку ў 2005 г. была афіцыйна аформленая перадача, і ў БДАМЛМ зьявіўся фонд*

---

[1] Адамовіч, Антон. Творы. Нью-Ёрк, 2003. XXXIV+764 с.


Антон Адамовіч у высылцы. 1930-я гг.

*№ 459 “Антон Яўстаф’евіч Адамовіч, літаратуразнаўца, крытык, празаік”*[2].

*Пасьля перадачы ў 2010—2018 гг. у БДАМЛМ зь БІНіМу эміграцыйнай спадчыны дзеяча, абедзьве часткі архіву зьядналіся ў межах аднаго фонду. Пададзеныя ніжэй дакумэнты належаць менавіта да беларускай (даэміграцыйнай) часткі архіву й прыадчыняюць некаторыя цікавыя дэталі біяграфіі самога Антона Адамовіча, а таксама ягоных знаёмых — дзеячаў нацыянальнага руху часу Другой сусьветнай вайны.*

## “Письма националисту Адамовичу от националистов из Берлина, Праги и Вильно”

*Такі назоў маюць тры справы — з тых, што былі да 1996 г. засакрэчаныя ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а пазьней перададзеныя ў БДАМЛМ. Ганна Запартыка мяркуе, што яны захоўваліся на працоўным месцы Антона Адамовіча ў рэдакцыі “Беларускай газэты” й менавіта адтуль трапілі ў агульны лік дакумэнтаў Генэральнага камісарыяту Беларусь. Разам з запрашальнікамі, пасьведчаньнямі, пропускамі й фатаздымкамі гэта 62 дакумэнты. Выбраныя зь іх лісты й публікуюцца ніжэй.*

***

Вільня, 12.VIII.1941

Яго Міласьці Грамадзяніну Адамовічу ў Менску.

Грам[адзянін] Карачун перадаў мне картачку, заяўляючы, што аўтарам яе зьяўляецеся Вы, Пав[ажаны] Грам[адзянін] Адамовіч. У кар-

[2] Падрабязная гісторыя гэтай часткі дакумэнтаў апісаная ў артыкуле: Запартыка, Ганна. Асабісты архіўны фонд Антона Адамовіча ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва // Пра час “Узвышша”: матэрыялы Узвышаўскіх чытанняў (Мінск, 2008—2010). Вып. 5. Мінск: РІВШ, 2011. С. 194—201.

тачцы гэтай Вы прасілі пераслаць Вам крыху літаратуры і праграмы пачаткавай, а таксама сярэдняй беларускай школы.

Вось-жа што да школьных праграмаў, дык мы, на жаль, такіх ня маем і думалі, што якраз атрымаем самі зь Менску. Калі ў Вас іх таксама няма, дык можам дагаварыцца, хто іх апрацуе. Кніжкі, якія меў пад рукой, высылаю. Пры наступнай аказіі вышлю больш. Калі-б Вы якія-небудзь з гэтых кніжак хацелі перадрукаваць, і калі аўтары іх знаходзяцца ў Вільні, дык просім аб гэтым паведаміць іх, бо тады можна было-б зрабіць некаторыя праўкі.

Калі хто-небудзь будзе ад Вас ехаць у Вільню, дык ветліва прашу прыслаць нам усе нумары Вашае Менскае газэты[3], а таксама колькі можна беларускіх кніжак, выданых у Менску. Дужа былі-б удзячны, калі-б Вы нам пастараліся прыслаць творы "нацдэмаў", калі дзе такія захаваліся.

Канчаючы сваю пісульку, пасылаю Вам і ўсім Беларусам у Менску найлепшыя пажаданьні й найшчырэйшыя прывітаньні!

З глыбокай пашанай,

Я[зэп] Найдзюк[4]

***

У Варшаве, 22.VIII.41

Паважаны й дарагі сябру,

вялікі Вам дзякуй за ліст. Спадзяюся, што будзем карысна з Вамі разам працаваць. Думаю, што за месяц змагу прыехаць да Вас. Я ня ведаю, якія Вашыя выдавецкія магчымасьці. Я тут кірую Рэфэратам Культуры ў Беларускім Комітэце ў Варшаве. Маю прыгатаваны да друку "Падручнік беларускае мовы" (граматыка, правапіс, укладаньні), прытарнаваны да ўжываньня ў пачатковых школах і да самаасьветы. Ё такжа канчальна прыгатаваны да друку тры рукапісы арытмэтыкі (на I, II і III адзьдзелы) З[оф'і] Дабрыншчыхі[5]. За 7—10 дзён будзе гатовы

---

[3] **"Менская газэта"** — асноўнае пэрыядычнае выданьне ў Генэральнай акрузе Беларусь. Выходзіла з 27 ліпеня 1941 г. Зь лютага 1942 г. мела назоў "Беларуская газэта". Да 28 чэрвеня 1944 г. выйшла 272 нумары газэты.

[4] У часе нямецкай акупацыі Язэп Найдзюк працаваў у школьным інспэктарацце й тэхнічным кіраўніком Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску, супрацоўнічаў зь менскімі газэтамі.

[5] **Зоф'я Дабрынская** (дзяв. **Корсак**, 1904—1992?), пэдагог. З 1918 г. жыла ў Вільні, скончыла настаўніцкую сэмінарыю, працавала настаўніцай на Віленшчыне. У 1933 г. выйшла замуж і пераехала ў Варшаву. У часе нямецкай акупацыі працавала ў беларускай пачатковай школе ў Варшаве, апрацоўвала школьныя падручнікі, брала ўдзел у Партыі беларускіх нацыяналістаў Янкі Станкевіча. Пасьля вайны настаўнічала ў Ольштыне, з 1950 г. — у Варшаве.

лемантар кірыліцаю Андрэя Мамчыца. Ё такжа рукапіс мэтры і музыкі для ніжніх школаў праф[эсара] Казурлы. Ён-жа ахвотна дасьць ноты для школьнага песеньніка, абы толькі быў адпаведны дзяціны тэкст. Іншы праф[эсар] Людкевіч суліць выдаць яго палітычную эканомію і практычную кнігу аб земляробскай гаспадарцы. Надабе было-б ведаць, што зь менаванага магчыма было-б выдаць у Вас, у Менску.

Пасылаю Вам колькі дробязеў, болей не магу, бо мы тутака ўцекачы і сядзім безь літаратуры. Калі мне ўдасца быць у Вільні, дык прывязу Вам шмат.

Жыве Крывія!
З шчырай пашанаю,

Я[нка] Станкевіч

PS. Аўтарка падручнікаў арытмэтыкі канешне будзе вымагаць ганарару. Гэтае яе вымаганьне зусім справядлівае. Зь іншымі аўтарамі, што да ганарару, здаецца, справа будзе лягчэйшая.

***

У Варшаве, 9.X.41.

Дарагі Сябру,

За колькі дзён я выяжджаю ў Менск. Вязу зусім гатовыя да друку:
1. Маю граматыку й правапіс[6].
2. Арытмэтыку на адзьдзел I[7].
3. —“” — II[8]
разам з гатовымі клішамі.
4. Лемантар[9].
Жыве Крывія!
Да пабачэньня!

Ваш Я[нка] Станкевіч.

Пакуль ня прыеду, маім не прыяцелям аб маім прыезьдзе не кажыце.

Я[нка] С[танкевіч]

---

[6] Магчыма, была выдадзена як: Станкевіч, Ян. Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацінкаю з укладаньнямі. Менск, 1943. 48 с.

[7] Відаць, выйшла як: Dabrynskaja, Z., Šyrynski, P. Zbornik arytmetyčnych zadačaŭ i prykładaŭ na I klasu narodnaje škoły. Менск, 1943. 88 с.

[8] Відаць, выйшла як: Dabrynskaja, Z., Zavuścinski, M. Zbornik arytmetyčnych zadačaŭ i prykładaŭ na II klasu narodnaje škoły. Менск, 1943. 104 с.

[9] Магчыма, выйшла як: Stankievič, J. Lemantar pierachodny z łacinicy na kirylicu. Менск, 1942. 16 с.

***

Вільня
14.X.1941

Паважаны Сябра!

Рукапіс у мяне яшчэ не гатовы. Пры чарговай аказыі прышлю Вам працяг. Справа ў тым, што "У капцюрах ГПУ", аб якіх Вы ўспамінаеце, будзе толькі часткай вялікшай рэчы, якую я хачу даць для "Менскае Газэты". Паводля майго рахунку матэр'ялу будзе на 35—40 падвалаў.

Як будзе аказыя, напішэце мне, ці Рэдакцыя згаджаецца друкаваць гэты матэр'ял.

Зь ніжэй пададзеных падзагалоўкаў Вы можаце мець паняцьце аб зьмесьце маей працы.

<u>У капцюрах ГПУ</u>

<u>Вільня</u>

Ах, як там добра!
Госьць зь Менска.
Пан Пятроў.
Попутчік у сваей хаце.
Прыгатаўляньні да падарожы.
Выезд.

<u>Менск</u>

У заезжым дому.
У тэатры.
Тэатр у Віцебску.
Першая лыжка дзёгцю.
Гутарка суседак.
ГПУ настрайвае.
Нячаканы госьць.
Першы раз у ГПУ.
Перад аэропагам.
"Товарищеская чашка чая".
Таварышы працуюць.
У Эўрапэйскім гатэлі.
Новы савецкі грамадзянін.

<u>Віцебск</u>

На вакзале.
"Філёр".
Думкі.

<u>У вастрозе</u>

Падвал.
Мой таварыш.
На Камароўку.
Першыя допыты.
Апанасік.

Новы “лягавы”.
Карцэр.
Бог хацеў.
Расстрэлы.
Інсцэнізацыі.
Псіхоз.
“Войкаўцы”.
Катастрофа пад Менскам.
Этап.

Паповы востраў.

Прыехалі.
У памешканьні.
На работу.
“Баня”.
Далейшае падарожжа.
Карэльскія вёскі.
“Меч рэвалюцыі”.
Жабі вальс.

Востраў Мяч.

Першы дзень.
Лесазагатоўкі.
Філоны.
Самарубы.
Забастоўка.
Страва.
Няўдалыя ўцёкі.
Выезд на Салоўкі.

Салоўкі

Новыя ўмовы жыцьця.
Зьмяншаньне кары.
Жанчыны на Салоўках.
Магільнік.
Ісо.
Ізалятар.
Перад абліччам сьмерці.
Востраў Конд.
Сякірка.
“Жордочка”.
Манлівыя спадзяваньні.
Вастрожны гумар.
Эпідэмія тыфусу.
Камісія з Масквы.
Перамены.
Зіма.

“Паморы”.
Пісьмы.
Лятуценьні і кашмары.
Чытаньне прыказу.
Вясна.
Рэлігійныя справы.
“Узгадаваньне вязьня”.
Тэатр.
Адведзіны Горкага.
Кіна.
Бібліятэка.
Музэй.
Спорт.
Падзел вязьняў.
Голыя ў сьнежні.
Крадзяжы.

Кемь

На Выгеракшы.
Газэта і радыё.
У ізалятары.
У дарозе.

Масква

Бутыркі.
Спозьненыя жалі.
“Конвэер”.
Неспадзяванкі.
Да граніцы.

Абмен.

Канец.

Вось зьмест маей працы. Ведама, трудна судзіць па адным толькі загалоўкам. Але мусіць удалося мне напісаць цікаўна, дзеля таго, што мая кніжка (ранейшае выданьне “У капцюрох ГПУ”), дзе апавяданьне пачынаецца ад разьдзелу “У вастрозе”, апрача беларускай мовы друкавалася на польскай (“*Prawda o Sowietach*”[10]), украінскай (*“7 літ на Соловках”*[11]), італьянскай (*“La verita sulla Russia Bolscevica*[12]*”*) і партугальскай (*“Sete annos nas garras sovieticas”*[13] *— Rio de Janeiro*).

---

[10] Olechnowicz, F. Prawda o Sowietach. Warszawa, 1937. 172 s.

[11] Аляхновіч, Ф. 7 літ на Соловках. Спомини білоруського діяча про миртирольогію у Совітах. Львів, 1937. 168 с.

[12] Olechnowicz, F. La verita sulla Russia Bolscevica: impressioni di un russo-bianco nazionalista liberato dopo sette anni dalle prigioni dell’URSS. Firenze, 1938. 60 p.

[13] Olechnowicz, F. Sete annos nas garras sovieticas. Rio de Janeiro, 1937. 190 p.

Чакаючы Вашага адказу,
жму Вашу руку.

Ф[ранцішак] Аляхновіч

Вільня, *J. Jasinskio g-ve, 18—4a.*

P. S. Пакуль што пасылаю 23 гранкі. Пакуль гэта надрукуеце, думаю, будзе аказыя — і прышлю Вам рэшту матэрыялу.

А[ляхновіч]

Калі трэба будзе нешта паправіць, перарабіць, вычыркнуць — можаце рабіць што трэба.

Я цяпер жыву толькі зь пяра. Пажаданы аванс.

А[ляхновіч]

***

Бэрлін, 10 чэрвеня 1942 г.

Паважаны Сябра!

Праз сп. др. Валькевіча перасылаецца для "Бел[арускай] Газэты" апошнія нумары "Раніцы"[14], якіх у Менску яшчэ, здаецца, німа. Зборнік Л[арысы] Геніюш[15] ужо цалком прыгатаваны да друку, толькі чакаецца цэнзурнага дазволу, і пойдзе ў друк. А як у Вас з зборнікам [Натальлі] Арсеньневай[16] — "Жоўтай восеньню"? Тут атрыманы дазвол на перадрук "Сымона Музыкі"[17] у 3500 экз[эмпляраў]. Кніга ўжо ў друкарні. Пра гэта мо' лепш не ўспамінайце пры сваіх дамаганьнях сваім там нямецкім "апякуном", бо гатовы яшчэ зрабіць стараньні, каб тут гэта стрымалі...

Прывітаньні ўсім менскім знаёмым — [Натальлі] Арсеньневай, [Францішку] Кушэлю, [Язэпу] Найдзюку, праф[эсару] [Вацлаву] Іва-

---

[14] **"Раніца"** — беларуская газэта, выдавалася ў Бэрліне з 1939 да 1945 гг. У розны час яе рэдагавалі Фабіян Акінчыц, Вітаўт Тумаш, Мікола Шкялёнак, Станіслаў Грынкевіч-малодшы. Пэрыядычнасьць — звычайна раз на тыдзень. Наклад — да 12 тыс. асобнікаў, выйшла 233 нумары.

[15] **Ларыса Геніюш** (1910—1983), паэтка, празаік, грамадзкая дзяячка. У міжваенны й ваенны час жыла ў Празе. Тут маецца на ўвазе першы зборнік паэзіі Ларысы Геніюш "Ад родных ніў", які выйшаў у Празе ў 1942 г. і які падрыхтаваў і адрэдагаваў Вітаўт Тумаш.

[16] **Натальля Арсеньнева** (у шлюбе **Кушаль**, 1903—1997), паэтка, грамадзкая дзяячка, жонка Ф. Кушаля. У 1942—1944 гг. працавала ў "Беларускай газэце", перакладала лібрэта для Менскага гарадзкога тэатру. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурніцкім жыцьці ў лягерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША.

[17] Магчыма, маецца на ўвазе выданьне: Колас, Якуб. Сымон Музыка. Поэма. Прага, 1942. 212 с.

ноўскаму[18], [Аляксею] Сянкевічу[19], [Юльяну] Саковічу[20] і ўсім іншым.

За некалькі тыдняў, магчыма, наканец дастануся ізноў у Беларусь, праўдападобна, Заходнюю.

Зь беларускім прывітаньнем,

В[ітаўт] Тумаш

Яшчэ адна ўвага да гутаркі нашай у Бэрліне аб юбілеях. Апрача [Максіма] Багдановіча гадавіны (якая ўжо адзначана) і апрача 80-лецьця бел[арускай] прэсы, якую трэба хіба будзе адзначыць у пачатку ліпня, я "знайшоў" яшчэ адзін юбілей, які мо' найлепш адсьвяткаваць раньняй восеньню. У 1517 [Францыск] Скарына ў Празе выдаў свой першы друк, значыцца, маем 425-лецьце пачатку нашага друку на чужыне, бо друкарства ў Беларусі пачалося ў 1525 г.

В[ітаўт] Т[умаш][21]

***

19.VI.42

Паважаны Спадару Адамовіч,

пішу да Вашэці, бо Вашэцю найлягчэй перадаць дый Ваша найляпей арыентуецца ў гэтых справах.

1. Прыгатоваю залі (у буфэце мескае ўправы) для Вашэцевага рэфэрату на 20.VI даручана заняцца [Францішку] Кушалю із б[ылой] Самапомачы (пакой 1).

---

[18] **Вацлаў Іваноўскі** (1880—1943), палітычны й грамадзкі дзеяч, выдавец, доктар тэхнічных навук. Быў міністрам асьветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі, які ўзначальваў Антон Луцкевіч. У часе Другой сусьветнай вайны кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Вільні, з 1942 г. — бурмістар Менску. Быў старшынём Беларускай рады даверу, Беларускай народнай самапомачы. Загінуў у выніку замаху няведамых.

[19] **Аляксей Сянкевіч** (1904—1991), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. быў адным са стваральнікаў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі. Напярэдадні Другой сусьветнай вайны быў вымушаны выехаць у Нямеччыну, кіраваў аддзелам Бэрлінскага беларускага камітэту ў Белай Падляскай (*Biała Podlaska*). У 1942—1943 гг. рэдагаваў менскую газэту "Голас вёскі". Зь вясны 1944 г. — афіцэр прапаганды БКА. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у ЗША.

[20] **Юльлян Саковіч** (1906—1943), грамадзка-палітычны дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі — камэндант паліцыі Менскай акругі (1941), а затым гораду Менску. У траўні 1943 г. высланы ў Ліду на пасаду кіраўніка БНС на Лідзкую акругу, дзе адкрыта зрабіў некалькі правакацыйных заяваў супраць польскай інтэлігенцыі. Застрэлены 13 чэрвеня 1943 г. у Васілішках (Лідзкая акруга) польскімі партызанамі.

[21] У гэты час Вітаўт Тумаш жыў у Бэрліне, рэдагаваў газэту "Раніца".

2. Пасылаю Вам зацемку ў “Бел[арускую] газэту” аб рэфэраце на 27.VI.

3. Рэфэрат на 27.VI. “Характар і натура” напісаны ўвесь на машынцы ў БНС[22] і ад’яжджаючы 17.VI я напісаў аб ім заяву, каторая мусіць ужо быць перакладзена на нямецкую мову і перададзена ў Ген[эральны] Коміс[арыят]. Аб тым, што трэба перадаць у Ген[эральны] Коміс[арыят], як казаў Яр[аславу] Кушалю[23] (маладому), дык перадаў ці перадасьць ён, а яшчэ ляпей, калі перадаў ці перадасьць др. Валькевіч, заступнік др. [Івана] Ермачэнкі[24].

У заяве ў Ген[эральны] Коміс[арыят] сказана, што тэкст нямецкі рэфэрату будзе пададзены найпазьней 24.VI. Мо’, аднак, у Ген[эральным] Ком[ісарыяце] не захочуць выдаць дазволу, пакуль ня будзе нямецкага тэксту, дзеля таго найлепей, каб цяпер-жа Шчаглоў[25] напісаў кароткі зьмест гэтага свайго рэфэрату, каторы быў-бы ў БНС адразу перакладзены й паданы. Гукнуць [Міколу] Шчаглова гэтак: пазваніць у БНС, і няхай Кушаль сходзе да [Міколы] Шчаглова. Кароткі зьмест Шчагловага рэфэрату мае быць гэткі: *“На аснове народных песьняў, каторымі рэфэрат багата ілюстраваны, аўтар пераконуючы паказуе, што характар і натура Беларуса гэткія: а... б... в...”*

І толькі! Я-бы сам тут напісаў, але ня ўсё памятую.

4. Калі-б 27.VI мела, як рэфэрат, дэманстраваць лібрэто [Натальля] Арсен[ьнева], дык трэба як найбарджэй падаць аб гэтым заяву ў Ген[эральны] Ком[ісарыят], дадаўшы да заявы кароткі зьмест лібрэто па-нямецку. Каб аднак магло пайсьці на рэфэрат лібрэто [Натальлі] Арсен[ьневай], трэба згода [Івана] Ермачэнкі на выплату пяюном 1100 рублёў. Аб гэткім я ня мог гаварыць ізь Ермач[энкам], бо выехаў раней ён, а потым я. Дык можа пагукаць ізь ім хто іншы ([Мікола] Шчаглоў, [Натальля] Арсеньнева).

5. Ці не маглі-б Вы ад Вашага ці майго імені даручыць каму (бо самі ня маеце часу) пазваніць дацэнту Бухвалу (*“Станкевіч просіць...”*), каб ён папрасіў ад майго імені доц[энта] Жылінскага, каб ён якнайбарджэй скончыў і найпазьней у сярэдзіне будучага тыдня прынёс мне (пакінуў

---

[22] **БНС — Беларуская Народная Самапомач** — адзіная арганізацыя, дазволеная ў 1941—1943 гг. Паводле статуту, павінна была займацца пытаньнямі апекі насельніцтва й аховай здароўя. Паступова яе ўлада пашырылася на школьніцтва, навуку, розныя сфэры грамадзкага жыцьця.

[23] **Яраслаў Кушаль** (1923—1943), сын Натальлі Арсеньневай і Францішка Кушаля. Загінуў у часе выбуху ў Менскім гарадзкім тэатры.

[24] У 1941—1943 гг. Іван Ермачэнка быў старшынём Беларускай народнай самапомачы.

[25] Мікола Шчаглоў-Куліковіч у часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадзкім тэатры.

у Арэхвы[26]) рукапіс свайго географічнага і кароткі яго зьмест да перакладу на ням[ецкую] мову рэфэрату. Тэлефон Бухвала: 21.301.

PS. За ўход на рэфэраты-концэрты [Міколы] Шчаглова можна было-б, здаецца мне, браць плату, але дзеля гэтага надабе лепшая заля і рэкляма ў газэце. Рэклямай ці прапагандаю рэфэратаў былі-б так-жа крытычныя агляды ў газэце прачытаньня рэфэратаў — зараз па іх прачытаньню. Мела-б рэдакцыя на кажны рэфэрат пасылаць такога крытыка.

Што да платы за ўход на рэфэраты [Міколы] Шчаглова, дык трэба ўперад даведацца, ці на іншых яго рэфэратах будуць пяяць, яго рэфэратараў мела быць 7, бо на 1—2 ня варта платы ўводзіць.

Выбачайце, што займаю Вашэцю час. Сполнеце маю просьбу так, каб самому як найменей ёю займацца.

Буду ў Менску 22—24. З тымі, з каторымі я меў ехаць у Вільню, не паеду, прынамся не хачу зь імі ехаць, але за 10—14 дзён паеду ў Вільню з барысаўскімі.

Жыве Крыўя!

Я[нка] Ст[анкевіч]

***

Б[эрлін], 29.10.1942

Дарагія!

[Натальля] Арсеньнева праездам затрымалася на пару дзён у Бэрліне, чулася зусім добра, цяпер у брата ў Ляйпцігу. Ад яе атрымалі і “апошнія ведамасьці” зь Менску. Праз Аню Каткавічанку[27] шлецца яшчэ адно тутэйшае выданьне, якога Вы, здаецца, яшчэ ня бачылі — “Сымона Музыку” (у вас, я чуў, забаронена?..). Я стараюся тут раздабыць яшчэ “Літоўскую рапсодыю” [Мечыслава] Карловіча[28] (партытуру) і праз [Натальлю] Арсеньневу яшчэ можна было-б пераслаць. Але ці дастану — яшчэ ня ведаю.

Ці Вам патрэбная кніга: *Federowski — Lud Bialoruski*[29]? IV том (10 000 беларускіх прыказак і пагаворак, больш 1000 загадак і інш.). Рэч асабліва цэнная й патрэбная пры ўкладзеньні падручнікаў школьных,

[26] **Аркадзь Арэхва** (1910—1993), грамадзкі дзеяч, юрыст. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле судоў Менскай гарадзкой управы, з 1943 г. — пракурор Менскай акругі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у ЗША, актывіст Беларускай Цэнтральнай Рады.

[27] Падчас нямецкай акупацыі Анэля Катковіч працавала перакладчыцай у Менскай гарадзкой управе.

[28] **Мечыслаў Карловіч** (польск. *Mieczysław Karłowicz*, 1876—1909), народжаны ў Вішневе (сёньня Гарадзенская вобл.) польскі кампазытар і дырыжор.

[29] Маецца на ўвазе выданьне: Federowski, Michał. Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materjały do etnografji słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905. Warszawa: Towarzystwo Naukowe Warszawskie, 1935.

календароў і г. д. Можна ў Варшаве яшчэ даволі многа дастаць розных навуковых кніг (польскіх аўтараў) аб Беларусі, і фактычна вашыя тамы "Акадэма" навук павінна было-б скупліваць і зьбіраць усякую беларусіку й ува ўсіх мовах, бо яна цяпер у ваенны час моцна гіне.

Пад маёй агітацыяй інж[ынэр] [Часлаў] Ханяўка[30] ў Варшаве заняўся вылаўліваньнем на паніжным зьніжку ўсёй беларусікі. Дык пры кажнай магчымасьці раджу зь ім у гэтым трымаць кантакт. У яго можна дастаць і вышэй успомненага [Міхала] Федароўскага[31] (каштуе каля 15 марак).

Прывітаньні ўсім старым знаёмым!

Ваш В[ітаўт] Тумаш

Прысылайце, калі ласка, на Камітэт[32] усе выданьні Менску ("Бел[арускую] Газэту", "Школу"[33], "Вёску"[34] і інш.). Буду цешыцца, калі Вам удасца выдаваць літар[атурны] часапіс[35].

Зь беларускім прывітаньнем,

В[ітаўт] Тумаш

***

Прага, 25 сьнежня, 1942

Вельміпаважаны спадару Рэдактар!!

Па першае дазвольце мне прывітаць Вас з Новым 1943 годам і пажадаць Вам многа посьпехаў у Вашай карыснай для Беларускага народу працы.

У вашай паважанай асобе я пазваляю сабе тлумачыць мае паздравы Вашым паважаным супрацоўнікам.

Пасылаю Вам мой рукапіс каляднага слова да Беларускага народу, якій згодна з думкай Міністэрства пры ўсходніяй землі ў гэтай рэдакцыі

---

30 **Часлаў Ханяўка** (1909—1988), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Бэрліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленьнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-х выехаў у ЗША.

31 **Міхал Федароўскі** (1853—1923), фальклярыст, этнограф, археоляг.

32 Маецца на ўвазе Беларускі камітэт самапомачы ў Бэрліне.

33 Маецца на ўвазе **"Беларуская школа"** — пэдагагічны часопіс, які выдаваўся Інспэктаратам беларускіх школаў пры Генэральным камісарыяце Беларусь у 1942 г. У 1943 г. яго замяніў часопіс "Школа і жыцьцё".

34 Маецца на ўвазе **"Голас вёскі"** — газэта, якая выдавалася ў Менску ў 1941—1944 гг. Галоўнымі рэдактарамі былі Мікола Караленка, Яўхім Кіпель, Аляксей Сянкевіч.

35 Відаць, маецца на ўвазе ідэя выданьня літаратурнага часопісу, якая ўвасобілася ў рыхтаваньне першага нумару адноўленага часопісу "Ўзвышша", які так і не пасьпеў пабачыць сьвет.

павінен даць да ведама беларускаму народу. Таму прашу Вас зьмесьціць гэтый ліст на першай старонцы каляднага нумару.

У сярэдзіне наступнага месяца буду мець вельмі важную дзеля нашай справы нараду ў Бэрліне, аб выніках каторай падам Вам справу, як вярнуся ў Менск, а часткова перашлю Вам праз спадара [Франца] Юрду[36], які прыедзе ў Менск раней за мяне.

Праводжу час свайго адпачынку ў Празе, але то ведаеце, які у нас з Вамі адпачынак! Цяпер прыкладу палова трэцьцяй гадзіны ночы, а я сяжу і карыстаюся тым, што ўсе сьпяць, пішу уселякія патрэбныя даклады і гэты ліст.

Калі маеце нешта важнае, дык пішыце мне на адрас: [...], а таксама на гэты адрас пасылайце мне беларускія газэты і нямецкую *"Min[sker] Zeitung"*[37].

Ну, бывайце здаровы, я хаця і далёка ад Вас, але душой знаходжуся паміж Вамі і думаю аб Вас.

Жыве Беларусь.

Ваш [Іван Ермачэнка]

***

Менскі Гарадзкі Камісарыят
Аддзел Мастацтваў
Менск, 3 сакавіка, 1943 г.

Рэдакцыі "Менскай газеты"

Загадчыку выдавецтва сп. Адамовічу.

Згодна ўмове, заключанай Вамі з Аддзелам Мастацтваў М[енскага] Г[арадзкога] К[амісарыяту], Вы павінны былі скончыць пераклад п'есы Э. Грюбэра "Юлінька" да 15 лістапада. Ужо пачатак сакавіка, а праца яшчэ Вамі не здадзеная. У зьвязку з тым, што драматычная група Менскага Гарадзкога Беларускага Тэатру знаходзіцца зараз бяз працы, вельмі прашу Вас ад імя спадара Прачэра паскорыць працу над перакладам.

Чакаю атрыманьня тэксту яшчэ на гэтым тыдні.

Загадчык Аддзелу Мастацтваў [Сяргей Панін[38]]

---

[36] **Франц Юрда** быў кіраўніком палітычнага аддзелу Генэральнага камісарыяту Беларусь.

[37] ***"Minsker Zeitung"*** ("Менская газэта") — нямецкамоўная газэта, прызначаная для нямецкай акупацыйнай адміністрацыі Беларусі і вайскоўцаў, якая выходзіла ў Менску ў 1942—1944 гг.

[38] Сяргей Панін згадваецца таксама ў лістах Антона Адамовіча (Адамовіч, Антон. Лісты да Натальлі Арсеньневай 1944—1945 гг. // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 121—216).

***

Бэрлін, 25.4.1943

Вельмі Паважаныя!

Тут ёсьць вялікае запатрабаваньне на навуковыя працы — меншыя й большыя — для нямецкіх навуковых часапісаў і для асобнага выданьня для нямецкіх выдавецтваў. Ходзе, ясна, перадусім, аб працы не занадта “спэцыялізаваныя”, не прысьвечаныя нейкім дробным праблемам, а больш аб працы па меру магчымасьці вычэрпваючых нейкае большае агульнае пытаньне (праблему) зь беларускай гісторыі, літаратуры, філялёгіі, мастацтва, эканомікі, географіі, геолёгіі, археолёгіі й г. д. Праблема павінна быць унятая як найглыбей навукова, апёртая праца на асноўнай у данай галіне літаратуры. Тут гэткія працы можна будзе перакладаць на нямецкую мову й пускаць да друку. Пэўная колькасьць артыкулаў прыдалася-б і больш агульнага характару, публіцыстычнага ўняцьця — для часапісаў нямецкіх. Але ўсё мусіць быць пастаўленае на смак нямецкага чытача.

Ці не знайшлося-б сярод менскіх навуковых працаўнікоў асоб, якіе мелі-б, напр[ыклад], апрацаваць такія тэмы: “Лясы Беларусі” (калі ня ўсёй, дык хаця-б былой БССР; якнайбольш статыстычных дадзеных аб усёй у нас лясной справе), “Тарфяныя рэсурсы Беларусі” (уняцьце з гледзішча энэргэтычнай народнай гаспадаркі), “Глеба Беларусі”, “Промысл”, “Водныя рэсурсы” — выкарыстаныя й нявыкарыстаныя энэргэтычна, “Багацьце зямельных нэтраў” (выкапні) і г. д.

Такіх і падобных тэмаў ёсьць многа.

Дык вельмі было-б добра, каб Вы гэтым зацікавіліся-б, і што далося-б прыгатаваць — перaслалі-б сюды. Я ўжо тут даў [бы] іх да перакладу і скіраваў-бы ў адпаведнае месца да друку. Ганарар, ясна, па надрукаваньні працы быў-бы таксама загварантаваны. Ці ня могбы нешта ў гэтай галіне прыгатаваць дацэнт Шымерка? Ці можа яшчэ нешта пісаць прафэсар [Мікалай] Нікольскі[39]?

Ці робіцца нешта ў справе паездкі П[ётры] Мірановіча[40] для мастацкіх студыяў у Беларусі?

Я для “Раніцы” (і эвэнтуальна для іншых выдавецтваў) патрабую часта розныя зьнімкі з працы менскага Беларускага Тэатру, перадусім сцэны зь беларускіх твораў, як “Купальле”, “Лясное возера”, фатаграфіі артыстых у розных ролях і г. д. Ці ня можна было-б наладзіць перасылку мне час-ад-часу падобнага ілюстрацыйнага матар’ялу? Можа пагавары-

---

[39] **Мікалай Нікольскі** (1877—1959), гісторык, усходазнаўца, дасьледнік гісторыі рэлігіі. Падчас нямецкай акупацыі заставаўся ў Менску, быў зьвязаны з савецкімі партызанамі, у 1943 г. вывезены ў партызанскую зону.

[40] **Пётра Мірановіч** (1902—1990), мастак. Вучыўся й да эміграцыі працаваў у Латвіі. З 1950 г. жыў у Нью-Ёрку.

це пра гэта з дырэктарам тэатру ці з кім іншым, ад каго гэта залежыць. Здараюцца магчымасьці рэпрадукцыі падобных зьнімкаў і ў нямецкіх часапісах. Не зашкодзіў-бы і артыкул “Новы беларускі тэатар у Менску”.

Зь беларускім прывітаньнем!

В[ітаўт] Тумаш

Паклоны знаёмым.

***

Дарагі мой сябра!

Доўга ўжо нашу ў кішані Вам ліст, даўно ўжо зьбіраюся Вам адказаць, але са мной дзеецца нешта паскуднае: не магу ўзяцца за пяро. Ня толькі каб “драмы пісаць”, але нават каб адказаць на звычайны ліст. А Ваш ліст гэткі сымпатычны, дадаў мне гэтулькі веры ў беларускую справу, збудзіў гэтулькі ўспамінаў, што мая сьвінская маўчанка мучыла мяне страшэнна. Але нарэшце сягоньня я пераламаў сябе: акутаўся ў паліто (вясна нешта не сьпяшаецца), сеў за стол і — пішу.

Роля, якую адыграў у Вашым жыцьці (тады, калісь, перад сваім ад’ездам зь Менску гаворачы з Вамі і даючы Вам кніжкі), я думаю, можа больш вартасная за ўсе мае “драмы”. І наогул у час сьвяткаваньня майго юбілею я ня мог неяк настроіцца на паважны лад, мне ўсё здавалася, што ўсё гэта нейкія жарты, а можа, кпіны. Пасадзілі мяне на задрапіраваным крэсьле, за сталом селі паважныя людзі і пачалі нешта казаць. І ўсе зьвяртаюцца да мяне, усё кажуць, што я *“не шкадуючы сваіх сілаў працаваў для Беларусі”*, што беларускае грамадзянства *“ўдзячна мне за маю творчасьць”* і г. п. Я тады думаў: *“Ну, няма рады, трэба рабіць беларускую патрыятычную дэманстрацыю, калі не юбілей Аляхновіча, дык трэба было-б прыдумаць нешта іншае, каб падняць настрой”* і г. д.

Бо-ж, узапраўды, што я напісаў?! (Ня думайце, што гэта фальшывая скромнасьць. За Ваш шчыры ліст я адказваю яшчэ шчырэйшым.) У агульнай суме — выбачайце — гаўно. Адно “На Антокалі”[41] больш-менш чагосьці вартае. (Між намі кажучы, на менскай сцэне пастаўлена ня так, як я-бы хацеў. Шмат прапала, шмат недасказана, а ўсё гэта магло-б быць, каб я меў магчымасьць перад рэпэтыцыямі пагутарыць з акторамі, растлумачыць ім неясныя для іх рэчы). (<u>Але не кажэце ім аб гэтым!</u>)

Але, “На Антокалі” я люблю і лічу, што толькі гэтая адзіная п’еса дае мне права да тытулу “пісьменьніка”. А люблю гэту п’еску яшчэ дзеля таго, што гэта кавалак майго собскага жыцьця, што Юзюк — гэта <u>я</u>, што Зоська гавора аўтэнтычнымі словамі іншай “Зоські”...

Але вось прыйшоў мамэнт (на гэтым юбілею), калі я ўзварушыўся, усхваляваўся. Гэта тады, калі я сам прамаўляў...

---

[41] **“На Антокалі”** — трохактавая п’еса Францішка Аляхновіча, упершыню пастаўленая ў Вільні ў 1916 г.

*"...у жыцьці чалавека бывае зіма... З тою розьніцай, што пасьля гэтай зімы вясна ўжо ня прыйдзе... Канец — закрыцьцё бухгальтэрскай кнігі — апошні акт..."*

І тады я ўявіў сабе выразна, з поўным трагізмам той факт, што мне ўжо ўзапраўды стукнула ўжо 60 гадоў, што гэтыя людзі гавораць мне гэтыя прыгожыя словы не Аляхновічу ўчорашняга дня, а Аляхновічу, які сядзіць тут на задрапіраваным крэсьле і гуляе апошні акты свае драмы.

Брр!.. Але наплевать! Галоўнае, каб гэты "апошні акт" згуляў з гумарам, без страха, без кісьляціны-размазьні...

xxx

Гэты (што я пішу цяпер да Вас) ліст штурхануў мяне ў кірунку пісаньня. Сягоньня засёду за сваю "Сьмерць у палоне" (а можа, "Сьмерць у мяшку", яшчэ ня ведаю) (гэтак будзе называцца мая п'еса), наклёвываецца ў галаве повесьць з часоў Грамады, маю ў галаве пару салавецкіх бэлетрыстычных абразкоў, хачу даць крыху ўспамінаў са сваіх дзіцячых гадоў...

У галаве ёсьць шмат тэмаў, толькі трэба ўзяцца... А галоўнае — гэты праклятый самакрытыцызм. Цяпер мне трудней пісаць, чымсь калісь, бо цяпер больш вымагаю ад сябе, і здаецца мне, што выйдзе гаўно.

xxx

О, даўно ўжо я не пісаў гэткага ліста. З боку даўжыні і з боку шчырасьці. Ваш ліст настроіў мяне гэтак. Цяпер ляжыць ён тут побач зь левага боку, час ад часу заглядаю, перачытваю пару сказаў, і робіцца са мной гэтак, як тады на трыбуне, у дзень юбілею... Нейкі камок цісьне мяне ў горле... Гэта расчуленьне, і радасьць, што я, сам ня ведаючы аб гэтым, быў Вашым "хросным бацькам" беларускім...

Сягоньня я пішу ўжо другі ліст. Першы — да свайго сына ў Францыю. Пісаў таксама шчыра, як бацька да сына. Але я думаю, што ён мяне гэтак не зразумее, не адчуе, як Вы. Там — у мяне зь ім розныя нацыянальныя ідэалы, а ў нас з Вамі супольная бацькаўшчына, адна беларуская справа, адны злыбяды, і радасьці, і надзеі...

Канчаю, даражэнькі мой Адамовіч, і па-бацькоўску прыціскаю Вас да сваіх грудзёў, як сына.

Ваш Ф[ранцішак] Аляхновіч

P. S. Цяпер, перад высылкай ліста, прачытаў — і прашу Вашага прабачэньня, што гэтак пішу, гэткімі недасказанымі, чорт ведае як пабудаванымі фразамі. Але, па-мойму, словы — гэта глупства, галоўнае — настрой, а настрой мой сантымэнт да Вас — вось што хачу, каб Вы адчулі...

Вы гэта адчуеце, я ведаю.

Ф[ранцішак] А[ляхновіч]

6.V.1943
Вільня

***

Раніца
Беларуская газэта ў Нямеччыне

*Berlin*, 23.5.1943

Вельмі Паважаны Рэдактару!

Калі наагул зможа выйсьці зборнік [Натальлі] Арсеньневай — ня ведаю. Як Вы ўжо знаеце, “фюрэр” [Іван] Ермачэнка падчас Каляд нашаму выдавецтву ў Празе ўзваліў на дарозе такі камень, што тымчасам нічога там ня можна выдаць. А іншага месца для гэтага тымчасам (да выдаваньня нечага) не ўдалося асачыць. Наагул кожны прыезд [Івана] Ермачэнкі — прыносіць новыя “вычыны”. Цяпер ён пры помачы нейкага немца (быццам ад *Ostministerium*[42]) гвалтам адабраў ад Л[арысы] Генiюш ключы ад архіваў пасьля нябошчыка [Васіля] Захаркі[43]. Архівы гэтыя важныя тым, што там захаваныя многія дакумэнты зь першых эміграцыйных гадоў працы ўраду БНР.

Я тымчасам далей гатую ўсё-такі “Жоўтую восень” да друку. Цяпер заказаў для яе вокладку (праект) у мастака Дрэмы[44] ў Вільні. Калі яна выйдзе — трудна сказаць, але прыгатаваная да друку будзе цалком. Кніжку [Міколы] Шчаглова таксама атрымаў. Зь ёю тая самая справа, што й з “Жоўтай восеньню”.

Ці ўдасца раздабыць нешта з Гаўптмана[45] (і з кніжкамі цяпер тут цяжка), ня ведаю. Калі толькі нешта будзе — атрымаеце ад вашых тут “журналістых”.

Зь беларускім прывітаньнем!

В[ітаўт] Тумаш

***

25.VIII.43

Добры дзень, Рэдакцыя.

Сёньня я закрану колькі пытаньняў адносна культуры мовы. Дзеля гэтага зварачваюся да “Беларускае газэты”. Даводзіцца зрабіць

[42] ***Ostministerium*** — Міністэрства акупаваных усходніх тэрыторыяў на чале з Альфрэдам Розэнбэргам (*Alfred Ernst Rosenberg*), створанае 17 ліпеня 1941 г.

[43] **Васіль Захарка** (1877—1943), грамадзка-палітычны дзеяч, у 1918—1919 і 1923—1925 гг. — міністар фінансаў БНР, з 1928 да 1943 гг. — прэзыдэнт Рады БНР. З 1923 г. жыў у Празе.

[44] Відаць, маецца на ўвазе **Владас Дрэма** (літ. *Vladas Drema*, 1910—1995), літоўскі мастак, музэйны работнік, мастацтвазнаўца.

[45] **Гергарт Гаўптман** (ням. *Gerhart Johann Robert Hauptmann*, 1862—1946), нямецкі драматург, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры 1912 г. Натальля Арсеньнева пераклала ягоную казачную драму “Затонуты звон”.

закід, здаецца, у гэтым выпадку справядлівы. У "Беларускай газэце" за 14 жніўня 43 г. № 61 у артыкуле "Культурнае жыцьцё ў Наваградку" я сустрэў слова, здаецца, жыўцом адарванае ад расейшчыны. У сказе — *"2 залі зьмяшчаюць вучнёўскія працы з рысаваньня й чарчэньня"* — трэба разгледзіць, ці слова *"чарчэньне"* зьяўляецца беларускім. Яно анічым ня розьніцца ад расейскага *"черчение"*. Дзеля таго мой прысуд, здаецца, справядлівы. Нічога не магу сказаць, як-бы гэта сказаць па-беларуску. Няхай аб гэтым падумаюць нашыя матэматыкі, бо гэта іхны тэрмін. У народнай мове такое слова ці знойдзеш? Калі ўтварыць ад гэтага слова інфінітыў, дык атрымаецца *"чарціць"*, з гэтага слова тады не адзін пасьмяецца, таму што яно вельмі набліжанае да слова *"чорт"*.

Яшчэ адно. Ці ёсьць у нашай літаратурнай мове словы — *"ізручнік"* і *"ручасьцік"*, якія сустракаюцца ў Дзісеншчыне? Пытаюся таму, што я ніколі іх там не сустракаў.

Ізручнік — два гаршкі з аднэй ручкай.

Ручасьцік — гаршок з ручкай.

Прашу застанавіцца над гэтымі пытаньнямі.

Зьмяшчаю адначасна адзін верш.

Жылі, жывём і будзем жыць.

Жылі, жывём і будзем жыць,
Ніхто нам тут не запярэчыць,
Калі-ж хто хоча дурнем быць,
Няхай гаворыць не дарэчы.

Я ведаю — я беларус.
Кахаю брацьцяў і краіну,
І калі стрэну зноў прымус,
У вабароне праўды згіну.

Ніхто нам вольнасьці ня дасьць,
Калі мы самі не здабудзем,
І беларус жыцьцё аддасьць,
Каб жыў наш брат, як жывуць людзі.

Жылі, жывём і будзем жыць,
Ніхто нам тут не запярэчыць,
Калі-ж хто хоча дурнем быць,
Няхай гаворыць не дарэчы[46].

---

[46] Ліст і верш не падпісаныя.

## Унікальныя сьведчаньні гісторыі

*Карціць сказаць “дзякуй” аўтару ці аўтарам за па-сапраўднаму добра, месцамі нават літаратурна, з назіральнасьцю й падрабязнасьцю, напісаныя — як бы назваць гэты жанр? — неабыякавыя сьведчаньні з нашае гісторыі. От толькі імёны тых дабрадзеяў сама гісторыя не захавала, а шкада.*

*Зрэшты, відавочна, у выдрукаваных дакумэнтах два розныя аўтары, хоць абое нібыта беларусы, калі глядзець на мову; а пісалі для свайго вышэйшага начальства — расейскамоўнага, якому трэба было тлумачыць элемэнтарнае (“Беларуская хатка” — “Белорусский домик”). Было б важна высьветліць, хто яны дакладна, каб ведаць, наколькі пададзенаму імі можна ці нельга верыць, але наўрад гэта рэальна.*

*Аўтарам другога тэксту цалкам можа быць Рыгор Мурашка ці прынамсі чалавек зь ліку падначаленых Антону Адамовічу ў выдавецтве: на гэта паказвае й веданьне працоўнай “кухні”, і звыклая “любоў” падначаленага да свайго шэфа, незалежна ад сьцягоў на вуліцы. Зьвяртае на сябе ўвагу блізкасьць аўтара да Адамовіча: надта ж падрабязнае апісаньне разьмяшчэньня ягонай кватэры.*

*Аўтар першага (ня толькі паводле разьмяшчэньня ў публікацыі, але, думаецца, і паводле часу напісаньня) дакумэнту — чалавек вялікага пісьменьніцкага таленту… або ўсё напісанае ім зробленае на падставе таленавітых сьведчаньняў — Кузьмы Чорнага, Нічыпара Чарнушэвіча, Алеся Кучара, Петруся Броўкі, на якіх спасылаецца ў тэксьце. Дзе й пры якіх умовах тыя сьведчаньні былі занатаваныя, бадай што відавочна, от час, зноў жа, пад пытаньнем. Кузьма Чорны, напрыклад, у 1941—1944 гг. быў у эвакуацыі, пераважна ў Маскве: ці там яго пыталі пра Адамовіча, ці там ён выказваў сваё зьдзіўленьне фактам супрацы Адамовіча з фашыстамі? Да Нічыпара Чарнушэвіча, які з 1941 г. жыў у Цюмені, дацягнуліся таксама, ці ягоныя сьведчаньні былі запісаныя раней, калі той праходзіў у справе “Саюзу вызваленьня Беларусі”?*

*Надзвычай цікавыя й важныя для нас старонкі, прысьвечаныя Белпэдтэхнікуму. Трэба думаць, яны таксама скампіляваныя з ранейшых паказаньняў, бо ня мог аўтар дакумэнту, у такіх падрабязнасьцях быццам ведаючы былое, назваць Адамовіча “рэдактарам «Узвышша»”. Але зноў жа зьвяртае на сябе ўвагу факт, наколькі тыя людзі, што сьведчылі, былі блізкія да яго — да веданьня дэталяў працы, побытавых дробязяў. А згадка пра два спадачкі на Адамовічавым стале прымушае задумацца: мо аўтар таксама асабіста ведаў яго ў студэнцкія часы (пра знаёмства па вяртаньні таго з высылкі сам кажа напрыканцы дакумэнту), быў у ягонай хаце, бо надта ж маляўнічая дэталь, якую наўрад пачуеш на допытах?*

*Магчыма, аўтары ніколі ня знойдуцца, ну й тае бяды. Галоўнае — нам засталіся сьведчаньні пра чалавека, установу, пра час, даваенны й ваенны, зь якімі гісторыку можна й трэба працаваць.*

***

Антон Александрович[47] Адамович

по домашнему просто Тоня, среди приятелей — Антось и за глаза — Антошка. Светлые прямые волосы, редкие, тщательно приглаженные водой, так что пробор остается в течение всего дня. Серые, несколько водянистые глаза на треугольном лице, большой острый нос, тонкие губы, мелкие зубы в нижней челюсти, длинные пальцы с низкообрезанными ногтями. Ходит быстро, немного наклонившись вперед, походкой заводной куклы. Говорит в беседе не громко, но тенорок с хрипотцой становится резким и неприятным на трибуне, в аудитории особенно, когда он старается подчеркнуть мысль. Одевается просто и небрежно: косоворотка, брюки на выпуск, шинель или легкое пальто. Чистоплотен и аккуратен до педантичности: одежда весьма чиста, носится подолгу, книги без пометок, безукоризненной сохранности; почерк резкий, косой, с влиянием готического и греческого шрифтов одновременно. В еде умерен и невзыскателен; пьет редко, хотя при случае может выпить много не хмелея. Во время работы на столе: одно блюдечко с маленькими ломтиками соленого огурца — для себя и другое с несколькими каплями алкоголя — для мух: любит наблюдать, как они пьянеют и вытрезвляются.

Родился [Антон] Адамович в 1909 году, окончил в 1924 году I-ю семилетнюю школу в Минске, в том же году поступил в Белорусский Педагогический техникум и по окончании его был зачислен на 2-й курс Минского Университета, где учился по день ареста в 1930 г.

В Минске жил на Гарбарной (Кожевенной) улице. На имя бабушки было записано два ветхих деревянных дома, которые затем отошли в ведение комхоза.

Мать Адамовича[48] домашняя хозяйка, полька. В доме часто слышался польский язык, особенно при обращении к бабушке.

Сам [Антон] Адамович родился вне брака, фамилия его отчима Ивашкевич[49]. Это банковский служащий, сухой, желчный человек, мелочный, придирчивый. Относился к [Антону] Адамовичу плохо, режим в доме был строгий, выход и возвращение регламентированы. Ивашкевич говорил только по-русски, бывавших у Адамовича начи-

[47] Закрэсьлена, напісана зьверху асадкаю: Евстафьевич.

[48] **Паліна Івашкевіч** (1874—1959), маці Антона Адамовіча.

[49] **Аляксандар Івашкевіч** (1881—1968), айчым Антона Адамовіча.

нающих писателей ([Петро] Глебко[50], [Сергей] Дорожный[51], [Виктор] Козловский[52]) третировал и не скрывал перед ними антисоветских взглядов. К белорусскому языку и литературе относился презрительно, свысока. Отношения улучшились после того, как [Антон] Адамович стал членом литературного об'единения "Узвышша"[53], начал печататься, приносить в дом деньги. Отчим начал в разговоре употреблять белорусские слова, а затем и говорить по белорусски. Еще лучше стали отношения во время ссылки и затем после возвращения [Антона] Адамовича в Минск.

Первую националистическую закваску [Антон] Адамович получил в клубе "Белорусская хатка"[54] (Белорусский домик) — 1918—1922 гг., который являлся пунктом сосредоточения националистических сил.

В кружки этого клуба привлекались школьники и молодежь разных возрастов. В частности, там начал писать Андрей Александрович, там пели в хоре Антон Адамович и его ближайший друг Арсений Дэкер, умерший в 1938 году.

Дальнейшее формирование [Антона] Адамовича как националиста продолжалось в Белорусском Педагогическом техникуме. Преподавательский состав техникума был набран из бывших белорусских с[оциалистов-]р[еволюционеров][55] и "деятелей" БНР. Шефом техникума был В[севолод] М[акарович] Игнатовский[56], директором Корженевский, а затем [Михаил] Рыдзевский[57], преподавателями — [Язеп]

---

[50] **Пятро Глебка** (1905—1969), паэт, драматург, перакладчык, акадэмік АН БССР.

[51] **Сяргей Дарожны** (сапр. **Серада**, 1909—1943), паэт, перакладчык. У 1936 г. арыштаваны, прысуджаны да 8 гадоў зьняволеньня. Загінуў у зьняволеньні.

[52] **Віктар Казлоўскі** (1905—1975), паэт, перакладчык, аднагрупнік Антона Адамовіча.

[53] **"Узвышша"** — літаратурнае аб'яднаньне, якое існавала ў БССР у 1926—1931 гг., выдавала аднайменны часопіс.

[54] **"Беларуская хатка"** — клюб беларускай мастацкай інтэлігенцыі (1916—1920), прапагандаваў беларускае тэатральнае музычнае мастацтва, спрыяў стварэньню беларускага дзяржаўнага тэатру.

[55] Маюцца на ўвазе сябры **Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў** — палітычнай партыі ў 1918—1924 гг.

[56] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), гісторык, грамадзка-палітычны дзеяч. Першы прэзыдэнт Інстытуту беларускай культуры. Дырэктар Інстытуту гісторыі, першы прэзыдэнт БелАН (з 1928 г.). Ахвяра палітычных рэпрэсіяў. Скончыў жыцьцё самагубствам.

[57] **Міхаіл Рыдзеўскі** (1885—1937), пэдагог. Пры канцы 1920-х — на пачатку 1930-х быў дырэктарам менскага Белпэдтэхнікуму.

Лесик, [Николай] Азбукин[58], [Михайло] Громыко[59], [Константин] Мицкевич[60], [Михайло] Пиотухович[61], И[ван] Белькевич[62]. Техникум как центр формирования молодежных кадров был в центре внимания националистов из Наркомпроса, Инбелкульта (Институт Белорусской культуры), из писательской среды. На литературные вечера техникума приходили — Цишка Гартный (Дм[итрий] Жилунович)[63], М[ихась] Чарот[64], В[ладимир] Дубовко, М[ихась] Зарецкий[65]. В техникуме в то время учились А[ндрей] Александрович, А[лексей] Якимович[66], П[авлюк] Трус[67], Н[аталья] Вишневская[68], З[инаида] Бандарина[69], П[етро] Глебко, С[ергей] Дорожный, В[иктор] Козловский. Такое обилие начинающих литераторов давало повод сравнивать техникум с царскосельским лицеем и вспоминать о пушкинской плеяде.

В техникуме выделялась группа националистов, студентов старших классов: Владимир Мурашко[70], Антон Мятельский[71], Дмитрий Дунько[72]. К этой группе вскоре после поступления в техникум и примкнул

---

[58] **Мікола Азбукін** (1894—1943?), географ, краязнаўца, публіцыст, дзеяч беларускага нацыянальнага руху.

[59] **Міхайла Грамыка** (1885—1969), празаік, паэт, геоляг, пэдагог.

[60] Маецца на ўвазе Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас), які чытаў у Белпэдтэхнікуме курс мэтодыкі выкладаньня беларускай мовы.

[61] **Міхайла Піятуховіч** (1891—1937), літаратуразнаўца, пэдагог.

[62] **Янка Бялькевіч** (1883—1960), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца, пэдагог.

[63] **Цішка Гартны** (сапр. **Зьміцер Жылуновіч**, 1887—1937), пісьменьнік, паэт, перакладчык, грамадзкі й дзяржаўны дзеяч.

[64] **Міхась Чарот** (сапр. **Кудзелька**, 1896—1937), паэт, драматург, празаік, публіцыст.

[65] **Міхась Зарэцкі** (сапр. **Міхаіл Кусянкоў**, 1901—1937), пісьменьнік, крытык, перакладчык.

[66] **Алесь Якімовіч** (1904—1979), дзіцячы пісьменьнік, перакладчык.

[67] **Паўлюк Трус** (1904—1929), паэт.

[68] **Натальля Вішнеўская** (1907—1989), паэтка, рэдактарка.

[69] **Зінаіда Бандарына** (1909—1959), пісьменьніца, перакладчыца.

[70] Магчыма, маецца на ўвазе **Ўладзімер Мурашка** (1902—?), які быў арыштаваны ў 1930 г., а ў 1931 г. асуджаны да 5 гадоў пазбаўленьня волі.

[71] **Антон Мяцельскі** (1905—1938), пэдагог. Скончыў менскі Белпэдтэхнікум. Працаваў выкладчыкам у Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Арыштаваны ў 1938 г. і прысуджаны да расстрэлу.

[72] **Дзьмітрый Дунько** (1904 — пасьля 1941), пэдагог. Скончыў менскі Белпэдтэхнікум. Настаўнічаў у Рэчыцы. Паступіў у БДУ, але ў 1930 г. арыштаваны,

[Антон] Адамович. От писателей он держался в стороне, критические наклонности тогда еще не определились, а “деятельность” сводилась к борьбе указанной группы с комсомольской организацией за печать, органы самоуправления и руководство кружками.

Эта группа своим вдохновителем имела Я[зепа] Лесика и будущее свое видела в возможности быть языковедами, общественными деятелями лесиковского типа. Однако к началу 1925 г. [Антон] Адамович после одобрительных отзывов проф[ессора] [Михайла] Пиотуховича о его рефератах начинает работать над собой как над критиком и становится центром начинающих писателей своего курса ([Петро] Глебко, [Сергей] Дорожный, [Наталья] Вишневская, [Виктор] Козловский, Жук, Дубицкий). Без его одобрения не печаталось и не читалось публично ни одно произведение указанных лиц, его квартира была местом сбора их. Там читались стихи, готовились разнородные доклады, обсуждались различные вопросы. Ближайшим приятелем [Антона] Адамовича в то время был Михаил Игнатовский[73].

Распространение влияния [Антона] Адамовича не ограничивается указанной группой молодых писателей. Он заставляет прислушиваться к себе сначала свой курс, а затем и вообще студенчество техникума. Это об’ясняется[74] хорошей успеваемостью по всем дисциплинам, отличным знанием белорусского языка, недюжинными способностями и памятью, общим развитием и начитанностью. Доклады и рефераты [Антона] Адамовича всегда ставились в пример и хотя на курсе было много способных студентов, но ни один из них не был развит так всесторонне. С одной стороны — это объясняется тем, что некоторые студенты сознательно сужали круг интересовавших их предметов, а с другой — в преуспевании [Антона] Адамовича, как выяснилось позже, было некоторое передергивание. Он располагал библиотекой В[севолода] М[ихайловича] Игнатовского и своей. Это высвобождало у него большой резерв времени, затрачиваемый студентами на библиотеку. Этот резерв он употреблял на подчитывание по программам курса вперед, что позволяло ему сидеть на лекциях с видом знатока и подсказывать преподавателям имена, года, термины. Репутацию всезнайки Адамович тщательно оберегал и стремился всячески поддерживать.

Привлекала к [Антону] Адамовичу и его “бывалость”. Зимние и летние каникулы он часто проводил у своего дяди Сергея Решетова в Москве. Однокурсники [Антона] Адамовича, крестьянские девушки и парни, в возрасте 16—18 лет, целыми вечерами благоговейно слушали

---

у 1931 г. асуджаны да 5 гадоў пазбаўленьня волі. Высланы ў Глазаў, потым у Вятку. У 1938 г. арыштаваны паўторна, прысуджаны да 10 гадоў лягераў.

[73] **Міхаіл Ігнатоўскі** — малодшы сын Усевалада Ігнатоўскага.

[74] Так у арыгінале.

его рассказы о Москве, о Художественном[75], о Третьяковке и пр. Эти рассказы неизменно заканчивались словами — *“А все-таки у нас дома лучше. Нет ничего в мире лучше нашей песни, нашего языка, наших сел и городов”*.

Все это выделяло [Антона] Адамовича из студенческой среды и обеспечивало распространение его влияния.

В описываемый период БССР состояла из числа — Минского, Слуцкого, Борисовского и Могилевского уездов. Западные области отошли к Польше, а граница РСФСР была уточнена позже, при укрупнении БССР за счет Гомельщины и восточных районов.

Националисты разжигали настроение и создавали шумиху, главным образом в вопросе о территории.

География Белоруссиия в учебнике географии А[ркадия] Смолича[76] рассматривалась в этнографических границах, которые чрезвычайно смахивали на польское — *“от моря и до моря”*. История Белоруссии излагалась [Всеволодом] Игнатовским как борьба белоруссов с Москвой, закончившаяся поражением БНР. Литература Белоруссии одним пальцем грозила Варшаве, а другим Москве, она была полна шовинистическими выступлениями в прессе, в аудиториях. [Янка] Купала проклинал *“тых, хто прычыніўся нашаму падзелу, на кускі парваўшы маці роднай цела”* (*“тех, кто участвовал в нашем разделе, разорвавши на куски тело родной матери”*).

Культ прошлого, посконья, вышитой одежды, культ существовавших и вымышленых героев, лозунги о бесклассовости Белоруссии, отталкивание всего русского (*“хоть гірш, абы інш”* — *“пусть хуже, но иначе”*) — вот отличительные черты нацдемовщины того периода. Все это сваливалось на молодежь техникума ежедневно, ежеминутно, и она вырастала, считая оскорблением небелорусское слово, подпись, она была готова оскорбить человека, заговорившего на улице по русски, вышвырнуть его из магазина, учреждения. Среди этой молодежи [Антон] Адамович занимал первое место. Он обрывал студентов на лекциях за малейший дефект языка, он кричал о том, что комсомольская ячейка — позорище техникума, так как резолюции пишутся неграмотно по белорусски, он был крайне нетерпимым и непримиримым шовинистом. У него на квартире начинающие писатели ([Петро] Глебко, [Сергей] Дорожный, [Виктор] Козловский) и вообще однокурсники знакоми-

---

[75] Маецца на ўвазе **Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатар (МХАТ)** — драматычны тэатар, заснаваны ў 1898 г. К. Станіслаўскім і Ў. Неміровічам-Данчанкам (да 1919 г. — Маскоўскі мастацкі тэатар).

[76] **Аркадзь Смоліч** (1891—1938), дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня, навуковец у галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, геаграфіі. Рэпрэсаваны.

лись с прессой и литературой времени *“незалежности Белоруссии”*, поставлявшейся из библиотеки [Всеволода] Игнатовского.

После прочтения той или иной статьи — он и [Всеволод] Игнатовский начинали разговоры о *“слаўным минулым бацькаўшчыны”* (славном прошлом родины) и неизбежно о *“русском засилье”*. Упор делался на круг следующих вопросов:

Почему Москва отдала полякам западные области?

Почему Москва забрала Смоленск и Псков?

Почему секретарь ЦК КП(б)Б — русский?

Зачем в Минске еврейская и русская газеты?

Почему в городе слышна русская речь?

Почему существует только одна белорусская дивизия, да и то без национальной формы?

Почему запрещены белорусский флаг и герб?

Поводом для возобновления таких разговоров служили всевозможные мелочи: неправильно произнесенное или русское слово, вывеска с орфографической ошибкой итд.

К 1926—1927 г. относится сближение [Антона] Адамовича с [Адамом] Бабареко и [Владимиром] Дубовко и вступление в литературное об’единение “Узвышша”.

Рамки единой в то время литературной организации “Молодняк”[77] не удовлетворяли националистов и для получения новой трибуны, печатного органа были созданы “Узвышша”, а затем “Полымя”[78]. В “Узвышша” вошли: [Владимир] Дубовко, [Язеп] Пуща[79], [Адам] Бабареко, [Кузьма] Черный, [Василь] Шашалевіч[80], [Змитрок] Бядуля (вне организации) и молодежь [Павлюк] Трус, [Петро] Глебко, [Сергей] Дорожный, [Максим] Лужанин[81], [Антон] Адамович (вне организаций).

[Антон] Адамович не выходил из квартиры [Адама] Бабареко — дома были напротив. Там он и познакомился с [Владимиром] Дубовко, с которым сошелся на зимних каникулах 1926—1927 гг. в Москве.

---

77 **“Маладняк”** — найбольш маштабнае літаратурнае аб’яднаньне, якое існавала ў БССР у 1923—1928 гг., налічвала да некалькіх сотняў сябраў. У 1928 г. было рэарганізаванае ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў.

78 **“Полымя”** — літаратурнае аб’яднаньне, якое існавала ў БССР у 1927—1932 гг. У склад яго ўваходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гурло, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Алесь Ляжневіч і інш. З часу заснаваньня вяло жорсткую палеміку з узвышэнцамі.

79 **Язэп Пушча** (сапр. **Плашчынскі**, 1902—1964), паэт, крытык, перакладчык.

80 **Васіль Шашалевіч** (1897—1941), паэт, празаік, драматург.

81 **Максім Лужанін** (сапр. **Аляксандр Каратай**, 1909—2001), паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык.

[Владимир] Дубовко познакомил [Антона] Адамовича с Пецюкевичем, Х. Калиновским, [Климентом] Яковчиком[82] и Березко. Из Москвы [Антон] Адамович приезжает еще более нетерпимым и непримиримым националистом.

В разговорах, затрагивающих указанный выше круг вопросов, [Антон] Адамович говорит о необходимости противопоставить *"русскому засилью" — "нечто свое"*, организацию, которая имела бы *"своих людей"* во всех учреждениях БССР. Целью этой организации должна была явиться *"защита интересов Белоруссии, борьба за ее культуру, против всего русского"*.

Для того, чтобы обсудить формы работы, найти точки опоры, в конце мая либо в начале июня 1927 г. на квартире [Петра] Глебко собрались — [Петро] Глебко, [Максим] Лужанин, Рогачевский; [Антон] Адамович не пришел, хотя сходка собиралась по его инициативе, отговорившись тем, что не нашел квартиры. Также держится [Антон] Адамович и в дальнейшем: протягивая везде руку со спичкой, он старается остаться в темноте, не показать своей руководящей роли. Он сближается с Рогачевским, квартира которого становится место[м] сбора техникумцев ([Франц] Гинтовт[83], [Алексей] Старовыборный, [Лукаш] Калюга[84], [Сергей] Острейко[85]) и через него влияет на техникум. Он редактирует и направляет техникумский журнал через [Лукаша] Калюгу и [Франца] Гинтовта. Он предоставляет резкие выпады и выступления в Университете своим подручным — Лущицкому и Селедчику. Держится замкнуто, не реагируя ни на великодержа[в]нические, ни на националистические выпады, вокруг которых в Университете происходила большая встряска. В это время (1928 г.) он пишет монографию о М[аксиме] Горецком[86], сближается з проф[ессорами] [Иваном] Замотиным[87] и [Александром] Вознесенским[88] и кажется занятым академической работой.

---

[82] **Клімент Якаўчык** (1898—1941), паэт, перакладчык, крытык. З 1918 г. жыў у Расеі.

[83] **Франц Гінтаўт** (1910—2002), пісьменьнік, біёляг, пэдагог.

[84] **Лукаш Калюга** (сапр. **Канстанцін Вашына**, 1909—1937), празаік, перакладчык.

[85] **Сяргей Астрэйка** (1913—1937), паэт, перакладчык.

[86] **Максім Гарэцкі** (1893—1938), пісьменьнік, крытык, літаратуразнаўца, лексыкограф, фальклярыст.

[87] **Іван Замоцін** (1873—1942), літаратуразнаўца, прафэсар Менскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту. У 1931—1933 гг. дырэктар Інстытуту літаратуры Акадэміі навук Беларусі.

[88] **Аляксандр Вазьнясенскі** (1888—1966), расейскі філёляг, адзін з заснавальнікаў акадэмічнай тэорыі літаратуры ў Беларусі. Выкладчык (1921—1930) і прафэсар БДУ (1927—1930).

Работу о М[аксиме] Горецком он начинает с целью приблизить этого писателя к читателям, сделать его более популярным, подчеркнуть и вскрыть в легальных рамках так называемую самобытность, националистическую сущность. Указанная монография имела материалистический лоск — дело не обошлось без соответствующих цитат и реверансов — и оказалась стоящей на уровне современного литературоведения. Критика этой работы заметила лишь *“ошибки методического характера”*, пройдя мимо общей порочности идеалистической сущности и националистической направленности. В общем работа имела успех, так как пером [Антон] Адамович владеет бойко, мысли излагает связно, в меру вуалируя их. Однако, говорит он гораздо лучше, без шпаргалок, на любую тему, создавая впечатление экспромтности выступления. Все же каждому выступлению предшествует тщательная подготовка с произнесением речи перед зеркалом.

Университетские годы заняты публикацией статей, рецензий, участием в редактировании журнала “Узвышша”, влиянием на техникумовскую молодежь. Однако, [Антон] Адамович не выступает ни на однм из диспутов, выяснявших политическую физиономию “Узвышша”, хотя на внутренних собраниях мечет гром и молнию. При русском расколе “Узвышша” примыкает к правому крылу ([Владимир] Дубовко, [Адам] Бабарека, [Язеп] Пушча), стоявшему за правильность первоначальной позиции и установок, являвшихся насквозь националистическими.

В 1930 г. [Антон] Адамович был арестован и выслан на 5 лет в Глазов. Там же были [Адам] Бабареко, Н[ичипор] Чернушевич, В[ладимир] И[ванович] Пичета[89] и позже [Владимир] Дубовко. В 1935 г. срок ссылки [Антону] Адамовичу был увеличен на 2 года.

По словам Н[ичипора] Чернушевича, [Адамович] Адамович в ссылке работал в школе, занимался немецким и историей. Здесь меняется его отношение к женщинам: он дважды женится и становится, как говорит [Ничипор] Чернушевич, “бабником”. Ранее к женщинам он относился ~~предупре~~ полупрезрительно, полуснисходительно. За шесть лет (1924—1930) не замечено сколько-нибудь заметной встречи, если не считать дружбы и переписки со своей однокурсницей Пашученко. Пожалуй, и это знакомство поддерживалось лишь для того, чтобы не служить мишенью острот по поводу монашеского образа жизни.

Весть о возвращении [Антона] Адамовича в Минск принесла Н[ина] Белькевич, жена [Петра] Глебко, к которому он пришел сразу

[89] **Уладзімер Пічэта** (1878—1947), гісторык, археоляг, пэдагог, заслужаны прафэсар БССР, акадэмік АН БССР.

же после приезда. [Нина] Белькевич охарактеризовала [Антона] Адамовича совершенно не изменившимся. [Антон] Адамович делал шаги к сближению с [Петром] Глебко, [Петрусем] Бровко, [Алесем] Кучером, [Кузьмой] Черным, [Кондратом] Крапивою[90]. У [Петра] Глебко и [Алеся] Кучера бывал дома. [Алесь] Кучер давал ему на просмотр свои статьи и получал одобрительные отзывы. На приглашение [Алеся] Кучера начинать работать, ответил отрицательно, отговорился тем, что отстал и вообще писал, отдавая дань молодости. Однако дядя [Антона] Адамовича — артист [Генрих] Григонис[91] — неоднократно просил [Алеся] Кучера привлечь [Антона] Адамовича к литературной работе.

[Алесю] Кучеру [Антон] Адамович показался неискренним, преследующим во встречах какую-то цель.

[Кузьма] Черный и [Петрусь] Бровко, часто встречающиеся с [Антоном] Адамовичем, отмечают ту же неискренность, но недоумевают, как он дошел до столь глубокого падения, как служба немцам при своем уме и способностях.

*“Сказать, что он служит из-за куска хлеба,* — говорит [Кузьма] Черный, — *нельзя, так как очень здорово он берется за свое лакейское дело, но как умный человек, он не может не видеть ужаса и рабства, которые несут немцы белоруссам”.*

Однако [Алесь] Кучер, [Петрусь] Бровко, [Кузьма] Черный выделяют [Антона] Адамовича среди других прислужников фюрера и относятся к нему с известной долей симпатии.

Личное впечатление от встреч с [Антоном] Адамовичем в 1940—1941 г. Смирение Тартюфа, давно знакомое и обычное у него после неудач, острые, злые слова о своей судьбе, печаль о мертвецах ([Адам] Бабареко, [Владимир] Ходыко[92]) даже в коротких беседах показали, что перемен в [Антоне] Адамовиче нет. Если он до сих пор всегда пер на рожон, то теперь стал обходить. “Незалежность” Белоруссии была у него целью жизни, потерять эту цель — значит умереть. Он пошел на то, чтобы до поры до времени спрятать свои помыслы во внутренний карман. Спрятал их и ждал. Не хотел писать, женился, преподавал скромно немецкий язык. При случае вылез, его вывела непримиримость, ненависть, традиция учителей, отцов по духу, уже целовавших сапоги кайзеру.

---

[90] **Кандрат Крапіва** (1896—1991), пісьменьнік, паэт, драматург, перакладчык, літаратуразнавец, грамадзкі дзеяч, народны пісьменьнік БССР.

[91] **Генрых Грыгоніс** (1899—1955), актор тэатру й кіно, народны артыст БССР.

[92] **Уладзімер Хадыка** (1905—1940), паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1926 г. Быў сябрам “Маладняку”. Працаваў у часопісе “Полымя”. У 1936 г. арыштаваны й адпраўлены ў ГУЛАГ. Загінуў у лягеры.

## Краткая характеристика — деятельности — Антона Адамовича

Антон Адамович, урож[енец] из гор[ода] Минска, белорус, по вероисповеданию котолик[93] (а отсюда и некоторые дополнительные его симпатии к белоруссам западникам и полякам), родился приблизительно в 1907[94] году. Учился в Минске в средней школе, а затем в БДУ и за принадлежность к националистическому литературному об'единению "Узвышша" был выслан органами НКВД в Кировский край. После отбытия наказания возвратился в Минск и работал учителем в какой-то средней школе. В момент начала войны был в Минске и судя по его разговорам бежать от немцев не собирался и просидел первые дни войны в Минске и даже вместе с другими мужчинами-минчанами попал в немецкие лагеря за проволоку.

После того, как он из лагеря был освобожден, вместе с другими мужчинами из гражданского населения он сразу очутился на работе в городской управе гор[ода] Минска в качестве заведующего издательством, в котором начала издаваться немецкая "Белорусская газета". Юридически ему были подчинены редактора этой газеты А[лексей] Сенкевич, а затем заменивший его В[ладислав] Козловский[95].

С первых дней своей работы [Антон] Адамович начал проявлять себя как активный национал-фашист, верный слуга немецкого фашизма, преданный, аккуратный исполнитель всех указаний и распоряжений шефа по печати Шретера[96]. Некоторые из работников редакции (Р[ыгор] Мурашко, И[зидор] Плащинский[97], Леванович, [Нина] Глебко) сразу раскусили в нем не только немецкого холопа, но и мелкого карьериста, который стремился завоевать к себе полное доверие немцев путем пропаганды отдельных взглядов, с которыми он несогласен даже сам и путем лакейского выслуживания перед верхушкой из генерального комиссариата и частой явки [на] какое то совещание "по

---

93 Так у арыгінале.

94 Насамрэч у 1909 г.

95 **Уладыслаў Казлоўскі** (1896—1943), грамадзкі дзеяч, журналіст. Рэдагаваў і выдаваў часопіс "Новы Шлях" (1933—1937). Падчас нямецкай акупацыі рэдагаваў "Беларускую газэту", у рэдакцыі якой быў забіты савецкімі падпольшчыкамі. Адзін са стваральнікаў Беларускай народнай самапомачы.

96 **Ганс-Ёган Шрэтэр**, кіраўнік аддзелу прэсы пры Генэральным камісарыяце Беларусь.

97 **Ізыдар Плашчынскі** (на эмігр. **Язэп Гуткоўскі**, 1908—1986), грамадзкі дзеяч, публіцыст, малодшы брат Язэпа Пушчы. У часе нямецкай акупацыі супрацоўнічаў зь "Беларускай газэтай". З 1944 г. — на эміграцыі.

вызову" к Шретеру Юрду (зам[еститель] [Вильгельма] Кубе[98]) и даже к самому [Вильгельму] Кубе. Стараясь отплатить за выдвижение его в зав[едующие] отдела пропаганды и агитации "БНС" [Антон] Адамович доходит до полного падения и в годовщину прихода [Бенито] Муссолини[99] к власти в одной из своих передовых статей заявляет: *"Мы белорусски[е] фашисты с приподнятой рукой стоим... — и т. п."*. Он требует (под диктовку шефа Шретера) выпуска специальных антифашистских[100] номеров "Белорусской газеты", на что он получил резкую критику и несогласие части работников *"восточников"*. Тогда он решает эти статьи давать из номера в номер, но уже по две, по три, а не все четыре страницы сразу. Призыв к расправе с *"иудо-большевиками"* и *"маскалями"* — сквозил и довлел, как и сейчас довлеет над всеми его писаниями. Почему-то меньше всего у него бывает указаний на горе, причиненное белоруссу поляками, что часто делает по тактич[еским] соображениям даже такой немецко-польский слуга, как редактор В[ладислав] Козловский. И в этом некоторые работники издательства видят не случайную связь Ад[амовича] с *"западниками полонизованными — немецко-польскими белоруссами"*, связь с костелом, с ксендзом. [Антон] Адамович, боясь какого либо подвоха и не желая быть изобличенным в симпатиях к белоруссам *"восточникам"* избегает всякого общения даже с работниками издательства особенно уроженцами Советской Белоруссии. Он отгородился от всех и вдохновляется тем, что под диктовку с помощью небеззвестного *"варшавского белорусса"* Яна Станкевича калечит и издевается над белорусским языком, *"обогощая"* его допотопными, нигде неслыханными терминами и словообразованиями. Трусливый и болезненно нервный, он как мальчуган деспот обращается с несколькими подчиненными ему работниками и ползает рабски на коленях перед своим господином — шефом Шретером, дабы угодить ему и не поставить себя в немилость. В последнее время он особо насторожен, это вызвано очевидно каким-то предупреждением с Гестапо, куда он вызывался (даже официально) вместе с [Алексеем] Сенкевичем, [Николаем] Короленко[101] и [Лявоном] Савенко[102] в январе

[98] **Вільгельм Кубэ** (ням. *Wilhelm Kube*, 1887—1943), нямецкі палітычны дзеяч, у 1941—1943 гг. — генэральны камісар Генэральнай акругі Беларусь райхскамісарыяту Остлянд.

[99] **Бэніта Мусаліні** (італ. *Benito Mussolini,* 1883—1945), італьянскі палітык, лідар фашысцкай партыі. Узначальваў Італію ў 1922—1943 гг., меў дыктатарскую ўладу.

[100] Відаць, маецца на ўвазе "антыбальшавіцкіх" або "антырасейскіх".

[101] **Мікола Караленка**, журналіст, рэдактар менскай газэты "Голас вёскі".

[102] **Лявон Савёнак** (1897—1974), пісьменьнік, фэльетаніст, журналіст. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у "Беларускай газэце". Напісаў сатырычныя

1943 года, а возможно и попыткой отравления его 28 февраля, в результате чего [Николай] Короленко и еще один участник попойки три дня пролежали в постели, о чем стало известно [Антону] Адамовичу. Трусливость его подтверждена и след[ующим] фактом. Как-то осенью 1942 года, кто-то заходил к [Антону] Адамовичу на квартиру и спрашивал его. Посетитель был незнакомый и это вызвало у А[дамови]ча подозрение, что кто-то из советской разведки или от партизан уточняет его адрес. На другой день он буквально всех опрашивал не приходили ли к нему вчера, когда его не было дома, и не присылали ли к нему своих знакомых. Проживает [Антон] Адамович на Гарбарной улице, д. № 46. В доме, который стоит одиноко на пожарище, две квартиры. Живе[т] он с отцом и матерью. Вход в квартиру через сени, дверь их по левой стороне, а по правой из общих сеней дверь их соседей, мне неизвестных. Есть предположение, что [Антон] Адамович приложил руку к аресту и якобы расстрелу немцами белорусского писателя Ильинского, которого он хотя и печатал на страницах "Белорусской газеты", но все время недолюбливал, делая замечания, что это *"советчики"*, что он *"полужид-полубелорус"*.

Дружбы [Антон] Адамович почти ни с кем не поддерживал за исключением ранее репрессированного и вернувшегося в Минск [Ефима] Кипеля — работника школьного инспекториата, Найдюка Я[зепа], Янки Станкевича, [Владислава] Козловского.

[Антон] Адамович несколько раз ездил в Берлин, бывал на приеме у [Альфреда] Розенберга[103], о чем свидельтествует фото помещенное в Рижском — русском календаре (стенном, отрывном) за сентябрь 1943 года.

[Антон] Адамович, как и [Владислав] Козловский, [Алексей] Сенкевич и [Николай] Короленко (из Редакции), а также [Язеп] Найдюк, [Ефим] Кипель из школьного инспекториата, награждены немцами медалями *"для проявивших себя народов Востока"*.

---

нататкі "Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава". З 1944 г. — на эміграцыі.

[103] **Альфрэд Розэнбэрг** (ням. *Alfred Rosenberg*, 1893—1946), нямецкі палітычны дзеяч, галоўны ідэоляг Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай работніцкай партыі (*NSDAP*), з 1941 г. — райхсміністар у справах усходніх земляў.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ПАЭТ РЫГОР ДАНІЛЕЎСКІ

Рыгор Данілеўскі дэбютаваў у “Бацькаўшчыне” ў 1948 г. У зацемцы “Мы ўславім яе!” пісалася: *“Дакладна на другую гадзіну, як было вызначана, усе былі на месцы (добрая школьная звычка), і дырэктар гімназіі пачаў ранішнік остэргофэнскіх беларускіх школаў, прысьвечаны 25 Сакавіка. Настрой ва ўсіх сьвяточны. Прывітальныя словы дырэктара пакрываюцца нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Гэта — добры грунт і дасканальны ўступ для рэфэрату, які зрабіў найстарэйшы настаўнік гімназіі на тэму ўрачыстасьці. І зноў, калі скончыўся рэфэрат, дык неяк само сабой запяялася: «Беларусь, наша Маці-Краіна». Асабліва ўрачыста, як прысяга перад Богам і старэйшымі грамадзянамі, гучэлі галасы моладзі, выводзячы: «Нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні мы ня здрадзім — мы ўславім Яе!»*

*Тады прывітаў вучняў Старшыня Акруговага Камітэту на амэрыканскую зону. Навязваючы да словаў песьні, ён заклікаў моладзь шмат і старанна вучыцца, каб запраўды «ўславіць нашую слаўную Пагоню». «Мы бойкая моладзь» — загучэла скаўцкая песьня ў вадказ на прамову Старшыні.*

*Далей ужо вучні паказвалі свае здольнасьці. З увагі на вялікую ўрачыстасьць дня й на час вялікага посту ранішнік быў вытрыманы вылучна ў межах паважна-ўзьнятага настрою. Ні танцаў, ні вясёлых сьпеваў, ні іншых жартаўлівых нумароў ня было. Матар’ял для дэклямацыі быў падабраны так, што ён у мастацкіх творах падмацоўваў прамовы й рэфэрат. Найперш — паэма Янкі Купалы «На Куцьцю», якую прачула і з поўным разуменьнем прадэклямавалі ў васобах вучні II кл. гімназіі Валюковіч Янка, Каваль Анатоль, Лук’янчык Анатоль, Яраховіч Янка й Лукашэвіч Віктар. У гэтай дэклямацыі ўзяла ўдзел і блізу ўся заля: усе вучні-слухачы паўтаралі за кажным пасланцом — то ціха, як спад зямлі: «Аддайце славу нашу нам!..», то зноў энэргічна й вымагальна: «Аддайце славу нашу нам!..» Усю дэклямацыю пакрылі бурныя воплескі, якія лынулі па часіннай ціішы, — гэтак захопленыя былі слухачы ўражаньнем. Тады па дэклямацыі патрыятычных вершаў асобнымі вучнямі й вучаніцамі (Бурдзь Павал, Алексі Павал і Тацьцяна ды інш.) і колькіх сьпевах нацыянальных сьпеваў вучань III кл. Данілеўскі Рыгор прачытаў свой собскі верш, прысьвечаны дню 25-га сакавіка, і пару*

*іншых сваіх вершаў, сугучных урачыстасьці дня. Вельмі ўважліва й прыхільна сустрэла юнацкая аўдыторыя вершы свайго сябры і абдарыла яго шчырымі воплескамі. Гэты-ж вучань у вадказ на прамову Старшыні Акруговага Камітэту прадэклямаваў верш «Горсьць пшаніцы» Янкі Лучыны. Дэклямацыя ўдалася вельмі мастацкая, і верш, асабліва сваймі заключнымі радкамі — «Хто наш звычай ці ігрышча на пасьмешышча падыйме, што-ж з таго край родны зышча, што з пустой каліты выйме?» — зрабіў і вялікае ўзгадавальнае ўражаньне.*

*Гэтак, у замілаваньні да роднага, да далёкай, а дарагой Бацькаўшчыны, у высокім імкненьні ўславіць Яе прайшоў сьціплы, але поўны гарачых пачуцьцяў школьны ранішнік у дзень 25-га сакавіка 1948 году, на чужыне, у маленькім баварскім гарадку Остэргофэне”*[1].

У гэтым самым нумары друкаваўся і верш Рыгора Данілеўскага “Маскве”:

*У друзы рыньце, вежы,*
*Шчарнелага Крамля!*
*Кляну цябе бязьмежна,*
*Праклятая Масква.*
*Ад краю і да краю,*
*Праз пушчы і палі*
*Ўсе ад цябе ўцякаюць*
*На ўсе канцы зямлі.*
*Народы ты украла,*
*Цямней зрабіўся дзень.*
*Ты ночай чорнай стала*
*І прорвай для людзей.*
*Ня быць табе заўсёды,*
*Ня цьмець ізь веку ў век!*
*Шлях сьветлае свабоды*
*Пазнае чалавек.*

*DP*-лягер Остэргофэн быў заснаваны восеньню 1946 г., а ўжо ў лютым 1947 г. там адкрылі дзіцячы садок, пачатковую школу й гімназію. Дырэктарам апошняй быў Лявон Савёнак, а сярод настаўнікаў — Антон Адамовіч, Апалёнія Савёнак, Мікола Равенскі, Зінаіда Станкевіч ды іншыя.

Тут выдаваўся часопіс “Сакавік”, тут жа месьцілася й рэдакцыя газэты “Бацькаўшчына”, у адным з наступных нумароў якой быў надрукаваны новы верш маладога паэты “Беларусь не скарыць”[2]:

---

[1] Бацькаўшчына. № 11 (14). 11 красавіка 1948. С. 4.

[2] Бацькаўшчына. № 18 (21). 30 травеня 1948. С. 3.

*Кузьні не знайсьці у цэлым сьвеце,*
*Каб магла скаваць такі ланцуг,*
*Што ў няволі у цяжкой навекі*
*Увязьніў-бы Беларусі дух.*
*І такой няма на сьвеце глушы,*
*Каб хоць частку ў ёй маглі-б схаваць*
*Крыўды тэй, якой за горла душыць*
*Наш народ чырвоная Масква.*
*Не, вадою чыстаю крынічнай*
*Катам не абмыць крывавых рук,*
*Не схаваць нідзе сваіх абліччаў,*
*Што прынесьлі нам бязь ліку мук.*
*І за сьлёзы горкія сіротаў,*
*І за сьмерці страшныя бацькоў, —*
*Прыйдзе час расплаты вам, іскарыёты —*
*Кроў за кроў!*
*Зоркіх воч ня засьціць вам гнілою матай,*
*Беларусь навекі не скарыць!*
*Перамогаю над вамі*
*наш штандар узьняты,*
*Бел-чырвона-белым полымем гарыць.*

Але то была апошняя ягоная публікацыя. Ажно да 1977 году, калі ў іншай эміграцыйнай газэце зьявілася падборка вершаў Рыгора Данілеўскага з зацемкаю Ўладзімера Бакуновіча й заклікам да паэта адгукнуцца, адшукацца[3]. На жаль, заклік ня быў пачуты, і тыя вершы на старонках "Беларуса" — апошняе, што засталося нам у спадчыну ад былога вучня III клясы гімназіі ў *DP*-лягеры ў Остэргофэне:

*"У 1952 годзе, будучы адным з рэдактароў інфармацыйнага бюлетэню «Новае Жыцьцё» — спачатку органу Аб'еднаньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія), потым — органу Беларусаў у Аўстраліі, што выходзіў у Сыднэі, я атрымаў ад Рыгора Данілеўскага каля дзясятка вершаў з просьбай зьмясьціць іх у бюлетэні.*

*Не зважаючы на тое, што часапіс насіў чыста інфармацыйны характар і ніякай паэзіі ня друкаваў, аднак надрукавалі ўсё-ж некалькі вершаў Данілеўскага. Ня маючы нумароў згаданага часапісу пад рукой, не магу дакладна сказаць, якія вершы былі надрукаваныя. Прыпамінаю, што былі зьмешчаныя наступныя чатыры: «О, матуля мая», «Мы, моладзь, гатовы», «Як сёлета, цьвіла тады вясна», «Я хацеў-бы туды».*

*Ад гэнага часу мінула 25 гадоў, і перагортваючы папку матарыялаў, прызначаных для бюлетэню за 1952 год, я наткнуўся на*

[3] Беларус. № 247. Лістапад 1977. С. 5—6.

*вершы, аб якіх памяць ужо паблекла. Мімаволі паўстаў перад вачыма 19-цігадовы Рыгор Данілеўскі, зь якім сябравалі яшчэ зь Нямеччыны: шчыры беларускі патрыёт, жыцьцярадасны, заўсёды зь вясёлай усьмешкай...*

*Апошняе, што чуў пра Рыгора, што ажаніўся з Новазэляндкай ці з Аўстралійкай — ня ведаю дакладна, — і праўдападобна выехаў у Новую Зэляндыю. Весткі няпэўныя й вельмі скупыя.*

*У мяне зьявілася думка зьмясьціць хоць частку ягоных вершаў у газэце «Беларус» і гэтым зрабіць падвойную карысьць: першае, паінфармаваць чытачоў аб мала ведамых вершах нашага суродзіча, другое, спадзяючыся, што гэты нумар газэты знойдзе Рыгора Данілеўскага й заахвоціць яго займацца паэзіяй ды адкрые яму дарогу для друкаваньня ягоных твораў на бачынах газэты «Беларус».*

*Уладзімер Бакуновіч*".

***

О, матуля мая, хіба можа іначай
Цябе сэрца маё называць!
Я любіць цябе буду любоўю дзіцячай
І каханьнем нязгасным кахаць.
О, матуля мая, Беларусь дарагая!
Усіх скарбаў зямных даражэй,
Хіба знойдзецца ў сьвеце краіна другая —
Надмілей за цябе, прыгажэй?
Хіба ёсьць дзе палі ў пазалоце жытнёвай —
Прыгажэй васільковых палёў —
І лясы тваіх пушчаў із славай вяковай,
Дзіўнай казкай мінулых гадоў?
Сенажацяў, вазёр тваіх, гацяў цяністых,
Тваіх рэчак крутых берагоў?
Хіба ёсьць прыгажэй тваіх ліпаў цяністых,
Мнагатоннае песьні тваёй?
О, нямашка! Няма табе роўнай у сьвеце,
Каб хоць словам падобным назваць.
Буду ў песьнях сваіх аб красе тваёй пеці,
І каханьнем нязгасным кахаць!

1952

***

Устань, прачніся, зірні!
Годзе жыць, як у сьне.
Сталі яснымі дні,
Будзем пець аб вясьне.

Дзён мінулых сьляды
Кінь на кон нябыцьця.
Вер, настануць гады,
Весялосьці, жыцьця.
Ў чыстым срэбрыве рос
На лістох і траве,
Ў блеску сонечных кос
Ўсюды радасьць жыве.
Глянь, квітнеецца сад,
Ўсьмешка вуснам бяжыць,
Дык прачніся-ж, мой брат,
Будзем пець, будзем жыць!

***

Як сёлета, цьвіла тады вясна,
Як сёлета, шумеў маркотны вецер,
І, як у казках, можа, ці у снах,
Спадаў на землю сьветла-сіні вечар.
Пад ціхі шум зажураных садоў,
Зажураных, як сэрца маладое,
Яшчэ дзіцём пайшоў я за табой,
Пайшоў, каб павярнуць назад былое.
А ты цьвіла садамі на вясьне,
Як шыр лугоў залёнымі каўрамі.
Красы тваёй ляпёсткі ціха мне
На сэрца белым пухам ападалі.
Тады пазнаў усю цябе самую.
І словы клятвы ў сэрцы данясу —
Цябе кахаць навек адну-адную.
Тады пазнаў я сэрцам і душой
Пад ціхі шум вясны маёй санлівай,
Што толькі жыць магу я із табой,
Адно з табою быць магу шчасьлівы.
Як сёлета, цьвіла тады вясна.
Спачыла неба, блізкае сьвітаньне.
Мінала ноч, і буйная сьляза
З тваіх вачэй скацілась на расстаньне.
Скацілася й на сэрца ўпала мне
Расой зайскрылась чыстаю крыштальнай,
І я пайшоў, ў душы панёс цябе,
Панёс гарачую сьлязу расстаньня.

(Зь недакончанай паэмы “Расстаньне”)

***

Мы, моладзь, гатовы,
Гатовы да бою —
За лепшую долю радзімы свае, —
За родныя вехі,
За шэрыя стрэхі —
Да бою гатовы сягоньня мы ўсе!
Вяковай заковы
Мы зьнішчым аковы —
Чужацькія путы-кайданы парвём.
Нас многа, мільёны!
На бой-жа сьцяною —
Расплата за зьдзекі, за кроў.
І многа у полі
Пахіляць галовы,
Ад ранаў гарачаю кроўю сплыве
Нястрашна! Да бою
Мы, моладзь, гатовы
За волю і долю радзімы свае!

***

Я хацеў-бы яшчэ завітаць у той край,
Будзь там пеклам яно, будзь там ангельскі рай.
Я хацеў-бы туды, дзе радзіўся і рос,
У той гай маладзенькіх бяроз.
Я хацеў-бы яшчэ пазрываць васількі,
Што цьвітуць на палёх. Зноў на луг, да ракі
Я хацеў-бы туды, дзе так многа ўжо лет
Жыў калісьці старэнькі мой дзед.
Я хацеў-бы яшчэ тую песьню пачуць,
Што дзяўчаты ў палёх на Купальле пяюць.
Я хацеў-бы пайсьці, ўспамінаючы дні,
Дзе начлежнікі паляць агні.
Я хацеў-бы яшчэ на той родны загон,
Што мой бацька гараў безьліч восеньскіх дзён.
Я хацеў-бы туды, дзе радзіўся і рос,
У той гай маладзенькіх бяроз.

## Успамін

Вячэрні змрок кладзецца над палямі,
Крычыць сава і пахне тапалямі.
На сажалцы мацнее жабаў хор,
Пагас агонь і сьпіць бацькоўскі двор.
Паснулі: лес і поле, сенажаці,
А толькі мне ня сьпіцца ў душнай хаце.
І толькі мне ня сплюшчыць сяньня воч —
У поле вабіць месячная ноч.
І вось я ў полі, між жытоў высокіх,
Паміж травы, шырокае асокі.
П’ю водар ніў і ціхай летняй ночы.
Сьвятая радасьць мне сьмяецца ў вочы.
І сэрца хоча пець псальмы каханьня
Красе палёў плывучага надраньня —
Узносячы высока над зямлёй
Сьвятую ноч над ціхаю Дзьвіной.

# ГЕРАСІМ ГАЛОЖЫН: БЕЛАРУС АДКРЫВАЕ ДЛЯ СЯБЕ КАНАДУ

*Эміграцыя, добраахвотная ці вымушаная, заўсёды пашырае геаграфічныя абсягі чалавечага жыцьця. Адны ўспрымаюць гэта як пакуту, паўсюль шукаючы месцаў і зьяваў, “як на радзіме”, іншыя ў імкненьні адкрываць для сябе нешта новае едуць усё далей і далей, знаходзячы сабе прытулак на Мадагаскары, у Шанхаі ці Новай Зэляндыі. Гэтыя эмігранты вельмі рэдка пакідаюць па сабе ўспаміны ці травэлёгі. Зьвесткі пра іх падарожжы захоўваюцца хіба што ў нешматлікіх лістах да суродзічаў.*

*Прыклад гэткага падарожнага эпісталярыю й зьмешчаны ніжэй. Ягоны адрасат — даволі ведамы беларускі дзеяч у Канадзе, пісьменьнік Мікола Сільвановіч (1917—1975), матэрыялы з архіваў якога ўжо неаднойчы друкаваліся на старонках “Запісаў БІНіМ”*[1]*. А вось аўтар лістоў да сёньня быў асобай у беларускім эміграцыйным кантэксьце амаль няведамай. Герасім Галожын, паводле дакумэнтаў з архіваў DP, нарадзіўся 7 ліпеня 1896 г. на Слонімшчыне. У якасьці прафэсіі пазначана “настаўнік”, што адпавядае даволі прыстойнаму ўзроўню пісьменнасьці ягоных лістоў. У часе Другой сусьветнай вайны Герасім Галожын апынуўся ў Нямеччыне адзін, сям’я засталася на бацькаўшчыне. У паваенны час быў у лягерах DP, у тым ліку некаторы час быў камэндантам беларускага лягеру ў Міхэльсдорфе. У 1949 г. ён прыбыў у Канаду, і з таго часу пачалася ягоная адысэя ў новай краіне. Адпрацаваўшы кантракт у правінцыі Манітоўба (Manitoba), ён, нядоўга пабыўшы ва Ўініпэгу, выбраўся на Захад Канады — у Брытанскую Калюмбію, дзе, як выглядае, уладкаваўся на працу кухарам у нейкай перасоўнай будаўнічай брыгадзе. Гэта дало яму магчымасьць езьдзіць па правінцыі, зьведваць новыя месцы. Іх Галожын і апісвае ў сваіх лістах. Зрэшты, ягоная карэспандэнцыя ня толькі пра гэта. Яна адлюстроўвае пошукі “сваіх”, імкненьне не губляць лучнасьці з суродзічамі — увесь працэс адаптацыі самотнага беларуса ў новай краіне.*

[1] Прыкладам: Сільвановіч, Мікола. Беларусы ў Канадзе // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 16—19; Ліставаньне Міколы Сільвановіча з Алесем Грыцуком // Тамсама. С. 26—60.

Эмерсон[2], 10.VI.49

Вельмі паважаны калега!

Пішу табе некалькі слоў аб сваіх уражаньнях на новай кватэры. Учора а гадз[іне] 16.00 нас прывезьлі і пасялілі ў бараках на 20 асобаў у каждым. Ложка двохпавярховыя, стала і лавак, дзе можна сесьці, няма, пішу гэтыя словы, палажыўшы кніжку на каленях. Рабіць будзем на бураках 2 месяцы, а на летні сэзон (VIII, IX месяцы) нас пашлюць да фармараў. Па двох месяцах працы ў фармараў мы вернемся зноў на буракі, сабраўшы буракі (прыблізна за 2 месяцы), нам можна падшукаць сабе фірму, дзе-б маглі астацца на пастаянную працу. Пра сваю працу напісаць нічога не магу, бо толькі сяньня папалудні пойдзем на працу. Праца ўся экардова[3], а колькі можна зарабіць, скажа час. Аднак абставіны і трактаваньне чалавека дзейнічае на мяне прыгнятаюча. Нас пасялілі паўкілямэтра ад *USA* граніцы, ваду да піцьця прывозяць з *US*, бо наша вада не надаецца да ўжытку. Жыхары м[еста] Эмерсон кажуць, што граніца не пільнуецца, аднак хадзіць у *US* забаронена бяз дазволу. Хацеў-бы з табою спаткацца, камунікацыя з *Winnipeg* добрая, аўтобус ходзіць штодня, але даляры буду мець толькі за два тыдні. К нам можна даехаць і цягнікам. Будучы ў *Winnipegu* я даведаўся ад знаемых украінцаў, што ў *Winnipegu* існуе беларускі камітэт (хоць вельмі бедны, як ён выказаўся). Даведайся аб гэтым і напішы, таксама напішы, дзе і як цябе затруднілі?

Прывітаньне ўсім беларусам!

Хацеў бы абкалоць цябе сваею барадой.

[Герасім] Галожын

Пішы, не забывайся

*Emerson*, 24.VI.49

Вельмі паважаны Мікола!

Пішучы табе некалькі слоў, у першую чаргу павінен быў бы ўсправядлівіцца, што так доўга не адклікнуўся на твой ліст, але сам ведаеш, праца ў полі ад 7-й раніцы да 6-й вечара і мой век. Працуем экардова па 11 даляраў за праполку аднаго акра (4046 м[этраў] кв[адратных]), але бяручы на ўвагу, што нас прывезьлі не астатнімі ў Канаду, і што у будучыню можа ўдасца вынырнуць з гэтага балота, у якім я апынуўся, чалавек годзіцца з лёсам і чуецца зусім добра. За кухню плацім па 1,10 дол[ара] на дзень, харчы даволі добрыя. Жывем у бараках па 20 асоб у каждым. Наш лягер складаецца з трох баракаў, разьмешчаныя

[2] **Эмэрсан** (анг. *Emerson*) — мястэчка ў Манітоўбе на мяжы Канады й ЗША.

[3] ***Akordowy*** (польск.) — зьдзельны; маецца на ўвазе праца, пры якой заробак атрымоўваеш у залежнасьці ад памеру зробленай працы.

на беразе Чырвонай рэчкі[4], а зараз-жа праз мост места Эмерсон (якое ў Немцаў стыдаліся б назваць вёскай). Эмерсан гэта прыгранічный горад, праз які штодня праежжае сотні амерыканскіх (*USA*) машын, якія накіроўваюцца ў Канаду. Часта прыходзіцца ехаць на працу гранічнаю паласой, якіх 10 [...] нідзе ня відаць жадных вартаўнікоў. Толькі па дарогах стаяць будкі, дзе чыноўнікі правяраюць дакументы загранічных машын. Пешаходаў ня бачыў, каб запынялі. Мы за пару тыдняў канчаем праполку, і нас пашлюць да фармераў на ўборку. Кажуць, на два м[еся]цы. Па двох месяцах варочаемся назад дзеля ўборкі буракоў, а тагды зноў да фармераў, а каго ў лес. Наш кантракт канчаецца праз год. Тады мы толькі магчымем атрымаць рабочыя кніжкі. Дарагі дружа, напішы, дзе працуеш і якія магчымасьці жыцьця ў сталіцы. Вельмі хочацца спаткацца з табою, але гэта будзе магчымым, па-першае, як дастану заработную плату. Ці спатыкаеш у месьці беларусоў?

Галаўнейшага на сяняшні дзень я і забыў напісаць: зарабляю на дзень розна, калі поле чыстае, то ад 5 да 8 даляраў, а на засьмечаным полі толькі 3 даляра, а калі падае дождж, то сядзімо, як мухі ў брудным бараку, і з усіх куткоў бараку чуюцца нараканьні, аднаму баляць ногі, другому крыжы, трэцяму ўсе косьці.

Маю к табе просьбу, даведайся, калі гэта для цябе магчыма, ці ня мог бы я кантрактовы работнік на зіму перанесьціся на працу ў места, і хто гэтыя справы залагоджвае, арбайтсамт ці эміграціонный аддзел?

Жадаю табе ўсяго найлепшага,

[Герасім] Галожын

*Emerson*, 10-VII-49

Дарагі дружа!

Вельмі хацелася б спаткацца з табою, але працую на кухні і не маю вольнага дня. Ты пішаш, што таксама заняты 7 дзён на тыдзень, аднак калі можаш мець вольную хвіліну на гэтым тыдні, то прыедзь к нам, мо мы пасьля нядзелі (каля 18.VII.49) разьедземся на жніва да фармераў. Я хацеў бы абгаварыць з табою, што мы маглі б прадпрыняць на будучыню. У мяне ёсьць думка заняцца гандлем або купіць пляц (некалькі акраў і дом) у трох мілях ад места і залажыць курыную фарму. На гэта дапаможа дзяржава. Калі спатыкнемся, то абгаворым усе магчымасьці, а тых магчымасьцяў у нас цяпер вельмі мала. Антонік табе вельмі ўдзячны за інфармацыі, ён ужо жонцы выслаў пасылку праз паданую табою фірму. К нам з *Winnipegu* штодня прыходзіць аўтобус, і калі б ты прыехаў, то мяне заўсёды спаткаеш на кухні. Калі б ехаў к нам, то

---

[4] **Чырвоная рака** (анг. *Red River*) — паўночнаамэрыканская рака, якая цячэ ў ЗША й канадыйскай Манітоўбе.

перад мостам, не даяжджаючы да Емерсону, убачыш 4 баракі, дзе мы жывем (мост праз *Red river*). А калі б ехаў цягніком, то таксама з левага боку перад мостам убачыш нашы баракі.

Падаю табе адрас аднаго беларуса, які жыве ў *Winnipegu*.

*Czul Gregor* [...]

Калі спаткаешся з ім, то напішы, што гэта за госьць?

Жадаю табе ўсяго найлепшага,

[Герасім] Галожын

Дарагі калега!

Даведаўся ад Антоніка, што ён напісаў табе ліст з пэўнай просьбаю, каб ты штось гаварыў з *Miss Gerry*, але будзь асьцярожны з гутаркай, бо я таксама ведаю, што ён-жа пісаў ліст і да яе (папрасіўшы аднаго англіка). Пакіну пляткаваць і хачу цябе прасіць, каб прыслаў мне адрыс Сп. [Сяргея] Хмары, а таксама напішы, што ў вас чуваць новага, бо ў нас канчаецца праца каля 15 гэтага м[еся]ца. Прашу напішы мне, ці гутарыў аб чым ліба з *Miss G*. і ці яна магла б пагутарыць з М. Рычансоном і якая яго функцыя ў справах *DP*.

Жывецца ў *Emerson* нядрэнна, тут цяплей, як у *Winnipegu*.

Я атрымаў ліст з Нямеччыны. Навінаў жадных ня пішуць, толькі адно, што памёр цесьць Міколы Сіцько[5]. А найважнейшага то і забыўся, а гэта тое, што Масей Сяднёў вядзе цесную перапіску з Позьняк, якая студыявала ў Флянгене (?) медыцыну, а цяпер выехала ў *USA*, і пішуць, што нават можа і... загінуць.

Бывай здароў.

Жадаю найлепшага табе і тваёй найбліжэйшай,

[Герасім] Галожын

Не забудзь адказаць.

*Emerson*, 8-X.49

Дарагі сябра Мікола.

Думаючы, што ты не атрымаў майго ліста, які я табе выслаў некалькі дзён таму назад, пішу табе некалькі слоў. Мікола, я, ад'яжджаючы з Вініпегу, абгаварыў з табою, каб як-ліба застацца на працы ў Вінніпегу.

[5] **Мікалай Сіцько** (1924—?), грамадзкі дзеяч. Скончыў беларускую пачатковую школу й гімназію ў Рызе. Падчас вайны выехаў у Нямеччыну, вучыўся на хімічным факультэце Бэрлінскага ўнівэрсытэту. У 1946—1948 гг. выкладаў ангельскую мову ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхэльсдорфе, працаваў перакладчыкам пры структурах *UNRRA*. Пры канцы 1940-х выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Адзін з актывістаў парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, уваходзіў у царкоўную раду. У 1960—1970-х належаў да ўраду Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

Я пісаў табе ў папярэднім пісьме аб гэтым і не атрымаў ад цябе адказу. Вельмі хацелася-б быць разам з вамі, але калі гэта не магчыма, то я думаю рабіць стараньня, каб астацца на працы на будове мосту тут у Эмерсоне, але сам знаеш, якая праца зімою на вуліцы. Аднак нічога лепшага я сам прыдумаць не магу, калі ты мне не дапаможаш. Антонік, як я табе ўжо пісаў, напісаў ліст да *Miss* Герры, і яна дапамагла яму ўстроіцца на працу пры будове мосту, за пасрэдніцтвам *Mistara Rychansona*. Будзь настолькі добры, напішы мне, ці ты спатыкаўся ў *Miss Gerry* і ці ёсьць якія-ліба магчымасьці атрымаць працу ў *Winnipegu*. У крайнім выпадку, буду пісаць да *Miss Gerry*, можа яна і мне дапаможа застацца на будове мосту. Я, як табе ўжо пісаў, згаджуся на ўсялякую працу, нягледзячы на род працы і вышыню аплаты. Калі падшукаеш мне працу, то напішы адрас тае фірмы, каб я мог саслацца на яе, бо прыехаць у Вінніпег я не магу, бо заняты на кухні кажды дзень. Калі б ты напісаў, што мой прыезд неабходны, то буду старацца прыехаць, шукаючы заступніка на свае месца.

Навінаў жадных, толькі калі прыехаў у Эмэрсон, на почце ляжала пачка такая, як ты дастаў з творамі [Масея] Сяднёва і [Алеся] Салаўя. [Аляксандар] Асіпчык, відаць, не забывае і мяне.

Мікола, сабіраю пакрысе паштовыя маркі[6]. Хаця ідзе вельмі слаба, бо склад людзей у *Campi*[7] зусім другі.

Будзь добры, як атрымаеш мой ліст, то пастарайся хутчэй адказаць, бо час ня чакае.

Прывітаньне тваей вазлюбленнай.

З пашанай, Г[ерасім] Галожын

Паважаны Мікола!

Учора атрымаў ліст з Нямеччыны, якім мне паведамілі, што Сіцько Мікола ўжо атрымаў афідэвіт на выезд у *USA*, а таму перастань рабіць якія-ліба стараньні адносна яго прыезду ў Канаду. Як відаць, то нашыя беларусы ўсе стараюцца пераехаць у *USA* (але, як кажуць, куды адзін баран, туды ўсё стада). Я задаволены з таго, што нашыя беларусы не астаюцца ў хвасьце, а выезджаюць, ды яшчэ ў такую краіну, як *USA*, аб якой усе *DP* марылі праз некалькі гадоў.

Мікола, вярнуўшыся ад цябе, я толькі што ўсьпеў паесьці, як пад'ехала машына, якая прывезла на месца працы. Жыву ў апартаментах на калёсах і ў даную хвіліну вецер так калыша, што трудна пісаць. Адно найгоршае, што дождж перашкаджае рабіць у полі, і я магчыму

[6] Мікола Сільвановіч быў зацятым філятэлістам, і сябры дасылалі яму адусюль маркі.

[7] Відаць, маецца на ўвазе ***camp*** (анг.) — лягер.

затрымацца тут з работнікамі даўжэйшы час. Маю страх, каб не ўтраціць працу, якую вы мне падшукалі.

Дарагі сябра, у Канадыйскай газэце зьявіўся артыкул, у якім пішуць аб камуністычным сходзе ў Вінніпегу, дзе *DP* уступілі ў кулачны бой з камуністамі, хаця я аб гэным чуў падрабязна, бо нашыя хлопцы бралі ўдзел у гэтым, але хацелася-б ведаць, як глядзіць на гэта прэса і канадыйскі ўрад. Хлопцы расказвалі, што супраць камуністаў выступаў якісь беларус.

З прычыны таго, што я ліст пачаў пісаць, як падаў дождж, а канчаю яго зімою, бо падае сьнег, аднак мяне адпусьціць з працы ня хочуць, бо тут буракі яшчэ не скончаныя, і маюць надзею на тое, што пагода направіцца, і ім удасца сабраць іх. Людзі перажываюць, што сядзяць без працы, а я паруся каля гаршкоў у цеснай кухні.

Калі маеш навіны, то напішы.

Жадаю вам усяго найлепшага,

[Герасім] Галожын

Дарагі сябра Мікола!

Прабач за даўжэйшае маўчаньне, але сам ведаеш, новая праца, новае атачэньне забірае многа часу на засвойваньне ўсяго гэтага. Ведаеш, Мікола, каб быў я са здольнасьцямі пісьменьніка, то са ўсяго перажытага за час майго ад’езду з Вінніпегу мог-бы напісаць цэлыя тамы. Нягледзячы на тое, што я ўжо да гэтага часу аб’ехаў вялікую частку зямное кулі, аднак таго яшчэ ня бачыў, што прышлося бачыць цяпер. Асабліва мяне цікавіла частка А[льбэр]ты[8], гранічная з *B[ritish] C[olumbia]*[9] і сама *B[ritish] C[olumbia]*. Хаця і тут прырода яшчэ далеко не заваевана чалавекам, так як і ва ўсёй Канадзе, але ўзрок чалавека спыняецца на багацьці прыроды. Горы, вяршыні якіх пакрыты вечнымі сьнягамі, ніжэй заросьцяныя лясамі, якія ў падошвы гор даходзяць сваімі сталетнімі дрэвамі аж да палёў і фруктовых садоў, што прыгожа разьмясьціліся па берагох горскіх рэчак, якія нясуць халодную воду. На мяжы правінцыі А[льбэр]та і *B[ritish] C[olumbia]* ёсьць многа прыгожых курортных месц, якіх напраўду не хацелася пакідаць, калі цягнік рушыў у няведамую мне дарогу. Места Ванкувар мне не давялося доўга аглядаць, але не зрабіў ён на мяне захапляючага ўражаньня, шумны, як і ўсе партовыя гарады. З Ванкувар да Вікторыі ехаў вялікім і прыгожым параплавам, які шэсьць гадзін, спрытна абмінаючы дробныя

[8] **Альбэрта** (анг. *Alberta*) — адна з правінцыяў Канады. Сталіца — Эдмантан (*Edmonton*).

[9] **Брытанская Калюмбія** (анг. *British Columbia*) — самая заходняя правінцыя Канады. Сталіца — Вікторыя.

астраўкі, давёз нас да месца Вікторыя. Вікторыя напраўду чаруючае места. Дрэвы цёплых краінаў і прыгожыя кветкі нібы пад каманду разьмясьціліся перад каждым домам. Калі я прыехаў сюда, то ўжо адцьвіталі сады, а ў гародах зелянела гародніна, і картофлі стройнымі радкамі пакрывалі загоны. Стаяла даволі цёплая і прыгожая пагода, якая цяпер замянілася на частые дажджы, аднак дні даволі цёплыя. Рана калі абудзішся, так і цягне падыхаць сьвежым паветрам.

Цяпер пару слоў аб сабе. Прыехаўшы ў Вікторыю на другі дзень, а гэта 27.IV.51, я ўжо налажыўшы хвартух, у выкананьні якога і ты браў удзел, прыступіў да выконваньня абавязкаў шэфа кухні. Маю аднаго сэканд кухара і двох памагераў. Кватэраю мне служыць палавіна пульманскага вагона, поўнасьцю прыстасаваная да мірнага жыцьця. У кватэры: ложак, шафа, люстра, стол, печка і канцелярыйскі столік, на якім я пішу рапарты і запатрабаваньня на прадукты. Другая палавіна вагона служыць складам на прадукты. З другога боку маёй кватэры вагон-халадзільнік, дзе я перахоўваю мяса і рыбу. Штотыдня дастаю прадуктаў на 500 даляраў. З работнікаў утрымоўваецца дзенна па 2,01 дал[яра] на харчаваньне.

Дарагі сябра, калі маеш газэты, то перашлі мне, бо цалком адарваны ад сьвету.

Жадаю табе і Тваёй сям'і ўсяго найлепшага.

Твой [Герасім] Галожын.

*Penny*[10], *July 6—1951*

Дарагі сябра Мікола!

Не дачакаўшыся ад цябе адказу на мой ліст, пішу табе кілька слоў. Прычынаю маёй нецярплівасьці ёсьць тое, што я зьмяніў места побыту і хачу табе падаць свой новы адрэс. 2 тыдні, як я пакінуў востраў і зноў направіўся ў кірунку Вінніпегу павольна рухацца. Так я праехаў 700 міль, і раптоўна наш цягнік узяў курс на паўночны ўсход у кірунку Аляскі. Тут работнікі зноў пачалі працаваць, і мы, пастаяўшы ня больш як 4 дні на адным месцы, рухаемся далей. Тут вельмі цікавая прырода. Мясцовасьць гарыстая, і горы хаця не высокія, а вяршыны і цяпер пакрытыя сьнегам. Калі на даліні падае дождж (якога тут не бракуе), то на гарах прыбывае сьнегу. Тут правясьці лета лепш, як на востраве, бо працаваць ня душна на кухні. Я думаў кідаць гэтую працу яшчэ на востраве, але тут далёка весялей, да і кампанія як даведалася, што я хачу пакідаць, то дабавіла мне 25 дал[яраў] на месяц. Тут так, як па ўсёй Канадзе, вялікія лясы, ды яшчэ да таго перапоўняныя

[10] **Пэні** (анг. *Penny*) — мястэчка ў цэнтральнай частцы правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада).

зьвярынаю. Работнікі часта бачаць мядзьведзяў, а мне толькі давялося бачыць два забітыя. Калі на востраве ка мне штодня прылятала чайка, садзілася на тэлефонны слуп і крычала, пакуль я яе не накарміў, то тут вечна прыходзяць белкі (вавёркі), якія я частую салодкімі рэчамі. Наагул я патроху стаў прывыкаць да гэтага цыганскага жыцьця, бо яго іначай назваць не можна, але я за гэты кароткі час праехаў і аглядзеў вялікія прасторы Канады. Цяпер мне становіцца больш ясным жыцьцё Канады. Тут, на захадзе Канады, больш работы, і работа лепш аплачваецца.

Дарагі Мікола, я пасылаю табе номер маяго лекарства і два даляры грошай. Ты купі ў друг-сторы[11] на Шэрбрук і перашлі мне.

[…]

Дарагі Мікола, зрабі гэта чым скарэй.

Чакаю на твой ліст.

З пашанай,

Герасім [Галожын]

*Legrand, 5 August 1951*

Дарагі сябра Мікола!!!

Шчыра дзякую табе за надасланую мне медыцыну, бяз якое я чуўся вельмі дрэнна. Але такая малая колькасьць задаволіла мяне толькі на два тыдні, а таму я перасылаю табе пару даляраў і прашу, патурбуйся і прышлі мне другую дозу (толькі калі будзеш слаць, то палажы таблеткі проста ў ліст бяз скрынкі, якая ў усіх выклікае падозраньне). Таксама я напісаў ліст да А. Родчанкі, якога прашу, каб перадаў табе маіх 5 даляраў, і калі ён гэта зробіць, то пагасіш мой доўг у арганізацыі[12], а на рэшту грошай купіш лекарства і перашлеш мне.

У мяне жыцьцё цячэ па-старому. Сяняшнюю ноч падаў вялікі дождж, а калі я абудзіўся, то горы да палавіны былі пакрытыя сьнегам. Сьнег на гарах трымаецца весь дзень. Я не кажу аб гарах, якія тут маюць вяршыні, пакрытыя вечнымі сьнягамі, напр[ыклад], мы стаімо ў падножжы аднае гары, якая мае 8772 футы, але горы сярэдняе вышыні да палавіны пакрытыя сьнегам. У нас тут праходзяць часта дажджы. Напішы, як у вас пагода? Таксама напішы мне, ці мой крэсьнік научыўся добра гутарыць. Не забудзь напісаць, што чуваць з Торонто і *USA*, бо ні с кім не перапісваюся.

Найлепшыя пажаданьні табе і тваей сям'і, а таксама ўсім знаемым.

[Герасім] Галожын

[11] ***Drugstore*** (анг.) — аптэка.

[12] Маецца на ўвазе Беларускі нацыянальны камітэт ва Ўініпэгу.

23.10.1951

Дарагі сябра Мікола!

Шчыра дзякую за дасланую медыцыну і газэту. Працую на старым мейсцы, толькі з таею розьніцай, што на зіму маю не многа рабочых, і праца даволі легкая. Як доўга тут буду, сказаць не магу, бо трохі прывык да адзіночаства. У вольны час ад працы занімаюся спортам (купіў стрэльбу і хаджу на паляваньне). Хаця забітая зьвярына мне не патрэбная, бо я маю даволі ежы на кухні, але раблю гэта дзеля таго, каб хоць трохі забыць свае адзіночаства. Пажыўшы тут даўжэйшы час, хачу трохі пазнаёміць беларусоў Вінніпегу з гэтай мясцовасьцю. Клімат тут больш падобны да нашага беларускага, лес пераважна іглісты, а такжа і бяроза, асіна і топаль, мястамі многа кедраў. Увосень было многа грыбоў: краснагаловікі, масьлякі, сыраежкі, а белых грыбоў не спатыкаў. З птушак: цяцерукі, курапаты, белыя і сівыя гусі, качкі, многа дробнага птаства. Зьвярыны сьвет: лосі, алені, горныя бараны, козы, мядзведзі, воўкі двох пародаў, вялікія і малыя, бабры, тхары, ваверкі двох пародаў, многа другіх. Некаторые людзі тут жывуць толькі з паляваньня, жывуць даволі добра, фармаў тут вельмі мала. Але затое на каждые 8 міль есьць тартакі, дзе людзі зарабляюць добрыя грошы, бо плацяць ад 1.10 дол[яра] да 1.50 дол[яра] на гадзіну, а тые работнікі, што працуюць у лесе, то зарабляюць да 20 дол[яраў] на дзень. Яны працуюць экардово. Работу ў тартаках дастаць няцяжка, а таксама няцяжка дастаць работу на калеі (гэта значыць на сэкцыі). На сэкцыі працуюць 5 дзён на тыдзень і дастаюць $ 1.04 на гадзіну і маюць памешканьне. Памешканьне даюць і сямейным. Сямейныя трымаюць каровы (бо сена і пашы тут хватае бесплатна), а малако прадаюць у тартакі па 20 цэнтаў кварту. Наагул, тут жыцьцё больш простае і матарыяльна больш выгаднае, як у Вінніпегу. Вышэй я ўпамінаў, што маю стрэльбу, але не сказаў, што мне рабілі труднасьці з пазваленьнем на права паляваньня, бо я жыву ў гэнай правінцыі кароткі час, аднак яго я ўжо маю. У нас усю восень стаяла вельмі прыгожая сонечная пагода, але 17 гэтага м[еся]ца замерзло і выпаў сьнег, якога штодня патроху дабаўляе. Днямі капае са стрэхі і даволі цяпло, а ноччу легкі марозік. Тутэйшыя жыхары кажуць, што гэты год даволі раньняя зіма.

Пішы свае навіны. Ці дабавілі табе зарплату, дзе працуе жонка і ці добра гутарыць мой крэсьнік Пятрусь?

Жадаю табе і тваёй сям'і ўсяго найлепшага.

*H[erasim] Halozyn*

P. S. Мікола, падай да ведама мой ліст беларусам Вінніпегу, можа хто не мае працы, то я пастараюся яго ўстроіць тут.

Г.

*Febr[uary] 2, 1952*

Дарагі сябра Мікола!

Даўжэйшы час не атрымоўваў ад цябе весткі, відаць, што не маеш чаго пісаць, бо стаў патроху забывацца пра мяне. У мяне таксама ня маю нічога, чым бы мог пацешыць цябе. Вандруем са стацыі на стацыю. У другой палове студзеня была вялікая катастрофа недалёка ад стацыі *"Red Pass"*[13]. Катастрофу спрычынілі вялікія марозы, якія трывалі каля 6 дзён. Цяпер у нас даволі цёпла, часамі падае дождж. У сучасны момант стаімо ў гор[адзе] *McBride*[14], і калі будзе ўсё ў парадку, то пастаімо тут даўжэйшы час. Тут адно ёсьць задаволеньне, што магу наведваць кіно і піўнушку, бо ў нас на алкаголь перміта[15] не патрэбна. Дарагі сябра, пасылаю табе 5 далараў і прашу, прышлі мне медыцыны, бо тую, якую ты прыслаў раней, я ўсю зужыў. Прашу, купі адразу на ўсе грошы, уключаючы перасылку і прышлі пасылкай, бо ў лісьце, як ты практыкаваў раней, многа крышыцца, бо кажды цікавіцца, што там ёсьць, і гэтак псуе медыцыну. Можа, ты загубіў назоў медыцыны: *№ 82665 Dr E. K. Vann inv. H. Halozyn.*

Шчыра дзякую Полі і табе за Калядні прызант[16] і Пятру за Калядняе паздраўленьне. Ці атрымоўваеш белар[ускія] газэты з Торонто, бо я думаю, што ў *USA* газэты перасталі выходзіць. "Бацькаўшчына"[17] цяпер становіцца на здаровы грунт і з часам можа стаць агульна Беларускай газэтай.

Яшчэ падам табе адну сумную вестку. *Dr* Тэрэховіч (калі ты знаў яго, бо ён быў доктарам у нашым лягеры, праўдзівей, яго жонка) працаваў на хімічнай фабрыцы ў Аўстраліі, дзе стаўся выбух, і ён з таго часу ня бачыць на вочы. Вельмі сумна, бо быў даволі добры чалавек. Пішы, не забывай.

Жадаю ўсяго добрага.

Твой [Герасім] Галожын

*March 16, 1952*

Дарагі Мікола!

Дзякую за ліст і хлопаты адносна мэдыцыны, якую я атрымаў. Мяне вельмі цешыць, што ты трохі лепш устроіў свае жыцьцё, бо напраўду

---

[13] ***Red Pass station*** (анг.) — станцыя Нацыянальнай чыгункі Канады ў Брытанскай Калюмбіі.

[14] **МакБрайд** (анг. *McBride*) — вёска ў правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада), у даліне ракі Робсан.

[15] ***Permit*** (анг.) — дазвол, пропуск.

[16] ***Present*** (анг.) — падарунак.

[17] Маецца на ўвазе мюнхэнская газэта "Бацькаўшчына".

нам, новапрыбылым, цяжка знайсьці што-ліба лепшае. Пару дзён таму я дастаў з Торонто “Эмігранта”[18] і “Бацькаўшчыну”. “Бацькаўшчына” даволі вытрымана, а што да “Эмігранта”, то ён замяніў даўнейшую *Osterhofensku* “Бацькаўшчыну”. Я задаволены, што не паехаў да Торонто, як мяне ў прошлым годзе накіроўваў Эмплоймат[19]. Бо ўсё гэта балота лілося б на мяне, ведаеш сам, жывучы разам, прышлося б сказаць што-ліба, а гэтыя пісакі зараз жа пасадзілі б цябе на пяро. Вельмі жаль, што мы так бедныя на інтэлегэнцыю і самы сябе вынішчаем. Калі пісакі ў астатнім номяры пішуць, што папярэдні номяр быў вельмі дрэнны, бо меў каля 800 граматычных памылак, то гэты астатні мае адну памылку, якая больш подлая за тыя 800. Табе вядома, што я там не маю друзей, але я наагул не люблю грызьні, бо грызьнёю друзей не набудзеш. Глядзі, цяпер ужэ “Эмігрант” не спамінае пра арганізацыйнае жыцьцё ў Канадзе.

Жыву па старому. Пішы свае навіны і не забывай упамянуць, якая ў Вас пагода, бо я думаю, калі ў Вінніпегу стане больш цёплая пагода, то я загляну туда. Тагды мы пастараемся абгаварыць усе справы больш канкрэтна. Ці ты маеш перапіску з Амерыкай, што чуваць зтуль, можа, і там грызуцца, як у Торонто?

Засылаю найлепшыя пажаданьні табе і тваёй сям’і, а таксама ўсім знаёмым.

З пашанай, [Герасім] Галожын

*April 23,1952*

Дарагі Мікола!

Дзякую за ліст і навіны. Хаця навіны не вясёлыя, але са ўсім у жыцьці прыходзіцца спаткацца, а асабліва тут на гэтым кантынэнце няма нічога сталага. Але ведаеш, найменш праймайся ўсім гэтым. Прыступіць да якое-хіба супалкі я не магу ў сучасны момант, бо думаю трошкі падрапараваць сваё здароўе. А таксама паглядзеўшы другія куткі Канады, я павінен сказаць, што Вінніпег — гэта найгоршае месца для працуючага чалавека. Па-першае, халодны клімат, і да таго кантынэнтальны (з вельмі гарачым летам), і цяжка знайсьці працу, асабліва зімою. Я, напэўна, яшчэ загляну да Вінніпегу (можа гэтае вясны), але не думаю застацца там на стала.

Навінаў жадных, жыву па старому. На днях дастаў ад Антоніка ліст, ён купіў у месьце *St. Catarines*[20] лот і распачаў будову хаты. Мне тут

[18] Маецца на ўвазе газэта “Беларускі Эмігрант” (Таронта).

[19] ***Employment*** (анг.) — тут, відаць, маецца на ўвазе арганізацыя, якая займаецца працаўладкаваньнем.

[20] **Сэйнт-Кэтарынз** (анг. *Saint Catharins*) — горад у правінцыі Антарыё (Канада), на мяжы з ЗША.

апавядаюць людзі, каторыя былі там, што гэта вельмі прыгожы гарадок з вельмі прыемным кліматам. Гэта не далёка ад вадаспаду Ніагара. Таксама дастаў газэту "Беларускі Голас", з якое відаць, што беларусы ў Торонто весь вольны час прысьвячаюць грызьні паміж сабою. Я не так даўно меў ліста ад [Міколы] Кунцэвіча[21], які таксама прэдлагае мне супалку да бізнэсу, можа ты з ім прыдумаеш што-ліба. Але мая рада — пакідай Вінніпег. Выбірай Усход або Захад, але не Вінніпег. Калі будзеш патрабаваць дапамогу ў грошах, то пішы, заўсёды да тваіх услуг.

Так да дапаможа табе Бог.

Жадаю табе і тваей сям'і ўсяго найлепшага.

[Герасім] Галожын

*March 6/54*

Сябра Сільвановіч.

Дзякую за надасланы ліст, якім ты зрабіў мне вялікую прыемнасьць. Хаця твой ліст больш фармальны, чым калежанскі, бо ты нават не напісаў мне, які падарунак прынёс табе бусел (бо твая жонка была ў паважным стане, калі я быў у вас) хаця гэта для цябе ўжо старое, але я нічога аб гэтым ня чуў. Твой ліст застаў мяне ў *Pr. Rupert*[22] бязработным, бо той *Gang*[23], на якім я працаваў, на зіму зачынілі, але мне далі працу таймкіпера на *Gangu* № 63. У сучасны момант мы стаім у *Pr. Rupert*. Пагода ў нас так, які і каждую зіму на берагу Ціхага акіяну — дождж часамі перамешваецца са сьнегам. Настаяшчае зімы са сьнегам тут ня бывае.

Цешуся, што ты купіў хату, а таксама твой праект адносна апрацантаваньня маіх грошай у тваім бізнэсе таксама падзяляю. Толькі наразе гэтага зрабіць не магу, бо мае грошы ўложаны ў такі самы бізнэс у Чылліваку[24], дзе я маю добрых знаёмых, якія ў пазапрошлым годзе будавалі вялікую хату, і ў тую будову я ўлажыў пяць тысяч долараў з чатырох працантовым інтарэсам. У гэтым годзе яны мне павінны сплаціць усю належнасьць, а тагды я магчыму тваю задоўжанасьць узяць на сябе, бо я спадзяюся летам дастаць вотпуск і, думаю, мне ўдасца заглянуць да Вінніпегу. Пішы, як ты глядзіш на гэта?

---

[21] **Мікола Кунцэвіч** (1907—1985), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнае вайны быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне. Пераехаў на сталае жыцьцё ў ЗША. У 1957—1959 гг. — старшыня БАЗА.

[22] **Прынс-Рупэрт** (анг. *Prince Rupert*) — партовы горад у правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада).

[23] ***Gang*** (анг.) — тут, відаць, брыгада рабочых.

[24] **Чыліўэк** (анг. *Chilliwack]*) — горад у правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада).

Стан здароўя мне не пазваляе бавіцца ў палітыку, а таму я парваў усялякую сувязь са сьветам, толькі пішу, дзе бачу неабходнасьць гэта рабіць. Пішы, што чуваць з Беларускага жыцьця, а таксама які твой погляд на цяперашняе міжнароднае паложаньне?

Мікола, я дастаў ліста з Бацькаўшчыны. Ліст вельмі агранічаны, бо я ім не адпісаў на папярэдні ліст, і яны ня ўпэўняныя, што я атрымоўваю іх лісты. Я ім напісаў цераз Польшу ліст. Спадзяюся скорага адказу. Калі будзе што цікавае, то напішу.

Найлепшыя пажаданьні табе і тваёй сям'і.

З пашанаю, *H[erasim] Halozyn*

*Sept[ember] 9/58*

Вельмі паважаны сябра Мікола!

Хаця цябе можа не надта цікавіць, як мяне спаткаў чародны беларус на фарме ў *Grandview*[25], але хаця збольшага апішу табе. Калі я пакінуў Вінніпег а 10 гадзіны вечарам, то на другі дзень раніцай ужо быў у *Grandview*. Там прышлося, узяўшы тэлефонную кнігу, тэлефанаваць да некалькіх фармароў, каб яго адшукаць, бо ён ня мае тэлефону, і цяжка было яго адшукаць. Але я натрапіў на беларускае прозьвішча "Багдановіч" у тэлефоннай кніжцы, а то быў яго сусед, які павядоміў яго, і ён зараз-жа прыехаў і забраў мяне. Яго самога я з дому ня знаў, але яго жонку я толькі як вайшоў да яго хаты, то адразу пазнаў, і яна таксама казала, што пазнала мяне яшчэ на панадворку, але хацела ведаць, ці я яе пазнаю, і калі я вайшоў у хату, то нібы не зварочвала ўвагі на мяне. Адным словам, прымалі мяне вельмі гасьцінна, якіх толькі напіткаў там мне прыходзілася спрабаваць, і калі толькі ён падпіў трошкі, то адразу зачаў палітыку, але жонка ўвесь час спыняла яго, бо яна хацела гутарыць са мной на другіе тэмы, бо мы маем многа агульна знаёмых з Бацькаўшчыны, і яе цікавіла, якія зьмены зайшлі па яе ад'езду з дому, бо да выхаду замуж яна была ў суседняй вёсцы якіх паўтара кілёмэтра ад мяне. А яе дочкі знаюць маю дачку, бо вучыліся ў школе разам, калі былі яшчэ малымі. У іх я дастаў фотакартку мае старшае дачкі, дзе яна сфатаграфаваная са сваім чалавекам і маленькім сынам. Ад іх таксама даведаўся адрас аднае з маіх настаўніц, да якое буду пісаць, і можа што падрабязьней даведаюся пра сям'ю, а таксама можа яна дапаможа мне сьцягнуць жонку ў Польшчу, а потым у Канаду. Быў у фармара толькі адзін дзень, і на другі ранак ужо, забраўшы цягніка, ехаў у Брыціш Калюмбію. На месца працы прыехаў 8 *September*. Цяпер буду адпачываць пасьля вялікага падарожжа і ўсіх тых перажываньняў за гэтыя тры тыдні маго вотпуску.

[25] **Грандвію** (анг. *Grandview*) — мястэчка ў правінцыі Манітоўба (Канада).

Перасылаю некалькі паштовых марак твайму сыну.
Найлепшыя пажаданьні табе і ўсей тваей сям'і.

*H[erasim] Halozyn*

*Dec[ember] 16/58*

Паважаны сябра Мікола!

Даўжэйшы час стараюся дастаць гдзе-ліба кнігу [Барыса] Пастернака[26] "Др. Живага" і не магу дастаць. Калі ты можаш дастаць яе ў Вінніпегу, то купі для мяне можа быць у ангельскай або ў расейскай мове. Ужо пачалі прадукаваць фільм "Др. Живага", а я яшчэ не прачытаў гэнага твору. Праўды, ты калісь гаварыў, што я адстаў ад жыцьця. Жыву па старому на той самай рабоце. У вольны ад працы час хаджу на ахоту. Удалося ўпаляваць аднаго лося і цара птушак Арла.

Мікола, напішы, колькі дзён ты будзеш вольны ад работы на Каляды і колькі на Новы год. Вельмі хацелася б правесьці хоць раз Калядныя або навагодныя сьвяты разам з Беларусамі. Калі ўдасца вырвацца з работы на пару дзён, то пастараюся прыехаць да вас. Толькі ня знаю, чы мой крэсьнік уступіць для мяне свой ложак?

Прымеце ад мяне найлепшыя сьвяточныя пажаданьні.

З пашанаю, твой Г[ерасім] Галожын

Пішы.

*April 7/59*

Вельмі паважаны сябра Мікола!

З нагоды таго, што дастаў пару паштовых марак з Грэцыі і, перасылаючы, пішу да цябе гэтых пару слоў. За гэты час ад Каляд да Вялікадня няма, можна сказаць, жадных зьмен у маім жыцьцю. З тою толькі разьніцай, што Каляды сьвяткаваў з вамі ў Вінніпегу, а Вялікдзень у Чылліваку. Тут на вялікодныя сьвяты ўжо расьцьвілі некаторыя дэкарацыйныя дрэвы і кветкі каля хатаў, але было халаднавато, бо падаў дождж. У сучасны момант стаімо ў шасьці мілях ад *Jasper*[27]. Тут яшчэ ў лесе ляжыць сьнег, але дні ясные і цёплыя. Учарашняе ночы ўжо прыходзіў да нас з візітаю мядзьведзь. Але я думаю, што ён абудзіўся трохі зарана. Але індыяны праракуюць скорую і цёплую вясну. Работнікі на генку пераважна немцы эмігранты.

Дастаў з дому ліста ад старшае дачкі. Піша, каб да іх не пісаў сваею рукою, а яна ліста не падпісала і ліст выслала з Ваўкавыска, а не са

[26] **Барыс Пастэрнак** (1890—1960), расейскі пісьменьнік, перакладчык, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры (1958), ад якой мусіў адмовіцца.

[27] **Джаспэр** (анг. *Jasper*) — горад у правінцыі Альбэрта (Канада).

Слоніма, дзе яна жыве. А таксама дастаў ліста з Польшчы ад якогась Дарафейчыка, аб якім я ніколі ня чуў. Дзе ён дастаў мой адрас, ня знаю. Ён просіць, каб я пісаў да яго, але я баюся, каб перапісваючыся з ім не падставіць пад савецкі абух свае сям'і. Сам знаеш, там саксотаў не бракуе. На гэтым канчаю.

Найлепшыя пажаданьні табе і ўсёй тваёй сям'і.

З пашанаю да вас,

*H[erasim] Halozyn*

*Little Fort*[28]*, March 7/60*

Паважаны Мікола!

Сяджу і думаю, ці пісаць да цябе ці гэты [час] змарнаваць на штось другое, бо ты ўсё роўна не адпішаш. Але так размышляючы, я адчыняю шуфляду майго стала і знаходжу некалькі паштовых марак, за якімі ганяеш па Афрыцы, Аўстраліі і іншых далёкіх краінах. То думаю, тут бліжэй, і рашыў выслаць іх табе, але раблю з табою дагавор, калі заробіш на маіх марках больш як мілліон даляраў, то што паверх мілліона маё. Напішы, Мікола, ці думаеш ехаць на зьезд да Торонто. Мне хацелася-б паехаць, але яшчэ не знаю, калі атрымаю вотпуск. А таксама не забудзь напісаць, як у тваё жонкі з носам, бо на Каляды я набраўся ад яе хваробы і засмаркаў усім дамам капялюхі, якія ехалі са мною. Я думаю, ты спатыкаў у Вінніпегу з засмарканымі капялюхамі якіхсь кабет, то знай, гэта мая віна. У сучасны момант стаю недалёка ад Камлупс[29]. Пагода даволі прыгожая, толькі начамі прымарозкі, і зямля прыкрыта сьнегам. Дастаў з дому ліста, пішуць, як і раней, вельмі агранічана і просяць прыслаць пасылку. Мікола, я чуў, што нядаўна прыехала да Вінніпегу якаясь Беларуская кабета да сваго мужа, яна гдесь спад Гродна і яна апавядае што на Беларусі многа партызанаў. Нажаль, дакладнага яе адрэсу я ня мог дастаць. Калі ты спатыкаў гэтую кабету, напішы падрабязна, што яна апавядае пра Бацькаўшчыну? На гэтым кончу. Пішы свае навіны, бо ты зьвязаны лістоўна з цэлым сьветам і з пачтовымі маркамі часамі пракрадаюцца і навіны.

Дасылаю табе і тваёй сям'і мае найлепшыя пажаданьні

Г[ерасім] Галожын

---

[28] **Літл-Форт** (анг. *Little Fort*) — мястэчка ў правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада), на беразе ракі Паўночны Томсан.

[29] **Камлупс** (анг. *Kamloops*) — горад на поўдні цэнтральнай часткі правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада), недалёка ад аднайменнага возера.

*Blue River*[30]*, July 12/60*

Паважаны сябра Мікола!

Прабач, што доўга ня пісаў, але ня мог пісаць, бо да гэтага часу ня мог адшукаць маяго чэка, якога я меў атрымаць, як толькі вярнуўся з Вінніпегу. Наканец атрымаў і табе высылаю на $ 100.00 грашовы перавод, а таксама залучаю некалькі паштовых марак. Цяпер пару слоў пра сябе. Заставіўшы Вінніпег а 10 гадз[іне] вечарам мой цягнік направіўся на поўнач. Пасажыраў было ня многа, а таму я добра мог прыспасобіцца к начному адпачынку. У вагоне добра адчувалася праца вінтылятараў, а таму я скора пагрузіўся ў сон. Абудзіўся раніцою, калі цягнік стаяў на прыстанку Дауфін[31], а стуль толькі 20 хвілін да майго фармара. Я ня спадзяваўся, што мой сусед з бацькаўшчыны (хаця і чырвоны) прыме мяне так гасьцінна. Пасьля двух дзён я заставіў фарму, напраўляючыся на захад. У месцы Саскатун[32] мне прышлося чакаць чатыры гадзіны на цягнік, ідучы з Монтрэалю да Ванкувару, на якім я правёў яшчэ два дні і две ночы, бо мой генак быў аж у Портмен — гэта якіх 15 міль ад Ванкувару. Прастаялі мы там 5 дзён і зноў вярнуліся да Блюс Рывер. Цяпер стаімо якіх 90 міл ад *Jasper Park*. Маем ясную сухую пагоду з гарачымі днямі і студзёнымі ночамі, бо горы пакрыты сьнегам, і як толькі заходзіць сонца, то з гор спускаецца халоднае паветра, даючы магчымасьць на добры адпачынак. Першы тыдзень жыў уражаньнямі маяго падарожжа, а цяпер адпачываю, набіраючы сіл, бо скоро адчыніцца сезон на паляваньне, і тагды будзе, гдзе праводзіць вольны ад працы час. На гэтым канчаю.

Засылаю Табе і ўсей тваей сям’і мае найлепшые пажаданьні.

Г[ерасім] Галожын

П. С. Мікола, як толькі атрымаеш ліст, то адкажы, бо хачу ведаць, ці атрымаў грашовы перавод.

Г[ерасім] Г[аложын]

*Blue River, May 15/61*

Дарагі Мікола і Франя!

Дзякую за пажаданьні ў астатнім лісьце, а таксама схарактарызаваў мяне нядрэнна адносна кабет[33]. Ведаеш, сядзець тут у пушчы мне ўжо не

[30] **Блу-Рывэр** (анг. *Blue River*) — вёска ў правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада).

[31] **Даўфін** (анг. *Dauphin*) — горад у правінцыі Манітоўба (Канада).

[32] **Сэскатун** (анг. *Saskatoon*) — найбуйнейшы горад правінцыі Саскэтчэўан (*Saskatchewan*, Канада).

[33] Сільвановіч напісаў, што той у сваёй пушчы зусім зьдзічэў і хутка кабет ад мужыкоў не адрозьніць.

патрэбна, я дажыў-бы да сьмерці і бяз гэтага, але гдзе я знайду лепшае жыцьцё? Да сямейных я ня прыстану, а адзінокія мяне ня прымуць, бо я ня п'ю гарэлкі, наогул да разгульнага жыцьця ня здольны. Жыву па старому, складаю першы мілліон, як скончу гэты, зачну другі, калі ня будзе позна.

Дастаў з дому ад дачкі ліста, піша аб шчасьлівым і радасным жыцьцю. Калі б удалося прыехаць да Вас, то прачытаеш. Калі твой вотпуск? Бо я яшчэ ня пытаў за свой. Добра было б мець разам.

З пашанаю да Вас

*H[erasim] Halozyn*

П. С. Пішу кароткі ліст, каб мець больш пляцу на маркі.

*Jasper, July 7, 1961*

Паважаны Мікола!

Я трошкі затрымаўся з адказам на твой ліст, бо хацеў насабіраць трохі паштовых марак. Вельмі сумна, што не магу прыехаць у той час, калі ты маеш вотпуск. Я думаў, што для мяне ня будзе труднасьці забраць мой вотпуск, калі я захочу, а аказалася інакш. У сучасны момант мой генак мае такую работу, што мяне не хочуць пусьціць, бо новы чалавек на маем месцы ня справіцца з работаю, а таму я маю рабіць пакуль закончу гэту работу, а гэта патрывае можа да канца *Augusta*, а можа і скорша. Тагды толькі я буду мець магчымасьці забраць мой вотпуск. Дастаю з дому лісты даволі сумныя. Відаць, Хрушчоў[34] зачынае прыграваць ня горш за Сталінскае сонца. Думаю, прыдзецца паслаць дадому пару пакункаў і ў гэтым годзе. Стаімо ў *Jasper Park*, куда прыежджаюць тысячы новых турыстаў каждаго дня, тут можаш спаткаць з Онтарыю, Манітобы і ўсе правінцыі Амерыкі. Стаіць вельмі прыгожая пагода. На прошлай нядзелі езьдзіў да Чылліваку на два дні, дзе паласаваўся сьвежымі фруктамі, то чарэшні й маліны ўжо дасьпелі, адна бяда, што места працы задалёка ад дому. Але са ўсім трэба пагадзіцца, бо некаторыя жывуць яшчэ горш за мяне. На гэтым канчаю. Калі будзе магчымасьць, то загляну на колькі дзён да цябе, буду сабіраць маркі энергічняй...

Найлепшыя пажаданьні табе і ўсей тваей сям'і.

Г[ерасім] Галожын

P. S. *Money Order* атрымаў. Дзякую.

*H[erasim] H[alozyn]*

[34] **Мікіта Хрушчоў** (рас. *Никита Хрущев*, 1894—1971), дзяржаўны дзеяч СССР, Першы сакратар ЦК КПСС у 1953—1964 гг. Старшыня Савету Міністраў СССР у 1958—1964 гг.

*Lytton*[35]*, Jan[uary] 11/62*

Дарагі сябра Мікола!

Зараз-жа бяруся адказаць табе, бо калі зацягнецца, то, можа, на даўжэйшы час. Ведаеш, старому апатыя да ўсяго, а я ж пастарэў на адзін рок пасьля новага року. Ты калісь у мяне пытаў, ці я быў такі, як прыехаў да Канады, як ты цяпер. Не, Мікола, я быў далёка старэйшы, чым ты цяпер, бо я радзіўся ў 1896 року, а цяпер можаш пашчытаць? Жыву па старому, працую, зарабляю грошы, але ня ведаю, для каго? Але ўсе мае знаёмыя, за выняткам цябе і Такушэвіча, стараюцца пажычыць ад мяне грошы, каб пасьля не аддаваць. Думаюць, што стары, скора памрэць. А з гэтае прычыны мая дружба з некаторымі парвалася. Я думаю, што мог бы кінуць гэту працу і дажыць сваё жыцьцё без працы, але ведаеш, без працы горш сумна, а мая праца не цяжкая, так што думаю яшчэ папрацаваць. Хацеў прыехаць да вас на сьвяты, але прыхварэў трохі і правёў сьвята ў Чылліваку. Тут у нас даволі цёплая зіма, сьнегу, можна сказаць, яшчэ не бачылі, раз перад Калядамі трошкі прыцерусіў зямлю, але зараз жа згінуў. Зямля яшчэ не замярзала, каля хатаў можна бачыць кветкі, якіясь падобныя да тюльпана. Але тут замест сьнегу падаюць часта дажджы.

З дому ўжо даўно не меў пісем, чакаю з дня на дзень. Пішы, калі думаеш мець вотпуск, можа, я мог бы дастаць у тойсамы час, і можа, правялі б час разам, калі маё здароўе мне пазволіць. А можа ты прыехаў бы да мяне ў *British Columbia*. Я б цябе забясьпечыў кватэраю і харчамі. Тут тры мілі ад мае хаты прыгожае возера і пляжа, а 6 міль ад мяне гарачыя воды, дзе таксама добра пабываць. Я ведаю, што цябе вяжа сям'я. Але я знаю, што калі-небудзь чалавек мусіць трошкі праветрыцца, бо старое месца заўсягды надаядае. Я знаю, што з тваёю сям'ёй нялёгка гэта зрабіць. Добра, што хоць маркі змусілі цябе да мяне напісаць, бо ніхто ня напісаў, апрача Антоніка. А я абяцаў і тваёй жонцы, што напішу да яе, і таксама яшчэ не напісаў.

Мікола, ты мне казаў, што ты не цікавішся больш партугальскімі маркамі, а другіх у мяне нямашака, таму я табе і не высылаў, а зьмяніць партугальскія на другія не маю з кім. Цяпер высылаю табе ізноў партугальскія, між якімі ты спаткаеш новыя, якіх ты не меў раней.

Прымеце мае найлепшыя пажаданьні.

Ваш *H[erasim] Halozyn*

*Red Pass, June* 26/62

Дарагі сябра Мікола!

Сеў пісаць і не надумаюся, з чаго пачынаць, бо ўсё старое і так абрыдло, што здаецца, нікога не зацікавіць, так як ня цікавіць мяне.

---

[35] **Літан** (анг. *Lytton*) — вёска ў правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада).

Жыву па старому, працую на генку недалёка ад *Jasper*. Прыгожыя краявіды ўжо не цікавяць мяне, бо пастаянно іх бачу. Стаіць цёплая пагода, у прошлую нядзелю быў у Чылліваку — раньнія чарэшні ўжо праходзяць, а на большай часьці дасьпеюць у гэтым або наступным тыдні. Мікола, я быў у *Vernon*[36] і там спаткаў аднаго беларуса з вёскі Слобода, дзесь спад Вілейкі. Яго фамілія *Klemionek D.* Можа, гэта твой краян? Пішу дадому і з дому дастаю лісты рэгулярно. Раблю захады на переезд жонкі ў Канаду, але, прачытаўшы ў газэце, як бальшавікі распраўляюцца з беларусамі, забыўшыся пра сталінскую амністыю, ня маю вялікае надзеі на яе прыезд.

Перасылаю табе пару паштовых марак, некаторыя з іх нововыданыя, можа, зацікавяць цябе.

Найлепшыя пажаданьні табе і ўсей тваей сям'і.

Г[ерасім] Галожын

*May 16/63*

Дарагі сябра Мікола!

Прайшло даволі часу, і здавалася б, што можна было б насабіраць трохі паштовых марак і выслаць табе, але гэты час быў для мяне найгоршым у Канадзе. Бо прышлося наведаць аж два госпіталі і пераҗыць няпрыемную хваробу, бо мне адабрала было ўсю левую палавіну маго цела. І я быў загубіў на некаторы час працу, але цяпер ізноў працую і сабіраю маркі. Хвароба нібы прайшла, і я чуюся нармальна, але часта адчуваю болі ў галаве, дактара кажуць, што і гэта с часам пройдзе. У сучасны момант стаім у падножжы гары *Mt. Robson*[37], нядалеко ад *Jasper Park*, тут прыгожыя ясныя дні. Быў на прошляй нядзелі ў Чылліваку, там фармары ўжо косяць сена. Найлепшыя пажаданьні табе і ўсей тваёй сям'і.

*H[erasim] Halozyn*

P. S. Перасылаю трохі паштовых марак.

H.H.

Чыллівак, *Febr[uary] 27/64*

Дарагі сябра Мікола!

Даехаў я дадому бяз вялікіх прыгодаў. Прыехаўшы, хацеў адрэзаць фруктовыя дрэвы, але ўжо запозна, бо калі адрэзаў галінку ад Валоскага

---

[36] **Вэрнан** (анг. *Vernon*) — горад у паўночнай частцы правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада).

[37] **Гара Робсан** (анг. *Mount Robson*) — гара ў правінцыі Брытанская Калюмбія (Канада), найвышэйшая гара ў канадыйскім масіве Скалістых гор.

арэха, то цурком пацек сок. У нас стаіць цеплая пагода ўжо некалькі дзён, ня можна заўважыць хмаркі. Людзі шыкуюцца да вяснавое працы на гародах. Дастаў ад *CNR* завядамленя, што пайду на працу д[ня] 15 красавіка, так што яшчэ маю часу на адпачынак. Мікола, я выслаў маленькім пакункам тых пяць аўстрыйскіх карон на імя Пятра. Напішы, калі ён атрымаў.

Засылаю Вам усім мае найлепшыя пажаданьні [...].

Ваш Г[ерасім] Галожын

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі*

*Архівы*

# ЛІСТЫ ЎЛАДЗІМЕРА СЯДУРЫ ДА ЛЯВА АКІНШЭВІЧА

*Жыцьцё беларускай эліты на эміграцыі — навукоўцаў, пісьменнікаў, як асобных прадстаўнікоў, гэтак і арганізацыяў у іх супрацы (ці, што часьцей, у антыпрацы), заслугоўвае асобнага аповеду, шчырага й, як вынік, невясёлага.*

*Пра Ўладзімера Сядуру пісаць ужо даводзілася*[1]*. Чалавека дзьвюх культураў, беларускай і расейскай, які спрабаваў самарэалізавацца й там, і там. Не атрымалася. Нягледзячы на шэраг ангельскамоўных кнігаў (за выняткам аднае, пра беларускі тэатар і драматургію, усе прысьвечаныя творчасьці Фёдара Дастаеўскага), павагі ў беларускім навукова-пісьменьніцкім асяродку не здабыў: Вітаўт Тумаш лічыў, што беларус мусіць пісаць пра беларускае, нават прыязны да Сядуры Юрка Віцьбіч называў яго "Павярхоўным" (з намёкам на псэўданім — Глыбінны) і пісаў, што беларускае грамадзтва яго ня ведае.*

*Дый сам Сядура як чалавек надумлівы бачыў навокал змовы й інтрыгі, асабліва пасьля свайго няўдалага кароткага рэдактарства ў "Конаднях", дзе выявіў сябе даволі дэспатычным начальнікам і, рассварыўшыся з Натальляй Арсеньневай, Рыгорам Казаком ды іншымі, мусіў падацца ў дымісію.*

*Хоць не сказаць, каб даробак Уладзімера Сядуры зусім ня быў ацэнены. Прыкладам, Аўген Каханоўскі ў лісьце да Вітаўта Тумаша пісаў:*

*"7-га сьнежня 1957 г.*

*[...] Хацеў-бы ўслух паўтарыць свой пагляд, які неаднойчы выказваў жонцы. На мой пагляд, самыя выдатныя навуковыя працы, якімі можа пахваліцца нашая эміграцыя за 15 год свайго існаваньня, гэта: із паўнейшых манаграфіяў так дэтальна распрацаваная тэма У[ладзімерам] Сядураю «Беларускі тэатар і драма» (із увагамі праф[эсара] А[леся] Карповіча); із меншых сваім аб'ёмам, але глыбейшых філязофскім абагульненьнем і арыгінальнасьцю ідэяў працы праф[эсара] Л[ява] Акіншэвіча «Пра "цывілізацыйныя асновы" беларускага гістарычнага прагрэсу», Вашая «Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў у Беларусі» і «Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры». Нягледзячы на тое, што першыя дзьве із апошніх працаў па-рознаму падыходзяць да высьненьня цывілізацыйных асноваў нашае гісторыі й не даюць канчальны адказ на*

---

[1] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 237—257.

*пастаўленае пытаньне, а апошняя ня ўлучае ў свой сьпіс некаторых іншых пісьменьнікаў беларускага паходжаньня... гэта, аднак, не зьмяняе іх вялікае навуковае вартасьці...”*

*Ніжэй публікуюцца лісты Ўладзімера Сядуры да Лява Акіншэвіча 1954—1958 гг., арыгіналы якіх захоўваюцца ва ўкраінскім Навуковым таварыстве Тараса Шаўчэнкі (Нью-Ёрк) і якія ёсьць добрымі ілюстрацыямі да згаданага на пачатку жыцьця беларускай эліты — у сваім сьвеце і ў сьвеце новым — амэрыканскім.*

*Напрыканцы хіба варта зацеміць, што мо ня толькі наважнасьць Уладзімера Сядуры служыць дзьвюм культурам сталася глебаю такога стаўленьня да сябе: за Лява Акіншэвіча, прыкладам, чалавека й навукоўца таксама дзьвюх культураў, змагаліся беларуская і ўкраінская эміграцыі. Хоць навуковы дый жыцьцёвы шлях апошняга ад гэтага ня стаўся прасьцейшым. Але пра тое іншым разам.*

15 кастрычніка 1954
Ню Ёрк

Вельмі Паважаны Леў Александравіч!

Рады быў атрымаць ад Вас вестачку. Шкада, што ў вас канчаецца тэрмін службы без пэрспэктывы працягу. Але і ў нас тут ува ўсіх справа ня лепш. [Антон] Адамовіч ужо ад Рысэрч Праграм[2] не атрымлівае ад 1-га ліпеня. Я нядаўна здаў апошнюю частку вялікае працы “Дастаеўскаведа за сто з гакам гадоў”[3] і мушу нешта атрымаць апошні раз. Адно прыемна, што ў наступным месяцы або на пачатку сьнежня выходзіць мая праца друкам з ілюстрацыямі аб беларускім тэатры[4]. Цяпер робяцца апошнія карэктуры і індэкс прозьвішчаў. Да яе напісалі ад Калюмбійскага Унівэрсытэту вельмі цёплую прадмову. Гэта адчыніць ёй дарогу да амэрыканскіх студэнтаў і экспэртаў у справах Усходняе Эўропы. Цяпер ужо атрымала вельмі добрыя водгукі мая новая праца пра [Фёдара] Дастаеўскага і ўжо перакладаецца на ангельскую мову для выданьня яе друкам асобнай кнігай. Вось гэтымі посьпехамі толькі і цешу душу. А на нашым нацыянальным фронце — нічога пацяшальнага. У суботу 9-га кастрычніка было першае ў гэтым зімовым сэзоне пасе-

---

[2] Маецца на ўвазе **Праграма дасьледаваньняў СССР** (***Research Program on the U.S.S.R.***), якая існавала ва Ўсходнеэўрапейскім фондзе ў Нью-Ёрку, паводле якой фінансаваліся й ажыцьцяўляліся публікацыі саветалягічных дасьледаваньняў у 1950-я гг.

[3] Маецца на ўвазе праца: Седуро, Владимир. Достоевсковедение в СССР. Мюнхен: Издание Института по Изучению Истории и Культуры СССР, 1955. 92 с.

[4] Маецца на ўвазе выданьне: Seduro, Vladimer. The Byelorussian Theater and Drama. New York: Research Program on the USSR, 1955. 517 p.

джаньне БІНІМ'а, але мне не давялося быць, бо [Натальля] Арсеньнева[5] выслала мне паведамленьне толькі праз чатыры дні пасьля паседжаньня (паштовы штэмпэль ад 14 кастрычніка). Відаць, нехта спытаўся, ці выслала яна мне паведамленьне, яна-ж і вокам не маргнуўшы, відаць, схлусіла, што выслала, а затым, каб неяк апраўдаць сваю хлусьню, паслала, калі ўжо пра гэтае паседжаньне людзі й забыліся. Дзякуй за ейную памяць аба мне, прынамсі ведаю, што такое было.

Тры тыдні таму прыяжджаў у Ню Ёрк сп. Юрка Віцьбіч, каб дамовіцца з Таварыствам Пранціша Скарыны і з Інстытутам аб адзначэньні майго 25-годзьдзя літаратурна-навуковай дзейнасьці, якое якраз спаўняецца ў гэтым годзе. Меркавалася наладзіць тры вечары: у Ню Ёрку, Саўт Рыверы і ў Кліўлэндзе. У Ню Ёрку, акрамя дакладу аб маім творчым шляху, я меўся прачытаць даклад на тэму "Візантыя і Беларусь" ды яшчэ чытаць урыўкі з маіх мастацкіх твораў. У іншых асяродках — падобная праграма, але толькі іншы мой даклад, а менавіта: "Беларуская культура". Сп. Янка Станкевіч вельмі цёпла паставіўся да мяне і ішоў ахвотна на гэта, пакуль не пачуў, што гэта будзе рабіцца разам з Інстытутам[6]. Тут ён пачаў гаварыць, што ён з Інстытутам ня мае ніякіх дачыненьняў і ня хоча мець, бо Інстытут быццам бы і створаны быў з мэтаю разбурыць Таварыства. Калі-ж [Юрка] Віцьбіч паехаў да сп. [Вітаўта] Тумаша, дык там нешта падобнае пачуў пра Таварыства. Акрамя таго, па словах сп. [Юркі] Віцьбіча, [Вітаўт] Тумаш наваліўся на [Ўладзімера] Сядуру ды пачаў непрыстойна выказвацца аб апошнім. І хаця ён і згадзіўся на сумесны з "Шыпшынай"[7] вечар, аднак пакінуў у [Юркі] Віцьбіча паскуднае ўражаньне, як езуіт. Сумным пакідаў Ню Ёрк сп. [Юрка] Віцьбіч. Затое ў Саўт Рыверу, калі ён толькі заікнуўся аб маім юбілею, дык моладзь адразу энтузыястычна падтрымала ідэю і абяцала найлепшую залю ў Саўт Рыверу і поўны збор да краёў. Масей Сяднёў узяўся прачытаць вялікі даклад. Так-жа энтузыястычна паставіліся да гэтае ідэі ў іншых беларускіх асяродках, ужо шлюць запросіны і прапановы зь іншых гарадоў. На гэтым прыемным фоне яшчэ больш адчувальным робіцца смурод, які ідзе з Бруклінскага хутару. Сп. [Антон] Адамовіч, як быў у Саўт Рыверу, абяцаў [Юрку] Віцьбічу, што прачытае даклад пра мяне ў Ню Ёрку. Але мне здаецца, што гэта ён паабяцаў пад чаркай, а ці спраўдзіць яго, ня ведаю, бо тут яму нашэптваюць на вуха

[5] Натальля Арсеньнева ў той час выконвала абавязкі сакратара БІНіМу.

[6] Маецца на ўвазе БІНіМ.

[7] **Літаратурнае аб'яднаньне "Шыпшына"** — арганізацыя, створаная ў красавіку 1946 г. з ініцыятывы Юркі Віцьбіча й Натальлі Арсеньневай. Пастулявала наступныя задачы: згуртаваць літаратараў, што апынуліся на эміграцыі; працаваць над стварэньнем вялікай літаратуры, годнай беларускага народу; стаяць на варце свабоды творчасьці й яе высокага мастацкага ўзроўню.

розныя зайздросьнікі і дробныя правакатары тыпу [Міколы] Панькова, якія ня могуць жыць, каб ня муціць ваду вакол. Нарэшце, мяне асабіста ўсё гэта зусім не абыходзіць. Я раблю сваю справу па-ранейшаму і буду рабіць, што мне падказвае доўг перад краінай, якая дала мне жыцьцё, мову ды ўспаіла сваімі сокамі. Скарынінскую любоў да месца, дзе нарадзіўся, я пранясу праз усё маё жыцьцё, дарма што там наразе лютуе Люцыфер, якому хоць словам ды здалёку прыходзіцца абламваць пер'е.

Ці там у Вас у Вашынгтоне немагчыма непадданаму прыладзіцца на службу перакладчыкам, як гэта нядаўна абвяшчалася ў "Новым Рускім Слове"[8]? [...]

Прывітаньне Вашай сямейцы.

Ваш Уладзімер Седуро

ПС. Дарэчы, у апошнім разьдзеле, прысьвечаным паходжаньню [Фёдара] Дастаеўскага і дзе даводзіцца дакумантамі ягонае беларускае паходжаньне, я ў колькіх мейсцах спасылаюся на Вашу працу што да характарыстыкі Вялікага Княства Літоўскага. Спадзяюся, Вы *"не посетуете"* на мяне за гэта. Гэта патрэбна было для аўтарытэтнасьці.

23 кастрычніка 1954
Ню Ёрк

Вельмі Паважаны Леў Александравіч!

У дадатак да папярэдняга ліста паведамляю, што др. Тумаш паведаміў мяне, што [Натальля] Арсеньнева разаслала паведамленьні аб паседжаньні Інстытуту зь непапраўленай датай шмат каму, і што гэта зроблена не адмыслова супраць мяне. Прыняў гэта да ведама. Нядаўна я напісаў сп. [Юрку] Віцьбічу ліст, просячы яго спыніць усялякую дзейнасьць у сувязі з маім юбілеем, бо на яго пачалі ўжо ціснуць асабліва брыдкімі мэтадамі даносаў. Гэтак, адразу-ж пасьля яго прыезду ў Ню Ёрк, да яго ў Саўт Рывер быў накіраваны разьяздны [Натальлі] Арсеньневай сп. [Рыгор] Казак, які давёў да ведама сп. [Юркі] Віцьбіча, што ўжо данос зроблены, але будзе яшчэ горш, калі ня спыніць юбілейнае дзейнасьці. Праўда, сп. [Юрка] Віцьбіч проста выгнаў [Рыгора] Казака. Аднак у сувязі з трывогай, якая цяпер ахапіла шмат каго пасьля дрэннага канца зь бярозаўскай[9] хваробай, турбуючыся за спакой і бясьпеку

[8] ***"Новое Русское Слово"*** — расейскамоўная газэта, што выходзіла ў Нью-Ёрку ў 1910—2010 гг.

[9] Словазлучэньне **"бярозаўская хвароба"** зьявілася ў ЗША ў 1950-х і стала вынікам сытуацыі, зьвязанай з асобай **Радзівона Бярозава** (сапр. рас. *Акульшин*, 1896—1988), расейскага пісьменьніка, які, ратуючыся ад дэпартацыі зь Нямеччыны ў СССР пасьля Другой сусьветнай вайны, пры выезьдзе ў ЗША замест сапраўднага прозьвішча падпісаўся псэўданімам.

сп. [Юркі] Віцьбіча, я прасіў яго пакінуць гэтую справу на далёкае будучае, каб неяк змусіць замаўчаць прафэсыянальных брахуноў.

У мінулым лісьце я не пісаў пра Мюнхенскі Інстытут. Але калі-б у Вас ня было-б нічога лепшага, дык даставалі-б невялікую стыпэндыю адтуль. Бяда ў тым, што ад аднае стыпэндыі да другое праходзіць багата часу, бо для кажнае наступнае стыпэндыі патрэбен добры водгук аб папярэдняй працы. А гэта пры вялікім бюракратычным апараце і невялікай колькасьць фахоўцаў ня гэтак проста і хутка атрымліваць. Але некалі будзе магчымасьць атрымліваць адразу гадавыя стыпэндыі. Гэта ўжо зусім зьначвае становішча. Будзем спадзявацца на лепшае. Наразе я яшчэ ня ведаю, каб хто атрымаў гадавую. Што чуваць адносна гэнае ўстановы, адрас якой я паслаў Вам мінулы раз? Мяне цікавіць, ці там бяруць сапраўды толькі падданых, ці і з тых, што яшчэ падданства ня мае.

З пашанай,

Ваш У[ладзімер] Седуро

20 сьнежня 1954
Ню Ёрк

Вельмі Паважаны Леў Александравіч!

Дзеля таго, што нам не давялося пагаварыць, пішу гэты ліст. Першнаперш паведамляю, што ў гэтым годзе Сошэл Сайенс Рысёрч Каунсіл[10] запачаткаваў новую, упяршыню ўводжаную праграму: Грантс-ін Эйд оф Рысёрч[11]. Вам якраз яна падыходзіць, бо не абмяжоўвае ўзросту. Але там трэба гэтак разьлічыць, каб якраз укласьціся ў 2,500 даляраў: часткава на ўтрыманьне сябе й сям'і на колькі месяцаў, а часткава на іншыя выдаткі. Я дасылаю Вам праграму, і Вы заарыентуецесь.

Па-другое, зьвярніцеся ў Г'юмэн Рылэйшэн Эры файлс (адрас падаю ніжэй). Там цяпер утвараецца нейкі новы дасьледчы аддзел. Мне не давялося самому атрымаць анкету ў Амэрыканскім Камітэце[12]: іх да

Празь нейкі час па прыезьдзе ён прызнаўся ўладам у зьмене прозьвішча, быў арыштаваны й меўся быць дэпартаваным у Нямеччыну. Аднак Бярозава-Акульшына апраўдалі, паколькі было прынята да ўвагі, што ён зьмяніў прозьвішча ў сувязі з пагрозай ягонаму жыцьцю. У гэтай справе значную ролю адыграла палітычная падтрымка тагачаснага сэнатара, будучага прэзыдэнта ЗША Джона Кенэдзі. Для беларускіх паваенных эмігрантаў сытуацыя была актуальная, бо багата хто прыехаў у ЗША са зьмененымі асабістымі зьвесткамі ў дакумэнтах, у тым ліку й Юрка Віцьбіч.

[10] *Social Sciences Research Council* (анг.).

[11] *Grants and Aid of Research* (анг.).

[12] **Амэрыканскі камітэт вызваленьня народаў Расеі** (з 1953 г. — **Амэрыканскі камітэт вызваленьня ад бальшавізму**) быў заснаваны на ініцыятыву Дзяржпартамэнту ЗША як прыватная ўстанова ў штаце

таго, як я даведаўся, разабралі. Але я напісаў ім па адрасу, магчыма, вышлюць. Напішыце і Вы: можа, што і выгарыць. З пашанай і прывітаньнем Вашай сямейцы.

Ваш У[ладзімер] Седуро

2 студзеня 1956

Праф[эсару] Л[яву] Акіншэвічу
Вашынгтон

Дарагі Леў Александравіч!

Даўно ўжо я не пісаў ліста да Вас і таму чуюся вінаватым. Але справа ў тым, што не было чым асабліва пахваліцца: увесь час бяз працы. Яшчэ да жэнеўскае канфэрэнцыі добра ішлі скрыпты для Амэрыканскага камітэту, але пасьля і гэта прыпынілася. Цяпер вельмі цяжка напісаць, каб прынялі, бо пэўнае кола расейцаў трымае ўсё ў сваіх руках, а ў Мюнхэн паслаць таксама цяпер цяжэй, бо шмат бракуюць. Ведама, завочна цяжка ўгадзіць, ды спагада заўсёды тым, хто бліжэй пад рукамі.

Цікава, дзе працуе А[ляксандар] Філіпаў[13], што ўлетку падаўся ў Вашынгтон? Ён, на жаль, нікому ня піша.

Спадзяюся, што Вы за гэты час ужо прымацаваліся настала. Рады за Вас. Вы ўсё-ж такі ў асяродку ўсіх установаў і магчымасьцяў.

Дасылаю тут водгукі на мае працы. За апошні час зьявілася колькі прыемных мне рэцэнзіяў. Дзе-каторыя Вы, магчыма, чыталі. Прыкладзеную тут газэтную выразку з *“Русского Слова”* (Парыж), спадзяюся, Вы мне пры нагодзе Вашага ліста да мяне зьвернеце. Была таксама рэцэнзія на маю кнігу ў газэце “Бацькаўшчына”. Толькі друк [Вітаўта] Тумаша ігнаруе. Тым горш для яго. З такой дурной палітыкай далёка не заедзе.

Гэтымі днямі атрымаў афіцыйную падзяку ад трасты-борд Фордаўскага Фонду[14] за маю кнігу “Беларускі тэатр і драма”. Вельмі прыемна, што кніга гэта атрымала вызнаньне амэрыканскіх колаў.

Прывітаньне й здаровейка Вашай палове. З пашанай,

Ваш Уладзімер Седуро

---

Дэлаўэр (*Delaware*). Галоўнай задачай арганізацыі было стварэньне каардынацыйнага цэнтру змаганьня народаў СССР супраць бальшавікоў.

[13] **Аляксандар Філіпаў** (рас. *Александр Филиппов*, 1891—1967), украінскі дасьледнік-саветоляг. У 1944—1945 гг. — прафэсар сацыялёгіі ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. З 1952 г. жыў у ЗША.

[14] ***Ford Foundation***, **Фордаўскі фонд** — амэрыканская дабрачынная арганізацыя, заснаваная ў 1936 г. Фінансуе праекты дзеля падтрыманьня дэмакратыі, скарачэньня беднасьці, пашырэньня міжнароднага супрацоўніцтва й чалавечага разьвіцьця.

10 марта 1958
Нью-Ёрк

Праф[эсару] Л[яву] А[ляксандравічу] Окіншэвічу
у Вашынгтоне, ДС[15]

Дарагі Леў Александравіч!

Даўно мы ўжо ня мелі ліставаньня. Гады з два ад Вас ня было вестачкі. Як Вы жывеце? Спадзяюся, усе Вашы здаровыя і Вы самі пасьпяхова штурмуеце амэрыканскія ўстановы Вашынгтона. Пэўне-ж, Вы ўжо замацаваліся настала ў Бібліятэцы[16] і тым забясьпечваеце сабе пэнсыю і сталае ўтрыманьне.

Мне ня было чым асабліва пахваліцца за апошнія два гады. У канцы 1956 і на пачатку 1957 году я спрабаваў паступіць на бібліятэчнае аддзяленьне Калюмбійскага ўнівэрсытэту, тады-ж і Вас прасіў паслаць рэкамэндацыю, за што дзякую. Але мне не прышлося скарыстаць з гэтага. Якраз упяршыню за ўвесь час былі ўвялі абмежаваньні ўзросту, і я аказаўся застарым для Бібліятэчнае школы, а ў іншыя я не спрабаваў паступаць. А без фаху (бібліятэчнае адукацыі) на правох канцылярыстага я не ўважаў за патрэбнае трымацца і бібліятэчнае працы ў Калюмбіі. Вось-жа ўжо каторы год я фактычна ня маю сталае працы. Жыву ад выпадковае працы ад выпадка да выпадка. От-жа гэтыя выпадкі і псуюць і стрымваюць шукаць сталае працы. Ды і дзе-ж яе знойдзеш? [Антону] Адамовічу ўдалося ўлезьці на працу ў якасьці перакладчыка ў Амэрыканскі Камітэт. Улез туды яшчэ раней і Яфрэмаў[17]. Наагул усе ўжо ўладзіліся, акрамя мяне. Я адзін яшчэ апошні магікан з усяго складу нашае колішняе рысёрчпраграмаўскае групы бяз працы.

Вось-жа не сярдуйце, што ня пісаў — не было аб чым.

А нашых цяпер у Вашынгтоне прыбыло: там і праф[эсар] [Аляксандар] Філіпаў, і праф[эсар] Домгер[18]. Пэўне-ж бачылі іх дзе-небудзь на сходзе ці дакладзе.

Надоечы чытаў Вашыя працы ў Амэрыкен энд Іст Юропіен Рыўю: аб кнізе Гісторы ін а Чэнжынг Уорлд[19] і па савецкай

---

[15] **ДС — *District Columbia (DC)*** (анг.) — Акруга Калюмбія, сталічная тэрыторыя ЗША.

[16] Маецца на ўвазе Бібліятэка Кангрэсу ЗША, у якой працаваў Леў Акіншэвіч.

[17] Магчыма, маецца на ўвазе **Сяргей Яфрэмаў** (укр. *Сергій Єфремов,* 1893—1966), украінскі вайсковы дзеяч, галоўнакамандуючы нацыянальнай абароны Карпацкай Украіны, вайсковец арміі УНР. Ад пач. 1950-х жыў у ЗША.

[18] **Людвіг Домгер** (рас. *Людвиг Домгер*, 1894—1984), расейскі літаратуразнаўца нямецкага паходжаньня, пушкініст. З 1950 г. жыў у ЗША.

[19] Маецца на ўвазе публікацыя: Okinshevich, Leo. Geoffrey Barraclough. History in a changing world. Norman, Oklahoma: University of Oklahoma Press. 246 pp. // American Slavic and East European Review. Vol. 16. № 4. 1957. P. 558—560.

гістарыяграфіі[20]. Мне падабалася, што Вы прыгадалі аўтару аб існаваньні такой важнай і цікавай кнігі, як “Россия и Европа” Дан[ілеўска]го[21]. Маю цяпер і Вашу кнігу па гістарыяграфіі па-ангельску[22]. Пішыце.

Ваш Уладзімер Седуро

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

[20] Маецца на ўвазе публікацыя: Yaresh, L. The “peasent wars” in Soviet historiography // American Slavic and East European Review. № 3. 1957. P. 241—259.

[21] **Мікалай Данілеўскі** (рас. *Николай Данилевский*, 1822—1885), расейскі сацыёляг, культуроляг, публіцыст, адзін з заснавальнікаў цывілізацыйнага падыходу ў вывучэньні гісторыі.

[22] Маецца на ўвазе выданьне: Yaresh, Leon. Two Essays in Soviet Historiography: The Centralized Russian State of the seventeenth Century. The Age of Catherine II. New York City: Research Program of the USSR, 1955. 61 p.

*Архівы*

# НЕВЯЛІЧКІ ЎРОК ГІСТОРЫІ АД ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

*Усе вучаць гісторыю, але ніхто чамусьці ня вучыцца ў яе.*

*Ліст, які ніжэй публікуецца, хіба не патрабуе ані адмысловай прадмовы, ані камэнтаваньня.*

*Істотны не назоў тае ці іншае арганізацыі або яе дэклярацыі. Для беларускага руху важна, што застанецца пасьля яе дзейнасьці: рангі, мэдалі ці хоць адзін том матэрыялаў.*

21 верасьня 1974 г.

Вельмі Паважаны Спадар [Радаслаў] Астроўскі[1]!

Унасьледак за атрыманымі 2-а лістамі, перш ад спадара Н[ікандра] Мядзейкі за Вашым подпісам — ліст аб наданьні вайсковае рангі, а другі ліст апытальны з Брукліну, аднак з Вашым адваротным адрысам, гэтта адказваю наступнае:

— я не згаджаюся ўступіць у сябры БЦР, ні выконваць якое-небудзь функцыі гэтага воргану;

— настойліва прашу выкрэсьліць мяне з лісты асобаў, якім Вамі былі нядаўна паданыя ахвіцэрскія рангі.

Лічу нацыянальным абавязкам выказаць мой погляд на паўсталую сытуацыю. Гэтая чародная акцыя з боку БЦР — ёсьць непаважная й літаральна невытлумачальная. У беларускае грамады ў Вольным Сьвеце, а перадусім у тае часткі, якая лічыць беларускім здабыткам і астатнім словам у дзялянцы нашага дзяржаўна-адміністрацыйнага жыцьця нацыянальную працу пры немцах, другая частка нашага грамадства, як Вам ведама, жыцьцё й дзейнасьць БЦР лічыць скончанай у 1945 годзе — выкліча незадавальненьне, абурэньне, пачуцьцё нялоўкасьці і абаснаваную насьмешку. На мой погляд, БЦР зрабіла-б значна большую паслугу беларускаму нацыянальнаму руху, каб падрыхтавала і надрукавала паважныя тамы матарыялаў да гісторыі Беларусі пэрыяду 1941—1944 гг. заміж імкненьня ўвайсьці ў адміністрацыйна-грамадзкае жыцьцё грамады ў Злучаных Штатах.

З пашанай, Вітаўт Кіпель

---

[1] **Радаслаў Астроўскі** (1887—1976), грамадзкі дзеяч, пэдагог, прэзыдэнт БЦР (1943—1976).

***Вольга Зубко***
*Вінньніца*

# БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ Ў МІЖВАЕННАЙ ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ: “ЗАЛАТЫЯ 1920-я” Й НАВУКОВА-ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС

*Час ад часу навука, нароўні з чорт ведае*
*якімі адкрыцьцямі, пацьвярджае на ўзроўні*
*апошніх дасягненьняў тое,*
*што людзі й так заўсёды ведалі.*

Міхаіл Велер, “Касандра”

*2020 год*. Беларусь — на парозе новага дзесяцігодзьдзя. Нягледзячы на палітычную (пратэставыя спробы пабудовы дэмакратычнага грамадзтва пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у жніўні) і сацыяльна-эканамічную (злом сацыяльна арыентаванай мадэлі эканомікі) нестабільнасьць, Беларусь і беларусы ўваходзяць у новае дзесяцігодзьдзе выразна прасунутымі й інтэлектуальна кемлівымі. Іх галоўны палітычна-эканамічны канёк — аўтсорсінг — дыстанцыйнае распрацоўваньне праграмнага забесьпячэньня.

Так, *“самы вядомы IT-спэцыяліст краіны”* й адзін з ініцыятараў ды распрацоўнікаў дэкрэту “Аб разьвіцьці лічбавай эканомікі” Віктар Пракапеня (нар. 1983) і ягоная былая кампанія *Viaden Media* (2000—2011) — аўтары такіх гітоў для *iPhone* і *iPad*, як *All-in Fitness*, разумны будзільнік і *Yoga.com*. Адзначым, што *All-in Fitness* ужо даўно праводзіць чэмпіянат у 40 краінах сьвету ў разьдзеле *Healthcare & Fitness AppStore*. Усяго колькасьць установак гэтага дадатку перавысіла 200 мільёнаў да 2011 г., у той час як *Viaden Media* фактычна стаў найбуйнейшым распрацоўнікам праграмных наладаў для мабільных тэлефонаў на постсавецкай прасторы[1]. Пры канцы 2011 г. Віктар Пракапеня прадаў *Viaden Media* ізраільскаму прадпрымальніку й заснавальніку праграмнай кампаніі *Playtech* Тэдзі Сагі за 95 мільёнаў эўраў.

Беларускія карані мае аналяг *WhatsApp* — *Viber*. І хоць ён быў прададзены ў 2014 г. японскай кампаніі *Rakuten* (сума дамовы складае

[1] https://dev.by/news/samaya-populyarnaya-sportivnaya-programma-dlya-iphone-vypuschena-belorusskoy-kompaniey.

900 мільёнаў даляраў), аднак офісы тэхнічнага разьвіцьця й падтрымкі кліентаў заставаліся ў Менску й Берасьці[2].

У 2014 г. расейская група *Mail.ru* выкупіла беларускі сэрвіс *Maps.me*.

У 2016 г. амэрыканскі *Facebook* набыў *Masquerade (MSQRD)* — праграму беларускіх распрацоўнікаў *Masquerade Technologies* для нанясеньня масак і фільтраў на фатаграфіі й відэа. А *Google*, у сваю чаргу, у 2017 г. набыў беларускую кампанію *AIMatter*, якая спэцыялізавалася на распрацоўваньні праграмнага забесьпячэньня ў галіне *“камп’ютэрнага зроку”* (сумы апошніх трох трансакцыяў не раскрываюцца). Пра беларускі сьвет *World of Tanks* і размовы няма...

Аднак вернемся на 100 гадоў назад.

*1920-я*. У той час чалавецтва таксама было на піку тэхналягічнага прарыву, хуткага палітычнага разьвіцьця й пэрспэктыўных сацыяльных прагнозаў. І аднымі зь першых суродзічаў, хто адчуў гэта й, галоўнае, скарыстаў, былі *“выкінутыя за мяжу”* беларусы — палітычна сьведамая вясковая беларуская моладзь і невялікая праслойка інтэлігенцыі, якая апынулася, у прыватнасьці, у міжваеннай Чэхаславаччыне ў пачатку 1920-х гг.

*“Залатыя дваццатыя”*, альбо *“інтэлектуальна разьвітыя дваццатыя”* — гэтыя назовы сапраўды адпавядалі зьместу. У гэты пэрыяд навуковыя ды тэхналягічныя рэвалюцыі набралі моц. Лядоўня, аэразольны балёнчык, электрабрытва, электраэнцэфалёграф, кантактныя лінзы, бульдозэр, брук, паліграф — міжваенная Чэхаславаччына зь вялікай цікавасьцю “знаёмілася” з гэтымі ды іншымі тэхнічнымі адкрыцьцямі. Не адкідала яна й сацыяльна-культурныя вынаходніцтвы, зьвязаныя з тэлебачаньнем, кіно, модай і мэдыцынай.

Зразумела, што частка беларускіх эмігрантаў тэхнічныя навінкі вельмі вітала, тады як іншыя іх не ўспрымалі ды ігнаравалі. Важна іншае: засваеньне набыткаў навукова-тэхнічнага прагрэсу беларусамі Прагі адбывалася ва ўмовах поўнай адсутнасьці грошай (уласных фінансавых сродкаў) і ў чэскамоўным асяродзьдзі. Пасьля распаду Аўстра-Вугоршчыны ў 1919 г. Чэхаславаччына абавязалася стабілізаваць абменны курс, каб не дапусьціць далейшай дэвальвацыі аўстрыйскай кроны, якая выкарыстоўвалася як валюта да 1925 г. Былая імпэрыя абавязалася спыніць выплату ваенных аблігацыяў і крэдытаваньне ўрадаў Аўстрыі й Вугоршчыны адпаведна. Аднак імпэрскі банк парушыў дамоўленасьці, і гэта прывяло да штампоўкі банкнотаў у міжваеннай Чэхаславацкай Рэспубліцы ды, адпаведна, да інфляцыі аўстрыйскай кроны. З 1919 г. да 1925 г. чэхаславацкая крона (*čk*) і аўстрыйская (dk — *Deutsche Eine*

[2] URL: https://www.epravda.com.ua/news/2014/02/14/419980/https://www.epravda.com.ua/news/2014/02/14/419980.

*Krone* 1919—1925) суадносіліся як 1:60[3]. У той час як з 1923 г. да 1933 г. афіцыйны курс чэхаславацкай кроны да даляра ЗША складаў 100:2,96 альбо 100:3.

Беларуская моладзь вучылася пераважна альбо ў чэхаславацкіх ВНУ, альбо ва ўкраінскіх эміграцыйных. Тамсама працавала й беларуская прафэсура. Такім чынам, фінансы эмігрантаў — гэта, у першую чаргу, датацыі чэхаславацкага ўраду ў межах "Расейскай дапаможнай акцыі".

"*... Юнак праходзіў па пустынных вуліцах, міма высокага каменнага будынку, на дзвярах якога было напісана «Беларуская грамада ў Празе»... Мімаволі юнак застанавіўся каля гэтага надпісу і, нягледзячы на дождж, пачаў углядацца ў літары. Сэрца яго цікала мацней гадзінніка ў левай кішэні. Ён глядзеў на літары і думаў: «Ці магчыма? Ці магчыма шчасце?» Ён ішоў у Беларускую грамаду даведацца, ці дадуць яму стыпендыю, і... цяпер дрыжэў ад трывогі...* "[4]

Максымальны памер стыпэндыі студэнта-беларуса быў роўны 550 кронам (1923—1927), мінімальны — 350 кронам (1928—1930), у даляравым варыянце ён вагаўся ад 9 да 15 даляраў, а штомесячны пражыткавы мінімум складаў 1000—1200 чэхаславацкіх кронаў (каля 30—32 даляраў) у 1920-х. Памер заробку прафэсарска-выкладчыцкага складу быў роўны, у сваю чаргу, 1000—1500 кронаў з даплатамі на сям'ю й дзяцей ад 200 да 500 кронаў. (Адзначым: сусьветны эканамічны крызіс 1929 г. паўплываў на міжваенную Чэхаславацкую Рэспубліку крыху пазьней, у 1932 г., і таму працягваўся ў краіне да 1935 г.).

Зь першых жа дзён перабываньня ў Чэхаславаччыне беларускія выгнаньнікі актыўна заглыбляліся ў чэскае моўнае асяродзьдзе. І гэта пры тым, што ў чэскай мове вельмі складаная граматыка. (Цікава, што славацкая мова — больш блізкая да беларускай.) Праблемаў у вывучэньні чэскай мовы ў праскіх беларусаў пераважна не назіралася. Вучоба, праца, зносіны з паліцыяй і адміністрацыяй рабіліся афіцыйным спосабам вывучэньня й выкарыстаньня ведаў чэскай мовы. У нефармальнай абстаноўцы своеасаблівымі рэпэтытарамі выступалі тэатры, выставы, канцэрты, вечарыны й, нарэшце, рэстарацыі з "гасподамі".

"Господа" — адзін з сапраўдных даўніх сымбаляў Чэхіі, якія распавядаў пра культуру гэтай краіны ня менш, чым замкі й палацы. Менавіта ў такіх установах чэскія інтэлектуалы XIX стагодзьдзя абмяркоўвалі будучыню свайго народу. У 1920-х "господа" была папулярным месцам

[3] Шуст, Р. Золота кронова валюта // Енциклопедія історії України: у 10 т. Т. 3: Е — Й. Київ: Наукова думка, 2005. С. 373.

[4] Вальтар, Віктар. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 87.

сустрэчаў, дзе можна было пакаштаваць ня толькі разьліванае чэскае піва, традыцыйныя закускі, але й проста пагутарыць.

З 1869 г. асноўнай піўной маркай краіны было ведамае й цяпер піва *"Staropramen"*. Аднак для праскіх беларусаў улюбёным півам стала цёмнае "флякоўскае" піва, або на студэнцкім жаргоне *"флякоўка"*. Піўная *"U Fleků"*, якая пачалася як сямейны бізнэс, была заснавана яшчэ ў 1499 г. У 1762 г. яна была набытая Якубам Флякоўскім (*Jakub Flekovský*), які й даў ёй назву. *"Flekovská třináctka"* (*"Флякоўская трынаццатка"*) падкупляла праскіх эмігрантаў выключным смакам. Валянцін Сімянцеў згадваў: *"За 22 гады майго жыцьця ў ЧСР я так і не навучыўся піць піва. А вось маім беларускім сябрам (Мікалаю Абрамчыку, Віктару Вальтару, Томашу Васільеву, Мікалаю Жураўкову, Уладзімеру Каржу, Лявону Мэнке ды іншым) «Флякоўка» прыйшлася даспадобы"*[5].

"Залатыя 1920-я" прызвычаілі праскіх беларусаў і да цыгарэтаў. Паліць у той час было вельмі модна й прэстыжна. Пра гэта на кожным кроку нагадвала рэкляма. Аднак калі авіятары й аўтамабілісты палілі дарагія *"Marlboro"* й *"Camel"* (ведамыя на тэрыторыі Чэхіі амэрыканскія брэнды яшчэ з 1904 г.), жанчыны — *"Winston"*, то праскія беларусы палілі выключна чэскую *"Vlasta"* (мясцовая марка танных цыгарэтаў, ведамая з 1916 г.). У 1920-х рэкляма цыгарэтаў зьяўлялася пераважна ў чэскіх газэтах і часопісах. Рэклямныя кампаніі тае эпохі спрабавалі пераканаць аўдыторыю ў гаючых уласьцівасьцях тытуню. Часопісы часта малявалі румяных лекараў у белых халатах, якія са смакам выпускалі колцы цыгарэтнага дыму. Тытунёвыя кампаніі паказвалі ў абвестках вясёлых і энэргічных людзей. Часта гэта былі ня толькі лекары, але й спартоўцы, а таксама акторы й навукоўцы. Некаторыя фірмы нават паведамлялі, што цыгарэты дапамагаюць скінуць вагу, іншыя малявалі прадстаўнікоў сярэдняй клясы — удома, на адпачынку або ў атачэньні жывёлы.

Цікава, што найбольш рашуча змагаўся са згубнай звычкай праскіх беларусаў выкладчык украінскай мовы й літаратуры ў Празе, Подзебрадах (*Poděbrady*) і Модржанах (*Modřany*) Трахім Пасечнік (1896—1968) — *"мужчына сярэдняга росту, хударлявы, зь вялікімі зялёнымі вачыма, які рэдка сьмяяўся й вельмі часта кашляў"*. Беларускія студэнты былі бязьлітаснымі ў характарыстыцы выкладчыка: *"Бывалі дні, калі яго твар нагадваў выціснутую цытрыну, а бывалі дні, калі яму ніхто ня мог нічым і ніяк дагадзіць. Аднак галоўнае: Божа збаў трапіць прад ягоныя ясныя вочы з цыгарэтай. Тады шкодны ўкраінец, прачытаўшы лекцыю пра шкоду паленьня, браў у рукі сваю скрыпку*

[5] Сімянців, В. Студентські часи. (Спогади). Чехо-Словаччина. Роки 1923—1929. Вашингтон, 1973. С. 72.

*й пілікаў нам на нэрвы сваю ўлюбёную песьню на словы Сьцяпана Руданскага "Віють вітри, віють буйні, аж дерева гнуться"*[6].

Паколькі піва й цыгарэты ў нефармальных зносінах прадугледжвалі й музыку, дадамо колькі словаў пра папулярныя ў 1920-я джаз, чарльстон і факстрот. У коле праскіх беларусаў новая музыка й новыя танцы практычна не знаходзілі водгукаў. Свае (народныя) песьні, "Лявоніха", расейскі раманс (у Празе ў красавіку 1925 г. з канцэртамі выступаў Фёдар Шаляпін) ды зрэдку "Мурка" — вось тое, што адгукалася ў беларускай эмігранцкай душы[7].

Беларуская праская супольнасьць у адрозьненьне ад чэхаў і славакаў падчас "залатых дваццатых" халаднавата ставілася да такіх культурна-тэхналягічных інавацыяў, як кіно й тэлебачаньне. Як пісаў у сваіх успамінах подзебрадзец інжынэр-гідратэхнік, скульптар Валянцін Сімянцеў, "*наддняпранцы, а таксама беларусы й кубанцы, рэдка хадзілі ў кіно. У асноўным усе вучыліся й працавалі, бывалі ў музэях і тэатрах; а чэскае піва больш за ўсё спрыяла конкурсам нацыянальных песень*"[8]. У кінаіндустрыі маладой Чэхаславацкай Рэспубліцы, у адрозьненьне ад ЗША, эпоха "нямога" кіно доўжылася з 1921 да 1929 гг. На працягу дзевяці гадоў існавалі прафэсійныя кінастудыі, у прыватнасьці, чэская студыя "Барандаў", створаная братамі Вацлавам і Мілашам Гавэламі (1921 г.). У гэты час ведамымі чорна-белымі нямымі стужкамі былі: нацыянальныя *"Utpenim ke slávě"* ("У імя жарсьці", рэж. Р. Брональда, 1919), "Сьвяты Вацлаў" (рэж. Я. С. Колара, 1929); гістарычны "Будаўнік храму" (рэж. К. Дэгла, А. Наваротны, 1920); сацыяльны "Эратыкон" (рэж. Г. Махаці, 1929); мэлядраматычны *"Varhanic u sv. Vita"* ("Арганіст царквы Сьвятога Віта", рэжысэр М. Фрыч, 1929). Паводле дакумэнтаў, у Чэхаславацкай Рэспубліцы ў 1920-я гг. здымалася каля 80 фільмаў штогод.

Чэхі, а разам зь імі й "беларуская Прага", пазнаёміліся позна й з тэлебачаньнем. Толькі ў 1938—1939 гг. Як ведама, першы мэханічны тэлевізар зьявіўся дзякуючы брытанскаму вынаходніку Джону Лоўгі Бэрду (*John Logie Baird*) у 1925 г. Пазьней лідарства ў распрацоўваньні аптычна-мэханічных тэлевізараў перахапілі немцы ў 1930-я гг. Цікава таксама, што чэхаў "абагналі" нават Саветы: першыя аптычна-мэханічныя тэлевізары былі распрацаваныя ў СССР у 1931 г., "Б-2" — *"тэлевізар*

---

[6] Прохода, В. Записки непокірного. Книга II. На чужині. Науково-культурна діяльність, боротьба за існування й перебування на чужині. Новий Ульм, 1972. С. 126.

[7] Касіян, В. З мого життя // Український культурологічний альманах "Україна — Чехія. Хроніка-2000". Ч. II. Випуск 29—30. Рік видання VIII. Київ: Фонд сприяння розвитку мистецтв України, 1999. С. 286.

[8] Сімянців, В. Студентські часи… С. 70.

*для індывідуальных карыстальнікаў”* — так называлася вынаходства ленінградзкага інжынэра, ураджэнца Украіны Антона Брэйтбарта.

Кіно й тэлебачаньне ў беларускай міжваеннай палітычнай эміграцыі саступалі тэатру. Так, у кастрычніку 1924 г. на “Беларускай радзе ў Празе” пад кіраўніцтвам Лявона Зайца й К. Шышкоўскага быў створаны Беларускі тэатральны калектыў, які цягам некалькі гадоў запар выступаў у Празе й прадмесьці — Юзэфаве (*Josefov*). Хутчэй за ўсё, перавага тэатру над кіно й тэлебачаньнем сярод праскіх беларусаў тлумачыцца некалькімі фактарамі. Па-першае, сацыяльна-псыхалягічным — тэатар быў больш блізкім адлюстраваньнем рэальнага чалавечага жыцьця, чалавечых эмоцыяў. Па-другое, культуралягічным фактарам, тэатральнымі традыцыямі Вільні, Дзьвінску й інш. Так, напрыклад, пры Таварыстве беларускай школы дзейнічала некалькі тэатральных студыяў, а ў 1922 г. у Вільні была створаная асобная аматарская тэатральная студыя — Беларуская драматычная майстэрня[9].

Людміла Краскоўская (1904—1999), у 1920-я гг. студэнтка, а потым выкладчыца Ўкраінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя М. Драгаманава ў Празе, сьведчыла пра тэатральную студыю пры Дзьвінскай дзяржаўнай гімназіі ў 1923—1924 гг.[10]

Чорна-белы здымак тэатральнага калектыву пры Беларускай грамадзе ў Празе, які захаваўся ў Нацыянальным гістарычным музэі Рэспублікі Беларусь, паказвае, што беларуская эміграцыйная супольнасьць у Чэхаславацкай Рэспубліцы актыўна выкарыстоўвала фотастэрэаскапічныя камэры. У 1920-х гг. камэра *Compur*, выробленая нямецкай фірмай *“F. Deckel”* (1912—1952, Мюнхэн), была вельмі папулярная. Большасьць фатаздымкаў тагачаснай беларускай эміграцыі зроблена з дапамогай менавіта гэткай камэры. Так, напрыклад, 20 сакавіка 1927 г. Лявон Гірыс, студэнт 3 курсу леса-тэхнічнага факультэту Ўкраінскай гаспадарчай акадэміі ў Подзебрадах, напісаў у пэтыцыі да савету ўкраінскага й беларускага гурткоўскага лесагаспадарчага руху аб практыцы арэнды абсталяваньня для камэры *Compur “за 25 геляраў у дзень”*[11] (1 чэхаславацкая крона была роўная 100 гелерам).

Фотастэрэаскапічнай камэрай *Compur* таксама зафіксавалі чэхаславацкую жаночую й мужчынскую моду й, адпаведна, модныя тэндэнцыяў у асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў. *“...Яна была проста*

[9] Вабішчэвіч, Аляксандр. Гісторыя культуры Беларусі: вучэбна-метадычны комплекс. Брэст: БрДУ, 2016. С. 114.

[10] Трус, Мікола. Браціслаўскі эпісталярый: славацка-беларускі архіўны дыскурс XX стагоддзя. Мінск: Беларуская навука, 2019. 207 с.

[11] Центральний державний архів громадських об’єднань України (ЦДАГО України). Ф. 269. Оп. 1. Спр. 891. Арк. 89—90.

*апранута, але ў гэтай прастаце чуўся смак, чуўся голас мастака, які наўмысля збягаў крыклівых фарбаў і формаў. Чорнае шоўкавае паліто прыгожа абцягвала яе стройную фігуру. Чорны капялюш з маленькімі скрыдламі, як у амурчыка, вельмі добра падкрэсліваў белізну і кругласці твару, на якім гарэлі сінія вочанькі — вочы. Праз паліто віднелася сіняе ўбранне з прыгожа адцяняўшай форму шыі кружаўной устаўкай. На нагах былі жоўтыя чаравікі…”*[12]

У жаночай модзе “залатых дваццатых” звычайна пераважалі доўгія сукенкі (як “закрытыя”, так і “адкрытыя”, з выразам на сьпіне й без рукавоў або з рукавамі) зь нізкай таліяй і паўкажушкі з паліто пераважна прамога крою з разнастайным футрам альбо ажурным антуражам. Пры адсутнасьці футра (штучнага) і ажуру абавязковай дэтальлю адзеньня былі даўгія каралі ды капелюшы-клош.

Мужчынская мода, у сваю чаргу, прадугледжвала цыліндры, кепі нестандартнай шырыні, клясычны касьцюм з трох частак, бавоўняныя кашулі, заўсёды з гальштукамі й запанкамі; твідавыя курткі з воўны з накладнымі кішэнямі, галіфэ ніжэй каленяў, камбінэзон. *“…Ён скінуў з сябе сваю даўгаполую «азіяцкую» шынель, шапку з казырком і закрыты фрэнч. Цяпер на ім было кароткае «еўрапейскае» паліто, атрыманае з камітэту разам са стыпендыяй, зялёны касцюм, каўнер з манішкай і з гальштукам…”*[13] А з актыўным разьвіцьцём аўтамабільнай і авіяцыйнай прамысловасьці ў Чэхаславацкай Рэспубліцы прыжыліся ў міжваеннай модзе й скураныя курткі.

Паколькі адзеньне ў міжваеннай Чэхаславацкай Рэспубліцы было даволі дарагім (напрыклад, кошт мужчынскай кашулі вагаўся ад 200 да 400 кронаў; жаночае паліто — у межах 800—900 кронаў), яго набывалі праз сэканд-хэнд у розных дабрачынных фондах, камітэтах і арганізацыях альбо асобнымі матэрыяльнымі плацяжамі ад дырэкцыі эміграцкіх вышэйшых навучальных установаў. Але скураныя курткі можна было набыць, толькі атрымаўшы пасьведчаньне кіроўцы. Беларускія іміграноты ў міжваеннай Чэхаславацкай Рэспубліцы наведвалі курсы кіравання ўкраінскімі трактарамі ў Празе (1924—1925). Курсы дзейнічалі на базе Ўкраінскага сялянскага саюзу. За два гады каля 300 эмігрантаў набылі пасьведчаньні кіроўцы, сярод якіх і беларускія студэнты УГА ў Подзебрадах мэханікі Ўладзімер Корж і Іван Лямбовіч[14].

Украінскія курсы трактароў вучылі кіраваць аўтамабілем дзякуючы лізінгавым машынам. Цікава, што найбольш папулярнымі сярод

[12] Вальтар, Віктар. Выбраныя творы… С. 103.

[13] Тамсама. С. 131.

[14] ЦДАГО України. Ф. 269. Оп. 1. Спр. 149. Арк. 28.

слухачоў курсаў была мадэль *Ford Model T* — "Бляшаная Лізі" (*Tin Lizzie*) — аўтамабіль, які выпускаўся *Ford Motor Company* ў 1908—1927 гг.[15]

Нельга забываць, што ў 1920-я Чэхаславаччына лічылася абутковай сталіцай Эўропы. Мясцовы абутковы магнат Томаш Баця (*Tomáš Baťa*) вырабляў штогод 225 мільёнаў параў мужчынскага й жаночага абутку. Клясычныя мужчынскія чаравікі на зручных абцасах і высокія боты былі запатрабаваныя ў мужчынаў-эмігрантаў. У той жа час жанчыны-эмігранткі пераважна насілі чаравікі й пантофлі на нізкім і высокім абцасах сярэдняй таўшчыні.

У галіне мэдыцыны міжваенная Чэхаславацкая Рэспубліка таксама ішла сваім шляхам. Ведаючы пра "адкрыты" пэніцылін (1928), інсулін (1907) і серазьмяшчальныя прэпараты (1909), чэхі, а разам зь імі й праскія беларусы (у тым ліку сябры Саюзу ўкраінскіх лекараў у Чэхаславаччыне, 1922—1940) засяродзілі ўвагу на забароненай цяпер эўгеніцы — практыцы паляпшэньня фізычнага й псыхічнага здароўя шляхам адбору, сэлекцыі чалавека (генэтыка) ды барацьбы з тубэркулёзам, псыхічнымі й вэнэрычнымі захворваньнямі, паленьнем[16].

Эўгеніка як практыка паляпшэньня фізычнага й псыхічнага здароўя, у сваю чаргу, зьвяртала ўвагу на індустрыю прыгажосьці, у прыватнасьці, на разьвіцьцё хімічнай (парфумэрнай) прамысловасьці. Менавіта ў "залатыя дваццатыя" праскія беларусы выкарыстоўвалі брыялін для валасоў (распрацаваны ў 1900 г.); чорны аловак і чорную туш для вачэй, чырвоную памаду для вуснаў; а таксама парфумы (для жанчын і мужчынаў): *"... Першы раз у сваім жыцці Тугоўскі рашыў ужыць парфумаў. Але студэнцкія рэсурсы дазволілі яму купіць толькі маленькую бутэлечку самых дрэнных пахучых зёлак. Перад ад'ездам на вечарыну ён выліў усю бутэлечку на свой касцюм, выпрасаваны ўласнай рукой, і, стаўшы нейкім дзівам, — ад паху такога трэба было ўцякаць за вярсту, — ён выйшаў вясёлы з інтэрнату. Каб не спазніцца, ускочыў у трамвай, адразу заліўшы яго сваім пахам. Нейкі стары, які сядзеў каля яго, аж пачаў задыхацца і, увесь зморшчаны, некалькі разоў азірнуўся на Тугоўскага. Нарэшце ён не выцерпеў і голасна на ўвесь трамвай прахрыпеў: «Фуй, сядзець няможна. Вы так напарфуміліся, чалавеча, што я дыхаць не магу». Усе засмяяліся на чале праважатага вагона. Тугоўскі пачырванеў. Ён толькі засмяяўся і адсеў далей ад ненавіснага старога... "*[17]

[15] Центральний державний архів вищих органів влади та управління України в м. Києві (ЦДАВОУ). Ф. 3925. Оп. 1. Спр. 5. Арк. 4.

[16] Зубко, Вольга. Янка Геніюш і Саюз українскіх лекараў у ЧСР (1922—1940): Праца й паўсядзённасьць // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 682—687.

[17] Вальтар, Віктар. Выбраныя творы... С. 175.

У 1924—1938 гг. легендарны крэм *Nivea* быў даволі папулярны сярод чэскіх і славацкіх жанчын, а таксама сярод беларускіх эмігрантаў. Гэта быў першы крэм для працяглага догляду за скурай у XX ст. Цікава, што першай яго рэклямавала беларускім жанчынам у чэхаславацкай сталіцы ў 1924 г. Алена Тэліга (1906—1942), у той час студэнтка гістарычна-літаратурнага аддзяленьня УВПІ імя М. Драгаманава ў Празе[18].

Архівы сьведчаць і пра тое, што праскія беларусы былі добра знаёмыя як з чэскімі літаратурнымі й тэхнічнымі навінкамі, гэтак і з сусьветнымі. У 1920-х беларусы аддавалі перавагу жанру фантастыкі. Гаворка ідзе пра перавыдадзены ў Празе ў 1926 г. раман Гэрбэрта Ўэлза (1866—1946) “Машына часу” (1895) на чэскай мове, а таксама пра п'есу Карэла Чапэка (1890—1938) “Росумскія ўнівэрсальныя робаты” (1920), у якой упершыню зьявілася само слова “робат”[19].

І нарэшце 1920-я — эра росквіту паштовых і тэлеграфных грашовых пераказаў. У 1921 г. у міжваенную Чэхаславаччыну прыйшла ведамая нам амэрыканская кампанія *Western Union*. І праскія беларусы цалкам ацанілі яе перавагі. Так, напрыклад, у красавіку 1927 г. студэнт-беларус трэцяга курсу (інжынэр лясной гаспадаркі) Украінскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Подзебрадах Канстанцін Дзехцяроў матываваў сваю просьбу матэрыяльнай дапамогі тым, што *“ён фінансава ўтрымлівае свайго маламаёмнага хворага брата ў Польшчы, перасылаючы яму паштовымі пераказамі большую частку сваёй стыпэндыі”*[20].

Такім чынам, сьвет, якім мы яго сёньня ведаем, быў шмат у чым прыдуманы й збудаваны ў “залатыя 1920-я”. І праскія беларусы аднымі зь першых ацанілі й скарысталі зь яго перавагаў.

---

[18] Матеріали до історії літератури і громадської думки. Т. 3.: Листування з американських архівів. 1857—1933. / УВАН у США. Нью-Йорк, 1992. С. 527—751.

[19] ЦДАГО України. Ф. 269. Оп. 1. Спр. 149. Арк. 14.

[20] ЦДАГО України. Ф. 269. Оп. 1. Спр. 893. Арк. 90.

*Публікацыі*

*Юры Грыбоўскі*
*Варшава*

# БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ ВА ЎМОВАХ АЎТАРЫТАРНАГА РЭЖЫМУ КАРЛІСА УЛМАНІСА (1934—1940 гг.)

## Уводзіны

Латвійская Рэспубліка, якая ўзьнікла на палітычнай мапе Эўропы пасьля Першай сусьветнай вайны, мела шматнацыянальны склад. Да ліку найбуйнейшых нацыянальных меншасьцяў трэба залічыць беларусаў, якія належалі да аўтахтоннага насельніцтва краіны й кампактна жылі ў адной з правінцыяў — Латгаліі. Статыстычныя зьвесткі наконт колькаснага складу беларускага насельніцтва ў міжваеннай Латвіі адлюстроўвае наступная табліца:

| 1920 | 1925 | 1930 | 1935 |
|---|---|---|---|
| 75 630 (4,74 %) | 38 010 (2,06 %) | 36 029 (1,90 %) | 26 867 (1,38 %) |

Крыніца: J. Albin. Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919—1940. Wrocław, 1994. S. 12.

Першыя спробы арганізацыі беларускага адраджэнскага руху на тэрыторыі Латвіі адбыліся падчас Першай сусьветнай вайны й адразу пасьля яе заканчэньня. Заснавальнікамі яго была група дзеячаў БНР. У 1919 г. распачала сваю дзейнасьць Вайскова-дыпляматычная місія БНР на чале з Кастусём Езавітавым. У гэтым жа годзе былі наладжаныя дыпляматычныя адносіны паміж Латвійскай Рэспублікай і БНР[1]. Пасьля Рыскага міру некаторыя беларускія дзеячы, у тым ліку Езавітаў, абралі Латвію ў якасьці сталага месца жыхарства. Да іх далучылася група беларускіх дзеячаў, якія прыбылі зь іншых краінаў (Іван Краскоўскі, Мікалай Дзямідаў, Уладзімер Пігулеўскі, Андрэй Якубецкі, Паўліна Мядзёлка, Эдвард Будзька ды інш.). Гэтая нешматлікая група стаяла ля вытокаў беларускага нацыянальна-культурнага й грамадзка-палітычнага жыцьця ў Латвіі.

Да эмігрантаў пачалі далучацца мясцовыя беларусы. На працягу кароткага часу ўдалося разгарнуць шпаркую грамадзка-культурную,

[1] Jēkabsons, Ē. Stosunki między Łotwa i Białoruską Republiką Ludową w latach 1919—1921 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. Z. 7. S. 49—62.

асьветную, выдавецкую й палітычную чыннасьць. Першай і найбуйнейшай арганізацыяй латвійскіх беларусаў можна лічыць беларускае культурна-асьветнае таварыства "Бацькаўшчына", якое дзейнічала ў 1921—1925 гг. У пазьнейшы пэрыяд ягоную працу працягвалі таварыствы "Рунь", "Беларуская Хата", "Прасьвета", а таксама Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі. Найбольшым плёнам нацыянальнай працы належыць лічыць дзейнасьць беларускамоўнага школьніцтва, якое ў першай палове 1920-х гг. налічвала каля 50 пачатковых і тры сярэднія школы. Неабходна адзначыць, што беларускі рух ствараўся "з нуля", паколькі да Першай сусьветнай вайны ў Латвіі адсутнічалі якія-колечы праявы беларускай нацыянальнай дзейнасьці. Дзякуючы ахвярным высілкам нешматлікай групы людзей Латвійская Рэспубліка, побач зь іншымі эўрапейскімі дзяржавамі (Польшчай, Чэхаславаччынай, Літвой), стала адным з галоўных асяродкаў беларускага жыцьця ў міжваенны час.

Слабым месцам мясцовага беларускага руху была адсутнасьць моцнага гаспадарчага заплечча. У сувязі з гэтым беларускія дзеячы заўсёды мусілі змагацца з матэрыяльнымі цяжкасьцямі. Беларуская інтэлігенцыя, асабліва напачатку, была вельмі нешматлікая. Разьвіцьцё нацыянальнага жыцьця ўскладняў факт, што на палітычнай мапе не існавала незалежнай беларускай дзяржавы, якая падтрымлівала б суродзічаў у Латвіі. Праўда, лідары латвійскіх беларусаў (перадусім Езавітаў) утрымлівалі шчыльныя сувязі з Савецкай Беларусьсю. Аднак дапамога з боку БССР не адпавядала патрэбам беларускай меншасьці ў Латвіі. Савецкі бок выкарыстоўваў гэтых людзей у сваіх мэтах, а са згортваньнем беларусізацыі актыўнае супрацоўніцтва спынілася.

Адным з чыньнікаў, які спрыяў разьвіцьцю мясцовага беларускага руху, была нацыянальная палітыка Латвійскай Рэспублікі. Лібэральнае заканадаўства Латвіі ў пэрыяд парлямэнцкай дэмакратыі (1918—1934) прадугледжвала існаваньне шырокай нацыянальна-культурнай аўтаноміі для прадстаўнікоў нятытульных нацыяў. Дзяржава стварыла магчымасьць дзейнасьці нацыянальнага школьніцтва й культурна-асьветных арганізацыяў, якія падтрымліваліся ўрадам. У складзе Міністэрства асьветы былі створаныя нацыянальныя школьныя аддзелы (у тым ліку беларускі), якія адказвалі за функцыянаваньне школаў сваіх нацыянальнасьцяў. У выпадку беларусаў падтрымка латвійскай дзяржавы абумоўлівалася таксама палітычнымі матывамі. Улады ў Рызе разглядалі мясцовы беларускі рух як супрацьвагу ў адносінах расейскай і польскай меншасьцяў, празьмерная актыўнасьць якіх магла ствараць патэнцыйную пагрозу тэрытарыяльнай інтэгральнасьці латвійскай дзяржавы.

## Травеньскі пераварот 1934 году й сытуацыя беларусаў Латвіі

На пачатку 1930-х гг. у Латвіі абвастрыўся палітычны крызіс, вынікам якога была заўважальная нестабільнасьць улады. Эканамічны крызіс і палітычныя зьмены ў рэгіёне спрыялі антыдэмакратычным настроям. Частка грамадзтва бачыла прычыны палітычнай нестабільнасьці ў празьмерна лібэральным дзяржаўным ладзе. Многія пачалі баяцца, што разгойданая палітычнай самаволяй дзяржаўная лодка можа раптам перакуліцца. Антыдэмакратычным тэндэнцыям спрыяла адсутнасьць у краіне неабходнай для дэмакратыі сацыяльнай базы: сярэдняя кляса была кволая й нешматлікая, а сялянства не лічыла дэмакратыю каштоўнасьцю. Многія ўплывовыя інтэлектуалы (літаратары, публіцысты), якія стаялі ля вытокаў латыскай дэмакратыі, пачалі схіляцца на бок крытыкаў дэмакратычнага ладу. Палітычны канфлікт паміж даўнімі апанэнтамі — сацыял-дэмакратамі й правым Латвійскім сялянскім хаўрусам (ЛСХ) — скончыўся паразай першых. 15 траўня 1934 г. у краіне адбыўся дзяржаўны пераварот, які ажыцьцявіў Карліс Улманіс, кіраўнік ЛСХ. Пасьля перавароту быў сфармаваны "кааліцыйны" ўрад некалькіх правых партыяў (Сялянскі хаўрус, Нацыянальнае аб'яднаньне, Партыя новых гаспадароў, Дэмакратычны цэнтар і інш.), але ў сапраўднасьці паўната ўлады засяродзілася ў руках Карліса Улманіса. Па сутнасьці, гэты палітык увёў аўтарытарнае кіраваньне. Парлямэнт быў расфармаваны, а дзейнасьць дэмакратычнай канстытуцыі й палітычных партыяў спыненая. Пасьля перавароту ў краіне было абвешчана 6-месячнае ваеннае становішча. Улманіс лічыў, што сваімі дзеяньнямі ён уратаваў краіну ад бязладзьдзя й хаосу, які ёй пагражаў бяз "моцнай рукі".

Рэжым, які ўсталяваў Карліс Улманіс, нярэдка ў гістарычнай літаратуры называюць "Латвіяй 15 траўня". Па сутнасьці, гэта была нацыянальна-кансэрватыўная дыктатура. Асаблівасьцю рэжыму Улманіса было тое, што ён не захаваў ніякіх інстытутаў дэмакратычнай улады. Гэта рабіла Латвію выключэньнем на мапе тагачаснай Эўропы, паколькі ў іншых дзяржавах, дзе таксама панаваў г. зв. мяккі аўтарытарызм, былі захаваныя прынамсі вонкавыя формы плюралізму ў выглядзе падкантрольнага дыктатару парлямэнту. У Латвіі функцыі распушчанага Сойму былі ўскладзеныя на ўрад, які быў цалкам падуладны адной асобе. Характэрнай рысай дыктатуры ў гэтай краіне быў прынцып правадырства. Улманіс лічыўся *"паўнамоцным прадстаўніком народу й дзяржавы"*, а ўрад быў выканаўцам волі правадыра. Дзеяч сыходзіў з прынцыпу "надпартыйнага" кіраваньня краінай, калі ўсе галіны грамадзка-палітычнага, эканамічнага й культурнага жыцьця засяроджваліся ў руках адной асобы. Нягледзячы на канцэнтрацыю

паўнаты ўлады рэжым Улманіса нельга назваць крывавым. У краіне не адбываліся масавыя рэпрэсіі, не выкарыстоўвалася сьмяротнае пакараньне. Рэжым 15 траўня аказаўся стабільным на працягу ўсяго пэрыяду свайго існаваньня, а апазыцыя была кволай і разьяднанай. Ва ўмовах поўнай нутранай палітычнай і эканамічнай стабільнасьці краіны ў гады аўтарытарнай дыктатуры не ўзьнікала патрэба ў выкарыстаньні дзяржаўнага тэрору супраць магчымых апанэнтаў[2].

Травеньскі пераварот і ўсталяваньне аўтарытарнага рэжыму выклікалі істотныя зьмены ў нацыянальнай палітыцы Латвіі. Улманіс як прадстаўнік правых сілаў галоўную задачу бачыў ва ўмацаваньні пазыцыі латыскага народу. Невыпадкова, што многія латышы запомнілі дзеяча менавіта як абаронцу іх нацыянальных правоў і імкненьняў, дзякуючы ўладзе якога яны адчулі сябе сапраўднымі гаспадарамі ва ўласным доме. Праўда, улады намагаліся лагодзіць празьмерныя нацыянальныя антаганізмы, сьцьвярджаючы, што *"сонца Латвіі ўсім сьвеціць аднолькава"*. Аднак насамрэч істотнай часткай аўтарытарнай ідэалёгіі была ідэя нацыянальнай дзяржавы й нацыяналізму, што выяўлялася ў патрабаваньні *"ўзнавіць нацыянальную справядлівасьць"* й стварыць *"латыскую Латвію"*. Гэтых мэтаў належала дасягнуць, забясьпечваючы латышам галоўныя ролі ў эканамічным, культурным і палітычным жыцьці.

Пасьля 1934 г. узмацнілася акцыя "латышызацыі", якая прадугледжвала паступовае абмежаваньне ўплыву нелатышоў у розных сфэрах жыцьця: эканоміцы, асьвеце, культуры. Новы Закон аб мовах ад 15 чэрвеня 1934 г. абмяжоўваў ужываньне нацыянальных моваў у дзяржаўных установах і органах самакіраваньня. Адначасова латыская мова рабілася адзінай, якая дапушчалася да выкарыстаньня ў дзяржаўных і мясцовых органах улады, а таксама падчас грамадзкіх сходаў. На выкарыстаньне іншай мовы падчас імпрэзаў, мітынгаў і сходаў належала атрымаць адмысловы дазвол МУС. Палітычныя партыі нацменаў спынілі сваё існаваньне адразу пасьля перавароту, бо дзейнасьць усіх палітычных сілаў у краіне была забароненая. Тым часам у другой палове 1930-х гг. зьнік і шэраг грамадзкіх і культурна-асьветных арганізацыяў меншасьцяў. Палітычная паліцыя дэлегалізавалі іх пад выглядам змаганьня зь *"нядобранадзейнымі"* й *"антыдзяржаўнымі"* сіламі[3].

Выразным паказьнікам зьменаў палітыкі ў дачыненьні нацыянальных меншасьцяў была сытуацыя асьветы. Пасьля 1934 г. пачаўся

[2] Больш падрабязна пра пераварот і яго наступствы гл.: Блейере, Дайна; Бутулис, Илгварс, Зунда Антонийс и др. История Латвии, XX век. Рига, 2005. С. 161—179.

[3] Łossowski, Piotr. Kraje bałtyckie na drodze od demokracji parlamentarnej do dyktatury: 1918—1934. Wrocław, 1972. S. 253—254, 261—263.

наступ на школьную аўтаномію нацменаў, што выклікала зьмяншэньне ліку школаў для прадстаўнікоў нелатыскай нацыянальнасьці. 12 ліпеня 1934 г. быў прыняты новы Закон аб школьніцтве, які фактычна перакрэсьліў аўтаномію для нацыянальных меншасьцяў у галіне асьветы. У адпаведнасьці з гэтым актам школы нацменаў маглі наведваць толькі вучні нелатыскай нацыянальнасьці. Тым часам дзеці, якія паходзілі зь мяшаных сем'яў, мусілі хадзіць выключна ў латыскія школы[4]. 1 жніўня 1934 г. Міністэрства асьветы забараніла выкарыстаньне ў школах нацыянальных меншасьцяў падручнікаў, якія выйшлі за мяжой. Пераломным момантам у ліквідацыі школьнай аўтаноміі было скасаваньне ў гэтым жа годзе школьных аддзелаў і стварэньне на іх месцы рэфэрэнтураў, падпарадкаваных Агульнаму дэпартамэнту Міністэрства асьветы. Варта пры гэтым дадаць, што колькасьць нелатыскіх школаў паступова скарачалася шляхам ператварэньня іх у латыскія альбо нацыянальна-мяшаныя[5].

Зьмены нацыянальнай палітыкі адмоўна паўплывалі на стан усіх нелатыскіх нацыянальных групаў, але асабліва балюча іх адчулі беларусы як найменш арганізаваныя й незаможныя. Рэагуючы на падзеі ў краіне, беларускія дзеячы вырашылі падкрэсьліць сваю ляяльнасьць у адносінах новых уладаў, каб пазьбегчы перасьледу. Доказам гэтага можа быць паседжаньне Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі, удзельнікі якога даслалі прывітальную тэлеграму Улманісу. Прысутны на гэтай сустрэчы Кастусь Езавітаў наступным чынам камэнтаваў згаданы крок у лісьце да віленскага беларуса Язэпа Найдзюка: *“Пратэставаць супроць пасылкі тэлеграмы было немагчыма, гэта значыло-б, што ўсіх пратэстантаў улада загадала-б “завесіць” і нават зусім выкінуць з Т[аварыст]ва. А калі-б аказалася большасьць, дык і ўсё Т[аварыст]ва было-б зачынена. Пішу гэта не для прэсы, а толькі для ведама і для гісторыі сучаснага нашага палажэньня”*[6]. Трэба адзначыць, што ў гэтым сэнсе беларускія дзеячы не вылучаліся супэрляяльнасьцю, паколькі падобныя заявы зрабілі й кіраўнікі іншых нацменаў. Не было ў гэтым нічога надзвычайнага й дзіўнага, паколькі яны кіраваліся рацыянальным прынцыпам самазахаваньня. Лідэры нацыянальных меншасьцяў усьведамлялі, што ім не належыць чакаць нічога добрага ад кіраваньня Улманіса, але адначасова разумелі, што як прадстаўнікі нятытульных нацыяў яны

---

[4] Albin, Janusz. Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919—1940. Wrocław, 1994. S. 162.

[5] Paśla dziaržaǔnaha pierawarotu ŭ Łatwii // Беларуская Крыніца. № 24. 5 чэрвеня 1934. С. 2.

[6] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 458. Воп. 1. Спр. 94. Арк. 14.


Уладзімер Пігулеўскі

павінны прыстасавацца да бягучай сытуацыі й намагацца жыць у згодзе з кожнай уладай, якая панавала ў краіне.

Дэманстрацыя ляяльнасьці не ўратавала, аднак, беларусаў (разам зь іншымі нацменамі) ад далейшых захадаў новага ўраду, скіраваных на абмежаваньне іх грамадзкай і культурна-асьветнай актыўнасьці. Некаторыя беларускія актывісты сталі ахвярамі рэпрэсіяў адразу пасьля дзяржаўнага перавароту. Гэта датычыла сябраў партыі латвійскіх сацыял-дэмакратаў альбо тых, хто быў ведамы сваімі левымі поглядамі. Варта, аднак, адзначыць, што гэтыя людзі трапілі пад рэпрэсіі не з прычыны сваёй нацыянальнасьці, а таму, што былі зьвязаныя з супрацьлеглым лягерам латвійскай палітычнай сцэны. Арышты не абмінулі й галоўных кіраўнікоў беларускага руху — Ўладзімера Пігулеўскага й Кастуся Езавітава. Першы быў інтэрнаваны ў Лібаўскім лягеры разам зь іншымі апанэнтамі Улманіса. Кастуся Езавітава ўзялі пад варту 15 траўня 1934 г. Ён апынуўся ў Рыскай турме, адкуль выйшаў 20 жніўня гэтага ж году[7]. Падчас перабываньня ў зьняволеньні (12 чэрвеня 1934 г.) ён быў звольнены з пасады настаўніка на падставе пастановы МУС[8]. Арышты закранулі таксама рыскі й дзьвінскі беларускі актыў. Напрыклад, у ліку затрыманых апынуліся настаўнікі Аляксей Барткевіч, Марыя Касьпяровіч, Марыя Фёдарава й службовец Дзьвінскай гарадзкой управы Алесь Сальцэвіч[9]. Вось якім чынам арышты беларускіх дзеячаў у Латвіі камэнтаваў віленскі “Родны Край”: *“У арыштаваных адбыўся вобыск, аднак нічога, іх кампраметуючага, ня было знойдзена. Латвійскія ўлады не змаглі ім прышпіліць ані палянафільства, ані саветафільства і трымаюць іх у арыштце толькі за тое, што гэтыя людзі стойка бароняць інтарэсы беларускага народу. Гр. Езавітаву закідаюць даслоўна тое, што ён «можа быць небясьпечным для дзяржавы ў будучыні». Так і просіцца да гэтых фактаў наступная дапіска: не змагла праглынуць беларусаў стомільённая белацарская, а цяпер чырвонабальшавіцкая чорная сотня, не праглыне іх і жменька*

[7] Езавітаў, Кастусь. Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / Укл. Л. Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1999. С. 192.

[8] Latvijas Valsts vēstures arhīvs (LVVA). F. 5213. Ap. 16. L. 16514. Lp. 3; НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 2—14.

[9] Burny, Lawon. Z biełaruskaha żyćcia ŭ Łatwii // Беларуская Крыніца. № 38. 28 кастрычніка 1934. С. 1.

*рыжскіх дзікуноў”*[10]. Аднак ужо ў хуткім часе ўсе затрыманыя былі вызвалены.



Пётар Журкоўскі

Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму значна ўскладнілася грамадзкая актыўнасьць. Паводле новага заканадаўства грамадзкія арганізацыі маглі праводзіць сходы й паседжаньні ўправаў толькі са згоды паліцыі. Апошняя нярэдка не дазваляла сустрэчаў, якія мелі выключна культурна-асьветны характар. Напрыклад, 2 лютага 1935 г. у мурах Рыскай беларускай вячэрняй школы плянаваўся выступ са сьпевамі беларускіх песьняў. Аднак улады забаранілі імпрэзу, даўшы дазвол толькі на пастаноўку камэдыі “Модны шляхцюк”[11].

За першыя два гады аўтарытарны рэжым забараніў дзейнасьць амаль усіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Ужо ў верасьні 1934 г. палітычная паліцыя прапанавала Аддзелу прэсы й таварystваў МУС закрыць Таварыства беларускай моладзі ў Латвіі (ТБМЛ). Патрэба дэлегалізацыі гэтай арганізацыі тлумачылася тым, што некаторыя сябры ўправы (Казімер Мяжэцкі, Язэп Клагіш і Мечыслаў Слосман) супрацоўнічалі зь *“нелегальной беларускай арганізацыяй”* пад кіраўніцтвам Кастуся Езавітава, які аказваў значны ўплыў на дзейнасьць таварыства. На пачатку 1935 г. у віну сябрам таварыства ставіўся распаўсюд нелегальнай беларускай літаратуры. Апрача таго Казімеру Мяжэцкаму й Язэпу Клагішу інкрымінавалася тое, што ўлетку 1935 г. яны, нібыта, праводзілі ў Латгаліі агітацыю на карысьць беларускага руху (Мяжэцкі быў арыштаваны й вызвалены толькі ў лютым 1936 г.). Беручы гэта пад увагу, 17 верасьня 1935 г. кіраўніцтву ТБМЛ было загадана самаліквідавацца на працягу трох месяцаў. У верасьні 1935 г. у выніку адмоўнай ацэнкі палітычнай паліцыі спыніла сваю дзейнасьць таварыства “Рунь”. Неўзабаве яго лёс падзялілі таварыства “Прасьвета” й Беларускае пазычковае таварыства “Аратай”. У хуткім часе прыйшла чарга на найстарэйшую на той час беларускую арганізацыю ў Латвіі — таварыства “Беларуская хата”. Арганізацыя рабіла спробы пратрымацца ва ўмовах новай палітычнай рэчаіснасьці, падкрэсьліваючы сваю лаяльнасьць да новай улады. Напрыклад, кіраўніцтва рэгулярна запрашала прадстаўніка Аддзелу інфармацыі й прапаганды МУС Пятра Журкоўскага чытаць лекцыі для сябраў таварыства. Акрамя таго 15 красавіка 1935 г. арганізацыя даслала вітаньні Улманісу. Аднак гэта не ўратавала “Беларускую хатку” ад

[10] У Латвіі // Родны Край. № 18. 10 жніўня 1934. С. 4.

[11] З беларускага жыцьця ў Латвіі // Беларуская Крыніца. № 15. 7 красавіка 1934. С. 3.

закрыцьця. На загад Рыскага акруговага суда 29 кастрычніка 1936 г. таварыства спыніла сваю працу[12].

Адным з апошніх у жніўні 1936 г. было ліквідаванае Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства ў Латвіі (БНКТЛ). У падрыхтаваным палітычным аддзелам МУС абгрунтаваньні дэлегалізацыі адзначалася, што таварыства не праяўляла актыўнай дзейнасьці, доказам чаго была няздольнасьць выдаць нават беларуска-латыскі слоўнік, а таксама збор твораў вуснай народнай творчасьці. Засьцярогі палітычнай паліцыі выклікалі кантакты БНКТЛ з адпаведнымі арганізацыямі па-за межамі Латвіі, у тым ліку ў Вільні й Менску. Асаблівая ўвага зьвярталася на постаць старшыні таварыства Кастуся Езавітава, які быў ведамы сваімі левымі поглядамі і ўдзелам у дзейнасьці, якая *"пагражае вонкавай і нутранай бясьпецы краіны"*. Падкрэсьлівалася, што таварыства фактычна застаецца ў руках Кастуся Езавітава й ягонай жонкі. Палітычную паліцыю непакоілі кантакты дзеяча зь Менскам, патаемнае пашырэньне бээсэсэраўскай літаратуры сярод латвійскіх беларусаў, а таксама *"дзейнасьць на карысьць стварэньня незалежнай Беларусі, у межах якой павінна была апынуцца частка латвійскай дзяржавы, на якой пражывае беларускае насельніцтва. З гэтай мэтай ён утрымліваў сувязь з правадырамі беларускага руху ў Беларусі й падтрымліваў беларусаў, выхаваных у беларускіх школах у Латвіі"*[13].

Прасавецкія сымпатыі некаторых беларускіх дзеячаў для аўтарытарных уладаў былі толькі зручнай нагодай, каб зьліквідаваць беларускія арганізацыі. У сапраўднасьці ўлады імкнуліся зьнішчыць ці прынамсі значна абмежаваць прысутнасьць нацыянальных меншасьцяў у публічнай сфэры. Сьведчыць аб гэтым факт, што ў жорны ліквідацыі трапілі грамадзкія арганізацыі іншых нацыянальнасьцяў (напрыклад, палякаў), якія складана было абвінаваціць у прасавецкіх поглядах[14].

Беларускі актыў ня быў зьняволены, але якія-колечы праявы актыўнасьці, што кваліфікавалася ўладамі як палітычная, рашуча спыняліся паліцыяй. Яскрава сьведчыць аб гэтым факт, што ў лютым 1936 г. адбыліся арышты шэрагу беларускіх дзеячаў. За кратамі апынуліся рыскія настаўнікі Якуб Кастылюк, Сьцяпан Сіцько, Рыгор Плыгаўка, Ян Кудраўцоў, Кастусь Езавітаў, а таксама студэнты Дамінік Мяжэцкі й Вера Слосман[15]. У якасьці аргумэнту на карысьць антыдзяржаў-

---

[12] Екабсонс, Эрикс. Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах // Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Менск, 2001. С. 66—67.

[13] LVVA. F. 1897. Ap. 1. L. 7. Lp. 8.

[14] Archiwum Akt Nowych (AAN). MSZ. T. 10475. Referat nt. Polacy na Łotwie. 1939. K. 18.

[15] Aryšty Birłarusaŭ u Łatwii // Беларуская Крыніца. № 8. 16 лютага 1936. С. 2.

най дзейнасьці беларусаў латвійскія ўлады выкарысталі публікацыю "Наступ латышскага нацыяналізму на Беларусаў", якая зьявілася на старонках заходнебеларускай "Беларускай Крыніцы"[16]. Наступствам гэтага інцыдэнту быў арышт на шэсьць тыдняў Кастуся Езавітава й Веранікі Слосман, якія ў знак пратэсту абвесьцілі галадоўку. Пасьля вызваленьня з-пад варты Езавітаў да 4 чэрвеня 1934 г. заставаўся пад хатнім арыштам[17].

З 1936 г. адзінай дзейнай грамадзкай арганізацыяй беларускай меншасьці было Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі (ТБНЛ), якім кіраваў Мікола Дзямідаў. Ён, у адрозьненьне ад большасьці беларускіх настаўнікаў, ня трапіў у няласку да новых уладаў. Утрыманьне на паверхні гэтага дзеяча на фоне спыненьня кар'еры іншых актывістаў было невыпадковым. Рэпрэсіі й перасьлед з боку аўтарытарнай дзяржавы былі накіраваныя перадусім супраць асобаў, зьвязаных з сацыял-дэмакратамі й іншымі левымі плынямі, якія лічыліся галоўнымі палітычнымі апанэнтамі Улманіса. А Мікола Дзямідаў не належаў да левых (яшчэ ў 1928 г. ён выйшаў з Латвійскай сацыял-дэмакратычнай працоўнай партыі). Была й яшчэ адна важкая прычына, якая тлумачыць лагоднае стаўленьне ўладаў да дзеяча. Захаваныя архіўныя зьвесткі дазваляюць сьцьвярджаць, што ў пэрыяд з 1934 да 1939 г. Мікола Дзямідаў быў інфарматарам палітычнай паліцыі, апавядаючы ёй пра настроі сярод латвійскіх беларусаў. Непасрэдны кантакт з паліцыяй адбываўся праз іншага беларуса, Віктара Корці, агента паліцыі, які быў адказны за вярбоўку інфарматараў сярод нацыянальных меншасьцяў і кіраваў іх сеткай. Паводле сьведчаньняў Корці, Мікола Дзямідаў не належаў да штатных агентаў паліцыі й не атрымліваў штомесячнага заробку, ня меў таксама агентурнай мянушкі. Разам з тым ён быў добра ведамы кіраўніцтву палітычнай паліцыі як інфарматар у беларускіх справах. У пазьнейшы пэрыяд Мікола Дзямідаў сьведчыў, што ён ня браў грошай за свае паслугі, а толькі часамі "пазычаў" ад Віктара Корці пэўныя сумы, а таксама хадзіў зь ім у рэстаран, дзе за кошт суразмоўцы частаваўся віном[18].

Свае кантакты з палітычнай паліцыяй дзеяч выкарыстоўваў, каб умацаваць уласныя ўплывы сярод беларускага настаўніцтва. Кіраванае ім таварыства ўваходзіла ў склад Латвійскага настаўніцкага хаўрусу. Узамен на супрацоўніцтва Мікола Дзямідаў мог разьлічваць на пэўныя палёгкі з боку ўладаў. Напрыклад, ведама, што Віктар Корці дапамог некаторым сябрам ТБНЛ атрымаць пасьведчаньні аб палітычнай

[16] Ш. І. Наступ латыскага нацыяналізму на Беларусаў // Беларуская Крыніца. № 2. 16 студзеня 1936. С. 1.

[17] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 2.

[18] Latvijas Valsts arhīvs (LVA). F. 1986. Ap. 2. P-10551. Lp. 88—97.

добранадзейнасьці, што дазволіла ім працягваць пэдагагічную працу. Кіраўнік ТБНЛ пасьпяхова хадайнічаў перад Корці аб прыйме на працу некаторых новых беларускіх настаўнікаў. Апрача таго, дзякуючы захадам Міколы Дзямідава ўлады зацьвердзілі новы статут таварыства. Кантакты дзеяча з уладамі былі настолькі відавочнымі, што напярэдадні Другой сусьветнай вайны ён быў ведамы ў нацыянальным асяродзьдзі як лідар беларусаў, што паслугаваў рэжыму Улманіса. Яго “супэрляяльнасьць” была недаспадобы большасьці беларускіх дзеячаў у Латвіі й па-за яе межамі. Іншыя кіраўнікі латвійскіх беларусаў ставіліся да Міколы Дзямідава з насьцярогай і пагардай[19].

Найбольш яскрава зьмены, выкліканыя травеньскім пераваротам, латвійскія беларусы адчулі ў школьніцтве. Беларускі школьны аддзел, як і адпаведныя аддзелы іншых нацыянальнасьцяў, у 1934 г. быў зьліквідаваны. Замест яго была створаная пасада рэфэрэнта ў справах беларускай асьветы, на якую быў прызначаны Пятро Журкоўскі. У 1936 г. гэтая пасада была скасаваная[20].

У першы год пасьля перавароту значна паменшылася колькасьць беларускіх пачатковых школаў: з 23 (у 1933/1934 навучальным годзе) да 16 (у 1934/1935 навучальным годзе), зь якіх 5 працавала ў Рызе і 11 — у Латгаліі. Акрамя таго дзейнічалі тры сярэднія школы: гімназія ў Дзьвінску й дзьве школы ў сталіцы[21]. У 1935/1936 навучальным годзе лік беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў скараціўся яшчэ больш і склаў толькі 6 (4 — на Дзьвіншчыне, 1 — у Дзьвінску і 1 — у Рызе)[22]. Апошнім апірышчам беларускага школьніцтва ў Латгаліі заставаліся чатыры школы на Прыдруйшчыне й адна ў Дзьвінску[23].

Разам са скарачэньнем колькасьці беларускіх пачатковых школаў з году на год памяншаўся лік вучняў-беларусаў, якія атрымлівалі асьвету на роднай мове. Статыстыка адлюстроўвае гэты працэс: у 1932/1933 беларускія школы наведвалі 4517 чалавек, у 1933/1934 — 1692, у 1934/1935 — 1270, у 1935/1936 — 956, у 1936/1937 — 165. Тым часам колькасьць вучняў беларускіх сярэдніх школаў таксама скарачалася: у 1933/34 — 196 чалавек, у 1934/35 — 154, у 1935/1936 — 69, у 1936/1937 — 50[24].

---

[19] LVA. F. 1986. Ap. 2. P-10551. Lp. 88—97.

[20] Екабсонс, Эрикс. Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах // Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Менск, 2001. С. 59.

[21] AAN. MSZ. T. 5290. K. 25.

[22] AAN. MSZ. T. 5290. Raport attaché Poselstwa RP w Rydze pt. Stan oświaty na Łotwie, 6 XI 1936 r.

[23] Ш. І. Наступ латыскага нацыяналізму на Беларусаў.

[24] AAN. MSZ. T. 10475. K. 178, 189.

Частка беларускіх пачатковых школаў была ператвораная ў латыскія, а іншыя атрымалі статус мяшаных (*jauktas skolas*), якімі кіравалі настаўнікі-латышы. З латгальскага краявіду зьнік плён працы папярэдніх гадоў, дзеля якога цяжка працавала кагорта мясцовых беларускіх дзеячаў. Павольная ліквідацыя беларускага школьніцтва не была выключэньнем на тагачаснай мапе Латвіі. Пасьля 1934 г. у школьніцтве іншых нацыянальных меншасьцяў назіралася ідэнтычная тэндэнцыя. Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму толькі літоўскай і эстонскай меншасьцям удалося захаваць свае нацыянальныя школы, паколькі іх ахоўвалі латвійска-літоўская й латвійска-эстонская школьныя канвэнцыі[25]. У параўнаньні зь іншымі нацыянальнымі групамі становішча беларусаў выглядала сярэднім. Так, беларусы мелі адну школу на 1679 жыхароў Латвіі гэтай нацыянальнасьці. Значна больш мелі латышы (адна школа на 100 чалавек) і расейцы (адна школа на 1042 чалавек), але менш — эстонцы (адна школа на 1753 чалавекі), літоўцы (адна школа на 2083 чалавекі) і палякі (адна школа на 2224 чалавекі)[26].

Хмары зьбіраліся над флягманам беларускага школьніцтва ў Латвіі — Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіяй, якая працавала з 1922 г. 14 кастрычніка 1934 г. адбыўся бацькоўскі сход школы, на якім прысутнічаў новы дырэктар Яніс Плоніс. Ён азнаёміў прысутных з новым курсам дзяржаўнай школьнай палітыкі ў дачыненьні нацыянальных меншасьцяў[27]. Пасьля гэтага адбыліся яшчэ толькі тры паседжаньні школьнай рады (23 і 29 лістапада 1934 г., 19 лютага і 15 сакавіка 1935 г.)[28]. На рашэньне Рады Міністраў ад 13 чэрвеня 1935 г. беларуская гімназія перастала існаваць. У верасьні 1935 г. яна была аб'яднаная з польскай і ўключаная ў II зьмяшаную дзяржаўную гімназію, дзе працавала беларуская кляса. Колькасьць вучняў у гэтай клясе штогод памяншалася. Увесну 1939 г. адбыўся апошні выпуск навучэнцаў, пасьля чаго кляса была зачыненая[29]. Сум з нагоды закрыцьця дзьвінскай гімназіі перадаюць словы колішняга дырэктара Сяргея Сахарава, які ў верасьні 1936 г. пакінуў у сваім дзёньніку наступны запіс: "*У Дзьвінску мне стала яшчэ сумней, чым у Краслаўцы. Усплываюць успаміны аб працы, жывой, дзейнай, у беларускай гімназіі. Зараз ідзеш міма гімназіі — не мігаюць вечарам агні ў майстэрнях, не чуваць стуку, не чуваць моладзі, не чуваць беларускай мовы. Усё*

---

[25] AAN. MSZ. T. 10475. K. 102.

[26] AAN. MSZ. T. 10475. Szkolnictwo polskie na Łotwie. 1938. K. 15—16.

[27] LVVA. F. 2067. Ap. 1. L. 378. Lp. 68.

[28] Да апошняга моманту ў склад школьнай рады ўваходзілі настаўнікі: А. Якубецкі, У. Відаўскі, М. Фёдарава й Я. Краўзэ. LVVA. F. 2067. Ap. 1. L. 378. Lp. 71—74.

[29] Екабсонс, Эрикс. Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах... С. 62.

*разбурана, і невядома, для чаго... І як гэта латышы не падтрымоўваюць белар[ускай] культ[урнай] працы, не падтрымоўваюць невялікай часткі вялікага і блізкага ім па сумежнасьці беларус[кага] народу? Проста дзіву даешся. Чым мяшалі нашы белар[ускія] школкі Латвійскай дзяржаўнасьці? Раней кідаўся звычайна беларусам — ізьбіты канёк: абвінавачаньне ў камунізьме. Зараз і гэта адпадае, бо не так ужо беларусы былі настроены камуністычна, як прадстаўляла сабе палітычная ахранка, гледзячы цераз акуляры ворагаў беларуск[ай] нацыян[альнай] меншасьці ў Латвіі"*[30].

Крыху інакш склаўся лёс беларускіх школаў у Рызе. У адрозьненьне ад школаў у Латгаліі, сталічнае школьніцтва зьліквідавалі толькі часткова. Аднак яно таксама панесьлі страты, паколькі дзяржава адмовілася аказваць фінансавую дапамогу. Яскравым прыкладам была Рыская беларуская прыватная гімназія[31]. Паводле загаду міністра асьветы ад 12 кастрычніка 1934 г. Аляксандар Родзька быў звольнены з пасады дырэктара гімназіі з 16 кастрычніка. Абавязкі дырэктара гімназіі прыняў Пётра Міpановіч[32]. Адначасова двум настаўнікам, Францу й Язэпу Клагішам, міністэрства адмовілася працягнуць працоўныя кантракты[33]. У верасьні 1934 г. Рыскае гарадзкое самакіраваньне прыняло рашэньне з 1 студзеня 1935 г. спыніць грашовую дапамогу для Рыскай беларускай прыватнай гімназіі. У сувязі з гэтым ня мог адбыцца набор новых вучняў у 1-ую клясу, што стала пачаткам канца школы. У сьнежні 1934 г. кіраўніцтва ТБНЛ абвесьціла, што з гэтага часу ўсе настаўнікі гімназіі лічацца вызваленымі ад сваіх прафэсійных абавязкаў. Разам з тым, кіраўніцтва ТБНЛ не пакідала надзеі на далейшую працу школы. У сувязі з гэтым прасіла дырэктара правесьці апытаньне сярод пэдагогаў, каб высьветліць, хто зь іх у стане далей працаваць бясплатна да канца 1934/35 навучальнага года[34]. 20 лістапада 1934 г. у гімназіі налічвалася 55 вучняў[35]. У 1936 г. гімназія, а таксама дзьве іншыя беларускія школы ў Рызе (2-я пачатковая й вечаровая) былі зачыненыя. З гэтага часу ў латвійскай сталіцы працавала толькі 1-я Рыская беларуская пачатковая школа на Маскоўскім Фарштаце (кіраўнік Сьцяпан Сіцько), якая заставалася адзінай беларускай школай у Латвіі ў 1936—1940 гг.

---

[30] Крывіцкія руны. Вып. III: Беларускі культурны мацярык у Латвіі / Уклад., прадм., камент.: М. Казлоўскі, С. Панізьнік. Менск, 2019. С. 125.

[31] LVVA. F. 3175. Ap. 1. L. 7. Lp. 94.

[32] LVVA. F. 3175. Ap. 1. L. 8. Lp. 73.

[33] Burny, Lawon. Z biełaruskaha žyćcia ŭ Łatwii // Беларуская Крыніца. № 38. 28 кастрычніка 1934. С. 1.

[34] LVVA. F. 3175. Ap. 1. L. 7. Lp. 16.

[35] LVVA. F. 3175. Ap. 1. L. 7. Lp. 84.

Восеньню 1939 г. рыская гарадзкая школьная ўправа разглядала магчымасьць зьліквідаваць дашкольную клясу гэтай школы. У абарону выступіла ТБНЛ, управа якога 1 кастрычніка 1939 г. ухваліла зварот да міністра асьветы з просьбай не зачыняць дашкольную клясу. Зь міністрам сустрэлася беларуская дэлегацыя, пасьля чаго ўлады адмовіліся ад ранейшых плянаў[36].

У выніку паступовай ліквідацыі беларускага школьніцтва пэдагогі-беларусы старэйшага ўзросту былі адпраўленыя на пэнсію, а малодшыя — пераведзеныя ў мяшаныя школы альбо звольненыя з працы. З назіраньняў супрацоўнікаў польскай амбасады ў Рызе вынікала, што прынамсі частка беларускага настаўніцтва адчувала варожасьць да дзяржавы з прычыны страты працы ў роднай школе. Польскі дыплямат пісаў: "*Як выхадцы зь вёскі яны (беларускія настаўнікі. — **Ю. Г.**) захавалі ў сэрцы нянавісьць да кіраваньня Улманіса, якое пазбавіла іх кавалку хлеба*"[37]. Нельга выключыць, што некаторыя настаўнікі сапраўды былі так настроены. Аднак ёсьць сьведчаньні, што паасобныя пэдагогі-беларусы знайшлі сваё месца ў "Латвіі 15 траўня".

У сувязі з закрыцьцём беларускіх школаў зьнікла патрэба рыхтаваць пэдагагічныя кадры. Яшчэ ў 1934 г. быў спынены набор новых слухачоў на беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы, а іх кіраўнік Парфіры Жэрдзі звольнены з працы *"за левы ўхіл"*[38]. У 1935 г. курсы спынілі сваё існаваньне. Разам з тым улады разумелі, што на працягу кароткага часу цалкам перабудаваць асьвету нацыянальных меншасьцяў на новы лад немагчыма. Таму ў другой палове 1930-х гг. пры Рыскім пэдагагічным інстытуце былі адчыненыя аддзелы для прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Нелатышы, у тым ліку беларусы, паранейшаму мелі (хоць невялікую) магчымасьць атрымаць пэдагагічную падрыхтоўку на роднай мове[39].

Нягледзячы на тое, што асыміляцыйная палітыка ўраду Карліса Улманіса была скіраваная супраць усіх нелатышоў, беларусы апынуліся ў найгоршым становішчы. Расейцы й габрэі былі заможнейшыя, дзякуючы чаму маглі больш пасьпяхова супрацьстаяць нацыяналістычнаму наступу ўладаў. Літоўцы, эстонцы, немцы й палякі маглі разьлічваць на падтрымку сваіх мэтраполіяў, пад ціскам якіх латвійскія ўлады былі вымушаныя ў той ці іншай ступені лагодзіць асыміляцыйныя захады.

[36] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 6. Lp. 17, 18.

[37] Raport Poselstwa RP w Rydze, Raport dot. działalności białoruskiej na Łotwie, 12 lutego 1939 r. // AAN. Sygn. 477. T. 5328.

[38] Burny, Lawon. Z biełaruskaha žyćcia ŭ Łatwii... C. 1.

[39] Цоя, Сергей. К истории русского образования в межвоенной Латвии (20—30-е годы XX в.) // Альманах. Вып. XXXVI. Русский мир и Латвия: смена времен. Рига, 2014. С. 79—98.


Пётра Міравовіч

Тым часам латвійскія беларусы былі пазбаўленыя такога прывілею й маглі разьлічваць выключна на ўласныя сілы. У верасьні 1935 г. дэлегацыя прадстаўнікоў беларускай меншасьці ўручыла мэмарандум Карлісу Улманісу. Аўтары звароту сьцьвярджалі, што іхная мэта — *“выправіць і зьмяніць на лепшае той нэгатыўны погляд на беларускую меншасьць, які за некалькі апошніх год зь лёгкай рукі некаторых безадказных палітыкаў пачаў складацца і ўмацоўвацца ў латвійскім грамадзтве, а таксама і ў некаторых колах латвійскага чыноўніцтва”*[40]. Беларусы падкрэсьлівалі сваю ляяльнасьць да латвійскай дзяржаўнасьці, нагадваючы, што яны заўсёды вельмі прыхільна ставіліся да латыскага нацыянальна-адраджэнскага руху. Аўтары мэмарыялу акцэнтавалі ўвагу на ўдзеле беларусаў у змаганьні за дзяржаўную незалежнасьць балтыйскіх краінаў. У дакумэнце чытаем: *“У 1920 годзе, калі межы Латвіі былі канчаткова азначаны і высьветлілася, што ў склад Латвійскае Рэспублікі ўвойдзе цэлы шэраг валасьцей зь пераважным беларускім жыхарствам, ні Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ні Беларускі Ўрад, ні грамадзкія беларускія арганізацыі ня выказалі з гэтага повад сваёго незадавальненьня, бо былі пэўныя, што латышы, якія гераічна змагаліся за свае нацыянальнае адраджэньне, будуць шанаваць правы беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі і ніколі ня стануць на шлях уціску і дэнацыяналізацыі беларусаў, як гэта рабілі раней расейцы і палякі”*[41]. Аўтары мэмарыялу адзначалі, што галоўнымі ворагамі беларускай справы ў Латвіі былі расейцы й палякі, якія прадстаўляліся як адвечныя асымілятары беларусаў Латгаліі. На завяршэньне аўтары выказвалі надзею, што латвійскія ўлады прыхільна паставяцца да нацыянальна-культурных патрэбаў беларусаў[42].

Аднак вышэйзгаданыя крокі беларускага актыву не змаглі сур’ёзна паўплываць на зьмену галоўнай лініі нацыянальнай палітыкі латвійскага ўраду, якая палягала на інтэнсыфікацыі асыміляцыі нацыянальных меншасьцяў. Ва ўрадавых колах набывала практычнае значэньне думка аб тым, што латгальскія беларусы — насамрэч латышы, таму належыць праз школу “вярнуць” іх у лона латыскага народу. У новай палітычнай рэчаіснасьці штораз мацней гучалі галасы прадстаўнікоў латыскай інтэлектуальнай эліты, якія прытрымліваліся падобных

[40] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 102. Арк. 2.

[41] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 102. Арк. 5.

[42] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 102. Арк. 1—10.

поглядаў на "беларускае пытаньне" ў Латвіі. У 1938 г. пабачыла сьвет праца Вілбэртса Краснайса (*Vilberts Krasnajs*) пад назвай *"Baltkrievi kā latviešu tautas zars"* ("Беларусы як адгалінаваньне латыскага народу")[43].

У пэрыяд дыктатуры Улманіса беларусы Латвіі не маглі разьлічваць на спачуваньне ці падтрымку БССР, дзе ў той жа час пад выглядам "барацьбы з нацдэмамі" набіралі моц сталінскія рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, а пэрыяд чырвонай беларусізацыі беззваротна застаўся ў мінулым. Тым часам за зьменамі ў жыцьці суайчыньнікаў у Латвіі назіралі некаторыя заходнебеларускія дзеячы. За падзеямі сачылі віленскія выданьні "Беларуская крыніца" й "Родны край", у якіх зьяўляліся зацемкі пра становішча суродзічаў. Гэтыя ж выданьні давалі магчымасьць выказацца на сваіх старонках прадстаўнікам беларускай інтэлігенцыі Латвіі[44]. Аўтар адной з зацемак у "Беларускай крыніцы" адзначаў, што наступ латыскага нацыяналізму выклікаў заняпад нацыянальнай актыўнасьці тамтэйшых беларусаў[45]. У артыкуле "Наступ латыскага нацыяналізму на Беларусаў" чытаем: *"Беларусы ў Заходняй Беларусі [...] ня мала цешыліся зь беларускага жыцьця ў Латвіі. Цешыліся ў асобнасьці мы — БХД і яе прыхільнікі. Але ад 15.V.34 г. беларуская радасьць пераходзіць у сум. Ад гэтай даты "Б[еларуская] Крыніца" ўсьцяж рэеструе факты ліквідацыі беларускага жыцьця ў Латвіі. Латыскія нацыяналісты дайшоўшыя ў гэты дзень да ўлады шляхам перавароту надаюць свой нацыяналістычны тон усяму жыцьцю ў дзяржаве. І ад гэтага "тону" — найбольш пацярпелі Беларусы. Беларускае палітычнае жыцьцё ў Латвіі афіцыяльна ўжо зьліквідавана, беларускае грамадзка-эканамічнае і культурнаасьветнае жыцьцё ўжо часткова зьліквідавана і знаходзіцца далей у стадыі ліквідацыі [...]. Латыскі нацыяналізм спужаўся беларушчыны і абʼявіў проціў яе паход. Спужаўся працэсу ўзросту беларушчыны над Латвіяй. Сярод беларускага працоўнага сялянства, якое дзеля тых ці іншых прычын запісвалася "Латышамі", знаходзяцца адзінкі вельмі сьвядомыя і моцныя беларускім духам. Яны зьяўляюцца ў некаторай меры кіруючымі дзейнікамі беларускага жыцьця пад Латвіяй і працуюць там позытыўна. Ясная рэч, выключаюцца тут беларускія элемэнты ўгадовыя (гдзе іх няма!), якія зьяўляючыся*

---

[43] Голдманис, М.. "Белорусский" дискурс в латышской прессе (1920—1934): эволюция представления о белорусах как о самостоятельном национальном меншинстве // Латыши и белорусы: вместе сквозь века. Вып. 5. Минск, 2016. С. 72.

[44] Беларуская справа ў Латвіі // Родны Край. № 16. 28 чэрвеня 1935. С. 1.

[45] Sprawozdanie życia mniejszości narodowych za I kwartał 1936 r. // AAN. MSW. T. 963. K. 176.

*служкамі латыскага нацыяналізму за срэбнікі праводзяць сваю подлую работу”*[46]. Крытыкуючы нацыянальную палітыку ўладаў у Рызе, віленскія аўтары, аднак, зьвярталі ўвагу на тое, што сытуацыя латвійскіх беларусаў і так была значна лепшая, чым суайчыньнікаў у Заходняй Беларусі[47].

Зьмены нацыянальнай палітыкі Улманіса паўплывалі на колькасьць тых, хто падчас усеагульнага перапісу насельніцтва Латвіі ў 1935 г. задэкляраваў беларускую нацыянальнасьць. Нагадаем, што паводле вынікаў гэтага перапісу колькасьць беларусаў склала 26 867 чалавек (1,38 %), што было на 9162 чалавекі менш чым падчас перапісу 1930 г. Гэтую зьмену нельга патлумачыць масавымі міграцыйнымі працэсамі (яны адсутнічалі) альбо натуральным прыростам (ён заставаўся высокім). Латвійскія й замежныя гісторыкі пагаджаюцца, што памяншэньню беларусаў спрыяла сьведамая нацыянальная палітыка тагачасных уладаў. Вынікі перапісу другой паловы 1930-х гг. адзначаюцца большай тэндэнцыйнасьцю й суб’ектыўнасьцю ў параўнаньні з папярэднімі. Улады ціснулі на бацькоў і вучняў беларускамоўных латгальскіх сялянаў, каб тыя запісваліся латышамі. Акрамя таго, перапісцы відавочна фальсыфікавалі нацыянальны склад насельніцтва. Аналіз анкетаў жыхароў Дземанскай воласьці паказвае, што ў шмат якіх выпадках перапісцы выпраўлялі зьвесткі ў рубрыцы “нацыянальнасьць” і “веданьне дзяржаўнай мовы”. Там, дзе першапачаткова была запісаная беларуская альбо польская нацыянальнасьць зь няведаньнем латыскай мовы, пазьней зьявіліся “выпраўленьні” нацыянальнасьці на латыскую зь веданьнем дзяржаўнай мовы, а ў рубрыцы “мова, якую ўжываеш у сям’і” пазначалася латыская. Латвійскія ўлады такім чынам імкнуліся штучна надаць нацыянальна мяшаным памежным рэгіёнам латыскі нацыянальны характар, каб мацней зьнітаваць іх з латвійскай дзяржаўнасьцю[48].

Вышэйзгаданыя фальсыфікацыі й зьмены былі магчымыя таму, што нацыянальная сьведамасьць значнай часткі беларускамоўнага сялянства была ў стане фармаваньня. Гэтая акалічнасьць значна палегчыла ўладам маніпуляваньне нацыянальнай статыстыкай і прыстасаваньне яе да патрэбаў бягучай палітычнай сытуацыі. У рэалізацыі

[46] Ш. І. Наступ латыскага нацыяналізму на Беларусаў // Беларуская Крыніца. № 2. 1 студзеня 1936. С. 1.

[47] R.M. Z školnaha i haspadarčaha žyćcia ŭ Łatwii // Беларуская Крыніца. № 31. 25 жніўня 1934. С. 2.

[48] Jēkabsons, Ēriks. Skład narodowościowy mieszkańców 6 gmin powiatu iłłuksztańskiego w XIX—XX w. jako główny powód sporu terytorialnego między Łotwą a Polską w okresie międzywojennym // Granice i pogranicza. Historia codzienności i doświadczeń. T. I. Białystok, 1999. S. 234.

нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі асыміляцыі ўдзельнічалі нават былыя выхаванцы беларускіх школаў. Варта зноў аддаць голас Сяргею Сахараву, які ў жніўні 1939 г. занатаваў у сваім дзёньніку: *“Летам я крыху паезьдзіў па Латгаліі (з 20 ліпеня па 4 жніўня) і быў паміж іншым у [Шкавенскай] вол[асьці] і Шешково, дзе запісаў 270 беларускіх песень. Куток гэты чыста беларускі, але зараз яго латышызуюць, і хто ж гэта праводзіць: самі ж беларусы на чале, ныне Saulekailскай школы... сконшчыўшы Лудзенскую беларуск[ую] школу нейкі Лейтан, які ўвесь час прызнаваў сябе беларусам, а зараз лічыць сябе латышом; жонка яго — скончыўшая Дзьвінскую белар[ускую] гімназію Ганна Жукава сумесна з ім вучыцельствуе; дзеці іх ужо запісаны латышамі”*[49].

Падсумоўваючы агульны стан беларускага нацыянальна-культурнага й арганізацыйнага жыцця ў Латвіі ў другой палове 1930-х гг., можна зрабіць выснову, што яно апынулася ў крызісе й перажывала стагнацыю. Лідэры латвійскіх беларусаў прадстаўлялі сытуацыю беларускай меншасьці ў асабліва змрочных і панурых колерах. Так, у пазьнейшы час Кастусь Езавітаў пісаў, што беларусы страцілі родныя школы й магчымасьць весьці выдавецкую дзейнасьць, а падручнікі для беларускіх школаў былі *“па барбарску спалены”*. Беларускі дзеяч таксама адзначаў, што мясцовая інтэлігенцыя была цалкам пазбаўленая працы, сяляне пад уплывам невыноснага паліцыйнага рэжыму ўцякалі з памежных раёнаў, а іх месца займалі латышы, а беларускія дзеці заваблівалiся ў латыскія школы, дзе ім забаранялі размаўляць па-беларуску як у школьных мурох, так і па-за іх межамі[50].

Рэчаіснасьць не выглядала цалкам так, як яе маляваў Кастусь Езавітаў. Нават ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму латвійскія беларусы не страцілі ўсіх магчымасьцяў нацыянальна-культурнай працы. Галоўным асяродкам беларускага жыцця ў гэты час была Рыга, паколькі нацыянальна-культурная актыўнасьць у правінцыі цалкам замерла. Улады рупіліся, каб латвійскія нацыянальныя ўплывы ня мелі канкурэнцыі ў нацыянальна-мяшанай Латгаліі. Адначасова афіцыйныя колы ў Рызе са значна меншай насьцярогай ставіліся да праяваў актыўнасьці нелатышоў у касмапалітычнай сталіцы, дзе нацыянальная інтэлігенцыя была адарваная ад шырокіх сялянскіх масаў. Сталіца была адзіным месцам, дзе беларуская нацыянальна-культурная праца мела арганізацыйныя формы. Яна адбывалася на базе 1-й Рыскай беларускай пачатковай школы й Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі. У школьных мурох раз-пораз ладзіліся культурныя імпрэзы, тэатральныя выступы й публічныя лекцыі

[49] Крывіцкія руны. Вып. III: Беларускі культурны мацярык у Латвіі. С. 131.

[50] Езавітаў, Кастусь. Беларусы ў Латвіі // Раніца. 10 лістапада 1941. С. 2.

сябраў ТБНЛ на пэдагагічныя тэмы[51]. Нягледзячы на праўладную пазыцыю й поўны кантроль з боку палітычнай паліцыі Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі ў разгляданы час было адзіным месцам, якое аб'ядноўвала найбольш дзейную частку беларускага нацыянальнага актыву. У лістападзе 1938 г. арганізацыя налічвала ў сваіх шэрагах 71 сябру, большасьць зь якіх (54 чалавекі) складалі настаўнікі й іх сямейнікі, астатнімі былі рабочыя й службоўцы. Да актыву арганізацыі належалі: Мікалай Дзямідаў (старшыня), Мікалай Краўчанка, Язэп Клагіш, Якуб Кастылюк, Ніна Пінская, Галіна Нікіфароўская, Сьцяпан Рамаш, Ільля Фёдараў, Андрэй Якубецкі, Антаніна Якубецкая, Васіль Нікіфароўскі, Марыя Касьпяровіч, Алесь Сальцэвіч, Мікалай Талерка, Пятро Журкоўскі, Сэрафім Дынабурскі, Матыльда Лечман, Кастусь Нікіфароўскі, Пятро Міярановіч, Эмануіл Сагайла-Станевіч, Сяргей Казека, Сяргей Сахараў і інш. Арганізацыя ўтрымлівалася зь сяброўскіх складак, памер якіх складаў для настаўнікаў 1 % заробку і 0,4 % для прадстаўнікоў іншых прафэсіяў. Апрача таго частка прыбытку паходзіла зь вечарынаў і ахвяраваньняў ад розных установаў і фізычных асобаў[52].

Восеньню 1938 г. Мікола Дзямідаў вырашыў актывізаваць працу ТБНЛ. На паседжаньні ўправы 24 жніўня 1938 г. было вырашана правесьці перарэгістрацыю сяброў арганізацыі. Удзельнікі ўхвалілі прапанову стварыць пры таварыстве Жаночы камітэт на чале з Анастасіяй Крэйц, а таксама актывізаваць працу бібліятэкі (пад кіраўніцтвам Н. Касьневіча). Пастанавілі таксама распачаць цыкль лекцыяў па грамадазнаўстве й беларусазнаўстве[53]. 7 верасьня 1938 г. кіраўніцтва таварыства разгледзела заявы былых вучняў беларускай гімназіі, якія зьвярнуліся ў таварыства з просьбай дапамагчы падрыхтавацца ім да іспытаў, каб атрымаць сярэднюю асьвету. У выніку ўправа ТБНЛ вырашыла зладзіць платныя курсы латыскай мовы, а таксама курсы па ўсіх прадметах сярэдняй асьветы. З гэтай мэтай былі падрыхтаваны адпаведныя звароты да ўладаў і беларускай грамадзкасьці[54]. 15 верасьня 1938 г. управа ТБНЛ ухваліла зварот да міністра асьветы, у якім прасіла дазволіць стварэньне дадатковай беларускай школы ў Рызе, на што ніколі не атрымала згоды[55]. Арганізацыя рабіла таксама захады, каб актывізаваць працу ў правінцыі. У верасьні 1938 г. кіраўнік ТБНЛ

---

[51] Екабсонс, Эрикс. Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах... С. 69; LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 10—11.

[52] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 1—1 (адв.).

[53] Тамсама.

[54] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 3—4.

[55] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 5.

наведаў аддзелы ў Дзьвінску (кіраўнік Аляксей Барткевіч) і Люцыне (Сяргей Казека). У выніку паездкі высьветлілася, што дзьвінскі аддзел на працягу чатырох гадоў не праяўляў ніякай дзейнасьці, а люцынскі быў зьліквідаваны яшчэ ў 1935 г.[56]

Заслугоўвае ўвагі ўдзел таварыства ва ўшанаваньні памяці вайскоўцаў-беларусаў. 16 кастрычніка 1938 г. старшыня ТБНЛ удзельнічаў у Ілукштанскім павеце ў паміnаньні памяці 15 жаўнераў Беларускага асобнага батальёну літоўскага войска, якія ў 1920 г. палеглі падчас баёў з Чырвонай Арміяй. У пазьнейшы час таварыства працягвала традыцыю ўшанаваньня беларускіх вайскоўцаў на Ілукшчыне[57]. На паседжаньні ўправы арганізацыі (19 кастрычніка 1938 г.) прынялі рашэньне ўзяць удзел у сьвяткаваньні 20-годдзя незалежнасьці Латвіі. З гэтай нагоды кіраўніцтва арганізацыі зладзіла цыкл лекцыяў, якія распачаўся выступам Міколы Дзямідава “Гістарычнае мінулае й сучаснае становішча заходніх прыбалтыйскіх і ўсходніх славянаў”. ТБНЛ утрымлівала сувязь з суродзічамі ў Літве. У кастрычніку 1938 г. управа таварыства падтрымала грашова ініцыятыву літоўскіх беларусаў выдаць беларускі каляндар на 1939 год[58].

Аналіз захаваных крыніцаў дазваляе меркаваць, што таварыства не стварала латвійскім уладам нагоды скардзіцца на дзейнасьць арганізацыі. У сьнежні 1938 г. Міністэрства асьветы паінфармавала кіраўніцтва ТБНЛ аб вылучэньні для арганізацыі двух месцаў у складзе Латвійскай прафэсійнай камэры. На паседжаньні 7 сьнежня 1938 г. управы таварыства расцанілі гэты крок уладаў як прызнаньне беларусам належных правоў на роўні з прадстаўнікамі іншых меншасьцяў. У склад камэры былі дэлегаваныя старшыня Мікола Дзямідаў і настаўнік Пётра Міраповіч[59]. Адным з апошніх мерапрыемстваў ТБНЛ была вечарына, якая адбылася ў траўні 1939 г. у сядзібе Рыскага латыскага таварыства. Падчас імпрэзы гісторык Юлій Брач прачытаў рэфэрат пра латыска-беларускія адносіны, а драматычны гурток пад кіраўніцтвам Ф. Дамброўскага-Думбрайса паставіў п’есу Янкі Купалы “Паўлінка”[60].

Калі ідзецца аб праявах нацыянальна-культурнай актыўнасьці латвійскіх беларусаў у разгляданы пэрыяд, неабходна адзначыць, што некаторыя дзеячы засяродзіліся на творчай працы. У гэты час плённа

[56] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 10.

[57] У лютым 1939 г. сябры ТБНЛ набылі вянок на магілу беларускіх жаўнераў у Чырвонках. LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 1 (адв.).

[58] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 14, 23.

[59] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 33.

[60] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ф. 3. Воп. 1. Спр. 48. Арк. 30; LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 13.

працаваў Сяргей Сахараў. Напрыканцы 1936 г. яго намаганьнямі быў падрыхтаваны “Беларускі каляндар на 1937 год”. Апрача таго ў 1935—1939 гг. ён выдаў шэраг навуковых і навукова-публіцыстычных працаў па гісторыі Латгаліі[61].

Тым часам аўтарытарны рэжым пазбавіў беларускіх актывістаў магчымасьці займацца якой-колечы палітычнай дзейнасьцю. Невыпадкова тыя дзеячы, што ў пэрыяд парлямэнтарызму актыўна займаліся палітыкай (Кастусь Езавітаў, Уладзімер Пігулеўскі), апынуліся на ўзбочыне грамадзкага жыцьця. Перадусім гэта датычыла Езавітава, якому з прычыны левых поглядаў палітычная паліцыя надавала асаблівую ўвагу. Пазбаўлены магчымасьці займацца пэдагагічнай і грамадзкай працай, ён быў вымушаны пакінуць Рыгу, каб забясьпечыць сябе ў матэрыяльным пляне. 1 кастрычніка 1934 г. дзеяч выехаў у Лібаўскі раён, дзе заняўся будовай рыбных ставоў і гадоўляй карпаў[62]. Праўда, Кастусь Езавітаў працягваў утрымліваць карэспандэнцыйную сувязь зь віленскімі й праскімі беларускімі дзеячамі.

## Актывізацыя беларускага руху напярэдадні й на першым этапе Другой сусьветнай вайны

Напрыканцы 1930-х гг. у сьвеце насьпявалі сур’ёзныя зьмены, у адносінах якіх беларускі нацыянальны лягер мусіў выпрацаваць уласную пазыцыю. Над Эўропай павісла пагроза новай вайны. Параскіданы па розных эўрапейскіх сталіцах беларускі нацыянальны актыў намагаўся сачыць за падзеямі й рабіць прагнозы адносна таго, якім чынам яны (падзеі) могуць паўплываць на становішча Беларусі. Значную ініцыятыву ў гэтым напрамку праяўляў праскі асяродак. У лісьце да Кастуся Езавітава Васіль Захарка пісаў: *“Мы жывем у такую пару, калі часта падзеі прыносяцца з пасьпешнасьцю маланкі. Парахавая бочка, на якой сядзіць пані Эўропа, так перапоўнена, што мусіць разарвацца. Пытаньне толькі калі. Усе чакаюць і гатуюцца спаткаць гэтыя падзеі больш узброенымі, хто аружжам, а хто рэвалюцыйна-нацыянальнай сілай. Трэба гатавацца і нам.*

---

[61] Перадусім належыць згадаць наступныя працы Сяргея Сахарава: “Город Лудза в прошлом и настоящем: популярный очерк”, Рыга, 1935; “Православные церкви Латгалии: историко-статистическое описание”, Рыга, 1936; “Преподобная Ефросиния, княжна Полоцкая”, Рыга, 1938; “Полацкі князь Усяслаў — нацыянальны беларускі асілак”, Вільня, 1939. Гл.: Сахарава, Вольга; Сахараў, Сяргей. Выбраныя творы / Уклад., прадм., камент.: М. Казлоўскі, С. Панізьнік. Менск, 2015. С. 14.

[62] Езавітаў, Кастусь. Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы… С. 192.

*Наша сіла — гэта нацыянальная сьвядомасьць беларускага народу, якую і трэба як мага пашыраць*"[63]. Старшыня Рады БНР лічыў, што ў абліччы блізкіх палітычных і мілітарных пераменаў у сьвеце нацыянальныя дзеячы павінны ўзмацніць сваю дзейнасьць і аб'яднацца вакол ідэі барацьбы за беларускую справу. У Празе адбылася канфэрэнцыя беларускіх эмігрантаў з Чэхаславаччыны, на якой пастанавілі, што першай мэтай Рады БНР павінна быць усталяваньне цесных кантактаў зь беларускімі асяродкамі ў Польшчы, Літве, Латвіі й ЗША. Яшчэ ў красавіку 1938 г. Васіль Захарка ў лісьце да Кастуся Езавітава выказваў задавальненьне існаваньнем у Латвіі беларускага нацыянальнага асяродку й пытаў, хто ім кіруе альбо можа ачоліць у выпадку патрэбы[64]. 29 сьнежня 1938 г. Старшыня Рады БНР зьвярнуўся да беларускіх дзеячаў Латвіі, згуртаваных вакол ТБНЛ, і заклікаў іх актывізаваць грамадзкую дзейнасьць. У звароце чытаем: "*Не сярдуйце на мяне за такія запытаньні. Зразумейце, што мы жывем у такую пору, калі можа наступіць такі момэнт, што ўсе гэта будзе вельмі патрэбна. Усюды-ўсе адчуваюць надыходзячыя вялікія падзеі і пэўна гатуюцца да іх. Нешта падобнае хацелася-б бачыць і на беларускіх землях. Зразумелая рэчы, только на сіле народа можа быць абаперта тая ці іншая акцыя. Не малую энэргію павінна выяўляць і эміграцыя. Але, як ведама, эміграцыя ні есьць сама сіла, яна толькі отгук свайго народу. Калі німа руху народу, та ня могуць быць і моцнымі інфармацыі, доказы і запатрабаваньні эміграцыі. Запатрэбаваньня без падмацаваньня мала калі чаго варта. Гэта агульны закон, якога і нам не абмінуць. Дзеля гэтага я вельмі прашу вас рухацца, рухацца і яшчэ раз рухацца. Даражэнькія, рабеце гэта хаця-б на палову таго, што робяць іншыя пагвалчэныя народы*"[65]. Акрамя таго Васіль Захарка цікавіўся, ці маюць латвійскія беларусы ў сваіх шэрагах аўтарытэтных асобаў, здольных узяць на сябе цяжар арганізацыйнай і нацыянальнай працы: *"добра было-б ведаць, што*

---

[63] Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ). Ф. 5875. Оп. 1. Д. 11. Л. 109.

[64] Васіль Захарка пісаў да Кастуся Езавітава: "*Я быў-бы надзвычайна ўдзячны табе, калі-б ты безадкладна паведаміў мяне аб тым, хто кіруя ў Рызі нацыянальна-незалежніцкай працай або часткай яе, выяўленьнем якой ёсьць толькі што прыведзеная мною дзейнасьць моладзі. Думаю, што не Дзямідаў і не Ўладзімір. Апошні, як ён піша, усё яшчэ страдая ад беспрацоўя. Ці ёсьць у Латвіі, а асабліва ў Рызі і Дзьвінску якія-колеча нацыянальнанезалежніцкія арганізацыі? Што робяць вучыцелі зачыненых школаў, як Сіцько, Рэдзька, Барткевіч, Якубецкі? Вельмі рад, што як у Латвіі, так і ў Вільні, пачынаюць падаваць голас маладыя працаўнікі*" (ГАРФ. Ф. 5875. Оп. 1. Д. 11. Л. 109).

[65] ГАРФ. Ф. 5875. Оп. 1. Д. 11. Л. 121.

*ў вас ёсьць і што можа быць цэнтрам, і хто ёсьць ці можа быць цэнтральнай фігурай”*[66].

Тым часам адносіны паміж трыма “старымі” лідарамі латвійскіх беларусаў — Міколам Дзямідавым, Кастусём Езавітавым і Ўладзімерам Пігулеўскім — не выглядалі найлепшым чынам. Уяўленьне Старшыні Рады БНР пра настроі, якія панавалі сярод мясцовага беларускага актыву, склаліся пад уплывам Кастуся Езавітава, зь якім Васіль Захарка падтрымліваў актыўную карэспандэнцыю. Першы, апісваючы агульную сытуацыю латвійскіх беларусаў, намагаўся падаць у як мага горшым сьвятле сваіх апанэнтаў. У адным зь лістоў да Васіля Захаркі (8 сакавіка 1938 г.) Езавітаў пісаў: *“У Рызе бачыўся са сваімі былымі вучнямі — цудоўная моладзь. Але ходу ім няма — працуюць на фабрыках. Бачыў і старэйшых — яны як мышы пад венікам. Адзін С[яргей] Сахараў зьбірае нашыя народныя сьпевы і рыхтуе зборнік да друку. Мікола [Дзямідаў] дастаў трамваем на галаве (не жартую: трапіў пад трамвай), зара паправіўся, але ў думках яшчэ больш зрабіўся непарадак. Чытае лекцыі моладзі. Моладзь слухае і думае, ці хутка кончыць, каб можна было паскакаць. Я быў адзін раз, плюнуў і пайшоў дахаты. Плануе чалавек зрабіцца ўніяцкім біскупам і зарабіць на гэтым грошы. Быў на праваслаўным багаслоўскім інстытуце. Пігула (Уладзімер Пігулеўскі. —* ***Ю. Г.****) вучыць мове. Ён атрымоўвае добрую пэнсію, жыве бесклапотна адносна сябе і адносна справы”*[67]. Асабліва крытычна аўтар выказваўся ў дачыненьні Міколы Дзямідава, які, на ягоную думку, дапамагаў латыскім нацыяналістам аблатышваць беларускую моладзь. У іншым лісьце Кастуся Езавітава (18 красавіка 1938 г.) чытаем: *“Я не магу сабе нават уявіць, як можна пакінуць Рыгу, як бы на ласку Дзямідава. Можа быць ён і найлепшы чалавек, але-ж з паводжаньнем гэтага чалавека ніяк ня можна пагадзіцца. На што гэта падобна, сёнека ён вучыцель беларускай школы, а заўтра вучыцель латышскай школы, сёнека праваслаўны, а заўтра вуніят і г. д. Сам-бы чалавек няхай сабе піў-бы гарэлку хоць цэлымі гарцамі і ламаў-бы галаву па пяць разоў у дзень і да гэтага нікому дзела не было-б. Але калі такі чалавек зьвязывае з сваім блудам нацыянальную справу, тагды самы мус вымагая ад кожнага ідэйнага беларуса сказаць яму: Стойце і апамятайцеся”*[68].

З мэтай пераадоленьня нутраных рознагалосьсяў сярод лідараў латвійскіх беларусаў у лютым 1939 г. у Рыгу на даручэньне Васіля Захаркі завітаў Янка Станкевіч. Паездка адбылася пад выглядам акадэ-

---

[66] Raport Poselstwa RP w Rydze, Raport dot. działalności białoruskiej na Łotwie, 12 lutego 1939 r. // AAN. Sygn. 477. T. 5328.

[67] ГАРФ. Ф. 5875. Оп. 1. Д. 11. Л. 107 (об.).

[68] ГАРФ. Ф. 5875. Оп. 1. Д. 11. Л. 109.

мічнага візыту ў Латвійскі ўнівэрсытэт, але яе сапраўднай мэтай быў збор зьвестак пра стан беларускай дзейнасьці ў латвійскай дзяржаве. Паездка віленскага беларуса ў Латвію зьвярнула на сябе ўвагу польскіх уладаў, якія разглядалі крок Янкі Станкевіча як акт неляяльнасьці ў дачыненьні польскай дзяржавы. Улады ня мелі нічога супраць акадэмічных кантактаў віленскага дзеяча з рыскай прафэсурай, але якія-колечы кантакты зь мясцовым беларускім нацыянальным актывам лічыліся заангажаваньнем у палітыку, якое шкодзіла польскім інтарэсам. Невыпадкова, падчас пераезду польска-латвійскай мяжы польскія памежнікі зрабілі пільны дагляд рэчаў Янкі Станкевіча, у выніку якога была сканфіскаваная “недазволеная літаратура”: 30—40 асобнікаў беларускага календара, у якім, нібыта, быў выкрыты фатаздымак Карла Маркса[69].

Супрацоўнікі польскай амбасады ў Рызе ўважліва сачылі за кожным крокам Янкі Станкевіча, дзякуючы чаму ў польскіх крыніцах захаваліся даволі падрабязныя зьвесткі пра ягонае перабываньне ў латвійскай сталіцы. Падчас візыту ў Рыгу Янка Станкевіч сустрэўся з Кастусём Езавітавым, Уладзімерам Пігулеўскім і Міколам Дзямідавым, зь якімі вёў перамовы аб кансалідацыі беларускай дзейнасьці ў Эўропе. На думку польскага боку, Янка Станкевіч меў найбольшы давер да Ўладзімера Пігулеўскага, у якім бачыў галоўную фігуру сярод мясцовых беларусаў[70]. Назіраньні польскіх дыпляматаў немагчыма належным чынам зверыфікаваць з прычыны адсутнасьці альтэрнатыўнай крыніцы. Аднак далейшыя падзеі ў жыцьці беларусаў Латвіі яскрава прадэманстравалі, што пададзеная аўтарамі польскага рапарту кіраўнічая роля Ўладзімера Пігулеўскага была значна перабольшаная. Разам з тым, нельга аспрэчыць, што актывізацыя беларускіх нацыянальных дзеячаў у розных эўрапейскіх краінах павялічыла ўвагу польскіх уладаў да беларусаў у Латвіі. У лютым 1939 г. амбасада ў Рызе на загад МЗС падрыхтавала адмысловы рапарт пра стан беларускага жыцьця ў Латвійскай Рэспубліцы. Аўтары рапарту сьцьвярджалі, што пасьля травеньскага перавароту ўлады ў Рызе не разглядаюць усур’ёз беларускай меншасьці, лічачы, што беларуская праблема ў Латвіі як такая не існуе, а беларускі рух можна зьліквідаваць, выкарыстоўваючы адміністрацыйныя сродкі[71].

---

[69] Raport Poselstwa RP w Rydze, Raport dot. działalności białoruskiej na Łotwie, 12 lutego 1939 r. // AAN. Sygn. 477. T. 5328.

[70] Raport Poselstwa RP w Rydze, Raport dot. działalności białoruskiej na Łotwie, 12 lutego 1939 r. // AAN. Sygn. 477. T. 5328.

[71] Заслугоўвае ўвагі тое, якім чынам польскія дыпляматы характарызавалі беларускіх дзеячаў. На гэты конт у дакумэнце адзначалася: *“[Кастусь] Езавітаў змагаецца з [Уладзімерам] Пігулеўскім за душы сваіх суродзічаў. [Кастусь] Езавітаў выступае таксама супраць [Уладзімера] Пігу-*

Тым часам пад уплывам міжнародных падзеяў працягваецца актывізацыя беларускага нацыянальнага жыцьця ў розных краінах. Посьпехі Трэцяга Райху на міжнароднай арэне напрыканцы 1930-х гг.

---

*леўскага на бачынах беларускіх выданьняў за мяжой, абвінавачваючы яго ў паланафільстве альбо наўпрост называючы "польскім агентам", нягледзячы на тое, што адсутнічаюць якія-колечы доказы, акрамя неабгрунтаваных плётак. [Мікола] Дзямідаў, беспартыйны, ляяльны ў адносінах да Латвіі, намагаецца фарсіраваць кірунак латвійска-дзяржаўніцкі й выкарыстоўвае дзеля гэтай мэты адзіную беларускую арганізацыю — Таварыства настаўнікаў. У сувязі з гэтым як [Уладзімер] Пігулеўскі, гэтак і [Кастусь] Езавітаў намагаюцца ў вачах беларусаў дыскрэдытаваць яго як латыскага агента [...] У 1935—1938 гг. дзейнасьць [Кастуся] Езавітава абмяжоўвалася да агітацыі ў Латгаліі, куды ён і яго прыхільнікі выяжджалі кожнае лета на адпачынак. [Уладзімер] Пігулеўскі й [Кастусь] Езавітаў у міжчасе, не абрываючы кантактаў са сваімі прыхільнікамі, працуюць далей. [Уладзімер] Пігулеўскі па-ранейшаму вядзе сваю сацыял-дэмакратычную лінію й падтрымлівае сувязь з латыскімі сацыял-дэмакратамі, а таксама беларусамі ў Польшчы. Камунікуе таксама патаемна з Масквой, адкуль атрымлівае навуковыя кнігі й дысэртацыі. Магчыма, што ў гэтым выпадку ў якасьці пасярэдніка выступае Торгпредство ці Полпредство. Наведваюць яго таксама партыйныя таварышы, якія інструктуюць яго наступным чынам: «Неабходна цяпер займаць пазыцыю чаканьня; несумненна, хада гісторыі, якой ахвярамі будуць Польшча й Літва, дасьць штуршок да далейшай барацьбы. Таму належыць толькі рыхтавацца, каб на тэрыторыі згаданых дзяржаваў стварыць Беларускую рэспубліку. Дапаможа ў гэтым Савецкі Саюз, паколькі ён зацікаўлены, каб існавала буфэрная дзяржава, якая будзе абараняць Саветы ад польскай агрэсіі» [...]. [Уладзімер] Пігулеўскі стварае вялікія клопаты латвійскім уладам. Лічыць сябе за сябра ген[эрала] Балодыса, які ведаў [Уладзімера] Пігулеўскага з часу супольнае працы ў соймавых камісіях. Балодыс называе яго не інакш як толькі «прохвост» і «мерзавец». Знаходзіцца, аднак, шмат легкаверных, якія вераць у апавяданьні [Уладзімера] П[ігулеўскага]. І так, напрыклад, [Уладзімер] Пігулеўскі нядаўна апавядаў, што латвійскі Габінэт Міністраў разглядае беларускае пытаньне ў шырокім маштабе, уключна з магчымасьцю вылучэньня пэўных валасьцяў для будучай Беларусі. Вядома, аказалася, што гэтая тэма ніколі не закранаўся на паседжаньні Рады Міністраў [...]. У адрозьненьне ад пазыцыі чаканьня [Уладзімера] Пігулеўскага, [Кастусь] Езавітаў намагаецца дзейнічаць больш актыўна. Ён наладжвае кантакты зь Менскам, а таксама зь беларусамі ў Вільні, Горадні, Коўне, Празе і ў Амэрыцы. Быўшы перакананым сацыялістам, [Кастусь] Езавітаў спрытна выстаўляе на першы плян у сваёй дзейнасьці нацыянальны момант, дзякуючы чаму аб'ядноўвае вакол сябе частку прыхільнікаў [Уладзімера] Пігулеўскага. Ягоны заклік: усё дзеля Беларусі, незалежна ад таго, ці ёсьць яна камуністычная, ці фашысцкая, ці нейкая іншая"* (AAN. Sygn. 477. T. 5328. Raport Poselstwa RP w Rydze, Raport dot. działalności białoruskiej na Łotwie, 12 lutego 1939 r.).


Мікола Дзямідаў

узмацнілі пранямецкія настроі беларускіх дзеячаў. Значная частка беларускага нацыянальнага лягеру разьлічвала, што пры дапамозе Нямеччыны магчыма будзе стварыць незалежную беларускую дзяржаву. У сваю чаргу нямецкая выведка таксама праяўляла пэўную цікавасьць да прадстаўнікоў “малых народаў”, якіх можна было выкарыстаць у ваенна-палітычных мэтах падчас будучага канфлікту з Польшчай і СССР. Прадстаўнікі беларускага актыву Чэхаславаччыны й Польшчы першымі пачалі шукаць кантактаў з Трэцім Райхам, але падобная зьява раней ці пазьней мусіла таксама закрануць беларусаў Латвіі. Складана адказаць на пытаньне, калі менавіта адбыліся першыя кантакты паміж Бэрлінам і беларускім актывам у Латвіі. Паводле непацьверджанай інфармацыі, яшчэ ў 1934 г. адбылася спроба нямецкіх вайсковых колаў наладзіць сувязь зь лідарамі латвійскіх беларусаў[72].

Кантактам паміж немцамі й беларусамі спрыяў прафэсар Яўген фон Энгельгард, балтыйскі немец, што ў другой палове 1930-х гг. быў дарадцам у беларускіх справах у Замежным аддзеле НСДАП (Нацыял-сацыялістычная нямецкая працоўная партыя — *Nationalsozialistische Deutsche Arbeiterpartei — NSDAP*), якім кіраваў Альфрэд Розэнбэрг. На даручэньне свайго кіраўніцтва Энгельгард напярэдадні Другой сусьветнай вайны неаднаразова наведваў Латвію й вёў перамовы зь мясцовымі беларусамі. Ведама, што ў 1938 г. немец двойчы сустрэўся зь Міколам Дзямідавым і запрасіў беларускага дзеяча наведаць Бэрлін[73]. Беларус скарыстаўся

[72] Падчас допытаў у турме ў 1940 г. НКДБ Мікола Дзямідаў і Віктар Корці згадвалі Эдмунда Зузэміля, які жыў у Кёнігсбэргу. Беларускія дзеячы сьцьвярджалі, што гэты чалавек у 1934 г. накіраваў ліст да лідараў латвійскіх беларусаў, у якім пераконваў, што Нямеччына будзе спрыяць беларускаму руху. Паводле Міколы Дзямідава, Кастусь Езавітаў лічыў неабходным з тактычных меркаваньняў устрымацца ад кантактаў зь немцамі. Гэтыя зьвесткі немагчыма пацьвердзіць. Беручы, аднак, пад увагу акалічнасьці, у якіх была атрыманая інфармацыя, належыць ставіцца да яе асьцярожна (Пратакол вочнай стаўкі Міколы Дзямідава й Віктара Корці, 26 сьнежня 1940 г. // LVA. F. 1986. Ap. 2. P-10551. Lp. 88—97). Тым часам супрацоўнікі польскай амбасады ў Рызе адзначалі, што ў 1934 г. спробы скантактавацца зь немцамі рабіў Кастусь Езавітаў. Польскія крыніцы паведамлялі таксама, што ён, нібыта, атрымаў нейкія нямецкія грошы з Гданьску, а ў 1935 г. шукаў сувязі з украінскай арганізацыяй “Просьвіт”, якая дзейнічала ў Нямеччыне (Raport Poselstwa RP w Rydze, Raport dot. działalności białoruskiej na Łotwie, 12 lutego 1939 r. // AAN. Sygn. 477. T. 5328). У абодвух выпадках інфармацыю не ўдалося пацьвердзіць.

[73] LVA. F. 1986. Ap. 2. P-10551. Lp. 88—97.

запрашэньнем Энгельгарда й 8 ліпеня 1939 г. прыехаў у нямецкую сталіцу[74]. Афіцыйна паездка ў Бэрлін мела акадэмічны характар, а яе мэтай было чытаньне лекцыяў на тэму беларускага адраджэньня. У сапраўднасьці Мікола Дзямідаў намагаўся наладзіць супрацу з тамтэйшымі кіраўнікамі беларускага руху й нямецкімі дзяржаўнымі ды вайсковымі ўстановамі. У прыватнасьці, адбылася сустрэча Міколы Дзямідава з правадыром беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіянам Акінчыцам і Анатолем Шкуткам. Мікола Дзямідаў абмеркаваў з прадстаўнікамі беларускай дыяспары пытаньне наконт беларускіх паўгадзінных радыёпраграмаў на нямецкіх хвалях, адкрыцьцё беларускага народнага ўнівэрсытэту для беларускіх эмігрантаў у Нямеччыне, а таксама ўладкаваньне беларускай моладзі ў нямецкіх ВНУ. Уражаньні Міколы Дзямідава пра Фабіяна Акінчыца былі не найлепшымі. На допытах у савецкай турме Дзямідаў засьведчыў: *"Падчас майго прыезду [Фабіян] Акінчыц, сабраўшы разам [Анатоля] Шкутку, мяне, Бароўскага, спрабаваў гэтую сустрэчу й гэтую размову аформіць як афіцыйную нараду й нават спрабаваў пісаць пратакол, які я павінен быў падпісаць як прадстаўнік латвійскіх беларусаў, Бароўскі — як прадстаўнік эмігрантаў-беларусаў у Нямеччыне, Шкутка — як прадстаўнік беларусаў у Польшчы, але з гэтай задумы нічога ня выйшла, бо ўсе адмовіліся ад подпісу й пратакуляваньня. Я лічу, што гэты пратакол быў патрэбны [Фабіяну] Акінчыцу дзеля таго, каб перадаць яго нямецкім уладам з мэтай атрыманьня грошай"*[75].

Пры пасярэдніцтве бэрлінскіх беларусаў Мікола Дзямідаў сустрэўся з прафэсарам Гергардам фон Мэндэ, які з 1937 г. узначальваў беларускую сэкцыю ў Нямецкім інстытуце дасьледаваньняў замежных праблемаў Бэрлінскага ўнівэрсытэту. На загад нямецкага кіраўніцтва гэты чалавек ажыцьцяўляў кантакты зь беларускім нацыянальным актывам. Пазьней Мікола Дзямідаў сьведчыў, што плянавалася таксама ягоная сустрэча з Альфрэдам Розэнбэргам, якая, аднак, не адбылася[76].

Магчыма, калі Мікола Дзямідаў быў у Бэрліне, Абвэр даручыў яму завэрбаваць на выезд у Нямеччыну беларусаў, якіх нямецкі бок меў намер накіраваць у дывэрсійныя школы — каб выкарыстоўваць падчас ваеннай кампаніі супраць Польшчы. Крыніцай добраахвотнікаў павінны былі стаць беларусы — грамадзяне польскай дзяржавы, якія перабывалі ў Латвіі ў якасьці сэзонных сельскагаспадарчых работнікаў[77]. Пэўнае

---

[74] Сакалоўскі, Уладзімер; Ляхоўскі, Уладзімер. Нямеччына й беларускі нацыянальны рух напярэдадні й у першыя гады Другой Сусьветнай Вайны // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2000. Z. 13. S. 10.

[75] LVA. F. 1986. Ap. 2. P-10551. Lp. 88—97.

[76] Тамсама.

[77] Сакалоўскі, Уладзімер; Ляхоўскі, Уладзімер. Нямеччына й беларускі нацыянальны рух... S. 10.

ўяўленьне пра выкананьне гэтай місіі Міколам Дзямідавым даюць назіраньні прадстаўнікоў польскай амбасады ў Рызе. У сярэдзіне ліпеня 1939 г. польскі вайсковы аташэ маёр Фэлікс Бжэсквіньскі інфармаваў польскае МЗС аб тым, што ў Латвіі адбываецца вербаваньне польскіх сэзонных работнікаў на выезд у Трэці Райх. Паводле дыплямата, вербавальнае бюро разьмяшчалася ў Рызе ў сядзібе Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі. Плян прадугледжваў, што завербаваныя асобы пасьля атрыманьня нямецкіх візаў будуць накіроўвацца ў Шчэцін, дзе іх сустрэне Шкуцька. Большасьць завербаваных складалі маладыя мужчыны, якія перад эміграцыяй у Латвію адбылі тэрміновую службу ў польскім войску[78]. Пра вярбоўку ведала латвійская палітычная паліцыя, паколькі Мікола Дзямідаў інфармаваў аб усім Віктара Корці. Пры гэтым ён пераконваў латышоў у тым, што гэта беларускія студэнты, якія жадаюць распачаць навучаньне ў нямецкіх ВНУ. Немагчыма вызначыць колькасьць асобаў, якіх удалося завербаваць і накіраваць у Нямеччыну. Пазьней Мікола Дзямідаў адзначаў, што ў 1939 г. ён выслаў у Райх толькі 4 чалавек[79]. Тым часам польскі вайсковы аташэ сьцьвярджаў, што 15 ліпеня 1939 г. у Нямеччыну выехалі 20 асобаў, а колькасьць усіх завербаваных складала ажно каля 1 тысячы[80].

Колькасьць выехалых магла быць і большай, калі б ня крокі польскай амбасады ў Рызе. У ліпені 1939 г. у польскае консульства зьвярнуўся сэзонны работнік Язэп Пальчух, які заплаціў Міколу Дзямідаву 20 латаў за афармленьне выезду яго разам зь сям'ёй (жонкай і сынам) у Нямеччыну. Насуперак парадам Міколы Дзямідава Пальчух паінфармаваў польскае консульства ў Рызе аб сваіх плянах, запэўніваючы, што едзе ў Нямеччыну на сэзонную працу, бо даведаўся ад кузэна, што ў гэтай краіне лепшыя заробкі. Акрамя таго, работнік паінфармаваў дыпляматаў аб часе й месцы выезду ў Райх. Польскія ўлады вырашылі перадухіліць гэтую падзею. На просьбу амбасады латвійскія ўлады затрымалі ў Рыскім порце карабель, на якім была група завербаваных эмігрантаў[81]. Няведама, як склалася жыцьцё тых, каму ўдалося выехаць у Нямеччыну. На падставе захаваных крыніцаў магчыма прасачыць лёс толькі некаторых зь іх. Варта задумацца, чым кіраваўся Мікола Дзямідаў, беручы ўдзел у авантурнай акцыі немцаў. Можна здагадвацца, што акрамя магчымых палітычных меркаваньняў беларускі дзеяч кіраваўся жаданьнем атрымаць матэрыяльную карысьць, бо завербаваныя плацілі пэўныя сумы за пасярэдніцтва й афармленьне неабходных дакумэнтаў на выезд.

---

[78] AAN. MSZ. T. 357. K. 414—415.

[79] LVA. F. 1986. Ap. 2. P-10551. Lp. 88—97.

[80] AAN. MSZ. T. 357. K. 414.

[81] AAN. MSZ. T. 11605. Protokół zeznania Józefa Palczucha, 17 VII 1939. K. 42.

Ведаючы схільнасьці Міколы Дзямідава да фінансавых злоўжываньняў, можна меркаваць, што менавіта матэрыяльны чыньнік перадвызначыў ягоны ўдзел у вербаваньні заходнебеларускіх эмігрантаў.

Акрамя Дзямідава адносіны з бэрлінскімі беларусамі ў разгляданы час падтрымліваў Кастусь Езавітаў. Праўда, ягоныя кантакты абмяжоўваліся супрацоўніцтвам з рэдакцыяй газэты "Раніца". Ён рупіўся пра распаўсюд пэрыёдыка сярод беларускіх дзеячаў у Латвіі. Апрача таго Кастусь Езавітаў друкаваўся на старонках бэрлінскага выданьня[82]. 31 траўня 1940 г. ён ахвяраваў 16 кніг з уласнага кнігазбору для беларусаў — польскіх вайскоўцаў, якія ў выніку верасьнёўскай кампаніі апынуліся ў нямецкім палоне[83]. 26 чэрвеня 1940 г. сябра Беларускага прадстаўніцтва Анатоль Шкутка пісаў да Кастуся Езавітава: *"Вашыя пісьма, апошні з Нікіфароўскім, і пачку з кніжкамі атрымаў. Дзякую Вам. Кніжкі разасланы сярод палонных і ад імя іх прыношу Вам яшчэ раз самую шчырую падзяку. Трэба было бачыць радасьць гэтых нашых слаўных, мілых жаўнераў, якіх лёс закінуў на зусім чужы для іх грунт. Яны, мне так здаецца, яшчэ ніколі так, як цяпер, пачалі любіць свой край. Будучы ўдома, на Беларусі, не цанілі яе. Сёньня, здалёк ад родных палеткаў, бачыцца Яна ў зусім іншых фарбах: родных, завучых і вабячых"*[84]. Аўтар прасіў працягваць дасылаць кнігі, але празь Міжнародны Чырвоны Крыж. Анатоль Шкутка інфармаваў Кастуся Езавітава аб тым, што хоча стварыць культурна-асьветную арганізацыю беларусаў у Нямеччыне ("Саюз Беларусоў у Нямеччыне")[85].

---

[82] Вабішчэвіч, Аляксандр. "Але ж шлях да свабоды старонка праложа!" // Сыны і пасынкі Беларусі. Менск, 1996. С. 340.

[83] Сярод іх была кніга Францішка Багушэвіча "Смык беларускі" (Коўна, 1922) і Францішка Аляхновіча "У лясным гушчары" (Рыга, 1932), а таксама выданьні, прысьвечаныя латвійскім беларусам (НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 7. Арк. 29).

[84] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 51. Арк. 41.

[85] У лісьце Анатоля Шкуткі чытаем: *"На вёсках немцы часта не разрожніваюць беларуса да паляка, а дзеля таго, што палякоў ніколі тут не любілі, то і адносіны да іх былі не надта сымпатычныя. Не маючы паняцьця аб беларусох, такі сабе Мюллер ці Шмідт, бачачы на палонным польскі мундур, лічыць яго за паляка. Каб гэтай справе дапамагчы, і то ня толькі палонным, але і наагул усім беларусом, жывучым у Нямеччына, паўстала ў мяне [...] думка выданьня ім адпаведных легітымацый, якія б былі праўным дакумантам і перад нямецкімі ўладамі. [...] Сёньня маем у Бэрліне «Беларускае Прадстаўніцтва ў Нямеччына», якое вось і пераймае функцыі палагоджаньня праўных патрэбаў беларусоў перад нямецкаю ўладаю. Паўстаньне гэтае ўстановы, на маю думку, трэба павітаць. Па першае, будзем мець змогу правесьці афіцыйную перапіс усіх беларусоў у Нямеччыне. Другое, даць ім адпаведны дакумант, зь якога б было відаць,*

Адначасова Шкутка цікавіўся станам беларускай справы ў Латвіі, а таксама настроямі, якія панавалі ў гэтай краіне[86].

Напярэдадні і ў пачатку Другой сусьветнай вайны адбыліся пэўныя зьмены ў арганізацыйным жыцьці латвійскіх беларусаў. З ініцыятывы кіраўніцтва Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі было вырашана перарэгістраваць арганізацыю пад новай назвай, паколькі ТБНЛ апынулася пад пагрозай юрыдычнай забароны. На паседжаньні 9 лістапада 1938 г. было зацьверджана ператварэньне ТБНЛ у Таварыства беларусаў у Латвіі. Таксама прынялі рашэньне накіраваць да прэзыдэнта краіны дэлегацыю з мэтай вызначэньня актуальнай пазыцыі ўладаў у дачыненьні беларускай нацыянальна-культурнай справы[87]. На чарговым паседжаньні кіраўніцтва таварыства (7 сьнежня 1938 г.) Міколу Дзямідаву даручылі зарэгістраваць новую арганізацыю[88]. 9 лютага 1939 г. у Рызе адбыўся агульны сход ТБНЛ, на якім перарэгістравалі сябраў і абралі новае кіраўніцтва (Мікола Дзямідаў — старшыня, Аляксандар Родзька — намесьнік старшыні й сакратар, Казімер Мяжэцкі — скарбнік, А. Даль — 2-і сакратар, Сьцяпан Рамаш)[89]. На першым паседжаньні новага кіраўніцтва 22 лютага было вырашана актывізаваць дзейнасьць арганізацыі, узнавіўшы публічныя лекцыі і зладзіўшы 15 красавіка Дзень беларускай культуры[90]. Адначасова працавалі над стварэньнем на базе ТБНЛ новай арганізацыі. 14 лютага 1939 г. Аляксандар Родзька перадаў у МУС просьбу аб рэгістрацыі Таварыства беларусаў у Латвіі (ТБЛ), а 28 чэрвеня 1939 г. Міністэрства зацьвердзіла статут новай арганізацыі. Паводле статуту, да арганізацыі мог далучыцца кожны дарослы латвійскі грамадзянін беларускай нацыянальнасьці[91]. Новая арганізацыя афіцыйна пачала дзейнічаць з жніўня 1939 г. Разам з пачаткам дзейнасьці ТБЛ аўтаматычна спыніла сваё існаваньне

*што гэта беларус, і гэтым адрожніць яго раз назаўсюды ад паляка ці маскаля. Трэцяе, маючы гэтых людзей, старацца для іх перад нямецкімі ўладамі аб працы, іхніх правох і г. д. Чацьвёртае, выступаць як прызнаная нямецкаю дзяржаваю арганізацыя. Думаю, што вось у гэтакі спосаб ставячы нашую нацыянальную працу, памылкі не раблю. Хацелася б чуць Вашую думку*" (НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 51. Арк. 42).

86 Аўтар пісаў да Кастуся Езавітава: *"Які настрой пануе цяпер у Латвіі? Я маю ўражаньне, што трэба было б ужо думаць аб больш пэўным месцы для нашых грамадзян. Калі зойдзе патрэба, пішыце адразу ж мне"* (НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 51. Арк. 42).

87 LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 30.

88 LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 2. Lp. 34.

89 LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 1—5.

90 LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 6—7.

91 LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 6. Lp. 6.

ТБНЛ. 7 чэрвеня 1939 г. адбылося апошняе (27-е) паседжаньне яго ўправы, а ўжо наступны сход гэтага органу (22 жніўня) лічыўся 1-м паседжаньнем часовай управы Таварыства беларусаў у Латвіі (кіраўнік Аляксандар Родзька). У пэрыяд з 22 жніўня да 29 кастрычніка 1939 г. адбылося шэсьць паседжаньняў часовага кіраўніцтва[92].

29 кастрычніка 1939 г. быў скліканы 1-ы агульны сход сябраў ТБЛ, на якім старшынём арганізацыі абралі Пётру Мі558рановіча. У склад управы ТБЛ увайшлі: Пётра Міргановіч (старшыня), Сяргей Сахараў (намесьнік), Казімер Мяжэцкі (сакратар), Эмануіл Сагайла-Станевіч (скарбнік), Сьцяпан Рамаш (сябра). На прапанову Ўладзімера Пігулеўскага ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой канстатавалася, што правы беларускай меншасьці ў Латвіі не рэалізоўваюцца: 1) у галіне асьветы, паколькі на 26 тысячаў беларусаў працуе толькі адна беларуская школа, 2) у грамадзкай сфэры, паколькі ў валасьцях зь перавагай беларускага жыхарства органы самакіраваньня складаюцца з прадстаўнікоў небеларускай нацыянальнасьці, а беларуская інтэлігенцыя нават з вышэйшай адукацыяй ня можа знайсьці сабе годнай працы. У сувязі з гэтым сход упаўнаважыў новую ўправу патрабаваць ад ураду краіны: 1) адкрыцьця беларускіх школаў, якія працавалі ў 1929/1930 навучальным годзе, 2) наданьня беларусам месцаў у мясцовай адміністрацыі, 3) роўнага трактаваньня беларусаў падчас атрыманьня працы[93].

Паседжаньні ўправы ТБЛ адбываліся рэгулярна: не радзей чым адзін ці два разы на месяц. У пэрыяд з 29 кастрычніка 1939-га да 10 сьнежня 1940 г. адбылося 14 паседжаньняў. Асабліва інтэнсіўна ўправа працавала ў лістападзе 1939 г. Апрача таго, за гэты час чатыры разы былі скліканыя сходы сябраў (тры агульныя й адзін надзвычайны)[94]. Праўда, колькасьць удзельнікаў была нешматлікая[95].

Стрыжань сябраў ТБЛ складалі былыя чальцы ТБНЛ. 27 верасьня 1939 г. у склад ТБЛ былі прынятыя новыя сябры, у тым ліку Ніна Пінская і Ўладзімер Пігулеўскі[96]. У 1939 г. у Рыгу вярнуўся Кастусь Езавітаў, які таксама далучыўся да Таварыства беларусаў у Латвіі[97]. Улетку 1939 г. у шэрагах арганізацыі налічвалася 70 сябраў, у тым ліку — Язэп Камаржынскі, Кастусь Езавітаў, Уладзімер Пігулеўскі, Аляксандар Родзька,

---

[92] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 13.

[93] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 22.

[94] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 4; LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 5.

[95] Першы сход сябраў адбыўся 21 красавіка 1940 г. пад старшынствам Кастуся Езавітава. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел 23 чалавекі. На другім сходзе 2 чэрвеня 1940 г. прысутнічалі ўсяго 12 чалавек.

[96] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 3. Lp. 13.

[97] Езавітаў, Кастусь. Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы. С. 192.

Якуб Кастылюк, Сяргей Сахараў, Пётра Міранові, Дамінік Мяжэцкі, Казімер Мяжэцкі, Язэп Клагіш, Ніна Пінская, Мікола Панькоў, Мікалай Краўчанка й іншыя[98]. Такім чынам, нягледзячы на нешматлікасьць сяброў, ТБЛ аб'ядноўвала найбольш актыўных беларускіх нацыянальных актывістаў. Пры гэтым у яго шэрагах выразна дамінавалі прадстаўнікі маладога пакаленьня латвійскіх беларусаў. Сярод сяброў арганізацыі не было, аднак, Міколы Дзямідава, які пасьля ліквідацыі ТБНЛ часова пакінуў Латвію.

Новая структура была вымушаная змагацца зь фінансавымі цяжкасьцямі. Напрыклад, 18 кастрычніка 1939 г. пасаду часовага старшыні ўправы пакінуў Аляксандар Родзька, які спаслаўся на тое, што *"каса таварыства зусім пустая"*[99]. Таварыства беларусаў у Латвіі лічылася спадкаемцам Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі, таму яно павінна было прыняць грашовыя сродкі, якія засталіся пасьля ТБНЛ. Ведама, што ў выніку прыйма ад ТБНЛ маёмасьці й грашовых сродкаў 7 студзеня 1939 г. Таварыства беларусаў у Латвіі атрымала 1569 латаў[100]. Захаваныя крыніцы дазваляюць меркаваць, што прынамсі частка фінансаў ТБНЛ ня трапіла ў рукі ТБЛ, паколькі старшыня першага таварыства Мікола Дзямідаў прыхаваў гэтыя грошы сабе. У лістападзе 1939 г. і студзені 1940 г. Пётра Міранові зьвяртаўся да дзеяча з просьбай перадаць новай арганізацыі ўсе справы й маёмасьць ТБВЛ, у тым ліку стыпэндыяльны фонд, які раней існаваў пры Беларускім аддзеле, а пасьля яго ліквідацыі трапіў у рукі Дзямідава[101]. У выніку была створана рэвізійная камісія (Уладзімер Пігулеўскі, Кастусь Езавітаў, Я. Кукель), якая занялася аналізам фінансавай сытуацыі ТБНЛ напярэдадніператварэньня яго ў Таварыства беларусаў у Латвіі. Камісія выкрыла шэраг недакладнасьцяў у запісах і выдатках ТБНЛ, за якія быў адказны былы старшыня гэтай арганізацыі[102]. Камісія зрабіла выснову, што Мікола Дзямідаў бясправўна захапіў частку грошай ТБНЛ[103]. Аднак гэтая справа не знайшла хуткага разьвязаньня. Дзеяч лічыў беспадстаўнымі абвінавачваньні супраць яго. 11 ліпеня 1940 г. у лісьце да Пётры Мірановіча ён пісаў, што гатовы асабіста прыехаць у Рыгу, каб высьветліць непаразуменьне, і прасіў вызначыць час і месца сустрэчы ў прысутнасьці сьведкаў[104].

[98] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 7. Lp. 1—6.

[99] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 9. Lp. 5.

[100] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 8. Lp. 3.

[101] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 9. Lp. 13 зв., 20.

[102] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 9. Lp. 42—53.

[103] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 5. Lp. 1—11.

[104] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 9. Lp. 62.

Нягледзячы на матэрыяльныя складанасьці, новая арганізацыя распачала шпаркую дзейнасьць. Кіраўніцтва ТБЛ прыкладала намаганьні, каб ажывіць нацыянальна-культурную працу латвійскіх беларусаў. На першым паседжаньні ўправы (1 лістапада 1939 г.) было прынята рашэньне аб стварэньні тэатральна-харавой сэкцыі таварыства пад кіраўніцтвам Язэпа Камаржынскага. Беручы пад увагу факт, што замежная прэса вельмі мала асьвятляла жыцьцё латвійскіх беларусаў, кіраўніцтва таварыства прыняло рашэньне распачаць выданьне часопісу. Плянавалася, што выданьне будзе выходзіць два разы на месяц. Выдаўцом пэрыёдыка павінен быў стаць Пётра Мірановіч, а рэдактарам — Дамінік Мяжэцкі. У межах падрыхтоўкі выданьня праводзілася падпіска, каб пэрыёдык быў самаакупляльным[105]. У сьнежні 1939 г. беларускі актыў зьвярнуўся да МУС з просьбай дазволіць выхад часопісу “Роднае слова”[106]. 1 студзеня 1940 г. Сяргей Сахараў пісаў Кастусю Езавітаву, што беларусы чакаюць дазволу на выданьне, таму прасіў даслаць матэрыялы[107]. Нягледзячы на рашучасьць беларускага актыву, гэтая задума засталася ў сфэры плянаў. На выданьне часопісу не пагадзілася МУС[108].

Больш удалай аказалася дзейнасьць для арганізацыі публічных лекцыяў. 17 сакавіка 1940 г. таварыства зладзіла ў сталіцы сустрэчу, прымеркаваную да 100-годзьдзя нараджэньня Францішка Багушэвіча, падчас якой Кастусь Езавітаў прачытаў лекцыю “100-годзьдзе нараджэньня Францішка Багушэвіча й ягонае значэньне ў беларускім адраджэньні”. 31 сакавіка 1940 г. Сяргей Сахараў пазнаёміў слухачоў з рэфэратам на тэму “40-я ўгодкі сьмерці Паўла Шэйна й ягоная праца над зьбіраньнем беларускага фальклёру”. 21 красавіка Дамінік Мяжэцкі прачыў даклад: “Роля сельскае гаспадаркі ў дзяржаўным жыцьці”[109]. 4 траўня 1940 г. ТБЛ зладзіла вечарыну з удзелам Надзеі Нікалаевай-Комісар і Вольгі Бароўскай-Пігулеўскай, а таксама паказ п’есы Далецкага “Міхалка”. Імпрэза прынесла значны грашовы прыбытак арганізацыі[110]. 2 чэрвеня 1940 г. падчас 2-га агульнага сходу Таварыства беларусаў у Латвіі Кастусь Езавітаў прачытаў рэфэрат “М. Я. Нікіфароўскі й яго значэньне для беларускай навукі і ў беларускім адраджэнчым руху”[111].

---

[105] БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 48. Арк. 31.

[106] Екабсонс, Эрикс. Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах. С. 58.

[107] Ліст С. Сахарава да К. Езавітава, 1 I 1940 г. // Інстытут Гувера. Калекцыя К. Езавітава.

[108] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 4. Lp. 7—9, 11—12.

[109] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 94. Арк. 4.

[110] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 4. Lp. 13—14.

[111] LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 4. Lp. 17.

Арганізацыя займалася таксама выдавецкай працай. У 1939 г. Сяргей Сахараў падаў на разгляд Культурнага фонду Латвіі каля 1100 фальклёрных запісаў розных гатункаў, сабраных сярод латгальскіх беларусаў. За атрыманую прэмію памерам 700 латаў улетку 1940 г. ТБЛ выдала 1-ы том “Народнай творчасьці Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў”, у які ўвайшло звыш 400 песьняў[112]. Выданьне гэтай кнігі было магчымае дзякуючы дапамозе кіраўніка фальклярыстычнай камісіі Культурнага фонду прафэсара Карла Страўбэрга. З ініцыятывы Таварыства беларусаў у Латвіі рэдактарам выданьня стаў Кастусь Езавітаў. З гэтай мэтай улетку й восеньню 1940 г. ён камандзіраваўся ў Латгалію[113].

Падсумоўваючы, можна зрабіць выснову, што нават пасьля травеньскага перавароту і ўсталяваньня ў Латвіі аўтарытарнага рэжыму беларуская меншасьць мела пэўныя магчымасьці для нацыянальна-культурнай працы, якія, аднак, не выкарыстоўваліся напоўніцу. У значнай ступені адбывалася гэта пад уплывам двух чыньнікаў. Па-першае, адчувалася адсутнасьць нацыянальнай дзяржавы, кіраўніцтва якой магло падтрымоўваць сваіх суайчыньнікаў у Латвіі. Другой прычынай быў нізкі ўзровень нацыянальнай сьведамасьці латгальскіх беларусаў, які абумоўліваўся асаблівасьцямі фармаваньня ідэнтычнасьці мясцовага беларускамоўнага насельніцтва.

---

112 Ліс, Марына. Педагагічная і культурна-асветніцкая дзейнасць С. П. Сахарава // Весці Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 1995. № 3. С. 104; Яна ж. Сяргей Сахараў і беларуска-балцкія сувязі // Кантакты і дыялогі. 1996. № 10. С. 16—20.

113 LVVA. F. 2924. Ap. 1. L. 9. Lp. 55.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ПАЛІТРУ Й ВАГУ "ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ"

"Ліст у рэдакцыю", як гэта вынікае ўжо з самога назову, належыць да эпісталярнага жанру; але па сваёй нутранай разнастайнасьці, разнавіднасьці ён лёгка мог бы прэтэндаваць на самастойнасьць. Усе катэгорыі ў невялічкай зацемцы ахапіць не ўяўляецца магчымым, але варта пералічыць хоць бы некаторыя й пры гэтым зьвярнуць увагу на нязьменную з часам вартасьць, вагу для дасьледнікаў немалога шэрагу іх насуперак займанаму месцу ў газэтах.

"Лісты" ўзятыя з апошніх балонак газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" і падаюцца далей у адвольным парадку.

Лісты-падзякі. Частая зьява — хто б мог падумаць — у жалобнай хроніцы; тут усё адразу зразумела: *"Язэп Сажыч зь сям'ёй. Шчырая падзяка [за падтрымку ў часе страты Барбары Сажыч]"*[1]; *"Татарыновічы, М. і Ст. Шчырая падзяка ўсім, хто ўшанаваў памяць брата, ксяндза пралата Пётры Татарыновіча"*[2].

Лісты-вітаньні (віншаваньні). *"Высокашаноўнага сп. Міхася Тулейку, аднаго зь першых кіраўнікоў беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Амэрыцы, вітаюць з нагоды 80-х угодкаў Галоўная Ўправа БАЗА, Газэта "Беларус", БІНіМ і Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі"*[3]; *"Вітаем маладажонаў [Юрку Кіпеля і Лёран Сўіні; Валянтына Сельвесюка і Елянту Панфілюк"*[4].

Гэтыя дзьве катэгорыі, як добра бачна, карысныя як для пабудовы эміграцыйнай храналёгіі, так і пры напісаньні побытавай гісторыі яе.

Лісты-выясьненьні (удакладненьні). Важнасьць гэтай катэгорыі забясьпечваюць пададзеныя ў лістах весткі:

Станкевіч, Янка. Ліст у Рэдакцыю: *"Паважаны Спадару Рэдактару. Дазвольце зрабіць маленькую папраўку да артыкулу Ст. Крушыніча «З нагоды "рэгабілітацыі" Браніслава Тарашкевіча», надрукаванага ў № 4 (588) «Бацькаўшчыны»*.

---

[1] Беларус. № 257. Верасень 1978. С. 4.

[2] Беларус. № 261. Студзень 1979. С. 6.

[3] Беларус. № 417. Кастрычнік 1994. С. 7.

[4] Беларус. № 365. Сьнежань 1989. С. 5.

*У гэтым артыкуле паміж іншага кажацца, што Тарашкевіч «нарадзіўся... у засьценку Мацюлішкі на Віленшчыне». Запраўды-ж ён паходзе із сяла Чарнулішкі Лаварскае вобласьці Віленскага пав. і там-жа нарадзіўся. Ведаю я гэта добра, бо ў 1919 г. разам із Б[ранііславам] Тарашкевічам я быў у хаце ягоных бацькоў.*

*Адылі ў тым-жа артыкуле кажацца, што Б[раніслаў] Тарашкевіч, па сканчэньні ўнівэрсытэту, быў два гады прыватдоцэнтам. Думаю, што гэта абмылка, бо ў 1918 г. ён прыехаў із Пецярбургу на ўставічнае жыцьцё да Вільні, дзе я часта зь ім бачыўся, і ад яго ані іншых я ня чуў, каб ён быў прыватдоцэнтам, а на сваёй «Беларускай граматыцы для школ» ён надрукаваў у тым-жа годзе: «Б[раніслаў] Тарашкевіч кандыдат філялёгіі»”*[5].

Брага, Сымон [Вітаўт Тумаш]. Ліст у Рэдакцыю: *“Вельмі паважаны спадар Рэдактар! Не адмоўце зьмясьціць у Вашай паважанай газэце гэтых пару слоў выясьненьня.*

*У органе зарубежніцтва «Беларускае Слова» (№ 2) з 1.1.1949 г. зьмешчаны артыкул «У Сьвяты Калядны Вечар», падпісаны прозьвішчам сьв[ятой] п[амяці] нябожчыка Хведара Ільляшэвіча.*

*Артыкул гэты перадрукаваны з № 12 часапісу «Шляхам Жыцьця» з 25 сьнежаня 1946 г., дзе ён зьмешчаны як сьвяточная «перадавіца» і як артыкул рэдакцыйны бяз подпісу. «Шляхам Жыцьця» ў тую пару ня быў яшчэ вузка партыйным органам, але агульнабеларускім культурна-грамадзкім часапісам, у якім пісаў як Хведар Ільляшэвіч, так і я.*

*Дык вось, гэты артыкул быў напісаны не Ільляшэвічам, а мною, насьпех, за некалькі гадзінаў перад выхадам нумару. Посьпех гэты і ёсьць прычынаю таго рванага, «тэлеграфічнага» стылю, якім ён напісаны. Нябожчык Ільляшэвіч перабіў адразу-ж артыкул на матрыцы бязь ніякіх зьменаў ці дадаткаў і пусьціў яго на ратaтар.*

*Якія меркаваньні схінулі рэдактара «Беларускага Слова» падстаўляць пры перадруку непадпісанага твору імя якраз нябожчыка — мне невядома. Пакольні, аднак, Хведар Ільляшэвіч ужо ня жыве й ня можа бараніцца сам ад самадумнага прыпісваньня яму чужых твораў, дзеля гэтага зьяўляюся я й змушаным, на жаль, пісаць гэтых некалькі слоў выясьненьня”*[6].

<u>Лісты-заявы</u> (або <u>лісты-абвяржэньні</u>). Да даволі гаваркога азначэньня падамо ня менш красамоўны ўзор:

Кіпель, Вітаўт. Ліст у Рэдакцыю:

*“Вельміпаважаны Спадар Рэдактар!*

*Прашу зьмясьціць у Вашай паважанай газэце наступнае:*

---

[5] Бацькаўшчына. № 6 (590). 25 сакавіка 1962. С. 4.

[6] Бацькаўшчына. № 3 (47). 23 студзеня 1949. С. 4.

*Ад некаторага часу на беларускім кніжным рынку зьявілася кніжка пад назовам «З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу» І[вана] Касяка. Я ня зьбіраюся разьбіраць матарыялу, зьмешчанага ў кнізе, але з прычыны, што там фігуруе маё прозьвішча ў няпрыемным аспэкце, дзе я выстаўляюся нейкім «мучанікам» за «веру и отечество», — заяўляю:*

*1. што аўтару кнігі ня толькі не даваў згоды на друкаваньне майго прозьвішча, але й наагул ніколі гутаркі аб падобным выпадку ня меў. Лічу абураючым зьмяшчэньне на друкаваных бачынах і падаваньне да публічнага ведама прыватных дробных дэталяў студэнцкага жыцьця, чым і зьяўляецца ўспомнены ў кнізе выпадак;*

*2. пражыўшы ў Лювэне шэсьць з палавінаю гадоў, як ні мне, так і нікому з маіх сяброў ніколі ня было зроблена ніякіх ні намёкаў, ні націскаў ні на зьмену рэлігіі, ні палітычных перакананьняў. Наадварот, з боку акадэмічных уладаў мы заўсёды мелі падтрымку ў арганізацыі свайго праваслаўнага жыцьця;*

*3. буду заўсёды глыбока ўдзячным Лювэнскаму ўнівэрсытэту, ягонай талерантнасьці, дзе запраўды пануе хрысьціянская любоў і роўнасьць, і дзе я здабываў вышэйшую асьвету;*

*4. выношу найшчырэйшую падзяку нашаму агульнаму Лювэнскаму маральнаму й матарыяльнаму апякуну на працягу ўсяе навукі, а асабліва гадоў рабленьня дактарату, пэру Робэрту [ван Каўвэлярту]”*[7].

Лісты-заклікі. Самыя аптымістычныя з усіх, але, што праўда, нярэдка заставаліся толькі заклікамі:

Кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. Ліст у Рэдакцыю:

*“Паважаныя Суродзічы! Вялікім недахопам на эміграцыі была нястача падручніка для гісторыі Беларусі. Разьехаўшыся з Эўропы на сталае жыцьцё ў розныя краіны сьвету, наша эміграцыя направіла сваё матар’яльнае становішча, было выдадзена ці мала добрых кнігаў. Але гісторыі Беларусі пакуль яшчэ ніхто ня выдаў. Патрэба гэтага выданьня з кажным годам пабольшваецца. Расьце шмат моладзі, якая пра Беларусь мала ведае, бо няма адкуль папоўніць гэтыя веды. Паадкрываліся беларускія школы, а без падручнікаў вучыць вельмі цяжка. Нават і дарослым часам добра заглянуць у такую кнігу.*

*Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе выдала шмат працаў, хоць гэта было нялёгка з розных прычынаў, асабліва зь фінансавых. Дзякуючы падтрымцы нашых суродзічаў мы перамаглі ўсе цяжкасьці. І яшчэ шмат што выдаём і падрыхтоўваем.*

[7] Бацькаўшчына. № 21 (303). 20 травеня 1956. С. 4.

*Цяпер задумалі выдаць «Нарыс Гісторыі Беларусі». Гэтая кніга мае абыймаць гісторыю нашага народу ад найдаўнейшых часоў да сяньняшніх дзён. Вялічыня кнігі будзе каля 400 бачынаў нармальнага кніжнага фармату. Аўтарам зьяўляецца былы выкладчык беларускае гімназіі ў Нямеччыне. Рататарам выдаваць такую кнігу было-б грэшна й сорамна кажнаму Беларусу. Таму зьвяртаемся да ўсіх Вас, дарагія суродзічы: Перасылайце перадаплату і ахвяры на гэтую кнігу на наступны адрыс [...].*

*Хай кажны Беларус прыйме ўдзел у гэтай акцыі, а зробім вялікую справу.*

*Спадзяёмся й моцна верым, што наш гэты заклік будзе прыняты да сэрца кажным Беларусам, за што наперад шчыра дзякуем”*[8].

<u>Лісты-скаргі</u>. У даваенныя часы ў Савецкай Беларусі яны лёгка маглі трапіць у катэгорыю лістоў-даносаў: надта ж ценькая часам паміж імі розьніца бывае.

Гладкі, Язэп. Беларускі лягер АБЦ у Ватэнштэце. Ліст у рэдакцыю:

*“Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!*

*Прашу зьмясьціць у Вашай паважанай газэце наступны мой ліст:*

*У беларускім лягеры ў Ватэнштэце распускаюцца чуткі, што быццам я пісаў даносы на камэнданта гэтага-ж лягеру С[ьвятаслава] Каўша і на двух хлапцоў — [Алеся] Гатковіча*[9] *й [Юрыя] Хахолку*[10], *якія летась выехалі ў Ангельшчыну, аб тым, што яны камуністыя. Гэтыя чуткі пашырае сп. Коўш за пасярэдніцтвам Ул[адзімера] Сенькі.*

*У сувязі з гэтым я заяўляю з гонарам чалавека і беларуса, што я ніколі ніякіх даносаў ня пісаў: гэта паклёп і злосная правакацыя. Я вельмі далёкі ад такой прафэсыі. Я па свайму маральнаму перакананьню й характары не магу працаваць у гэтай галіне. Я патрабую ад вышэй успомненых грамадзян — [Сьвятаслава] Каўша й [Уладзімера] Сенькі — мне такой прафэсыі не накідаць, бо ў мяне*

---

8 Бацькаўшчына. № 7—8 (621—622). Ліпень 1964. С. 8.

9 **Алесь Гатковіч** (1925—2007), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны вучыўся ў гандлёва-адміністрацыйнай школе ў Маладэчне. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце браў удзел у арганізацыі літаратурна-мастацкіх вечароў. Пры канцы 1940-х гг. як перамешчаная асоба прыехаў у Вялікабрытанію. Жыў у Лідсе.

10 **Юрка Хахолка** (1926—1996), грамадзкі дзеяч. У паваеннай Нямеччыне быў у беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе актыўна займаўся спортам. У 1948 г. прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лідсе, дзе арганізаваў беларускую валейбольную каманду “Нёман”, якая пасьпяхова выступала да 1955 г.

*ёсьць свая сталая прафэсыя, у якой я працую ўжо тры дзесяткі гадоў — гэта школа і ў вапошнія гады ў дадатку да яе — выдавецтва школьных падручнікаў. Гэныя людзі гвалтам пазбавілі мяне маёй прафэсыянальнай працы ў школе, блізкай мне па духу, але гвалтам мне накінуць новую непажаданую для мяне прафэсыю ня змогуць. Я катэгарычна пратэстую й процію тых асобаў, якія без маёй згоды выкарыстоўваюць маё імя.*

*Паколькі мне зроблены закіды, што быццам я пісаў даносы на грам[адзян] [Сьвятаслава] Каўша, [Алеся] Гатковіча й [Юрыя] Хахолку, дык я ўважаю патрэбным выказаць свой пагляд на іх.*

*Ці сп[адар] [Сьвятаслаў] Коўш зьяўляецца камуністым? Я гэтага ня ведаю й ніколі не цікавіўся й не цікаўлюся гэтым пытаньнем. А калі некаторыя людзі западозрываюць яго ў гэтым, дык напэўне на аснове тэй сыстэму ладу, якая пануе ў нашым лягеры, а яна далёка не дэмакратычная, але таталітарная.*

*Ці камуністыя сп.сп. [Алесь] Гатковіч і [Юры] Хахолка? Я гэтака таксама ня ведаю, але навет далёкі тэй думкі, што яны камуністыя. [Алесь] Гатковіч і [Юры] Хахолка — гэта непадзельная частка Ватэнштэцкай моладзі. Гэтая моладзь раней была ўзгадована ў беларускім нацыянальным духу й змагалася за нацыянальныя інтарэсы беларускага народу. У недалёкім мінулым яна падпала пад уплыў сп[адара] [Сьвятаслава] Каўша й дзейнічала ў ягоных інтарэсах, гэта значыць — дапамагала яму разбураць адзінства беларускае моладзі і адзінства беларускае эміграцыі. Гэтыя-ж хлопцы з такім-жа настроем паехалі ў Ангельшчыну, дзе й вядуць тую самую разбуральную работу. Яны самі, напэўна, думаюць, што гэтымі сваімі чынамі робяць беларускую нацыянальную работу, як тая бабулька думала, што робіць сьвятую справу, калі прынесла бярэмя дроў на касьцёр, на якім палілі Яна Гуса. Некаторыя адзінкі тэй моладзі, што асталася ў Ватэнштэце, здаецца, часамі крытычна глядзіць на работу [Сьвятаслава] Каўша. Гэтая-ж двойка, поўная энэргіі і юнацкага запалу, дзейнічае, на жаль, яшчэ так, як яе натхніў сп[адар] [Сьвятаслаў] Коўш, калі яна ад’яжджала ў Ангельшчыну. Прыйдзе, аднак, час, калі й гэтыя хлопцы перастануць быць сьляпым аружжам у руках тых людзей, якія імкнуцца разьбіць адзінства беларускага народу”*[11].

Калі ідзецца пра лісты агулам, не згадаць імя Юркі Віцьбіча немагчыма. Гаворачы пра лісты ў рэдакцыю — таксама. У пераважнай большасьці гэта злучэньне двух тыпаў: ліст-палеміка й ліст-успамін. Для ілюстрацыі возьмем гэтым разам не публікацыю ў беларускіх газэтах, а ў нью-ёркаўскім *“Новом Русском Слове”* (22 траўня 1968 г.), дзе

[11] Бацькаўшчына. № 13 (57). 1 чырвеня 1949. С. 4.

бадай усе дзясяткі тэкстаў за подпісам Юрыя Стукаліча зьмяшчаліся ў разьдзеле *“Письмо в редакцию”*:

*“Белорусы и вельможи УНРРА.*

*М. Г. Г. Редактор!*

*Нельзя не согласиться с г-м Н. Нефодевым (НРСлово от 9.5.68 г.), что некоторые из высокопоставленных, при сравнении с Ди-Пи, чиновников УНРРА, в которой и он, по его словам, служил, путали белорусов с белыми русскими в историческом значении этого понятия. Очевидно, одни из них по своим географическим познаниям стояли на уровне фонвизинского недоросля Митрофанушки, другие, всячески измываясь во время неисчислимых «скринингов» над беззащитными барачными людьми, руководились чувствами административного восторга, заклейменного ещё Достоевским в «Бесах», третьи... А впрочем, разрешите припомнить характерную демонстрацию, свидетельствующую о том, как сами белорусы относились к этому произволу со стороны отдельных вельмож УНРРА.*

*Германия, Регенсбург, 1946 г. На окраине города в поселке Гангоферзидлюнг нашли временный приют несколько тысяч беженцев от большевиков. По своей национальности это были поляки, белорусы, украинцы, русские, литовцы и латыши. Каждая национальность поселилась здесь на «своих» улицах, избрав свои комитеты, комендантов и полицию. Всех их опекала УНРРА, а во главе её регенсбургского отделения стоял американец Штурман, ни от кого не скрывавший свою принадлежность к коммунистической партии. Между ним и местной советской репатриационной миссией сразу же наладился дружественный контакт, он даже предоставил советским возможность ознакомиться с ведомственной картотекой всех обитателей поселка.*

*Хотя белорусы Гангоферзидлюнга, как и прочие национальности, вполне самоопределились, построив единственную в поселке православную церковь преп[одобной] Евфросинии-Предславы княжны Полоцкой, открыв начальную школу и гимназию имени народного поэта Янки Купалы, создав хор и театр, издавая журналы и книги на родном языке и т. д., но при очередном обмене удостоверений, подтверждающих статус Ди-Пи, Штурман приказал записать белорусов в них русскими и присоединить затем к малочисленной русской общине. Однако, когда в назначенный им для обмена день около 400 белорусов явились в здание УНРРА, то заурядный Ди-Пи, а именно Юрий Стукалич, отказался взять удостоверение, в котором ему насильственно была приписана не его национальность. Не поддается описанию взбешенное лицо Штурмана, увидевшего, что вместе со мною все белорусы покинули помещение УНРРА.*

*На другой день нашу делегацию вне очереди принял американский губернатор Регенсбурга и высказал ей свое искреннее возмущение по*

*поводу действий Штурмана. На третий день после демонстрации мы, белорусы, получили удостоверения с обозначением своей национальности. А спустя короткое время окончательно разоблаченный Штурман был выслан из Регенсбурга — провожали его на перроне вокзала не Ди-Пи, а Эм-Пи*[12].

*И наконец последнее существенное. Несмотря на столь любезно предоставленную мне г-м Нефедовым в его снисходительно покровительственном письме «Русские и белорусы» возможность высказаться также о римлянах и пруссаках, о кельтах и псковичах и т. д., я, хоць и располагаю порохом в пороховницах, но уважая читателей НРСлова, избегаю мелкоколиберных споров, перерастающих в сказку про белого бычка*".

Бясспрэчна, пералічаныя вышэй падтыпы "лістоў у рэдакцыю" не вычэрпваюць іх усёй разнастайнасьці: надта ж багатая й маляўнічая палітра. Але, спадзяюся, іх хапае, каб сьцьвердзіць відавочнае: гэтыя лісты даюць той матэрыял, тыя дробныя, але неабходныя рэчы для разуменьня й адчуваньня сапраўднай гісторыі эміграцыі, чалавечых адносінаў, прычынна-выніковых сувязяў, чаго ня знойдзеш у вялікіх артыкулах на першых бачынах газэтаў або ў мэмуарыстыцы, і якія могуць быць аб'ектамі досьледаў для сацыёлягаў, гісторыкаў, філёлягаў, культуролягаў.

[12] ***MP — Military Police*** (анг.) — вайсковая паліцыя.

# *Публікацыі*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*
***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

## 1956

Апісваючы дзейнасьць асобных інстытуцыяў (БІНіМ), палітычных арганізацыяў (Рада БНР), жыцьцё й даробак прадстаўнікоў нашае эміграцыі, мы падумалі, што было-б цікава й павучальна ўзяць асобны год ды прасачыць, як ён, яго падзеі й здарэньні адбіліся ў беларускім эміграцыйным друку, найперш у газэтах “Бацькаўшчына” й “Беларус”, як і чым жыла грамада, што рабіла, пра што пісала, на што спадзявалася, што згадвала.

Год 1956, хай і адметны ў першую чаргу XX зьездам КПСС, які мусіў прыцягнуць увагу выгнанцаў і стацца хіба галоўнаю тэмаю для іх, а таксама падзеямі ў Вугоршчыне, тым ня менш быў узяты амаль выпадкова. Мог быць і любы іншы.

### *Падсумаваньні й пляны*

З чым пачынала гэты год эміграцыя, падсумавала канадыйская газэта Сяргея Хмары (Сіняка) “Беларускі Голас” у артыкуле “Яшчэ адзін” за подпісам Ліпічанскага (яшчэ адным псэўданімам галоўнага рэдактара):

*“Дасягненьні, хай невялікія, хай не кідаючыся ў вочы, яны ёсьць. Эміграцыя наша, расьцярушаная па розных краінах сьвету, не расплылася ў чужацкім моры. Яна, пусьціўшы карані ў новых краінах пасяленьня, ад Канады да Аўстраліі, ад Англіі аж да Аргэнтыны, патрапіла ўтрымацца на паверхні жыцьця новых краін і дзеяць там на карысьць свайго народу. Мінаючы год быў адным з найактыўнейшых гадоў эміграцыі ў гэтым напрамку. Беларусы былі ўсюды, дзе было ў інтарэсе беларускай справы. Яны прапагавалі беларускае імя сярод чужынцаў. Яны ўсюды ўпаміналі а свой народ. Гаварылі а Ягоных крыўдах. Яны гуртавалі свае сілы на эміграцыі. Ці возьмем палітычныя выступы на міжнароднай арэне ў справе вызваленьня й незалежнасьці Беларусі, ці выступы ў паасобных краінах, ці нарэшце маніфэстацыі нашых імкненьняў, нашай культуры ці ўмацаваньня нашых эміграцыйных асяродкаў, забясьпячаючых перад дэнацыялізацыяй — беларусы дзеялі ўсюды. [...]*

*Ці была гэта маніфэстацыя, ладжаная БНА ў Канадзе, ці Беларуска-Амэрыканскім Кангрэсовым Камітэтам*[1]*, БАЗА*[2]*, ці Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Радай у Амэрыцы*[3]*, ЗБВБ, ХАБР*[4]*, ці БВР у Англіі, ці Згуртаваньнем Беларусаў у Аўстраліі*[5]*, ці БНК у Нямеччыне*[6] *— рабілася адну справу. Нашую справу! […]*

*1955 год быў годам беларускіх культурных імпрэзаў і маніфэстацыяў, азнаямляючых чужыя народы з Беларусяй. Выступы БНА ў Канадзе*[7] *на розных канадыйскіх фэстывалях і парадах. Парад Лёяльнасьці ў Нью-Ёрку з удзелам БАЗА, канцэрты Кліўлендзкага ЗБАМ*[8] *у Дэтройце й Кліўлэндзе ды Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Саўт-Рывэр — толькі частка таго, што даканалі нашыя арганізацыі.*

*4 новазакладзеныя беларускія царквы замацавалі новыя дасягненьні беларусоў на рэлігійным адрэзку жыцьця.*

*Вялікія дасягненьні трэ падчыркнуць і на выдавецкай ніве, прыняўшы пад увагу так слабыя фінансавыя рэсурсы нашай эміграцыі.*

---

[1] **Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)** — грамадзкая арганізацыя, створаная ў 1951 г., якая мела на мэце каардынацыю розных беларускіх структураў у ЗША, аднак здолела аб’яднаць толькі мясцовых прыхільнікаў БЦР.

[2] **Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА)** — першая масавая грамадзка-палітычная арганізацыя беларусаў у ЗША. Заснаваная ў 1949 г. і зарэгістраваная ў 1950 г. у Олбані (*Albany*, штат Нью-Ёрк). Аб’ядноўвала прыхільнікаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

[3] **Беларуска-Амэрыканская нацыянальная рада** — грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў Чыкага 27 кастрычніка 1941 г. на чале з а. Янам Тарасэвічам.

[4] **ХАБР — Хрысьціянскае аб’еднаньне беларускіх работнікаў** — арганізацыя прыхільнікаў БЦР у Вялікабрытаніі, якая ўтварылася ў 1948 г. пасьля выхаду часткі сябраў са Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі.

[5] Арганізацыі з такім назовам не існавала. Відаць, маецца на ўвазе **Згуртаваньне беларусаў у Вікторыі** — арганізацыя прыхільнікаў Рады БНР, заснаваная ў Мэльбурне ў 1952 г.

[6] **Беларускі нацыянальны камітэт** у Заходняй Нямеччыне быў створаны ў чэрвені 1945 г. у Рэгенсбургу пад кіраўніцтвам Аляксандра Русака і ўяўляў сабою прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ў Амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. Пасьля палітычнага расколу БНК дзейнічаў як структура прыхільнікаў Рады БНР, у 1950-х яго дзейнасьць перамясьцілася ў Мюнхэн.

[7] **Беларускае нацыянальнае аб’еднаньне** — арганізацыя-канкурэнт Згуртаваньня беларусаў Канады, што аб’ядноўвала прыхільнікаў БЦР. Заснаваная ў Таронта ў 1952 г.

[8] Відаць, тут маецца на ўвазе **Згуртаваньне беларускай моладзі ў Кліўлэндзе**, заснаванае ў 1950 г.

*Выданьне цэлага сьцягу беларускіх кніг нашых клясыкаў "Бацькаўшчынай" бясспрэчна належыць да гэтых дасягненьняў, як і працы ў чужых мовах інфармацыйнага характару аб Беларусі, найважнейшая зь якіх брашура аб Беларусі, выданая камісыяй Кэрстэна*[9]*, ды працы А. Адамовіча і Сядуры, выданыя Амэрыканскім Усходнім Фондам. [...]*

*Пэрспэктыва хуткага павароту на Бацькаўшчыну штораз адыходзіць далей у няведамае, часта ўплываючы на нацыянальнае самаабяззбройваньне слабейшых адзінак, вынікам чаго стаецца хуткая асыміляцыя і гібель для свайго народу.*

*Таму так важная справа закладаньня сталых і трывалых падвалінаў нашага эміграцыйнага жыцьця — ператрываньня ў дыяспары да павароту на родную вызваленую зямлю. Таму так важна не згубіць нашага незалежніцкага шляху, заблытаўшыся ў «рэалізьме» фондаўскай палітыкі і схіляньня хрыбта перад моцнымі. Трэба мець надзею, што наступны 1956 будзе годам нашага далейшага разбудоўваньня нацыянальных пазыцыяў у краінах эміграцыі, яднаньня нашых нацыянальных сілаў у адным супольным фроньце змаганьня за Вялікую Незалежную Беларусь"*[10].

Наступны ж год плянаваўся тады найперш як юбілейны, сьвяточны: *"У 1956 годзе мінае паўстагодзьдзя з часу выхаду першага нумару газэты «Наша Ніва», якой давялося стацца эпохатворчай у гісторыі нашага народу. [...] Таму тым большае падтрымкі заслугоўвае заплянаванае Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва шырокае сьвяткаваньне 50-х угодкаў «Нашае Нівы». Трэба, каб гэтая важная дата адзначылася ня толькі паўсюднымі рэфэратамі й дыскусыямі, ня толькі колькімі газэтнымі артыкуламі, але й шырокай навуковадасьледчай ды выдавецкай працай, якой трэба абавязкова ахапіць жывы яшчэ сяньня гістарычны матар'ял: успаміны сучасьнікаў "Нашае Нівы" й нашаніўцаў, высьвятленьне долі тыражу газэты, збор дакумэнтаў і здымак, выпіска й супрацьпастаўленьне «навуковых» ды «падручнікавых» фальсыфікатараў а ля Васілёнак*[11] *і шмат чаго*

[9] **Чарлз Керстэн** (анг. *Charles Joseph Kersten*, 1902—1972), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец. У 1951 г. ён унёс у Палату прадстаўнікоў Кангрэсу рэзалюцыю, якая прадугледжвала палітычную й матэрыяльную дапамогу для паняволеных СССР народаў у іх змаганьні за незалежнасьць. У 1953—1954 гг. узначальваў кангрэсавую Камісію ў справах бальшавіцкага тэрору ў дачыненьні "нерасейскіх" народаў.

[10] Беларускі Голас. № 17. Студзень 1956. С. 2.

[11] Маецца на ўвазе выданьне: Василёнок, С. Белорусская литература. Допущено в качестве учеб. пособия для филологических факультетов университетов и факультетов русского языка и литературы педагог. ин-тов. Москва, 1951.

*іншага. Усё гэта мусіў-бы быць матар'ял для адмысловае манаграфіі, прысьвечанай першай вялікай беларускай газэце"*, — пісаў у артыкуле "Адкрываючы «Нашаніўскі» год" Сяргей Ясень (Янка Запруднік)[12].

Зрэшты, юбілеяў назьбіралася значна больш:

*"Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў сваім «Абежніку» № 6 за люты 1956 год падаў вельмі важную і актуальную зацемку наступнага зьместу:*

*«У 1956 годзе прыпадае ладная колькасьць угодкаў, зьвязаных з гісторыяй беларускага культурнага адраджэньня. Найважнейшыя зь іх:*

*1. 50 год ад пачатку друку галоўных часапісаў беларускага нацыянальнага адраджэньня "Нашай Долі", першы нумар якой выйшаў 14 верасьня (ст. стылю 1 верасьня) 1906 году, і "Нашай Нівы", першы нумар якой выйшаў 10 лістапада 1906 году.*

*2. 30 год ад заснаваньня й 25 год ад ліквідацыі літаратурна-мастацкага згуртаваньня "Ўзвышша" (1926—1931).*

*3. 100 год ад нараджэньня й 75 год ад сьмерці рэвалюцыянэра Ігната Грынявіцкага*[13]*.*

*4. 80 год ад нараджэньня й 40 год ад сьмерці Цёткі — Алёйзы Пашкевічанкі-Кайрыс*[14]*, якая нарадзілася 8 ліпеня 1876 году, а памерла 5 лютага 1916 году.*

*5. 75 год ад нараджэньня Івана Луцкевіча*[15] *(1881—1919).*

*6. 75 год ад нараджэньня й 25 год ад сьмерці Ўсевалада Ігнатоўскага (1881—1931).*

*7. 70 год ад нараджэньня й 15 год ад сьмерці Зьмітрака Бядулі*[16] *(1886—1941).*

*8. 70 год ад нараджэньня кампазытара Міколы Равенскага*[17] *(1886—1953).*

---

[12] Бацькаўшчына. № 1—2 (282—283). Праваслаўныя Каляды. 7 студзеня 1956. С. 1—2.

[13] **Ігнат Грынявіцкі** (1855—1881), рэвалюцыянэр-нарадаволец. 1 (13) сакавіка 1881 г. бомбай, кінутай Ігнатам Грынявіцкім, быў забіты імпэратар Аляксандар II.

[14] **Цётка** (сапр. **Алаіза Пашкевіч**, у шлюбе **Кайрыс**, 1876—1916), паэтка, грамадзкая дзяячка, публіцыстка.

[15] **Іван Луцкевіч** (1881—1919), грамадзкі й культурны дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады й газэты "Наша Ніва".

[16] **Зьмітрок Бядуля** (сапр. **Самуіл Плаўнік**, 1886—1941), паэт, празаік, мовазнаўца.

[17] **Мікола Равенскі** (1886—1953), кампазытар, аўтар музыкі гімну-малітвы "Магутны Божа" (словы Натальлі Арсеньневай). У 1950—1953 гг. жыў у Лювэне, дзе арганізаваў Беларускі студэнцкі ансамбаль.

*9. 25 год ад выгнаньня першае раты “Нацдэмаў” зь Беларусі (1931).*

*10. 20 год ад пачатку “Яжоўскага” разгрому беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў (1936).*

*11. 5 год ад закладзінаў у Нью Ёрку Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (16 сьнежня 1951 г.)».*

*Ад сябе дадамо: 12. 10 год ад заснаваньня на эміграцыі Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства Пранціша Скарыны”*[18].

Былі й іншыя гадавіны, якія яшчэ напаткаем і адзначым, гартаючы бачыны газэтаў.

## Пачатак году ў міжнародным разрэзе

Тым часам другі выпуск “Бацькаўшчыны” (за нумарам 3) на першай старонцы зьмясьціў артыкул Пётры Сыча (крыптанім — пс.) пад назовам “Новы год пачаўся блага”[19]. Гэтай жа тэме быў прысьвечаны артыкул побач — “Сумныя вынікі француcкіх выбараў”:

*“Вынікі парлямэнтарных выбараў у Францыі, якія адбыліся 2-га студзеня сёлета, былі ашаламляючай неспадзеўкай для найбольшых навет пэсымістых. [...] Кідаецца ў вочы вялікі ўзрост колькасьці камуністых у новым парлямэньце — 152 (у папярэднім парлямэньце было іх толькі 98), якія адны твораць сяньня наймагутнейшую фракцыю ў Нацыянальным Сабраньні. [...]*

*Неспадзяваным быў вялікі сукцэс новага палітычнага ўгрупаваньня на чале з Пужадэ*[20]*, якое атрымала 52 мандаты. Гэта дэмагагічны новафашыстоўскі кірунак, які складаецца галоўным чынам з дробнамяшчанскіх прадаўцоў і гандляроў, што збунтаваліся супраць плачэньня падаткаў. Гэтая занархізаваная група станоўча выступае супраць парлямэнтарна-дэмакратычнай сыстэмы, як і камуністыя, і разам з апошнімі будзе мець звыш 200 мандатаў на ўсіх 537.*

*Такія вынікі француcкіх выбараў заскочылі й моцна занепакоілі цьвяроза думаючую часьць францускага грамадзянства, як і краіны вольнага сьвету. Затое зьяўляюцца яны запраўдным трыумфам Масквы, як і ейных пятых калёнаў на Захадзе. Ворган брытанскай камуністычнай партыі «Дэйлі Воркэр»*[21]*, якая ад шэрагу год ня можа здабыць*

---

[18] Бацькаўшчына. № 12—13 (294—295). 25 сакавіка 1956. С. 8. Хутчэй за ўсё, аўтарам гэтай зацемкі ў “Абежніку” быў Антон Адамовіч.

[19] Бацькаўшчына. № 3 (284). 15 студзеня 1956. С. 1—2.

[20] **П’ер Пужад** (фр. *Pierre Poujade,* 1920—2003), французскі скрайне правы палітык.

[21] ***“Daily Worker”*** — штодзённая брытанская левая газэта, якая выдавалася з 1930 г. З 1966 г. мае назву “*Morning Star*”.

*ніводнага мандату, падаў вестку аб сукцэсах францускіх камуністых пад вымоўным загалоўкам: «Дзень славы для Францыі». [...]*

*Гэтак першай і вялікай няўдачай распачынае Захад Новы Год”*[22].

Год 1956, як і больш за дзесяць папярэдніх, належаў, па выразу Джорджа Оруэла, да часу халоднай вайны, на якую беларуская эміграцыя мела вялікі спадзеў.

*“Першы вызаў у новай фазе халоднай вайны зрабілі й гэтым разам Саветы, калі, умела выкарыстоўваючы жэнэўскую атмасфэру*[23]*, падмінавалі сваімі ўплывамі Сярэдні Ўсход, Афрыку і пасягнулі на Паўдзённую Амэрыку. [...]*

*А тымчасам і камуністычны Ўсход, і дэмакратычны Захад баяцца назваць рэчы іхным собскім іменем. У міжнародным палітычным лексыконе слова халодная вайна ў дачыненьні да сяньняшняй палітычнай сытуацыі яшчэ не ўжываецца. І Ўсход, і Захад хацелі-б яшчэ ратаваць «жэнэўскі дух» суіснаваньня, першы для сваіх далёка наперад задуманых мэтаў, другі — для чыста каньюнктуральных меркаваньняў сяньняшняга дня. Важны крок у кірунку ратаваньня «жэнэўскага духа» зрабіла апошнімі днямі Масква.*

*25 студзеня савецкі амбасадар у Вашынгтоне Зарубін*[24] *злажыў візыту прэзыдэнту Айзэнгаўэру*[25] *і перадаў яму асабіста ліст савецкага прэм’ера Булганіна*[26]*. [...] Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША ўжо падаў да ведама галоўныя яго пункты. Пайменна, Булганін прапануе заключэньне між Амэрыкай і Савецкім Саюзам пакту прыязьні і неагрэсіі, а так-жа стварэньне між усходнім і заходнім блёкамі пояса нэўтральных дзяржаваў, якія, паводля ўсякае праўдападобнасьці, меў-бы абняць і Заходнюю Нямеччыну. [...]*

*Саветам моцна залежыць на ўратаваньні «духу Жэнэвы», бо жэнэўскае адпружаньне дало ім вялізарныя здабыткі, а Захаду прынесла неаблічальныя страты [...]*

---

[22] Бацькаўшчына. № 3 (284). 15 студзеня 1956. С. 1.

[23] Маецца на ўвазе часовае пацяпленьне ў міжнародных адносінах; выраз “дух Жэнэвы” паўстаў пасьля сустрэчы міністраў замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі й СССР у 1955 г. у Жэнэве.

[24] **Георгі Зарубін** (рас. *Георгий Зарубин*, 1900—1958), савецкі дыплямат, дзяржаўны й палітычны дзеяч. У 1952—1958 гг. — надзвычайны й паўнамоцны пасол СССР у ЗША.

[25] **Дўайт Айзэнгаўэр** (анг. *Dwight David Eisenhower*, 1890—1969), амэрыканскі дзяржаўны й вайсковы дзеяч, 34-ы прэзыдэнт ЗША.

[26] **Мікалай Булганін** (рас. *Николай Булганин*, 1895—1975), савецкі дзяржаўны й вайсковы дзеяч. У 1955—1958 гг. — старшыня Савету Міністраў СССР.

*Саветы, ніколі ня выпускаючы із сваіх рук ініцыятывы, кажны свой палітычны крок, кажны свой манэўр ці задум плянуюць у роўніцы вялікай палітыкі з разьлікам на будучыню, маючы заўсёды перад сабой адзіную мэту: зьнішчэньне заходняе дэмакратыі й падпарадкаваньне сабе цэлага сьвету. [...]*

*Дэмакратычны Захад няздольны быў дагэтуль належна зьмерыцца із сваім праціўнікам. Няздольны быў здабыцца на ініцыятыву, а толькі з большай або меншай станоўкасьцяй бараніўся на тых адрэзках фронту, на якіх быў наймацней заатакаваны. У проціўвагу Саветам, Захад дагэтуль ня мог даць народам сьвету вялікай ідэі, якая змагла-б пацягнуць за сабой мільённыя масы і змабілізаваць іх на змаганьне з камуністычным злом”*[27].

У разьмешчаным троху ніжэй артыкуле “Станоўчы адказ Маскве” фактычна агучвалася пазыцыя беларускай эміграцыі: *“Адказ прэзыдэнта Айзэнгаўэра паводля свайго значэньня трэба разглядаць як адзін з найважнейшых й найвыдатнейшых палітычных дакумэнтаў сучаснасьці. У ім у ветлівай, але станоўчай форме прэзыдэнт Айзэнгаўэр адкінуў прапазыцыю Булганіна і асьветчыў, што Саветы павінны давесьці сваю добрую волю ня словамі, але чынамі”*[28].

## XX зьезд КПСС

14—25 лютага ў Маскве адбыўся XX зьезд КПСС. У “Бацькаўшчыне” ў артыкуле “Старая палітыка пры новай тактыцы. На маргінэсе XX зьезду Камуністычнай партыі Сав. Саюзу”[29] рабіліся першыя высновы:

*“Ніякае грунтоўнае зьмены дасюлешняга курсу Савецкага Саюзу ў пастановах маскоўскага зьезду не відаць. Быў асуджаны Сталін і сталінізм, але сталінская палітыка будзе абавязваць й надалей пад зьменным назовам «калектыўнага кіраўніцтва». Зьмяніўся не палітычны курс, а зьмянілася толькі тактыка.*

*Гэтая зьмена тактыкі, на нашу думку, выкліканая была некалькімі меркаваньнямі, галоўныя зь якіх наступныя:*

*1. Нутраныя патрэбы Савецкага Саюзу. Выказваньні й пастановы зьезду нядвузначна сьведчаць, што сярод насельніцтва Савецкага Саюзу, асабліва ў ягонай нерасейскай часьці, існуе вялікае незадавальненьне й патэнцыяльны фэрмэнт супраць рэжыму. Дзеля гэтага трэба было, між іншым, асудзіць Сталіна за ўсе дасюлешнія няшчасьці, аднавіць аўтарытэт Леніна і ягонай палітыкі, якая ў вялікай часьці*

---

[27] Бацькаўшчына. № 6—7 (288—289). 11 лютага 1956. С. 1.

[28] Тамсама.

[29] Бацькаўшчына. № 11 (293). 11 сакавіка 1956. С. 1—2.

*народу зьяўляецца папулярнай, ды даць некаторыя дэкляратыўныя запэўненьні аб палёгках у галіне нацыянальнай палітыкі.*

*2. Палітыка ў дачыненьні г. зв. «народных дэмакратыяў» і «нэўтральных» краінаў. Зьезд выразна паказаў, што Савецкі Саюз ставіць цяпер вялікую стаўку на «нэўтральныя» краіны тыпу Індыі, краінаў Сярэдняга Ўсходу, Паўночнай Афрыкі, а асабліва Югаславіі, а так-жа сваіх сатэлітаў і камуністычнага Кітаю. З гэтаю мэтаю было зроблена рад прыманкавых заяваў пад адрасам гэтых дзяржаваў, праведзеная рэгабілітацыя многіх былых камуністых, зьнішчаных як «ворагі народу», ды вызнаны прынцып, што рэвалюцыя можа быць усюды праведзеная мірным спосабам.*

*3. Коэгзыстэнцыйная палітыка ў дачыненьні да Захаду. Усе бяз выключэньня тактычныя мерапрыемствы маскоўскага зьезду былі накіраваныя на паглыбленьне палітыкі коэгзыстэнцыі з Захадам, непасрэднай мэтай якой ёсьць тварэньне народных фронтаў з сацыялістычнымі партыямі, каб пры іхнай помачы правесьці рэвалюцыю «мірным» спосабам, маральнае раззбраеньне народаў захаду й знаходжаньне больш мяккае мовы з кіруючымі коламі заходніх дзяржаваў”*[30].

У апошні дзень XX зьезду, 25 лютага, на закрытым паседжаньні першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Хрушчоў зачытаў даклад “Аб кульце асобы і яго наступствах”. Нягледзячы на сакрэтнасьць, урыўкі зь яго разышліся па сьвеце, а 5 чэрвеня тэкст адначасна надрукавалі ў ЗША газэты *“New York Times”* і *“Washington Post”*, і ён выйшаў у Мюнхэне па-расейску.

Але ўжо ў нумары ад 8 красавіка ў артыкуле “Яшчэ аб крамлёўскіх сэнсацыях” “Бацькаўшчына” пісала:

*“«Тайная мова» Хрушчова супраць Сталіна, сказаная на закрытай сэсіі XX зьезду камуністычнай партыі Савецкага Саюзу, яшчэ й сяньня не перастае быць прадметам розных, часта супярэчных камэнтараў і здагадак у вольным сьвеце. Прызнаёмся, што не перастае яна быць некаторай загадкай і для нас. Бо як сама форма абвінавачваньня Сталіна як ворага народу нумар першы, гэтак і вонкавыя абставіны былі чымсьці неспадзяваным і загадкавым. Справа ў тым, што хадзіла тут не аб другарадных фігурах крэмлёўскага алімпу, як трацкісты, бухарынцы або бэрыйцы, але аб «наймудрэйшага правадыра й вучыцеля», з чыім іменем яшчэ ня так даўно было зьвязанае даслоўна ўсё ў Савецкім Саюзе, катораму пяяліся пахвальныя гымны, як яшчэ нікому із сьмяротных, катораму прыпісваліся даслоўна ўсе заслугі як у Савецкім Саюзе, гэтак і для справы міжнароднага камунізму.*

---

[30] Бацькаўшчына. № 11 (293). 11 сакавіка 1956. С. 2.

*Сяньня цяжка яшчэ адказаць на пытаньне, які абарот прыймуць справы ў Савецкім Саюзе ў найбліжэйшай будучыні, як і на пытаньне, што было фактычнай прычынай, што нядаўны «наймудрэйшы правадыр і вучыцель» быў ягоным верным вучнем і найбліжэйшым супрацоўнікам названы публічна чалавекам ненармальным, інтэлектуальна абмежаваным і праступнікам. Да заданьняў публіцыстыкі належыць ня толькі інфармаваньне аб бягучых падзеях і камэнтаваньне іх, але таксама выцягваньне зь іх высадаў і прадбачаньне іхнага далейшага ходу. У сувязі з гэтым паспрабуем і мы разгадаць сэнс і мэты выступленьня Хрушчова.*

*Слова «тайная» ў дачыненьні да мовы Хрушчова мы ўзялі ў чужаслоў, бо няма найменшага сумліву, што навет самому Хрушчову хадзіла пра тое, каб гэтая тайнасьць хутка сталася яўнасьцю. Добра ведаем з дасюлешняй крэмлёўскай практыкі, што калі там нешта мусіць быць тайнае, дык яно тайным і застаецца, прынамся на даўжэйшы час. А ў дадзеным прыпадку «тайная» мова была сказаная 25 лютага, а ўжо за два тыдні савецкая цэнзура прапускае аб ёй інфармацыі прадстаўнікоў заходніх прэсавых агенцтваў у Маскве, а заходняя прэса падае дакладны ейны зьмест. У самым-жа Савецкім Саюзе тэкст мовы апублікаваны дагэтуль ня быў, але яна таксама хутка сталася ведамай, яе зачытвалі й камэнтавалі агітатары на работніцкіх мітынгах.*

*Здаецца, гэтая мова была прызначаная не для нутранога ўжытку партыі, але для шырокіх масаў як унутры Савецкага Саюзу, гэтак і на Захадзе. З гэтым вяжацца другая акалічнасьць. Чаму Хрушчоў ня выліў усіх сваіх абвінавачваньняў пад адрасам Сталіна адным замахам падчас сваей першай прамовы на зьезьдзе, а абмежаваўся толькі агульнымі намёкамі, каб усю вайстрыню абвінавачваньняў высунуць пазьней у прамове «тайнай»? Усё гэта паказвае, што справа была ўплянаваная так, каб весткі аб здэградаваньні «наймудрэйшага правадыра» да ролі ворага народу нумар першы выходзілі навонкі не адразу, але паступова. Відаць, «калектыўнае кіраўніцтва» баялася, каб раптоўныя рэвэляцыі аб Сталіне ня выклікалі вельмі сільнага ўражаньня і не зрабілі непажаданага шоку.*

*Цяпер другая загадка, якую разгадаць ужо цяжэй. Яшчэ перад партыйным зьездам было ведама, што Сталін і сталінізм як палітычная сыстэма, абапёртая на кульце адзінкі, была «калектыўным кіраўніцтвам» адкінутая. У прамовах Хрушчова, Маленкова[31] і асабліва Мікаяна[32]*

---

[31] **Георгі Малянкоў** (рас. *Георгий Маленков*, 1902—1988), савецкі дзяржаўны й палітычны дзеяч. У 1953—1955 гг. быў старшынём Савету Міністраў СССР.

[32] **Анастас Мікаян** (арм. Անաստաս Միկոյան,1895—1978), савецкі дзяржаўны й партыйны дзеяч армянскага паходжаньня. У 1955—1964 гг. — першы намесьнік старшыні Савету Міністраў СССР.

*на зьезьдзе сталінізм быў афіцыяльна засуджаны і абвінавачаны ў цэлым радзе памылак і няўдачаў. Гэтага ўжо было аж надта дастаткова, каб заманіфэставаць аб станоўчым парваньні із сталінізмам як перад народамі Савецкага Саюзу, гэтак і вонках яго. Пры гэтым такое заманіфэставаньне было ўтрыманае ў форме належнае прызваітасьці, неабходнае для вярхоўнага кіраўніцтва вялікае дзяржавы.*

*Аказалася, аднак, што гэткай формы адмовы ад сталінізму для цяперашняе крэмлёўскае клікі было замала. Трэба было паставіць кропку над «і»: сказаць аб усіх чыста сталінскіх злачынствах і поўнасьцю здыскрэдытаваць памерлага дыктатара як найвялікшага праступніка. Вось тут і вынырае пытаньне, дзеля якой мэты была заінсцэнізаваная ўся гэтая камэдыя?*

*Некаторыя на Захадзе трымаюцца думкі, што гэтым сваім крокам «калектыўнае кіраўніцтва» хацела мацней пераканаць заходнія колы, што яно не намеранае далей кантынуаваць сталінскай цьвёрдай палітыкі, а гатовае на далёка йдучыя кампрамісы для справы захаваньня міру й наладжаньня шырокага супрацоўніцтва з Захадам. Гэтае прыпушчэньне нам выдаецца наймене праўдападобным. У дачыненьні да Саветаў Захад ёсьць так мала вымагаючым, што для яго дастаткова было ўжо столькі, колькі было сказана ў прамовах на адкрытых сэсіях зьезду.*

*На нашую думку, на выступленьні Хрушчова заважалі нутраныя прычыны ў Савецкім Саюзе і* ***толькі нутраныя****. Публічна вылічваючы цяжкія праступкі Сталіна, як расстрэл каля пяці тысяч савецкіх ахвіцэраў у сувязі із справай Тугачэўскага[33], крывавы масавы тэрор за часоў яжоўшчыны або віну за няўдачы й велізарныя страты ў першай фазе апошняй вайны ды звальваючы віну за ўсё гэта выключна на аднаго Сталіна, Хрушчоў мог мець на мэце ачысьціць сябе й кліку ад усіх сталінскіх праступстваў, змора якіх, відаць, жыве ў памяці падсавецкіх народаў. Гэты намер Хрушчова пацьвярджае й тое, што і цяперашнія сябры «калектыўнага кіраўніцтва», як Молатаў[34], Булганін ды і ён сам, як зазначыў у сваей прадмове, мелі стацца таксама ахвярамі сталінскага тэрору. Хрушчоў не дарма прадставіў сытуацыю пры Сталіне так, пры якой Сталін мог рабіць дaслоўна ўсё, чаго вымагалі ягоныя дзікія капрысы, а ўсе іншыя былі бясьсільныя. Ізь сьлязьмі ў вачох прыпомніў, што навет яму Сталін быў загадаў танцаваць гапака, і ён мусіў гэты несамавіты загад выканаць.*

---

[33] **Міхаіл Тухачэўскі** (рас. *Михаил Тухачевский*, 1893—1937), савецкі вайсковы дзеяч, маршал Савецкага Саюзу. Рэпрэсаваны ў 1937 г.

[34] **Вячаслаў Молатаў** (сапр. рас. *Вячеслав Скрябин*, 1890—1986), савецкі дзяржаўны й партыйны дзеяч. У 1953—1956 гг. — міністар замежных справаў СССР.

*На гэтым не канец. Як ведама, эканамічная сытуацыя Савецкага Саюзу, асабліва ў галіне сельскай гаспадаркі, сяньня проста катастрафальная. Грандыёзныя пляны Хрушчова асваеньня цалінных земляў, як ведама, далёка ня далі тых вынікаў, якія партыя спадзявалася. Ня выратаваў палажэньня й жалю годны плян кукурузацыі ўсяе краіны. Хіба-ж не з дабра быў выдадзены закон аб зьмяншэньні й ліквідацыі прысядзібных надзелаў, якія былі для калгасьнікаў апошняй дошкай ратунку. Новы шасьцілетні плян, кладучы галоўны націск на разьвіцьцё важкай індустрыі, мала прысьвячае ўвагі разьвіцьцю сельскай гаспадаркі і падняцьцю жыцьцёвага ўзроўня працоўных масаў. Пры такой бязвыхадна цяжкой сытуацыі трэба лічыцца з эвэнтуальнасьцю, што сярод савецкага насельніцтва можа зрадзіцца легэнда аб добрых і шчасьлівых часох пры Сталіне і аб тым, што пасьля ягонае сьмерці сталася шмат горай. Антыхрушчоўскія дэманстрацыі ў Закаўказьзі, асабліва ў сталіцы Грузіі Тбілісі як адказ на дыскрымінацыю Сталіна гэткую эвэнтуальнасьць выразна падцьвярджаюць. Значыцца, каб адхіліць такую нявыгадную сытуацыю, трэба зьнішчыць сярод насельніцтва аўтарытэт Сталіна і адсьвежыць у памяці ўвесь жах ягоных праступстваў.*

*Ня выключана, што ў Савецкім Саюзе ёсьць многа прыхільнікаў сталінізму, якія ўжо сяньня твораць паважную апазыцыю ў дачыненьні да хрушчоўска-булганінскага «калектыўнага кіраўніцтва». Ізноў-жа, успомнены выпадак з каўкаскімі дэманстрацыямі такую магчымасьць пацьвярджае. А такая апазыцыя магла-б стацца паважнай загрозай для сяньняшніх крэмлёўскіх валадароў, тым болей, каб здыскрэдытаваць у вачох масаў усе несамавітыя экспэрымэнты Хрушчова, якія праводзяцца на прыкладзе гэтых масаў і за іхны кошт.*

*Гэтая апошняя нашая здагадка для вытлумачэньня сэнсу цяперашніх выпадкаў у Савецкім Саюзе, здаецца, мае найболей абаснаваньняў. А калі так, дык трэба мець пэўнасьць, што гэта толькі пачатак. Усьлед за асуджэньнем Сталіна ў найцяжэйшых злачынствах мусіць тады прыйсьці масавая чыстка і ўсіх сталінцаў. Такая чыстка, пэўне-ж, абняла-б ня толькі людзей, абвінавачаных у сталінізьме, але і ўсе праявы падсавецкага жыцьця ды ўсе навет вонкавыя азнакі савецкага быту, якія зьвязаныя зь іменем Сталіна й зьяўляюцца выражэньнем ягонага культу.*

*Таму ня было-б ніякага дзіва, калі-б усе Сталінграды, Сталінабады, усе калгасы, заводы, вуліцы імені Сталіна раптам былі перайменаваныя, а пляцы ўсіх гарадоў ачышчаныя ад ягоных памятнікаў. Можна сабе выабразіць, які вялізарны пераварот абазначала-б такая акцыя ў некаторых дзялянках духовага жыцьця, як, прыкладам, у літаратуры. Бадай што ўвесь дасюлешні літаратурны багаж*

*такіх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, як П. Броўка*[35]*, П. Глебка, А. Куляшоў*[36]*, М. Лынькоў*[37]*, К. Крапіва й дзесяткі іншых пайшоў-бы на макулятуру, а самі аўтары, калі-б ня былі «вычышчаныя», мусілі-б пачынаць ад пачатку […]”*[38].

## Вызваленьне й рэгабілітацыя

У параўнаньні зь мюнхэнаўскай “Бацькаўшчынай”, нью-ёрскі “Беларус” меў вялізныя праблемы як зь фінансамі, гэтак і з рэдкалегіяй. Таму першы нумар за 1956 год выйшаў толькі 20 сакавіка. Сярод міжнародных навінаў, часам подбегам азначаных — “Трывожны стан на Блізкім Усходзе”, “Крызіс французскага гаспадарства”, “Аўстрыя цярэбіцца ад камуністычных заразак”, “Госьць Хрушчова й Булганіна ў Лёндан”, “Змова на Мао-Цэ-Дуна” — усё-ж знайшлося мейсца й XX зьезду КПСС. У артыкуле С. Міхалеўскага “Крамлёўскае «дышла»”, у прыватнасьці, пісалася:

*“Калектыўнае кіраўніцтва? Гэта мана. Ноты для XX зьезду былі напісаныя загадзя, і на іх гралася гэтая партыйная трагіопэра. Калі Хрушчоў даваў тон, дык рэшта, як папугаі, стараліся патрапляць у гэты тон. Іншая рэч, што ноты маглі быць пісаныя не адным Хрушчовым — Сталіну таксама памагалі… цяперашнія «калектывістыя». Тое, што на партыйных вярхох адбываецца змаганьне за ўладу — станоўкая адзнака таго, што ў Крамлі ніякага калектыўнага кіраўніцтва няма й ня будзе.*

*Рэабілітацыя закатаваных старых бальшавіцкіх тэарэтыкаў? Гэта яшчэ й нямаведама, як далёка тая рэабілітацыя пасунецца. Сумлеўна, каб яна была поўная.*

*Цікава, прыкладам, ці будуць рэабілітаваныя беларускія бальшавікі, якія не пасьпелі прадугледзіць зьмены лініі ды былі закатаваныя бязь віны перад самым бальшавізмам. А яшчэ больш цікава, ці будуць рэабілітаваныя тыя фармальныя партыйцы-Беларусы, што ладную ўвагу аддавалі свайму народу й першым чынам рупіліся аб ім. Дый наагул, беларусы, што былі абвешчаныя «ворагамі народу» ды пад гэтай шыльдай зьнішчаныя? Сумлеўна, вельмі сумлеўна”*[39].

---

[35] **Пятрусь Броўка** (1905—1980), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, паэт і перакладчык.

[36] **Аркадзь Куляшоў** (1914—1978), паэт, ляўрэат Дзяржаўных прэмій БССР і СССР.

[37] **Міхась Лынькоў** (1899—1975), пісьменьнік, народны пісьменьнік БССР.

[38] Бацькаўшчына. № 15 (297). 8 красавіка 1956. С. 1.

[39] Беларус. № 55. 20 сакавіка 1956. С. 4—5.

Сумневы грунтаваліся на вопыце мінулай гісторыі, але вось ужо ў нумары ад 15 красавіка ў артыкуле К. Рамановіча (Рыгора Казака) “Вярнуліся «з далёкіх прывалаў»” пісалася:

*“Нядаўна ў менскай газэце «Літаратура й Мастацтва» зьявіліся вершы Алеся Звонака*[40] *й Міколы Хведаровіча*[41]*, а яшчэ перад гэтым у часапісе «Беларусь» апавяданьне Я. Скрыгана*[42]*.*

*На эміграцыі лёгкадумныя палітыкі з гэтай прычыны робяць сэнсацыю. Вось, маўляў, глядзіце, з паўночных канцлягераў пакараныя вяртаюцца на Бацькаўшчыну. Бальшавікі некаторых сяньня рэгабілітуюць. На самой-жа справе, ці можна назваць тых людзей, што вяртаюцца з далёкай Поўначы, рэгабілітаванымі?*

*Беларускія пісьменьнікі Скрыган, Звонак, Хведаровіч ды іншыя, аб якіх зможам пазьней даведацца, вярнуліся па адбыцьці 20-гадовай савецкай катаргі. Яны пераажылі гора й пакуты ў прымусовых лягерах на Поўначы. Яны перацярпелі нялюдзкія зьдзекі, лютыя маразы й непасільную працу. Яны прайшлі вялікі шлях адлегласьці й часу.*

*[...] Ці-ж можна сказаць пра іх, што яны савецкай уладай рэгабілітаваныя? Ці запраўды ў савецкай прэсе прызналі, што гэтыя ахвяры сталінска-яжоўскага часу ў нічым ня вінаватыя?”*[43].

У 1956 г. адбыўся яшчэ адзін зьезд Камуністычнай партыі — XXII зьезд Кампартыі Беларусі (24—27.01). З усяго прабегу зьезду “Беларус” выбраў толькі адное, вартае, відаць, рэакцыі, надрукаваўшы зацемку пад назовам “Турботы Якуба Коласа”:

*“На 22 зьезьдзе Камуністычнае Партыі Беларусі выступіў з прамовай народны паэт Якуб Колас. Ён выбраў сабе, ці яму выбралі, тэму: ачыстка палёў ад каменьня. Колас, ведама, рэалісты. Але ў сельскай гаспадарцы ён арыентуецца слаба. Ужо толькі тое цьверджаньне, што ачышчанае ад камянёў поле адразу падыме ўраджайнасьць на 50 %, даводзіць, які слабы з Коласа аграном. Але ня з гэтага боку цікавіць ягоная прамова. Колас сказаў:*

*«Даўней, яшчэ да рэвалюцыі, былі на Беларусі, пераважна на Віцебшчыне, такія спэцыялістыя майстры, што ўзрывалі калуны*

---

[40] **Алесь Звонак** (1907—1996), паэт, сцэнарыст, перакладчык. У 1936—1954 гг. — у зьняволеньні ў лягерах. З 1955 г. жыў у Менску.

[41] **Мікола Хведаровіч** (1904—1981), паэт, празаік, перакладчык. У 1938 г. асуджаны да 8 гадоў зьняволеньня. Паўторна арыштаваны ў 1949 г., сасланы ў Енісейск. У 1956 г. вярнуўся ў Беларусь.

[42] **Янка Скрыган** (1905—1992), пісьменьнік, паэт, публіцыст, крытык. Арыштаваны ў 1936 г. і прысуджаны да 10 гадоў лягераў. У 1946 г. вызвалены, але пазбаўлены грамадзянскіх правоў на 5 гадоў. У 1949 г. арыштаваны зноў і высланы ў Сібір. У 1954 г. рэабілітаваны. Вярнуўся ў Менск.

[43] Бацькаўшчына. № 16 (298). 15 красавіка 1956. С. 1.

*порахам. Такія майстры называліся "пярунамі", ад імя стараславянскага бога Пяруна, бога маланак і грому. Такія "пяруны", узброеныя сучаснымі сродкамі для ўзрываньня валуноў, патрэбны і ў наш час, калі мы па-сапраўднаму возьмемся за ачыстку палёў ад каменьня».*

*Дарэмна Колас прыпамінае тэхніку «пяруноў» — бальшавікі добра яе ведаюць: яны пападрывалі не адно гістарычныя камяні, але й цэрквы ды іншыя помнікі. Разбуральнай рупнасьці ў бальшавікоў хапае. Разбурылі яны й Коласаў талент. А каб падняць ураджайнасьць палёў, дык трэба, каб гэтым пакіравалі гаспадарлівыя людзі, а не галузы ды не праз калгасы.*

*Як рэалісты, Колас ня мог ахварбаваць у «ружовы» колер свае прамовы, зь якое відаць, што агракультура на беларускіх палёх сягнула далёка ўзад. Калі-ж запраўды Колас хоча прыслужыцца бальшавіцкай партыі, дык няма іншае рады — трэба Коласу браць кошык дык йсьці зьбіраць хоць дробныя камяні на калгасных палёх, а пра годнасьць запраўднага народнага паэты забыцца"*[44].

Газэту ў той час рэдагаваў Міхась Міцкевіч.

А травень прыносіць *"чарговыя крэмлёўскія сэнсацыі"* (назва артыкулу ў "Бацькаўшчыне"):

*"Яшчэ не прагучэла рэха, выкліканае дыскрымінацыяй Сталіна, як наступілі ў Крэмлі адзін за другім два выпадкі, якія заходняя апінія прыняла, як ня менш сэнсацыйныя.*

*14 травеня нямецкая прэса зьмясьціла кароткае паведамленьне наступнага зьместу:*

*«Адзін высокі чыноўнік савецкага міністэрства замежных справаў паведаміў у нядзелю групе французскіх сацыялістых, што ўсе лягеры прымусовай працы ў Савецкім Саюзе на працягу наступных 12 да 18 месяцаў будуць разьвязаныя. Далей ён асьветчыў, што дэпартацыі савецкіх грамадзян у ваддаленыя раёны краіны ў далейшым будуць праводзіцца толькі ў выпадку цяжкіх палітычных праступкаў».*

*Хаця гэта яшчэ ня ўрадавае распараджэньне або загад Вярхоўнага Савету, тым ня меней яно можа быць прынятае як поўнасьцю верагоднае. Таму хутка трэба чакаць абвешчаньня і адпаведнага закону.*

*Як разумець гэты выпадак? Для ўсіх тых, хто знае добра Савецкі Саюз і запраўдную цану розных савецкіх загадаў і законаў, выясьніць такі выпадак ня цяжка. Для нас няма найменшага сумлеву, што прымусовая праца ў Савецкім Саюзе ня будзе скасаваная. Як ведаем, лягеры прымусовае працы маюць у Савецкім Саюзе ня толькі палітычнае, але эканамічнае значаньне. Бо калі, прыкла-*

[44] Беларус. № 55. 20 сакавіка 1956. С. 3.

*дам, разьвязаць усе лягеры на Калыме і ўсім зьняволеным дазволіць вярнуцца на месца іхнага ранейшага жыхарства, дык хто тады будзе здабываць золата, гэтак патрэбнае для Савецкага Саюзу? Таму трэба думаць, што фармальна лягеры будуць разьвязаныя, але фактычна будуць яны існаваць і надалей пад іншай формай. Прыкладам, г. зв. «дабравольнае» перасяленьне савецкіх людзей на асваеньне цальняговых земляў зьяўляецца таксама да некаторай меры формай прымусовае працы з усімі яе цяжкасьцямі. Дык і зьняволеныя ў разьвязаных лягерах у сваей асноўнай бальшыні могуць таксама «дабравольна» астацца далей працаваць на месцы ранейшага зьняволеньня. Пры гэтым могуць быць выкарыстаныя розныя формы затрыманьня зьняволеных на месцы іхнага зьняволеньня, як і дэпартацыі туды новых работнікаў пад відам іхнага «дабравольнага» выезду. Саветы, як ведама, незраўнаныя майстры для такіх штукаў.*

*Такім чынам, для сябе нічога не страціўшы, яны могуць выклікаць пажаданы для сябе прапагандовы эфэкт як унутры краіны, гэтак і асабліва вонках яе. Гэтак можна разумець вестку аб маючым быць праведзеным «разьвязаньні» лягераў прымусовае працы.*

*Усьлед за гэтым паведамленьнем 14 траўня савецкае міністэрства замежных справаў афіцыяльна падало да ведама, што да першага траўня 1957 году будзе разьвязана 66 дывізыяў савецкае арміі, і гэткім чынам лічбовы стан гэтай арміі будзе зьменшаны на 1 200 000 чалавек. Гэтая колькасьць здэмабілізаваных савецкіх жаўнераў мае быць выкарыстаная ў індустрыі й сельскай гаспадарцы. Савецкі ўрад абгрунтоўвае гэты ход «зычэньнем зрабіць новы крок для справы раззбраеньня й забясьпечаньня міру, а так-жа імкненьнем стварыць яшчэ лепшыя ўмовы для мірнага індустрыяльнага й сельскагаспадарскага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе [...]».*

*Вестка аб разьвязаньні лягераў прымусовай працы, як і пастанова аб зьмяншэньні збройных сілаў Савецкага Саюзу павінна быць разгляданая на аднэй роўніцы з цэлым радам іншых выпадкаў у Савецкім Саюзе, якія сыпяцца, як з рукава, пасьля XX зьезду партыі й былі запачаткаваныя дэтранізацыяй Сталіна ды абвінавачваньнем яго ў цэлым радзе праступкаў. Коратка тады пералічым важнейшыя новыя савецкія мерапрыемствы, праведзеныя для «дабра» насельніцтва.*

*Пастановай з 9 сакавіка сёлета быў скарочаны работніцкі тыдзень працы.*

*Пастановай з 27.3.1956 былі прадоўжаныя водпускі для цяжарных жанчын.*

*29.4.1956 былі адмененыя законы з 1934 і 1937 гг. аб надзвычайных мерах пры расьсьледаваньні й судаводзтве палітычных спраў.*

*Асуджэньне мэтаў сьледзтва й судаводзтва, ужываных Вышынскім.*

*Згодна паведамленьня нямецкай прэсы з 12.5.1956 быў адменены закон аб угалоўнай адказнасьці за самавольнае пакіданьне месца працы й спазьненьні.*

*Перагляд справаў раней засуджаных як ворагаў народу і іх рэгабілітацыя.*

*Але і ўсе гэтыя законы, выдадзеныя быццам на карысьць працоўных, фактычна зьяўляецца толькі фармальнымі зьменамі, але іх практычная сутнасьць амаль не зьмяняецца. Дык і тут, нічога ня трацячы, робяцца вялікія прапагандовыя дасягненьні. [...]*

*Цяперашняя сытуацыя ўнутры Савецкага Саюзу да некаторай меры прыпамінае палажэньне, якое наступіла адразу пасьля сьмерці Сталіна. Пасьля сьмерці ўсяўладнага дыктатара крэмлёўская верхавінка была разгубілася, а сярод насельніцтва паявіліся надзеі на магчымую зьмену ягонага палажэньня. Пачаліся выразныя фэрмэнты, і зьменшыўся страх перад усяўладным МВД. Гэта быў крытычны для Саветаў мамэнт, які мог быць выкарыстаны Захадам для аслабленьня савецкай сыстэмы, а магчыма й для далёка йдучых зьменаў.*

*Але Захад гэтага спрыяльнага мамэнту ня выкарыстаў. Замест станоўчага палітычнага й прапагандовага наступу, які тады мог-бы мець вялізарныя посьпехі, на Захадзе перамог пагляд, што трэба пасыўна прыглядацца да разьвіцьця выпадкаў, якія самі разьвяжуцца ў пажаданым кірунку. Сяньня для ўсіх ясна, што гэтым самым Захад выдатна памог крэмлёўскай кліцы апанаваць сытуацыю й хутка замацавацца.*

*Выцягваючы навуку зь нядаўніх сваіх памылак, павінен сяньня Захад іначай выкарыстаць заіснаваўшую ў Саветах сытуацыю. Нам здаецца, што станоўчы палітычны й прапагандовы наступ на Савецкі Саюз сяньня мог-бы даць паважныя вынікі. З аднаго боку, такі наступ падняў-бы на духу савецкае насельніцтва і ўзмоцніў-бы ягоны супраціў да савецкай сыстэмы, а з другога боку прынёс-бы шмат новых клопатаў «калектыўнаму кіраўніцтву», перадусім аслабіў-бы ягоныя пазыцыі як унутры краіны, гэтак і вонках яе. А гэта быў-бы паважны, можа навет рашаючы крок у кірунку развалу савецкай сыстэмы.*

*Сумлеўна, аднак, ці Захад пры сваей разгубленасьці, ненаважнасьці й пасыўнасьці зможа на гэта здабыцца"*[45].

[45] Бацькаўшчына. № 21 (303). 20 травеня 1956. С. 1—2.

## Падзеі ў Польшчы й Вугоршчыне й “вялікая палітыка”

*“Пазнанскі чэрвень”*, *“Пазнанскія пратэсты”* ці *“Пазнанскае паўстаньне”* — гэтак называюць першую ў гісторыі Польскай Народнай Рэспублікі ўсеагульную забастоўку й масавыя дэманстрацыі, што пачаліся ў Познані 28 чэрвеня. У выніку было арыштавана больш за 300 чалавек, больш за 50 — забіта.

*“Паўстаньне польскіх работнікаў супраць бальшавіцкага вызыску й нявольніцтва, якое ўспыхнула ў Пазнані 28 чэрвеня і, паводля годных даверу вестак, у іншых польскіх гарадох, як Лодзь, Кутна, Быдгошч, Гнезна і інш., зьяўляецца вельмі буйнай падзеяй у змаганьні паняволеных народаў супраць маскоўска-бальшавіцкага акупанта. Калі пішам гэтыя радкі, весткі аб паўстаньні яшчэ ня поўныя, і на вуліцах Пазнаня яшчэ не заціхлі стрэлы, хоць афіцыяльныя органы камуністычнага рэжыму Польшчы паведамілі, што сытуацыя ўжо апанаваная і ўзноў прывернуты супакой і парадак.*

*Гэтае паўстаньне зьяўляецца другім пасьля Сталінавай сьмерці буйным супрацьсавецкім актам у сатэлітных краінах пасьля ведамага паўстаньня ў усходнім Бэрліне і іншых гарадох савецкае зоны Нямеччыны, якое мела месца 17 чэрвеня 1953 г. Аднак антыбальшавіцкі ўзрух Палякаў у Пазнані значна перарастае паўстаньні ў усходняй Нямеччыне і сваім разьмерам, і вайстрынёю. У Пазнані падалі стрэлы з абодвых бакоў: з боку савецкіх і верных рэжыму польскіх жаўнераў і паліцыянтаў, і з боку паўстаўшых, якія, як паведаміла заходняя прэса, здабылі аружжа ў запанаваным імі вайсковым арсэнале. Радыё Варшавы паведаміла, што ў першы дзень паўстаньня было 38 чалавек забітых і 270 раненых, але навочныя сьветкі з заходніх краінаў, якія ў той дзень знаходзіліся ў Пазнані, інфармуюць, што гэтая колькасьць значна паменшаная. […]*

*Аб сіле й вайстрыні паўстаньня сьветчаць факты, што паўстаўшыя работнікі, да якіх далучылася інтэлігэнцыя й студэнты, захапілі будынак пазнанскага аддзелу камуністычнае партыі, апанавалі адну турму й вызвалілі зь яе некалькі сот вязьняў, а турэмны будынак разам з актамі падпалілі, апанавалі заглушальную радыястанцыю й зьнішчылі ўсе яе ўладжаньні, апанавалі некалькі іншых дзяржаўных і партыйных установаў. Варта адцеміць і тое, што паўстаньне, якое спачатку мела характар сацыяльны й пачалося забастоўкай і дэманстрацыяй работнікаў, якія дамагаліся хлеба й паляпшэньня жыцьцёвых умоваў, хутка вылілася ў дэманстрацыю палітычную. Паўстаўшыя дамагаліся прывярненьня свабоды й незалежнасьці Польшчы. […]*

*Мы, Беларусы, на працягу доўгага адрэзка гісторыі дазналі ад Палякаў шмат крыўдаў і несправядлівасьцяў. Многія польскія*

*палітычныя колы, асабліва што на эміграцыі, плянуюць і сяньня нацыянальную сьмерць волялюбнаму беларускаму народу. Нягледзячы, аднак, на гэта, мы падзіўляем і цэнім гэраізм польскага народу ў ягоным змаганьні за волю, праяўлены ім ужо ня раз у гісторыі, а перад польскімі ахвярамі бальшавіцкага тэрору з глыбокай пашанай сьціляем свае галовы"*, — пісалася ў артыкуле "Антыбальшавіцкае паўстаньне ў Польшчы"[46].

Пазнаньскае паўстаньне ў значнай меры спрычынілася да кастрычніцкіх мадзярскіх падзеяў.

*"Апошнія падзеі ў Мадзяршчыне й Польшчы — гэта найбольш вымоўнае запярэчаньне пашыранага і ўгрунтованага на Захадзе пагляду, што як народы самога Савецкага Саюзу, гэтак і ягоных сатэлітаў церпяць толькі сацыяльнае зло, эканамічную эксплятацыю й палітычнае прыгнечаньне. Аб найвялікшай-жа трагэдыі паняволеных маскоўскім бальшавізмам народаў — іхным нацыянальным паняволеньні Захад, трапляючы ў тон крэмлёўскіх верхаводаў і іхных аднадумнікаў у гэтым пытаньні на Захадзе — шавіністычна настроеных расейскіх эмігрантаў, слухаць ня любіць. Гэтаксама ня любіць ён слухаць і аб тым, што сяньняшні савецкі імпэрыялізм — гэта толькі больш вырафінаваная, больш дынамічная і адначасна больш замаскаваная форма спрадвечнага расейскага імпэрыялізму. [...]*

*Паўстаньне ў Мадзяршчыне распачалося й праводзілася пад нацыянальнымі лёзунгамі паўстаньня 1848—49 году, а так-жа пад ня менш вымоўнымі для сучаснасьці лёзунгамі, як «Прэч з Расеяй!», «Расейцы, ідзіце дамоў!», «Мы хочам самастойнасьці й сувэрэннасьці!» і г. п.*

*І вось тут на маргінэсе прыходзіцца закрануць адну вельмі прыкрую справу. Кіраўніцтва мюнхэнскага радыя «Вызваленьне» на працягу ўсяго паўстаньня не дазваляла перадаваць якіх-колечы камэнтароў аб падзеях у Мадзяршчыне, а абмяжоўвалася да перадаваньня выключна сухіх паведамленьняў і прэсавых камунікатаў. Але гэта яшчэ было-б паўбяды, калі-б ня тое, што амэрыканскае кіраўніцтва радыя аўтэнтычныя словы зь лёзунгаў мадзярскіх паўстанцаў «Расея», «расейскі» замяніла словамі «Саветы», «савецкі», хвальшуючы гэтым запраўдны стан рэчаў і дэзінфармуючы сваіх слухачоў у Савецкім Саюзе. Таму мы поўнасьцю разумеем усё тое абурэньне, якое выклікалі такія факты сярод нерасейскіх працаўнікоў радыястанцыі і наагул эміграцыі. [...]*

*У гэты момант, калі Захад павінен быў узгоднена й станоўка дзеіць і калі гэта ня было яшчэ позна, Ангельшчына й Францыя распачалі ваенныя дзеяньні супраць Эгіпту. Выглядала, што ў той час,*

---

[46] Бацькаўшчына. № 27 (309). 1 ліпеня 1956. С. 1.

*калі ў Мадзяршчыне былі пакладзеныя на шалю справы жыцьця або сьмерці цэлага народу, калі аднэй толькі энэргічнай і станоўчай палітычнай акцыяй можна было задаць балючы ўдар Савецкаму Саюзу й распачаць вызвольны працэс паняволеных ім народаў, Ідэн*[47] *і Моле*[48] *выкарысталі гэтую сытуацыю па тое, каб зрабіць свой бізнэс у Суезе*[49]*. Пакольکі Захад не патрапіў выкарыстаць цяжкай і клапатлівай сытуацыі Саветаў, патолькі Саветы поўнасьцю выкарысталі гэты неразважны крок Ангельшчыны й Францыі. З агрэсара яны адразу-ж перамяніліся ў вабароньніка перад агрэсіяй"*, — пісаў Язэп Каранеўскі (Станіслаў Станкевіч) у артыкуле "Мадзяршчына топіцца ў моры крыві"[50].

У вялікай палітыцы таго году была хіба толькі адна падзея, дадатна ацэненая беларускай эміграцыяй, агучаная ў рэдакцыйным артыкуле "Бацькаўшчыны" "Айзэнгаўэр зноў прэзыдэнтам":

*"Няма сумлеву, што Айзэнгаўэр між усімі палітычнымі дзеячамі сяньня найбольш поўна рэпрэзэнтуе амэрыканскі народ. Зь іменем Айзэнгаўэра зьвязаныя справы, што маюць цяпер для ўсяго сьвету першараднае значэньне. Ён цьвёрда замацаваў за сабой рэпутацыю чалавека, які спрычыніўся да ўстанаўленьня міру ў Карэі. Зь цяперашнім ягоным паўторным прыступленьнем да выконваньня прэзыдэнцкіх абавязкаў зьбягаецца спыненьне ваенных дзеяньняў на Сярэднім Усходзе. Незалежна ад таго, якімі канкрэтнымі шляхамі пойдуць далейшыя сьветавыя падзеі, можна сьмела сказаць, што паняцьце «эры Айзэнгаўэра» пакрываецца ня толькі з нутранымі справамі Задзіночаных Штатаў Амэрыкі"*[51].

## Падзеі ў асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў

Лякальная, "малая" палітыка беларускай эміграцыі рабілася пераважна на паўночна-амэрыканскіх землях.

1—3 верасьня ў Таронта адбылася Другая сустрэча беларусаў ЗША й Канады, на якой прысутнічаў прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык. Ён *"паінфармаваў сустрэчнікаў аб працы й дасягненьнях Рады*

---

[47] **Энтані Ідэн** (анг. *Sir Anthony Eden,* 1897—1977), брытанскі дзяржаўны дзеяч. У 1955—1957 гг. — прэм'ер-міністар Вялікабрытаніі.

[48] **Гі Мале** (фр. *Guy Alcid Mollet*, 1905—1975), францускі палітычны й дзяржаўны дзеяч. У 1956—1957 гг. — прэм'ер-міністар Францыі.

[49] Маюцца на ўвазе падзеі вакол **Суэцкага каналу** ў 1956 г., калі прэзыдэнт Эгіпту Гамаль Абдэль Насэр нацыяналізаваў яго, што выклікала ўварваньне брытанскіх, францускіх ды ізраільскіх войскаў і тыднёвую Суэцкую вайну.

[50] Бацькаўшчына. № 46 (328). 11 лістапада 1956. С. 1, 4.

[51] Бацькаўшчына. № 46 (328). 11 лістапада 1956. С. 1.

*БНР, аб тым, як папулярызуецца беларуская нацыянальна-вызвольная справа ў дэмакратычных краёх Захаду ды як апінія Амэрыкі, Ангельшчыны, Францыі, Нямеччыны, Бэльгіі і іншых краёў усьцяж прыхінаецца да справы вызваленьня Беларусі”*[52].

На акадэміі прамаўлялі заступнік міністра абароны Канады, сябра сэнату Таронцкага ўнівэрсытэту, шэф іміграцыйнага дэпартамэнту на правінцыю Антарыё. *“Будзьце пэўныя, што ў кожнай контракцыі і ў вашым цяжкім змаганьні з Масквою мы вас цалком падтрымаем і дапаможам”*, — заявіў заступнік міністра абароны[53].

Янка Станкевіч заклікаў да нацыянальнае працы з малодшым беларускім пакаленьнем, Кастусь Мерляк прапанаваў усім мацаваць як мага ідэю БНР. Зноў выступаў Мікола Абрамчык і спыніўся на зманлівых клічох камітэту Міхайлава “Да звароту на радзіму”.

*“Пасьля прынагоднага рэфэрату д-ра В. Жука-Грышкевіча аб бальшавіцкай акцыі «За зварот на радзіму» была прынятая рэзалюцыя, у якой падчыркваецца зьнішчэньне ўсялякіх свабодаў у Савецкім Саюзе й перасьцерагаецца перад маскоўскаю кампаніяй «за зварот на радзіму»”*[54].

З 23 верасьня да 16 сьнежня ў Нью-Ёрку адбывалася 8-я сэсія Рады БНР.

*“На нарадах Сэсіі былі разгледжаныя справы, што датычылі палітычных і арганізацыйных пытаньняў Рады БНР. Да важнейшых пытаньняў палітычнага характару належалі: нашая сучасная сытуацыя ў сьвеце ў сувязі з вонкавымі абставінамі, узаемадачыненьні з нашымі суседзямі, удзел у міжнародных арганізацыях, супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму (Інстытут Вывучэньня СССР, радыё «Вызваленьне»). З арганізацыйных пытаньняў разглядалася справа зактывізаваньня дзейнасьці нашых палітычных і грамадзкіх арганізацыяў ды папаўненьне Рады БНР. На апошнім паседжаньні Сэсіі прынята рэзалюцыя ды назначаны плян дзейнасьці на будучыню.*

*У рэзалюцыі прызнаны карысным наш удзел у Лізе Вызваленьня Народаў СССР (Парыскім Блёку)*[55]*, а таксама супрацоўніцтва з Інстытутам Вывучэньня СССР ды радыё «Вызваленьне»”*[56].

---

[52] Беларус. № 57. 15 кастрычніка 1956. С. 3.

[53] Тамсама.

[54] Тамсама.

[55] **Ліга вызваленьня народаў СССР (Парыскі блёк)** — арганізацыя з прадстаўнікоў эміграцыйных урадаў нерасейскіх паняволеных народаў, заснаваная ў Парыжы ў 1953 г. З 1954 г. старшынём арганізацыі быў Мікола Абрамчык.

[56] Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956. С. 3.

20 кастрычніка ў Нью-Ёрку ў Брукліне прайшоў пяты гадавы зьезд Згуртаваньня беларускай моладзі Амэрыкі, на якім было адзначана, што *"дзякуючы стараньням сяброў ЗБМА, выступіў сёлета ў Нью Ёрку папулярны хор «Жалейка» з Мантрэалю. Сябры ЗБМА ў Кліўлендзе — гэта апора гэнашнага арганізацыйнага й культурнага жыцьця. Яны могуць пахваліцца спраўна дзейнымі царкоўным і сьвецкім хорам, аблетнай групай і аркестрай «Палесьсе». Футбольная каманда «Пагоня» ведамая сваёй добрай гульнёй па ўсім стэйце Огаё. Апрача таго, кліўлендзкая моладзь, дармо што [мае] вялікія цяжкасьці, далей ахвярна працуе над выданьнем беларускага песеньніка"*[57].

22 сьнежня, таксама ў Нью-Ёрку, адбылася канфэрэнцыя Беларускага студэнцкага таварыства, у якой узялі ўдзел 17 сябраў Таварыства з Кліўлэнду, Нью-Брансўіку й самога Нью-Ёрку.

*"[...] Вельмі важнае пытаньне было закранутае на канфэрэнцыі — а гэта ўдзел у беларускім грамадзкім і палітычным жыцьці. Хоць БСТА і непалітычная арганізацыя, аднак гэта ня знача, што студэнт не павінен выказваць свайго становішча да падзеяў як у амэрыканскім, так і ў беларускім жыцьці. З абыякавых адзінак ня будзе мець карысьці ані ЗША, ані беларуская вызвольная справа. У змаганьні за вялікія ідэалы свабоды беларускі студэнт ня можа стаяць збоку. У гісторыі змаганьня беларускага народу за незалежнасьць, пачаўшы ад слаўнага Кастуся Каліноўскага, студэнты заўсёды былі першымі. Сяньня студэнты першымі ў Мадзяршчыне й Польшчы, яны першымі падымаюцца ў самым Савецкім Саюзе. Беларускі студэнт павінен быць актыўным сярод тых, хто праводзіць канструкцыйную працу"*[58].

Словы, сказаныя Міхасём Тулейкам, старшынём Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, пра арганізацыю, што адна з найважнейшых галінаў яе працы — культурна-асьветная[59], без сумневу можна дастасаваць да дзейнасьці беларускай эміграцыі агулам. І гэта асабліва выразна бачна паводле 1956 году — як адзначалася напачатку, шмат у чым юбілейным.

## Юбілеі

У красавіку выйшаў 300-ы нумар газэты "Бацькаўшчына":

*"Газэта «Бацькаўшчына» на 10-м годзе свайго існаваньня сяньня дасягнула 300-га нумару. У эміграцыйных умовах жыцьця факт выданьня 300-га нумару тыднёвае газэты, якая пры гэтым не заўсёды магла выходзіць рэгулярна, вырастае да вышыні цэлае падзеі.*

---

[57] Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956. С. 7.

[58] Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956. С. 4.

[59] Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956. С. 6.

*Асабліва ў нашым беларускім палажэньні, куды горшым у параўнаньні з многімі іншымі эміграцыямі з падсавецкага Ўсходу, гэта ёсьць дасягненьне, зь якога можам быць гордымі.*

*Справа ў тым, што да канца 1947 году беларуская эміграцыя ў Нямеччыне знаходзілася ў стане юрыдычнае й фактычнае дыскрымінацыі. Нягледзячы на факт, што Беларусь з самага пачатку была ўведзеная ў склад Задзіночаных Нацыяў як раўнапраўны сябра і ўжо тым самым была юрыдычна вызнаная дзяржавамі сьвету як незалежная сувэрэнная дзяржава, альянцкія акупацыйныя ўлады ў Заходняй Нямеччыне ў сілу нейкага парадаксальнага непаразуменьня ня вызнавалі беларускае эміграцыі за апрычоную нацыю і адмаўлялі ёй усіх тых правоў і канцэсіяў, якімі карысталіся эміграцыі іншых народаў. Таксама станоўча адмаўлялі й выдачы неабходнае тады ліцэнзіі на выпуск беларускае газэты, нягледзячы на бесьперапынныя дэлегацыі й мэмарыялы, накіроўваныя ў галоўную гасподу амэрыканскіх вайсковых акупацыйных уладаў.*

*Беларуская эміграцыйная грамадзкасьць была тады змушаная шукаць іншых, больш сьціплых спосабаў інфармаваньня беларускіх эміграцыйных масаў. І гэтыя спосабы былі знойдзеныя. У некаторых беларускіх лягерах, як у Ватэнштэце ангельскае акупацыйнае зоны Нямеччыны або ў Рэгэнсбургу зоны амэрыканскай, пачалі выходзіць прымітыўныя з вонкавага выгляду ратарныя выданьні, для выпуску якіх было дастаткова дазволу мясцовых уладаў УНРРА. Але адначасна былі стаўляныя абмежаваньні, што такія часапісы павінны абслугоўваць толькі жыхароў дадзенага лягеру, з другога боку — у іх забаранялася камэнтаваць у непажаданым тады сэньсе палітычныя праблемы й востра выступаць супроць бальшавікоў або агітаваць супраць рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз.*

*Але быў знойдзены выхад і з гэтага палажэньня. Пачалі паяўляцца, таксама ратарным спосабам, беларускія нелегальныя часапісы, спасярод якіх на асабліва высокім узроўні быў пастаўлены і адыграў немалую ролю ў беларускім эміграцыйным жыцьці часапіс «Рух»*[60].

*Напасьледак, у 1947 годзе, роўна за два гады пасьля сканчэньня вайны, амэрыканскія акупацыйныя ўлады згадзіліся вызнаць і за Беларусамі статус апрычонае нацыі. У выніку гэтага 31 кастрычніка 1947 году паявіўся першы нумар беларускай тыднёвай друкаванай газэты «Бацькаўшчына». Такая гэнэза нашага воргану"*[61].

---

[60] **"Рух"** — пэрыёдык грамадзка-палітычнай скіраванасьці, *"орган беларускай нацыянальна-вызвольнай думкі"*, што выходзіў у Нямеччыне ў 1946—1948 гг. пад рэдактарствам Станіслава Станкевіча й Антона Адамовіча. Выйшла 5 нумароў.

[61] Бацькаўшчына. № 17—18 (299—300). 29 красавіка 1956. С. 1—2.

У травеньскім нумары тае самае "Бацькаўшчыны" адзначаліся 10-я ўгодкі літаратурнага згуртаваньня "Шыпшына", якое — дзякуючы асобе Юркі Віцьбіча — адыграла значна большую ролю, чым гэта можна было б чакаць ад арганізацыі такога кшталту. З нагоды юбілею быў выдрукаваны вялікі артыкул "Урачыста панясём цымбалы многазвонныя" самога Віцьбіча:

*"На сёлета прыпадае 10-годзьдзе існаваньня беларускага літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына» і паўстаньня ейнага аднаназоўнага часапісу. Ці наўрад хто з суродзічаў на чужыне ня чуў пра яе, як вядомая таксама шмат каму з чужаземцаў. Аднак, калі аформілася «Шыпшына» запраўды ў 1946 годзе, дык разам з тым нельга мінуць таго, што папярэднічала ейнаму нараджэньню.*

*Яшчэ ў часе вайны, 5 студзеня 1945 г., у вадным з муроў напоўразбуранага Бэрліну адбылася сяброўская сустрэча бяз малага ўсіх нашых пісьменьнікаў і паэтаў, што апынуліся на чужыне. Тагочаснае становішча нашае палітычнае эміграцыі, а значыцца і ейных песьняроў знайшло вычарпальны адбітак у радкох Алеся Салаўя:*

*Плыве вадаплаў і плыве*
*Ад сьмерці да сьмерці ў госьці.*
*Пагібель маёй галаве*
*Прарочыць бязьлітасна хтосьці.*

*Усё-ж навет бязьлітасныя жорны — бальшавізм і фашызм — ня перамаглі сталага імкненьня гэных літаратараў да мастацкае творчасьці годнае свайго народу, што разам зь імі змагаецца за сваё апрычонае месца ў вольнай агульначалавецкай сям'і. А між тым кажны зь іх зьяўляўся недасекам і ня чуўся забясьпечаным ад пагібелі"*[62].

А ў адным з чэрвеньскіх нумароў адзначаліся ўгодкі іншага літаратурнага згуртаваньня — "Узвышша". У артыкуле "30-я ўгодкі заснаваньня «Ўзвышша». Юбілейная даведка", падпісанага зразумелай для ўсіх літараю А. (Антон Адамовіч), пісалася: *"Заснаваньне «Узвышша» становіць сабою адзін з выдатнейшых, калі не найвыдатнейшы мамэнт нашага нацыянальнага разьвіцьця пары пасьля здушэньня нацыянальнае рэвалюцыі 1917—1920 гг. Калі пастаўленае гэтаю рэвалюцыяй на кон тварэньне нашае нацыі як незалежнае палітычнае адзінкі, як нацыі палітычнае на тэрыторыі падзеленага заміранымі рыскімі*[63] *акупантамі краю сталася больш немагчымым, дык нацыянальнае разьвіцьцё прыродна мусіла зьвярнуцца на той біты шлях,*

[62] Бацькаўшчына. № 21 (303). 20 травеня 1956. С. 3—4.

[63] Маецца на ўвазе **Рыская мірная дамова** 1921 г. паміж РСФСР і Польшчай, паводле якой Заходняя Беларусь і Заходняя Ўкраіна адыходзілі да польскай дзяржавы.

*якім ішло яно перад нацыянальнай рэвалюцыяй, на шлях тварэньня нацыі культуры, літаратурнае нацыі першым чынам, балазе гэты шлях ня быў зачынены, а на тэрыторыі савецкае Беларусі знайшоў нат спрыяльныя абставіны і, здавалася, пэрспэктывы”*[64].

Ён жа, ужо ў газэце “Беларус”, пад псэўданімам Н. Недасек быў аўтарам тэксту “Паўвеку «Нашае Долі»”[65], а ў наступным нумары быў зьмешчаны артыкул-успамін Міхася Міцкевіча “Да пяцідзесяцігодзьдзя «Нашае Нівы»”[66]. Абодвы тэксты — важныя да гісторыі ня толькі гэтых пэрыёдыкаў, але й да разуменьня беларускага руху.

Юбілейныя публікацыі ў газэтах дэманструюць важнае для беларускае эміграцыі, зрэшты, пэўна, для любой эміграцыі: памяць, сувязь з папярэднікамі, з усёй ранейшай гісторыяй краіны.

## Якуб Колас

Але жылі эмігранты ня толькі мінулым і ў мінулым; яны пільна сачылі за разьвіцьцём сучаснай беларускай культуры, літаратуры і былі ў сваіх ацэнках часам рэзкімі — нават у дачыненьні да, здавалася-б, сьвятога. Так адбылося з ацэнкаю Якуба Коласа, бо 1956 год — гэта-ж год і ягонае сьмерці.

*“Якуб Колас — адзін з буйных мастацкіх талентаў, якіх так шчодра родзіць беларуская нацыянальная глеба, ды якім, на жаль, так рэдка ўдаецца дажыць да 74-х гадоў...*

*Кажнае чалавечае жыцьцё можна ацэньваць і можна рабіць гэта па-рознаму. Колас пакінуў па сабе мерку свайго жыцьцёвага шляху, — сваю найвыдатнейшую «казку жыцьця», паэму «Сымон Музыка». На аснове гэтага таленавітага твору мы можам пабачыць, якая глыбіня асабістае й нацыянальнае трагедыі хаваецца за крыклівымі напышанымі паховінамі, якія наладзілі паэту бальшавіцкія верхаводы.*

*Якуб Колас — гэта перш за ўсё пясьняр, мастак, чалавек творчае свабоды й глыбокага пачуцьця. Беларускую адраджэнскую літаратуру і сябе як арганічную частку яе ён увасобіў у Сымону Музыку, так як вобразам любае Сымону Ганны, абуджанае ад сьмяротнага сну Сымонавым граньнем, паэта сымбалізаваў маладую адроджваную Беларусь. Сваёй паэмай «Сымон Музыка» Колас паказаў шлях і накрэсьліў кірунак, у якім павінна разьвівацца беларускае нацыянальнае мастацтва, — шлях, па якім і ён сам намагаўся ісьці аж да пары свайго духовага заламаньня пад цяжарам бальшавіцкае дыктатуры. Шлях-*

[64] Бацькаўшчына. № 24 (306). 10 чэрвеня 1956. С. 3.

[65] Беларус. № 57. 15 кастрычніка 1956. С. 2.

[66] Беларус. № 58. 30 сьнежня 1956. С. 2.

*жа Сымона Музыкі — гэта цяжкая дарога выгнанца зь беднае аграбленае беларускае вёскі, праз нядолю жабрачага шчасьця, карчомнае служэньне, сьцюдзёныя панскія харомы — аж да каханага вобразу Ганны, — маладое, ускрошанае песьнямі Бацькаўшчыны.*

*Вось шлях, па якім змушаны йсьці пясьняр, і вось тая мэта, якую ён умроіў асягнуць — ускрошаную вольную Беларусь. Недарма паэма «Сымон Музыка» была забароненая ў савецкай Беларусі ад 1925 году аж да нядаўняга часу.*

*Аднак Коласу не ўдалося прайсьці гэтага шляху да канца. Выйшаўшы з паняволенае сацыяльна й нацыянальна беларускае вёскі, ён змог толькі перанесьці жабрачы лёс выгнанца-нявольніка царскіх турмаў, перажыць карчму-цэнзуру, але з харомаў бальшавіцкага замку, адкуль праз уцёкі ён вывеў свайго героя, яму самому ўцячы не ўдалося... Заняволены ў ім сярод халодных сьцен і бліскучых паркетаў, абвешаны ардэнамі й тытуламі дэпутата, ён мусіў граць на сваёй скрыпцы тое, што вымагалі ад яго бальшавіцкія паны і што было балючай супярэчнасьцяй ягонаму нацыянальнаму сумленьню.*

*На 74-м годзе, змучаны жыцьцём, Сымон Музыка памёр. Крыклівым кантрастам да сапраўднасьці гучаць ягоныя вымушаныя хваласьпевы сваім панявольнікам. Але вечна будуць жыць ягоныя праўдзівыя мастацкія творы, якія ён пакінуў у спадчыну нашай літаратуры, усьпеўшы напісаць іх перад змрочнаю эпохаю паліцыйнага «соц-рэалізму».*

*Жыцьцё Якуба Коласа — гэта прадонная асабістая трагедыя, канец якое супаў вось цяпер з канцом ягонага зямнога жыцьця.*

*Хай будзе пухам яму родная беларуская зямля*”[67].

А ў “Беларусе” быў зьмешчаны ананімны нэкралёг, але бяз усякага сумневу, напісаны ягоным братам Міхасём Міцкевічам:

“*На 74-м годзе веку скончыў сваю цярністую жыцьцёвую дарогу адзін з найвыдатнейшых нашых паэтаў і пісьменьнікаў Канстантын Міцкевіч, ведамы найбольш пад псэўданімамі Якуб Колас — Тарас Гушча. Вестка пра гэта, хоць і ня была нечаканай, споўніла гарачынёй сэрцы тых, хто бліжэй знаў паэту, ведаў ягоныя думкі, жаданьні і ягоную трагэдыю. Шмат хто з нас аплакаў Коласа ўжо даўно, калі*

[67] Бацькаўшчына. № 33 (315). Жнівень 1956. С. 1. Подпіс: Сяргей Ясень (псэўданім Янкі Запрудніка). У тым самым нумары на апошняй, чацьвёртай бачыне, пад назовам “Памёр Якуб Колас” было выдрукавана гэткае паведамленьне: “*14 жнівеня сёлета маскоўскае радыё перадало наступную вестку: «Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета СССР з глыбокім жалем паведамляе, што 13 жнівеня сёлета на 74 годзе жыцьця памёр Якуб Колас — Канстанцін Міцкевіч, дэпутат Вярхоўнага Савету СССР, выдатны савецкі пісьменьнік, народны паэт Беларусі, Віцэ-Прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук, сябра ўправы Саюзу Пісьменьнікаў СССР»*”.

*няпрошаныя гаспадары Беларусі — бальшавікі зламалі ягоную волю ды змусілі яго апяваць новых узурпатараў — панявольнікаў і цела і душаў людзкіх. Бо з таго часу Колас як нацыянальны паэта й пісьменьнік быў памёршы. Усё, што стварыў паэта на савецкім матарыяле, ня мае ні высокай мастацкай, ні ідэялягічнай вартасьці, а часам бывае й нацыянальна кампрамітацыйным. Можна, як шмат хто, вінаваціць самога Коласа ў падданьні бальшавізму, бо лепш прыняць сьмерць ад гвалтоўнікаў, як жыць у духовай няволі й выконваць іхную волю. Але гэта мы можам пасуджаць так, жывучы на волі. Іначай будзе разважаць усякі, хто пераўжыў бальшавіцкія духовыя катаваньні, калі бальшавіком залежыць зламаць чалавечую волю, а ня зьнішчыць чалавека фізычна. Магчыма, што слабасьць чалавечае натуры не дала Коласу запыніцца перад патрабаваньнямі гвалтаўнікоў, магчыма — пачуцьцё адказнасьці за сям'ю. Ды галоўнае ня ў гэтым. Калі мы прасочым, як бальшавікі ломяць волю не адно паэтаў, пісьменьнікаў ды наагул уталентавітых мастакоў, але сваіх і чужаземных навукоўцаў, што трапілі ў іхныя рукі, а таксама вайскоўцаў вышэйшае рангі ды змушаюць супраць волі служыць бальшавізму, дык нас ахапляе запраўдны жах перад гэтай сыстэмай, якая ня грэбуе ніякімі нялюдзкімі спосабамі, каб згвалціць натуру й волю чалавека. Вось гэтай нялюдзкай сыстэмай найперш трэба тлумачыць зламаньне й волі Якуба Коласа, а дзеля гэтага — выбачыць паэту за тыя ўчынкі, тыя творы, што даў ён пад ціскам савецкіх душагубаў.*

*Фактам ёсьць і застанецца, што бальшавікі заплямілі імя Якуба Коласа як народнага паэты, а горасьць і жаль для тых, хто бліжэй знаў і цаніў яго як паэту і як чалавека, пабольшваецца фактам ягонае сьмерці ў няволі. Напэўна, калі-б мог, Колас выказаў-бы свае апошнія жаданьні й просьбы зусім не ў бальшавіцкім духу. На горкі жаль, панявольнік пераўжыў яго.*

*Як у часох паўстаньня бальшавізму Колас ненавідзеў бальшавікоў, так і апошнімі гадамі жыцьця ня стаўся ён бальшавіком — гэта ведама найбліжэйшым да паэты людзям. Уся ягоная натура, сьціплая й глыбока нацыянальная, — гэта абсалютная супрацьлежнасьць бальшавізму. Ягоная духовая трагедыя была глыбокая й ня кажнаму спасьцерагальная. Яе перапыніла сьмерць.*

*Творца «Новае Зямлі», «Сымона Музыкі», «У Палескай глушы» ды іншых вялікіх твораў, Колас як, можа, ніхто зь іншых паэтаў і пісьменьнікаў адтварыў у васобах і вобразах нацыянальную трагедыю беларускага народу. Не адзначаючыся палкасьцю народнага трыбуна Янкі Купалы, творчасьць Якуба Коласа важкая глыбаканацыянальным зьместам. Таму яна так блізкая, так зразумелая, так палоніць душу Беларуса, і таму яна, як дарагі дар, застанецца для народу назаўсёды. Колас для Беларусі застанецца такім, якім ён*

*ёсьць у «Сымону Музыку» ды іншых рэчах, што створаныя ў вольным духу. Будучыня затрэ бальшавіцкія плямы на ім, а сучаснасьць прамаўляе за тое, што лепш не асуджаць паэту за творы пад нялюдзкім прымусам, а маліцца за супакой душы яго”*[68].

## Падсумаваньне

Вось такім быў 1956 год, калі глядзець на яго праз бачыны газэтаў. Рысу яму падвяла “Бацькаўшчына” ў артыкуле “Гістарычны 1956” Язэпа Каранеўскага (Станіслава Станкевіча), які прагучэў ня надта аптымістычна, але — як мы сёньня можам сказаць на адлегласьці часу — цалкам правідлова й, на жаль, недзе актуальна для нас і сёньня:

*“Падводзячы летась палітычны балянс 1955 году, мы адцемілі, што ён быў «больш грозны й небясьпечны для вольнага сьвету, чымся палітычны балянс папярэдняга 1954 году, і хаваў у сабе шмат невядомага й загадкавага». Сьцьвердзіўшы, што няма ніякіх сымптомаў на тое, каб Захад перабраў палітычную ініцыятывы ў свае рукі і ад абароны перайшоў да станоўчага наступу, мы закончылі сваю ацэну палітычных падзей 1955 году наступнымі словамі: «А таму зь вялікай няпэўнасьцю й трывогаю ўступаем у Новы 1956 Год».*

*Як паказалі падзеі 1956 году, асабліва апошняга ягонага кварталу, гэтая трывога была абаснаваная. Абаснаваная ня тым, што бальшавікі, пачуўшыся асабліва моцнымі, загразілі вольнаму сьвету, але, наадварот, якраз тым, што вольны сьвет, нягледзячы на аслабленьне савецкае сыстэмы, ня толькі ня выкарыстаў выгоднай для яго сытуацыі супраць бальшавізму, але і скапітуляваў перад ягонай слабасьцю. У гэтым і заключаецца вялікая трагэдыя 1956 году [...].*

*Паняволеныя народы на сумным прыкладзе Вугоршчыны пераканаліся, што ня могуць чакаць ад вольнага сьвету ніякае дапамогі ў сваім вызвольным змаганьні. Сьцьверджаньне гэтае горкае праўды не зламала, аднак, духа свабоды сярод паняволеных народаў і ня спыніла іхных вызвольных імкненьняў. Гэтым паняволеныя народы паказалі сваю маральную вышэйшасьць і далі вымоўны прыклад, што справа вызваленьня собскімі сіламі ня ёсьць справай безнадзейнай.*

*Усьведамленьне гэтага факту дазваляе нам з пачуцьцём вялікай палёгкі й надзеяй спатыкаць Новы 1957 Год, нягледзячы на ўсе трывожныя азнакі, што паявіліся на палітычным гарызоньце. А адыходзячы ў гісторыю 1956 год, у якім прыйшлі да магутнага голасу сярод паняволеных народаў сілы свабоды, маем падставы назваць гістарычным годам”*[69].

[68] Беларус. № 57. Кастрычнік 1956. С. 1.

[69] Бацькаўшчына. № 51—52 (333—334). Каталіцкія Каляды 1956. С. 2—3.

***Генадзь Сагановіч***
*Менск*

# ВЯРТАНЬНЕ ДА ГАРВАРДЗКАЙ КНІГІ ПРА БЕЛАРУСЬ[1]

Мінула больш за паўстагодзьдзя, як у выдавецтве Гарвардзкага ўнівэрсытэту пабачыла сьвет праца Мікалая Вакара *"Belorussia: the making of a nation, a case study"*. Здавалася б, навошта сёньня пісаць пра выданьне, якое выйшла яшчэ ў гады халоднай вайны і ў наш час можа разглядацца адно як помнік далёкай эпохі? Аднак шэраг акалічнасьцяў робіць размову пра яго й сёньня актуальнай. Па-першае, гэтая кніга выклікала калісьці водгукі на Захадзе, але ніякіх размоў пра яе не было ў самой Беларусі. Па-другое, яна стала першым і на доўгі час аказалася адзіным акадэмічным выданьнем пра мінулае Беларусі на ангельскай мове[2]. Пэўна, таму, і гэта па-трэцяе, нягледзячы на даўнасьць, яна ўжо двойчы перавыдавалася ў фармаце электроннай кнігі[3] — і разыходзілася! Атрымліваецца, яе й сёньня лічаць прыдатнай для ўнівэрсытэцкай аўдыторыі, бо й цяпер няма нічога больш вартага…

Калісь, адразу пасьля яе выхаду, заходнія славісты віталі працу Мікалая Вакара як падзею для навуковага сьвету й хвалілі яе[4]. Так, са словаў брытанскага гісторыка Г'ю Сітана Ўотсана, кніга заслугоўвала *"найвышэйшай пахвалы"* за тыя *"гераічныя намаганьні"*, якія аўтар прыклаў, каб "*трымацца аб'ектыўнасьці, разьвянчаць перабольшваньні беларускага, польскага й расейскага нацыяналізму, а таксама савецкай міталёгіі"*[5]. Пасьля перамогі над нацызмам папулярным стала выкрываньне нацыяналізмаў.

---

[1] Vakar, Nicholas P. Belorussia: The Making of a Nation. A case study. Cambridge (Mass.): Harvard University Press, 1956. 297 p.

[2] Кнігі Янкі Запрудніка зьявіліся толькі пасьля распаду Савецкага Саюзу. Гл.: Zaprudnik, Jan. Belarus: At a Crossroads in History. Boulder, Westview Press, 1993. 278 p.; Zaprudnik, Jan. Historical Dictionary of Belarus. The Scarecrow Press Inc., 1998. 338 p.

[3] https://www.hup.harvard.edu/catalog.php?isbn=9780674436640.

[4] Гл. рэцэнзіі на кнігу ў *"The Slavonic and East European Review"* (vol. 35. 1956) і *"Osteuropa"* (vol. 8. 1958).

[5] Seton, Watson H. Book review // The Slavonic and East European Review. Vol. 35. 1956. P. 312.

Але рэакцыя беларускага боку на гарвардзкае выданьне аказалася зусім іншай. Калі ад гісторыкаў з БССР не было аніякага голасу (прынамсі ў публічным дыскурсе), дык у беларускім эміграцыйным друку выказваліся пераважна крытычныя водгукі, часам нават зьнішчальныя, і належалі яны не дылетантам, а добра абазнаным у беларускай праблематыцы асобам. Так, у 1958 г. прадстаўнікі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва на сваім сходзе далі той жа працы адмоўную ацэнку. Хоць кніга Мікалая Вакара "часткова" выканала важнае заданьне — *"запоўніць вялікі прагал у англамоўнай літаратуры пра Беларусь"*, гаварылася ў камунікаце, але ў той жа час яна *"ўнесла ў паняцьці чужынцаў аб нас мноства вельмі шкодных памылак, сьведамага выкрыўленьня фактаў на нашую некарысьць і памылак фактычных, якія, дзеля свае вялізарнае колькасьці, сьветчаць аб* <u>*поўнай некампэтэнтнасьці*</u> *(*падкрэсьлена — *Г. С.) аўтара ў пытаньні беларускае справы наагул"*[6]. Таго ж году ў мюнхэнскім "Беларускім Зборніку" выйшла разгорнутая навуковая рэцэнзія на кнігу, напісаная Алесем Марговічам[7] — выпускніком Лювэнскага ўнівэрсытэту, які займаўся пытаньнямі беларускага мінулага XIX ст. Рэцэнзэнт зьвярнуў увагу толькі на некаторыя месцы ў публікацыі Мікалая Вакара й пастараўся трымацца аб'ектыўнага падыходу. Але й ён, адзначыўшы заслугі аўтара ды станоўчае ў яго працы, паказаў мноства прыкладаў зусім павярхоўнага ці памылковага асьвятленьня важных момантаў гісторыі Беларусі.

Агульна крытычныя заўвагі зь "Беларуса" й рэцэнзіі Алеся Марговіча на гарвардзкае выданьне былі сугучнымі з той ацэнкай, якую крыху раней выказаў знаны беларускі і ўкраінскі гісторык Леў Акіншэвіч. Яшчэ ў 1956 г. у лісьце да Антона Адамовіча той пісаў, што праца Вакара — гэта *"страшна павярхоўная, дылетанцкая і ўпярэджаная кніжка. І колькі памылак!.."*[8]. А найбольш суворым яе крытыкам быў, напэўна, Вітаўт Тумаш — тагачасны старшыня БІНіМу ды галоўны рэдактар "Запісаў", які ледзь стрымліваў эмоцыі, называючы аўтара гарвардзкай сынтэзы ня толькі *"кампілятарам-публіцыстым"*, але й *"расейскім вялікадзяржаўнікам"*[9] ды *"белагвардзейцам"*. Бо яшчэ да выхаду кнігі Мікалай Вакар некалькімі сваімі артыкуламі на беларускую

---

6 У Беларускім Інстытуце // Беларус. 1958. № 65. С. 7.

7 Марговіч, Алесь. Кніга аб Беларусі ў ангельскай мове // Беларускі Зборнік. Кн. 5. Мюнхэн, 1958. С. 178—198.

8 Ліст Лява Акіншэвіча да Антона Адамовіча ад 05.12.1956. За дасланую копію шчыра дзякую Натальлі Гардзіенцы.

9 Брага, Сымон. Балцкія перапалохі // Бацькаўшчына. 1961. № 23. С. 3. Параўн.: Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус". Выбранае: Да 70-годдзя газеты "Беларус" (1950—2020) / уклад. Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск, 2019. С. 83.

тэму выклікаў насьцярожлівае стаўленьне да сваіх публікацый з боку беларускай эміграцыі[10]. У адказ на іх Вітаўт Тумаш спачатку крытычна разабраў Вакарава тлумачэньне назову "Белая Русь" і прапанаваны тэрмін *Belorussia* замест *White Russia*[11]. Ён слушна даводзіў, што, каб унікаць блытаніны, трэба адмовіцца ня толькі ад *Byelo-* (ці *Belo-*), але яшчэ важней замест *Russia* ўжываць даўні лацінскі эквівалент *Ruthenia*. Затым беларускі эміграцыйны навуковец гнеўна зарэагаваў на Вакараў артыкул пра савецкую нацыянальную палітыку ў Беларусі, апублікаваны ў амэрыканскім пэрыёдыку ў 1954 г. Знайшоўшы там шмат нацяжак, спрашчэньняў і проста падтасовак ці *"фальсыфікацый асноўных фактаў пра Беларусь"*, Вітаўт Тумаш залічыў іх да *"мэтадаў расейскіх вялікадзяржаўнікаў"*[12].

Такая процілегласьць ацэнак твору Мікалая Вакара пасьля выхаду (калі параўноўваць заходніх славістаў і беларускіх аўтараў) ды ягоная актуалізацыя праз паўторнае зьяўленьне на цяперашнім кніжным рынку проста інтрыгуюць і, думаю, цалкам апраўдваюць вяртаньне да гэтай працы ды новыя размовы пра яе вартасьці. Паспрабуйма, спыняючыся хоць на выбраных месцах, пагартаць даўняе выданьне й разабрацца, чаго ў ім больш — аб'ектыўнасьці, за якую хваліў Мікалая Вакара брытанскі гісторык, ці павярхоўнасьці й дылетанцтва, за якія ганілі беларускія аўтары.

Перад намі ня проста кніга па гісторыі Беларусі. Мікалай Вакар прысьвяціў сваю працу "тварэньню" беларускай нацыі, нацыятворчым працэсам, таму прыдаў ёй адпаведную структуру. З 14 разьдзелаў кнігі два першыя прысьвечаныя характарыстыцы краю, насельніцтва й народных традыцый, пасьля чаго амаль тысячагадовая гісторыя Беларусі, ад найдаўнейшых княстваў да падзелаў Рэчы Паспалітай, зьмешчана ў двух разьдзелах, якія складаюць ня больш за 1/8 усяго тэксту. Асноўны ж аб'ём працы, верхняй храналягічнай мяжой якой стаў пачатак 1950-х гг., аддадзены пад асьвятленьне падзеяў і працэсаў XIX і першай паловы XX ст.

Аўтар пачынае з "пралёгу" — развагаў пра паходжаньне назову "Белая Русь" (с. 1—4), у якіх рэзюмуе асноўныя тэзы свайго ар-

---

[10] У лісьце да айца Лява Гарошкі ад 21.09.1955 Вітаўт Тумаш адзначаў, што ад чаканай публікацыі Мікалая Вакара ня будзе ніякага суцяшэньня, бо Вакар — *"заядлы вораг беларусоў"*. За копію ліста шчыра дзякую Лявону Юрэвічу.

[11] Гл.: Брага, С. Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу. [Таронта], выданьне суполкі "Ускалось", 1950. 15 с.; Р. М. Рэц. на: Vakar N. P. The Name White Russia, in: The American Slavic and East European Review, Vol. 8 (1949), nr. 3 // Запісы БІНіМ. Т. III. № 2. New York, 1954. С. 117—120.

[12] В. В. Расейская дэзінфармацыя // Беларус 1955. № 53. С. 2.

тыкулу[13], прысьвечанага той жа тэме. Паходжаньне гэтага назову ня раз станавілася прадметам увагі дасьледчыкаў, асабліва пасьля абвяшчэньня сувэрэнітэту Беларусі, таму сёньня яго тлумачэньні выглядаюць зусім далёкімі ад сучасных ведаў, што ня дзіўна. Горш тое, што яны не вызначаюцца кампэтэнтнасьцю й фактаграфічнай выверанасьцю. Пры добрай абазнанасьці ў тэме аўтар наўрад ці стаў бы пісаць, напрыклад, што цар Аляксей Міхайлавіч у 1667 г. *“загадаў называць Белай Русьсю”* землі, атрыманыя па ўмовах Андрусаўскага перамір’я (бо яны даўно так называліся), або што пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай далучаныя землі па ўказе назвалі *“Белоруссией”*, а пасьля паўстаньня 1831 г. яны *“былі перайменаваныя ў Заходнюю Расею”* (с. 3).

Як і ў згаданым артыкуле, адзначыўшы адсутнасьць уніфікаванага назову краіны й народу ды складанасьці з тэрміналёгіяй, асабліва пры перадачы беларускіх уласных імёнаў у замежных мовах, Мікалай Вакар сам не падаў прыкладу тэрміналягічнай ахайнасьці. Бо ўжытыя ім тэрміны толькі ўскладнілі справу. Адным з ключавых спрашчэньняў тут варта назваць ягонае атаесамленьне “Русі” й “Расеі”. Для сёньняшняй гістарычнай навукі *Rus’* і *Russia* — гэта два розныя паняцьці, якія выкарыстоўваюцца для азначэньня розных дзяржаўных утварэньняў у розныя эпохі. Зразумела, у 1950-я гг. яшчэ не было такой яснасьці. Але за тым, што Мікалай Вакар нават не спрабаваў адрозьніваць *“Русь”* і *“Россию”*, таксама як *“Белую Русь”* і *“Белоруссию”* (адсюль у яго *“Белая Русь”* — гэта *White Russia* або, як бесьперакладны варыянт, *Belorussia*), праглядаецца пэўная пазыцыя. Вакар трансьлітараваў назоў краіны з расейскай мовы, а не зь яе саманазвы, і, як падказваюць назіраньні за ягоным тлумачэньнем нацыянальна-культурных пытаньняў, гэта было сьведамым падыходам.

У выніку ў чытача зь першых старонак узьнікае ўяўленьне, што краіна, якой прысьвечана кніга, — гэта Расея ці яе частка. Такую ідэю можна наўпрост расчытаць і ў шэрагу выказваньняў аўтара, вельмі неакуратных і нязгодных з фактамі. Напрыклад, гаворачы пра саманазву, ён піша: *“Краіна гістарычна магла быць ведамая як “Белая Русь, але яны [жыхары] называлі сябе проста рускімі”* (можна нават прачытаць — “расейцамі”, бо напісана *Russian*) (с. 4). Ці далей, характарызуючы верхнія сацыяльныя слаі Беларусі XIX ст., аўтар сцьвярджае, што яны адчувалі сябе польскімі або расейскімі (*Russian*) і *“ніколі не называлі сябе беларусамі, пакуль гэтае імя не было на іх накінутае польскай і расейскай навукай або адміністрацыяй”* (с. 17). Ну хіба ж можна так агульна й далёка ад фактаў пісаць у навуковым выданьні?! Не

[13] Vakar, N. P. The Name White Russia // The American Slavic and East European Review. Vol. 8. № 3. 1949.

ўдаючыся ў дэталі, аўтару дастаткова было зазірнуць у вынікі Першага агульнага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі, каб даведацца, што ў 1897 г. каля 43 % прадстаўнікоў дваранскага саслоўя заходніх губэрняў назвалі роднай мовай беларускую[14], і зразумець, што ўсё ня так проста.

З разьдзелу "Традыцыі" перад чытачом паўстае вобраз зусім забітага краю, не кранутага цывілізацыяй — і такая характарыстыка Беларусі далей будзе неаднаразова акцэнтавацца. Жыльлё, гаспадарка, мэтады яе вядзеньня — усё ў найвышэйшай ступені прымітыўнае, дый цяпер, маўляў, карціна беларускага жыцьця *"ненашмат адрозьніваецца ад той, якая была 50 гадоў таму"* (с. 18—19). Малюючы забітых людзей з адсталай гаспадаркай і няшчасным лёсам, Мікалай Вакар адзначыў асабліва моцную эксплюатацыю сялянаў у Беларусі: маўляў, іх тут *"называлі быдлам, ды так і абыходзіліся, калі ня горш"*, і нават расейскія прыгонныя параўнальна зь імі былі ў лепшым становішчы. З такім параўнаньнем долі сялянаў на карысьць расейскіх калісь выступаў Пампей Бацюшкаў, на якога й спаслаўся Вакар, але той агучваў устаноўку афіцыйнай ідэалёгіі царскіх уладаў, каб пераконваць, што толькі ў складзе Расеі беларусы могуць зажыць заможна й шчасьліва. Паўтараць ідэалягемы заходнерусізму пасьля Другой сусьветнай вайны было данінай вялікадзяржаўніцтву.

Яшчэ болей неадпаведных сьцьверджаньняў, а таксама крытычных закідаў на адрас беларускіх гісторыкаў (у большасьці беспадстаўных!) чытач сустрэне ў разьдзеле "Паходжаньне" (с. 37—50), у якім разглядаецца грамадзка-палітычная гісторыя да XVIII ст. Спачатку Мікалай Вакар характарызаваў погляды беларускіх аўтараў на паходжаньне беларускага народу як *"расавую тэорыю"* (хоць спасылаецца на зусім не рэпрэзэнтатыўныя публікацыі!) і скрытыкаваў яе. *"Беларусы разглядаюць сябе як найстарэйшае й найчысьцейшае адгалінаваньне славянскай сям'і, выводзячы сваё паходжаньне ад трох старажытных славянскіх плямёнаў: крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў*, — напісаў Мікалай Вакар і дадаў: *Яны вераць, што зьяўляюцца аўтахтонным насельніцтвам сучаснай Беларусі, якое <u>ніадкуль не прыходзіла, ня зьмешвалася ні зь якімі іншымі плямёнамі</u>"* (с. 37—38). Хто "яны"? Аўтар адаслаў чытачоў да брашуры Мітрафана Доўнар-Запольскага "Асновы дзяржаўнасьці Беларусі" (1919). У згаданай публікацыі сапраўды гаворыцца пра беларусаў як *"найбольш чыстае славянскае племя"*, бо беларускі народ *"з прадвечных часоў жыве ў сваёй старонцы, ніадкуль сюды не прыходзіў, дык і не набраўся чужацкіх элемэнтаў"*[15],

[14] Гл.: Церашковіч, Павел. Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускага этнасу ў эпоху капіталізму // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1986. № 5. С. 94.

[15] Доўнар-Запольскі, Мітрафан. Асновы дзяржаўнасьці Беларусі. Вільня, 1919. С. 4.

але што з таго? Хіба ж можна было пераносіць агульна на беларускіх гісторыкаў выказваньні з папулярнай брашуркі, якая выдавалася на патрэбы моманту й мела хутчэй дыпляматычна-прапагандысцкае прызначэньне? Хіба гісторыкі зь Беларускай Акадэміі навук ці БДУ выказвалі думкі пра беларусаў як *"найстарэйшых і найчысьцейшых"* славянаў? Ведама ж не!

На жаль, у кнізе часта заўважаецца прыём аўтара, які цяжка назваць карэктным: палемізуючы зь *"беларускімі нацыяналістамі"*, Вакар прыпісвае ім нейкія спрошчаныя погляды, якія затым абвяргае. Але калі аб'ект крытыкі названы й можна вэрыфікаваць аргумэнты абодвух бакоў, то аказваецца, што абвяржэньні далёкія ад карэктнасьці. Так і ў выпадку з *"расавай тэорыяй"*. Беларускія гісторыкі-нацыяналісты *"намагаліся давесьці, што продкі беларускай нацыі былі ня толькі найчысьцейшымі, але і найбольш культурнымі славянамі"* (с. 39), — піша Вакар, але не падае, хто і ў якіх публікацыях гэта сапраўды даводзіў. Далей, паводле яго, *"расавая тэорыя"* ажыла ў беларускай літаратуры пасьля вайны, бо *"пісьменьнікі (у эміграцыі) настойваюць, што беларусы рэпрэзэнтуюць чыстую балта-славянскую сумесь"* і лічаць, маўляў, біялягічны фактар тым, што паўплывала на іх нацыянальны характар і мэнталітэт (с. 40). У спасылцы ўдакладняецца, што расавая тэорыя як *"элемэнт нацыяналістычнай дактрыны"* найвыразьней сфармуляваная ў публікацыі Сымона Брагі "Балцкі элемэнт пры паўстаньні беларускага народу" (1950). І гэта адзіная беларуская праца, на якую Вакар абапіраецца, гаворачы пра расавую тэорыю ў беларускай літаратуры, а далей (чамусьці пасьля *but*) ён называе кнігу амэрыканскага антраполяга Карлтана Куна (*Carleton Stevens Coon*), публікацыі расейскага вучонага Дзьмітрыя Анучына й чэскага Любара Нідэрле (*Lubor Niederle*) (с. 239).

Глядзім названую працу Сымона Брагі, што зьявілася калісь як крытычны водгук на згаданую вышэй публікацыю Мікалая Вакара *"The Name White Russia"*. Брага пакрытыкаваў там аўтара за ігнараваньне ролі балцкага элемэнту ў паходжаньні беларусаў і выклаў свой погляд на праблему. Зьвярнуў увагу на ўдзел розных элемэнтаў ("субстратаў") у фармаваньні трох цяперашніх усходнеславянскіх народаў і выказаў думку, што пры выяўленьні роднасных сувязяў паміж народамі кіравацца трэба ня столькі лінгвістычнымі крытэрамі (як гэта рабіў Вакар), колькі антрапалягічнымі. Паводле Сымона Брагі, у навуцы ролю балцкага субстрату ў паходжаньні беларусаў ужо ніхто не аспрэчвае, і тое, што балцкі элемэнт наклаў *"сваё кляймо на наш нацыянальны характар, нашую псыхіку"*, маўляў, можна лічыць фактам. Наконт *"расавай чысьціні"* дасьледчык заўважыў, што гэтым займаліся нацысты, а на справе *"не існуе ніякой расавай чысьціні"*, бо розныя плямёны

й народы зьмешваліся[16]. Вось жа галоўныя тэзы цытаванага артыкулу Сымона Брагі ў цэлым карэспандуюць з працай Карлтана Куна, які таксама напісаў пра блізкасьць беларусаў літоўцам (нават дадаў: *"магчыма, першыя калісь былі балтамі"*) ды адзначыў розныя субстраты ў беларусаў, украінцаў і велікарусаў. Пра ўплыў розных даславянскіх элемэнтаў на адрозьненьне тыпаў і гістарычных лёсаў гэтых народаў можна прачытаць і ў расейскага вучонага Дзьмітрыя Анучына. Так што гаварыць, быццам Сымон Брага сфармуляваў расавую тэорыю, якая стала элемэнтам беларускай *"нацыяналістычнай дактрыны"*, не было ніякіх падставаў.

Далей Мікалай Вакар падсумаваў погляды (*"тэорыю"*) беларускіх гісторыкаў на раньні пэрыяд гісторыі Беларусі (с. 42) — у тым жа адвольным стылі. Вось яго асноўныя пункты. 1) Тысячу гадоў таму беларускі народ *"быў ужо палітычна незалежны"*. 2) Ад X да XIII ст. доўжыўся *"пэрыяд барацьбы паміж полацкай дынастыяй і драпежнымі князямі Кіева..."*. 3) Гэты пэрыяд вызначаўся незвычайным культурным разьвіцьцём на тэрыторыі Полаччыны. *"Сапраўды, два стагодзьдзі Полацкая Русь была <u>цэнтрам усходнеславянскай культуры</u>"*. 4) Тыя часы характарызаваліся *"<u>дамінаваньнем дэмакратычных ідэяў</u> у сацыяльнай структуры краіны; <u>не было клясавых падзелаў і барацьбы, і асноўным прынцыпам была сацыяльная роўнасьць</u>"*. У сувязі з апошняй тэзай Мікалай Вакар прыпісвае Мітрафану Доўнар-Запольскаму словы аб тым, што пералічаныя характарыстыкі *"ў ніводнага славянскага племені не былі так разьвітыя, як у нашых продкаў"*. У спасылцы сярод працаў гісторыкаў эпохі Расейскай імпэрыі названа кніга Мітрафана Доўнар-Запольскага *"Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель"* (1891?). Але ў ёй чытач нідзе ня знойдзе тых выказваньняў, якія прыпісаў беларускаму гісторыку Мікалай Вакар. Наадварот, у названай кнізе Мітрафан Доўнар-Запольскі адзначыў, што ўдзельныя княствы, на якія распалася Полацкая зямля, у XII ст. былі практычна самастойныя ва ўнутраным кіраваньні й зьнешняй палітыцы, якая ўзгаднялася з Полацкам толькі тады, калі ў гэтым бачылі карысьць удзелы. Дый пра вечавы лад Полацку ён напісаў безь перагібаў — як пра зьяву, што была характэрная й для іншых цэнтраў Русі. Так што й тут нешта перакручана.

Пераходзячы да пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага, аўтар аддаў перавагу тэрміну *"Літоўска-руская дзяржава"*, уведзенаму ў XIX ст. расейскай гістарыяграфіяй, і паўсюль называе яго *"the Lithuanian Russian State"*, што таксама цяжка лічыць карэктным адпаведнікам, бо чытацца ён можа як *"літоўска-<u>расейская</u> дзяржава"*. Тут аўтар зноў спрабуе адразу прэзэнтаваць нейкую агульную *"беларускую ін-*

[16] Цыт. паводле: Тумаш, Вітаўт. Выбраныя працы. Мінск, 2002. С. 30, 34.

*тэрпрэтацыю"* гісторыі пэрыяду ВКЛ, якая *"адрынаецца палякамі, без захапленьня прымаецца літоўцамі й падтрымліваецца, зь некаторымі агаворкамі, расейцамі"* (с. 42—43). Але хіба была нейкая адна *"беларуская інтэрпрэтацыя"* гісторыі эпохі ВКЛ? Пісаць так пасьля Другой сусьветнай вайны — значыць зусім ня ведаць сытуацыі зь беларускай гістарыяграфіяй. Паколькі не названыя ні аўтары, ні асноўныя выданьні той "інтэрпрэтацыі", то складана камэнтаваць словы пра расейскую яе *"падтрымку"* й польскае *"адрынаньне"*. Канкрэтызуючы некаторыя пазыцыі, Мікалай Вакар згадвае сьцьверджаньні пра добраахвотнае далучэньне земляў Беларусі да ВКЛ (але пра тое ж пісалі й расейскія гісторыкі!) і *"настойваньне"* беларускіх гісторыкаў на тым, што іх продкі *"займалі выдатнае месца ў палітычным і эканамічным жыцьці краіны"* й да т. п. (с. 44). У рэдкіх спасылках фігуруюць звычайна папулярныя публікацыі Вацлава Ластоўскага, Усевалада Ігнатоўскага ці Мітрафана Доўнар-Запольскага. Але ж на прыкладзе гэтых гісторыкаў у пачатку 1950-х гг. ужо нельга было характарызаваць погляды беларускай гістарыяграфіі на эпоху ВКЛ, бо ў Менску іх працы былі даўно забароненыя, і афіцыйна пашыралася тэза пра Вялікае Княства як чужую беларусам дзяржаву. Чаму амаль цалкам праігнараваныя працы акадэмічных гісторыкаў Беларусі дасталінскага пэрыяду? Атрымліваецца, цэлай школы беларускіх гісторыкаў быццам і не існавала…

Яшчэ раз вяртаючыся да характарыстыкі поглядаў *"сучаснага беларускага нацыяналізму"* на даўнюю гісторыю (с. 64), Мікалай Вакар зноў адвольна пераказвае й цытуе непрэзэнтабэльныя выказваньні, называючы імёны Ўсевалада Ігнатоўскага, Уладзімера Пічэты й Вацлава Ластоўскага, пасьля чаго падсумоўвае: *"Вучоны гісторык можа не пагаджацца, але ён наўрад ці пераканае нацыяналіста, які сьцьвярджае палітычную незалежнасьць для Беларусі"*. Нетактоўна, калі ня горш. Бо атрымліваецца, што акадэмікі Ўсевалад Ігнатоўскі і Ўладзімер Пічэта, якія зрабілі для беларускай гістарыяграфіі сапраўды шмат і заслужана лічацца яе заснавальнікамі, — гэта проста нацыяналісты, а вось Мікалай Вакар — вучоны гісторык…

З пэрспэктывы цяперашняй гістарыяграфіі няма сэнсу пералічваць фактаграфічныя памылкі й недакладнасьці ў трактоўках, якія дапускае сам Мікалай Вакар, характарызуючы Люблінскую вунію, сытуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім пасьля 1569 г., міжканфэсійныя адносіны й г. д. Асабліва павярхоўныя параграфы пра рэлігійную барацьбу й Берасьцейскую вунію, напісаныя на падставе неадпаведнай літаратуры — моцна састарэлай нават на той час. Дый увесь разьдзел "Паміж Захадам і Ўсходам" (с. 51—64) напісаны з выкарыстаньнем выданьняў пераважна т. зв. заходнерускай школы XIX ст. — Пампея Бацюшкава, Рыгора Кіпрыяновіча, Юльяна Крачкоўскага, Мікалая Кастамарава,

Аляксея Сапунова. Асабліва часта аўтар спасылаецца на *“Белоруссию и Литву”* першага... Тое ж самае з наступным разьдзелам, прысьвечаным “Расейскай імпэрыі” (с. 65—74): і тут беларускае мінулае ажно да паўстаньня 1863—1864 гг. зноў апісана пераважна паводле кніг Пампея Бацюшкава й Рыгора Кіпрыяновіча, да якіх аўтар ставіцца зусім некрытычна, прымаючы іх галоўныя ўстаноўкі. Ня дзіўна, што ў працы Мікалая Вакара чытаем пра *“экстрэмальную мяккасьць і талерантнасьць”* палітыкі Расеі ў Польшчы й Фінляндыі, што царская ўлада *“не рабіла ніякіх спробаў пераводу гэтых народаў да расейскага ладу жыцьця або праваслаўнай веры”* й да т. п. Сёньня такія сьцьверджаньні пра расейскую нацыянальную палітыку адносна палякаў могуць выклікаць сумную ўсьмешку.

Але аддамо належнае — некаторыя важныя падзеі й складаныя зьявы гісторыі XIX ст. разгледжаныя Мікалаем Вакарам сапраўды ўзважана й ацэненыя збольшага аб’ектыўна. Напрыклад, характар і адмена царкоўнай вуніі, якая *“паступова зрабілася свайго роду нацыянальнай беларускай царквой”*, і яе скасаваньне аўтар назваў *“наймацнейшым ударам”* для беларускіх масаў (с. 68—69). Больш-менш узважана паказана русіфікацыя краю (с. 73—74), хоць і тут нямала спрашчэньняў. У большасьці ж трактовак адчуваюцца яўныя стэрэатыпы заходнерусізму: падкрэсьліваньне польскага панаваньня над краем, чужасьці для беларусаў *“польскіх”* паўстаньняў, штучнасьці *“гераічнай легенды”* Кастуся Каліноўскага й г. д. Задалёка ідзе Мікалай Вакар, калі, зноў цьвердзячы пра забітасьць і адсталасьць Беларусі, лічыць яе краінай *“з найвышэйшай доляй непісьменных у эўрапейскай частцы імпэрыі”* ды піша, што беларусы называлі сябе пераважна *“тутэйшымі”* й саромеліся тэрміну *“беларус”*. Калі б аўтар зьвярнуўся да згаданага вышэй Першага агульнага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі (1897 г.), то атрымаў бы больш дакладную карціну. Даведаўся б, напрыклад, што паводле ўзроўню пісьменнасьці беларусы былі ўсё ж не апошнімі — сярод украінцаў адсотак непісьменных аказаўся яшчэ большы. Што да самаазначэньня *“тутэйшы”*, то яно не было пашыраным і сустракалася толькі ў заходняй частцы краю, але там дамінаваў назоў *“ліцьвін”*, а на поўначы і ўсходзе Беларусі традыцыйным быў этнонім *“беларус”* (тэрмін *“рускія”* ўжываўся звычайна як канфэсіёнім).

Як і чакалася, найбольш увагі аўтар аддаў падзеям і зьявам канца XIX — першай паловы XX ст., зьвязаным зь беларускім нацыятворчым працэсам. Пэрыяд культурнага нацыяналізму беларусаў ён пачынае з Францішка Багушэвіча, але тых, хто ў XIX ст. пісаў па-польску, называе проста “палякамі” (напрыклад, Яна Чачота, Адама Кіркора, Яна Баршчэўскага, Уладзіслава Сыракомлю й інш.), а праваслаўных і расейскамоўных запісвае ў расейцы. Таму чытаем, напрыклад, што ў 1884 г. *“расейская рэвалюцыйная партыя Народная грамада”* выда-

ла ў Менску (у сапраўднасьці — ў Санкт-Пецярбургу. — *Г. С.*) падпольны часопіс "Гоман", які патрабаваў культурнае аўтаноміі Беларусі (с. 83). Дык чаго б ён уздымаў беларускае пытаньне, калі б за ім не стаялі нараджэнцы Беларусі й яе патрыёты?

Сур'ёзны недахоп ведаў пра культурную сытуацыю ў Беларусі XIX ст., пра спэцыфіку краю адчувальны і ў разглядзе іншых істотных пытаньняў. Мікалай Вакар, здаецца, і не здагадваўся пра існаваньне беларускай лацінкі, бо ў кнізе ня раз адзначана, што беларусы маглі пісаць па-свойму *"польскімі або рускімі літарамі"*, ды згадваюцца *"рускі"* й *"польскі"* алфавіты беларускіх выданьняў.

Перайшоўшы да асьвятленьня беларускага палітычнага руху, пачатак якога ў кнізе разгледжаны досыць блытана й няпоўна (с. 84—85), аўтар настойліва імкнецца паказаць яго слабасьць і пакрытыкаваць лідараў, хоць часта ягоная крытыка далёкая ад таго, каб яе можна было лічыць справядлівай. Напрыклад, гаворачы пра цяжкасьці разьвіцьця беларускага руху ў пачатку XX ст., ён піша, што беларускую моладзь захапляў агульнарасейскі вызваленчы рух, таму ў Расейскай імпэрыі рэвалюцыйная барацьба вялася на расейскай мове, і з гэтай прычыны Беларусь, маўляў, *"дэнацыяналізоўвалася яе ж нацыянальнымі лідарамі"* (с. 85). Далей, згадваючы байкот выбараў у Думу 1906 г. Беларускай сацыялістычнай грамадой, піша, што яна пайшла на гэта, бо баялася аказацца *"генэраламі бяз арміі"*, паколькі беларускага руху не існавала. Але ж за байкотам тады стаяла іншая матывацыя: гэта была агульная тактыка рэвалюцыйна-дэмакратычных партыяў.

Толькі разглядаючы пэрыяд "Нашай Нівы" (с. 87—91), аўтар прызнае ўражвальныя посьпехі беларускага руху й характарызуе іх, называючы пэрыяд паміж 1906 і 1917 г. падставовым часам беларускага палітычнага нацыяналізму. Затое наступны разьдзел ("Вайна й рэвалюцыя", с. 93—106), у адрозьненьне ад разгляду культурнага жыцьця, вылучаецца сумбурным выкладам і яўнай тэндэнцыйнасьцю. Цяжка наогул зразумець, што й чаму адбывалася, бо палітычная сытуацыя разьвівалася імкліва, усё мянялася, а аўтар рэдка зьвязвае тое, пра што піша, з канкрэтным часам. Вось на адной старонцы спачатку чытаем, што ў акупаванай немцамі зоне палякі як найбольш адукаваныя й падрыхтаваныя сталі *"дараднікамі нямецкіх генэралаў"* і выкарыстоўвалі сваю пазыцыю для ціхай *"рэпалянізацыі краю"*, а літоўцы, беларусы й яўрэі скардзіліся на іх, і тут жа — што немцы фаварызавалі літоўцаў зь Вільняй як іх сталіцай (с. 95). Шкада, што гаворачы пра акупацыю, аўтар практычна пакінуў без увагі тэму вайскова-адміністрацыйнага ведамства Обэр Ост. Згадаў толькі распараджэньне Паўля фон Гіндэнбурга (*Paul von Hindenburg*), якое *"пацьвярджала роўныя правы іх моваў (літоўцаў, беларусаў і яўрэяў. — Г. С.) на акупаваных землях" — "усё, што яны атрымалі"*. Так, але гэта аказалася надзвычай важным для

разьвіцьця беларускага школьніцтва, друку й наогул нацыянальнага руху ў акупаванай зоне.

Але мноства прагалаў і фактаграфічных недакладнасьцяў падаюцца неістотнымі перад выразным імкненьнем пераканаць чытача, што ў стварэньні беларускай дзяржаўнасьці былі заангажаваныя немцы, а беларускія нацыяналісты былі бяздарнымі й народ іх не падтрымоўваў. Гэтыя ідэі праводзяцца неаднакроць і рознымі спосабамі. Вось гаворыцца, што браты Луцкевічы ў Вільні нават самі сур'ёзна не разглядалі магчымасьці беларускай дзяржавы, але *"калі немцы зрабілі ім прапанову, то гэта было занадта добрай прапановай, каб не скарыстацца"* (с. 93). Пра што гэта? Напэўна, пра ідэю "Канфэдэрацыі ВКЛ", агучаную ў канцы 1915 г., якая спачатку сапраўды зацікавіла нямецкае камандаваньне. Але ж яна не прадугледжвала нацыянальнай дзяржаўнасьці, а потым немцы падтрымалі польскі, літоўскі й украінскі дзяржаўныя праекты. Спробы ж беларускіх лідараў заручыцца падтрымкай Нямеччыны, як ведама, ня мелі ніякага посьпеху.

Вяртаючы чытача да думкі аб недаверы беларускага насельніцтва да сваіх нацыянальных лідараў, Мікалай Вакар піша, што партыя сацыял-дэмакратаў бальшавікоў *"у Беларусі расла намнога хутчэй, чым любая нацыянальная"* (с. 97). Аднак і гэта не зусім так. Найбольшай папулярнасьцю ў 1917 г. карысталася ўсё ж партыя эсэраў. Яшчэ важней, што для разуменьня палітычных прэфэрэнцыяў трэба было ўлічваць канкрэтную сытуацыю ў Беларусі, — тое, што ў той час мноства карэннага насельніцтва было ў бежанстве, і тут стаяла вялізарнае расейскае войска, жаўнеры якога таксама галасавалі.

*"Нацыяналісты былі ня ў стане ўлагодзіць свае ўнутраныя падзелы й сваркі"*, — працягваецца крытыка беларускага нацыянальнага руху. Больш за тое: іх дзейнасьць *"выглядала як дробязная й шумная гульня, якая ня мела адносінаў да нацыянальнай трагедыі, і народ дзелавіта прапусьціў гэта"* (с. 98). Гаворачы пра вызначальнасьць расейскай рэвалюцыі для лёсу краіны, Мікалай Вакар дадае, што бальшавікі паабяцалі прыгнечаным народам Расеі *"статус сувэрэнных рэспублік, калі тыя ўвядуць савецкую ўладу ў сваіх землях"*. Таму, маўляў, *"мясцовы нацыяналізм атрымаў прызнаньне й падтрымку [...] як ад савецкага, так і антысавецкага боку"* (с. 98). Як усё спрошчана! Атрымліваецца, беларускі нацыянальны рух ад краху выратавала бальшавіцкая рэвалюцыя, бо бальшавікі адразу прапанавалі народам сувэрэнітэт... Але наступныя падзеі нават у асьвятленьні самога Мікалая Вакара не пацьвярджаюць такой высновы. Дастаткова ўлічыць лёс Першага Ўсебеларускага кангрэсу, разагнанага бальшавікамі.

Галоўную падзею ў гісторыі беларускага руху — прыняцьце Акту 25 сакавіка — Мікалай Вакар падае так, быццам за ўсім стаяла аўстранямецкае камандаваньне. Маўляў, Рада абвясьціла незалежнасьць

БНР у супярэчнасьці з рашэньнямі Першага Ўсебеларускага кангрэсу, і некаторыя групы ў знак пратэсту выйшлі зь яе, але *"нямецкае вайсковае камандаваньне пацьвердзіла"* дэкларацыю (с. 103). Якім чынам? Далей, нягледзячы на безвыніковасьць тэлеграмы кайзэру Вільгельму II, Мікалай Вакар зноў сьцьвярджае, што дзяржаўнасьць беларусы *"атрымалі з рук уладаў аўстра-германскай акупацыйнай арміі"*. Само ж абвяшчэньне дзяржаўнай незалежнасьці, на яго думку, — *"факт, з гістарычнага гледзішча выпадковы й банальны, які перарос у гераічную легенду"* (с. 105). Відавочна, значэньні нават выпадковых здарэньняў разумеюцца пазьней. Тым больш дзіўна, што гісторык з вышыні 1950-х гг. называе *"выпадковай і банальнай"* падзеяй абвяшчэньне дзяржаўнай незалежнасьці народу, пра гісторыю якога піша.

Падзеі з канца 1918 г. да сакавіка 1921 г., калі быў падпісаны Рыскі мір, Мікалай Вакар выдзеліў у асобны разьдзел "Падзел Беларусі" (с. 107—118), у якім сьціслa распавядае й пра абвяшчэньне савецкай рэспублікі (толькі чамусь падае, што гэта адбылося ў Менску — с. 108). Слуцкі збройны чын згаданы толькі подбегам — як паўстаньне *"адначасова антырасейскае й антыпольскае"*, хоць аўтар дапускае, што праз Антона Луцкевіча з Варшавы яно падтрымлівалася польскімі людзкімі й грашовымі рэсурсамі (с. 115).

Значна болей увагі прысьвечана Заходняй Беларусі (с. 119—136), і гэты разьдзел у цэлым пакідае добрае ўражаньне. Хоць і тут ёсьць недарэчнасьці, сярод якіх найбольшае зьдзіўленьне выклікае тэза пра нейкую *"інтэнсіўную беларусізацыю"* ў польскай дзяржаве. Не падаўшы крыніцы, Мікалай Вакар піша пра вялікія субсыдыі, атрыманыя ўрадам Антона Луцкевіча на беларусізацыю, пра адкрыцьцё 400 беларускамоўных школак, 7 гімназіяў і 3 настаўніцкіх сэмінарыяў (с. 121—122). Толькі далей расказвае пра палітыку паланізацыі й закрыцьцё беларускіх школак у 1924—1926 гг. Складана сказаць, адкуль узятыя лічбы, якімі аўтар хоча пацьвердзіць тэзу пра польскую беларусізацыю. Сучасныя дасьледаваньні кажуць пра выразна асыміляцыйную палітыку польскіх уладаў. Калі ў 1921 г. на Віленшчыне было 178 пачатковых беларускіх школак, то на 1924 г. іх там засталося толькі 13, а ў Палескім ваяводзтве ўжо ў 1923 г. не было ніводнай беларускай школы. І хоць рэжым санацыі спачатку дазволіў сабе некаторыя саступкі, праз пару гадоў ён таксама пайшоў на зьнішчэньне беларускага школьніцтва. Тут ужо і ў аўтара, з апорай на заходнебеларускія выданьні, пераканаўча паказана, як жорстка польская ўлада падаўляла любую праяву беларускага руху ці проста сьведамасьці, а таксама як на падобныя рэпрэсіі рэагавалі беларусы. Адзначыўшы рост антыпольскага руху й далучэньне новых людзей да беларускай справы, ён нават робіць выснову, што *"палякі зрабілі тое, чаго нацыяналістычная прапаганда не магла*

*дасягнуць мэтанакіравана"* (с. 128). Думаю, разьдзел пра палітыку польскай дзяржавы ў Заходняй Беларусі, якую Мікалай Вакар трактуе як каляніяльную, адзін з найлепшых у кнізе.

Прыкладна столькі ж месца, колькі Заходняй Беларусі, аддадзена й апісаньню БССР ("Усходняя Беларусь", с. 137—154). Назіраньні аўтара тут пераважна трапныя, але часам можна заўважыць яго імкненьне ўпікнуць нацыяналістаў. Маўляў, калі ўтварыўся СССР, то *"беларускі нацыяналізм дасягнуў сваёй мэты: краіна магла мець кепскі палітычны лад, але цяпер яна была дзяржавай, роўнай па правах, годнасьці й гонару самой Расеі…"* (с. 138). А беларусізацыя — тэма, відавочна, алергічная для Мікалая Вакара — паказана проста карыкатурна. Са словаў аўтара, яе праводзілі толькі прымусам. Беларуская мова была абвешчана дзяржаўнай (*official*), а расейская *"забаронена ў школах, судах і ўстановах — нават дома"*, піша аўтар і дадае, што *"людзям загадалі прывесьці іх дыялекты ў адпаведнасьць з нацыянальным стандартам"*, а тых, хто гаварыў *"на мяшанцы, называлі «маскалямі» і пазбаўлялі правоў"* (с. 139). Потым зноў паўтарае, што расейскую мову *"забаранілі ва ўстановах, а ў школах яна выкладалася, быццам нямецкая й француская, як замежная"* (с. 142). Але сам сабе пярэчыць, бо тут жа прызнае, што летам 1924 г. менскія ўлады пацьвердзілі *"роўныя правы"* беларускай мовы, расейскай, ідыш і польскай (с. 142). Застаецца няведамым, на чым усё ж заснаваны прыведзены вобраз беларусізацыі, бо тут зноў, як і ў многіх іншых выпадках, не пададзена ніякіх зьвестак пра выкарыстаныя крыніцы.

За беларусізацыяй Мікалай Вакар пераходзіць да рэпрэсіяў, паказвае *"рэарыентацыю беларускай літаратуры"* на сацыялістычныя рэйкі й *"сталінізацыю нацыяналізму"*. Выклад досыць інфармацыйны й узважаны, хоць не безь недакладнасьцяў, якія сьведчаць пра слабую абазнанасьць у закранутай тэме. Вось заяўлена, што Акадэмія навук *"узялася перапісваць беларускую гісторыю"*, пасьля чаго, бяз прыкладаў, сьцьвярджаецца, нібыта тэрмін *"крывіч"* тады *"зноў зьявіўся ў літаратуры"*, каб мацаваць перакананьне, што *"Беларусь ніколі ні культурна, ні гістарычна ня мела шмат агульнага з Расеяй"* (с. 142). Мітрафан Доўнар-Запольскі як *"заснавальнік беларускай нацыяналістычнай дактрыны"*, паводле аўтара, памёр, быццам, у *"канцэнтрацыйным лягеры"* й да т. п.

Больш пазытыўнае ўражаньне пакідаюць апошнія разьдзелы кнігі — "Узьяднаньне" (с. 155—169), у якім разгледжанае ўключэньне Заходняй Беларусі ў БССР, чысткі й саветызацыя (праўда, пішучы пра падзел польскай дзяржавы, аўтар нават не згадаў пакту Молатава — Рыбэнтропа), і асабліва асьвятленьне падзеяў Другой сусьветнай вайны на беларускіх землях ("Нямецкая акупацыя", с. 170—190, і "Партызанская вайна", с 191—206). Мікалай Вакар выкарыстаў тут сьведчаньні ўдзель-

нікаў падзеяў, якія потым апынуліся на эміграцыі, так што яго выклад шмат у чым падаецца й сёньня каштоўным. Затое заключны разьдзел "Саветы зноў" (с. 207—225) чытача хутчэй расчаруе, чым задаволіць. Часткова яго малазьмястоўнасьць можна апраўдаць недаступнасьцю зьвестак пра паваенную Беларусь. Можа, таму амаль палову гэтага разьдзелу дасьледчык прысьвяціў *"беларускаму нацыяналізму на эміграцыі"* (с. 219—225), дзе зноў лёгка адчуць ягоны рэсантымэнт да дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Думаю, што аўтар мусіў бы завяршаць не размовай пра беларускую эміграцыю, а ўсё ж паклапаціцца пра агульнае падсумаваньне вынікаў сваёй працы — прапанаваць абагулены погляд на пачаткі й актуальны стан фармаваньня беларускай нацыі. На жаль гэтага ў кнізе няма.

Напрыканцы трэба адзначыць Вакарову манеру выкладаньня матэрыялу, якая часта не дазваляе разабрацца, што з напісанага ім адпавядае фактам. У тэксьце шмат выказваньняў аўтар браў у двухкосьсе, як цытаты, г. зн. яны прыпісваліся іншаму, але ў многіх выпадках спасылак няма, а нават калі ёсьць, то далёка не заўсёды ўдаецца ідэнтыфікаваць працу пазначанага аўтара й пераканацца, што нічога не наблытана. Магчымасьць вэрыфікацыі многіх тэзаў Мікалая Вакара ўскладняе й прынятая ім сыстэма спасылак. Аўтар патлумачыў у прадмове, што ў працы выкарыстаны больш за 2 тысячы пазыцыяў, таму, маўляў, *"дзеля ашчаджэньня месца"* (с. VII), ён падае толькі прозьвішча й нумар пазыцыі ў бібліяграфічным даведніку, апублікаваным асобна[17]. Вось у гэтым і нязручнасьць! Да таго ж у большасьці выпадкаў не названыя старонкі, так што праверыць практычна немагчыма. Застаецца верыць Мікалаю Вакару, а з даверам, як можна было пераканацца, праблема...

Чытаючы кнігу Мікалая Вакара, немагчыма не адчуць, што аўтар выразна супрацьпастаўляў сябе беларускім гісторыкам, нават акадэмічным — тым, што спэцыялізаваліся на вывучэньні беларускага мінулага й найбольш напісалі пра яго. Дзе адкрыта, дзе больш прыхавана ён ставіў сябе ў апазыцыю да тых, каго найчасьцей называе *"беларускімі нацыяналістамі"*, а радзей згадвае як *"беларускіх гісторыкаў"* або *"навукоўцаў"*. Пра гэтую асаблівасьць падыходу аўтара добра выказаўся ў рэцэнзіі згаданы вышэй Алесь Марговіч. Адзначыўшы, што для Мікалая Вакара крытэрам аўтарытэтнасьці гісторыкаў стала не навуковая якасьць працаў, а іх нацыянальная ці групавая прыналежнасьць, і што беларускіх аўтараў ён звычайна называе *"нацыяналістамі"* ці *"нацыяналістычнымі"* гісторыкамі і не згаджаецца зь імі, рэцэнзэнт справядліва падзівіўся: хіба ж Пампей Бацюшкаў ці Сяргей Салаўёў, на

[17] Vakar, Nicholas P. A Bibliographical Guide to Belorussia. Cambrige (Mass.): Harvard University Press, 1956. 63 p.

якіх часта спасылаўся Вакар, былі меншымі расейскімі нацыяналістамі, чым Мітрафан Доўнар-Запольскі або Ўсевалад Ігнатоўскі беларускімі?[18]

Калі Мікалай Вакар так не любіў *"беларускага нацыяналізму"*, адкуль жа ўзялася ягоная цікавасьць да беларускага мінулага? У ягонай біяграфіі не знаходжу ніякіх падказак. Паходзіў з расейскіх дваранаў (нарадзіўся ў Падольскай губэрні, на поўдні цяперашняй Украіны), вучыўся ў Кіеве, перад Першай сусьветнай вайной пасьпеў адвучыцца год на юрыдычным факультэце Маскоўскага ўнівэрсытэту. У вайну пайшоў добраахвотнікам на фронт, а пасьля рэвалюцыі стаў актыўным праціўнікам бальшавікоў, удзельнічаў у грамадзянскай вайне. У 1920 г. разам з рэшткамі арміі генэрала Дзянікіна эміграваў у Парыж, а адтуль у 1940 г. — у ЗША. Там скончыў Гарвардзкі ўнівэрсытэт, абараніў доктарскую дысэртацыю па славянскай філялёгіі й да 1960 г. выкладаў — пераважна расейскую мову й літаратуру. За амэрыканскі пэрыяд жыцьця апублікаваў пару дзясяткаў навуковых працаў, зь якіх усяго некалькі былі прысьвечаныя Беларусі. Цікава, што ў аўтабіяграфіі ён сам характарызаваў *"Belorussia: The Making of a Nation"* толькі як адну са сваіх *"некалькіх кніг"*, і нічога асаблівага зь ёю ня зьвязваў. Яго больш кранала рэакцыя расейскай эміграцыі на другую кнігу — *"The Taproot of Soviet Society: The Impact of Russia's Peasant Culture upon the Soviet State"* (New York, 1962), якую ў расейскім эміграцыйным друку называлі *"маральна несправядлівай і палітычна шкоднай"*, так што аўтару давялося тлумачыць сваю пазыцыю. А вось пра стаўленьне беларускай эміграцыі да першай кнігі ён, здаецца, нават ня згадваў, хоць крытычных галасоў, як гаварылася вышэй, было дастаткова. Зноў рэсантымэнт, праяўлены праз ігнараваньне?

Яшчэ раз вяртаючыся да біяграфіі Мікалая Вакара, вылучаю тое, што, як мне здаецца, можа дапамагчы зразумець матрыцу ягоных поглядаў на Беларусь. У 1917—1919 гг. будучы гісторык належаў да таемнай арганізацыі белых, створанай у Кіеве, якая ставіла адной з задачаў барацьбу з украінскім рухам (*"с украинствующими"*). А на эміграцыі трымаў кантакты з прадстаўнікамі расейскай эліты (вялікім князем Дзьмітрыем Паўлавічам Раманавым, князем Сяргеем Сяргеевічам Абаленскім і інш.), якія паводле арыентацыі былі пераважна манархістамі. Так што словы Вітаўта Тумаша пра *"расейскага вялікадзяржаўніка"* — ня толькі выражэньне ягонага асабістага стаўленьня да Мікалая Вакара. Гэта, калі хочаце, мэтафарычнае азначэньне ягонай гістарычнай парадыгмы.

Скончыць гэтыя развагі хацеў бы словамі ведамага беларускага пісьменьніка й грамадзкага дзеяча на эміграцыі Кастуся Акулы. У адным зь лістоў да старшыні БІНІМу Вітаўта Тумаша ён адзначыў, што

---

[18] Марговіч, Алесь. Кніга аб Беларусі ў ангельскай мове… С. 179.

так, *“Вакарова кніга нарабіла нам многа шкоды. Але мы не зрабілі нічога, каб выказаць сваё ды паставіць такую працу на полкі бібліятэк”*[19]. Трапнае й справядлівае прызнаньне. Пакуль яно актуальнае, мы ня маем права наракаць на тое, што ў заходніх унівэрсытэтах вобраз Беларусі можа задаваць састарэлая кніга Мікалая Вакара.

[19] За копію ліста дзякую Лявону Юрэвічу.

*Публікацыі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*
***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ЛЕАНІД ГАЛЯК

Нэкралёгі ў газэтах "Бацькаўшчына" й "Беларус" — найважнейшая й найгалоўнейшая крыніца біяграфічнай інфармацыі пра эмігрантаў. Да іх зьвяртаесься, калі не стае дакумэнтаў, архіваў ці хоць бы ліставаньня. Наяўнасьць у газэтах нэкралёгу — шанцаваньне дасьледніка, а калі знаходкі дзьве — неверагодная ўдача.

Два нэкралёгі былі зьмешчаныя й на сьмерць Леаніда Галяка.

Першы — афіцыйны, ад арганізацыі:

*"Сьвятой памяці Леанід Галяк, былы судзьдзя Менскае акругі, адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар газэты "Беларус" у 1950—1951 годзе.*

*Нарадзіўся 31 кастрычніка 1910 г. у Вільні, памёр 3 кастрычніка 1980 г. у Стамфардзе, штат Канэктыкэт, ЗША. Пахаваны на беларускіх магілках у Іст Брансьвіку, Нью Джэрзі.*

*Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня дзеліць сум ды выказвае шчырыя спачуваньні сям'і Нябожчыка"*[1].

Другі — прыватны, ад сябры:

"*Неспадзявана мы страцілі сьветлай памяці Леаніда Галяка, адданага працаўніка на роднай ніве. Нарадзіўся 31 кастрычніка 1910 году ў Вільні, памёр 3 красавіка 1980 году ў Стамфардзе ў ЗША.*

*Шчырае спачуваньне выказвае Жонцы, Дачцы, Родным і Знаёмым Сям'я М. Паньковых.*

*У дальнай дарозе — прысталі ногі,*
*У чужых вятрох — змарылася сэрца*"[2].

Два (!) нэкралёгі, і фактычна нічога — у некалі ім заснаванай і рэдагаванай газэце — не сказана. Зрэшты, у "Беларускай Думцы", выдаванай у Саўт-Рывэры й зь якой супрацоўнічаў Галяк, не было надрукавана нават гэтулькі.

*"Я, Леанід Галяк, сын Яна і Аўгеньні, нарадзіўся 18 кастрычніка (ст.ст.), а 31 кастрычніка ў пералічэньні на новы (грыгарыянскі)*

---

[1] Беларус. № 276. Красавік 1980. С. 6.

[2] Беларус. № 277. Травень 1980. С. 6.



Леанід Галяк

*стыль у 1910 годзе ў сталічным горадзе Вільні, на Зарэччы — частцы гораду за ракой Вілейкай, у частцы Зарэчча, называнай Папоўшчынай, на Папоўскай вуліцы ў доме Буйкі. Частка гораду называлася Папоўшчынай дзеля таго, што ўся зямля ў гэтай ваколіцы належала да Съв. Духавага манастыра, паходзячы з розных магнацкіх запісаў-падарункаў. Папоўшчына пачыналася больш-менш ад зарэчнага рынку і ляжала ў вілах, агранічаная з правага боку Полацкай вуліцай, а тады Полацкім трактам (тракт Батора за польскіх часоў), а зь левага боку Папоўскай вуліцай, што ляжала насупроць Бэрнардынскага саду, уздоўж Вілейкі, і далей жыдоўскім могільнікам, і даходзіла да Роўнага Поля (такі быў назоў вуліцы і ваколіцы)"*[3].

Так пачынаюцца ўспаміны актыўнага ў першы паваенны час, у лягерах для перамешчаных асобаў і па прыезьдзе ў Амэрыку, дзейнага, а што больш істотна (і не сынанімічна, на жаль, асабліва ў эміграцыйных варунках) плённага дзеяча Леаніда Галяка.

Безаблічнае "дзеяч" у дачыненьні гэтага чалавека ўбірае ў сябе неверагодна шмат: прафэсійнага юрыста, стваральніка першага беларускага перакладнога юрыдычнага слоўніка; перакладчыка сярэднявечных легендаў і кнігаў Бібліі, гісторыка. Таксама журналіста: аднаго з заснавальнікаў Саюзу беларускіх журналістаў на эміграцыі й першага рэдактара нью-ёрскай газэты "Беларус", стваральніка й рэдактара "Летапісу беларускай эміграцыі". А яшчэ й палітыка: сябры Рады БНР (аўтара праекту Канстытуцыі БНР, ня менш!) і Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня... які ў сярэдзіне 1950-х пакінуў тыя арганізацыі й зачыніўся ў сваім доме ў Стэмфардзе, штат Канэтыкут.

Гэта быў далёка ня першы раз, калі нехта ірваў сувязь з грамадою. У пераважнай большасьці выпадкаў тое быў разрыў адначасна й зь беларускай справаю — у высокім значэньні выразу, і з уласнай творчасьцю (згадайма, напрыклад, колішняга дырэктара БІНіМу, ведамага даваеннага празаіка й літаратурнага функцыянэра Янку Ліманоўскага). Леанід Галяк жа быў цалкам самадастатковай асобаю, якой не патрэбныя зьнешнія мыліцы, каб заставацца беларусам. Нават болей: менавіта адышоўшы ад згаданых арганізацыяў, ад усіх тых закалотаў, сварак, інтрыгаў, ён займеў час для стварэньня сваіх найгалоўнейшых рэчаў.

Леанід Галяк працаваў шмат, але выдаваць не сьпяшаўся: пераважная частка ягонай спадчыны пабачыла сьвет па сьмерці аўтара ў 1980 г.,

[3] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. I. ЗША, 1982. С. 5.

дзякуючы намаганьням жонкі Раісы й сяброў-паплечнікаў, найперш Васіля Шчэцькі, а таксама Міколы Панькова.

Ягоныя працы застаюцца быццам дасягальнымі, але разам з тым бадай няведамымі, успаміны — не перавыдадзенымі, а імя — проста хіба яшчэ адным у шэрагу іншых на эміграцыі, за якім не стаіць зьдзейсьненае, урэчаісьненае. Таму наважымся парушыць спакой стэмфардзкага пустэльніка, такі любімы й даражоны ім, і нагадаць пра існаваньне ў айчыннай гісторыі яшчэ аднаго дзеяча, вартага памяці на яе скрыжалях. І хіба ў першую чаргу — дзякуючы ягоным "Успамінам", пра якія Юры Туронак у лісьце да Раісы Галяк пісаў (04.03.1985): *"Павінен выказаць Вам глыбокую ўдзячнасьць за выданьне «Ўспамінаў». Цяжка пераацаніць іх вартасьць і значэньне для вывучэньня нашай навейшай гісторыі. Перш за ўсё безьліч фактаў, канкрэтных здарэньняў і параўнальна няшмат рознай «лірыкі». Адчуваецца рука юрыста"*[4].

Літаратура беларускае эміграцыі — гэта найперш літаратура мэмуараў і чалавечых дакумэнтаў, што праўда, вельмі разнастайных: ад "На крыжовай дарозе" Аўгена Калубовіча[5] й "Кітай — Сібір — Масква" айца Язэпа Германовіча[6] да "Дзейнасьці Кастуся Мерляка на эміграцыі: праніклівасьць і практычны падыход" Кастуся Мерляка[7], ад мужчынскіх раманаў Масея Сяднёва й Кастуся Акулы да жаночай літаратуры: успамінаў Юліяны Вітан-Дубейкаўскай[8] і сясьцёр Каткавічанак[9], аўтабіяграфіі Натальлі Арсеньневай[10], дзёньнікаў Зоры Кіпель[11].

Эмігранты — пісьменьнікі, палітыкі, грамадзкія дзеячы — стварылі моцную мэмуарную літаратуру, асобныя творы якой прыйшлі да чытача параўнаўча нядаўна: Яўхіма Кіпеля "Эпізоды"[12], Барыса Данілюка

---

[4] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 26. Чэрвень 1985. С. 44.

[5] Калубовіч, Аўген. На крыжовай дарозе: Успаміны. Кліўлэнд, 1986. 252 с. Перавыданьне: Калубовіч, А. На крыжовай дарозе: Творы з эміграцыі. Мінск: Бацькаўшчына, 1994. 318 с.

[6] Гэрмановіч, Язэп. Кітай — Сібір — Масква (Успаміны). Мюнхэн, 1962. 292 с.

[7] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на Эміграцыі: Праніклівасьць і практычны падыход. Нью-Ёрк, 1992. 476 с.

[8] Вітан-Дубейкаўская, Юліяна. Мае ўспаміны. Вільня, 1994. 190 с.

[9] Катковіч, Анеля, Катковіч-Клентак, Вэраніка. Успаміны. Беласток: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 1999. 142 с.

[10] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 242—243

[11] Кіпель, Зора. Дні аднаго жыцця...: успаміны, артыкулы, дзённікі. Мінск: Зміцер Колас, 2010. 936 с.

[12] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью-Ёрк: выдавецтва газэты "Беларус", 1998. 305 с.; другое выданьне: Мінск: Лімарыус, 2013. 388 с.

“Азіраючыся расой выетымі вачыма”[13], Язэпа Гладкага “Чутае — бачанае — перажытае”[14], Сьвятаслава Шабовіча “З фальварку Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў”[15], айца Лява Гарошкі “Праз навальніцы й нягоды”[16], трохтамовая сага сям’і Стагановічаў[17] ды іншыя.

Сярод іх і двухтамовік Леаніда Галяка, цудоўных паводле зьместу і мовы ўспамінаў, даволі нехарактэрных для эміграцыйнай мэмуарыстыкі ды ў нечым блізкіх у духу да “Майго мястэчка” Васіля Сініцы-Стомы[18]. Але калі бальшыня мэмуарных тэкстаў была выдадзеная ці перавыдадзеныя ў Беларусі, успаміны Галяка да нядаўняга часу былі ведамыя хіба толькі паводле пачатных разьдзелаў (менш за 60 старонак) на “Беларускай палічцы” (*knihi.com*)[19].

Як слушна зазначыў дасьледнік мэмуарыстыкі Андрэй Тартакоўскі, *“калі лічыць агульнапрызнаным, што памяць — аснова культуры, то гэтак жа відавочна, што мэмуарыстыка ёсьць сутнасьцю ўрэчаісьненая гістарычная памяць, адзін са сродкаў духоўнай пераемнасьці пакаленьняў і адзін з паказчыкаў узроўню цывілізаванасьці грамадзтва, яго сьведамага стаўленьня да свайго мінулага, а такім чынам, і да свайго быцьця наагул. У мэмуарыстыцы знаходзяць адлюстраваньне пераломныя этапы разумовага разьвіцьця асобы, разуменьня ёю «сябе ў сьвеце» й «сьвету ў сабе», а клясічныя, вяршынныя ўзоры мэмуарнага жанру пазначаюць вехі ў духоўным засваеньні чалавекам рэчаіснасьці”*[20].

Увага да мэмуараў, шанаваньне іх у сукупнасьці з разуменьнем іх значнасьці ня толькі як гістарычных помнікаў — яскравы паказьнік нацыі, якая адбылася.

Уласны радавод важны й неабходны самому аўтару: пачатковы разьдзел пад сымбалічным назовам “Карэньне” Леанід Галяк прысьвячае сваім вытокам, дзядам і бацькам, ды *“першым успамінам”*.

---

[13] Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма. Успаміны. Мінск, 2012. 524 с.

[14] Варлыга, Адам. Чутае, бачанае, перажытае // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 14—262

[15] Шабовіч, Святаслаў. Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа. Мінск: Кнігазбор, 2015. 260 с.

[16] Гарошка, Леў а. Праз навальніцы і нягоды. Успаміны // Запісы БІНіМ. № 38. Нью-Ёрк — Менск, 2016. С. 178—367.

[17] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск: Лімарыус, 2011. 270 с.; Стагановіч, Марыя. Мае ўспаміны. Мінск: Лімарыус, 2012. 200 с.; Стагановіч, Тамара. Абрэзкі з мінулых гадоў. Мінск: Кнігазбор, 2018. 564 с.

[18] Стома, Васіль. Маё мястэчка. Мінск: Лімарыус, 2014. 292 с.

[19] Поўны тэкст ўспамінаў Леаніда Галяка зьявіўся ў сеціве толькі ў 2021 г. на старонцы http://pawet.net.

[20] Вопросы литературы. № 1. 1999. С. 35.

Наагул жа “Ўспаміны” можна падзяліць на чатыры няроўныя часткі, адрозныя ня толькі памерам ды храналёгіяй, але й стылем.

Першая — хіба найбольшая, утульная, як старадаўнія вулачкі Вільні, якой і прысьвечаная; сьветлая, нягледзячы на далёка не бесклапотнае тагачаснае жыцьцё. Гэта разьдзел пра Віленскую беларускую гімназію, пры адсутнасьці па сёньня манаграфіі пра гэтую знакавую ўстанову — бясцэнны, і навучаньне ў Віленскім унівэрсытэце ды вельмі рэдкія, калі не вынятковыя ў беларускай мэмуарыстыцы, згадкі пра тагачасную аплікатуру зь цікавымі прыкладамі судовых справаў (прыкладам, Уладзімера Самойлы vs адваката Вішнеўскага).

Ну й, вядома, з партрэтамі віленчукоў: *“Язэп Драздовіч*[21] *быў вельмі калярытнай, цікавай і арыгінальнай фігурай у Вільні; маляваў фантастычна-сымбалічныя абразы, або маляваў жыхароў Марса, Вэнэры і г. д., аб якіх ён меў «вельмі дакладныя інфармацыі» і якімі ён вельмі ахвотна дзяліўся зь іншымі. Апрача маляваньня алейнымі фарбамі Драздовіч быў здольным рысавальнікам тушам, і ў музэі імя Івана Луцкевіча было некалькі альбомаў ягоных рысункаў з Палесься і зарысоўкі нашых замкаў. З замкамі было так, што добра прыгледзеўшыся, можна было пабачыць у заломах муру нейкі твар. (Альбомы забраныя ў 1940 годзе і вывезеныя Саветамі ў Ленінград.)”*[22]

Тут трэба зьвярнуць увагу на адну важную адметнасьць выданьня двутамовіка ўспамінаў Леаніда Галяка. Апекаваўся ім Мікола Панькоў, архівіст, вялікі аматар кнігаў, прычым — як карыстальнік, а ня проста калекцыянэр. Да шэрагу выданьняў зь Беларусі ў сваёй бібліятэцы ён рабіў на друкарцы іменныя паказьнікі і ўкладаў у асобнікі. І ўспаміны Леаніда Галяка, у адрозьненьне ад шмат якіх іншых, а нават і сёньняшніх мэтрапольных, маюць іменныя паказьнікі таксама, а таму знайсьці патрэбнае імя бярэ адно хвільку.

Другая частка — “вызваленьне” Вільні й Менск 1941—1944 гг. Таксама нячастыя ў нашай мэмуарыстыцы побытавыя замалёўкі акупацыйнага гораду й ваколіцаў, з дэталямі і ўнікальнымі зьвесткамі (дзякуючы чаму ўспаміны й былі скарыстаныя для камэнтаваньня “Дзёньніка” Дзьмітрыя Сямёнава) ды такімі вось апісаньнямі характараў:

*“Аднойчы ўвосені зайшоў у судовую канцылярыю, застаў там нейкага даволі плюгава выглядаючага тыпа, які нават не стараўся гаварыць па-беларуску, як гэта рабілі многія ў Менску. Паслухаўшы пару мінут гутаркі, я зразумеў, што гэта нейкі міравы судзьдзя зь недалёкага мястэчка. Калі я зьвярнуў яму ўвагу, што для ўрадоўцаў*

---

[21] **Язэп Драздовіч** (1888—1954), мастак, археоляг, пісьменьнік, этнограф, фальклярыст. У 1920-я гг. выкладаў маляваньне ў Радашковіцкай і Навагрудзкай гімназіях.

[22] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. I. ЗША, 1982. С. 62.

*у ўрадавых справах абавязвае беларуская мова, дык гэты тып вызываючы і далей па-расейску сказаў мне, што, наколькі яму ведама, Немцы ня любяць нацыяналістаў, і парадзіў мне гэта прыняць пад увагу, гаворачы: «мой совет вам только на здоровье». Паколькі падобныя выпадкі здараліся ў мяне даволі часта, бо менчукоў у беларускую веру трэба было цягнуць за вушы, дык я аб гэтым хутка забыўся. Праз пару тыдняў мяне выклікалі ў юрыдычны аддзел Гэнэральнага Камісарыяту да др. Фрыдрыха, які сказаў мне, што паводля атрыманых ім інфармацыяў, я зьяўляюся палякам, а не Беларусам, што наагул ён і сам перад гэтым даходзіў да вывадаў, што ў мяне польская псыхіка, а цяпер ён мае на гэта пацьвярджэньне зусім з другога боку. На маё запытаньне, у чым-жа, паводля яго, выяўляецца мая польская псыхіка, др. Фрыдрых сказаў мне, што палякаў характарызуе іхнае заўсёднае незадавальненьне з існуючага стану, і што гэта самае ён заўважыў у мяне, і прыпомніў, што калі больш месяца таму паказваў мне і іншым судзьдзям праэкт некага нямецкага распараджэньня, зьмяняючага цывільнае права ў Гэнэральным Камісарыяце, дык толькі аднаму мне гэтая зьмена не спадабалася, а ўсе іншыя не знаходзілі словаў пахвалы”*[23].

Выдатны стыліст, Леанід Галяк умее, не даючы ацэнак наўпрост, выказаць сваё стаўленьне да чалавека ці нават значнай гістарычнай падзеі: *“Сьвяткаваньне 25 угодкаў ад заснаваньня Віленскай Беларускай Гімназіі праводзілася вельмі ўрачыста, выступаў хор Менскага тэатру, адбылося ўзнагароджаньне «Крыжамі Заслугі» двох найстарэйшых настаўнікаў гімназіі — сп. Алёны Сакаловай-Лекант*[24] *і кс. Адама Станкевіча. Узнагароды былі ўручаныя асабіста прэзыдэнтам БЦР Радаславам Астроўскім. Пікантнасьць гэтай сцэны ўзнагароджаньня патрапіць ацаніць толькі той, хто ведае, як любіліся кс. Станкевіч з Астроўскім. Я ня ўспомніў у сваім часе, што ў гэтым-жа годзе гэнэральным камісарам Беларусі, гэнэралам паліцыі фон Готбэргам была паклікана да жыцьця Беларуская Цэнтральная Рада, і на чале яе быў пастаўлены выкліканы са Смаленску Радаслаў Астроўскі. Правы яе і абавязкі былі паданыя ў спэцыяльным дэкрэце, выданым фон Готбэргам.*

*Астроўскі выступаў, перавязаны праз плячо вялікай істужкай гэтага ордэну (назову і статуту гэты ордэн ня меў і не займеў*

---

[23] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. I. С. 168.

[24] **Алена Сокалава-Лекант** (1893—1960), настаўніца беларускай мовы й арытмэтыкі ў Віленскай беларускай гімназіі. Уваходзіла ў кіраўніцтва Беларускага прафэсійнага настаўніцкага саюзу. У 1919 г. стала сябрай Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Пасьля 1944 г. рэпрэсаваная савецкімі органамі, высланая. У 1950-я гг. вярнулася ў Вільню.

*і пазьней). Уваход Астроўскага быў папярэджаны зьяўленьнем старшага лейтэнанта А[натоля] Плескачэўскага*[25]*, ад'ютанта прэзыдэнта, які папярэдзіў, што зараз увойдзе прэзыдэнт, і калі сказаў «прашу ўстаць», увайшоў Астроўскі, вітаны гучнымі воплескамі"*[26].

Трэцяя частка (гэта ўжо другі том) — выезд у Нямеччыну й жыцьцё ў лягерах для перамешчаных асобаў. *DP* — больш не няведамая абрэвіятура, якой была на пачатку 1990-х гг. Пра іх — ня толькі клясычная трохтамовая праца Алеся Вініцкага[27], але й шырокі спэктар успамінаў: ад бадзёрага альбому — гістарычнай даведкі Сьвятаслава Каўша "Беларускі лягер у Ватэнштэт" (1981) да параўнаўча нешматлікіх, але поўных трагізму старонак нядаўна выдрукаваных у "Запісах" (№ 39. 2018) успамінаў Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага).

Напісанае Леанідам Галяком таксама ўражвае большай бязвыходнасьцю за аповед пра акупацыйны Менск, а яшчэ той сытуацыяй — па сканчэньні вайны, у беларускіх лягерах, — калі, паводле выразу Юркі Віцьбіча, *"беларус беларусу воўк"*.

Аповед робіцца менш эмацыйным, зьяўляецца *адстароненасьць,* але не губляецца скрупулёзнасьць: што пры апісаньні харчаваньня, што пры пераказе ўчынкаў лягернага актыву. Надзвычай інфарматыўныя гэтыя балючыя 100 старонак, але чытаць іх неабходна: ня толькі для веданьня гісторыі, але й для разуменьня, што й па заканчэньні жудаснай вайны магчыма паўстаньне ня менш пачварнага *валадарства мухаў*.

І наступная, чацьвертая частка, на 50 старонак, ня толькі меншая за папярэднія, але й напісаная іншым стылем, бліжэйшым да дзёньнікавых запісаў. Напэўна, яны гэткімі й былі, і ў будучым меліся быць пашыранымі, разбудаванымі пазьнейшымі рэфлексіямі, але… Хоць у прадмове да першага тому й пісалася, што ўспаміны будуць ахопліваць час да 1980 г., гэтая частка закранае падзеі ад прыезду ў Нью Ёрк (1950 г.) адно па год 1957-ы[28].

Натуральна, шкада, што заўчасная сьмерць не дазволіла Леаніду Галяку давесьці ўспаміны прынамсі да канца 1970-х: хоць аўтар і ады-

---

[25] **Анатоль Плескачэўскі** (1911—1980), грамадзкі дзеяч, у 1944 г. — ад'ютант прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. З 1949 г. жыў у ЗША, браў актыўны ўдзел у працы мясцовых беларускіх арганізацыяў.

[26] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. І. С. 177—178.

[27] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Лёс Анжэлес, 1968.

[28] Неабходна дадаць, што да абодвух тамоў у якасьці дадаткаў падаюцца разнастайныя дакумэнты, у тым ліку "Пратакол Другога Ўсебеларускага кангрэсу ў Менску дня 27 чэрвеня 1944 году".

шоў ад Рады БНР і БАЗА, ён заставаўся ў курсе падзеяў, шмат з кім кантактаваў, і пакінутыя ім сьведчаньні застаюцца важнай крыніцаю па гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША.

Але мусім цешыцца, што яшчэ ў лягерах *DP* Леанід Галяк заснаваў часопіс "Летапіс", які ў Нью-Ёрку па ягонай сьмерці працягвалі выдаваць Васіль Шчэцька й Мікола Панькоў. І дзякуючы гэтаму мы маем прынамсі частку асабістага архіву, якая не згубілася, ня страцілася.

З рэдкага камплекту гэтага выданьня, які перахоўваецца ў зборах Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва, і перадрукоўваем некаторыя лісты.

## Да Станіслава Станкевіча[29]

Стэмфорд, 15.III.52 г.

Паважаны Спадару Доктар!

У сувязі з артыкулам у "Бацькаўшчыне" аб тараканах, трапіўшых у саладуху[30], і адказам аднаго з тараканаў[31], хачу параслаць Вам пару сваіх нагляданьняў у гэтай справе для Вашага прыватнага ведама і эвэнтуальнага выкарыстаньня Вамі.

Мне здаецца, у Эўропе занадта ў ясных колерах ацэніваюць магчымасьці ДП у Амэрыцы, хаця ў запраўднасьці яны не такія ўжо блыскучыя, прымаючы асабліва пад увагу, што пераважаючая большасьць ДП — гэта на сёньняшні дзень некваліфікаваныя работнікі. Бязумоўна, жыцьцёвы штандарт работніка ў Амэрыцы высокі ў параўнаньні зь іншымі краінамі, але і пры гэтым высокім роўні з купляньнем дамоў яшчэ ня так проста.

Я асабіста зарабляю не найгорш, праўдападобна, вышэй, чым сярэдні заробак ДП, прынамсі ў ваколіцах Нью Ёрку, бо пасьля адлічэньня атрымліваю на рукі кожны тыдзень 62 даляры (адлічэньне на падаткі кожны тыдзень 7 даляраў). Вось-жа гэтага даволі высокага заробку мне хапае толькі на скромнае жыцьцё маёй сям'і, і аб куплі дому думаць ня прыходзіцца, бо за паўтары гады майго прабываньня ў Амэрыцы ўсе мае ашчаднасьці — гэта 250 даляраў. Электрычную лядоўку, праўда, купіў, але гэта каштавала мне ўсяго 18 даляраў — ужываная.

---

[29] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 24. Люты 1985. С. 11—14.

[30] Маецца на ўвазе публікацыі: Ст. Крушыніч [Станкевіч, Станіслаў]. Пагоня за далярам, або яшчэ раз аб "тараканох у саладусе" // Бацькаўшчына. № 75. 11 лістапада 1951 г. С. 3—4.

[31] Маецца на ўвазе публікацыя: Г. Няміга [Паланевіч, Гіпаліт]. Аб "Пагоні за далярам" (Адказ сп. Ст. Крушынічу) // Бацькаўшчына. № 7—8 (86—87). 24 лютага 1952 г. С. 5.

Адносна-ж люксовасьці гэтага выдатку можна судзіць толькі, пражыўшы прынамсі тут адно лета. Трэба памятаць, што Нью Ёрк ляжыць на шырыні Рыму, і да гэтага насычанасьць паветра вадзяной парай сягае часта амаль 100 працэнтаў. Зазначаю, што хапае на скромнае жыцьцё, бязь ніякіх эксцэсаў. Як прыклад, падам, што да гэтага часу ня купіў нават цэлага касьцюму, магчыма, праўда, дзеля таго, што ў работніцкім стане не адчуваю патрэбы строіцца па суботах і нядзелях. Ды наагул ад чэрвеня да кастрычніка ходзіцца ў аднэй кашулі. Ясна, гэта тыя, каму дазваляе на гэта сацыяльнае становішча. Ацэньваючы жыцьцё ў Амэрыцы, трэба яшчэ ўзяць пад увагу адсутнасьць дзяржаўнага сацыяльнага забясьпечаньня, за выняткам забясьпечаньня на старасьць (пасьля 65 гадоў) і дапамога для безработных, агранічаная часам, а не бясконцая, як у Нямеччыне (арбайтслёсэ фюрзоргэунтэрштуцунг[32]). Ніякіх дзяржаўных Касаў Хворых няма. Можна, праўда, забясьпечыцца ад хваробаў у прыватных асэкурацыйных установах, але і гэтае забясьпечаньне пабудована інакш, чым, скажам, у Нямеччыне, бо пераважна не пакрывае ўсіх коштаў хваробы, каб не заахвочваць нікога да хваробы. Калі нехта запэўніў сабе, скажам, г. зв. госпіталізэйшн[33], дык гэта дае яму права ляжаць у шпіталі і мець там утрыманьне, права карыстаньня з апэрацыйнае залі, права атрыманьня наркозы, права на лекі. Хаця такая асоба мае права, напр[ыклад], карыстацца з апэрацыйнай залі, дык гэта ня значыць, што госпіталізэйшн уключае і плату за апэрацыю; за апэрацыю або плаціць трэба асобна, або браць у гэтым самым ці іншым асэкурацыйным таварыстве другую палісу, якая запэўняе заплату за апэрацыю (сарджыкал кер[34]). Хаця госпіталізэйшн абымае права на лекі, аднак трэба, каб патрэбныя лекі загадаў выдаць лекар. Ізноў, забясьпечаньне госпіталізэйшн не дае права на лекарскую апеку, за яе трэба плаціць асобна або прыватна або мець палісу, якая абымае мэдыкал кер. Калі забясьпечваюцца сем'і з трох асобаў, дык трэба каля 100 даляраў у год.

Наагул, даляр тут ня мае тае вартасьці, якую мае ў Эўропе. Мне-ж здаецца, што за палову тых даляраў, што я зарабляю тут, я жыў-бы ў Нямеччыне лепш. Наагул, ашчаджаць можна толькі тады, калі ў сям'і ёсьць некалькі працуючых. Тады можна думаць аб доме, а каму галава не дарагая, дык і аб аўце (у мінулым годзе колькасьць забітых аўтамі асягнула, пачынаючы ад першага выпадку, пераваліла першы мільён). Усё-ж справу купляньня аўтаў нельга ацэньваць эўрапейскімі маштабамі. Могуць быць такія выпадкі, што аўта зьяўляецца прадметам першай

[32] ***Arbeitslose vorsorge unterst**ü**tzung*** (ням.) — пенсійнае забесьпячэньне па беспрацоўі.

[33] ***Hospitalization*** (анг.) — шпіталізацыя.

[34] ***Surgical care*** (анг.) — хірургічная дапамога.

патрэбы. Напрыклад, нехта працуе ў начной зьмене на фабрыцы ў адлегласьці некалькі міляў ад дому, калі ня ходзяць аўтабусы. Зрэштай, з аўтам не абавязкова зьвязаны вялікі выдатак, бо аўта можна мець, пачынаючы ад сто даляраў. Калі ходзіць, аднак, пра сяброў з Рады[35], дык гэта толькі тэарэтычныя разважаньні, бо да гэтага часу на паседжаньні Рады ніхто яшчэ аўтам не прыяжджаў. Спадар [Мікола] Кунцэвіч ехаў, праўда, раз на паседжаньне Рады, але не даехаў, бо каля Нью Ёрку на яго наехалі, поўдня папраўляў аўта і вярнуўся дахаты. Таксама і з дамамі. Да гэтага часу зь сяброў Рады ніхто дому ня купіў, апрача Вашага дзядзькі[36], ды і тое цьвердзіць, што купіў на супалку з братам (мусіць, каб людзі не сказалі: *“во багаты”*).

Нягледзячы на ўсё вышэйсказанае, зацемка пра тараканаў у саладусе правільная, бо бязумоўна кажны працуючы мае магчымасьць заплаціць належачыя ад яго складкі. Калі ёсьць інакш, дык прычына гэтага не ў пагоні за далярамі, якой спэцыяльна не наглядаецца, бо ёсьць не пагоня за далярамі, а пагоня за ўтрыманьнем на паверхні. Здараецца, праўда, часам і пагоня за далярамі, як, напрыклад, у выпадку Чыгіровіча[37], які працаваў у мінулым годзе кожны дзень ад цямна да цямна і хацеў пачынаць ад сьвітаньня, але на скаргу ваколічных жыхароў яму забараніла паліцыя працаваць раней 7 гадзін раніцы, каб не перашкаджаць людзям спаць. Ён працаваў пры абшаляваньні дамоў, забіваючы цьвікі, і выганяў у тыдзень па 150 даляраў. Складак, ясна, не плаціў.

Прычыны сучаснага сумнага стану не пагоня за далярамі, але глыбейшая. Прычына гэтая ў тым, што ў нас да гэтага часу, дзеля няспрыяючых абставінаў, ня вытварылася грамадзтва. Мне здаецца, што ў нас яшчэ няма таго, што завецца імем грамадзтва ў іншых народаў. У нас няма грамадзтва як групы з вытваранымі і глыбака ўкаранёнымі паглядамі на пэўны комплекс асноўных праблемаў. У нас фактычна ёсьць толькі адзінкі-атамы. Некаторыя зь іх ужо выказваюць усе азнакі дасьпеласьці да быцьця сябрамі грамадзтва, але дзеля таго, што такіх адзінак мала, дык грамадзяне гэтыя застаюцца без грамадзтва, або лепш — грамадзяне неіснуючага грамадзтва. Для асноўнай-жа масы беларускасьць не зьяўляецца навачасным нацыяналізмам, а носіць характар беларускасьці этнаграфічнага азначэньня. Гэта датычыцца ня толькі да масаў, але і да масаў з дыплёмамі. Адсутнасьць нацыянальнага

[35] Маецца на ўвазе Рада БНР.

[36] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[37] **Янка Чыгіровіч** (1904—1990), удзельнік беларускага жыцьця ў ЗША. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягеры *DP* у Розэнгайме, адкуль з жонкай і трыма дзецьмі ў 1950 г. прыбыў у ЗША. Быў ахвярадаўцам сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

хрыбта, а часам і культурнага, і вытварылі існуючы стан. Каб заспакоіць сваю этнаграфічную беларускасьць, дык хопіць праслухаць купленую плытку зь беларускім сьпевам, але з гэтага зусім не вынікае неабходнасьць даць некалькі даляраў на беларускую палітычную працу, тым больш што гэты дадзены даляр не абяцае працэнтаваць у блізкім часе.

Наагул тут неяк дзіўна складаецца ад самых пачаткаў. Першыя, прыехаўшы сюды як палітычныя эмігранты, так прынамсі яны ўважалі сябе ў Нямеччыне, закладаюць адзіную арганізацыю і называюць яе беларуска-амэрыканскай[38], хоць амэрыканцаў у ёй толькі трое (мінімум, вымаганы законам для залегалізаваньня кожнае арганізацыі). Тлумачэньні прымітыўныя: то — маюць намер абняць і амэрыканцаў, то паклікаюцца на тое, што існуе шмат такіх двунацыянальных арганізацыяў, прысьвечаных ідэі шырэньня міжнароднага сяброўства, то — проста гавораць: так е добра. Цікава, што такі назоў прыйшоў у галаву ня толькі ў Амэрыцы. На мой пагляд, у гэтым назове адбілася падлізьлівая псыхалёгія дый толькі. Яшчэ не пасьпеўшы асесьці, палітычныя эмігранты як мага хутчэй стараюцца атрымаць грамадзянства, хаця, здавалася-б, што іхныя думкі павінны былі-б накіраваныя ў кірунку стварэньня свайго грамадзянства. Сягоньня зьяўляецца фактам, што найвышэйшае беларускае прадстаўніцтва складаецца зь людзей, якія фактычна перасталі быць палітычнымі эмігрантамі і яўна задэманстравалі, што ня вераць у стварэньне собскага грамадзянства. У польскай прэсе ў мінулым годзе вялася дыскусія на гэтую тэму, у нас-жа гэтая справа нікога ня цікавіць, нават у нашай найвышэйшай установе. Спробу ўзьняць дыскусію ў гэтай справе — ніхто не падтрымаў.

Непаважныя адносіны маем і да іншых устаноў. Нягледзячы на тое, што на месцы маецца свой сьвятар, а зрэштай, каб яго і ня было, дык гэта ня было-б яшчэ дастатковай падставай да карыстаньня з паслугаў расейскае царквы. Аднак калі генэральскі сын ажаніўся[39], дык шлюб адбыўся ў расейскай царкве. "Грамадзянства" гэта зусім ня зьдзівіла, наадварот, усе прынялі ў гэтым чынны ўдзел, бязь ніякіх засьцярогаў. Праўда, спадар [Антон] Адамовіч не пайшоў дзеля гэтага ў царкву, але абмежаваўся толькі быцьцём на прыняцьці. Як на асобу, якая часам, здавалася-б, мела быць ідэолёгам беларускага нацыяналізму, дык на мой пагляд, трохі замала. Ужо ў гэтым годзе ажаніўся сп. Васіль Русак[40]

---

[38] Маецца на ўвазе Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне.

[39] Відаць, маецца на ўвазе шлюб Уладзімера Кушаля (сына Франца Кушаля й Натальлі Арсеньневай) і Натальлі Куліковіч (дачкі Міколы Куліковіча-Шчаглова).

[40] **Васіль Русак** (1923—2000), грамадзкі дзеяч. З 1950-х гг. жыў у Нью-Джэрзі, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Джэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, быў актывістам БАПЦ, радным БНР.

з сп. [Галінай] Родзькай[41]. Ізноў у расейскай царкве, і зноў нікога гэта ня зьдзівіла. Заўтра, здаецца, сп. [Васіль] Русак як нованазначаны радны будзе складаць прысягу.

Частка сяброў Рады ніякіх складак ня плаціць і ў ніякае ліставаньне ў гэтай справе не ўступае і на паседжаньнях Рады ня бывае. Другая частка — таксама ня плаціць, але ўдзел у паседжаньнях прымае. Трэцяя частка — плаціць, але ў такой вышыні, што аблічыўшы на падставе заплачаных двух працэнтаў яе заробкаў, дык аказваецца, што зарабляе ў гадзіну менш загвараантаванага мінімуму ў вышыні 75 цэнтаў. Гэтаму цяжка паверыць, бо для гаспадара гэта была-б карная справа. Чацьвертая і найменшая — плаціць у поўным памеры, ясна, што гэта частка найменшая.

У БАЗА на Мангатэне (частка Нью Ёрку) налічваецца больш 75 сяброў. Праводзячы як сябра Рэвізыйнае камісіі рэвізыю, я сьцьвердзіў, што заплачана складак 77 даляраў; выглядала-б, што кажны зь сяброў даў у год трохі больш даляра. У запраўднасьці-ж — горш, гэтыя 77 даляраў заплацілі нешта 6 асобаў, а рэшта праз цэлы год нічога не плаціла. На агульным Кангрэсе БАЗА гэтыя “сябры” выбралі двух сваіх дэлегатаў, якія таксама складак ня плацяць, і правялі два дні ў гутарках аб грамадзкіх справах і, нагаварыўшыся… задаволеныя разышліся. Адбыты Кангрэс называецца “Ўсеамэрыканскім”, але фактычна апрача падньюёрскіх мясцовасьцяў быў толькі сп. [Міхась] Белямук[42] з Кліўлянду, які прывёз паўнамоччы ад 25 дэлегатаў Кліўлянду. Такім чынам, меў як-бы права вэта, бо на салі ўсяго было асобаў з 25.

Салідна адносіцца да сваіх абавязкаў якая можа пятая частка, але ясна, выцягнуць ня можа, бо адпрацаваўшы свае гадзіны (у маім выпадку 9 з паловай, а ўлічыўшы паўгадзінны абед — 10 гадзінаў), чуецца дастаткова зморанай.

Як будуць разьвівацца падзеі далей — цяжка сказаць, думаю, што ў вызначаным кірунку, калі ня зьменяцца вонкавыя абставіны або нутраны падыход, на што цяжэй разьлічваць.

---

[41] **Галіна Русак** (дзяв. **Родзька**, 1928—2000), грамадзкая дзяячка, мастачка. Вучылася ва ўнівэрсытэце *UNRRA* ў Мюнхэне. Пазьней пераехала ў ЗША. Працавала дырэктаркай Мастацкай бібліятэкі Ратгерскага ўнівэрсытэту (Нью-Брансўік). Экспанавала свае жывапісныя працы ў прэстыжных мастацкіх галерэях ЗША. Была сябрай Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі, яе жаночых структураў.

[42] **Міхась Белямук** (1924—2014), грамадзкі дзеяч. З 1949 г. жыў у Кліўлэндзе (ЗША). Узначальваў Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы. Адзін з заснавальнікаў часопісу “Полацак”. Аўтар кніг “Вытокі беларускіх пячаткаў” (Кліўлэнд, 1986), “Свайго лёсу не мінеш” (Вільня, 2006), “Нумізматыка. Сфагістыка. Успаміны” (Мінск, 2010).

Вельмі цешуся, што “Бацькаўшчына” добра разьвіваецца. На жаль, не магу пахваліцца сваёй газэтай[43], бо супрацоўнікаў амаль як няма. У апошнім нумары пісаў трохі [Гіпаліт] Паланевіч[44], а так нікога немагчыма дапрасіцца, тымбольш што ёсьць і такія, што пішуць выключна ў тыя газэты, якія самыя рэдагуюць, а ўсіх іншых лічуць “бязграматнымі”.

На гэты раз хопіць. Магчыма, што справы выглядаюць інакш, але кожны бачыць па-свойму.

Прывітаньні сяброム!

З пашанаю, Ваш Л[еанід] Галяк

## Да Вацлава Пануцэвіча[45]

Стэмфорд, 1 лютага 74

Дарагі Вака!

Дзякую за калядныя павіншаваньні. Запраўды, дзеля працы для хлеба застаецца вельмі мала часу на жыцьцё, ды і колькі таго ўжо засталося. Нашае пакаленьне ўжо вымірае згодна з устаноўленым парадкам. Недзе ў канцы мінулага году памёр у Вільні Янка Шутовіч[46].

Я згодны, што ініцыятыву моладзі, а таксама і ня моладзі трэба вітаць, калі можна гэтую ініцыятыву ацаніць пазытыўна. Я павінен, аднак, сказаць, што гэтыя выдавецтвы моладзі робяць на мяне цяжкое ўражаньне, бо тая моладзь не такая ўжо маладая, паканчала ўнівэрсытэты, а зьмест часапісу на роўні вучнёўскага часапісу шостай клясы гімназіі.

Пра ўсю нашую эміграцыю трэба сказаць за [Адамам] Міцкевічам[47] *“вельцы ойцове бездетні”*[48], бо хоць фізычна эміграцыя і не бязьдзетная, аднак бязьдзетная ў тым сэньсе, што існуючыя дзеці ў ніякім выпадку ня здольныя заступіць сваіх бацькоў нават на той мізэрнай інтэлекту-

---

[43] Маецца на ўвазе газэта “Беларус”.

[44] **Гіпаліт Паланевіч** (1907—1997), грамадзка-культурны дзеяч, пэдагог, гісторык. З 1950 г. жыў у Нью-Ёрку (ЗША). У 1962 г. атрымаў унівэрсытэцкі дыплём у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спэцыяльнасьці. Быў стваральнікам газэты “Беларус” разам з М. Кунцэвічам. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Аўтар шэрагу публікацыяў па гісторыі Беларусі.

[45] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 25. Красавік 1985. С. 30.

[46] **Янка Шутовіч** (1904—1973), грамадзкі й культурны дзеяч, літаратуразнаўца, выдавец. У 1935—1939 гг. быў выдаўцом і рэдактарам часопісу “Калосьсе”.

[47] **Адам Міцкевіч** (1798—1855), беларуска-польскі паэт, публіцыст, дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

[48] ***Wielcy ojcowie — biezdzietny*** (польск.) — *вялікія бацькі — бязьдзетныя*. Словы з паэмы Адама Міцкевіча “Конрад Валенрод”.

альнай роўні, не гаворачы ўжо аб тым, каб сваіх бацькоў перавысіць. Я ў асноўным больш схільны вінаваціць за гэта не дзяцей, а бацькоў, бо ў асноўным, як кажа нашая пагаворка, — яблык падае не далёка ад яблыні. Пагаворка ў папулярнай форме выражае прыняты цяпер навуковы пагляд, што гэнэтычны матэрыял бацькоў на 80 працэнтаў вызначае асабовасьць дзяцей. Відаць, што гэты гэнэтычны матэрыял не найлепшы. Чаму гэтак ёсьць, дык гэта ўжо іншая праблема. Найлепш гэтую гэнэтычную дэфэктыўнасьць уняла ў паэтычнай форме тая фольксдойчка[49] — *"неяк самі хіляцца плечы"*. Праўда, можна на гэта сказаць, што калі плечы хіляцца самі, дык няма каго і вінаваціць, хіба лёс.

Я згодны, што ў часапісе не адчуваецца духовага лідэра, але ў гэтым ужо моладзь не вінаватая, бо дзе-ж тыя лідэры ёсьць? Лідэраў рэдка даюць выбары, лідэрскі тытул можна атрымаць і ў тэстамэньце, а праз гэта яшчэ не стацца лідэрам. Наагул, можа й лепш, каб моладзь з існуючых ахвотнікаў на лідэрства не карыстала, бо хаця старэйшае пакаленьне і стаіць вышэй інтэлектуальна, аднак у галіне грамадзкай як найменш брала прыкладу з бацькоў як груба зматэрыялізаванай, апартуністычнай групы, якая з аднолькавым энтузыязмам гатова энтузыявацца кажнай ідэяй, якая паходзіць ад актуальнага на даны пэрыяд капрала з палкай ці грашовай торбай.

Тут па рукох ходзяць цяпер фотакопіі Тваёй перапіскі з Ст[аніславам] Грынкевічам, Ст[аніславам] Станкевічам, В[ітаўтам] Тумашам і інш. Меў няпрыемнасьць з гэтай перапіскай пазнаёміцца.

Насоўваецца мне думка аб існаваньні ў людзей некалькіх душаў (калі тэалёгія гэта дапушчае) — беларускай і каталіцкай (існуюць і беларускія і праваслаўныя) — і, на жаль, часта гэтыя праваслаўныя ці каталіцкія душы пануюць над беларускай. Зрэшты, мне здаецца, што тэалёгічна гэта правільна, бо рэчы дачасныя ня могуць быць важнейшымі за вечныя, а рэлігія-ж займаецца рэчамі вечнымі. Іншая рэч, што ўсе нашы суседзі ўжо з гэтай дзіцячай хваробы выраслі і не ідэнтыфікуюць інтарэсаў паасобных рэлігійных групаў з інтарэсамі цэласьці, нават калі гэтая рэлігійная група і "адзіна праўдзівая". Уся гэтая перапіска робіць уражаньне нейкага архаізму з XVII стагодзьдзя, і проста дзіўна, скуль у вас (Цябе і Грынкевіча) гэта ўзялося? Скуль столькі ненавісьці? У Цябе яшчэ можна вытлумачыць польска-каталіцкай прамыўкай мазгоў у сэмінарыі.

Прывітаньне ўсім хатнім.

За дзячкоў Галякоў

---

[49] Магчыма, маецца на ўвазе **Вольга Таполя** (сапр. **Зубко**, у замустве **Штайнвэг**, 1912—?), пісьменьніца. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў "Беларускай газэце", у выдавецтве "Менск". З 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў баварскім Лавінгене, пазьней у лягеры Ватэнштэт. Друкавалася ў беларускіх эміграцыйных пэрыёдыках. У 1948 г. вярнулася ў БССР.

## *Публікацыі*

**_Лявон Юрэвіч_**
*Нью-Ёрк*

# УЛАДЗІМЕР КАРАТКЕВІЧ І ЎОШЫНГТАН ІРВІНГ

### *Як кажуць, да пастаноўкі пытаньня*

Ад XVI стагодзьдзя, ад “Хрыста...”[1] й “Ладзьдзі роспачы”[2] — да стагодзьдзя XIX, яго астачы ў аповесьці “Дзікае паляваньне караля Стаха”... Чарговы раз задамося, перафразуючы Барыса Эйхенбаўма, пытаньнем: з чаго-ж зроблены яе жупан?

Бадай кожны школьнік, прачытаўшы “Дзікае паляваньне...” Ўладзімера Караткевіча, у свой час пачуваўся гэткім кампаратывістам, салідарызуючыся з сур’ёзнымі дасьледнікамі творчасьці пісьменьніка: *“Сляды ўплыву шырока вядомага апавядання Конан-Дойла “Сабака Баскервіляў” адчуваецца ў аповесці “Дзікае паляванне караля Стаха”. [...] Аповесць “Дзікае паляванне караля Стаха” толькі знешне падобна да твора Конан-Дойла. Выкарыстаўшы законы і прыёмы дэтэктыўнага жанру, Уладзімір Караткевіч здолеў паказаць беларускае грамадства 80-х гадоў XIX стагоддзя ў яго гістарычнай, культурнай і нацыянальнай спецыфіцы. Андрэй Беларэцкі не проста выкрывае таямнічыя і злыя сілы, а змагаецца з імі. І дасягае перамогі над імі разам з сялянамі, з тым жа народам, вуснапаэтычную творчасць якога ён даследуе і з якім цесна звязаны”*[3].

І падабенства сапраўды праглядаецца (тым болей што й Шэрлак Голмз ня проста выкрываў таямнічыя й злыя сілы, але таксама зацята змагаўся зь імі). Толькі, думаецца, ня там (ці прынамсі ня толькі там) шукаў крыніцы натхненьня і ўзоры насьледаваньня пісьменьнік, чый творчы мэтад, ідэйны й мастацкі кірунак сталіся агульным месцам

[1] Юрэвіч, Лявон. Трэцяя крыніца і трэці складнік раману “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” Ўладзімера Караткевіча // Юрэвіч, Лявон. Літштудыі. Мінск, 2017. С. 154—162.

[2] Юрэвіч, Лявон. Перахітрыць Смерць. Да генэзы “Ладдзі Роспачы” Ул. Караткевіча: пошукі першакрыніцаў // Дзеяслоў. № 4 (101). Ліпень — жнівень 2019. С. 200—204.

[3] Верабей, Анатоль. Уладзімір Караткевіч. Жыццё і творчасць. Мінск, 2005.

у беларускім літаратуразнаўстве: *"Даследчыкі творчасці У. Караткевіча (А. Мальдзіс, А. Верабей, А. Русецкі, В. Шынкарэнка) слушна заўважылі, што У. Караткевіч выбраў для сябе спэцыфічную разнавіднасць гістарычнага жанру. Калі беларуская проза дасягнула значнай рэалістычнай глыбіні ў паказе навакольнай рэчасінасці, ён у сваіх творах быццам насуперак гэтай традыцыі зрабіў круты паварот да адкрытага рамантычнага паказу мінулага беларускага краю"*[4].

Побач зь ягоным імем часта пішацца пра *"першы беларускі гістарычны раман"*, яго называюць *"першым беларускім пісьменьнікам, які зьвярнуўся да жанру гістарычнага дэтэктыву"*; таму здаецца — паўтор неабходны, бо тымчасам гэта адно гіпотэза (думка ў прастамоўі) — што Караткевіч праз смугу стагодзьдзяў выглядаў кагосьці зусім іншага, блізкага сабе: такога ж, як і ён, рамантыка, і таксама першага ў сваім.

Ўошынгтан Ірвінг (*Washington Irving*, 1783—1859).

Першы народжаны на амэрыканскай зямлі пісьменьнік, гісторык, эсэіст (і нават дыплямат), якога называюць бацькам амэрыканскай літаратуры. Пісьменьнік-раманіст, ведамы сваімі біяграфіямі Магамэта, Калюмба й Нью-Ёрку, гістарычнымі аповесьцямі пра Гішпанію XV стагодзьдзя, Альгамбру й гэткімі культавымі творамі, як "Рып Вэн Ўінкл" ды "Легенда пра Сонную Лагчыну" з "Кнігі накідаў" (*"The Sketch Book of Geoffrey Crayon, Gent."*). Гэта быў першы амэрыканец, які зарабляў на пражыцьцё пяром, і першы айчынны аўтар бэстсэлераў. Палітыкі шукалі зь ім знаёмства, кабеты змагаліся за ягоную ўвагу, аматары прыгожага слова аздаблялі сьцены партрэтамі пісьменьніка (які да ўсяго выглядаў, па сьведчаньні сучасьнікаў, бы для вокладак модных часопісаў... Хоць мо ня ў гэткіх выразах).

У адрозьненьне ад сваіх папярэднікаў, Ірвінг гадаваўся не ў заможнай сям'і: усё, чаго ён дамогся — славы, багацьця, — было выключна дзякуючы напісаным ім творам.

Звычайная, як на сёньня, амэрыканская гісторыя посьпеху — з адным толькі адрозьненьнем: ён быў першым.

Гэты посьпех прыйшоў да Ўошынгтана Ірвінга не адразу, і ведамая дакладная дата пачатку шляху да яго: 23 чэрвеня 1819 г., калі быў надрукаваны том памерам *in octavo*, вынайдзеным славутым італійскім кнігадрукаром Альдам Мануцыем, пад назвай "Кніга накідаў".

Адметнасьць кнігі была тая, што выходзіла яна часткамі. І калі ў лютым наступнага году ў продажы зьявілася шостая частка, дзе трэцяй зь ліку гісторыяй была "Легенда пра Сонную Лагчыну", пісьменьнік прачнуўся, як цяпер кажуць, супэрзоркаю.

---

[4] Уладзімір Караткевіч і сучаснасць. Зборнік артыкулаў. Наваполацк, 2001. С. 14.

Караткевіч пісаў пра сябе: *“...думку аб ім [творы], жаданне напісаць яго ажыўляе, часцей за ўсё, нейкі асобны факт, вычытаны ў хроніцы ці старажытным акце. Для мяне гістарычная рэч пачынае жыць з анекдота (не ў нашым сэнсе, а ў тым, у якім разумелі яго продкі год дзвесце назад: трагічны або вясёлы, але заўсёды сюжэтны і арыгінальны факт з жыцця рэальнай гістарычнай асобы”*[5].

Дык — чаму Ўошынгтан Ірвінг, што ў той “Легендзе...” магло Караткевічу “ажывіць” уласную гісторыю, і пры чым тут нарэшце “Дзікае паляваньне караля Стаха”?

Магчыма, найлепшым адказам на гэтыя пытаньні будзе пераказ — у найлепшых традыцыях айчыннага літаратуразнаўства — твору амэрыканскага пісьменьніка.

Пачаць варта з таго, хоць яно й ня мае непасрэднага дачыненьня да пошукаў паралеляў, што “Легенда...” напісаная не ад імя Ірвінга: твор мае падназоў *“З папераў нябожчыка Дытрыха Нікербокера”*. Такі постмадэрнісцкі прыём з XIX ст. — двайная маска, бо “Кнігу накідаў” напісаў нібыта Джэфры Крэён.

Ужо ў першым абзацы аўтар знаёміць чытача і з мястэчкам Тэрытаўн, і з лагчынаю каля яго: *“Адны кажуць, што даліна была зачараваная ў першыя дні пасяленьня адным нямецкім доктарам, у той жа час іншыя настойваюць, нібыта яшчэ да адкрыцьця гэтага краю майстрам Гэндрыкам Гудзонам тут ладзіў шабашы стары індзейскі правадыр, вяшчун і чараўнік. Несумненна, аднак, што гэтае месца й цяпер застаецца пад нейкім закляцьцем, што зачаравала розум ягоных насельнікаў, якія таму жывуць у няспынных мроях наяве. Яны любяць усялякія паданьні, схільныя да экстатычных станаў і відокаў, перад імі часам лунаюць незвычайныя прывіды, яны чуюць нейкую музыку й галасы. Усё навакольле поўніцца мясцовымі паданьнямі, «нячыстымі» месцамі, цёмнымі забабонамі; над лагчынаю часьцей, чым дзесьці, палаюць зьнічкі й мэтэоры; жыве тут, здаецца, і начны жах з усімі сваімі агіднымі вырадкамі.*

*Галоўны дух з тых, што наведваюць гэты зачараваны куток — ён жа, як выглядае, правадыр усіх паветраных сілаў, — нейкі Вершнік без галавы. Кажуць, нібыта гэта — цень аднаго гесэнскага кавалерыста, якому ў нейкай безыменнай бітве рэвалюцыйнай вайны гарматнае ядро адарвала галаву й які час ад часу, нібыта на крылах ветру, пралятае ў цемры ночы перад мясцовымі жыхарамі. Яго бачаць, праўда, ня толькі ў лагчыне, але часам і на вакольных дарогах, асабліва каля недалёкай царквы. І сапраўды, некаторыя з найбольш вартых даверу гісторыкаў гэтага краю — яны з усёй магчымай дбайнасьцю сабралі*

[5] Цытуецца паводле: Русецкі, Аркадзь. Уладзімір Караткевіч. Праз гісторыю ў сучаснасць. Мінск, 2000. С. 61.

*й суаднесьлі блытаныя аповеды аб прывідным вершніку — сьцьвярджаюць, што цела кавалерыста пахаванае ўнутры царкоўнай агароджы, а дух ягоны соўваецца па начах па полі бітвы ў пошуках адарванай галавы, так што хуткасьць, зь якою ён нібыта начная віхура імчыць часам па Соннай Лагчыне, выкліканая ягоным спазьненьнем і неабходнасьцю вярнуцца ў агароджу да першага сьвятла.*

*Гэткі ў агульных рысах зьмест старажытнай легенды, якая стала падставаю для мноства дзіўных гісторый, пашыраных у гэтым царстве ценяў; што ж датычыць прывіда, то ён ведамы ва ўсёй акрузе як Вершнік без галавы Соннае Лагчыны”*[6].

Вось у гэтым мястэчку, працягвае аўтар, гадоў трыццаць таму жыў вельмі прыстойны малады чалавек, якога звалі Ікабод Крэйн (Ікабод значыць ‘небарака’, а прозьвішча перакладаецца як ‘жораў’, што надта ж пасавала да ягонай зьнешнасьці). Працаваў гэты маладзён у мястэчку настаўнікам.

---

[6] *“Some say that the place was bewitched by a High German doctor, during the early days of the settlement; others, that an old Indian chief, the prophet or wizard of his tribe, held his powwows there before the country was discovered by Master Hendrick Hudson. Certain it is, the place still continues under the sway of some witching power, that holds a spell over the minds of the good people, causing them to walk in a continual reverie. They are given to all kinds of marvellous beliefs, are subject to trances and visions, and frequently see strange sights, and hear music and voices in the air. The whole neighborhood abounds with local tales, haunted spots, and twilight superstitions; stars shoot and meteors glare oftener across the valley than in any other part of the country, and the nightmare, with her whole ninefold, seems to make it the favorite scene of her gambols.*

*The dominant spirit, however, that haunts this enchanted region, and seems to be commander-in-chief of all the powers of the air, is the apparition of a figure on horseback, without a head. It is said by some to be the ghost of a Hessian trooper, whose head had been carried away by a cannon-ball, in some nameless battle during the Revolutionary War, and who is ever and anon seen by the country folk hurrying along in the gloom of night, as if on the wings of the wind. His haunts are not confined to the valley, but extend at times to the adjacent roads, and especially to the vicinity of a church at no great distance. Indeed, certain of the most authentic historians of those parts, who have been careful in collecting and collating the floating facts concerning this spectre, allege that the body of the trooper having been buried in the churchyard, the ghost rides forth to the scene of battle in nightly quest of his head, and that the rushing speed with which he sometimes passes along the Hollow, like a midnight blast, is owing to his being belated, and in a hurry to get back to the churchyard before daybreak.*

*Such is the general purport of this legendary superstition, which has furnished materials for many a wild story in that region of shadows; and the spectre is known at all the country firesides, by the name of the Headless Horseman of Sleepy Hollow”.*

Вясковы настаўнік, піша Ірвінг, звычайна карыстаецца павагаю і ўвагаю сярод мясцовых кабет як чалавек больш адукаваны й тонкі за мясцовых мужыкоў; гуляючы па могілках, ён мог прачытаць усе без вынятку эпітафіі дый наагул быў начытаным, бо мог ад пачатку й да канца пераказаць кнігу "Гісторыя чарадзейства ў Новай Англіі".

Адной з найбольшых крыніцаў ягонай асалоды былі даўгія зімовыя вечары, якія бавіў у кампаніі старых галяндак пад аповеды пра духаў, прывідаў, нячысьцікаў, цёмныя месцы, а асабліва — пра Вершніка без галавы.

Вось толькі пасьля прыемнага вечара вяртацца аднаму дахаты было троху ніякавата: усе навакольныя гукі ня раз прымушалі беднага настаўніка літаральна мярцьвець і бадай траціць прытомнасьць. Зрэшты, насуперак д'яблу Ікабод пражыў бы спакойнае жыцьцё, каб не перастрэў на сваім шляху стварэньне, што прыносіць значна больш непрыемнасьцяў, і клопатаў, і пакутаў за ўсіх прывідаў і нячысьцікаў разам узятых. Гэтым стварэньнем была жанчына, звалі яе Катрынаю. Была яна троху малімоткаю: любіла апранацца па старой модзе ў апранахі, прывезеныя яшчэ ейнаю прапрабабкаю. А калі да зьнешняга выгляду дадаць ня менш апэтытную спадчыну, што мусіла б атрымаць ад вельмі заможнага бацькі, — зразумела, што нястачы ў кавалерах яна ня мела.

Найбольш сур'ёзным прэтэндэнтам сярод іх быў асілак, маладзён буйнога нораву Бром ван Брунт, заўсёды гатовы да сваркі й бойкі. Напэўна, яго можна намаляваць і гэтак: *"Уявіце сабе маладога чалавека, высокага, вельмі добра складзенага, апранутага па апошняй модзе, рэдкай у гэтай глушы. Ён быў бы зусім прыгожы, каб не надзвычайная бледнасць твару, хударлявага, з праваленымі шчокамі, і каб не выраз нейкай невытлумачальнай зласлівасці, якая не сыходзіла з яго вуснаў"*[7]. Адным словам, такі сабе *"тутэйшы зубр, помесь Наздрова..."*, "*скандаліст і брэцёр"*[8], толькі ня гэтулькі брутальны...

Заўсёды вакол яго была ягоная ватага, што апоўначы на конях імчала па-за фэрмэрскімі дамамі, крычала й галёкала на ўсе ваколіцы.

Вось жа паміж настаўнікам і гэтым Бромам ван Брунтам з-за прыўкраснай Катрыны й паўстала вайна не на жыцьцё, а на сьмерць.

Галоўныя падзеі разгортваюцца ў хаце бацькі Катрыны, куды зьехаліся госьці з усяго мястэчка: "*Ікабод дабраўся да «замку» ван Тасэля пад вечар. Ён засьпеў тут гонар і найвышэйшы сьвет акругі. Тут былі пажылыя фэрмэры: худыя — скура ды косьці — людзі ў даматканых портках і куртках, у сініх шкарпэтках і вялізных чаравіках з цудоўнымі алавянымі спражкамі; былі й іхныя маленькія, сухенькія, але спрытныя й вясёлыя жонкі ў ладных каптурах, у кароткіх сукенках зь*

---

[7] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах. Т. 7. Мінск, 1990. С. 58.

[8] Тамсама. С. 63.

*нізкім станам, у даматканых спадніцах, з нажніцамі й падушачкамі для іголак, са стракатымі сумкамі з каленкору, што вісяць на поясе. Тут былі таксама пышнагрудыя дзяўчаты, апранутыя амаль гэтак жа, як і матулі, калі не лічыць якога-небудзь саламянага капялюшыка, стужкі ці часам белай сукенкі, што казалі аб навінах, прынесеных з гораду. Былі нарэшце й маладыя людзі ў куртках са зрэзанымі пад прамым вуглом фалдамі (гэтыя курткі былі ўпрыгожаныя шэрагамі велізарных, ярка начышчаных медных гузікаў), з валасамі, заплеценымі паводле моды таго часу ў касу, асабліва ў тых, каму пашчасьціла здабыць скуру вугра, якая шануецца ў тутэйшых месцах у якасьці магутнага сродку, што спрыяе росту валасоў"*[9].

Што можна было б пры жаданьні перакласьці й наступным чынам: "*Не ведаю, ці трэба апісваць гэты шляхецкі з'езд? [...] Пасля прыехала нейкая пажылая дама ў вельмі багатым колішнім аксамітным уборы, зараз даволі паношаным, у суправаджэнні худога, як біч, маладога чалавека, з яўна халуйскім тварам. Біч пяшчотна прыціскаў яе локцік*"[10] і далей па тэксьце.

І былі скокі, і стол з пачастункамі, нарыхтаванымі гаспадарамі (сакавітымі й спакусьлівымі, бы ў доме Дубатоўка), а пасьля ўтварыўся мужчынскі гурток, дзе пачаліся аповеды пра былыя часы. І, зразумела, пра прывідаў і нячысьцікаў; не забыліся й на жанчыну ў белым, якую ня раз бачылі ў змрочным рове каля скалы, дзе яна калісьці загінула ў сьнезе, і крыкі яе чуваць цяпер кожны раз перад завірухаю. (У "Дзікім паляваньні..." ёсьць Блакітная жанчына; аўтар "Сіняй-сіняй" аддаваў перавагу гэтаму колеру.) Асноўныя ж гісторыі былі прысьвечаныя Вершніку без галавы, якога апошнім часам заўважалі тут даволі часта.

Гэтыя гісторыі падрыхтавалі й беднага ўражлівага настаўніка, дый чытача, да сустрэчы зь Вершнікам. І Ўошынгтан Ірвінг не падмануў: як толькі Ікабод пакінуў гасьцінны дом і на сваім коніку скіраваўся дадому,

[9] *"It was toward evening that Ichabod arrived at the castle of the Heer Van Tassel, which he found thronged with the pride and flower of the adjacent country. Old farmers, a spare leathern-faced race, in homespun coats and breeches, blue stockings, huge shoes, and magnificent pewter buckles. Their brisk, withered little dames, in close-crimped caps, long-waisted short gowns, homespun petticoats, with scissors and pincushions, and gay calico pockets hanging on the outside. Buxom lasses, almost as antiquated as their mothers, excepting where a straw hat, a fine ribbon, or perhaps a white frock, gave symptoms of city innovation. The sons, in short square-skirted coats, with rows of stupendous brass buttons, and their hair generally queued in the fashion of the times, especially if they could procure an eel-skin for the purpose, it being esteemed throughout the country as a potent nourisher and strengthener of the hair".*

[10] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах. Т. 7. С. 55.

ён сустрэўся зь ім. Апошнія старонкі легенды — імклівая пагоня, якой не пераказаць: трэба чытаць самім.

Калі Караткевіч раскрывае сакрэты сваёй гісторыі, Ірвінг пакідае дадумваць нам самім: на раніцу местачкоўцы не знайшлі Ікабода, але ці тое Вершнік яго забраў, ці небарака зьбег, пакінуўшы ня толькі школу з сваёю кнігаю пра чарадзейства, але й Катрыну. Дый хто быў той Вершнік — сапраўды прывід ці мо пераапрануты Бром ван Брунт, які ў змаганьні за жанчыну — ну й пасаг — ні перад чым не спыніўся?!

Гэта вырашаць чытачу. Як, дарэчы, і наконт магчымай сувязі легенды Ўладзімера Караткевіча зь легендаю Ўошынгтана Ірвінга.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# MORTUI VIVOS DOCENT[1]

Вершы Міхася Кавыля ўпершыню прыйшлі да мэтрапольнага чытача — калі не рахаваць газэтна-часопісныя публікацыі — у анталёгіі паэзіі беларускай эміграцыі "Туга па радзіме" (1992). Укладальнік Барыс Сачанка назовам зборніку быццам фармуляваў галоўную ноту, асноўную тэму творчага даробку эміграцыі. І сапраўды, на даўгі час для большасьці дасьледнікаў літаратуры дыяспары гэта сталася ці не асноўным: сум па родных берагох.

Што сказаць, тэма настальгіі насамрэч прысутнічае ў шмат якіх творах. Як і ў Кавыля:

*Ці пішу штось, ці ў хоры сьпяваю, —*
*Спражыць сэрца маё настальгія:*
*Бачу вобразы роднага краю,*
*Незабыўныя, дарагія...*

Але каб тужыць — ці абавязкова ехаць гэтак далёка? Пераехаўшы ў іншы горад або нават проста ў іншы раён — ці не адчуеш тую самую *тугу па радзіме*? Як той герой аповесьці Міхася Стральцова: *"Я павярнуўся і паціху пайшоў тратуарам, і тут, на тратуары, раптам таксама ўбачыў сена — невядома кім растрэсены клок падсохлага сена. Па-лугавому, па-летняму пахла сенам. «Сена на асфальце, — падумаў я, — сена на асфальце...» Быццам доўга я шукаў нечаму слова і раптам яго знайшоў. «Сена на асфальце, — узрадавана думаў я. — Вёска ў горадзе...»"*[2]

Думаецца, што галоўная тэма, характэрная, бадай, для кожнага эмігранта, хто хапаўся за асадку, — памяць. Безь яе немагчыма было ім захаваць сваю апрычоную нацыянальную культуру, традыцыі. Захаваць сябе.

Ці не таму яны пакінулі так багата ўспамінаў: "Кітай. Сібір. Масква" Язэпа Германовіча, "На крыжавой дарозе" Аўгена Калубовіча, "Успаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу" Пятра Палягошкі, "Маё мястэчка" Васіля Стомы, успаміны Яўхіма

---

[1] ***Mortui vivos docent*** (лац.) — мёртвыя вучаць жывых.

[2] Стральцоў, Міхась. Выбранае. Мінск, 1987. С. 115.

Кіпеля, Адама Варлыгі й шматлікія іншыя, выдадзеныя асобнымі кнігамі або раскіданыя па пэрыядычных выданьнях. У тым ліку й успаміны Міхася Кавыля "Мой шлях"[3], "Казённы дом і казённая дарога"[4].

Памяць эмігрантаў — гэта ня толькі ўласна ўспаміны ці аўтабіяграфічная проза (Масей Сяднёў, Кастусь Акула, Уладзімер Сядура, Уладзімер Дудзіцкі), гэта й паэзія.

У Міхася Кавыля "Беларусь б'е ў сэрцы" бы попел Клааса:

*Шмат мы зьмералі крокамі даляў,*
*Не адзін мілы вобраз пагас;*
*І жывых, няжывых пакідалі,*
*Але Край, родны, з намі, у нас,*

*Ён гамоніць, галосіць, трызвоніць*
*Цяжкім стогнам разьбітых званоў,*
*Гострым мечам нястрымнай Пагоні,*
*Гучнай славай палеглых сыноў.*

Антон Адамовіч у сваёй рэцэнзіі на зборнік Міхася Кавыля "Пад зорамі белымі" (1954) згадвае словы знанага ўкраінскага тэарэтыка й гісторыка літаратуры, крытыка Юрыя Шэраха (Шавялёва), які *"прыйшоў да выснаву аб патрэбе для пісьменьніка-эміграта «знаходжаньня грунту пад нагамі»: «Эміграцыя сама па сабе гэткага грунту не дае»"*[5]. Ён раіў шукаць гэты грунт у новым краі, зь якім доля зьвязала пісьменьніка. І сапраўды, у Міхася Кавыля багата вершаў на амэрыканскія тэмы: "Гайвэй", "Дзякую, Амэрыка", "Над Гудзонам", "Ніагара", "Ню Ёрк", "У Нэвадзе дыміцца трава" ды іншыя[6].

Але гэта намацваньне грунту адной нагой. Як той жа Антон Адамовіч зазначыў, на першым месцы ў паэта фармальныя рэальнасьці рамантычнага характару (выраз Адама Бабарэкі), і пералічвае іх: Беларусь як *"няўгасная зорка Вэнэра"*, сьв. Эўфрасіньня, Максім Багдановіч, Янка Купала ды г. д.[7] Тоб-то другой нагою паэта шукае сабе трывалай апоры ў мінулым пакінутай Беларусі, яе гісторыі, культуры, літаратуры.

---

[3] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе. Выбраныя творы. Нью-Ёрк, 1990. С. XI—XXI.

[4] Лешчанка, Язэп. Казённы дом і казённая дарога // Запісы БІНіМ. № 20. Нью-Ёрк, 1992. С. 65—100.

[5] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 553.

[6] Гл. таксама артыкул Зоры Кіпель "Амерыкана ў творах беларуска-амерыканскіх пісьменнікаў" // Культура беларускага замежжа: беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні. Беларусіка=Albaruthenica. Т. 5. Мінск, 1995. С. 262—267.

[7] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. С. 552.

І гэтае мінулае для яго, што вельмі важна, ёсьць мінулым ня толькі краіны, але і ягоным асабістым:

*Вось славуты мой бацька які!*
*А якія ў яго сваякі?*
*Каліноўскі, Міцкевіч, Францысь Скарына…*
*А матуля? Княгіня яна.*
*Яе сёстры: Рагнеда, адна.*
*Ефрасіньня Сьвятая.*
……………………………
*Ганаруся я роднымі, вельмі рад,*
*Што Купала — старэйшы мой брат;*
*Багдановіч, Дубоўка, Чарот…*
*Ўсе браты мае… Слаўны мой род!*
*Хай жыве беларускі народ!*

(“Слаўны мой род”)

Адчуваньне сябе ня зьнічам у вечнасьці, а зьвяном аднаго ланцугу — вось што істотна, асабліва калі сьмерць больш не адцягнутае паняцьце, а рэалія твайго жыцьця.

Ведамая дасьледніца пытаньняў культурнай памяці Алейда Асман зазначыла: *“Мінулае ўсё яшчэ важкім цяжарам ляжыць на плячах сучаснасьці, патрабуючы да сябе ўвагі й прызнаньня, прымушаючы нас узяць на сябе адказнасьць за яго поруч з новымі формамі памяці й памінаньня”*[8].

Выглядае, эміграНты, і не адно беларускія, усьведамілі гэта значна раней: адказнасьць. Адказнасьць за памяць пра мінулае, захаваньне яе для наступных часоў і пакаленьняў — ня толькі ў якасьці музэйнага экспанату, але й як урок-папярэджаньне. Яны паміналі мінулае й захоўвалі яго сваймі творамі — вершамі, раманамі, успамінамі. Каб не паўтарылася. Каб мінулае ня сталася сучасным. Каб, як у вершы Міхася Кавыля,

*Божа наш, Твае мы просім ласкі:*
*Дай нам шчасьця, радасьць у жыцьці,*
*На зямлі народнай шлях наш цяжкі*
*Віфлеемскай зоркай асьвяці!*
*А яшчэ, Ўсявышні, Цябе просім:*
*Зьдзейсьніць мары-сны дапамажы, —*
*Каб у згараванай Беларусі*
*На сьвятынях ажылі крыжы.*

---

[8] Ассман, Алейда. Трансформация нового режима времени // Новое литературное обозрение. 2012. № 4. С. 95.

*Публікацыі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# РАЗЬВІТАНЬНЕ ЗЬ СЯРЭДНЯВЕЧЧАМ

*Мы жывём у неверагодна рэалістычным*
*сімулятары Сярэднявечча.*
*Вакол віруе эпідэмія, пасярод Еўропы за*
*трон змагаецца манарх,*
*які страціў уплыў, а палітычных*
*канкурэнтаў ліквідуюць з дапамогай атруты...*[1]

Жнівеньскімі днямі 2020 г. ня раз згадваліся словы расейскага пісьменьніка Івана Тургенева, запісаныя ў чэрвені 1882-га: *“Во дни сомнений, во дни тягостных раздумий о судьбах моей родины, — ты один мне поддержка и опора, о великий, могучий, правдивый и свободный русский язык! Не будь тебя — как не впасть в отчаяние при виде всего, что совершается дома? Но нельзя верить, чтобы такой язык не был дан великому народу!”*[2]

Магчыма, спрычынілася да гэтага мова беларускай *рэвалюцыі годнасьці*. І вычуваючы сорам, што ня там, ды яшчэ больш пакутуючы ад пытаньня самому сабе (*“а ці выйшаў бы?”*), шукаеш уласнага апірышча — у сваёй роднай мове, шчырай і вольнай, але амаль нячутнай на вуліцах, ды ў сваёй літаратуры й гісторыі.

У тым ліку ў гістарычнай прозе.

Паказальнае адрозьненьне нашай прозы гэтага жанру ад аналягічнай расейскай, напэўна, не адным мной заўважанае. У іх значная частка твораў, калі не бальшыня, названая імем галоўнага героя — адной канкрэтнай асобы: “Пётра Першы” (Аляксей Талстой), “Дзьмітры Данской” (Сяргей Барадзін), “Разін Сьцяпан” (Аляксей Чапыгін), “Іван Грозны” (Валянцін Костылеў), “Ярмак” (Аўген Фёдараў), “Іван III” (Валер Язьвіцкі), “Салават Юлаеў” (Сьцяпан Злобін), “Чынгіз-хан” (Васіль Ян).

Сьпіс лёгка можна доўжыць, цягнуць і з XIX і з XX стст. — у XXI, але думка зразумелая, ня варта стамляць магчымага чытача пералікам.

---

[1] https://novychas.by/kultura/revaljucyja-u-anekdotah.

[2] Тургенев, Иван. Русский язык // Тургенев, Иван. Полное собрание сочинений и писем в тридцати томах. Т. 10. Москва: Наука, 1982. С. 172.

У нас жа бадай наадварот: нават калі ў творы ёсьць адзін галоўны герой, назоў усё адно будзе абагульняльны, мо нават у множным ліку: прыкладам, “Каласы пад сярпом тваім”.

І нават калі кніга называецца — куды ўжо быць большым героем! — “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, сапраўдная галоўная дзейная асоба ў айчыннай гістарычнай прозе — гэта народ.

Асобы могуць хіба толькі далучыцца да галоўнага, агульнага: *“Мяне хвасталі, як іх, таму кожны ўдар па іхняй спіне гарыць цяпер на маёй. Мірыяды ўдараў кіямі, бізуном, каменнямі. Я валачыўся, блукаў, як Пайла і як яны. Разбойнікі на мяне нападалі і свае браты. Я галадаў іхнім голадам, і прагнуў, і мёрз, і памыляўся, і грашыў, і свят быў. Але я нікому яшчэ не здрадзіў на гэтай зямлі. І не збіраюся. Я ня хачу быць ні з кім, акрамя гэтага народа, цяпер навекі майго. Я заслужыў гэта права... Я гэта ўсё за іх... І калі яны — народ, то я — таксама. Вось маё апошняе слова”*[3].

Сур’ёзныя словы, выкліканыя сур’ёзнымі падзеямі. Народатворчымі падзеямі. І тым больш цікава, што ў гэтым рамане, як і ў дэ Кастэраўскім “Тылі”, народны ж гумар адыгрывае далёка не апошнюю ролю-функцыю.

Літаратуразнаўцы, пішучы пра гэты твор Уладзімера Караткевіча, нярэдка ў агульным пераліку крыніцаў згадваюць Міхаіла Бахціна й ягоную кнігу пра Франсуа Рабле[4]. І робяць тое абсалютна слушна, але не канкрэтызуючы пры гэтым, што маецца ці што маюць на ўвазе.

Кніга Міхаіла Бахціна немалая, ідэяў у ёй багата, адным тэрмінам “сьмехавая культура” не абыдзесься, таму хацелася б сьцісла выказаць уласны погляд на гэтую праблему: у чым сэнс народнага гумару ў рамане “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, у чым сэнс наагул народнага гумару, які выйшаў на плошчы?

Як піша Міхаіл Бахцін, Франсуа Рабле больш за ўсё ненавідзеў агеластаў — людзей, якія ня ўмелі сьмяяцца (як тут не згадаць “Імя ружы” Ўмбэрта Эка, сьляпога Хорхэ й “Паэтыку” Арыстотэля, дзе даводзілася неабходнасьць сьмеху). Агеласты, на думку Рабле, — носьбіты тупой і зласьлівай сур’ёзнасьці, ворагі абнаўленьня й новага жыцьця. Гэта — старасьць, якая ня хоча нарадзіць і памерці, гэта *“бесплодная упорствующая старость”*[5]. Яны — ворагі вясёлай праўды плошчаў пра зьмену й абнаўленьне.

---

[3] Караткевіч, Уладзімір. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. Хрыстос прызямліўся ў Гародні. Мінск, 1980. С. 306—307.

[4] Бахтин, Михаил. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. [США], Издательство “Антиквариат”, 1986.

[5] Бахтин, Михаил. Творчество Франсуа Рабле... С. 291.

Паводле Міхаіла Бахціна, Рабле *“карыстаецца народна-сьваточнай сыстэмаю вобразаў зь яе прызнанымі й стагодзьдзямі асьвячонымі правамі на свабоду й вольнасьць, каб пакончыць назаўжды з сваім ворагам — гатычным стагодзьдзем”*[6].

Людзі ідуць, выходзяць на плошчу, нясуць свой сьмех і жарты — у змаганьні зь Сярэднявеччам, прагнучы зьменаў і абнаўленьня.

Людзі выходзяць і робяцца народам.

*“Вецер варушыў валасы Хрыста. Ён глядзеў, ён бачыў аблічча. Тысячы абліччаў. Бачыў жывых і забітых. І гэта было тое, неўміручае, імя чаму — Народ”*[7].

---

[6] Бахтин, Михаил. Творчество Франсуа Рабле... С. 292.

[7] Караткевіч, Уладзімір. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. С. 392.

# УСПАМІНЫ МІКОЛЫ ШЫЛЫ

*Працяглы час пра гэтага дзеяча на бацькаўшчыне было ведама толькі з прыпеўкі Мікіты Зносака ў Купалавых “Тутэйшых”, напісанай, як сьцьвярджаў Юрка Віцьбіч, Міхасём Чаротам[1]:*

*Беларусь, мая старонка,*
*Куток цемнаты.*
*Жыве Шыла, Грыб, Мамонька,*
*Будзеш жыць і ты.*

*А вярнуўся ён у Беларусь сваімі ўспамінамі толькі ў 1994 г., роўна за дзесяць год да таго часу, калі ягоная біяграфія нарэшце зьявіцца ў айчынных даведніках: у 18-тамовай Беларускай энцыкляпэдыі. Менавіта тады пабачыў сьвет менскі зборнік “На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі”, пабудаваны на эміграцыйным матэрыяле і ўкладзены Барысам Сачанкам.*

*Першы зьмешчаны там Шылавы ўспамін — “Алесь Гарун” — узяты, як пазначана напрыканцы тэксту, з часопісу “Шыпшына” за 1950 г., № 5. Насамрэч жа ён быў выдрукаваны ў № 9, але што больш істотна — першая публікацыя гэтага ўспаміну пад назовам “Мае сустрэчы” была зьмешчаная ў часопісе “Шляхам Жыцьця” (№ 9—10 (21—22). 1947) і была паўнейшаю. Няведама, ці то рэдактар “Шыпшыны” Юрка Віцьбіч адумысна падкарацію, ці то першая старонка згубілася, але арыгінальны тэкст пачынаецца наступна:*

*“Рэвалюцыя 1905 году захапіла і Беларусь, якая ў той час лічылася «окраиной России» і мела накінуты расейскім урадам назоў «Северо-Западный Край». Разам з палітычнымі дамаганьнямі выстаўляліся ў часе рэвалюцыі і дамаганьні чыста нацыянальнага характару: беларускія школы, увядзеньне ў сьвятынях і ўрадах беларускае мовы і інш. Свае гнёзды рэвалюцыя зьвіла галоўным чынам сярод рабочых і вучнёўскае моладзі. Адно такое гнёздачка было зьвіта Беларускай Сацыялістычнай Грамадой і ў Маладзечанскай Настаўніцкай Сэмінарыі, гадунцом якой я і быў тады. Усё забароненае, усё падпольнае заўсёды цягне за сабой моладзь, пацягнула гэта й мяне. Яшчэ падросткам я зрабіўся актыўным работнікам Беларускае Сацыялістычнае Грамады. На маім абавязку было дастаўляць літаратуру зь Вільні. «Хрэст на свабоду», «Што такое свабода» і іншыя выданьні*

[1] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 383.

*былі блізу ў шафцы кожнага сэмінарыста. На масьляніцу ў 1906 годзе ў нас адбыўся зьезд прадстаўнікоў ад дванаццаці настаўніцкіх сэмінарыяў. На ім была апрацавана агульная для ўсіх сэмінарыяў пэтыцыя і рэгулямін паступаваньня, усталены дзень забастоўкі, а таксама заснаваны Саюз Настаўніцкіх Сэмінарыяў усяе б[ылое] Расеі. Забастоўка адбылася. Цягнулася яна блізу цэлы месяц, але мы яе выйгралі. Па экзамэнах па Вялікадні разьехаліся на летнія канікулы, забясьпечаныя літаратурай і інструкцыямі. Па летнім адпачынку сабраліся на навуку, але траіх сяброў мы не далічыліся — іх арыштавалі. У часе допыту адзін зь іх прызнаўся і сказаў, што літаратуру даў яму я. Уначы з 6 на 7 верасьня ў сьценах сэмінарыі на ложку быў арыштаваны я. Сабраўшы свае манаткі і з кім можна было разьвітаўшыся, у асысьце трох жандараў, я, сярод ночы, павандраваў на вакзал, каб адтуль ужо пачаць вандроўку ў сьвет далёкі і шырокі. Першым маім этапам быў Менск, а ласьне Менскі астрог”*[2].

*Другі тэкст, зьмешчаны ў зборніку “На суд гісторыі”, быў ужо ўзяты менавіта з часопісу “Шляхам Жыцьця” і называўся, як у арыгінале, “Мае сустрэчы”: напэўна, Мікола Шыла меўся пісаць цыкль успамінаў пад гэткім агульным назовам.*

*Тэкст, прысьвечаны знаёмству зь Янкам Купалам, як і пазначана ў зборніку “На суд гісторыі”, быў выдрукаваны ў № 8 (20) “Шляхам Жыцьця” за 1947 г., але, відаць, скарочаны ўжо Барысом Сачанкам. Гэтак, сказу ў зборніку “Гэта мая школа, — гаварыў ён [Купала]” у часапісе адпавядае цэльны абзац:*

*“«Гэта — мая школа, — гаварыў ён. — Я-ж нават і пісаць яксьлед ня ўмею, каракулі стаўляю». Гэтай бядзе таксама памаглі. Купілі ў тыя лінейкі сшытак, я спачатку пісаў элемэнты літараў, а потым літары. Сшытак блізу за дзень быў сьпісаны, але іншы раз замест элемэнтаў літараў у канцы знаходзіўся і вершык. Трэба аддаць справядлівасьць ягонай стараннасьці і ўпартасьці — калі браўся за якое дзела, дык заўсёды даводзіў яго да канца”.*

*Магчыма, укладальніку зборніку падалося, што гэты абзац прыніжае памяць клясыка айчыннае літаратуры.*

*Трэці ўспамін, выдрукаваны ў часопісе “Шляхам Жыцьця”, які Мікола Шыла рэдагаваў разам з Хведарам Ільляшэвічам, “Незабыўны дзень”, прысьвечаны абвяшчэньню незалежнасьці БНР, быў зьмешчаны ведамым гісторыкам Анатолем Сідарэвічам на ягонай старонцы LJ зь вельмі цікавымі камэнтарамі*[3].

[2] Шляхам Жыцьця. № 9—10 (21—22). 1947. С. 26.

[3] https://anatolsidarevic.livejournal.com/64128.html.

*А вось наконт чацьвертага ўспаміну з таго самага часопісу рэдакцыя “Запісаў” ня пэўная, ці перадрукоўваўся ён калі. Але ўважаючы, што было б шкада, каб гэты невялікі тэксьцік згубіўся, зьмяшчаем яго тут.*

***Мікола Шыла***

## Цётка[4]

У 1909 г. у канцы лістапада я пакінуў гасьцінныя парогі Лукіскага астрогу. Першы прыпынак, бадай па чатырохгадовай няволі, я знайшоў у рэдакцыі “Нашай Нівы”. Шчасьлівым зьбегам акалічнасьцяў я вышаў з турмы ў дзень, калі Рэдакцыя сьвяткавала 3-гадовы юбілей сваёй працы. Сярод прысутных (было 16 чалавек беларусаў і адзін паляк — кампазытар Рагоўскі[5]) знаходзілася і нашая пісьменьніца-барацьбітка Цётка. Нікому так не пасаваў-бы выбраны ёю псэўдонім, як ёй. Яна была ня толькі для нас, моладзі, але й для старэйшых сапраўднаю цёткай. Шчуплая, сярэдняга росту, вечна рухлівая, з няпрыгожым, але прыемным і выразным тварам, на якім сьвяціліся, як вугольчыкі, праніклівыя вочкі, што, здаецца, заглядвалі ў самую душу, у самае нутро чалавека. На першы пагляд, на яе ніхто не зварочваў увагі, хто яе ня знаў, але трэба было ёй пачаць гаварыць, як увага ўсіх прыкоўвалася да яе. Постаць мянялася, твар прамянеў, сваімі вачыма яна папросту гіпнатызавала ўсіх, а словамі, якія, як ручэй, каціліся зь яе вуснаў, яна будзіла ад сну самыя чорствыя душы, якія па яе слову гатовыя былі пайсьці на самыя гераічныя вычыны. Не дарма рабочыя дэпо і новавілейскіх фабрык яе багатварылі, гатовыя былі пайсьці за яе ў агонь і воду. Пасьля тайных мітынгаў, на якія яна іншы раз, мылячы сьлед шпікоў, пехатой хадзіла зь Вільні (9 км), рабочыя, нягледзячы на ўсе пратэсты, праводзілі яе назад аж у Вільню, каб ёй па дарозе ня сталася крыўды, каб яе не арыштавалі. Трэба было чуць, як рабочыя — барадачы і моладзь — упэўнена казалі: *“Нашую Цётку мы ў крыўду не дамо!”* І сапраўды, не далі. Калі яе ў Нова-Вілейцы пасьля мітынгу

---

[4] Шляхам Жыцьця. № 2 (14). 28 лютага 1947. С. 4.

[5] **Людамір Міхал Рагоўскі** (польск. *Ludomir Michał Rogowski*, 1881—1954), польскі кампазытар і дырыгент. Закончыў Варшаўскі інстытут музыкі (1906). Працягваў навуку ў Мюнхэне, Ляйпцыгу, Рыме, Парыжы. У 1909—1912 гг. працаваў дырыгентам у Вільні, дзе арганізаваў сымфанічны аркестар. Стварыў музычнае суправаджэньне да спэктакляў трупы Ігната Буйніцкага. Склаў “Biełaruski Piesiennik z notami dla narodnych i školnych chorov” (Вільня, 1911). Аўтар музыкі да вершу Янкі Купалы “А хто там ідзе?”. У часе Першай сусьветнай вайны працаваў у Парыжы. У 1921 г. вярнуўся ў Варшаву. У 1926 г. выехаў у Дуброўнік (Харватыя), дзе й памёр.

арыштавалі, рабочыя адбілі яе ад паліцыі, закансьпіравалі, ухавалі, не даючы ў паняверку сваёй Цёткі.

Спатыкаўся я зь Цёткай пасьля гэтага многа і многа разоў і заўсёды знаходзіў у ёй нешта новае. Энэргія яе была нявычарпаная. Ігнату Буйніцкаму[6] для аб'езднай трупы не хапала артысткі. Справа развальвалася. Даведалася Цётка аб гэтым і сама запрапанавала свае ўслугі. Трупа на другі дзень выехала ў аб'езд. Неяк у рэдакцыі пачалі гаварыць, што ў Менску ня клеіцца праца. "Склеіваць" яе паехала Цётка. У кароткі тэрмін арганізавала там рэдакцыю дзіцячага часапісу "Лучынка", арганізавала школьную моладзь, і праца закіпела. За што толькі ні бралася Цётка, усё даводзіла да канца; якія-б перашкоды не стаялі на яе шляху, яна ўсе іх перамагала. Трэба было дзівіцца яе спрыту, сьмеласьці й рашучасьці. Яе дэвізам было: *"Працуй для народу, не пакладаючы рук!"* І яна працавала. І ў гэтай працы за народ і для народу яна аддала сваё жыцьцё.

Няхай гэтая жменька ўспамінаў будзе ёй замест вянка на яе далёкую магілу!

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

---

[6] **Ігнат Буйніцкі** (1861—1917), актор, рэжысэр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафэсыйнага тэатру.

***Вітаўт Кіпель***
*Пойнт-Плэзант-Біч*
*(Нью-Джэрзі)*

# ДОБРА ПАМЯТНАЕ…

Думаю, што не памылюся, калі скажу, што ў кожнага чалавека здараліся ў жыцьці моманты, якія можна назваць незабыўнымі, бо яны пакінулі ў памяці трывалы сьлед дый прыпамінаюцца зь дзівугоднай дакладнасьцю. Натуральна, я маю на ўвазе здарэньні зь *беларускай афарбоўкай*, бо нягледзячы на тое, што пражыў у небеларускім акаляючым асяродзьдзі дзесяцігодзьдзі, беларускія моманты памятаюцца наймацней. То хачу падзяліцца ўспамінам з маладзейшымі.

Ясная справа, што найчасьцей і найбольш нечага *незабыўнага* й *беларускага* здараецца ў сям'і — такое бывала і ў мяне — аднак здарэньні ў школе, на вуліцы, у грамадзе ў маім дасьведчаньні незабыўныя таксама.

Для яснасьці ж гаворкі пачну з сваёй біяграфіі.

Фармальнае школьнае навучаньне я атрымоўваў у мовах расейскай, беларускай, нямецкай, украінскай, францускай, ангельскай (у гэткай чароднасьці), а асяродзьдзі, у якіх з мовамі даваў рады, былі польскае й флямандзкае.

Нарадзіўся я ў Менску ў 1927 г. Маці мая мянчанка, нарадзілася таксама ў Менску, вучылася ў розных школах, а скончыла навучальную ўстанову, якая цяпер называецца Беларускі дзяржаўны пэдагагічны ўнівэрсытэт імя Максіма Танка.

Бацька паходзіць з Глушчыны, жыў у Менску ад 1920 г. Канчаў, пачынаючы ад Глуску, розныя школы й вайсковыя вучэльні, а ў 1926 г. закончыў БДУ.

Маці-настаўніца працавала ў школах Менску, а бацька выкладаў у розных вучэльнях ды займаў пасаду сакратара ў аддзеле прыроды й гаспадаркі ў Інбелкульце.

Калі мне было каля трох гадкоў, бацьку арыштавалі як "нацдэма" й выслалі на пяць гадоў у Расею ў горад Налінск. Калі ж мне было гадоў пяць, маёй маме было сказана ў НКУСе ў Менску: *"Выяжджайце зь Менску туды, дзе Ваш муж; пашпарту й прапіскі Вам не даем"*, — і маці разам са мной выехала ў высылку ў Налінск.

Па заканчэньні тэрміну высылкі бацьку было забаронена жыць у Беларусі, нават наведваць Беларусь на кароткі тэрмін. Было таксама абвешчана шмат абмежаваньняў, дзе можна было жыць, прыкладам,



Яўхім і Марыя Кіпелі. 1920-я гг.

у сталіцах, абласных гарадох, з трамвайнымі лініямі й г. д.

Гэтак мы, сям'я, былі выселеныя зь Беларусі, але маме было дазволена раз у год прыяжджаць у Менск пабачыцца з бацькам, маім дзедам.

Калі мы прыехалі ў Налінск, здаецца, узімку 1932—1933 г., бацьку неўзабаве перавялі ў горад Кіраў, тады яшчэ Вятка, гэта кілёмэтраў сто ад Налінску. Жылі мы ў дзьвюх гаспадынь, мужоў якіх расстралялі бальшавікі. Былі гэта адукаваныя, прыемныя жанчыны, расейкі, якія адразу пачалі мяне вучыць расейскай мове, бо я амаль нічога не разумеў па-расейску, і яны баяліся выпускаць мяне на вуліцу гуляць зь іншымі дзецьмі: тыя будуць кпіць зь мяне й насьміхацца. Мама ж тымчасам шукала працу, хоць бацька яшчэ быў у Налінску.

Вучылі мяне расейскай мове — настаўніцы зваліся цёця Каця й цёця Паша — вельмі далікатна, "перакладніцка", каб я не забываў і мовы беларускай: *"Па-руску гэта будзе так. А як ты скажаш па-беларуску?"* Пры такім вучэньні я не забываў беларускай мовы, але ўелася мне іхнае змаганьне з маім *"произношением"* — вымова расейская давалася цяжкавата. Але, але! Ня "цёці" мне запомніліся да дэталяў найбольш, а "дзядзькі"!

У Налінск былі таксама высланыя зь Менску два беларускія навукоўцы: прафэсар Мікола Азбукін, географ-эканаміст, і прафэсар Мікола Улашчык, гісторык. Жылі яны непадалёку ад нас і бывалі ў нас амаль "штотыднёвыя госьці". Я іх называў "дзядзі" ды ўважаю, што яны былі маімі першымі настаўнікамі й беларускай мовы, і беларусаведы наагул. "Дзядзі" таксама вучылі мяне расейскай мове, але найбольш яны вучылі мяне беларускім вершам: Гаруна, Коласа. Зь "дзядзямі" вельмі часта мы хадзілі на прагулкі, у лес, на рэчку. Там "дзядзі" разам з мамай і татам сьпявалі голасна беларускія песьні. Навучылі мяне сьпяваць гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ды іншыя. Дзядзя Азбукін расказваў мне беларускія казкі, вучыў, як па лісьцях пазнаваць дрэвы. Часта мы ўсе садзіліся недзе на беразе падсілкавацца, і тады я слухаў, слухаў гісторыйкі пра жыцьцё ў Менску. Бязь ніякага сумневу сьцьверджу, што

Налінск быў першай беларускай для мяне вучэльняй, а дзядзі Азбукін і Ўлашчык — маімі першымі беларускімі настаўнікамі.

Мушу падкрэсьліць, і то моцна-моцна, такую акалічнасьць: пачынальнікам-наглядальнікам, "гаспадаром" маёй беларусізацыі, захаваньня беларускага "тону" ў сям'і была мама, і думаю, што гэта ёй было й ня так проста, бо ўжо нават у "захалусным" Налінску вуліца пачынала рабіць уплыў на фармаваньне "савецкага пацана". Таму думаю, як у нас любяць казаць, з пэрспэктывы часу, мама старалася, каб сустрэчаўлекцыяў зь "дзядзямі" было болей і часьцей.

Дадам таксама: калі магла, вучыла, беларусізавала мяне й мама. Але ейная "беларусізацыя" была начальніцкая: *"гавары так"*, *"рабі тое так і так"* ды вельмі ж яна любіла вучыць мяне пагаворкам-прыказкам, правярала, ці я іх разумею. З Налінску "нашу" з сабою *"жыцьцё пражыць — ня поле перайсьці"* (доўга стараўся гэтую пагаворку зразумець).

Жыцьцё ў Налінску скончылася з канцом бацькавага тэрміну ў 1935 г., і мы перабраліся ў Вятку. З Налінску ў Вятку трэба было ехаць "тарантасам" коньмі да прыстані Мядзьведкі, а тады параходам да Вяткі. У зімовыя месяцы лучнасьць часам перапынялася. У Вятцы мы пасяліліся ў пакойчыку з кухняй, дзе жыў бацька. Мяне ў Вятцы аддалі ў "нулявушку".

У Вятцы "дзядзяў", што размаўлялі па-беларуску, было значна болей, я й прозьвішчаў усіх ня памятаю. Зьбіраліся ўсе разам яны каля невялічкага сквэрыку, туды прыходзіў і мой бацька ды часам браў мяне з сабой.

Непадалёку ад нас жыў дзядзя Антон (Адамовіч). Ён у нас у хаце бываў вельмі часта, заўсёды гутарыў са мной, пытаўся, ці я ўсё разумею, калі гуляю зь дзецьмі. Да дзядзі Антона я прывязаўся — нешта ў яго распытваў. Адамовіч часта-часта гутарыў з маёй мамай, бо яна, ходзячы па вуліцы Валадарскага ў Менску, бачылася там з бацькамі Адамовіча, дык ён распытваў, хацеў нешта ведаць пра сваіх.

З Адамовічам і Вяткай мы разьвіталіся летам 1935 г. Тады заканчваўся тэрмін высылкі, і трэба было выбіраць месца жыхарства. Паколькі жыць у Беларусі не дазвалялася, бацькі выбралі горад у Расеі — Арол, што быў ня так далёка ад БССР. Мы з мамай прыехалі ў Арол раней, а ў верасьні 1935 г. туды прыехаў і бацька. Там яго ў сьнежні арыштавалі зноў і прысудзілі 5 гадоў канцлягеру на Далёкім Усходзе — паміж Хабараўскам і Ўладзівастокам. Для нас з маці Арол стаўся месцам жыхарства да вясны — лета 1942 г.

Бацька адбыў тэрмін 31 сьнежня 1940 г. і празь месяц быў у Арлоўскай вобласьці, шукаў працу. Уладзіўся працаваць настаўнікам у сяле Кульнева, але ў Бранскай вобласьці.

Пачалася вайна, што дало магчымасьць нам злучыцца ў сьнежні 1941 г., а ў пачатку лета 1942 г. атрымаць ад немцаў паперу, што мы бежанцы, і дазвол вярнуцца ў Беларусь.



Мікола Азбукін, Яўхім Кіпель, Мікола Ўлашчык у высылцы.
Налінск, 15 сьнежня 1931 г.

Мая першая школа ў Арле была 12-я сярэдняя чыгуначная. Будынак і двор школы былі вялізарныя, выгодныя для гульняў, а таму я шмат часу праводзіў на школьным двары, найчасьцей гуляючы ў футбол.

Заняткі першай зьмены адбываліся ад гадзіны 8:30 да першай-другой па абедзе, а затым быў выбар: школьны двор, дом піянэраў, вуліца, бібліятэка, кіно, рэчка, бадзяньне на пуцях. Мушу сказаць, што за пару месяцаў я ведаў Арол ня горш за старажылаў.

У канцы першага навучальнага года, 1935—1936, мяне з парай дзясяткаў іншых дзяцей, дзеля перагружанасьці школы, перавялі ў 33-ю пачатковую чыгуначную школу, якая знаходзілася бліжэй да рэчкі Ака, што было выгадна для рыбалоўства ці то проста бадзяньня па беразе. Месца знаходжаньня школаў не падабалася маці: я бываў у раёнах гораду, далекаватых ад нашай кватэры й ад школы, дзе яна працавала. Ёй атрымалася дамагчыся майго пераводу ў 2-ю клясу 26-й сярэдняй школы, дзе яна тады працавала, а сама школа была ў цэнтры гораду. Я быў цьвёрда перакананы, што зрабіла яна гэта толькі з аднаго інтарэсу, каб хоць трохі ведаць, што й дзе я раблю пасьля школы, бо будучы ў адным будынку, заўсёды магла мяне спаткаць на пераменцы.

У гэтай школе я вучыўся аж да 1941 г., і зь ёю ў маёй памяці ёсьць пару цікавых здарэньняў зь *беларускай афарбоўкай*.

Як завядзёнка ва ўсіх школах сьвету, кіраўнічка клясы на першай лекцыі выклікае вучня для азнаямленьня: расказаць пра сябе, пра прамінулыя канікулы й падобнае. Сябе назвала настаўніца Анастасія Васільеўна Сьмірнова; была яна невысокага росту, худая, зь вельмі прыветлівай усьмешкай. Выклікала настаўніца мяне з-за парты й го-

ласна, разборліва сказала: *“А теперь Витовт Зубковский расскажет про себя”* — ні на хвілінку не запінаючыся. У галаве я падумаў: *“Здорава, ведае, як вымаўляць. Бо звычайна “Витовт” было не выразна. Відаць, недзе сустракала такое імя”*, — разважаў я пра сябе.

Я пачаў: *“Я — беларус, нарадзіўся ў Менску, дзе жыве мой дзед. У дзеда вялікі гарод, сад”*. На маё зьдзіўленьне, Анастасія Васільеўна папрасіла мяне ўдакладніць — што садзяць і чаго больш у гародзе. На гэта адказаў: картошкі, табаку й хрэну! Адказ выклікаў выбух рогату: дзеці ў Арле табаку й хрэну ў вочы ня бачылі. Настаўніца адразу ж растлумачыла, што сеецца ў гародзе. З гутаркі я зразумеў, што яна нешта мае да Беларусі, але выгляду не падаў. Далей гутарка ішла пра тое, як я еджу да дзеда ў Менск, калі цягніком праз Гомель, дык мой апошні гарадок у РСФСР завецца Злынка, а першы ў БССР — Добруш. Я думаў, што кажу гэта жартам, але настаўніца “замяла” гутарку, нешта ёй у Злынцы — Добрушу не спадабалася, і яна мяне пасадзіла й выклікала іншага вучня на знаёмства. Пра мой жарт ня ўспомніла ні славечкам. Але затое калі я расказаў аб гэтым увечары маме, дык атрымаў добра па сьпіне, наківаньне пальцам пад носам і тыраду, каб я больш ніколі й нідзе ня ўздумаў жартаваць з назовамі, тэрмінамі й межамі. Маці вельмі злавалася й доўга-доўга мне чытала “лекцыі”, каб ніякага дурнога, “незразумелага” гумару нідзе не выдумляў і не казаў. Вось так яна “распраўілася” з Злынкай і Добрушам. Таксама ў той вечар мама сказала, што яна Анастасію Васільеўну добра ведае, зь ёй сябруе, і каб я ніякіх “грубасьцяў” ні зь ёй, ні з кім іншым не зрабіў.

Хоць мама на мяне накрычала за *“прытынкі межаў”* БССР/РСФСР — баялася, відаць, каб чаго не “прышчапілі” нацыянальнага, у школах Арла, на птушыным базары, на зімовых кросах, а нават і ў Доме піянэраў можна было пачуць “пад’езды”, насьмешкі над “нацыянальнасьцямі”.

Крытыка-насьмешка над Беларусьсю заўсёды бывала ў чэргах пры магазынах, дзе прадаваліся *“плода-овощи”* — бульба. Жартаў-насьмешак было шмат. Чуў я таксама кпіны, і то ня раз, калі ў гадох 1934—1937 па краіне каціласся хваля пераназваньняў вуліц, паркаў у “чэлюскінцев” (Менск таксама гэтага не пазьбег — і там ёсьць парк Чэлюскінцаў).

Навуковым лідэрам на “Чэлюскіне” быў Ота Юльевіч Шміт — наш зямляк, народжаны ў Магілёве. Беларусам ён, як выглядае, сябе не лічыў, але нейкія сувязі з Магілёвам у яго былі.

“Чэлюскін”, як ведама, быў зацёрты ільдзінай у Чукоцкім моры (1934), але ўвесь экіпаж быў выратаваны. Паколькі Шміт быў з Магілёва, песенька пра яго й “чэлюскінцаў” у народзе часта суправаджалася сказам: *“О, беларусы ўмеюць працаваць”*.

А песенька была такая:

*Шмидт сидит на льдине,*
*Словно на перине,*



НАРОДНЫЙ КОМИССАРИАТ ПРОСВЕЩЕНИЯ

ПОХВАЛЬНАЯ ГРАМОТА

Выдана ученику 3-го класса 26 средней школы

г. Орла Орловской области

Зубковскому Витовту

ЗА ОТЛИЧНЫЕ УСПЕХИ И ПРИМЕРНОЕ ПОВЕДЕНИЕ

г. Орел

20 июня 1938 г.

№ 11

М. П.

Учитель Смирнова

Ухвальная грамата Вітаўта Кіпеля зь сярэдняй школы ў Арле. 1938 г.

*И зашухоряет медвежат!*
*Медвежат убили, супу наварили,*
*Вот что там на Севере творят!*
*Арктику открыли,*
*В Кремль вы закатили,*
*Но “Челюскин” не поднять со дна!*
*Денежки в кармане,*
*Морды на экране,*
*Вот что экспедиция дала!*
*Если бы не Мишка,*
*Мишка Водопьянов,*
*Не видать бы больше вам Москвы!*

А тэрміны *“бульбянік”*, *“бульбаш”* — ужываліся скрозь і побач...

Па “школьнай лесьвіцы” я далей правучыўся з Анастасіяй Васільеўнай 2, 3 і 4 клясы. Тое, што яна была беларуска, мне было прыемна, але на ходу навукі гэты факт ніякага ўплыву ня меў. Праўда, часам мне здавалася, што яна ў нечым больш спыняецца на тлумачэньні БССР, але было гэта хіба маё хаценьне, уяўленьне. І тым ня менш, выпадак-мамэнцік з гэтай настаўніцай стаўся й літаральна запамятаўся на ўсё жыцьцё.

Выпадак стаўся ў 1939 г., я быў ужо ў 4-й клясе ў той самай 26-й школе. Анастасія Васільеўна вядзе ўрок геаграфіі па падручніку Сафронава *“География СССР”*. У геаграфічна-эканамічныя пасажы настаўніца дадае літаратурныя вытрымкі, і лекцыя атрымоўваецца вельмі цікавай.

Вучні слухаюць з увагай, а ведаючы, што настаўніца — беларуска, на заканчэньне гутаркі гучна, як па камандзе, пачалі прасіць-крычэць, каб Анастасія Васільеўна сказала нешта па-беларуску. Тая, відавочна, рабіць гэтага ня хоча, аднекваецца, вінавата ўсьміхаючыся, ды нарэшце сказала: *“Да вы, ребята, по-белорусски ничего не поймете”*. На што кляса закрычала: *“А нам Витовт переведет!”* Дзеці ведалі, што я беларус. І тут настаўніца цьвёрдым, настаўніцкім голасам прамовіла: *“Добра! Спыніце гутаркі!”*

У дзяцей на тварах зьдзіўленьне, разгубленасьць: ніхто нічога не разумее — іншая зусім мова! Здорава! І ўсе твары павярнуліся на мяне: перакладай! Я, натуральна, на хвіліну пачуўся разгубленым, але тут жа спакойным голасам, як і настаўніца, пераклаў: *“Хорошо, прекратите разговоры!”*

Дзеці ўражаныя: беларуская мова іншая, незразумелая! Прызнацца, у тэй момант я сытуацыі не зразумеў. Ну, што тут нібыта дзіўнага, думаў я, для мяне гэтыя мовы ўвесь час былі розныя. Аднак неўзабаве я сьцяміў: настаўніца падала дзецям беларускую мову ня так, як падавала яе “афіцыйна” — маўляў, мова блізкая, братэрская й г. д. Анастасія Васільеўна, незаўважная па-за Беларусьсю настаўніца, падала расейскім дзецям беларускую мову ў інакшай ад афіцыйнай інтэрпрэтацыі. І дзеці атрымалі правільную ацэну. А была тое савецкая школа! І Анастасія Васільеўна ведала, што рабіла. А рабіла яна нацыянальную беларускую справу, за якую маглі “прышыць” нацыяналізм.

Але нічога ня сталася, дзеці прынялі інфармацыю, як і трэба, а вучань Вітаўт Зубкоўскі ў той мамэнт атрымаў добры *“ўкол-прывіўку”* нацыянальнай сьведамасьці й пра Анастасію Васільеўну памятае да дэталяў і на сваім дзясятым дзясятку жыцьцёвага шляху.

Да пэрыяду навучаньня ў 26-й школе, 1936—1941, у маёй памяці захавалася пару мамэнцікаў, так бы сказаць, зь сямейнага куфра, выхаваўчага значаньня, і як бачыць чытач, я пра тыя мамэнцікі не забываюся.

Наступны эпізод такі.

Як жыцьцё ішло-кацілася, нам даводзілася шмат езьдзіць: і па кілямэтрах, і па мясцовасьцях. Паездкі, цягнікі я вельмі любіў, цярпець ня мог маршрутаў у Вятку — Налінск, калі трэба было ехаць параходам. Тарантас — паездкі ў возе, коні (прыстань Мядзьведкі — Налінск) — таксама не падабаўся.

Цяпер прыпамін аб адным падарожжы з Налінску ў Менск. Ехалася звычайна праз Смаленск ці праз Гомель. У часе аднаго падарожжа на перасадцы на вакзале ў Смаленску я на пару хвілін апынуўся адзін у пачакальні, бо маці выйшла па-за будынак, каб купіць штосьці перакусіць. Раптам каля мяне я чую беларускую гаворку, досыць галасна: група мужчынаў гутарыць ды часта згадваюць горад Полацк.


Яўхім і Вітаўт Кіпелі. Налінск, 1933 г.

Людзі ў пачакальні прабылі нядоўга: выйшлі й зьніклі з майго зроку. Але калі вярнулася мама, я ёй расказаў пра пачутае ды спытаў пра гэты горад — новы для мяне: чаму мы празь яго ніколі не праяжджаем? Мама адказала прыблізна так: *“Полацк — гэта стары беларускі горад, такі, як і Смаленск, які ты, Віта, добра ведаеш. І ты ж таксама ведаеш, што нам ня ўсюды можна езьдзіць. Але не сумуй, сынок, калі вырасьцеш, напэўне зьезьдзіш і ў Полацк”*. Так мне дала вестку пра Полацк мая мама, добрая беларуская настаўніца.

Хоць з бацькам мне давялося караткавата жыць, аднак адзін з пэрыядаў супольнага зь ім жыцьця ў Арле, верасень — сьнежань 1935 г., таксама падарыў эпізодзік, які я памятаю выдатна!

У пачатку верасьня 1935 г. была цёплая восень. Эканомячы капейку — аплату лазьні — мы з бацькам мыліся-купаліся ў рацэ Ака. Купаліся ў раёне вуліцы 3-й Курскай, бо там быў вельмі шырокі, палогі й пясчаны правы бераг, а на левым беразе былі скалы, абрывы й амаль пад бераг падыходзілі магутныя шэрыя муры Арлоўскага цэнтралу — ведамай старой турмы Расейскай імпэрыі. Рэгулярна на тым левым беразе езьдзілі верхавыя ахоўнікі, дык бераг быў амаль пусты.

Памыўшыся добра мачалкамі, мы выходзім з вады на бераг, а бацька глядзіць задуменна на левы бераг і ціхонечка мармыча (але мне было чутно): *“Бачыш, сынок, муры. Вось з-за гэтых цэнтралаў, муроў і на Бацькаўшчыне няма жыцьця. Ты, сынок, аб гэтым памятай”*.

У гэты момант бацька неяк схамянуўся, замаўчаў, Напэўна, думаў: от ляпнуў забагата хлапцу, недзе паўторыць, бяда будзе. Я пэўны, што бацька так думаў, але я ніколі й нідзе гэтага не паўтарыў, умеў трымаць язык за зубамі. Але ў маёй сьведамасьці гэта быў, бадай, першы сыгнал аб нацыянальнай праблеме, і пазьней, праходзячы каля Арлоўскага цэнтралу ды іншых турмаў, думаў пра бацьку, нацдэмаў, наагул пра нацыянальнае.

І яшчэ памятаю здарэньне — зь сямейнага куфра — якое адбылося ў часе майго навучаньня ў Арле й якое ўплыло на мяне й запамяталася на жыцьцё.

Як я зазначаў, мая 26-я школа была новая, сфармаваная ў 1935 г., куды з усіх школаў Арла дырэктары паскідалі ненайлепшых вучняў; іх было па-над тысячу (так мне здавалася), а гарана не паскупіўся даць ладна настаўнікаў. У ліку тых была й мая маці. Паколькі мы былі чужыя ў Арле, дык і з настаўнікамі маці не ўваходзіла ў бліжэйшыя дачыненьні.

За выключэньнем аднаго. Мне нехта з вучняў сказаў, што бачыў маю маці ў *ОГИЗ*е з Тамарай Сяргееўнай Шапірай. Я спачатку не хацеў паверыць, што маці *"бывае з Шапірай"*. Тамара Сяргееўна Шапіра была настаўніцай расейскай мовы й літаратуры ў 8-й клясе (толькі), а асноўная ейная функцыя была ў школе — завуч. Яе паважалі — была яна строгая, мянушка *Царыца*, і ўся школа ведала, што яна была партыйная шышка, як і ейны муж. Жылі яны ў раёне *Дворянское гнездо*, апісаным Іванам Тургеневым, куды такім, як я, доступу не было.

Мяне такая вестка ашарашыла, але я віду не падаў. І што вы думаеце? Празь месяц-другі маці мне кажа, што ў наступную нядзелю мы маем білеты на вечар у Тургенеўскім доме, там будуць мясцовыя літаратары чытаць свае творы, ды што білеты на гэты вечар дастала для нас Тамара Сяргееўна!

Я ахнуў і разявіў рот. *"Мам — хто дастаў білеты? Тамара Сяргееўна? Ня можа быць! Ты ж ведаеш, хто яна такая. Шышка! Яе ведаюць у аблана, гаркоме! Як ты зь ёй патрапіла зблізіцца, каб яна табе купіла білеты?!"*

Я круціў галавой. Сапраўды быў уражаны й хацеў пытацца, пытацца. Але мама спыніла мой уздым і спакойна сказала: *"Сынок, сядзь і паслухай. Я з Тамарай Сяргееўнай сябрую — ня так блізка, але бываем разам, гаворым. Ведай: ейныя дзяды зь Беларусі, і ў Менску яна мае шмат знаёмых, часта там бывае. А ты ж ведаеш, як мне прыемна гаварыць, успамінаць Менск, маё дзяцінства, юнацтва. Некаторых маіх сяброў Тамара Сяргееўна ведае. Сынок, ты зразумееш, калі станеш дарослым, што такое "твой горад". А мне тут і няма з кім пагаварыць пра Менск, Беларусь. Праўда, я з табой гавару, мы езьдзім да дзеда — нам бывае вельмі прыемна. Ну, вось, цяпер ведаеш, чаму я сябрую з Тамарай Сяргееўнай"*.

У той дзень мы з мамай расчуліліся, яна мяне абняла й пацалавала, і больш пра ейнае сяброўства я ніколі-ніколі не распытваўся. Але я стаў яе яшчэ болей разумець, бо й сам вельмі хацеў быць зь дзедам і сапраўды бываў на дзясятым небе, калі ў летнія месяцы прыяжджаў да яго.

З Тамарай Сяргееўнай маці сябравала аж да самай вайны. У пачатку вайны тая прапаноўвала нам дапамогу эвакуацыі, але, ясна, мама адмовілася, бо не плянавала эвакуявацца.

Гутарка з мамай, ейная прывязанасьць да Радзімы, бясспрэчна, зрабілі на мяне значны ўплыў.

Дзяцінства, юнацтва закончылася, нармальная хада жыцьця прыпынілася з пачаткам вайны. Бясспрэчна, ваенная завіруха пакінула соткі-соткі незабывальна-трагічных момантаў, але выпадак, калі ў першых днях кастрычніка 1941 г. пасьля бамбёжак гутарыў з параненым беларусам, а ён мне казаў, пачуўшы, што я беларус: *“Вось, дзетка, я паміраю. Я з-пад Воршы. Мяне выгналі маскалі, і запомні, дзетка, што ўсё зло на нас ад маскалёў”*, — не забудзецца ніколі! Я аслупянеў, пакуль у мяне на руках паміраў акрываўлены чалавек, беларус, і гаварыў словы, якія я чуў упершыню. Сапраўды, незабыўнае, трагічнае й, бясспрэчна, уплывовае здарэньне.

У 1942 г. для нашай сям’і сталася “дзіва”: мы змаглі вярнуцца жыць у Беларусь. Адсюль я й прыпамінаю розныя выхаваўчыя для мяне гісторыйкі: эпізоды й здарэньні зь беларускага панадворку.

Восеньню 1942 г. я ўпершыню пайшоў у беларускую школу нумар 29, народная школа на цяперашняй вуліцы Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесьці. Будынак захаваўся. Паступіў я ў 7 клясу, дзе было 12—15 асобаў, праходзілася нармальная праграма, выкладаліся прадметы па-беларуску, хоць некаторыя настаўнікі мовай не валодалі — панавала трасянка.

Дырэктар школы быў Пётра Кісель, выкладаў беларускую мову. Зь беларускай мовай у мяне праблемаў не было, яна была для мяне свая, сямейная. Але адразу ж паўстала ў мяне праблема з матэрыялам: прыйшоўшы з расейскай школы, я нічога ня ведаў (ну, вельмі мала) пра беларускую літаратуру, амаль ня ведаў геаграфіі Беларусі, грамадазнаўства. Няведаньне беларускіх прадметаў вельмі блага ўплывала на мяне: я пачаў прапускаць заняткі, не адрабляў хатніх заданьняў і г. д. Дырэктар аб гэтым даведаўся й доўга-доўга гутарыў са мной у дырэктарскай. Гутарка скончылася тым, што ён аб маёй навуцы пагаворыць з бацькам.

Вялікага значэньня я гэтаму не надаў, але праз пару дзён у хаце пры вячэры бацька кажа мне: *“Мы табе нанялі рэпэтытара. Зь ім падгонім усе прадметы”*. Я ў тую хвіліну думаў, што здурэю! Нанімаць рэпэтытара — значыць, са мной нешта не ў парадку. Ну, але я “разыдуся” й са школай, і з хатай — думкі ходзяць у галаве — неяк рады дам. І тут бацька называе імя гэтага рэпэтытара: *“Наш добры знаёмы, знаўца ўсяго беларускага,* — прадаўжае бацька, — *Антон Лёсік”*. Праўда, прозьвішча мяне ахаладзіла, бо было добра знаёмае. Успаміналася яно і ў Налінску, і ў Вятцы, і заўсёды зь вялікай пашанай, якая перадалася й мне.

*“Лёсік? —* пытаю я. — *А дзе ён жыве?”* Бацька кажа, што блізка ад школы, хадзіць недалёка, дамовіліся на два разы на тыдзень. *“Ты не хвалюйся, я зь ім аб усім дамовіўся”*.

На гэтым гутарка скончылася, я пагадзіўся й праз два дні, у канцы верасьня, разам з бацькам пайшоў да сп. Антона Лёсіка. Ён жыў на рагу Інтэрнацыянальнай і Камсамольскай: каменны дом, захаваны ў добрым стане, другі паверх.

Сп. Лёсік пачаў навуку-рэпэтытарства са мной з таго, што пераглядзеў усе падручнікі, якімі мы карысталіся ў школе, і сказаў: *“Ну, хлапчына, мы будзем Беларусь вывучаць шырэй”*.

І шырэй Беларусь вывучалася! Перш-наперш на кожную лекцыю сп. Лёсік падрыхтоўваў мне ці то падручнікі, ці кнігі да чытаньня. Бібліятэка ў яго была вялізарная. Лекцыі будаваліся прыблізна так: ён

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Гэтым сьведчыцца, што вучань Зубкоўскі Вітаўт

які нарадзіўся у 1928 годзе, паступіў у 1942 годзе у VII клясу

30 беларускае сямігадовае народнае школы гор. Менску воласьці,

паветy і скончыў гэтую школу у 1943 годзе.

Пры выдатных паводзінах выявіў наступныя посьпехі:

У беларускай мове і літаратуры 4 (добра)

» нямецкай мове 4 (добра)

» матэматыцы 5 (выдатна)

» фізыцы і хіміі 5 (выдатна)

» прыродазнаўстве 5 (выдатна)

» геаграфіі 5 (выдатна)

» гісторыі і грамадазнаўстве 4 (добра)

» ручной працы 3 (здавальняюча)

» рысаваньні 5 (выдатна)

» сьпевах 5 (выдатна)

» фізычным узгадаваньні 5 (выдатна)

» 30 » чэрвеня 1943 г.

(М. п.)

КІРАЎНІК ШКОЛЫ

ВЫКЛАДЧЫКІ

Старонка пасьведчаньня аб заканчэньні Вітаўтам Кіпелем сямігодкі. Менск, 1943 г.

пытаў мяне, што задаваў прачытаць (часам даваў заданьне напісаць укладаньне, якое я яму чытаў), а затым тлумачыў новае, трымаючыся школьнай праграмы. А пазьней ён мне расказваў нешта беларускае — пра пісьменьнікаў, кнігі, гісторыю, пра гарады.

Хоць, як мне здавалася, у абіходзе ён быў маларазмоўным, але пра матэрыял, які падкідваў мне, гаварыў шмат. Я, дарэчы, называў яго *"спадар настаўнік"*.

Гэтак ад верасьня 1942 да травеня 1943 г. я з Антонам Лёсікам прайшоў усё, што патрэбна было ведаць вучню 7 клясы беларускай школы, плюс ён мне даў акадэмічную падрыхтоўку, не баюся гэтак сказаць, у гуманітарна-гістарычную, літаратурную Беларусь. У Лёсіка я пабачыў шмат таго, чаго не было нават у музэях. Уважаю, што ён адзіны такі глыбокі, цікавы, захапляючы ў маёй адукацыі. Разьвітаўся зь ім у чэрвені 1943 г., спэцыяльна зайшоў пасьля заканчэньня заняткаў у школе, і ён пахлопаў мяне па плячы й прамовіў: *"Працуй, хлапчына, далей!"* На мой пагляд, мне зь беларускай адукацыяй пашанцавала! Ясна, дзякуючы бацькам, што яны мяне змусілі пайсьці да рэпэтытара.

Незабыўным мамэнцікам лічу таксама й маё знаёмства з дырэктарам Пятром Сямёнавічам Кісялём, які парадзіў знайсьці мне рэпэтытара, а асабліва запамятаўся тым, што мінімум раз на месяц ганяў вучняў старэйшых клясаў на розныя суботнікі: гэты пэрыяд я ўважаю ў маім жыцьці пачаткам грамадзкай працы!

Лета 1943 году ў Менску праходзіла ў жалобе-страху. 22 чэрвеня ў Гарадзкім тэатры ўзарвалася міна, і загінулі па-над дзясятак СБМаўцаў, у жніўні ўзарваўся аўтамабіль, у якім быў папулярны беларускі сьвятар а. Іван Кушнер. Было забіта пару немцаў. Жыхарства было ў жалобе па беларусах і баялася рэпрэсіяў за немцаў. Аднак у газэтах зьявіліся весткі, што ў Менску ўвосень адчыніцца настаўніцкая сэмінарыя.

Гэта была вельмі вітаная вестка, бо шмат маладых людзей шукалі выйсьця, як ня быць забранымі ў Нямеччыну: немцы моладзь лавілі, а быць вучнем давала статус ня быць вывезеным.

Сэмінарыя адчынілася ў першы дзень верасьня 1943 г. Дырэктарам сэмінарыі быў прызнаны ведамы ў Менску настаўнік 20-х гадоў Антон Саломенік.

Аўтар гэтых нататак паступіў у сэмінарыю. Ня ехаць у Нямеччыну было асноўнай матывацыяй. У першыя дні адбывалася знаёмства з сп. Саломенікам як з дырэктарам сэмінарыі. І ягоныя "настойлівыя дырэктывы" ўрэзаліся у памяць прыблізна ў такім выглядзе:

1. У сэмінарыі й каля сэмінарыі ўжываецца толькі беларуская мова, тычыцца гэта й мовы нямецкай, калі хто жадае "пахваліцца" ведамі — не ў сэмінарыі.

2. Усе вучні прыежджыя-бежанцы (а такіх было зь дзясятак), рускія, зайдзіце да мяне, і кажнаму з вас будзе прызначаны беларускі вучань-рэпэтытар. Дадатковыя лекцыі беларускай мовы мы плянуем пачаць з кастрычніка.

3. Забаронена курыць як у сэмінарыі, гэтак і каля сэмінарыі.

У сэмінарыі я прабыў ня так доўга: некалькі тыдняў. З дырэктарам ніякіх дачыненьняў ня меў і перайшоў у новаадчыненую тады прагімназію пад канец верасьня 1943 г., дзе вучыўся да чэрвеня 1944 г.

Прагімназія разьмяшчалася ў тым самым будынку, што й сэмінарыя, і фэльчарская вучэльня — на Нямізе. Дырэктарам прагімназіі быў Аляксандар Акановіч, менскі настаўнік (фізык), муж Ганны Некрашэвіч, сястры Сьцяпана Некрашэвіча. Зь Некрашэвічамі былі добра знаёмыя бацькі яшчэ з даваенных гадоў.

Прагімназія была знанай навучальнай установай, на мой пагляд, там было пару сотняў вучняў.

Што асабліва запомнілася з таго часу? Вядомая справа, сустрэча з Антонам Адамовічам, ён у старэйшых клясах выкладаў літаратуру.

Знаёмства з дырэктарам было вельмі "бюракратычнае". Усіх, хто быў сябрам СБМ (а такіх у прагімназіі было пару дзясяткаў), ён склікаў разам і цьвёрда папярэдзіў, што падтрымоўвае арганізацыю моладзі, але каб дзейнасьць яе — зборкі — не супадалі з школьнай праграмай.

Як і Саломенік, Акановіч патрабаваў размаўляць па-беларуску. Прыпушчаю, што настаўнікам, якія прывыклі да савецка-беларускае тэрміналёгіі, было няпроста ў выкладаньні, бо якраз з настаўніцкай нівы й запомніліся пару *"незабудачкаў"*.

Агульную гісторыю выкладаў настаўнік па прозьвішчы Жук. Высокі, аб'ёмісты, падстрыжаны пад бокс, зь невялічкім жалваком на ілбе. Беззаганна гутарыў, вёў лекцыі па-беларуску, але з гістарычнай тэрміналёгіяй даваў часам тлумачэньні. Як выглядае зь ягоных прамоваў, беларуская тэрміналёгія ў гістарычных дысцыплінах не была яшчэ цалкам распрацаваная. Таму адну зь лекцыяў Жук пачаў з размовы пра беларускую мову: як передаюцца грэцкія імёны зь літарай Б/В, Барбара ці Варвара. Гаварыў ён даўгавата й даваў шмат прыкладаў. Аднак вучням добра запомніўся толькі адзін прыклад: калі настаўнік сказаў: *"А таму будзем гаварыць — я гэта патрабую — Барталамееўская ноч, а не Варфаламееўская!"*

Ну, зразумела, кляса пачала называць ня толькі *"Барталамееўская ноч"*, але й *"настаўнік Барталамей"* (*"Барталамей I зь Менску"*).

І яшчэ адзін выпадак зь беларускай тэрміналёгіяй быў такі: настаўнік маляваньня й чарчэньня (забыўся прозьвішча), даючы тлумачэньне, як у мастацтве ствараюцца рэльефы, сказаў *"дзеля прыгажосьці*

часам *робіцца тушыроўка”* заміж сказаць *“для прыгажосьці”*. І надалей ягоныя ўрокі зваліся толькі *“дзеля прыгажосьці”*.

Тлумачыў нам беларускую тэрміналёгію й настаўнік фізкультуры Козьлік. Ён шмат апавядаў пра спорт. На жаль, Козьліка неўзабаве мабілізавалі ў БКА, а заступніка не далі.

З настаўнікаў прагімназіі я блізка стаў да Антона Адамовіча, часам нават выконваў нейкія даручэньні ў сувязі з рэдакцыяй[1]. Аднак яго хутка ня стала: немцы выслалі ў Нямеччыну. Вучні вельмі Адамовіча шкадавалі. Яго аднаго пры ўваходзе ў клясу віталі воклічам *“Жыве Беларусь!”*.

З дырэктарам Акановічам давялося мне пазьней сустрэцца лоб у лоб у бамбасховішчы ў горадзе Эгер (Судэты) у сакавіку 1945 г., а потым жыць разам пару гадоў у лягеры Міхэльсдорф. Таксама незабыўная дэталь: у канцы чэрвеня 1948 г. я з групай скаўтаў выходзіў у доўгакілямэтровы паход (каля трох тыдняў), сп. Акановіч быў апошнім, з кім я разьвітаўся на мосьце праз рачулку Міхаль. У часе майго паходу ён памёр і быў пахаваны ў горадзе Кам, каля касьцёлу.

Навучальны год у гімназіі ў Менску скончыўся ў сярэдзіне чэрвеня 1944 г., а ў канцы месяца нашая сям'я падалася на эміграцыю. Напачатку была прыстанішчам нацыстоўская Нямеччына (1944—1945), а затым Заходні Сьвет — *UNRRA*, *IRO* ды дзяржавы па-за савецкім блёкам.

У пачатку траўня 1945 г. мы трапілі “пад амэрыканцаў”. У горадзе Гарміш-Партэнкірхэн (*Garmisch-Partenkirchen*) амэрыканскай танкавай дывізіяй быў дадзены ўльтыматум: здавайце адміністрацыю гораду, зброю кладзіце на вуліцы й рукі ўгору, а ўсе цывільныя хавайцеся па дварах — інакш з танкаў расстрэльваюць горад.

Гарадзкія й вайсковыя ўлады здаліся, танкі ўвайшлі ў горад, дзякуючы гэтаму ён і застаўся цалюткім. А мы? Сядзім на ходніку каля станцыі. Начаваць няма дзе. Папрасіліся ў сарай — немцы пусьцілі. Празь дзень-два ідзем мы з бацькам па вуліцы, думаем, дзе параспаць, дзе паесьці — гаворым, праўда, няголасна. І раптам чуем, як голас зь неба: *“Вы гаворыце па-беларуску? Я таксама. Маё прозьвішча Сымон Жамойда”*, — і пачалося знаёмства. Жамойда ўладзіў нас на начоўку, далей на даўжэйшы час; так мы і засталіся і ўладзіліся ў Гармішы. Вось такі быў цуд! І гэтак я з бацькамі апынуліся ў новай дзяржаўнай сфэры — у дэмакратыі.

[1] Маецца на ўвазе рэдакцыя “Беларускай газэты”.

*Успаміны*

***Вінцэнт Сьпічонак***

# МАЯ АЎТАБІЯГРАФІЯ

*Эміграцыйная беларуская мэмуарыстыка рэгулярна папаўняецца новазнойдзенымі тэкстамі. Безумоўна, найперш і найбольш цікавасьці выклікалі й выклікаюць успаміны асобаў ведамых, лідараў эміграцыі. Аднак цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў сталі зьяўляцца мэмуарныя тэксты шараговых беларусаў, якія ніколі не былі на першых ролях, а часам ня мелі й добрай адукацыі. Адзін з гэткіх успамінаў і публікуецца ніжэй.*

*Абставіны зьяўленьня гэтага тэксту ў Беларусі ня высьветленыя. Электронны варыянт ксэракопіі рукапісу даслаў нам краязнаўца Кастусь Шыталь, які некалі перазьняў гэтыя мэмуары ў іншага краязнаўцы — Мікалая Чысьцякова з Докшыцаў. На жаль, няведама, адкуль тая ксэра зьявілася ў апошняга, а ягоны архіў сёньня застаецца недаступны. Менавіта таму некалькі блага скапіяваных старонак успамінаў засталіся нерасчытаныя ў гэтай публікацыі.*

*А вось што ведама пра аўтара тэксту.*

*Вінцэнт (Віктар) Сьпічонак / Wincuk Spiczonak (26.06.1915, в. Лаці, цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл. — 06.09.1981, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай пачатковай школе ў Докшыцах, Дзісенскай гімназіі, Віленскай тэхнічнай школе. Быў мабілізаваны ў 85-ы пяхотны полк Польскага войска. У верасьні 1939 г. быў арыштаваны як польскі жаўнер, але неўзабаве адпушчаны, вярнуўся дамоў. Настаўнічаў у пачатковай школе ў в. Селішча й в. Гнязьдзілава-2. Пазьней атрымаў пасаду каморніка ў Дзісьне. У часе нямецкай акупацыі служыў сакратаром Параф'янаўскай гміны. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ва Ўсходняй Прусіі, пазьней у Бэрліне й Баварыі. У складзе беларускіх вайсковых фармаваньняў здаўся амэрыканцам. Пасьля вайны быў у ахове нямецкіх палонных у Францыі. Пазьней выехаў у Парыж, дзе браў удзел у дзейнасьці беларускай арганізацыі "Хаўрус". З Францыі перабраўся ў Манрэаль (Канада), дзе таксама браў удзел у грамадзкім жыцьці, быў сябрам мясцовага згуртаваньня беларусаў. У 1959 г. прыбыў у ЗША. На сталае жыцьцё пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Прыхаджанін царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлэндзе.*


Вінцэнт Сьпічонак

*На жаль, успаміны Вінцэнта Сьпічонка, хоць і напісаныя ў Кліўлэндзе ў 1980 годзе (за год да сьмерці аўтара), якраз падзеяў амэрыканскага жыцьця не закранаюць, спыняюцца на самым ягоным парогу. Аднак падзеі папярэднія, асабліва на радзіме да й падчас Другой сусьветнай вайны, апісаныя ў тэксьце даволі добра. Карацей і больш агульнымі рысамі пададзеная паваенная адысэя: Нямеччына — Францыя — Канада. Аднак і ў гэтых эпізодах успамінаў можна знайсьці каштоўныя зьвесткі, прыкладам, малаведамую гісторыю няўдалай ініцыятывы пабудовы беларускай царквы ў Манрэалі.*

*Пры публікацыі ўспамінаў выпраўляліся відавочныя памылкі, парадкавалася пунктуацыя, аднак асаблівасьці аўтарскай мовы й правапісу былі захаваныя.*

Трудна прадбачыць у сучасны момант, што станецца з гэтым зшытком з маімі ўспамінамі і ці трапіць у адпаведныя рукі, якія прыгорнуць і захочуць прачытаць самі і падзяліцца зь іншымі сябрамі. Папярэдня, калі чалавек быў дуж і здароў, то такая думка ніколі і не закрадалася ў галаву, але калі сталася інакш, то часьценька пачалі насоўвацца розныя вобразы з прошлага жыцьця.

Усё глыбей раздумоўваючы і аналізуючы падрабязна ўсялякія моманты з сваей прошласьці, я дайшоў да выснову, што яно [жыцьцё] не было так простае, каб зусім самому пазабыць аб усім і не насьмеліцца падзяліцца зь іншымі. Як бы ні было — давялося шмат пабачыць сьвету, зьведаць шмат розных краінаў і запазнаць, а нават і жыць з рознымі людзьмі.

На ўступе хачу зазначыць, што пастараюся ўняць усё, безь ніякай перасады ані хлусьні, бо інакш я-б ніколі не асьмеліўся-б узяць пяро ў рукі, каб ашукваць самога сябе і людзей.

Так вось нарадзіўся я 26 чэрвеня 1915 году ў вёсцы Лаці (Докшыцкай воласьці, Дзісьненскага павета, Віленскай акругі (Перадваенны адрас). Дзед мой, здаецца, лічыўся крыху багацейшым гаспадаром, бо меў штось з 1 валоку зямлі, але калі разьдзяліў між сыноў, то мой бацька мусіў пагадзіцца з 5 гэктарамі. Сям'я мая была тако-ж не зусім маленькая, бо 6 сыноў і адна дачка.

Адно шчасьце, што найстаршы брат Міка[лай] быў вельмі здольны да вучобы і, бегаючы ад паствы кароў у даўнейшую гарадзкую школу ў Докшыцах, скончыў чатыры класы. Пазьней пры ўстанове польскай улады папаў на працу пры гміне, як маленькі ўрадовец, а ўжо шмат

пазьней застаўся сакратаром гміны і пераехаў у другое мястэчка. Ён трымаў сябе вельмі карэкт[на] і як мог дапамагаў усей нашай сям'і[1].

Другі малодшы брат — Косьця, бачачы шэрую прышласьць у так вялікай сям'і, рашыў пайсьці ў Саветы, штось у 1920—1921 годзе. Праўда, там пачаў вучыцца і дайшоў да стопеня інжынэра піваварных заводаў у Маскве. З намі стараўся ўтрымоўваць карэспандэнцыю і так прадоўжваў аж да 1935 года. Ад гэтага часу загінуў, як камень у ваду. Толькі адзін "знахар" з Польшчы, гледзячы на яго фотакартачку з 19(?), сказаў мне, што гэты чалавек загінуў дзесь у лесе ад голаду, чаму я зусім паверыў.

Трэцяга брата — Паўлу — паслаў брат у рамесьленую школу ў Вільню, якую ён і скончыў, хоць пазьней абсалютна не давялося працаваць у сваім фаху.

Наступны брат — Міша, не схацеў абсалютна нігдзе ўчыцца і заняўся бацькавай гаспадаркай, хоць пазьней часта праяўляў сваю абаву, каб усе браты не паварочваліся дамоў і не зажадалі сваёй бацькаўскай належнасьці. На што я заўсёды яму адказваў, што мне будзе прыемна, калі будзе да чаго прыехаць у госьці, а жыць на сваёй якойсь дзесяціне я не зьбіраюся.

Адзін брат памёр у росквіце веку — 15-ць год.

Сястра выйшла замуж, можна сказаць, за малазямельнага, але вельмі растаропнага чалавека, які так даглядаў гаспадарку, што ўсяго заўсёды хапала, а ён сам часьценька казаў, што не хацеў бы заменьвацца і зь міністрам. Быў крыху ў Амэрыцы, але пазьней вярнуўся. Падчас другога прыходу Саветаў да нас яго саслалі на некалькі год (4—5) у Сібір, за тое, што ён аднаго разу седзячы з суседзьмі гдзесь на полі пачаў расказваць аб прабегу вайны Амэрыкі з В'етнамам і палачкай пачаў рысаваць франтаваю пазыцыю. Вось так яго і падхвацілі.

Я, як наймалодшы з усіх братоў і сясьцёр, ня меў лёгкага жыцьця ад самага дзяцінства. Напрыклад, добра памятаю, што я ніколі ня меў якойсь новай купленай вопраткі, заўсёды ці мама, ці жыд-кравец неяк накамбінуюць і перашыюць з вопраткі старшых братоў.

[...][2]

З канечнасьці мусіў падпарадкавацца новым апякуном, як у школе, так і гаспадаром, гдзе аставаўся на памешканьні, хоць ня раз здавалася, што бачыш іх слабасьці і нерассудкі.

К прыкладу хачу ўспомніць адну з маіх гаспадынь, якая штодзённа бегала ў касьцёл, але магла хоць трохі ўскубнуць з чужо[й] мясной

[1] Сустракаюцца зьвесткі пра Мікалая Сьпічонка як старшыню дзісенскага павятовага аддзелу Саюзу работнікаў гміннай адміністрацыі. Магчыма, быў сакратаром гміны ў Плісе.

[2] Наступныя дзьве старонкі рукапісу ў электроннай копіі аказаліся нечытэльныя.

вучаніка порцыі, зь якой прыгатоўвала абед. Даходзіла да таго, што трэба было стаяць асабіста і сачыць, калі яна разразала кіля мяса на 6-ць порцый, інакш на 6-ць дней.

Пачаў тако-ж чалавек прыглядацца на шчасьлівых і нешчасьлівых людзей, на багатых і беднякоў. Дамовая матчынная і бацькавая апека страціла на сваей сіле, хоць я не магу забыць аднаго моманту, як-бы ўжо жыцьцёвага экзамэну, які здарыўся акурат дома на вачах сваіх бацькоў.

Па першым годзе Дзісьненскай гімназіі я прыехаў летам дамоў ужо як гімназіст у адпаведнай гімназіяльнай форме мундурка, і толькі, здавалася, настаў час, каб пафарсіць у сваім гарадку, аж тут тата кажа, што трэба ехаць у Докшыцы па гной, які ён закупіў ад жыда. Блыскавічна я падумаў, што будзе, як мяне спаткаюць асобы з высшай клясы, або якаясь паньніца, якія, як мне тады здавалася, нічога ня ведаюць аб маім мужыцкім паходжаньні. Як мне захавацца тады, што сказаць? І ў гэту-ж хвіліну як-бы штось шапнула мне ў адказ: Не саромся свайго паходжаньня. Гной — гэта твой хлеб, а хто спаткаўшы цябе босага і забруджанага засароміцца, то толькі ён сам пакажа сваю вартасьць. Нявінны такі момант быў для мяне першым псыхічным экзамэнам, чаго я ніколі не забуду.

Пазьней я меў нагоду назіраць за такімі гімназістамі-фуліганамі, якія саромеліся падыйсьці да возу, гдзе сядзела матка з бацькам, каб толькі не здрадзіцца свайго паходжань[ня], а бацькі бедныя прадавалі апошнюю кароўку, каб даць асьвету свайму сын[у].

У Дзісьне, аднак, мне не давялося атрымаць матуру. Мяне аставілі на другі год у 7-м класе. Мушу сказаць, што толькі мая віна ў гэтым, хоць шмат наракаў я тады і праз усё маё жыццё на свой характар. Ня быў збыт здольным і мусіў усе прадметы фармальна закуваць на памяць, а пасьля падчас важнейшых экзамэнаў нэрвы забівалі ўсю сьвядомасьц[ь]. Калі толькі знаў які прадмет на 100 %, то патрафіў адказаць палавіну, а калі толькі штось знаў на 50 %, то ўжо знай што правалю. Яшчэ з лаўкі мог быць сьмялейшы і лепш адказаць, але хапіла, каб прафэсар пазваў да даскі, то ўжо я зачырванею, пачую шум у галаве і пачну рабіць памылкі. Пачаткова думаў я, што гэта зьліквідуецца з часам само па сабе, але гдзе-ж там, так было, ёсьць і так ужо астанецца.

Аднак гонар мне не пазволіў сядзець другі год, і [я] выехаў зь Дзісны. Пачынаў быў стараньне, каб з экзамэнам паступіць у 8-мы клас у гімназію ў Маладэчн[е], але канчаткова дырэктар на гэта не згадзіўся. Тады я паехаў у Вільню і паступіў на Курсы Матуральныя, гдзе скончыў 8-м[ы] клас, але пры экзамэнах матуральных, як экстэрнам, зноў праваліў на вусных.

Тады трымаў экзамэны, здаў і паступіў у Тэхнічную школу ў Вільні (мярніцтва). Фах гэты мне падабаўся, і ўжо на першым годзе паехаў у Ашмянскі павет да аднаго мярнічага разьбіваць на хутары вялікую

вёску. Я цешыўся часткова, што буду заўсёды сярод вясковых людзей, хоць чуў, што такі мярнічы ня раз меў ад гэтых людз[ей] вялікія непрыемнасьці.

Будучы на другім курсе раптоўна вясной атрымоўваю позву ў войска ў Нова-Вілейку ў 85-ты полк пяхотны. Я ня мог знайсьці мейсца ад жаху. Неадзоўна злажыў просьбу да Масьціцкага[3], на што атрымаў адмоўную адповедзь. Зусім заламаны на духу пацягнуўся я ў вайсковыя кашары ў Нова-Вілейку. Паміма так малой адлегласьці ад Вільні (штось 9 км) мне не далі дазволу ані разу да самай вайны адведаць школу або складаць канчатковыя экзамэны другога курсу. Тады я падумаў, што гэта, можа, прычына нашага выступленьня ў школе зь беларускаю нацыянальнасьцю, бо і Лёву Сабалеўскага спаткаў падобны лёс. Ён быў пазваны ў войска яшчэ пара тыдняў раней, чым я, і я яго яшчэ адводзіў на Віленскі вакзал. Харытановіч Парфіры, здаецца, меў кат[эгорыю] Б. і гэтым самым спасься ад позву.

Па выбуху вайны (верасень 1939 г.) нас выгналі з кашар і разьмясьцілі праз пару тыдняў на аколічных палях і агародах. Пазьней, адной начы заладавалі ў вагоны і давязьлі да горада Пётркуў[4]. Там мы аказаліся на прадмесьці, але ненадоўга, бо пад вечар паказаліся нямецкія чолгі[5], і ўсе жаўнеры пачалі ўцякаць на галоўную шашу і накіроўвац[ца] ў напрамку Варшавы. Усе жаўнеры адступалі ў хаосе і на сваю руку, зьмяшаўшы[ся] з цывільнай масай людзей.

Людзі апушчалі Варшаву, ужо ў некаторых мя[с]тах гарэлі або масты, або будынкі, рабіліся ўсялякія барыкад[ы]. [Я] прабыў у Варшаве толькі адзін дзень, бо атрымаў ад вайсковых каманда[вань]няў [загад] кіравацца на сваю руку на Гарволін[6], штось каля сотні кілямэтраў ад Варшавы.

Па пару днях зьявіўся туды ў зборны пункт, гдзе нас сфармавана ў большую вайсковую адзінку, і па некалькі днях мы сутыкнуліся зь немцамі па лініі Хэлм — Коваль[7]. Хутка нас выгналі немцы адтуль, і мы пачалі адступаць больш на поўдзень, хоць з кожным днём было бачна, што вайна застала прайграная. Яшчэ была зроблена ў адным мейсцы спроба заняцьця вялікай вёскі, гдзе ўжо пасяліліся немцы.

---

[3] **Ігнацы Масьціцкі** (польск. *Ignacy Mościcki*; 1867—1946), польскі палітык і навуковец, у 1926—1939 гг. прэзыдэнт Польскай Рэспублікі.

[4] **Пётркаў-Трыбунальскі** (польск. *Piotrków Trybunalski*) — горад на правах павету ў цэнтральнай частцы Польшчы.

[5] ***Czołg*** (польск.) — танк.

[6] **Гарволін** (польск. *Garwolin*) — горад у Мазавецкім ваяводзтве Польшчы, за 70 км ад Варшавы.

[7] Магчыма, маюцца на ўвазе гарады **Хэлм** (польск. *Chełm*) у Люблінскім ваяводстве Польшчы й **Ковель** (укр. *Ковель*) у Валынскай вобласьці Ўкраіны.

Вёска разьмяшчалася каля лесу. Уздоўж лесу цягнулася дарожка, а з аднаго стараны уздоўж гэтай дарожкі быў насып, вышынёй можа зь якіх паўмэтры. Аказала[ся] пазьней, што немцы прадугледзелі нашую атаку і добра падрыхтаваліся, як у вёсцы, так нават паўзлазілі на дрэвы, і калі мы прыблізіліся, адкрыўся вялікі агон[ь] з аўтаматаў з усіх старон. Мы не змаглі выскачыць зь лесу на вёску, а паляглі на скраю, уздоўж дарожкі. Пачуўся стогн раненых нашых жаўнераў.

Тут пры мне адзін ранены ў нагу жаўнер пачаў клікаць санітар'юша, які неўзабаве падбег і пачаў распінаць яму дзягу. У тую ж хвіліну куля трапляе ў яго, і ён мёртвы кладзецца на раненага. Ранены ўзяў яго за валасы і палажыў пры сабе, а сам падняўся і седзячы пачаў сваім бандажом авіваць рану. Бачучы, што ня хопіць свайго бандажу, зьвярнуўся да мяне аб другую як-бы порцыю. Я пачуўся страшна заскочаны такой просьбай. Адрухова[8] сказаў, каб даконьчваў свой бандаж, а сам пачаў думаць сакандова[9] — даць ці ня даць. Кожны салдат меў пры сабе як жалезную порцыю: маленькі засушаны сухар і асабістага кружолачку бандажу. Добра будзе, калі ён не спатрэбіцца, але можа акурат у такую-ж хвіліну і сам буду патрабаваць. Гэта так прыкрая сытуацыя не цягнулася доўга, бо ў тую ж хвіліну куля трапляе ў гэтага раненага і ён ціха кладзецца на зямлю. Я ўзяў, як ашаломлены ўсім гэты[м], адрухова пачаў паўзьці ў глыб лесу, а пазьней, не зважаючы на сьвіст куляк, ускочыў і пабег у глыб лесу, гдзе напаткаў шмат другіх жаўнераў, і пачалі ўцякаць ад тога нешчасьлівага месца.

У пару дней пазьней затрымаліся у адным ляску, гдзе да невялікай нашай групкі жаўнераў падыйшоў адзін польскі капітан і аб'явіў, што вайна прайграная. Мы — кажа — ахвіцэры будзем кіравацца на Вэнгры[ю] і Румынію, а кожны жаўнер няхай паступіць згодна свайго погляду, ці ідзе разам зь імі, ці вяртаецца да дому.

Спаліўшы там-жа зброю, кожны накіраваўся ў сваю старонку. Нас — Віленьчыкаў — знайшлося штось каля 5-ці асоб. У аднэй разьбітай школе знайшлі нейкую мапку, на якой крыху зарыентаваўшыя ўзялі кірунак да сваіх родных дамоў.

Ужо ў Тамашаве-Любэльскім[10] напаткалі першы раз савецкіх жаўнераў. Першым іх пытаньнем было, ці ня маем пры сабе аружжа, пасьля казалі — ступайце дамоў картошку капаць. Перш мы стараліся ісьці толькі днём і па малых паселішчах. Але пазьней, я памятаю, зайшлі на чыгуначную станцыю ў Сарнах[11]. І дзіўная рэч — бачым ужо шмат вагонаў

[8] **Адрухова** — нясьведама, машынальна.

[9] Ад польск. ***sekundo*** — па-другое.

[10] **Тамашаў-Любэльскі** (пол. *Tomaszów Lubelski*) — горад у Люблінскім ваяводзтве Польшчы.

[11] **Сарны** (укр. *Сарни*) — горад у Ровенскай вобласьці Ўкраіны.

праходзячых з польскімі жаўнерамі, як палоннымі, а мы сядзім на станцыі, гдзе поўна ўжо краснаармейцаў, якія, аднак, нас зусім не чапаюць.

Пазьней мы рассыпаліся, і я сам дайшоў шчасьліва да Нова-Ельні[12], недалёка ад Ліды, і адшукаў свайго калегу з тэхнічнай школы, аб якім ужо ўспамінаў — Парфіра Харытановіча. Ён быў акурат дома. Па пару днях гасьціны я дастаўся ў Ліду і сеў ужо ў прыватныя вагоны цягніка, які меўся давезьці мяне ў Вільню. Але так ня сталася, бо тут-жа перад ад'ездам адкрыліся дзьверы вагону і адзін чырвонаармеец "папрасіў" выйсьці з вагону на адну хвіліну. У гэтым часе цягнік адыйшоў, а мяне завялі туды, гдзе ўжо поўна было польскіх пленных.

Тут я схамянуўся як лёгкамысьленным я быў, што нават не падумаў вопраткі зьмяніць з вайсковай на цывільную. У пару днях пазьней нас заладавалі ў цялятнік, і цягнік рушыў на Маладэчна, а пазьней у Радашкавічы, і, напэўна, меў прыказ вязьці гдзесь у глыб Расіі. Але нейкім цудам нас затрымалі на станцыі Радашкавічы, якая знаходзілася ўжо даўжэй на савецкай старане. Стаім тут добрых пара дней, пачынаюць нас перапісаваць, а пазьней заявілі разыходзіцца ўсім па дамах. Зь невядомых прычын акурат гэты эшалон атрымаў прыказ усіх распусьціць.

Так я пад вечар дайшоў да сваей замужняй сяст[р]ы Гілены у вёску Зацішак[13], 4 км ад станцыі Парфенава[14]. Па дарозе да самага яе дому я пристанавіўся каля аднаго вогнішча на полі, гдзе капалі картофлю. Празь нейкі час людзі там мяне зусім не пазналі і гутарылі як з зусім чужой асобай. Па паратыднёвым адпачынку і па хоць кароткім запазнаньню з нова-паўсталымі мяйс[ц]овамі "ўладамі" я зразумеў, што мушу ўзяцца за якуюсь працу, бо вясковыя, нованароджаныя "героі камунізму" пачынаюць мяне вытыкаць пальцам як капіталіста, які меў змогу вучыцца ў вышэйшых школах. Узяўшы некаторыя школьныя пасьведкі, я паехаў у Глыбокае ў школьны аддзел, гдзе безь ніякіх цяжкасьцяў атрымаў назначаньне ў адну з нашых вёсак — Селішчы[15] як настаўнік пачатковай 4-хкласнай школы.

Калі прыбыў на мейсца прызначэньня, напаткаў і запазнаў настаўніцу чыста польскага паходжаньня, якая ня ўмела ўпрост ані аднаго

---

[12] **Наваельня** — гарадзкі пасёлак у Дзятлаўскім раёне Гарадзенскай вобласьці, па лініі чыгункі Баранавічы — Ліда.

[13] **Зацішак** — колішні засьценак у Параф'янаўскай гміне (Параф'янаўскім сельсавеце) Докшыцкага раёну Віцебскай вобласьці. Цяпер не існуе.

[14] Маецца на ўвазе **Параф'янава** — чыгуначная станцыя ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласьці, за некалькі кілямэтраў ад аднайменнай вёскі. Парфенава, Пархвенава — традыцыйная назва, якую ўжываюць мясцовыя жыхары.

[15] **Селішча** — вёска ў Крыпульскім сельсавеце Докшыцкага раёну Віцебскай вобласьці.

слова ані рускага, ані беларускага. Я, не атрымаўшы ніякага канкрэтнага ўказаньня ад акруговай школьнай управы, пачаў вучыць і гутарыць з вучнямі толькі па-беларуску, з чаго адразу дачуўся, што мяйсцовыя людзі, уключна з прадсядацелям, і вучні былі вельмі задаволеныя.

Каб хоць крыху навязаць лучнасьць зь якімісь больш культуральнейшымі асобамі, я пад прэтэ[к]стам сьціслага перапісу сваіх школьнікаў пайшоў да бацюшкі Голуба[16] у вёсцы 2-га Гнязьдзілава[17] і запазнаўся зь ім і ўсёй сям'ей, а асабліва зь яго дачкой Тэсяй. Як большасьць нашых сьвятароў, так і гэты Голуб гутарыў па-руску, але пазьней шмат зьмяніўся і цалкавіта падзяляў справу беларускую. Акрамя таго, што быў зроблены данос аб маім сяброўстве з гэтым духоўным у школьны інспэктарат, і я перажыў вялікую палеміку з інспэктарам, не магу забыць другога важнага моманту, калі надыйшло Вялікадня і я схацеў пасьці ў споведзь да яго, то зрабілі гэта раненька, толькі ўдваіх, пры закрытых дзьвярах.

Тут [у Селішчы] я прабыў толькі адзін школьны год. На другі мяне перанясьлі на маю просьбу ў крыху бліжэйшую школу ад горада Докшыц і маей роднай вёскі ў вёску 1-шае Гнязьдзілава[18]. Две гэтыя вялікія вёскі Гнязьдзілавы былі разьмешчаны штось у разьлегласьці 3—4 км, а пасярэдзіне якіх быў вялікі маёнтак — такі-ж Гнязьдзілава.

У новым мейсцы маёй працы пачатковая 4-хкласная школа была разьмешчана ў двух будынках. Мае першыя 2 класы знаходзіліся ў будынку праваслаўнай плябаніі. Другія наступныя 3-ці і 4-ты класы мясьціліся ў даўнейшым школьным будынку, у адлегласьці якіх 100 м. Туды была назначана настаўніцай і кіраўнічкай савецкая камсамолка, зь якой я зь мейсца зусім ня зжыўся з прычыны камплетна іншых поглядаў на ўсе жыцьцёвыя праблемы.

Мая школа і маё памешканьне мясьціліся на адным канцы плябальнага дому, а на другім жыў сам сьвяшчэньнік Нядзельскі[19]. Кухня ў нас была супольная. Ён ня меў сваёй сям'і, так што ў кароткім часе мы так зь ім зжыліся, што ён мяне пачаў называць *"сын возлюблены"*. Паліў

---

[16] Маецца на ўвазе **Іосіф Голуб** (1889—?), праваслаўны сьвятар. У 1925—1943 гг. служыў у Паўднёвым Гнязьдзілаве, з 1943 г. — у Менску. У 1944 г. арыштаваны й асуджаны на пяць гадоў. У 1949 г. вярнуўся, служыў у Круглым (Магілёўскай вобласьці), у 1952 г. выехаў у Стаўрапольскую япархію. Далейшы лёс няведамы.

[17] **Другое Гнязьдзілава** — цяпер Паўднёвае Гнязьдзілава — вёска ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласьці.

[18] **Першае Гнязьдзілава** — цяпер Паўночнае Гнязьдзілава — вёска ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласьці.

[19] Маецца на ўвазе айцец **Іван Нядзельскі**, які быў сьвятаром Гнязьдзілаўскай царквы й памёр у 1939 г.

печку, рабіў абеды, будзіў зрана. Я стараўся забясьпечыць нас прав[і]-янтам, бо яму нават буханку хлеба не хацелі даць у сельпо-лавачцы.

Такое наша жыцьцё не пацягнулася доўга, бо аднаго вясеньняга ранку, робячы сьнеданьне, мы пачалі мэдыкаваць, ці зужыць увесь кусочак саланіны, ці аставіць крыху на заўтра. Паколькі я прыпамінаю, я быў за тым, каб укінуць у зупу ўвесь кусочак, а ён — частку. Ён гэтага ранку меўся ісьці ў лес, каб выпаўніць леса-вырубчы налог, і па пярэднім цяжкім дні, які правёў у Докшыцах у якімсь паліцыйскім аддзяленіі па назначэньні грашавога падатку ад даходу з свайго прыходу, ён чуўся выняткава зьнядужаным духова і фізічна. Пачаў моцна наракаць на свой лёс, а я як мог хацеў яго пацешыць. Калі так гутарылі і сьнедалі, у дзьвярах зьявіўся адзін селянін, просячы бацюшку паехаць пахараніць аднаго памёршага чалавека ў адлегласьці якіх 6 км. Ён замест ісьці ў лес сеў і паехаў на пахові[ны]. Гдзесь крыху па паўдні, калі я яшчэ займаўся з вучнямі, чалавек прывёз бацюшку, азнаймляючы, што ён ужо там на мейсцы, а пазьней у дарозе моцна захварэў, стагнаў і кідаўся па санках. Зьнядужанага мы ўвялі ў дом, палажылі на ложку, і чалавек паехаў дамоў, а я хацеў толькі бегчы да дзяцей, але перш думаю дам крыху вады папіць. Толькі я крануў за вадой, у той-жа час айцец моцна пачаў кідацца ў ложку. Я тады падбег і пачаў адкачваць яго больш ад берагу да сьцяны, аж чую ён канае. За пару хвілін пазьней я сьцьвердзіў цалкавіты яго згон.

Зараз знайшоў сьвянцоную сьвечку, запаліў і безгранічна пахваляваны пабег да дзяцей. Што за прычына так раптоўнай сьмерці, астаецца да сучаснага нязнаная, бо не было абсалютна ніякага лекара, ані адпаведнай камісіі па згоне. Я асабіста тлумачу гэта разрывам сэрца зь вялікага расстройства духовага. У дню пахарону я здэцыдаваўся пайсьці ў цэркаў і безумоўна напаткаў там шмат сваіх школьнікаў.

Каб крыху разагнаць дамовую пасьмертную пустату, я натыхмястова справадзіў да сябе сваю маму, якая і так жыла сама ў бацькоўскім яшчэ доме. Маё захоўваньне не падабалася савецкай настаўніцы, і яна неадкладна зрабіла данос у інспэктарат, у рэзультаце чаго ў пару днях прыехаў да мяне школьны інспэктар. Знайшоўшыся ў маім пакоі, ён адразу схапіў са стала і схаваў у кішэнь маленькі мадлітэўнік. Падчас лекцыі мне ўдалося адскочыць на хвіліну да мамы і сказаць аб выпадку. Пасьля лекцыі, калі мы селі ў пакоі і пачалі гутарыць аб і[н]спэктаравых розных заўвагах, раптоўна мама перарывае нашую размову і пытае ў мяне, ці я ня бачыў яе кніжачкі, якую яна чытае, калі прадучы захоча спаць. Тады інспэктар выцягнуў з кішэні гэту кніжачку і аддаў маме. На яго (інспэктара) яўныя закіды да мяне як савецкага настаўніка я захваляваўся і пачаў даваць вытлумачаньні, кажучы, чаму інспэктарат пазволіў мне карыстацца з адной кухні разам з бацюшкам, праз што я змушаны быў заўсёды спатыкацца і зжыцца [зь ім] да таго, што па

сьмерці я пайшоў у цэ[р]каў, не каб маліцца, а каб аддаць хрысьціянскі доўг як найлепшаму свайму калегу. Канчаткова сказаў яму, што не я вінават, а ваша ўсіх варожае захоўваньне да мяне, а асабліва маей спаўпрацоўнічкі, савецкай настаўніцы.

Інспэктар адʼехаў, не аказаўшы сваёй канчатковай апініі, толькі пазьней на настаўніцкай канфэрэнцыі зрабіў агульны закід, што не вяду а[н]тырэлігіёзнага ўзгадаваньня сярод дзяцей і што не ўладаю належна рускім языком. У адказ я падзякаваў яму за зьвернутую ўвагу што да языка, але кажу яму, што ёсьць сярод нас настаўнікі яшчэ больш няўмекі ад мяне, і на довад паднёс яму штось зь дзесяць маленькіх запісак маёй савецкай настаўніцы, якія [яна] у форме ўсялякіх загадаў або паведамленьняў перасылала мне праз сваіх учанікоў. Яна, відаць, паходзіла з усходняй Беларусі і ня мела абсалютна ніякіх школ, таму ў кожным слове рабіла масу памылак. Распачынала, напрыклад, сказ словам "дык" і г. д. Паглядзеўшы на гэтыя лістоўкі інспэктар сказаў: *"Я ведаю, што вы маеце большую адукацыю"*, чым я зусім задаволіўся.

Пазьней я завайстрыў зь ей (настаўніцай) адносіны ў справе "прагулу". Я стараўся распачынаць навуку дакладна на час, дзеля таго нават пазычыў у айца Голуба найлепшы яго кішанковы гадзіньнік. А яна ўзноў пазваляе ў той час гуляць учанікам яшчэ на панадворку. Гэта кідалася страшна ў вочы ўсім праходзячым. Баючыся аб сваю скуру, я рашыў аднаго разу паведаміць аб гэтым інспэктарат. Таго-ж дня, вяртаючыся дамоў, я зайшоў да яе і сказаў аб усім, дадаючы, што я мусіў зрабіў так, ведаючы, што вам нічога ня будзе, а я можа спасуся ад такога закіду, як "прагул".

У такім вось настроі мне ўдалося закончыць другі год школьнай вучобы. Думаю за неабходнае крыху ўспомніць аб адной маёй прыпадковай гутарцы з заведуюшчай так званага нашага настаўніцкага "Праўсаюза". Знайшоўшыся пры адным стале ў школьнай сталоўцы, яна распачала гутарку такімі словамі: *"Ці вы пераключыліся на савецкую ўладу?"* На што я адказаў: *"Ці лічна я, ці ўсе мы — заходнікі?"* Яна адказвае: *"Пускай будзет касатся вас самих"*. Так і я пачаў наступнае: *"Сказаць што «так» — вы не паверыце, а сказаць што «не» — вы скажыце, што не актыўны. Вабшчэ вы савецкія людзі і ўлады адносіцеся да нас — западнікаў — вельмі крытычна, у рэзультаце чаго, калі хто пачне замоцна хваліць новую ўладу, то скажыце — хочыць затушаваць свае старые грашкі, а нічога не рабіць узноў не магчыма, бо ня любіць новай управы"*. Тады яна кажа мне: *"Куманёк, Вы спрытна гутарыце, але помніце, ад савецкага глазу нікто не ўвайдзёт"*. На што я адказаў, што мяне асабіста гэта абсалютна не ўстрашае, я даўней і цяпер стараюся зарабіць на кавалак хлеба, а мама мая, як даўней, так цяпер кудзельку прадзець на неабходную вопратку. Магчыма, што праз такую гутарку яна пачала да мяне аднасіцца даволі прыемна і крыху

пазьней нават запрапанавала экскурсыйную паездку на Крым. Аднак калі пайшоў у Н.К.В.Д. па пуцёўку, то атрымаў адмову.

Ня так мне хацелася аглядаць Крым, як па дарозе затрымацца ў Маскве і пашукаць свайго брата — Косьцю. Я пачаў штораз больш заўважаць непрыхільныя адносіны савецкіх маіх зьверхнікаў, з прычыны чаго я рашыў зьмяніць мейсца працы і перайсьці з учыцельства на мярнічага. Узяўшы посьведкі з Тэхнічнай школы, я паехаў у Старую-Вілейку, у акруговы зямельны аддзел, гдзе адразу зьнялі мяне з учыцельства і назначылі землямерам у Дзісну, куды я сам хацеў пераехаць.

Акурат гэтай начы праводзілася найбольшая акцыя вывазу людзей. Ідучы па вуліцы Стара-Вілейкі або на тамашняй чыгуначнай станцыі бачылася пагрузка людзей у вагоны. Я ў духу ўстыўся, што акурат выехаў і не знаходзіўся дома. Ідучы дамоў, пачаў адчуваць нейкае неспакойства сярод людзей, а асабліва у саветчыкаў. Аж не ўзадоўгім даведаўся, што распачалася вайна зь немцамі.

Зь першых дней паўстаў вялікі нялад у кожнай установе. Савецкія людзі з усіх установаў зьнікалі, уцякаючы на ўсход. Не даконьчаны вываз і з часткай заладаван[ых] людзей павязьлі гдзесь тако-ж на ўсход. Чутна было пазьней, што іх пабілі па дарозе. Незадоўга ў нашым мястэчку зьявіліся нямецкія аддзелы.

Трэба прызнаць вялікі спрыт палякаў, бо адразу абнялі ў свае рукі ўсе даслоўн[а] ўстановы. Шмат а шмат зьявілася старых урадоўцаў, займаючых свае даўнейшыя пасады. У нашым мястэчку Докшыцах, напрыклад, уладаваўся пры нямецкім ахвіцэру гаспадарчым — “зондэрфюрэру” — малады, знаны папярэдня для мяне і для ўсіх людзей як вечны гімназіст палячок Рачыцкі як пераводчык. Кожны наш селянін мусіў гутарыць толька да яго па-польску, а справы залатвляў пераважна так, што людзі вылятaлі як пробкі зь іх прыёмнай канцылярыі. На шчасьце, кіраўнікoм староства у Глыбокім стаўся наш беларус, прозьвішча якога не магу прыпомніць. Ведаю толька, аб чым дазнаўся ад маей першай жонкі Ніны Стома[20], што ён быў для іх блізкім сваяком.

Разумеючы добра, што трэба брацца за якуюсь працу, я паехаў у гэта Глыбоцкае староства і атрымаў назначэньне ў Парфенаўскую гміну, як звычайны ўрадовец. Калі прыбыў у гэтую гміну і зайшоў у габінэт вуйта, я пачуў словы: *“О, першая беларуская птушачка”*. Пазьней запазнаўся з маім назначаньнем і запрапанаваў выпіць крыху сьпірту, які стаяў у вялікай бутлі ў кутку пакоя. Гміна “Парфенава” знаходзілася ў вялікім маёнтку Парфенава, у адлегласьці штось пару км ад станцыі.

[20] **Ніна Стома** (1912—2001), сястра мэмуарыста Васіля Стомы. Паходзіла з м. Лужкі (цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобласьці). У часе Другой сусьветнай вайны разам з маці й братам апынулася ў Нямеччыне, адкуль у 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Брансўіку. Была прыхаджанкай царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайлэнд-Парку.

Парфенава знаходзілася 10 км ад Докшыц і не лічылася маей гмінай, дзеля таго я мала каго там знаў. Але як пазьней даведаўся вуйтам, якога я запазнаў, быў передваенным польскім вуйтам, і большасьць урадоўцаў аставалася передваенная. Сакратаром у той час быў недакончаны праўнік Шылавіч з паблізкіх вёсак, але вялікі "паляк".

Штось на пару месяцах ад майго прыбыцьця зьявіўся у гміну як новы вуйт-старшыня Васіль Парфяновіч, далёкі нават мой крэўны па маей маме, якога я папярэдня зусім ня знаў, толькі чуў ад мамы. Па абняцьцю старшынскай працы ён адразу сабраў усіх урадоўцаў і сказаў наступнае: *"Ад сяньня гэта гміна ёсьць беларускай гмінай. Пісоўня і гутарка вымагаецца толькі беларуская. Каму, можа, ня будзе падабацца, можа адыйсьці нашыхмястова"*. Яўны супраціў такой пастановы пачаў рабіць сакратар, і можа таму хутка пастараўся (старшыня), каб я абняў яго працу. Паміма ўсяго камплетнай замены ня можна было чакаць як ад урадоўцаў, так нават і ад некаторых людзей. Памятаю добра, што, напрыклад, тамаш[ні] доктар ніколі не адазваўся да нас па-беларуску. Так сама захоўваўся кіраўнік малачарні Малахоўскі.

Наш сакратар Шылавіч пайшоў на станцыю Парфенава і стаўся кіраўніком у Т. О.[21], ад якога пазьней залежаў і сам, каб атрымаць якое кіля солі, уся гаспадарка і сельскае багацьце знайшлося ў яго руках. Нам, дзеячом-беларусам, усюды пачалі падстаўляць ногі. Маючы ў сва[і]х руках соль, мяса, хлеб, малако і лес, мелі змогу запрашаць і паіць цэлымі начамі немцаў і настаўляць супраць нас, у рэзультаце чаго часта прыходзілі у гміну і за былешто прычэпляліся або нават страшылі сваімі рэвольвамі. Трэба было страшна ўважаць на найдрабнейшыя рэчы. Па нейкім часе, можа па паўгоду, колькасьць беларусаў пачала значна пабольшваць і асвайвацца беларуская справа сярод непрыхільнікаў. Шмат выявілася добрых беларусаў сярод настаўнікаў, на чале з дырэктарам парфенаўскай школы[22], быўшым учыцелем, спадаром Воранам. Сярод жыхароў пачалося адчуваньне шторазь большай прыхільнасьці і зразуменьня, шмат дапамагалі солтысы, якіх мы стараліся належна ўсьведаміць, а яны сялян.

Штось па годзе часу пачала размнажацца партызанка, новая бяда для насельніцтва і небяспека для ўсіх людзе[й]. Штораз часьцейшыя пачаліся напады на вёскі, забойствы нявінных людзей. Майго старшыню перавялі ў павет у Докшыцы. На мейсца яго прыйшоў вясковы чалавек Баравы, быўшы солтыс. Душа, а не чалавек, але не давялося

[21] Відаць, маецца на ўвазе **Цэнтральнае гандлёвае таварыства "Ўсход" (ЦТО)** — нямецкая арганізацыя для сбыту сельскагаспадарчай прадукцыі, заснаваная на загад Гэрмана Гёрынга (*Hermann Göring*) у 1941 г.

[22] Параф'янаўская школа была заснаваная ў 1932 г. і месьцілася ў вёсцы Заборцы.

яму пажыць доўга, бо аднаго разу паехаў на вёскі правяраць вывазку лесу, а там напалі партызаны, ад якіх ён уцякаючы наскочыў на міну, і паадрывала яму ногі. Сканаў, ёдучы ў шпіталь у Глыбокае. На мейсца яго прыйшоў іншы быўшы солтыс Абумаха. Зь ім ужо давялося ехаць разам на Прусію.

Хачу крыху затрымацца над лёсам былога майго старшыні Парфяновіча. Аднаго летняга паранку напалі на Докшыцы партызаны — так званыя Радыёнаў[цы][23]. Чуючы перастрэлку, старшыня выбег на вуліцу, гдзе [яго] спаткаў крыху здаецц[а] знаёмы адзін партызан і адразу застрэліў яго. Акурат цела яго знайшлося каля школы, якую партызаны спалілі і разам старшыню[24]. Пазналі пазьней яго толькі па вопратцы.

Крыху раней ад гэтага нападу здарылася вялікае няшчасьце з маім дваюра[д]ным братам Жэнькам[25], таксама у Докшыцах. Ён быў забраны саветамі на будову лётнішча недзе пад Беластокам. Таму можа, што знаў добра язык немецкі, яму ўдалося вярнуцца дадому. Пачаткова абняў працу настаўніка, а пасьля абняў старшыньства ў Докшыцкай гміне. Згодна свайго становішча прыходзілася яму часта спатыкацца з Докшыцкім зондэрфюрэрам, які чамусьці яго так палюбіў, што змусіў Жэньку перайсці да яго як пераводчыкам, а Рачыцкага адсунуў ад сябе. Безь ніякай перасады мушу сказаць, што акалічныя людзі страшна цешыліс[я] з таго, бо ішлі як да свайго чалавека, не патрабуючы цокаць па польску і здалёк знімаць шапку, як перад папярэднім панком.

Аднак так не пацягнулася доўга. Аднаго дня зондэрфюрар, паміма вялікага пратэсту Жэнькі, змусіў ехаць аўтам разам зь ім самім у лес для праверкі вывазкі лесу. Там партызаны ўжо чакалі на фурманкі, а тым больш на нямецкае аўта. На самым скрайку лесу каля вёскі Янкі[26] пачалі абстрэльваць аўта, забіваючы афіцэра[27], а Жэнька, відаць, зь перастрэленымі нагамі пачаў уцякаць у лес, гдзе яго злавілі партызаны, разьдзелі да калісонаў і пэўна казалі легчы сьпіной да зямлі і аўтаматам

---

[23] Відаць, маюцца на ўвазе ўдзельнікі брыгады СС "Дружына" пад кіраўніцтвам **Уладзімера Гіль-Радзівонава** (1906—1944), якая ў 1943 г. змагалася з партызанамі на Віцебшчыне й перайшла на іх бок, пераўтварыўшыся ў 1-ю антыфашысцкую партызанскую брыгаду.

[24] Напад партызанаў на Докшыцы адбыўся 17 жніўня 1943 г. з удзелам брыгады Ўладзімера Гіль-Радзівонава, а таксама брыгады "Жалязьняк" з-пад Бягомля.

[25] Відаць, маецца на ўвазе **Яўген Рыгоравіч Сьпічонак**, тагачасны старшыня воласьці ў Докшыцах.

[26] **Янкі** — вёска ў Докшыцкім сельсавеце Докшыцкага раёну Віцебскай вобласьці.

[27] Забітым афіцэрам, магчыма, быў раённы сельскагаспадарчы кіраўнік Пэтэр Гартман, які загінуў 25 чэрвеня 1943 г.

пацягнулі па галаве, астаўляючы чатыры дзіркі з фронту, а зад галавы застаў зусім знесены, як-бы вырваны. Заалярмаваная паліцыя і нямецкія часткі рушылі на мейсца выпадку і адбілі аўта разам з афіцэрам, а Жэньку нібы не знайшлі і так вярнуліся у Докшыцы. Я застаў павядомлены ў Парфенаўскую гміну тэлефанічна. Гэта было акурат у пятніцу, і я вёў паседжаньне з солтысамі. Адразу пакінуў усё, сеў на ровар і паехаў у Докшыцы. Прыехаўшы туды, дазнаўся, што Жэнькі яшчэ няма. Так я накіраваўся адразу роварам на мейсца выпадку, не зважаючы на ніякую небяспеку. Пад'язджаючы да знанага гэтага ляску, я пабачыў вясковую фурманку, выязджаючую з гэтага лесу. Калі мы дастатков[а] прыблізіліся, я пабачыў на вазе Жэньку, прыкрытага трохі белай пасьцёлк[ай]. Так загінуў выдатнейшы чалавек. Быў студэнтам другога году "ральніцтва" ў Вільні. Быў вельмі прыгожы, іграў прыгожа на гітары, вельмі прыгожа сьпяваў. Але найважнейшае, што быў вялікім нацыялістам, любіў людзей і людзі яго таксама. Пазьней людзі гаварылі, што партызаны самі казалі, што яны ведаюць, што ён — Жэнька — добры чалавек, і мы яго забіваць не зьбіраемся. Гэта сталася, калі не памыляюся, за тыдзен[ь] ці за два, штось у ліпені 1943 года.

Па двух днях пабыту пры пакойніку я ў нядзелю захацеў скочыць у Парфенава, якбы пра[д]чуваючы, што і там станецца штось нешчасьлівага, у чым не памыліўся. Прыехаўшы дзесь пад вечар на станцыю Парфенава, я прысеў на прызьбе адных маіх знаёмых. Толькі я пачаў расказваць аб докшыцкім выпадку, калі пабачыў з-за ляска дым над маёнткам Парфенава, гдзе была і мая гміна. Я кінуўся туды і пабачыў сваю гміну ў полымях агню і збоку перапужаную сваю маму, якая пражывала стала з са мной. Ад яе я дазнаўся, што прыбеглі партызаны ў гміну і пачалі пытаць праз сакратара. Калі мама сказала ім, што яна ёсьць толькі сторажка і нічога больш не ведае, то яны сказалі ей выхадзіць, а самі сабралі паперу на стол і падпалілі. Пазьней пабеглі ў млячарню, якую тако-ж падпалілі і спалілі, а пазьней гэта самае зрабілі і з школай, будынак якой быў вельмі прыгожы і нядаўна збудаваны[28]. Франтовае непаводжаньне немцаў і вялікая партызанка разложчавала мяйсцовых немцаў да таго, што пачалі паліць вёскі і людзей. Такія два выпадкі зайшлі ў нашай гміне Парфенава. Зь людзьмі спалілі вёску Залатухі, а пазьней вёску Азарцы[29], пад пратэкстам, што там прабывалі партызаны.

Па цалкавітым пагроме жыдоў, летам 43 году, яшчэ больш павялічылася партызанка, бо нейкая колькасьць жыдоў патрафіла неяк

[28] Паводле некаторых зьвестак, напад партызанаў на Параф'янаўскую гміну са спаленьнем малачарні й школы адбыўся ўвосень 1943 г.

[29] **Залатухі, Азарцы** — вёскі ў Докшынскім раёне, зьнішчаная немцамі разам з жыхарамі ў часе акупацыі, не адноўленыя.

ацалець і пайсьці ў лес. Я ўсімі сіламі стараўся ня быць участніка[м] у забойстве жыдоў, а ў меру магчымасьці памагчы. Ведаў, напрыклад, што ў майго брата Мішы і ў дзядзі Грыгора[30] прахоўваюца жыды. У дзядзі ўпрост уся сям'я Крэмары, які цяпер Крэмар Залман[31] і з сваей сястрой пражываюць каля Нью-Брансьвіку. А ў Мішы Ютка Гётман, які цяпер праз гадоўлю курэй стаўся міліянерам у стэйце Конэктыка[32], а які пры сустрэчы з са мной (запрасіў мяне да сябе ў госьці, штось у 1963—64 годзе), часта сам казаў, што каб не наша сям'я, ён бы ніколі не астаўся б у жывых, але ўсё-ж т[а]кі не патрафіў запрапанаваць якуюсь працу ў сябе. Толькі жонка яго патрафіла выразіцца на маё нараканьне на безрабоціцу наступна: *"Калі ўжо будзеш мець нож на горле, то прыязджай да нас, у нас працы хопіць"*. На што я падумаў, што з такога запрашаньне я напэўна не скарыстаю.

Аднак і я мушу сказаць, што каб не Парфенаўскія жыдкі, я тако-ж ужо-б напэўна ня жыў. Таго-ж самага лета, што і пагром, я пайшоў з сваім старшынёй у засьценак Несьцераўку[33], два км ад станцыі Парфенава, на абжынкі. Вечар быў, памятаю, вельмі прыгожы, мы знасілі снапы, а пазьней пачалася папіянка. Калі была пара вяртацца дамоў, то мой старшы[н]я сеў на воз зь сям'ёй Баравых і паехаў дамоў. А я вышаўшы на двор бачу, што распачаўся вялікі дождж, і ехаць роварам было ўпрост немагчымым, а асабліва добра падпітаму. Я падумаў, што няўжо акурат гэтую ноч прыйдуць сюды партызаны, завярнуў у хату і бухнуў у ложак. Толькі смачна заснуў, калі пачуў штурханьне ў бакі мае і словы: *"Выхадзі, сволач, на двор"*. Ужо быў узяты з крэсла мой пінжак, карманны гадзіньнік, боты. Пад настаўленые вінтоўкі мяне вывелі на панадворак, аж у тую хвіліну падбягае да ног жыдок, адзін былы настаўнік, і кажа да мяне: *"Віця, ты пазнаеш мяне?"* Гэтаму я не запярэчыў. Так ён адвёў крыху двух маіх "ахоўшчыкаў", штось пашаптаў зь імі, пасьля чаго яны вярнуліся і кажуц[ь]: *"Ступай, сволач, у хату і прадаўжай спаць"*. Што я і зрабіў. Па нейкім часе, прыне[с] мне адзін вясковы чалавек у гміну запіску ад гэтага жыдка з наступнай трэсьцяй[34]: *"Таварышч Віця, ты знаеш, што красная армія ўжо набліжается,*

---

[30] Відаць, маецца на ўвазе **Рыгор Сьпічонак**, бацька згадванага вышэй Яўгена Сьпічонка, забітага партызанамі. Паводле зьвестак з кнігі "Памяць. Докшыцкі раён" і габрэйскіх успамінаў, менавіта Яўген Сьпічонак быў датычны да выратаваньня сям'і Крэмараў.

[31] **Залман Крэмар** (1918—1995), габрэй з Докшыцаў, які пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША.

[32] Маецца на ўвазе штат Канэтыкут.

[33] **Несьцераўка** — колішні засьценак у Параф'янаўскім сельсавеце Докшыцкага раёну Віцебскай вобласьці. Цяпер не існуе.

[34] ***Treść*** (польск.) — зьмест.

*ты знаеш, што мы табе спасьлі жыцьцё, так ажыдаем цебя ў лесу"*. Аб рэалізацыі такіх "запросін" я абсалютна ня думаў, але з "запіскай" была крыху бяда, бо ня ведаў, ці мэльдаваць нямецкім уладам, ці не, бо ану-ж гэты самы чалавек пойдзе і замэльдуе, што я вяду нейкую сувязь з партызанамі. Але канчаткова спаліў, і на гэты[м] усё і закончылася.

Набліжаўся час разлукі з родным домам і Радзімай. Частка людзей адразу была здэцыдована пакідаць усё і ўцякаць у сьвет, а іншыя аставаліся да апошняга нездэцыдован[ыя]. Мяне і аднаго крыху зажытачнага і больш разьвітага чалавека павядоміў старшыня павету, што маем ехаць на Беларускі Кангрэс[35] у Менск на дзень 20-га чэрвеня 1944 года[36], што мы і зрабілі, а па павароце я толькі крыху спакаваўся, і разам зь сям'ёй селі на воз і рушылі ў дарогу. Даехаў зь імі разам да Граева[37]. Пазьней яны рушылі гдзесь пад Кэнігсбэрг, а я паехаў цягнікам да свайго дваюраднага брата (роднага брата Жэнькі) у мяйсцовасьць Мульдан[38], больш-менш у цэнтры Прусіі. На шчасьце, яго адшукаў і недалёка ад яго распачаў працу ў аднаго зажытачнага баўра. Брат Сашка быў там як польскі пленны. У кожным мейсцы там працавала многа польскіх пленных, напрыклад, у майго баўра было штось 5 такіх пленных. Той дв[аюрадны] брат, аказаваецца, абсалютна зь імі не зьбліжаўся, а меў штось з 4 асобы чыстых беларусаў, зь якімі толькі і праводзіў час. Яны выпісвалі беларускую газэту з Кэнігсбэргу, зь якой я дазнаўся аб паборы беларусоў у сваю армію і аб штабе, у якім працаваў Віця Кажан[39], мой дзісьненскі калега з школы. Я неадкладна напісаў да яго ліст з просьбай прысланьня мне позвы ў вой[с]ка. Ён гэта і зрабіў і акурат учас, бо на другі ўжо дзень мой бавар пачаў пакавацца і шыкавацца да ўцёку ад краснай арміі, якая вельмі хутка набліжалася. Аб легальным звальненьні мяне не хацеў і слухаць, то я рашыў ноччу ціхенька уцячы на жалезн[адарожн]ую станцыю, якая знаходзілася

---

[35] Маецца на ўвазе **Другі Ўсебеларускі кангрэс** — зьезд прадстаўнікоў беларускага народу, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 г., ва ўмовах нямецкай акупацыі Беларусі, у Менску.

[36] Аўтар памыляецца. Кангрэс адбыўся 27 чэрвеня 1944 г. Паводле пасьмяротных успамінаў пра Вінцэнта Сьпічонка, на Кангрэс ён ня змог даехаць.

[37] **Граева** (польск. *Grajewo*) — горад у Польшчы на поўначы Падляскага ваяводзтва.

[38] **Мульдэн** — цяпер горад Перавалава ў Калінінградскай вобласьці Расеі.

[39] Відаць, маецца на ўвазе **Віталь Кажан** (1916—2004), грамадзкі й вайсковы дзеяч. У час Другой сусьветнай вайны скончыў афіцэрскія курсы ў Менску, быў камандзіраваны ў Браслаў весьці падафіцэрскія курсы Самааховы. Працаваў у Глыбокім сакратаром, заступнікам акруговага старшыні Беларускай народнай самапомачы. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. З 1950 г. жыў у ЗША (Стэмфард, Канэтыкут).

штось у адлегласьці 8 км. Там паказаўшы “позву”, купіў білет упрост да Бэрліна, і калі падыйшоў цягнік, то быў так перапоўнены людзьмі, што мне прышлося стаяць на сходках і дзяржацца за халодныя жалезныя парэнчы голымі рукамі, але так даехаў да Гданьска. Па перасядцы другі цягнік, таксама моцна перапоўнены, (але мне ўдалося ўціснуцца ў сярэдзіну вагона) рушыў на Бэрлін, і я познай ноччу ўжо быў на мейсцы і сярод сваіх беларусоў.

З кожным днём усё пабольшавала нас там. Пачаліся рэгулярные вайсковые заняткі, але і распачаліся штораз часьцейшыя налёты. Памятаю, як мусілі перарваць акадэмію сьвяткаваньня Дня незалежнасьці і ўцякаць у падвал будынку ад налёту самалётаў. Штось у скорым, вясной 1944 года нас зарганізавана як будучых канды[да]таў на ахфіцэраў, заладавана ў цягнік і накіравана на Баварыю. Там мы пасяліліся ў вёсцы Вайгамар[40] і павялі чыста вайсковае жыцьцё. У камандных сілах было з пару немцаў, з адным ахфіцэрам, але большай часткі мы паслугоўваліся сваім беларускім языком, і нават ходзячы па баварскіх вёсках сьпявалі свае [песьні]. Не давялося і там доўга пабыць. Па адным ці крыху больш месяцы муселі маршэраваць, як-бы адступаць ад амэрыканьска[й] арміі. Пачаткова, памятаю, затрымаліся на некалькі дзён на пагранiччу Баварыі з чэхамі. Ніколі не забуду тамашняга краявіду, калі пачалі заквітаць сады. Мы прабавалі бегчы ў чэскія вёскі на дабычу за ежай, гдзе на[с] прынімалі вельмі прахладна, а нават варожа.

У незадоўгім наша беларуская армія, згодна перагавораў генерала Кушаля[41] з амэрыканскамі прадстаўнікамі, перайшла у палон да амэрыканцаў. Нас патрактавана як нямецкіх пленных, разьбівана на розныя часткі і пачалі вадзіць ад аднаго гораду да другога. Адну нашу частку патрафілі сваімі аўтамі завясьці аж у Шэрбур[42], а пазьней узноў адтуль у паўднёвую Францыю ў Дэжон-Льён[43]. Там францускі[ія] улады згадзіліся прыняць тых пленных, што ня хочуць вяртацца на сваю Радзіму, да сябе на работы, і ў гарадку Ля-Крэзо[44] наступіў акт перадачы. Там знаходзілася вялікая хвабрыка сталі пад назвай Шнайдар[45],

---

[40] Відаць, маецца на ўвазе **Ваергамэр** (ням. *Weiherhammer*) — камуна ў Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

[41] Маецца на ўвазе Франц Кушаль.

[42] **Шэрбур** (фр. *Cherbourg*) — акруга ў рэгіёне Нармандыя ў Францыі.

[43] **Дыжон** (фр. *Dijon*) — горад у Францыі, сталіца рэгіёну Бургундыя — Франш-Кантэ. **Ліён** (фр. *Lyon*) — горад у Францыі, сталіца рэгіёну Авэрнь — Рона — Альпы.

[44] **Ле Крэзо** (фр. *Le Creusot)* — горад у цэнтральнай частцы Францыі, у дэпартамэнце Сона й Люара, у Бургундыі.

[45] **Шнайдар-Крэзо** (фр. *Szneider-Creusot*) — француская фабрыка, якая спэцыялізавалася на вырабе зброі.

куды нас адразу прыдзялілі да працы. Некаторым з нас абсалютна не падабал[ася] праца ані абставіны.

Карыстаючы з калядніх пару вольных дзён, ціхенька мы сарганізавалі групу штось зь дзесяці асоб і цягніком кранулі пад Парыж з думкай дастацца ў Вартаўнічую кампанію, сядзіба якой была Крутуа[46] — вёска, між Рэймсам[47] а Кампень[48]. На мейсца мы прыбылі акурат позным вігілійным вечарам. Нас завялі адразу ў сталоўку і добра накармілі, а па некалькі днях прынялі ў сваю кампанію, і мы распачалі вартаўнічую працу над нямецкімі пленнымі.

Па нейкім часе я зь Ніхаёнкам[49] паехалі ў Парыж, каб адшукаць якійсь беларускі асяродак, і па вялікіх цяжкасьцях і лажан[ьні] па розных францускіх установах нам удалося дабіцца да ўкраінскага прадстаўніцтва, а якое ўжо давяло да таго часнаг[а] інжынэра Абрамчыка[50] і Рыдлеўскага[51], якія тады рэпрэзэнтавалі беларускую арганізацыю пад назвай — Хаўрус[52].

За іхнымі парадамі мы пачалі сьмялей арганізоўвацца у сваёй кампаніі, а пазьней нават пачаў прыязджаць да нас з Парыжа інж. Рыдлеўскі і праводзіць зборкі гдзесь у лесе, пад адкрытым небам. Увосень 1947 году нашу вартаўнічую кампанію цалкавіта разьвязалі, і мы гуртам усе пераехалі ў Парыж на стала[е] жыхарства. Дзякуючы стараньням інж. Рыдлеўскага мы ўпрост усе 16 асоб распачалі працу ў хвабрыцы красак. Памешканьні ўдалося наняць упрост усім нам у адным будынку на Ботзарыс[53]. Гэта вельмі спрыяла да арганізаваньня сваей арганізацыі. Пачалі праводзіць розныя зборкі, сарганізавалі свой хор, пад кіраўніцтвам сп. Шляхэткі, быўшага кіраўніка вайсковай аркестры. Арганізацыйны росквіт, на няшчасьце, не працягнуўся доўга. Пачалі

---

[46] **Крутўа** (фр. *Croutoy*) — камуна ў дэпартамэнце Ўаз на поўначы Францыі.

[47] **Рэймс** (фр. *Reims*) — горад і камуна ў рэгіёне Гранд-Эст у Францыі.

[48] **Камп'ень** (фр. *Compiègne*) — горад у дэпартаменце Ўаз на поўначы Францыі.

[49] **Янка Ніхаёнак** (1920—1986), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Вэрмонце (ЗША), жыў у в. Лебедзева Маладзечанскага пав. У час нямецкай акупацыі настаўнічаў. З 1944 г. — на эміграцыі ў Францыі. Адзін зь першых прыбыў у ЗША й стаў адным з арганізатараў беларускага жыцьця.

[50] Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

[51] Маецца на ўвазе Лявон Рыдлеўскі.

[52] **Хаўрус беларусаў у Францыі** — беларуская арганізацыя, заснаваная ў 1930 г. Л. Рыдлеўскім і М. Абрамчыкам (афіцыйна зарэгістраваная ў 1931 г.).

[53] Маецца на ўвазе раён станцыі мэтро ***"Botzaris"*** у 19-й акрузе Парыжу, названай паводле вуліцы *Rue de Botzaris*, што носіць імя грэцкага змагара за незалежнасьць Маркаса Бацарыса (1790—1823).

людзі то разьязджацца, то расьцярушавацца па Парыжы. Першым выехаў у Амэрыку сп. Янка Ніхаёнак. Пазьней восеньню 1949 году я выехаў у Канаду — Монтрэаль. Пазьней за мной прыехаў сп. Танкевіч, а пазьней сп. Монід[54], Паўловіч. Там (у Парыжы) радзелі людзі і слабела наша арганізацыя, паміма таго што пазаставалі[ся] моцныя і вельмі актыўныя нашы беларусы, як сп. Шыманец[55], сп. Наўмовіч[56] і г. д.

Пачаткі монтрэаляўскага жыцьця для мяне асабіста былі вельмі цяжкія. Я ня меў ані грошай, ані ніякага знаёмства. Дзякуючы, аднак, можа шчасьцю, а можа маёй станоўкасьці, я знайшоў працу нешта на трэці дзень свайго прыбыцьця ў маленькай хвабрыцы фрыжыдэраў[57]. У незадоўгім прыехаў да мяне другі парыжанін Танкевіч. Няведама, якім цудам дазнаўся аб нашым прыбыцьці адзін беларус, жыхар Монтрэаля, і прыбег да Танкевіча, каб штось дазнацца аб родных і знаёмых з свайго радзімага дому. (Здаецца, паходзілі з аднэй меснасьці.). Пазьней абсалютна ўжо больш да нас не паказаўся, баючыся, відаць, навязаць з намі сяброўства. Толькі я яго пабачыў пры рускай праваслаўнай цэр[к]ві на ўсеначнай, пасьля крэснага ходу. Ён стаяў сярод іншых якіхсь людзей, што дало мне падумаць, што яны, напэўна, ёсьць беларусы, і я доўга ня думаючы падыйшоў да іх. Прадставіўшы сваю асобу, я хутка пераканаўся, што не памыляўся ў сваім поглядзе. Тады я асьмеліўся запрасіц[ь] усіх іх да сябе на памешканьне, каб супольна запазнацца і разам разгавецца. Аднак атрымаў адмоўную адповедзь, асабліва ад іх тагачаснага "праваднікa" Янкі Кузьміча. Не асьмеліліся нават да сябе нас запрасіць. Наша з Франкам была такая рэакцыя, што ехалі дамоў зь сьлязьмі на вачох.

Пазьней усе яны сталіся нашымі сябрамі і супрацоўнікамі ў арганізацыйным жыцьці. На найбольшую ўвагу заслугоўваў там сп. Паўлік Чопчыц[58]. Быў вельмі прыемны ў адносінах да кожнага. Быў добрым арганізатарам розных імпрэз. Меў вельмі добры голас — тэнар, шмат

---

[54] **Арсень Монід** (1925—2005), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай адміністрацыйна-гандлёвай школе. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Францыі, дзе браў удзел у працы Аб'яднаньня беларускіх работнікаў, быў рэфэрэнтам Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі. У 1948 г. быў удзельнікам Сусьветнага зьезду беларускай эміграцыі ў Парыжы. Радны БНР. У сярэдзіне 1950-х гг. перабраўся ў Канаду. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады.

[55] Маецца на ўвазе Ўладзімер Шыманец.

[56] Маецца на ўвазе Міхась Наўмовіч.

[57] Маюцца на ўвазе лядоўні, паводле назову амэрыканскай фірмы, якая была буйным іх вытворцам — *"Frigidaire"*.

[58] **Павал Чопчыц** (?—?), грамадзкі дзеяч. Жыў у Манрэалі. Займаўся арганізацыяй беларускага жыцьця ў гэтым горадзе.

выступаў у салёвых сьпевах і разам з хора[м]. Каб мець нейкі прытулак для агульных зборак, мы нанялі адпаведную залю. Сарганізавалі добры хор, часткова супольны з украінскамі сьпевакамі пад кіраўніцтвам украінскага дэрыгента сп. Казачка. Яны ахвотна дапамагалі нам у розных выступленьнях, а мы ўзноў ім.

Зь вялікай удачай паставілі п[’]есы: “Заручыны Паўлінкі”[59], “Модны шляхцюк”[60], “Гдзе д’ябал ня зможа, бабу пашле”[61]. Па пару гадох такога арганізацыйнага жыцьця стала неабходным пабудова сваёй собскай цар[к]вы. Пара асоб склалася па 500 даляраў і купілі невялікі пляцык пад царкву. Разабралі нейкую будыніну, знаходзячуюся на гэтым пляцыку. Нават зрабілі былі ўжо шкіц[62] запрапаноўванай царкоўкі. Каб распачаць будову, трэба было мець крыху больш грошай у касе. Неабходным было зьвярнуцца з просьбай дапамогі да іншых беларускіх асяродкаў, але ўзноў нам ведама было, што не наступіць ніякая дапамога, пакуль ня будзе ведама, да каго наша царква хоча належыць. Ведаючы, што сярод нашых будучых прыхажан ёс[ьц]ь розныя погляды, і што могуць узьнікнуць адразу на пачатку непаразуменьні, новаабраны царкоўны камітэт патаемна пастанавіў, што наша царква будзе належыць да Уладыкі Васіля[63], аб чым паведамілі Уладыку і папрасілі аб благаславенства, якое ў хуткім [часе] атрымалі. Толькі тады мы зьвярнуліся аб грашавую дапамогу ў Нью-Ёрк і Торонто, але а[б]салют[на] безрэзультатна. Гэта нас моцна заламала на духу і на дзейнасьці.

У хуткім [часе] выязджае з Монтрэалю наш галоўны праваднік Паўлік Чопчыц, а пазьней і [я] выязджаю за ім да сваёй жонкі Ніны Стомы ў Нью-Брансьвік, і так усё замірае.

*Cleveland — восень 1980 году*

*Падрыхтоўка да друку Кірыла Ананькі й Вольгі Тумін,*
*прадмова Натальлі Гардзіенкі,*
*камэнтары Кастуся Шыталя й Натальлі Гардзіенкі*

---

[59] **“Заручыны Паўлінкі”** — п’еса Францішка Аляхновіча.

[60] **“Модны шляхцюк”** — вадэвіль Каруся Каганца.

[61] Маецца на ўвазе **“Гдзе чорт не можа, там бабу пашле”** — твор Францішка Багушэвіча.

[62] ***Szkic*** (польск.) — накід, эскіз.

[63] Маецца на ўвазе ўладыка Васіль (Тамашчык).

***Віталь Воранаў***
*Познань*

# ВЕСЯЛІ ТЫ МЯНЕ НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

## (Беларуская дуда на эміграцыі)

Дуда — гэта ня толькі традыцыйны беларускі музычны інструмэнт, але таксама міталягічны камень, зь якога быў збудаваны падмурак беларускай культуры й ідэі ў цэлым. У гістарычна-звычаёвым нарысе пра беларускую дуду, надрукаваным у часопісе “Крывіч” (1923), Вацлаў Ластоўскі пісаў: *“Дуда цешыла і весяліла беларуса ў яго цяжкім жыцьці, пад няволяй палітычнай і эканамічнай, якая яго гнятла доўгі час на Бацькаўшчыне. Калі-ж беларус пакідаў родны край, ён і на чужыне цешыў сябе роднай музыкай”*.

*Ці ня дудка мая,*
*Весялушка мая!*
*Весялі-ж ты мяне*
*На чужой старане*[1].

Якраз такую пацешную функцыю на прымусовай высылцы пасьля няўдалага польска-беларускага паўстаньня ў 1863 г. выконвала дуда для многіх пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Сярод найбольш заўважных — Арцём Вярыга-Дарэўскі, чые творы захаваліся толькі часткова, але псэўданімы (*Białoruska Duda, D…a, D-da B.*) і значэньне абрасло заслужанай легендай. *“Posłuchajcież mej piosenki, / Choć przy Białoruskiej dudzie”*[2], — пісаў у 1858 г. аўтар у “Гутарцы пра сваяка”. Арцём Вярыга-Дарэўскі сябраваў з многімі беларускімі творцамі таго часу. У знакамітым калектыўным рукапісе “Альбом Вярыгі-Дарэўскага” паэту прысьвечана шмат вершаў сяброў. Гэтак, Ялегі Пранціш Вуль, таксама пазьней сасланы ў Сібір, у вершы “К дудару Арцёму ад наддзьвінскага мужыка” пісаў:

*Што табе, дудар, прысьпела*
*Сьмела песьні завадзіць?*
*Ці то лёгкае, брат, дзела,*
*Нашу брацьцю прасьвяціць?*

---

[1] Люцьвяг, Васіль. Дуда (Гісторыка-абычаёвы нарыс) // Крывіч. № 3. Коўна, 1923. С. 44.

[2] Darowski, Aleksander Weryha. Gawęda o swojaku. Mohylew, 1858.

*Крыкнуць на цябе паноўя,*
*Што ты шкоднік і місьцюк, —*
*Страціш голас і здароўе*
*І дуду упусьціш з рук.*
*Ты мяне, аднак, не слухай,*
*Мала што я завяду! —*
*Цэлай грудзяй дуй і дмухай*
*У жалейку і дуду*[3]*...*

Іншы выгнаньнік, шляхціц Брунон Завадзкі ў вершы “Дудар” пісаў:

*I zahnali mianie u dzikuju ziamlu.*
..................................................
*Oj, sonko majo, jasnoje sonko,*
*Czamu tvajo liczko*
*Tumanom zajszło?*
*Czamu tak nie sviecisz,*
*Jak kalis svicila?*
*Kali ja byu u svajej staranie?*
*Oj, dudku moja, dziereviannaja,*
*Czaho tak tużysz, jak duma moja,*
*Czamu, kali stanu hraci,*
*Horkija slozy ljucca?*[4]

Яшчэ адзін дудар-эмігрант, ня толькі ў літаратуры, але, магчыма, і ў сапраўдным жыцьці, — гэта Тамаш Грыб. Вось які цікавы фрагмэнт знаходзім у кнізе Віктара Вальтара “Роджаныя пад Сатурнам”, напісанай у 1920-я гг. часткова падчас навучаньня ў Празе.

“*— Якім чынам ты туту апынуўся? — здзівіўся Тугоўскі.*

*— У госці прыйшоў, даражэнькі, частуй хутчэй. Я чакаю цябе з паўдня.*

*— Што ж цябе прыгнала так да мяне? Напэўна, справа. Так ты ніколі дабравольна не зайшоў бы.*

*— Чаму? Захацелася цябе проста паглядзець... А потым, і праўдлова — справа ёсць. Вось, грамадзяне ўкраінцы, — пачаў ён голасна, — у гэтую нядзелю беларусы наладжваюць вечарыну. У Чэшска-Рускай едноце. Вельмі просім вас усіх з’явіцца і падтрымаць сваёй прысутнасцю.*

*— А што там будзе? — запытаў Серада.*

*— Выступае квартэт чэшскай філармоніі, будуць спевы беларускага хору, сольныя нумары, дэкламацыі беларускіх вершаў. Студэнт Тамашэвіч будзе іграць на дудзе. Бачылі калі-небудзь беларускую дуду, грамадзяне?*

---

[3] Наша Ніва. 9 лістапада 1912.

[4] Federowski, Michał. Lud polski. Warszawa, 1981. T. VIII. S. 235.

— *Што гэта за дзіва? — смяяліся ўкраінцы.*

— *Вось пабачыце… Прыходзьце. Ну а цяпер пойдзем крыху пагутарым, — сказаў айцец Кірыла, устаючы і перадаючы мандаліну Серадзе. Яны выйшлі ў даўгі калідор інтэрната і пачалі хадзіць з кута ў кут"*[5].

Віктар Вальтар быў вучнем, а пасьля настаўнікам беларускай школы ў Латгаліі. Студэнт Тамашэвіч, які будзе граць на дудзе на беларускай вечарынцы, — гэта Тамаш Грыб (1895—1938), беларускі эміграцкі дзеяч, муж зьвязанай з Глыбоччынай Паўліны Мядзёлкі (правобраз Паўлінкі з п'есы Янкі Купалы). Пытаньне толькі ў тым, быў Тамаш Грыб сапраўды дударом ці гэта літаратурны вобраз, прыдуманы для яго Віктарам Вальтарам. Месца нараджэньня Грыба, в. Паляны на Смаргоншчыне (дударскі арэал), падказвае, што ён сапраўды мог граць на дудзе. Тым больш што раман Віктара Вальтара ў вялікай ступені дакумэнтальна-аўтабіяграфічны. Тамашэвіч (дзядзька Тамаш), як і Грыб, мае ў рамане даўгія валасы, вучыцца на факультэце філязофіі й вызнае тыя самыя палітычныя пагляды, што й Тамаш Грыб.

Віктар Вальтар узгадваўся ў асяродзьдзі, у якім "беларуская дуда" мела вялікае сымбалічнае значэньне. Зь Люцынскага павету паходзіць адзіная захаваная дуда-мацянка, якая паводле сьведчаньняў дасьледнікаў была больш пашыраная сярод беларускіх каталікоў.

Кастусь Езавітаў (1893—1946) — беларускі дзеяч, публіцыст, пэдагог зь Дзьвінску (Даўгаўпілс). У 1926 г. ён паддаўся бальшавіцкай прапагандзе й заклікаў беларусаў пераяжджаць на працу ў БССР. У 1946 г. Езавітава замучылі ў менскай турме. У рэдагаванай ім рыскай газэце "Голас беларуса" (№ 25. 1926) быў надрукаваны гэты верш:

*Прадудзела дуда,*
*Прагучэў покліч усім:*
*"Беларусы, — да хаты!"*
*"Вярні-і-сь!"*
*У каго вушы — адчуй!*
*Хто заспаўся — прасьніся!*
*Не марудзь!*
*Не чакай!*
*Не дзівісь!*
*На Нямізе свой дом пачала Беларусь.*
*Па-мужыцку зрубіла цяп-ляп.*
*Ты ў Эўропе сядзеў,*
*На чужое глядзеў,*
*Мо навучыўся —*
*Паможаш так-сяк!*

[5] Вальтар, Віктар. Выбраныя творы. Мінск, 2009. С. 167.

*Быў пажар, і... згарэў!*
*Быў цяжар, і... прайшоў!*
*Усё пражыў і здалеў*
*Хаўрус нашых братоў!*
*Ноч прайшла — сьвеціць дзень.*
*Спала з сэрца як цень,*
*Дум аб помсьце гара.*
*Дык — у дарогу!*
*Дахаты!*
*Пара!*

Дырэктар беларускай гімназіі ў Дзьвінску Сяргей Сахараў дасьледаваў дуду й беларускі фальклёр Латгаліі. Вучні гімназіі, напрыклад, П. Міхальскі, прысьвячалі дудзе свае вершы й друкавалі іх у школьнай пэрыёдыцы.

### *Іграй, дудар*[6]

*Іграй, дудар, ня бойсь нікога:*
*Слова твае сьвяты!*
*Хай з парога да парога,*
*Ад хаты да хаты*
*Абляціць твой кліч прызыўны,*
*Кліч жыцьця і волі!*

*Іграй, дудар, — твой голас дзіўны*
*Не памрэ ніколі, —*
*Рэхам сумным пранясецца*
*Над заснуўшай нівай,*
*Бор пачуе, адзавецца*
*Ноткаю шчасьлівай.*

*Калі цемра йшчэ пануе —*
*Йграй, не падай духам:*
*Толькі зло адно ня чуе*
*Праўды грубым вухам.*

Пра П. Міхальскага, негледзячы на пошукі, на сёння нічога ня ведама. Таму для ілюстрацыі падамо фотакартку[7] іншага вучня гімназіі ў Дзьвінску з дудой Сяргея Сахарава — Ігната Ігнатовіча.

[6] Верш апублікаваны ў Летапісе таварыства беларускай школы (ТБШ) у Вільні ў 1933 г. Аўтар П. Міхальскі, вучань або настаўнік беларускай гімназіі ў Дзьвінску.

[7] З кнігі: Сурба, Аляксандар. Беларуская дуда ў кантэксце ўсходнееўрапейскай традыцыі: тыпалогия, канструкцыйныя і дэкаратыўныя асаблівасці, Мінск: БДУКМ, 2019.



Сяргей Сахараў зь беларускай дудой. 1938 (?) г.

Настаўніца Паўліна Мядзёлка вазіла вучняў на тэатральныя выступы ў Дзісенскі павет, дзе за некалькі гадоў да іх грала дуда Адама Шульгі з трупы Ігната Буйніцкага.

На жаль, у рамане Віктара Вальтара няма апісаньня дударскага выступу Тамашэвіча (Грыба) на беларускай вечарыне, бо апавядальнік (альтэр эга аўтара Віктара Вальтара) Тугоўскі раптоўна сыходзіць з канцэрту. *“Тугоўскі не вытрымаў. Ён ускочыў, як ранены, і паляцеў на выхад. Няхай прадаўжаецца ўрачыстасць без яго, няхай выступае з дэкламацыяй Вярхоўская. Яму няма чаго больш рабіць на гэтым свеце...”* Дарэчы, у Празе й цяпер ёсьць беларускі дудар — Віталь Цімошчанка, граньне якога можна пачуць на беларускіх вечарынах і падчас розных сьвятаў. Віталь грае таксама ў месцах пахаваньня беларускіх дзеячаў у Празе.

Адзін з дударскіх сьлядоў вядзе нас таксама ў Нямеччыну. Тут воляй лёсу апынуўся ўраджэнец Вільні Хведар Ільляшэвіч (1910—1948), беларускі паэт, журналіст, гісторык, магістар філязофіі. Сьпярша пад ціскам польскай улады апынуўся ў турме ў Лукішках, пасьля — у Беластоку і ўрэшце — у Нямеччыне. Тут паэт наладзіў актыўную выдавецкую дзейнасьць. Былі выдадзеныя кнігі Юркі Віцьбіча, Уладзімера Глыбіннага, Лявона Радзіміча, Міколы Шчаглова. Самае цікавае для тэмы гэтага дасьледаваньня тое, што ў Бэрліне была выдадзеная таксама кніга “Дудар”[8], у якой зьмешчаныя апавяданьні Вацлава Ластоўскага, Максіма Гарэцкага, Савіцкай, Ядвігіна Ш., Падгорнага й Палескага. Назоў зборніку дало аднайменнае апавяданьне Вацлава Ластоўскага, напісанае ўжо падчас



Ігнат Ігнатовіч

[8] Дудар і іншыя апавяданьні. Бэрлін: Frėmdshprakhėn, 1944. 63 с. (Беларуская Народная Бібліятэчка, VINETA; № 7).

ягонага віленскага пэрыяду жыцьця, упершыню апублікаванае 29 сакавіка 1913 г. у “Нашай Ніве”. “Дудар” — гэта апавяданьне-пераказ, а больш дакладна — апавяданьне на падставе аўтарскага накіду польскага пісьменьніка Пшэрвы-Тэтмаера (*Kazimierz Przerwa-Tetmajer*). Вацлаў Ластоўскі замяніў тэтмаераўскага скрыпача беларускім дударом і перанес месца дзеяньня ў Беларусь. У творы дудар пасьля сьмерці ідзе на неба, грае там перад самім Богам “Цяцерку”. Пасьля гэтага яму дазваляецца вярнуцца на родную Барысаўшчыну, паколькі сьв. Пётра занепакоены тым, што анёлы ў небе ўсё больш ахвотна сьпяваюць сьвецкія песьні. Перавыдала гэты тэкст у Мюнхэне ў 1957 г. выдавецтва “Бацькаўшчына”. Апрача іншага, твор цікавы трыма цудоўным ілюстрацыямі Міхася Наўмовіча і (або) Пётры Сыча, *“якія выканалі значную частку ілюстрацый для пасобных казак”*. Інфармацыя пра гэтыя ілюстрацыі была ўпершыню пераапублікаваная ў выданьні “Дударская Глыбоччына” ў 2017 г.[9] Арыгінальнае мюнхэнскае перавыданьне можна паглядзець у глыбоцкай бібліятэцы, у якой захоўваецца адмысловая калекцыя кніг, прысвечаных дударскай тэме. На адным з гэтых чароўных малюнкаў Янка Дудар спускаецца ў родную пушчу на Барысаўшчыне па птушыным шляху. Што важна, на малюнках правільна адлюстраваная будова беларускай дуды з адным гукам.

Выбар назвы зборніку “Дудар” мог бы здавацца выпадковым, калі б ня верш укладальніка выданьня, зь віленскай “Крыніцы” ад 15 сакавіка 1925 г. Аўтару вершу на той час было ўсяго 15 гадоў!

### *Плач-жальба*

*Дзе разьляглася лясамі*
*Родная маці — зямля —*
*Плача над камнем палямі*
*Дзеда старога дуда.*

*Там, дзе сумуюць бярозкі,*
*Стогне піскліва дрыгва —*
*Сумна, між небам і вёскай,*
*Носіцца, вісьне жальба.*

*Там, дзе хаўтурныя песьні*
*Цягне, імчыць віхура —*
*Плача аб зорках прадвесьні,*
*Плача народ — цемната.*

9 Воранаў, Віталь. Дударская Глыбоччына. Глыбокае, 2017. 75 с.

*Там, на палёх камяністых,*
*Там, дзе ліецца сьляза —*
*Плача ад жальб галасістых*
*Бедная маці — зямля.*



Зборнік "Дудар". Нью-Ёрк, 1970 г.

Што цікава, за акіянам выйшаў яшчэ адзін зборнік пад назовам "Дудар". Гэта быў зборнік народных песень з нотамі, сабраных Язэпам Гладкім (1890—1972). Кніга выйшла ў Нью-Ёрку ў адроджаным выдавецтве "Заранка" ў 1970 г. Гэтае выданьне пазначанае як другое, перапраўленае. Ва ўступе да кніжкі ўкладальнік апавядае гісторыю зьяўленьня зборніку. Сабраныя народныя песьні аднаўляліся ім два разы па памяці, першы раз з дапамогай кампазытара Міколы Равенскага (некаторы час лічылася, што матэрыял быў зьнішчаны пажарам), другі — з дапамогай кампазытара Аркадзя Еўца (укладальнікам пазначаны А. Евец). Першае выданьне пабачыла сьвет у Ватэнштэце (у нотных запісах Аркадзя Еўца) у 1947 г. таксама пад назовам "Дудар". Язэп Гладкі (псэўданім Адам Варлыга) — настаўнік, выдавец і этнограф. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, а пасьля ў ЗША. Ці быў гэта апошні дударскі сьлед беларускай дуды даадраджэнскага часу, няведама. Аднак да нас дайшло апісаньне выступу дудара на вечарыне ў Таронта (Канада), на якой прысутнічаў пісьменьнік Кастусь Акула. У 1950 г. пісьменьнік надрукаваў філялягічны фэльетон-справаздачу, у якім згадваецца дуда.

*"Посьле ўсяе дыскусы было спаладжана йгрышча крывіцкае. На гэнае йгрышча дайшлі йшчэ йгрыцы із снасьцямі: з дудой, бубнам, літаўрамі й цымбаламі ды йскрыпкай. На сталох было падрыхтавана еміна й пітво. Падсілкаваўшыся й выпіўшы ладне, усі кінуліся ў скокі пад зычную музыку ігрыцоў. Дзекаторыя ірзалі зь весялосьці й радошчаў"*[10].

Справаздача, як бачна, надрукаваная стылізаванай мовай, але сьведчаньне пра падзеі на вечарыне, хутчэй за ўсё, сапраўдныя. У творчасьці Кастуся Акулы, асабліва ў рамане "Гараватка", дуда й дудары зьяўляюцца моцнымі сымбалямі-мэтафарамі. У старадаўні час

[10] http://rv-blr.com/literature/522.

беларускія дудары граюць весела, іх граньне становіцца цішэйшым падчас польскай акупацыі ў міжваенны пэрыяд, каб поўнасьцю заглухнуць пасьля прыходу саветаў і саступіць месца прарэзьліваму гармоніку.

Апошнім зафіксаваным публічным выступам дудара лічыцца канцэрт на рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасьці ў Менску. Адбывалася гэта ўжо пасьля вайны (1951 г.), а выступіў на ім 85-гадовы Язэп Гвозд зь вёскі Тураспольле на Вушаччыне. У 1971 г. Уладзімер Караткевіч пісаў: *“Цяпер сялянскі аркестр нівеліраваўся. Скрыпка або дзве, басэтля, гармонік (баян ці акардэон), нейкі духавы інструмент ды бубен. Радзей, хаця яшчэ досыць часта, сустракаюцца цымбалы. Але амаль зніклі гуслі, а «дуда» (валынка), я мяркую, зьнікла зусім. Ва ўсякім разе вось ужо пятнаццаць год як мне нідзе не даводзілася ні чуць яе, ні чуць пра яе”* (“Зямля пад белымі крыламі”). Калі тэкст Кастуся Акулы пра вечарыну ў Таронта ёсьць аўтэнтычным, то гэта кідае цікавы цень на дасьледаваньні ў галіне беларускай дуды. Магчыма, адзін зь беларускіх дудароў, як і сам пісьменьнік, апынуўся на эміграцыі ў Канадзе, і ягоная дуда працягвала гучаць пасьля таго, як афіцыйна заціхла на Бацькаўшчыне...

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# АЛЕСЬ ГАРУН У ПАМЯЦІ Й ЧЫННАСЬЦІ ПАВАЕННАЕ ЭМІГРАЦЫІ

## На 100-я ўгодкі сьмерці

Добра ведамыя развагі Юрыя Лотмана пра памяць у культуралягічным насьвятленьні. Кожная культура, пісаў ён, вызначае сваю парадыгму таго, што варта памятаць (інакш кажучы, захоўваць), а што падлягае забыцьцю й праз гэта бы перастае існаваць. Яно можа перастаць існаваць (згадвацца) назаўсёды, а можа, зь зьменаю часу й, адпаведна, сыстэмы культурных каардынатаў, кодаў, — аднавіцца, вярнуцца з забыцьця[1].

Працягваючы думку, можна сказаць, што коды такой парадыгмы *памяці-забыцьця* могуць разглядацца як характарыстыка (азначэньне) таго ці іншага грамадзтва, большага або меншага.

Беларуская культура ў сярэдзіне XX ст. выразна была падзеленая на дзьве: падсавецкая — у БССР, і эміграцыйная — на Захадзе.

У якасьці коду, такой каардынаты возьмем *Алеся Гаруна* — не як чалавека, не як пісьменьніка й дзеяча, але як характарыстыку згаданых вышэй двух беларускіх грамадзтваў, і паспрабуем прасачыць, як жа і ў якім кантэксьце жыло гэтае імя.

Месца Алеся Гаруна ў сыстэме й ярархіі культурніцкіх каштоўнасьцяў паваеннай эміграцыі *vs* падсавецкай культуры было фактычна вызначана ва ўступным слове "Ад Выдавецтва" да нью-ёрска-мюнхэнскага выданьня "Матчынага дару" 1962 г. за ананімным подпісам "Выдавецтва «Бацькаўшчына»", але хіба аўтарства Станіслава Станкевіча:

*"Выбіраючы для выданьня асобнай кніжкай творы Алеся Гаруна, выдавецтва рабіла гэта ня прыпадкова. Яно сьвядома кіравалася матывамі, падыктаванымі гістарычна-літаратурнымі, нацыянальнымі й навет актуальна-палітычнымі патрэбамі.*

*Пасьля выданьня на эміграцыі найбольш вартасных, як зь літаратурна-мастацкага, гэтак і нацыянальна-ідэйнага гледзішча твораў вядучае нашаніўскае тройкі — Янкі Купалы, Якуба Коласа й Максіма Багдановіча — нармальна прыходзіла чарга на чацьвёртага*

[1] Лотман, Юрий. Чему учатся люди. Статьи и заметки. Москва, 2010. С. 252.

*паводля вартасьці й значаньня літаратурнае творчасьці прадстаўніка беларускае адраджэнскае літаратуры — Алеся Гаруна, безь якога агульны абраз нашае нашанiўскае паэзіі ня мог-бы быць больш-менш поўным і закругленым. [...]*

*Але ня толькі гэта заважыла на выбары твораў Гаруна для нашага кніжнага выданьня. У той час, калі творы Купалы, Коласа, Багдановіча і многіх іншых паэтаў і пісьменьнікаў пэрыяду "Нашае Нівы", хоць і старанна прасееныя праз густое сіта савецкае цэнзуры й хвальшыва інтэрпрэтаваныя савецкай літаратурнай крытыкай і літаратураведай, усё-ж даступныя сяньня шырокім колам чытачоў падсавецкае Беларусі. Затое над Алесем Гаруном і да сяньняшніх дзён вісіць бальшавіцкая забарона. Ягоныя творы ў БССР ня выдаюцца зусім, а іхны аўтар поўнасьцяй вычыркнуты з гісторыі беларускае літаратуры й калі часамі ўспамінаецца, дык вылучна ў вадмоўным насьвятленьні як «рэакцыянэр», «буржуазны нацыяналісты» й навет «вораг народу». [...]*

*Вось дзеля гэтых вышэй успомненых прычынаў і зьявілася неабходная патрэба зрабіць даступнай для нашай эміграцыі літаратурную спадчыну Алеся Гаруна й тым самым, хоць у малой часьці, адрабіць тую шкоду, якая была злачынна нанесеная бальшавікамі ўжо самым фактам забароны творчасьці аднаго з найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускага нашанiўскага адраджэнства*"[2].

Дык як жа ўспаміналі Алеся Гаруна эмігранты?

Адразу трэба заўважыць, што колькасьць успамінаў, прысьвечаных яму, саступае толькі хіба ліку ўспамінаў пра Янку Купалу й Якуба Коласа. У першую чаргу трэба згадаць тэксты Міколы Шылы, Адвардага Будзькі, Францішкі Кушаля й А. Эсона (Эсон — псэўданім А. Зураева, каўкаскага дасьледніка й дзеяча, асэтына паводле нацыянальнасьці, аўтара працаў па этнаграфіі й гісторыі Асэтыі). Усе яны ў свой час былі передрукаваныя ў зборніку "На суд гісторыі" (Мінск, 1994) і мусяць быць добра ведамыя на бацькаўшчыне.

Згадвае яго й Міхась Міцкевіч у артыкуле "«Вольная Беларусь» і ейныя супрацоўнікі": *"Алеся Гаруна можна было пабачыць у рэдакцыі ня вельмі часта. Ён быў моцна стурбаваны прадчувальным перадсьмяротным нядугам ягонае роднае маці, якую ён па звароце із ссылкі вельмі рупна даглядаў і запраўды па-сыноўску шанаваў. А з часам, па сьмерці свае маці, сам пачаў занепадаць, што прычынілася й да ягонага скону без пары [...]*

*На гэтых гасьцінных зборках давялося ўпяршыню пачуць паважнае істотнае азначэньне бальшавізму як усеразбуральнае сілы. Гэты выснаў Язэп Лёсік падмацоўваў сваймі назіраньнямі над палітыч-*

---

[2] Гарун, Алесь. Матчын дар і іншыя творы / Пад рэдакцыяй А. Адамовіча й С. Станкевіча. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1962. С. 5—6.

*нымі ссыльнымі — бальшавікамі. Паколькі Лёсік з Прушынскім былі перастаўленымі на вольных пасяленцаў (ведама, бяз права звароту на Бацькаўшчыну), як і шмат якія палітычныя зьняволеныя, дык выдаралася магчымасьць сякой-такой арганізаванасьці палітычных ссыльных, ці то з мэтаю палепшаньня свайго бытаваньня, ці з культурна-асьветнай мэтай. І кажны раз, як толькі да кіраўнічых інстанцыяў улазілі бальшавікі, арганізацыя нямінуча разбуралася”*[3].




Вокладка зборніку
Алеся Гаруна “Матчын Дар”.
Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1962 г.

Але такой мэмарыялізацыі было відавочна недастатковa, тым больш калі *“сорак гадоў беларускай савецкай літаратуры… Гэтая тэма сапраўды магла-б быць карыснай, калі-б за яе ўзяліся сумленныя і вольныя ад партыйнага ўціску літаратуразнаўцы. Але ў Савецкай Беларусі такім людзям няма месца на літаратуразнаўчым фроньце.*

*Саветы зьнішчылі лепшых беларускіх крытыкаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры накшталт Адама Бабарэкі, Максіма Гарэцкага, Фэлікса Купцэвіча, Уладзіслава Дзяржынскага, Піятуховіча, Вазьнясенскага і іншых. Замест іх на паверхню вылезьлі партыйныя падлізьнікі тыпу Алеся Кучара [..]*

*Спрытны прыстасаванец да патрэбаў надзённае палітыкі партыі, Кучар цяпер падае Купалу і Коласа ў іншым сьвятле. Але ён зноў вылівае на балонах свайго артыкулу ў 9-м нумары «Полымя» за гэты год цэлыя цэбры ядавітае хлусьні на іншых выдатных і заслужаных дзеячоў беларускай культуры і літаратуры. Ён бессаромна брэша на дзеячоў «Нашае Нівы» і называе «балотам рэакцыі» братоў Луцкевічаў, слаўнага паэту-патрыёта Алеся Гаруна. Беларускую Раду і Беларускую Вайсковую Раду Кучар і Карпаў завуць прыслужнікамі і лёкаямі імпэрыялістых”*[4].

[3] М-ч. “Вольная Беларусь” і ейныя супрацоўнікі // Беларус. № 59. 10 сакавіка 1957. С. 5.

[4] Х. Колькі аркушаў бессаромнай хвальсыфікацыі // Бацькаўшчына. № 50 (384). 15 сьнежаня 1957. С. 3.

На 40-я ўгодкі сьмерці паэта газэта "Бацькаўшчына" нагадала чытачам прызабытае імя, ягонае месца ў айчыннай літаратуры, а таксама зьвярнула ўвагу на кволую спробу "рэгабілітацыі" ў БССР:

*"Шмат забытых магілаў на ніве беларускае літаратуры і нацыянальнага адраджэньня — забытых і забароненых. На аднэй з гэткіх магілаў павінен быў-бы стаяць гранітны помнік з залатым надпісам: «Алесь Гарун — пісьменьнік-рэвалюцыянэр».*

*Беларускі савецкі літаратуравед Міхась Ларчанка больш за тры гады таму паспрабаваў быў палажыць невялікую красачку на заглушаную нябытам літаратурную магілу Алеся Гаруна. У газэце «Літаратура і Мастацтва» ад 17-га лістапада 1956 году Міхась Ларчанка пісаў:*

*«Карусь Каганец, Ядвігін Ш. і Алесь Гарун былі таленавітыя майстры слова. Яны ў сваіх творах праўдзіва адлюстроўвалі пэўныя бакі тагачаснага жыцьця працоўных мас Беларусі, выказалі іхныя жаданьні, іх імкненьні да свабоды, да лепшай будучыні».*

*Каб апраўдаць сваю згадку пра няведамага, бадай, у савецкай Беларусі, асабліва моладзі, Алеся Гаруна, ды каб застрахавацца самому, Ларчанка наляпіў на Гаруна налепку «буржуазнага нацыяналістага», але гэта яго не ўратавала. На савецкага літаратуравeда цыкнулі па партыйнай лініі за наведаньне забароненае магілы, і над Алесем Гаруном ізноў павісла партыйнае табу.*

*Тымчасам Алесь Гарун, які памёр сорак год таму, — гэта выдатная постаць у нашай літаратуры дваццатага стагодзьдзя. Беларускі літаратурны крытык і гісторык літаратуры Антон Адамовіч у сваёй кнізе ставіць Алеся Гаруна побач гэткіх волатаў паэтычнага слова, як Купала, Колас і Багдановіч"*[5].

І эмігранты пастанавілі збудаваць такі помнік, але не з граніту: выдаць паэтаву кнігу: *"[...] Гарун, як і Ядвігін Ш. ды Карусь Каганец і шмат іншых належаць да аўтараў поўнасьцяй забароненых. Мы на чужыне мелі шчасьлівую змогу выдаць частку твораў Купалы, Коласа й Багдановіча, але з цэннай літаратурнай спадчыны Гаруна дагэтуль ня выдалі яшчэ нічога. Далей ня можам сабе пазволіць на такую няўвагу да Алеся Гаруна і дапусьціць, каб ягоная сьветлая постаць і глыбока патрыятычныя творы былі намі зусім забытыя й для шырэйшых колаў грамадзтва недаступныя"*[6].

Пры газэце "Бацькаўшчына" з дапамогаю Беларускага інстытуту навукі й мастацтва распачаўся збор Гаруновай спадчыны й падрыхтоўка

[5] У саракавыя ўгодкі сьмерці Алеся Гаруна // Бацькаўшчына. № 9 (493). 28 лютага 1960. С. 3.

[6] Зробім добрую справу // Бацькаўшчына. № 9 (493). 28 лютага 1960. С. 1.

да выданьня кнігі: падваламі друкаваліся ягоныя творы[7], быў перадрукаваны артыкул Аўгена Барычэўскага “«Матчын Дар» Алеся Гаруна”[8] й нарэшце праца Антона Адамовіча пра жыцьцё й дзейнасьць паэта[9].

Усё гэта ўвайшло ў 270-старонкавы том “«Матчын Дар» і іншыя творы”, які пабачыў сьвет у 1962 г.

А што ж у гэты час адбывалася ў БССР?

Згадваючы спробу Міхася Ларчанкі вярнуць імя паэта ў літаратуру, Станіслаў Станкевіч піша: *“Як і трэба было спадзявацца, гэтае адважнае патрабаваньне Ларчанкі выклікала адваротную зусім рэакцыю ў партыйных вярхох Беларусі. Ужо 12 студзеня 1957 г. ворган ЦК камуністычнай партыі Беларусі «Зьвязда» зьмясьціў артыкул Л. Абэцэдарскага і А. Сідарэнкі пад вымоўным загалоўкам «За чысьціню нашых літаратурных пазыцый», у якім быў моцна заатакаваны ня толькі Ларчанка, але й газэта «Літаратура і Мастацтва», якая «ўвогуле не праяўляе прынцыповасьці і патрабавальнасьці ў падборы матарыялаў» і «стала на шлях перагляду бруднай бялізны беларускіх нацыяналістаў».*

*Пытаньне рэгабілітацыі ўспомненых нашаніўскіх пісьменьнікаў, як і самой «Нашай Нівы», было шырака закранутае на 3-ім пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР, які адбываўся ў канцы сакавіка 1957 году. Тут пісьменьнікі П. Броўка і К. Крапіва таксама заатакавалі Ларчанку, стаўшы на пазыцыі, занятыя Абэцэдарскім і Сідарэнкам.*

*Далей пытаньне рэвізіі дачыненьняў да творчасьці ўспомненых нашаніўцаў узьнікла й на сходзе Сэкцыі крытыкі і літаратуразнаўства*

---

[7] Гарун, Алесь. Творы // Бацькаўшчына. № 46—47 (530—531). 27 лістапада 1960. С. 6—7; № 49 (533). 11 сьнежаня 1960. С. 2—3; № 50—51 (534—535). Каталіцкія Каляды 1960. С. 6—7; № 1—2 (536—537). Праваслаўныя Каляды, 7 студзеня 1961. С. 5—7; № 3 (538). 15 студзеня 1961. С. 2—3; № 4 (539). 22 студзеня 1961. С. 2—3; № 5 (540). 29 студзеня 1961. С. 2—3; № 9 (544). 26 лютага 1961. С. 2—3; № 10 (545). 5 сакавіка 1961. С. 2—3; № 11 (546). 12 сакавіка 1961. С. 2—3; № 12—13 (547—548). 26 сакавіка 1961. С. 4; № 16 (551). 16 красавіка 1961. С. 2—3; № 17 (552). 23 красавіка 1961. С. 2—3; № 18 (553). 30 красавіка 1961. С. 2—3; № 19 (554). 7 травеня 1961. С. 2—3; № 20 (555). 14 травеня 1961. С. 2—3; № 21 (556). 21 травеня 1961. С. 2—3; № 22 (557). 28 травеня 1961. С. 2—3; № 23 (558). 4 чэрвеня 1961. С. 2—3.

[8] Барычэўскі, Аўген. “Матчын Дар” Алеся Гаруна // Бацькаўшчына. № 26 (561).2 ліпеня 1961. С. 2—3; № 27 (561). 9 ліпеня 1961. С. 2—3; № 28 (563). 16 ліпеня 1961. С. 2—3; № 29—30 (564—565). 23 ліпеня 1961. С. 6—7.

[9] Адамовіч, Антон. Алесь Гарун. Жыцьцё й творы // Бацькаўшчына. № 33 (568). 13 жнівеня 1961. С. 3; № 34 (569). 20 жнівеня 1961. С. 2—3; № 35 (570). 27 жнівеня 1961. С. 2—3; № 36 (571). 3 верасьня 1961. С. 2—3; № 37 (572). 10 верасьня 1961. С. 2—3; № 38—39 (573—574). 24 верасьня 1961. С. 3—7; № 40 (575). 1 кастрычніка 1961. С. 2—3.

*Саюзу пісьменьнікаў БССР, які адбыўся ў канцы сьнежаня 1961 году. Маладыя беларускія савецкія крытыкі Я. Усікаў, М. Пятровіч і іншыя, падобна, як пяць год перад гэтым Ларчанка, сталі на шлях рэгабілітацыі ўспомненых нашаніўскіх пісьменьнікаў.*

*Напасьледак К. Крапіва, выступаючы на 4-м пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР, які адбыўся 30—31 студзеня сёлета ў Менску, пастараўся ўбіць канчальны асінавы кол у магілу гэтых пісьменьнікаў. Вось поўныя цынізму ягоныя словы: «Некаторыя таварышы ўзьнімаюць пытаньне перагляду нашых ацэнак літаратурнага працэсу і гавораць, што пра многія літаратурныя творы ў крытыцы няма поўнай думкі. Сапраўды, гэта мела месца. Узьнімаюць і пытаньне аб вывучэньні творчасьці А. Паўловіча і А. Гаруна. А што вывучаць у А. Паўловіча — "Торбу ракаў"? Што-ж датычыць А. Гаруна, то ня трэба забывацца, што ён па сваёй партыйнай прыналежнасьці зьяўляўся эсэрам. Ён актыўна змагаўся супраць савецкай улады, быў адным з арганізатараў у Беларусі белай арміі, якая існавала для таго, каб змагацца супраць Чырвонай арміі»"*[10].

У 1972 г. на эміграцыі адзначаліся 85-я ўгодкі ад нараджэньня Алеся Гаруна. У прынагодным артыкуле ў газэце "Беларус" пісалася пра некаторыя зьмены ў БССР што да постаці паэта, а таксама згадвалася выданьне ягоных твораў: *"Праўдападобна, з гэтага мюнхэнскага выданьня было перадрукаванае ў перакладзе на нямецкую мову апавяданьне Алеся Гаруна «Пан Шабуневіч» у выдадзенай летась у ўсходнім Бэрліне анталёгіі беларускага апавяданьня пад загалоўкам «Буслы над балотам».*

*[...] Аўтары другога тому «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» не маглі ўсё-ж у сваім аглядзе беларускай нашаніўскай літаратуры абмінуць Гаруновае творчасьці. Не зважаючы на тое, што партыйнае таўро «беларускага нацыяналізму» вісіць над Гаруном сяньня ўзноў, можна быць пэўным, што беларуская патрыятычная інтэлігэнцыя ў БССР бунтуецца ў душы супраць партыйнага зьдзеку над каштоўнай і дарагой для кажнага Беларуса літаратурнай спадчынай выдатнага беларускага паэты-патрыёта Алеся Гаруна й справы перавыданьня ягоных твораў ня здыме з парадку дня"*[11].

Эмігранты пільна сачылі за новымі спробамі рэгабілітацыі паэта на Бацькаўшчыне, асабліва адзначаючы высілкі Ўладзімера Казьберука[12].

---

[10] Крушыніч, Ст. У вабароне нацыянальнай спадчыны // Бацькаўшчына. № 5 (589). 4 сакавіка 1962. С. 1. Гл. таксама: Корбут, Сьцяпан. Палка ў сьпіцах // Бацькаўшчына. № 6 (590). 25 сакавіка 1962. С. 2—3.

[11] Шарупіч, Раман. Алесь Гарун (На 85-ыя ўгодкі ад нараджэньня) // Беларус. № 179. Сакавік 1972. С. 2.

[12] К. Ушанавалі Алеся Гаруна [Таронта] // Беларус. № 340. Кастрычнік 1987. С. 7.

І вось — у 1988 г. — яна адбылася! “Беларус” паведамляў у зацемцы “«Рэгабілітацыя» А. Гаруна”, узяўшы слова ў двукосьсі: *“У доме літаратара ў Менску 16-га лютага адбылося спозьненае ўшанаваньне памяці Алеся Гаруна з нагоды 100-годзьдзя ад нараджэньня (паэт нарадзіўся 11 сакавіка 1887 г.). Беларускім пісьменьнікам давялося правесьці цэлае змаганьне, каб юбілей гэты адзначыць. У часе юбілею прадавалася кніжка паэзіі Гаруна «Матчын дар», перавыдадзеная (факсыміль) да юбілею (першае выданьне выйшла ў 1918 г). Да століка з кніжкай, паводля БЕЛТА, была «даўгая чарга». Кніжка выйшла 10-тысячным тыражом. Вялікі матар’ял пра А. Гаруна і юбілей зьмясьціла газ. «Літаратура і Мастацтва» (№ 8, 19.II)”*[13].



Помнік на магіле Алеся Гаруна
на Ракавіцкіх могілках у Кракаве

Беларускія культуры — падсавецкая — у БССР, і эміграцыйная — на Захадзе — супалі.

Заставалася зрабіць яшчэ адно: паставіць помнік Гаруну, і цяпер не з паперы, а з граніту. Зрабіць разам: *“24 верасьня 1988 г. на Ракавіцкім магільніку ў Кракаве адбылася важная падзея — адкрыцьцё помніка Алесю Гаруну, выдатнаму паэту нашаніўскае пары, рэвалюцыйнаму і незалежніцкаму дзеячу.*

*Магілу Гаруна ў Кракаве, забытую і амаль што зьнесеную, адшукаў на пачатку 1980-х Алег Латышонак, малады беларускі гісторык. Разам з бацькам, Юркам Латышонкам, яны пастанавілі пабудаваць там помнік. Дзякуючы дапамозе Беларусаў на эміграцыі (збор сродкаў на Захадзе вёў сп. Кастусь Акула) у чэрвені сёлета, пасьля пяцігадовай працы, помнік быў гатовы.*

*У міжчасе зьмянілася ў Савецкім Саюзе адмоўнае стаўленьне да паэзіі Гаруна. У прэсе пачало ўспамінацца ягонае імя, сталі чутнымі патрабаваньні вярнуць ягоную творчасьць беларускай культуры. […]*

*Аднак што самае важнае ўва ўрачыстасьці на Ракавіцкім магільніку — гэта адназначна моцны патрыятычны дух зарганізаванага незалежна ад уладаў мерапрыемства. Сымбалічнага характару*

[13] “Рэгабілітацыя” А. Гаруна // Беларус. № 346. Красавік 1988. С. 7.

*набірае ўдзел у ім гасьцей з БССР, зь якіх некаторыя знаходзяцца ў цесных сувязях зь «нефармаламі», Беларусамі на эміграцыі ды згуртаванай пад нацыянальным сьцягам моладзі зь Беласточчыны"*[14].

Як нагадваў нам Антон Адамовіч, *"змагайся як мага — зможаш"*!

14 Помнік Алесю Гаруну // Беларус. № 353. Лістапад 1988. С. 7.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ЯКУБ КОЛАС ВАЧЫМА ЭМІГРАНТАЎ

У 1985 г. Беларускі інстытут навукі й мастацтва выдаў кнігу “Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе” ўкладаньня Зоры й Вітаўта Кіпеляў. Аўтары, абое прафэсійныя бібліятэкары, спавядалі Яе Вялікасьць навуку Бібліяграфію.

Але кніга, засьведчыўшы сваймі 350 старонкамі бясспрэчную ўвагу як эмігрантаў-беларусаў, гэтак і заходніх дасьледнікаў да айчынных клясыкаў, ня сталася, аднак, пуцяводнікам для спэцыялістаў у мэтраполіі. Прычына відавочная: бібліяграфічная пазыцыя не раскрывае, што можна знайсьці ў самім тэксьце, а пошук першакрыніцаў з публікацыямі — пры ранейшай забароненасьці й па сёньня неўкамплектаванасьці эміграцыйных пэрыёдыкаў у сталічных бібліятэках — справа няпростая.

Зразумела, нейкія тэксты былі перадрукаваныя. Найперш гэта датычыць коласазнаўчых працаў Антона Адамовіча (“Да мюнхэнскага выданьня паэмы «Новая зямля»”, “Да творчае гісторыі «Сымона Музыкі»”, “Якуб Колас у супраціве саветызацыі”)[1].

Адметныя тэксты пра Якуба Коласа — паколькі далей гаворка пойдзе менавіта пра яго, тэкстаў пра Янку Купалу не закранаем — рэпублікаваліся і ў іншых выданьнях. Напрыклад, Масея Сяднёва “Перачытваючы Якуба Коласа”[2] ці таго ж Антона Адамовіча “Якуб Колас. 3.XI.1882—13.VIII.1956”[3] або ўспаміны, перадрукаваныя з укладзенага Аўгенам Калубовічам зборніку “Янка Купала і Якуб Колас” (ЗША, 1982)[4]. Толькі, бяз сумніву, эміграцыйнае коласазнаўства можа прапанаваць значна болей.

У першую чаргу гэта датычыць стаўленьня да асобы пісьменьніка: любоў, павага, але без “маленьня на ікону”.

Задоўга да таго, як Альгерд Бахарэвіч распачаў свой гамбурскі рахунак, на старонках эміграцыйных газэтаў пісалася такое, што й сёньня выклікала б праведны гнеў у абаронцаў клясыка.

---

[1] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. 1464 с.

[2] Газэты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае. Мінск, 2019. С. 435—438.

[3] Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 648—652.

[4] На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі. Мінск, 1994. 302 с.




Капэрта з выявай Якуба Коласа. 1980-я гг.

Гэтак, Станіслаў Станкевіч, якога ніяк нельга зьвінаваціць у непавазе да Якуба Коласа, пісаў з нагоды юбілею апошняга ў артыкуле "Скаваны талент": *"Але куды больш балючым зьдзекам і куды пэрфіднейшым патаптаньнем сьвятых ідэалаў паэты было сьвяткаваньне 70-ай гадавіны нараджэньня Якуба Коласа, калі пясьняр, будучы яшчэ ў жывых, усё бачыў і ўсё чуў, што ў дзень ягонага юбілею аб ім гаварылася й пісалася. І вось тут найвялікшая трагэдыя чалавека-пісьменьніка. Усё бачыў і чуў, але запратэставаць супраць найгрубейшага хвальшаваньня ягонае творчасьці, аднак, ня мог, бо фізычна будучы жывым ён у ўмовах безаглядпага савецкага тэрору зьяўляецца нябожчыкам у духовым сэньсе, ягоны талент і ягоныя думкі зьяўляюцца скаванымі"*[5].

Публікацыі эмігрантаў — гэта й каштоўны напамін да гісторыі вывучэньня творчасьці Якуба Коласа ў БССР, магчыма, забыты, выпадкова ці наўмысна, у Рэспубліцы Беларусь. Станіслаў Станкевіч у вышэй цытаваным артыкуле захаваў для гісторыі:

*"У якім хвальшывым сьвятле быў паказаны Колас падсавецкім Беларусам, бачым хаця-б з успомненага дакладу на юбілейнай сэсіі Акадэміі Навук БССР В. Барысенкі. Найбольш плённы й багаты пэрыяд у творчасьці Коласа, калі ён, ня будучы яшчэ скаваным камуністычнай дактрынай і тэрорам НКВД, найшырэй праявіў свой талент і найярчэй выказаў беларускія нацыянальныя ідэі, быў штучна звужаным і засуджаным. Аб ім, між іншым, у дакладзе гаварылася: «У дакастрычніцкі пэрыяд паэта ня ўзьнёсься да разуменьня гістарычнай ролі работніцкай клясы і задач сацыялістычнай рэвалюцыі. І ў гэтым выявілася яго абмежаванасьць як паэты й мысьліцеля». Але пры гэтым дакладчык змушаны быў сьцьвердзіць, што прыняцьцё*

[5] Крушыніч, Ст. Скаваны талент // Бацькаўшчына. № 3 (134). Нядзеля 18 студзеня 1953. С. 1.

*Коласам камуністычнай ідэялёгіі ня было дабравольным: «Пераход Коласа на новыя ідэйна-творчыя пазыцыі таксама адбываўся не бязь цяжкасьцяў. Вялікая складанасьць клясавай барацьбы на Беларусі ў тыя часы, актывізацыя нацыяналістычных элемэнтаў абвастрала гэтыя цяжкасьці». У гэтых словах Барысенкі сказана ўжо шмат, і пры тамашніх умовах больш сказаць нельга.*

*Адзначыўшы гэтую Коласаву «абмежаванасьць як паэты й мысьліцеля» ды паменшыўшы ўзапраўды буйны пэрыяд ягонай творчасьці, мастацкі ўзьлёт і ідэйную сілу паэты ў тую пару, пераходзіць Барысенка да апошняга, савецкага пэрыяду творчасьці Коласа. Як ведама, творчасьць гэтага апошняга пэрыяду па сваёй штучнасьці і ўбогасьці прадстаўляе сабою вымушанае рамясло, а не свабодны ўзьлёт паэтычнай фантазіі й глыбіні ды багацьце думак. Тымчасам для Барысенкі, як і ўсей казённай савецкай крытыкі, гэты пэрыяд зьяўляецца быццам нябывалым дагэтуль паэтычным уздымам. «Гістарычная пастанова ЦК партыі па пытаньнях літаратуры й мастацтва, гэніяльная праца таварыша Сталіна па мовазнаўству, выкрыцьцё ў партыйным друку праяваў буржуазнага касмапалітызму й нацыяналізму адыгралі выключна вялікую ролю ў вагульным пасьляваенным уздыме ўсей савецкай літаратуры», — адзначае дакладчык. І быццам Колас, сам раней найвастрэй атакаваны за гэты-ж нацыяналізм, так захапіўся ўсімі гэтымі бальшавіцкімі мерапрыемствамі, што ўзапраўды і па сваей волі стаўся казённым савецкім паэтам. Свой даклад закончыў Барысенка, між іншым, наступнымі словамі: «У кажнага паэты ёсьць "свая" ўлюблёная тэма, зь якою ён асабліва зрадніўся, якая неадступна хвалюе яго творчую сьвядомасьць, выклікае асабліва моцна прыліў творчага натхненьня. Ёсьць улюблёная "свая" тэма і ў Я. Коласа. Гэта тэма партыі і яе гэніяльных правадыроў Леніна й Сталіна, якая праходзіць праз усю яго творчасьць»"*[6].

Творчасьць Якуба Коласа дасавецкага пэрыяду шанавалася эмігрантамі як адна з найбольш каштоўных пэрлінаў айчыннай літаратуры. Асабліва гэта датычыла паэмы "Сымон-музыка". Нездарма яна была выдадзеная ў 1942 г. у Празе, а потым у 1955 г. у Мюнхэне.

Дый ці магло быць інакш? Яшчэ Адам Бабарэка ў перадрукаваным — спачатку ў газэце "Бацькаўшчына"[7], а потым і ў мюнхэнскім выданьні паэмы — артыкуле пісаў: *"У разьвіцьці беларускай паэзіі*

[6] Крушыніч, Ст. Скаваны талент... С. 1—2.

[7] Бабарэка, Адам. Паэма "Сымон Музыка" Якуба Коласа // Бацькаўшчына. № 36—37 (218—219). 10 кастрычніка 1954. С. 6—7; № 38 (220). 17 кастрычніка 1954. С. 4; № 39—40 (221—222). 31 кастрычніка 1954. С. 3. Перадрук з: Узвышша. № 3. 1927.




Вокладка мюнхэнскага выданьня “Сымона Музыкі”. 1955 г.

*«Сымон Музыка» першы манумэнтальны вершаваны твор. Але не манумэнтальнасьцю выяўляецца каштоўнасьць паэмы. Уся веліч «Сымона Музыкі» ў тым, што гэты дар зьяўляецца адраджэнскаю нацыянальнаю паэмаю творча-мастацкага духу беларускага народу (у постаці яго працоўнага сялянства). Карэньні гэтае паэмы йдуць глыбака ў нетры беларускай народнай вуснай творчасьці. Іх пачатак там, дзе канчаецца народная казка «Музыка й чэрці» — казка, якая па сіле творчай магутнасьці й глыбіні сваёй ідэі не саступае выдатным творам прыгожага пісьменства дзе-якіх народаў, навет і Заходняй Эўропы. [...] І як «Фаўст» Гётэ — гэта трагэдыя духу мысьлі, што сваімі карэньнямі выходзіць з глыбінь народнай легенды, так і «Сымон Музыка» — як «казка жыцьця» эмацыянальнага духу, духу творча-мастацкага не забудзецца сярод народаў, што ўзьняліся і ўзьнімаюцца да вольнага жыцьця на калісьці «забраных краінах» у імпэрыялістычнае ярмо”*[8].

Масей Сяднёў неяк быў прызнаўся: *“Дарэмна я шукаў у Коласе Гётэ, Дантэ, Байрана: Колас ня Гётэ, ня Дантэ, ня Байран”*[9]. Ня ўбачыў ён, што Коласава паэма — гэта і блуканьне Сымона па колах свайго ўласнага пекла, і змаганьне з блізкімі да Фаўставых спакусамі: *“Пакуль імкнецца, можа памыляцца!”*[10]:

*Мастацтва без душы — не адмыслова.*
*Калі ў яго я ўкладваю душу,*
*То шчырым і сардэчным словам*
*Людзям я сэрцы ўзварушу.*
*А вы! Сядзіце, выбірайце з місак*
*Чужыя недаедкі на булён*

8 Бабарэка, Адам. Паэма “Сымон Музыка” Якуба Коласа // Якуб Колас. Сымон Музыка. Паэма. Мюнхэн, 1955. С. XXX.

9 Газэты “Бацькаўшчына” і “Беларус”... С. 436.

10 Гётэ, Ёган Вольфганг. Выбраныя творы. Мінск, 1999. С. 160.

*І дзьмухайце ў дайно астылы прысак —*
*А мо жарынкай выблісне вам ён.*
*Не дзіва, што не адрыгнецца*
*Такая страва смачная, ані —*
*І вы не злучыце ніколі з сэрцам сэрца*
*Сваёй няшчырасцю і поліўкай з хлусьні*[11].

Меў рацыю Ўладзімер Конан, калі пісаў: *“Глыбінны сэнс яго [«Сымона Музыкі»] сімвалічных вобразаў і матываў яшчэ не раскрыты ў літаратуразнаўстве. І гэта не выпадкова, бо нашая літаратура доўгі час дасьледавалася як рэгіянальная, «мясцовая», у лепшым выпадку — славянская з’ява”*[12].

Дарэчы, наш выбітны філёзаф прапанаваў сваё наватарскае прачытаньне паэмы як “арфічнай” тэмы ў беларускай літаратуры. Пры ўсёй павазе да сьветлай памяці мэтра, дазволю сабе не пагадзіцца й выказаць іншае меркаваньне, хоць часава дый геаграфічна блізкае да Арфэя.

Пітагор. Сам ён ня быў музыкам, але менавіта яму належыцца, згодна паданьняў, адкрыцьцё дыятанічнай шкалы. Быццам атрымаўшы асноўныя зьвесткі пра боскую тэорыю музыкі ад жрацоў розных Містэрыяў, ён зразумеў законы, што кіруюць сугуччам і дысанансам. Ад яго пайшоў падзел так званых пітагарыйскіх мэлёдыяў на тыя, што дапамагаюць супраць тугі й маркоты ці, наадварот, гнеўнага ўзбуджэньня, а з другога боку — утаймоўваюць поцяг.

Як піша Ямбліх Халкідскі ў сваёй кнізе “Жыцьцё Пітагора” (разьдзел XXV), той лічыў, што музыка спрыяе здароўю, калі карыстацца ёю адпаведным чынам. І ён сам, і ягоныя вучні выкарыстоўвалі музыку як лекавы сродак, і пэўныя мэлёдыі выконваліся, каб супакоіць сэрца, утаймаваць духовыя пакуты ці гнеўныя парывы. (Цікава, што Пітагор аддаваў перавагу струнным інструмэнтам, грэбуючы духавымі.)

Ямбліх пераказвае нямала гісторыяў пра тое, як Пітагор з дапамогаю музыкі ўплываў на людзей, супакойваў іх, спыняў бойкі ці нават пагрозы забойства. Фактычна тое самае робіць і Сымон-музыка, дый казачны Музыка таксама.

Але ўсё гэта аддаляе нас ад тэмы, абвешчанай у загалоўку. То вернемся да яе, пакінуўшы на будучае працяг гаворкі пра ролю Пітагора ў паэме “Сымон-музыка”.

Натуральна, перадрукаваныя тут тэксты далёка не вычэрпваюць тэмы “Якуб Колас вачыма эмігрантаў”. Дый хіба магчыма тэму творчасьці нашага песьняра, Сымона-музыкі, наагул вычарпаць?

[11] Гётэ, Ёган Вольфганг. Выбраныя творы. С. 167.

[12] Конан, Уладзімір. Беларускі Музыка-Арфей // Полымя. 1992. № 11. С. 149.

Але аднаго аспэкту ўсё ж абмінуць ніяк нельга, хоць бы подбегам яго трэба зазначыць.

На паэме стаіць пазнака: *“Беларускай моладзі сваю паэму прысьвячае аўтар”*.

Нібыта дробязь, прысьвята й прысьвята, але ў нашых беларускіх варунках прачытваецца як нацыянальная традыцыя, што знайшла свой адбітак спачатку ў адраджэнскай літаратуры, потым — у высілках эмігрантаў у Нямеччыне ў лягерах *DP*, а пазьней на выгнаньні, а ў Беларусі — у творах, пра якія той самы Станіслаў Станкевіч пісаў:

*“На свае 75-я ўгодкі зьмясьціў Уладзімер Дубоўка летась у газэце «Літаратура й Мастацтва» вялікі ўрывак із свае новае паэмы, яшчэ й дасюль цалком ня выдрукаванае ды няведама, ці нат закончанае, «Варты вартага і варты». Паэма мае глыбокую ідэйную вымову для сяньняшняга дня, калі ўся літаратурная творчасьць дырэктыўна накіроўваецца на ўслаўленьне партыйнае палітыкі й на безаглядную для яе службу.*

*Уладзімер Дубоўка ў гэтай паэме «Варты вартага і варты», напісанай фактычна не для дзяцей, а для дарослых, супрацьставіў гэтай партыйнай палітыцы кірунак, з нацыянальнага беларускага гледзішча найважнейшы. Кірунак гэты — на долю будучых пакаленьняў. Вось фінальныя словы твору:*

*...даражэй за ўсё на нашым сьвеце, —*
*Ня будзе лішніх слоў тут, зразумела —*
*Адно,*
*Але якое:*
*Дзеці!*

*Дзеці — гэта нацыянальная будучыня народу. Словы гэтыя даюць вычарпальны адказ на пытаньне, чаму паэта апошнім часам бадайшто вылучна прысьвячае свае творы для дзяцей.*

*У сьвятле сумнага факту сьмерці паэты словы гэтыя дый увесь твор гучаць як паэтаў запавет сучаснай беларускай літаратуры”*[13].

---

[13] Станкевіч, Ст. На сьмерць Уладзімера Дубоўкі // Беларус. № 228. Красавік 1976. С. 1.

**Станіслаў Станкевіч**

## “Сымон Музыка” Якуба Коласа[14]

Узвышша свайго творчага разьвіцьця дасягнуў Якуб Колас у паэме “Сымон Музыка”. Як з гледзішча літаратурнага, гэтак і ідэйна-нацыянальнага, “Сымон Музыка” — гэта запраўдная пэрла беларускае літаратуры.

Пісаць “Сымона Музыку” пачаў Колас у 1911 годзе, адразу пасьля выхаду зь менскага астрогу, у якім адбываў трохгадовае судовае пакараньне за ўдзел у рэвалюцыйным руху 1904—1905 году. Пісаная з большымі й меншымі перапынкамі ды друкаваная паступовымі працягамі ў працэсе пісаньня, паэма ў канчальнай сваёй рэдакцыі выйшла друкам у 1925 годзе ў Менску.

Пакольki “Новая Зямля” паводля сваіх мастацкіх асаблівасьцяў твор рэалістычны, пагэтульки “Сымон Музыка” — паэма рамантычнага стылю. Гэтак яе і ацаніла беларуская літаратурная крытыка. “Сымон Музыка” ў сваёй сяньняшней форме — гэта трэці варыянт трыма наваротамі пісанай і двойчы перарэдагоўванай паэмы. Паэма ў першай сваёй рэдакцыі была выдрукаваная пасьля рэвалюцыі 1917 году. У 1924 годзе яна была перарэдагаваная Коласам, але паводля некаторых вестак, ненадрукаваны яшчэ рукапіс гэтае другое рэдакцыі быў у аўтара ўкрадзены. Пасьля гэтага Колас піша “Сымона Музыку” ў трэйцім варыяньце, вельмі адменным ад першага і другога варыянтаў ужо з прычынаў цэнзурнага характару.

“Сымон Музыка” ў сваёй першай рэдакцыі меў падзагаловак “Казкі Жыцьця”. Хоць гэты падзагаловак у вапошнім варыяньце паэмы адпаў, аднак гэтае спачатнае абазначэньне яе як “казкі жыцьця” і становіць сабою той першы ключ да разуменьня гэтае паэмы, карыстаючыся якім можна ня толькі адамкнуць дзьверы да скарбніцаў захаваных у ёй мастацкіх каштоўнасьцяў, але й знайсьці доступ да тайнікоў ейнай творчай гісторыі.

Паэма разьвівае пашыраную ў беларускай народнай творчасьці і ў сусьветнай літаратуры тэму аб мастаку-самародку, які, пакрыўджаны доляй і пазбаўлены мастацкае адукацыі, напралом цярэбіць сабе шлях, собскімі сіламі разьвівае й выяўляе прыроджаны талент. Герой Коласавае паэмы Сымон такі мастак-самародак і сын беларускае вёскі, *“няпрызнаны і неацэнены нікім”*, навет родным бацькам выгнаны з хаты, вандруе ў сьвет із сваёй іскрыпкай як музыка-жабрак, і на сваім шляху напаткаў вясковую дзяўчынку Ганну. Адразу між імі завязваецца нітка глыбокага й неразрыўнага каханьня, але ўпоперак дарогі да іхнага шчасьця становіцца ў канцы паэмы ўведзеная постаць — Дамянік, які

[14] Друкуецца паводле: Бацькаўшчына. № 1 (601). Праваслаўныя Каляды 1963. С. 3, 4.

спрычыняецца да цяжкай фізычнай і псыхічнай хваробы Ганны. У канцы зьяўляецца Сымон і сваёй цудоўнай ігрой на іскрыпцы варочае да нармальнага стану Ганну, зь якой разам ідзе ў шырокі сьвет і ўжо ніколі не разлучаецца. Апошнія глыбокія сэнсам словы паэты падказваюць, што Сымон пакліканы выканаць вялікую народную місію і што роля ягоная яшчэ не закончаная:

*Я разьвітаюся з Сымонам —*
*Тут круг замкнут адзін, а там*
*Сваім звычайным ходам-гонам*
*Пачнуцца новыя кругі —*
*Яшчэ далёка берагі,*
*Аб іх раскажа повесьць вам*
*Ужо ня я, а хто другі.*
*Пайшоў Сымон сваёй пуцінай,*
*Бо ён прыроджаны пясьняр.*
*Панёс ён людзям песень дар —*
*Агонь душы і сэрца жар,*
*Панёс пясьнярскай каляінай.*
*Рука ў руку зь ім і з ахвотай*
*Дзяўчына мілая ішла.*
*Пад сховам дзеўчага крыла*
*Гарнула далі пазалотай,*
*І не кранала іх журбота,*
*Не засмучала іх імгла.*
*І ўжо ў пуці, ідучы зь ею,*
*Як надыйшоў той час-пара,*
*Дакончыў казку пра лілею*
*І пра птушыну-песьняра.*

Глыбокі і ўніклівы крытык “Сымона Музыкі” літаратуравед Адам Бабарэка, які памёр у 1937 годзе ў бальшавіцкай ссылцы на сёмым годзе адбываньня яе, першы расшыфраваў алегарычны галоўны сэнс паэмы ў апублікаваным у БССР у 1927 годзе артыкуле “Паэма «Сымон Музыка» Якуба Коласа”. Гэты артыкул у 1955 г. быў перадрукаваны ў Мюнхэне як уступ да Коласавае паэмы, перавыдадзенае выдавецтвам “Бацькаўшчына”. Паводля Бабарэкавае, пасьля агульна прынятае вольнай беларускай літаратурнай крытыкай інтэрпрэтацыі — “Сымон Музыка” — гэта *“вобраз беларускага песьняра адраджэнца, які сваю пясьнярскую энэргію аддаваў на змаганьне за нацыянальную й сацыяльную сьведамасьць працоўнага люду беларускага”*.

Вобраз “Лілеі-Ганны” — гэта *“сымбалічны вобраз Маладой Беларусі”*. Але Бабарэка, даючы алегарычнае расшыфраваньне вобразаў Сымона і Ганны, ані словам не ўспамінае аб Дамяніку — трэцім вобразе

рамантычнага “трыкутніка каханьня”. І гэта зусім зразумела ў бальшавіцкіх абставінах, бо, як перадаюць беспасярэднія сьветкі, у цесным сяброўскім коле літаратараў постаць Дамініка ў той час разьбіралася і дыскутавалася як алегарычны вобраз бальшавізму.

Гэткім парадкам, антынародны бальшавізм (Дамянік) авалодвае фізычнай сілай Маладою Беларусяй (Ганнай) і прыводзіць яе ў стан летаргічнага сну. Але ў паэме “Сымон Музыка” выказаная таксама ідэя, што адраджэнская паэзія (вобраз Сымона) сваім жыватворным узьдзеяньнем верне Беларусь да жыцьця і адкрые ёй сьветлую будучыню. Такі алегарычны сэнс паэмы Коласа “Сымон Музыка”.

Але глыбокая нацыянальная і адначасна антыбальшавіцкая скіраванасьць “Сымона Музыкі” выражаецца ня толькі ў алегарычным сюжэце і вобразах галоўных герояў паэмы. Яна прасякае ўсю паэму ад пачатку да канца і з асаблівай выразнасьцяй выступае ў частых у ёй лірычных устаўках і адыходах. Савецкая цэнзура адразу пазналася на варожай бальшавізму скіраванасьці паэмы ў ейнай першай рэдакцыі, друкаванай часткамі, і ў другой рэдакцыі, “украдзенай” у паэты ў 1924 годзе. Пад ціскам гэтае цэнзуры Колас быў змушаны перарэдагаваць сваю паэму, вынікам чаго й быў трэйці і апошні варыянт “Сымона Музыкі”, выдадзены ў 1925 годзе.

Пры параўнаньні першае і апошняе рэдакцыі “Сымона Музыкі” адразу кідаюцца ў вочы тыя мамэнты, якія ня могуць быць аднесеныя нікуды больш, як на рахунак бальшавіцкае цэнзуры. Сюды належыць найперш зьначаньне, а то й зьнікненьне тых мясьцінаў твору, у якіх у першай ягонай рэдакцыі ўжывалася тэрміналёгія, ад самага пачатку абвешчаная бальшавікамі “нацыяналістычнай”. Гэтак, зьнікае ў паэме навет слова *“чужынец”* там, дзе яно мела выразна нацыянальнае адценьне. Гэтак зьнікаюць такія мясьціны першае рэдакцыі, як *“І чаму я марна трачу між чужынцаў дні свае?”* або *“Як на таго чужаніцу, на яго глядзіць і лес”*.

Адылі цэнзурнаму перарэдагаваньню падлеглі ня толькі мясьціны твору з нацыянальным адценьнем і тэрміналёгіяй. У куды большым памеры закранула яно мясьціны рэлігійнага характару. Гэтак, найперш зьнік у разьдзеле 5-м 2-й часткі ўкладзены ў вусны Сымона натхнёны гімн Богу-Творцу, што пачынаўся словамі:

*Хто рассыпаў ў небе зоры*
*Без канца і бяз чысла?*
*І каму у тым прасторы*
*Ночка, дол, лясы і горы*
*Ў сьпевах кажуць чэсьць, хвала?*

Ён быў заменены на гімн зорам, што пачынаецца словамі: *“Як прыгожа павабны вы, зоры”*. Затое зусім ужо бясьследна зьнікла, без

уселякае замены, цэлая вялікая імправізацыя на 114 радкоў, укладзеная ў вусны Сымона ў разьдзеле 4-м часткі 3-й. Паводля прафэсара Пятуховіча, у тэй імправізацыі *“душа беларускага песьняра рашчыняецца ў пачуцьці шчырае падзякі за радасьць адчуваньня ўсёй пекнасьці й прыгажосьці прыроды”*. І Колас вуснамі Сымона пяе гімн космасу:

*Радасьць Божую, сьветы, пазнайце...*
*Абудзіся, зямля, хвалі Бога...*
*Асьвяціся і цьма, пазнай радасьць...*
*Радуйся, неба... ўваскрэсьні, зямля...*

Асабліва высака ацаніў гэтую мясьціну Максім Гарэцкі ў сваёй “Гісторыі беларускай літаратуры” як *“выдатную па сіле пачуцьця і першую па характву ў нашай паэзіі оду Божай творчасьці”*. Але на гэтых вялікіх зьменах і пропусках справа ня скончылася. Цэлы сьцяг драбнейшых мясьцінаў падпаў перарэдагаваньню.

Што гэтае перарэдагавньне паэмы было вынікам бальшавіцкага цэнзурнага ціску, пасьветчыў адзін з найвыдатнейшых тымі часамі нацыянал-бальшавіцкіх функцыянэраў друку, Шукевіч-Трацьцякоў[15]. У сваім артыкуле “Зь ціхай вады — на прасторы жыцьця” ў 1926 годзе ён адзначыў у якасьці галоўнае заганы першае рэдакцыі паэмы *“ярка рэлігійныя настроі самога аўтара”*. А пра апошнюю ейную рэдакцыю Шукевіч-Трацьцякоў із задавальненьнем пісаў: *“Пад уплывам марксысцкае крытыкі Колас перапрацаваў свайго «Сымона Музыку», зьмяніў яго канец, рашуча скінуў з Сымона раней аблытваўшую яго рэлігійную павуціну”*. З гэтага сьветчаньня даведваемся, што гэта быў за *“ўплыў марксысцкае крытыкі”* на Коласа ў тым часе. Бо як ведама, пра першую рэдакцыю “Сымона Музыкі” былі тады выказваньні ў друку адно акадэміка Карскага ў ягоных “Беларусах” і Максіма Гарэцкага ў віленскім выданьні “Гісторыі беларускай літаратуры”. Ані адзін, ані другі не маглі быць залічанымі да *“марксысцкіх крытыкаў”*. Больш таго, рэлігійны мамэнт паэмы дастаў у вабодвых якраз асабліва высокую ацэну. А больш ніякае крытыкі паэмы, а “марксысцкае” й пагатове, у той час у друку ня было. Значыцца, пад *“марксысцкай крытыкай”* у Шукевіча можна разумець адно крытыку ня ў друку, а ў “галоўлітаўскіх” апартмэнтах бальшавіцкае цэнзуры.

Нягледзячы, аднак, на гэтыя цэнзурныя перарэдагаваньні “Сымона Музыкі”, бальшавіцкая літаратурная крытыка трыццатых гадоў адмоўна ацаніла паэму як твор нацыяналістычны й чужы савецкай

---

[15] **Радзівон Шукевіч-Трацьцякоў** (1893—1942), журналіст, дзяржаўны й палітычны дзеяч. У 1922—1924 гг. быў старшынём Галоўнага ўпраўленьня ў справах літаратуры й мастацтва Наркамасьветы БССР.

рэчаіснасьці. Два першыя піянэры гэтае крытыкі, Бэндэ й Кучар, у супольна напісаным артыкуле гэтак ацанілі паэму:

*“Паэма «Сымон Музыка» ў сымбалічнай форме выражае адраджэньне Беларусі ў вобразе дзяўчыны празь нейкую містычна-таёмную сілу. Пры тым у гэтым творы Якуб Колас, які далёка ўжо адышоў ад жыцьця сялянскіх мас у надземнае прыгаство й таёмнасьць, гэтую місію й ролю адраджэнца краіны аддае мастаку (або інтэлігенцыі, якая здольна адрадзіць краіну) — Сымону Музыку. Толькі мастак здольны абудзіць, ажывіць краіну ад цяжкай і кашмарнай хваробы”.*



Значак да 100-годзьдзя нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. ЗША, 1982 г.

Пасьля гэтага прысуду, падхопленага і іншымі савецкімі крытыкамі, паэма была выкінутая із школьнае праграмы беларускае літаратуры, замоўчвалася літаратурнай крытыкай і на працягу 21-га году не перавыдавалася ў БССР. І толькі ў 1946 годзе яна была ўпяршыню перавыдадзеная, а пасьля ў 1952 годзе паўтораная ў IV томе сямітомнага “Збору твораў” Коласа. У камэнтарах да твору, напісаных Івашыным[16] і Семяновічам[17], неўспадзеўкі даведваемся, што *“галоўная праблема паэмы — становішча народнага мастацтва ў капіталістычным грамадзтве”* і што Колас разьвівае тэзу *“аб немагчымасьці свабоднага разьвіцьця таленту ў капіталістычным грамадзтве”*. Гэтак, хвальшуючы запраўдны ідэялягічны сэнс паэмы і прамоўчваючы выказаныя ў ёй Бэндэ і Кучарам *“тыпова-ідэялістычныя рысы”*, абодва камэнтатары “Сымона Музыкі” прыходзяць да запраўды рэвалюцыйных выснаваў:

*“Значыць, для таго, — пішуць яны, — каб інтэлектуальныя здольнасьці чалавека маглі свабодна разьвівацца, а мастацтва дасягнула свайго росквіту, неабходна зьнішчыць капіталістычнае грамадзтва. Такі рэвалюцыйны вывад робіць Якуб Колас у сваёй паэме «Сымон Музыка»”.*

Такая ацэна Коласавае паэмы, дадзеная Івашыным і Семяновічам ды паўтораная бадай даслоўна ў кнізе Фіглоўскай[18] “Творчасьць Якуба Коласа” з 1959 году — гэта тыповы прыклад грубага і прымітыўнага хвальшаваньня літаратурнай творчасьці Якуба Коласа.

---

[16] **Васіль Івашын** (1913—2009), літаратуразнаўца, пэдагог, доктар філялягічных навук.

[17] **Антон Семяновіч** (1917—2000), літаратуразнаўца, доктар філялягічных навук.

[18] **Любоў Фіглоўская** (1908—1971), літаратуразнаўца, дасьледніца гісторыі беларускай і расейскай літаратуры XX ст.

## Аб прычыне сьмерці Якуба Коласа[19]

Трынаццатага жнівеня сёлета споўніцца 32 гады ад сьмерці Якуба Коласа. Як выяўляецца цяпер, сьмерць паэта, як і сьмерць дзесяткаў іншых беларускіх пісьменьнікаў, была вынікам тэрору — у дачыненьні да Коласа ня фізычнага, а маральнага — з боку партыйных органаў.

На Беларусі цяпер ходзяць па руках копіі ліста, напісанага Коласам у дзень свае сьмерці ў адказ на русыфікацыйную палітыку, якую хрушчоўскае кіраўніцтва ўзялося праводзіць у БССР па сьмерці Сталіна.

Партыйныя органы пачалі былі дамагацца ад народнага пісьменьніка Беларусі, каб ён падтрымаў лінію партыі ў нацыянальнай палітыцы, скіраваную на тварэньне *"новай гістарычнай супольнасьці — савецкага народу"*. Для Коласа выступаць за тварэньне гэтай *"новай супольнасьці"* было раўназначным адрачэньню ад сваіх паглядаў на нацыянальную справу, гэта значыла падпісвацца пад прысудам культурнае сьмерці свайму народу, і ад гэтага кроку ён катэгарычна адмовіўся. Рэакцыя ЦК была гнеўная, партыя ўзялася за "перавыхоўваньне" народнага пісьменьніка. Што гэтая кампанія магла за сабой пацягнуць, Якуб Колас вельмі добра ведаў яшчэ з даваеннай практыкі. *"Расказваючы нам сёе-тое з трыццатых гадоў,* — сьветчыць Янка Брыль («ЛіМ», 1.1.88), — *дзядзька Якуб сказаў, што тры гады ён спаў не распранаючыся — чакаў..."*

У 1956 годзе сэрца 73-гадовага Коласа, змучанага сталіншчынай і вайной, ня вытрывала новых пакутаў і зьдзекаў — ліст-пратэст у ЦК (на імя сакратара ЦК Цімафея Гарбунова[20]) быў апошнім актам спакутаванага песьняра. Копія гэтага дакумэнту доўгі час перахоўвалася ў сям'і Коласа. Цяпер, размножаная, яна ходзіць па руках, абмяркоўваецца на сходах нефармалаў, сталася своесаблівым каталізатарам сёньняшняга змаганьня ў абароне роднае мовы.

Паводля Янкі Брыля, увесну 1987 году на Пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі гаварылася, што *"пісьмо, зь якім Якуб Колас хадзіў у ЦК партыі ў дзень сваёй сьмерці, павінна быць нарэшце апублікавана. Пісьмо — пра становішча з роднай мовай"* ("ЛіМ", 1.1.88).

Але дасюль яшчэ перадсьмяротнае слова Сымона Музыкі савецкая цэнзура трымае ў сакрэце[21].

---

[19] Друкуецца паводле: Беларус. № 349. Ліпень 1988. С. 1.

[20] **Цімафей Гарбуноў** (1904—1969), дзяржаўны й партыйны дзеяч, гісторык, доктар гістарычных навук, акадэмік АН БССР. У 1941—1947 і 1950—1960 гг. быў сакратаром ЦК КПСС, у 1955—1963 гг. — старшынём Вярхоўнага Савету БССР.

[21] У "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагодзьдзя" ў чатырох тамах, у томе 1 у разьдзеле, прысьвечаным творчасьці Якуба Коласа (аўтар М. А. Тычына), гэтаму лісту адведзены адзін сказ*: "У апошнія дні свайго жыцця Колас*

## Нэкралёг

### Якуб Колас[22]

Якуб Колас — адзін з буйных мастацкіх талентаў, якіх так шчодра родзіць беларуская нацыянальная глеба, ды якім, на жаль, так рэдка ўдаецца дажыць да 74-х гадоў...

Кажнае чалавечае жыцьцё можна ацэньваць і можна рабіць гэта па-рознаму. Колас пакінуў сам па сабе мерку свайго жыцьцёвага шляху, — сваю найвыдатнейшую "казку жыцьця", паэму "Сымон Музыка". На аснове гэтага таленавітага твору мы можам пабачыць, якая глыбіня асабістае й нацыянальнае трагедыі хаваецца за крыклівымі напышанымі паховінамі, якія наладзілі паэту бальшавіцкія верхаводы.

Якуб Колас — гэта перш за ўсё пясьняр, мастак, чалавек творчае свабоды й глыбокага пачуцьця. Беларускую адраджэнскую літаратуру і сябе як арганічную частку яе ён увасобіў у Сымону Музыку, так як вобразам любае Сымону Ганны, абуджанае ад сьмяротнага сну Сымонавым граньнем, паэта сымбалізаваў маладую адроджваную Беларусь. Сваёй паэмай "Сымон Музыка" Колас паказаў шлях і накрэсьліў кірунак, у якім павінна разьвівацца беларускае нацыянальнае мастацтва, — шлях, па якім і ён сам намагаўся ісьці аж да пары свайго духовага заламаньня пад цяжарам бальшавіцкае дыктатуры. Шлях-жа Сымона Музыкі — гэта цяжкая дарога выгнанца зь беднае аграбленае беларускае вёскі, празь нядолю жабрачага шчасьця, карчомнае služэньне, сьцюдзёныя панскія харомы — аж да каханага вобразу Ганны, — маладое, ускрошанае песьнямі Бацькаўшчыны.

Вось шлях, па якім змушаны йсьці пясьняр, і вось тая мэта, якую ён умроіў асягнуць — ускрошаную вольную Беларусь. Недарма паэма "Сымон Музыка" была забароненая ў савецкай Беларусі ад 1925 году аж да нядаўняга часу.

---

*паслаў у ЦК КПБ ліст, поўны трывогі за стан беларускай мовы"* (Мінск, 1999. С. 236).

[22] Друкуецца паводле: Бацькаўшчына. № 33 (315). Жнівень 1956. С. 1. Подпіс: Сяргей Ясень [Псэўданім Янкі Запрудніка]. У тым самым нумары на апошняй, чацьвёртай бачыне, пад назовам "Памёр Якуб Колас" было выдрукавана гэткае паведамленьне: "*14 жнівеня сёлета маскоўскае радыё перадало наступную вестку: «Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета СССР з глыбокім жалем паведамляе, што 13 жнівеня сёлета на 74 годзе жыцьця памёр Якуб Колас — Канстанцін Міцкевіч, дэпутат Вярхоўнага Савету СССР, выдатны савецкі пісьменьнік, народны паэт Беларусі, Віцэ-Прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук, сябра ўправы Саюзу Пісьменьнікаў СССР»*". Яшчэ адзін нэкралёг Якуба Коласа, з газэты "Беларус", выдрукаваны ў кнізе: Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус". Выбранае. Мінск, 2019. С. 433—434.

Аднак Коласу не ўдалося прайсьці гэтага шляху да канца. Выйшаўшы з паняволенае сацыяльна й нацыянальна беларускае вёскі, ён змог толькі перанесьці жабрачы лёс выгнанца-нявольніка царскіх турмаў, перажыць карчму-цэнзуру, але з харомаў бальшавіцкага замку, адкуль праз уцёкі ён вывеў свайго героя, яму самому ўцячы не ўдалося... Занявolены ў ім сярод халодных сьцен і бліскучых паркетаў, абвешаны ардэнамі й тытуламі дэпутата, ён мусіў граць на сваёй скрыпцы тое, што вымагалі ад яго бальшавіцкія паны і што было балючай супярэчнасьцяй ягонаму нацыянальнаму сумленьню.

На 74-м годзе, змучаны жыцьцём, Сымон Музыка памёр. Крыклівым кантрастам да сапраўднасьці гучаць ягоныя вымушаныя хвалasьпевы сваім панявольнікам. Але вечна будуць жыць ягоныя праўдзівыя мастацкія творы, якія ён пакінуў у спадчыну нашай літаратуры, усьпеўшы напісаць іх перад змрочнаю эпохаю паліцыйнага “соц-рэалізму”.

Жыцьцё Якуба Коласа — гэта прадонная асабістая трагедыя, канец якое супаў вось цяпер з канцом ягонага зямнога жыцьця.

Хай будзе пухам яму родная беларуская зямля.

***Сяргей Харэўскі***
*Вільня*

# РАНЬНІЯ ФОТА ЯНА БУЛГАКА

У 2020 г. споўнілася 70 гадоў з дня сьмерці славутага фотамастака, тэарэтыка фатаграфіі й краязнаўца Яна Булгака. Ён — заснавальнік і старшыня Фатаклюбу Польшчы, Віленскага фатаклюбу, Зьвязу польскіх мастакоў-фатографаў, Польскага фатаграфічнага таварыства. Аўтар дзясяткаў артыкулаў і шматлікіх кніг. Ён пэдагог, бібліёграф, фальклярыст, гісторык мастацтваў. Менавіта Булгак — першы беларускі гісторык фатаграфіі. Яму належыць спэцыяльная праца “Пра першых віленскіх фатографаў з XIX стагодзьдзя”, што выйшла асобнай кнігай у Вільні ў 1939 г. У гісторыю нашае культуры ён увайшоў найперш як мастак-фатограф, выкладчык, этнограф і фальклярыст. З 1919 да 1939 гг. Ян Булгак кіраваў лябараторыяй мастацкае фатаграфіі пры Віленскім унівэрсытэце. Гэта быў першы падобны асяродак у Эўропе. *“Фатограф, падобна ўсякаму мастаку, задаецца мэтай узнавіць ня самі рэчы бачнага сьвету, а сваё асабістае ўражаньне, сваё ўспрыманьне іх”*, — так вызначаў Ян Булгак сваё творчае крэда. Таксама ён быў аўтарам першага прыродазнаўчага фотаальбому пра возера Нарач *“Naracz — najwiekscie jezioro w Polsce”* (“Нарач — найвялікшае возера ў Польшчы” (1935)[1]. Як напісана ў прадмове, гэтая кніга — вынік назіраньняў у час вандроўкі *“па благой дарозе, якая ня столькі злучае, колькі разьдзяляе Вільню з Нараччу”*.

Падаем тут нізку здымкаў раньняга пэрыяду творчасьці Яна Булгака са збораў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Усе яны ўяўляюць цэласную калекцыю фота, зробленых фотамастаком напярэдадні Першае сусьветнае вайны. Большасьць зь іх мае на адвароце штамп ягонага фотаатэлье ў Вільні, зроблены па-нямецку. То бок пастаўлены ўжо падчас нямецкае акупацыі. Назва вуліцы, у нямецкай трансьлітарацыі, пададзеная па-літоўску. Гэтая дэталь дазваляе нам вызначыць і тагачасны адрас Яна Булгака ў Вільні — вуліца Ажэшкі 3, дзе ён жыў да 1944 г. (цяпер вуліца В. Кудзіркі).

*J. BULHAK LICHTBILDNER*
*Bildnissaufchmen und Stadtansichten*
*Wilna. Oscheschkienes str. 3*

---

[1] Bułhak, Jan. Narocz największe jezioro w Polsce: z 38 ilustracjami autora Wędrówki fotografa w słowie i obrazie. Wilno: Nakł. Stanisława Turskiego, 1935. 48 s.

Ян Булгак нарадзіўся ў 1876 г. у шляхецкім засьценку ля Асташына, што на Наваградчыне. Асташын — невялікае некалі вельмі рамантычнае мястэчка пад Наваградкам, слыннае найперш унікальным гатычным кальвінскім зборам, разбураным у савецкі час. Гэты былы калясальны збор-крэпасьць на старым замчышчы ў атачэньні пірамідальных стромкіх таполяў дайшоў да нас, дарэчы, выключна дзякуючы здымкам Яна Булгака, які вучыўся ў Наваградку, Вільні ды Кракаве, а затым і ў фатамайстра Гуга Эрфурта ў Дрэздэне.

Па вяртаньні на бацькаўшчыну Булгак жыў пад Менскам, арандуючы маёнтак у вёсцы Перасека, у ваколіцах якое ён стварыў цэлую галерэю народных тыпаў і краявідаў Цэнтральнае Беларусі. Тыя здымкі, напрыклад, "Беларуская дзяўчына з-пад Клецку" або "Жабракі-беларусы пад Менскам" — клясыка нацыянальнае школы фатаграфіі. Аб'езьдзіўшы паў-Беларусі, Ян Булгак стаў аўтарытэтам сярод этнографаў, фатографаў, мастакоў. Ягоныя здымкі, у кожным зь якіх было памкненьне неяк выламіць стэрэатып, паглыбіць пэрспэктыву, даць яшчэ болей паветра, сустракалі гледачоў са старонак розных часопісаў — *"Ziemia", "Kwartalnik Litewski", "Wies ilustrowana"* ды розных іншых. Сярод здымкаў тае пары вылучаецца партрэт селяніна зь люлькаю (фота № 1), шматкроць рэпрадукаваны ў розных выданьнях, сярод іншага, у кніжцы Язафата Жыскара "Нашы касьцёлы" і пазьней — у "Геаграфіі Беларусі" Аркадзя Смоліча. А абодвух гэтых выданьнях аўтарства здымку, аднак, не пазначанае[2]. На ім мы бачым чалавека, абранага фатографам менавіта ў якасьці "тыпажу", то бок — тыповага, на думку аўтара, прадстаўніка свайго народу й клясы. Другі, фактычна парны да гэтага, — здымак селяніна ў тыповым традыцыйным зімовым строі, які таксама рэпрадукаваўся ў розных выданьнях (фота № 2).

З гэтага ж, "этнаграфічнага", пэрыяду творчасьці Булгака, паходзіць і яшчэ адзін здымак гэтае нізкі — засьценку Зубкаў (цяпер вёска Зубкі ў Клецкім р-не Менскае вобл.). На ім мы бачым вельмі адметныя будынкі, нетыповыя для традыцыйнага народнага дойлідзтва, перадусім гэта датычыць характару апрацоўваньня бярвеньня, часанага ў квадрат, і злучваў кутоў, а таксама бяленьня вапнаю. Гэтыя дэталі красамоўна дэманструюць нам асаблівасьці шляхецкага побыту пачатку XX ст. (фота № 3).

На запрашэньне Віленскага магістрату Ян Булгак перабраўся ў сталіцу краю, каб стварыць вялікі фотаальбом. Ён шчыльна сышоўся

[2] Żyskar, Jozafat. Nasze kościoly: [opis ilustrowany wszystkich kościołów i parafji znajdujących się na obszarach dawnej Polski i ziemiach przyległych] / ułożyłi: Dyonizy Bączkowski, Jozafat Żyskar. [T. 2]: Djecezja mińska. [Z. 10], Dekanat miński poza miastem. Warszawa: Druk Piotra Laskauera, 1914; Смоліч, Аркадзь. Географія Беларусі. Вільня: Друкарня Б. Клецкіна, 1919.

з колам тутэйшае інтэлігенцыі, найперш з Фэрдынандам Рушчыцам і Іванам Луцкевічам. Утрох яны часта выбіраліся ў “экспэдыцыі” па старой Вільні й яе ваколіцах. Сярод іншага, вывучалі касьцёл Сьвятога Міхала, разам прыглядаючы месца для плябаніі[3]. Яго будаўніцтва фундаваў у 1594 г. для кляштара бэрнардынак вялікі канцлер, віленскі ваявода Леў Сапега. У 1662—1663 гг. да храму прыбудавалі барочны франтон на заходнім фасадзе й бакавыя вежы. У 1905 г. касьцёл Сьвятога Міхала быў вернуты Сапегам як фамільная пахавальня, рэстаўраваны ў 1906—1912 гг. Менавіта гэты касьцёл, пасьля завершанае рэстаўрацыі, мы й бачым на адным з фатаздымкаў, зробленым, вераемна, каля 1912 г. (фота № 4).

Разам з Луцкевічам па панядзелках Ян Булгак хадзіў у дом Рушчыца на Зарэччы, над стромым берагам хуткацечнае порсткае Вялейкі. Там зьбіраўся незвычайны салён — квецень віленскае культуры, адабраная самім гаспадаром. Адзін са сталых гасьцей Рушчыца, публіцыст Чэслаў Янкоўскі, гэтак апісваў тыя “салёны”: *“Кожны тыдзень, па панядзелках, вечарамі, зьбіралася ў Рушчыца мастацка-літаратурная кампанія. Ніякіх «захожых» гасьцей не бывала, зразумела, падчас «сымпозіюмаў». Ніколі ніхто не гаварыў па-расейску. Падсілкаваўшыся, падпіўшы, пачыналі — хтосьці ўжо дэклямуе, хтосьці грае, хтосьці сьпявае… калі не, то перашкаджаюць, падымаючы сур’ёзныя тэмы пра лёс краю…”*[4]

Падчас аднае з тых вечарынаў на Зарэччы Ян Булгак атрымаў замову ад гарадзкога галавы Вільні спадара Міхала Вэнслаўскага — стварыць поўны “гарадзкі фотаархіў”. Фэрдынанд Рушчыц на раніцу ня толькі нагадаў Вэнслаўскаму аб прапазыцыі, але й здолеў упэўніць урад Вільні ў пільнай неабходнасьці салідна фундаваць унікальны праект. Ян Булгак, дзякуючы гэткаму зьбегу абставінаў, здолеў перабрацца ў Вільню з-пад Менску. Задача перад фотамастаком паўстала куды шырэйшая, чым “інвэнтарызацыя”. З 1912 да 1919 гг. ён выканаў некалькі тысяч здымкаў сакральнае архітэктуры, палацаў, могілак, вуліц і завулкаў Вільні[5]. Ягоную ўнурлівую й натхнёную працу не перапынілі ні нямецкая, ні бальшавіцкая, ні літоўская акупацыі. Чароўны вобраз Вільні па-над часамі й ладамі, які Ян Булгак утрываліў навечна, паўстае перад намі бясконцаю чарадою сюжэтаў і настрояў, сьвятла й ценю. Для сваіх мастацкіх выправаў ён наўмысна абіраў сонечныя дні, гадзіны першых звонкіх прамянёў і мядовага сьвятла папаўдні. Пазьней, у сваёй

[3] Ruszczyc, Ferdynand. Dziennik. Cz. 1. Ku Wilnu 1894—1919. Warszawa: Secesja, 1994. S. 243.

[4] Jankowski, Czesław. Ruszczyc // Słowo. № 121. 29.05.1927. S. 2—9.

[5] Булгак, Ян. Вандроўкі фатографа: Віленскі краявід (фрагменты) // Культура. № 39/40. 13—19 кастрычніка 2001. С. 14.

кнізе “Эстэтыка сьвятла” (*“Estetyka światła”*), у 1936 г. майстра пісаў: *“Архітэктура бяз сонца — мёртвая й пляскатая... У той жа час як па-іншаму выглядае кожны гмах у сонечным бляску, калі бакавое сьвятло выяўляе плястыку брылёў сьценаў і дахаў, падкрэсьлівае сакавітасьць арнамэнтыкі, паглыбленьняў вокнаў і парталаў, рытм аркадаў, узносіць стральчатасьць вежак, хвалістую акругласьць купалаў і шаломаў! У сонцы белыя муры ясьнеюць нерухомай бельлю, выпраменьваюць зь сябе сьвятло й радасьць. А ўжо нашыя будынкі — белы касьцёл, белы палац, белы дом — можна палюбіць толькі ў сонцы, спасьцігнуць і раскрыць вымоўна... Архітэктура ёсьць творам чалавека, а чалавек — дзіцём зямлі й неба. Чалавек ня здолеў жыць бяз сонца — як бы бяз сонца магла абысьціся архітэктура?”*[6] Сапраўды, усе здымкі Яна Булгака працятыя сонечным сьвятлом. Гэтак пакрысе й склаўся “Віленскі альбом”, які, аднак, з-за амбарасаў першае вайны не пабачыўшы быў сьвет.

Але Ян Булгак усё ж зрабіў вялікія нізкі здымкаў, прысьвечаных і Віленшчыне, Наваградчыне, Белавескай пушчы й Рушчыцаваму Багданаву. Многія з тых здымкаў сёньня ўнікальныя, бо некаторыя з выяўленых на іх аб’ектаў ужо незваротна страчаныя. У прыватнасьці, такім каштоўным гістарычным дакумэнтам стаў фатаздымак драўлянага старасьвецкага касьцёлу XVII ст. Сьвятога Міхала ў Багданаве (фота № 5). Гэты храм шматкроць цярпеў ад пажараў. На здымку Яна Булгака мы бачым сьвятыню ў тым выглядзе, у якім яе адбудавалі ў 1844 г. У міжваенны пэрыяд пашкоджаны ў часе Першае сусьветнае вайны касьцёл яшчэ раз адрэстаўравалі — дзякуючы рупнасьці Фэрдынанда Рушчыца, які нарадзіўся ў тутэйшым маёнтку й быў ахрышчаны менавіта ў гэтай бажніцы. У 1944 г. храм згарэў дазваньня[7]. Менавіта таму фатаздымак аўтарства Яна Булгака — важны дакумэнт да гісторыі гэтае сьвятыні й сакральнага беларускага дойлідзтва. Падобны лёс напаткаў і старасьвецкі драўляны касьцёл Сьвятога Пятра Апостала ў Салечніках пад Вільняю (цяпер — Шальчынінкай, Літва), які таксама быў зьнішчаны вагнём у 1944 г. Выгляд яго званіцы XVII—XIX стст. застаўся толькі на здымку Яна Булгака (фота № 6).

Яшчэ адзін здымак Яна Булгака паказвае нам колішні кляштар базылянаў у Беразьвеччы. Гэты кляштар з саборам Сьвятых Пятра і Паўла XVIII ст. пасьля касаваньня сьвятое вуніі ў 1839 г. быў спустошаны й закінуты. На пачатку XX ст. тут зрабілі праваслаўны жаночы манастыр *“второго разряда”*. Але з пачаткам Першае сусьветнае вайны

---

[6] Bułhak, Jan. Estetyka światła: zasady fotografiki, z ilustracjami autora. Wilno: nakł. i drukiem Polskiej Drukarni Artystycznej Grafika, 1936. 279 s.

[7] Кулагін, Анатоль. Каталіцкія храмы Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. 2-е выд. Мінск: БелЭн, 2008.

манашак эвакуявалі. І менавіта ў гэтае міжчасьсе быў зроблены здымак Янам Булгакам (фота № 7). А ў 1919 г. сьвятыню нарэшце вярнулі каталікам. У кляштарных будынках разьмясьціўся полк Корпусу аховы пагранічча, а храм стаў гарнізонным касьцёлам. У 1930-я гг. адбылася рэстаўрацыя комплексу былога базылянскага кляштару, а таксама былі рупліва праведзеныя яго абмеры й фотафіксацыя. Актыўны ўдзел у гэтым бралі Фэрдынанд Рушчыц і Ян Булгак. Але ў савецкі час унікальны шэдэўр сакральнага дойлідства, адзін з найпрыгажэйшых храмаў Эўропы быў дашчэнту зьнішчаны, у 1972 г. сышоўшы ў неба пылам і друзам. Такім чынам фатаздымак Яна Булгака — яшчэ адзін унікальны дакумэнт да гісторыі гэтага страчанага шэдэўру архітэктуры.

Вялікую дакумэнтальную вартасьць, перадусім для дасьледнікаў архітэктуры, маюць здымкі кляштару брыгітак у Горадні, зробленыя Янам Булгакам напрадвесьні ці ўжо падчас Першае сусьветнае вайны. На адным мы бачым касьцёл Зьвеставаньня Найсьвяцейшай Панны Марыі 1634—1642 гг., пабудовы й фрагмэнт уласна кляштару брыгітак (фота № 8). На шчасьце, гэты архітэктурны ансамбль ацалеў да нашых дзён амаль у гэткім самым выглядзе, што зафіксаваў больш як сто гадоў таму фатограф. Гэтаксама надзвычайную каштоўнасьць для гісторыкаў архітэктуры мае фатаздымак найстарэйшага ў Беларусі гаспадарчага збудаваньня XVII стагодзьдзя — лямусу ў двары брыгіцкага кляштару (фота № 9). Гэты будынак, што сам Ян Булгак называе ў подпісе на адвароце блізкім па сэнсе польскім словам *“spichrz”*, спалучаў у сабе гаспадарчыя й жылыя функцыі. Першы паверх выкарыстоўваўся як склад, другі быў жылы. Сёньня гэты будынак адрэстаўраваны й даступны для наведваньня.

А вось былы езуіцкі касьцёл Сьвятога Станіслава ў Пінску з прылеглай забудоваю, што мы бачым на здымку Яна Булгака (фота № 10), не зьбярогся. Яго будаўніцтва вялося цягам дзесяці гадоў, да 1648 г. У 1657 г. у гэтым касьцёле быў пахаваны закатаваны казакамі сьвяты Андрэй Баболя. З 1787 г. муры рэзыдэнцыі езуітаў, пасьля ліквідацыі ордэну ў Рэчы Паспалітай, перайшлі да вуніяцкага ордэну базылянаў, а ў 1800 г. комплекс забраны пад праваслаўны мужчынскі Богаяўленскі манастыр. На пачатку Першае сусьветнае вайны манастыр быў эвакуяваны, а ўжо ў 1919 г. вернуты каталікам. Менавіта ў гэта міжчасьсе выгляд храму й зафіксаваў Ян Булгак. На жаль, пінская бажніца Сьвятога Станіслава была ўзарваная й разабраная дашчэнту ў 1953 г. Затым расчысьцілі ад старасьвецкіх будынкаў прылеглую плошчу. Як выглядаў той квартал, мы можам меркаваць цяпер толькі па гэтым фатаздымку.

На адным са здымкаў (фота № 11) мы бачым і ўнікальны помнік нашага нацыянальнага дойлідства, царкву-крэпасьць Сьвятога Міхаіла ў Сынкавічах. Гэты храм быў пабудаваны, як сьведчаць дакумэнты,

у пэрыяд кіраваньня каралевы Боны, паміж 1518 і 1556 гг. Зроблены Янам Булгакам фатаздымак царквы Сьвятога Міхаіла — адзін з самых першых, паводле якога мы можам меркаваць пра стан помніку ў пачатку XX ст. Царква існуе да нашых дзён, але ў моцна зьмененым асяродзьдзі — ня стала тых вялікіх дрэваў вакол яе, што бачым на фота Яна Булгака.

Па вайне фатамайстар ізноў вяртаецца да віленскіх краявідаў і да кола старых сяброў. Фэрдынанд Рушчыц, які ўзначаліў мастацкі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, прапаноўвае яму ўзначаліць лябараторыю мастацкае фатаграфіі. У 1928 г. Ян Булгак стварыў і ўзначаліў Віленскі фатаклюб. У гэты ж час ён піша свае галоўныя працы па тэорыі й тэхніцы фатаграфіі, па-польску: "Фатаграфіка" (*"Fotografika"*, 1931); "Вандроўкі фатографа" (*"Wędrówki fotografa"*, 1936); "Бромавая тэхніка" (*"Technika bromowa"*, 1933) ды інш. Але перадусім аўтар выдаў самы значны твор тагачаснае айчыннае фотамастацкае думкі — "Эстэтыка сьвятла" (*"Estetyka światła"*, 1936). На жаль, вайна перарвала творчы ўзьлёт. У 1944 г. пад савецкімі бомбамі згарэў віленскі дом Яна Булгака, а ў ім — самая вялікая ў нашай гісторыі прыватная калекцыя здымкаў і фотаархіў (звыш 10 тыс. твораў).

*"...10 ліпеня згарэў дом нумар 3 па вуліцы Ажэшкі, дзе мы пражылі адзінаццаць гадоў,* — паведамляе Ян Булгак на старонках машынапісу "Мая біяграфія". — *Згарэла шасьціпакаёвая кватэра, а ў ім мая фатаграфічная майстэрня, архіў, г. зн. нэгатывы і альбомы зь дзесяцьцю тысячамі здымкаў з сэрыі "Польшча ў фатаграфічных выявах", вялікая бібліятэка, калекцыя лістоў і газэтных выразак, рукапісы літаратурных твораў — згарэла дашчэнту ўсё, над чым я працаваў і што я зьбіраў на працягу сарака гадоў, загінуў, абярнуўся ў попел увесь мой фатаграфічны й літаратурны набытак".*

Пасьля гэтага Ян Булгак пакінуў радзіму й зьехаў у Варшаву, дзе кіраваў Зьвязам польскіх мастакоў-фатографаў (*Związek Polskich Artystów Fotografów*) да 1947 г. Нядаўна ўпершыню па-беларуску ў выдавецтве "Беларусь" выйшла кніга ўспамінаў Яна Булгака "Край дзіцячых гадоў"[8], што адкрывае няведамую дагэтуль асобу знакамітага фатографа як майстра мастацкага вобразу й слова. Ян Булгак аднаўляе на старонках успамінаў Наваградчыну канца XIX — пачатку XX стст., стварае жывы вобраз сваёй страчанай радзімы, апісваючы старыя шляхецкія сядзібы й іх жыхароў. На чарзе — выданьне па-беларуску й іншых ягоных рукапісаў. А таксама пераклад ягоных кнігаў.

Пададзеная калекцыя фатаздымкаў са збораў БІНіМу — унікальная, сярод іншага, і з тае нагоды, што кожны зь іх падпісаны рукою аўтара.

---

[8] Булгак, Ян. Край дзіцячых гадоў. Мінск: Беларусь, 2004. 412 с.

*Станіслаў Станкевіч*

# НА 70-ГОДЗЬДЗЕ АНТОНА АДАМОВІЧА[1]

Я вельмі рад, што сяньня маю нагоду выказаць сваю думку пра навукова-культурна-літаратурна-грамадзкую і ўсякую іншую карысную дзейнасьць Антона Адамовіча, якую я асабіста вельмі высока цаню. У сваім дакладзе Юбіляр сказаў[2], што ён вельмі мала, бадай што нічога карыснага не зрабіў да апошняга часу. І гэтае ягонае асьведчаньне — гэта ня ўгодкавы аўтакамплімэнт, а зусім шчырае прызнаньне, зробленае зь ягоных суб'ектыўных пазыцыяў. І гэта зразумела і анічуць ня дзіўна. Юбіляр усьведамляе, што ён зрабіў ня гэтулькі, колькі хацеў-бы, колькі сабе плянаваў, не беручы ўвагі на тыя абмежаныя магчымасьці, у якіх давялося жыць і працаваць у неспрыяльных абставінах эміграцыйнага жыцьця.

Затое людзі староньнія, як у дадзеным выпадку і я асабіста, могуць лягчэй ацаніць усё ім зробленае й сьцьвердзіць, што ў цяжкіх эміграцыйных абставінах ён у максымальнай ступені патрапіў выкарыстаць свае магчымасьці, каб зрабіць узапраўды шмат у галіне роднае навукі й культуры.

У прывітаньні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва на ягонае 70-годзьдзе, надрукаваным у газэце "Беларус" за травень 1979 году, абазначаныя гэткія галіны дзейнасьці Антона Адамовіча: літаратуравед, гісторык, пісьменьнік, палітычны й грамадзка-культурны дзеяч.

Зусім правільна ў угодкавым прывітаньні БІНіМу на першым месцы адзначаная літаратуразнаўчая дзейнасьць Антона Адамовіча. Ён напісаў і надрукаваў вялікую колькасьць літаратуразнаўчых і літаратурна-крытычных працаў, пералічаць якія не хапіла-б тут і месца, але сярод іх, на маю думку, найбольш каштоўныя якраз літаратуразнаўчыя, а не літаратурна-крытычныя працы. Не зважаючы на тое, што літаратуразнаўчая й літаратурна-крытычная дзейнасьць узаемна зазубляецца, часамі цяжка аддзяліць адну ад другой, тым ня менш, найбольш адпаведны для яго кірунак дзейнасьці, на маю думку, якраз як гісторыка літаратуры.

Калі я чытаю ягоную літаратуразнаўчую працу пра творчасьць Максіма Гарэцкага, што была надрукаваная ў 1928 годзе ў часапісе

---

[1] Публікуецца паводле: Беларус. № 273. Студзень 1980. С. 3.

[2] Тамсама. С. 2.



Антон Адамовіч.
1970-я—1980-я гг.

"Ўзвышша"[3], мяне зьдзіўляе, што ейны аўтар, ня маючы тады яшчэ й 20 год жыцьця, гэтак глыбака й грунтоўна патрапіў ацаніць творчасьць Максіма Гарэцкага, інакш кажучы, выявіў ужо тады поўную літаратураведную дасьпеласьць. Праўда, у нас быў і Максім Багдановіч, які ў зусім маладых сваіх гадох патрапіў узьняцца да трапных літаратурных тэарэтычных сфармуляваньняў і абагульненьняў, пацьверджаных пазьней усім працэсам беларускага літаратурнага разьвіцьця. Але-ж гэтыя фэнамэнальныя дасьледвальнікі, якім быў Максім Багдановіч, зьяўляюцца адзін раз на сто год. Прыклад Максіма Багдановіча аніяк не абніжае прыкладу з Антонам Адамовічам.

Вяртаючыся да згаданай Адамовічавай працы пра Максіма Гарэцкага, трэба ведаць і тое, што, як зазначыў і Антон Адамовіч, праца гэтая была зрыхтаваная шмат раней за ейнае надрукаваньне ў "Узвышшы" й тым самым сьведчыць пра яшчэ ранейшы літаратураведны талент Антона Адамовіча. На просьбу аўтара гэтых радкоў Антон Адамовіч удакладніў, што згаданая праца пра Максіма Багдановіча была зрыхтаваная яшчэ ў 1927 годзе, калі ён меў усяго 18 год жыцьця.

На другім месцы ва ўгодкавым прывітаньні БІНіМу згадваецца пра Антона Адамовіча як гісторыка. Мне здаецца, што ягоныя гістарычныя зацікаўленьні, хоць таксама цікавыя й важныя, усё-ж чыста выпадковыя. Спад ягонага пяра выйшлі дзьве большыя гістарычныя працы: *"Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией"* у 1954[4] і *"Большевизм в революционном движении в Белоруссии"* — у 1956 годзе[5]. Няхай нікому ня будзе дзіўным, што абедзьве гэтыя працы былі напісаныя й выдадзеныя Мюнхэнскім Інстытутам вывучэньня СССР у расейскай, а ня беларускай ці ангельскай мовах. Гэта быў час, калі намі, працаўнікамі гэтага Інстытуту, вялося змаганьне за выданьні Інстытуту і ў беларускай ды ангельскай мовах, змаганьне, якое

[3] Маецца на ўвазе публікацыя: Адамовіч, Антон. Максім Гарэцкі (Спроба манаграфіі аб творчасьці) // Узвышша. 1928. № 1. С. 117—133; № 2. С. 132—156; № 3. С. 116—121; № 4. С. 101—127; № 5. С. 130—172; № 6. С. 155—175.

[4] Маецца на ўвазе выданьне: Недасек, Н. [Адамович, Антон]. Очерки истории большевизма в Белоруссии. 1. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией. Мюнхен: Институт по изучению истории и культуры СССР, 1954. 68 с. (Исследования и материалы, сер. I-я, вып. 18).

[5] Маецца на ўвазе выданьне: Недасек, Н. [Адамович, Антон]. Большевизм в революционном движении Белоруссии. Введение в историю большевизма в Белоруссии. Мюнхен: Институт по изучению СССР, 1956. 151 с. (Исследования и материалы; серия 1-я. Вып. 25).

ўкаранавалася поўным посьпехам. Довадам гэтага былі далейшыя працы Антона Адамовіча, як "Якуб Колас у супраціве саветызацыі" ў 1955 годзе[6] й "Апазыцыя саветызацыі беларускай літаратуры" ў 1958 годзе[7], першая ў беларускай мове, а другая ў ангельскай.

На трэйцім месцы ў угодкавым прывітаньні БІНІМу фігуруе Антон Адамовіч як пісьменьнік. Калі ў 1955 годзе мне давялося ў Мюнхэне камплектаваць да выданьня ў Выдавецтве "Бацькаўшчына" зборнік твораў мастацкай літаратуры на эміграцыі "Ля чужых берагоў"[8], я выбраў для гэтага выданьня Адамовічава апавяданьне, падпісанае псэўдонімам Васіль Бірыч, "Афрадыта-Ост"[9]. Апавяданьне гэтае было, на маю думку, найлепшым, што зьявілася да гэтага часу ў жанры беларускай мастацкай прозы. Ад гэнага часу мінула сяньня цэлых 25 год. І калі-б і сяньня трэба было камплектаваць гэны зборнік, я таксама выбраў-бы для яго апавяданьне "Афрадыта-Ост" як найлепае й сяньня з усяго таго, што зьявілася ў жанры апавяданьня. У 1948 годзе пад псэўдонімам С. Юстапчык выйшла ў Мюнхэне своеасаблівая Адамовічава аповесьць як завязка раману "Каханы горад"[10].

Добра сабе прыгадваю, калі ў гэным часе аднойчы з ДП-лягеру ў Каме прыехаў да нас у ДП лягер у Остэргофэне Аўген Кахановускі, дык неяк жартам сказаў ён, што калі-б ад яго залежала, ён прысудзіў-бы аўтару "Каханага гораду" Нобэля. Пэўне-ж, гэта было сказана жартам, тым ня менш, гэты сяброўскі жарт ня быў пазбаўлены лёгікі. Наагул, даводзіцца шкадаваць, што Антон Адамовіч пасьля пакінуў займацца мастацкай прозай. А чаму? — гэта ведама хіба толькі яму аднаму.

І апошняе абазначэньне дзейнасьці Антона Адамовіча ў угодкавым прывітаньні БІНІМу як *"палітычны й грамадзка-культурны дзеяч"*. Пад гэтым абазначэньнем пэўне-ж хаваецца й канкрэтна ягоная дзейнасьць у галіне культуры роднае мовы. Побач літаратуразнаўчай гэта, на маю думку, найважнейшая сфэра ягонае навуковае дзейнасьці, сфэра,

---

[6] Маецца на ўвазе выданьне: Адамовіч, Ант[он]. Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхэн: Інстытут для Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР, 1955. 62 с. (Досьледы й матар'ялы; Сэрыя 1. Вып. 20).

[7] Маецца на ўвазе выданьне: Adamovich, Anthony. Opposition to the Sovietization in Belorussian literature (1917—1957). München: Institute for the Study of the USSR, 1958. 204 p. (Series I. № 38. January 1958).

[8] Маецца на ўвазе выданьне: Ля чужых берагоў = An Fremden Ufern. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн: выдавецтва "Бацькаўшчына", 1955. 230 с.

[9] Маецца на ўвазе публікацыя: Бірыч, В. [Адамовіч, Антон]. Афрадыта-ОСТ. Навэля // Сакавік. 1947. № 1. С. 24—34.

[10] Маецца на ўвазе выданьне: Юстапчык, С. [Адамовіч, Антон]. Каханы горад: Завязка раману. [Osterhofen]: "Сакавік", 1948. 81 с.

у якой ён у вабставінах эміграцыі адыграў дый адыграе ролю запраўднага піянера, гэтакага, якімі былі на бацькаўшчыне ў 20-х гадох Кузьма Чорны й галоўна Ўладзімер Дубоўка, а пасьля асуджэньня г. зв. культу асобы Сталіна — Фёдар Янкоўскі й галоўна Янка Скрыган, што таксама пайшлі сьлядамі Ўладзімера Дубоўкі. Гэткім парадкам, Уладзімер Дубоўка меў годнага сябе вучня, а Антон Адамовіч — годнага сябе настаўніка.

У сваёй дзейнасьці ў галіне культуры мовы Адамовіч пасьлядоўна і ўпорыста тарнуе два важныя прынцыпы: паглыбленьне, калі гэтак выразіцца, беларускасьці беларускае мовы і ейнае дэрусыфікацыі, дакананае русыфікатарамі на бацькаўшчыне. Хоць біяграфія Антона Адамовіча ў васноўным гарадзкая, аднак назапасіў ён глыбокае веданьне беларускіх народных дыялектаў, якія ўдала ўжывае ў сваёй літаратурнай мове. З другога боку, ён пасьлядоўна пашырае тыя граматычныя формы й словы, якія адрозьніваюць беларускую ад расейскае мовы. Гэтая ягоная дзейнасьць мала прыкметная навонкі, але яна нязвычайна важная й карысная. Наагул можна сказаць, што асноўную базу для нашай літаратурнай мовы, якой мы карыстаемся на эміграцыі, стварыў Антон Адамовіч. Гэтая ягоная заслуга ня можа быць сяньня пераацэненая, яе пацьвердзіць напэўна й будучая наша гісторыя.

Апошнім часам Антон Адамовіч працуе ў галіне рэдагаваньня зборнікаў твораў беларускай паэзіі на эміграцыі. Гэтак, нядаўна пад ягонай рэдакцыяй і зь ягоным уводным артыкулам выйшаў вялікі зборнік Натальлі Арсеньневай "Між берагамі"[11]. Цяпер-жа ён працуе над рэдагаваньнем гэткага зборніка паэзіі памерлага ўжо Алеся Салаўя[12]. 27 травеня 1979 году ў Нью Ёрку адбыўся банкет і літаратурны вечар у гонар Натальлі Арсеньневай з нагоды 75-х угодкаў жыцьця паэткі ды выхаду ў сьвет кнігі ейнае паэзіі "Між берагамі". Антон Адамовіч, аўтар біяграфічна-крытычнага нарысу да гэтай кнігі, прывітаў паэтку ды пажадаў ёй, кажучы ягонымі словамі, *"жыць а жыць далей творчым жыцьцём"*. Гэтымі ягонымі словамі дазволю з нагоды ягонай сяньняшняй працы над зборнікам Алеся Салаўя прывітаць яго самога: *"жыць а жыць творчым жыцьцём"* пасьля ягоных 70-х угодкаў. Гэткае маё найшчырэйшае яму пажаданьне!

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

---

[11] Маецца на ўвазе выданьне: Арсеньнева, Натальля = Arsiennieva, Natalla. Між берагамі: Выбар паэзіі = Between the Shores: Selected Poetry: 1920—1970. Нью Ёрк — Таронта: БІНІМ, 1979. 350 с. (Беларускія паэты й пісьменьнікі; № 1).

[12] Маецца на ўвазе выданьне: Салавей, Алесь = Salaviej, Ales. Нятускная краса: Збор твораў = Unfading Beauty: Collected Poems. Нью Ёрк — Мэльбурн: БІНІМ, 1982. XVI + 372 с. (Беларускія паэты й пісьменьнікі; № 2).

## *Будучая кніга*

***Антон Адамовіч***

# БЕЛАРУСЬ У ЗМАГАНЬНІ

### Прамова на 9-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі й Канады 6-га VIII. 1970 г.[1]

Як толькі я памятаю сябе нацыянальна сьведамым, для мяне гэтыя словы — Беларусь і змаганьне — заўсёды йшлі, як і йдуць, неразлучнаю парай, неразьліўна зьліўшыся так, што адно зь іх заўсёды проста аўтаматычна выклікае другое, і магу нават сказаць: адно зь іх значыць другое. Беларусь — гэта значыць найперш — змаганьне. Змаганьне — гэта значыць найперш — за Беларусь. У гэтым фактычна й ёсьць самыя пачаткі, самыя асновы, сказаць-бы *"азы"*, як казалі калісь у нас, вучачыся царкоўна-славянскае граматы-азбукі, *"азы"* беларускае нацыянальнае сьведамасьці, ейнае А, Б, Ц.

Запраўды: "А" нашай нацыянальнай сьведамасьці *"ёсьць Беларусь"*. На першы погляд гэтае сьцьверджаньне здаецца як-бы занадта ўжо *"азбучным"*. Ну, пэўна-ж, ёсьць Беларусь. Ды далёка ня так было гэта тады, калі нацыянальна ўсьведамляўся я. Тады тое, што *"ёсьць Беларусь"*, а шырэй кажучы, што ёсьць беларуская зямля зь перад Беластоку аж па-за Смаленск, *"ад хваль Вугры аж па сіні Буг"*, як пазьней добра сказала адна паэтка[2], што ёсьць беларуская мова, што ёсьць беларуская культура, што ёсьць беларуская гісторыя — гэта ўсё ня было тады такой азбучнай аксыёмай. Вялікая маса, калі не бальшыня нашага народу, наагул ня ведала й ня чула, што ёсьць нейкая Беларусь, што ёсьць нейкая беларуская мова, хоць гэтаю мовай і гаварылі. А было шмат гэткіх, што казалі гэтай масе: няма ніякай Беларусі! Ёсьць *Северо-Западный край России*, або *Крэсы Всходне Польскі*. Няма ніякае беларускае мовы, ёсьць *"наречие"*, гаворка такая самая, як якая-небудзь валагодзкая або тульская. Няма ніякай беларускай гісторыі. Ёсьць гісторыя заходня-расейская, *"западно-русская"*. Уся гэтая Беларусь, казалі, гэтая беларуская мова, культура, гісторыя — гэта толькі нечая выдумка або, як яшчэ йнакш казалі, нечая інтрыга!

---

[1] Друкуецца паводле: Беларус. № 163. Лістапад 1970. С. 4; Беларус. № 164. Сьнежань 1970. С. 2, 3.

[2] Маецца на ўвазе Ларыса Геніюш і радкі зь ейнага вершу "Не сумуйце": *"Мы былі і будзем Крывічамі / ад хваль Угры аж па сіні Буг!"*

Гэта было тады. Ну, а цяпер? Найперш глянем, як там, на бацькаўшчыне. На першы пагляд здаецца, там ня можа быць ніякіх сумляваньняў: Беларусь ёсьць, ёсьць як беларуская незалежная, паводля канстытуцыі, Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, але-ж ёсьць яна толькі на траціне беларускай зямлі. Няма гэтай Беларусі ў тым Беластоку, ад якога яна пачынаецца з Захаду, няма гэтай Беларусі ў тым Смаленску, за якім яна канчаецца на ўсходзе, няма гэтай Беларусі ў старавечнай нашай Вільні. Так што гэтая Беларусь і ёсьць, і ўсё-ткі яе як-бы й няма — навет там, на бацькаўшчыне. Мала таго, калі прызнаецца, што яна ёсьць, то ўсё-ткі, афіцыйна навет, партыяй, якая кіруе, гэта прызнаецца толькі як зьява й справа часовая. Яна ёсьць, але яе не павінна быць. Ну, праўда, для пацехі кажацца — у вельмі далёкай будучыні, а думаецца — у якнайхутчэйшай будучыні яе не павінна быць, яна павінна ўліцца ў нейкі інтэрнацыянал, што практычна разумеецца ў духу ведамых словаў Аляксандра Пушкіна: *“Славянские ручьи сольются в русском море”*.

Гэта так, бачыце, на бацькаўшчыне. Ну, а не на бацькаўшчыне? У замежжы? Тут, дзе мы цяперака? Ці не спатыкаемся мы й тут з тым самым адмаўляньнем, ці хоць-бы сумляваньнем, што ёсьць нейкая Беларусь? Ці не даводзіцца нам разьбіваць гэткія сумляваньні й гэткія адмаўленьні? Ці няма гэткіх выказваньняў, што гэта нейкая інтрыга? Ці не на гэтай аснове Беларусі няма ў “Галасе Амэрыкі” (“Войс оф Амэрыка”[3]), якім Амэрыка гаворыць на цэлы сьвет? Там беларускае мовы няма, там Беларусі няма! Як бачыце, гэта першы пункт нашае нацыянальнае сьведамасьці — ці ёсьць Беларусь, актуальны яшчэ й сяньня. Актуальны й на Бацькаўшчыне, актуальны й за межамі. Гэта “А” нашай нацыянальнай сьведамасьці, актуальны й на сяньня.

“Б” нашае нацыянальнае сьведамасьці — гэта сьцьверджаньне: я — Беларус. На першы пагляд таксама вельмі-ж *“азбучнае”* сьцьверджаньне. Калі, скажам, Француз скажа, што ён — Француз, дык гэта для яго самая звычайная рэч. Навет наш Амэрыканец, асабліва калі ён не натуралізаваны, як некаторыя з нас, а патомны Амэрыканец, кажа: *“Я — Амэрыканец”*, безь якое-небудзь задняе думкі. Але сказаць: *“Я — Беларус”* у тых абставінах, у якіх адбывалася маё асабіста нацыянальнае ўсьведамленьне, дый шмат каго іншых, патрабавала адвагі, патрабавала мужнасьці, патрабавала ідэалізму. Запраўды, кажны Беларус, а асабліва Беларус праваслаўны, мог зусім бесьперашкодна сказаць: *“Я — Русский”*,

---

[3] **Радыё “Голас Амэрыкі”** (анг. *“Voice of America”*) — радыёстанцыя з цэнтрам у Вашынгтоне, створаная ў 1942 г. У 1947 г. была арганізаваная трансьляцыя на расейскай мове, у 1949 г. — на ўкраінскай мове, у 1951 г. — на літоўскай, латыскай, эстонскай, грузінскай, армянскай, азербайджанскай мовах. Сёньня вяшчаньне вядзецца на 46 мовах.

і ў гэтым ня было яму ніякіх пярэчаньняў, і ён мог запраўды стацца гэтым *“Русским”*, навет наламацца гаварыць так-сяк *“па-руску”*, а можа навет і лепш, як нашы наломваюцца цяпер і тут гаварыць па-ангельску, *“сьпікаць”*. Дарога была адкрытая, ня было ніякіх перашкодаў. Беларус-каталік мог сьмела сказаць: *“Я естэм Поляк”*, хоць сабе й *“пшэкал”* ён па-польску ня вельмі добра. А за часамі Польшчы навет і праваслаўны Беларус мог сказаць, што ён Паляк, і зноў-жа гэта яму адчыняла дарогі, адчыняла прынамсі магчымасьці далейшага людзкага існаваньня. Сказаць-жа: *“Я — Беларус”*, гэта значыла кінуць выклік, гэта значыла адкінуць гэтыя магчымасьці матар’яльнага дабрабыту, быць гатовым на ўсякія прыкрасьці, няпрыемнасьці й навет пакуты. Ну, але, гэта было за тымі часамі, скажаце мне, ну, а цяпер, цяпер-жа гэтая справа ясная. На бацькаўшчыне, скажам, у нас там навет у пашпарты ўпісваюць, калі Беларус, дык і ўпісваюць — Беларус. Некаторым нацыянальнасьцям, як, скажам, Гэбрэям (лепш будзем называць іх гэтак. Яны крыўдзяцца, калі іх называюць іначай, і хоць ня мы ў гэтым вінаватыя, іншыя стварылі для іх гэту крыўду, але нашто лішне крыўдзіць людзей) — дык вось, Гэбрэям нават ня вельмі падабаецца, і ня бяз рацыі не падабаецца, калі ім у пашпарт упісваюць, што яны — Гэбрэі, ну, і Беларусам упісваюць, а ці ўсім ім гэта падабаецца — гэта вялікае пытаньне. Вось ёсьць такі, вы знаеце напэўна з імя, бо ён-жа даўгія гады міністар замежных справаў Савецкага Саюзу — Андрэй Грамыка. Беларус з крыві й касьці, з прозьвішча, навет з узгадаваньня, хадзіў у той самы Беларускі Дзяржаўны Менскі Ўнівэрсытэт, што і я, ды ў тым самым часе, толькі на іншы факультэт, дык не даводзілася нам, на жаль ці на шчасьце, спатыкацца — гэта даведваемся зь ягонай біяграфіі. Свае прамовы, скажам, тут, у Задзіночаных Нацыях, якія мы маем гонар часам чуць, выгалошвае па-расейску, але-ж з такім беларускім акцэнтам, што далей няма куды. Кажуць: Бог шэльму значыць! *“Рад саглашэній і дагавораў”* — гэткая расейская мова Грамыкі. І цьвярдое “Р”, і фрыкатыўнае “Г”, і кароткае “Ў”, і дзеканьне, і цеканьне — усё захаванае ў ягонай мове чысьцюсенька. Часам, праўда, асьцерагаецца, але калі забудзецца, дык так тады гэта йдзе гладка, як па масьле. А паглядзеце ў ягоную афіцыйную біяграфію, ці ён Беларус? *“Русский”*! Відаць, усё-ж Беларусам звацца не заўсёды добра, не заўсёды выгодна, не заўсёды адчыніць дарогу да ўсіх магчымасьцяў і да магчымасьцяў найвышэйшых.

Ну, а тут, у замежнай Беларусі, у нас? Ізноў-жа пашпарты, ці натуралізацыя. Ці аднаму з нас даводзілася змагацца за тое, каб яго запісалі Беларусам? Не запісваюць, хоць ты ў грудзі пары, як у нас кажуць. Мала хто дамогся, каб яго так запісалі. Шмат каго пазапісвалі Палякамі, а некаторых навет і Расейцамі пазапісвалі. І так цяпер у нас сустракаюцца такія людзі, што ён як-бы й Беларус, ён-жа як-бы й Паляк, і навет часам наверх і Расеец. І як ён гаворыць з табою, ён кажа: я — Беларус! А так

адыдзешся, паслухаеш, як зь некім іншым гаворыць, дык кажа: "Ну, я-ж Паляк!" Гэтаксама, бачыце, і нашымі часамі сказаць: *"Я — Беларус"* — і на бацькаўшчыне, і ў замежжы — гэта не такая звычайная, будзённая рэч, а гэта рэч сумленьня, рэч мужнасьці, адвагі й рэч ідэалізму. Так і гэтае "Б" нашай нацыянальнае сьведамасьці сьцьверджаньне *"Я — Беларус!"* — актуальнае таксама й сяньня.

А з гэтых "А" — *"Ёсьць Беларусь"* і "Б" — *"Я — Беларус!"* у гэтых абставінах, у якіх яны мусілі й мусяць вымаўляцца, выплывае няўхільна і "Ц" ня толькі як лягічная выснова, але і як імпэратыўны загад: **кажны Беларус мусіць змагацца за Беларусь!** Гэта — "Ц" — гэтай Абэцэды, ці азбукі нашай нацыянальнай сьведамасьці. Але-ж, Абэцэды, бо ёсьць яшчэ й "Д": мусім змагацца, каб перамагчы. Праўда, у гэтае апошняе "Д" з часам давялося ўнесьці такую-сякую папраўку: змагаліся, і доўга змагаліся, і не маглі перамагчы, і перамогі ня было, і яшчэ яе няма. І калі ў гэтым змаганьні я, разам зь іншымі, апынуліся на савецкім выгнаньні, сталінскім выгнаньні, дык адзін з нас, цяпер можна назваць ягонае прозьвішча — пару год, як ён памёр ужо — паэта Нічыпар Чарнушэвіч[4], чытаючы вялікі твор Ромэна Раляна[5] "Зачараваная душа", у мотта, эпіграфе да аднаго з тамоў гэтага твору знайшоў выказваньне Шэксьпіра, якое канчалася тым, што трэба *"змагацца, калі не перамагчы, дык і не падацца!"*. Гэта была папраўка трагічнай канцэпцыі змаганьня, і гэтая папраўка сталася актуальнай для нас тады, як актуальная яна для нас і сягоньня. Але-ж, у нас не адно "Д", а два "Д", як у тэй геамэтрыі — дзьве простыя лініі. Адно "Д", адна простая лінія — змагацца й перамагчы, а другое "Д" — другая простая — калі не перамагчы, дык і не падацца!

Так выглядае гэтая азбука, ці абэцэда нашай нацыянальнай сьведамасьці, актуальная й на сяньня. Яна знайшла ў нас выражэньне і ў нашых нацыянальных лёзунгах, клічах, найперш у тым клічы, які яшчэ, на шчасьце, не забыты намі й сяньня тут, у клічы *"Жыве Беларусь!"*. Маім часам яна знаходзіла сабе выражэньне і ў другім клічы, на жаль, цяпер ужо блізу забытым, якога, аднак, забывацца ня варта было-б. *"Змагайся як мага — зможаш!"* Праўда, калі першы кліч, "Жыве Беларусь!", быў арыгінальна нашым клічам, яго калісь выказаў як стогн, як енк, *"што жыве Беларусь"*, сам наш Янка Купала ў вадным з сваіх раньніх вершаў[6], дык гэты другі кліч, *"Змагайся як мага — змо-*

[4] **Нічыпар Чарнушэвіч** (1900—1967), паэт, перакладчык, драматург.

[5] **Рамэн Ралян** (фр. *Romain Rolland*, 1866—1944), францускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, музыказнавец. Ляўрэат Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры (1915).

[6] Маецца на ўвазе верш Янкі Купалы "Гэта крык, што жыве Беларусь" (1906—1907).

*жаш"*, ня быў беларускім ані з паходжаньня, ані з абсягу. Ён нарадзіўся ў тагачаснай Расейскай імпэрыі й можа ўпяршыню выйшаў з вуснаў вялікага змагара за ўкраінскі народ Тараса Шаўчэнкі[7]: *"Борітеся — поборете!"* Меў ён форму выразу і ў расейскай мове: *"В борьбе обретешь ты право свое"*. Гэтыя формулы ў гэтых трох мовах аднолькавым сэнсам сталіся дэвізам аднэй з папулярных да рэвалюцыі партыі ў Расейскай імпэрыі, партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў. Наш кліч *"Змагайся як мага — зможаш"* быў дэвізам нашай партыі беларускіх сацыялістых-рэвалюцыянэраў, якая ў часы пачаткаў мае нацыянальнае сьведамасьці была аднэю з партыяў, што змагалася за Беларускую Народную Рэспубліку, бралі ўдзел у абвешчаньні гэнае Беларускае Народнае Рэспублікі, а пасьля, у савецкіх абставінах, навет нейкі час талераваліся як легальная апазыцыя да камуністычнае партыі. Аднак, хоць гэты лёзунг і ня нашага паходжаньня, ды калі прыраўнаць яго да тых дзьвюх формулаў у іншых мовах, якія я тут падаў, дык у ім ёсьць адна вельмі важная і істотная і ўжо нашая адрознасьць. Па-ўкраінску — *"Борітеся — поборете!"*, па-расейску — *"В борьбе обретешь ты право свое"*, па-беларуску — *"Змагайся **як мага** — зможаш"*. Гэтага *"як мага"* няма ані па-ўкраінску, ані па-расейску, яно ёсьць толькі ў гэтай нашай беларускай формуле, яно гаворыць пра тое, што для нас змаганьне павінна весьціся ўсімі сіламі, усімі магчымасьцямі, *"як мага"*, і таму гэты кліч, гэты лёзунг варта йзноў успомніць сяньня, хоць ужо няма тае партыі, якая гэты кліч прынесла, дый ня трэба, каб яна была.

Але-ж, змагацца трэба як мага! І змагацца можна як мага! Магчымасьцяў у змаганьні не адна, іх колькі, формаў змаганьняў колькі. Найвышэйшы ўзровень змаганьня — вайна. Вайна — вайсковае збройнае змаганьне. Цяпер ёсьць яшчэ й тая пераносная, мэтафарычная формула — халодная вайна, якая гаворыць ужо аб змаганьні не фактычнай "гарачай" зброяй, а аб змаганьні галоўна зброяй слова, але гэта справы не мяняе. Усё роўна гэта змаганьне вайсковае, значыцца, змаганьне здысцыплінаванае, мэтаскіраванае. Гэта найвышэйшы ўзровень змаганьня.

І адзін зь першых вялікіх змагароў за Беларусь, наш векапомны Кастусь Каліноўскі ў сваім запавеце, напісаным, як ён казаў, з-пад шыбеніцы маскоўскай, на якой ён павіс у 1864-м годзе, так і казаў: *"Ваюй, народзе, за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю!"* **Ваюй**, ня толькі змагайся, але й ваюй! І ён, наш Кастусь, ваяваў, ваяваў навет гарачай вайной. Было ў яго паўстанцкае войска, дармо што ў бальшыні ўзброенае яно было косамі, сярпамі й віламі, ён ваяваў за Беларусь. Ня быў ён першы. Войны за наш народ і да

[7] **Тарас Шаўчэнка** (укр. *Тарас Шевченко*, 1814—1861), украінскі пісьменьнік, мастак, грамадзкі дзеяч; заснавальнік новай украінскай літаратуры.

Каліноўскага вяліся вельмі а вельмі часта, асабліва ў некаторых стагодзьдзях. Ня месца пералічваць тут гэтыя войны. Вайна за Беларусь вялася, аднавілася й пасьля Каліноўскага. Але ўжо за часамі Каліноўскага, перад ім яшчэ, ад пачатку таго 19-га стагодзьдзя, у другой палавіне якога ён дзеіў, ужо тады пачалі адрозьнівацца войны малыя й войны вялікія. На пачатку 19-га стагодзьдзя напалеонаўскія войны — гэта ўжо былі першыя вялікія войны, войны, якія ўцягвалі не адзін, а шмат народаў, бадай усе народы тагачаснае Эўропы, і калі Каліноўскі ваяваў за Беларусь, дык ён таксама, уздымаючы гэту вайну, у пэрспэктыве бачыў яе не як малую вайну, не як вайну ягоных гэтых паўстанцаў з косамі, сярпамі й віламі, а як вайну вялікую. Ён і пісаў, што да гэтае вайны далучыцца й Француз, а ёсьць асновы думаць, меркаваць, што ён меў на ўвазе далучэньне і Ангельцаў, і навет Амэрыканцаў.

20-ж век прынёс ужо вялікія войны ў форме войнаў сусьветных. Першая сусьветная вайна выбухла ў 1914 годзе, і на выхадзе гэтай сусьветнай вайны пачалася ізноў вайна за Беларусь, вайна за Беларускую Народную Рэспубліку, абвешчаную незалежнай Актам 25-га сакавіка 1918 году. Гэты Акт, гэтае абвешчаньне незалежнасьці Беларусі фактычна быў актам абвешчаньня вайны за Беларусь, вайны за Беларускую Народную Рэспубліку. Негатовая тады была Беларусь да гэтае вайны. Вайну гэтую ў бальшыні давялося весьці бяз войска, зьберці гэтае войска было цяжка, але ўсё-ж такі вайна вялася, яна дала такі выбух, як Слуцкае паўстаньне 1920 году, гэты апошні вялікі выбух першае стадыі, першага этапу вайны за Беларускую Народную Рэспубліку.

Але вялікае вайны, сусьветнае вайны ўжо ня было на сьвеце. Вялікаму суседу ня цяжка было здушыць гэтую малую, маленькую вайну супраць яго, слуцкую вайну беларускага народу. І ён здушыў яе. Аднак як толькі паўстала Другая сусьветная вайна, дык ізноў пачаліся намаганьні аднавіць гэтую вайну за Беларускую Народную Рэспубліку, аднавіць яе, галоўным парадкам ствараючы ўжо сваё войска. Пра гэта гаварыць ня будзем, шмат хто з вас браў у гэтым беспасярэдні ўдзел. Але Другая сусьветная вайна была такою жудаснаю, такою страшэннаю, што яна зрабіла самую ідэю вайны непапулярнай. І цяпер непапулярная гэтая ідэя ў нас на бацькаўшчыне, і непапулярная яна па цэлым сьвеце. Бо апрача таго, пры канцы гэтай Сусьветнай вайны, Другой, паўстала яшчэ здань-прывід вайны атомнай, вайны тэрмаядзернай, страшней чаго нельга ўжо навет і выдумаць. Гэта найбольш і зрабіла ідэю вайны непапулярнай, гэта выклікала антываенныя рухі, якія мы бачым тут і сягоньня. Іншая рэч, што разьдзьмухваюць гэтыя антываенныя рухі тыя, хто толькі хоча лёгкай для сябе вайны, такой вайны, каб віць пугі й гнаць перад сабою, як у нас кажуць. Яны разьдзьмухваюць гэтыя антываенныя настроі, але настроі гэтыя маюць пад сабой глыбокі псыхалягічны грунт. Гэты прывід атамнай

вайны й гэныя ўспаміны жахаў Другой сусьветнай вайны вызначаюць гэты псыхалягічны грунт.

Але-ж, атомная вайна, атомная вайна...

Колькі год таму мне даводзілася гаварыць шырэй на гэтую тэму ў Чыкага...

...У Чыкага я якраз гаварыў пра тое, што з раскладам атаму і зь зьяўленьнем пасьля-атомнае, а далей і вадароднае бомбы ўсе пачалі казаць, што настала зусім новая эра ў жыцьці чалавецтва. Але фактычна эра гэтая — атомная эпоха, казаў я тады, настала яшчэ раней. Бо перш, чымся быў раскладзены атам фізычны, рэцэпт раскладу атаму, сказаць-бы, псыхаідэялягічнага быў дадзены Каралём Марксам — і гэта адтады пачалася новая эпоха, у гэтым можа быць згода з марксавымі пасьлядоўнікамі і ў ягоных супраціўнікаў. І пасьля, паводля таго рэцэпту, Ленін сканструяваў псыхаідэялягічную атомную, а за ім Сталін і вадародную псыхаідэялягічную бомбу — і пайшла ў ход, сказаць-бы, псыхаідэялягічная тэрмаядзерная зброя.

І вось, калі фізычную бомбу тэрмаядзерную маюць абодвы бакі, якія пэрспэктыўна стаяць у змаганьні, прычым той бок, па якім і мы стаім, мае ў гэтым дачыненьні перавагу, дык вось тую, псыхаідэялягічную атомную бомбу мае толькі адзін бок, казаў я, ён яе й выкарыстоўвае, будзе выкарыстоўваць, і ў гэтым галоўная, вялікая небясьпека, у гэтым вялікі страх, бо наш бок ці ня можа, ці ня хоча распрацаваць сваю псыхаідэялягічную атомную зброю. Гэта я казаў у Чыкага. Але адна безадказная асоба, якая ня чула, што я казаў у Чыкага, ня была там, калі прайшло ўжо колькі год па гэтым, прачытаўшы гэтую зацемку, якая, як заўсёды газэтныя зацемкі, не магла быць ані поўная, ані дакладная, а мусіла быць схэматычнай, асоба гэтая напісала, а пабожныя людзі надрукавалі — бо як-жа, калі напісана, не надрукаваць, а асоба ўсё-ткі тытулаваная — надрукавалі ў друку, што Адамовіч у Чыкага палохаў атамнай бомбай, выконваючы заданьне Хрушчова...

Судзіцца зь ім за палітычную інкрымінацыю? Няхай сабе. Няхай панясець ён гэта на той найвышэйшы суд, ад якога, кажуць, ніводзін з нас не адкруціцца і які для кажнага з нас можа настаць у кажную часіну...

Выбачайце за гэты маленькі адыход. Вярнемся да тэмы. Дык як нам усё-ж ткі ставіцца да вайны, якая так непапулярна сяньня, у сяньняшніх абставінах? Пэўна-ж, кажны з нас, калі ён толькі нармальны чалавек, ня хоча сьмерці. Але вайна — гэта ня зусім сьмерць. Вайна — гэта гульня зь сьмерцяй і як і ў кажнай гульні, у ёй можна прайграць, можна, як кажуць, згуляць у нічыю, а можна і выйграць. І таму мы да гэтай магчымасьці вайны павінны ставіцца з гатовасьцяй. Мы вайны ня хочам, але калі гэтая вайна настане, то мы мусім быць гатовыя, каб самі йсьці й нашаму народу памагаць у гэтую вайну йсьці і ў гэтай вайне выйграць!

Гэта найвышэйшы ўзровень змаганьня — вайна, вайсковае збройнае змаганьне. Але куды шырэйшы, хоць і ніжэйшы ўзровень — гэта змаганьне ўжо не вайсковае, ня збройнае, змаганьне, якое можна было-б назваць па-нашаму вельмі добрым, хоць мала ўжываным словам *“ходаньне”*. Гэта даходжаньне свайго рознымі ходамі, ужо ня зброяй. Вось гэтае ходаньне ў прамежках паміж ваенным змаганьнем ніколі не перасьціхала ў нас на Беларусі. І давала вельмі вялікія вынікі. Досыць сказаць, што дзякуючы гэтаму ходаньню, нат у савецкіх абставінах, удалося дайсьці гэтак званай беларусізацыі, якая на працягу пяцёх год стварыла нам вялікую базу, стварыла нам нацыянальную школу, стварыла нам асновы навет нацыянальнае навукі, асновы літаратуры. Калі ў 1928 годзе пачалі ўжо тут памаленьку, як кажуць, даваць задні ход, агледзеўшыся, што далі зашмат у гэтым ходаньні, дык усё-ж ткі аснова ўжо была створаная, і наступныя пяць год, ад 1928 па 1933 год, усяроўна гэтая беларусізацыя інэрцыяю йшла яшчэ ў нізох, у масах шырылася й трымалася. І за гэтыя разам 10 год беларуская база стварылася такой моцнай на бацькаўшчыне, якой яна ня была ніколі ў часох паняволеньня нашага народу, і яна такая моцная, што яе й цяпер яшчэ нельга выкараніць. І каб ня было гэтых 10-цёх год беларусізацыі, дык я ня ведаю, ці тое, што тлела ў нас у Заходняй Беларусі пад Польшчаю, дало-б такія вынікі, каб мы з вамі маглі-б тут зьехацца й гаварыць так, як мы гаворым сягоньня.

Вось гэта тое, што дало нам гэтае ходаньне. Гэтае ходаньне вядзецца й цяпер на бацькаўшчыне. Яно вядзецца цяпер з новаю сілаю пасьля сьмерці Сталіна, бо за Сталінам яно ўжо зусім мусіла зысьці на няма нічога. Яно, гэтае ходаньне, вядом і мусім весьці й мы тут таксама. Нам тут ёсьць шмат за што ходацца, хоць-бы за гэнае прызнаньне таго, што ёсьць беларуская мова. Ходацца за тое, каб гэта беларуская мова была хоць-бы ў тым самым “Голасе Амэрыкі”. І ёсьць нам за што ходацца і ў сябе ў сярэдзіне, у сярэдзіне свае грамады. Учора на нарадах нашае Сустрэчы была гэтая тэма, тэма ходаньня, ходаньня за беларускую моладзь. І калі тэма “Беларусь у змаганьні” — гэта асноўная тэма нашай сустрэчы, дык тэма змаганьня за беларускую моладзь — гэта нашая мясцовая канкрэтная тэма гэтай сустрэчы, якою пачалася яна ўчора й якою скончыцца яна заўтра.

Але-ж, гэта вельмі важнае ходаньне, яго мы мусім выйграць. Розныя пагляды былі выказаныя й будуць яшчэ выказаныя ў гэтай справе. Ясна адно, што трэба ходацца за нашую моладзь, якая ад нас высьлізгваецца, уцякае. За тую моладзь, якая не гаворыць па-беларуску, каб яна ўсьведамляла тыя А, Б, Ц нашае нацыянальнае сьведамасьці, напачатак прынамся. Але таксама маё глыбокае пераконаньне, што трэба ходацца й за тое, каб яна гаварыла па-беларуску. Іншая рэч, што гэта справа “праграмы максымум”, як кажуць. “Праграма максымум”

не заўсёды можа быць выкананая, але скідаць гэтую рэч з “праграмы максымум” аніяк нельга. Пытаньне галоўнае толькі аб тым, як ходацца? Гэта пытаньне пэдагагічнае, бо гэтая справа тут — справа ўзгадаваньня. І тутака якраз мы часта б’ёмся ў вадчыненыя дзьверы, а можа часам і ў зачыненыя дзьверы, не адчынаючы іх. Бо мы забываемся, што нашая моладзь гадуецца тут, у тутэйшых школах, паводля тутэйшае й сучаснае пэдагогікі, а не паводля тае пэдагогікі, якая гадавала нас. Калі я вучыўся на настаўніка ў Менскім Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме ймя Ўсевалада Ігнатоўскага, у той час у нас вельмі модныя былі амэрыканскія тэорыі ўзгадаваньня. Мы іх ня толькі грызьлі, але мы іх мусілі практычна ў школе праводзіць. Я крыху знаю гэтыя тэорыі. Асноўны прынцып тутэйшае сучаснае пэдагогікі ў тым, што навука павінна давацца моладзі як *“фан”*. *“Фан”* — ёсьць такое ангельскае слова, якое зусім нельга перакласьці й перадаць у іншую мову. Яно, паміж іншага, ня зусім і ангельскае, яно пазычана з ірляндзкае. Па-нашаму можа было-б тут блізка слова — *“пацеха”*, але гэта ня зусім дакладна, бо па-нашаму *“пацеха”*, асабліва пад уплывам іншых моваў, часта мае ня зусім тое значаньне. А тут галоўнае значаньне, як у тэй прыказцы: *“Калі не пацешыцца, дык павесіцца…”* Дык вось, моладзі трэба беларускую справу й беларускую мову падносіць як *“фан”*, а не як нуду, не як муру сухіх бясконцых *“чытаньняў”* з паперак. Гэтым моладзі не ўзгадуеш. Гэтым якраз можна дамагчыся другой часткі прыказкі: павесіцца, і павесіць гэтую моладзь. Нам трэба апанаваць асновы гэтай сучаснай тутэйшай пэдагогікі й трэба навучыцца браць моладзь на гэты *“фан”*, падаць ёй Беларусь, падаць ёй беларускую мову як гэты *“фан”*, як нешта цікавае, прыемнае, спартовае, а ня сухое, мяртвое, манатоннае…

Гэта два верхнія ўзроўні змаганьня: вайна — ходаньне. Але ёсьць яшчэ адзін узровень, ці навет два найніжэйшыя ўзроўні, якія часта, раней асабліва, навет і не асацыяваліся з гэтым самым разуменьнем змаганьня. Гэта ўзровень, ці ўзроўні супраціву. Супраціву актыўнага, або адпору, так, як мы пяём у нашым нацыянальным гімне: *“А гвалту мы дамо адпор”*, і асабліва супраціву пасыўнага, або супору. Як я казаў, раней навет не зьвязвалі гэты супраціў з змаганьнем, уважалі, што гэта нешта зусім іншае, рознае. Але калі зьявіліся таталітарныя рэжымы, першы, зразумела, савецкі, камуністычны, а за ім уборзьдзе другі — італьянскі фашыстоўскі, мусалінеўскі, а за ім трэйці ў Нямеччыне нацыянал-сацыялістычны, гітлераўскі, дык тады сталася ясна, што змаганьне ані ў форме вайны, ані ў форме ходаньня з гэтымі рэжымамі проста немагчымае. Заставалася толькі адно, заставалася толькі гэтая форма, якая цяпер і была ўсьведамленая як форма змаганьня, як ягоны ніжэйшы ўзровень — узровень супраціву, і то найбольш можа супраціву пасыўнага. І гэта тады ў Французаў зьявіўся тэрмін для гэтага — *“рэзыстанс”*, што й значыць па-нашаму — супраціў. Для нашага

народу гэты супраціў, гэты *"рэзыстанс"*, гэтая найбольш актуальная форма змаганьня ў вабставінах таталітарных рэжымаў — рэч ня новая. Супраціў-рэзыстанс нашага народу трываў увесь час, ад таго мамэнту, калі народ наш стаўся паняволеным. Дзякуючы гэтаму супраціву народ наш і выжыў, дзякуючы гэтаму супраціву й выжыла нашая беларуская мова, так што для нас у гэтым нічога новага няма. І гэты супраціў цяпер, на бацькаўшчыне, становіць сабой галоўную форму змаганьня. Гэты супраціў выяўляецца там усюды. Не адразу яго лёгка злавіць простым вокам, але заўсёды можна яго здабыць з-пад спуду. Гэта галоўная й спэцыфічная для нашай бацькаўшчыны форма змаганьня цяпер.

Для нас тут, у замежжы, яна неактуальная, мы ня маем каму тут супрацівіцца. Мы тут павінны толькі гэты супраціў на бацькаўшчыне нашай пільна сачыць, сачыць усе ягоныя факты, і гэтыя факты паказваць сьвету, паказваць сьвету як довад таго, што ёсьць Беларусь, што жыве Беларусь!.. Але-ж, жыве Беларусь! Змагайся як мага — зможам!

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

# АНТАЛЁГІЯ

*Эміграцыя пачала вяртацца — у 1990-я гг. — літаратураю. Спачатку асобнымі часопіснымі падборкамі, потым анталёгіямі, укладзенымі Барысом Сачанкам, — “Туга па радзіме” (1992) і “А часу больш чым вечнасьць” (1995), а за імі і асобнымі выданьнямі: Натальлі Арсеньневай, Янкі Золака, Янкі Юхнаўца, Масея Сяднёва, Рыгора Крушыны.*

*У нейкі момант гэтае вяртаньне спынілася — ня скончанае, а бы штучна перапыненае, перарванае. Было ў тым і ад рэалій палітычнага часу, што доўжыцца да сяньня, і, ня менш, ад уяўнай пераканансьці чытача, што яму ведама ўжо ўсё пра Бацькаўшчыну, Сакавік і роднае слова, а болей там і няма нічога як на сучасную эўрапейскаю краіну.*

*Засталіся творы, кнігі, аўтары — часам ня толькі непрачытаныя, а нават неразгорнутыя.*

*І хоць лёс змаганьню зь ветракамі нібы прадвызначаны, рэдакцыя “Запісаў” наважылася пачаць укладаць сваю анталёгію, што тымчасам й назову ня мае. Пра што будуць вершы, якія ўвойдуць у яе? А пра што яшчэ сапраўдная паэзія, як не пра жыцьцё й сьмерць?*

***Міхась Кавыль***

## Ідзі, ідзі...

Упала ноч.
Як эдэльвайсы, зоры
Цьвітуць над Альпамі.
Аскепак-маладзік
У неба ўрэзаўся.
Блакітнае на горы
Імжыць сьвятло.
А ты ідзі, ідзі...
Якая ноч!
Як у сьвятыні, ціха
І ўрачыста.
На калені упадзі.
Вунь там агонь міргае...
Шчасьце зь ліхам
Кладуцца спаць...
А ты ідзі, ідзі...
Трывожыць ноч,

як сьмерці жах мінулы,
І прышласьць мроіцца,
як недабіты дзік.
Нібы агонь,
няўсподзеў шуганула
Жаданьне жыць.
Каб жыць,
ідзі, ідзі…
Канае ноч,
і зазьвінелі зоры.
Прамень, як штых, бліснуў,
і маладзік
Збляднеў,
самлеў.
Ружовае на горы
імжыць сьвятло.
А ты ідзі, ідзі…

*1944—1952*

***

Я жыву ні бедна, ні багата:
Маю сэрца, а яшчэ душу.
У бяз вокнаў ледзяную хату,
Як і кажны, вельмі не сьпяшу.
Завязуць мяне туды калісьці,
Дзе ні сьлёз, ні песьняў дарагіх.
Нада мной у міжплянэтны высьціг
Паляцяць агністыя стагі.
Я пайду ў бязьмежжа. Не загіну.
Белы месяц, сінюю зару —
Ўсё для вас, каханыя, пакіну,
Толькі ў вечнасьць душу забяру.

***

Варожыць ноч, смуглявая цыганка,
На трэфах зор сівых вякоў спакон.
Ня сьпіцца мне. Блакітная фіранка
Казыча скроні. Звонкамі вакон
Глядзяць дамы трывожна, таямніча,
Палошча вецер ночы чорны шаль;
Мільгае ў небе срэбра і крышталь,
Мільгнеш і ты у вечнасьць зоркай-зьнічам.

*1959*

## *Уладзімер Дудзіцкі*

***

...Цяпер усё. Уласнымі вачыма
пабачыў сьвет. І прыкрасьці дарог
адчуў, як клунак гора за плячыма,
крывёй параненых жарствою ног.

Да сьмерці ўсё у памяці зьбярог:
тугу тайгі і прыгажосьці Крыма,
пакутны крык у сутарэньнях Рыма
і водгульле няўцешных перамог...

Між жоўтых скал паўдзённае сьпякоты
у пошчаку шчапаецца мой плач,
і плодзяцца штодзённыя турботы
на пераломе спадаў і няўдач.

*1947*

***

Усё ня так, як думаеш... Жывеш —
і моўчкі мара твая кане...
Гарыш, як росы у траве,
і раптам — кропля ў акіяне.

Вятры усьпеняць воды і імчаць,
куды — і сам ня ведаеш нічога.
Умееш гнуцца, плакаць і маўчаць —
умей чакаць і выраку ліхога...

Адно із двух: загінеш або не...
Мо усплывеш на хвалях, а мо канеш.
І як-ніяк... успомні аба мне,
хоць я — і кропля ў акіяне...

*Каракас, красавік 1948*

***Пётра Сыч***

## Замала...

У вечнай пагоні за хлебам
і так, як бы Богу ў дакор,
замала глядзім мы у неба,
замала шукаем мы зор;

замала мы сонца праменьняў
хапаем у прызмы вачэй,
замала ў нас будзяць натхненьняў
лугі, краскі, лес, салавей...

Наш дзень так сьцюдзёны і шэры,
хоць блескі наўкруг і цяпло;
замала у шчасьце мы верым —
хоць блізка ня раз так было...

З малітвы, ці з матчынай ласкі,
з блакітаў, прыязьні людзкой,
з навукі ці з дробненькай краскі
плыло да нас шчасьце ракой.

А мы нейкіх скарбаў шукаем,
да зводнай Калхіды плывём,
на медзь скарбы душ разьмяняем
і ўбожымся з кажным мы днём.

Здаецца — ўсё проста, магчыма:
вось сэрцы шырэй адчыняць,
пабегчы ў прасторы вачыма,
вышэй галаву прыўзьняць...

*Лістапад, 1952*

***Натальля Арсеньнева***

## Лепш піць да дна

Лісьцё — віхор іржавых зор —
над шахаўніцай вуліц кружыць...
Каб як лучыць у іхны хор
і нашым душам недалужным!
Каб навучыцца пазіраць
на ўсё, што робіцца, —
з узвышша,
з усьмешкай боль пякучы браць,
сьпяваць,
хоць крыўда сэрца крышыць!
Мінаць калекаў і сьляпых —
як навакольле — зь лёгкім сэрцам
і не кідацца ніцма ў пыл
ні прад жыцьцём,
ні перад сьмерцяй!
Ці ж гэтак цяжка ізь лісьцём
пусьціць на вецер і пачуцьці?
Пачуцца тут адно гасьцём,
нічым ня зьвязаным,
ня скутым?
Тады —
жылі б мы, балазе,
і парасталі ў поўсьць і сала,
і сьпін ня гнулі б у тузе
ні прад Хрыстом,
ні прад Ваалам.
Адно —
ці б гэта нам дало
дасюль нязнойдзенае шчасьце,
ці з сэрцаў скінула б далоў
усё, што ўсьцяж яго нам засьціць?
І ці тады,
йдучы паўз нас,
паэтаў, сьвет бы ўсьлед ня кінуў:
“Чым гэтак жыць,
лепш піць да дна
бяду і зьдзек
або і згінуць!”

*1944*

## Калі

Калі на клёнах залацістых
дрыжаць апошнія лісты
і сівер сіліцца расхрыстаць
сівую восеньскую стынь,
калі віном старым крынічаць
каўшы мядзяныя лагчын
і кветкай дзіўнай, экзатычнай
канае сонца на суччы,
калі сівее з жалю й далеч
і межаў жоўтая трава, —
тады,
          тады так смутак паліць,
што ўжо, здаецца, не стрываць!
І смажыць смага вусны, сэрца,
як дзень асеньні,
скончыць шлях...
Адно,
          ці нас утуліш сьмерцяй?
Ну, добра, сьмерць,
                              а што пасьля?
Хто ж, хай над ім гадоў завея
курган навее, ўзьніме мур, —
засьне з нас гэтак, што заўмее
цябе забыцца, Беларусь?
Хто шчыра так памрэ, што згасіць
нязгаслы, палыменны зьніч,
які калісь а ўпаліць шчасьцем
і наш прасьцяг,
                    і нашы дні!

*1946*

## Гэтак будзеш ты мной

Парасьлі, быццам футрам рудым, узьбярэжжы:
хмызьнякі ды лазоўе,
і ўсё залатое...
Восень, восень, калі ж
напалам перарэжам
мы з табою і ўцеху, і смутак упойны?
Гэтак будзеш ты мной,
з маёй смагай і жалем,

я ж табою,
зыркою і перапялёстай.
Будуць людзі гукаць цябе проста
“Наталяй”,
а мяне клікаць “Восеняй”
гэтак жа проста.
Ты пачуеш, як моцна цьвікі убіваюць
варагі і свае мне у цёплае цела,
я ж пазнаю,
як душыць імжака сівая
ліст па лісьце на клёнах,
як ніцма іх сьцеле.
І пачну я
табой
паміраць на галінах
звонка, шчыра, і жоўта, і зырка-чырвона,
а ты —
мной угарысься у вершах і чынах,
я — рудым пусталістам,
а ты — пустазвонам.
А мо, сэрцам зьмяняўшыся,
буду я: “восень,
што за ўсё залацей”,
ты ж — найбольшым паэтам.
Пахінуся табе недажатым калосьсем,
ты — заплачаш мне песьняй,
пачатай ня гэтта...

*1963*

## Сьветлае памяці Б. Вержбаловіч

*Сьмерць ня гасіць сьвятла, яна толькі*
*гасіць лямпу, бо прыйшло сьвітаньне.*

*Р. Тагор*

Мы знаем — час плыве,
па кроплі кропля, ў змрок.
У кволай чары рук яго не утрымаеш.
Налета — ў цішыні
прысадаў і мuroў
ён расьцьвіце мо зноў,
але ўжо іншым маем...
Дык так сплялося, што —

ці хочацца, ці не —
ісьці кудысь Туды
нам з часам па дарозе.
Вось мы й брыдзём сабе,
а ў плаўкім тумане
абапал —
то цьвітуць, то адцьвітаюць лозы.
Парыпвае, хрумсьціць
падмоклы, востры жвір,
сабакам верным сьцень
туляецца пры боку.
І добра...
Толькі менш
тых зораў у крыві
і зораў уваччу
із кожным новым крокам...
“Memento mori”, — гуў калісь,
загнаны ў кут
жудою небыцьця,
наш сьвет па цёмных норах.
Яшчэ й цяпер парой
на зблытаным утку
бярэ ён зноў снаваць
сваё “Мэмэнто моры”.
Ды іншыя мы ўжо...
У вецер із зарой
імкнёмся мы зь вясной зялёнаю
у згодзе,
бо ведаем, што хоць калісьці
і памром —
“Жыцьцё — нішто, як сьмерць,
а сьмерць — жыцьцё!”
І годзе.

*1996*

*Прадмова й падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

# ВІТАЎТУ КІПЕЛЮ — 95

30 траўня 2022 году сьвяткаваў сваё 95-годзьдзе шматгадовы дырэктар Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, дасьледчык гісторыі беларускай эміграцыі, бібліёграф, грамадзкі дзеяч др. Вітаўт Кіпель.

Рэдакцыя “Запісаў БІНіМ” віншуе др. Вітаўта Кіпеля зь юбілеем і зычыць яму здароўя й яшчэ доўгіх гадоў жыцьця й працы на беларускай ніве.

Мы любім Вас!



# ПАВЕЛ ШЭЙН

## *Да 120-х угодкаў сьмерці*

*“О, бездань багацьця й мудрасьці й веданьня Божага! якія неспасьцігальныя суды Ягоныя і недасьледныя шляхі Ягоныя!”* (Пасланьне да рымлянаў сьвятога апостала Паўла, 11:33).

Менавіта такія згадваюцца словы, калі задумоўваесься над жыцьцём гэтага чалавека. Народжаны ў 1826 г. у Магілёве зь імем Ноах, хворы ды нямоглы ці не ад самага нараджэньня, ён мог гэтак і застацца пры бацьку-гандляру, размаўляючы толькі на ідыш, але — не было б шчасьця, дык няшчасьце дапамагло — выстараўся яму бацька лекаваньне ў шпіталі ў Маскве. Там паставілі яго на ногі, праўда, не адразу дый ня цалкам — праз усё жыцьцё мусіў хадзіць з мыліцамі, але затое й навуку далі, навучылі нямецкай і расейскай мовам, прычым апошняя гэтак лягла да сэрца, што вырашыў прысьвяціць сваё жыцьцё ёй ды служэньню народу, які мовай той гаворыць.

Дзякуючы стараньням лекараў, атрымаў дазвол застацца ў сталіцы ды стаўся навучэнцам вучылішча пры лютэранскай царкве. Ён адкінуў сваё імя, узяўшы славянскае — Павел, зь ім кінуў і юдэйства — а з тым фактычна й сваю сям’ю, прыняў лютэранства. І от ужо Павел ня толькі чытае Пушкіна й Лермантава, але й асабіста знаёмы з шэрагам іншых, хай і не такіх знакамітых, пісьменьнікаў, і нават сам піша вершы — напрыклад, гімн Маскве як падмурку праваслаўя й нацыянальнага духу.

З часам пачынае запісваць прастамоўныя слоўцы, пасьлей цэлыя песьні, каб сабраць і выдаць *“Русские народные былины и песни”* (1856), *“Русские народные песни”* (1870) (адкуль, між іншага, Мікалай Някрасаў пазычыў адну для сваёй паэмы “Каму на Русі жыць добра”), на запросіны самога Лява Талстога выкладае ў Яснапалянскай школе (1861).

Шэйн робіцца ня проста расейцам, а славянафілам, славяналюбам, прычым з тых, хто лічыў за неабходнае чытаць Суворынскі “Новы час”.

Але восеньню 1865 г. Павел Шэйн пераяжджае ў Віцебск, дзе выкладае нямецкую мову ў мясцовай гарадзкой гімназіі. І ў гэтым горадзе адбываецца цуд, з тых, што ў бібліі носіць назву *мафэцім* — знак, які нельга вытлумачыць натуральнымі прыроднымі зьявамі й які разглядаецца выключна як умяшаньне найвышэйшых сілаў. Інакш як растлумачыць раптоўнае зацікаўленьне маскоўскага госьця фальклёрам *Северо-Западного края* настолькі, што ў 1867 г. той выдае ўласную

распрацоўку: “Праграму для зьбіраньня помнікаў народнай творчасьці” — бадай, першую ў беларускай фальклярыстыцы.



Павал Шэйн

У 1874 г. быў выдадзены зборнік “Беларускія песьні з датычнымі да іх абрадамі, звычаямі, забабонамі, з дадаткам слоўніка й граматычных заўвагаў”. Больш за 1000 твораў! А сярод іх — “Лявоніха” й “Купалінка”. Праца была ўзнагароджаная залатым мэдалём Расейскага геаграфічнага таварыства і Ўвараўскай прэміяй.

У 1887—1902 гг. Акадэмія навук выдае “Матэрыялы для вывучэньня побыту і мовы расейскага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю”, якія ставяць Паўла Шэйна ў адзін шэраг з Іванам Насовічам, Міколам Нікіфароўскім, Еўдакімам Раманавым, Аляксандрам Сержпутоўскім. Шэраг клясыкаў беларускай фальклярыстыкі, зьбіральнікаў і захавальнікаў бясцэнных каштоўнасьцяў.

Расейскі філёзаф Васілій Розанаў у сваіх “Пёстрых тэмах” (Русское Слово. 1908) пісаў: *“Імя Шэйна малаведама, але, зразумела, заслуга чалавека ацэньваецца не па здабытай вядомасьці, а па любові й таленту, якія ён унёс у сваю працу. Час ацэнкі Шэйна надыдзе”.*

Розанаў хіба меў на ўвеце дзейнасьць Шэйна на велікарускай дзялянцы (апошняя праца ягоная называецца *“Великорусс в своих песнях, обрядах, обычаях, верованиях, сказках, легендах и т. п.”*, 1898—1900). Тут ня нам меркаваць. Але зробленае Паўлам Шэйнам для беларускай навукі займела сваю ацэнку даўно.

І ўшаноўваючы ўгодкі ягонае сьмерці, зьмяшчаем запісаную ім некалі ад Адама Багдановіча, бацькі Максіма Багдановіча, казку, якую айцец Леў Гарошка назваў *“караценькай «Боскай камэдыяй» Алігіерэ Дантэ”*[1].

*“Вялікія і дзівосныя дзеі Твае, Госпадзе, Божа Ўсёмагутны! праведныя і праўдзівыя шляхі Твае!”* (Адкрыцьцё сьвятога апостала Яна Багаслова, 15:3).

[1] Гарошка, Леў, а. Рэлігійны элемэнт у беларускай народнай творчасьці // Божым Шляхам. Парыж, 1957. № 76—81. С. 3.

# МАТЕРІАЛЫ

ДЛЯ ИЗУЧЕНІЯ

# БЫТА И ЯЗЫКА РУССКАГО НАСЕЛЕНІЯ

## СѢВЕРО-ЗАПАДНАГО КРАЯ.

---

СОБРАННЫЕ И ПРИВЕДЕННЫЕ ВЪ ПОРЯДОКЪ

**П. В. ШЕЙНОМЪ.**

---

ТОМЪ II.

СКАЗКИ, АНЕКДОТЫ, ЛЕГЕНДЫ, ПРЕДАНІЯ, ВОСПОМИНАНІЯ, ПОСЛОВИЦЫ, ЗАГАДКИ, ПРИВѢТСТВІЯ, ПОЖЕЛАНІЯ, БОЖБА, ПРОКЛЯТІЯ, РУГАНЬ, ЗАГОВОРЫ, ДУХОВНЫЕ СТИХИ И ПРОЧ.




САНКТПЕТЕРБУРГЪ.
ТИПОГРАФІЯ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ.
Вас. Остр., 9 лин., № 12.
1893.



А черци сидзяць ды на воловыя скуры грахи́ записываюць. И нихто ихъ ня видзиць, тольки той спасённый чиловѣкъ: ёнъ и грѣховодьзя видзѣў, якъ черци людзей змущаюць и якъ грахи́ ихъ записываюць. Чимъ большъ народу, тымъ большъ грахоў, навэтъ и черци не сподзѣвалися, што стольки будзиць имъ уцѣхи: скуръ мало приготовали, не было на чимъ записываць. Одзинъ нячисьцикъ [1]) стаў зубами скуру расцягиваць и такъ зубы ощеріў, што и спасённый чиловѣкъ не уцѣрпѣў — засмѣяўся. Тольки ёнъ засмѣяўся, черци ў ладошки заплескали.

Кончилося богомоленьня, пошли людзи домоў разгоўлятца. Идучи назадъ, попробоваў гэтый чиловѣкъ перейци чиразъ раку́— и до колѣнъ помочіўся. Ажъ заплакаў, неборака [2]), обернуўся ёнъ къ людзямъ и кажець: «Добрые людзи! шоў я ў церкву грахоў ня мѣў, зъ церкви ворочуюся—и грахи нясу: гэто яны мяне ў воду поцягнули. Мабыць, што ў церкви и спасенный согражиць.»

Зап. А. Е. Богдановичемъ.

## 220.

### МАРКА ПЯКЁЛЬНЫЙ [3]).

Тамъ же.

Колись-то такая проява проявилася... Жіў на концу села бобыль Янка Горатный зъ жонкой своей Альжбе́той — доброю кобетой. Людзи яны были бѣдные, али справедливые. Жили зъ мозоля, зъ працы рукъ своихъ; на чужоя добро не загоралися. Своей господарки ня мѣли, на людзей працовали. А такъ живучи, нямного наживешъ. Кепско бобылю жиць... Ў бѣдноцѣ ўсяго нацерписься: хто надъ бѣднякомъ ня здекываетца? А пожалѣць нима кому, коли Богъ не пожалѣя. Ёнъ (хвалиць яго ласку святую) надъ ими таки ўзмиловаўся, послаў имъ радось, подмогу на старосьци: родзилося у ихъ дзиця — сынокъ. Али якъ достатки нима, дыкъ и радось не ў радось...—Такъ и нашаму Янку—ни родзи́нъ, ни хрезьби́нъ нима чимъ справиць. Хоць нихрещоноя дзиця живи!

1) нечистая сила, чортъ. 2) бѣдняга. 3) адскій мучитель, слово ругательное. Слов. Носовича.

Пошоў Янка къ сусѣдзямъ ў пазыки [1]). Зайшоў къ одному сусѣду: «Позычь, каже, хлѣба и якой нибудзь окрасы... Баба моя, кабъ здорова была, разсыпалася — Богъ сына послаў... Ўспомогуся — отдамъ... Треба жъ нового чиловѣчка по людску приняць на гэтый свѣтъ?»

— «Што треба, то треба... ишшо чаго казацъ...» такъ каже сусѣдъ: — «али хлѣбъ у насъ на выходзи... перадъ свя́томъ пячи нявольна. А што до окрасы [2]), дыкъ самъ вѣдаешъ, биражомъ яе на припаръ [3]) для чужника [4]). Може хто другій позычиць...».

А другіе якъ зговорилися: куды ни поткнетца — не даюцъ дый го́дзе. Хто каже: нима, хто: не дамъ — самому треба, а иншіе бѣднотой стали яго попрекацъ...

Горко зробилося Янку на душѣ: пирайшоў ўсе сяло, ходзючи по сусѣдзяхъ, и просіў позычицъ, и на отработъ, — нихто ни дае. Просіў того сяго за кумой—хто жъ пойдзе къ голышу? Идзи ў кумы, — няси породзиси покрывало — страта [5]). А чимъ ёнъ отудзеичицъ [6])? Навэтъ порадкомъ не участуе...

И нихто ни пошоў.

Такая жалысь огарнула Янку Гораткаго, такая цеижаръ напала на серца, што ёнъ ажъ заплакаў, бѣдный. Идзець и плачиць. Плачиць и приговоривае: «Божа Ты мой, Божа! За што Ты мяне караешъ? Хоць бы Ты узмиловаўси надо мной! Али, видацъ, на кого людзи, на того и Богъ»...

Идзецъ, слезами обливаетца. Ажъ спотыкае ёнъ старика и старушку, старенькихъ — старенькихъ, якъ земля. Идуць, кіёчками попираютца, другъ за дружку тримаютца.

«Чаго ты плачешь, чилавѣча?» пытаюцъ яны у яго.

— Такъ и такъ, каже; и ўсе пайсткомъ [7]) имъ развазывае.

---

1) Пазыка (позыка) — одолженіе. «Пошоў ў позыки» — значитъ: пошелъ просить взаймы. 2) *Окраса*—все то, что дѣлаетъ кушанье болѣе вкуснымъ и питательнымъ: мясо, сало, убоина, масло, молоко, грибы и т. п. 3) *Припаръ*: страдная пора. 4) *Чужникъ*: гость, толочникъ, сосѣдъ, помогающій въ работѣ, за угощеніе. Б.—5) расходъ, трата. 6) отблагодарить, отплатить. 7) послѣдовательно, по порядку. Б.

«Мы твойго сына охрисцимъ, не плачъ. Вядзи насъ до хаты».

Обрадоваўся Янка, идзе — ногъ подъ собой ня чуе.

«Самъ Богъ васъ послаў мнѣ на уцѣху, каже Янка: — не здарма я уздыхаў до яго».

— Може, кажуць, и Богъ.

Пришли ў хату до Янки Горатнаго. А яго Альжбета, добрая кобета, неколи вылеживатца, уже дзиця обáбила [1]), мѣйсца подъ припечкомъ заховала, покупала... Што зробишъ, коли некому до яго, *анёлка*, прихинутца? Мусишь сама бабкой быцъ. Янка и каже жонцы: «Дзякывай Богу, Альжбета, — добрыхъ людзей Богъ послаў. Споткаў ихъ на дорози. Кумами згодзилися быцъ. А то ўсѣ отъ насъ отхинулися — нихто не захоцѣў до Христу дзиця потримацъ. Позычицъ — ничого не позычіў. Нехай кумы дороженькіе прибачаюцъ [2]) — частовацъ ихъ нячимъ».

— «Не дбайце [3]) объ насъ, мы не голодные», кажуцъ кумы: — «а на дорогу перекусицъ ёсь у насъ хлѣбъ ў торбочцы... Будземъ сыты». Перехрисцили дзиця, безъ попа, безъ ничого... Назвали Маркомъ.

Выпяли кумы съ торбочки окрайчикъ хлѣба, достали трошки соли, попросили коўшъ воды, и сами пополудныvали, и Янку съ жонкой накормили. Вотъ и ўсѣ хрезьбины... Янка ня вѣдаў, якъ имъ дзяковацъ.

Кончилися хрезьбины, кумъ и каже Янку: «Коли мой хросьникъ, выросши, будзе жиць по справедливосьци, дыкъ я на яго не забуду, позову къ сабѣ ў госьци. А цяперъ — нехай вяликій росьцé, а вы живице здоровы». И вышли зъ хаты. Янка ихъ проводзіў за вороты. Тольки вышли кумы за вороты и якъ водой разлилися — зникли. Янка ажъ спужаўся такой проявѣ, ледзь могъ разказацъ своей жóнцы, якіе цудоўные были у ихъ кумы. А гэто быў Богъ и Матка Боская.

---

1) *Обабить*: сдѣлать все то, что дѣлаетъ съ новорожденнымъ бабка—повитуха: отрѣзать пуповину, выкупать, спеленать и т. п. Б. 2) извинять. 3) не думайте.

Годоваўся Марка бацькамъ на поцѣху, людзямъ на завидъ. Росъ, якъ грибъ ў цёплое лѣто. Подняўся на ноги, вобраўся ў силу — стаў бацькамъ помогаць го́ра горовацъ. Працоваў щиро, кровавымъ потомъ заробляў хлѣбъ, чужого добра не браў, а своимъ послѣднимъ дзяліўся.

Вярнуўся разъ Марка зъ работы зъ поля, сядзиць зь бацьками на завалинѣ, гуторку вядзе. Ажъ бачиць: бяжиць къ имъ на дворъ хорошій стаенный конь — золотая шарсьцинка, сяребранная шарсьци́нка. Ўзбѣгъ на дворъ и стаў, якъ ўкопанный. Штобъ такоя гэто значило? Откуль такій конь зъявіўся? подумали яны. Подыйшоў Янка къ коню, хоцѣў ўзяць яго за обротку [1]) — конь подъ стропъ [2]) подняўся, не даетца. Подыйшоў Марка къ коню, ўзяўся за обротку — конь до зямли принижіўся. Ўспомнили тутъ Янка зъ Альжбетой, што ихъ кумы доклеровали позваць хросника ў госьци къ сабѣ, и кажуць: «Гэто цябе, Марка, хросные бацьки зовуць ў госьци, коня прислали. Што-жъ, садзися ды ѣдзь зъ Богомъ!»

Сѣў Марка на коня, и тольки сказаў: «бывайце здоровые!», — конь такъ понёсъ яго, што Марка и вочами не змигнуў, якъ за сяломъ опыніўся [3]).

Бяжиць конь, якъ на крыльяхъ ляциць. Минаюць яны городы, сёлы, долины и горы, рѣки, озеры, боры и пущи... приляцѣли на край свѣту. Дорога пошла полями. Поле и поле — и нигдзѣ живой души нима. Тутъ конь пошоў шагомъ. Скоро показалися и людзи, але тые людзи, што грѣшно жили на нашимъ свѣци. По одной и другой сторонѣ дороги было большущае болото.... и конца яму не видаць. А ў болоцѣ людзей видзимо нявидзимо... Ляжа́ць, якъ колоды и гніюць за животцю. Черви и лягушки на ихъ поўзаюць, цѣла ихъ точуць, а яны ни повору́шатца, ни рукой, ни ногой крану́ць ня могуць. Смярдзиць отъ ихъ, якъ отъ падлы. Ўздыхнуў объ ихъ Марка, а помогчи

1) отъ сл. оброть (оброць) — мочальная или веровочная узда. Опытъ области сл. 2) подъ крышу, т. е. высоко, на дыбы. 3) очутился.

ничимъ ня можець. Проѣхали болото. Бачиць Марка — стояць по-бокъ дороги людзи на колѣнкахъ и руками дзяруць одзинъ другому тваръ [1]), дзяруць безъ перестанку. На рукахъ у ихъ ногци доўгіе повыростали, драпаюць [2]) яны ими другъ дружцы по мордзи, обливаютца кроўю. Пожаліў ихъ Марка, а помогчи ничимъ ня можецъ. Ѣдуцъ далѣй. Споткали людзей — стояцъ на корачкахъ и лижуцъ языками горачія сковородки. Языки потухли, смажутца, сквирчацъ [3]), а лижуць. Пожалѣў и ихъ Марка, а конь идзець ды идзець...

Подъѣхаў Марка къ новой покуцѣ [4]). Сидзяць людзи обаполъ дороги, сыплюцъ жменями жарству [5]) ў ротъ, чамкаюцъ зубами, перециракоць яе, ядуць — ненаядутца. Зъ роту кроў цяче, а перестаць не могуць. Ўздыхнуў Марка, али кабъ помогчи имъ — ничимъ не поможешъ.

Далѣй убачіў Марка: много — много людзей — стояць голые и сами зъ сябе скуру лупюць. Коло ихъ лижаць мяшки́ зъ сольлю, и тые людзи скуру здзраюць, шкумутаюць [6]) свое мяса и сольлю посыпаюць; корчутца, морщутца, енчуць, а перестаць ня могуць. Ўздыхнуў Марка и поѣхаў далѣй.

Ажъ бачиць — лежаць кобеты, голые, у верхъ грудзями, а вужи ссуць ихъ за цыцки, смокчуць ихъ кроў... Жалко стала Марку, али што будзешь робиць? Видаць заслужили.

По́тымъ того убачіў Марка: кругомъ, далеко — далеко! — стояць стоўбы, а къ стоўбамъ прикуваны грѣшники, мужчины и кобеты. Передъ ими стояць столы, а на столахъ настаўлена ружныхъ наѣдкоў и напиткоў. А грѣшникамъ и ѣсьци и пиць дуже хочитца; рвутца къ столамъ, ды достаць ня могуць — ланцуги крѣпки. А ихъ голоя цѣло то отъ жары лопаетца, то отъ стужи золѣиць [7]). Огарнула жалысь Марку и радъ бы помогчи имъ, ды ня вольна.

Ѣдзиць Марка далѣй. Кругомъ дороги земля каменистая. А

1) лице. 2) царапаютъ. 3) д. б. съ польск. skwierczec—шипѣть, пищать и пр. 4) наказанію. 5) дресва, крупный песокъ. 6) рвутъ въ клочки 7) мерзнетъ.

черци позапрагали людзей ў сохи, ўздзяруць зямлю́, погоняюць ихъ горачимъ зялѣзомъ по голому цѣлу, лупюць и приговариваюць: «Шпарчѣй [1]), шпарчѣй, шпарчѣй!...» А людзи со ўсихъ силъ упираютца, налегаюць на ярмо, а ўсе нячисьцикамъ ня ўгодзюць. Пошкодаваў и гэтыхъ людзей Марка. Али жъ чи имъ лягчѣй одъ гэтого? Проминули и гэтую муку. Наѣзджаюць на горшую: черци, якъ тые ка̀ты [2]), зъ людзей жильля цягнуць, кишки выматываюць... А яны рогочуць — смяю́тца, якъ бы и запраўды имъ ве́сило. Шкода ихъ Марку, али ничого не дора́дзишь.

Сколькі дзёнъ ѣхаў Марка — нявѣдомо. Ужо яму и млосно [3]) зробилося отъ жалю, што людзи такъ мордуютца [4]). Коли, думае сабѣ, гэто кончитца? Конь побѣгъ трушкомъ, а потымъ и рысьсю. Чимъ дальши ѣдуць, тымъ жарчѣй становитца. Смолой смярдзиць стало. И увидзѣў Марка кругомъ, покуль воко достане, — смоляные рѣки и озёры. А смола огнемъ горыць, кипиць... И грѣшники ў смолѣ смажутца [5])—хто по поясъ, хто по грудзи, по шію... Кричаць, енчуць... Ажъ заплакаў Марка — ня вытримаў. Конь, якъ вѣцеръ, понёсъ яго. И нясе́ць, и нясе́ць... Дорога пошла ў гору: што далѣй, то вышѣй, вышѣй... И началися сады, а ў садахъ людзей, людзей... и мущинъ, и кобетъ, и дзяцей... пяюць, играюць, скачуць — души весиляць. Ўсе у ихъ ёсь, чаго душа хочиць. «Гэто, пэўно, рай», догадаўся Марка. И веселѣй яму стало на серцу.

Конь бѣгъ, бѣгъ, и на колѣни упаў. Глянуў Марка, бачиць— большущій столъ, бѣлымъ обрусомъ накрытый; на ёмъ ружной яды́ настаўлёна. За столомъ служаць старичокъ и старушка (Богъ и Матка Боска). Анёлы зъ золотыми крыльлями имъ услугываюць. И каже Богъ Марку: «Злѣзай зъ коня, мой хресьничекъ, — погосьци у мяне!»... Марка злѣзъ зъ коня, поклоніўся Богу ў ноги; «Здороў табѣ, татко»! такъ каже.

Анёлы ўзяли яго подъ ручки и посадзили за столъ.

---

1) скорѣй (отъ нарѣч. шпарко: скоро). 2) палачи. 3) тошно, дурно, досадно. 4) томятся. 5) жарятся. Сл. Носовича.

«Ѣшь, мое дзицятко! частуйся!» каже Богъ Марку: — «чаго зажадаиць[1]) твоя душа — ўсё на столѣ знайдзишъ. Нагореваўся, напрацоваўся, горатничекъ ты мой, на тымъ свѣци, хоць тутъ, у мяне ў госьцяхъ, отпочни.»

И стаў Марка частоватца, дзякуючи хросному бацьку за доброя слово. А ѣда такая слаткая, такая слаткая — сама ў горло проситца. Што ни попробуе Марко — ўсе смашнѣй и смашнѣй.

А Богъ примуша: «ѣшь, мой сынокъ! Постаўлено гэто не на ўсходъ, а на страву!..»

— Дзяку, каже, татульна! сытъ я, наживіўся... Хоць и смашны твое поѣдки, али и имъ есь мѣра.

«Ну, якъ хочешъ... Ни кажи потомъ, што примусу[2]) не было.. А подъѣў, дыкъ на здороўе.»

Оглянуўся Марка — кругомъ такъ пригожа, што душа радуетца, серца захвыцаетца... Тутъ ўспомніў ёнъ про тыхъ мученикоў — покутничкоў, што бачіў на дорози и пытае у Бога:

«Скажи мнѣ, татулька, што гэто за людзи мучаются тамъ у болоци? Лижаць—не кра́нутца, черви, козяўки и жабы ихъ цѣла точуць. За што яны покутуюць!

— Гэто, мое дзѣтко, грѣшники. Такъ покутуюць яны за гультайства. На тымъ свѣци, при житцьцю, не працовали, на боку лижали, чужую потъ—кроў смоктали... За тое тутъ лежаць, якъ помаки[3]) ў болоци, и гады ихъ кроў смокчуць, цѣла точуць... Якіе учинки, такая и ка́ра.

«А скажи мнѣ, татулька, ящо бачіў я людзей, што стояць на колѣняхъ и другъ дружцы вочи выдзераюць. За што гэто яны?»

— А за тоя имъ такая кара, што на тымъ свѣци яны чинили сварки, стырки, грызню, нена́вись. Якіе яны сами, такая имъ и покута.

«А за што, татулька, людзи языками горачіе сковороды лижуць?»

1) отъ глаг. жадаць: страстно хотѣть. Слов. Носовича. 2) *Примусъ* — принужденіе. Тамъ же. 3) *Помака* — колода, долго мокнувшая въ водѣ. Б.

— За тóя яны лижуць, што надто доўгій языкъ мѣли, на привязи не дзержали, лгали, плётки разводзили, понапрасну клялися, не за праўду присягали, людзямъ зло причиняли. Такая имъ и покута.

«Ато бачіў я людзей» каже Марка, «што жарству жаруць, якъ ў процьу... Кроў зъ роту цяче... скрыгаюць зубамъ... Чаму гэто такъ яны?»

— А тому такъ, што на тымъ свѣци имъ ўсяго было мало; богатця собирали, чужоя заѣдали, бѣдныхъ, горатныхъ забиждали, межи подрывали, зямлю отбирали... А што богатця? земля — ня што иншее. Нехай яе и жаруць. Якая заслуга, такая и заплата.

«Ящо бачіў я людзей, што сами зъ сябе скуру лупюць, мяса шкумутаюць, сольлю посыпаюць... Чимъ яны провинилися?«

И каже Богъ Марку:

— Яны зъ бѣднаго послѣднюю сорочку драли, коли што позычали,—большую лихву брали; ўдоў, сиротъ забиждали... За тоя яны зъ сябе скуры здзираюць, мяса вырываюць, сольлю посыпаюць... Такъ солены сироцкія слёзы.

«А скажи мнѣ, хросный татка, чимъ провинилися тые кобеты, што лежаць голые, а вужи и вужаки ихъ смокчуць за цыцки, якъ пъяўки упиваютца ў бѣлое цѣло?»

— Гэтые кобеты мукъ породзихи не знали, дзяцей умысьне [1]) безъ поры зроняли, а родзіўши, не годовали—со свѣту зводзили, грудзьзю не кормили — мамокъ нанимали. Тутъ яны вужакъ кормюць, вужи ихъ кроў смокчуць.

«Ато видзѣў я: къ стоўбамъ людзи принязаны, а передъ ими стояць столы зъ ядóй. Людзи рвутца къ ядзѣ, видаць голодные, ды достаць ня могуць. И жаръ ихъ пячé, и стужа морозиць. Чимъ заслужили яны такую покуту?»

Богъ на гэта кажиць:

1) нарочно.

— Тые людзи жалосьци ня мѣли, милосердзьзя не знали, сами солодко ѣли, медомъ, горѣлкой запивали, хорошо ходзили, смашно спали, ни холоду, ни голоду не знали, а бѣдныхъ, горатныхъ не принимали, на ночь не пускали, убогихъ не дарили, голодныхъ не кормили, воды, смагу [1]) прогнаць, шкодовали. Цяперъ нихай поспытаюць, якъ легко голодаць, холодаць, бачиць вокомъ и неўзяць руками.

Ўзноў пытае Марка.

«А за што, я бачіў, людзей такъ мордуюць [2]): нячисьцики (не ў гэтымъ свянцонымъ мѣсьци кажучи) позапрагали ихъ ў сохи, новину поднимаць примушаюць, горачимъ зялѣзомъ погоняюць. А земля каменистая, цяжолая...»

Богъ яму и каже.

— Гэтые людзи—войты, цивуны, окамóны, комисары. При житцю яны такъ народъ мордовали, и ў будни, и ў свята на пригонъ гоняли, отдýхи, отпочинку не давали, ни хвораго, ни здорового не разбирали. Цяперъ такъ надъ ими нячисьцики здекываютца.

«Напоткаў я по дорози и горшую мýку, каже Марка: нячисьцики цягнуць зъ людзей жильля, выматываюць кишки, а яны, бѣдные, рогочуць... Хто бъ гэто такіе были?»

— А гэто вашіе паны, каже Богъ. Яны катовали людзей, цягнули зъ ихъ жúльля, выматывали кишки, выбивали силы, ў ярма запрагали, продавали — мужа зъ жонкой, бацьку зъ дзяцьми разлучали, гроши вымогали, а сами жили — роскошевали, ў радóсьци, ў веселóсьци... Имъ и покута вяселая — рогочуць, сардэчнымъ смѣхомъ смяютца...

«Коли жъ ты ўсе знаешъ, дыкъ скажи жъ ты мнѣ, татулька, хто и за што ў смоляныхъ рѣкахъ и озерахъ кипиць? Дужа яны енчуць, зубами скрыгаюць.»

— Гэта кара самая найбольшая, каже Богъ. Смажутца ў смолѣ, гораць ў огнѣ разбойники, душагубы, што житцьця у людзей

1) жажду. *Мордовáць*: морить, томить, изнурять трудами. Слов. Носовича.

отбирали, злымъ зельлемъ, отрутой отраўляли, дзяцей сироцили, бязъ спов҄ѣдзи, бязъ причасьця на той свѣтъ отпраўляли; кипяць тамъ коноводы, што послѣднюю скоцинку крали, госпадароў *поубосту*[1]) пущали; пякутца тамъ докащики, донощики, здрайцы, што клёнтву ломали, за народъ, за праўду не стояли, свойго брата паномъ выдавали—продавали; пражутца тамъ, смажутца воўкулаки, вѣдзьмаки и вѣдзьмы, чароўники и чароўницы, што чорту душу запродали,—людзей чаровали, моровое повѣтра напущали, на короў, на коней звяроў посылали, ў жици заломы ломали, у короў молоки отбирали... И нима имъ ни дна, ни покрышки... Што тимъ посѣяли, то тутъ споживаюць, по заслузи плату принимаюць...

«Жаль мнѣ ихъ, татка»! каже такъ Марка. — «Чи ня можно ихъ якъ небудзь ратоваць?»

— Ты ихъ, мое дзѣтко, не ратуешъ. А коли ты такій жалосливый, — ѣдзь ў свою сторону́, къ своимъ бацьку, къ матцы, ходзи по селахъ, по засцѣнкахъ, къ бѣднымъ и къ богатымъ, вучи ихъ, давай прикладъ, кабъ яны были добрыми, людзей не обиждали, чужого не брали, не сварилися, не лгали; кабъ сами працовали, людзей не мордовали; кабъ свойго брата паномъ не выдавали; кабъ дзяцей годовали—добру навучали; кабъ не чаровали; праўды, Божжаго приказаньня, не забывали.

Ўстаў Марка зъ за стола, подзяковаў Богу, покланіўся яму ў ноги ды й каже: «Ўсе ты, татка, знаешъ, ўсё вѣдаешъ, ўсяго у цябе много,—скажижъ ты мнѣ, хто ты такій, якъ цябе зваць? А то пріѣду я домой — гдзѣ, у кого быў? ня буду умѣць сказаць.»

— Зовуць мяне: Богъ Исусъ Христосъ, а гэта моя Матка.

Якъ сказаў гэто Богъ, ўдругъ ўсе зникло[2]), а Марка на своемъ дворѣ опынуўся.

Покинуў ёнъ бацьку — матку, пошоў на свѣци ходзиць, што

1) Пускала по міру. Это слово собственно сокращеніе изъ двухъ словъ: *по убожеству*, отъ прилаг. убогій — бѣдный. «Ходзиць по убосту» значитъ ходить и просить милостыни, по убожеству, по бѣдности, побираться. Б. 2) изчезло.

видзѣў, што чуў на тымъ свѣци разказываць, якъ повинно жиць людзей навучаць. И прозвали яго Марка Пякельный.

Отъ дзядоў и прадзядоў дошла до нас гэтая поголоска.

(Записано учителемъ минск. приходск. училища А. Ег. Богдановичемъ со словъ 65—лѣтней крестьянки Розаліи Осьмакъ).

## 221.

### ПОПЪ, ДУРАКЪ И ТРОЕ КОНЕЙ.

Той же губ. и у.

Жыў сабѣ дзѣдъ ды баба, быў у ихъ одзинъ сынъ и тотъ дуракъ. Дошли яны до такой поры, што хлѣба не было́ куска. Вотъ посылаюць яны дурака на службу, дуракъ стаў плакаць, одговарывацца: «я не умѣю работы робиць». Но послѣ дуракъ раздумаўся и пошоў на службу. Идзець ёнъ поле, идзець другоя, на трецьця ўсходзя,—на гэтымъ поли стоиць дворэць, а ў гэтомъ дворцѣ попъ живець. Ўсходзіў дуракъ на дворъ, сѣў на камень и пяé пѣсню. Ажъ тутъ заразъ всходзя попъ и пытаецца у дурака: «Чаго, дзиця бацьково, сядзишъ тутъ.» Дуракъ зняў шапку и ка́жа: «Службы, бацюшка, шукаю.» — Попъ кажа: «Становися у мяне, у мяне служба ни цяжкая, только пасциць трое коней: Петра, Юрья и Паула.» — Добра, бацюшка. — «Ну цяперъ идзи, лягъ оддыхни, а заўтра за работу бярыся». На заўтраго попа́ддзя дала яму пирапе́чку[1]) и кусокъ сала и выправила дурака пасьци кони. Вотъ дуракъ погнаў кони. Йшли яны, йшли и прышли къ такой крутой горэ́, што ни взыйци, ни сыйци зъ гэтой горы, а ў гэтой горэ писчѣли черци. Трохи кони походзили, заразъ Юрый скокъ цяразъ гору, а за имъ и Петръ, а *Паўлъ*, говора: «садзися на мяне, а то тутъ останесься». Дуракъ стаў плакаць: «Ни хочу садзитца на цябе, ты мяне звалишъ, но якъ бояўся черцей, то сѣў на Паўла, ўзяўся за хвостъ и дзяржицца, а Паўлъ якъ ско́кня цяразъ гору, то у дурака черци оторвали цѣлою *крылу* ў сярмязѣ. И вотъ якъ

1) Лепешку.

*Угодкі*

# ДА 130-ГОДЗЬДЗЯ ЯЗЭПА ГЛАДКАГА, ЭТНОГРАФА Й ФАЛЬКЛЯРЫСТА

Этнографа Язэпа Гладкага (1890—1972), больш ведамага пад псэўданімам Адам Варлыга, асабліва прадстаўляць ня трэба, як і ягоныя шматлікія працы, надрукаваныя на эміграцыі: "Практычныя назіраньні над нашай жывой мовай" (1966), "Чатыры ўрачыстасьці" (1970), "Забабоны" (1970), шэраг падручнікаў, найбольш значныя зь іх — "Краёвы слоўнік Лагойшчыны" (1970) ды "Прыказкі Лагойшчыны" (1966).

А яшчэ Язэп Гладкі быў казачнікам. Ды якім! Амаль як Макар Сьпірыд, пра якога нам расказаў Леў Бараг: *"Макар Іванавіч Спірыд, ад якога я запісваў казкі ў 1948 г. у в. Сямернікі Ашмянскага раёну, нарадзіўся там у 1867 г. Працаваў з 1893 да 1910 г. на тэкстыльнай фабрыцы ў прадмесці Нью-Йорку. У Амерыцы ажаніўся на беларусцы і вярнуўся з ёю ў родныя Сямернікі. Ён чытаў шмат папулярных кніжак па тэхніцы і аграноміі на рускай, англійскай і польскай мовах, якімі валодаў свабодна. Аднак амаль усе казкі свайго рэпертуару засвоіў вусным шляхам у Сямерніках і ў Амерыцы — ад землякоўбеларусаў. Па словах самога М.І. Спірыда, "байяром" ён стаў у Амерыцы, дзе расказваў землякам казкі роднага краю. Па нядзелях беларусы, ураджэнцы Віленскай і Гродзенскай губерняў, што працавалі на нью-ёркаўскіх прадпрыемствах, збіраліся ў яго, каб паспяваць народныя песні і паслухаць казкі. Макар Спірыда быў вядомы як апавядальнік не толькі ў Сямерніках, але і ў суседніх вёсках. Цяжка ўявіць сабе другога аматара казак, які б з такім натхненнем расказваў іх так, як ён, — зімой і летам — у сябе дома, у сельсавеце, на пашы, на полі, у млыне"*[1].

Язэп Гладкі расказваў свае казкі вучням Беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча ў Ватэнштэце, дзе працаваў настаўнікам, і, як згадваў пазьней ягоны сябра Антон Шукелойць, дарослым жыхарам лягераў *DP*: сваіх кнігаў было вобмаль, замежныя мовы мала хто ведаў, а вечары на чужыне даўгія, нудотныя.

Але быў ён ня толькі "баяром", але й друкаром. Яшчэ ў лягерах рататарным друкам ён выдаў некалькі брашурак з казкамі, а ў Нью Ёрку — "Народныя казкі" (1967) у трох частках.

Адну зь іх, *"паводля народнай тэматыкі"*, але ўсё ж аўтарскую, перадрукоўваем з рэдкага на сёньня "дыпіўскага" выданьня.

---

[1] Бараг, Леў. Беларуская казка. Мінск, 1969. С. 241.

## Рыцар Дабравід[2]

*Казка паводле народнай тэматыкі*



Вокладка выданьня “Рыцар Дабравід”

Жыў у сваім замку багаты князь са сваёй князёўнай, у іх радзіўся хлопчык. Яго назвалі Дабравід. Князева жонка памёрла. Князь ажаніўся з другой жонкай. У гэтай другой жонкі было шмат сыноў. Мачышыны сыны заўсёды крыўдзілі Дабравіда-сірату. Князевы сыны павырасталі, князь састарэўся. Магчыма стала намаўляць старога князя, каб за сваім жыцьцём разьдзяліў усё сваё багацьце сваім дзецям. Стары князь згадзіўся на гэта. Сталі дзяліць коні такім парадкам: усе князёвы сыны паўстануць ля сьцежкі. У гэты час выпусьцюць коні. Коні сьцежкай будуць ісьці. Каторы конь катораму сыну паклоніцца, таму ён і застанецца.

Выпусьцілі коні. Коні ішлі і ўсе кланяліся мачышыным сынам, князю-сіраце ніводзін конь і не пакланіўся. Зь яго сьмяюцца, зь яго кпяць, нартхаюцца яму.

Князь у слугаў пытаецца:

— *Ці ўсе коні выпушчаны?*

— *Яшчэ застаўся кароставы жаробчак, — кажа канюшы. — Але ён ня хоча ўставаць.*

— *Выгнаць і яго,* — загаманілі мачышыны сыны. — *Можа, ён паклоніцца гэтаму дурню.*

Выпхнулі кароставага жаробчака, ён ішоў сланяючыся, але як толькі параўняўся зь сіратой, дык астанавіўся ды махнуў галавой.

— *Ха-ха-ха* — сьмяюцца мачышыны сыны. — *Дурань дурня пазнаў, дурань дурню і пакланіўся. Няхай яму й застаецца гэты здыхляк.*

Князь-сірата ўзяў гэтага жарабочка. Стаў сам яго даглядаць, карміць і паіць. Каб вылечыць яго ад каросты, малады князь сам капаў карэньне атрутных траваў, сам іх варыў і мыў ім свайго коніка. Часам сірата казаў пра свайго выхаванца жаробчыка:

— *Мы зь ім два гаротнікі, з нас абодвух сьмяюцца, намі пагарджаюць, нас ня любяць, але мы адзін аднаго любім і адзін другому памагаем.*

---

[2] Друкуецца паводле выданьня: J. H-i. Rycar Dabravid. Kazka pavodle narodnaj tematyki. Watensteat, vydavectva “Zaranka”, 1949. 25 s.

Малады князевіч скора вылечыў свайго каня. І калі добра даглядаў — чысьціў, паіў, карміў у сваім часе — дык конік скора стаў расьці. Да гэтага часу гэты жарабочак стаяў у гусіным хлеўчуку, але калі стаў папраўляцца ды расьці, дык яму стаў цесень гэты хлеўчык. Дабравід пайшоў да бацькі прасіць іншага хлеўчыка:

— *Татулька, татулька! Майму коніку стаў цесень гэты хлеўчык. Дазволь паставіць у большым хлеўчуку*.

Бацька дазволіў яму паставіць свайго жаробчыка ў сьвіным хлеўчуку. Хлапец добра даглядае жаробчыка. Жаробчык расьце і дужэе. Хлопчык ня можа нацешыцца жаробчыкам.

Ён выйшаў рослы, статны, складны: крыж шырокі, перадзісты, шыя гарбатая, грыва і хвост кунатыя, капыты кубкаватыя, моцныя. Калі паглядзіш на яго, дык здаецца, што гэта ня жывы конь, але маляваны.

Дабравід пайшоў узноў да бацькі прасіць лепшага хлеўчыка для свайго жарабочка:

— *Татулька, і гэты хлеўчык зацесны і нізак для майго жарабочка, ці ня можна падшукаць лепшага хлеўчыка*.

Стары князь пайшоў сам пабачыць, што там за конь выйшаў зь леташняга здыхляка. Калі ўбачыў стары князь гэтага жарабочка, дык пацешыўся зь яго і дазволіў паставіць яго ў агульнай стайні. Хоць гэты жарабочак стаяў у агульнай стайні, але Дабравід сам даглядаў, карміў, паіў і чысьціў гэтага свайго жарабочка. Ды той ніколі іншага не дапускай да сябе. Мачышыным сынам стала зайздросна, што Дабравід мае лепшага каня ня толькі, як у іх, але гэткага прыгожага, спрытнага і лепшага каня ня мае ніхто ў іхняй акрузе. Мачышыны сыны дагаварыліся, каб Дабравід адступіў ім гэтага каня. Дабравід зь іх сьмяецца, кажучы: *“Нашто вам гэткі конь. Вы-ж на ім езьдзіць ня ўмееце. Калі-б вы і папробавалі на ім сесьці, дык-бы ён вас паскідаў і пазабіваў”*.

Мачышыны сыны пажаліліся мацеры, што Дабравід ім ня толькі каня ня адступіў, але абсьмяяў яшчэ іх перад дворняй. Мачыха назвадзіла старому князю на Дабравіда, што быццам ён хоча ў старога князя ўсю ўладу перахапіць. Яна із сваімі сынамі дамагалася, каб страціць Дабравіда. Стары князь сьпярша не згаджаўся, а пасьля, калі мачыха і сыны сталі бесьперастанна патрабаваць гэтага, дык стары князь згадзіўся на іх намаганьні.

Перавага гэтага каня перад іншымі коньмі ня толькі была тая, што ён быў зграбнейшы, складны, дужы, лёгкі й трывалы, але яшчэ ён знаў чалавечую гаворку і сам гаварыў з Дабравідам па-чалавечаму. Дабравід як пачуў, што яго хочуць загубіць, дык ён аб гэтым пажаліўся свайму каню:

— *Ты ня ведаеш, мой косю, што я буду ня доўга даглядаць цябе й цешыцца зь цябе. Мае ворагі наважылі мяне згубіць. Яны гэтага доўга дамагаліся перад маім бацькам, але ўжо і стары князь, мой бацька, на гэта даў згоду*.

— *Ня бойся, не бядуй ды слухай маей парады, дык будзе ўсё добра. Хоць твой бацька і даў згоду на тваю загубу,* — кажа конь, — *Але калі табе аб'явяць аб гэтым, дык ты міласьці ад бацькі не прасі, каб цябе пакінулі жывым, але толькі папрасі, каб табе справілі рыцарскае ўбраньне і ўзбраеньне і каб перад сьмерцю пазволілі тры разы аб'ехаць у гэтым убраньні і ўзбраеньні на мне кругом пляцу. Бацька на гэта згодзіцца, і калі ты будзеш трэці раз аб'язджаць кругом палацу ды параўнаешся з брамай, тады вытнеш мяне па шыі рукой, а я вытну па зямлі капытамі, і мы з табой апынёмся аж за брамай. За намі будуць гнацца, але не дагонюць.*

Аднаго разу пасылаюць па Дабравіда, каб прыйшоў да старога князя. Калі ён прыйшоў у палац, то старэйшы дружыньнік абвясьціў яму волю князя і аб'явіў яму дзень і час яго сьмерці.

Дабравід сказаў старэйшаму дружыньніку:

— *Перадай князю, што я хоць ня вінны, але з гонарам і па-рыцарску прымаю ягоны прысуд, ды мой гонар рыцарскі патрабуе памерці рыцарам, а дзеля гэтага прашу князя справіць мне рыцарскае адзеньне і рыцарскае ўзбраеньне. Я ў гэтым адзеньні і гэтым узбраеньні павінен перад сьмерцю тры разы аб'ехаць на сваім кані наўкола палацу.*

Старэйшы дружыньнік пайшоў да старога князя. Хутка вярнуўся і перадаў Дабравіду:

— *Стары князь здаволены тваёй сьмеласьцю і рыцарскай станоўкасьцю. Тваё жаданьне будзе выканана.*

У назначаны дзень і гадзіну позным раньнем прыносяць Дабравіду рыцарскае ўбраньне і ўзбраеньне. Уся дворня і дружыньнікі былі на дварэ, дружыны занялі стражу ў замку, асабліва добра вартаваліся брама й мост.

Дабравід у сваім рыцарскім убраньні і з рыцарскім узбраеньнем сеў на свайго слаўнага й вернага каня. Ягонае адзеньне і ўзбраеньне зіхаціцца, што зь яго, здаецца, аж золата капае.

Дабравід паехаў да палацу, каб зрабіць каля яго вызначаны аб'езд. Калі ён аб'язджаў наўкола палацу, то ўсе прысутныя і нават стража захапіліся стройнасьцю і прыгажосьцю рыцара і ягонага каня. Калі ён трэці раз аб'язджаў наўкола палацу і параўнаўся з брамай, дык выцяў рукой па шыі свайго каня. Конь у гэты мамэнт ударыў капытамі па зямлі і з хуткасьцю бліскавіцы апынуўся аж за брамай і мастом. Толькі тады прыбрамная й маставая стража апамяталася, дзеля чаго яна была пастаўлена, калі Дабравід на сваім кані быў далёка ад замку — аж каля самага лесу. Стража пусьцілася наўздагон, але для ўсіх відаць было, што гэта дарэмная трата часу. Доўга ён шпарка ехаў, нарэшце спыніў каня і стаў павольна ехаць. І конь кажа Дабравіду:

— *Калі мы будзем шпарка ехаць каля карчмы, там будзе разьвешана рознае адзеньне, дык ты схапі сабе верхнюю й ніжэйшую простую вопратку.*

Віхром ляціць рыцар на кані каля карчмы. Рыцар на ляту хапае адну верхнюю і адну ніжэйшую вопратку.

— *Вэй-вэй! Рыцар! Нашто адзежу ўзяў?* — крычаць з карчмы. Але рыцар не спыніўся і паехаў далей. Толькі назад сыпнуў жменю залатых. Ехалі яны яшчэ доўга і нарэшце ў ляску спыніліся. Рыцар пераадзеўся ў простае адзеньне, а сваё рыцарскае ўбраньне і ўзбраеньне зьвязаў і прывязаў у каня на сядле. Нарэшце конь рыцару сказаў:

— *Выстрыжы ў мяне на лобе грывы і заўсёды трымай яе пры сабе; калі я табе спатрэблюся, дык ты ў гэту грыву пачні красіць агонь, і я зараз-жа да цябе зьяўлюся.*

Дабравід выстрыг у каня на лобе грыву, схаваў яе ў сябе пад адзежай на грудзях і разьвітаўся з канём, сказаўшы яму:

— *Бывай здаровы, мой косю!*

Конь яму пакланіўся і пабег у лес.

Тут непадалёку жыў у сваім замку магутны й багаты князь. Дабравід пайшоў у двор гэтага магутнага князя прасіцца на працу. Яго сьпярша не хацелі прымаць, а нарэшце канюшы паўзіраўся на яго і паклікаў на стайню да працы. Дабравід стаў працаваць на стайні ў якасьці простага работніка, а пасьля маладзейшага слугі. Часта бывала, калі Дабравід абазволіцца ад сваёй работы ды замаркаціцца па сваім кані, выйдзе за сад, выне валасок з грывы свайго каня, паложа на крэмені й вытне красівом — зараз-жа зьяўляецца ягоны конь. Дабравід адзяваецца ў рыцарскае адзеньне і ўбіраецца ў рыцарскую зброю, садзіцца на свайго каня ды лётае па ім каля саду ды па ўсім полі аж да лесу.

У гэтага магутнага князя была толькі адна дачка, але была надта прыгожая ды разумная. Стары князь ганарыўся ёй і цешыўся зь яе. Яна адна часта забаўлялася ды шпацыравала ў садзе. Яна заўважыла, што нейкі невядомы вельмі прыгожы рыцар у дарагім і прыгожым адзеньні і ўзбраеньні разьяжджае ды гарцуе каля іхняга саду ды па іхнім полі. А такога прыгожага, вёрткага ды спраўнага каня гэтая паненка яшчэ ніколі ня бачыла. Яна сьпярша ўсё здалёку пазірала на гэтага рыцара, а пасьля, перамагаючы сваю нясьмеласьць, нечакана выйшла на спатканьне гэтаму рыцару. Дабравід на сваіх пагулянках ухіляўся ад спатканьня з усімі людзьмі, асабліва з жыхарамі двара свайго гаспадара. А гэтае спатканьне было настолькі неспадзяванае, што ён раней не пасьпеў збочыць, а цяпер было ўжо позна ды недалікатна, каб рыцар ухіляўся спатыкацца з паненкай. Як патрабавала рыцарская прыстойнасьць і далікатнасьць, ён ветліва пакланіўся й прывітаўся зь незнаёмай паненкай, дачкой свайго гаспадара, ды паехаў.

— *Лепш асьцерагацца, каб ні з кім знаёмым не спаткацца,* — думае Дабравід. І спыніў свае пагулянкі на кані.

Дабравід некалькі разоў яе бачыў і знаў, бо, выконваючы сваю працу на стайні, мог спатыкацца зь ёй. Але паненцы нецікава было й непатрэбна было знаць усіх работнікаў ды слуг свайго бацькі.

Гэтая паненка вельмі зацікавілася гэтым новым маладым, прыгожым і вельмі далікатным у рухах і абходжаньні рыцарам. Яна задалася мэтай бліжэй пазнаёміцца зь ім. Яна, нічога нікому не кажучы, штодня наведвала гэта месца, дзе яна спаткала гэтага цікавага рыцара. Шмат часу яна выходзіла, а яго няма. Чаму-ж раней, калі яна яшчэ не выхадзіла на спатканьне, дык ён часьцей тут гарцаваў ды насіўся на сваім стаеньніку? — думае яна. Яна наракала на сваю неадвагу й сваю нясьмеласьць, што не назначыла сама яму часу другога спатканьня. *“Калі-б яму і нецікава было-б са мной спатканьне, дык ён бы, гэткі далікатны ды ветлівы, не адважыўся-б адмовіцца ад маей прапановы”*, — думала яна. Паненка прыпамінае свае папярэднія назіраньні, як гэты рыцар то шпарчэй ветру лётае на сваім стаеньніку, то ён зьлезе з каня, а конь за ім, як сабака, бегае.

Да Дабравіда дайшла вядомасьць, што павінна пачацца вайна, ды і яго гаспадару князю трэба будзе із сваім войскам вырушыць на вайну. Дабравіда ягоная рыцарская натура абавязалаісьці на вайну. Ён падумаў праверыць сваё ўбраньне і зброю і абавязкова павінен выклікаць каня, каб усё гэта зрабіць. Для гэтага хоць і ня было часу, бо як старыя дружыньнікі, так і маладыя служкі, як ён, былі заняты ад ранку да вячэры працай: правяралі коні, чысьцілі зброю. Але Дабравід у часе паўднёвага адпачынку выскачыў за сад ды хутка выклікаў свайго каня. Конь прыбег. Ён уважліва праверыў сваё адзеньне ды зброю, пасьля, калі адзеўся, дык памацаваў сядло, падпругі, узьдзечку, ці ўсё як трэба. Ды на ўзавады ветрам паляцеў у поле. Пры гэтым, каб спрабаваць моц сваей шаблі, на ляту выхапіў яе ды стаў каля дарогі сеч кусты. Тут пападаліся дрэўцы таўшчынёй у добры калок, але ягоная шабля ўсё чыста касіла, як вострая каса маладую атаву. Яму ня было часу, ён шпарка вяртаўся да двара, каб у пару стаць на работу. Калі ён памалу аб’яжджаў рог саду, аж неўспадзеўкі яму на спатканьне з-за густых кустоў выйшла тая самая паненка, што спатыкала яго тут і раней. Ён сьпярша аж сумеўся, але зараз-жа аўладаў сабой, ветліва скланіўся і рыцарскім звычаем прывітаўся. Ён стараўся, каб не спыняцца, бо, па-першае, яму часу ня было, а па-другое, ён быў заклапочаны, каб яго не пазналі ў рыцарскай уніформе ні князь, ні дворня; але калі паненка пераходзіла дарогу, дык зваліся ў яе з рук адна пальчатка, а пасьля другая. Ён прымушаны быў саскочыць з каня, каб падняць ды перадаць паненцы яе пальчаткі. Калі ён падбіраў пальчаткі, дык конь стаяў, як укопаны, калі Дабравід пасьпяшыў крокам за паненкай, каб перадаць ёй ейную згубу, дык і конь туськом пасьпяшыў за ім. Дабравід з паненкай ідуць дарожкай, а конь, як сабака, за імі ідзе. Хоць размова

пачалася, плян паненкі споўніўся, але яна разумела па словах і рухах рыцара, што ён некуды пасьпяшае. Усё-ж такі яна адважалась прасіць рыцара аб наступным спатканьні:

— *Я-б адчула сябе шчасьлівай, каб на гэтым месцы я зноў вас магла спаткаць.*

— *Ня ведаю, ці можа для мяне паўтарыцца сёньняшняе шчасьце, бо ў нашай краіне паветра напаўняецца бразгам жалеза і пахам сьвежай крыві і пажарышчаў,* — сказаў рыцар. — *мой князь кліча мяне да чыну.*

Паненка шмат што хацела запытаць, шмат што хацела сказаць, але ў яе думкі перапляліся, і яна ня мела чаго сказаць, то яна падала руку на разьвітаньне. Яны разьвіталіся. Паненка павярнулася направа і падалася сьцежкай у сад, а Дабравід ускочыў на каня, даехаў да бліжэйшага гайка і там шпарка разабраўся ды пайшоў да працы ды за малым не спазьніўся.

Назаўтра князь з сваімі ваякамі адпраўляўся на вайну. Дабравід таксама папрасіўся ў самога князя паехаць на вайну. Князь сьпярша яму адмовіў, а пасьля дазволіў ехаць як маладзейшаму служку. Коні ўсе й зброя былі разобраныя старэйшымі ваякамі, а Дабравіду загадалі ехаць з запаснымі кабылкамі ды везьці харчаваньне, а можа там каму спатрэбяцца й гэтыя кабылкі. Уся князева дружына і сам князь зраньня ехала на вайну. Цэлы дзень ваявалі, а нанач ехалі ў двор. Дабравід першы дзень паехаў, як яму належала, ззаду, за сваім войскам, але яго кабылкі былі слабыя, а дарогі гразкія, дык ён мусіў застацца. Нарэшце яго кабылкі ў балоце і зусім паклаліся. Дабравід іх павыцягваў, падмасьціў гальля, нарваў ім травы, каб не аслабелі да вечара. А сам выняў валасок з-пад адзежы з грывы свайго каня ды стаў крэсьліць агонь. Зразу зьявіўся да яго ягоны конь з убраньнем. Ён апрануўся ў рыцарскае адзеньне, узброіўся рыцарскай зброяй і паехаў на вайну. Калі ён прыехаў на поле бітвы, то ворагі націскалі на войска ягонага князя і пачалі абкружаць. Дабравід нечакана з-пад лесу наляцеў на ворага і напаў на заднюю частку варожага войска. У ворагавым войску сталася замяшаньне. Князь із сваей дружынай аправіліся і прагналі ворагаў. Князь заўважыў аб своечасовай дапамозе яму нейкага невядомага рыцара, але гэты рыцар нават не пад'ехаў да князя, але павярнуўся назад і схаваўся ў лесе.

Дабравід вярнуўся да сваіх кабылак. Яны ўжо былі абсохлі й справіліся. Ён адпусьціў свайго каня, запрог кабылак і едзе дадому. Кабылкі ідуць марудна, загразаюць у балоце, завальваецца й воз у кулдобу. Едзе яго князь з дружынай, дружыньнікі зь яго сьмяюцца: *"Вось дзе ваяка з вайны едзе. Колькі ворагаў забіў? Можа, ранены, што так марудна едзеш?"* Яны Дабравіда петаміналі ды шпарка паехалі да двара, каб там хваліцца аб сваей перамозе над ворагамі. Калі Дабравід прыехаў да два-

ра, было ўжо позна. Ён адпрог і дагледзеў кабылак ды лёг адпачываць, каб назаўтрае выехаць рана, каб парой даехаць да месца.

Назаўтра ён выехаў да сьвету. Ён памалу едзе, дарога вузкая, балацяная, па ёй то гаці, то лужы. У лужынах воз завальваецца, і спыняецца язда. Тут даганяе яго князь з войскам, некаторыя ладзейшыя дружыньнікі, што зь ім разам працавалі на стайні, з пагардай крычаць да яго:

— *Або едзь, або набок зварачвай! Што ты замінаеш тут?*

Пад канец дарогі яго кабылкі змарыліся, ён іх сьцягнуў на бок, падмасьціў гальля, падкінуў травы і пакінуў тут, каб яны адпачылі. Сам выклікаў свайго каня, сякучы агонь у валасы яго грывы. Калі конь прыбег, ён адзеўся ў рыцарскае ўбраньне, узбраіўся рыцарскай зброяй ды паехаў да таго месца, дзе адбывалася бітва.

Гэтак ён езьдзіў на вайну штодня і гэтак штодня памагаў свайму князю. Гэты князь заўсёды меў перавагу ў бойцы, і гэта перамога была дзякуючы дапамозе невядомага рыцара на спрытным кані. Князь надта быў удзячны гэтаму рыцару, але ня меў магчымасьці яму падзякаваць, бо пасьля бітвы рыцар зараз-жа скрываўся за лес.

Аднаго разу многалікае войска ворага абкружылі князя і ягоную дружыну. Князь з сваім войскам памкнуўся нават уцякаць, але ня было куды. Яны бараніліся адважна, але бачаць, што не надоўга хопіць сілы, бо ўжо надта шмат князевага войска было пабіта й паранена.

Аж адкуль ня возьмецца з-пад лесу незнаёмы рыцар у прыгожым убраньні на спрытным кані. Быстрынёй бліскавіцы ляціць да варожага войска ды направа ды налева стаў расьцярэбліваць дарогу аж да таго месца, дзе князь быў абкружаны врагамі. І направа і налева валіліся ворагі то пабітыя, то параненыя. Невядомы рыцар у той час дабраўся да князя, калі варожы ваяка, сам начальнік, накіраваў сваю дзіду проста князю ў сэрца. Узмахам Дабравідавай шаблі ў варожага начальніка адвалілася на зямлю паўгалавы і рука зь дзідай. Дабравід і сам князь гналіся за ворагамі аж да лесу і шмат іх перабілі, а рэшта была акружана і ўзята ў палон. Калі князь і невядомы рыцар спыніліся, то князь заўважыў, што рыцар бялее і слабее: у яго вышэй калена была расьсечана нага. Князь тут-жа ўзяў сваю шаўковую хустку ад шыі і перавязаў яму рану на назе. Князь запрасіў невядомага рыцара ехаць да яго ў двор, але рыцар падзякаваў і паехаў на сваім кані да лесу і схаваўся. Князь із сваім войскам паехалі дамоў у двор. Тут-жа за імі пагналі паняволеных ворагаў.

Дабравід позна прыехаў на сваіх кабылках да двара ды быў зусім хворы. І на заўтрае ён не ўставаў, а хворы ляжаў у пасьцелі ў сваёй каморы пры стайні.

Пасьля заканчэньня вайны і перамогі над ворагамі ў панскім палацы пачаўся банкет. Прыяжджалі да князя зблізку і здалёку госьці й віншавалі князя зь перамогай над ворагамі. Тут шмат было маладых

гасьцей, багатых і знаных паноў. Яны заляцаліся да паненкі-дачкі князя і здалёку накіроўвалі гутарку на тое, каб стацца зяцямі князя.

З таго дня, калі апошні раз паненка была на спатканьні зь невядомым рыцарам за садам, яна стала задуманай, смутнай. І гэты настрой яна мела аж да канца вайны, але калі вайна скончылася, яна не павесялела.

Аднаго разу пасьля гэтага пасьляваеннага банкету стары князь прыйшоў у пакой да дачкі і завёў гутарку аб знатнейшых панох, якія былі тут на банкеце, сказаў ёй, што шмат ізь іх заводзілі гутарку аб тым, каб сватацца да яе.

Яна адказала бацьку, што ні за кога з гэтых паноў ня мае намеру ісьці замуж, бо яе галава занята нейкім невядомым рыцарам, якога часта бачыла перад вайной, што насіўся на сваім цудоўным кані за іхным садам.

*— Я-б толькі выйшла замуж за яго, калі-б ён сватаў, а так ні за кога з гэтых не пайду.*

*— Гэтыя невядомыя выдатныя рыцары часамі спатыкаюцца ў нашай краіне. Невядома, адкуль яны зьяўляюцца, удзіўляюць нас сваім уборам, узбраеньнем, дабратой і адвагай, дапамагаюць нам, але невядома, куды зьнікаюць. Гэтак я з тае мінуты не ўцяміць аб адным рыцару. Калі началася вайна, ён штодня прыяжджаў на вайну, сваей адвагай і спрытам удзіўляў і мяне, і маё, і варожае войска. Ён выратаваў мне жыцьцё. Ён сваім спрытам і адвагай давёў мяне да перамогі ў вайне. Калі я яго, цяжка параненага, запрасіў ехаць да мяне ў двор, дык паехаў у лес. Можа дзе аслабеў ды і памёр. Вось гэткага рыцара я хацеў-бы мець за зяця і пасьля мяне ўладаром маіх земляў і багацьця.*

Калі князь расказаў сваей дачцэ аб кані, адзеньні і ўзбраеньні, дык яна аж жахнулася, бо ён быў надта падобны да таго рыцара, якога яна бачыла за садам, але нічога не сказала.

У гэты час да князя прыйшлі з паведамленьнем, што маладзейшы служка, які з запаснымі коньмі і фурманкай езьдзілі на вайну, цяжка хворы. Князь зацікавіўся паглядзець і пайшоў у тую каморку пры стайні, дзе ляжаў Дабравід. За ім пайшла і дачка яго. Калі князь з дачкой пашлі глядзець хворага, то паслалі за цырульнікам. Усьлед за імі і цырульнік увайшоў у каморку, дзе хворы ляжаў. Ён быў хворы ды ў іншай вопратцы, дык ні князь, ні дачка адразу не пазналі яго. Але калі цырульнік стаў глядзець хворай нагі, то князь вельмі зьдзівіўся, бо ягонай хусткай укручана рана хворага Дабравіда. Дачка пазнала бацькаву хустку і зьдзівілася, як яна папалася сюды. Бацька больш быў зьдзіўлены, бо ён памятае, што гэтай хусткай тры дні таму назад завярцеў нагу раненаму рыцару, таму рыцару, які яму выратаваў жыцьцё і які ахінуў славай і яго, і ўсё ягонае войска. Ды і рана якраз на тым

мейсцы, як была ў таго рыцара. Князь пачаў углядацца ў рысы твару і пазнаў свайго вызвольніка і дабрадзея. Князь паслаў да дактароў. Калі бацька стаў клапаціцца каля хворага, то і дачка дагадалася, што гэта мусіць і ёсьць той рыцар, што выратаваў бацьку ад сьмерці, і сама стала прыглядацца, і па вуснах і па вачох стала адгадаваць, што гэта, мусіць, той рыцар, якога яна бачыла за садам і зь якім мела шчасьце гаварыць. Прышлі дактары і сказалі, што рана не безнадзейная, хоць яна вялікая й запушчаная, але яе ўдасца зьлячыць. Князь абяцаў дактарам вялікія грошы, калі яны вылечаць гэтага чалавека. Дабравіда перанесьлі ў палац. Яго заўсёды даглядала сама паненка. Дабравід скора паправіўся і стаў выходзіць у сад на праходку. Скора ён зусім паправіўся. У часе хваробы, калі стаў папраўляцца, расказваў паненцы і князю аб сваім жыцьці, аб прыгодах. А калі зусім паправіўся, то выйшаў за сад і вызваў, як і перш вызываў, свайго каня. Там ён убраўся ў рыцарскае адзеньне, узяў з сабой рыцарскую зброю і прыехаў да палацу на сваім кані і рыцарскім убраньні. Ніхто зь яго папярэдніх супрацоўнікаў на стайні не маглі пазнаць у ім таго самага ціхага ды акуратнага служкі, але добрага наезьніка, які аб'яжджаў маладых дзікіх коні. Яго каня паставілі ў стайні на самым лепшым месцы і добра даглядалі. З гэтага часу ён ужо не адпускаў і не прызываў свайго каня, а быў заўсёды пры ім. У скорым часе пасьля гэтага Дабравід ажаніўся з княжацкай дачкой. Князь справіў добрае й гойнае вясельле. На гэтым вясельлі пачэснае мейсца займалі работнікі па стайні, зь якімі Дабравід працаваў і сябраваў, і ўся чэлядзь.

У скорым часе пасьля вясельля стары князь перадаў Дабравіду каманду над войскам, а пасьля і ўсю ўладу над сваім княствам.

*Прадмова й падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

# ДА 110-ГОДЗЬДЗЯ АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

## “Выпісы з крывіцкае літаратуры”


Аўген Калубовіч (Каханоўскі)

Адной з да сёньня ненапісаных старонак з гісторыі эміграцыі ёсьць змаганьне за моладзь, яе адукацыю й нацыянальнае выхаваньне. У Нямеччыне ў лягерах *DP* склалася сытуацыя, вельмі падобная да часу вайны, калі не ставала падручнікаў, чытанак, лемантароў. Пра кнігі ваеннага часу выдатна напісана ў працы Юрыя Туронка “Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939—1941)” (Мінск, 2002). Пра стварэньне падручнікаў на эміграцыі падобная праца яшчэ ня зробленая.

Але, без сумніву, там будзе сказана пра Аўгена Калубовіча (Каханоўскага, 1910—1987), настаўніка роднай мовы й літаратуры ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, аўтара чатырох сшыткаў “Паэтычнай стылістыкі. Падручніка для сярэдніх школаў” (Міхэльсдорф, 1947) і знакамітых “Выпісаў з крывіцкае літаратуры. Падручніку для сярэдніх школаў. Сшытак 1: Вусная народная творчасьць” (Рэгенсбург, 1946).

У прадмове да згаданых сшыткаў Аўген Калубовіч пісаў: *“Расьцярушаныя па Нямеччыне крывічы закладаюць у сваіх калёніях пачатковыя й сярэднія школы, народныя ўнівэрсытэты, усялякія курсы, гурткі і лекторыі. Але ўсюды настаўнікі і лектары, гэтак-жа, як і вучні, і слухачы, адчуваюць у сваёй працы цяжкасьці, зьвязаныя амаль із поўнай адсутнасьцю падручнікаў і кніжок. Тым балей гэтыя цяжкасьці адчуваюцца ў выкладаньні й вывучэньні крывіцкае літаратуры.*

*Шуканьні магчымасьцяў выдаць хоць колькі падручнікаў і кніжок друкарскім спосабам ня мелі дагэтуль удачы з прычыны нястачы кірыліцкага шрыфту ў друкарнях Нямеччыны. Гэта і змусіла ўкладальніка выпісаў выдаць свой падручнік хоць-бы на рататары. Пры гэтым ён меў вялікія цяжкасьці і ў вадборы для выпісаў неабходных тэкстаў, бо тут, у Нямеччыне, шмат якіх твораў нашае літаратуры зусім няма. Гэтымі акалічнасьцямі галоўна і абумоўліваюцца недахопы падручніка.*

*Але ўсё-ж такі ўкладальнік мае надзею, што і ў такім выглядзе выпісы будуць карысным дапаможнікам для выкладчыка і вучня і хоць часткова зьменшаць ім цяжкасьці ў выкладаньні і вывучэньні крывіцкае літаратуры.*

*Бяручы-ж пад увагу агульны голад на роднае друкаванае слова на эміграцыі, выпісы адначасна могуць быць выкарыстаныя нашай моладзьдзю і дарослымі для чытаньня і дапаможнік пры ладжаньні літаратурных рэфэратаў і выступленьняў.*

*Із тэхнічных меркаваньняў выпісы разьбітыя на колькі сшыткоў, якія будуць выходзіць адзін па другім".*

Першы, і адзіны, сшытак складаўся з разьдзелаў "Абрадавыя песьні", "Казкі" й "Прыказкі". Адну казку як узор адабранага матэрыялу падаем ніжэй. Трэба адзначыць, што гэтая казка была перавыдадзеная асобным выданьнем у 1947 г. тамсама ў Нямеччыне (Госьляр, *Goslar*), і зноў, ужо ў 2000 г., у горадзе Монтысэлаў (*Monticello*, ЗША) стараньнямі доктара й паэта Мацьвея Рэпкава-Смаршчка.

Аўтар клясычнай манаграфіі "Беларуская казка" Леў Бараг, гаворачы пра казачніка Рэдкага, піша: *"Не менш характэрныя ў гэтых адносінах [як праз сьвет прыроды раскрываюцца чалавечыя пачуцьці. — **Рэд.**] вобразныя апісанні роднай прыроды і праніклёнай, дзівоснай ігры на скрыпцы, што складаюць аснову ідэйнага зместу казкі Рэдкага "Музыка-чарадзейнік". Уся гэтая казка пра юнага народнага музыку, які іграў у чарцей на вяселлі і разбурыў сваёй музыкай пекла (эпізод, што не мае адпаведнікаў у вядомых нам фальклорных тэкстах), прасякнута вялікім гуманістычным пафасам сцвярджэння чаруючай магутнасці мастацтва, яго прыгажосці. Аптымістычнае светаадчуванне і самыя вобразы герояў-летуценнікаў неадлучныя ў ягоных казках ад прыроды Палесся. Пейзаж, не звычайны для казачнага эпасу, заканамерны тут, як у народнай песеннай лірыцы, да якой блізкія казкі Рэдкага"*[1].

## Музыка й чэрці[2]

Быў адзін Музыка. З маленства ён нічога не рабіў, толькі йграў. Яшчэ будучы хлапчуком, пасе, бывала, валоў альбо коней, зробіць з лазы дудачку дый як зайграе, дык волы пакінуць пасьвіцца, разьвесяць вушы дый слухаюць; а ў лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы ня крумкаюць. А як павядзе коней на начлег — лета, ночы цёплыя, аж парыць, папрыводзяць на дуброву коней хлапцы, дзяўчаты з усяго сяла, сваволяць, сьмяюцца, пяюць песьні. Ведама, маладосьць — заўжды весела, а Музыка як зайграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсе прыціхнуць. От ім здаецца, што якаясь слодыч улілася ім у сэрца,

[1] Бараг, Леў. Беларуская казка. Мінск, 1969. С. 53—54.

[2] Друкуецца паводле: Выпісы з крывіцкае літаратуры. Падручнік для сярэдніх школаў. Сшытак 1: Вусная народная творчасьць / укл. А. Калубовіч. Рэгенсбург, сакавік 1946.

а якаясь сіла ўхапіла іх на плечы й нясе ўсё ўгору і ўгору, да ясных зораў, у чыстае неба, у чыстае, сіняе, шырокае неба. Сядзяць яны, нічога ня думаюць, забыліся, што рукі й ногі млеюць ад цяжкае працы, што ў жываце бурчыць ад голаду. Сядзяць і ўсё слухаюць. І хацелася-б ім сядзець гэтак усё жыцьцё і ўсё слухаць, як грае Музыка. От ён замаўчыць. Але ніхто ня сьмее паварухнуцца, каб не спалохаць таго голасу, што пошчакам рассыпаўся па дуброве, па лесе, падымаецца ў самае неба. Але вось зайграе Музыка жаласьліва: і заплачуць і лес, і дуброва, набяжыць хмарка, і зь неба сьлёзкі так і пальлюцца. Ідуць позна да гасподы мужыкі й бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць, плачуць. От так усё іх горкае жыцьцё перад вачыма й стаіць, і такі іх апануе жаль, што й мужыкі, старыя барадатыя мужыкі плачуць, як бабы над нябожчыкам, альбо як праводзяць сынкоў у маскалі. Але вось па нямалым часе Музыка ад жаласьлівага ды на вясёлае зьверне. Пакідаюць мужыкі й бабы косы, граблі, вілы, гаршкі і біклагі, возьмуцца ў бокі й давай скокаць. Скачуць малыя дзеці, скачуць коні, скачуць кусты й лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача й сьмяецца. От такі-то быў Музыка-чарадзейнік: што захоча, то ён з сэрцамі і зробіць.

Падрос Музыка, зрабіў сабе скрыпачку й пайшоў у сьвет; куды прыйдзе — паграе, а за тое яго накормяць, напояць, як самага лепшага госьця, і яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так па сьвеце, весяліў добрых людзей, а ліхім без нажа рэзаў па сэрцы. Бачаць чэрці, што куды Музыка ні прыйдзе, там менш людзі грашаць, і давай гастрыць на яго зубы. Ідзе раз Музыка празь лес, а чэрці й наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны Музыку ў лесе дарогу, стаяць ды зубамі ляскаюць, а вочы гараць, як гарачае вугольле. Няма ў Музыкі нічога ў руках, толькі пад пахаю ў мяшэчку скрыпка. “Што тут рабіць? — думае Музыка. — Што тут пачаць?” Прыйшоў яму канец. Дастаў ён зь мяшэчка скрыпку й смык, каб хаця яшчэ раз напасьледак пайграць, прысланіўся да дзерава дый пацягнуў смыкам па струнах. Як жывая, загаварыла скрыпка, раздаўся пошчак па лесе. Прытаіўся лес і лістком не варухне, а ваўкі як стаялі, разявіўшы горла, так і акамянелі: стаяць ды слухаюць, а сьлёзы так і цякуць з воўчых вачэй. Перастаў Музыка граць, а ваўкі, бы сонныя, пасунулі ў лес.

Пайшоў Музыка далей. Ідзе ён ды йдзе, падыходзіць да ракі. Сонейка ўжо закацілася за лес, толькі яшчэ сьвеціць на самыя вярхі і як-бы аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вусе, ніводзін лісток не варухнецца. Вельмі харошы вечар. Сеў Музыка на камень на крутым беразе каля ракі, дастаў сваю скрыпачку й зайграў ды так гожа, што яго заслухаліся і неба, і зямля, і вада, і давай усе скакаць. Зоркі мітусяцца, як зімою сьнег; хмаркі плаваюць па небе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так разгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршку.

Але вось падняўся ў рацэ вадзяны цар ды як пачаў скакаць, дык вада так запляскала, што заліла берагі, а чэрці спалохаліся й павыскакалі з вады. Бачаць яны, што ім ад Музыкі нідзе супакою няма. От яны давай думаць, як-бы яго загубіць. Бачыць Музыка, што вадзяны цар нарабіў людзям бяды, перастаў граць, палажыў скрыпачку ў мяшок і хацеў ісьці далей, але вось падыходзяць два панічы й просяць пайграць на ігрышчы, абяцаюць заплаціць, што захоча. Падумаў Музыка, што яму недзе начаваць дый грошай няма, паслухаў панічоў і пайшоў зь імі йграць вечарынку. Прывялі панічы Музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і паненак хоць гаць гаці. Покуль ён зьбіраўся йграць, заўважыў, што ўсе панічы падбягуць да стала, памочаць палец у місу й мажуць сабе вочы. Памазаў і ён, ды як памазаў, дык і бачыць, што гэта не паны, а чэрці й ведзьмы, і што ён не ў палацах, а ў пекле. От і зайграў ён ды так, што ўсё пекла разьляцелася ў шчэпкі, а чэрці разьбегліся па ўсяму сьвету. От з тае пары чэрці й баяцца Музыкі й больш яго не чапляюць.

*Прадмова й падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

***Вітаўт Тумаш***

# НАШЫЯ КАЗКІ[1]

*У 2020 г. споўнілася 110 гадоў з нараджэньня заснавальніка й шматгадовага старшыні Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Вітаўта Тумаша (1910—1998).*

*Ушаноўваючы памяць выбітнага навукоўца, рэдакцыя "Запісаў" зьмяшчае даўні й рэдкі артыкул, што раскрывае яшчэ адну галіну зацікаўленьняў знанага гісторыка, скарыназнаўцы, кнігазнаўцы: нашыя казкі.*

Шмат надзвычайна мастацкіх казак склаў сабе вякамі беларускі народ. Многа зь іх загубілася на доўгім гістарычным шляху, загінула для нас назаўсёды разам з нашымі старцамі-казачнікамі. Ды ўсё-ж, дзякуючы таму, што ўжо мінулы XIX век пазнаў цану і вялікую літаратурную ды навуковую вартасьць нашай казкі і пачаў пільна яе зьбіраць і запісваць — казак гэтых захавалася яшчэ даволі значная колькасьць, многія тысячы. Шмат-жа іх яшчэ і далей астаецца ў народзе, нікім не запісаных, агульна ня ведамых.

Найбольшыя зборнікі нашых казак пакінулі нам ведамыя зьбіральнікі вуснай народнай творчасьці: Шэйн, Раманаў[2], Федароўскі і Сержпутоўскі[3]. Кажны зь іх сабраў і выдаў па некалькі тамоў беларускіх народных казак. На жаль, казкі гэтыя пераважна й засталіся ў зборніках этнографаў. Папулярных, агульнадаступных выданьняў іх так як і ня было. Таму шырэй яны ў нас і ня знаныя. Таму таксама сучасная школьная моладзь часьцей дастае ў рукі далёкія ёй па духу казкі чужыя, чым высакаякасныя падобныя творы свайго-ж народу.

А тымчасам казкі нашыя заслужылі на куды большую папулярнасьць і пашану, і то ня толькі проста таму, што яны акурат нашыя, але й дзеля сваёй высокай літаратурна-грамадзкай і пэдагагічнай вартасьці. А гэтым яны перавышаюць значна казкі многіх іншых народаў.

---

[1] Друкуецца паводле: Брага, Сымон. Нашыя казкі // Шляхам Жыцьця. № 8. 1946. С. 10—14.

[2] **Еўдакім Раманаў** (1855—1922), этнограф, фальклярыст, археоляг.

[3] **Аляксандар Сержпутоўскі** (1864—1940), этнограф, фальклярыст, мовазнаўца, літаратар.

Адзін з найлепшых знаўцаў нашых, як і расейскіх, народных казак, расейскі вучоны Шаўчэнка[4], пісаў так: *"Сярод усіх расейскіх казак ня знойдзецца нічога роўна прыгожага па красачнасьці і мастацкасьці расказу, як казкі беларускія"* (С. Шавчэнко. Русская народная сказка. Кіеў, 1914[5]).



Вітаўт Тумаш

Ды чужынцы суседзі ня толькі высака цанілі нашыя казкі, але часта й "пазычалі" сабе іх ці проста прысабечвалі. Шмат нашых найлепшых казак было так уведзена ў расейскую ці польскую літаратуру і пададзена там за свае. Так, у першай палавіне мінулага стагодзьдзя спалячэлы шляхціч з Наваградчыны Антон Язэп Глінскі (1818—1866)[6] выдаў друкам у польскім перакладзе 47 нашых казак пад нечаканым агульным назовам *"Bajarz Polski(!). Baśni, powieści i gawędy ludowe"*[7].

Казкі гэтыя Глінскі назваў "польскімі", хаця сам у прадмове да іх ён кажа, што *"сьпісаныя намі казкі паходзяць у бальшыні з Наваградзкага павету, а пайменна з Шчорсаў і Нягневіч, з маёнткаў памёрлага ў 1844 годзе графа Адама Храптовіча"*[8].

Зборнік беларускіх казак Глінскага ў сваю пару меў вялікую папулярнасьць ня толькі сярод палякаў, але быў пераложаны і на многія эўрапэйскія языкі ды меў некалькі выданьняў. Гэтак нашымі казкамі палякі рабілі незаслужаную славу сваёй менш багатай вуснай народнай творчасьці. Шырака выкарыстоўваліся беларускія народныя казкі і ў расейскіх выданьнях, асабліва для моладзі. Апіралася аб яе часта і расейская літаратура. Прыкладам, беларускія казкі з зборніка

---

[4] **Сьцяпан Саўчанка** (укр. *Степан Савченко*, 1889—1942), украінскі савецкі літаратуразнаўца, этнограф. Рэпрэсаваны й сасланы ў Ташкент, дзе й памёр.

[5] Савченко, Степан. Русская народная сказка. История собирания и изучения. Киев: Тип. Ун-та св. Владимира, 1914. 543 с.

[6] **Антон Юзаф Глінскі** (польск. *Anton Józef Gliński*, 1817—1866), польскі празаік, перакладчык, фальклярыст і казачнік. Паходзіў з Шчорсаў.

[7] Чатырохтамовая праца мела шэраг перавыданьняў, першае пабачыла сьвет у 1853 г.

[8] **Адам Храптовіч** (1768—1844), асьветнік, мэцэнат, сын Яўхіма Храптовіча.

Сержпутоўскага (1911) выкарыстаныя А. Талстым у ягонай повесьці "Пётра I".

Па сваёй літаратурнай форме нашыя казкі вельмі размавітыя. Спаткаем тут як кароценькія жарты, анэкдоты ці басьні, так і доўгія, складаныя фантастычна-прыгодніцкія казкі, сатырычныя апавяданьні ці легэнды. У іхным зьмесьце адбіваюцца ўсе галіны духовага й матар'яльнага жыцьця беларускага народу. Знойдзем тут перадусім адбітак вераваньняў, рэлігійнага сьветапагляду, народнай філязофіі, этыкі і маралі, народную веру і асабліва ўсебакова адлюстраваны народны быт.

Мастацка-пукатым, сакавітым словам адмаляваў таксама наш народ сваіх нацыянальных і сацыяльных ворагаў і прыяцеляў. Шмат таму казак прысьвечана жыдом, цыганом, мазуром, маскалём, а таксама паном, папом і ксяндзом. Усіх іх беларускі селянін — тварэц нашай казкі — не пашкадаваў у сваім мастацка першарадным вусным казачным эпасе.

Сярод беларускіх казак знойдзем усе віды найлепшых сусьветных казак. Сваёй шматхварбнай фантастычнасьцяй, наскрозь казачнай ігрой магчымага зь немагчымым, многія зь іх прыпамінаюць нам слаўныя арабскія "Казкі тысячы і аднэй ночы", у якіх так удала заклятая буйная фантазія народаў Усходу. Іншыя свабоднай нарочнай ігрою непраўдападобным ня ўступаюць фантастычным "Прыгодам Мюнхгаўзэна".

Кароткія-ж казкі-басьні з жыцьця зьвяроў сваёй маральнай ці сатырычнай меткасьцяй нагадваюць часта старадаўныя грэцкія басьні Эзопа[9] ці рымскага Фэдры[10]. Іншыя ізноў апавяданьні бытавым рэалізмам і зжатай, беззаганнай новэлістычнай формай прыпамінаюць расказы з "Дэкамэрона", зборніка апавяданьняў першага гэніяльнага новэлісты эўрапэйскай літаратуры італьянца Бокаччыо[11]. Яшчэ іншыя сваім глыбака філязафічным зьместам і ўзвышанай містычнай формай упадабняюцца да рэлігійных мітаў, да разьдзелаў Бібліі, Эвангельля ці сьвятых індускіх кнігаў Вэдды. Па сваім характары яны стаяць ужо на мяжы літаратуры й філязофіі.

Вялікую размавітасьць выказваюць нашы казкі і ў сваёй нутраной структуры. Адны зь іх носяць характар сэнтымэнтальна-лірычных апавяданьняў, іншыя — прыгодніцкіх расказаў, іншыя ізноў маюць спакойную эпічную будову або, у адваротнасьць гэтаму, укладзеныя ў форме жывога драматычнага дыялёгу.

---

[9] **Эзоп** (VI ст. да н. э.), старажытнагрэцкі паэт-байкапісец.

[10] **Фэдр** (каля 20 г. да н. э. — каля 50 г. н. э.), рымскі паэт-байкапісец, перакладчык баек Эзопа.

[11] **Джаваньні Бакачча** (іт. *Giovanni Boccaccio*, 1313—1375), італьянскі паэт і празаік, гуманіст.

Некаторыя казкі маюць асаблівую будову — яны ад пачатку да канца складзеныя з прыказак і пагаворак. Як паасобная цагліна пышнай будыніны ёсьць куском шляхотнага каменьня, так і кажны сказ такой казкі ёсьць мастацкім згусткам думкі, удалай прыгожай прыказкай.

Народныя казкі ня твораныя адмыслова для дзяцей. Яны радзіліся з нутраной творчай інтуіцыі. Многія зь іх дарослым ня менш цікавыя, як дзецям. Але шмат якія зь іх, асабліва фантастычна-прыгодніцкія, наймацней дзеюць на дзіцячую фантазію. Дзецям казкі падабаюцца перадусім таму, што ў іх нязвычайна пераплеценае магчымае зь немагчымым, рэальнае з выдуманым, таму што ў іх збываюцца ўселякія нармальна неасягальныя жаданьні гэрояў казкі, таму што яны маюць заўсёды радасны, шчасьлівы канец. Іншае заканчэньне гэтай кволай істоце — малому недасьведчанаму чалавеку — яшчэ не пад сілу.

Чар заклятага ў казках фантастычнага сьвету нязвычайны. Таму няма дзіва, што магічная сіла іх, зь якой яны дзеюць на вобразнасьць дзіцяці, асабліва вялікая. Ухопленыя яшчарам-цмокам ці ведзьмаю і заклятыя ў недаступных, няведамых нікому пячорах або палацах прыгожыя, як сон, князёўны, сьмелыя й заўсёды пераможныя рыцары, каралевічы і зусім простыя гэроі-багатыры, іхныя поўныя небясьпекі і прыгод нязвычайныя дзеяньні, іхны нечаканы ратунак з найцяжэйшага палажэньня пры помачы ўсемагутных добрых прыяцеляў зь людзкога ці зьвярынага сьвету, — гэта зьмест бальшыні казак.

Памагаюць гэроям казак і розныя няжывыя прадметы, надзеленыя нязвычайнай магічнай сілай: пярсьцёнак, чароўная палачка, шапка-скрытка, боты-скараходы ці дыван-самалёт. Нават сьмяротна раненага ці забітага гэроя-багатыра ратуе або нанава ўскрашае жывая гаючая вада. Усе і ўсё ў казцы — жывое й няжывое — жыве, дзее, змагаецца, памагае або шкодзіць.

Вялікую цікавасьць прадстаўляюць казкі з гатунку ня прыгодніцка-фантастычных. Яны цікавыя звычайна перадусім дзеля сваёй грамадзка-літаратурнай вартасьці. Таму іх ува ўсёй іхнай мастацкай красе й каштоўнасьці могуць ацаніць перадусім дарослыя. Такая, напрыклад, шырака знаная па сваёй мастацкасьці адна з найпрыгажэйшых нашых казак — “Музыка і чэрці”. Яна адзін зь лепшых твораў ня толькі беларускай народнай творчасьці, але сусьветнай наагул. У ёй у высокамастацкай форме выказваецца глыбокая думка аб сіле й значаньні музыкі, аб яе магутным уплыве на людзей і на прыроду, аб яе вялізарным дзеяньні на дасканаленьне чалавека, аб яе канчальнай перамозе над злом. Гэрой казкі, Музыка, быў такі чарадзейнік, што *“што захоча, то ён з сэрцам зробіць”*. Ад ягонай ігры аж *“усё пекла разьляцелася ў шчэпкі”*. Сэрца вялікага гэніяльнага паэты меў першы нязнаны тварэц гэтае казкі, што пусьціў яе некалі ў народ.

Другая казка з гэтага гатунку, “Ільля і Пятро”, мае ў сабе водгаласы яшчэ паганскіх часоў і расказвае нам аб споры паганскіх багоў — пагоды і ўраджаю, адпаведна зьмененая пад уплывам хрысьціянскае веры. Жывы бойкі стыль, пукатая сялянская вобразнасьць — галоўныя прыкметы гэтае казкі.

Асноўны стыль яе паказвае хаця-б такое экспрэсыўнае апісаньне буры: *“Такія грымоты, што аж зямля стогне — няма ні дня, ні ночы. Хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце, на небе кіпіць, як у гаршчку, маланка бліскае, аж у вачох цёмна становіцца, а пярун смаліць разпораз, паласуе хвоі, дубы ды паліць будоўлю або стагі”.*

Цікавая, напрыклад, казка “Чортава балота”, запісаная на Мазырскім Палесьсі. У ёй перадаецца арыгінальная легенда пра паўстаньне палескіх балотаў. Цікава, што выказаная ў казцы думка аб тым, што на месцы палескіх балотаў была некалі *“чыстая вада, бы шкло”*, згаджаецца з дадзенымі навукі, якая сьцьвярджае паўстаньне сёньняшніх палескіх балот зь вялізарнага плыткога паледавіковага возера.

У цэлым радзе казак наш народ дае арыгінальныя тлумачэньні розных касмаганічных, філязофскіх і іншых праблемаў. Падобна, як у песьнях выяўляецца пяшчотнасьць і лірызм душы беларуса, так у казках выяўляецца філязофскі склад розуму беларуса, ягоная здольнасьць да філязофскай развагі. Прыкладам філязофскай казкі можа быць глыбокая казка “З чаго ліха на сьвеце”. У ёй адбіваецца адвечны пагляд бадай усіх народаў аб маральным дуалізьме сусьвету, аб вечнай барацьбе ў ім дабра і зла — добрага і благога духа. На аснове такога сьветапагляду ацэнены ў ёй зь вельмі цікавай сялянскай філёзафічнай ахварбоўкай сацыяльны лад у Беларусі за часоў прыгону. Адчуваецца ў ёй выразна і рэлігійна-містычны настрой. Нават і ў сваім узвышаным стылі яна нагадвае сьвятыя кнігі Індаў, Каран ці Эвангельле. Характэрнае, паміж іншым, для такога эвангелічнага стылю пачынаньне сказаў злучнікам “і”: *“І ня было на зямлі ні ліха, ні дабра”, “І сказаў ім Бог”, “І будуць мець людзі ўладу над усім”* і г. д.

Цікавая сваім зьместам казка “Хвароба над хваробамі”. Гэта першарадна ўкладзены народны прапагандны твор проціў п’янства. У гэтай казцы вельмі трапна падмечаная ўся сутнасьць шкоднасьці алькаголю на людзкое здароўе. Асабліва сцэна паседжаньня “Ніцыпара” з пошасьцямі-хваробамі, адмаляваная ў ёй рукой таленавітага мастака зь нязвычайнай рэалістычнай экспрэсіяй.

У пару, калі ня існавалі яшчэ ні друкаваныя, ні пісаныя кнігі, — казкі, як і вусная народная творчасьць наагул, былі адзінаю літаратурай, духовай стравай, якой карміўся народ. З усіх відаў вуснай народнай творчасьці перадусім казкі сваёй усестароннасьцяй, сваім абыймаючым усё жыцьцё абсягам, фармавалі некалішні грамадзкі сьветапагляд чалавека; у іх некалішні чалавек знаходзіў адказ на ўсе цікавячыя яго

пытаньні. Яшчэ ў пазьнейшую пару, калі кнігі ўсё яшчэ былі толькі прывілеем багатых асьвечаных слаёў народу, казкі былі ўсім даступныя, яны й далей спаўнялі сваю выдатную грамадзкую ролю.

Новая беларуская літаратура пры сваім адраджэньні ня раз апіралася аб свае народныя казкі. Амаль кажны з нашых пісьменьнікаў XIX і XX в.в. у сваёй творчасьці ў большай ці меншай меры карыстаў з народных казак, апавяданьняў, легэндаў, як і народных песьняў. Не аднаму зь іх былі яны аснаўной крыніцай творчага натхненьня.

Навачасная культура і цывілізацыя заглушае ў вялікай меры далейшае пераказваньне народнай казкі. Друк, масавая кніжка і газэта тармозіць ейнае разьвіцьцё. Але ў передавых культурна народаў казка ўсё-ж дзеля гэтага не замірае, а, наадварот, быццам пачынае нанава расьцьвітаць у новай, друкаванай вопратцы. Казкі, што даўней доўгімі зімовымі вечарамі расказваліся казачнікамі, сяньня друкуюцца кніжкамі ў сотнях тысяч экзэмпляраў. У кажнай эўрапэйскай сям'і знойдзецца заўсёды і прыгожа ілюстраваная кніга сваіх казак.

Нашыя дасюлешнія папулярныя выданьні казак, на жаль, былі пераважна вельмі скромныя і дзеля сваёй абмежаванай колькасьці ня многім даступныя, хаця навуковых этнаграфічных выданьняў нашых казак ёсьць дзесяткі тамоў (найлепшыя зь іх два тамы казак, запісаных Сержпутоўскім у Случчыне і Мазыршчыне).

Прыгатаваць і надрукаваць добрыя зборнікі беларускіх казак для нашых дзяцей і моладзі — прыгожая і сьпешная задача для сучасных нашых выдаўцоў.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Наста Кахан***
*Польшча*

# *“З ЗЫЧЭНЬНЯМІ НЯЎХІЛЬНАЙ НАСТОЙЛІВАСЬЦІ Ў НАМАГАНЬНЯХ, ЗС”*

Я ведала Зьмітра Саўку цягам чатырох гадоў. Амаль столькі ж працавалі разам. У 2020-м была й чацьвертая гадавіна заўчаснае сьмерці мовазнаўцы. Чатыры гады **з** і чатыры **без**. А жыву з адчуваньнем, што з моманту першае сустрэчы й да сёньня спадар Зьміцер побач. Настаўнік. Калега. Адным словам? Я не знаходжу іншага, як сябар.

## Аддаў сэрца за Пухаўшчыну

Увесну 2012 г. я, студэнтка філфаку пэдунівэрсытэту, жалілася суседкам з інтэрнату: рукі сьвярбяць як хочацца да чагосьці прыкласьціся ведамі, быць карыснаю. І неўзабаве, натхнёная, распавяла ім жа, што сустрэла Зьмітра Саўку, чакаю званка.

Мовазнаўцу я спыніла на вуліцы. Ішла з Нацыянальнае бібліятэкі ў бок мэтро й пабачыла Зьмітра Саўку, які ішоў насустрач. Мы разьмінуліся. Я ўжо спускалася ў пераход да мэтро, але нейкая сіла пацягнула назад.

Дагнала: *“Добры дзень! Выбачайце, ці маеце хвіліну? Хачу Вас запытаць”*. *“Добры! Калі ласка!”* — адказаў зацікаўлена ды энэргічна незнаёмаму чалавеку Зьміцер Саўка. Я спытала, як утвараецца клічны склон ад назоўнікаў жаночага роду. Пытаньне гэтае даймала даўно, у той дзень шукала адказу і ў бібліятэцы. Спадар Зьміцер патлумачыў ды пачаў распытваць — хто, адкуль, чым займаюся. Пачуўшы, што я вяскоўка з **Пухаўшчыны** (афіцыйная форма — Пухавіччына), спадар Зьміцер, мама якога з **Івацэўшчыны** (афіцыйна Івацэвіччына), сказаў: *“Маё сэрца належыць Вам”*. Папрасіў правесьці яго да бібліятэкі, бо ня меў шмат часу, але хацеў працягнуць размову. У выніку Зьміцер Саўка спытаў, ці не хачу *папрацаваць на карысьць Радзіме*. Мы абмяняліся кантактамі.

Па нейкім часе спадар Зьміцер падзяліўся, як ягонымі вачыма выглядала нашае знаёмства. Дзеўчына пабачыла дзядзьку з тэлевізара — заманулася тыцнуць пальцам: ці сапраўдны? А яшчэ пазьней ужо прачула матываваў мяне на важны крок: *“Згадайце, як падышлі да мяне знаёміцца на вуліцы. Я ведаю, што для Вас гэта было няпроста. Але здолелі! І варта было!”*

## Пачухаць рукі, зьняць габлюшку


Зьміцер Саўка. 2013 г.

Званка я чакала адразу ж, а праз колькі дзён азвалася першая. Спадар Зьміцер параіў колькі праектаў, да якіх я магла б далучыцца, і пабяцаў мець мяне на ўвазе ў будучыні. А неўзабаве запрасіў паглядзець, як выглядае праца кіраўніка моўнае службы на тэлеканале “Белсат”.

У якасьці афіцыйнага знаёмства прагучаў сказ, які, хоць і разбаўлены досьціпам, зазначыў жыцьцёвыя прыярытэты: *“У мяне чацьвёра дзяцей. Дык хто ў нашай краіне сапраўдны бацька?”* Распытаў, адкуль бацькі, дзяды, спазнаваў на мапе мой моўны радавод. Тады ж, у другую сустрэчу, заўважыў: *“Мяркую, ступень нашага знаёмства ўжо дазваляе мне рабіць Вам моўныя заўвагі”*. З таго моманту Зьміцер Саўка апекаваўся маймі ведамі, я зрабілася ягонаю вучаніцаю. Чым нязьмерна ганаруся.

Раз на тыдзень я пачала прыходзіць дамоў да Зьмітра Саўкі назіраць, як працуе для “Белсату” — кансультуе й рэдагуе, адаптуе на беларускую мову іншамоўныя найменьні, а калі тэрміновых справаў не было — як піша дысэртацыю. Калі ў працы быў няпільны тэкст, *пагрэць* або *пачухаць рукі* (заняцца рэдагаваньнем) спадар Зьміцер прапаноўваў мне, а *зьняць габлюшку* (знайсьці недакладнасьць, запрапанаваць самой выпраўленьне) актыўна заклікаў.

Неўзабаве, увосень таго ж году, мяне пачалі рыхтаваць да працы ў моўнай службе “Белсату”. Іншага шляху, як сядзець побач у часе штодзённых моўных онлайн-вахтаў, бадай, не існавала. Ня бачачы рэальнае працы, я ня здолела б уявіць усяе спэцыфічнасьці службы. Зьміцер Саўка імкнуўся з калегаў зрабіць другога сябе, укласьці ўсё, што ведае сам.

## Як Зьміцер Саўка звадзіў мяне на Парнас

Сьнежань 2012-га, трывала маё стажываньне, з новага году мелася ўліцца ў моўную службу ў поўным фармаце. Спадар Зьміцер запрапанаваў схадзіць на ўрачыстасьць — 5-годзьдзе “Белсату”: пабачыць журналістаў, сябе паказаць.

*“Ці ўважаеце сябе за недастаткова прыгожую?”* — іранізаваў. *“А пайду!”* — ужо навучылася прымаць выклікі я.

Сустрэча пакінула моцнае ўражаньне. Зінаіда Бандарэнка, Генадзь Бураўкін, спрэс людзі з тэлевізара — кожны іскрысты й непаўторны. У такім атачэньні залёгка зьбянтэжыцца.

У праграме ўрачыстасьцяў было раздаваньне дыплёмаў. Адзначылі й моўную службу “Белсату”. Энэргічна падняўся зь месца Зьміцер Саўка, чую: *“Я хацеў бы, каб дыплём атрымала нашая новая працаўніца”.* Паціснулі руку й далі дыплём мне! Не сумняюся, што маё прозьвішча тады ўпершыню пачула бальшыня белсатаўцаў. Памятаю зьдзіўленьне важных асобаў, якія на сцэне ўручалі ўзнагароды. Фармальна я была ўсяго стажысткаю. *“Дзеля пераемнасьці!”* — пракамэнтаваў свой крок спадар Зьміцер.

У інтэрнат тым сьнежаньскім вечарам я вярталася са скарбам. Дзяўчатам сказала, што была на Парнасе.

На наступны дзень зь ліста Зьмітра Саўкі калегам даведалася, што гэта была першая ўзнагарода моўнае службы за час яе існаваньня.

*2012/12/11 Zmicier Sauka*

*Дарагія калегі!*

*[…] На ўрачыстасьці 10 сьнежня моўную службу ўпершыню за 5 гадоў працы адзначылі:*

*Ганаровы дыплом. З нагоды 5-годдзя з дня заснавання першага незалежнага беларускага тэлеканалу “Белсат” узнагароджваецца моўная служба “Белсату” за дэрусіфікацыю і дэсаветызацыю беларускай мовы, за лінгвістычнае выхаванне гледачоў і працаўнікоў “Белсату”.*

*Шчыра дзякую вам усім за сапраўды самаадданую працу!*

У адказ спадару Зьмітру я напісала:

*Спадару Зьмітру! […] Яшчэ ўчора я адчувала і няёмкасьць, і вялікі гонар, безумоўна: дыплём ня толькі ўручылі мне, але і застаўся на захаваньне ў мяне. Цяпер жа, ведаючы, што моўную службу адзначылі ўпершыню, мне няёмка яшчэ больш.*

*Адчуваю шчырую ўдзячнасьць да Вас (выказаць гэта я меркавала ўчора, віншуючы са сьвятам), гонар і адказнасьць у зьвязку з тым, што робіць уласна “Белсат” і моўная служба ў прыватнасьці. А ў тое, што і я цяпер датычная да гэтай агульнай і важнай справы, я яшчэ не да канца веру.*

*2012/12/11 Zmicier Sauka*

*Дзякую за такія і цёплыя, і адказныя словы!*

## Духовы бацька

Я мела эстэтычную праблему, якую праз страшэнную боязь перад стаматолягамі пахавала спадзеў разьвязаць. Вось жа неяк спадар Зьміцер закрануў гэтую тэму. Маўляў, цяпер і нос на лоб прышыюць, дык мне пагатоў няма чаго пераймацца: завядзе да добрае спэцыялісткі, яна нешта параіць.

Да доктаркі пайшлі разам. Не даслоўна за руку, але адчуваньне менавіта такое. У кабінэце Зьмітра Саўку прынялі за майго бацьку: *“Не. ...Толькі калі духовы”*. Размова з дактарамі не была простаю. Працы шмат — і падрыхтоўчай, і асноўнай. Ці ня кіну на паўдарозе? Ці не змарнуюцца высілкі й без таго занятых адмыслоўцаў, калі б я раптам адступілася? *“А вы адразу мне паведамляйце, калі кіне. Я тады Насту на працу ня возьму”*, — сказаў спадар Зьміцер. Дасканала ведаю цяпер і тады разумела, што гэта быў ход-мэтафара, рычаг узьдзеяньня й магутны матыў. Як вярталіся, хацела падзякаваць, але спадар Зьміцер спыніў: ня трэба, ён жа сам выклікаўся, я не прасіла.

За час майго пераўвасабленьня сям’я Саўкаў была гатовая дапамагчы й дапамагала. Наступны раз да доктаркі са мною пайшла жонка, спадарыня Ілона, а на апэрацыю, каб адбылася своечасова, пазычылі грошай. Радаваліся выніку таксама разам. З больніцы па апошніх удасканаленьнях з ужо прыгожай усьмешкай ішла паўз дом Саўкаў: мелася забраць ці аддаць нейкую працоўную паперчыну. Сустрэўшыся ля дому, спадар Зьміцер, здаволены вынікам стараньняў, прасіў падняцца патэлефанаваць скайпам спадарыні Ілоне — паказацца, абрадаваць.

## Бацькаўшчына й маткаўшчына

У 2013-м я канчала ўнівэрсытэт, набліжалася праблема з разьмеркаваньнем. Найперш спадар Зьміцер пайшоў да калегі-мовазнаўцы: параіцца, даведацца тагачасныя тэндэнцыі, чаго варта чакаць. Пасьля рэкамэндаваў мяне да ўдзелу ў Праграме імя Каліноўскага, каб працягнула навуку замест разьмеркаваньня. Аднак, не зважаючы ні на што, я мусіла *аддаць доўг, чэсьць і абавязак Радзіме*. Працы паводле спэцыяльнасьці ў раёне не знайшлося, трэба было шукаць самастойна. Зьміцер Саўка меў ідэю ўладкаваць мяне ў сталіцы, але мне натрапіўся неблагі варыянт у маёй ваколіцы. Я мусіла спалучыць разьмеркаваньне з працай у моўнай службе “Белсату”. Спадар Зьміцер запрапанаваў разам пайсьці да будучай калегі: *“Няма чаго чакаць, я прыеду — пагаворым”*.

Баючыся забіраць сваймі справамі каштоўны час Зьмітра Саўкі, я была настаўленая на хуткае спатканьне. Сустракала з электравіка.

Збачыўшы калегу на пэроне, хуценька рушыла насустрач. Але яшчэ здалёк даў сыгнал, каб не сьпяшалася. Па суседняй каляіне нёсься таварняк: *“Ого колькі вагонаў!”* — і назваў лічбу спадар Зьміцер перш як павітацца. Ішлі нетаропка. Зьміцер Саўка спазнаваў Рудзенск. Затрымаліся на саматужным рынку — што ўрадзіла, за колькі прадаюць. Апавядаў пра Міхася Чарота, сына Рудзеншчыны. Прайшліся паркам: спадар Зьміцер упершыню пабачыў вужа — перапоўз нам дарогу.

Звычайнымі для Зьмітра Саўкі сяброўскім тонам, натуральнаю цікавасьцю да чалавека лёгка прыхіліў да сябе маю будучую калегу. Распавядаў аб працы на канале, чаму яна важная ды што канкрэтна раблю я.

Як вярталіся, я неабачліва заўважыла, што ня маю асаблівых сантымэнтаў да Рудзенску. *“Як?! Гэта ж Вашая бацькаўшчына і маткаўшчына!”* — зьдзіўляўся. Хоць я мела на ўвазе, што атаясьняю сябе з сваймі роднаю вёскай, што пераходзіць у мястэчка, але для мяне гэта два розныя сьветы.

## *“Мае сваё ачараваньне вясковая неўладкаванасьць”*

Неспадзявана мы рушылі ў Астравы, на прапанову спадара Зьмітра. Дарога ў вёску ня моцна цікавая, але Зьміцер Саўка спазнаваў. І я, што звычайна ў такім таварыстве. Прынагодна даведалася, што невялікіх сабакаў ці ня ўся Беларусь называе Жукамі.

Падыходзім да хаты: *“І Вы тут нарадзіліся і ўзгадаваліся!..”* Першага спаткалі ў двары айчыма, яны з мамаю ледзь што вярнуліся з грыбоў. Дасюль зьдзіўляюся, як хутка знайшлося агульнае. Высьветлілася, што бацька Зьмітра Саўкі й бацька айчыма былі зьвязаныя працаю ў адной сфэры. Зачараваная, назірала, як дастае айчым з шафы альбом здымкаў з службы ў флёце: *“Зьмітру паказаць”*. Пазнаёміліся з мамаю: зь першых жа сказаў я й сама пачула дасюль ня знаныя мне эпізоды жыцьця. Гаварылі з мамаю пра мяне, пра вясковыя клопаты. Зазірнуў у мой куток, дзе працую: ці камфортавыя ўмовы? Прайшоўся палеткам, садам — *украў* яблык.

Зьеў дзьве талеркі грыбной юшкі, чым парадаваў маму. Аказалася, Зьміцер Саўка належыць да супчыкавае культуры: *“Памятаеце культуру штрыхаванае керамікі? А я належу да супчыкавае!”*

Я папрасіла айчыма падвезьці нас да вакзалу ў Рудзенск матацыклам. Спадара Зьмітра пасадзілі ў люльку. Радуюся, што ўдалося ўзбагаціць новымі эмоцыямі Зьмітра Саўку ў той нетаропкі дзень у Рудзенску ды Астравох. Цёпла разьвіталіся на пэроне.

## *“Кайфую ад самога жыцьця”*

Восеньскім ранкам 2015 г. перад ад’ездам з краіны я завітала да Зьмітра Саўкі. Надалей працавала ў тым сама фармаце, але абаім шчымела, што зьяжджаю. Тады спадар Зьміцер быццам сьпяшаўся падзяліцца найважнейшым. Сказаў, што жыцьцё цудоўнае, што ён кайфуе ад самога факту існаваньня. Згадаў свой найшчасьліўшы момант: калі дзіця зрабіла першы крок. А жыць варта, казаў, каб дачакацца дня, калі з сваім дзіцем можна паразмаўляць на роўных — зразумець, якога чалавека ўзгадаваў, спазнаваць яго, дарослага.

Наступны раз сустрэліся ў сакавіку 2016-га: моўная служба ўпершыню афлайн сабралася поўным складам — пасядзець за гарбатаю. Што спадар Зьміцер змагаецца з ракам, мы ведалі. Я й каляжанка, негарадзкія, мусілі сысьці першымі. Ужо выходзілі з двара, як калега гукнула: *“Глядзі!”* З вакна за намі назіраў спадар Зьміцер. На разьвітаньне махалі адно аднаму рукамі. Гэта была апошняя сустрэча.

Калега Зьміцер Саўка выходзіў на сувязь і з палаты. Апошні раз гаварылі за некалькі дзён да 9 красавіка, калі яго ня стала. Шараговая рэгулярная праца над памылкамі, а насамрэч — неацэнныя стылістычныя заняткі. У нейкі момант пачула галасы: спадара Зьмітра прыйшлі наведаць. *“Даруйце, мушу спыніць. Да мяне тут дэлегацыя”*, — быццам пачула ўсьмешку ў голасе.

Вычуваю вялікую несправядлівасьць у тым, што гэтак рана сышоў з жыцьця чалавек, які гэтак моцна любіў жыць.

***

Бракуе Зьмітра Саўкі як надзвычай кампэтэнтнага адмыслоўца, як чулага ды імпэтнага калегі, урэшце як чалавека, меркаваньне якога цаніла. *“А што б на гэта Зьміцер Саўка?”* — думаю я ў час, калі сьвет ляціць у балота, калі працую, калі шукаю адказаў.

Дзякуючы спадару Зьмітру я ведаю, што няма ў жыцьці непераадольных складанасьцяў, акрамя тых, на якія чалавек аб’ектыўна ня мае ўплыву. Зьміцер Саўка дапамагаў, не чакаючы просьбы. Калі пачыналі працаваць разам, сказаў аднойчы: *“На каго яшчэ разьлічваць, як не на калег”*.

*2020 год*

*Вакол кнігі*

# ВІНЦЭНТ ГАДЛЕЎСКІ

*У 2018 г. у новазапачаткаванай сэрыі выдавецтва "А. М. Янушкевіч" "Беларускія жыцьцяпісы" выйшла кніга Андрэя Вашкевіча "Вінцэнт Гадлеўскі. Насуперак часу". Кніга, патрэба якой даўно насьпела (гэта датычыцца й выданьня працаў самога кс. Гадлеўскага). Аўтар скарыстаў багата крыніцаў, і друкаваных, і архіўных, у тым ліку напісаных эмігрантамі. Найперш, зразумела, гэта праца Вацлава Пануцэвіча, зьмешчаная ў выдаваным ім часопісе "Беларуская Царква" ў 1965 г. і перадрукаваная ў менскай "Спадчыне" праз трыццаць гадоў, а таксама артыкул з газэты "Бацькаўшчына" А. Пякарскага "Сумная гадавіна (Да дзясятай гадавіны арышту й расстрэлу ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага)"[1].*

*Але, здаецца, аўтар абмінуў яшчэ дзьве публікацыі: адну ў той самай мюнхэнскай "Бацькаўшчыне", а другую ў нью-ёрскім "Беларусе" (дакладна сьцьвярджаць цяжкавата, бо праз прыкрую адсутнасьць у кнізе іменнага паказьніка спасылку на гэтыя тэксты можна было й прамінуць).*

*Першая зь іх, А. З. "Ксёндз Гадлеўскі на фоне гістарычных падзеяў"[2], як і зазначае сам аўтар, — гэта рэзюмэ працы Вацлава Пануцэвіча. А вось другая, цалкам арыгінальная, успамін пра знаёмства з кс. Гадлеўскім Уладзімера Брылеўскага — можа быць цікавай дасьледнікам.*

*У спадзеве быць карыснымі ў пачэснай справе вяртаньня імя ксяндза Гадлеўскага — пры перавыданьні жыцьцяпісу або пры ўкладаньні выбранага ягоных працаў — рэдакцыя "Запісаў" і зьмяшчае вышэйзгаданы ўспамін.*

***Уладзімер Брылеўскі***

## Мае сустрэчы з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім[3]

Пра ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага я чуў, калі яшчэ быў юнаком. Чуў, што ў Жодзішках каталіцкі ксёндз гаворыць казані ў тамашнім касьцёле па-беларуску. У тыя часы, калі амаль усе ксяндзы ў Заход-

[1] Бацькаўшчына. № 51—52 (130—131). 25 сьнежаня 1952. С. 7.

[2] Бацькаўшчына. № 5 (632). Жнівень — верасень 1965. С. 5, 7.

[3] Беларус. № 273. Студзень 1980. С. 4.

няй Беларусі — Палякі або апалячаныя Беларусы — гаварылі казані і адпраўлялі дадатковыя багаслужбы вылучна па-польску, гэта было нязвычайным і рабіла моцнае ўражаньне. Я тады нават ня мог падумаць, што праз некалькі гадоў лёс прывядзе мяне ў Жодзішкі, і мне давядзецца там прымаць у сябе ксяндза Гадлеўскага. Але пра гэта ніжэй.



Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі

Пра нацыянальна-палітычную дзейнасьць кс. Гадлеўскага я ведаў у трыццатых гадох у Варшаве, чытаючы віленскі беларускі друк, у тым ліку й газэту кс. Гадлеўскага — "Беларускі Фронт"[4]. Там-жа я пачуў, што за гэтую дзейнасьць польскія ўлады кс. Гадлеўскага арыштавалі й пасадзілі ў турму. Я тады ўявіў кс. Гадлеўскага як вялікага патрыёта й непахіснага нацыянальнага дзеяча-змагара. Пра далейшы лёс кс. Гадлеўскага я тады нічога ня ведаў.

Аж увосені 1941 году я даведаўся, што галоўным інспэктарам беларускіх школаў у Генэральным Камісарыяце Беларусі зьяўляецца кс. Вінцэнт Гадлеўскі. На пачатку 1942 году ён прыехаў у Смургоні, дзе я тады працаваў у беларускай самаўрадавай раённай адміністрацыі, зьвізытаваць беларускія школы ў Смургонскім раёне й затрымаўся ў мяне. Падчас вячэры высокі госьць расказаў мне шмат цікавых фактаў із свайго жыцьця й дзейнасьці; пра той пэрыяд часу, калі ён быў пробашчам у Жодзішках, дзе цярпеў перасьледваньне з боку польскай паліцыі; пра спробу правакацыі гэтай паліцыі, калі яна прыслала да яго ведамага спартовага чэмпіёна Кэпэля, Беларуса, які "паведаміў", што *"прадстаўнікі нямецкіх уладаў хочуць зь ім спаткацца ў Гданску"*; пра тое, як быў польскімі ўладамі арыштаваны й пасаджаны ў турму на Макатове ў Варшаве; пра свой пераход савецка-нямецкай граніцы разам з д-рам Янкам Станкевічам, ведамым беларускім пісьменьнікам-драматургам Францішкам Аляхновічам (якога нямецкія ўлады не прапусьцілі) і іншымі асобамі, якія ўцякалі ад бальшавіцкіх "вызвольнікаў", ратуючы ня толькі сваю свабоду, але й жыцьцё.

[4] **"Беларускі фронт"** — незалежная народна-радыкальная газэта, якая выдавалася ў Вільні ў 1936—1939 гг. пад рэдакцыяй кс. Вінцэнта Гадлеўскага.

На другі дзень адбылася скліканая раённым школьным інспэктарам Янчуковічам настаўніцкая канфэрэнцыя, на якую кс. Гадлеўскі запрасіў і мяне. У гэты самы дзень заехалі да мяне па дарозе ў Вялейку начальнік суседняга Ашмянскага раёну Юстын Мурашка і ягоны заступнік мгр. Часлаў Найдзюк, які меў даўжэйшую гутарку з кс. Гадлеўскім.

Улетку 1942 году я арганізаваў ладжаньне Дня Беларускай Культуры ў Жодзішках, дзе кс. Гандлеўскі калісь, у міжваенным пэрыядзе, будучы пробашчам, вёў душпастырскую працу ў роднай мове сваіх парахвіянаў і пакінуў па сабе добрую й доўгатрывалую памяць. І ў мяне тады зарадзілася думка паехаць у Менск і асабіста запрасіць на гэтую імпрэзу кс. Гадлеўскага, што я й зрабіў. Кс. Гандлеўскі адразу з радасьцяй прыняў мае запросіны, але яму трэба было атрымаць згоду кіраўніка Аддзелу школьных справаў нямецкага Генэральнага Камісарыяту Беларусі Сівіцы[5]. Дык кс. Гадлеўскі запрапанаваў мне пайсьці разам зь ім да яго ў гэтай справе. Ісьці было недалёка, бо толькі цераз Пляц Свабоды на другі ягоны бок. Сівіца, малога росту Немец зь Сілезіі, якога прозьвішча гаварыла пра ягонае славянскае паходжаньне, у параўнаньні з імпазантнай высокай фігурай кс. Гадлеўскага выглядаў вельмі сьціпла. Ён ня толькі даў сваю згоду, але й сам, чаго мы зусім не спадзяваліся, выказаў жаданьне паехаць у Жодзішкі. Гэтая ягонае нечаканае жаданьне ні кс. Гадлеўскаму, ні мне ня было даспадобы. Кс. Гадлеўскі й Сівіца сказалі, што яны прыедуць цягнікам у Смургоні, дзе я павінен іх спаткаць і прывезьці ў Жодзішкі.

У вызначаны дзень (даты ня памятаю) я із сваім блізкім супрацоўнікам Аляксандрам Сіўцом (які пазьней, у 1943 годзе, быў замардаваны польскімі партызанамі падчас іхнага нападу на Жодзішкі) паехалі канём, запрэжаным у брычку, на чыгуначную станцыю ў Смургонях іх спаткаць. Але яны, а разам зь імі таксама б[ылы] рэдактар-выдавец віленскага беларускага часапісу “Шлях Моладзі” й культурна-асьветны працаўнік Язэп Найдзюк, прыехалі ў Смургоні самаходам, дзе мы іх й спаткалі. Ад Смургоняў да Жодзішак ехалі самаходам 25 кілямэтраў на поўнач уздоўж прыгажуні Вяльлі грунтавой пяшчанай дарогай цераз рэдкія там вёскі, палі й сасновыя пералескі. Быў цудоўны летні сонечны дзень, і цішыня навокал, так як-бы й ня было вайны. Малое мястэчка Жодзішкі, а паводля Беларускай савецкай Энцыкляпэдыі вёска (794 жыхары, двароў 276, 1971 г.) у Смургонскім раёне стаіць на высокім правым беразе Вяльлі. На правым, паўдзённа-ўсходнім баку мястэчка ўзвышаюцца два белыя імпазантныя будынкі — барочнага стылю пры-

5 **Ёжэф Сівіца**, сілезкі немец, які з кастрычніка 1941 г. узначальваў Школьны інспектарат у Генэральным камісарыяце Беларусь, а з кастрычніка 1942 г. таксама кіраваў Выдавецтвам школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі і фактычна выконваў функцыю цэнзара друкаваных кніг.

гожы касьцёл і масыўны тоўстасьценны палац замкавага тыпу, у якім калісь месьціўся кляштар і езуіцкая школа рыторыкі (у другой палавіне 16-га стагодзьдзя), якая рыхтавала змагароў супраць Рэфармацыі на Беларусі. Дарога на правы бераг Вяльлі йдзе цераз высокі драўляны мост на ёй. Палі жыхароў Жодзішак ляжалі на левым беразе Вяльлі. Калі польскія партызаны падчас нападу на Жодзішкі ўлетку 1943 г. спалілі гэты мост, дык яны гэтым зрабілі вялікую шкоду ня Немцам, бо ён стаяў не на галоўнай дарозе, па якой яны езьдзілі, а толькі жыхарам Жодзішак, якія былі змушаныя пасьля нападу перавозіць яравое збожжа й бульбу (жыта ўжо было зьвезенае) цераз раку ў чоўнах.

Тут пры нагодзе хачу сказаць, што ў кнізе Я. Малецкага[6] “Пад знакам Пагоні”, не адмаўляючы шмат каштоўнасьці й карыснасьці ў цэлым, апісаньне нападу на Жодзішкі, на жаль, ня зусім праўдзівае. Ну, але гэта ўжо іншая тэма. Прыехаўшы ў Жодзішкі, кс. Гадлеўскі першым чынам зайшоў на плябанію і атрымаў згоду мясцовага ксяндза (якую той даў вельмі неахвотна) на тое, што заўтра ён будзе служыць галоўную імшу (суму) у касьцёле. Вестка, што ў Жодзішкі прыехаў кс. Гадлеўскі й будзе служыць у касьцёле, вельмі хутка разьнеслася (ніжэй падпісаны гэтаму садзейнічаў) па ўсёй парахвіі.

На другі дзень (гэта была нядзеля) раніцай да кс. Гадлеўскага, які начаваў у мяне, прыйшла сустрэцца зь ім і пагутарыць група мясцовых парахвіянаў на чале з б[ылым] ягоным арганістам Тамашом Трызнам, якога пазьней, падчас нападу на Жодзішкі, замардавалі польскія партызаны. Багаслужба ў касьцёле, якую вельмі ўрачыста правіў кс. Гадлеўскі, пачалася раніцай а 10-й гадзіне. На арганах іграў Тамаш Трызна, які перад пачаткам імшы (літургіі) узышоў на хоры й рашуча сказаў арганістаму Паляку: *“Адыдзі ад арганаў! Сяньня я йграю”*. Касьцёл быў перапоўнены вернікамі, якія сьпявалі беларускія рэлігійныя песьні, якіх калісь навучыў іх кс. Гадлеўскі. Ён сказаў прачулую казань, у якой успомніў той пэрыяд часу, калі ён быў пробашчам у Жодзішках. Пасьля службы ў касьцёле Сівіца ў прыватнай гутарцы за сталом у прысутнасьці кс. Гадлеўскага з выразным намерам яго “ўкалоць”, хоць і называў яго беларускім нацыяналістым, даволі зьдзекліва-крытычна выказаўся пра каталіцкую Царкву й каталіцкіх сьвятароў, называючы іх *“чорным інтэрнацыяналам”*.

Па паўдні вялікая заля Жодзіскага палацу, у якім тады месьцілася беларуская Раённая Ўправа, запоўнілася людзьмі. Ніжэй падпісаны, прывітаўшы кс. Гадлеўскага й гасьцей зь Менску, ягоных

---

[6] **Язэп Малецкі** (1906—1982), грамадзкі дзеяч. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, быў адным з актыўных сябраў Беларускага студэнцкага саюзу. Падчас акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі. Пасьля вайны — на эміграцыі. З 1950 г. жыў у Аўстраліі, дзе быў адным зь лідараў беларускай дыяспары.

спадарожнікаў, адчыніў сьвяткаваньне Дня Беларускае Культуры. З гарачай патрыятычнай прамовай выступіў кс. Гадлеўскі, пасьля якой пачаўся канцэрт дзявоцкага хору, які пад кіраўніцтвам Тамаша Трызны выканаў шмат беларускіх народных песьняў у гарманізацыі ведамых беларускіх кампазытараў. Мясцовыя музыканты адыгралі шэраг мэлёдыяў беларускіх народных танцаў. Пасьля канцэрту й дэклямацыі патрыятычных вершаў беларускіх паэтаў сп-чнай Лёнгінай Захаркевіч[7] была пастаўленая працаўнікамі Раённай Управы п'еса, назову якой, на жаль, ня памятаю. Служба ў касьцёле кс. Гадлеўскага і ягоная казань і прамова, а таксама й сьвяткаваньне Дня Беларускае Культуры, хоць і сьціплае, пакінулі сярод жыхароў Жодзішак і навакольных вёсак глыбокае, незабыўнае ўражаньне, Язэп Найдзюк неўзабаве зьмясьціў аб гэтым даўгі рэпартаж у віленскім "Беларускім Голасе" пад загалоўкам "Будзе доля, свабода й воля".

Ксёндз Гадлеўскі перад ад'ездам із Жодзішак даў мне з мэтай перадачы мясцоваму ксяндзу Чаплоўскаму[8] беларускую багаслужэбную кнігу з казанямі з тым, каб я зажадаў ад яго, каб ён гаварыў казані й службы ў касьцёле па-беларуску. Кс. Чаплоўскі, хоць і ня прысланы з Польшчы Паляк, а напэўна апалячаны Беларус, быў польскім шавіністым і закаранелым ворагам беларушчыны. Ягоныя парахвіяне казалі мне, што пасьля прыходу Немцаў у 1941 годзе ён доўга гаварыў у касьцёле: *"Дзякаваць Богу, што скончылася беларуская ўлада"* і служыў багаслужбы ўдзячнасьці за вызваленьне ад яе. Беларускай уладай ён тэндэнцыйна называў савецкую ўладу на Беларусі! У гутарцы зы мной і маім заступнікам Альфонсам Шутовічам, калі мы зажадалі ад яго, каб ён гаварыў казані па-беларуску, кс. Чаплоўскі спачатку ўпорыста адмаўляўся, матывуючы сваю адмову тым, што ў нейкім там сьпісе, выдадзеным кагадзе Ватыканам, у якім пералічаліся мовы, на якіх можна гаварыць казані й правіць дадатковыя багаслужбы ў каталіцкіх сьвятынях, беларускай мовы няма, хоць ёсьць розныя іншыя, навет афрыканскія мовы. Тады Альфонс Шутовіч, чалавек прасталінейны, спытаўся ў яго, як кажуць, проста з мосту, чаму ён у сваім рапарце Віленскаму біскупу Райнісу[9] назваў нас (г. зн. Шутовіча і мяне) "камуністымі".

---

[7] **Лёнгіна Брылеўская** (дзяв. **Захаркевіч**, 1923—2008), грамадзкая дзяячка, жонка Ўладзімера Брылеўскага. Працавала ў Рызе ў часопісе "Новы Шлях". У 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1948 г. — у ЗША. Была старшынёй аддзелу Аб'еднаньня беларускіх жанчын у Саўт-Рывэры (1951—1952). Адна са стваральніц Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

[8] **Павал Чаплоўскі** (1896—1943), каталіцкі сьвятар. У часе нямецкай акупацыі быў пробашчам парафіі Найсьвяцейшай Тройцы ў Жодзішках.

[9] **Мечыслаў Рэйніс** (лат. *Mečislovas Reinys,* 1884—1953), латыскі дзяржаўны й рэлігійны дзеяч, рыма-каталіцкі біскуп з 1926 г.

Гэта была выпрабаваная тактыка польскіх шавіністых у нішчэньні беларускага нацыянальнага актыву. Справа ў тым, што пра гэты ягоны рапарт-данос сказаў Альфонсу Шутовічу ксёндз Адам Станкевіч, якому пра яго сказаў сам біскуп Райніс (Лятувіс). Ксёндз Чаплоўскі страшэнна зьбянтэжыўся й прамармытаў: *“Якім цудам вы ведаеце, што я пісаў у сваім рапарце маім духоўным уладам?”* і сказаў, што ў яго няма ніякай багаслужбовай кнігі на беларускай мове. Трэба адцеміць, што гаварыў ён з намі добрай беларускай мовай. І вось у гэты мамэнт я даў яму кнігу, пакінутую кс. Гадлеўскім. Пасьля нашай зь ім гутаркі ён пачаў служыць дзьве імшы: адну (галоўную), так, як мы дамагаліся, для Беларусаў, а другую — для жменькі мясцовых палякаў і тых, якія сябе імі ўважалі. Кс. Чаплоўскаму, аднак, гаварыць беларускіх казаняў вельмі не хацелася, і ён хутка перадаў гэтую функцыю свайму маладому вікараму, які гаварыў казані па-беларуску вельмі добра.

У канцы сьнежня 1942 году, уначы на чыгуначнай станцыі ў Вільні, дзе я чакаў цягніка на Маладэчна, адзін знаёмы Беларус, які прыехаў зь Менску, перадаў мне сумную вестку, што кс. Гадлеўскага арыштавала нямецкае СД. На ўсіх Беларусаў, якія ведалі ці чулі пра кс. Вінцэнта Гадлеўскага, вестка гэтая падзейнічала страшэнна прыгнятальна. Немцы, якія кс. Гадлеўскага неўзабаве замардавалі, пусьцілі тады хлусьлівую чутку, што яны яго быццам перавезьлі на працу ў Рыгу. Ксёндз Гадлеўскі быў перасьледаваны польскімі ўладамі, ратуючыся ад няўхільнага арышту бальшавікамі, пакінуў бацькаўшчыну, а зьнішчылі яго Немцы. Так загінуў вялікі беларускі патрыёт і змагар, які стаўся мучанікам за нацыянальную справу. Ён быў аднэй зь вялікіх ахвяраў, якія злажыў беларускі народ у Другую сусьветную вайну. Вечная Яму памяць!

*Падрыхтоўка да публікацыі, прадмова й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

# ДА ГІСТОРЫІ “ГІСТОРЫІ...”

У 1990-я гг. да беларускага чытача пачала вяртацца свая гісторыя. Яна прыходзіла ў перавыданьнях Усевалада Ігнатоўскага (“Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”, 1991), Вацлава Ластоўскага (“Кароткая гісторыя Беларусі”, 1993), Язэпа Найдзюка (“Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі”, 1993).

Праўда, апошнюю кнігу аднесьці да кнігаў-вяртаньняў можна толькі ўмоўна. Так, у 1943 г. у Менску надрукавалі другое, пашыранае выданьне кнігі Найдзюка пад такім назовам. Але на вокладцы менскай кнігі 1993 г. пазначаны не адзін, а два аўтары: Язэп Найдзюк і Іван Касяк.

На пачатку 1990-х гг. мала хто чуў у Беларусі гэтае імя — Іван Касяк, наўрад ці хто гартаў тады ягоныя працы: “З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу” (Нью-Ёрк, 1956), “За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі” (1960), *“Byelorussia: historical outline”* (London, 1989).

Напэўна, і пра Язэпа Найдзюка было ведама не нашмат болей, асабліва ўлічваючы ягонае паваеннае жыцьцё ў Польшчы пад імем Юзафа Александровіча. Таму бадай ніхто ў той час ня мог ацаніць вынясеньне на вокладку аднае кнігі гэтых дзьвюх імёнаў — такі сабе гістарычны аксюмаран.

Пра кнігу Язэпа Найдзюка Юры Туронак пісаў: *“Яна мела характар навукова-папулярнай працы, прызначанай для нацыянальнай адукацыі інтэлігенцыі і старэйшай моладзі, у прыватнасьці, для вучняў настаўніцкіх сэмінарыяў. Параўнальна аб’ёмістая кніга (звыш 300 старонак) не рыхтавалася насьпех — над ёй аўтар працаваў яшчэ ў Вільні, дзе ў 1940 г. выдаў аднайменную кніжку і ў 1941—1942 гг. закончыў апрацоўку яе новага варыянту, які ад пачатку 1942 г. друкаваўся ў «Голасе Вёскі»”*[1].

Рэцэнзію ж на Касякову кнігу “З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу” пад назовам “У палоне нянавісьці” айцец Леў Гарошка заканчвае наступна: *“Характэрна, што кніга Касяка выйшла ў выданьні Беларускае Цэнтральнае Рады. Усё-ж як-ніяк гэта беларуская ўстанова, якая мае немалыя прэтэнзіі і ўмяшала сябе ў гэткую ганебную пісаніну. Зь дзейнасьці пазнаецца і самую ўстанову”*[2].

Зразумела, што Язэп Найдзюк, які ў сваёй прадмове да другога выданьня дзякаваў рэдактару Антону Адамовічу, што пераглядаў і рабіў

[1] Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2008. С. 339.

[2] Божым Шляхам. № 70—75. Студзень — сьнежань 1956. С. 80.

папраўкі да кнігі, тоб то зь лягеру БНР, у страшным сьне ня мог сабе прытрызьніць суаўтарства, супрацоўніцтва з БЦРаўскім бокам. І тым ня менш гэтак сталася.

Дык што за кніга прыйшла да беларускага чытача ў 1993 годзе? З пасьляслоўя да яе доктара Анатоля Грыцкевіча гэтага зразумець нельга.

А вось што паведамляла газэта “Беларус” у 1992 г.: *“Нядаўна зьявілася ў продажы запачаткаваная больш за дваццаць гадоў таму кніга Івана Касяка “Беларусь. Гістарычны нарыс”. Складаецца яна зь перакладу ў ангельскую мову працы Язэпа Найдзюка “Беларусь учора і сяньня (Менск, 1943) (разьдзелы I—XXIX) і разьдзелаў, напісаных І. Касяком (XXX—XXXX), якія ахопліваюць паваенны пэрыяд аж да сярэдзіны 1970-х гадоў. Выданьне ілюстраванае, на добрай паперы, мае бібліяграфію, слоўнічак асабістых і геаграфічных імёнаў па-беларуску, па-ангельску, па-расейску, па-польску і па-летувіску ды паказьнік прозьвішчаў і назоваў”*[3].

Гаворка ішла пра *“Byelorussia: historical outline”*.

Толькі адказаўшы на пытаньне, што за кніга пабачыла сьвет у Менску ў 1993 г., выявілася, што пытаньняў адно пабольшала.

Гэта быў пераклад з ангельскамоўнага выданьня ці ў рэдакцыю “Навукі і тэхнікі” трапілі беларускамоўныя рукапісы-арыгіналы?

Калі пераклад — хто яго аплочваў? Калі беларускамоўныя рукапісы — хто іх перадаў? Напэўна, гэты чалавек — з эмігрантаў, меў доступ (ці выконваў волю памерлага на той час Касяка) да архіваў.

І вось паўстае ці ня самае важнае пытаньне: дзе тыя архівы? Бо як убачыць чытач зь ліставаньня, што публікуецца ніжэй, аўтарам кнігі быў ня толькі Касяк (Іван Іванавіч, як яго называлі на эміграцыі — пэўна, адзінага імем і імем па бацьку). Да стварэньня працы спрычыніліся, сярод іншых, і Радаслаў Астроўскі, і Іван Ермачэнка. Гэтыя людзі не былі гісторыкамі, а таму напісаныя імі разьдзелы — няведама, наколькі яны былі скарыстаныя пры канчатковай падрыхтоўцы кнігі — важныя найперш не гістарычным аналізам, а сваімі мэмуарнымі складнікамі. Знайсьці ўспаміны гэтых дзеячаў — ці ня мара любога дасьледніка?!

Пытаньні на будучае. Але тым часам можна ня толькі агучыць іх, але й выдрукаваць ліставаньне, датычнае працы над ангельскамоўнай гісторыяй Беларусі — тады яшчэ не як працы Івана Касяка, а перакладу кнігі Язэпа Найдзюка з дадаткамі й дапаўненьнямі, над якімі працаваў немалы калектыў (і веданьне гэтага факту дадае яшчэ адное пытаньне: колькі ў Касяковай частцы — уласна Касяка?).

Лісты паходзяць з архіву Леаніда Галяка й захоўваліся ў прыватным архіве др. Янкі Запрудніка.

[3] Беларус. № 395. Лістапад 1992. С. 5.

14 лютага 1964 году

Сп. [Міхась] Сенько!

Перасылаю на Вашае імя, прачытаеце і перадасьце далей у К[ангрэсавы] К[амітэ]т.

З пашанаю, Я[ўхім] К[іпель]

Кангрэсаваму Камітэту.

Вашая пастанова аб выданьні гісторыі Беларусі на ангельскай мове вельмі добрая. Але выдаць гэта яшчэ ня ўсё — трэба яе добра напісаць. З самага пачатку Вы ўжо ставіце пытаньне няправільна: Вы хочаце давесьці, што беларускі народ ёсьць апрычоная нацыя. Гэта бадай што лёгка давесьці нават біохімічным складам крыві беларуса. У гэтай галіне зроблены вялікія досьледы адносна ўсіх нацыяў, у тым ліку і беларусаў.

Вы выпускаеце з погляду, што самастойную дзяржаўнасьць маюць ня толькі апрычоныя нацыі, такую дзяржаўнасьць маюць і аднамоўныя нацыі.

Вось к прыкладу Аўстрыя — гэта па мове немцы, але дзяржава самастойная. Бэльгія — па мове французы, Канада і ЗША — па мове ангельцы. Гэтых фактаў нельга ігнараваць пры пісаньні беларускай гісторыі. У нашай гісторыі падобных фактаў нельга ўнікнуць, ім трэба даваць адпаведнае тлумачэньне.

Вы пішаце, што будзе складзена аўтарытэтная камісія, цікава, хто ўвойдзе ў склад гэтае камісіі? Мы не бачым навукоўцаў пры Кангрэсовым Камітэце.

Калі стаіць пытаньне аб [Радаславе] Астроўскім, дык яго можна запрасіць, толькі вядучай ролі яму ня трэба даваць, бо ён не навуковец, а палітычны дзеяч. У працэсе свае палітычнае дзейнасьці [Радаслаў] Астроўскі многа папсаваў нацыянальнай справе. У рэзалюцыі Другога Усебеларускага Кангрэсу дзякуючы яго інтрыгам устаўлена прыпіска: *“Рада на чале з Р. Астроўскім”*. Навошта гэта? [Радаславу] Астроўскаму даверылі выданьне матар’ялаў Другога Кангрэсу, а ён іх сфальшаваў: увёў тэрмін *“гаспадар”*. Тэрмін *“гаспадар”* на Кангрэсе ніхто не ўжываў і ў нашай гісторыі тэрмін *“гаспадар”* ня тое азначае, што *“спадар”*.

Мала гэтага: на надворнай вокладцы матар’ялаў Кангрэсу ён напісаў — *пад рэдакцыяй праф. Астроўскага*. Нават Гітлер і Сталін не рэдагавалі пастановаў зьезду народных прадстаўнікоў. З гэтага мы робім вывад, што [Радаслаў] Астроўскі гісторыі ня ведае. Ён, можа, ведае тыя факты, якія напісаны ў расейскіх або польскіх падручніках, толькі пра Беларусь у расейскіх падручніках напісана мала. Пададзім прыклад: у расейскіх падручніках напісана, што маскоўскі цар Барыс[4]

[4] **Барыс Гадуноў** (рас. *Борис Годунов*, 1551—1605), баярын, швагер Фёдара І Іванавіча, у 1587—1598 гг. фактычны кіраўнік Маскоўскай дзяржавы, з 1598 г. расейскі цар.

заваеваў горад Смаленск, але нідзе не напісана, што ён узяў горад з дапамогаю казанскіх татараў.

Другі факт: калі Гедымінічы перайшлі ў каталіцтва і ўжо арыентаваліся на Варшаву, дык Масква праз сваіх паслоў прапаноўвала Вільні абраць на літоўскі пасад маскоўскага праваслаўнага князя і захаваць Літву праваслаўную. Цяпер аб гэтым расейцы нідзе не ўспамінаюць.

У падручніку трэба напісаць, што Беларусь як апрычоную краіну прызнаваў і царскі ўрад: на Беларусі было асобнае, не такое, як у Расеі, землекарыстаньне. Законы, выдадзеныя для Расеі, не падыходзілі да Беларусі, таму ў беларускіх судох часта карысталіся звычаёвым правам альбо артыкулам зь Літоўскага статуту. У суд часта паклікалі перакладчыкаў зь беларускае мовы на расейскую. Што-ж датычыць вызвольнага руху ў часе рэвалюцыі, дык ён быў вельмі шырокі, ён выходзіў за рамкі Першага Кангрэсу і розных Радаў. Знайсьці матар’ял у ньюёрскай бібліятэцы пра гэты рух можна.

Падручнік [Язэпа] Найдзюка ня дрэнны, яго можна ўзяць за аснову. З нашага гледжаньня ў гэтую справу трэба ўцягнуць і крывіцкую інтэлігенцыю, а калі будзе зроблена добра, дык грошы на выданьне зьбяром.

З пашанаю, Я[ўхім] Кіпель

PS. Толькі друкаваць трэба не Адамовічавым правапісам.

14 сакавіка 1964 г.

Паважаны Гаспадару [Леанід Галяк]:

Пасьля прачытаньня гісторыі Беларусі Я[зэпа] Найдзюка ў мяне стварылася своеасаблівае ўражаньне: Мова аўтара ня толькі папулярная, мясцамі яна зусім простая. І калі-б гэткая мова асталася ў ангельскім тэксьце, дык бязумоўна публікацыя не асягнула-б свае мэты. Адзіная надзея астаецца, што перакладчык-прафэсар зьмест сказу апране ў вытрыманую хворму ангельскае мовы культурных людзей. Праўдападобна інж. [Іван] Касяк у адпаведным часе будзе аб падобным гаварыць зь перакладчыкам. (Наагул-жа было-б болей разумным, калі-б можна было знайсьці адпаведнага чалавека і з часам, які-б мог заняцца апрацаваньнем добрага, з навуковым падыходам, тэксту.)

Некаторыя выражэньні, якія адносяцца да жыдоў, павінны быць выэлімінаваныя: на бач.бач. 174, 186, 213, 220, 223, 224, 225, 229, 230. Бач. 250-я павінна быць перапрацаванай. Мова пра Бэрлін у гэткім сэнсе, як у кніжцы, учыніць непажаданае ўражаньне на англамоўным чытачу. Бязумоўна, апошні XXX разьдзел мусіць быць выкінуты.

Дзеля хутчэйшае ўзаемнае інфармацыі копію ліста перасылаю гаспадару [Івану] Касяку.

Праўдзіваю прыемнасьцю для мяне было спаткаць Вас асабіста мінулай нядзелі ў Саўт Рывэры. Шкада толькі, што ня меў я нагоды

гаварыць з Вамі адносна беларускае мовы перакладу бібліі Я[на] Станкевіча.

Прымеце словы пашаны.

Ваш Ян Пятроўскі

1 красавіка 64.

Паважаны Іван Іванавіч [Касяк]!

Паведамляю, што атрымаў адказ ад Р[адаслава] Астроўскага, у якім ён паведамляе, што скончыць пераклад кнігі Я[зэпа] Найдзюка паміж 20 і 25 красавіка. У лісьце сваім, аднак, Р[адаслаў] Астроўскі нічога не ўспомніў пра просьбу аб напісаньні дадатку да гісторыі [Язэпа] Найдзюка. Цяпер я ня ведаю, што рабіць — ці гэтая справа ўжо раней была абгаворана і пастаноўлена і дзеля гэтага я не атрымаў адказу, ці гэта недагляд? Пісаць ізноў да [Радаслава] Астроўскага ці не?

З пашанаю, Л[еанід] Галяк

24.4.64. *Stamford*

Паважаны Іван Іванавіч [Касяк]!

Ліст з дн[я] 23 кр[асавіка] 1964 г[ода] атрымаў. Кнігу Вакара[5] звярочываю. Я ўжо атрымаў ад п[ана] Астроўскага ягоныя заўвагі да тэксту кніжкі [Язэпа] Найдзюка, праэктаваны п[анам] Астр[оўскім] уступ да перакладу пад загал[оўкам] “Этнаграфічны нарыс Беларусі”, пасьля гэтага нарысу п[ан] Астроўскі лічыць, што павінны быць пададзены артыкул у ангельскай мове *“Confusion in English terminology”*[6] — гэты артыкул быў выданы ў Англіі. Пан Астроўскі прапануе выкінуць, паміж іншым, увесь разьдзел аб Грамадзе (стар. 19—200) і замест гэтага ўлучыць манаграфію аб Грамадзе ягонага аўтарства — 34 старонкі машынапісу (які я атрымаў). Апрача гэтага п[ан] Астр[оўскі] прапануе зьвярнуцца да др. [Івана] Ермач[энкі] дзеля апісаньня ім 1941—1943. Гэтак у скароце прапанова п[ана] Астроўскага.

Сход склікаць трэба, я думаю, што Нью Ёрк будзе дзеля гэтага цалком адпаведным. Чакаю на прапанову, калі і каго запрасіць. Мне здаецца, што др. [Яну] Пятр[оўскаму] бліжэй у Нью Ёрк, мне таксама, а ты там жывеш.

Увагаў [Радаслава] Астроўскага не высылаю табе, каб яшчэ па дарозе не загінулі. Цікава фатыгаваць др. [Яна] Пятроўскага.

З пашанай, Л[еанід] Галяк

---

[5] Маецца на ўвазе кніга: Vakar, Nicolas. Belorussia: The Making of a Nation. A Case Study. Cambridge, Mass., Harvard Univ. Press, 1956. 297 p.

[6] Маецца на ўвазе артыкул: Ostrowski, W. “Russian” confusion in English terminology. “White Russians” and “Russian Whites” // Аб’яднаньне. № 4. Лёндан, 1958. Тэкст друкаваўся таксама асобнымі адбіткамі ў 1958, 1961, 1964, 1967 гг.

29 красавіка 1964 г., Бруклін

Паважаны Леанід Іванавіч [Галяк]!

Дзякую за кнігу Вакара і за ліст з дня 24 красавіка.

Прапановы сп. Р[адаслава] Астроўскага трэба будзе разважыць на паседжаньні Рэдакцыйнай Камісіі, як і прапановы іншых сяброў Камісіі, датычна тэксту кніжкі [Язэпа] Найдзюка. З паседжаньнем Камісіі можа лепш трохі пачакаць, хіба ня ўсе сябры прыслалі свае прапановы. Я таксама рыхтую прапановы і поўнасьцю яшчэ не гатоў. Добра было-б, каб і твае прапановы былі гатовыя да паседжаньня.

Як ведаеш, у склад Камісіі ўваходзяць: сп.сп. Л[еанід] Галяк, Р[адаслаў] Астроўскі, І[ван] Ермачэнка, І[ван] Касяк, прат. М[ікалай] Лапіцкі і пр. І[ван] Пятроўскі. Усіх сяброў належыць трактаваць роўнарадна, прасіць іх аб заўвагах, запрашаць на паседжаньні Рэдакцыйнай Камісіі і г. д. Здаецца, што ты не прасіў усіх сяброў аб заўвагах да тэксту кнігі [Язэпа] Найдзюка. Калі не, то трэба было-б гэта зрабіць, хаця трохі і спозьненым парадкам. Між іншым, каб трохі падлатаць гэты недагляд, я прасіў пісьмова прат. М[ікалая] Лапіцкага аб ягоных заўвагах да кнігі.

Прыпушчальна, усе сябры Камісіі падтрымаюць прапанову сп. Р[адаслава] Астроўскага, каб прасіць д-ра І[вана] Ермачэнку аб апісаньні ім падзеяў на Беларусі з 1941—1943. Будзе добра, калі фармальна напішаш яму аб гэтым. Значна раней, бо яшчэ да стварэньня Рэдакцыйнай Камісіі, я камунікаваўся з д-рам [Іванам] Ермачэнкам па гэтай самай справе, але ён адмовіўся пісаць, згаджаючыся абмежаваць свой удзел да запазнаньня з прыгатаваным матар’ялам і заўвагамі да яго. Можа, цяпер ён інакш патрактуе свой удзел.

Я загляну да цябе на днях, каб прадыскутаваць некаторыя праблемы рыхтаваных матар’ялаў.

З пашанай, [Іван Касяк]

26 лістапада 1964 г., Бруклін

Глыбокапаважаны Радаслаў Казіміравіч [Астроўскі]!

Дзякую за Ваш ліст і далучаны матар’ял д-ра [Івана] Ермачэнкі. Матар’ял вельмі добры, і ён уключаны ў адпаведнае мейсца кнігі [Язэпа] Найдзюка.

Амаль палова перакладу кнігі [Язэпа] Найдзюка ўжо атрымана. Рэшта хутка будзе гатовая.

У сувязі з адсутнасьцяй у нас зараз грошай на друк, хочам спрабаваць знайсьці амэрыканскае выдавецтва, якое захацела-б узяць публікацыю і распаўсюджваньне кнігі на свой кошт і рызыку. Але з выдавецтвамі можна гутарыць тады, калі будзем у стане прадставіць ім поўны матар’ял для публікацыі. Таму прыйдзецца ўстрымацца

з адданьнем часткамі свайму друкару. Калі амэрыканскае выдавецтва не захоча друкаваць, то прынатужымся самі фінансава і кнігу канешне выпусьцім у сьвет.

Прашу вас, па магчымасьці, уплынуць на сп. [Івана] Ермачэнко па справе прысьпяшэньня ім працы.

З глыбокай пашанай, [Іван Касяк]

14 сьнежня 1964 г., Массільлён

Сакратару камісіі гасп. Леваніду Галяку,

Копія інж. Касяку.

Паважаныя Сябры,

Перасылаю пры гэтым Вам матар’ял, падабраны мною для дапаўненьня кніжкі [Язэпа] Найдзюка разьдзелам аб нямецкай акупацыі Беларусі ў гадох 1941—1944. Ці гэты матар’ял адпавядацьме вымогам камісіі, мне цяжка сказаць, бо-ж фактычна камісія ані разу не магла сабрацца ў поўным складзе ад пачатку яе паклісканьня.

Часьць матар’ялу напісана ў беларускай мове, частка-ж у расейскай, а мясцамі дапоўнена ангельскім тэкстам на адпаведныя тэмы, якія я знайшоў у нашых ангельскіх выданьнях.

Матар’ял, напісаны ў расейскай мове, узяты мною з мае працы, якую я ў сваім часе прыгатоўваў да друку ў нямецкай мове на просьбу праф. Др. [Гергарда] фон Мэндэ[7], але які ў сувязі зь ягонаю хваробаю, а пазьнейшай сьмерцяй ня быў выкарыстаны.

Уважаю, што ў сувязі з тым, што матар’ял гэты прызначаны для перакладу на ангельскую мову, ня мае значэньня, ці ён напісаны ў беларускай ці расейскай мове, бо-ж перакладчык напэўна знае расейскую мову значна лепш, чымсь беларускую.

Дагэтуль, на жаль, я не атрымаў канца таго разьдзелу, які ўзяўся апрацаваць др. І[ван] Ермачэнка, г. зн. датычачага падзеяў на тэрыторыі так зв[анага] “Цывільфэрвальтунгу”[8] ад кастрычніка 1941 да красавіка 1943 г. Заканчваючы апісаньне падзеяў на гэтай тэрыторыі ў пазьнейшых этапах, я пастараўся ўвязаць іх да канца 1943 г. у надзеі, што др. [Іван] Ермачэнка падашле свой матар’ял, датычачы ўспомненага часу.

У сучасны мамэнт мы маем даволі падрабязныя публікацыі і аб ІІ-м усебеларускім кангрэсе і аб усёй акупацыі, зьмешчаных у кнізе

[7] **Гергард фон Мэндэ** (ням. *Gerhard von Mende,* 1904—1963), нямецкі навуковец, усходазнаўца, саветоляг. Пасля Другой сусветнай вайны кіраваў Дасьледчым цэнтрам для вывучэньня Ўсходняй Эўропы ў Нямеччыне.

[8] ***Zivilverwaltung*** (ням.) — цывільная адміністрацыя.

Інж. І[вана] Касяка[9], адкуль можна дапоўніць надасланы мой матар’ял дадатковымі дадзенымі, якія камісія знойдзе патрэбнымі.

У надасланым матар’яле я стараўся даць агульную характарыстыку нямецкае акупацыі на фоне паасобных падзеяў і здарэньняў, але ня ведаю, які будзе мець план камісія, і таму даю поўную карт-блянш яго скарочваць або пашыраць паводле свайго пагляду і выдавецкіх магчымасьцяў.

Просьба мая да камісіі — вярнуць па выкарыстаньні мой манускрыпт, бо, як я ўжо зазначыў, там ёсьць матар’ял, выняты з мае шырэйшае яшчэ недаканчанае працы аб Беларусі і Беларусах ад пачатку 19-га стагодзьдзя да апошніх дзён.

З пашанаю, Р[адаслаў] Астроўскі

PS. Калі на днях атрымаю нешта ад Д-ра [Івана] Ермачэнкі, аб чым я яго ўжо прасіў некалькі разоў, дык дашлю камісіі дадаткова. А можа Др. [Іван] Ермачэнка перашле свой матар’ял беспасрэдна камісіі.

17 сьнежня 1964 г., Бруклін

Глыбакапаважаны Радаслаў Казіміравіч [Астроўскі]!

Перакладчык Гісторыі Беларусі зьвярнуў увагу на канфузыю ў тэрміналёгіі на ангельскай мове пры акрэсьленьні дзяржавы Літвы з часоў ВКЛітоўскага і Літвы пазьнейшай, павэрсальскай, а адпаведна гэтаму літоўскай нацыянальнасьці і дзяржаўнай прыналежнасьці. Ён радзіць даць у кнізе выясьненьне гэтай справы для англамоўнага чытача.

У кнізе [Язэпа] Найдзюка па-беларуску ўнесена поўная тэрміналягічная яснасьць. Назовы: Літва, Літоўскі ён стасуе да часоў ВКЛітоўскага. Назовы: Летува, Летувіскі ён ужывае ў дачыненьні да пазьнейшых часоў Жмудзкай дзяржаўнасьці.

У сучаснасьці на ангельскай мове стасуюцца назовы: Літуанія, Літуаніан у дачыненьні да абоіх вышэй успоменных розных дзяржаўных твораў, іх дзяржаўных прыналежнасьцяў і нацыянальнасьцяў у этнічным значэньні. Па-сутнасьці, гэта тэрміналёгія ня згодная з гістарычна-дзяржаўным і нацыянальна-этнічным старанамі справы. Нам трэба запачаткаваць выпраўленьне гэтай памылкі ў міжнароднай літаратуры, якую сьведама праводзяць летувісы ў мэтах сваіх нацыянальных асьпірацыяў адносна мінулага, так і дзеля будучыні.

---

[9] Магчыма, маецца на ўвазе выданьне: Касяк, Іван. За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі = For National Independence of Byelorussia: Дакуманты і матар ялы, сабраныя і падрыхтаваныя да публікацыі І. Касяком, прагледжаныя і апрабаваныя для друку камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага. Лёндан, выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1960. 198 с.

[Язэп] Найдзюк меў поўную слушнасьць, уводзячы яснае разьмежаваньне.

Належыла-б затрымацца над выбарам адпаведнай тэрміналёгіі на ангельскай мове. Паколькі на сягоньня прынятыя назовы для сучаснасьці: Літуанія і Літуаніанс, для мінулай Жамойці і Аўкштоты, то іх трэба так і пакінуць, а для даўніх часоў ВКЛітоўскага ўвесьці іншыя тэрміны. Можа, будуць найбольш адпаведнымі: Літва і Літоўскі, захоўваючы беларускі спэллінг.

Зразумела, што літоўцы зробяць буру, але як гістарычная сутнасьць справы, так і беларуская нацыянальна-дзяржаўная рацыя вымагаюць гэтага. Зразумела, што з чыста навуковага пункту гледзішча гэта разьмежаваньне зьяўляецца неабходнасьцяй дзеля ўнікненьня блытаніны.

Вельмі прашу аб Ваш погляд у парушанай справе.

З глыбокай пашанай, [Іван Касяк]

19.XII.64. *Stamford, Conn.*

Паважаны Іван Іванавіч [Касяк]!

Дастаў ад сп. Р[адаслава] Астроўскага абяцаную працу — дадатак да гісторыі [Язэпа] Найдзюка. 97 старонак друку. У цяперашняй форме да друку не надаецца хаця-б з увагі на свой аб'ём і пэўную несыстэматычнасьць.

Праз два дні пасьля гэтага атрымаў ізноў ад [Радаслава] Астроўскага працу [Івана] Ермачэнкі, яна разьмерам меншая, але таксама можа паслужыць толькі як сыры матэр'ял да далейшай апрацоўкі. Трэба ўстанавіць, на колькіх старонках павінен быць зьмешчаны прысланы матар'ял і ў залежнасьці ад гэтага ўжыць прапорцыю скарачэньня.

У справе тэрміналёгіі, дык ці ня варта было-б для азначэньня летувіскай дзяржавы з паміж першай і II вайной ужыць тэрмін Ковенская Літва ў адрожненьне ад Літвы гістарычнай. Гэта было-б добра тым, што не трэба было-б тварыць новай ангельскай тэрміналёгіі, выклікаючай путаніцу. Тэрмін-жа Ковенская Літва адразу геаграфічна вызначае тэрыторыю, аб якой гаворыцца.

Ясна, што ўжыцьцё тэрміну трэба выясьніць у прадмове.

Матэр'ял [Радаслава] Астроўскага я магу выслаць табе, але толькі рэгістраваным лістом, за якім трэба будзе ехаць на пошту, так што можа табе менш фатыгі забраць іх асабіста ад мяне. На першы дзень Калядаў мяне ў хаце ня будзе, а далей, праўдападобна, буду.

Тэрмін Ковенская Літва часткова ўжываўся палякамі для азначэньня новай дзяржавы летувісаў.

Трэба было-б ужываць тэрмін *Whiteruthenian* у перакладзе, каб нарэшце пачынаць абрывацца ад тае Рашы, гэта справа запраўды важная.

Згодна з пастановай рэд[акцыйнай] калег[іі] напісаў Ч[аславу] Будзьку прапанову напісаць рэцэнзію аб "Драбах"[10]. Адказу яшчэ няма. [Лявону] Савёнку пісаў, каб прыслаў абяцаны артыкул аб сьпіртавой манаполіі ў БССР. Таксама адказу яшчэ няма.

З пашанай, Л[еанід] Галяк

19.X.71, *Stamford*

Паважаны Іван Іванавіч [Касяк]!

Адказываю па меры магчымасьці на твае 2 паштоўкі. Дакладна, як выглядае справа зь перапрацоўкай тэксту, ня ведаю, адно ведаю, што Ганна жалілася, што пераклад зроблены блага і нават здараецца, што беларускі і ангельскі тэкст не зусім згаджаюцца. Наракала таксама на вельмі благую паперу. Я думаю, што было-б добра, каб ты асабіста зь ёю паразумеўся [...]

Маю пэўную вестку, што ў падменскім мястэчку памёр Глеб Багдановіч[11] ад сэрцовага атаку дня 1 кастр[ычніка] 1971 г. Працаваў там лекарам у шпіталі.

З пашанай, Л[еанід] Галяк

11 студзеня 1973

У бліжэйшым часе першая траціна Гісторыі Беларусі перашлецца ў друкарню, і неадкладна распачнецца набор матар'ялу для друку. Дзеля таго, што Вы ня былі на апошняй нарадзе Рэдакцыйнай Камісіі, то Вам перасылаецца тут тытуловая карта і прадмова дзеля запазнаньня і заўвагаў.

Вельмі прашу ў найбліжэйшым часе даслаць Вашы прапановы, каб было магчымым улічыць іх перад пачаткам друкаваньня.

З пашанай да Вас, [Іван Касяк]

В[ітаўту] Кіпелю:

П. С. Як выглядае справа з рыхтаваным Вамі апошнім разьдзелам Гісторыі Беларусі? Калі можна напэўна запазнацца з гэтым матар'ялам?

---

[10] Маецца на ўвазе выданьне: Случанскі, Уладзімер. Драбы: Гістарычная аповесьць. Мэльбурн, 1958—1960. 272 с.

[11] **Глеб Багдановіч** (1913—1971), доктар мэдыцыны, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У часе акупацыі быў афіцэрам Краёвай Абароны, потым — у батальёне "Дальвіц". Пасьля вайны працаваў доктарам на Беласточчыне. У 1949 г. арыштаваны й дэпартаваны ў СССР. Зьняволеньне адбываў у Варкуце. Пасьля вызваленьня жыў у Рудзенску (Пухавіцкі р-н Менскай вобл.), працаваў доктарам.

Л[еаніду] Галяку:

П. С. Як выглядае справа з праўкай ангельскай мовы ў Вашай Ганны? Будзь ласкаў і прысьпяшы гэту справу. Калі нельга, то буду прасіць зьвярнуць матар’ял.

18 студзеня 1973 г.

У Беларускі Кангрэсовы Камітэт, на рукі інж. Касяка.

Справа: Пераклад на ангельскую мову гісторыі Беларусі Язэпа Найдзюка.

Паважаны Камітэт!

Дзякую за прысланую тытуловую картку перакладу на ангельскую мову гісторыі Беларусі Язэпа Найдзюка і прадмову да гэтага перакладу.

Засьцярогаў да тытуловай карткі і прадмовы я ня маю, апрача тых, што няраз ужо выражаў на паседжаньнях Камісіі і ў гутарках зь сябрамі Камісіі, а іменна: я быў, ёсьць і буду супроць ужываньня ў перакладзе тэрміну Белораша (*Byelorussia*), і калі гэты тэрмін ужываецца ў перакладзе, дык ясна, што гэта робіцца бяз маёй згоды і насуперак майго пратэсту, хаця і згодна з паглядамі іншых сяброў Камісіі.

Другая мая засьцярога тая, што я лічу, што ў ангельскай мове павінна ўжывацца трансьлітэрацыя з кірыліцы на ангельскую мову такая, якая ўжываецца ў беларускай лацініцы, а не трансьлітэрацыя, якая ўжываецца для фанэтычнай перадачы расейскай мовы. Напр[ыклад], у прадмове падана *Mensk*, а паводля мяне павінна быць *Miensk*.

Калі ў перакладзе гісторыі Я[зэпа] Найдзюка ўжываецца расейская трансьлітэрацыя, дык ясна, што гэта робіцца бяз маёй згоды і насуперак майму пратэсту, хаця і згодна з паглядамі большасьці сяброў Камісіі.

У сувязі з тым, што існуюць паважныя разьбежнасьці маіх паглядаў з паглядамі большасьці сяброў Камісіі, ветліва прашу рэдакцыйную Камісію задумацца над тым, ці ёсьць пажаданым, каб маё прозьвішча фігуравала пасярод рэдактароў, бо я засьцерагаю за сабою права, у сувязі з выдачаю перакладу, выступленьняў, згодна з маімі паглядамі, а не паглядамі большасьці сяброў рэдакцыйнай камісіі.

З пашанаю, Л[еанід] Галяк

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

# УДЗЯЧНАСЬЦЬ БІНІМУ — ГАНЬНЕ СЕВЯРЫНЕЦ

12 сакавіка 2021 г. у Менску на вечары памяці кампазытара Міколы Равенскага прадстаўніца Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Натальля Гардзіенка ўручыла сымбалічную талерку як знак “Удзячнасьці БІНіМу” літаратуразнаўцы й пэдагогу Ганьне Севярынец. Такім чынам Інстытут выказаў дасьледніцы падзяку за папулярызацыю культурнай спадчыны беларускай эміграцыі.

Як і раней, Беларускі інстытут навукі й мастацтва намагаецца падтрымліваць тых, хто спрыяе дасьледаваньню й папулярызацыі тэмы беларускай эміграцыі ў грамадзтве Беларусі. Дзеля гэтага ў 2013 г. была заснаваная практыка пэрыядычнага выказваньня публічнай удзячнасьці асобам і арганізацыям, якія зрабілі заўважны ўнёсак у публікацыю й папулярызацыю эміграцыйнай спадчыны. Гэткую ўдзячнасьць ад БІНіМу раней ужо атрымалі гісторык Алесь Пашкевіч, мовазнаўца Зьміцер Саўка, архівіст Ганна Запартыка, Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч.




Ганна Севярынец атрымоўвае Ўдзячнасьць БІНіМу.
Менск, 12 сакавіка 2021 г.

***Яна Славіна***

# КНІЖНЫ АГЛЯД

*Валер Каліноўскі. Дзеці Францыі: гісторыі сем’яў, якія паверылі Сталіну. Мінск, Кнігазбор, 2019. 320 с.: [24] с. іл.*




Беларуская эміграцыя ў Францыю да сёньня застаецца фактычна не дасьледаванай. Нягледзячы на наяўнасьць асобных публікацый, даўняя, багатая героямі й падзеямі прысутнасьць нашых суайчыньнікаў у гэтай краіне паранейшаму патрабуе адмысловага вывучэньня. Салідны ўнёсак у яго зрабіў журналіст Валер Каліноўскі, аўтар кнігі “Дзеці Францыі: гісторыі сем’яў, якія паверылі Сталіну”.

Кніга складаецца з трох частак: “Беларускія французы. Гісторыі сем’яў”, “Па волю і хлеб. З гісторыі беларускай эміграцыі” і “Пастка. Сталінская рэпатрыяцыя”.

Безумоўную цікавасьць выклікае першая, дзе сабраныя гісторыі 14 сем’яў эмігрантаў, якія пасьля Другой сусьветнай вайны паверылі савецкай прапагандзе, кінулі тое, што пасьпелі нажыць у Францыі, і прыехалі ў СССР без магчымасьці выехаць зноў. Пры ўсёй унікальнасьці сытуацыі кожнай з тых сем’яў, агульным для іх было вялікае расчараваньне, паламаныя лёсы дарослых і дзяцей. Некаторыя з тых францускіх беларусаў у жаданьні зноў выехаць у Францыю траплялі ў ГУЛАГ, іншыя гібелі на некваліфікаванай малааплатнай працы, шмат хто праз усё жыцьцё пранес мару зноў пабачыць краіну, якую яны згубілі.

Праз колькі гадоў аналягічным шляхам прайшлі й сотні сем’яў рээмігрантаў з Аргентыны. Беларусам з Францыі было больш складана ня толькі таму, што яны былі першымі, але й таму, што іх вяртаньне прыйшлося пераважна на першыя, надзвычай складаныя й галодныя паваенныя гады. І тым больш драматычнымі выглядаюць пададзеныя ў кнізе гісторыі, кожная зь якіх ілюстраваная фатаздымкамі зь сямейных архіваў і не дае чытачам шанцаў застацца абыякавымі.

У другой частцы сваёй кнігі Валер Каліноўскі спрабуе падаць розныя аспэкты гісторыі беларускай эміграцыі ў Францыю. Гэта своеасаблівая перадгісторыя, кантэкст, у якім існавалі сем'і рээмігрантаў да выезду ў СССР. Аўтар апісвае шляхі й матывы, праз якія беларусы траплялі ў Францыю ў міжваенны час, распавядае пра дзейнасьць беларускіх арганізацыяў перад і пасьля Другой сусьветнай вайны, паказвае, як яны намагаліся супрацьстаяць камуністычнай прапагандзе. Ёсьць тут і сюжэты пра беларусаў у гішпанскай вайне ды ў францускім Руху супраціву, а таксама пра паваенныя структуры БНР у Францыі. З паасобных сюжэтаў у выніку ствараецца ўяўленьне пра адметнасьці беларускай эміграцыі ў гэтай заходнеэўрапейскай краіне.

У апошняй частцы кнігі пра дзяцей Францыі аўтар імкнецца разабрацца ў прычынах і мэханізмах арганізаванай савецкімі ўладамі "добраахвотнай рэпатрыяцыі", адказаць на пытаньне, чаму беларусы паверылі прапагандзе, што на гэта ўплывала.

Сабраныя Валерам Каліноўскім у адным выданьні й гісторыі канкрэтных сем'яў, і тэксты, што падаюць кантэкст эміграцыі й рээміграцыі, ствараюць надзвычай яскравую карціну раней малаведамай і трагічнай старонкі гісторыі беларускай прысутнасьці ў Францыі й францускай — у Беларусі.

*Творчыя калектывы беларусаў замежжа = Творческие коллективы белорусов зарубежья = The Artists of the Belarusian Diaspora. Т. 1. Мінск, 2019. 331 с.; Т. 2. Мінск, 2020. 351 с.*




На працягу 2019—2020 гг. у Менску пабачыла сьвет двухтамовае "інфармацыйна-аналітычнае" (як пазначана ў анатацыі) выданьне "Творчыя калектывы беларусаў замежжа". Выдаўцом яго выступіў Рэспубліканскі цэнтар нацыянальных культураў, адзін з напрамкаў дзейнасьці якога — супрацоўніцтва з суполкамі замежных суайчыньнікаў, арганізацыя зь іх удзелам фэстываляў і іншых мерапрыемстваў. Укладальнікамі выданьня выступаюць работнікі згаданага цэнтру — намесьніца дырэктара Валянціна Грышкевіч і начальнік аддзелу народнай творчасьці, кандыдат філялягічных навук Алесь Лозка.

Што праўда, над зьместам першага тому, акрамя ўласна ўкладальнікаў, працаваў даволі вялікі аўтарскі калектыў з амаль 20 асобаў.




Пачынаецца выданьне з артыкулу Алеся Лозкі “Дзе гучыць наша родная песьня: беларускія майстры мастацкай культуры ў замежжы”, што ўяўляе сабою нарыс гісторыі й геаграфіі беларускай творчай рэпрэзэнтацыі ў замежжы. Далей пададзеныя артыкулы пра 24 краіны, у якіх дзейнічаюць беларускія дыяспары. Рэпрэзэнтаваная тут ня толькі постсавецкая прастора, але й заакіянскія Аргентына, Аўстралія, Канада, ЗША, а таксама такія краіны, як Кітай, Нідэрлянды або Фінляндыя, пра беларускую прысутнасьць у якіх ведама няшмат.

Другі том быў створаны менавіта двума пазначанымі ўкладальнікамі. Пачынаецца ён таксама з уступнага артыкулу Алеся Лозкі: “Замежныя беларускія — славутыя, таленавітыя, ганараваныя, ганаровыя...”. У ім зроблены агляд дзейных творчых калектываў і паасобных творцаў беларускага замежжа. Том гэты ўласна і ёсьць даведнікам аб канкрэтных калектывах ды ўтрымлівае разнастайныя зьвесткі ад гісторыі да рэпэртуару, а таксама кантактную інфармацыю й інш. Усе тэксты таксама структураваныя па краінах, толькі сьпіс іх крыху адрозьніваецца ад папярэдняга тому. Няма тут ужо Бэльгіі зь Люксэмбургам, няма Вялікабрытаніі, Нідэрляндаў, Фінляндыі, затое ёсьць інфармацыя пра творчыя калектывы беларусаў у Ярданіі, Сэрбіі, Чэхіі. Агулам рэпрэзэнтаваныя 22 краіны й больш за 180 творчых калектываў і паасобных творцаў. Усе матэрыялы выдатна праілюстраваныя. Агулам выданьне вызначаецца вельмі якасным дызайнам і паліграфіяй.

Тэксты ў абодвух тамах напісаныя па-беларуску й па-расейску, а ўступныя артыкулы падаюцца таксама па-ангельску, што дадае рэпрэзэнтацыйнасьці ўсяму праекту. З дыпляматычных меркаваньняў, тэксты, прысьвечаныя Крыму, вылучаныя ў абодвух тамах у асобныя разьдзелы, што можна назваць своеасаблівым ноў-хаў выдаўцоў.

Можна ўявіць, як багата працы было ўкладзена ў зьбіраньне інфармацыі й ілюстрацыйнага матэрыялу для гэтага даведніку. Безумоўна, зьвесткі няпоўныя, больш за тое, некаторыя зь іх састарэлі яшчэ на этапе падрыхтоўкі выданьня, паколькі ў беларускіх суполак рэгулярна зьмяняюцца кіраўнікі і ўмовы дзейнасьці. Аднак тое, што ўкладальнікам удалося зрабіць, уражвае. Атрымалася сапраўдная двухтамовая энцыкляпэдыя мастацкай рэпрэзэнтацыі замежных беларусаў.

Ці не адзіная праблема выданьня — мізэрны наклад 100 асобнікаў і абмежаваныя магчымасьці распаўсюду. Нават ня ўсе згаданыя ў да-

ведніку калектывы здолеюць атрымаць гэтыя тамы. Аднак перадвызначаны статус бібліяграфічнага рарытэту не зьмяншае каштоўнасьці зьместу гэтага сапраўды энцыкляпэдычнага даведніку.

*Дакументы і матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі ў Чэхаславацкай Рэспубліцы (1918—1939) / укладанне, прадмова, каментары Андрэя Бучы. Мінск: Кнігазбор, 2020. 560 с.*




Дзейнасьць беларускай эміграцыі ў Чэхаславацкай Рэспубліцы — надзвычай важная старонка гісторыі беларускага замежжа. Розныя аспэкты яе актыўна дасьледуюцца навукоўцамі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны, Чэхіі цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў. Аднак нягледзячы на даволі актыўную ўвагу да згаданай тэмы, да сёньня так і ня створана больш-менш грунтоўнай абагульняльнай працы, паасобныя невялікія публікацыі ня сталі падставаю для агульнага аналізу больш высокага ўзроўню. Прычынаю гэтага можа быць вялікая расьцярушанасьць архіўных матэрыялаў, якія датычаць беларускай прысутнасьці ў Празе. Паасобныя дакумэнты й іх комплексы захоўваюцца ў архівах і бібліятэках Чэхіі, Славакіі, Украіны, Расеі, Польшчы, Літвы й Беларусі, значная частка іх ня толькі не апублікаваная, але й не заўсёды адпаведна апісаная ў архіўных даведніках.

Наблізіць да дасьледнікаў і ўсіх зацікаўленых расьцярушаныя па краінах дакумэнты беларусаў Чэхаславаччыны і ўзяўся гісторык Андрэй Буча праз укладаньне зборніку “Дакументы і матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі ў Чэхаславацкай Рэспубліцы (1918—1939)”. Ён зрабіў значную працу па зьбіраньні як апублікаваных, гэтак і неапублікаваных архіўных крыніц, іх падрыхтоўцы да друку, сыстэматызацыі, камэнтаваньні. Безумоўны плюс падрыхтаванага выданьня — тое, што ў ім сабраныя дакумэнты, якія датычаць розных кірункаў жыцьця беларусаў у міжваеннай Чэхаславаччыне: грамадзка-палітычнай, культурна-асьветнай, навукова-адукацыйнай дзейнасьці. Са зборніку можна даведацца й пра асаблівасьці студэнцкага жыцьця, і пра дачыненьні ў асяродзьдзі палітычных лідараў, і пра бібліятэчныя й архіўныя ініцыятывы ды інш.

У зборніку датрымоўваецца разнастайнасьць і ў відах пададзеных дакумэнтаў: публікуецца й ліставаньне (афіцыйнае ды прыватнае), і пратаколы, і справаздачы, і афіцыйныя паведамленьні, і нататкі ды артыкулы з пэрыёдыкаў, і ўспаміны, і паліцэйскія допісы ды шмат іншага. Усё гэта таксама працуе на стварэньне дастаткова шырокага вобразу дзейнасьці беларусаў у міжваеннай Чэхаславаччыне.

Безумоўная каштоўнасьць укладзенага Андрэем Бучам зборніку — разгалінаваны навукова-даведачны апарат. Тут ёсьць усе неабходныя пазнакі пошукавых зьвестак дакумэнтаў (дакладныя спасылкі на архіўныя фонды або выданьні), апісаньне характару арыгіналаў (машынапіс, рукапіс і г. д.), шматлікія камэнтары, якія датычаць асобаў, арганізацыяў, абставінаў, што згадваюцца ў тэкстах. Зьмешчаныя ў зборніку імянны ды геаграфічны паказьнікі, сьпісы скаротаў ды выкарыстаных крыніцаў, асобны сьпіс апублікаваных дакумэнтаў і матэрыялаў, што паляпшае магчымасьці працы са зьместам такога ёмістага выданьня.

Важны плюс — публікацыя ня толькі арыгіналаў дакумэнтаў, але й перакладаў з чэскай, славацкай і польскай моваў, у чым укладальнік супрацоўнічаў з адпаведнымі спэцыялістамі. Гэта робіць зьмест першакрыніцаў больш даступным для чытача.

У рыхтаваньне да друку зборніку “Дакументы і матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі ў Чэхаславацкай Рэспубліцы (1918—1939)” укладзена багата працы, і вынік яе выглядае вельмі годна. Зборнік можа стаць выдатнай асновай для абагульняльнага дасьледаваньня беларускай прысутнасьці ў міжваеннай Чэхаславаччыне.

*Vjačka Ceļešs. Baltkrievu mākslinieki Latvija, 1920—1990 [Выяўленчы матэрыял] = Вячка Целеш. Беларускія мастакі ў Латвіі, 1920—1990. Riga: Jumava, 2020. 145 c.*

Мастак і кіраўнік Аб’яднаньня мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар” Вячка Целеш ведамы таксама як руплівы зьбіральнік матэрыялаў пра беларускіх мастакоў і гісторыю беларускай прысутнасьці ў Латвіі. Плёнам гэтае працы стала надзвычай цікавае дзьвюхмоўнае латыска-беларускае выданьне, якое склалі біяграфіі й каталёгі працаў пяці творцаў, чые жыцьці былі зьвязаныя з гэтай краінай: Пётры Міpановіча (1902—1990), Міхася Калініна (1905—1975), Аркадзя Салаўёва (1902—1979), Дзьмітрыя Гадыцкага-Цьвіркі (1901—1987) й Аляксандры Бельцавай (1892—1981). Пакручастыя лёсы паўплывалі на пераважна невялікую іх ведамасьць і ў Беларусі, і ў Латвіі. Кожны з мастакоў меў уласную гісторыю дачыненьняў з абедзьвюма краінамі. Хтосьці, як народжаны на Дзьвіншчыне Пётра Міpановіч, скончыў свой жыцьцёвы шлях за акіянам у Нью-Ёрку. Іншы, як ураджэнец Ма-




ладзечна Дзьмітры Гадыцкі-Цьвірка, з 1918 да 1944 гг. правёў у Латвіі, каб потым зьехаць у Данію, дзе й пражыў большую частку свайго жыцьця.

Зьбіраньне па драбнютках біяграфічнай інфармацыі, відавочна, суправаджалася ня менш складанымі пошукамі выяваў працаў мастакоў для складаньня каталёгу. Ведама, прыкладам, што здымкі твораў Пётры Мірановіча рабіліся і ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане (Вялікабрытанія), і ў Беларускай фундацыі Крачэўскага ды іншых зборах ЗША.

Безумоўную каштоўнасьць маюць таксама сабраныя ўкладальнікам рэдкія архіўныя фатаздымкі, што ілюструюць біяграфіі творцаў. Прыкладам, на іх можна ўбачыць Пётру Міраловіча і ў Дзьвінскай беларускай гімназіі ў 1920-х, і зь сям'ёй у Брукліне ў 1960-х; Міхася Калініна як удзельніка Рыскага беларускага хору 1930-х і як жаўнера-франтавіка ў 1945 г.; Аркадзя Салаўёва як студэнта ў міжваеннай Празе; каталёгі выставаў Дзьмітрыя Гадыцкага-Цьвіркі з Даніі й Італіі; надмагільны помнік Аляксандры Бельцавай на Лясных могілках у Рызе.

Густоўна выдрукаваны альбом-даведнік Вячкі Целеша “Беларускія мастакі ў Латвіі” зьяўляецца надзвычай важным вынікам і дасьледчай працы аўтара, і актыўнай ягонай супрацы з суродзічамі й спэцыялістамі ў розных краінах як у справе зьбіраньня неабходных матэрыялаў, гэтак і ў падрыхтоўцы й зьяўленьні на сьвет гэтага выданьня.

*Хведар Ільяшэвіч. Выбранае / укладанне Наталлі Гардзіенкі, Ціхана Чарнякевіча, Лявона Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2021. 260 с.*

Хведар Ільляшэвіч з шэрагу тых эміграцыйных пісьменьнікаў, якім не асабліва пашанцавала на ўвагу з боку мэтраполіі. Да гэтага спрычынілася хіба што й заўчасная сьмерць у выніку аўтакатастрофы ў 1948 г., і ягоная праца ў часе Другой сусьветнай вайны ў беластоцкай “Новай Дарозе”. Нягледзячы на выданьне ў 2000 г. 60-старонкавага зборніку твораў Хведара Ільляшэвіча, укладзенага Міхасём Казлоўскім, складана казаць пра ведамасьць асобы й спадчыны гэтага паэта.

У 2021 г. у сэрыі “Спадчына: агледзіны” Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” пабачыў сьвет яшчэ адзін зборнік выбраных




твораў згаданага аўтара. Прадмовай у ім выступіў колішні артыкул Арсеня Ліса, прысьвечаны жыцьцю й творчасьці Ільляшэвіча.

Укладальнікі намагаліся ў гэтым томе паказаць розныя аспэкты спадчыны пісьменьніка. У першым разьдзеле пададзеныя паэтычныя творы ў храналёгіі выдадзеных аўтарам зборнікаў і пазьнейшых пазазборнікавых публікацыяў. Далей рэпрэзэнтуюцца прыклады празаічнай спадчыны, фэльетоны. Публіцыстыка прадстаўленая літаратурна-крытычнымі артыкуламі аўтара.

У асобныя разьдзелы вылучаныя вершы, прысьвечаныя Хведару Ільляшэвічу, а таксама ўспаміны пра яго — аўтарства Юркі Віцьбіча, Юрыя Жывіцы й швагеркі пісьменьніка. Усе гэтыя тэксты раскрываюць розныя аспэкты й пэрыяды жыцьця творцы.

Ледзьве не палову кнігі займае зьмешчаны як своеасаблівы дадатак сапраўдны эпісталярны раман, пабудаваны на захаваным у архівах ліставаньні 1946—1948 гг. паміж Хведарам Ільляшэвічам, закаханай у яго пісьменьніцай Вольгай Таполяй і сябрам Юркам Віцьбічам. Зьмястоўныя, часам надзвычай эмацыйныя лісты з паваеннай Нямеччыны яскрава адлюстроўваюць і асаблівасьці беларускай дзейнасьці ды ўзаемадачыненьняў у лягерах *DP*, і канкрэтныя абставіны апошняга пэрыяду жыцьця Ільляшэвіча.

Зборнік “Выбранага” Хведара Ільляшэвіча мае паспрыяць больш пільнай увазе да ягонай творчай спадчыны з боку айчынных дасьледнікаў.

*Helena Glogowska. “Za Białorusią świata nie widział”. Rzecz o Teodorze Iljaszewiczu — białoruskim poecie, historyku i działaczu. Białystok, 2021. 250 s.*

Ня надта заўважнаму дагэтуль у Беларусі пісьменьніку Хведару Ільляшэвічу ў 2021 г. пашанцавала ня толькі на выданьне зборніку ягонай творчай спадчыны, але й на зьяўленьне працы, прысьвечанай ягонай біяграфіі. Беларуская дасьледніца ў Польшчы Алена Глагоўская цягам дзесяцігодзьдзяў зьбірала матэрыялы, якія сталі падставай для 250-старонкавага выданьня.




Жыцьцёвы шлях Хведара Ільляшэвіча пададзены ў кнізе ў трох асноўных храналягічна-геаграфічных разьдзелах. Першы зь іх, *“Wilno — miejsce urodzienia, nauki j dojrzewania”*, ахоплівае першыя 27 гадоў жыцьця маладога пісьменьніка, зьвязаных з гэтым горадам. Бацькоўская сям’я, навучаньне ў Віленскай беларускай гімназіі, Віленскім унівэрсытэце, турма й першыя зборнікі вершаў — усё гэта пераказана што больш, што менш падрабязна. Крыху дзіўна, што надзвычай мала ўвагі аддадзена асобе брата Хведара, Міколу Ільляшэвічу, які, відавочна, даволі сур’ёзна паўплываў на фармаваньне будучага паэта.

Другі разьдзел прысьвечаны жыцьцю на Беласточчыне ў 1937—1944 гадах. Адсюль з Тапалянаў паходзіла жонка Хведара Ільляшэвіча, Надзея Алексяюк, тут была гаспадарка, зь якой магчыма было жыць сям’і з двума дзецьмі. Спачатку пісьменьнік тут працягваў займацца распачатай у Вільні навуковай працай, вынікам чаго стала кніга, прысьвечаная друкарні Мамонічаў. З пачаткам Другой сусьветнай вайны актыўна заангажаваўся ў грамадзкую дзейнасьць у Беластоку, дзе займаўся арганізацыяй школьніцтва, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў пэрыёдык “Новая Дарога”. Паводле сьведчаньняў сучасьнікаў, ён вельмі шмат працаваў, імкнучыся дапамагаць беларусам і пашыраць беларускую справу.

З адыходам немцаў у 1944 г. пачаўся апошні этап у жыцьці Хведара Ільляшэвіча, адлюстраваны ў апошнім жа разьдзеле кнігі — *“Niemcy — emigracja i trudne wybory życiowe”*. Пакінуўшы сям’ю на Беласточчыне, пісьменьнік перабраўся ў Нямеччыну, дзе спачатку ў Бэрліне, а потым у паваенных лягерах для перамешчаных асобаў працягваў сваю літаратурную й грамадзкую дзейнасьць да трагічнай гібелі ў 1948 г.

Адноўленая Аленай Глагоўскай біяграфія Хведара Ільляшэвіча грунтуецца на шматлікіх крыніцах, ліставаньні, успамінах, публікацыях, што багата цытуюцца ў тэксьце. Гэта дазваляе ўлічыць розныя аспэкты й рознае бачаньне жыцьця й дзейнасьці творцы. Дадаткам да біяграфіі ёсьць вялікі разьдзел з ілюстрацыямі, шмат зь іх перахоўваецца ў архіве сям’і Хведара Ільляшэвіча.

Кніга Алены Глагоўскай — вельмі важны ўнёсак у беларускую эміграцыйную біяграфістыку. Хочацца спадзявацца, што зьявіцца магчымасьць выданьня гэтай працы й па-беларуску, а таксама што

вывучэньне жыцьця й дзейнасьці іншых дзеячаў-эмігрантаў стане прадметам гэткіх жа спэцыяльных дасьледаваньняў.

*Макар Краўцоў (Касцевіч) / укладальнік Лявон Юрэвіч. Мінск: Кнігазбор, 2021. 216 с.*




На хвалі цікавасьці да нацыянальнай сымболікі на працягу канца 2020 — пачатку 2021 г. пабачылі сьвет два падобныя паводле зьнешняга афармленьня выданьні. Першае зь іх было прысьвечанае кампазытару Міколу Равенскаму, аўтару музыкі гімну “Магутны Божа” (і пра гэтую кнігу ёсьць адмысловы допіс у разьдзеле “Кніжная паліца”), а другое — пісьменьніку Макару Краўцову, аўтару словаў гімну БНР “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. І хоць апошні ня быў уласна эмігрантам, згаданае выданьне закранем адмыслова.

Дзіўная акалічнасьць, што аўтару гімну БНР, які сьпявалі беларусы-эмігранты ў розных краінах сьвету, да пачатку XXI ст. не было прысьвечана адмысловага дасьледаваньня, а нават зборніку ягоных твораў не зьявілася. Укладзенае Лявонам Юрэвічам у 2021 г. выданьне стала першай кнігай тэкстаў Макара Краўцова (Касьцевіча) і першай спробай аднаўленьня ягонай біяграфіі.

Творчая спадчына пісьменьніка рэпрэзэнтаваная ў выданьні вершамі, апавяданьнем, літаратурна-крытычнымі артыкуламі, публіцыстыкай. Асаблівую каштоўнасьць маюць успаміны дзеяча пра Івана Луцкевіча, Пётру Крачэўскага, Аляксандра Астрамовіча, Уладзімера Жылку, Яўхіма Карскага, а таксама пра Першы Ўсебеларускі кангрэс і дзейнасьць Рады БНР.

Надзвычай важны зьмешчаны ў кнізе артыкул гісторыка Аляксандра Горнага “Краўцоў, Светазар, Звончык: вопыт біяграфіі Макара Касцевіча”, які на падставе шматлікіх архіўных і іншых крыніцаў аднаўляе жыцьцёвы шлях пісьменьніка. Актыўная, разнастайная, часам авантурная дзейнасьць Макара Касьцевіча падаецца на шырокім гістарычным фоне, што дазваляе лепей зразумець тыя падзеі, што адбываліся ў беларускім нацыянальным руху 1920—1930-х гг. і ў асабістым жыцьці дзеяча.

Кніга 2021 г. у пэўным сэнсе вяртае ў літаратурны й гістарычны дыскурс асобу аўтара гімну БНР і дае надзею аналягічнага “вяртаньня” й для іншых несправядліва забытых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху.

*Мікола Равенскі: Дакументы і матэрыялы / укладальнікі Віктар Скорабагатаў, Уладзімір Ляхоўскі. Мінск: Тэхналогія, 2021. 332 с.*




На працягу 2005—2017 гг. у менскім выдавецтве “Тэхналёгія” выдаваўся “Збор твораў” Міколы Равенскага (1886—1953), а ў ім — вакальныя, харавыя, літургічныя творы кампазытара, таксама творы для фартэпіяна й апрацоўкі беларускіх народных песень. У 2021 г. пабачыў сьвет апошні том гэтага збору, куды былі ўключаныя разнастайныя дакумэнты й матэрыялы аб жыцьці й творчасьці Міколы Равенскага.

Зборнік складаецца з чатырох разьдзелаў. У першы зь іх уключаныя ведамыя й захаваныя да сёньня музыказнаўчыя працы творцы, сярод якіх “Гармонізаваньне беларускіх народных песень маскоўскімі композытарамі”, “Асаблівасьці беларускай народнай песьні”, “Элемэнтарная тэорыя сьпеву і пастаноўкі голасу” і інш.

Найвялікшы другі разьдзел склалі архіўныя дакумэнты, паведамленьні пэрыёдыкаў, сьведчаньні сучасьнікаў пра жыцьцё Міколы Равенскага. Большая частка дакумэнтаў датычыць 1920—1930-х гг. (асабліва шмат з 1921—1923 гг.), адзінкі — часу вайны, крыху болей — эміграцыі, у тым ліку й нэкралёгі й пасьмяротныя ўспаміны сучасьнікаў.

Трэці разьдзел зборніку ўтрымлівае публікацыі рознага часу пра жыцьцё й дзейнасьць кампазытара ад тэксту 1927 г. Уладзімера Дубоўкі да артыкулу пачатку XXI ст. Анатоля Мяльгуя. Большасьць аўтараў рэпрэзэнтаваных тут тэкстаў былі супольнікамі Міколы Равенскага ў эміграцыі.

Апошняя частка выданьня мае назоў “Дадатак” і складаецца з розных даведачных матэрыялаў. Тут зьмешчаныя хранаграфія жыцьця кампазытара, бібліяграфія, дыскаграфія, сьпісы асноўных месцаў захаваньня аўтографаў, рукапісаў і выданьняў твораў, каталёг музычных твораў Міколы Равенскага (выяўленых і нявыяўленых на сёньня) і інш.

Можна было б сказаць, што ў гэтым зборніку падаецца максымальна поўная інфармацыя пра жыцьцё й спадчыну Міколы Равенскага. Аднак зь нейкай незразумелай прычыны ў томе адсутнічае спасылка на выданьне-папярэднік — зборнік "Мікола Равенскі", што пабачыў сьвет у выдавецтве "Кнігазбор" у 2020 г. і быў першай кнігаю ў Беларусі, прысьвечанай кампазытару. І гэта пры тым, што паасобныя тэксты й ілюстрацыі адтуль скарыстаныя і ў выданьні "Тэхналёгіі". Згадка выданьня-папярэдніка хаця б у бібліяграфічным сьпісе, які чамусьці заканчваецца на 2008 г., была б зусім лягічнай і заканамернай. Патлумачыць недарэчнасьць можна хіба тым, што адзін з укладальнікаў выданьня, Уладзімер Ляхоўскі, раптоўна памёр яшчэ да заканчэньня працы.

Выданьне зборніку "Мікола Равенскі: Дакументы і матэрыялы" мае значэньне ня толькі для эміграцыязнаўства, але й для музыказнаўства, бо такім чынам мы маем сёньня адзіны ў Беларусі збор твораў айчыннага кампазытара.

*Янка Юхнавец. Проза / укладанне: Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. Мінск: Кнігазбор, 2021. 586 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; Спадчына: агледзіны).*




Янку Юхнаўца наўрад ці можна назваць добра ведамым у мэтраполіі эміграцыйным творцам. Нягледзячы на тое, што першы ягоны зборнік у Беларусі "Сны на чужыне" быў выдрукаваны яшчэ ў 1994 г., а ў 2011 г. выйшаў грунтоўны збор паэзіі, Юхнавец і ягоная творчасьць застаюцца амаль нябачнымі для дасьледнікаў. У 2021 г. у сэрыі "Спадчына: агледзіны" пабачыў сьвет і том прозы пісьменьніка, укладальнікі якога спадзяюцца прыцягнуць увагу літаратуразнаўцаў і да гэтага кірунку творчай дзейнасьці аўтара.

"Проза" Янкі Юхнаўца пачынаецца трыма прадмовамі. Біяграфічную напісаў эміграцыйны дасьледнік і архівіст Лявон Юрэвіч, што асабіста ведаў пісьменьніка. Другая прадмова, прысьвечаная творчасьці Юхнаўца, аўтарства літаратуразнаўцы Яна Чыквіна. І яшчэ адзін тэкст — Антона Рудака — своеасаблівае дэкадаваньне нясконачанай аповесьці "Яно", зьмешчанай у томе.

Асноўны зьмест кнігі, акрамя згаданай аповесьці, прысьвечанай падзеям Другой сусьветнай вайны, склалі апавяданьні Янкі Юхнаўца, а таксама “Запіскі й зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 году”.

Адметныя й сваёй мовай, і зьместам, і своеасаблівай філязофіяй пададзеныя ў зборніку празаічныя творы Янкі Юхнаўца дазваляюць па-новаму паглядзець на літаратурную спадчыну беларускай эміграцыі й гэтага канкрэтнага аўтара.

*Dr. Maria Paula Survilla (1964—2020). A Scholar and Advocate of Belarusian Culture = Др. Марыя Паўліна Сурвіла (1964—2020). З Беларуссю ў сэрцы / укладанне, прадмова Зіны Гімпялевіч. Мінск: Лімарыус, 2021. 408 с.*




У 2020 г. у выніку цяжкае хваробы адышла з жыцьця этнамузыколяг, дасьледніца й папулярызатарка беларускай музычнай культуры, дачка беларускіх эмігрантаў Марыя Паўліна Сурвіла. Сябры й калегі вырашылі ўшанаваць ейную памяць, выдаўшы адмысловы зборнік, які й зьявіўся да першай гадавіны сьмерці.

Ініцыятаркаю выданьня стала прафэсарка Зіна Гімпялевіч, якая займалася й укладаньнем, і каардынацыяй, і стала аўтаркай уступнага артыкулу, прысьвечанага біяграфіі й навуковаму даробку Марыі Паўліны Сурвілы.

Выданьне атрымалася шматмоўным, бо ўдзел у ім прынялі каля 30 аўтараў з 8 краінаў. Тэксты, напісаныя ў ангельскай, беларускай, гішпанскай, расейскай і францускай мовах, разьмеркаваныя на шэсьць тэматычных разьдзелаў. Першы зь іх прысьвечаны самой Марыі Паўліне Сурвіле й утрымлівае тэксты ўспамінаў пра яе, а таксама спробы ацаніць ейную навуковую й творчую дзейнасьць. Частка пад назовам “Паэзія” зьмяшчае вершы творцаў, знаёмых з дасьледніцай.

Тэксты зборніку ўражваюць разнастайнасьцю праблематыкі нават у межах тэматычных разьдзелаў. Гэтак, пад шыльдаю “Беларусь у гісторыі і сучаснасці” можна пабачыць артыкулы, прысьвечаныя “Паўлінцы” Янкі Купалы, Пятру Машэраву, Міколу Ермаловічу й інш. У разьдзеле “Беларусь і свет” ідзецца й пра барочную культуру, пра ўзаемаўплывы габрэяў і беларусаў, пра беларускую навуковую традыцыю ў вывучэньні

замежных краінаў, пра пачаткі афіцыйных дыпляматычных дачыненьняў Беларусі й ЗША.

Найбольш эклектычным атрымаўся тэматычны блёк “Сусветная літаратура, гісторыя і сучаснасць”, дзе праблематыка тэкстаў сягае ад аналізу тэкстаў Бібліі да паэзіі Хаакіма Арауджа або чытаньня літаратуры пра СНІД на суагілі, ад Крымскай да Другой сусьветнай вайны й г. д. Завяршаецца зборнік тэкстамі, прысьвечанымі беларускай дыяспары: гэта нарыс пра жыцьцё й дзейнасьць Янкі Станкевіча, ліставаньне Янкі Сурвілы з Мадрыду з а. Лявом Гарошкам, а таксама гісторыя беларускага ансамблю “Васілёк” у ЗША.

Агулам зборнік адлюстроўвае разнастайнасьць зацікаўленьняў і Марыі Паўліны Сурвілы, і яе сяброў ды калегаў. Ілюстраваны фотаздымкамі зь сямейных архіваў, ён выглядае добрым друкаваным помнікам дасьледніцы й годным ушанаваньнем яе памяці.

*Ніна Занковіч. Талстой і фіялетавае крэсла: мой год чароўнага чытання. Мінск: Кнігазбор, 2021. 256 с.*




У 2021 г. у Менску пабачыла сьвет беларускамоўная вэрсія дэбютнай кнігі Ніны Занковіч “Талстой і фіялетавае крэсла”, што была ўпершыню выдадзеная ў Нью-Ёрку ў 2012 г. Ніна Занковіч — дачка беларускага эмігранта Анатоля Занковіча, заслужанага амэрыканскага хірурга й дзеяча беларускай дыяспары. Яе можна назваць у шэрагу найбольш пасьпяховых і ведамых дзяцей беларускіх паваенных эмігрантаў.

Ніна Занковіч была наймалодшая ў беларуска-бэльгійскай сям’і Занковічаў. Яна скончыла школу ў Эванстане (*Evanston*, штат Ілінойс), Унівэрсытэт Тафтса ў Бостане й Гарвардзкую школу права. Працавала юрысткай, выйшла замуж, нарадзіла чатырох сыноў. Паваротным пунктам у жыцьці Ніны Занковіч стала сьмерць ад раку старэйшай сястры Ан-Мары. Перажываньні цяжкае страты й сталі штуршком для напісаньня яе першай кнігі “Талстой і фіялетавае крэсла”.

Сёньня гэтая жанчына — аўтарка ўжо чатырох кніг, што сталі бэстсэлерамі, і рыхтуе пятую. Пасьля згаданай кнігі “Талстой і фія-

летавае крэсла” *(“Tolstoy and the purple chair: my year of magical reading”,* 2011), якая выходзіла яшчэ й па-галяндзку, па-італьянску, па-карэйску, па-кітайску, па-нямецку й на фарсі, былі надрукаваныя: “Падпісана, запячатана, дастаўлена: Радасьць ад пісаньня лістоў” *(“Signed, sealed, delivered: celebrating the joys of letter writing”*, 2014), “Лоўэлзы з Масачусэтсу: амэрыканская сям’я” *(“The Lowells of Massachusetts: an American family”*, 2017) і “Амэрыканскія паўстанцы: як сем’і Гэнкакаў, Адамсаў і Кўінсі распалілі полымя рэвалюцыі” *(“American Rebels: how the Hancoks, Adams and Quincy families fanned the flame of revolution”,* 2020). Усе творы маюць дакумэнтальную аснову, належаць да папулярнага цяпер жанру нон-фікшн, атрымалі багата станоўчых водгукаў.

З усяго напісанага Нінай Занковіч менавіта першая кніга, якая цяпер выйшла й на мове бацькі, найбольш аўтабіяграфічная. Яна стала вынікам праекту, паводле якога, каб разабрацца ў сваім жыцьці, мінулым і сучасным, і зразумець будучыню, Ніна Занковіч вырашыла чытаць цягам году па кнізе на дзень. Гэтак яна спрабавала знайсьці адказы на важныя для сябе пытаньні, а сваімі рэфлексіямі дзялілася зь іншымі чытачамі на адмыслова створаным ёй самою сайце www.readallday.org. Год чытаньня разам з асэнсаваньнем гісторыі сваёй сям’і і ўласнага жыцьця, прыняцьцем страты сястры й вызначэньнем арыенціраў для будучыні й склалі аснову кнігі.

Нягледзячы на тое, што чытанае Нінай Занковіч і апісанае ў кнізе ня мае дачыненьня да Беларусі, у яе аповедзе часам згадваецца гісторыя сям’і, у тым ліку й бацькі-эмігранта, чые два браты й сястра былі забітыя ў адну ноч у часе Другой сусьветнай вайны ў вёсцы Сіўцы на Вялейшчыне. Сярод іншага, Ніна спрабуе асэнсаваць эміграцкі досьвед бацькі, што прайшоў праз паваенную Нямеччыну, вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі й прыехаў працаваць у ЗША.

“Талстой і фіялетавае крэсла” Ніны Занковіч, акрамя сапраўды цікавага аповеду пра кнігі й своеасаблівую кніжную тэрапію, працу з досьведам уласнае траўмы, можа быць цікавая айчынным чытачам яшчэ й згаданай сувязьзю зь Беларусьсю.

***Аляксандар Горны***
***Кірыл Ананька***
*(Горадня)*

# БЭСТСЭЛЕР АМЭРЫКАНСКАЙ БЕЛАРУСІСТЫКІ

*Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША. Выд. 3-е, дапрац. і дапоўн. Мінск: Кнігазбор, 2020. 656 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кніга 40).*

Беларуская дыяспара на сучасным этапе разьвіцьця гуманітарыстыкі паступова робіцца дастаткова значным аб'ектам навуковага й грамадзкага дыскурсу. Калі раней гэтая тэма заставалася на пэрыфэрыі беларускай гістарыяграфіі й дыяспарай займаліся літаральна некалькі адмыслоўцаў, то цяпер да вывучэньня далучаюцца маладыя дасьледнікі, якія ўздымаюць новыя праблемы й адкрываюць раней няведамыя крыніцы. Беларускае замежжа сёньня — гэта арганічная частка культурнай прасторы "беларускага сьвету", безь якой нельга ўявіць сучасную беларускую рэчаіснасьць. Больш за тое, вывучэньне беларускай дыяспары выйшла за рамкі акадэмічнасьці і ўвайшло ва ўнівэрсытэцкія аўдыторыі. У некаторых беларускіх ВНУ (Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Гарадзенскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Янкі Купалы й інш.) чытаюцца адмысловыя курсы па гісторыі й культуры беларускай дыяспары, рыхтуюцца мэтадычныя дапаможнікі, а студэнты абіраюць гэтыя тэмы ў якасьці сваіх пачатковых дасьледаваньняў. З гэтага пункту гледжаньня сёньняшняму пакаленьню на паліцах унівэрсытэцкіх бібліятэк вельмі важна мець абагульняльныя й якасныя працы, напісаныя жывой мовай. Няма сумніву, што кніга, якая разглядаецца ў гэтым аглядзе, якраз гэткае выданьне.

"Беларусы ў ЗША" Вітаўта Кіпеля, напэўна, адзіная кніга грамадзяніна ЗША, якая перавыдавалася на беларускай мове ў Беларусі тры разы. Трэцяе выданьне, што выйшла з варштатаў выдавецтва "Кнігазбор" у 2020 г., — сапраўдны *große buch*, то бок фаліянт салідных памераў. Калі нават візуальна яго параўноўваць зь першым выданьнем 1993 г., то розьніца відавочная. Асаблівасьць трэцяга выданьня ня толькі ў добрай паліграфіі, але і ў багатай ілюстраванасьці. Тут зьмешчаныя раней не публікаваныя фатаздымкі прадстаўнікоў беларускай дыяспары міжваеннага й паваеннага пэрыядаў, выявы афішаў, візытовак, рэклямы, пячатак і іншых прадметаў, зьвязаных з гісторыяй беларусаў у ЗША

ў розныя гады, што само па сабе ўяўляе ўжо значную цікавасьць для дасьледнікаў. Дыяспара — гэта, у першую чаргу, людзі, іх штодзённасьць, таму акцэнт на багатую колькасьць ілюстрацый, які зрабілі аўтар і навуковы рэдактар выданьня Натальля Гардзіенка, — пасьпяховы крок у стварэньні візуальнага вобразу беларускай эміграцыі ў ЗША.




Выданьне пачынаецца грунтоўным, больш за 70 старонак, нарысам жыцьця й дзейнасьці Вітаўта Кіпеля, падрыхтаваным Натальляй Гардзіенкай. Кіпель быў ня толькі летапісцам беларускай дыяспары ў ЗША, але й актыўным яе ўдзельнікам, таму ягоны жыцьцяпіс — гэта жыцьцяпіс цэлага пакаленьня паваеннай эміграцыі ў гэтай краіне. У нарысе асьвятляюцца дзіцячыя й юнацкія гады Вітаўта Кіпеля ў Беларусі й Расеі, эміграцыйнае жыцьцё ў Нямеччыне й Бэльгіі, пераезд у ЗША, праца ў славянскім аддзеле Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі, у Беларускім інстытуце навукі й мастацтва, пасаду дырэктара якога дзеяч займае нязьменна з 1982 г. Таксама ўвага была зьвернутая на грамадзка-палітычную актыўнасьць Кіпеля ў 1970—1980-я гг. у Рэспубліканскай партыі ЗША для падтрымкі прадстаўнікоў эміграцыйных супольнасьцяў, што можа стаць асобным прадметам дасьледаваньня дзейнасьці беларусаў у амэрыканскіх палітычных працэсах XX ст.

Зьмест трэцяга выданьня “Беларусаў у ЗША” па сваёй структуры практычна нічым не адрозьніваецца ад папярэдніх выданьняў. Быў дададзены толькі невялікі разьдзел “Аб Амэрыцы ў пары словаў”, дзе аўтар адлюстраваў першыя кантакты ўраджэнцаў беларускіх земляў з амэрыканскім кантынэнтам — доктара Лаўрына Багуна, доктара Аляксандра Куртыуса й інш., якія прыбылі ў амэрыканскія калёніі ў XVII ст. Агулам умоўна кнігу можна падзяліць на дзьве вялікія часткі — гісторыю даваеннай і пасьляваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША. Пры гэтым кожная з гэтых частак у будучым можа стаць асобным паўнавартасным дасьледаваньнем, і Вітаўт Кіпель у гэтым рэчышчы прапаноўвае добры трамплін.

Міжваенны пэрыяд дзейнасьці беларускай дыяспары ў ЗША застаецца амаль па-за ўвагай беларускіх гісторыкаў, гэта *terra incognita* для беларускай гістарыяграфіі. Вітаўт Кіпель надаў асобную ўвагу міжваеннай хвалі эміграцыі, прысьвяціўшы гэтай праблеме некалькі

разьдзелаў кнігі — “Узьнікненьне й разьвіцьцё беларускіх арганізацый” і “Беларускія масы ў міжваенным пэрыядзе”. Аўтар на падставе амэрыканскіх крыніц, расейскамоўных і ангельскамоўных пэрыядычных выданьняў міжваенага часу, асабістых успамінаў сучасьнікаў і іх нашчадкаў адлюстроўвае пачаткі фармаваньня нацыянальных структураў беларускай эміграцыі, бо менавіта ў міжваенны час беларуская дыяспара афармляецца як самастойная нацыянальная адзінка ў ЗША са сваімі арганізацыямі й інстытутамі. Між іншага, падкрэсьліваецца, што падчас Першай сусьветнай вайны і ў першыя гады пасьля яе значная маса беларускіх імігрантаў засталася па-за беларускім палітычным рухам і культурным адраджэньнем, і ў сувязі з гэтым мела нізкі ўзровень нацыянальнай сьведамасьці ці ўвогуле яе ня мела. Гэта абумовіла той факт, што беларусы-праваслаўныя раствараліся ў большасьці сваёй у расейскамоўным соцыюме ЗША, а беларусы-каталікі далучаліся да палякаў. У гэтай сувязі Вітаўт Кіпель вылучае дастаткова важны навуковы тэзіс, на які чамусьці зьвяртаюць мала ўвагі як беларускія, гэтак і расейскія дасьледнікі: расейская дыяспара ў ЗША ў міжваенны пэрыяд — гэта неаднародная зьява, значны адсотак якой складалі выхадцы зь беларускіх губэрняў былой Расейскай імпэрыі[1]. Прыезд у ЗША нацыянальных актывістаў Янкі Чарапука, Язэпа Варонкі, актыўныя кантакты структураў БНР зь беларускімі эмігрантамі прывялі да значных зьменаў у эміграцыйным асяродзьдзі й стварэньня інстытутаў, якія пазыцыянавалі сябе менавіта як нацыянальна-беларускія.

Разьдзелы, прысьвечаныя міжваеннай беларускай дыяспары ў ЗША ў трэцім выданьні значна дапоўненыя новымі зьвесткамі, якія назапасіліся ў гістарычнай навуцы з выхаду першай кнігі. Хочам яшчэ раз зьвярнуць увагу, што каштоўнасьць гэтых разьдзелаў — у выкарыстанні аўтарам матэрыялаў вуснай гісторыі, то бок успамінаў эмігрантаў першай чвэрці XX ст. Запісы гэтых успамінаў, якія захоўваюцца ў калекцыі дакумэнтаў Вітаўта Кіпеля ў Цэнтры дасьледаваньняў гісторыі іміграцыі ў Мінэсоце, маглі б у будучыні скласьці асобнае выданьне з адпаведным навуковым апаратам.

Другая ўмоўная частка кнігі, прысьвечаная паваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША, багатая перадусім на факталягічны матэрыял. Аўтар адлюстраваў амаль увесь спэктар беларускай прысутнасьці ў ЗША у 1950—2000-я гг., пачынаючы ад грамадзкіх арганізацыяў і заканчваючы паштовымі маркамі, якія выпускалі беларусы ў гэтай краіне.

---

[1] У прыватнасьці, у доктарскай дысэртацыі расейскага гісторыка Аляксандра Ручкіна ўвогуле няма ніякіх згадак аб ролі беларусаў у фармаваньні расейскай дыяспары ў ЗША ў міжваенны пэрыяд. Гл.: Ручкин, А. Русская диаспора в Соединенных Штатах Америки в первой половине XX века: автореферат диссертации доктора исторических наук. Москва, 2007.

Чытач тут даведаецца амаль аб усіх канфэсійных структурах беларускіх эмігрантаў у ЗША, заглыбіцца ў мора культурна-асьветніцкай, выдавецкай, навуковай і нават спартовай дзейнасьці прадстаўнікоў амэрыканскай беларускай дыяспары. Амаль на кожнай старонцы разьдзелаў аб паваеннай эміграцыі — унікальныя здымкі, ілюстрацыі, частка зь якіх друкуецца ўпершыню. Навінкай трэцяга выданьня можна лічыць зьвесткі аб актуальным стане беларускіх інстытутаў у ЗША, напрыклад, аб сучасным (на 2020 год) становішчы суполак Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня й інш.

Трэцяе выданьне кнігі Вітаўта Кіпеля завяршаецца яшчэ адным грунтоўным артыкулам рэдактаркі выданьня Натальлі Гардзіенкі "Вывучэньне гісторыі й сучаснасьці беларускай эміграцыі ў ЗША (1993—2020 гг.)". Гэты нарыс — своеасаблівае гістарыяграфічнае падсумаваньне тых дасьледаваньняў і выдавецкіх ініцыятываў, што былі зроблены ў рэчышчы вывучэньня беларусаў у ЗША за 27 гадоў, якія мінулі з дня выхаду першага выданьня кнігі.

"Беларусы ў ЗША" Вітаўта Кіпеля — гэта не навуковая манаграфія у клясычным разуменьні гэтага слова. Шмат у чым гэта асаблівасьць дадзенага выданьня, бо яно не абцяжаранае груваcткай і сухой навуковай мовай. Аўтар робіць грунтоўны агляд гісторыі беларускай дыяспары ў ЗША, але комплексны навуковы аналіз з прыцягненьнем мэтадалягічнай базы ён пакідае наступным спэцыялістам. У прыватнасьці, дасьледнікаў яшчэ чакае пошук дакумэнтаў на гэтую тэму ў эўрапейскіх архівах, зь якімі фактычна не працаваў аўтар кнігі. Разам з тым, кніга Вітаўта Кіпеля ўжо даўно стала настольнай ды адчыняе дзьверы ў неабсяжны сьвет амэрыканскай беларусікі.

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# “ВЫБРАНАЕ” ВІТАЎТА ТУМАША

*Тумаш Вітаўт. Выбранае / укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, каментары Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2020. 544 с.: [4] с. іл.*

Імя Вітаўта Тумаша ведамае ня толькі дасьледнікам беларускага замежжа, але таксама ўсім тым, хто ў той ці іншай ступені цікавіцца беларускай гісторыяй. Як многім іншым прадстаўнікам беларускага адраджэньня, яму было наканавана жыць і дзеяць у вельмі складаны час. Жыцьцёвы шлях Вітаўта Тумаша — гэта тыповы прыклад лёсу беларускага дзеяча, якому давялося зазнаць заходнебеларускай рэчаіснасьці, падзеяў Другой сусьветнай вайны, а пасьля — прымусовага жыцьця на чужыне. Дарога да беларушчыны юнака распачалася ў сьценах Віленскай беларускай гімназіі. Потым была дзейнасьць у Беларускім студэнцкім саюзе й Таварыстве прыяцеляў беларусаведы. У гады Другой сусьветнай вайны Тумаш непрацяглы час быў старшынём філіі Беларускага камітэту самадапамогі ў Лодзі, бурмістрам Менску, працаваў у рэдакцыі бэрлінскай “Раніцы”. У першыя паваенныя гады ангажаваўся ў дзейнасьць заснаванага ім Згуртаваньня беларускіх лекараў на чужыне. І гэта пералік далёка ня ўсіх месцаў, у якіх давялося працаваць будучаму дасьледніку.

Аднак на старонках гісторыі беларускага нацыянальнага руху мінулага стагодзьдзя ён адзначыўся ня толькі як актыўны грамадзкі дзеяч, але перадусім як асьветнік і навуковец. Апынуўшыся на эміграцыі ў паваенныя гады, Вітаўт Тумаш увесь свой вольны час аддаваў навукова-дасьледчай працы. Як прадстаўнік інтэлектуальнай эліты ён добра разумеў патрэбу разьвіцьця айчыннай навукі, назапашваньня й асэнсаваньня навуковых ведаў. Ён не заставаўся ў баку ад найважнейшых беларускіх ініцыятываў на эміграцыі, якія мелі навуковы характар. Безь ягонага ўдзелу не адбылася б такая падзея, як заснаваньне Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Вітаўт Тумаш стаў адным з заснавальнікаў гэтай установы, а таксама яе доўгачасовым кіраўніком у 1955—1982 гг. Акрамя таго, ён пэўны час займаў пасаду старшыні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.

Нягледзячы на мэдычную асьвету (у 1939 г. скончыў мэдычны факультэт Унівэрсытэту імя Стэфана Баторыя ў Вільні), яго навуковы

талент праявіўся на гістарычнай ніве. Пяру дасьледніка належыць шэраг навуковых працаў, прысьвечаных гісторыі Беларусі. У коле зацікаўленьня Вітаўта Тумаша былі самыя разнастайныя праблемы. Аднак у першую чаргу аўтара цікавіў этнагенэз беларускага народу, гісторыя друку на беларускіх землях, моўныя пытаньні. У сваім даробку дасьледнік мае шэраг артыкулаў пра друкарскую чыннасьць Васіля Цяпінскага й Пятра Мсьціслаўца, а таксама Рыгора Хадкевіча. Ён дасьледаваў таксама праблему балцкага субстрату ў фармаваньні сучасных беларусаў. Выяўляў цікавасць да юрыдычнай культуры Вялікага Княства Літоўскага (публікацыі пра выданьні Статутаў). Многія праблемы, якія распрацоўваў Вітаўт Тумаш, належыць лічыць піянэрскімі — напрыклад, тэма “Беларусы ў нямецкіх унівэрсытэтах у XVI ст.”. Як лекару яму была неабыякава таксама гісторыя мэдыцыны на Беларусі. Аднак галоўным напрамкам яго дасьледніцкай дзейнасьці была постаць друкара Францішка Скарыны. Характэрнай рысай эміграцыйнага аўтара было тое, што яго працы не былі кампіляцыямі чужых працаў, паколькі дасьледнік намагаўся карыстацца першакрыніцамі. Усе публікацыі аўтара былі вынікам стараннага й дакладнага аналізу, а таксама ўдумлівай бібліятэчнай працы. Безь перабольшаньня можна сьцьвердзіць, што Вітаўт Тумаш быў найбольш плённым беларускім эміграцыйным гісторыкам у Вольным Сьвеце. Паводле падлікаў Генадзя Сагановіча, каля паловы ўсіх навуковых тэкстаў, якія ў 1970—1980-я гады друкаваліся на бачынах “Запісаў БІНіМ”, напісаў Вітаўт Тумаш.




З зразумелых прычынаў у пэрыяд “жалезнай заслоны” даробак Вітаўта Тумаша заставаўся амаль недасягальны на бацькаўшчыне. Толькі зрэдку здаралася, што савецкія дасьледнікі згадвалі ягонае прозьвішча. Аднак рабілі гэта, падаючы эмігранта ў адмоўным сьвятле, што, праўда, не замінала ім карыстацца яго працамі, не падаючы крыніцы. У пазьнейшыя гады адбылося частковае вяртаньне дасьледніка на радзіму. Дасюль у беларускіх выданьнях у выглядзе брашураў перадрукоўваліся толькі некаторыя працы Вітаўта Тумаша. Апрача таго, варта згадаць зборнік твораў эміграцыйнага аўтара, які пабачыў сьвет у Менску ў 2002 г. у “Бібліятэцы «Беларускага гістарычнага агляду»”. Разам з тым многія дасьледаваньні па-ранейшаму заставаліся няведамымі беларускаму чытачу.

У сувязі з гэтым належыць вітаць новае выданьне выбраных працаў эміграцыйнага дасьледніка, якое гэтым разам выйшла ў “Бібліятэцы Бацькаўшчыны”. Яно значна шырэйшае за папярэдняе (2002 г.). Найноўшая кніга ўтрымлівае працы Вітаўта Тумаша, якія адлюстроўваюць асноўныя напрамкі яго дасьледчых зацікаўленьняў. У выданьне ўвайшлі артыкулы, прысьвечаныя: 1) пытаньням этнагенэзу й культурнага разьвіцьця беларусаў, 2) жыцьцю й дзейнасьці Францішка Скарыны, 3) кніжнай справе на Беларусі, 4) асобным дасьледнікам беларускай мінуўшчыны (разьдзел “Гісторыкі й творцы”). Акрамя таго, у зборніку зьмешчана некалькі рэцэнзіяў і водгукаў Вітаўта Тумаша на навуковую літаратуру й публікаваныя крыніцы. У кнізе ёсьць таксама артыкулы Лявона Юрэвіча, Генадзя Сагановіча, Вольгі Шутавай і Натальлі Гардзіенкі, у якіх аўтары падзяліліся сваімі ўражаньнямі й думкамі наконт творчай дзейнасьці й навуковай спадчыны Вітаўта Тумаша.

У “Выбранае” ўвайшлі найбольш грунтоўныя навуковыя працы эміграцыйнага дзеяча. Сярод іх можна згадаць артыкулы пра беларускую моўную экспансію ў Сярэднявеччы, паходжаньне назвы “Белая Русь”, уплыў балцкага элемэнту на этнагенэз беларусаў, паходжаньне Сымона Буднага, Статуты ВКЛ, а таксама гістарычныя погляды Вацлава Ластоўскага альбо беларускую плынь у польскай літаратуры XIX ст. Усе вышэйзгаданыя праблемы па сёньняшні дзень не перастаюць выклікаць дыскусіі й зацікаўленасьць дасьледнікаў. Так, напрыклад, у працах аб паходжаньні беларусаў аўтар пераканаўча й рашуча аспрэчваў погляды савецкіх гісторыкаў пра існаваньне гэтак званай старажытнарускай народнасьці.

Асаблівай увагу заслугоўваюць, аднак, скарыназнаўчыя працы. Менавіта дзякуючы ім Вітаўта Тумаша належыць залічыць да найбольш грунтоўных беларускіх дасьледнікаў. Некаторыя сучасныя гісторыкі слушна адзначаюць, што сваімі працамі ён шмат у чым апярэдзіў дасьледнікаў-скарыназнаўцаў на радзіме. Аўтар рупліва шукаў кнігі Скарыны, старанна аналізаваў гістарыяграфію, прысьвечаную беларускаму першадрукару. Паводле свайго памеру й значнасьці працы заснавальніка Беларускага інстытуту навукі й мастацтва можна параўнаць з даробкам не аднаго навуковага калектыву. Скарыназнаўчыя працы Вітаўта Тумаша ня страцілі сваёй актуальнасьці нават цяпер, нягледзячы на тое, што цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў постаць першадрукара дачакалася шэрагу грунтоўных навуковых манаграфіяў.

Хоць Вітаўт Тумаш ня быў гісторыкам паводле адукацыі, ён меў незвычайныя здольнасьці й інтуіцыю, якая не заўсёды прысутнічае ў прафэсіяналаў. Аналізуючы ягоныя працы, немагчыма не пагадзіцца з вышэйзгаданым Генадзем Сагановічам, які падкрэсьлівае, што дыяпазонам сваіх навуковых інтарэсаў і ўзроўнем эрудыцыі мала хто можа раўняцца зь Вітаўтам Тумашам. Зразумела, што некаторыя высновы

эміграцыйнага гісторыка сёньня могуць здавацца перабольшанымі, дыскусійнымі альбо занадта катэгарычнымі. Гэта натуральна, паколькі аўтар працаваў толькі з даступнымі яму матэрыяламі, а многае ў яго час заставалася па-за ўвагай дасьледнікаў. Разам з тым, яго даробак — вельмі істотны голас у навуковай дыскусіі аб многіх праблемах, якія маюць фундамэнтальнае значэньне для беларускай гістарычнай навукі. Сваімі працамі эміграцыйны аўтар адкрыў наступным пакаленьням гісторыкаў няведамыя дасюль напрамкі дасьледаваньняў. Тым большую каштоўнасьць уяўляе новае выданьне творчасьці гэтага выбітнага дасьледніка беларускай мінуўшчыны. Можна выказаць спадзяваньне, што хутка пабачаць сьвет і іншыя кнігі, прысьвечаныя Вітаўту Тумашу, у тым ліку й публікацыя яго эпісталярнай спадчыны.

***Віялета Кавалёва***
*Таронта*

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЎМЕЎ ПІСАЦЬ ГІМНЫ Й ТРОЛІЦЬ УЛАДУ

*Мікола Равенскі / укладальнік Лявон Юрэвіч, навуковы рэдактар Наталля Гардзіенка. Мінск: Кнігазбор, 2020. 163 с.*

Першая (хаця, безумоўна, не адзіная й не галоўная!) вартасьць гэтай кнігі ў тым, што яна выйшла ў выключна адпаведны момант. Як продкі казалі, дождж у пару́ — што золата. Ва ўкладальніка варта павучыцца майстэрству папулярызаваць дзеячаў беларускай гісторыі й культуры: выдаваць кнігі пра іх акурат у час, калі да гэтых асобаў уздымаецца хваля цікавасьці ў грамадзтве. Набярыце ў "Гугле" беларускай мовай *"Мікола"* — і першай падказкай сёньня выпадзе *"Равенскі"*. А каб нават нэафіты беларушчыны адразу ўцямілі, пра каго гаворка, на вокладцы кнігі, фонам да фатаздымку Равенскага, зьмешчаныя ноты гімну "Магутны Божа". Тут хочаш ня хочаш, а возьмеш у рукі й прынамсі пагартаеш.

Ганна Севярынец, легендарная й знакавая асоба нашай сучаснасьці, якая напісала прадмову да гэтага выданьня, таксама зьвяртае ўвагу на асаблівую надзённасьць кнігі пра кампазытара, найбольш славуты твор якога сёньня можна пачуць кожны дзень у дзясятках самых розных выкананьняў, а да таго ж гаворыць пра наўпроставую сувязь паміж пэрыядамі адраджэньня беларушчыны ў пачатку XX ст. і беларускай рэвалюцыяй 2020-га, якая разгортваецца на нашых вачах. Сьледам за прадмовай Ганны Севярынец зьмешчанае яшчэ адно ўступнае слова — з "другога берагу" (ва ўсіх сэнсах), і належыць яно Вітаўту Кіпелю, таксама чалавеку-легендзе, які асабіста ведаў і Міколу Равенскага, і тую эпоху, калі нараджаліся ягоныя музычныя шэдэўры. Тэксты Севярынец і Кіпеля пераплятаюцца й дапаўняюць адзін аднаго, утвараючы своеасаблівы "мост" паміж часамі, пакаленьнямі й кантынэнтамі. Па гэтым мосьце чытач пашыбуе да сваіх уласных адкрыцьцяў, якія чакаюць яго ў гэтай кнізе ці не на кожнай старонцы.

Асноўная частка выданьня складаецца з двух разьдзелаў: "Ён" і "Пра яго". У першым — аўтабіяграфія ("Жыцьцяпіс") Равенскага й напісаныя ім артыкулы ды лісты, у другім, адпаведна, творы пра кампазытара — успаміны, крытыка, нэкралёгі. Усё гэта — інфармацыя зь першых рук, бо, за выключэньнем Натальлі Гардзіенкі, аўтары тэкстаў, якія




пішуць “пра яго”, былі знаёмыя зь Міколам Равенскім асабіста, і таму гістарычная вартасьць зьмешчаных у кнізе матэрыялаў надзвычай высокая. Да таго ж, кніга багата ілюстраваная — фатаздымкамі, факсымільнымі старонкамі рукапісаў, выявамі афішаў і вокладак музычных зборнікаў і да т. п.

Варта ледзь заглыбіцца ў тэксты, як рэвэляцыі пачынаюць сыпацца як з рогу. Першае адкрыцьцё — Мікола Равенскі быў ні больш ні менш як музычным вундэркіндам. Яму самому такое вызначэньне, магчыма, нават не прыходзіла ў галаву, але вось якія зьвесткі пра сябе ён падае ў сваім “Жыцьцяпісе”: *“Валодаючы вельмі добра дзяцінным голасам, музычным слыхам і здольнасьцямі, ад пяцёх год сьпяваў у царкоўным хоры, а ў 1895 г. быў прыняты ў Менскі архірэйскі хор на поўнае ўтрыманьне й бясплатную навуку. Там прабыў я да 1903 г., дзе і атрымаў агульную пачатковую музычную асьвету”*. Пяцігадовы хлопчык, які сьпявае ў царкоўным хоры нароўні з дарослымі, умее трымаць сваю партыю ў акапэльным літургічным шматгалосьсі й здольны вытрымліваць доўгія набажэнствы (што магчыма толькі ў выпадку, калі дзіцё праз край захопленае музыкай і сьпевамі) — гэта гатовы эпізод для фільму пра кампазытара, які, спадзяюся, будзе неўзабаве зьняты кінэматаграфістамі новай вольнай Беларусі.

Як высьвятляецца, Мікола Равенскі, у дадатак да народнай музыкі, у дзяцінстве ня менш, а можа й больш часта чуў царкоўную. Менавіта яна ўваходзіла ў ягоныя самыя раньнія й самыя моцныя музычныя ўражаньні й абумоўлівала далейшыя кампазытарскія пошукі. Можа ў гэтым і ёсьць адна з прычынаў, чаму “Магутны Божа” настолькі прыпаў да сэрца вернікам розных беларускіх канфэсіяў — і праваслаўным, і каталікам, і пратэстантам. Гэты твор гучыць натуральна, як дыханьне, і незалежна ад таго, ці будзе ён калісьці абраны афіцыйным гімнам новай Беларусі, ён ужо заслужана стаў найгалоўнейшым беларускім духоўным гімнам. Але спадчына Міколы Равенскага ў галіне царкоўнай музыкі складаецца, безумоўна, больш чым з аднае кампазыцыі (хаця й аднаго “Магутнага Божа” хапіла б для неўміручай славы). Кампазытар не выпадкова завяршае свой “Жыцьцяпіс” пералікам створаных ім літургічных твораў (пра самае значнае чалавек у сваёй біяграфіі звычайна гаворыць напрыканцы): *“Апрача гэтага, на працягу гадоў ствараў*

*царкоўную музыку: два нумары «Иже херувимы», «Благослови, душа моя, Господа», «Во царствии Твоем», «Милость Мира», «Верую» для хору й солё барытона, «Отче Наш», «Достойно есть», «Хвалите Господа», «Многолетие», екценіі — вялікая, сугубая й прасіцельная — і невялікі канцэрт «Слава в вышних Богу»".* Маю вялікі спадзеў, што калі-небудзь і гэтая частка музычнай спадчыны Равенскага загучыць як у беларускіх сьвятынях, гэтак і на філярманічных канцэртах.

Абставіны жыцьця кампазытара занадта часта складаліся супраць яго — ягоныя музычныя творы гінулі на пажарах, пры пераездах з краіны ў краіну, назаўсёды зьнікалі ў кіпцюрох ГПУ... Ён спрабаваў змагацца зь лёсам, аднаўляў страчаную музыку па памяці — але часам толькі для таго, каб страціць яе яшчэ раз. Так, апэрэта "Залёты" на словы Вінцэнта Дунін-Марцінкевіча, першы варыянт якой быў напісаны ў 1922 г. і не захаваўся, была ўзноўленая кампазытарам падчас Другой сусьветнай вайны, але загінула пры пераезьдзе ў Нямеччыну. *"Такім чынам, і паўторная праца над апэрэтай аказалася дарэмнай",* — з жалем канстатуе Мікола Равенскі ў "Жыцьцяпісе".

У дапісе Алеся Карповіча "Бэрлінская Баляда" апавядаецца пра яшчэ адно падобнае здарэньне з музычным творам Міколы Равенскага:

*"І якраз у гэты час (пры самым канцы Другой сусьветнай вайны. — ВК) кампазытар закончыў новы твор — «Баляду на беларускую тэму для йскрыпкі й фартэп'яну». Мне, як і кожнаму, хто яго чуў, падабайся гэты твор — цёплая, лірычная мэлёдыя, сардэчнасьць і глыбіня пачуцьцяў гучэлі ў «Балядзе», і мы з Равенскім шмат разоў пераігрывалі яе.*

*У вадну із студзеньскіх нядзеляў (здаецца, гэта было Вадохрышча) курсанты Батальёну ладзілі сяброўскую вечарыну. Выступаў хор, дэкляматары, паасобныя сьпевакі; атмасфэра была вельмі цёплая й прыемная, і навет пара алярмаў, у часе якіх праграма перарывалася, а выканаўцы з слухачамі адседжваліся ў бамбасховішчах, не маглі абнізіць настрою. На гэтай вечарыне і хацеў Мікола Равенскі ўпершыню выканаць сваю «Баляду». Ён дасканала падрыхтаваў яе, што патрабавала многа высілкаў зь ягонага боку, бо «Баляда» тэхнічна была даволі складаная. Аднак зусім непрадугледжаны выпадак не дазволіў прагучэць гэтаму твору. Якраз у той момант, калі кампазытар ішоў із скрыпкаю да імправізаванай эстрады, скрыпка высьлізнулася зь ягоных рук, упала на падлогу і пры гэтым так няўдала, што грыф зусім адпаў ад корпусу. На жаль, дастаць іншую йскрыпку ў гэных умовах было немагчыма, і «Баляда» так і засталася нявыкананай...*

*Празь нейкі час Равенскі разам з рукапісам ужо падрыхтаванага зборніку беларускіх песьняў аддаў у друкарню й манускрыпт «Баляды». Але пажар у часе аднаго з бамбардаваньняў зьнішчыў разам з друкарняй і зборнік, і гэтую нешчасьлівую «Баляду»...*

*Пазьней колькі разоў Мікола Равенскі варочаўся да думкі адтварыць «Баляду» з памяці — чаго яна, безумоўна, была вартая — але заўсёды нейкія іншыя творчыя пляны адсоўвалі яе з «парадку дня». Частка музыкі з «Баляды» была выкарыстаная Равенскім у ягонай «Фантазіі» для йскрыпкі, але жаданьне цалкам адтварыць яе не пакідала кампазытара, і навет у часе нашага апошняга спатканьня ў Лювэне ён гаварыў аб гэтым. Але на гэты раз умяшалася бязьлітасная сьмерць. Бэрлінская «Баляда» Равенскага адгучэла разам зь ягоным жыцьцём...”*

Тым ня менш, нават самыя моцныя жыцьцёвыя перашкоды ніколі не спынялі кампазытара, а трагічны лёс шмат якіх зь ягоных твораў не адбіў ахвоты да стварэньня новых. Музычная асьвета Міколы Равенскага, якая пачалася вельмі рана, была перарваная Першай сусьветнай вайной, эвакуацыяй, затым неразьбярыхай першых гадоў савецкай улады, за якой прыйшоў бальшавіцкі тэрор і гвалт... Але ўвесь гэты час, працуючы на розных пасадах, губляючы сяброў і сваякоў, зазнаўшы на ўласнай скуры ўсе “ласкі” савецкага ладу, Мікола Равенскі марыў пра вышэйшую музычную адукацыю. І мара гэтая збылася, хаця й ня так хутка — ён закончыў кансэрваторыю, калі меў 34 гады. Кампазытар заставаўся ў выдатнай творчай форме да самай сваёй заўчаснай сьмерці ў 1953 г. ад невылечнай хваробы. Варта зазначыць, што й “Магутны Божа” быў створаны Равенскім у паважным веку — яму тады было ўжо 60 гадоў.

Артыкулы аўтарства Міколы Равенскага, напісаныя ў розныя гады (частка зь іх друкавалася ў свой час у розных пэрыядычных выданьнях, іншыя захоўваюцца ў архівах) і рупліва сабраныя ў гэтай кнізе Лявонам Юрэвічам, цікавыя ўсе да аднаго й кожны па-свойму. Тут і каштоўныя зьвесткі да гісторыі музычнай культуры Беларусі — напрыклад, аб працы над першай беларускай опэрай “Браніслава” (ці трэба дадаваць, што й яна трапіла пад бальшавіцкія рэпрэсіі — увесь нотны матэрыял быў сканфіскаваны, і яго ніколі не ўдалося цалкам узнавіць) ці пра арышт Уладзімера Тэраўскага. Тут і арыгінальныя ды ўдумлівыя разважаньні пра беларускую опэру, беларускую народную музыку. Трэба падкрэсьліць, што народная музыка была, нароўні з клясычнай і літургічнай, захапленьнем і любоўю Міколы Равенскага на працягу ўсяго ягонага жыцьця. Ён дасканала ведаў і добра разумеў беларускі фальклёр, шмат гадоў запісваў народныя песьні ад аўтэнтычных выканаўцаў, друкаваў гэтыя песьні ў зборніках, рабіў таленавітыя апрацоўкі й часьцяком дарыў народным мэлёдыям другое жыцьцё, разьвіваючы гэтыя музычныя тэмы ў сваіх клясычных творах.

Мяне як чалавека, гадоў сорак зьвязанага з народнай музыкай і фальклёрнымі гуртамі, найбольш зацікавіў і ўразіў артыкул Міколы Равенскага “Гарманізаваньне беларускіх народных песень маскоўскімі кампазытарамі”, надрукаваны ўпершыню ў часопісе “Ўзвышша”

ў 1928 г. Зьмешчаная ў зборніку частка артыкулу невялікая — няпоўныя пяць старонак, — але гэты тэкст з шэрагу тых, дзе словам цесна, а думкам прасторна. Натуральна, што гэты артыкул ніколі ў жыцьці ня трапіў бы мне на вочы, каб ня сёлетняя кніга Юрэвіча й Гардзіенкі (за што ім асаблівы пэрсанальны дзякуй!).

Было аднолькава нечакана й прыемна сустрэць у Міколы Равенскага думкі, якія шмат у чым перагукаліся з маімі ўласнымі. Напрыклад, што датычыць вызначэньня гармоніі ў народных песьнях. Кампазытар піша: *"Народная песьня аснавана не на раскладзе акорду на яго складальныя тоны, а на гаме, і такім чынам, што з трох тонаў узапар ніколі ня зложыцца акорду. Выключэньні могуць быць, але вельмі рэдка. Усе народныя песьні задуманы без гармоніі, і гармонія да народнай песьні зьяўляецца дадаткам, які робіцца паводле асабістага густу кампазытара"*. Усё слушна — як толькі фольк пачынае гучаць не ў сваім натуральным асяродку, а са сцэны, кожны кампазытар ці аранжыроўшчык "апранае" яго пад свой густ. І за кошт таго, што любая народная песьня ўтрымлівае ў сабе патэнцыйныя магчымасьці для найразмаітых аранжыровак, можна сустрэць кампазытарскія апрацоўкі адной і той фальклёрнай мэлёдыі, якія будуць розьніцца паміж сабой як дзень і ноч. Часам гэта дае магчымасьць аранжыроўшчыку вырашаць дадатковыя творчыя задачы або нават ствараць музычныя кур'ёзы. (Напрыклад, ідэя каляднага кліпа 2020 году ад гурта "Яваровы людзі" пабудаваная на тым, што адзін з мноства магчымых варыянтаў гарманізацыі папулярнай беларускай калядкі пра казу й ваўка цалкам супадае з гарманічным ходам "Канона" Пахэльбэля (ням. *Johann Pachelbel*). Цікава толькі, які працэнт слухачоў зразумеў гэты музычны жарт). А калі ўсур'ёз, дык мне здаецца, што любому кампазытару, які выкарыстоўвае ў сваёй творчасьці народныя мэлёдыі, варта заўсёды — як бы далёка ні заносіла яго фантазія — трымаць у галаве вось гэтую ясна выказаную Міколам Равенскім думку: *"Усе народныя песьні задуманы без гармоніі"*. Проста памятаць пра гэта, каб не губляць арыенціраў у палёце.

Другая надзвычай важная заўвага Міколы Равенскага датычыць рытму народных песьняў. Вельмі часта гэты рытм зьменлівы, і калі, запісваючы мэлёдыю, спрабаваць дапасоўваць да яе адзін з традыцыйных музычных памераў, дык у адным такце можа атрымацца 3/4, у другім 5/4, у трэцім 4/4 і г. д. З гледзішча клясычнай музычнай стройнасьці рытм такой песьні будзе падавацца "няправільным". Гаворка тут ідзе пра найбольш старажытныя мэлёдыі, прызначаныя выключна для сьпяваньня, не для танцаў. *"Угонка падобнай песьні ў мэтрычныя рамкі,* — піша Равенскі, — *прыводзіць яе да рытмічнай абмежаванасьці, калечыць яе. Бясспрэчна, у нас ёсьць шмат песень, якія суладжаны ў квадратовым разьмеры, але ўсе гэтыя песьні больш позьняга паходжэньня"*. Сапраўды, і мне часьцяком да-

водзілася бачыць, як пры запісе нотамі народныя песьні менавіта вось так калечацца, месцамі сьціскаюцца ці расьцягваюцца, каб падагнаць іх пад "квадратовы" ці які іншы памер. Дарэчы, падобная адсутнасьць просталінейнага рытму ўласьцівая ня толькі народным мэлёдыям, але й царкоўнай музыцы, якую Равенскі ведаў і адчуваў вельмі глыбока. І таму ўжо шмат разоў згаданы тут "Магутны Божа" мае такі няпросты й неадназначны рытмічны малюнак. Колькі разоў я чула варыянты выкананьня, дзе сьпевакі намагаліся (часам сьведама, часам падсьведама) спрасьціць ці "выпрастаць" рытм гэтага гімну, зрабіць нейкія часткі "аднолькавай даўжыні", бо як на нашыя вушы, прызвычаеныя да стандартных рытмаў, мэлёдыю Равенскага часам хочацца як бы "ўдасканаліць". На маё зьдзіўленьне, такім падыходам грашаць ня толькі сьпевакі-аматары, але й прафэсійныя выканаўцы — узяць хоць бы апошні, сапраўды выдатны кліп Ільлі Сільчукова, які набраў на «YouTube» больш за 260 тысяч праглядаў: https://www.youtube.com/watch?v=Y53kb0k9mds. Гімн тут гучыць у аранжыроўцы, якая дастаткова значна зьмяняе рытм арыгіналу. Бездакорная рэжысура, бліскучы мантаж, цудоўныя выканаўцы, у выніку атрымаўся вельмі натхняльны мастацкі твор — але ўсё ж, хоць ён і называецца "Магутны Божа", гэта не зусім тая музыка, якую напісаў Равенскі.

А вось яшчэ загадка, адказ на якую мне пакуль не ўдалося адшукаць у сеціве. На старонцы 46 у кнізе зьмешчаная выява рукапісу нотаў да песьні "Люблю наш край". Усё нібыта як належыць — *словы К. Буйло, музыка М. Равенскага*. Але! Гэта настолькі іншая вэрсія песьні, настолькі яна адрозьніваецца ад той, да якой мы ўсе прызвычаіліся й якую цяпер ведаем пад назовам "Люблю наш край", што гаворка можа ісьці як пра радыкальную аранжыроўку, так і пра новы варыянт твору. Што ж здарылася? Ці кампазытар пазьней вярнуўся да гэтай песьні й стварыў новую рэдакцыю, практычна перапісаўшы песьню нанова? Або хтосьці іншы зрабіў такую аранжыроўку, якая цалкам засланіла сабой першапачатковы твор і заняла яго месца? (Дарэчы, зьмешчаны ў кнізе першапачатковы нотны запіс песьні "Люблю наш край" вылучаецца ня толькі іншай мэлядычнай лініяй, але й іншым рытмам — ізноў жа, не паўсюль такім просталінейным, як у ведамым усім варыянце.) Вельмі цікава было б даведацца пра шлях стварэньня менавіта гэтай песьні — магчыма, беларускія дасьледнікі музыкі здолеюць праліць сьвятло на гэтую амаль дэтэктыўную гісторыю?

Кожны з артыкулаў, зьмешчаных у другім разьдзеле кнігі, дадае нейкія новыя рысы да партрэту Міколы Равенскага, і вельмі цікава назіраць, як гэты партрэт пад канец кнігі робіцца ўсё больш і больш аб'ёмным і каляровым. Напрыклад, зь дзёньнікавых запісаў Васіля Шчэцькі, надрукаваных пад назвай "Прафэсар Мікола Равенскі ў Лювэне й Беларускі Студэнцкі Хор (Ансамбль Беларускіх Студэнтаў)", паўстаюць карціны

з жыцьця апошняга арганізаванага й кіраванага Равенскім вакальнага калектыву — хору беларускіх студэнтаў, якія навучаліся ў Лювэне. Кампазытар пераехаў у гэты горад зь Нямеччыны ў чэрвені 1950 г., зь верасьня студэнцкі хор пачаў рэпэтыцыі, а ў сьнежні ўжо даваў вялікія канцэрты. Усяго за тры месяцы напружаных рэпэтыцыяў Мікола Равенскі здолеў стварыць зь непадрыхтаваных аматараў амаль прафэсійны калектыў. Графік выступаў хору быў вельмі шчыльны, а рэпэртуар уражваў складанасьцю й разнастайнасьцю. Рэдка які канцэрт абыходзіўся бяз выкліку асобных твораў на біс. Вось якую нататку пакінуў у дзёньніку Васіль Шчэцька, апісваючы адзін з канцэртаў у лютым 1952 г.:

*“10.II.52. Ансамбль даваў канцэрт у College du Sacre Coeur у Бруксэлі. Заля была вельмі дрэнная, але канцэрт удаўся надзвычайна. Людзей была поўная заля, й прыймалі нас із захапленьнем. Тры песьні былі выкліканыя на біс: «Ой, вяду бяду», «Бабка» й «Пагоня». Шмат было прыхільнікаў нашага мастацтва. Увесь канцэрт быў накручаны на ленту. Канфэрансье быў а. Робэрт. Ён прымяніў свае здольнасьці, каб паказаць БСЗ як адных з найлепшых у Бэльгіі, а сярод беларусаў як найбольш актыўных на эміграцыі. Перад канцэртам а. Робэрт даў кароткі нарыс, што такое Беларусь і беларусы. Яго словы былі моцнымі й патрыятычнымі”.*

Да паведамленьня пра канцэрт, які адбыўся 15 сьнежня 1952 г. і “*выпаў надзвычайна*”, то бок вельмі ўдаўся, ёсьць прыпіска адным сказам: *“Тут недзе праф. Равенскі занямог”*. Хваробе хапіла менш за тры месяцы, каб завяршыць сваю разбуральную працу — 9 сакавіка 1953 г. жыцьцёвы шлях таленавітага кампазытара й хормайстра раптоўна абарваўся.

Аднак ня будзем канчаць артыкул на сумнай ноце. Лепей на разьвітаньне пазнаёмцеся з адным вельмі забаўным выпадкам з жыцьця Равенскага. Гэтую гісторыю апавёў Антон Адамовіч у сваім надзвычай яркім допісе “Лірнік краіны ветлай”. Магчыма, гэты эпізод сёньня так западае ў памяць таму, што надзіва карэлюе з нашым цяперашнім партызанскім супрацівам. Бо на сучаснай мове тое, што ўтварылі тады Мікола Равенскі і Ўладзімер Дубоўка, інакш як “тонкім тролінгам” улады й не назавеш. Але час даць слова Антону Адамовічу:

*“Наступны раз я спаткаўся з Равенскім ужо ў 1929 г. улетку. Тады ён прыяжджаў на вакацыі да свайго брата, калішняга загадчыка «Беларускага Рабочага Клюбу», што настаўнічаў пад Менскам. Разам зь ім прыяжджаў накаротка й Дубоўка. Супраца паэты й кампазытара тады была дасягнуўшы свайго ўзвышша — Равенскі пісаў опэру, што мелася стацца першай беларускай опэрай наагул — «Браніславу», на лібрэта, напісанае адмыслова для яго Дубоўкам паводля собскае аднайменнае паэмы, кагадзе перад тым апублікаванае поўнасьцяй.*

*Сэнсацыяй тады сталася, аднак, ня гэтая опэра, яшчэ толькі пачатая, а «Ліпнёвы гімн» Равенскага на словы Дубоўкі, якраз прыве-*

*зены тады абодвымі з сабою. «Гімн» гэты быў прызначаны да сьвята «вызваленьня Беларусі ад белапалякаў», адзначанага штогоду ў БССР 11 ліпеня. Дубоўкавы словы былі «ідэялягічна вытрыманымі» — зусім неспадзявана для яго тэю парою — знарочыстая «празаізацыя» гэтых словаў, часта ў гэтага паэты прыхватак у падобных выпадках, да тупаватых на такія рэчы партыйных «трымальнікаў ідэялёгіі» не даходзіла. А ўжо ў нотах Равенскага пазнацца на чым-небудзь, нат проста расчытаць іх, было зусім не для іх наагул. Дык «Гімн» быў прыняты імі з радасьцяй, з надзеяй, хоць і неспадзеўнай, на пачатак нейкай «перабудовы» пракуднага паэты ды выданы разам з нотамі адмысловым дадаткам да сьвяточнага нумару аж самой газэты «Зьвязды», гэтай менскай «Праўды» (праўда, тут «падпёр» і «прапхнуў» яго наш хлопец, кагадзе якраз аформлены ў сяброх «Узвышша», крытык Фэлікс Купцэвіч, тады ледзь не заступнік рэдактара, утаямнічаны ў справу Дубоўкам). Адылі, калі «Гімн» быў аддрукаваны й масава распаўсюджаны ізь «Зьвяздою», і так, зь месцаў, дзе спрабавалі выканаць яго, адразу-ж пайшлі «трывожныя сыгналы»: музыка Равенскага, выявілася, ані не перадае спадзяванае радасьці «вызваленьня ад паноў», а як-бы й зусім наадварот — нейкі нечуваны цяжар пачуцьця тых, што праз гэнае «вызваленьне» пачулі сябе як ускочыўшы з агню ды ў прысак... «Гэта ня гімн перамогі, а нейкі стогн, усёдна, як рабоў на будаўніцтве пірамiды Хэопса», — пісалі з аднаго месца, як пераказваў Купцэвіч. Было нам тады ці мала сьмеху каля ўдаласьці гэтага «фартэлю» паэты й кампазытара, які мусілі проста перакаўтнуць, не аблізываючыся, ягоныя цэнзары, рэдактары й выдаўцы, бо не выпадала-ж уздымаць нейкі вэрхал, расьпісваючыся тым самым у собскай неабачнасьці й наагул небарачнасьці. Сьмех-жа ў нас тымі часамі ўжо рабіўся ўсё больш і больш рэдкім, а гэты хіба й стаўся зусім рэшнім-апошнім...”*

Трошкі далей, у працяг тэмы, Антон Адамовіч згадвае пра сваю размову зь Міколам Равенскім, якая адбылася неўзабаве пасьля апісаных вышэй падзеяў. *“Тут я найперш пераказаў яму рэакцыю на «Ліпнёвы гімн», і мы яшчэ раз пасьмяяліся тым сьмехам рэшнім. Асабліва спадабалася яму супастава з Хэопсам. «А ведаеце, — казаў, — мне нат пачынае здавацца, што калі я перакладаў Уладзікаву ідэю на ноты, перада мною якраз і быў гэты вобраз...Фараоны-ж, праўда-ж, фараоны”.*

Жывучы сёньня, Мікола Равенскі таксама знайшоў бы й тэмы для новых гераічных гімнаў, і ўжытак для свайго дасканалага музычнага сарказму. Духоўна ён выглядае абсалютна як наш сучасьнік і паплечнік — гэты шчуплы й невялікага росту таленавіты музыка, ад постаці якога, паводле словаў таго ж Адамовіча, *“навявала ціхой сьціпласьцяй і нейкай асаблівай ветласьцяй”*.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# КНІГА ПРА БЕЛАРУСКІЯ ПАХАВАНЬНІ Ў ЧЭХІІ Й СЛАВАЧЧЫНЕ

*Сяргей Кнырэвіч. Магілы беларусаў у Чэхіі і Славакіі = Siarhej Knyrevič. Běloruské hroby na českých a slovenských hřbitovech. Praha, 2020. — 270 s.*

Беларуская нэкрапалістыка актыўна разьвіваецца цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў і можа пахваліцца пэўнымі дасягненьнямі. Акрамя дзясяткаў публікацыяў, можна згадаць і рэгулярныя панэлі на Міжнародных кангрэсах дасьледнікаў Беларусі, што ладзіліся да апошняга часу. Што праўда, аб’ектыў дасьледнікаў пераважна скіраваны на пахавальную культуру й гістарычныя могілкі ў самой Беларусі. І толькі лічаныя публікацыі зьвяртаюцца да беларускіх магілаў у замежжы.

Дзьвюхмоўную беларуска-чэскую кнігу Сяргея Кнырэвіча можна лічыць выдатным дасягненьнем у вывучэньні менавіта замежных беларускіх магілаў. У прадмове аўтар распавядае пра складанасьці пошуку пахаваньняў суайчыньнікаў на чэскіх і славацкіх могілках. Часам працэс займае гады, а часам даволі хутка знаходзяцца сваякі, якія дапамагаюць ня толькі знайсьці пахаваньне, але й распавесьці дэталі біяграфіі памерлага на чужыне эмігранта.

Выдадзеная ў 2020 г. у Празе праца — вынік менавіта гэткіх палявых дасьледаваньняў аўтара, які ад пачатку меў на руках толькі сьпіс беларусаў, якія некалі жылі ў Чэхаславаччыне. Дзякуючы шматгадовым пошукам сьвет пабачыў даведнік з інфармацыяй пра паўсотню надмагільляў у розных гарадах Чэхіі й Славаччыны. Кожная з пахаваных асобаў рэпрэзэнтаваная фатаздымкамі, біяграфічнай інфармацыяй у дзьвюх мовах і абавязковай пазнакай дакладнага месца пахаваньня. Такім чынам, пры жаданьні любы зацікаўлены можа адведаць адпаведную магілу.

Калі раней на знакамітых Альшанскіх могілках у Празе беларусы звычайна наведвалі тры ведамыя пахаваньні: Пётры Крачэўскага, Васіля Захаркі з жонкаю Пелагеяй і Міхася Забэйды-Суміцкага, то дзякуючы кнізе Сяргея Кнырэвіча на тых самых могілках можна ўшанаваць памяць яшчэ дзясятка суродзічаў. Больш за тое, дзякуючы пошукавай дзейнасьці дасьледніка ўдалося аднавіць гістарычную справядлівасьць




і ўсталяваць шыльду над магілаю Міколы Вяршыніна — беларускага дзеяча ў міжваеннай Празе.

Праца Сяргея Кнырэвіча дазваляе прасачыць лёс і даведацца пра месца апошняга спачыну дзясяткаў беларускіх студэнтаў чэхаславацкіх вышэйшых навучальных установаў міжваеннага часу. Уласна менавіта яны й складаюць пераважную частку герояў кнігі — тыя, хто пасьля навучаньня не вярнуўся на радзіму, а застаўся ўладкоўваць сваё жыцьцё на чужыне.

Нельга не заўважыць, што біяграфічныя зьвесткі ў даведніку вельмі няроўныя. Пра кагосьці напісаны артыкул на колькі старонак, а пра іншых — некалькі радкоў. Сытуацыя зразумелая, бо часта адшукаць зьвесткі пра асобу складаней, чым знайсьці пахаваньне. Далёка не заўсёды архіўныя пошукі даюць здавальняльныя вынікі. Тым больш каштоўнымі выглядаюць тыя сьціплыя знойдзеныя зьвесткі, і тым больш застаецца прасторы для наступных дасьледаваньняў.

З пахаваньнямі чэскіх беларусаў цягам доўгага часу была зьвязаная адна таямніца. Ніхто ня мог дакладна паказаць месца апошняга спачыну Тамаша Грыба. Агучваліся розныя вэрсіі, сьведкі казалі ў тым ліку й пра Альшаны, і пра тое, што магіла была зьнішчаная бомбаю ў часе Другой сусьветнай вайны. Сяргей Кнырэвіч знайшоў частковы адказ на гэтае пытаньне. Тамаш Грыб быў крэміраваны, урна з попелам пахаваная на Вінаградзкіх могілках (ёсьць дакладныя каардынаты таго пахаваньня), але ў 1960 г. парэшткі былі перанесеныя ў супольную магілу на іншых могілках. Куды менавіта, інфармацыі не пададзена, гэта можа быць наступным этапам пошукаў.

Як зазначае аўтар у прадмове, ягоная праца ў выяўленьні беларускіх пахаваньняў яшчэ далёкая ад заканчэньня. Пры канцы кнігі падаецца сьпіс нязнойдзеных пахаваньняў, і імёнаў у ім амаль столькі ж, колькі знойдзеных надмагільляў. Але пры гэтым вельмі важна, што аўтар падзяліўся напрацаваным, і яно цяпер можа стацца падмуркам ня толькі ягоных уласных дасьледаваньняў.

Кніга Сяргея Кнырэвіча “Магілы беларусаў у Чэхіі і Славакіі” мае добра прадуманую структуру падачы інфармацыі, якасныя здымкі й паліграфію. Для будучых выданьняў аўтару можна толькі параіць не

адмаўляцца ад паслугаў карэктара, які б дапамог ня толькі выправіць моўныя памылкі, але й лепей даць рады з перадачай па-беларуску чэскіх уласных імёнаў.

Хочацца спадзявацца, што дасьледаваньне Сяргея Кнырэвіча будзе мець працяг, колькасьць знойдзеных беларускіх пахаваньняў будзе павялічвацца, і ў будучыні мы займеем яшчэ больш поўны энцыкляпэдычны даведнік магілаў беларусаў у Чэхіі й Славаччыне.

***У. П.***

# "ВЫБРАНАЕ" ЛЯВА АКІНШЭВІЧА

*Акіншэвіч, Леў. Выбранае / укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, каментары, паказнік Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2021. 408 с.: [8] с. іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; Спадчына: агледзіны).*

Беларуская нацыянальная гістарыяграфія аформілася ў 1920-я гг. Тагачасны ўздым айчыннае гістарычнае навукі быў зьвязаны зь дзейнасьцю цэлае плеяды дасьледнікаў, далейшы лёс большасьці зь якіх, на жаль, склаўся вельмі няпроста, а часам трагічна. Адным з такіх адметных навукоўцаў са складаным жыцьцёвым шляхам быў Леў Акіншэвіч (1898—1980 гг.) — беларуска-ўкраінскі гісторык права XVI—XVIII стст. Беларус паводле паходжаньня, ён нарадзіўся ў Расеі, а сьцьвердзіўся як дасьледнік ва Ўкраіне. Па заканчэньні юрыдычнага факультэту Кіеўскага ўнівэрсытэту Леў Акіншэвіч у 1921—1933 гг. працаваў ва Ўсеўкраінскай Акадэміі навук. Пры гэтым ён не парываў сувязяў са сваёй этнічнай радзімай: у 1918 г. прыняў грамадзянства Беларускае Народнае Рэспублікі, у другой палове 1920-х гг. некалькі разоў наведваў БССР і актыўна вывучаў гісторыю Беларусі. Аднак рэпрэсіі 1930-х гг. на некаторы час перарвалі яго навуковую дзейнасьць, а падзеі Другой сусьветнай вайны ўвогуле вымусілі выехаць у эміграцыю. З 1949 г. і да канца свайго жыцьця ён жыў у Злучаных Штатах Амэрыкі.

Леў Акіншэвіч, на нашую думку, — вельмі важная постаць у беларускай гістарычнай навуцы першае паловы — сярэдзіны XX ст. Аднак ягоная творчая спадчына да гэтага часу застаецца ў Беларусі амаль няведамай ня толькі шырокаму колу аматараў айчыннага мінулага, але нават спэцыялістам. Некалькі біяграфічных ды гістарыяграфічных артыкулаў у энцыкляпэдыях і часопісах ды перадрук у 1990-я гг. некаторых ягоных працаў прынцыпова сытуацыі не зьмянялі. Таму трэба толькі вітаць выхад у сьвет зборніку выбраных твораў Лява Акіншэвіча, прысьвечаных менавіта беларускай праблематыцы. Да друку выданьне было падрыхтаванае дасьледніцай беларускае эміграцыі Натальляй Гардзіенкай ды бібліёграфам і літаратуразнаўцам Лявонам Юрэвічам.

Зьмест зборніку ўкладзены паводле жанравага прынцыпу. Асноўную яго частку складаюць навуковыя артыкулы, а таксама рэцэнзіі й водгукі Лява Акіншэвіча за пэрыяд з 1925 да 1960 г. Так, у зборніку зьмешчаныя чатыры артыкулы, прысьвечаныя дагэтуль актуальнай

тэме існаваньня ўласнага казацтва на землях Беларусі ў сярэдзіне XVII ст. Або, як пісаў сам Леў Акіншэвіч, праблеме *“цікавага й шырокага беларускага сацыяльнага руху”*. У гэтых дасьледаваньнях упершыню ў айчыннай гістарыяграфіі ня толькі было пастаўленае пытаньне аб мэтах, сацыяльным і нацыянальным характары гэтага руху, але й была зьвернутая асаблівая ўвага на неардынарную асобу яго арганізатара — *“беларускага палкоўніка”* Канстанціна Паклонскага. Зборнік таксама ўтрымлівае вельмі ўдумлівы артыкул аб гісторыі парлямэнтарызму на землях Беларусі (1952 г.), станаўленьне й разьвіцьцё якога разглядаецца ў шырокім кантэксьце генэзісу прадстаўнічых інстытутаў улады Заходняе й Цэнтральна-Ўсходняе Эўропы. Глыбокае веданьне Лявом Акіншэвічам як прававога жыцьця Вялікага Княства Літоўскага, гэтак і старабеларускае мовы выявілася ў артыкуле пра беларускую юрыдычную тэрміналёгію, які выйшаў у часопісе “Полымя” (1928 г.) як водгук на падрыхтаваны Інстытутам беларускае культуры выпуск прававой тэрміналёгіі Беларусі. На жаль, у зборнік не ўвайшло надрукаванае ў 1953 г. дасьледаваньне Лява Акіншэвіча *“The Law of the Grand Duchy of Lithuania: Background and Bibliography”*. У гэтай важнай працы дадзены кароткі агляд асаблівасьцяў утварэньня й дзяржаўнага разьвіцьця ВКЛ, а таксама прыведзены аналіз і падрабязны пералік навуковых выданьняў XIX — першае паловы XX ст. (больш за 320 пазыцыяў), прысьвечаных розным аспэктам гісторыі велікакняскага права.

Яшчэ тры артыкулы Лява Акіншэвіча, зьмешчаныя ў зборніку, маюць больш абагульняльны, тэарэтычны характар і закранаюць праблемы гістарычнага шляху беларускага народу. Адзін зь іх — крытычны разбор працы ангельскага гісторыка, філёзафа й сацыёляга Арналда Джозэфа Тойнбі (*Arnold J. Toynbee*) *“A Study of History”*, дакладней тае яе часткі, дзе гаворка вялася пра рускую праваслаўную цывілізацыю. Заўважым, што ў “*Выбраным*” упершыню надрукаваны пераклад гэтага тэксту на беларускую мову. Яшчэ адзін артыкул уяўляе зь сябе наватарскую працу (1953 г.), у якой аўтар на аснове цывілізацыйнага падыходу, хіба першы сярод айчынных гісторыкаў, зрабіў спробу прааналізаваць хаду й пэрспэктывы беларускага гістарычнага працэсу.

Зборнік утрымлівае 18 рэцэнзіяў і рэфлексіяў Лява Акіншэвіча на працы беларускіх, украінскіх, расейскіх, літоўскіх, польскіх, амэрыканскіх, нямецкіх і фінскіх аўтараў. Сярод іншага, упершыню друкуецца рэцэнзія, напісаная ў 1960 г., на працы аб гісторыі ВКЛ XIV—XVI стст. нямецкіх дасьледнікаў Горста Ябланоўскага (*Horst Jablonowski*) і Готгальда Родэ (*Gotthold Rhode*), а таксама амэрыканскага гісторыка Осьвалда Бэкуса (*Osvald P. Backus*). Аднак падкрэсьлім надзвычай шырокі тэматычны дыяпазон гэтых водгукаў. Так, у рэцэнзіі на артыкул беларускага дасьледніка Васіля Дружчыца *“Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскае вуніі”* Леў Акіншэвіч да-




водзіў сваю пазыцыю ў дыскусіі адносна формы дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай (лічыў яе рэальнай уніяй). А, напрыклад, у рэфлексіях на працы польскага гісторыка Оскара Галецкага (*Oskar Halecki*) ды расейскага й амэрыканскага сацыёляга Піцірыма Сарокіна (*Питирим Сорокин*) выказваў развагі з галіны філязофіі гісторыі. Пры гэтым чытач таксама можа пазнаёміцца з рэцэнзіямі на дзёньнік славутага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі ці на раман “Сьцежкі-дарожкі” беларускага пісьменьніка Міхася Зарэцкага (Кусянкова). Дарэчы, пра літаратурныя здольнасьці самога Лява Акіншэвіча сьведчыць прыведзены ў зборніку невялікі ўрывак зь ягонай аповесьці “Пракляты стэп”. Асабліва адзначым, што ўкладальнікі зьмясьцілі найноўшую й найбольш поўную на цяперашні момант бібліяграфію ўсіх працаў беларуска-ўкраінскага дасьледніка. Яна ўтрымлівае й сьпіс публікацыяў, прысьвечаных самому Ляву Акіншэвічу. Сярод плюсаў зборніку хацелася б адзначыць наяўнасьць даволі падрабязных камэнтароў да тэкстаў, а таксама іменнага паказьніку.

Дадатным бокам выданьня ёсьць тое, што на яго старонках Леў Акіншэвіч паўстае ня толькі як навуковец, але й як асоба са сваім характарам, тэмпэрамэнтам і сыстэмай каштоўнасьцяў. У першую чаргу, гэты бок чалавечага жыцьця выяўляецца дзякуючы эпісталярнай спадчыне ды аўтабіяграфічным крыніцам. У зборніку надрукавана карпатліва сабранае ў архівасховішчах Эўропы й Паўночнае Амэрыкі ліставаньне Лява Акіншэвіча зь дзеячамі беларускае эміграцыі ў 1940—1970-я гг. (65 лістоў). Зьмешчаная таксама частка ўспамінаў Лява Акіншэвіча, якая ўтрымлівае аўтабіяграфічныя зьвесткі і ўласна ўспаміны за пэрыяд 1920-х — пачатку 1930-х гг., калі ён быў даволі цесна зьвязаны зь Беларусьсю. Гэтая частка выданьня важная яшчэ й тым, што выразна адлюстроўвае тыя выпрабаваньні лёсу, празь якія прыйшлося прайсьці навуковай інтэлігенцыі з абшараў Усходняе Эўропы ў першай палове XX ст.

Нарэшце падкрэсьлім, што разгляданы зборнік ня толькі паказвае жыцьцёвы шлях Лява Акіншэвіча, але й падводзіць пэўныя вынікі ў асэнсаваньні беларускім грамадзтвам яго творчае спадчыны. Папершае, у ім прыведзеныя водгукі з боку эмігранцкай супольнасьці на выступленьні й публікацыі Лява Акіншэвіча 1950-х гг., а таксама

нэкралёг з нагоды яго сьмерці аўтарства Вітаўта Кіпеля. Па-другое, пад адной вокладкай былі надрукаваныя артыкулы беларускіх дасьледнікаў Лявона Юрэвіча, Генадзя Сагановіча й Валянціны Мятліцкай, прысьвечаныя розным бакам яго жыцьця ды навуковае дзейнасьці. Гэтыя матэрыялы ілюструюць значную й, як падаецца, недаацэненую ролю Лява Акіншэвіча ў вывучэньні айчыннага мінулага. Хацелася б, каб гэтае выданьне актывізавала грунтоўную навуковую дыскусію над пастаўленымі ў працах гісторыка дасьледчымі праблемамі, а таксама знайшло свой станоўчы водгук сярод усіх, хто цікавіцца мінулым Беларусі.

Такім чынам, выкажам спадзяваньне, што новая кніга сапраўды паспрыяе дасягненьню тае мэты, якую ставілі перад сабой яе ўкладальнікі: нарэшце ўключыць у нацыянальны гістарычны дыскурс напрацоўваньні Лява Акіншэвіча па беларускай праблематыцы.

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст, літаратар. Уваходзіў у літаб'яднаньне "Ўзвышша". У 1930 г. арыштаваны ў справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў). Арыштаваны паўторна ў 1937 г., вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Менск, працаваў у школе, закончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, "Беларускай газэце", галоўным рэдактарам выдавецтва "Менск". Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газэты "Бацькаўшчына", яе рэдактарам. З 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых працаў. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу.

**Кірыл Ананька** (нар. 1999), гісторык, настаўнік, асьпірант Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы. Абараніў магістарскую дысэртацыю на тэму "Эміграцыя насельніцтва з тэрыторыі Беларусі ў ЗША ў другой палове XIX ст. — 1930-я гг.". Аўтар больш як 30 публікацыяў, прысьвечаных беларускім гімназіям у Заходняй Беларусі, беларускай эміграцыі, беларуска-лацінамэрыканскім сувязям на сучасным этапе. Выкладае гісторыю ў гімназіі № 7 Горадні.

**Уладзімер Брылеўскі** (1917—2002), грамадзкі дзеяч. З канца 1940-х гг. жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША), браў удзел у нацыянальным руху, супрацоўнічаў з польскім часопісам "*Kultura*" (Парыж). Друкаваўся ў газэце "Беларус" і часопісе "Беларуская Думка".

**Віталь Воранаў** (нар. 1983), літаратар, публіцыст, дудар. Нарадзіўся ў Менску, гадаваўся на Глыбоччыне. Папераменна вучыўся й жыў у Чэхіі, Амэрыцы й Польшчы. Скончыў Унівэрсытэт імя Адама Міцкевіча ў Познані (Польшча) і Ўнівэрсытэт імя Масарыка ў Брне (Чэхія). Заснавальнік фэсту дударскіх рэгіёнаў "Дударскі рэй" у Глыбокім. Аўтар кніг "Дударская Глыбоччына" (Глыбокае, 2017) і "Дудары Глыбоцкага краю" (Глыбокае, 2019). Жыве ў Познані.

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдатка гістарычных навук. Аўтарка некалькіх манаграфіяў і больш за сотню артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі.

**Аляксандар Горны** (нар. 1988), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Дацэнт катэдры гісторыі Беларусі, археалёгіі й спэцыяльных гістарычных дысцыплінаў, кіраўнік Цэнтру дасьледаваньня дыяспараў і замежнага беларусазнаўства Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы. Дасьледуе гісторыю беларускага нацыянальнага руху ў XX ст., палітычную гісторыю Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд, гісторыю беларускай дыяспары ў міжваенны пэрыяд. Аўтар каля 80 навуковых і навукова-папулярных публікацыяў.

**Юры Грыбоўскі** (нар. 1979), гісторык, доктар габілітаваны. Прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца вайсковай, палітычнай і рэлігійнай гісторыяй краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Аўтар шматлікіх публікацыяў у друку Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Расеі, Украіны.

**Надзея Дробіна,** былая старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады й рады парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта, былая сябра Канадыйскага БІНіМу. Закончыла філялягічны факультэт Мазырскага пэдагагічнага інстытуту. Працавала важатай у Міжнародным дзіцячым цэнтры “Артэк”, настаўніцай у школе ў Гаване (Куба). З 1997 г. жыве ў Канадзе.

**Вольга Зубко**, незалежны гісторык, кандыдатка гістарычных навук. Займаецца вывучэньнем грамадзка-культурнага й палітычнага жыцьця ўкраінскай і беларускай эміграцыі ў Празе ў 1920—1930-я гг., гісторыяй эміграцыйнай штодзённасьці.

**Віялета Кавалёва** (нар. 1962), кіраўніца беларускіх сьпеўных гуртоў “Яваровы людзі” й “Яваровы дзеці” (Таронта, Канада). Закончыла журфак БДУ, працавала ў менскіх газэтах, часопісах і на беларускай тэлевізіі. З 2001 г. жыве ў Таронта.

**Аўген Калубовіч** (на эміgr. **Каханоўскі**, 1912—1987), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык. У 1930 г. закончыў Бабчынскі пэдтэхнікум, быў асуджаны за “беларускі нацыяналізм” і высланы на тры гады ў Сібір. У 1934—1939 гг. выкладаў у Менску й вучыўся ў Менскім пэдагагічным інстытуце. Пасьля працаваў кансультантам-мэтадыстам у Наркамаце асьветы БССР. З пачаткам нямецка-савецкай

вайны мабілізаваны ў армію, трапіў у нямецкі палон пад Масквой. Вызваліўшыся, жыў у Менску, кіраваў аддзелам культуры Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаваньне. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў беларускую мову й літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. З 1947 г. быў кіраўніком ураду БНР. З 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а зь сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлэндзе. Аўтар шэрагу працаў аб гісторыі й культуры Беларусі.

**Наста Кахан,** філёляг, стыльрэдактарка. Жыве ў Польшчы.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. — старшыня БІНІМу. Аўтар працы "Беларусы ў ЗША" (1993, 2017, 2020 гг.; ангельскамоўнае выданьне — 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацыяў, у тым ліку артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Мікалай** (сьвецк. **Міхал Мацукевіч**, 1917—2002), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар, ярарх БАПЦ. З 1951 г. жыў у Таронта (Канада). 2 траўня 1952 г. рукапакладзены на дыякана, а 6 траўня — на ярэя. 4 кастрычніка 1954 г. адслужыў у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта першую літургію. Быў настаяцелем гэтага прыходу, наведваў беларускія асяродкі ў Канадзе: у Садбэры, Манрэалі, Лёндане, Кітчэнэры, Гўэлфе, Бэры, Атаве, Элістане ды інш. Паспрыяў заснаваньню парафіі БАПЦ Сьвятога Духу ў Дэтройце (ЗША). 10 сакавіка 1968 г. у Адэляйдзе (Паўднёвая Аўстралія) хіратанісаны галавой БАПЦ Сяргеем (Ахатэнкам) у япіскапа Турава-Пінскага й Таронцкага. З 1973 г. узначальваў Канадыйска-Эўрапейскую япархію БАПЦ. У 1983 г. быў абраны першаярархам БАПЦ.

**Генадзь Сагановіч** (нар. 1961), гісторык, доктар гістарычных навук. Працуе ў Варшаўскім унівэрсытэце. Заснавальнік і рэдактар "Беларускага Гістарычнага Агляду".

**Вінцэнт** (**Віктар**) **Сьпічонак** (1915—1981), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі служыў сакратаром Параф'янаўскай гміны. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ва Ўсходняй Прусіі, пазьней у Бэрліне й Баварыі. Пасьля вайны выехаў у Парыж, далей — у Манрэаль. У 1959 г. прыбыў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі.

**Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. закончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1936 г. абараніў доктарскую дысэртацыю “Беларускія элемэнты ў польскай рамантычнай паэзіі”. Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюзу, рэдагаваў часопіс “Студэнцкая думка”. У 1937—1938 гг. стажываўся ў навучальных установах Югаславіі й Баўгарыі. У 1939—1941 гг. — выкладчык у Навагрудзкай пэдагагічнай вучэльні. У 1941—1943 гг. быў бурмістрам Барысава, у 1944 г. — намесьнікам прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 г. у Нямеччыне рэдагаваў бэрлінскую газэту “Раніца”. Быў актыўным прыхільнікам аднаўленьня Рады БНР. З 1947 г. — радны БНР. У 1948—1962 гг. — рэдактар газэты “Бацькаўшчына” (Мюнхэн). Заснавальнік філіі БІНіМу ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне. У 1963 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку ў 1963—1965 гг. — старшынём арганізацыі. Супрацоўнік радыё “Свабода”. У 1963—1980 гг. рэдагаваў газэту “Беларус” (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу навуковых літаратуразнаўчых працаў, сотняў публікацыяў.

**Аляксандар Сьлесараў**, прарэктар па навуковай працы Менскай духоўнай акадэміі, кандыдат багаслоўя, дацэнт.

**Вітаўт Тумаш** (1910—1998), грамадзкі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца). Закончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1933—1938 гг. вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюзу й Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Па заканчэньні навучаньня працаваў у этнічнай Польшчы. Пасьля верасьня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве. У 1940—1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэту ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Менску. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся мэдыцынай, уваходзіў у рэдакцыі бэрлінскіх газэтаў “Раніца” й “Беларускі работнік”, працаваў у бэрлінскім аддзеле Беларускай народнай самапомачы. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысьвячаў грамадзкай і навуковай дзейнасьці. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, быў старшынём Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу й яго кіраўнік ў 1955—1982 гг. Аўтар шэрагу навуковых працаў, найперш скарыназнаўчай тэматыкі.

**Вольга Фурс**, мовазнаўца, кандыдатка філялягічных навук, выкладчыца беларускай мовы. Сфэра навуковага зацікаўленьня — варыянтнасьць у біблійных перакладах, тэрміналягічная лексыка, беларуска-іншаславянскія міжмоўныя сувязі, француска-беларуская перакладная лексыкаграфія. Аўтарка публікацыяў, прысьвечаных перакладам Бібліі на сучасную беларускую мову; адна з укладальнікаў “Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы” й француска-беларускіх тэрміналягічных слоўнікаў.

**Сяргей Харэўскі** (нар. 1967), мастак, літаратар, гісторык мастацтва й архітэктуры, культуроляг. Выкладчык Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (Вільня).

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі “Запісаў БІНіМ”.

# SUMMARY

## In Memoriam

**Janka Zaprudnik (1926—2022)**

Obituary of Janka Zaprudnik, historian, journalist, multiyear member of the Board of the Belarusan Institute of Arts and Sciences (BINIM), who died on 26 May 2022.

**Topic of the issue: Francis Skaryna Belarusan Library and Museum**

## *Interviews*

**Father Siarhiej Stasievič: "In the library, to me, the most interesting person was Father Alaksandar"**

Interview with the head of the Belarusan Catholic mission of the Eastern Rite in Great Britain Father Siarhiej Stasievič about the last decades of activity of Francis Skaryna Belarusan Library and Museum in London.

**About the Skaryna Library: the past, the present day, and the future**

Interview with Dr. Karalina Mackievič, participant of the board of guardians of Francis Skaryna Belarusan Library and Museum.

## *Emigrational Epistolary Intercourse*

***Natalla HARDZIJENKA*. Epistolary archive of Father Leŭ Haroška**

A general survey of Father Leŭ Haroška's epistolary heritage that is kept in the Belarusan Library named after Francysk Skaryna in London.

**Father Leŭ Haroška's epistolary heritage**

Publication of Father Leŭ Haroška's correspondence with Belarusan emigration figures: Jazep Hładki, Alaksandar Kałodka, Uładzimier Kliševič,

Bishop Časłaŭ Sipovič, Uładzimier Ćvirka, Mikoła Celeš, Janka Čarniecki, Father Francišak Čarniaŭski.

**Our own "Persian" letters**

Correspondence with Father Leŭ Haroška of two Belarusans, Jazep Buko and Jaŭchim Skurat, who at the late 1940s happened to be in France, in which they reveal peculiarities of the places and circumstances they found themselves in.

**Anton Aniśkovič's correspondence with Father Časłaŭ Sipovič (Shanghai — London, 1947)**

Correspondence of Father Časłaŭ Sipovič with Anton Aniśkovič, a Belarusan who in the 1940s happened to be in Shanghai.

**Juzefa Brečka-Najdziuk**

Publication of letters of Belarusan girl Juzefa Brečka (later — Najdziuk) to Father Leŭ Haroška in 1948—1958 from Germany and the USA.

**A Belarusan in New Zealand**

Letters to Father Leŭ Haroška from Belarusan Maryjan Karanieŭski who in 1950 left to New Zealand, in which he writes about life in this faraway country.

**It was in Madrid**

Correspondence of Father Leŭ Haroška with Father Časłaŭ Sipovič and Belarusan students in Madrid, in which peculiarities of creating the Belarusan community in the Spanish capital in the 1950s are revealed.

**Siarhiej Chmara's masks**

Correspondence of Father Leŭ Haroška with Siarhiej Chmara, writer and public figure in Canada, in 1950—1952.

**Quo vadis?**

Correspondence of Father Leŭ Haroška with Alaksandar Nadsan when the latter studied at the Pontifical Greek College in Rome in 1953—1958.

**Anton Adamovič's correspondence with Časłaŭ Sipovič**

Correspondence of literaturologist Anton Adamovič with Father, then — Bishop Časłaŭ Sipovič in 1953—1969.

**Letters as additions to the biography: Kaduška — Amor — Spalič**

Correspondence of Belarusan Kastuś Kaduška, who — under the name of Viktar Spalič — lived in Brazil, with Father Časłaŭ Sipovič in 1954—1960.

**“I am a stray, but engagé Belarusan dog” [Kastuś Akuła and Juzefa Najdziuk]**

Correspondence of writer Kastuś Akuła with Juzefa Najdziuk, public figure in California, in 1966, concerning distribution of books.

**Belarusan gargoyles and chimeras**

Selection of letters from Paris written by Mikoła and Nina Abramčyks, Uładzimier Šymaniec, and Vincent Žuk-Hryškievič in 1970—1972.

## Church In Emigration

***Alaksandar ŚLESARAŬ*. History of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church in 1944—1991**

History of the renewment and activity of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church in emigration.

***Jerzy GRZYBOWSKI*. Belarusans and the Polish Orthodox Church in foreign countries during World War II and after the war**

History of the activity of the Polish Orthodox Church and Belarusans’ participation in it in the 1940s — 1990s.

***Alaksandar ŚLESARAŬ*. The question of organizing Orthodox Belarusans’ religious life in North America in 1949**

Publication of a letter of writer Mikoła Silvanovič to priest Mikałaj Łapicki on his possible relocation to Canada.

***Natalla HARDZIJENKA*. The Belarusan Orthodox Žyrovičy Fratry in a strange land and its editions**

Survey of publishing activities of the Belarusan Orthodox Žyrovičy Fratry in a strange land and its head Alaksandar Asipovič-Asipčyk.

***Alaksandar ŚLESARAŬ*. Religious activity of Belarusan patriarchs Piotar Žuraviecki and Uładzisłaŭ Ryžy-Ryžski**

Activities of hierarchs Piotar Žuraviecki and Uładzisłaŭ Ryžy-Ryžski in the direction of uniting Belarusan Catholics and Orthodoxes in one church structure.

**Letters of archimandrite Jazep Strok to the editor of the newspaper “Belarusan Voice” Siarhiej Chmara (1969—1981)**

Publication of letters of Orthodox religious figure Jazep Strok to Siarhiej Chmara from different places of his service to Belarusans in the USA.

***Nadzieja DROBINA*. Right Reverend Mikałaj (Macukievič)**

Memoirs about acquaintance with the metropolitan of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church Mikałaj (Macukievič)

## Archives

***Natalla HARDZIJENKA, Lavon JUREVIČ*. Anton Adamovič's archive**

Sketch of a part of the archive of literaturologist and public figure Anton Adamovič, which was kept in Belarus, with the publication of letters from Belarusan figures from various countries since the early 1940s, as well as characteristics of this figure written at command of the Soviet special services.

***Lavon JUREVIČ*. Poet Ryhor Danileŭski**

Sketch of unknown Belarusan author Ryhor Danileŭski who at the late 1940s left to New Zealand and the publication of a selection of his poems.

**Hierasim Hałožyn: A Belarusan discovers Canada**

Publication of Hierasim Hałožyn's correspondence with writer Mikoła Silvanovič in which the life of a Belarusan emigrant who traveled across Canada is revealed.

**Letters of Uładzimier Siadura to Leŭ Akinševič**

Publication of letters of literaturologist Uładzimier Siadura to historian Leŭ Akinševič in 1954—1958.

**A short lesson of history from Vitaŭt Kipiel**

Publication of Vitaŭt Kipiel's letter to the President of the Belarusan Central Council Radasłaŭ Astroŭski concerning the proposal to join the BCR and to receive the rank of officer (1974).

## Publications

***Volha ZUBKO*. Belarusan emigration in interbella Czechoslovakia: "The Golden 1920s" and scientific-technical progress**

The article is dedicated to the use of various technological novelties in Belarusans' everyday life in interwar Czechoslovakia.

***Jerzy GRZYBOWSKI*. Belarusans in Latvia under the conditions of Kārlis Ulmanis' authoritarian regime (1934—1940)**

Survey of activity of Belarusan organizations in Latvia in 1934—1940.

***Lavon JUREVIČ*. A few words on the palette and weight of "letters to the editor"**

Attempt to define the typology and genre peculiarities of letters to editorial staffs of emigrational periodicals as a separate phenomenon.

***Natalla HARDZIJENKA, Lavon JUREVIČ*. 1956**

Survey of announcements in Belarusan emigrational periodicals in 1956.

***Hienadź SAHANOVIČ*. Returning to the Harvard book about Belarus**

Critical remarks upon the re-edition of the book by Nicholas P. Vakar "Belorussia: The Making of a Nation. A case study."

***Lavon JUREVIČ, Natalla HARDZIJENKA*. Leanid Halak**

Sketch of Leanid Halak, public figure, lawyer, and memoirist (1910—1980).

***Lavon JUREVIČ*. Uładzimier Karatkievič and Washington Irving**

Reflections on the correlation of the contents of "King Stach's Wild Hunt" by Uładzimier Karatkievič and "The Legend of Sleepy Hollow" by Washington Irving.

***Lavon JUREVIČ*. Mortui vivos docent**

Essay on Michaś Kavyl's poetry

***Lavon JUREVIČ*. Farewell to the Middle Ages**

Reflections on the notions of a nation and culture of humor with reference to the novel "Christ landed at Harodnia" by Uładzimier Karatkievič.

## Memoirs

**Memoirs of Mikoła Šyła**

Reprint of Mikoła Šyła's memoirs about writer Ałajiza Paškievič (Ciotka).

***Vitaŭt KIPIEL*. Well remembered**

Vitaŭt Kipiel's memoirs about his teachers.

***Vincent ŚPIČONAK*. My autobiography**

Belarusan Vincent Śpičonak's memoirs about his childhood in Belarus, relocation to the West, life in Germany, France, and Canada.

## Belarusica

***Vital VORANAŬ*. “You enlivened me in foreign parts”: the Belarusan bagpipe in emigration**

Survey of mentions of the Belarusan bagpipe in publications of Belarusans abroad.

***Lavon JUREVIČ*. Aleś Harun in the memory and activity of postwar emigration**

Survey of the presence of the name of Aleś Harun in publications, memoirs, and activity of Belarusan emigrants.

***Lavon JUREVIČ*. Jakub Kołas in the eyes of emigrants**

Survey of mentions of Jakub Kołas in publications of Belarusan postwar emigrants, as well as the reprint of several texts dedicated to the classic and his creativity.

## Museum

***Siarhiej CHAREŬSKI*. Early photos by Jan Bułhak**

Survey of photos by well-known photographer Jan Bułhak, which are kept in the collection of the Belarusan Institute of Arts and Sciences (BINiM).

## The Future Book

***Stanisłaŭ STANKIEVIČ*. To Anton Adamovič’s 70th anniversary**

Reprint of Stanisłaŭ Stankievič’s anniversary text dedicated to literaturologist Anton Adamovič from the newspaper “Biełarus” (1980).

***Anton ADAMOVIČ*. Fighting Belarus**

Publication of Anton Adamovič’s speech at the 9th Meeting of Belarusans of North America in 1970.

**Anthology**

Publication of a selection of poems for the future anthology of emigrational poetry.

## Anniversaries

**Vitaŭt Kipiel is 95**

Congratulations to the BINiM director Vitaŭt Kipiel on the occasion of his 95th anniversary.

**Pavieł Šejn. To the 120th anniversary of his death**

To the anniversary of death of ethnographer and folklorist Pavieł Šejn — the facsimile reprint of the fairytale "Marka Piakielny" that he wrote down from Adam Bahdanovič, father of Maksim Bahdanovič.

**To the 130th anniversary of Jazep Hładki, ethnographer and folklorist**

Reprint of the fairytale "Knight Dabravid" published by Jazep Hładki in Watenstedt in 1949.

***Aŭhien KAŁUBOVIČ*. To the 110th anniversary of Aŭhien Kałubovič: "Extracts from Crivitian literature"**

To the anniversary of Aŭhien Kałubovič, historian and public figure, interested in national folklore — the fairytale "Music and Devildom" from his collection "Extracts from Crivitian (Kryvičy's) literature" (Regensburg, 1946) is published.

***Vitaŭt TUMAŠ*. Our fairytales [To the 110th anniversary of Vitaŭt Tumaš]**

Reprint of Vitaŭt Tumaš's article published in 1946 and dedicated to characteristic features of Belarusan fairytales.

***Nasta KACHAN*. "Wishing you unbroken persistence in your efforts, ZS" [To the 55th anniversary of Źmicier Saŭka]**

Memoirs of the colleague and pupil about her acquaintance and cooperation with linguistician Źmicier Saŭka.

## Book Circle

***Uładzimier BRYLEŬSKI*. My meetings with priest Vincent Hadleŭski**

Publication of public figure Uładzimier Bryleŭski's memoirs about his acquaintance with priest Vincent Hadleŭski.

**To the story of "History..."**

Publication of correspondence from Leanid Halak's archive, which has to do with the preparation for the edition of the English-language history of Belarus, written by Ivan Kasiak, and a translation of a book by Jazep Najdziuk.

## Chronicle

**BINiM’s gratitude to Hanna Sieviaryniec**

The Belarusan Institute of Arts and Sciences (BINiM) expresses its gratitude to literaturologist and pedagogue Hanna Sieviaryniec, 2021.

## Bookshelf

***Jana SŁAVINA*. Book review**

Survey of Emigration Studies books in 2020—2021.

***Alaksandar HORNY, Kirył ANAŃKA*. Best-seller of American Belarusan Studies**

Review of the third edition of the book by Vitaŭt Kipiel “Belarusans in the USA” (Minsk, 2020).

***Jerzy GRZYBOWSKI*. Vitaŭt Tumaš “Selected Works”**

Survey of the book by Vitaŭt Tumaš published in Minsk in 2020.

***Vijaleta KAVALOVA*. The man who knew how to write anthems and to troll the authorities**

Review of the book “Mikoła Ravienski” (Minsk, 2020)

***Natalla HARDZIJENKA*. The book of Belarusan graves in the Czech Republic and Slovakia**

Review of the bilingual Czech-Belarusan work by Siarhiej Knyrevič dedicated to Belarusan gravestones in the Czech Republic and Slovakia, which was published in Prague in 2021.

***U. P.* “Selecta” by Leŭ Akinševič**

Survey of the book by Leŭ Akinševič “Selecta” published in Minsk in 2021.

## The Book in “Zapisy”

***Volha FURS*. “Relationship Dictionary” by metropolitan Mikałaj**

Linguistic analysis of the “Relationship Dictionary” compiled by metropolitan Mikałaj (Macukievič).

***Mikałaj (MACUKIEVIČ)*. Relationship Dictionary**

Reprint of the “Relationship Dictionary” published in Toronto in 1992.

*Кніга ў “Запісах”*

***Вольга Фурс***
*Менск*

# “СЛОЎНІК СВАЯЦТВА” МІТРАПАЛІТА МІКАЛАЯ (МІХАЛА МАЦУКЕВІЧА)

Мітрапаліт Мікалай (Міхал Мацукевіч) — адзін з найбольш ведамых сьвятароў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ён нарадзіўся 21 траўня 1917 г. у Самарскай губэрні, дзе бацькі былі ў бежанстве. У 1921 г., пасьля сьмерці маці й сястры, вярнуўся разам з бацькам і двума братамі ў Моталь, на тэрыторыю сучаснай Берасьцейскай вобласьці. Міхал Мацукевіч браў удзел у нямецка-польскай вайне 1939 г., быў паранены, у 1939—1944 гг. настаўнічаў на Беларусі. У 1944 г. быў вывезены на прымусовую працу ў Нямеччыну. З сакавіка 1945 г. ён жыў у Вялікабрытаніі, у жніўні 1951 г. пераехаў у Канаду. У траўні 1954 г. Міхал Мацукевіч скончыў Духоўную ўкраінскую сэмінарыю ў горадзе Ўініпэг (*Winnipeg*) і быў пасьвячоны ў сьвятары, стаў настаяцелем парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. У катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку 2 кастрычніка 1966 г. пастрыгся ў манахі й прыняў імя Мікалай, на наступны дзень быў узьведзены архіяпіскапам БАПЦ Сяргеем у сан ігумэна й архімандрыта. Рукапалажаны ў сан япіскапа Турава-Пінскага й Таронцкага 10 сакавіка 1968 г. у Аўстраліі. У траўні 1983 г. на надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлэндзе абраны першаярархам Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Памёр 20 чэрвеня 2002 г. у Таронта.

Дзякуючы зборніку “Архіяпіскап Мікалай (Мацукевіч). У малітве за Беларусь. Творы”, які пабачыў сьвет у 2017 г., добра ведамая прамоўніцкая дзейнасьць сьвятара, але вельмі значным зьяўляецца й моўны кірунак зацікаўленасьцяў айца Мікалая. У 1988 г. ён выдаў свой пераклад “Напрастольнага сьвятога Евангельля” на сучасную беларускую мову, працаваў над перакладам усёй Біблії[1]. Таксама айцец Мікалай ёсьць аўтарам “Кароткага беларускага тэрміналягічнага царкоўнага слоўніка” й “Слоўніка сваяцтва”, абодва былі падрыхтаваныя ў Таронта ў 1992 г. Калі першы зь іх быў надрукаваны й меў распаўсюд, то лёс другога менш ведамы.

---

[1] Бідэр, Герман. Веравызнанне, этнас і мова ў Беларусі ў XX стагоддзі // Край. № 3—4. 2002. С. 96.



Уладыка Мікалай (Мацукевіч). Таронта, пачатак 2000-х гг.

Як зазначае ўкладальнік, асноўнай прычынай стварэньня “Слоўніка сваяцтва” было імкненьне адданіць суайчыньнікаў ад *“перайманьня чужых названьняў”*, то бок запазычаньняў. Ужываньне словаў дадзенай лексычнай групы часта выклікае блытаніну й складанасьці, нягледзячы на актуальнасьць абсалютна для ўсіх носьбітаў мовы. У беларускім мовазнаўстве не было адмысловых даведнікаў з тэрміналёгіяй роднасьці й сваяцтва, хаця грунтоўныя дасьледаваньні ў гэтай тэме пачалі зьяўляцца, пачынаючы з 1970-х гг.: гэта працы Клары Панюціч, Мікалая Паўленкі, Аксаны Кавальчук[2] і іншых. У часопісе “Роднае слова” ў 1998—2003 гг. быў надрукаваны цыкль артыкулаў Паўла Міхайлава, прысьвечаны дэталёваму разгляду тэрытарыяльных варыянтаў, а таксама нататкі Марыны Абрагімовіч, Яўгеніі Волкавай, Ядвігі Доды й Алены Осіпчык[3] адносна паходжаньня лексэмаў гэтай тэматычнай групы.

Ужытыя ў “Слоўніку сваяцтва” мітрапаліта Мікалая лексэмы можна ўмоўна разьмеркаваць па наступных групах:

1) агульнаведамыя, шырокаўжывальныя тэрміны роднасьці: *бацька*, *нянька* й інш.;

2) тэрытарыяльна абмежаваныя тэрміны роднасьці: *нябог*, *нябож*, *пасербніца* й інш.;

3) абрадавая лексыка: *заручыны*, *запоіны* й інш.

Слоўнікавыя артыкулы маюць неаднолькавую структуру. Так, некаторыя ўтрымліваюць этнаграфічныя замалёўкі: *асыпальніца*, *прыбраная маці*, *прыбраны бацька*. Ёсьць артыкулы з каштоўнымі граматычнымі ўдакладненьнямі, напрыклад, пра асаблівасьць кіраваньня ў беларускай мове: *жэніцца з жанчынай*.

[2] Кавальчук, Аксана. Асабовыя найменні ў гаворках Гродзеншчыны: манаграфія. Гродна, 2006. 145 с.

[3] Бібліяграфія на тэму асабовых найменьняў прыведзеная ў выданьні: Кавальчук, Аксана. Асабовыя найменні ў гаворках Гродзеншчыны... С. 116—126.

Як моцны бок слоўніка можна адзначыць значную колькасьць радоў сынанімічнай лексыкі, што сьведчыць пра разьвітасьць, непаўторнасьць, выразнасьць беларускай мовы: *нябож, сыновец, сястрынец, пляменьнік; сьвякроў, сьвякроўка, сьвякруха* й падобныя. Дарэчы, для слова *сьвякроў* укладальнік прыводзіць поўны сынанімічны шэраг з усімі тэрытарыяльнымі варыянтамі.

Ёсьць слоўнікавыя артыкулы, якія вылучаюцца дакладнасьцю ў акрэсьленьні анатамічных нюансаў, як у спалучэньні *таясамыя блізьнюкі*.

Цікавай рысай слоўніка зьяўляецца тое, што ў парах патэнцыйнай апазыцыі “жаночае — мужчынскае найменьне” часта адсутнічае менавіта мужчынскае. Так, ёсьць *пасербніца* (распаўсюджанае ў заходняй частцы Беларусі называньне асобы жаночага роду ў адносінах да мачахі альбо айчыма), але адсутнічае *пасерб*; ёсьць *дваюрадная сястра*, але няма *дваюраднага брата*; ёсьць *сястрынец*, але няма *братанка*. Магчыма, гэта можа быць вытлумачана адсутнасьцю адпаведных параў у гаворках мясцовасьці, дзе жыў сьвятар, альбо ягонымі ўласнымі моўнымі перавагамі. Увогуле, слоўнік насычаны фэмінітывамі, частка зь якіх у літаратурнай мове ўяўляецца хутчэй як патэнцыяльныя словы: *прашчура*, *блізьніца*, *юначка* й падобныя.

Некаторыя зь лексэмаў маюць выразную тэрытарыяльную прыналежнасьць і дазваляюць вызначыць паходжаньне ўкладальніка нават бязь веданьня дэталяў ягонай біяграфіі. Так, выразную тэрытарыяльную прыкмету маюць пары *нябог — нябога, нябож — нябожа* — адпаведна, ‘пляменьнік — пляменьніца’. Дасьледнік Павал Міхайлаў адзначае *“заходнюю лакалізацыю рода-відавога супрацьпастаўлення назваў пляменнікаў, параўнаўча з усходнімі беларускімі рэгіёнамі”*[4]. Тэрыторыя найбольшага выкарыстаньня намінацыі *нябога* — паўднёвазаходняя частка Беларусі[5]. Слова *браціха*, якое прысутнічае ў “Слоўніку сваяцтва”, паводле Аксаны Кавальчук, ужываецца *“на поўдні і захадзе Беларусі”*[6].

Як істотную дэталь слоўніка варта адзначыць адсутнасьць тэрмінаў сваяцтва паводле хросту: *кум, кума, хрэсьнік* і падобныя. Гэта тлумачыцца, хутчэй за ўсё, тым, што некаторыя зь іх можна знайсьці ў “Кароткім беларускім тэрміналягічным царкоўным слоўніку”, падрыхтаваным у тым самым годзе, напрыклад: *хросны бацька*, *хросныя бацькі*.

Не прыведзеныя ў слоўніку й такія шырокаўжывальныя й пашыраныя на ўсёй тэрыторыі Беларусі словы, як *матуля*, *матулька* й падобныя.

---

[4] Міхайлаў, Павел. “Працуй, нябожа, дык і бог паможа”: назвы пляменніка ў беларускіх гаворках // Роднае слова. № 7. 1997. С. 73.

[5] Міхайлаў, Павел. “Працуй, нябожа, дык і бог паможа”... С. 70.

[6] Кавальчук, Аксана. Асабовыя найменні ў гаворках Гродзеншчыны... С. 101.

Як адзначае дасьледніца Аксана Кавальчук, *“адна з яскравых асаблівасцей роднасна-сваяцкіх найменняў — наяўнасць шматлікіх дэмінутыўных формаў”*[7]. У словазборы айца Мікалая дэмінутыўныя формы кшталту *татачка*, *татуля*, *татусь* і іншыя цалкам адсутнічаюць — магчыма, з прычыны сьведамага неўжываньня ў слоўніку лексэмаў з эмацыйна-экспрэсіўнай афарбоўкай.

На некаторыя літары аўтар не прыводзіць аніводнага слова, напрыклад, на літары *В* ці *О*, на якія пачынаюцца такія ўжывальныя словы, як *вуй* альбо *ойчым* (але ў слоўніку ёсьць лексэма *айчым*).

Такім чынам, “Слоўнік сваяцтва”, укладзены мітрапалітам Мікалаем, мае значнасьць як сыстэматызаваны збор лексэмаў адной тэматычнай групы, дзе акрэсьленыя бадай усе найбольш істотныя ярархічныя ўзроўні. Клясыфікацыя ўнутры ўзроўняў няпоўная й невычарпальная, але ўкладальнік і ня ставіў перад сабой такой задачы. Каштоўнасьць словазбору мітрапаліта Мікалая вынікае з імкненьня захаваць і перадаць лексычную й культурную самабытнасьць беларускай мовы, што абумовіла максымальна шырокую фіксацыю ўласнабеларускіх найменьняў. З гэтым і зьвязана тое, што “Слоўнік сваяцтва” мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча) сёньня ўяўляе цікавасьць як для дасьведчаных чытачоў, так і для тых, хто зьвяртаецца да лексыкаграфічных выданьняў найперш з мэтай палепшыць веданьне мовы.

---

[7] Кавальчук, Аксана. Асабовыя найменні ў гаворках Гродзеншчыны… С. 106.

# СЛОЎНІК СВАЯЦТВА[1]

склаў мітрапаліт Мікалай
Выданьне БАПЦ
Таронта, Канада, 1992 г.

## Слоўнік сваяцтва

*Сярод нашых людзей за межамі нашай бацькаўшчыны-Беларусі заўважаецца перайманьне чужых названьняў у адносінах сямейнага й родавага сваяцтва. Чытаючы паважанага аўтара кніжку, дзе напісана: “Марыніна швагерка”. Гэты сказ адразу кінуўся ў вочы, бо жанчына ніколі ня мае швагеркі. Паводле зьместу апавяданьня тут ідзе мова пра жонку Марынінага брата, якая ёсьць “братавай” альбо “брацíхай”, але ніколі швагеркай. Мы ня робім тут абвінавачваньня аўтару кніжкі, бо падобных зь няведаньня незапісаных прыкладаў ёсьць множасьць.*

*Можна пачуць сярод беларусаў на чужыне вельмі чужыя налёту на нашую мову, як “кузынаў”, “пляменьнікаў” ды яшчэ горш, што нявестка мужыковага бацьку называе не сьвёкрам, але цесьцям, а маці цешчай, а мужыковага брата — не дзеверам, а шваграм і т. п.*

*На наступных бачынах падаем беларускі слоўнік названьняў асоб у адносінах сямейнага й родавага сваяцтва.*

*Складальнік*

### А

*Адзінока* — асоба жаночага роду, якая ня мае сям’і, сваякоў, родных і блізкіх.

*Адзінокі* — асоба мужчынскага роду, які ня мае сям’і, сваякоў, родных і блізкіх.

*Адзіночка* — асоба мужчынскага ці жаночага роду, безь сям’і, не жыве ў пары.

*Айчым* — ня родны бацька для жончыных дзяцей ад першага мужыка. Мужчына, за якога ў другі раз маці выйшла замуж. Мужык маці ў адносінах да яе дзяцей папярэдняга шлюбу мужыка.

*Апякун* — асоба мужчынскага роду, які дабраахвотна апякуецца сіратою ці сіротамі. Найбольш ёсьць, што апякуном зьяўляецца родны дзядзька. А таксама можа быць, уладамі назначана апякуном зусім

[1] Рэдакцыя шчыра дзякуе спн. Віялеце Кавалёвай за перададзены асобнік слоўніка.

чужая асоба, якая дабраахвотна апякуецца сіратою ці сіротамі, калі нікога няма з радні сіротаў.

*Апякунка* — асоба жаночага роду, якая дабраахвотна апякуецца сіратою ці сіротамі. Найбольш ёсьць, што апякункаю зьяўляецца родная цётка. А таксама можа быць уладамі назначана апякункай зусім чужая асоба, якая дабраахвотна апякуецца сіратою ці сіротамі, калі нікога няма з радні сіротаў.

*Асыпальніца* — (паводле мотальскага вясельнага абраду) родная сястра маладога, калі ёсьць, альбо найбліжэйшая з радні па кроўнаму сваяцтву дзяўчына, якая асыпае збожжавым зярном маладых у часе вясельля. Яна мусіць быць незамужняя з найбліжэйшай радні маладога. Яна мае права быць асыпальніцай толькі адзін раз у сваім жыцьці. Для асыпальніцы належыцца, пасьля маладой, першы гонар паводле вясельнага абраду. Яна сядае пры маладому на самым покуцьці, на найбольш ганаровым месцы. Асыпальніца, так, як і маладая, яна мае завязаны ручнік на правай руцэ. Дзея асыпальніцы вельмі ганаровая, але й вельмі кароткая. Ейная дзея пачынаецца асыпаньнем маладых у хаце маладой, калі малады прыедзе забіраць маладую да сябе дадому. Асыпальніца сядае на той самы воз разам з маладымі, на якім малады вязе маладую да дому свайго. Прыехаўшы да маладога, для асыпальніцы ўсё скончылася.

## Б

*Баба* — бацькава альбо матчына маці. Каб дакладней адзначыць, мы кажам: баба па маці, маміна маці, альбо баба па бацьку, бацькава маці. Таксама баба — родная сястра роднай бабы альбо роднага дзеда, але яна ня будзе роднай бабай.

*Байструк* — пазашлюбна народжанае дзяцё. Дзяцё, народжанае не ад мужыка.

*Бацька* — асоба мужчынскага роду адносна да асобы, якую ён спарадзіў (сына ці дачкі). Ён ім *Родны бацька*.

*Бліжняя радня* — мужыковы й жончыны сваякі: бацькі, дзяды, цёткі, дзядзькі, браты, сёстры, дзеці — сыны й дочкі, пасынкі, падчарыцы, іхныя жонкі й мужыкі, зяці, нявесткі, унукі і ўнучкі. Дваюрадныя браты й сёстры, ня ўсюды, але ў бальшыні залічаюцца да блізкай радні.

*Блізьнё* — адзін зь блізьнят, малы хлопчык.

*Блізьніца* — адна зь блізьнят, асоба жаночага роду, малая дзяўчынка. *Блізьнючка*.

*Блізьня* — адна зь блізьнят, малая дзяўчынка.

*Блізьняты* — дзеці ад адной маці, якія нарадзіліся адначасова.

*Блізьнюк* — адзін з блізьнят, асоба мужчынскага роду.

*Блізьнючка* — гл. *Блізьніца*.

*Брат* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да іншых асоб, якія нарадзіліся ад тых-жа самых бацькоў, што і ён. Ён ёсьць ім *Родны брат*.

*Братавая* — глядзі *Браціха*.

*Браты* — множны лік да *Брат*. Асобы мужчынскага роду, народжаныя ад аднаго й таго бацькі і ад аднае й тае маці.

*Браціха* — братава жонка.

## Д

*Дачка* — асоба жаночага роду ў адносінах да асобы мужчынскага роду (бацькі), які спарадзіў яе, і да асобы жаночага роду (маці), якая нарадзіла яе. Яна ёсьць ім *Родная дачка*.

*Дваюрадная сястра* — дачка роднага дзядзькі альбо роднай цёткі.

*Дзева* — тое самае, што й *Дзяўчынка*.

*Дзевер* — родны брат мужыка, у адносінах да братавай жонкі.

*Дзед* — бацькаў альбо матчын родны бацька. Ён ёсьць *Родны дзед*. Каб больш дакладна адзначыць, мы кажам: дзед па бацьку альбо дзед па маці. А таксама родны брат роднага дзеда альбо роднай бабы, але ён ня ёсьць родны дзед.

*Дзеўка* — тое самае, што *Дзяўчына*.

*Дзядзіна* — жонка роднага дзядзькі.

*Дзядзька* — родны брат роднага бацькі альбо родны брат роднай маці, а таксама роднай цёткі мужык.

*Дзяўчына* — глядзі *Незамужняя*.

*Дзяцюк* — мужчына, дарослы малады хлапец, але яшчэ не жанаты.

*Дружбант* — дзяцюк, які ўвесь час у часе вясельля пры маладым у паслузе. Ён таксама трымае карону над галавой маладога ў часе шлюбу.

*Дружка* — дзяўчына, якая ўвесь час у часе вясельля пры маладой у паслузе. Яна таксама трымае карону над галавой маладой у часе шлюбу.

*Дружок* — глядзі *Дружбант*.

## Ж

*Жанаты* — мужчына, які ажаніўся й мае жонку й жыве зь ёю.

*Жаніх* — мужчына, які задумаў жаніцца й шукае альбо ўжо мае жанчыну, зь якой думае жаніцца.

Увага: гэта не па-беларуску казаць: *“жэніцца на жанчыне”* (Сьцяпан жэніцца на Ганьне), але па-беларуску трэба казаць: *“жэніцца з жанчынай”* (Сьцяпан жэніцца з Ганнай).

*Жонка* — асоба жаночага роду ў адносінах да мужчыны, за якога яна выйшла замуж, у адносінах да свайго мужыка.

## З

*Залавіца* — мужыкова родная сястра, *Залвіца*, *Залоўка*.

*Залвіца* — глядзі *Залавіца*.

*Залоўка* — глядзі *Залавіца*.

*Замужняя* — жанчына, якая выйшла замуж і мае мужыка й жыве зь ім.

*Запоіны* 1 — глядзі *Заручыны*.

*Запоіны* 2 — першы пачастунак маладых пасьля шлюбу ў бацькоў маладой.

*Заручаная* — жанчына, якая дамовілася з жаніхом пра шлюб і ўжо пасьля абраду заручын.

*Заручаны* — жаніх, які дамовіўся з жанчынаю пра шлюб і ўжо пасьля абраду заручын.

*Заручыны* — абнародваньне дамоўленасьці пра шлюб жаніха й жанчыны праз абрад заручынаў, які ўключае пачастунак у хаце бацькоў маладой, пры якім запіваюць дзяўчыну, *Запоіны*.

*Зяць* — мужык дачкі ў адносінах да ейных бацькоў.

## К

*Калега* — асоба мужчынскага роду ў добрых адносінах да асоб, зь якімі гуляе, працуе, вучыцца, служыць (калега па школе, вучобе, калега па спорту, калега па працы, калега па войску й г. д.).

*Каляжанка* — асоба жаночага роду ў добрых адносінах да асоб, зь якімі гуляе, працуе, вучыцца, служыць (каляжанка па школе, вучобе, каляжанка па спорту, калега па працы й г. д.).

*Каханак* 1 — мужчына ў адносінах да жанчыны, не сваё жонкі, зь якой мае глыбокія асабістыя інтымныя суадносіны.

*Каханак* 2 — тое самае, што *Палюбоўнік*.

*Каханка* 1 — жанчына ў адносінах да мужчыны, не свайго мужыка, зь якім мае глыбокія асабістыя інтымныя суадносіны.

*Каханка* 2 — тое самае, што *Палюбоўніца*.

*Кроўны* — асоба, якая паходзіць ад адных продкаў па крыві, *Крэўны*.

*Крэўны* — тое самае, што *Кроўны*.

## М

*Маладая* — жанчына, якая выходзіць замуж і ў часе свайго вясельля.

*Маладзіца* — замужняя маладая жанчына.

*Малады* — дзяцюк, які жэніцца і ў часе свайго вясельля.

*Малочная дачка* — асоба жаночага роду ў адносінах да асобы жаночага роду, што выкарміла яе сваімі грудзьмі, мамкі.

*Малочная маці* — тое самае, што *Мамка*.

*Малочная сястра* — родная дачка мамкі ў адносінах да грудзьмі выкармленых мамкай чужых дзяцей. А таксама выкармленая грудзьмі мамкай асоба жаночага роду ў адносінах да родных дзяцей мамкі. Асоба жаночага роду, выкармленая грудзьмі мамкай у адносінах да іншых асоб, выкармленых грудзьмі адной і той самай мамкай, зьяўляецца малочнай сястрой.

*Малочны брат* — родны сын мамкі ў адносінах да грудзьмі выкармленых мамкай чужых дзяцей. А таксама выкармленая грудзьмі мамкай асоба мужчынскага роду ў адносінах да родных дзяцей мамкі. Асоба мужчынскага роду, выкармлены грудзьмі мамкай у адносінах да іншых асоб, выкармленых грудзьмі адной і той самай мамкай, зьяўляецца малочным братам.

*Малочны сын* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да асобы жаночага роду, што выкарміла яго сваімі грудзьмі, мамкі.

*Мамка* — жанчына, якая корміць сваімі грудзьмі чужое дзяцё, яна гэтаму дзіцяці ёсьць мамкай. Яна ёсьць адначасна й нянькай, малочная маці нянька.

*Маці* — асоба жаночага роду ў адносінах да асобы, якую яна нарадзіла (сына ці дачку). Яна ёсьць ім *Родная маці*.

*Мачаха* — ня родная маці. Жанчына, зь якою родны бацька ў другі раз ажаніўся, у адносінах да ягоных дзяцей ад папярэдняй жонкі. *Мачыха*.

*Мачыха* — тое самае, што *Мачаха*.

*Мужык* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да жанчыны, зь якою ён ажаніўся.

## Н

*Нарачоная* — жанчына ў адносінах да мужчыны, якому яна абяцалася выйсьці за яго замуж, і ён будзе зь ёю жаніцца.

*Нарачоны* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да жанчыны, які абяцаўся жаніцца зь ёю, і яна пагадзілася выйсьці за яго замуж.

*Нашчадак* — асоба ў адносінах да сваіх продкаў.

*Нашчадкі* — асобы будучых пакаленьняў.

*Нежанаты* — мужчына, які ніколі ня быў жанаты.

*Незамужняя* — жанчына, якая ніколі ня была замужняй, *Дзяўчына*.

*Неразьведзеная* — глядзі *Пакінутая*.

*Неразьведзены* — глядзі *Пакінуты*.

*Нябог* — тое самае, што *Нябож*.

*Нябога* — тое самае, што *Нябожа*.

*Нябож* — асоба мужчынскага роду, сын роднага брата альбо роднай сястры. Яшчэ завуць яго *Сыновец, Сястрынец*.

*Нябожа* — асоба жаночага роду, дачка роднага брата альбо роднай сястры.

*Нявестка* — жонка сына ў адносінах да ягоных бацькоў. Яшчэ яе завуць *Сынавая*.

*Нянька* — жанчына, якая даглядае чужых дзяцей.

## П

*Падкідыш* — няведамымі роднымі бацькамі падкінутае дзяцё людзям, і яно было прынята і ўсыноўлена імі.

*Падчарыца* — асоба жаночага роду ў адносінах да мачахі альбо айчыма. Мужыкова дачка ад папярэдняй жонкі ў адносінах да яго другой жонкі альбо жончына дачка ад папярэдняга мужыка ў адносінах да яе другога мужыка.

*Пакінутая* — замужняя жанчына, якую ейны мужык пакінуў яе, але яна яшчэ праўна не разьведзена зь ім.

*Пакінуты* — жанаты мужчына, якога ягоная жонка пакінула яго, але ён яшчэ праўна не разьведзены зь ёю.

*Пакрыта* — жанчына, якая, будучы цяжарнай, выйшла замуж за нявіннага цяжарнасьці мужчыну, які сьведама і дабраахвотна пакрыў ейны сорам.

*Палюбоўнік* — мужчына ў адносінах да жанчыны, зь якою ён знаходзіцца ў пазашлюбнай палавой сувязі.

*Палюбоўніца* — жанчына ў адносінах да мужчыны, зь якім яна знаходзіцца ў пазашлюбнай палавой сувязі.

*Пасербніца* — тое самае, што *Падчарыца*.

*Пасынак* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да мачахі ці айчыма. Мужыкоў сын ад папярэдняй жонкі ў адносінах да другой жанчыны, альбо жончын сын ад папярэдняга мужыка ў адносінах да другога ейнага мужыка.

*Паўбрат* — глядзі *Паўродны брат*.

*Паўродная сястра* — асоба жаночага роду ў адносінах да асобы, якая паходзіць ад аднаго й таго самага бацькі, але ад іншай маці, альбо паходзіць ад аднае й тае самае маці, але ад іншага бацькі.

*Паўродны брат* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да асобы, якая паходзіць ад аднаго й таго самага бацькі, але ад іншай маці, альбо паходзіць ад аднае й тае самае маці, але ад іншага бацькі.

*Паўсірата* — дзіця альбо падлетак, хлопчык альбо дзяўчынка, якія засталіся без аднаго з бацькоў, бацькі ці маці.

*Паўсястра* — глядзі *Паўродная сястра*.

*Прабабка* — родная маці роднага дзеда ці роднай бабкі.

*Прабацькі* — адносіцца да папярэднікаў мужчынскага й жаночага роду, ад якіх нітка кроўнасьці бесьперарыўна працягваецца на пакаленьне, калі кажам, мае прабацькі, гэта азначае, што мая кроўная лінія бесьперарыўна ад іх паходзіць.

*Прадзед* — родны бацька роднага дзеда ці роднай бабы.

*Пра-прабаба* — родная маці роднага прадзеда ці роднай прабабы.

*Пра-прадзед* — родны бацька роднага прадзеда ці роднай прабабы.

*Пра-праўнук* — родны сын роднага праўнука альбо роднай праўнучкі.

*Пра-праўнучка* — родная дачка роднага праўнука альбо роднай праўнучкі.

*Праўнук* — родны сын роднага ўнука альбо роднай унучкі.

*Праўнучка* — родная дачка роднага ўнука альбо роднай унучкі.

*Прашчур* — асоба, далёкі родны (крэўны) продак мужчынскага роду, раданачальнік.

*Прашчура* — асоба, далёкая родная (крэўная), продак жаночага роду, раданачальніца.

*Прашчуры* — людзі далёкіх родных продкаў, раданачальнікі.

*Продак* — асоба, якая зьяўляецца папярэднікам у сям'і, родзе, племені па бацьку альбо па маці простай кроўнай лініі.

*Продкі* — множны лік ад *Продак*.

*Прыбраная маці* — жанчына, якая заступае родную маці, што ўжо ня жыве. Асабліва ў часе вясельля, малады ці маладая просіць жанчыну, і якая выконвае яму ці ёй ролю роднай маці.

*Прыбраны бацька* — мужчына, які заступае роднага бацьку, што ўжо ня жыве. Асабліва ў часе вясельля, малады ці маладая просіць мужчыну, і які выконвае яму ці ёй ролю роднага бацькі.

*Прыбраныя бацькі* — мужык і жонка ў адносінах да сваіх усыноўленых дзяцей, хлапца ці дзяўчыны.

*Прымак* — мужчына, які ў часе вясельля пераходзіць у сям'ю жонкі. У вясельным абрадзе тут ёсьць малая зьмена. Не малады едзе за маладой, але маладая едзе за маладым і забірае яго да дому свайго.

*Прыяцель* — асоба мужчынскага роду, блізка знаёмы, зь якім навязаліся добрыя й прыязныя суадносіны.

*Прыяцелька* — асоба жаночага роду, блізка знаёмая, зь якой навязаліся добрыя й прыязныя суадносіны.

## Р

*Радня* — родныя па крыві, сваякі па мужыку й па жонцы.

*Разводка* — жанчына, якая праўна разьведзеная са сваім мужыком. Ён і яна маюць права жаніцца альбо выходзіць замуж нанава.

*Разьведзены* — мужчына, які праўна разьведзены са сваёй жонкай. Яна і ён маюць права выходзіць замуж альбо жаніцца нанава.

*Родна баба* — родная маці роднага бацькі альбо роднай маці.
*Родна дачка* — глядзі *Дачка*.
*Родна маці* — глядзі *Маці*.
*Родна сястра* — глядзі *Сястра*.
*Родна цётка* — родная сястра роднага бацькі альбо роднай маці.
*Родны* — кроўна пасвоены ў простай лініі.
*Родны бацька* — глядзі *Бацька*.
*Родны брат* — глядзі *Брат*.
*Родны дзед* — родны бацька роднага бацькі альбо роднай маці.
*Родны дзядзька* — родны брат роднага бацькі альбо роднай маці.
*Родны сын* — глядзі *Сын*.

## С

*Самотная* — асоба жаночага роду, якая знаходзіцца ў адзіноцтве, жыве адасоблена ад іншых людзей, жыве адзінока.

*Самотны* — асоба мужчынскага роду, які знаходзіцца ў адзіноцтве, жыве адасоблена ад іншых людзей, жыве адзінока.

*Сват* 1 — а) бацька мужыка ў адносінах да бацькоў жонкі; б) бацька жонкі ў адносінах да бацькоў мужыка.

*Сват* 2 — мужчына, які сватае дзяцюка дзяўчыне альбо дзяўчыну дзяцюку.

*Сваха* — глядзі *Свацьця*.

*Свацьця* 1 — а) маці мужыка ў адносінах да бацькоў жонкі б) маці жонкі ў адносінах да бацькоў мужыка.

*Свацьця* 2 — жанчына, якая сватае дзяцюка дзяўчыне альбо дзяўчыну дзяцюку.

*Сваяк* — той, хто знаходзіцца ў сваяцтве з кім-небудзь, якія маюць агульных кроўна родных продкаў.

*Сваякі* — сваяк па мужыку ці па жонцы.

*Сваячка* — глядзі *Сваяк*.

*Сірата* — дзіця альбо падлетак, хлапчук альбо дзяўчынка, якія засталіся без абодвух бацькоў.

*Стрыечная цётка* — дваюрадная сястра роднага бацькі альбо роднай маці.

*Стрыечны дзядзька* — дваюрадны брат роднага бацькі альбо роднай маці. *Стрый*.

*Стрый* — глядзі *Стрыечны дзядзька*.

*Сын* — асоба мужчынскага роду ў адносінах да асобы мужчынскага роду, які яго спарадзіў (бацька), і ў адносінах да асобы жаночага роду, якая яго нарадзіла (маці). Ён ёсьць ім *Родны сын*.

*Сынавая* — глядзі *Нявестка*.

*Сыновец* — глядзі *Нябож*. У бальшыні гэта адносіцца да братавага сына.

*Сьвёкар* — мужыкоў родны бацька.

*Сьвякроў* — мужыкова родная маці. *Сьвякроўка, Сьвякруха*.

*Сьвякроўка* — глядзі *Сьвякроў*.

*Сьвякруха* — глядзі *Сьвякроў*.

*Сябар* — глядзі *Сябра*.

*Сябра* — асоба мужчынскага роду, зь якім навязаліся цесныя каляжэнскія суадносіны.

*Сяброўка* — асоба жаночага роду, зь якой навязаліся цесныя каляжэнскія суадносіны.

*Сябрыня* — глядзі *Сяброўка*.

*Сям'я* — група асоб, якая складаецца з мужыка, жонкі і іншых сваякоў, якія жывуць разам.

*Сястра* — асоба жаночага роду ў адносінах да іншых асоб, якія нарадзіліся ад тых-жа самых бацькоў, што і яна. Яна ёсьць ім *Родная сястра*.

*Сястрынец* — глядзі *Нябож*. У бальшыні гэта адносіцца да сястрынога сына.

## Т

*Тата* — тое самае, што *Бацька*.

*Таясамыя блізьнюкі* — блізьнюкі, якія зарадзіліся й нарадзіліся ад аднаго зародку. Таясамыя блізьнюкі могуць быць толькі хлапцы альбо толькі дзяўчаты. Блізьнюкі; хлапец і дзяўчынка, зарадзіліся й нарадзіліся ад розных зародкаў.

*Таясамыя блізьняты* — глядзі *Таясамыя блізьнюкі*.

*Траюрадная сястра* — дачка дваюраднага брата альбо дваюраднай сястры майго роднага бацькі альбо маёй роднай маці.

*Траюрадны брат* — сын дваюраднага брата альбо дваюраднай сястры майго роднага бацькі альбо маёй роднай маці.

## У

*Удава* — самотная жанчына, у якой памёр мужык.

*Удавец* — самотны мужчына, у якога памерла жонка.

*Унук* — сын дачкі альбо сына.

*Унучка* — дачка сына альбо дачкі.

*Усыноўленая дачка* — дзяўчына іншых бацькоў, якая ўсыноўлена (прынята) новымі, мужыком і жонкай за сваю дачку.

*Усыноўлены сын* — хлапец іншых бацькоў, які ўсыноўлены (прынята) новымі, мужыком і жонкай за свайго сына.

## Ц

*Цесьць* — жончын бацька.

*Цешча* — жончына маці.

*Цётка* — родная сястра роднага бацькі альбо роднай маці. Яна ёсьць *Родная цётка*.

## Ш

*Швагер* — мужчына, сястрын мужык, жончын брат, жончынай сястры мужык і мужык залавіцы. *Швагра*.

*Швагерка* — жанчына, жончына сястра і жончынага брата жонка.

*Швагра* — глядзі *Швагер*.

## Ю

*Юнак* — асоба мужчынскага роду, які не асягнуў сталасьці, малады мужчына, хлапец.

*Юначка* — асоба жаночага роду, якая не асягнула сталасьці, маладая жанчына, дзяўчына.

## Я

*Ятроўка* — мужыковага брата жонка альбо інакш кажучы дзеверава жонка.

## *Раньнія фота Яна Булгака*



1. Селянін зь люлькаю



3. Зубкаў



4. Вільня. Касьцёл Сьвятога Міхала



5. Багданаў. Касьцёл Сьвятога Міхала



8. Горадня. Касьцёл брыгітак

